# Гарады і вёскі Беларусі

## МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

кніга
III



энцыклапедыя

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ»

# МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

## кніга III




Мінск
«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
2012

УДК 94(476.1)(031)
ББК 63.3(4Беи)я2
Г20

Выданне выходзіць з 2004 года



Пад навуковай рэдакцыяй члена-карэспандэнта
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі А.І. Лакоткі

У томе змешчаны фотаздымкі А.Л. Дыбоўскага, В.У. Бондарава,
С.Г. Высkваркі, С.М. Гарэлік, В.У. Муравейкі,
Дзяржаўнага геральдычнага рэгістра Рэспублікі Беларусь,
раённых выканаўчых камітэтаў Мінскай вобласці

Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу і пры фінансавай падтрымцы
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Г20 **Гарады і вёскі Беларусі** : энцыклапедыя. Т. 8. Мінская вобласць. Кн. 3 / рэдкал. : Т.У. Бялова (дырэктар) [і інш.] ; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі ; Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ; Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». — Мінск : Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2012. — 624 с. : іл.

ISBN 978-985-11-0636-9.

Шматтомнае энцыклапедычнае выданне, у якім на падставе найноўшых архіўных і іншых крыніц адлюстраваны гісторыя і сучасны эканамічны і культурны стан усіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак Беларусі — 6 абласцей, 118 раёнаў, а таксама ўсіх населеных пунктаў кожнага раёна, у тым ліку тых, якія зараз перасталі існаваць. Трэцяя кніга 8-га тома выдання прысвечана населеным пунктам 5 раёнаў Мінскай вобласці — Лагойскага, Любанскага, Маладзечанскага, Мінскага, Мядзельскага.

**УДК 94(476.1)(031)**
**ББК 63.3(4Беи)я2**

**ISBN 978-985-11-0636-9 (т. 8, кн. 3)**
**ISBN 978-985-11-0302-3**
**ISBN 985-11-0302-0**



# ЛАГОЙСКІ РАЁН



*Краявід у наваколлі г. Лагойск.*

Размешчаны на ПнУ Мінскай вобл. Цэнтр — г. Лагойск. У раёне 318 сельскіх населеных пунктаў, 15 сельсаветаў: Акалоўскі, Акцябрскі, Астрашыцкі, Бяларуцкі, Гайненскі, Задор'еўскі, Зарэчанскі, Каменскі, Крайскі, Лагозінскі, Лагойскі, Нястанавіцкі, Плешчаніцкі, Швабскі, Янушковіцкі. Пл. 2,4 тыс. км². Лясы займаюць 54% тэр. раёна. Нас. (2011) 35,6 тыс. чал. Жывуць беларусы (92,8%), рускія (5,1%), прадстаўнікі інш. нацыянальнасцей (2,1%). Па тэр. раёна праходзяць аўтадарогі Мінск—Віцебск, Лагойск—Мядзел, Смалявічы—Лагойск, Барысаў—Плешчаніцы—Вілейка, Лагойск—Зембін.

Раён утвораны 17.7.1924 г. ў складзе Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). 20.8. 1924 г. падзелены на 10 сельсаветаў: Бясядскі, Гайненскі, Калачоўскі, Коранскі, Кузевіцкі, Лагойскі, Падонкаўскі, Слабадскі, Янушкавіцкі. 22.9.1927 г. далучаны Швабскі с/с ліквідаванага Зембінскага р-на. 18.1.1931 г. — Астрошыцкі, Бяларуцкі, Прудзішчанскі сельсавет ліквідаванага Астрашыцка-Гарадоцкага р-на. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На 1.1.1941 г. ўключаў Лагойск і 13 сельсаветаў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі тут каля 6 тыс. чал.; разам з жыхарамі вёскі Асавіна, Баравыя, Гані, Дальва, Ідаліна, Мыльніца, Слабада, Трысцень, Тхарніца, Хатынь (не адрадзіліся). У раёне дзейнічалі партыз. брыгады «Жалязняк», 1-я антыфашысцкая, «Дзядзькі Колі», Лагой-



Рака Гайна.



*Гарнальжны спартыўна-аздараўленчы комплекс «Лагойск».*

*Рака Дзвінаса.*



*Вырабы майстроў Лагойскага раённага Дома рамёстваў.*



*Рэспубліканскі гарналыжны цэнтр «Сілічы». Канатная дарога.*

*Гарналыжны спартыўна-аздараўленчы комплекс «Лагойск». Гарналыжная траса.*

ская, «Бальшавік», «Народныя мсціўцы», імя Варанянскага, імя Фрунзе, «Смерць фашызму», «Штурмавая», асобны партыз. атрад «Мясцовыя»; Лагойскія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ. Выдавалася падп. газ. «За Савецкую Беларусь». Вызвалены ў пач. ліп. 1944 г. войскамі 3-га Бел. фронту ў ходзе Мінскай аперацыі 1944 г. 25.12.1962 г. да раёна далучаны Акалоўскі, Акцябрскі, Задор'еўскі, Зарэцкі, Ізбішчанскі, Каменскі, Крайскі, Нястанавіцкі, Плешчаніцкі, Прусевіцкі сельсаветы ліквідаванага Плешчаніцкага р-на.





Большая частка раёна занята Лагойскім і Плешчаніцкім узвышшамі, на ПнЗ — ускраіна Нарачана-Вілейскай нізіны. Паверхня раўнінна-ўзгорыстая, пераважаюць высоты 200—250 м. Максімальная — 333 м (каля в. Вялікія Бясяды), мінімальная — 157,4 м (каля р. Гайна на У раёна). Самая буйная р. Гайна з прытокамі Лагозінка і Цна, прытокі р. Вілія — р. Дзвінаса (на ёй Плешчаніцкае вадасховішча) і р. Ілія. Ёсць 2 возеры (Дзікае і Церахава). Глебы дзярнова-падзолістыя (48,2%), дзярнова-падзолістыя забалочаныя (29%), тарфянабалотныя (4,9%), пойменныя забалочаныя (2,2%). На тэр. раёна размешчаны 2 заказнікі рэсп. значэння: «Антонава» (бабровы) і «Купалаўскі» (ландшафтны). Ахоўваюцца помнікі прыроды: Лагойскі парк, Лагойская крыніца і крыніцы ў в. Пагрэбішча. Карысныя выкапні: торф і пясчана-жвіровы матэрыял. Сярэдняя тэмпература студз. -7 °С, ліп. 17,6 °С.

Агульная пл. с.-г. угоддзяў 72 629 га. У аграпрам. комплекс раёна ўваходзяць 19 с.-г. прадпрыемстваў, частка з якіх рэарганізавана ў філіялы прам. прадпрыемстваў: РУП «МТЗ», ЗАТ «Ахе-





*Мемарыяльны комплекс Хатынь. Могілкі знішчаных вёсак.*

*Помнік-зруб на месцы спаленай хаты ў мемарыяльным комплексе Хатынь.*

ка», ТАА «Саюзспецсталь», ААТ «Лагойская МТС «Райаграсэрвіс», РУП «Беларусьнафта-Мінскаблнафтапрадукт», ААТ «Белсувязьстрой», ААТ «Мінскі КХП», ТАА «Слаўнафтабанк», ААТ «Трайпл», УП «Барысаўскі камбінат хлебапрадуктаў». Гаспадаркі раёна спецыялізуюцца на вытв-сці мяса, малака, збожжа, бульбы.

Дзейнічаюць 6 прам. прадпрыемстваў: ПРУП «Кобальт», ПРУП «Завод «Эпас», СТАА «Лекфарм», ІП ААТ «Мінаўта», КУП «Лагойскі раённы камбінат бытавога абслугоўвання».

У сістэме адукацыі раёна гімназія, 14 сярэдніх, 3 базавыя школы, 8 вучэбна-пед. комплексаў сярэдняя школа—сад, 4 вучэбна-пед. комплексы пач. школа—сад, вячэрняя агульнаадукац. школа, 19 дзіцячых дашкольных устаноў, дзіцячы сац. прытулак, 3 дзіцячыя дамы сямейнага тыпу, 2 дамы дзіцячай творчасці, Цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, Цэнтр турызму і краязнаўства.

Сістэма аховы здароўя ў раёне ўключае Лагойскую цэнтр. бальніцу (на 200 ложкаў), Плешчаніцкую раённую бальніцу (на 80 ложкаў), бальніцу сястрынскага догляду (на 24 ложкі), участковую бальніцу (на 15 ложкаў), 2 паліклінікі, 7 урачэбных амбулаторый, 22 фельч.-акушэрскія пункты, 2 пасты хуткай медыцынскай дапамогі.

У галіне культуры працуюць Цэнтр культуры, 20 сельскіх і 2 гар. дамы культуры, 4 сельскія і 2 гар. клубы, 2 дзіцячыя школы мастацтваў, Дом рамёстваў, музей, 33 б-кі. Дзейнічаюць спарт. комплекс «Юнацтва», стадыён, 2 фізкультурна-аздараўленчыя комплексы, 3 лыжныя трасы з біятлоннымі стрэльбішчамі, 2 гарналыжныя спарт. ком-



*Рэспубліканскі гарналыжны цэнтр «Сілічы». Агульны выгляд.*



*Гарналыжны спартыўна-аздараўленчы комплекс «Лагойск». Гасцінічны комплекс.*

*Ваколіцы г. Лагойск.*



плексы, 27 спарт. залаў, 10 спарт. пляцовак.

Захаваліся помнікі архітэктуры: касцёл (1795) у в. Амнішава, цэрквы ў в. Ізбішча (19 ст.), Успенская (1865) у в. Косіна, Мікалаеўская (1897) у в. Крайск, капліца (2-я пал. 19 — пач. 20 ст.) у в. Жардзяжжа. Помнікі гісторыі: мемарыяльныя комплексы Хатынь і Дальва, помнікі ў гонар партыз. брыгад імя Фрунзе (в. Казлеўшчына) і «Народныя мсціўсцы», імя Варанянскага (в. Хадакі), Лагойскага падп. райкома КП(б)Б і Лагойскай брыгады «Бальшавік» (в. Янушкавічы); 166 воінскіх пахаванняў, 22 помнікі землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ЛАГОЙСК** — горад, цэнтр раёна, на р. Гайна. За 39 км на Пн ад Мінска, 31 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. Насельніцтва 11,2 тыс. жыхароў (2011).

Узнік як горад-крэпасць у Полацкім княстве. У пісьмовых крыніцах упамінаецца ў «Павучанні» Уладзіміра Манамаха пад назвай Логожск, Логожеск. Пад 1078 г. ён апісаў паход на Полацкую зямлю, у выніку якога ён захапіў Лагойск. У 1128 г. сын Уладзіміра Манамаха Мсціслаў Уладзіміравіч паслаў дружыны і атрады цюркскіх качэўнікаў на Полацкае княства. Лагойск быў захоплены і разрабаваны, многіх жыхароў угналі ў палон. У 1180 г. Лагойск становіцца цэнтрам удзельнага Лагожскага княства. Паводле Іпацьеўскага летапісу, лагожскім князем быў Усяслаў Мікуліч. З 1186 г. — Васілька Валадаравіч (сын мінскага князя). У 1-й чвэрці 14 ст. Лагожскае княства ўвайшло ў склад ВКЛ. Існавала Мікалаеўская царква, пры якой у 1387 г. быў засн. праваслаўны манастыр Іаана Прадцечы. У гэты час вял. кн. Ягайла падараваў Лагож-

*Мемарыяльны комплекс Хатынь. Бронзавая скульптура Нясkоранага чалавека з забітым хлопчыкам на руках.*



*Мемарыяльны комплекс Дальва. Скульптура жанчыны з дзіцем.*







*Парк Тышкевічаў у г. Лагойск.*

*Мікалаеўская царква ў г. Лагойск.*

скае княства свайму брату Скіргайлу Альгердавічу. З 1392 г. ва ўладанні вял. кн. ВКЛ Вітаўта. З 1413 г. ў складзе Віленскага ваяв. У 1460 г. вял. кн. ВКЛ і кароль Польшчы Казімір Ягелончык падараваў Лагойск кн. А.В.Чартарыйскаму. У 1505 г. крымскія татары разрабавалі і спалілі горад і замак, насельніцтва разам з сынамі С.Чартарыйскага забралі ў палон. У 1528 г. горад стаў маёмасцю буйнога феадала В.Тышкевіча, які ўмацаваў замак, у 1531—32 гг. рэстаўрыраваў манастыр (асвячоны ў Свята-Богаяўленскі). У 1752 г. манастыр стаў базыльянскім (у 1834 г. ліквідаваны, будынкі знішчаны ў гады Вял. Айч. вайны). З 1566 г. Лагойск у складзе Мінскага ваяв. У час войн ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай у 1519 г. і 1535 г. горад быў разрабаваны і спалены маскоўскімі войскамі. У 1603 г. Лагойск і замак атрымаў А.Тышкевіч. У 1609 г. ён фундаваў мураваны фарны касцёл, які з'яўляўся пахавальняй роду Тышкевічаў. У 1655 г. ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. Лагойск быў спустошаны. У 1673 г. гораду быў падараваны прывілей на штонядзельныя таргі і 2 кірмашы ў год. У час Паўн. вайны 1700—21 гг. у 1708 г. шведы спалілі замак, які так і не аднавіўся. У канцы 18 ст. ў Лагойску 2 праваслаўныя, 2 уніяцкія царквы. Пры манастыры дзейнічалі парафіяльная і муз. школы. Пас-



*Герб г. Лагойск.*





*Руіны палаца Тышкевічаў у г. Лагойск.*

*Будынак былой палатнянай мануфактуры ў г. Лагойск.*






*Касцёл Святога Казіміра (1999) у г. Лагойск.*

*Цэнтр культуры ў г. Лагойск.*



*Я.Тышкевіч.*

ля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Лагойск у складзе Рас. імперыі, мястэчка Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1809 г. засн. палатняна-папяровая мануфактура. У 1814—19 гг. быў пабудаваны новы 2-павярховы палац. Адначасова з яго будаўніцтвам уздоўж правага берага р. Гайна быў высаджаны «англійскі» парк пейзажнага тыпу на пл. 6,2—10 га. Праз парк працякаў ручай з перакінутым цераз яго мураваным арачным мостам. Пры ўездзе стаяла невял. вартоўня. Сярод парку знаходзіўся фамільны касцёл-пахавальня. У 1837—56 гг. працавала палатняная мануфактура (у 1849 г. тут працавалі каля 50 чал.). У 1842 г. браты К. і Я. Тышкевічы стварылі музей старажытнасцей (захоўваліся пераважна прадметы з археал. раскопак). У музеі знаходзіліся таксама калекцыі нумізматычная, мастацкіх твораў, архіў старажытных рукапісаў, каштоўная б-ка. На аснове гэтых калекцый у 1885 г. засн. Віленскі музей старажытнасцей. У 1844 г. мястэчка (146 двароў, 696 жыхароў) ва ўладанні графа К.Тышкевіча. У мястэчку было 5 вуліц: Замкавая, Спаская, Нікольская, Плешчаніцкая і Віленская. Штогод праходзілі ярмаркі: 6 жн. (Праабражэнская) і 6 снеж. (Мікалаеўская). Побач з мястэчкам размяшчаўся аднайменны маёнтак, у склад якога ўваходзілі 4 фальваркі і 9 вёсак (1048 прыгонных сялян). У маёнтку меліся 3 млыны, вінакурня, лесапільня, 3 карчмы і шэраг гасп. пабудоў. У 1863 г. пачало дзейнічаць нар. вучылішча. У 1866 г. мястэчка, 172 двары, капліца, касцёл, царква, нар. вучылішча, 3 яўрэйскія малітоўныя школы. У 1886 г. валаснoе праўленне, царква, касцёл, капліца, вінакурны з-д, нар. вучылішча, сінагога,

*Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў і партызан у г. Лагойск.*

*Памятны знак «Саната памяці» ў г. Лагойск.*









Крыніца свяціцеля Мікалая ў г. Лагойск.

Лагойскі раённы гісторыка-краязнаўчы музей імя К. і Я. Тышкевічаў. Фрагмент экспазіцыі.



К.Тышкевіч.

5 лавак, 2 піцейныя дамы, вадзяны млын, хлебазапасны магазін. У 1897 г. — 302 двары, 2321 жыхар, 2 вадзяныя млыны, гарбарны з-д, 9 кузняў, сукнавальня. У 1917 г. ў мястэчку 1263, у маёнтку — 28 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. Лагойск акупіраваны герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 17.7.1924 г. — цэнтр Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 27.9.1938 г. гар. пасёлак. У 1933 г. — 2,3 тыс. жыхароў; электрастанцыя, цагельны з-д (з 1928), хімлясгас (з 1933), леспрамгас (з 1930), маслазавод (з 1932). У 1939 г. — 3,4 тыс. жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 2.7.1944 г. Лагойск акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія разрабавалі і разбурылі горад. У снеж. 1942 г. адбыўся Лагойскі бой, у выніку якога партызаны брыгады «Штурмавая» разгрімілі гітлераўскі гарнізон. Вызвалена войскамі 3-га Бел. фронту ў ходзе Мінскай аперацыі 1944. У 1979 г. — 5,3 тыс. жыхароў. 3.6.1998 г. Лагойск атрымаў статус горада. У 2010 г. ўстаноўлены памятны знак воінам-інтэрнацыяналістам «Саната Памяці». Працуюць: з-д «Эпас», УП «Лагойскі калгас», КУП «Лагойскі РКБА», ІП «Мінаўта», ТАА МПМК-198, СТАА «Лекфарм». Дзейнічаюць гімназія, 2 сярэднія школы, школа мастацтваў, Цэнтр культуры, дамы рамёстваў і дзіцячай творчасці, гіст.-краязнаўчы музей імя Тышкевічаў, ганчарная майстэрня, 3 дзіцячыя сады, 2 б-кі, дом-інтэрнат, бальніца, аддз. сувязі, АТС, магазіны, 2 банкі, касцёл, царква, капліца. Брацкія могілкі сав. воінаў і партызан, магілы ахвяр фашызму. Помнік архітэктуры — Мікалаеўская

У чытальнай зале Лагойскай цэнтральнай раённай бібліятэкі.

Універсам «Замкавы» ў г. Лагойск.





царква (2-я пал. 19 ст.). Помнік садова-паркавага мастацтва — парк Тышкевічаў (1-я пал. 19 ст.). Каля Лагойска 2 гарадзішчы культуры штрыхаванай керамікі і гарадзішча эпохі Кіеўскай Русі (дзяцінец стараж. Лагойска). Выдаецца раённая газ. «Родны край». Дзейнічае рэдакцыя раённага радыёвяшчання «Голас Лагойшчыны». У Лагойску нарадзіліся Герой Сац. Працы Э.П.Шавейка (н. 1935), ген.-лейт. М.М.Радкевіч (1904—82), бел. мастак М.Ф.Навіцкі (1933—79), бел. кампазітар А.У.Рашчынскі (н. 1949).

**АЙНАРАВІЧЫ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Лагойска, 57 км ад Мінска, 54 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 42 гаспадаркі, 77 жыхароў (2010).

У 1567 г. вёска згадваецца ў попісе войска ВКЛ як шляхецкая ўласнасць у Мінскіх павеце і ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 40 двароў, 284 жыхары. У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Мураваны Двор, уласнасць памешчыкаў Няплюевых. У 1816 г. вёска, 157 рэвізскіх душ, і засценак, 5 рэвізскіх душ мужчынскага полу належалі стацкаму саветніку І.Няплюеву. З 1838 г. ўласнасць ген.-маёра С.Смаляка. У 1846 г. ў вёсцы 38 двароў, 219 жыхароў, вадзяны млын. У 1857 г. вёска, цэнтр Айнаравіцкай вол. У 1870 г. ў Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 80 двароў, 552 жыхары. У 1909 г. 96 двароў, 552 жыхары, у 1917 г. 112 двароў, 665 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. 117 двароў, 472 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 10 двароў, 228 жыхароў вывезлі ў Германію. 44 вяскоўцы загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 2 партызаны і 2 сав. воіны. У 1969 г. 115 двароў, 331 жыхар. У 2003 г. 55 гаспадарак, 105 жыхароў. Ёсць магазін. На паўд.-зах. ускраіне вёскі размешчаны курганны могільнік (12 курганоў).



*Парк Тышкевічаў у г. Лагойск.*

**АКАЛОВА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 35 км на Пн ад Лагойска, 74 км ад Мінска, 64 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 47 гаспадарак, 109 жыхароў (2010).

У 1700 г. значыцца як мястэчка каля р. Корчавіца, уладанне паноў Свірскіх у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. былы пісар ВКЛ М.Валовіч заснаваў драўляны касцёл. У 1800 г. 3 двары, 55 жыхароў, касцёл, царква, вадзяны млын. У 1811 г. мястэчка, 46 душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыка Валовіча ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1833 г. мястэчка і маёнтак належалі прадвадзіцелю дваранства Барысаўскага павета І.Валовічу. Паводле інвентару 1846 г. ў мястэчку 22 двары, 179 жыхароў, у маёнтку 4 фальваркі, 13 вёсак, 1770 прыгонных сялян. У 1876 г. маёнтак, уласнасць памешчыка С.Кербедзя, які валодаў 6889 дзес. зямлі. У 1886 г. мястэчка, 28 двароў, 268 жыхароў, у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., касцёл, 3 крамы, карчма, вадзяны млын. У 1897 г. мястэчка (339 двароў, 201 жы-

хар, касцёл, 2 крамы, піцейны дом) і маёнтак (30 жыхароў), у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета. У пач. 20 ст. мястэчка, цэнтр Акалоўскай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 28 гаспадарак, што мелі 29,8 дзес. зямлі. У 1909 г. ў мястэчку 41 двор, 221 жыхар, у маёнтку 2 двары, 22 жыхары. У 1917 г. мястэчка (49 двароў, 176 жыхароў), вёска (14 двароў, 97 жыхароў) і млын (1 двор, 10 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. дзейнічала прац. школа 1-й ступені, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1924 г. ў ёй вучыліся 90 дзяцей (46 хлопчыкаў і 44 дзяўчынкі). З 20.8.1924 г. цэнтр Акалоўскага с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай акругі. 24.9.1926 г. рэарганізаваны ў нац. польскі. З 9.6.1927 г. ў Мінскай акрузе (да 26.7.1930 г.). З 26.5. 1935 г. ператвораны ў бел. сельсавет. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 41 двор, 125 жыхароў. Побач размяшчаўся аднайменны пасёлак, у якім было 19 двароў, 90 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны камунар», працавалі вадзяны млын, кузня. У 1941 г. 51 двор, 219 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 12 двароў і загубілі 2 жыхароў, 19 вяскоўцаў вывезлі ў Германію, 2 жыхары загінулі на фронце. У баях за вызваленне вёскі загінулі 28 сав. воінаў і партызан. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 72 двары, 199 жыхароў. Дзейнічаюць сярэдняя школа, лясніцтва, магазін, аддз. сувязі; царква (2004).

**АКЦЯБР** (да 1939 г. Хатаевічы) — вёска, цэнтр сельсавета, за 34 км на ПнЗ ад Лагойска, 74 км ад горада і чыг. ст. Мінск. 226 гаспадарак, 635 жыхароў (2010).

У 1558 г. ўзгадваецца як вёска Хатаевічы, шляхецкая ўласнасць у Мінскім павеце і ваяв. ВКЛ. У 1681 г. засн. кляштар дамініканцаў. Каля 1752 г. пабудаваны касцёл Прасвятой Троіцы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. мястэчка, дзе меліся царква, касцёл, капліца, сінагога, крама. У 1803 г. пабудаваны новы касцёл. У 1809 г. мястэчка і маёнтак, цэнтр Хатаевіцкай вол. Уладанне хатаевіцкага дамініканскага кляштара. У склад маёнтка ўваходзіла 15 вёсак, у мястэчку меліся карчма, бровар, хлебазапасны магазін. Паводле рэвізіі 1811 г. ў мястэчку 118 мужчынскіх душ. У 1861 г. сяло, 19 двароў, касцёл, маёнтак, казённая ўласнасць. У 1870 г. ў Хатаевічах пабудавана драўляная Свята-Мікалаеўская царква, прыход якой ахопліваў 38 вёсак і хутароў, 2727 прыхаджан, ёй належала 112 дзес. зямлі. Дзейнічала цар.-прыходская школа. У 1886 г. мястэчка, 9 двароў, 84 жыхары, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., царква, касцёл, капліца, сінагога, малітоўная школа, некалькі крам, карчма. У 1893 г. засн. мукамольнае і крупяное прадпрыемствы (у 1895 г. працавалі 6 рабочых, мелася паравая машына). У 1897 г. мястэчка (65 двароў, 423 жыхары), царква, царк.-прыходская і малітоўная школы, хлебазапасны магазін, 7 крам, кузня, піцейны дом, маёнтак (2 двары, 50 жыхароў). У пач. 20 ст.



*Царква Казанскай іконы Божай Маці ў в. Акалова.*

мястэчка, цэнтр Хатаевіцкай сельскай грамады, у якую ўваходзілі 22 вёскі, 637 гаспадарак, што мелі 10 970 дзес. зямлі. У 1908 г. дзейнічалі 2 царк.-прыходскія школы (для хлопчыкаў і дзяўчынак). У 1909 г. ў мястэчку 61 двор, 322 жыхары, у маёнтку 1 двор, 18 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Хатаевіцкага с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). На базе дарэв. створана пач. школа, навучанне ў якой вялося на бел. мове, школу наведвалі дзеці з 34 навакольных населеных пунктаў. У 1924 г. ў ёй вучылася 50 хлопчыкаў і 67 дзяўчынак. У 1926 г. ў мястэчку 52 двары, 198 жыхароў, у вёсцы 39 двароў, 172 жыхары, на хутары 2 двары, 12 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас імя Сталіна. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 127 двароў, 463 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 36 жыхароў, 23 вывезлі ў Германію. 29 вяскоўцаў загінулі на фронце, 11 у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 4 сав. воіны. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 142 двары, 489 жыхароў. У 2003 г. 230 гаспадарак, 651 жыхар. З 1.8.2011 г. аграгарадок. У вёсцы размешчаны с.-г. філіял «Спадарожнік» ТАА «Белсувязьстрой», Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. паслуг, магазін; царква (2000). Помнік архітэктуры — капліца Св. Дамініка (19 ст.).

*Мікалаеўская царква ў в. Акцябр.*



*Капліца Святога Дамініка ў в. Акцябр.*



**АЛЕКСАНДРЫНО** — вёска ў Гайненскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Лагойска, 65 км ад Мінска, 46 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2010).

У 19 ст. засценак у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. ў засценку 3 двары, 23 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Коранскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7. 1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 11 двароў, 85 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 14 двароў, 48 жыхароў. У 2003 г. 7 гаспадарак, 12 жыхароў.

**АЛЕКШЫЦЫ** — вёска ў Бярарускім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Лагойска,

13 км ад Мінска, на р. Вяча (прыток р. Свіслач). 79 гаспадарак, 201 жыхар (2010).

У 1800 г. вёска, 9 двароў, 49 жыхароў, у Мінскіх павеце і губ. У 1857 г. 36 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у складзе маёнтка Бяларучы. У 1870 г. маёнтак, уласнасць памешчыцы Лапушынскай, у Бяларуцкай вол. У 1897 г. 19 двароў, 128 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 25 двароў, 138 жыхароў. У 1917 г. 22 двары, 135 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Бяларуцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі, з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 25 двароў, 138 жыхароў. У 1941 г. 28 двароў, 149 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 26 двароў, загубілі 8 жыхароў, 4 вывезлі ў Германію. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. У 2003 г. 81 гаспадарка, 219 жыхароў. Мікалаеўская царква, капліца.

**АЛЕШНІКІ** — вёска ў Швабскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Лагойска, 51 км ад Мінска. 18 гаспадарак, 30 жыхароў (2010).

У 18 ст. засценак. Паводле рэвізіі 1795 г. 3 двары, 24 жыхары. У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Ганявічы Чырванаборскай эканоміі, уласнасць памешчыка А.Чудоўскага. У 1833 г. вёска (32 двары, 225 жыхароў) і ўрочышча (1 двор, 7 жыхароў) у Юр'еўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. назву Алешнікі мелі вёска і ўрочышча. У 1909 г. ў вёсцы 40 двароў, 238 жыхароў, ва ўрочышчы 1 двор, 6 жыхароў. У 1917 г. 39 двароў, 247 жыхароў. З 1919 г. ў БССР. З 30.8.1924 г. вёска ў Моладзінскім, з 29.10.1924 г. ў Юркавіцкім сельсаветах Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы створаны калгас «Чырвоныя Алешнікі», працавала кузня. У 1941 г. 36 двароў, 122 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.7. 1959 г. ў Чырванашвабаўскім (цяпер Швабскі) с/с. У 1969 г. 58 двароў, 116 жыхароў. У 2003 г. 36 гаспадарак, 49 жыхароў. З 22.1.2008 г. ў Швабскім с/с.

**АЛЬХАВЕЦ** — вёска ў Бяларуцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Лагойска, 57 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2010).

У 1815 г. вёска, 7 жыхароў мужчынскага полу, уладанне графа І.Тышкевіча, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1846 г. 1 двор, 3 жыхары, у складзе маёнтка Прудзішча, уласнасць А.Жаброўскага. У 1870 г. ў в. Альхаўцы 1-я — 7 душ мужчынскага полу, Альхаўцы 2-я — 3 душы мужчынскага полу, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 4 засценкі (21 двор, 125 жыхароў) і фальварк (1 двор, 12 жыхароў). У 1909 г. ў в. Альхаўцы 1-я — 9 двароў, 65 жыхароў, у в. Альхаўцы 2-я — 20 двароў, 71 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прудзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7. 1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 10 двароў, 49 жыхароў, на хутары 17 двароў, 72 жыхары. У 1941 г. 7 двароў, 35 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 3 двары, загубілі 4 жыхароў. 2 вяскоўцаў вывезлі ў Германію, 1 загінуў на фронце. У 1969 г. 7 двароў, 30 жыхароў.

**АЛЬХОЎКА** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Лагойска,

40 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2010).

У 1-й пал. 19 ст. засценак у складзе маёнтка Янушкавічы, уласнасць памешчыкаў Есьманаў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі ў 1816 г. 16 душ мужчынскага полу, уласнасць М.Есьмана. У 1846 г. ў засценку было 2 двары, 27 жыхароў, у Айнаравіцкай вол. З 1870 г. ў Гайна-Слабодскай вол. Засценак адносіўся да Янушкавіцкага праваслаўнага прыхода царквы Раства Багародзіцы. У пач. 20 ст. ў Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Засценак (3 двары, 64 дзес. зямлі) уваходзіў у Янушкавіцкую сельскую грамаду. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. 11 двароў, 54 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 2 двары, загубілі 5 жыхароў. 48 вяскоўцаў вывезлі ў Германію, 1 вясковец загінуў на фронце. У 1969 г. 8 двароў, 40 жыхароў.

**АМНІШАВА** — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 63 км на ПнУ ад Лагойска, 102 км ад Мінска, 44 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Полацк—Маладзечна. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

Згадваецца ў дакументах паміж 1440 і 1447 гг. У канцы 18 ст. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка, уласнасць І.Корсака ў Мінскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. па фундацыі Ю. і А. Корсак быў пабудаваны парафіяльны касцёл. У 1800 г. сяло, 12 двароў, 100 жыхароў, драўляны касцёл, вадзяны млын, гаспадарскі двор. Паводле рэвізіі 1811 г. ў вёсцы 46 душ мужчынскага полу, касцёл. Вёска была цэнтрам аднайменнага маёнтка ў Амнішаўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1833 г. 817 рэвізскіх сял. душ (389 мужчын, 428 жанчын). У склад маёнтка ўваходзілі 3 фальваркі і 7 вёсак. У маёнтку меліся млын, бровар, піваварня. У 2-й пал. 19 ст. пабудавана мураваная праваслаўная царква. У 1867 г. ўласнасць барона фон П.Я.Фелькерзмана, яму належалі 1550 дзес. зямлі, 2 млыны, карчма. Ва ўсх. частцы вёскі на могілках была пабудавана капліца, адносілася да парафіяльнага вясковага касцёла. У 1867 г. касцёл быў перабудаваны ў праваслаўную царкву. У 1870 г. вёска, 16 сял. душ мужчынскага полу, у складзе аднайменнага маёнтка ў Восаўскай вол. У 1886 г. сяло, 5 двароў, 40 жыхароў, размяшчалася прыпісная царква. У 1897 г. вёска (14 двароў, 87 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква) і аднайменны маёнтак (17 жыхароў), у Восаўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. сяло, цэнтр сельскай грамады, у якую ўваходзілі 7 гаспадарак, што валодалі 84 дзес. зямлі. У 1909 г. ў вёсцы 6 двароў, 89 жыхароў, у маёнтку 5 двароў, 17 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 13 двароў, 77 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 40 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Плешчаніцкага р-на Барысаўскай акругі. У 1926 г. 659 жыхароў, побач з вёскай размяшчаўся пасёлак, 10 двароў, 43 жыхары. 29.9.1926 г. сельсавет рэарганізаваны ў нац. польскі, з 9.6.1927 г. Плешчаніцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., 26.5.1935 г. сельсавет ператвораны ў бел. У вёсцы створаны калгас «Чырвоны штандар». У 1932 г. пачаў дзейнічаць смалакурны з-д імя Сталіна, працаваў вадзяны млын. У 1941 г. 24 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1943 г. гітлераўцы спалілі 39 двароў, загубілі 18 жыхароў, 18 вывезлі ў Германію. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце,

3 — у партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. ў складзе Задор'еўскага с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 41 гаспадарка, 162 жыхары. У 2003 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў.

**АНТАНОЎКА** — вёска ў Гайненскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Лагойска, 58 км ад Мінска, 48 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

У 19 ст. фальварак у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 1 двор, 8 жыхароў. У 1917 г. 14 двароў, 72 жыхары. У 1941 г. 13 двароў, 59 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 3 вяскоўцы загінулі ў партыз. барацьбе. У 1969 г. 8 двароў, 13 жыхароў. У 2003 г. 8 гаспадарак, 13 жыхароў.

**АСІНЦЫ** — вёска ў Нястанавіцкім с/с, за 48 км на ПнЗ ад Лагойска, 87 км ад Мінска, 24 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 30 гаспадарак, 63 жыхары (2010).

У 18 ст. сяло ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1744 г. ўласнасць Хатаевіцкай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1861 г. 35 рэвізскіх душ, уладанне Прошынскага. У 1880 г. вёска (13 двароў, 106 жыхароў) і фальварак (1 двор, 21 жыхар) у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. ў маёнтку 3 двары, 53 жыхары. У 1905 г. ў вёсцы 153 жыхары, якія мелі 121 дзес. зямлі. Непадалёку ад вёскі знаходзіўся маёнтак, які меў 32 дзес. зямлі. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Запольскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 39 двароў, 147 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-х г. створаны калгас «Авангард». У 1941 г. 50 двароў, 249 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 3 жыхароў, 31 вывезлі ў Германію. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. вёска ў Нястанавіцкім с/с. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 58 двароў, 195 жыхароў. У 2003 г. 42 гаспадаркі, 90 жыхароў, магазін.

**АСКРЫШЫНА** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Лагойска, 64 км ад Мінска, 50 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка ў ВКЛ. У 1758 г. в. Аскрышына, 2 двары, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 4 двары, 44 жыхары. У 1823 г. вотчынны маёнтак, у склад якога ўваходзілі в. Мышкавічы і засценак Цацэркі, уладанне памешчыка К.Дуліча. У 1833 г. ў маёнтку 19 двароў, 174 рэвізскія сял. душы (84 мужчыны, 90 жанчын), 2000 дзес. зямлі. Паводле інвентару 1846 г. ў маёнтку 170 сял. душ, 380 дзес. зямлі, мелася карчма. У 1875 г. ўласнасць К.Дуліча, які меў 1365 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1897 г. 1 двор, 21 жыхар, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 3 двары, 11 жыхароў. У 1917 г. 1 двор, 29 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Калачоўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Быў створаны калгас імя Леніна, працавала кузня. У 1941 г. 35 двароў, 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 3 двары, 11 жыхароў, 3 вывезлі ў Германію. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце, 12 — у партыз. барацьбе. З 14.4.1954 г. вёска ў Янушкавіцкім с/с. У 1969 г. 31 двор, 112 жыхароў. У 2003 г. 15 гаспадарак, 25 жыхароў.

**АСТРОШЫЦЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 18 км на ПдЗ ад Лагойска, 21 км ад Мінска, 39 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 205 гаспадарак, 519 жыхароў (2010).

У 15 ст. згадваецца як маёнтак у ВКЛ, уладанне пана С.Доргевіча, у 1448 г. пасля яго смерці ўладанне яго сына Алехны. У 1582 г. маёнтак, уладанне пана Ф.Скуміна, у 1588 г. маёнтак ваяводы берасцейскага, старасты Мінскага, дзяржаўцы камянецкага пана Г.Гарнастая, пасля смерці якога яго ўдава і сын прадалі маёнтак К.Радзівілу. У 1747 г. на могілках пабудавана праваслаўная Успенская царква. У 1795 г. 19 двароў, 109 жыхароў, уладанне графа І.Тышкевіча, мелася карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1843 г. была аднoўлена Успенская царква. Паводле інвентару 1846 г. ў вёсцы 14 двароў, 106 жыхароў. У маёнтку 1329 прыгонных сялян, 8 корчмаў, 2 млыны. У 1857 г. ў вёсцы 49 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1870 г. маёнтак, уладанне графа М.Тышкевіча, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета і губ. У 1886 г. вёска, 13 двароў, 120 жыхароў, царква на могілках. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Баярскай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзіла 13 гаспадарак, ім належала 176,7 дзес. зямлі. У 1900 г. ў вёсцы засн. лесапільны з-д (працавалі 12 рабочых, паравая машына). У 1909 г. 21 двор, 150 жыхароў. У 1917 г. 41 двор, 253 жыхары, у маёнтку 1 двор, 59 жыхароў. У 1916 г. працавала нар. вучылішча, на базе якога ў 1920 г. створана прац. школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1924 г. ў школе вучыліся 18 астрошыцкіх дзяцей, яе наведвалі вучні з 5 навакольных вёсак. З 20.8.1924 г. цэнтр Астрошыцкага с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. 42 двары, 175 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Парыжская камуна». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., працавала кузня. У 1941 г. 120 двароў, 420 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 18 двароў, загубілі 7 жыхароў, 8 вывезлі ў Германію. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 16 сав. воінаў, сярод іх Герой Сав. Саюза А.М.Наскоў. У 1969 г. 117 двароў, 361 жыхар. У 2003 г. 227 гаспадарак, 595 жыхароў. З 1.8.2011 г. аграгарадок. У вёсцы размешчаны цэнтр СК «Астрошыцы» ТАА «Мінскі КХП», Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін.

**АТРУБАК** — вёска ў Плешчаніцкім с/с, за 34 км на ПнУ ад Лагойска, 83 км ад Мінска, 60 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 24 гаспадаркі, 36 жыхароў (2010).

У 1800 г. в. Атрубка, 12 двароў, 93 жыхары, уладанне Тышкевічаў у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. 54 душы мужчынскага полу, уласнасць графа Д.Тышкевіча. У 1846 г. 81 рэвізская душа (32 мужчыны, 49 жанчын), у складзе маёнтка Плешчаніцы, уласнасць графа І.Тышкевіча, у Плешчаніцкай вол. У 1857 г. 63 сял. душы мужчынскага полу. У 1878 г. вёска адносілася да Плешчаніцкага праваслаўнага прыхода, вяскоўцы былі прыхаджанамі Троіцкай царквы. У 1890 г. дзейнічала школа граматы. У 1897 г. 40 двароў, 309 жыхароў. У 1905 г. 18 гаспадарак, якія валодалі 344,5 дзес. зямлі, уваходзілі ў Плешчаніцкую сельскую грамаду. У 1909 г. 34 двары, 235 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войска-

мі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Плешчаніцкім с/с і р-не Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай (да 26.7.1930 г.) акруг. У 1926 г. 47 двароў, 232 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 52 двары, 197 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 5 двароў, 6 жыхароў, 1 вывезлі ў Германію. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце, 32 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 58 двароў, 195 жыхароў. У 2003 г. 35 гаспадарак, 76 жыхароў.

**АЎГУСТОВА** – вёска ў Лагойскім с/с, за 5 км на ПдУ ад Лагойска, 34 км ад Мінска, 23 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 138 гаспадарак, 406 жыхароў (2010).

У канцы 19 ст. маёнтак. У 1885 г. фальварак Аўгустова ў Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 3 двары, 70 жыхароў. У 1909 г. 1 двор, 21 жыхар. У 1917 г. ўрочышча Аўгустова, 16 двароў, 127 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Падонкаўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). Дзейнічала школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1926 г. працавала майстэрня па вырабе аўчын. У 1930 г. на базе фальварка арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 90 двароў, 432 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 88 двароў, загубілі 22 жыхары, 8 вывезлі ў Германію. 27 вяскоўцаў загінулі на фронце, 28 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 87 двароў, 357 жыхароў. У 2003 г. 150 гаспадарак, 425 жыхароў. У вёсцы размешчаны Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад—пач. школа, Дом быту, магазін.

**БАБРОВА** – вёска ў Нястанавіцкім с/с, за 48 км на ПнЗ ад Лагойска, 87 км ад Мінска, 40 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. З гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 1800 г. в. Баброва, 3 двары, 15 жыхароў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1816 г. 14 сял. душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыка І.Валовіча. У 2-й пал. 19 ст. ў Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 19 двароў, 131 жыхар. У 1905 г. 9 двароў, якім належалі 193,7 дзес. зямлі, уваходзілі ў Нястанавіцкую сельскую грамаду. У 1909 г. 25 двароў, 197 жыхароў. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Завішынскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 24 двары, 122 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўвайшлі ў калгас імя Р.Люксембург. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 29 двароў, 116 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 6 двароў, 8 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 — у партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. ў Нястанавіцкім с/с. З 15.12. 1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 29 двароў, 79 жыхароў. У 2003 г. 8 гаспадарак, 9 жыхароў.

**БАБРОВА 2** – вёска ў Нястанавіцкім с/с, за 47 км на ПнЗ ад Лагойска, 86 км ад Мінска, 41 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

З 20.8.1924 г. в. Баброва 2 у Завішынскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 18 двароў, 88 жыхароў. У 1930-я г. вёска Баброва падзялілася на дзве: Баброва 1 і Баброва 2. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 19 двароў, 87 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопніка-

мі, якія знішчылі 5 двароў, загубілі 4 жыхароў. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. ў Нястанавіцкім с/с. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 27 гаспадарак, 90 жыхароў. У 2003 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў.

**БАБРЫ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Лагойска, 61 км ад Мінска, 58 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 15 гаспадарак, 45 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска ў Мінскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 15 двароў, 108 жыхароў, з-д металічных вырабаў, вадзяны млын. Асн. частку жыхароў складалі стараверы. Вёска належала памешчыку К.Дулічу. У 1897 г. засценак (8 двароў, 65 жыхароў) і вадзяны млын (2 двары, 18 жыхароў), у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Побач размяшчаўся маёнтак Бабры. У 1909 г. 6 двароў, 47 жыхароў. У 1917 г. 1 двор, 35 жыхароў, на аднайменным хутары 7 двароў, 32 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Калачоўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7. 1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., дзейнічалі вадзяны млын, кузня, ваўначоска. У 1941 г. 18 двароў, 75 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 1 двор, загубілі 6 жыхароў, 2 вяскоўцаў вывезлі ў Германію, 3 загінулі на фронце. З 16.7.1954 г. ў Янушкавіцкім с/с. У 1969 г. 21 двор, 73 жыхары. У 2003 г. 15 гаспадарак, 39 жыхароў.

**БАРСУКІ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Лагойска, 73 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У канцы 18 ст. ў складзе маёнтка Хатаевічы Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1857 г., 9 сял. душ мужчынскага полу, у маёнтку Хатаевічы. У 1897 г. вёска (5 двароў, 35 жыхароў), 2 засценкі (4 двары, 42 жыхары). У 1905 г. 3 гаспадаркі былых казённых сялян, якім належалі 77,7 дзес. зямлі, уваходзілі ў Нястанавіцкую сельскую грамаду. У 1909 г. 7 двароў, 68 жыхароў, у засценку Майтака 3 двары, 23 жыхары, у засценку Тышкевіча 2 двары, 16 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 7 двароў, у засценку 2 двары, 14 жыхароў, у другім засценку 2 двары, 8 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Хатаевіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай (да 9.6.1927 г.), Мінскай (да 26.7.1930 г.) акруг. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1926 г. 9 двароў, 44 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 2003 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары.

**БАРШЧЭЎНІК** (не існуе) — былая вёска.

У 19 ст. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка (яна ж Малое Прудзішча), уласнасць памешчыкаў Жаброўскіх, у Барысаўскім павеце. У 1830 г. А.Жаброўскі купіў у памешчыкаў Шарковічаў маёнтак Вялікія Прудзішчы, у выніку чаго ўзбуйнены маёнтак атрымаў новую назву Прудзішча. У 1844 г. вёска, 3 двары, 9 жыхароў, у складзе маёнтка Прудзішча, уласнасць А.Жаброўскага. Кожны сял. двор быў надзелены 16 дзес. зямлі. У 1857 г. ў вёсцы 13 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у складзе аднайменнага маёнтка ў Бяларуцкай вол. Мінскага павета і губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прудзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. былі 3 населеныя пункты з назвай Баршчэўнік: у вёс-

цы 10 двароў, 45 жыхароў, у засценку 5 двароў, 22 жыхары, на хутары 3 двары, 13 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 7 двароў, 35 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. гітлераўцы знішчылі вёску, загубілі 7 жыхароў. Пасля вайны не аднавілася.

**БАРЫСКІ** – вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Лагойска, 63 км ад Мінска, 59 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

У 18 ст. вядома ў Мінскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 10 двароў, 101 жыхар, уласнасць Трэберга. У пач. 20 ст. ў Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1905 г. 197 жыхароў, 175 дзес. зямлі, сядзіба Барыскі (яна ж Антонаўка), 8 жыхароў, 35 дзес. зямлі, сядзіба Барыскі (яна ж Антонаўка), 6 жыхароў. Абедзве сядзібы належалі памешчыку Ванькові чу. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Калачоўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 23 двары, 96 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 7 двароў, загубілі 20 жыхароў, 2 вывезлі ў Германію. 3 вяскоўцы загінулі на фронце, 3 – у партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. вёска ў Янушкавіцкім с/с. У 1969 г. 20 двароў, 58 жыхароў. У 2003 г. 9 гаспадарак, 15 жыхароў.

**БАЯРЫ** – вёска ў Астрошыцкім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Лагойска, 17 км ад Мінска, 36 гаспадарак, 87 жыхароў (2010).

У 19 ст. ў складзе маёнтка Астрошыцы, у Мінскіх павеце і губ., уладанне Тышкевічаў. Паводле інвентару 1846 г., 13 двароў, 107 жыхароў, уладанне графа К.Тышкевіча. У 1857 г. 37 рэвізскіх душ мужчынскага полу, уласнасць графа Тышкевіча. У 1870 г. ў Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета і губ. У 1897 г. 29 двароў, 189 жыхароў. У пач. 20 ст. цэнтр Баярскай сельскай грамады, да якой адносіліся 23 вёскі. У 1909 г. 28 двароў, 180 жыхароў. У 1917 г. 38 двароў, 205 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Астрашыцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. 41 двор, 230 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Працаўнік». З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 33 двары, 205 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 3 жыхароў, 1 вывезлі ў Германію. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 – у партыз. барацьбе. У 1969 г. 19 двароў, 68 жыхароў.

**БАЯРЫ** – вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Лагойска, 58 км ад Мінска, 53 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 1758 г. вёска, 6 двароў, шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 12 двароў, 94 жыхары, уладанне кн. М.Радзівіла. У пач. 19 ст. ў складзе маёнтка Бясяды, уласнасць памешчыкаў Паўліноўскіх, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. 53 душы мужчынскага полу, належала Б.Паўліноўскай. У 1844 г. 7 двароў, 48 жыхароў, у складзе маёнтка Бясяды, уласнасць М.Паўліноўскага. У 1857 г. 18 душ мужчынскага полу, у Айнаравіцкай вол. У 1870 г. 27 душ мужчынскага полу. У 1882 г. ў вёсцы адчынена царк.-прыходская школа. У 1897 г.

вёска (69 жыхароў) і засценак (9 двароў, 54 жыхары), у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. 7 гаспадарак уваходзілі ў Гайна-Слабодскую сельскую грамаду, ім належала 131 дзес. зямлі. У 1909 г. 12 двароў. У 1917 г. 14 двароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Бясядскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 18 двароў, 91 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7. 1954 г. ў складзе Янушкавіцкага с/с. У 1969 г. 20 двароў, 63 жыхары. У 2003 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў.

**БЕЛАЕ** – вёска ў Нястанавіцкім с/с, за 45 км на ПнЗ ад Лагойска, 84 км ад Мінска, 44 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 77 гаспадарак, 211 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах в. Белае ў 1536 г. згадваецца ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1582 г. двор Белае, уласнасць мінскага кашталяна Я.Глябовіча. У 18 ст. уладанне ксяндзоў хатаевіцкага дамініканскага касцёла. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, цэнтр аднайменнага фальварка, 11 двароў, 47 жыхароў. У 1800 г. 11 двароў, 47 жыхароў. У 1816 г. 13 рэвізскіх душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыка В.Асцімскага, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1833 г., цэнтр аднайменнага фальварка ў складзе маёнтка Нястанавічы. Паводле інвентару 1846 г. ў фальварку 32 сял. душы (15 мужчын, 17 жанчын). У 1886 г. з назвай Белае 3 населеныя пункты: пасяленне Белае, дзе жылі выключна яўрэі, ваколіца і фальварак. У пасяленні размяшчалася яўр. школа, у фальварку — хлебазапасны магазін. У 1897 г. ў вёсцы 22 двары, 123 жыхары, у фальварку 7 двароў, 57 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 8 двароў, у фальварку 8 двароў, 69 жыхароў. У 1917 г. 14 двароў, 85 жыхароў, у фальварку 12 двароў, 80 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Запольскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 16 двароў, 91 жыхар, на хутары 18 двароў, 86 жыхароў. Быў створаны калгас імя Валадарскага. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 28 двароў, 112 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 2 двары, загубілі 1 жыхара, 14 вывезлі ў Германію. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 16.7.1954 г. ў Нястанавіцкім с/с, з 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 47 двароў, 135 жыхароў. У 2003 г. 81 гаспадарка, 219 жыхароў. У вёсцы размешчаны аддз. «Зарэчча» філіяла «Нястанавічы» Лагойскай МТС «Райаграсэрвіса», Дом культуры, б-ка, базавая школа—сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін.

**БЕЛАНЫ** – вёска ў Лагазінскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Лагойска, 45 км ад Мінска, 33 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Орша—Мінск. 22 гаспадаркі, 35 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 12 двароў, 100 жыхароў уладанне Тышкевіча. У складзе маёнтка Лагаза, уласнасць С.Тышкевіча, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. 59 душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыка Д.Паўлікоўскага. У 1844 г. 4 двары, 26 жыхароў, належала С.Паўлікоўскай. Кожны сял. двор меў 30 моргаў зямлі. Вёска адносілася да Лагойскага праваслаўнага прыхода царквы Праабражэння. У 1870 г. 20 сял. душ мужчынскага полу, у Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1890 г.

дзейнічала царк.-прыходская школа, у якой вучыліся 11 хлопчыкаў. У 1897 г. 17 двароў, 143 жыхары. У 1909 г. 12 двароў, 78 жыхароў. У 1917 г. 15 двароў, 90 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1924 г. на базе дарэв. створана пач. школа, якая размяшчалася ў наёмным будынку, навучанне ў ёй вялося на бел. мове. З 29.10.1924 г. ў Кузевіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя навінкі». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 67 двароў, 331 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 46 двароў, загубілі 26 жыхароў, 3 вяскоўцаў вывезлі ў Германію. 28 жыхароў загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. З 24.5.1960 г. ў Лагазінскім с/с. У 1969 г. 47 двароў, 174 жыхары. У 2003 г. 31 гаспадарка, 57 жыхароў.

**БУДА** — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 45 км на Пн ад Лагойска, 94 км ад Мінска, 37 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Полацк—Маладзечна. 7 гаспадарак, 14 жыхароў (2010).

У 1800 г. засценак, 2 двары, 10 жыхароў, уладанне М.Валовіча. У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Акалова, уласнасць памешчыкаў Валовічаў у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1811 г. ў вёсцы 9 душ мужчынскага полу. У 1846 г. 4 двары, у складзе фальварка Задор'е маёнтка Акалова, уласнасць прадвадзіцеля дваранства Барысаўскага павета І.Валовіча. У 1885 г. вёска ў Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. адносілася да Горнаўскай сельскай грамады, у якую ўваходзілі ў 1905 г. 6 гаспадарак, ім належалі 163,6 дзес. зямлі. У 1909 г. 19 двароў, 140 жыхароў. У 1917 г. 21 двор, 129 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Горнаўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 22 двары, 211 жыхароў. У вёсцы створаны калгас «Чырвоны самалёт». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 27 двароў, 135 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 7 жыхароў, 21 вывезлі ў Германію. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 2003 г. 14 гаспадарак, 23 жыхары.

**БУДЗЕНІЧЫ** — вёска ў Нястанавіцкім с/с, за 47 км на ПнЗ ад Лагойска, 86 км ад Мінска, 42 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў (2011).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 16 ст. як маёнтак у ВКЛ. У 1525 г. княгіня Е.Мажайская адмаўлялася ад трэцяй часткі маёнтка Будзенічы на карысць віленскага ваяводы Альбрэхта Гаштольда. У 1-й пал. 16 ст. буйны феадал В.Тышкевіч купіў за некалькі тысяч коп грошаў у сваёй жонкі княгіні А.Чартарыйскай і яе сястры сёлы, сярод якіх былі Будзенічы. У 1570 г. В.Тышкевіч завяшчаў Будзенічы свайму сыну Астафію. У 1779 г. ў вёсцы 11 двароў, з якіх 3 пустыя, рудня, карчма, царква, фальварак, млын. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1876 г. маёнтак належаў памешчыцы Т.Булгак, якая валодала 796 дзес. зямлі. Тут размяшчаліся 2 карчмы і вадзяны млын. У канцы 19 ст. вёска ў Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. 18 двароў, 127 жыхароў. У 1905 г. 153 жыхары, якія мелі 121 дзес. зямлі. Побач размяшчалася лясная вартоўня Будзенічы графа Тышкевіча, 1 двор, 6 жыхароў. У 1917 г. 24 двары, 102 жыхары, у Край-

скай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., на хутары 1 двор, 4 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Завішынскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 26 двароў, 95 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 14 двароў, 56 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 4 двары, загубілі 5 жыхароў, 2 вяскоўцаў вывезлі ў Германію, 4 жыхары загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. вёска ў Нястанавіцкім с/с. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 15 двароў, 45 жыхароў.

**БУЛАХАЎКА** — вёска ў Нястанавіцкім с/с, за 49 км на ПнЗ ад Лагойска, 88 км ад Мінска, 42 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 8 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

У 2-й пал. 19 ст. засценак у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 10 двароў, 53 жыхары. У 1909 г. 17 двароў, 79 жыхароў, у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Акалоўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай (да 26.7.1930 г.) акруг. У 1926 г. ў засценку 10 двароў, 45 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 46 двароў, 138 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 1 двор, загубілі 1 жыхара, 20 вяскоўцаў вывезлі ў Германію, 5 загінулі на фронце. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 40 двароў, 96 жыхароў. У 2003 г. 14 гаспадарак, 21 жыхар.

**БУРЫЯ** — вёска ў Плешчаніцкім с/с, за 31 км на Пн ад Лагойска, 70 км ад Мінска, 68 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 11 гаспадарак, 23 жыхары (2010).

Згадваецца ў 18 ст. ў Мінскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. засценак, 4 двары, 28 жыхароў, уласнасць пана Тышкевіча. Паводле рэвізіі 1816 г. вёска, 21 душа мужчынскага полу, уласнасць графа Д.Тышкевіча. У 1833 г. вёска, 42 рэвізскія сял. душы (22 мужчыны, 20 жанчын), у складзе маёнтка Плешчаніцы Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1846 г. належала графу І.Тышкевічу, у 1858 г. 26 сял. душ мужчынскага полу. У 1870 г. 27 рэвізскіх душ мужчынскага полу. Адносілася да Плешчаніцкага прыхода Троіцкай царквы. У 1897 г. 14 двароў, 106 жыхароў. У пач. 20 ст. ўваходзіла ў Плешчаніцкую сельскую грамаду. Вёсцы належалі 112 дзес. зямлі. У 1909 г. 11 двароў, 82 жыхары. У 1917 г. 12 двароў, 82 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Плешчаніцкіх с/с і р-не Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7. 1930 г.). У 1926 г. 14 двароў, 93 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 16 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы вывезлі ў Германію 4 жыхароў, 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 22 двары, 59 жыхароў. У 2003 г. 14 гаспадарак, 38 жыхароў.

**БУХНАВІЧЫ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Лагойска, 58 км ад Мінска, 55 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 3 двары, 18 жыхароў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У пач. 19 ст. ўласнасць памешчыкаў Валодзькавічаў, якія здавалі яе ў арэнду І. Кудзіновічу. Паводле рэвізіі 1811 г. 16 душ мужчынскага полу. У 1897 г. 15 двароў, 77 жыхароў у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета. У пач. 20 ст. ў Гайненскай сельскай грамадзе, у якую ўваходзілі 7 бухнавіцкіх гаспадарак, ім належалі 140 дзес. зямлі. Адносілася да Янушкавіцкага праваслаўнага прыхода царквы Раства Багародзіцы. У 1917 г. 18 двароў, 107 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. 21 двор. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі 6 вяскоўцаў у Германію. 9 жыхароў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У 2003 г. 5 гаспадарак, 8 жыхароў.

**БЯЛАРУЧЫ** – вёска, цэнтр сельсавета, за 25 км на ПдЗ ад Лагойска, 14 км ад Мінска, на р. Вяча (прыток р. Свіслач). 39 гаспадарак, 87 жыхароў (2010).

У 1551 г. і ў 1567 г. маёнтак Бяларуч згадваецца ў попісе войска ВКЛ, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1582 г. двор Бяларуцкі, уласнасць Каленіцкай-Тышкевіч, князёўны Б.В.Саламярэцкай. Тут была пабудавана драўляная праваслаўная Успенская царква. У 1630 г. фальварк ва ўладанні шляхціца Х.Кірсуны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. сяло, 14 двароў, 153 жыхары, вадзяны млын, уласнасць мінскага крайчага Ф.Аборскага. Пры маёнтку існавала драўляная уніяцкая Успенская царква. У 1861 г. ў мястэчку 15 двароў, 139 жыхароў. У 1870 г. вёска, цэнтр Бяларуцкай вол., 50 рэвізскіх душ мужчынскага полу, прыватная ўласнасць памешчыцы Лапушынскай. У 1870 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1892 г. навучаліся 39 хлопчыкаў. У 1886 г. 15 двароў, 140 жыхароў, цэнтр Бяларуцкай вол. ў Мінскіх павеце і губ., размяшчаліся вал. праўленне, царк.-прыходская школа, Успенская праваслаўная царква, дробная крама. У 1892 г. ў нар. вучылішчы навучаліся 39 хлопчыкаў. У 1897 г. мястэчка (34 двары, 186 жыхароў, царква, крама) і маёнтак (34 жыхары) у Мінскім павеце. У пач. 20 ст. Бяларучы — цэнтр сельскай грамады. У 1907 г. дзейнічала аднакласнае нар. вучылішча, у 1909 г. адкрыта 2-класнае, для якога пабудаваны ўласны будынак. У 1917 г. ў мястэчку 62 двары 332 жыхары, у маёнтку 1 двор, 47 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У мястэчку адкрыта 7-гадовая школа, якую наведвалі дзеці з навакольных вёсак. У 1924 г. ў ёй 568 вучняў. З 20.8.1924 г. вёска, цэнтр сельсавета Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Іскра», працавалі кузня, вадзяны млын. У 1941 г. 69 двароў, 353 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1942 г. гітлераўцы спалілі вёску (69 двароў), загубілі 13 жыхароў, 24 вывезлі ў Германію. 19 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 2 сав. воіны. Пасля вайны адноўлена. У 1969 г. 54 двары, 196 жыхароў. У 2003 г. 39 гаспадарак, 78 жыхароў. У вёсцы размешчаны Дом культуры, б-ка, базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. У 1897–98 гг. у Бяларуцкім нар. вучылішчы вучыўся Я.Купала. На будынку базавай школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар песняра.

**ВАСІЛЬКОЎКА** – вёска ў Задор'еўскім с/с, за 58 км на ПнУ ад Лагойска, 97 км ад Мінска, 83 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск–Орша. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2010).

У 1846 г. вёска, 16 двароў, 106 жыхароў, у складзе маёнтка Дамашкевічы, уласнасць памешчыка А.Слізня. На р. Цна размяшчаўся вадзяны млын, мелася карчма. У 1870 г. в. Васількавічы, 51 сял. душа мужчынскага полу, у Восаўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 34 двары, 211 жыхароў, на хутары 2 двары, 14 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, належала мясцовай сельскай грамадзе, якая валодала 314,8 дзес. зямлі. У 1909 г. ў вёсцы 28 двароў, 175 жыхароў, на млыне 1 двор, 45 жыхароў. У 1916 г. пачало дзейнічаць аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. 36 двароў, 217 жыхароў, на млыне 1 двор, 9 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прусавіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (ад 26.7.1930 г.). У 1926 г. 38 двароў, 183 жыхары, на хутары 1 двор, 11 жыхароў. Створаны калгас імя Крупскай, працавалі сукнавальня, ваўначоска. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 60 двароў, 230 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 60 двароў, загубілі 14 жыхароў, 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны адбудавана. З 1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 27 двароў, 80 жыхароў. З 30.1.1976 г. ў Задор'еўскім с/с. У 2003 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў.

**ВЕЙНА** – вёска ў Задор'еўскім с/с, за 56 км на ПнЗ ад Лагойска, 95 км ад Мінска, 40 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Полацк–Маладзечна, на р. Вейна (прыток р. Дзвіна). 13 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 8 двароў, 62 жыхары, вадзяны млын, уладанне М.Валовіча ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. 15 двароў, 120 жыхароў, у Мільчанскай вол. Барысаўскага павета. У пач. 20 ст. ў Горнаўскай сельскай грамадзе. Да вёскі адносілася 250,1 дзес. зямлі. У 1909 г. 19 двароў, 131 жыхар. У 1917 г. 25 двароў, 143 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Горнаўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 24 двары, 137 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 26 двароў, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 9 двароў, загубілі 3 жыхароў, 3 вывезлі ў Германію. 1 вясковец загінуў на фронце. У баях за вызваленне вёскі загінулі 6 партызан атрада імя Суворава брыгады «Народныя мсціўцы» імя В.Т.Варанянскага. З 16.7.1954 г. ў Задор'еўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 26 двароў, 119 жыхароў. У 2003 г. 14 гаспадарак, 23 жыхары.

**ВЕНЕРА** – вёска ў Задор'еўскім с/с, за 55 км на ПнЗ ад Лагойска, 92 км ад Мінска, каля р. Дзвінаса (прыток р. Вілія). 16 гаспадарак, 29 жыхароў (2010).

У 1941 г. 49 двароў, 232 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 14 жыхароў, 2 вяскоўцаў вывезлі ў Германію. У 1969 г. 48 двароў, 218 жыхароў. У 2003 г. 23 гаспадаркі, 42 жыхары.

**ВЕРАГІ** – вёска ў Лагойскім с/с, за 4 км на ПдЗ ад Лагойска, 43 км ад Мінска, 32 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

У 19 ст. вядома як засценак у Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай

губ. У 1800 г. 8 двароў, 82 жыхары. Уладанне шляхціца М.Алапеўса. У 1870 г. фальварак (2 двары) у Лагойскай вол. У 1897 г. ў засценку 2 двары, 14 жыхароў. У 1917 г. хутар, 1 двор, 15 жыхароў. У 1919 г. ў БССР. У 1941 г. на хутары 3 двары, 15 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1969 г. 19 двароў, 77 жыхароў.

**ВЕРБ'Е** — вёска ў Швабскім с/с, за 33 км на ПнУ ад Лагойска, 82 км ад Мінска, 41 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша, каля р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

У 18 ст. засценак у складзе маёнтка Гаць, уладанне памешчыкаў Пузынаў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. засценак, 1 двор, 14 жыхароў. У 1811 г. 3 рэвізскія душы мужчынскага полу. У 1816 г. ўласнасць кн. І.Пузыны. У 1846 г. 2 двары, 24 жыхары, уладанне кн. К.Пузыны. У 1870 г. вёска, 11 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. 8 двароў, 61 жыхар, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 10 двароў, 70 жыхароў. У 1917 г. 13 двароў, 82 жыхары, на хутары 1 двор, 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. 20 двароў, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. карнікі знішчылі 20 двароў, загубілі 2 жыхароў. 4 вяскоўцы загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адноўлена. У 1969 г. 16 двароў, 73 жыхары. У 2003 г. 13 гаспадарак, 16 жыхароў. З 22.1.2008 г. ў Швабскім с/с.

**ВЕСНІНО** — вёска ў Астрошыцкім с/с, за 37 км на ПдЗ ад Мінска, 37 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 22 гаспадаркі, 54 жыхары (2010).

У 1582 г. згадваецца як сяло ў Мінскім павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Гарадок, уласнасць Тышкевічаў. У 1782 г. дзве вёскі, у адной 21 двор, з якіх 1 пустуючы, карчма, у другой — 19 двароў, з якіх 5 пустуючых, у складзе маёнтка Гарадок. У 1800 г. вёскі Вялікае Весніно (25 двароў, 140 жыхароў, вадзяны млын) і Малое Весніно (20 двароў, 128 жыхароў), уладанне графа І.Тышкевіча. У 1864 г. ўпамінаецца Пакроўская царква на могілках. У 1870 г. вёска, 85 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у складзе маёнтка Гарадок, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1884 г. ў адкрыта школа граматы (у 1890 г. вучыліся 28 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі). У 1886 г. 19 двароў, 180 жыхароў, на р. Усяжка, праваслаўная капліца на могілках. У 1890 г. мясц. святар адкрыў царк.-прыходскую школу ва ўласным памяшканні. У 1897 г. вёскі Весніно 1 (28 двароў, 169 жыхароў, школа граматы, капліца на могілках) і Весніно 2 (18 двароў, 114 жыхароў), у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Баярскай сельскай грамады, у 1905 г. ў яе ўваходзілі 19 вяснінскіх гаспадарак, якім належалі 296,8 дзес. зямлі. У 1908 г. адкрыта земская школа, на базе якой пазней працавала школа з выкладаннем на бел. мове, у 1924 г. ў ёй вучыліся дзеці з 9 навакольных вёсак. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Астрашыцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. ў вёсцы Весніно 1 было 25 двароў, 150 жыхароў, у Весніно 2 — 27 двароў, 130 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Праўда», мелася кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. 43 двары, 153

жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 5 двароў, загубілі 6 жыхароў, 4 вяскоўцаў вывезлі ў Германію. 20 жыхароў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінуў 1 сав. воін. У 1969 г. 44 двары, 140 жыхароў. У 2003 г. 29 гаспадарак, 68 жыхароў. Ёсць магазін.

**ВОСТРАЎ** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 50 км на ПнУ ад Лагойска, 89 км ад Мінска, 70 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 15 гаспадарак, 19 жыхароў (2010).

У 18 ст. згадваецца ў інвентары маёнтка Мятлічыцы ў ВКЛ. У 1777 г. вёска, 12 двароў, 82 жыхары, уладанне А.Белазор-Жаржэцкай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У пач. 19 ст. ў складзе маёнтка Мятлічыцы, уладанне памешчыка С.Жалязоўскага, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. 36 душ мужчынскага полу, карчма, вадзяны млын (1 постава). У 1846 г. 201 сял. душа, належала памешчыкам братам Свянціцкім, адносілася да Прусавіцкага праваслаўнага прыхода царквы Св. Мікалая. У 1897 г. вёска (23 двары, 159 жыхароў), засценак (3 двары, 16 жыхароў) і вадзяны млын (1 двор, 5 жыхароў), у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., цэнтр Востраўскай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 16 двароў, што валодалі 289 дзес. зямлі. У 1909 г. 24 двары, 180 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 30 двароў, 193 жыхары, у засценку 2 двары, 11 жыхароў, на млыне 1 двор, 8 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прусавіцкім с/с Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 34 двары, 180 жыхароў, на хутары 3 двары, 13 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 45 двароў, 181 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 16 двароў, загубілі 4 жыхароў, 10 вяскоўцаў вывезлі ў Германію. 30 чал. загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 39 двароў, 141 жыхар. З 30.1. 1976 г. ў Акалоўскім с/с. У 2003 г. 22 гаспадаркі, 31 жыхар.

**ВОСТРАЎ 1-ы** — былая вёска ў Задор'еўскім с/с, за 62 км на ПнЗ ад Лагойска, 101 км ад Мінска, 45 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Полацк—Маладзечна. Ніхто не жыве.

У 1800 г. в. Востраў, 2 двары, 12 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. Побач быў аднайменны засценак, 1 двор, 7 жыхароў. У пач. 20 ст. 2 засценкі ў Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. ў засценку Востраў 1—7 двароў, 70 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Горнаўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў засценку 10 двароў, 69 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Задор'еўскім с/с. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 2003 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар.

**ВОСТРАЎ 2-і** — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 63 км на ПнЗ ад Лагойска, 102 км ад Мінска, 45 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Полацк—Маладзечна. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2010).

У пач. 20 ст. засценак Востраў 2, у Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. тут 6 двароў, 43 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Горнаўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 7 двароў, 42 жыхары. З 20.2.1938 г.

ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7. 1954 г. ў Задор'еўскім с/с. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 2003 г. 8 гаспадарак, 11 жыхароў.

**ВУГЛЫ** – вёска ў Швабскім с/с, за 32 км на ПнУ ад Лагойска, 71 км ад Мінска, 41 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск–Орша, на р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). 24 гаспадаркі, 43 жыхары (2010).

У 18 ст. засценак, уласнасць памешчыкаў Пузынаў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. засценак, 2 двары, 15 жыхароў, уладанне Берхмана. Паводле рэвізіі 1816 г. вёска, 10 душ мужчынскага полу, уласнасць кн. І.Пузыны. У 1846 г. засценак, 1 двор, 9 жыхароў, у складзе маёнтка Гаць, уласнасць кн. К.Пузыны. У 1885 г. хутар у Зембінскай вол. У 1897 г. ў адным 9 двароў, 74 жыхары, у другім – 4 двары, 34 жыхары. У пач. 20 ст. вёска ў Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 7 двароў, 65 жыхароў. У 1917 г. 9 двароў, 72 жыхары, на хутары 4 двары, 31 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. 37 двароў, 202 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі яе і загубілі 5 жыхароў, 7 вяскоўцаў вывезлі ў Германію. 9 – загінулі на фронце, 2 – у партыз. барацьбе. У 1969 г. 36 двароў, 181 жыхар.

**ВЫГАР** – вёска ў Задор'еўскім с/с, за 53 км на Пн ад Лагойска, 92 км ад Мінска, 35 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Полацк–Маладзечна. 14 гаспадарак, 21 жыхар (2010).

У 19 ст. пас. Выгары на р. Дзвінаса, у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. 8 двароў, 50 жыхароў. У 1905 г. пас. Выгары, у 1921 г. 10 двароў, 59 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Крайскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 15 двароў, 72 жыхары. У 1926 г. 15 двароў, 72 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 35 двароў, 123 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 вяскоўцаў, 6 жыхароў вывезлі ў Германію. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 33 двары, 111 жыхароў.

**ВЯЗАЎШЧЫНА** – вёска ў Плешчаніцкім с/с, за 31 км на ПнУ ад Лагойска, 80 км ад Мінска, 65 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск–Орша. 17 гаспадарак, 33 жыхары (2010).

У 1800 г. в. Вязаўшчына, 6 двароў, 120 жыхароў, уладанне Тышкевічаў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Плешчаніцы. Паводле інвентару 1846 г. 37 сял. душ, належала графу І.Тышкевічу. У 1870 г. 29 сял. душ мужчынскага полу. У 1878 г. вёска адносілася да Плешчаніцкага праваслаўнага прыхода Троіцкай царквы. У 1897 г. 15 двароў, 120 жыхароў. У канцы 19 ст. адносілася да Плешчаніцкай сельскай грамады, мела 179,6 дзес. зямлі. У 1909 г. 15 двароў, 117 жыхароў. У 1917 г. 19 двароў, 129 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Плешчаніцкіх с/с і р-не Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 24 двары, 109 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 24 двары, 112 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 жыхароў, 1 вывезлі ў Германію. 7 вяскоўцаў загіну-

лі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 2003 г. 20 гаспадарак, 49 жыхароў.

**ВЯЛІКІЯ БЯСЯДЫ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Лагойска, 59 км ад Мінска, 54 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 22 гаспадаркі, 30 жыхароў (2010).

У 1546 г. вядомы як маёнтак, згадваюцца ў 1567 г. ў попісе войска ВКЛ як шляхецкая ўласнасць. У 1582 г. маёнтак пана Г.Мікуліча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ў в. Бясяды 17 двароў, 170 жыхароў, размяшчаўся гаспадарскі двор уладальнікаў Паўлікоўскіх, існавала капліца. У 1800 г. 17 двароў, 170 жыхароў, драўляныя гаспадарскі дом і капліца. У 1-й пал. 19 ст. вёска, цэнтр маёнтка Бясяды, у склад якога ўваходзілі вёскі Баяры, Бясяды і засценак Аўсюшкі — уладанне Б.Паўлікоўскай. У 1833 г. 10 двароў, 149 жыхароў. У 1844 г. маёнтак, 236 сял. душ, уласнасць М.Паўлікоўскага, якому належалі 1700 дзес. зямлі, сялянам — 560 дзес. Меліся хлебазапасны магазін, млын, карчма, сукнавальня. У 1870 г. маёнтак, 65 сял. душ, уладанне памешчыцы М.Вайцяхоўскай, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. в. Бяседы (40 двароў, 257 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом) і маёнтак М.Вайцяхоўскай. У пач. 20 ст. вёска, цэнтр Бясядаўскай сельскай грамады, у 1905 г. ў яе ўваходзілі 5 вёсак. У 1909 г. 37 двароў, 28 жыхароў, у маёнтку 2 двары, 19 жыхароў. У 1917 г. 37 двароў, 244 жыхары, у маёнтку 1 двор, 54 жыхары. У 1912 г. адкрыта земская школа. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. на яе базе створана пач. школа, якая размяшчалася ў будынку лясніцтва і яе наведвалі вучні з 4 навакольных населеных пунктаў. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Бясядскага с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У мясцовай школе вучыліся 55 дзяцей в. Вялікія Бясяды, выкладанне вялося на бел. мове. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Быў створаны калгас «Ударнік», працавалі сталярня, кузня. У 1941 г. 50 двароў, 255 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі 20 жыхароў у Германію. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. ў Янушкавіцкім с/с. У 1969 г. 60 двароў, 170 жыхароў. У 2003 г. 29 гаспадарак, 45 жыхароў.

**ВЯЛІКІЯ ГАЯНЫ** — вёска ў Бяларуцкім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Лагойска, 17 км ад Мінска, на р. Вяча (прыток р. Свіслач). 7 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

У 1551 г. в. Гаяны згадваецца як уласнасць Д.Тоўкача і ў 1567 г. ў попісе войска ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 12 двароў, 79 жыхароў, уладанне мінскага крайчага Ф.Аборскага. У 19 ст. фальварак у Мінскіх павеце і губ. Паводле рэвізіі 1858 г. фальварак Гаяны Вялікія, 11 рэвізскіх душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыка Ф.Барсука. У 1870 г. вёска, 22 рэвізскія душы, у складзе маёнтка Гаяны, уласнасць памешчыка Клімовіча. Меўся хлебазапасны магазін. У 1897 г. 9 двароў, 54 жыхары, у Бяларуцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1909 г. 12 двароў, 81 жыхар. У 1917 г. 12 двароў, 68 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Бяларуцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. 9 двароў, 49 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Быў створаны калгас «Юнацтва». У 1941 г. ў Гаянах 65 двароў, 325 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г.

вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 9 двароў, загубілі 1 жыхара, 11 вывезлі ў Германію. 24 вяскоўцы загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 42 двары, 144 жыхары. У 2003 г. 9 гаспадарак, 21 жыхар.

**ВЯЛІКІЯ НЯСТАНАВІЧЫ** — вёска ў Нястанавіцкім с/с, за 47 км на ПнЗ ад Лагойска, 86 км ад Мінска, 36 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 36 гаспадарак, 71 жыхар (2010).

У 16 ст. Нястанавічы (Нястанішкі) упамінаюцца як цэнтр аднайменнага маёнтка ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1559 г. ў вёсцы 36 дымоў, 27 служб, 41 селянін, з якіх 19 былі отчычамі (прыгоннымі) і 22 вольнымі. У 1567 г. вёска згадваецца ў попісе войска ВКЛ як сяло, шляхецкая ўласнасць. У 1594 г. ў сяле 147 сялян. У 2-й пал. 18 ст. ўласнасць дамініканскага касцёла. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. вёска, цэнтр аднайменнага фальварка, 14 двароў, 73 жыхары, вадзяны млын на р. Горбаўка. У 1800 г. 14 двароў, 73 жыхары, вадзяны млын. У 19 ст. маёнтак, які складаўся з фальваркаў Нястанавічы, Белае і в. Прагон, належаў памешчыкам Асцімскім. Паводле рэвізіі 1816 г. вёска, 78 душ мужчынскага полу, уласнасць Б.Асцімскага. У 1833 г. ў вёсцы 106 рэвізскіх сял. душ, у маёнтку 308 рэвізскіх сял. душ. Паводле інвентару 1846 г. вёска, 21 двор, 256 жыхароў, уласнасць Асцімскіх, якім належалі 959 дзес. зямлі і 281 сял. душа. У маёнтку меліся вадзяны млын і бровар. У 1870 г. 92 сял. душы мужчынскага полу, цэнтр маёнтка Нястанавічы, уласнасць Р.Асцімскага ў Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., меўся хлебазапасны магазін. У 1886 г. 25 двароў, 134 жыхары. У 1897 г. у вёсцы Нястанавічы 1 — 38 двароў, 228 жыхароў, у в. Нястанавічы 2 — 54 двары, 339 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква, у маёнтку Нястанавічы 91 жыхар, у фальварку Нястанавічы 1 двор, 11 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 32 двары, 191 жыхар, адкрыта нар. вучылішча, у 1913 г. для яго пабудаваны ўласны будынак. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Завішынскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). На базе нар. вучылішча створана школа, у 1923 г. пры ёй дзейнічаў драматычны гурток. У 1924 г. ў школе вучыліся 179 дзяцей з 5 навакольных населеных пунктаў. У 1926 г. 64 двары, 301 жыхар. Быў створаны калгас «Парыжская камуна». З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 57 двароў, 187 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 жыхароў, 11 вывезлі ў Германію. 25 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 13 сав. воінаў. З 16.7.1954 г. ў выніку аб'яднання Завішынскага і Запольскага сельсаветаў вёска стала цэнтрам Нястанавіцкага с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 61 двор, 197 жыхароў. У 2003 г. 40 гаспадарак, 81 жыхар.

**ВЯЛІКІЯ УКРОПАВІЧЫ** — вёска ў Гайненскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Лагойска, 63 км ад Мінска, 54 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 34 гаспадаркі, 88 жыхароў (2010).

Маёнтак Укропавічы згадваецца ў 1667 г. ў «тарыфе падымнага» Мінскага павета ВКЛ. У пач. 18 ст. размяшчаўся гаспадарскі двор. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. ў вёсцы 17 двароў, 122 жыхары. Паводле рэвізіі 1816 г. 33 душы мужчынскага полу, належала Ф.Валіцкаму. У 1833 г. ў вёсцы 52 рэвізскія сял. душы, у маёнтку 78 рэвізскіх сял. душ. У маёнтак Укропавічы ўваходзілі фальваркі Малыя і Вялікія Укропавічы

і в. Укропавічы. У 1846 г. маёнтак, 81 сял. душа, уласнасць памешчыцы А.Гушчынай, якая атрымала яго ў спадчыну ад брата, а др. частку купіла ў розных асоб. Ёй належалі 920 дзес. зямлі, 220 дзес. лесу, 376 дзес. сенажаці. На р. Бачылаўка размяшчаліся вадзяны млын і плаціна, меліся валовы млын, карчма, хлебазапасны магазін. З 1859 г. маёнтак, уладанне памешчыка А.У.Квяткоўскага, якому належалі 392 дзес. зямлі. У 1870 г. вёска, 31 сял. душа, уваходзіла ў Жыльбяровіцкую сельскую грамаду, маёнтак належаў Квяткоўскім. У 1897 г. вёска (16 двароў, 114 жыхароў, хлебазапасны магазін), 5 фальваркаў (6 двароў, 45 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 17 двароў, 113 жыхароў, у фальварку 2 двары, 8 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 23 двары, 136 жыхароў, у фальварку 4 двары, 23 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Коранскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы быў створаны калгас «Чырвоная зорка». У 1941 г. 27 двароў, 116 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі 2 жыхароў у Германію. 4 вяскоўцы загінулі на фронце, 1 – у партыз. барацьбе. З 24.5.1960 г. ў Гайненскім с/с. У 1969 г. 26 двароў, 75 жыхароў. У 2003 г. 34 гаспадаркі, 83 жыхары.

**ВЯПРАТЫ** – вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Лагойска, 64 км ад Мінска, 63 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша, на р. Выпрата (прыток р. Ілія). 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2010).

Сяло Вяпраты згадваецца ў 1500 г. сярод уладанняў віленскага капітула ў ВКЛ. У пач. 16 ст. магнат А.Гаштольд, ствараючы сваю латыфундыю, купіў маёнтак Вяпраты. У 1526 г. маёнтак шляхціца Асціча ў Мінскіх павеце і ваяв. У 1582 г. 28 дымоў, 10 служб, 12 баяр, 27 сялян, уласнасць каралеўскага сакратара Я.Касмоўскага і яго жонкі Я.Насілоўскай. Меўся млын. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло на р. Вяпраты, 7 двароў, 50 жыхароў, дзярж. уладанне, меліся карчма і вадзяны млын. У пач. 20 ст. ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1905 г. маёнтак, уласнасць Ляховіча, 30 жыхароў, 246 дзес. зямлі; у сядзібе памешчыка 24 жыхары, 9 дзес. зямлі. Побач размяшчаўся млын (9 жыхароў, 1,5 дзес. зямлі), які таксама належаў Ляховічу. У 1915 г. пачаў працаваць цагельны з-д. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. ў маёнтку адкрыта школа. У 1924 г. ў ёй вучыліся 149 дзяцей з вёсак Панышы, Селішча 1-е і 2-е, Казлеўшчына, Дзяніскі, Барыскі, Мядзведкі, а таксама 14 вучняў з Вяпрат. З 20.8.1924 г. вёска ў Калачаўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Меліся вадзяны млын, сталярня, кравецкая майстэрня, кузня, на базе маёнтка створаны калгас «13 год РСЧА». У 1941 г. 31 двор, 180 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары. 2 вяскоўцы загінулі на фронце, 12 – у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 2 партызаны. З 16.7.1954 г. ў Янушкавіцкім с/с. У 1969 г. 33 двары, 126 жыхароў. У 2003 г. 15 гаспадарак, 24 жыхары.

**ВЯЧА** – вёска ў Бяларуцкім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Лагойска, 11 км ад Мінска, на р. Вяча (упадае ў Заслаўскае вадасховішча). 19 гаспадарак, 35 жыхароў (2010).

У 1582 г. вёска (7 сялян мужчынскага полу), цэнтр аднайменнага маёнтка, уласнасць Р.Макаровіча ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 15 двароў, 119 жыхароў,

уладанне памешчыка Ваньковіча. Паводле рэвізіі 1811 г. вёска, 23 душы мужчынскага полу, уласнасць памешчыцы Корсак. У 1846 г. 15 двароў, 120 жыхароў, у складзе маёнтка Відагошча, належала графу Тышкевічу, у 1858 г. — памешчыцы Я.Кузяновічавай. У 1870 г. 47 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. 26 двароў, 172 жыхары, у Бяларуцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1917 г. 36 двароў, 216 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Бяларуцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7. 1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. 43 двары, 239 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы быў створаны калгас імя Будзённага, працавала кузня. У 1941 г. 42 двары, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 1 жыхара. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 42 двары, 123 жыхары. У 2003 г. 18 гаспадарак, 42 жыхары.

**ГАШЧА** — вёска ў Лагойскім с/с, за 8 км на ПдУ ад Лагойска, 32 км ад Мінска, 20 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 16 гаспадарак, 29 жыхароў (2010).

У 20 ст. ў Юр'еўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. урочышча, 4 двары, 20 жыхароў. У 1917 г. 5 двароў, 39 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. Вяскоўцы ўваходзілі ў калгас «Чырвоны сцяг». У 1941 г. 36 двароў, 144 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 3 двары, загубілі 2 жыхароў. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1969 г. 41 двор, 123 жыхары.

**ГАЙНА** (старажытная назва Айна) — вёска, цэнтр сельсавета, за 10 км на ПнЗ ад г.п. Лагойск, 50 км ад Мінска, 41 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). 238 гаспадарак, 536 жыхароў (2010).

Вядома з 14 ст. Першапачаткова ўваходзіла ў Лагожскае ўдзельнае княства. У 1386 г. на беразе р. Гайна вял. кн. ВКЛ Ягайлам быў засн. драўляны касцёл. У 1397 г. вял. кн. ВКЛ Вітаўт перадаў касцёлу маёнтак Кацялі з 6 вёскамі. У 1-й пал. 15 ст. Гайна належала кіеўскаму кн. Алельку Уладзіміравічу, а з 1455 г. яго малодшаму брату Андрэю Уладзіміравічу, пасля яго смерці ў 1457 г. — ва ўладанні яго нашчадкаў. У 1508 г. — цэнтр воласці Мінскага ваяв., дзярж. уласнасць. У 1522 г. пры касцёле засн. школа. У 1545 г. ўпершыню згадваецца праваслаўная царква Св. Міхаіла, якая згарэла ў 1806 г. У 1560-х г. Гайну за 6 тыс. коп грошаў атрымаў у залог буйны феадал В.Тышкевіч. У 1577 г. — цэнтр дзяржавы Гайненскай. У 1604 г. жыхары Гайны далучыліся да Брэсцкай уніі 1596 г. У 2-й пал. 18 ст. мястэчка, дзярж. ўласнасць. На р. Гайна размяшчаліся 2 вадзяныя млыны. У 1705 г. пачала дзейнічаць царква. У 1764 г мястэчка, 38



*Міхайлаўская царква ў в. Гайна.*

двароў, 111 жыхароў мужчынскага полу, 3 млыны, карчма, плябанія, уласнасць казны. У 1781 г. кн. Цыдзік пабудаваў новы мураваны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 61 двор, 450 жыхароў, мураваныя касцёл і кляштар, драўляная ўніяцкая капліца, 2 млыны, карчма, частка мястэчка належала касцёлу, другая — казне. Паводле рэвізіі 1816 г. мястэчка, 172 душы мужчынскага полу. У 1816 г. на месцы згарэлай царквы пабудавана новая. У 1861 г. 390 жыхароў. У 1867 г. касцёл пераабсталяваны ў праваслаўную Успенскую царкву, рас. імператар Аляксандр II падараваў ёй абраз Казанскай Божай Маці. У 1863 г. пачало дзейнічаць нар. вучылішча, у якім у 1892 г. вучыліся 34 хлопчыкі і 2 дзяўчынкі. У 1870 г. сяло, 250 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1879 г. прыход Успенскай царквы ахопліваў 15 вёсак (2221 прыхаджанін). Пры царкве дзейнічалі царк.-прыходскае папячыцельства і 2 нар. вучылішчы (мужчынскае і жаночае), пісьменнымі былі 3% прыхаджан. У 1886 г. сяло, 57 двароў, 420 жыхароў, праваслаўная царква, 2 крамы, хлебазапасны магазін, штогод 15 жн. адбываўся кірмаш. У 1891 г. засн. мукамольнае і крупяное прадпрыемствы (у 1905 г. працавалі 3 рабочыя, мелася паравая машына), дзейнічаў вадзяны млын. У 1897 г. мястэчка (131 двор, 818 жыхароў, паравы млын, хлебазапасны магазін, 7 лавак, 2 піцейныя дамы, сінагога) — цэнтр Гайна-Слабодскай вол. і сельскай грамады Барысаўскага павета. У 1909 г. 116 двароў, 889 жыхароў. У 1912 г. дзейнічала нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. цэнтр сельсавета Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. асн. насельніцтва складалі сяляне, сярод іх былі рамеснікі — краўцы, кавалі, гарбары, пекары, шаўцы, капялюшнікі, якія мелі шэраг майстэрняў. Працавалі ваўначоска, маслабойня. У 1928 г. пачала дзейнічаць шавецкая майстэрня «Чырвоны прамень», у 1930 г. арганізаваны калгас «Гайна», у 1931 г. кравецкая арцель «Сцяг жанчын», кузня, сталярная майстэрня, вадзяны млын. У 1932 г. засн. цагельна-ганчарная арцель «Чырвоны будаўнік». У 1941 г. ў вёсцы 202 двары, 990 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 13 двароў, загубілі 95 жыхароў, 154 вывезлі ў Германію. 72 вяскоўцы загінулі на фронце, 13 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 2 сав. воіны і 2 партызаны. У 1969 г. 261 двор, 987 жыхароў. У 2003 г. 262 двары, 606 жыхароў. З 1.8.2011 г. аграгарадок. У вёсцы размешчаны с.-г. цэх «Гайна» РУП «Мінскі трактарны завод», Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, магазін, камбінат бытавога абслугоўвання, аддз. сувязі, сац. прытулак, фельч.-акушэрскі пункт. Міхайлаўская царква (пач.

*Народны ансамбль бытавога танца «Суботка» з в. Гайна.*



21 ст.). Радзіма Героя Сацыяліст. Працы Л.М.Пунтуса (1928–78).

**ГАНЦАВІЧЫ** – вёска ў Каменскім с/с, за 54 км на ПнУ ад Лагойска, 93 км ад Мінска, 45 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск–Орша. 33 гаспадаркі, 55 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. маёнтак у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1811 г. маёнтак, 77 рэвізскіх сял. душ мужчынскага полу, уласнасць кн. І.Пузыны. У 1833 г. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка, 223 рэвізскія сял. душы. У склад маёнтка ўваходзілі вёскі Ганцавічы, Слабада і засценак Пагранічча. Агульная пл. маёнтка 2800 дзес. зямлі. Кожны сял. двор у вёсках, апрача засценка, меў 18 дзес. зямлі. Асн. заняткам сялян было земляробства, якое яны спалучалі з вытв-сцю тавarнага лесу. Было распаўсюджана пчалярства. У зімовы час вывозілі лес з лагойскіх лясоў на Плешчаніцкую прыстань. У 1846 г. ў маёнтку 215 сял. душ, уласнасць губ. сакратара І.Лапіцкага. У пач. 20 ст. 22 гаспадаркі ўваходзілі ў сельскую грамаду, якой належала 426 дзес. зямлі. У 1897 г. вёска (44 двары, 269 жыхароў, хлебазапасны магазін) і маёнтак (33 жыхары, капліца), у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1909 г. ў вёсцы 51 двор, 557 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 24 жыхары. У 1917 г. ў Старыя Ганцавічы 63 двары, 365 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Ганцавіцкага с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Плешчаніцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў в. Старыя Ганцавічы 71 двор, 311 жыхароў, створаны саўгас. У 1932 г. працавалі торфазавод, сталярная майстэрня, лесапільня, паравы млын. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1943 г. гітлераўцы знішчылі 80 двароў і загубілі 145 жыхароў. 8 вяскоўцаў вывезлі ў Германію, 10 загінулі на фронце, 11 – у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 2 сав. воіны. Пасля вайны аднаўлена. У 1969 г. 68 двароў, 232 жыхары. У 2003 г. 37 гаспадарак, 74 жыхары. Ёсць магазін.

**ГАНЯВІЧЫ** – вёска ў Швабскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Лагойска, 59 км ад Мінска, 60 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск–Орша. 77 гаспадарак, 155 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца ў 14 ст. як маёнтак у Лагожскім удзельным княстве. У 1395 г. вял. кн. ВКЛ Вітаўт падараваў Ганявічы віленскаму біскупству. У 1516 г. сяло, уладанне віленскага касцёла Св. Станіслава. У 18 ст. цэнтр аднайменнага маёнтка, уладанне Віленскага капітула. У 1755 г. па фундацыі М.Слізня пабудаваны невял. драўляны касцёл, які падпарадкоўваўся парафіяльнаму касцёлу Св. Антонія ў с. Корань. У 1800 г. ў Ганявічах 31 двор, 209 жыхароў, уласнасць мінскага ген.-губернатара І.М.Няплюева. Тут размяшчаліся ўніяцкая капліца, млын на адну паставу. У 1811 г. ў вёсцы 36 двароў, 138 душ мужчынскага полу, у складзе Чырванаборскай эканоміі. У 1843 г. 43 двары, 310 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма, вадзяны млын, уладанне памешчыка К.Чудакоўскага. У 1870 г. 89 рэвізскіх душ мужчынскага полу, уласнасць А.Чудакоўскага, у Юр'еўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У памешчыка было 1160 дзес. зямлі. У 1897 г. 75 двароў, 560 жыхароў, кузня, хлебазапасны магазін, касцёл на могілках, карчма. Побач быў маёнтак, 27 жыхароў, вадзяны млын. У пач. 20 ст. назву Ганявічы мелі 2 вёскі, якія пазней аб'ядналіся. У 1909 г. ў Ганявічах 1 – 57 двароў, 338 жыхароў, у Ганявічах 2 – 45 двароў, 303 жыхары, побач размяшчаўся аднаймен-

ны маёнтак, 7 двароў, 34 жыхары. У 1917 г. сяляне вёсак Ганявічы і Юркавічы адкрылі школу, якая размяшчалася ў доме ксяндза. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Маладзіўскім, з 29.10.1924 г. ў Юркавіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., меўся вадзяны млын. У 1941 г. 148 двароў, 582 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 11 жыхароў, 12 вяскоўцаў вывезлі ў Германію. 30 жыхароў загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 148 двароў, 514 жыхароў. З 22.1.2008 г. ў Швабскім с/с. Радзіма Героя Сав. Саюза І.К.Захарава (1909–82).



*І.К.Захараў.*

**ГАПОНАВА** — вёска ў Крайскім с/с, за 60 км на ПнЗ ад Лагойска, 100 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2010).

У 2-й пал. 19 ст. фальварак, прыватная ўласнасць у Крайскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. фальварак, 46 жыхароў, уваходзіў у Гапонаўскую сельскую грамаду, якой належалі 175 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 10 двароў, 63 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Крайскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 10 двароў, 65 жыхароў. У 1929 г. на базе фальварка арганізаваны калгас «Прамень сацыялізму», працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 17 двароў, 61 жыхар. У Вял Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 17 двароў, загубілі 2 жыхароў, 20 вяскоўцаў вывезлі ў Германію. 1 жыхар загінуў на фронце. Пасля вайны адноўлена. З 25.12. 1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 8 двароў, 34 жыхары. У 2003 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў.

**ГАРАВЕЦ** — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 64 км на ПнУ ад Лагойска, 103 км ад Мінска, 52 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Полацк—Маладзечна. У вёсцы ніхто не жыве.

Згадваецца ў 1523 г. і ў 1567 г. ў попісе войска ВКЛ як сяло, шляхецкая ўласнасць у Мінскіх павеце і ваяв. У 1582 г. ўласнасць пана Я.Зяновіча Гаравецкага. У 1753 г. пабудавана Пакроўская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1811 г. вёска, 16 душ мужчынскага полу, належала памешчыку І.Валовічу, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1846 г. цэнтр аднайменнага маёнтка, які складаўся з фальварка, вёсак Прусавічы, Роўнядзь і засценка Цна. Паводле інвентару 1846 г. ў маёнтку 167 сял. душ, 2 карчмы, вадзяны млын на р. Цна на 2 паставы, сукнавальня, піваварня, бровар (напоі збываліся ў 2 шынках, прыбытак ад якіх складаў 80 руб. серабром). У 1909 г. ў засценку 6 двароў, 36 жыхароў. У 1917 г. 23 двары, 177 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Прусавіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары 13 двароў, 71 жыхар, у засценку 7 двароў, 48 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 22 двары, 132 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 5 двароў, загубілі 11 жыхароў, 1 вяскоўца вывезлі ў Германію. 5 жыхароў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. вёска ў Задор'еўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагой-

скім р-не. У 1969 г. 20 двароў, 176 жыхароў.

**ГАРАВЕЦ** — вёска ў Зарэчанскім с/с, за 52 км на ПнЗ ад Лагойска, 91 км ад Мінска, 68 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 30 гаспадарак, 65 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле інвентару 1847 г. ў вёсцы 8 двароў, 58 жыхароў. Вёска і маёнтак належалі памешчыку Завусцінскаму. Праз маёнтак праходзіла дарога ў Вілейскі павет, на ёй размяшчалася карчма. Побач знаходзіўся фальварак Гаравец, 3 двары, 17 жыхароў, уласнасць памешчыцы Г.Кляшчэўскай. У 1886 г. вёска, 7 двароў, 89 жыхароў, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Штогод 23 крас. і 1 кастр. тут адбываліся кірмашы. Існавала праваслаўная прыпісная Пакроўская царква. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Зарэчанскай сельскай грамады. У 1909 г. 16 двароў, 123 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. на сродкі сялян адкрыта школа 1-й ступені, у якой у 1922 г. вучыліся 67 дзяцей (42 хлопчыкі і 25 дзяўчынак) з в. Гаравец, навакольных вёсак Ляда і Трысцень і засценка Асавіна. З 20.8.1924 г. ў Зарэчанскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 43 двары, 226 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 23.11.1943 г. акупанты спалілі 2 двары і загубілі 2 жыхароў, 6 вяскоўцаў вывезены акупантамі ў Германію. 12 жыхароў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 2 сав. воіны і 2 партызаны. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 51 двор, 188 жыхароў. У 2003 г. 36 гаспадарак, 82 жыхары. Ёсць



*Пакроўская царква ў в. Гаравец.*

магазін. Помнік архітэктуры — Пакроўская царква (19 ст.).

**ГАРАДЗЕЦ** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 46 км на ПнУ ад Лагойска, 74 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

Вядома з 16 ст. У 1582 г. вёска, цэнтр маёнтка, уласнасць зямяніна Я.Я.Рэкута, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска, уладанне памешчыкаў Валовічаў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 11 двароў, 70 жыхароў, уладанне М.Валовіча. Паводле рэвізіі 1816 г. 35 душ мужчынскага полу, уласнасць І.Валовіча. У 1847 г. ў складзе маёнтка Пятроліна, 15 двароў, 117 жыхароў, належала графіні Р.Тышкевіч. У 1870 г. 76 сял. душ, уласнасць І.Валовіча, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 44 двары, 260 жыхароў. У пач. 20 ст. адносілася да Карчоўскай сельскай грамады, у 1905 г. ў яе ўваходзілі 20 гаспадарак, якія валодалі 301,9 дзес. зямлі. У 1909 г. 44 двары, 239 жыхароў. У 1917 г. 47 двароў, 248 жыхароў. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Акалоўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 41 двор, 193 жыхары, у вёсцы створаны калгас «11 Ліпеня». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 41 двор, 186 жыха-

роў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 8 двароў, 14 жыхароў вывезлі ў Германію. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі ў 1944 г. загінуў 1 сав. воін. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 42 двары, 139 жыхароў. У 2003 г. 11 гаспадарак, 18 жыхароў.

**ГАРАДЗІШЧА** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Лагойска, 76 км ад Мінска і чыг. ст. Мінск. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 1797 сяло, уласнасць хатаевіцкай парафіі. У 19 ст. вёска ў Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1860 г. 53 сял. душы мужчынскага полу. У 1881 г. на могілках пабудавана драўляная Праабражэнская царква. У 1897 г. 21 двор, 130 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. Вёска адносілася да Хатаевіцкай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 22 гарадзішчанскія гаспадаркі, ім належалі 308,7 дзес. зямлі. У 1897 г. пабудавана Ганнінская царква. У 1909 г. 43 двары, 231 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Хатаевіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 28 двароў, 111 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 21 двор, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 5 двароў. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 2003 г. 5 гаспадарак, 10 жыхароў.

**ГАРБОЎШЧЫНА** — вёска ў Нястанавіцкім с/с, за 48 км на ПнЗ ад Лагойска, 82 км ад Мінска, 32 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2010).

У 1800 г. засценак, 2 двары, 14 жыхароў У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Нястанавічы ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. 13 сял. душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыка Б.Асцімскага. У 1870 г. 45 сял. душ мужчынскага полу, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 18 двароў, 112 жыхароў. У 1905 г. 6 гаспадарак вёскі, якія валодалі 83,4 дзес. зямлі, уваходзілі ў Нястанавіцкую сельскую грамаду. У 1909 г. 17 двароў, 83 жыхары. У 1917 г. 116 двароў, 67 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Завішынскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 95 двароў, 140 жыхароў, у вёсцы створаны калгас імя СНК БССР. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 35 двароў, 140 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 1 двор, 5 вяскоўцаў вывезлі ў Германію. З 16.7.1954 г. ў Нястанавіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 23 двары, 68 жыхароў. У 2003 г. 13 гаспадарак, 17 жыхароў.

**ГАРЭЛАЕ** — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 54 км на Пн ад Лагойска, 93 км ад Мінска, 39 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Полацк—Маладзечна. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска, уласнасць памешчыкаў Валовічаў у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 7 двароў, 41 жыхар, уладанне шляхціцаў М.Валовіча і Ф.Галінскага. У 1833 г. ў складзе фальварка Генрыхполле маёнтка Акалова. У 1846 г. 5 двароў, уладанне прадвадзіцеля дваранства Барысаўскага павета І.Валовіча. У 1870 г. 49 сял. душ, у Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 34 двары, 204 жыха-

ры, у Восаўскай вол. Барысаўскага павета. У 1909 г. 26 двароў, 131 жыхар. У 1917 г. 69 двароў, 364 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. 17 двароў, 85 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 4 жыхароў вывезлі ў Германію. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 17 двароў, 89 жыхароў. У 2003 г. 12 гаспадарак, 28 жыхароў.

**ГАСЦІЛАВІЧЫ** — вёска ў Лагойскім с/с, за 3 км на У ад Лагойска, 42 км ад Мінска, 28 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). 201 гаспадарка, 584 жыхары (2010).

У пісьмовых крыніцах вёска згадваецца ў 14 ст. як маёнтак у Лагожскім удзельным княстве. У 1395 г. вял. кн. ВКЛ Вітаўт падараваў Гасцілавічы віленскаму ваяводу Войцеху Манівіду, што ў 1407 г. было пацверджана навечна. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, уладанне А.Тызенгаўза. Паводле рэвізіі 1795 г. 23 двары, 170 жыхароў. У 1800 г. 29 двароў, 170 жыхароў, уладанне Тышкевічаў. У 1811 г. 81 рэвізская душа мужчынскага полу, уладанне графа П.Тышкевіча. У 1833 г. вёска ў складзе маёнтка Лагойск. У 1844 г. 16 двароў, 102 жыхары, уласнасць графа К.Тышкевіча, мелася карчма, прыбытак з якой складаў 90 руб. серабром. У 1870 г. 73 рэвізскія душы мужчынскага полу, пры р. Гайна, у Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Вяскоўцы былі прыхаджанамі Лагойскага праваслаўнага прыхода Мікалаеўскай царквы. У 1897 г. 35 двароў, 251 жыхар. У пач. 20 ст. цэнтр Гасцілавіцкай сельскай грамады, у якую ўваходзілі 18 гаспадарак, што мелі 237,4 дзес. зямлі. У 1912 г. дзейнічала нар. аднакласнае вучылішча. У 1917 г. 44 двары, 256 жыхароў, на базе нар. вучылішча адкрыта пач. школа. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.10.1924 г. ў Лагойскім с/с Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1930 г. арганізаваны калгас «Прафінтэрн», працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 90 двароў, 450 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 2 двары, загубілі 4 жыхароў, 15 вывезлі ў Германію. 36 вяскоўцаў загінулі на фронце, 11 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 120 двароў, 391 жыхар. З 1.8.2011 г. аграгарадок. У вёсцы размешчаны цэнтр с.-г. комплекса СП «Лагойскі», Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін.

**ГЛЕБАЎШЧЫНА** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 46 км на ПнУ ад Лагойска, 95 км ад Мінска, 76 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Цна (прыток р. Гайна). 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

У 1800 г. 31 двор, 198 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У пач. 19 ст. шляхецкая ўласнасць. У 1-й пал. 19 ст. фальварак у складзе маёнтка Прусавічы. Паводле 8-й рэвізіі 1833 г. ў вёсцы 89 рэвізскіх душ мужчынскага і 89 жаночага полу. У 1846 г. ўласнасць памешчыкаў Рагоўскіх. У 1870 г. 83 душы мужчынскага полу. Адносілася да праваслаўнага прыхода Мікалаеўскай царквы. У 1897 г. 56 двароў, 355 жыхароў, кузня, хлебазапасны магазін, у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1906 г. 22 гаспадаркі ўваходзілі ў Прусавіцкую сельскую грамаду, якая валодала 519,8 дзес. зямлі. У 1909 г. 15 двароў, 129 жыхароў. У 1917 г. 18 двароў, 98 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай

Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Прусавіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 69 двароў, 375 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 75 двароў, 295 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 36 двароў, загубілі 19 жыхароў, 25 вяскоўцаў вывезлі ў Германію. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1965 г. 56 двароў, 165 жыхароў. З 30.1.1976 г. ў Акалоўскім с/с. У 2003 г. 20 гаспадарак, 30 жыхароў.

**ГЛУБАЧАНЫ** — вёска ў Зарэчанскім с/с, за 54 км на ПнЗ ад Лагойска, 93 км ад Мінска, 45 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 27 гаспадарак, 52 жыхары (2010).

У канцы 19 ст. вёска пры р. Ілія, у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Побач размяшчаўся фальварак, які належаў памешчыку Ульянаву. Меўся хлебазапасны магазін. У 1905 г. 251 жыхар, да вёскі адносіліся 194 дзес. зямлі; у фальварку 29 жыхароў, памешчыку належалі 547 дзес. зямлі. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. ў вёсцы 40 двароў, 238 жыхароў, на хутары 6 двароў, 41 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Запольскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 45 двароў, 192 жыхары. Побач знаходзіўся хутар, 13 двароў, 67 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас імя Ф.Энгельса. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 47 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 18 двароў, загубілі 27 жыхароў, 17 вывезлі ў Германію. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 34 двары, 126 жыхароў. У 2003 г. 35 гаспадарак, 70 жыхароў.

**ГОРНА** — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 52 км на ПнУ ад Лагойска, 91 км ад Мінска, 35 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Полацк—Маладзечна. 28 гаспадарак, 46 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах згадваецца з 1605 г. як сяло ў ВКЛ. У 1646 г. сяло, 28 двароў, уладанне Я.Галецкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 — 25 двароў, 156 жыхароў, драўляная ўніяцкая капліца, уладанне М.Валовіча, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1811 г. 65 душ мужчынскага полу. У 1830 г. ў складзе фальварка Задор'е маёнтка Акалова. У 1846 г. вёска, 18 двароў, уласнасць прадвадзіцеля дваранства Барысаўскага павета І.Валовіча. У 1864 г. пабудавана драўляная праваслаўная Благавешчанская царква. У 1870 г. сяло (95 сял. душ) і вёска (16 сял. Душ), у Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1886 г. сяло, 52 двары, 328 жыхароў, на р. Лонь, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, 2 крамы, карчма, царква. У 1890 г. адкрыта школа граматы, у якой вучыліся 7 хлопчыкаў. У 1895 г. ў лесе за 3 км ад вёскі, каля крыніцы, якая шанавалася як цудадзейная, існавала капліца. У 1897 г. 328 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, 2 крамы, піцейны дом, у Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1905 г. 21 гаспадарцы сяла належалі 555,6 дзес. зямлі, 4 гаспадаркі в. Горна валодалі 58,1 дзес. зямлі, уваходзілі ў Горнаўскую сельскую грамаду. У 1909 г. ў сяле 61 двор, 314 жыхароў, у 1917 г. ў сяле 64 двары, 385 жыхароў, у вёсцы 15 двароў, 51 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. сяло, цэнтр Горнаўскага с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 96 два-

роў, 435 жыхароў, у пасёлку Горна-Новае 4 двары, 20 жыхароў. Быў створаны калгас «Перадавік». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 70 двароў, 262 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 30 двароў, загубілі 7 жыхароў, 7 вывезлі ў Германію. 30 вяскоўцаў загінулі на фронце, 14 – у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 2 партызаны і 1 сав. воін. З 16.7.1954 г. ў складзе Задор'еўскага с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 90 двароў, 292 жыхары. У 2003 г. 43 гаспадаркі, 74 жыхары.

**ГРАМНІЦЫ** – вёска ў Гайненскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Лагойска, 49 км ад Мінска, 40 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 21 гаспадарка, 36 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска, уласнасць коранскага касцёла ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1761 сяло, 13 дымоў, у складзе маёнтка Малы Корань, у пасесіі ксяндза К.Празары. У 1800 г. 12 двароў, 115 жыхароў, у складзе маёнтка Чырвоны Бор, уладанне мінскага ген.-губернатара І.М.Няплюева. Паводле рэвізіі 1811 г. 12 двароў, 115 жыхароў. У 1846 г. 18 двароў, 123 жыхары, уласнасць памешчыка К.Чудакоўскага. У 1870 г. вёска, 58 сял. душ мужчынскага полу, у маёнтку Чырвоны Бор, уладанне А.Чудакоўскага. У 1897 г. 28 двароў, 209 жыхароў, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 38 двароў, 226 жыхароў. У 1917 г. 47 двароў, 292 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Коранскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 50 двароў, 247 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 12 двароў, загубілі 8 жыхароў, 11 вывезлі ў Германію. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 – у партыз. барацьбе. У 1969 г. 52 двары, 160 жыхароў. У 2003 г. 27 гаспадарак, 52 жыхары.

**ГРЫНЕВІЧЫ** – вёска ў Крайскім с/с, за 60 км на ПнУ ад Лагойска, 99 км ад Мінска, 40 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк–Маладзечна, на р. Крайшчанка (прыток р. Вілія). 27 гаспадарак, 54 жыхары (2010).

У пісьмовых крыніцах упершыню згадваюцца як сяло ў 16 ст. ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1582 г. ў складзе маёнтка Крайск, уласнасць С.Збаражскага. У 1590 г. 17 дымоў, уладанне Насілоўскай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 20 двароў, 274 жыхары, уладанне каталіцкай царквы. У 19 ст. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка, уласнасць памешчыкаў Таразевічаў у Вілейскім павеце Віленскай губ., мелася мураваная праваслаўная царква. У 1905 г. вёска, 424 жыхары, маёнтак, 19 жыхароў, уласнасць Таразевічаў, якія валодалі 280 дзес. зямлі. У 1917 г. 61 двор, 341 жыхар, у маёнтку 3 двары, 33 жыхары. Мелася мураваная праваслаўная царква. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Крайскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. было 65 двароў, 324 жыхары. У 1930 г. створаны калгас «Звязда», працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 92 двары, 382 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 36 двароў, загубілі 39 жыхароў, 39 вывезлі ў Германію. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 – у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 81 двор, 276 жыхароў. Ра-



П.М.Бахараў.

дзіма Героя Сав. Саюза П.М.Бахарава (1920—87).

**ГУБА** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 49 км на ПнУ ад Лагойска, 88 км ад Мінска, 86 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. У вёсцы ніхто не жыве.

Вёска згадваецца ў 1566 г. як маёнтак у акце пры размежаванні зямель капітульных вёсак з суседнімі маёнткамі (у тым ліку і маёнтка Губа). Уласнасць буйнога феадала В.Тышкевіча ў Мінскім павеце і ваяв. ВКЛ. У 1567 г. згадваецца ў попісе войска ВКЛ як сяло, дзе размяшчаўся двор В.Тышкевіча, які ў 1570 г. ён завяшчаў свайму сыну Юрыю. У канцы 18 ст. ўласнасць дамініканскага касцёла Хатаевіцкай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 5 двароў, 41 жыхар, вадзяны млын. У пач. 19 ст. вёска, 5 двароў, 41 жыхар, уладанне С.Тышкевіча, працаваў млын. Паводле рэвізіі 1811 г. сяло, 45 душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыка І.Кавярскага. У 1851 г. ўласнасць двараніна Дзеражынскага. У 1870 г. ў фальвараку Губа 3 двары, 24 жыхары, уласнасць памешчыка Нагоскага. Вяскоўцы адносіліся да Прусавіцкага прыхода Мікалаеўскай праваслаўнай царквы. У 1897 г. вёска (16 двароў, 96 жыхароў) і фальварак (3 двары, 24 жыхары), у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 17 двароў, 100 жыхароў. У 1917 г. 17 двароў, 105 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прусавіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 20 двароў, 97 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 18 двароў, 85 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 4 двары, загубілі 6 жыхароў, 18 вывезлі ў Германію. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 13 двароў, 36 жыхароў. У 2003 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар.

**ГУБЕНІЧЫ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Лагойска, 60 км ад Мінска. У вёсцы ніхто не жыве.

У 1800 г. засценак, 5 двароў, 40 жыхароў. У пач. 19 ст. вёска, уласнасць памешчыкаў Валодзькавічаў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1816 г. 19 душ мужчынскага полу, уладанне Ігната, Вікенція і Іосіфа Валодзькавічаў у арэндзе І.Кудзіновіча. Паводле рэвізіі 1858 г. 17 душ мужчынскага полу, у Айнаравіцкай вол. Барысаўскага павета. У 1870 г. вёска аднайменнага маёнтка, уласнасць памешчыка І.Дзедзіцкага. У 1879 г. адносілася да Янушкавіцкага праваслаўнага прыхода царквы Раства Багародзіцы. У 1897 г. вёска (76 жыхароў) і фальварак (1 двор, 5 жыхароў) у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. 6 гаспадарак, якім належалі 52 дзес. зямлі, уваходзілі ў Янушкавіцкую сельскую грамаду. У 1909 г. 14 двароў, 93 жыхары. У 1917 г. 16 двароў, 100 жыхароў. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Янушкавіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., дзейнічала сталярная майстэрня. У 1941 г. 25 двароў, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1969 г. 28 двароў, 79 жыхароў.

**ДАБРЭНЕВА** — вёска ў Лагазінскім с/с, за 5 км на ПнЗ ад Лагойска, 44 км ад Мінска, 30 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). 25 гаспадарак, 48 жыхароў (2010).

Згадваецца ў акце 1566 г. размежавання лагойскіх зямель з землямі віленскага капітула. У 1596 г. вёска, 2 дымы, 7 жыхароў мужчынскага полу, у складзе маёнтка Сялец, уласнасць К.Тамковіча,

у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1600 г. сяло, уласнасць пана Тышкевіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. вёска і фальварак Дабрэнеў, 12 двароў, 95 жыхароў, пры р. Гайна, уласнасць Лагойскага каталіцкага прыхода. Меўся вадзяны млын на р. Гайна, на дарозе пры ўездзе ў вёску размяшчалася карчма. У 1800 г. в. Дабрынёў, 12 двароў, 95 жыхароў, вадзны млын, карчма, побач аднайменны фальварак, уладанне лагойскай каталіцкай плябаніі. Паводле рэвізіі 1811 г. 35 сял. душ мужчынскага полу. У 1843 г. маёнтак, 10 двароў, уладанне Лагойскай каталіцкай плябаніі, меліся хлебазапасны магазін, вадзяны млын. У 1865 г. адносілася да праваслаўнага прыхода царквы Праабражэння. У 1870 г. 25 душ мужчынскага полу, у складзе маёнтка Астрошыцы, уласнасць графа М.Тышкевіча, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1890 г. ў вёсцы працавала школа граматы, у якой вучыліся 11 хлопчыкаў, меўся хлебазапасны магазін. У 1897 г. 39 двароў, 247 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Гайненскай сельскай грамады. У 1905 г. ў яе ўваходзілі 2 гаспадаркі, якім належалі 92,8 дзес. зямлі. У 1909 г. 49 двароў, 274 жыхары. У 1917 г. 56 двароў, 316 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 29.10.1924 г. ў Кузевіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. працавалі калёсная і кавальская майстэрні. У 1930 г. створаны калгас «Камуніст», працавалі кузня, сталярная майстэрня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 66 двароў, 285 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі яе, загубілі 14 жыхароў, 4 вяскоўцаў вывезлі ў Германію. 14 чал. загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адноўлена. У 1969 г. 54 двары, 177 жыхароў.

**ДАЛЬКАВІЧЫ** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 47 км на ПнУ ад Лагойска, 86 км ад Мінска, 84 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 10 гаспадарак, 21 жыхар (2010).

Маёнтак Далькавічы згадваецца ў 1540 г. ў сувязі са спрэчкамі паміж суладальнікамі ў ВКЛ. У 1-й пал. 16 ст. двор Далькавічы купіў смаленскі ваявода, мінскі і пінскі стараста В.Тышкевіч. У 1567 г. Далькавічы згадваюцца ў попісе войска ВКЛ. У 1570 г. двор Далькавічы В.Тышкевіч завяшчаў свайму сыну Юрыю. У канцы 18 ст. ўласнасць дамініканскага касцёла Хатаевіцкай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 11 двароў, 53 жыхары, гаспадарскі драўляны дом. Паводле рэвізіі 1816 г. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка, 41 душа мужчынскага полу, належала памешчыку І.Каварскаму. У 1858 г. 52 рэвізскія душы мужчынскага полу. У 1865 г. маёнтак, уласнасць памешчыка І.Кукевіча, які валодаў 1269 дзес. зямлі, меў 2 карчмы. У 1870 г. вёска, 60 рэвізскіх душ мужчынскага полу маёнтка Далькавічы, у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Меўся хлебазапасны магазін. Вёска адносілася да Прусавіцкага праваслаўнага прыхода Мікалаеўскай царквы, тут размяшчалася прыпісная царква Прусавіцкага прыхода. У 1897 г. 33 двары, 219 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. цэнтр Далькавіцкай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 12 далькавіцкіх гаспадарак, што валодалі 294,7 дзес. зямлі. У 1909 г. 29 двароў, 212 жыхароў. У 1910 г. адкрыта земскае нар. вучылішча, для якога ў 1914 г. пабудавана памяшканне. У 1918 г. на базе нар.

вучылішча створана пач. школа, у якой у 1924 г. вучыліся 107 дзяцей (90 хлопчыкаў, 17 дзяўчынак) з Далькавіч і навакольных вёсак Губа, Чарніца, Забалоцце і засценка Тарасіно. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прусавіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 42 двары, 184 жыхары. Побач размяшчаўся хутар, 23 двары, 144 жыхары. Быў арганізаваны калгас імя К.Маркса, працавала сталярная майстэрня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 45 двароў, 180 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 18 двароў, загубілі 5 жыхароў, 15 вывезлі ў Германію. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 37 двароў, 138 жыхароў. З 30.1.1976 г. ў Акалоўскім с/с. У 2003 г. 13 гаспадарак, 28 жыхароў.

**ДАМАШЫ** – вёска ў Гайненскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Лагойска, 54 км ад Мінска, 45 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 15 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска і аднайменны фальварак у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. вёска ў Айнаравіцкай вол. У 1919 г. ў БССР. У 1923 г. ў вёсцы адкрыта школа, якая размяшчалася ў сял. хаце, яе наведвалі дзеці з 7 навакольных вёсак. Навучанне вялося на польскай, бел. і рус. мовах. З 20.8.1924 г. ў Гайненскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На базе фальварка створаны калгас «Пралетарый». У 1941 г. 37 двароў, 177 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 4 двары, загубілі 4 жыхароў, 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1969 г. 62 двары, 184 жыхары. У 2003 г. 30 гаспадарак, 51 жыхар.

**ДАШКІ** – вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 37 км на ПнЗ ад Лагойска, 76 км ад Мінска, 80 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

У 1760 вёска, 4 двары, шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ваколіца, 9 двароў, уласнасць Страмбіцкага. У 1800 г. 9 двароў, 66 жыхароў, ва ўладанні Страмбіцкага. У пач. 20 ст. ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1905 г. назву Дашкі мелі: вёска (68 жыхароў, 40 дзес. зямлі), вёска (153 жыхары, 92 дзес. зямлі), сядзіба (3 жыхары, 43 дзес. зямлі), фальварак (19 жыхароў, 39 дзес. зямлі), уласнасць Вальчэўскай; фальварак (16 жыхароў, 60 дзес. зямлі), і сядзіба (9 жыхароў), уласнасць памешчыцы Трамбіцкай; сядзіба (6 жыхароў, 38 дзес. зямлі), уласнасць Сурынтаў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. в. Дашкі 1 (23 двары, 139 жыхароў) і в. Дашкі 2 (19 двароў, 90 жыхароў) у Хаценіцкай вол. У 1941 г. 17 двароў, 101 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 4 двары, загубілі 1 жыхара, 1 вывезлі ў Германію. 2 вяскоўцы загінулі на фронце, 1 – у партыз. барацьбе. У 1969 г. 19 двароў, 61 жыхар. У 2003 г. 10 гаспадарак, 11 жыхароў.

**ДЗВІНАСА** – вёска ў Задор'еўскім с/с, за 72 км на ПнУ ад Лагойска, 111 км ад Мінска, 36 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Полацк–Маладзечна, на р. Дзвінаса (прыток р. Вілія). 15 гаспадарак, 22 жыхары (2010).

Вядома з 16 ст. Згадваецца ў 1594 г. ў інвентары маёнтка Нястанавічы як сяло ў ВКЛ. У 1678 г. ўласнасць пана І.Пузы-

ны. У 1710 г. вёска, 6 двароў і фальварак К.Друцкага-Саколінскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1886 г. вёска, 13 двароў, 137 жыхароў, у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., праваслаўная царква. У пач. 20 ст. цэнтр сельскай грамады. У 1905 г. 298 жыхароў, 280 дзес. зямлі, побач знаходзіўся аднайменны фальварак, 46 жыхароў, які належаў графу Тышкевічу, што валодаў 1484 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 49 двароў, 280 жыхароў, у Барысаўскім павеце. З 20.8.1924 г. ў Крайскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 50 двароў, 237 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя ЦК ЛКСМБ. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 37 двароў, 181 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі яе (37 двароў), загубілі 2 жыхароў, 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. У баях за вызваленне вёскі загінулі 19 партызан. З 16.7.1954 г. ў складзе Задор'еўскага с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 37 двароў, 170 жыхароў. У 2003 г. 23 гаспадаркі, 38 жыхароў. На могілках Троіцкая царква (1990-я г.).

**ДЗЕРАЎНО** — вёска ў Крайскім с/с, за 52 км на ПнЗ ад Лагойска, 91 км ад Мінска, 45 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 22 гаспадаркі, 38 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 16 ст. ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1595 г. мястэчка, уласнасць трокскага ваяводы Мікалая Крыштофа Радзівіла. У 1602 г. фальварак Дзераўна згадваецца ў складзе маёнтка Крайск. У 1678 г. двор Дзераўна, уласнасць пана І.Пузыны. У 18 ст. вёска адносілася да каталіцкай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1880 г. дзярж. уладанне, 23 двары, 299 жыхароў, у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., праваслаўная царква. У 1886 г. адкрыта школа граматы. У пач. 20 ст. 342 жыхары, 525 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Крайскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 69 двароў, 299 жыхароў, у 1930 г. створаны калгас «Асветнік», працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 60 двароў, 237 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 25 двароў, 18 жыхароў вывезлі ў Германію. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце, 8 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 54 двары, 116 жыхароў.

**ДЗЯНІСКІ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Лагойска, 66 км ад Мінска, 67 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

У 1758 г. вёска, 11 двароў, шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 13 двароў, 77 жыхароў, уладанне І.Юдзіцкага. У 1866 г. ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1905 г. 187 жыхароў, да вёскі адносіліся 242 дзес. зямлі. Побач размяшчалася сядзіба Дзяніскі (7 жыхароў), што належала Чаховічу, які меў 4,5 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 43 двары, 227 жыхароў, у Хацевіцкай вол. Мінскага павета. З 20.8.1924 г. ў Бясядаўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. Меліся кузня,

шавецкая майстэрня. У 1941 г. 35 двароў, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 15 двароў, загубілі 2 жыхароў, 12 вывезлі ў Германію. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. ў Янушкавіцкім с/с. У 1969 г. 26 двароў, 75 жыхароў. У 2003 г. 11 гаспадарак, 13 жыхароў.

**ДРЫЛА 1-я** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Лагойска, 76 км ад Мінска. 19 гаспадарак, 51 двор (2010).

У 18 ст. вёска, уласнасць дамініканскага хатаевіцкага касцёла, у Хатаевіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1800 г. 16 двароў, 114 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. Пазней вёска падзялілася на 2: Дрыла-1 і Дрыла-2. У 1870 г. 16 сял. душ мужчынскага полу, цэнтр аднайменнага маёнтка, які належаў протаіерэю К.Шышку, размяшчаўся хлебазапасны магазін. У 1897 г. вёска, маёнтак, фальваркі ў Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Хатаевіцкай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 5 гаспадарак, што валодалі 64,8 дзес. зямлі. У 1905 г. 23 двары, 148 жыхароў. У 1917 г. 22 двары, 131 жыхар. Побач знаходзіўся фальварак, 1 двор, 18 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Хатаевіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай (да 9.6. 1927 г.), затым Мінскай (да 26.7.1930 г.) акруг. У 1926 г. 19 двароў, 92 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 21 двор, 69 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 5 вяскоўцаў вывезлі ў Германію. 6 жыхароў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 25 гаспадарак, 74 жыхары. У 2003 г. 25 гаспадарак, 65 жыхароў.

**ДРЫЛА 2-я** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 38 км на ПнЗ ад Лагойска, 78 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 16 жыхароў (2010).

У 1-й пал. 18 ст. вёска, вотчынная ўласнасць памешчыкаў Яноўскіх у ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1833 г. 25 рэвізскіх душ (15 мужчын, 10 жанчын). У 1844 г. вёска, 31 сял. душа, уласнасць Н.Яноўскай. У 1870 г. 11 двароў, 17 душ мужчынскага полу. У 1875 г. ўласнасць памешчыцы Казакевічавай, якой належала 179 дзес. зямлі. У 1905 г. 6 сял. гаспадарак, якім належалі 91,6 дзес. зямлі, уваходзілі ў Хатаевіцкую сельскую грамаду. У 1917 г. 11 двароў, 80 жыхароў, у фальварку 2 двары, 17 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. ў б. фальварку адкрыта школа, якую наведвалі дзеці з 6 населеных пунктаў. З 20.8.1924 г. вёска ў Хатаевіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай (да 9.6.1927 г.), потым Мінскай (да 26.7.1930 г.) акруг. У 1926 г. 39 двароў, 147 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 27 двароў, 97 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 4 жыхароў вывезлі ў Германію, 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 31 двор, 109 жыхароў. У 2003 г. 11 гаспадарак, 19 жыхароў.

**ДУБНІЦА** — вёска ў Бяларуцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Лагойска, 19 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 25 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска, уласнасць памешчыкаў Тышкевічаў, у Мінскіх павеце і губ. Паводле рэвізіі 1811 г. 14 сял. душ мужчынскага полу, уладанне графа І.Тышкевіча. У 1833 г. ў складзе маёнтка Гарадок. У 1846 г. 4 двары, 32 жыхары, меўся млын. У 1870 г. 12 сял. душ мужчынска-

га полу, уласнасць графа М.Тышкевіча, у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1909 г. 11 двароў, 60 жыхароў. У 1917 г. 15 двароў, 101 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Бяларуцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 11 двароў, 53 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 1 двор, загубілі 3 жыхароў. 3 вяскоўцы загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 21 двор, 60 жыхароў.

**ДУНАІ** — вёска ў Зарэчанскім с/с, за 56 км на ПнЗ ад Лагойска, 95 км ад Мінска, 38 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2010).

У пач. 18 ст. маёнтак, уласнасць смаленскага кашталяна К.Друцкага-Саколінскага, у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1706 г. было 3 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 6 двароў, 28 жыхароў, уладанне каталіцкай царквы шляхціца Багдановіча. У 1880 г. вёска, 8 двароў, 93 жыхары, у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1905 г. ў вёсцы 111 жыхароў, 57 дзес. зямлі. Маёнтак, 7 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1917 г. вёска ў Крайскай вол. Барысаўскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 20 двароў, 81 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Запольскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. назву Дунаі мелі вёска (15 двароў, 70 жыхароў) і хутар (3 двары, 18 жыхароў). У 1930 г. арганізаваны калгас «Зара Саветаў», працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 22 двары, 85 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1943 г. акупанты спалілі (22 двары), загубілі 48 жыхароў, 5 вывезлі ў Германію. 1 вясковец загінуў на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны адноўлена. З 16.7.1954 г. ў Нястанавіцкім, з 25.12.1962 г. ў Зарэчанскім с/с Лагойскага р-на. У 1969 г. 8 двароў, 33 жыхары. У 2003 г. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў.

**ЖАБІЧЫ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 40 км на ПнЗ ад Лагойска, 79 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 8 двароў, 59 жыхароў, уласнасць памешчыка Стральбіцкага. У 1806 г. тут засн. гута, у 1842 г. выпускаліся шкляныя вырабы на суму 240 рублёў, якія збываліся на месцы і ў межах губерні. У пач. 20 ст. вёска ў Хаценіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1905 г. гэту назву мелі населеныя пункты: вёска (119 жыхароў, 163 дзес. зямлі); сядзіба Чаховіча (178 жыхароў, 20 дзес. зямлі), тут размяшчалася гута; сядзіба Жабічы (або Старая Гута; 50 жыхароў), уласнасць Чаховіча; засценак Жабічы (або Рубеж; 17 жыхароў, 4,5 дзес. зямлі), тут размяшчаўся дзегцярны з-д, таксама ўласнасць Чаховіча. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. ў вёсцы адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, навучанне вялося на бел. мове. У 1924 г. ў школе вучыліся 187 дзяцей з Жабіч і 5 з навакольных вёсак. З 20.8.1924 г. вёска ў Бясядаўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., меліся смалакурны і шкіпінарны з-ды, сталярная майстэрня, у засценку размяшчаліся кравецкая і шавецкая майстэрні. У 1941 г. 33 двары, 153 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана

ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 20 двароў, 3 жыхары загінулі на фронце, 2 вяскоўцы ў партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. ў Янушкавіцкім с/с. У 1969 г. 12 двароў, 46 жыхароў. У 2003 г. 11 гаспадарак, 30 жыхароў.

**ЖАЛУДОЎШЧЫНА** — вёска ў Лагойскім с/с, за 4 км на ПнЗ ад Лагойска, 43 км ад Мінска, 30 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

У 1941 г. 20 двароў, 105 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. 1943 г. акупанты амаль усю яе спалілі (18 двароў), загубілі 20 жыхароў. 4 вяскоўцы загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адноўлена. У 1969 г. 20 двароў, 78 жыхароў. У 2003 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў.

**ЖАЛУДЫ** — вёска ў Каменскім с/с, за 47 км на ПнУ ад Лагойска, 54 км ад Мінска. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 14 двароў, 29 жыхароў мужчынскага полу ва ўладанні шляхціца В.Свянціцкага. У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Чмялевічы ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1811 г. 27 рэвізскіх душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыка Свянціцкага. На кожную рэвізскую душу прыпадала 5 дзес. 502 сажні зямлі. У 1846 г. 4 двары, 31 жыхар, уладанне памешчыцы Г.Чмыхавай. У 1870 г. вёска, 14 сял. душ мужчынскага полу, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 10 двароў, 80 жыхароў. У пач. 20 ст. 4 гаспадаркі, якім належалі 102 дзес. зямлі, уваходзілі ў Закалюжскую сельскую грамаду. У 1909 г. 10 двароў, 92 жыхары. У 1917 г. 13 двароў, 86 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Каменскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930). У 1926 г. 14 двароў, 97 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 18 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну вёска была знішчана, гітлераўцы загубілі 2 жыхароў, 2 вывезлі ў Германію. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адноўлена. У 1969 г. 22 двары, 82 жыхары.

**ЖАРДЗЯЖЖА** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 39 км на Пн ад Лагойска, 88 км ад Мінска, 67 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 22 гаспадаркі, 39 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска і фальварак Жардзяжжа, уласнасць шляхціцаў Валовічаў. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 69 жыхароў, драўляная капліца, уладанне М.Валовіча. Паводле рэвізіі 1811 г. вёска, 49 душ мужчынскага полу, уласнасць прадвадзіцеля дваранства Барысаўскага павета І.Валовіча. У 1833 г. вёска, цэнтр аднайменнага фальварка, у складзе маёнтка Акалова. У 1846 г. ўласнасць І.Валовіча. У склад фальварка ўваходзілі вёскі Пячное, Харошае і засценак Жардзяжжа. У фальварку паводле інвентару 1846 г. 190 сял. душ. У засценку Жардзяжжа 2 двары, 16 жыхароў. У 1897 г. ў вёсцы 14 двароў, 90 жыхароў, у маёнтку 2 двары, 26 жыхароў, у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У канцы 19 ст. пабудавана з цэглы і бутавага каменю капліца. У 1905 г. гаспадаркі, якія мелі 59,9 дзес. зямлі, уваходзілі ў Харошынскую сельскую грамаду. Маёнтак належаў памешчыку Корбут-Дашкевічу. У 1909 г. ў вёсцы 14 двароў, 136 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 29 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 16 двароў, 81 жыхар, у маёнтку 1 двор, 50 жыхароў. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. ў маёнтку адкрыта пач. школа, якую наведвалі дзеці з вёсак Жардзяжжа, Пячное, Жасцінае і хутара Жардзяжжа. Навучанне вялося на рус. і бел. мовах. З 20.8.1924 г. вёска ў Акалоўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з

9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 20 двароў, 116 жыхароў, на хутары 15 двароў, 71 жыхар. У вёсцы быў створаны калгас імя Домбаля. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 39 двароў, 175 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 5 жыхароў, 22 вывезлі ў Германію. 3 вяскоўцы загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 41 двор, 130 жыхароў. У 2003 г. 30 гаспадарак, 53 жыхары. На паўн.-зах. ускраіне вёскі размешчана капліца — помнік архітэктуры неакласіцызму.

**ЖАСЦІНАЕ** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 38 км на Пн ад Лагойска, 77 км ад Мінска, 67 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 96 гаспадарак, 259 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў складзе маёнтка Акалова, уласнасць Валовічаў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 17 двароў, 60 жыхароў ва ўладанні М.Валовіча. У 1846 г. вёска, 14 двароў, уласнасць прадвадзіцеля дваранства Барысаўскага павета І.Валовіча. У 1876 г. ўладанне памешчыка С.Кербедзя. У 1897 г. 50 двароў, 336 жыхароў, у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1905 г. 24 гаспадаркі вёскі ўваходзілі ў Хацімскую сельскую грамаду, ім належалі 515,2 дзес. зямлі. У 1909 г. 61 двор, 452 жыхары, у 1912 г. адкрыта аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. 69 двароў, 425 жыхароў. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Акалоўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 72 двары, 382 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 89 двароў, 372 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 4 двары і загубілі 10 жыхароў, 26 вывезлі ў Германію. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 109 двароў, 341 жыхар. У вёсцы размешчаны Дом культуры, б-ка, педагагічны комплекс дзіцячы сад—базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі.

**ЖЫЛІЧЫ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Лагойска, 55 км ад Мінска, 54 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. У вёсцы ніхто не жыве.

Вядомы з 16 ст. Згадваюцца ў 1560 г. ў сувязі з размежаваннем маёнтка Сліжын з Гайненскім староствам у ВКЛ. У 1681 г вёска, 3 двары, уласнасць казны. У 1764 г. вёска, 3 двары, 11 жыхароў, дзярж. ўласнасць у Мінскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 3 двары, 18 жыхароў, уладанне Валодзькавічаў. У 1816 г. 13 душ мужчынскага полу. У 1885 г. 4 двары. У 1897 г. вёска, 10 двароў, 72 жыхары, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Адносілася да Гайненскай сельскай грамады. У 1905 г. ў яе ўваходзілі 7 гаспадарак, ім належалі 102 дзес. зямлі. У 1909 г. 12 двароў, 82 жыхары. У 1917 г. 4 двары, 35 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў складзе Янушка-



*Капліца ў в. Жардзяжжа.*

віцкага с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 18 двароў, 33 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1969 г. 14 двароў, 23 жыхары.

**ЖЫРБЛЕВІЧЫ** – вёска ў Гайненскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Лагойска, 47 км ад Мінска, 48 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

Згадваецца ў 1761 г. як вёска, 8 дымоў, у інвентары маёнтка Малы Корань. У 18 ст. вёска, у пасесіі ксяндза К.Празера, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 9 двароў, 46 жыхароў у складзе маёнтка Чырвоны Бор, уласнасць мінскага ген.-губернатара І.М.Няплюева. Паводле рэвізіі 1816 г. 39 душ мужчынскага полу. Паводле інвентару 1846 г. 12 двароў, 108 жыхароў, уладанне памешчыка К.Чудоўскага, мелася карчма. У 2-й пал. 19 ст. пабудавана капліца. У 1861 г. 79 сял. душ мужчынскага полу, у маёнтку Чырвоны Бор, уладанне А.Чудоўскага. У 1897 г. 29 двароў, 206 жыхароў, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 35 двароў, 245 жыхароў. У 1917 г. 41 двор, 230 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Коранскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 52 двары, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі 6 жыхароў у Германію. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 24.5.1960 г. ў Гайненскім с/с. У 1969 г. 85 двароў, 104 жыхары. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы Я.А.Шупляка (н. 1939).

**ЗААЗЕР'Е** – вёска ў Лагойскім с/с, за 3 км на ПдУ ад Лагойска, 42 км ад Мінска, 25 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 65 гаспадарак, 162 жыхары (2010).

У пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца як маёнтак ва ўдзельным Лагожскім княстве. У 1-й пал. 15 ст. маёнтак, уладанне пана С.Доргевіча ў ВКЛ, у 1448 г. ўласнасць яго сына Алехны. У пач. 16 ст. буйны феадал В.Тышкевіч купіў частку двара Заазер'е ва ўдавы П.Мантыгірдавіча князёўны Г.Гальнанскай. У 1570 г. на беразе Заазерскага возера размяшчаўся палац – уласнасць сына В.Тышкевіча Астафія. У 1702 г. вёска, 7 двароў, уладанне Друцкага-Сакалінскага. У аднайменным маёнтку, які быў побач з вёскай, меліся гаспадарскі двор, млын, бровар. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 26 двароў, 218 жыхароў, фальварак, вадзяны млын, уладанне Тышкевічаў. У 18 ст. вёска, цэнтр маёнтка, уладанне віленскага каталіцкага капітула. У 2-й пал. 18 ст. ўласнасць Тызенгаўза, пазней Тышкевічаў. У 1811 г. вёска, 111 рэвізскіх душ мужчынскага полу, уладанне графа І.Тышкевіча. У 1866 г. адносілася да Лагойскага праваслаўнага прыхода Мікалаеўскай царквы. У 1870 г. 116 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1875 г. адкрыта школа граматы, меўся хлебазапасны магазін. У 1890 г. 20 двароў. У 1897 г. 52 двары, 465 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Лагойскай вол. Барысаўскага павета. У пач. 20 ст. да Загаранскай сельскай грамады адносіліся вёскі Поданкі і Заазер'е. У 1905 г. ў яе ўваходзілі 29 гаспадарак Заазер'я, якія мелі 426,5 дзес. зямлі. У 1909 г. 65 двароў, 650 жыхароў. У 1917 г. 17 двароў, 443 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. 79 двароў, 316 жыхароў. У Вял.

Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 2 двары, загубілі 6 жыхароў, 22 вывезлі ў Германію. 23 вяскоўцы загінулі на фронце, 6 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 117 двароў, 382 жыхары. У 2003 г. 76 гаспадарак, 176 жыхароў. Размешчаны магазін.

**ЗАБОР'Е** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 35 км на Пн ад Лагойска, 74 км ад Мінска, 63 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 12 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

Згадваецца ў 16 ст. ў складзе маёнтка Камень у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1595 г. маёнтак належаў зямяніну М.Лоўчычу — васалу пана С.Кішкі. У 1600 г. 145 душ мужчынскага полу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 13 двароў, 70 жыхароў, уладанне М.Валовіча. Паводле рэвізіі 1811 г. 29 душ мужчынскага полу, уласнасць прадвадзіцеля дваранства Барысаўскага павета І.Валовіча. У 1846 г. 15 двароў, 91 жыхар. У 1869 г. вёска, 87 жыхароў, у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1876 г. уладанне памешчыка Я.Русецкага, яму належалі 660 дзес. зямлі, вадзяны млын (прыбытак 30 руб.), бровар (прыбытак 400 руб.). У 1897 г. 36 двароў, 246 жыхароў. У 1905 г. 17 гаспадарак, якім належала 318,2 дзес. зямлі, уваходзілі ў Акалоўскую сельскую грамаду. У 1908 г. 37 двароў, 317 жыхароў. У 1917 г. 97 двароў, 282 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Акалоўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 48 двароў, 233 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 42 двары, 189 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 16 двароў, загубілі 2 жыхароў, 13 вывезлі ў Германію. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 40 двароў, 130 жыхароў. У 2003 г. 17 гаспадарак, 26 жыхароў.

**ЗАБЯРОЗАЎКА** — вёска ў Швабскім с/с, за 35 км на ПнУ ад Лагойска, 74 км ад Мінска, 57 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша, на р. Цна (прыток р. Гайна). 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

У 1816 г. вёска, 31 жыхар, уладанне П.Тышкевіча. У 1885 г. засценак. У 1897 г. 4 двары, 20 жыхароў, у Юр'еўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. ў засценку 7 двароў, 44 жыхары У 1917 г. 7 двароў, 57 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Моладзінскім, з 29.10. 1924 г. ў Юркавіцкім сельсаветах Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7. 1930 г.). У 1931 г. арганізаваны калгас «3-ці рашаючы», у які ўваходзілі 15 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 21 двор, 71 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 1 двор. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1969 г. 21 двор, 61 жыхар. З 22.1.2008 г. ў Швабскім с/с.

**ЗАВІШЫНА** — вёска ў Нястанавіцкім с/с, за 44 км на ПнЗ ад Лагойска, 83 км ад Мінска, 38 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 92 гаспадаркі, 252 жыхары (2010).

У 1800 г. 13 двароў, 79 жыхароў, уніяцкая драўляная капліца, уласнасць памешчыка М.Валовіча. У 19 ст. сяло, цэнтр аднайменнага маёнтка ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1816 г. вёска (46 сял. душ), уласнасць А.Валовіча, пасля яго смерці — жонкі К.Валовіч і іх малалетніх нашчадкаў Густава і Міхаіла. У маёнтку размяшчаўся бро-

вар. У 1858 г. сяло (67 сял. душ), уваходзіла ў Нястанавіцкую вол. Меўся касцёл, які ў 1860 г. перабудаваны ў праваслаўную Мікалаеўскую царкву. Яе прыхаджанамі былі жыхары 9 навакольных вёсак. У 1868 г. працавала царк.-прыходская школа. У 1886 г. сяло, 13 двароў, 134 жыхары, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 36 двароў, 261 жыхар. Побач з сялом быў маёнтак, 1 двор, 14 жыхароў. У сяле размяшчаліся хлебазапасны магазін, крама, кузня. У пач. 20 ст. ў Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1903 г. ў маёнтку засн. бровар, які належаў М.Фалькоўскай. У 1913 г. ўведзены паравы рухавік, працавала 5 рабочых. У сяле дзейнічала царк.-прыходская школа. У 1910 г. пабудавана земскае вучылішча, у якім вучыліся дзеці з 4 навакольных вёсак. З 1919 г. ў БССР. У 1923/24 навучальным годзе вучыліся 36 хлопчыкаў і 31 дзяўчынка. Навучанне вялося на польскай мове. З 20.8.1924 г. вёска, цэнтр Завішынскага с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 49 двароў, 236 жыхароў. У маёнтку было 16 двароў, 337 жыхароў. У 1930 г. ў вёсцы створаны калгас «Новы шлях», працавалі ваўначоска, ганчарная майстэрня, вадзяны млын. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 50 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 1 двор, 5 жыхароў вывезлі ў Германію. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 — у партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. ў Нястанавіцкім с/с. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 62 двары, 186 жыхароў. У вёсцы размешчаны цэнтр аддз. «Завішына» філіяла «Нястанавічы» Лагойскай МТС «Райаграсэрвіса», Дом культуры, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, б-ка.

**ЗАВІШЫНСКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Нястанавіцкім с/с, за 48 км на ПнЗ ад Лагойска, 87 км ад Мінска, 41 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна, на р. Дзвінаса (прыток р. Вілія). 14 гаспадарак, 36 жыхароў (2010).

Вёска ўзнікла ў 18 ст. Тут размяшчалася прадпрыемства па вырабе жалеза (Рудня). Побач пачалі сяліцца людзі. У 1800 г. в. Рудня, 8 двароў, 45 жыхароў, вадзяны млын, жалезаробны з-д, уласнасць М.Валовіча. У 19 ст. вёска на р. Дзвінаса ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., вадзяны млын. У 1816 г. 27 сял. душ, уласнасць памешчыка А. Валовіча. Працаваў жалезаробны з-д. У 1858 г. 38 сял. душ мужчынскага полу, у Нястанавіцкай вол. Барысаўскага павета. У 1870 г. ў вёсцы 37 рэвізскіх душ мужчынскага полу, адносілася да Нястанавіцкай сельскай грамады. У 1897 г. в. Завішынская Рудня, 27 двароў, 173 жыхары, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1905 г. ў Нястанавіцкую сельскую грамаду ўваходзілі 15 гаспадарак, якія валодалі 139,2 дзес. зямлі. У 1909 г. 33 двары, 137 жыхароў. У 1917 г. 32 двары, 179 жыхароў. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Завішынскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 36 двароў, 173 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 30 двароў, 120 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 7 двароў, загубілі 5 жыхароў, 15 вывезлі ў Германію. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 ў партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. вёска ў Нястанавіцкім с/с. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 26 двароў, 93 жыхары. У 2003 г. 19 гаспадарак, 51 жыхар, магазін.

**ЗАВОД КАВАЛЕЎШЧЫНА** — вёска ў Астрошыцкім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Лагойска, 24 км ад Мінска, 42 км

ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 7 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

У 1929 г. ва ўрочышчы Кавалеўшчына быў засн. цагельны з-д, побач з якім пачала фарміравацца вёска. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2003 г. 9 гаспадарак, 22 жыхары.

**ЗАГОР'Е** — вёска ў Лагойскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Лагойска, 58 км ад Мінска, 22 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

Вядома з 16 ст. У 1582 г. сяло, уласнасць А.Хадаркоўскага ў Мінскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У пач. 19 ст. вёска, уладанне графа І.Тышкевіча ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1811 г. 46 сял. душ мужчынскага полу. У 1847 г. фальварак Загор'е складаўся з драўлянага сядзібнага дома на мураваным падмурку, меліся свіран, аўчарня, малатарня, клець. У 1870 г. вёска на р. Гайна, 29 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. 8 двароў, 74 жыхары, хлебазапасны магазін, у Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. вёска, цэнтр Загор'еўскай сельскай грамады. У 1909 г. 11 двароў, 66 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 9 двароў, 83 жыхары, у фальварку 1 двор, 24 жыхары, на хутары 1 двор, 13 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Падонкаўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 19 двароў, 101 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе і загубілі 15 жыхароў, 6 жыхароў вывезлі ў Германію. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адноўлена. У 1969 г. 17 двароў, 78 жыхароў. У 2003 г. 7 гаспадарак, 12 жыхароў.

**ЗАГОР'Е** — вёска ў Плешчаніцкім с/с, за 32 км на Пн ад Лагойска, 81 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

Вядома з 19 ст. як дзярж. уласнасць у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1885 г. 6 двароў. У 1897 г. 6 двароў, 42 жыхары. У 1905 г. 13 загор'еўскіх гаспадарак, якім належала 158,4 дзес. зямлі, уваходзілі ў Плешчаніцкую сельскую грамаду. У 1909 г. 13 двароў, 54 жыхары. У 1917 г. 16 двароў, 97 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. 19 двароў, 96 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію 11 жыхароў. З вяскоўцы загінулі на фронце, 10 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 34 двары, 107 жыхароў. У 2003 г. 10 гаспадарак, 17 жыхароў.

**ЗАДВОРНІКІ** — вёска ў Плешчаніцкім с/с, за 41 км на ПнУ ад Лагойска, 80 км ад Мінска, 65 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

У пач. 18 ст. ўладанне шляхціца Свірскага. У 1704 г. вёска, 5 двароў, уласнасць базыльянскага жаночага манастыра Св. Духа ў Мінску. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 5 двароў, 34 жыхары. У 1833 г. ў складзе вотчыннага маёнтка Клін у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1846 г. 4 двары, 46 жыхароў, уласнасць калежскага асэсара памешчыка К.Мірскага і яго дачок Валенты і Міхаліны. У 1870 г. 14 сял. душ мужчынскага полу, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай

губ. У 1897 г. 15 двароў, 95 жыхароў. У 1905 г. 4 гаспадаркі, якім належалі 88,4 дзес. зямлі, уваходзілі ў Замастоцкую сельскую грамаду. У 1909 г. 10 двароў, 67 жыхароў. У 1917 г. 16 двароў, 94 жыхары. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. 21 двор, 86 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 2 двары, загубілі 1 жыхара. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 38 двароў, 142 жыхары. У 2003 г. 11 гаспадарак, 19 жыхароў.

**ЗАДОР'Е** — вёска, цэнтр сельсавета, за 50 км на ПнЗ ад Лагойска, 89 км ад Мінска, 35 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Полацк—Маладзечна. 119 гаспадарак, 276 жыхароў (2010).

У 1605 г. згадваецца як вёска ў ВКЛ. У 1646 уласнасць шляхціца Я.Галецкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 10 двароў, 50 жыхароў, ва ўладанні М.Валовіча. У 1-й пал. 19 ст. пад назвай Задор'е былі вёска і фальварак у складзе маёнтка Акалова. У 1833 г. ў вёсцы 9 двароў, 67 жыхароў. Паводле інвентару 1846 г. ў фальварак уваходзілі 7 населеных пунктаў. У 1863 г. вёска і фальварак, уласнасць калежскага асэсара памешчыка Ф.Шульгіна, якому належалі 13 908 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1870 г. вёска, 43 сял. душы мужчынскага полу маёнтка Задор'е, уладанне памешчыка Шульгіна. У 1897 г. вёска, 24 двары, 176 жыхароў, у Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 29 двароў, 153 жыхары. У 1917 г. 31 двор, 159 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 64 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Горнаўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай (да 9.6.1927 г.), потым Мінскай (да 26.7.1930 г.) акруг. У 1926 г. 33 двары, 165 жыхароў, у вёсцы створаны калгас «Праўда». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 18 двароў, 83 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі 2 жыхароў у Германію. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 16.7.1954 г. цэнтр Задор'еўскага с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 18 двароў, 75 жыхароў. У 2003 г. 126 гаспадарак, 296 жыхароў. З 1.8.2011 г. аграгарадок. Размешчаны Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, участковая бальніца, лясніцтва, магазін, урачэбная амбулаторыя.

**ЗАДОР'Е** — пасёлак у Задор'еўскім с/с, за 66 км на ПнЗ ад Лагойска, 105 км ад Мінска, 36 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Полацк—Маладзечна. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2010).

У 2-й пал. 19 ст. пасёлак у Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 5 двароў, 44 жыхары. У 1917 г. засценак, 12 двароў, 58 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. пасёлак, 25 двароў, 119 жыхароў. У 1941 г. 18 двароў, 83 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію 2 жыхароў. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1969 г. 18 двароў, 75 жыхароў. У 2003 г. 9 гаспадарак, 9 жыхароў.

**ЗАДРОЗДЗЕ** — вёска ў Крайскім с/с, за 60 км на ПнЗ ад Лагойска, 99 км ад Мінска, 45 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 12 гаспадарак, 14 жыхароў (2010).

У 19 ст. засценак у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1880 г. тут размяшчаліся вадзяны млын, сукнавальня, у 1886 г. дзейнічала школа граматы. У 1917 г. 46 двароў, 253 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Герма-

ніі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. вёска, 46 двароў, 253 жыхары, у Крайскай вол. Барысаўскага павета. З 20.8. 1924 г. ў Крайскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 58 двароў, 296 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы арганізавалі калгас імя Будзённага, працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 42 двары, 216 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 4 двары, загубілі 11 жыхароў, 6 вывезлі ў Германію. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 41 двор, 126 жыхароў. У 2003 г. 19 гаспадарак, 31 жыхар.

**ЗАДЫ** — вёска ў Плешчаніцкім с/с, за 37 км на ПнУ ад Лагойска, 86 км ад Мінска, 60 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Полацк—Маладзечна. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2010).

У 1799 г. засценак, 6 двароў, 24 жыхары, уласнасць Тышкевіча. У 1870 г. вёска, 14 сял. душ мужчынскага полу, у Плешчаніцкай вол. Мінскай губ. У 1897 г. 14 двароў, 93 жыхары. У 1905 г. 5 гаспадарак вёскі, якія мелі 113,6 дзес. зямлі, уваходзілі ў Замастоцкую сельскую грамаду. У 1909 г. 9 двароў, 56 жыхароў, у 1917 г. 14 двароў, 88 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Плешчаніцкіх с/с і р-не Барысаўскай (да 9.6.1927 г.), потым Мінскай (да 26.7.1930 г.) акруг. У 1926 г. 15 двароў, 79 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 19 двароў, 91 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 жыхароў, 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 33 двары, 100 жыхароў. У 2003 г. 16 гаспадарак, 24 жыхары.

**ЗАЙМІШЧА** — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 48 км на Пн ад Лагойска, 97 км ад Мінска, 41 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Полацк—Маладзечна. 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2011).

У 1800 г. вёска, 5 двароў, 51 жыхар,ва ўладанні шляхціца І.Аскеркі. У 1870 г. 22 сял. душы мужчынскага полу, у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 10 двароў, 85 жыхароў. У 1905 г. 5 гаспадарак, якія валодалі 153,2 дзес. зямлі, уваходзілі ў Харошынскую сельскую грамаду. У 1909 г. 11 двароў, 103 жыхары, у 1917 г. 15 двароў, 116 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Горнаўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай (да 9.6.1927 г.), потым Мінскай (да 26.7.1930 г.) акруг. У 1926 г. 24 двары, 125 жыхароў. У вёсцы створаны калгас імя Якаўлева. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 29 двароў, 145 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію 1 жыхара. З вяскоўцы загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. ў Задор'еўскім с/с. З 25.12. 1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 29 двароў, 120 жыхароў. У 2003 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў.

**ЗАКАЛЮЖЖА** — вёска ў Каменскім с/с, за 47 км на ПнУ ад Лагойска, 54 км ад Мінска. 35 гаспадарак, 72 жыхары (2010).

У 1800 г. вёска, 13 двароў, 68 жыхароў, фальварак, вадзяны млын, шляхецкае ўладанне. Паводле рэвізіі 1811 г. 28 рэвізскіх душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыка В.Свянціцкага. У 1870 г. 72 рэвізскія сял. душы мужчынскага полу, цэнтр аднайменнага маёнтка, уласнасць Свянціцкага. У 1897 г. вёска

(22 двары, 145 жыхароў, смалакурны з-д) і маёнтак (29 жыхароў, вадзяны млын), у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. 10 гаспадарак вёскі, якім належалі 206 дзес. зямлі, уваходзілі ў Чмялеўскую сельскую грамаду. У 1909 г. 20 двароў, 219 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 27 двароў, 170 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 48 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Каменскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай (да 26.7.1930 г.) акруг. У 1926 г. ў вёсцы 30 двароў, 159 жыхароў, на хутары Закалюжжа 9 двароў, 24 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 42 двары, 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе, 4 жыхароў вывезлі ў Германію. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце, 6 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны адноўлена. З 25.12. 1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 45 двароў, 184 жыхары. У 2003 г. 46 гаспадарак, 107 жыхароў, фельч.-акушэрскі пункт, магазін.

**ЗАКРЫНІЧЧА** – вёска ў Бяларуцкім с/с, за 19 км на З ад Лагойска, 20 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2010).

У 1830 г. вёска ў складзе маёнтка Прудзішча, уласнасць памешчыка А.Жаброўскага. У 1844 г. 3 двары, 17 жыхароў. Кожны сял. двор надзелены 16 дзес. зямлі (24 моргі). У 1858 11 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у складзе маёнтка Ляцкаўшчына, уласнасць памешчыка Ляцкага. У 1897 г вёска (6 двароў, 42 жыхары) і аколіца (4 двары, 26 жыхароў) у Бяларуцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1909 г. ў вёсцы 12 двароў, 41 жыхар, у валоліцы 2 двары, 10 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 14 двароў, 88 жыхароў, у аколіцы 6 двароў, 25 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прудзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7. 1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. 14 двароў, 75 жыхароў, на хутары 1 двор, 8 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 13 двароў, 65 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 15 двароў, 53 жыхары. У 2003 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў.

**ЗАМАСТОЧЧА** — вёска ў Лагойскім с/с. За 15 км на ПдУ ад Лагойска, 24 км ад Мінска, 18 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска ў складзе маёнтка Косін, казённая ўласнасць у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 8 двароў, 68 жыхароў, уладанне графа І.Тышкевіча. У 1811 г. 36 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1846 г. 12 двароў, 92 жыхары, у складзе маёнтка Косін, уласнасць графа М.Тышкевіча, мелася карчма. З 1865 г. вёска адносілася да Косінскага праваслаўнага прыхода Успенскай царквы. У 1870 г. 39 рэвізскіх душ мужчынскага полу, уладанне графа М.Тышкевіча. У 1897 г. в. Замасточча (яна жа Жалудоўшчына), 26 двароў, 160 жыхароў, у Юр'еўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Косінскай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 10 гаспадарак, што мелі 191,6 дзес. зямлі. У 1909 г. 34 двары, 187 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Падонкаўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.

1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 22 двары, 132 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 20 двароў, загубілі 2 жыхароў, 5 вывезлі ў Германію. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. У 2003 г. 12 гаспадарак, 19 жыхароў.

**ЗАМОСЦЕ** — вёска ў Плешчаніцкім с/с, за 35 км на ПнУ ад Лагойска, 84 км ад Мінска, 60 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 12 гаспадарак, 20 жыхароў (2010).

У 1799 г. вёска, 7 двароў, 43 жыхары, уласнасць М.Тышкевіча. У 1870 г. 30 сял. душ мужчынскага полу. У 1897 г. вёска (14 двароў, 95 жыхароў) і засценак (5 двароў, 30 жыхароў), у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 10 двароў, 33 жыхары. У 1917 г. 14 двароў, 85 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Плешчаніцкіх с/с і р-не Барысаўскай (да 9.6.1927 г.), потым Мінскай (да 26.7.1930 г.) акруг. У 1926 г. 17 двароў, 78 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 14 двароў, 83 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 жыхароў. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 24 двары, 90 жыхароў. У 2003 г. 15 гаспадарак, 29 жыхароў.

**ЗАМОШША** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 39 км на Пн ад Лагойска, 78 км ад Мінска. У вёсцы ніхто не жыве.

У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Пятроліна. У 1846 г. засценак, 2 двары, 13 жыхароў, уласнасць графіні Р.Тышкевіч. У 1870 г. 19 сял. душ мужчынскага полу. У 1897 г. 14 двароў, 116 жыхароў, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1905 г. 4 двары, якія мелі 63,2 дзес. зямлі, уваходзілі ў Корчаўскую сельскую грамаду. У 1909 г. 16 двароў, 65 жыхароў. У 1917 г. 16 двароў, 109 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Акалоўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай (да 26.7.1930 г.) акруг. У 1926 г. 18 двароў, 84 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 17 двароў, 76 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію 11 жыхароў, 2 вяскоўцы загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 16 двароў, 53 жыхары. У 2003 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар.

**ЗАМОШША** — вёска ў Зарэчанскім с/с, за 46 км на ПнЗ ад Лагойска, 85 км ад Мінска, 65 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

У 1800 г. 4 двары, 39 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1811 г. фальварак, 86 сял. душ мужчынскага полу, уласнасць кн. У.Пузыны. У 1833 г. фальварак (уваходзілі вёскі Замошша і Адамаўка), 73 сял. душы, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1841 г. вёска, цэнтр аднайменнага фальварка, уласнасць памешчыка Ф.Вярэнкі. У 1847 г. 8 двароў, 89 жыхароў. Кожны сял. двор надзелены 23,3 дзес. зямлі. Агульная пл. фальварка 20 860 дзес. зямлі, сялянам належала 186,5 дзес. зямлі, мелася карчма. У 1876 г. фальварак, уласнасць І.Вярэнкі. У пач. 20 ст. вёска ў складзе Зарэчанскай сельскай грамады. У 1905 г. ў яе ўваходзілі 6 гаспадарак, што валодалі 84,2 дзес. зямлі. У 1909 г. 38 двароў, 207 жыхароў. У 1917 г. 13 двароў, 81 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З

20.8.1924 г. ў Зарэчанскім с/с Плешчаніцкага р-на, з 9.6.1927 г. Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 15 двароў, 74 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 8 двароў, 36 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары, загубілі 1 жыхара, 4 вывезлі ў Германію. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 2003 г. 7 гаспадарак, 18 жыхароў.

**ЗАПОЛЛЕ** — вёска ў Нястанавіцкім с/с, за 46 км на ПнЗ ад Лагойска, 85 км ад Мінска, 21 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2010).

Згадваецца ў 16 ст. як маёнтак у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1582 г. маёнтак Заполле, уласнасць пана М.Анфаровіча. У 1678 г. ўласнасць пані Станскай. У 18 ст. сяло, адносілася да Хатаевіцкай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1897 г. 5 двароў, 39 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска ў Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1905 г. 68 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Запольскага с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 16 двароў, 78 жыхароў. Непадалёку ад вёскі знаходзіўся хутар, 2 двары, 7 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас імя Молатава, працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 23 двары, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі 3 жыхароў у Германію, 2 вяскоўцы загінулі на фронце. З 16.7.1954 г. вёска ў Нястанавіцкім с/с. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 24 двары, 88 жыхароў. У 2003 г. 15 гаспадарак, 27 жыхароў.

**ЗАПОЛЛЕ** — вёска ў Швабскім с/с, за 29 км на ПнУ ад Лагойска, 68 км ад Мінска, 41 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2010).

Вёска Заполле згадваецца ў 15 ст. ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1582 г. маёнтак, уласнасць пана М.Анфаравіча. У 18 ст. вёска, у складзе маёнтка Гаць, уласнасць манахаў-францысканцаў базыльянскага манастыра ў Мінскім ваяв. У 1773 г. 16 двароў, 56 жыхароў, ва ўладанні мінскіх езуітаў. Затым вёска перайшла ва ўласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. частка вёскі (3 двары, 38 жыхароў), карчма ва ўладанні П.Лабачэўскага. У 19 ст. вёска, у складзе маёнтка Гаць, уласнасць памешчыка Пузыны, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1811 г. вёска, 31 сял. душа мужчынскага полу, уласнасць кн. І.Пузыны. У 1846 г. 4 двары, 33 жыхары, уладанне Х.Пузыны. У 1870 г. 29 сял. душ мужчынскага полу. У 1897 г. 13 двароў, 94 жыхары, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 17двароў, 114 жыхароў. У 1917 г. 27 двароў, 148 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Швабаўскім с/с Зембінскага, з 22.9.1927 г. Лагойскага р-наў Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы створаны калгас «Ударнік», працавала кузня. З 1939 г. ў Чырванашвабаўскім с/с. У 1941 г. 14 двароў, 62 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску, загубілі 4 жыхароў, 2 вывезлі ў Германію. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны ад-

ноўлена. У 1969 г. 14 двароў, 59 жыхароў. У 2003 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў. З 22.1.2008 г. ў Швабскім с/с.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 47 км на ПнЗ ад Лагойска, 96 км ад Мінска, 65 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 95 гаспадарак, 297 жыхароў (2010).

У 1800 г. 11 двароў, 76 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1811 г. вёска, 19 рэвізскіх душ мужчынскага полу, належала памешчыку Свянціцкаму. У 1825 г. ў складзе маёнтка Чмялевічы. Кожная рэвізская душа надзялялася зямлёй у 5 дзес. 500 сажняў. Апрача земляробства сяляне наймаліся на сплаў лесу па р. Цна, што працякала праз маёнтак і ўпадала ў р. Бярэзіна. Паводле інвентару 1846 г. вёска, 7 двароў, 45 жыхароў, у Каменскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1870 г. 29 душ мужчынскага полу. У 1876 г. ўласнасць памешчыка Свіда, у вёсцы размяшчаўся хлебазапасны магазін. У 1897 г. 30 двароў, 215 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета. У пач. 20 ст. вёска, цэнтр Зарэчанскай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 23 гаспадаркі, што валодалі 317,4 дзес. зямлі. У 1909 г. 38 двароў, 207 жыхароў. У 1912 г. пачало дзейнічаць нар. вучылішча. У 1917 г. 45 двароў, 184 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). На базе нар. вучылішча створана пач. школа, якую наведвалі дзеці з суседніх вёсак. У 1926 г. 45 двароў, 218 жыхароў, створаны калгас «Новае жыццё». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 35 двароў, 179 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 17 двароў, знішчылі 22 жыхароў, 2 вывезлі ў Германію. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце, 12 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 12 партызан. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 43 двары, 143 жыхары. У 2003 г. 99 гаспадарак, 304 жыхары. У вёсцы размешчаны цэнтр аддз. «Зарэчча» Лагойскай МТС «Райаграсэрвіса», Дом культуры, б-ка, базавая школа, дзіцячы сад, аддз. сувязі, камбінат бытавога абслугоўвання, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка.

**ЗАСОЎ'Е** — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 55 км на ПнЗ ад Лагойска, 94 км ад Мінска, 42 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Полацк—Маладзечна. 117 гаспадарак, 284 жыхары (2010).

У 1800 г. 17 двароў, 126 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Амнішава, уласнасць І.Корсака. У 1816 г. 59 сял. душ мужчынскага полу. Паводле інвентару 1846 г. 176 сял. душ, у Амнішаўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1870 г. 75 сял. душ мужчынскага полу, у Восаўскай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. 51 двор, 324 жыхары. У 1905 г. 26 двароў, якія мелі 575,2 дзес. зямлі, уваходзілі ў Амнішаўскую сельскую грамаду. У 1909 г. 47 двароў, 297 жыхароў. У 1917 г. 69 двароў, 364 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Амнішаўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай (да 9.6.1927 г.), потым Мінскай (да 26.7. 1930 г.) акруг. У 1926 г. 17 двароў, 81 жыхар. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 62 двары, 245 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 58 двароў, загубілі 235 жыхароў. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адноўлена. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім

р-не. З 16.7.1976 г. ў Задор'еўскім с/с. У 1969 г. 41 двор, 189 жыхароў. У 2003 г. 120 гаспадарак, 320 жыхароў. У вёсцы размешчаны цэнтр СПК «Харошае», б-ка, клуб, сярэдняя школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін.

**ЗАСЦЕНАК** – вёска ў Плешчаніцкім с/с, за 35 км на ПнУ ад Лагойска, 84 км ад Мінска, 58 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск–Орша. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2010)

У 1941 г. 8 двароў, 45 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары, загубілі 6 жыхароў. У 2003 г. 7 гаспадарак, 8 жыхароў.

**ЗАЦЭННЕ** – вёска ў Каменскім с/с, за 49 км на ПнУ ад Лагойска, 38 км ад Мінска, 42 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск–Орша, на р. Цна (прыток р. Гайна). 38 гаспадарак, 64 жыхары (2010).

Вядома з 16 ст. У 1586 г. вёска, узятая ў заклад А.Тышкевічам ва ўдавы пана М.Валовіча, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У канцы 16 ст. ўласнасць А.Завішы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1833 г. фальварак Зацень, 18 сял. душ, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1846 г. фальварак, 31 сял. душа, уласнасць памешчыкаў Юліі і Паўла Післяковых. У 1864 г. ўпамінаецца прыпісная Раства-Багародзіцкая царква. У 1897 г. в. Зацень (26 двароў, 163 жыхары), в. Малое Заценне (3 двары, 18 жыхароў) і фальварак Зацень (2 двары, 22 жыхары), у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1909 г. 26 двароў, 217 жыхароў. У 1917 г. 34 двары, 230 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Ганцавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. пад назвай Зацэнне былі 2 населеныя пункты: вёска (36 двароў, 224 жыхары) і хутар (3 двары, 22 жыхары). У 1933 г. ў вёсцы дзейнічаў калгас «Пралетарская перамога», меліся сукнавальня, ваўначоска, цагельны з-д. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 47 двароў, 172 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 30 двароў, загубілі 30 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 – у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 65 двароў, 249 жыхароў. У 2003 г. 49 гаспадарак, 98 жыхароў. Ёсць магазін.

**ЗВЯРЫНІЧЫ** – вёска ў Гайненскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Лагойска, 52 км ад Мінска, 43 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша, на р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). 13 гаспадарак, 21 жыхар (2010).

Вядома з 16 ст. як вёска ў ВКЛ. У 1727 г. 2 двары, уласнасць пана Цяхаўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 13 двароў, 94 жыхары, вадзяны млын, ва ўладанні Няплюева, Пашкевіча і Фальковіча. У 19 ст. ў складзе маёнтка Мураваны Двор, уласнасць Няплюевых. З 1838 г. ўласнасць памешчыка ген.-маёра С.Смаляка і яго жонкі Кацярыны. У 1846 г. ў вёсцы 11 двароў, 104 жыхары. У 1870 г. 70 душ мужчынскага полу, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 36 двароў, 204 жыхары. У 1905 г. 12 гаспадарак, якім належалі 243,7 дзес. зямлі, уваходзілі ў Гайна-Слабодскую сельскую грамаду. У 1909 г. 35 двароў, 224 жыхары. У 1917 г. 41 двор, 230 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Слабодскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.).

З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы быў створаны калгас «Чырвоная Беларусь». У 1941 г. 46 двароў, 208 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 1 двор, загубілі 13 жыхароў, 18 вывезлі ў Германію. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 23 сав. воіны і партызаны. З 16.7.1954 г. ў Гайненскім с/с. У 1969 г. 44 двары, 142 жыхары.

**ЗНАМЕНКА** (да 1969 г. П а д о н к і) — вёска ў Лагойскім с/с, за 10 км на ПдУ ад Лагойска, 29 км ад Мінска, 22 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 52 гаспадаркі, 98 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. в. Поданкі, уласнасць А.Тызенгаўза ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 13 двароў, 86 жыхароў, ва ўладанні Тышкевіча. Паводле рэвізіі 1811 г. 44 душы мужчынскага полу, уласнасць графа У.Тышкевіча. З 1866 г. вёска адносілася да праваслаўнага прыхода Міхайлаўскай царквы. У 1870 г. 44 рэвізскія душы мужчынскага полу, у Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1872 г. на могілках пабудавана Аляксандра-Неўская царква. У 1888 г. адкрыта школа граматы. У 1890 г. ў ёй вучыліся 14 хлопчыкаў. У 1897 г. 29 двароў, 221 жыхар, царква на могілках, у Лагойскай вол. Барысаўскага павета. У пач. 20 ст. вёска ў Загаранскай сельскай грамадзе, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 12 гаспадарак в. Поданкі, што мелі 256,5 дзес. зямлі. У 1909 г. 28 двароў, 210 жыхароў. У 1917 г. 44 двары, 268 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска, цэнтр Падонкаўскага сельсавета Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1930 г. быў арганізаваны калгас «Чырвоныя Падонкі», працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 88 двароў, 383 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 20 двароў, загубілі 29 жыхароў, 12 вывезлі ў Германію. 35 вяскоўцаў загінулі на фронце, 15 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 101 двор, 327 жыхароў. Размешчаны амбулаторыя, магазін.

**ЗЫКАВА** — вёска ў Астрошыцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Лагойска, 21 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 41 жыхар (2010).

У 1-й пал. 19 ст. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка, уласнасць памешчыкаў А. і М. Жабінскіх. У 1885 г. фальварак на р. Шышкаўка, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1897 г. 3 двары, 30 жыхароў. У 1909 г. ў фальварку 1 двор, 43 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Астрошыцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. 8 двароў, 38 жыхароў. У 1930 г. на базе фальварка створаны калгас імя К.Маркса, у які ўвайшло 66 гаспадарак, 370 жыхароў з хутара і навакольных вёсак, меліся малочна-таварная ферма і кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 36 двароў, 135 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 жыхароў, 3 вывезлі ў Германію. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 33 двары, 116 жыхароў. У 2003 г. 22 гаспадаркі, 37 жыхароў.

**ЗЯЛЁНЫ ЛУГ** — вёска ў Лагойскім с/с, за 2 км на ПнЗ ад Лагойска, 41 км ад Мінска, 28 км ад чыг. ст. Смалявічы на

лініі Мінск—Орша, на р. Гайна (прыток р Бярэзіна). 64 гаспадаркі, 178 жыхароў (2010).

У 1941 г. 45 двароў, 180 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 25 жыхароў, 7 вывезлі ў Германію. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 67 двароў, 253 жыхары. У 2003 г. 65 гаспадарак, 192 жыхары. Ёсць магазін.

**ЗЯЛЁНЫ САД** — вёска ў Лагазінскім с/с, за 6 км на ПнЗ ад Лагойска, 45 км ад Мінска, 30 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 14 гаспадарак, 25 жыхароў (2010).

У 1941 г. 41 двор, 151 жыхар. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы загубілі 3 жыхароў, 6 вывезлі ў Германію. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі ў ліпені 1944 г. загінулі 5 савецкіх воінаў. У 2003 г. 17 гаспадарак, 30 жыхароў.

**ІЗБІШЧА** — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 62 км на ПнЗ ад Лагойска, 97 км ад Мінска, 27 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Полацк—Маладзечна. 145 гаспадарак, 356 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 27 двароў, 178 жыхароў, фальварак, вадзяны млын, шляхецкая ўласнасць. У пач. 19 ст. ўладанне памешчыкаў Ліхадзіеўскіх, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. 96 душ мужчынскага полу, уладанне Ліхадзіеўскіх. На могілках пабудавана драўляная царква. У 1870 г. вёска пры р. Дзвінаса, 93 сял. душы мужчынскага полу. У 1888 г. адкрыта рухомая школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 17 хлопчыкаў. У 1897 г. 57 двароў, 392 жыхары, у Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Меліся хлебазапасны магазін, драўляная праваслаўная царква на могілках. У пач. 20 ст. цэнтр сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 23 гаспадаркі, што мелі 376,2 дзес. зямлі. У 1909 г. 60 двароў, 373 жыхары. У 1917 г. 60 двароў, 403 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 91 двор, 460 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас імя Варашылава. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 102 двары, 408 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 46 двароў, загубілі 12 жыхароў. 17 вяскоўцаў загінулі на фронце, 14 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 100 двароў, 394 жыхары. У 2003 г. 146 гаспадарак, 379 жыхароў. У вёсцы размешчаны цэнтр СПК «Саковічы», Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, комплексны прыёмны пункт.

**КАЗІНЕЦ** — вёска ў Каменскім с/с, за 41 км на ПнУ ад Лагойска, 80 км ад Мінска, 49 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша, на р. Каменка (прыток р. Чарніца). 24 гаспадаркі, 41 жыхар (2010).

У 1800 г. вёска, 8 двароў, 39 жыхароў, уласнасць графа І.Тышкевіча. У 1870 г. 38 сял. душ мужчынскага полу. У 1880 г. 24 двары, праваслаўная царква. У 1897 г. 20 двароў, 135 жыхароў, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 30 двароў, 198 жыхароў. У 1917 г. 33 двары, 222 жыхары. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Каменскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг; з 22.9.1927 г. Плешчаніцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 30 двароў, 180 жыхароў, у в. Казінец Малы — 7 двароў, 33 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 45 двароў, 225 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да

пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 жыхароў, 2 вывезлі ў Германію. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 54 двары, 138 жыхароў. У 2003 г. 31 гаспадарка, 61 жыхар.

**КАЗЛЕЎШЧЫНА** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Лагойска, 64 км ад Мінска, 60 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Выпрата (прыток р. Ілія). 15 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

Вёска згадваецца як шляхецкая ўласнасць у 18 ст. ў Мінскіх павеце і ваяводстве ВКЛ. У 1758 г. быў толькі 1 двор. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 4 двары, 29 жыхароў, уласнасць Трэберта. У 19 ст. маёнтак у Віленскім павеце Віленскай губ. У 1897 г. Казлеўшчына — застава на р. Выпрата, 7 двароў, 57 жыхароў. У пач. 20 ст. ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1905 г. ў фальварку 17 жыхароў, належала Грыгаровічу, які меў 1164 дзес. зямлі, у аднайменным засценку 57 жыхароў, што валодалі 227 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. хутар (4 двары, 19 жыхароў) і фальварак (1 двор, 9 жыхароў), у Хаценіцкай вол. У 1941 г. 21 двор, 188 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У вёсцы размяшчаўся штаб партыз. брыгады імя М.В.Фрунзе, створанай у студз. 1943 г. на базе асобных атрадаў «За Радзіму», імя К.Я.Варашылава, «Камсамолец». Партызаны ў канцы чэрв. 1944 г. вызвалілі вёскі Ілья, Раёўка, Вязынь і ўтрымлівалі іх да падыходу Чырвонай Арміі. У 2003 г. 19 гаспадарак, 35 жыхароў.

**КАЗЫРЫ** — вёска ў Гайненскім с/с, за 14 км на Пн ад Лагойска, 53 км ад Мінска, 44 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 39 гаспадарак, 66 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска ў складзе маёнтка Чырвоны Бор у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ, належала віленскаму капітулу. У 1710 г. в. Казаркі, 3 двары, уладанне шляхціца Пацея. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 9 двароў, 93 жыхары, уладанне кн. Д.Радзівіла. Паводле рэвізіі 1811 г. ў вёсцы 12 душ мужчынскага полу, належала стацкаму саветніку І.Няплюеву. У 1846 г. 14 двароў, 118 жыхароў, уласнасць памешчыка К.Чудкоўскага. У 1870 г. 51 рэвізская душа мужчынскага полу. У 1897 г. 29 двароў, 192 жыхары, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 26 двароў, 202 жыхары. У 1917 г. 30 двароў, 199 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. 56 двароў, 196 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 33 жыхары, 28 вывезлі ў Германію. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 50 двароў, 229 жыхароў. У 2003 г. 39 гаспадарак, 80 жыхароў. У вёсцы размешчаны лясніцтва, магазін.

**КАВАЛЕЎШЧЫНА** — вёска ў Астрошыцкім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Лагойска, 20 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 39 жыхароў (2010).

У 1784 г. вёска, 2 двары, 112 жыхароў, уладанне шляхціца І.Адзінца ў ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. ва ўладанні Р.Слізня. У 19 ст. вёска, прыватная ўласнасць у Мінскіх павеце і губ. У 1870 г. 12 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у складзе маёнтка Гарадок,

уласнасць графа М.Тышкевіча. У 1886 г. вёска, 8 двароў, 82 жыхары, праваслаўная царква на могілках. У 1897 г. 7 двароў, 59 жыхароў, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1909 г. было 2 вёскі: Кавалеўшчына 1-я (4 двары, 41 жыхар, Кавалеўшчына 2-я (12 двароў, 27 жыхароў). У 1917 г. ў Кавалеўшчыне 1-й 22 двары, 139 жыхароў, у Кавалеўшчыне 2-й 6 двароў, 44 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Астрошыцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. 7 двароў, 55 жыхароў, ва ўрочышчы Кавалеўшчына створаны цагельны з-д. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. 10 двароў, 25 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 1 жыхара. 2 вяскоўцы загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 8 двароў, 21 жыхар. У 2003 г. 8 гаспадарак, 21 жыхар.



*З.М.Бычкоўская.*

**КАЛАЧЫ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Лагойска, 63 км ад Мінска, 59 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Выпрата (прыток р. Ілія). 118 гаспадарак, 330 жыхароў (2010).

У 16 ст. сяло, шляхецкая ўласнасць у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1582 г. ўласнасць Я.Ясінскага. У канцы 18 ст. вёска, цэнтр Калачоўскага староства Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. сяло на р. Выпрата, 7 двароў, 50 жыхароў, карчма, вадзяны млын, дзярж. ўласнасць. У 1870 г. вёска, 24 душы мужчынскага полу. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. ў двары святара адкрыта школа, якую наведвалі дзеці з трох навакольных вёсак, у 1924 г. ў ёй вучылася 35 калачоўскіх дзяцей. У 1921 г. 43 двары, 252 жыхары, у Хаценіцкай вол. Мінскага павета. З 20.8.1924 г. цэнтр Калачоўскага с/с у Лагойскім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., меўся вадзяны млын. У 1941 г. 28 двароў, 120 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары, загубілі 9 жыхароў, 63 жыхароў вывезлі ў Германію. 4 вяскоўцы загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. ў складзе Янушкавіцкага с/с. У 1969 г. 55 двароў, 173 жыхары. У 2003 г. 122 гаспадаркі, 388 жыхароў. З 1.8.2011 г. аграгарадок. У вёсцы размешчаны цэнтр ТАА «СНБ-АГРО», комплексны прыёмны пункт, Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы З.М.Бычкоўскай (н. 1941).

**КАЛЮГА** — вёска ў Плешчаніцкім с/с, за 39 км на ПнУ ад Лагойска, 78 км ад Мінска, 63 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2010).

У 1799 г. засценак, 1 двор, 6 жыхароў. У 1833 г. вёска ў складзе вотчыннага маёнтка Клін, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1846 г. вёска, 2 двары, 33 жыхары, уласнасць калежскага асэсара К.Мірскага і яго дачок Валенты і Міхаліны. У 1870 г. 22 сял. душы мужчынскага полу. Вёска адносілася да Плешчаніцкага праваслаўнага прыхода Троіцкай царквы. У 1897 г. ў вёсцы 12 двароў, 90 жыхароў, у засценку 1 двор, 9 жыхароў, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1905 г. 7 гаспадарак, якія мелі 139,9 дзес. зямлі, уваходзілі ў Замастоцкую сельскую грамаду. У 1909 г. 14 двароў, 91 жыхар. У 1917 г. 16 двароў, 100 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана

войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Плешчаніцкіх с/с і р-не Барысаўскай (да 9.6.1927 г.), потым Мінскай (да 26.7.1930 г.) акруг. У 1926 г. 14 двароў, 75 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 22 двары, 98 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 2 двары, загубілі 10 жыхароў. На фронце загінулі 11 вяскоўцаў, 2 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 29 двароў, 131 жыхар. У 2003 г. 11 гаспадарак, 22 жыхары.

**КАМАРОЎКА** — вёска ў Плешчаніцкім с/с, за 34 км на ПнУ ад Лагойска, 73 км ад Мінска, 58 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 57 гаспадарак, 136 жыхароў (2010).

У 1-й пал. 19 ст. фальварак у складзе маёнтка Плешчаніцы ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1846 г. 166 сял. душ, уласнасць графа І.Тышкевіча. Асн. заняткам вяскоўцаў было земляробства, якое яны спалучалі з адыходным промыслам (наймаліся чорнарабочымі ў гаспадарскі двор). Узімку выраблялі брусы, калоды (прыбытак складаў 6 руб. серабром), вясной сплаўлялі лес (прыбытак — 3 руб.). У 1870 г. вёска, 19 сял. душ мужчынскага полу, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1879 г. вяскоўцы былі прыхаджанамі Плешчаніцкага праваслаўнага прыхода Троіцкай царквы. У 1897 г. ў вёсцы 50 жыхароў, у фальварку Камароўка 1 двор, 9 жыхароў. У 1905 г. 2 гаспадаркі, якія мелі 52,7 дзес. зямлі, уваходзілі ў Замастоцкую сельскую грамаду. У 1909 г. ў вёсцы 7 двароў, 38 жыхароў, у фальварку 1 двор, 7 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 6 двароў, 50 жыхароў, у фальварку 1 двор, 18 жыхароў. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Плешчаніцкіх с/с і р-не Барысаўскай (да 9.6.1927 г.), потым Мінскай (да 26.7.1930 г.) акруг. У 1926 г. 9 двароў, 59 жыхароў, на хутары 4 двары, 25 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 11 двароў, 52 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 жыхароў, 2 вывезлі ў Германію. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 44 двары, 175 жыхароў. У 2003 г. 59 гаспадарак, 161 жыхар. Сельскі клуб, б-ка, базавая школа, магазін, фельч.-акушэрскі пункт.

**КАМЕНА** — вёска, цэнтр сельсавета. За 40 км на ПнУ ад Лагойска, 79 км ад Мінска, 48 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша, на р. Каменка (прыток р. Чарніца). 205 гаспадарак, 541 жыхар (2010).

Вядома з сярэдзіны 15 ст. як маёнтак Камень Харэцкі ў ВКЛ. У 1-й пал. 16 ст. маёнтак купіў ваявода смаленскі, староста мінскі і пінскі В.Тышкевіч, у Мінскіх павеце і ваяв. У 1567 г. згадваецца ў попісе войска ВКЛ. У 1570 г. В.Тышкевіч завяшчаў маёнтак свайму сыну Астафію. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1833 г. ў вёсцы было 99 сял. душ. У 1841 г. пабудавана драўляная праваслаўная Спаса-Праабражэнская царква, якой належала 90 дзес. зямлі (прыход складаўся з 21 вёскі, 2171 прыхаджанін). На могілках існавала праваслаўная Успенская царква (зачынена ў 1903 г. з-за трухлявасці), у якой шанаваўся мясц. абраз Божай Маці. Паводле інвентару 1846 г. ў маёнтку 14 двароў, 88 сял. душ, агульная яго пл. складала 2235 $^{2}/_{3}$ дзес. зямлі, меліся вадзяны млын, карчма, хлебазапасны магазін; маёнтак здаваўся ў арэнду. У 1870 г. сяло, 78 рэвізскіх душ мужчынскага полу, уладанне графа М.Тышкевіча, якому належалі 3752 дзес. зямлі. У 1886 г. 14 двароў, 182 жыхары, праваслаўная царква, капліца, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Працаваў смала-

курны з-д. У 1897 г. сяло (33 двары, 244 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 царквы, карчма) і маёнтак (32 жыхары, вадзяны млын, смалярны з-д). У пач. 20 ст. цэнтр Каменскай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 14 каменскіх гаспадарак, што мелі 360 дзес. зямлі. У 1917 г. ў сяле 41 двор, 304 жыхар, у маёнтку 15 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Зембінскага р-на Барысаўскай (да 9.6.1927 г.), потым Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Плешчаніцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 54 двары, 291 жыхар, у маёнтку 3 двары, 7 жыхароў. Быў створаны калгас «Чырвоны Кастрычнік», працавалі 3 кузні, вадзяны млын, смалакурны з-д. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 80 двароў, 298 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 14 двароў, 5 жыхароў вывезлі ў Германію. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 8 сав. воінаў і 1 партызан. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 118 двароў, 392 жыхары. У 2003 г. 182 гаспадаркі, 553 жыхары. Размешчаны цэнтр СПК «Камена», Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа—сад, урачэбная амбулаторыя, аддз. сувязі, лясніцтва, комплексна-прыёмны пункт, магазін.

**КАМЕНСКАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Каменскім с/с, за 56 км на ПнУ ад Лагойска, 95 км ад Мінска, 54 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша, на р. Чарніца (прыток р. Цна). 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

У 1897 г. 24 двары, 165 жыхароў, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 25 двароў, 201 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1929 г. створана сельгасарцель «Чэкіст». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі.

**КАМУНА** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Лагойска, 54 км ад Мінска, 50 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Сліжанка (прыток р. Ілія). 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

У 1941 г. ў вёсцы 25 двароў, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1969 г. 28 двароў, 79 жыхароў. У 2003 г. 16 гаспадарак, 30 жыхароў.

**КАНДРАТАВІЧЫ** — вёска ў Астрошыцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Лагойска, 19 км ад Мінска. 37 гаспадарак, 86 жыхароў (2010).

Вядома з 16 ст. У 1582 г. сяло ў складзе маёнтка Астрошыцы, уласнасць пана Ф. Скуміна ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1782 г. вёска, 20 сядзіб, з якіх 3 пустыя, у складзе маёнтка Гарадок. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1795 г. 17 двароў, 126 жыхароў, мелася ўніяцкая царква. У 1800 г. 17 двароў, 126 жыхароў, драўляная ўніяцкая царква Св. Георгія, уладанне графа І.Тышкевіча. У 1844 г. вёска, 18 двароў, 65 жыхароў, уласнасць графа І.Тышкевіча, каля дарогі да с. Прылепы размяшчалася карчма. У 1870 г. 25 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1886 г. 10 двароў, 96 жыхароў, праваслаўная царква на могілках. У 1897 г. 31 двор, 218 жыхароў, капліца на могілках, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Баярскай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 10 гаспадарак, што мелі 133,2 дзес. зямлі. У 1908 г. адкрыта земская школа. У 1909 г. 16 двароў, 108 жыхароў. У 1917 г. 34 двары, 241 жыхар. Пасля рэ-

валюцыі земская школа ператворана ў прац., якую наведвалі дзеці з 6 навакольных населеных пунктаў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1924 г. вучыліся 25 дзяцей, навучанне вялося на бел. мове. З 20.8.1924 г. ў Астрошыцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. 54 двары, 272 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. 75 двароў, 297 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. гітлераўцы знішчылі 75 двароў, загубілі 135 жыхароў, 2 жыхароў вывезлі ў Германію. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 40 двароў, 154 жыхары. У 2003 г. 36 гаспадарак, 85 жыхароў. Ёсць магазін.

**КАНІКАВІЧЫ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Лагойска, 56 км ад Мінска, 55 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У пач. 20 ст. фальварак у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. фальварк, 1 двор, 5 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. 9 двароў, 36 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 жыхары загінулі на фронце. У 1969 г. 10 двароў, 36 жыхароў. У 2003 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў.

**КАНЮХІ** — вёска ў Зарэчанскім с/с, за 52 км на ПнЗ ад Лагойска, 91 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 1880 г. фальварак у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 6 двароў, 34 жыхары. У 1917 г. 8 двароў, 67 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Зарэчанскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 12 гаспадарак, 62 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 10 двароў, 39 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 9 двароў, 2 жыхароў вывезлі ў Германію. 3 вяскоўцы загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 19 двароў, 38 жыхароў. У 2003 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары.

**КАРБАНОЎШЧЫНА** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 37 км на ПнЗ ад Лагойска, 77 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

У 2-й пал. 19 ст. вёска, казённая ўласнасць у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 8 двароў, 70 жыхароў. У 1905 г. 6 гаспадарак б. казённых сялян, якія валодалі 113,7 дзес. зямлі, уваходзілі ў Зарэчанскую сельскую грамаду. У 1908 г. 10 двароў, 97 жыхароў. У 1917 г. 13 двароў, 79 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Зарэчанскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай (да 9.6.1927 г.), потым Мінскай (да 26.7.1930 г.) акруг. У 1926 г. 13 двароў, 84 жыхары, на хутары 1 двор, 8 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 23 двары, 84 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 6 жыхароў. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 25 двароў, 86 жыхароў. У 2003 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў.

**КАРБАЧОЎКА** — вёска ў Бяларуцкім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Лагойска, 18 км ад Мінска. 19 гаспадарак, 38 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў складзе маёнтка Гарадок у ВКЛ. У 1782 г. засценак, 5 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 19 ст. ўласнасць памешчыкаў Тышкевічаў у Мінскіх павеце і губ. Паводле рэвізіі 1811 г. 21 сял. душа мужчынскага полу, уладанне графа І.Тышкевіча. У 1844 г. 7 двароў, 65 жыхароў, у складзе маёнтка Гарадок. У 1870 г. 29 сял. душ мужчынскага полу, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета і губ. У 1909 г. 7 двароў, 75 жыхароў. У 1917 г. 11 двароў, 80 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Бяларуцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. пад назвай Карбачоўка было 3 хутары: Карбачоўка 1-я (5 двароў, 23 жыхары), Карбачоўка 2-я (11 двароў, 59 жыхароў), Карбачоўка 3-я (9 двароў, 47 жыхароў). Быў створаны калгас «13-ы Кастрычнік», працавала кузня. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 22 двары, 105 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе, загубілі 2 жыхароў, 20 вывезлі ў Германію. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адноўлена. У 1969 г. 27 двароў, 108 жыхароў. У 2003 г. 24 гаспадаркі, 57 жыхароў. Радзіма Героя Сав. Саюза М.П.Давідовіча (1919—93).



*М.П.Давідовіч.*



*Дот каля в. Карпілаўка. 1930-я гады.*

**КАРПІЛАЎКА** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Лагойска, 66 км ад Мінска, 58 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 18 ст. вёска, цэнтр маёнтка ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ, заселена ваколічнай шляхтай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 8 двароў, 56 сял. душ, 8 душ ваколічнай шляхты, уласнасць памешчыкаў Варанец і Дашкевіча. Меліся млын і карчма. У 1880 г. 8 двароў, 36 жыхароў і фальварак, 1 двор, 7 жыхароў, у Астрошыцка-Гарадоцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1909 г. 18 двароў, 132 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 адкрыта школа, якая мела ўласны будынак, у ёй вучыліся дзеці з 3 навакольных вёсак. Навучанне вялося на бел. мове. З 20.8.1924 г. ў Бясядавіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., мелася кузня. У 1941 г. 30 двароў, 156 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1943 г. акупанты спалілі 30 двароў, загубілі 2 жыхароў, 9 вывезлі ў Германію. З вяскоўцы загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 5 двароў, 23 жыхары. У 2003 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары.

**КАРЦОЎШЧЫНА** — вёска ў Лагойскім с/с, за 15 км ПдУ ад Лагойска, 24 км ад Мінска, 21 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

У 1736 г. 3 двары, уладанне Віленскага каталіцкага капітула ў ВКЛ. У 1782 г. вёска, у складзе маёнтка Косін, 7 асад, карчма, уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 36 рэвізскіх душ мужчынскага полу, належала графу І.Тышкевічу. У 1844 г. 7 двароў, 63 жыхары, мелася карчма. З 1865 г. вяскоўцы адносіліся да Косінскага праваслаўнага прыхода Успенскай царквы. У 1861 г. 29 рэвізскіх сял. душ мужчынскага полу, уласнасць М.Тышкевіча. У 1897 г. 12 двароў, 8 жыхароў, у Юр'еўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Мачуліцкай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 5 гаспадарак, што мелі 78,7 дзес. зямлі. У 1909 г. 11 двароў, 91 жыхар. У 1917 г. 15 двароў, 100 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Падонкаўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7. 1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 15 двароў, 70 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 1 двор, загубілі 6 жыхароў. 2 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1969 г. 16 двароў, 45 жыхароў.

**КАЦЯЛІ** — вёска ў Зарэчанскім с/с, за 48 км на ПнЗ ад Лагойска, 87 км ад Мінска, 64 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 15 гаспадарак, 30 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 14 ст. ў Лагожскім удзельным княстве. У канцы 14 ст. вял. кн. ВКЛ Вітаўт перадаў маёнтак Кацялі з 6 вёскамі ва ўладанне Гайненскага касцёла Успення Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 19 ст. вёска, дзярж. ўласнасць у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 15 двароў, 116 жыхароў. У пач. 20 ст. цэнтр сельскай грамады, да якой адносіліся 3 вёскі. У 1905 г. ў яе ўваходзілі 14 гаспадарак, якія валодалі 183 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1909 г. 16 двароў, 81 жыхар, у 1917 г. 21 двор, 136 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Зарэчанскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 21 двор, 120 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 20 двароў, 118 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 6 двароў, загубілі 5 жыхароў, 6 вывезлі ў Германію. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 23 двары, 86 жыхароў. У 2003 г. 19 гаспадарак, 38 жыхароў.

**КІСЯЛЁЎКА** — вёска ў Швабскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Лагойска, 69 км ад Мінска, 40 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2010).

У пач. 19 ст. ў складзе маёнтка Гаць, уласнасць кн. І.Пузыны. Паводле рэвізіі 1811 г. 4 душы мужчынскага полу. Паводле інвентару 1846 г. ў засценку Кісялёўка 1 двор, 9 жыхароў, належаў кн. Х.Пузыну. У 1870 г. 7 сял. душ мужчынскага полу, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 3 двары, 24 жыхары. У 1917 г. 4 двары, 42 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Швабаўскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7. 1930 г.). З 20.1.1938 г. ў Мінскай вобл. У

1930 г. вяскоўцы арганізавалі калгас «Чырвоны Кастрычнік», меўся вадзяны млын. З 1939 г. ў Чырванашвабаўскім с/с. У 1941 г. 23 двары, 91 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны адноўлена. У 1969 г. 23 двары, 70 жыхароў. З 22.1.2008 г. ў Швабскім с/с.

**КОРАНЬ** – вёска ў Гайненскім с/с, за 35 км на ПнЗ ад Лагойска, 74 км ад Мінска, 55 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 136 гаспадарак, 400 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 14 ст. як мястэчка ў складзе Лагожскага ўдзельнага княства. У 1395 г. вял. кн. ВКЛ Вітаўт падараваў маёнтак Корань віленскаму біскупству, капітулу віленскага касцёла Св. Станіслава; даходы ад маёнтка ішлі канонікам віленскага капітула. У 1517 г. віленскі касцёл Св. Станіслава атрымліваў з вёскі даніну. У 1575 г. быў пабудаваны драўляны касцёл Св. Антонія, які ў 1596 г. адносіўся да Гайненскай парафіі. У 1653 г. ў вёсцы 88 дымоў. У 1730-я г. пабудаваны новы касцёл, прыход якога ахопліваў вёскі Вялікі і Малы Корані, Прудкі. Паводле апісання коранскай парафіі 1740 г. плябаніі належала 13 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. сяло, 9 двароў, 89 жыхароў, уладанне каталіцкай царквы. У 1816 г. 9 двароў, 62 жыхары. Пасля паўстання 1830–31 гг. у складзе Гайненскага казённага маёнтка. У 1858 г. 11 двароў, 76 жыхароў. У 1861 г. ў сяле размяшчаліся касцёл, хлебазапасны магазін, крама, карчма. У 1897 г. 46 двароў, 267 жыхароў, 3 крамы, 2 піцейныя дамы, хлебазапасны магазін, касцёл, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1905 г. адкрыта школа, для якой у 1908 г. пабудавана ўласнае памяшканне. У 1909 г. 46 двароў, 211 жыхароў. У 1912 г. пачало дзейнічаць нар. вучылішча. У 1917 г. 58 двароў, 274 жыхары, працавала школа, навучанне вялося на польскай мове. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска, цэнтр Коранскага с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). На базе дарэв. створана 2-камплектная школа, у якой вучыліся дзеці з 8 вёсак. У 1922–24 гг. школе перададзена частка касцельнага будынка. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 27 двароў, 117 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 5 жыхароў, 11 вывезлі ў Германію. 4 вяскоўцы загінулі на фронце, 1 – у партыз. барацьбе. У баі за вызваленне вёскі загінула 20 сав. воінаў. З 24.5.1960 г. ў Гайненскім с/с. У 1969 г. 67 двароў, 217 жыхароў. У 2003 г. 128 гаспадарак, 361 жыхар. У вёсцы размешчаны цэнтр СПК «Корань», Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа–сад, амбулаторыя, аддз. сувязі, камбінат бытавога абслугоўвання, магазін.

**КОРГАВА** – вёска ў Акалоўскім с/с, за 40 км на Пн ад Лагойска, 79 км ад Мінска, 68 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 22 гаспадаркі, 47 жыхароў (2010).

У 2-й пал. 16 ст. вёска, уласнасць М.Валовіча, у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1731 г. вёска, 8 двароў, фальварак, уладанне шляхціца А.Калецкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 39 сял. душ мужчынскага полу. У 1800 г. аколіца, 16 двароў, 81 жыхар, ва ўладанні М.Валовіча ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. вёска, 29 душ мужчынскага полу, уласнасць прадвадзіцеля дваранства Барысаўскага павета І.Валовіча. У 1846 г. 13 двароў, 69 жыхароў, у складзе маёнтка Пятроліна, уласнасць графіні Р.Тышкевіч. У

1870 г. вёска, 60 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. 37 двароў, 249 жыхароў, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. цэнтр Коргаўскай сельскай грамады, у якую ўваходзілі 18 гаспадарак, што мелі 347,9 дзес. зямлі. У 1909 г. 32 двары, 206 жыхароў. У 1917 г. 46 двароў, 234 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Акалоўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 37 двароў, 164 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 28 двароў, 126 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 1 двор, загубілі 1 жыхара, 7 жыхароў вывезлі ў Германію. З вяскоўцы загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 27 двароў, 105 жыхароў. У 2003 г. 31 гаспадарка, 62 жыхары. Магазін.

**КОСІНА** — вёска ў Лагойскім с/с, за 14 км на ПдУ ад Лагойска, 26 км ад Мінска, 24 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 216 гаспадарак, 620 жыхароў (2010).

У 16 ст. маёнтак, шляхецкая ўласнасць у Мінскім павеце і ваяв. ВКЛ. У 1582 г. ўласнасць пана А.Мацкевіча. У 1592 г. маёнтак Косін, якому належалі 7 служб, з якіх 2 пуставалі, карчма, ва ўладанні Я.Касмоўскага, які прадаў яго кашталяну мінскаму М.Стравінскаму. У 1706 г. вёска, 14 двароў, карчма, ва ўладанні С.Вяслоўскай. У 1782 г. мястэчка, 25 двароў, уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1833 г. ў вотчынны маёнтак Косін уваходзілі 17 вёсак, 1260 прыгонных сялян. Паводле інвентару 1847 г. маёнтак, уладанне графа Тышкевіча, якому належалі 1163 прыгонныя селяніны. У вёсцы размяшчаўся драўляны гаспадарскі дом на каменным падмурку, шматлікія гасп. пабудовы: 4 свірны, паграбы, клець, вазоўня, стайня, двор для жывёлы, ляздоўня, бровар, валоўня, 3 млыны, хлебазапасны магазін, 6 корчмаў. У 1847 г. 26 двароў, 186 жыхароў. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча, для якога ў 1865 г. ўзведзены ўласны будынак. У 1865 г. на сродкі прыхаджан была пабудавана драўляная на каменным падмурку праваслаўная Успенская царква з трыма званіцамі. Прыход ахопліваў 11 вёсак, 2226 прыхаджан, 75 дзес. зямлі. Да прыхода прыпісаны 2 праваслаўныя царквы на могілках. У 1870 г. сяло, 82 рэвізскія душы мужчынскага полу. У 1886 г. былое прыватнае ўладанне, 30 двароў, 230 жыхароў, меліся праваслаўная царква, царк.-прыходская школа, карчма, бровар. Дзейнічала нар. вучылішча, у 1892 г. вучыліся 40 дзяцей. У 1897 г. 64 двары, 424 жыхары, 2 кузні, нар. вучылішча, царква, карчма, у Юркаўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. сяло, цэнтр Косінскай сельскай



*Успенская царква ў в. Косіна.*

грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзіла 31 косінская гаспадарка, 483 дзес. зямлі. У 1909 г. ў сяле 69 двароў, 392 жыхары, у маёнтку 2 двары, 20 жыхароў. У 1917 г. ў сяле 77 двароў, 464 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. На базе нар. вучылішча створана пач. школа. У вёсцы арганізаваны саўгас «Косінскі», працавалі сталярныя майстэрні №1 і №2. З 20.8.1924 г. ў Падонкаўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.130 г.). У 1926 г. меліся майстэрні шавецкая, сталярная, кавальская, па вырабе аўчын. У цэнтры размяшчалася праваслаўная царква. У 1935 г. ў саўгасе «Косіна» працаваў бровар. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 98 двароў, 425 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 14 двароў, загубілі 11 жыхароў. 32 вяскоўцы загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі ў 1944 г. загінулі 32 сав. воіны, сярод іх Герой Сав. Саюза Ф.Г.Крылоў. У 1969 г. 101 двор, 363 жыхары. У 2003 г. 196 гаспадарак, 572 жыхары. З 1.8.2011 г. аграгарадок. Размешчаны цэнтр СВК «Косіна», Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, магазін. Помнік архітэктуры — Успенская царква (1865).

*Мікалаеўская царква ў в. Крайск.*



**КРАЙСК** — вёска, цэнтр сельсавета, за 58 км на ПнЗ ад Лагойска, 97 км ад Мінска, 40 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна, на р. Крайшчанка (прыток р. Вілія). 118 гаспадарак, 346 жыхароў (2010).

У 1523 г. ўласнасць дзяцей Ю.Зяноўевіча ў ВКЛ. У 1567 г. згадваецца ў попісе войска ВКЛ. У 1590 г. мястэчка і маёнтак Крайск, 22 дымы, 55 мяшчан, праваслаўная царква, млын, належалі віцебскаму ваяводзе Ю.Насілоўскаму і яго жонцы Я.Насілоўскай. У 1590 г. Насілоўская завяшчала Крайск свайму сыну Я.Осціку «з будаваннямі дворнымі з пашней, дворнаю... с фальваркам, с садам, с огородамі, 2 ставы, млыны, с баярамі і іх групамі, с мяшчанамі». У 1745 г. існавала праваслаўная драўляная Мікалаеўская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 18 двароў, 139 жыхароў, уладанне шляхціца І.Бранца. У 19 ст. мястэчка, цэнтр воласці і праваслаўнага прыхода Мікалаеўскай царквы ў Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1867 г. 159 жыхароў. У 1872 г. на месцы спаленай пабудавана новая Мікалаеўская царква. У 1885 г. ў нар. вучылішчы 66 дзяцей (54 хлопчыкі і 12 дзяўчынак). У 1886 г. мястэчка, 6 двароў, 74 жыхары, валаснoе праўленне, 3 крамы, праваслаўная царква. У 1894 г. дзейнічала царк.-прыходская школа, меўся вадзяны млын. У 1897 г. ўзведзена Аляксееўская царква. У пач. 20 ст. пабудаваны драўляны касцёл. У 1905 г. размяшчаліся вал. праўленне, урачэбны ўчастак, кватэра станавога прыстава, нар. вучылішча, казённая вінная крама, мяшчанскае праўленне. У 1912 г. пачало працаваць паштовае аддз. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн.



Аляксееўская царква ў в. Крайск.

1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 87 двароў, 502 жыхары. З 20.8.1924 г. цэнтр Крайскага с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 131 двор, 629 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгасы «Чырвоная Беларусь» і «Чырвоны Кастрычнік», працавалі ваўначоска, шавецкая майстэрня, смалакурны з-д, вадзяны млын. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 85 двароў, 368 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія тройчы грамілі яе, спалілі 63 двары, загубілі 112 жыхароў, 48 вывезлі ў Германію. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце, 11 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 77 двароў, 250 жыхароў. З 1.8.2011 г. аграгарадок. Размешчаны цэнтр СВК «Крайск», Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, амбулаторыя, аддз. сувязі, лясніцтва, магазін. Помнікі архітэктуры — Мікалаеўская царква (1872), Аляксееўская царква (1897).

**КРАМЯНЕЦ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 34 км на ПнЗ ад Лагойска, 73 км ад Мінска, 77 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Выпрата (прыток р. Ілія). 65 гаспадарак, 163 жыхары (2010).

У 1799 г. вёска, 25 двароў, 177 жыхароў, уласнасць памешчыцы Шумскай. У 1880 г. 28 двароў, 258 жыхароў, у Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Мелася капліца, працаваў вадзяны млын. У 1905 г. 479 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 107 двароў, 633 жыхары, у Хацевіцкай вол. Вілейскага павета. З 20.8.1924 г. ў Калачоўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Быў створаны калгас імя Мянжынскага, меліся кузня, кравецкая майстэрня, вадзяны млын, працавала гантарэзка. У 1941 г. 120 двароў, 420 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе, загубілі 9 жыхароў. 24 вяскоўцы загінулі на фронце, 6 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 3 сав. воіны і 2 партызаны. Пасля вайны адноўлена. З 16.7.1954 г. ў складзе Янушкавіцкага с/с. У 1969 г. 112 двароў, 440 жыхароў. У 2003 г. 85 гаспадарак, 203 жыхары. Ёсць магазін.



Камень-следавік каля в. Крамянец.

**КРАПУЖЫНА** – вёска ў Астрошыцкім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Лагойска, 10 км ад Мінска, 44 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 24 гаспадаркі, 50 жыхароў (2010).

У 18 ст. засценак у складзе маёнтка Гарадок у ВКЛ. У 1782 засценак, 11 сядзіб. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 11 двароў, 132 жыхары, уладанне графа І.Тышкевіча. У 1870 г. вёска, 36 рэвізскіх сял. душ мужчынскага полу, у складзе маёнтка Астрошыцы Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскіх павета і губ., меўся хлебазапасны магазін. У 1897 г. 19 двароў, 121 жыхар, хлебазапасны магазін, у Астрошыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1909 г. 24 двары, 133 жыхары. У 1917 г. 28 двароў, 167 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Астрошыцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. 28 двароў, 139 жыхароў, на аднайменным хутары 4 двары, 19 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. 43 двары, 171 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 4 двары, загубілі 1 жыхара, 10 вывезлі ў Германію. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 – у партыз. барацьбе. У 1969 г. 41 двор, 142 жыхары. У 2003 г. 26 гаспадарак, 60 жыхароў.

**КРАСНАВОЛЛЕ** – вёска ў Крайскім с/с, за 57 км на ПнЗ ад Лагойска, 96 км ад Мінска, 47 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк–Маладзечна. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

У 2003 г. 7 гаспадарак, 15 жыхароў.

**КРАСНАЕ** – вёска ў Задор'еўскім с/с, за 52 км на ПнЗ ад Лагойска, 91 км ад Мінска, 35 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Полацк–Маладзечна, на р. Дзвінаса (прыток р. Вілія). 19 гаспадарак, 29 жыхароў (2010).

У 18 ст. мястэчка ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1775 г. 23 двары і 3 двары, якія пуставалі, 115 жыхароў, уладанне П.Лабачэўскага. Тут жылі 2 кавалі, кравец, швец, працавалі 2 млыны, карчма, бровар. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. сяло, 18 двароў, 139 жыхароў, уладанне Бронца У 19 ст. вёска на сплаўнай р. Дзвінаса, у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. 26 двароў, 316 жыхароў, мелася капліца. У 1905 г. 336 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 68 двароў, 339 жыхароў, у Крайскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. З 20.8.1924 г. ў Крайскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 70 двароў, 368 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 46 двароў, 183 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў верасні 1943 г. знішчылі яе, загубілі 9 жыхароў, 7 вывезлі ў Германію. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 – у партыз. барацьбе. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 166 жыхароў. У 2003 г. 29 гаспадарак, 64 жыхары, магазін.

**КРОКВА** – вёска ў Швабскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Лагойска, 61 км ад Мінска, 46 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск–Орша. 25 гаспадарак, 44 жыхары (2010).

У 1800 г. засценак, 2 двары, 24 жыхары, у складзе маёнтка Ганявічы, уладанне мінскага ген.-губернатара І.М.Няплюева. У пач. 19 ст. засценак у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1811 г. вёска ў складзе фальварка Ганявічы, які ўваходзіў у Чырванаборскую эканомію. У 1843 г. ўласнасць памешчыка К.Чуда-

коўскага. У 1846 г. 7 двароў, 53 жыхары. У 1870 г. 43 сял. душы мужчынскага полу, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., меўся вадзяны млын. У 1897 г. 42 двары, 309 жыхароў, вадзяны млын, у Юр'еўскай вол. Барысаўскага павета. У 1909 г. 48 двароў, 368 жыхароў. У 1917 г. 43 двары, 238 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Моладскім, з 29.10.1924 г. ў Юркавіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1930 г. створаны калгас «Новы быт», працаваў вадзяны млын. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 64 двары, 260 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 15 двароў, загубілі 3 жыхароў, 1 вывезлі ў Германію. 17 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.7.1959 г. ў Чырванашвабаўскім с/с. У 1969 г. 64 двары, 158 жыхароў. З 22.1.2008 г. ў Швабскім с/с.

**КРУТАЯ ГАРА** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 49 км на ПнУ ад Лагойска, 88 км ад Мінска, 74 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У пач. 20 ст. вёска ў Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 16 двароў, 121 жыхар. У 1917 г. 3 двары, 150 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прусавіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 24 двары, 131 жыхар. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы створаны калгас «Асветнік». У 1941 г. 16 двароў, 74 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 жыхароў, 14 вывезлі ў Германію, 3 загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 11 двароў, 34 жыхары. З 30.1.1976 г. вёска ў Акалоўскім с/с. У 2003 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў.

**КУЗЕВІЧЫ** — вёска ў Лагазінскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Лагойска, 49 км ад Мінска, 35 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 40 гаспадарак, 85 жыхароў (2010).

Вядома з 16 ст. У 1596 г. сяло, 47 сял. душ мужчынскага полу, заселена панцырнымі баярамі. Адносілася да маёнтка Сялец, уласнасць К.Тамковіча ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. цэнтр аднайменнага фальварка, 7 двароў, 58 жыхароў, на р. Гайна, дзе размяшчаўся вадзяны млын. У 1833 г. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка, у які ўваходзілі 2 вёскі Кузевічы, 85 сял. душ. У 1847 г. 9 двароў, 62 жыхары, уласнасць памешчыцы Л.Гольдзічавай, у вёсцы размяшчаліся вадзяны млын на 2 паставы, карчма. У 1870 г. вёска, 44 сял. душы, у Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Адносілася да Гайненскага праваслаўнага прыхода Успенскай царквы. У 1897 г. вёска (19 двароў, 146 жыхароў) і маёнтак (13 жыхароў, вадзяны млын) у Лагойскай вол. Барысаўскага павета. У пач. 20 ст. вёска ў Лагойскай сельскай грамадзе. У 1905 г. ў яе ўваходзілі 10 кузевіцкіх гаспадарак, якія мелі 149 дзес. зямлі. У 1909 г. ў вёсцы 22 двары, 99 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 9 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 29 двароў, 181 жыхар, у фальварку 1 двор, 53 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 29.10.1924 г. цэнтр Кузевіцкага с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. працавалі кузня, шавецкая майстэрня, у 1930 г. створаны калгас «1 Мая», у 1933 г. працавала гантарэзка. З

20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 80 двароў, 357 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе, загубілі 66 жыхароў, 10 вывезлі ў Германію. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны адноўлена. У 1969 г. 68 двароў, 278 жыхароў.

**ЛАБУНШЧЫНА** — вёска ў Астрошыцкім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Лагойска, 22 км ад Мінска, 34 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 11 гаспадарак, 22 жыхары (2010).

У 1800 г. 6 двароў, 53 жыхары, у складзе фальварка Чудзенічы маёнтка Гарадок. У 1844 г. 4 двары, 24 жыхары, уласнасць графа І.Тышкевіча. У 1870 г. вёска, 13 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета і губ. У 1897 г. 5 двароў, 72 жыхары, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета і губ. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Баярскай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 5 гаспадарак, што валодалі 101,3 дзес. зямлі. У 1909 г. 8 двароў, 24 жыхары. У 1917 г. 12 двароў, 68 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Астрошыцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7. 1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. 12 двароў, 78 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. 21 двор, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе, 2 жыхароў вывезлі ў Германію. 2 вяскоўцы загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны адноўлена. У 1969 г. 18 двароў, 57 жыхароў.

**ЛАВОША** — вёска ў Каменскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Лагойска, 59 км ад Мінска. У вёсцы ніхто не жыве.

У 2-й пал. 19 ст. засценак Лавоша ў Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. ў засценку Лавошы 1 двор, 10 жыхароў. Побач з ім знаходзіўся засценак Сухая Лавоша, 2 двары, 18 жыхароў. У 1917 г. ў весцы Лавоша 10 двароў, 46 жыхароў, у засценку Сухая Лавоша 2 двары, 15 жыхароў. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Каменскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Плешчаніцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 7 двароў, 35 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе, загубілі 11 жыхароў. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны адноўлена. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 4 двары, 14 жыхароў. У 2003 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар.

**ЛАГАЗА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 6 км на ПнЗ ад Лагойска, 45 км ад Мінска, 31 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 270 гаспадарак, 735 жыхароў (2010).

У 1569 г. вёска, 17 дымоў, у складзе маёнтка Сялец, уласнасць К.Тышкевіча ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1740 г. в. Лагаза (яна ж Янкоўшчына), фальварак, вадзяны млын, карчма, уладанне І.Тамковіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1796 г. сяло, 22 двары, 73 сял. душы мужчынскага полу. У 1799 г. вёска, 21 двор, 137 жыхароў, вадзяны млын, цэнтр аднайменнага фальварка Лагазянка, уладанне С.Тышкевіча. Паводле рэвізіі 1816 г. вёска, 96 душ мужчынскага полу, прыватная ўласнасць. У 1833 г. 213 рэвізскіх сял. душ. У 1844 г. паводле інвентару ў маёнтку, у які ўваходзілі вёскі Лагаза і Беланы, было 22 двары, уласнасць С.Паўлікоўскай, яна валодала 1212 дзес. зямлі, сялянам належалі 440 дзес. У 1870 г. вёска каля р. Лагазін-

ка, цэнтр маёнтка Лагаза, 112 сял. душ, уласнасць Паўлікоўскіх. У фальварку меліся вадзяны млын, хлебазапасны магазін. Вёска ўваходзіла ў праваслаўны прыход Успенскай царквы. У 1897 г. вёска (58 двароў, 359 жыхароў, хлебазапасны магазін) і маёнтак (79 жыхароў, вадзяны млын), у Лагойскай вол. Барысаўскага павета. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Лагойскай сельскай грамады. У 1905 г. ў яе ўваходзілі 25 лагазінскіх гаспадарак, якім належалі 442,2 дзес. зямлі. У 1905 г. існаваў крухмальны з-д. У 1909 г. 89 двароў, 365 жыхароў, у в. Лагаза 1-я — 79 двароў, 442 жыхары, у в. Лагаза 2-я — 32 двары, 161 жыхар. У 1909 г. адкрыта земскае нар. вучылішча, на яго базе пасля рэвалюцыі створана 3-гадовая прац. школа, у якой вучыліся дзеці з суседніх вёсак. Быў створаны саўгас «Лагаза». У 1917 г. вёскі Лагаза-1 (79 двароў, 442 жыхары) і Лагаза-2 (32 двары, 161 жыхар) і маёнтак Лагаза-Міхалова (161 жыхар). З 20.8.1924 г. вёска ў Кузевіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Дзейнічалі рымарская, сталярная, кавальская майстэрні, вадзяны млын, крухмальны з-д. У 1941 г. 106 двароў, 607 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 73 двары, загубілі 27 жыхароў, 7 вывезлі ў Германію. 43 вяскоўцы загінулі на фронце, 12 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 226 двароў, 830 жыхароў. У 2003 г. 278 гаспадарак, 780 жыхароў, размяшчалася цэнтр. сядзіба калгаса «Лагаза». У вёсцы клуб, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт бытавога абслугоўвання, магазін.

**ЛАГІ** — вёска ў Швабскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Лагойска, 81 км ад Мінска, 40 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 31 гаспадарка, 54 жыхары (2010).

У 18 ст. сяло, цэнтр маёнтка Лагі (яна ж Гаць), уласнасць манахаў-францысканцаў у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1733 г. 18 двароў, 93 жыхары, царква, уладанне ксяндзоў-езуітаў. У 1733 г. 15 двароў, 55 жыхароў, перайшла ва ўласнасць казны. У 1800 г. 8 двароў, 95 жыхароў, драўляны касцёл, уладанне Дашкевічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 19 ст. маёнтак, уласнасць кн. Пузынаў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1811 г. 41 сял. душа мужчынскага полу, вёска належала І.Пузыну. У 1833 г. ў маёнтак уваходзілі фальварак Гаць і 8 вёсак, 103 сял. душы мужчынскага полу. У 1868 г. непадалёку ад вёскі пабудавана драўляная праваслаўная царква Раства Багародзіцы. У 1897 г. вёскі Лагі (21 двор, 153 жыхары) і Гаць (2 двары, 12 жыхароў, царква) у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 27 двароў, 150 жыхароў. У 1917 г. 38 двароў, 205 жыхароў, на хутары Лагі 2 двары, 8 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Швабаўскім с/с Зембінскага, з вер. 1927 г. Лагойскага р-наў Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы працавалі майстэрні кравецкая, такарная, кавальская і па вырабе аўчын. У 1930-х г. створаны калгас «2-я пяцігодка». У калгасе (25 двароў, 120,4 га зямлі) працавалі сезонныя дзіцячыя яслі на 25 месцаў, вясковая лазня. У 1941 г. 47 двароў, 198 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. спалілі яе, загубілі 7 жыхароў. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 22 сав. воіны і партызаны. Пасля вайны адноўлена. У 1969 г. 47 двароў,

258 жыхароў. У 1974 г. на брацкай магіле савецкіх воінаў пастаўлены помнік.

**ЛАЗОЎКА** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Лагойска, 76 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 12 жыхароў (2010).

У 20 ст. хутар у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 1 двор. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Хатаевіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай (да 9.6.1927 г.), потым Мінскай (да 26.7.1930 г.) акруг. У 1926 г. 1 двор, 11 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 2003 г. 36 гаспадарак, 68 жыхароў.

**ЛЕСНІКІ** — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 62 км на ПнЗ ад Лагойска, 101 км ад Мінска, 32 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Полацк—Маладзечна. 19 гаспадарак, 27 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 14 двароў, 94 жыхары, уладанне Л.Камінскага. У 1880 г. 14 двароў, 135 жыхароў і фальварак графа Тышкевіча (1 двор, 135 жыхароў), у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1905 г. фальварак, 7 жыхароў, належаў графу Тышкевічу, які меў 150 дзес. зямлі. У 1917 г. вёска, 44 двары, 194 жыхары, у Крайскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. вёска (44 двары, 194 жыхары) і засценак (двор, 9 жыхароў) у Барысаўскім павеце. З 20.8.1924 г. ў Крайскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай (да 9.6. 1927 г.), потым Мінскай (да 26.7.1930 г.) акруг. У 1926 г. 51 двор, 289 жыхароў, на хутары 1 двор, 8 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы арганізавалі калгас «Вольны шлях». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 68 двароў, 249 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 3 жыхароў. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце, 7 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 9 партызан брыгады імя Кутузава і радыстка партыз. брыгады «Жалязняк». З 16.7.1954 г. ў Задор'еўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 55 двароў, 235 жыхароў. У 2003 г. 25 гаспадарак, 36 жыхароў.

**ЛІПКІ** — вёска ў Каменскім с/с, за 47 км на ПнУ ад Лагойска, 86 км ад Мінска, 43 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша, на р. Цна (прыток р. Гайна). 14 гаспадарак, 27 жыхароў (2010).

У 1795 г. засценак, 7 двароў, 41 жыхар, уласнасць графа І.Тышкевіча ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1811 г. вёска, 24 рэвізскія душы мужчынскага полу, уласнасць графа М.Тышкевіча. У 1870 г. 41 сял. душа, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 17 двароў, 121 жыхар. У пач. 20 ст. 9 гаспадарак вёскі, якія валодалі 182,5 дзес. зямлі, уваходзілі ў Ліпскую сельскую грамаду. У 1909 г. 21 двор, 107 жыхароў. У 1917 г. 19 двароў, 123 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Ганцавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Плешчаніцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 24 двары, 130 жыхароў. У 1933 г. арганізаваны калгас «Барацьба за калектывізацыю». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 23 двары, 253 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе, загубілі 4 жыхароў, 8 вывезлі ў Германію. 15 вяс-

коўцаў загінулі на фронце, 7 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны адноўлена. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 42 двары, 141 жыхар. У 2003 г. 20 гаспадарак, 35 жыхароў.

**ЛІТВІЧЫ** — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 49 км на ПнЗ ад Лагойска, 88 км ад Мінска, 44 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Полацк—Маладзечна. 11 гаспадарак, 36 жыхароў (2010).

У пач. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Амнішава, уласнасць І.Корсака, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1816 г. 51 сял. душа мужчынскага полу. У 1846 г. ў вёсцы 157 сял. душ. У 1870 г. 72 сял. душы мужчынскага полу. У 1897 г. 42 двары, 257 жыхароў, у Васаўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1905 г. 17 гаспадарак, якія валодалі 622 дзес. зямлі, уваходзілі ў Амнішаўскую сельскую грамаду. У 1909 г. 44 двары, 388 жыхароў. У 1917 г. 51 двор, 290 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Амнішаўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай (да 9.6.1927 г.), потым Мінскай (да 26.7.1930 г.) акруг. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы створаны калгас «Чырвоны Кастрычнік», працавала ваўначоска. У 1941 г. 40 двароў, 316 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе, загубілі 118 жыхароў, 27 вывезлі ў Германію. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адноўлена. З 16.7.1954 г. ў Задор'еўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 32 двары, 152 жыхары. У 2003 г. 21 гаспадарка, 46 жыхароў.

**ЛІЦВІНКАВА** — вёска ў Астрошыцкім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Лагойска, 19 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

У 1800 г. в. Ліцвінка, 3 двары, 19 жыхароў, і фальварак, уладанне М.Адзінца. У 19 ст. ў складзе маёнтка Гарадок у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1861 г. вёска, 14 рэвізскіх душ мужчынскага полу, уладанне графа Тышкевіча. У 1897 г. 11 двароў, 48 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Баярскай сельскай грамады, у 1905 г. ў яе ўваходзілі 5 гаспадарак, якія мелі 52,2 дзес. зямлі. У 1909 г. 7 двароў, 36 жыхароў. У 1917 г. 13 двароў, 83 жыхары. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Астрошыцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.6.1931 г. ў Лагойскім р-не. У 1926 г. 15 двароў, 76 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 15 двароў, 43 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 1 жыхара. 2 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1969 г. 13 двароў, 32 жыхары. У 2003 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары.

**ЛІШЧЫЦЫ** — вёска ў Гайненскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Лагойска, 59 км ад Мінска, 49 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў складзе маёнтка Чырвоны Бор, уласнасць мінскага ген.-губернатара І.М.Няплюева ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1847 г. 13 двароў, 87 жыхароў, уласнасць памешчыка К.Чудакоўскага. У 1870 г. 51 сял. душа мужчынскага полу, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 29 двароў, 233 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 29 двароў, 235 жыхароў. У 1917 г. 34 двары, 199 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Коранскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 39 двароў, 174 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач.

ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 3 двары, загубілі 8 жыхароў. 4 вяскоўцы загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 24.5.1950 г. ў Гайненскім с/с. У 1969 г. 35 двароў, 102 жыхары. У 2003 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў.

**ЛОЗКІ** – вёска ў Гайненскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Лагойска, 64 км ад Мінска, 55 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 5 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

У 1800 г. в. Ложкі, 3 двары, 15 жыхароў і гасп. двор, у Барысаўскім павеце. У 1815 г. 6 сял. душ мужчынскага полу, належала Майштовічам. У 1846 г. 6 сял. душ, уладанне памешчыкаў П. і Р. Падысоцкіх, якія валодалі 236 дзес. зямлі. У 1870 г. цэнтр аднайменнага маёнтка, 6 душ мужчынскага полу. У 1897 г. вёска (13 двароў, 83 жыхары) і засценак (2 двары, 17 жыхароў), у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1905 г. засценак, 2 двары, 28,4 дзес. зямлі, уваходзіў ва Укропавіцкую сельскую грамаду. У 1909 г. ў вёсцы 13 двароў, 116 жыхароў. У 1917 г. 14 двароў, 97 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Коранскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Створаны калгас «Чырвоны партызан». У 1941 г. 24 двары, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 1 двор, загубілі 7 жыхароў, 6 вывезлі ў Германію. З вяскоўцы загінулі на фронце, 2 – у партыз. барацьбе. З 24.5.1960 г. ў складзе Гайненскага сельсавета. У 1969 г. 22 двары, 76 жыхароў. У 2003 г. 11 гаспадарак, 18 жыхароў.

**ЛОНВА** – вёска ў Задор'еўскім с/с, за 62 км на Пн ад Лагойска, 101 км ад Мінска, 38 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Полацк–Маладзечна. 18 гаспадарак, 29 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска, цэнтр маёнтка, уласнасць Агінскіх і Корсака ў ВКЛ. У 1726 г. 13 двароў, уладанне М.Агінскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У пач. 19 ст. ў складзе маёнтка Амнішава ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1816 г. 48 душ мужчынскага полу, уладанне І.Корсака. У 1846 г. 144 сял. душы. У 1870 г. 81 сял. душа мужчынскага полу. У 1897 г. 46 двароў, 339 жыхароў, у Восаўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Амнішаўскай сельскай грамады, у якую ўваходзіла 21 гаспадарка. У 1909 г. 62 двары, 441 жыхар. У 1912 г. пачало дзейнічаць аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. 69 двароў, 379 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Амнішаўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай (да 9.6.1927 г.), потым Мінскай (да 26.7.1930 г.) акруг. У 1926 г. 74 двары, 366 жыхароў. Створаны калгас «Чырвоная Лонва». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 56 двароў, 287 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 25 двароў, загубілі 7 жыхароў, 4 вывезлі ў Германію. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 – у партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. ў Задор'еўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 68 двароў, 253 жыхары.

**ЛУСЬКАЕ** – пасёлак у Задор'еўскім с/с, за 65 км на ПнЗ ад Лагойска, 104 км ад Мінска, 35 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Полацк–Маладзечна. 9 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

У 1941 г. 17 двароў, 85 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941 г. карнікі зні-

шчылі вёску, 5 вяскоўцаў вывезлі ў Германію. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адноўлена. У 1969 г. 79 жыхароў. У 2003 г. 14 гаспадарак, 20 жыхароў.

**ЛУЦАЎШЧЫНА** — вёска ў Лагойскім с/с, за 2 км на ПнУ ад Лагойска, 43 км ад Мінска, 25 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. У вёсцы ніхто не жыве.

У пач. 16 ст. ўладанне Чартарыйскіх у ВКЛ, пазней, каля 1528—30 гг., ва ўладанні Тышкевічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 18 — пач. 19 ст. фальварак у складзе маёнтка Лагойск, уласнасць Тышкевічаў у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле інвентару 1844 г. ў фальварку Луцаўшчына размяшчаліся гасп. драўляны на каменным падмурку будынак, жылы дом, свіран, малатарня, клець, вадзяны млын, лесапільня, бровар, 2 лядоўні, шэраг гасп. пабудоў, у тым ліку ёўня. Налічвалася 200 галоў буйной рагатай жывёлы, 100 коней, 90 свіней. Да фальварка адносілася 400 моргаў раллі і 150 моргаў сенажаці. У 1886 г. тут дзейнічаў бровар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. На базе фальварка створаны саўгас «Луцаўшчына». З 30.8.1924 г. ў Лагойскіх с/с і р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1935 г. працавалі кузня, сталярная майстэрня, цыркулярная піла. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі.

**ЛЮДВІНОВА** — вёска ў Крайскім с/с, за 58 км на ПнУ ад Лагойска, 97 км ад Мінска, 48 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка, у склад якога ўваходзілі фальварак і вёскі Забарожжа і Дубовік. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку 79 сял. душ. У 1846 г. памешчыцы В.Людвігавай належалі маёнтак, 67 прыгонных сялян, 1040 дзес. зямлі, карчма, сялянам — 160 дзес. зямлі. У 1858 г. вёска, 12 жыхароў мужчынскага полу. У пач. 20 ст. фальварак у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1905 г. фальварак, 15 жыхароў, уласнасць Фалевіча, якому належала 41 дзес. зямлі. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 15 двароў, 74 жыхар, у Крайскай вол. Барысаўскага павета. З 20.8.1924 г. вёска ў Крайскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. назву Людвінова мелі 2 населеныя пункты: пасёлак і хутар. У пасёлку 15 двароў, 76 жыхароў, на хутары — 1 двор, 6 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў пасёлку 15 двароў, 70 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 12 двароў, загубілі 8 жыхароў, 1 вывезлі ў Германію. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. У баях за вызваленне вёскі загінулі 11 партызан брыгады «Народныя мсціўцы» імя В.Т.Варанянскага. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 14 двароў, 53 жыхары. У 2003 г. 6 гаспадарак, 11 жыхароў.

**ЛЯДА** — вёска ў Зарэчанскім с/с, за 50 км на ПнЗ ад Лагойска, 89 км ад Мінска, 68 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 19 двароў, 134 жыхары. У пач. 20 ст. 9 гаспадарак, якія валодалі 171 дзес. зямлі, уваходзілі ў Плешчаніцкую сельскую грамаду. У 1909 г. 20 двароў, 121 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З

20.8.1924 г. ў Зарэчанскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 26 двароў, 131 жыхар. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 29 двароў, 143 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію 8 жыхароў. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 30 двароў, 117 жыхароў. У 2003 г. 19 гаспадарак, 32 жыхары.

**ЛЯДА** — вёска ў Плешчаніцкім с/с, за 35 км на ПнУ ад Лагойска, 74 км ад Мінска, 59 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 14 гаспадарак, 32 жыхары (2010).

У 1800 г. засценак, 5 двароў, 35 жыхароў, уладанне Тышкевічаў. У 1833 г. вёска, 41 сял. душа, у складзе маёнтка Плешчаніцы ў Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1846 г. ўласнасць графа І.Тышкевіча. У 1870 г. ў вёсцы 18 душ мужчынскага полу, адносілася да Плешчаніцкага праваслаўнага прыхода Троіцкай царквы. У 1897 г. 21 двор, 156 жыхароў, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1905 г. 9 гаспадарак, якія мелі 171,2 дзес. зямлі, уваходзілі ў Плешчаніцкую сельскую грамаду. У 1909 г. 34 двары, 165 жыхароў. У 1917 г. 40 двароў, 218 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Плешчаніцкіх с/с і р-не Барысаўскай (да 9.6.1927 г.), потым Мінскай (да 26.7.1930 г.) акруг. У 1926 г. 28 двароў, 147 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы створаны калгас «Пралетарый». У 1941 г. 20 двароў, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 3 двары, загубілі 2 жыхароў, 3 вывезлі ў Германію. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 20 двароў, 82 жыхары. У 2003 г. 17 гаспадарак, 32 жыхары.

**ЛЯДА** — вёска Швабскім с/с, за 14 км на У ад Лагойска, 53 км ад Мінска, 61 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 18 гаспадарак, 32 жыхары (2010).

У 2-й пал. 19 ст. ў Юр'еўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1861 г. 43 душы мужчынскага полу, уласнасць памешчыка Н.Карб'еддзя. У 1885 г. вёска адносілася да Сутоцкай сельскай грамады, працавала царк.-прыходская школа. У 1897 г. 23 двары, 173 жыхары. У 1905 — 16 гаспадарак, якія валодалі 248 дзес. зямлі, адносіліся да Сутоцкай сельскай грамады. У 1909 г. 28 двароў, 180 жыхароў. У 1917 г. 31 двор, 203 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Моладзінскім, з 29.10.1924 г. ў Юркавіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7. 1930 г.). У 1924 г. на базе дарэвалюцыйнай адкрыта вясковая школа 1-й ступені, якую наведвалі дзеці з 4 навакольных вёсак. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 56 двароў, 188 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1942 г. спалілі яе, загубілі 36 жыхароў, 2 вяскоўцаў вывезлі ў Германію. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. У 1964 г. на брацкай магіле сав. воінаў, што загінулі пры вызваленні вёскі, пастаўлены абеліск. У 1969 г. 55 двароў, 142 жыхары. З 22.1.2008 г. ў Швабскім с/с.

**ЛЯЎДАНШЧЫНА** — вёска ў Нястанавіцкім с/с, за 45 км на ПнУ ад Лагойска, 84 км ад Мінска, 40 км ад чыг. ст.

Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 18 гаспадарак, 45 жыхароў (2010).

У 1800 г. в. Ляўданшчызна, 6 двароў, 43 жыхары, уладанне М.Валовіча ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1815 г. 33 сял. душы мужчынскага полу, належалі І.Валовічу. У 1870 г. 24 сял. душы мужчынскага полу, у складзе маёнтка Антонаўка, уласнасць памешчыка Забелы. У 1897 г. 18 двароў, 113 жыхароў, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета. Адносілася да Завішынскай сельскай грамады, у якую ўваходзілі 4 гаспадаркі, ім належалі 36,7 дзес. зямлі; 1 гаспадарка, якой належалі 25,6 дзес. зямлі, уваходзіла ў Нястанавіцкую сельскую грамаду. У 1909 г. 8 двароў, 70 жыхароў. У 1917 г. ў вёсках Ляўданшчына 1-я і 2-я 27 двароў, 152 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Завішынскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). З 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 25 двароў, 105 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі 5 жыхароў у Германію. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. вёска ў Нястанавіцкім с/с Плешчаніцкага р-на. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 2003 г. 22 гаспадаркі, 56 жыхароў.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 42 км на ПнУ ад Лагойска, 61 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2010).

У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Пятроліна. У 1846 г. 9 двароў, 72 жыхары, уласнасць графіні Р.Тышкевіч. У 1870 г. 31 сял. душа, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1905 г. 7 гаспадарак, якія валодалі 301,9 дзес. зямлі, уваходзілі ў Коргаўскую сельскую грамаду. У 1897 г. 16 двароў, 105 жыхароў. У 1909 г. 20 двароў, 127 жыхароў. У 1917 г. 23 двары, 115 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Акалоўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 21 двор, 90 жыхароў, на хутары 3 двары, 13 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 21 двор, 94 жыхары. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы вывезлі ў Германію 28 жыхароў. 1 вясковец загінуў на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 14 двароў, 57 жыхароў.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Каменскім с/с, за 50 км на ПнУ ад Лагойска, 89 км ад Мінска, 55 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2010).

У 1909 г. сядзіба, 1 двор, 6 жыхароў, у Зембінскай вобл. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. хутар, 4 двары, 30 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Каменскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 22.9.1927 г. Плешчаніцкага р-на Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 17 двароў, 13 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 27 двароў, 135 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 10 жыхароў вывезлі ў Германію. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 25.12. 1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 41 двор, 156 жыхароў. У 2003 г. 7 гаспадарак, 9 жыхароў.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Лагазінскім с/с, за 3 км на З ад Лагойска, 42 км ад Мінска, 34 км ад чыг. ст. Смалявічы

на лініі Мінск–Орша. 42 гаспадаркі, 84 жыхары (2010).

У 1897 г. ўрочышча Малінаўка, 1 двор, 6 жыхароў, у Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Побач было яшчэ адно ўрочышча Малінаўка-2 (3 двары, 27 жыхароў). У 1908 г. ў засценку 5 двароў, 24 жыхары. У 1917 г. на хутары 4 двары, 46 жыхароў, побач знаходзіўся другі хутар, 1 двор, 10 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 29.10.1924 г. ў Кузевіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 52 двары, 285 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 7 жыхароў, 5 вывезлі ў Германію. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце, 7 – у партыз. барацьбе. У баях пры абароне і вызваленні вёскі загінулі 46 сав. воінаў. У 1969 г. 67 двароў, 224 жыхары. У 2003 г. 39 гаспадарак, 73 жыхары.

**МАЛЫЯ БЯСЯДЫ** – вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 40 км на ПнЗ ад Лагойска, 79 км ад Мінска, 32 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша, на р. Удра (прыток р. Рыбчанка). 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

З 20.8.1924 г. вёска ў Бяседавіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 1924 г. на базе дарэвалюцыйнай створана школа 1-й ступені, у якой навучаліся дзеці з навакольных вёсак. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 41 двор, 142 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 35 двароў. У 1969 г. 13 двароў, 50 жыхароў. У 2003 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў.

**МАЛЫЯ ГАЯНЫ** – вёска ў Бяларуцкім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Лагойска, 18 км ад Мінска, на р. Вяча. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска на левым беразе р. Вяча, 25 двароў, 172 жыхары, драўляная капліца Св. Георгія Пераможцы, уладанне Ф.Аборскага. У 1861 г. вёска, 75 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у складзе маёнтка Гаяны, уласнасць памешчыка Клімовіча. У1897 г. в. Малыя Гаяны (50 двароў, 280 жыхароў, хлебазапасны магазін) і маёнтак Гаяны (28 жыхароў) у Бяларуцкай вол. Мінскага павета і губ. У 1909 г. 63 двары, 340 жыхароў, побач размяшчаўся маёнтак Гаяны, 1 двор, 6 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Бяларуцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1. 1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. 56 двароў, 266 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 2003 г. 11 гаспадарак, 18 жыхароў.

**МАЛЫЯ НЯСТАНАВІЧЫ** – вёска, цэнтр Нястанавіцкага с/с, за 41 км на ПнЗ ад Лагойска, 80 км ад Мінска, 28 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк–Маладзечна. 112 гаспадарак, 246 жыхароў (2010).

У 19 ст. ў Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1858 г. в. Нястанавічы, 92 душы мужчынскага полу. У 1897 г. 54 двары, 339 жыхароў. У 1919 адкрыта польская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні, у ёй навучаліся дзеці з 3 навакольных вёсак. У 1924 г. вучыліся 46 хлопчыкаў і 53 дзяўчынкі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Завішынскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 47 двароў, 250 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас імя Ланцуцкага. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 63 двары, 197 жыхароў. У

Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 17 двароў, 8 жыхароў вывезлі ў Германію. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 16.7.1954 г. вёска ў Нястанавіцкім с/с. З 15.12. 1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 104 двары, 329 жыхароў. У 2003 г. 135 гаспадарак, 310 жыхароў. У вёсцы размешчаны лясніцтва, комплексны прыёмны пункт, б-ка, дзіцячы сад, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. АСБ «Беларусбанк». З 1.8.2011 г. аграгарадок.

**МАЛЫЯ УКРОПАВІЧЫ** — вёска ў Гайненскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Лагойска, 69 км ад Мінска, 60 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 18 гаспадарак, 25 жыхароў (2010).

У 1833 г. фальварак Малыя Укропавічы ў складзе маёнтка Укропавічы. У 1844 г. ўласнасць памешчыцы А.Гушчынай, які яна атрымала ў спадчыну ад свайго брата. У 1897 г. засценак Укропавічы, 5 двароў, 38 жыхароў, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 4 двары, 35 жыхароў. У 1917 г. 15 двароў, 92 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Коранскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 42 двары, 217 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 жыхароў, 16 вывезлі ў Германію. 17 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 24.5.1960 г. ў Гайненскім с/с. У 1969 г. 39 двароў, 134 жыхары. У 2003 г. 23 гаспадарак, 37 жыхароў.

**МАЛЫЯ ЯНУШКАВІЧЫ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Лагойска, 59 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 24 двары, 153 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Янушкавіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1941 г. 37 двароў, 211 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1943 г. спалілі яе, загубілі 150 жыхароў, 8 вывезлі ў Германію. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. Нейкі час вёска мела назву Янушкавічы Гарэлыя. У 1969 г. 23 двары, 80 жыхароў. У 2003 г. 13 гаспадарак, 21 жыхар.

**МАНЧАКІ** — вёска ў Астрошыцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Лагойска, 23 км ад Мінска, 41 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 11 гаспадарак, 22 жыхары (2010).

У 18 ст. фальварак у складзе маёнтка Гарадок. У 1784 г. вёска, 6 двароў, 25 жыхароў, уласнасць пана Адзінца ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1844 г. вёска, 9 двароў, 66 жыхароў, уласнасць І.Тышкевіча, мелася карчма. У пач. 20 ст. адносілася да Прылепскай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 10 гаспадарак, што валодалі 109 дзес. зямлі. У 1909 г. 15 двароў, 98 жыхароў. У 1917 г. вёска (19 двароў, 115 жыхароў) і аднайменны хутар (3 двары, 26 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Астрошыцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. 36 двароў, 174 жыхары. У 1930 г. створаны калгас «Прафінтэрн».

З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 30 двароў, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 4 двары, 1 жыхара вывезлі ў Германію. 2 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1969 г. 27 двароў, 88 жыхароў. У 2003 г. 18 гаспадарак, 31 жыхар.

**МАРКАЎШЧЫНА** – вёска ў Бяларуцкім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Лагойска, 28 км ад Мінска. 26 гаспадарак, 65 жыхароў (2010).

У 1784 г. вёска, 6 двароў, 41 жыхар, уладанне І.Свентаржжыцкага ў ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1795 г. ў вёсцы 6 двароў, 46 жыхароў. У 1800 г. ва ўладанні Ваньковіча. У 1833 г. ў складзе маёнтка Відагошча. У 1846 г. 11 двароў, 64 жыхары. У 1870 г. вёска, 31 душа мужчынскага полу, на р. Вяча, уласнасць памешчыцы Кудзінавічавай. У 1897 г. 17 двароў, 118 жыхароў, у Бяларуцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1909 г. 20 двароў, 131 жыхар. У 1917 г. 23 двары, 175 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Бяларуцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. 25 двароў, 162 жыхары. У вёсцы створаны калгас імя Варашылава. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 22 двары, 110 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 жыхароў, 7 вяскоўцаў вывезлі ў Германію. У 1969 г. 20 двароў, 44 жыхары. У 2003 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў.

**МАРОЗАЎКА** – вёска ў Швабскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Лагойска, 64 км ад Мінска, 55 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск–Орша. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 1885 г. фальварак у Юр'еўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 1 двор, 18 жыхароў. У 1909 г. 3 двары, 22 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. 14 двароў, 62 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію 4 жыхароў. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1969 г. 14 двароў, 51 жыхар. З 22.1.2008 г. ў Швабскім с/с.

**МАСЦІШЧА** – вёска ў Швабскім с/с, за 28 км на ПнУ ад Лагойска, 67 км ад Мінска, 50 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск–Орша, на р. Цна (прыток р. Гайна), 31 гаспадарка, 51 жыхар (2010).

У 1781 г. засценак, 2 двары, уладанне П.Храптовіча ў ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. вёска, 33 рэвізскія душы мужчынскага полу, прыватная ўласнасць стацкага саветніка І.Няплюева. У 1843 г. ў складзе фальварка Ганявічы ў маёнтку Чырвоны Бор, уладанне памешчыка К.Чудоўскага. У 1870 г. вёска, 43 сял. душы мужчынскага полу. У 1897 г. 20 двароў, 177 жыхароў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1909 г. 29 двароў, 262 жыхары. У 1917 г. 25 двароў, 181 жыхар, на аднайменным хутары 1 двор, 8 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1923 г. ў вёсцы працавала школа, якая размяшчалася ў наёмным будынку, яе наведвалі дзеці з 4 навакольных вёсак. Навучанне вялося на бел. мове. З 20.8.1924 г. ў Моладскім, з 29.10.1924 г. ў Юркавіцкім сельсаветах Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы створаны калгас «Пралетарскі перамажца». У 1941 г. 51 двор, 190 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з

пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1944 г. спалілі 34 двары, загубілі 41 жыхара, 2 вывезлі ў Германію. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 7 савецкіх воінаў і партызан. У 1969 г. 46 двароў, 225 жыхароў. З 22.1.2008 г. ў Швабскім с/с.

**МАЦЕЕВА**— вёска ў Задор'еўскім с/с, за 60 км на ПнЗ ад Лагойска, 99 км ад Мінска, 30 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Полацк—Маладзечна. 41 гаспадарка, 86 жыхароў (2010).

У 16 ст. сяло, у якім жылі даннікі, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1560 г. сяло належала панам С.Пяткоўскаму і Скіндарам. Жыхары плацілі даніну воскам, мёдам, лёнам, футрамі баброў, куніц, грашыма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 25 двароў, 173 жыхары, ва ўладанні Ліхадзееўскіх. Паводле рэвізіі 1816 г. вёска, 102 сял. душы мужчынскага полу, уладанне памешчыкаў Ліхадзіеўскіх. У 1888 г. ў вёсцы адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 25 хлопчыкаў. У 1897 г. 64 двары, 422 жыхары, у Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Ізбішчанскай сельскай грамады, у 1905 г. ў яе ўваходзіла 25 гаспадарак, якім належалі 456 дзес. зямлі. У 1909 г. 64 двары, 426 жыхароў. У 1912 г. дзейнічала аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. 76 двароў, 510 жыхароў, у засценку Нова-Мацеева 3 двары, 20 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Ізбішчанскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 83 двары, 488 жыхароў. У 1930 г. ў вёсцы створаны калгас «Перамога», у 1931 г. працаваў вадзяны млын, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 90 двароў, 402 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 4 двары, 8 жыхароў вывезлі ў Германію, 12 вяскоўцаў загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 94 двары, 390 жыхароў. У 2003 г. 60 гаспадарак, 106 жыхароў. Ёсць магазін.

**МАЧАНЫ** — вёска ў Бяларуцкім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Лагойска, 26 км ад Мінска і чыг. ст. Мінск, на р. Вяча (упадае ў Заслаўскае вадасховішча). 31 гаспадарка, 63 жыхары (2010).

У 1784 г. вёска, 20 двароў, 142 жыхары, млын, уласнасць Я.Свентаржыцкага ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вадзяны млын, драўляная капліца, уладанне Ваньковіча. Побач з вёскай быў аднайменны фальварак. У 19 ст. ў складзе маёнтка Відагошча. Паводле рэвізіі 1816 г. ў вёсцы 142 душы мужчынскага полу. У 1870 г. 72 сял. душы мужчынскага полу, у Бяларуцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1886 г. сяло, 18 двароў, 150 жыхароў, хлебазапасны магазін, вадзяны млын, праваслаўная царква на могілках. У 1888 г. адкрыта школа граматы. У 1897 вёска (37 двароў, 247 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква на могілках) і аднайменны маёнтак (15 жыхароў, вадзяны млын) у Беларуцкай вол. Мінскага павета. У 1909 г. 39 двароў, 293 жыхары, у маёнтку Мачаны 1 двор, 5 жыхароў. У 1912 г. ў вёсцы дзейнічала нар. вучылішча. У 1917 г. 49 двароў, 357 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. На базе нар. вучылішча ў 1921 г. ў панскім будынку адкрыта школа, навучанне вялося на бел. мове. У 1924 г. тут вучыліся 88 дзяцей з Мачан і 4 з навакольных вёсак. З 20.8.1924 г. ў Бяларуцкім с/с Астра-

шыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. 77 двароў, 430 жыхароў. У 1930 г. на базе фальварка створаны калгас «Серп і молат». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 72 двары, 360 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску, загубілі 17 жыхароў, 16 жыхароў вывезлі ў Германію. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адноўлена. У 1969 г. 57 двароў, 197 жыхароў. У 2003 г. 33 гаспадаркі, 64 жыхары.

**МАЧУЖЫЧЫ** – вёска ў Лагойскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Лагойска, 63 км ад Мінска, 68 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 15 гаспадарак, 21 жыхар (2010).

У 1706 г. вёска, 16 двароў, уладанне С.Веснаўскай у ВКЛ. У канцы 18 ст. ў складзе маёнтка Косін, дзярж. ўласнасць у Мінскім ваяв. У пач. 19 ст. засценак у складзе маёнтка Косін, уладанне Тышкевічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 21 двор, 105 жыхароў, уладанне графа І.Тышкевіча. У пач. 19 ст. засценак у складзе маёнтка Косін, уладанне Тышкевічаў. У 1844 г. 19 двароў, 168 жыхароў, у складзе маёнтка Косін, у Барысаўскім павеце Мінскай губ., меліся карчма, млын. З 1865 г. вяскоўцы адносіліся да Косінскага праваслаўнага прыхода Успенскай царквы. У 1897 г. вёска, 39 двароў, 235 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Мачужыцкай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 23 мачужыцкія гаспадаркі, што мелі 207,4 дзес. зямлі. У 1909 г. 41 двор, 235 жыхароў. У 1917 г. 43 двары, 256 жыхароў. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Падонкаўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 64 двары, 271 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 3 двары, загубілі 7 жыхароў. 17 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 – у партыз. барацьбе. У 1969 г. 67 двароў, 202 жыхары. У 2003 г. 28 гаспадаркі, 44 жыхары.

**МАЧУЛІШЧА** – вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Лагойска, 61 км ад Мінска, 66 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2010).

У 1858 г вёска Мачунічы, 71 жыхар. У 1870 г. 6 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. засценак, 6 двароў, 41 жыхар. У пач. 20 ст. адносілася да Гайненскай сельскай грамады, у яе ўваходзілі 3 мачулінскія гаспадаркі, якім належалі 63,5 дзес. зямлі. У 1909 г. 7 двароў, 40 жыхароў. У 1917 г. 8 двароў, 57 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Калачоўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы створаны калгас «Пралетарская культура». У 1941 г. 13 двароў, 61 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 4 двары, 3 вяскоўцы загінулі на фронце. З 16.7.1954 г. ў Янушкавіцкім с/с. У 1969 г. 17 двароў, 59 жыхароў. У 2003 г. 13 гаспадарак, 29 жыхароў.

**МЕДУХАВА** – вёска ў Лагазінскім с/с, за 5 км на ПдЗ ад Лагойска, 44 км ад Мінска, 30 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 13 гаспадарак, 29 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 14 двароў, 107 жыхароў, фальварак, уладанне С.Тышкевіча. Паводле рэвізіі 1816 г. вёска, 40 сял. душ, у складзе маёнтка Лагаза, належала Д.Паўлікоўскаму. У 1865 г. адносілася да праваслаўнага прыхода царквы Праабражэння. У 1870 г. фальварак Ме-

духава ў складзе маёнтка Таропава Мінскай губ., уласнасць памешчыка Валіцкага. У 1897 г. вёска (10 двароў, 72 жыхары) і аднайменны фальварак (1 двор, 9 жыхароў), у Лагойскай вол. Барысаўскага павета. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Акуліцкай сельскай грамады. У 1905 г. ў яе ўваходзілі 5 гаспадарак Медухава, якім належалі 49,6 дзес. зямлі. У 1909 г. 4 двары, 24 жыхары. У 1917 г. 7 двароў, 41 жыхар, на хутары 8 двароў, 53 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2003 г. 12 гаспадарак, 23 жыхары.

**МЕЖАНКА** — вёска ў Крайскім с/с, за 58 км на ПнЗ ад Лагойска, 97 км ад Мінска, 48 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2010).

Узнікла ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. пасёлак у Крайскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 5 двароў, 24 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 8 двароў, 41 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 1 жыхар загінуў на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 14 двароў, 54 жыхары. У 2003 г. 7 гаспадарак, 12 жыхароў.

**МІХАЛОВА** — вёска ў Лагойскім с/с, за 3 км на ПнЗ ад Лагойска, 42 км ад Мінска, 29 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). 34 гаспадаркі, 100 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 13 двароў, 84 жыхары, вадзяны млын, сукнавальня. У вёсцы дзейнічаў з-д металічных вырабаў, уласнасць графа С.Тышкевіча, на якім выраблялісяя рэчы для хатняга ўжытку, працавалі сяляне графа. Руду здабывалі побач з вёскай. У 19 ст. вёска, цэнтр адм. маёнтка, уласнасць памешчыкаў Паўлікоўскіх, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1833 г. 133 рэвізскія сял. душы. У 1846 г. ў склад маёнтка ўваходзілі вёскі Беланы і Міхалова. У 1847 г. маёнтак, 14 двароў, 148 жыхароў, уласнасць Д.Паўлікоўскага, на р. Гайна размяшчаўся вадзяны млын, меўся бровар, на якім выраблялася да 200 вёдраў віна ў год, сукнавальня. Вяскоўцы адносіліся да Лагойскага праваслаўнага прыхода Праабражэнскай царквы. У 1870 г. вёска на р. Гайна, 54 рэвізскія душы мужчынскага полу. У 1897 г. вёска (33 двары, 247 жыхароў) і засценак (37 жыхароў), у Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 30 двароў, 154 жыхары, ва ўрочышчы 3 двары 11 жыхароў. У 1917 г. 5 двароў, 309 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 25 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 29.10.1924 г. вёска ў Кузевіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 52 двары, 203 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 43 двары, загубілі 26 жыхароў, 2 вывезлі ў Германію. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1969 г. 52 двары, 116 жыхароў. У 2003 г. 36 гаспадарак, 114 жыхароў.

**МІХАЛКАВІЧЫ** — вёска ў Гайненскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Лагойска, 61 км ад Мінска, 52 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 21 гаспадарка, 59 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў складзе маёнтка Чырвоны Бор, у Мінскіх павеце і ваяв., належала віленскаму капітулу. З 1795 г. ўласнасць мінскага ген.-губернатара І.М.Няплюева. У 1800 г. 30 двароў, 180 жыхароў. Паводле рэвізіі 1816 г.

вёска, 126 душ мужчынскага полу, належала стацкаму саветніку І.Няплюеву. У 1847 г. 21 двор, 294 жыхары, уласнасць памешчыка К.Чудоўскага. У 1870 г. 109 сял. душ мужчынскага полу, адносілася да Жырблевіцкай сельскай грамады. У 1897 г. 28 двароў, 167 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета. У 1909 г. 66 двароў, 956 жыхароў. У 1917 г. 81 двор, 427 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Коранскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы створаны калгас «Чырвоная Лагойшчына». У 1941 г. 64 двары, 249 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 6 жыхароў, 11 вывезлі ў Германію. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 24.5.1960 г. ў Гайненскім с/с. У 1969 г. 57 двароў, 209 жыхароў. У 2003 г. 28 гаспадарак, 64 жыхары. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы І.А.Беластоцкага (1919—81).

**МОКРАДЗЬ** — вёска ў Каменскім с/с, за 19 км на ПнУ ад Лагойска, 48 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

У 1897 г. вёска, 14 двароў, 113 жыхароў, у Плешчаніцкй вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 7 двароў, 45 жыхароў. У 1917 г. 11 двароў, 70 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Каменскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). З 22.9.1927 г. ў Плешчаніцкім р-не Мінскай акругі. У 1926 г. 11 двароў, 60 жыхароў. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 64 двары, 206 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 64 двары. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 18 двароў, 41 жыхар. У 2003 г. 6 гаспадарак, 13 жыхароў.

**МОЛАДЗІ** — вёска ў Швабскім с/с, за 10 км на ПнУ ад Лагойска, 49 км ад Мінска. 29 гаспадарак, 60 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска ў складзе маёнтка Ганявічы, які належаў Віленскаму капітулу. У канцы 18 ст. ўвайшла ў Чырванаборскую эканомію, якую купілі памешчыкі Чудоўскія. У 1800 г. вёскі Моладзі-1 (9 двароў, 47 жыхароў) і Моладзі-2 (5 двароў, 68 жыхароў). Паводле рэвізіі 1816 г. Моладзі Вялікія, 50 сял. душ мужчынскага полу, у в. Моладзі Малыя, 35 сял. душ мужчынскага полу, уласнасць стацкага саветніка І.Няплюева. У 1846 г. в. Моладзі Вялікія, 18 двароў, 139 жыхароў, уладанне К.Чудоўскага. У 1897 г. 35 двароў, 278 жыхароў, у Юр'еўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., меўся смалакурны з-д. У 1909 г. 55 двароў, 264 жыхары. У 1917 г. 44 двары, 239 жыхароў, адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні, навучанне вялося на бел., рус. і польскай мовах. Вучыліся дзеці з 6 вёсак. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 29.10.1924 г. ў Юркавіцкім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 91 двор, 280 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 35 жыхароў, 6 вывезлі ў Германію. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 91 двор, 228 жыхароў. У 2003 г.

32 гаспадаркі, 60 жыхароў. Ёсць магазін. З 22.1.2008 г. ў Швабскім с/с.

**МОШЧАНКА** — вёска ў Астрошыцкім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Лагойска, 26 км ад Мінска, 29 км ад чыг. ст. Мінск. У вёсцы ніхто не жыве.

У пач. 20 ст. фальварак у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1909 г. 1 двор, 7 жыхароў. У 1917 г. 1 двор, 30 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Астрошыцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. ў Лагойскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 10 двароў, 50 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску, загубілі 12 жыхароў. 1 вясковец загінуў на фронце, 9 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адноўлена. У 1969 г. 3 двары, 9 жыхароў. У 2003 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар.

**МУРАВАНКА** (да 2007 г. Мураваны Двор) — вёска ў Гайненскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Лагойска, 52 км ад Мінска, 43 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2010).

У 1800 г. двор і фальварак, 13 жыхароў, драўляная капліца, гаспадарскі дом, вадзяны млын. У 19 ст. вёска, цэнтр маёнтка ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., уласнасць княгіні Янчалычавай (двара Няплюевых). У маёнтак уваходзілі фальварак Равячына, вёскі Айнаравічы, Слабада, Звярынічы і засценак Айнарка. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку 70 двароў, 634 сял. душы. У 1839 г. маёнтак (2662 дзес. зямлі) купілі ген.-маёр С.Смаляк са сваёй жонкай Кацярынай. Паводле інвентару 1846 г. ў маёнтку 511 сял. душ (301 мужчына, 210 жанчын), меліся 2 вадзяныя млыны, хлебазапасны магазін. У 1870 г. уласнасць памешчыцы К.Смаляк. У 1880 г. пачала дзейнічыць вінакурня, у маёнтку працавалі бровар, млын. У 1909 г. 3 двары, 8 жыхароў, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. 19 двароў, 98 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 4 двары, загубілі 9 жыхароў. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 14 двароў, 61 жыхар.

**МУРОЖНАЕ** — вёска ў Швабскім с/с, за 35 км на ПнУ ад Лагойска, 74 км ад Мінска, 41 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша, на р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. засценак, уласнасць пана Храптовіча ў ВКЛ. У 1781 г. засценак Мурожна, 3 двары, уладанне П.Храптовіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1885 г. засценак на р. Гайна, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. вёска, 12 двароў, 71 жыхар. У 1909 г. ў засценку 5 двароў, 40 жыхароў. У 1916 г. ў вёсцы пачало дзейнічаць нар. вучылішча. У 1917 г. 10 двароў, 65 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. 14 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе, загубілі 1 жыхара, 1 вывезлі ў Германію. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адноўлена. У 1969 г. 14 двароў, 62 жыхары. У 2003 г. 8 гаспадарак, 14 жыхароў. З 22.1.2008 г. ў Швабскім с/с.

**МЫШКАВІЧЫ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Лагойска,

60 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

У 1795 вёска, 12 двароў, 81 жыхар, уласнасць К.Дуліча. У 1833 г. ў складзе вотчыннага маёнтка Аскрышына, уладанне К.Дуліча. У 1846 г. 11 двароў. У 1870 г. 62 сял. душы мужчынскага полу, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., меўся хлебазапасны магазін. Вёска адносілася да Янушкавіцкага праваслаўнага прыхода царквы Раства Багародзіцы. У пач. 20 ст. цэнтр Мышкавіцкай сельскай грамады, да якой адносіліся 3 вёскі. У 1905 г. ў яе ўваходзілі 11 мышкавіцкіх гаспадарак, якія мелі 197 дзес. зямлі. У 1909 г. ў вёсцы 28 двароў, 179 жыхароў. У 1917 г. 34 двары, 158 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў складзе Калачоўскага с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы створаны калгас «Новы шлях». У 1941 г. 29 двароў, 140 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі 12 вяскоўцаў у Германію. 18 жыхароў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 14.4.1954 г. ў Янушкавіцкім с/с. У 1969 г. 25 двароў, 83 жыхары. У 2003 г. 13 гаспадарак, 22 жыхары.

**МЫШЫЦЫ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Лагойска, 69 км ад Мінска, 73 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 27 гаспадарак, 56 жыхароў (2010).

У 18 ст. сяло, дзярж. ўласнасць у Калачоўскіх вол. і старостве Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1738 г. сяло, 3 дымы, уласнасць казны. У 1765 г. 6 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У пач. 20 ст. вёска ў Хаценчыцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1905 г. 2 вёскі Мышыцы: (20 жыхароў, 307 дзес. зямлі і 19 жыхароў, 95 дзес. зямлі). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Калачоўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Быў створаны калгас «15-ы пагранатрад». У 1941 г. 45 двароў, 209 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 — у партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. ў Янушкавіцкім с/с. У 1969 г. 50 двароў, 164 жыхары. У 2003 г. 34 гаспадаркі, 69 жыхароў.

**МЯРКОВІЧЫ** — вёска ў Бяларуцкім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Лагойска, 19 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2010).

У 1815 г. вёска, 22 душы мужчынскага полу ў складзе маёнтка Відагошчы, уласнасць памешчыка Ваньковіча. У 1897 г. 17 двароў, 127 жыхароў. У 1909 г. 20 двароў, 134 жыхары. У 1917 г. 23 двары, 133 жыхары. Побач быў засценак Меркавічы, 2 двары, 14 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Бяларуцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. 22 двары, 99 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы створаны калгас «Чырвоны воін», працавала кузня. У 1941 г. 29 двароў, 145 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары, загубілі 1 жыхара, 9 вывезлі ў Германію. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 9 сав. воінаў. У 1969 г. 17 двароў, 86 жыхароў. У 2003 г. 11 гаспадарак, 14 жыхароў.

**МЯТЛІЧЫНА** — вёска ў Астрошыцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Лагойска, 21 км ад Мінска, 39 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 15 гаспадарак, 38 жыхароў (2010).

У 1708 г. засценкі Пасекі і Мятлічына, 10 сядзіб, карчма, у складзе маёнтка Гарадок у ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1846 г. вёска, 4 двары, 56 жыхароў, уласнасць графа М.Тышкевіча, меўся млын, карчма. У 1870 г. 25 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскіх павета і губ., мелася карчма. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Баярскай сельскай грамады, у якую ўваходзілі 4 гаспадаркі, што мелі 70,5 дзес. зямлі. У 1909 г. 14 двароў, 90 жыхароў, побач размяшчаўся маёнтак Мятлічына (2 двары, 15 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Астрошыцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. ў Лагойскім р-не. У 1926 г. назву Мятлічына мелі 4 населеныя пункты. У вёсцы 12 двароў, 66 жыхароў, у пасёлку 6 двароў, 24 жыхары, на хутары 9 двароў, 51 жыхар, у яшчэ адным пасёлку 9 двароў, 45 жыхароў. Пазней яны зліліся ў адну вёску. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 33 двары, 105 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 3 жыхароў, 1 вывезлі ў Германію. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 19 двароў, 68 жыхароў. У 2003 г. 17 гаспадарак, 47 жыхароў.

**МЯТЛІЧЫЦЫ** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 35 км на Пн ад Лагойска, 74 км ад Мінска, 62 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 205 гаспадарак, 557 жыхароў (2010).

У 1618 г. в. Мятлічыцы (яна ж Мятлічы), 19 дымоў, цэнтр аднайменнага маёнтка, уладанне Сапегі ў Мінскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 16 двароў, 76 жыхароў, драўляныя гаспадарскі дом і капліца. У пач. 19 ст. вотчынны маёнтак Мятлічыцы, уладанне памешчыка С.Жалязоўскага, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. 34 душы мужчынскага полу, у маёнтку 179 душ мужчынскага полу. У 1846 г. маёнтак, у склад якога ўваходзілі вёскі Мятлічыцы і Востраў, уладанне памешчыкаў Свяншцкіх. Паводле інвентару 1846 г. ў маёнтку 283 прыгонныя сяляніны, 2 карчмы, вадзяны і валовы млыны, піваварня, бровар, сукнавальня, хлебазапасны магазін, лядоўня. Меліся вапняковая і цагельная печы для ўнутраных патрэб. Была развіта жывёлагадоўля, разводзіліся танкарунныя авечкі і буйная рагатая жывёла. У 1870 г. 68 рэвізскіх душ мужчынскага полу, уласнасць Свянціцкага. У 1876 г. яму належалі 1308 дзес. зямлі. Вёска адносілася да Прусавіцкага прыхода праваслаўнай Мікалаеўскай царквы, дзейнічала нар. вучылішча. У 1897 г. вёска (42 двары, 229 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца) і маёнтак (40 жыхароў), у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Цэнтр сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 17 гаспадарак, што валодалі 205,9 дзес. зямлі. У 1909 г. ў вёсцы 38 двароў, 252 жыхары, у маёнтку 1 двор, 35 жыхароў. У 1917 г. 48 двароў, 221 жыхар, у маёнтку 1 двор, 43 жыхары. У 1918 г. на базе нар. вучылішча створана пач. школа, якую наведвалі дзеці з 8 навакольных вёсак, у 1924 г. тут вучыліся 93 вучні. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Акалоўскім с/с Плешчаніцкага р-на Ба-

рысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). Працаваў цагельны з-д. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 30 двароў, 157 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары, 30 вяскоўцаў вывезлі ў Германію. 8 жыхароў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 62 двары, 206 жыхароў. У 2003 г. 202 двары, 604 жыхары. У вёсцы размешчаны цэнтр СПК «Жасцінае», Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, магазін. З 1.8.2011 г. аграгарадок.

**МЯХЕДЫ** — вёска ў Швабскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Лагойска, 69 км ад Мінска, 40 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2010).

У 1733 г. вёска, 5 двароў, уласнасць манахаў-езуітаў, у Мінскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 6 двароў, 48 жыхароў, уладанне Дашкевічаў. У 19 ст. ўласнасць кн. Пузынаў у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1811 г. 27 рэвізскіх сял. душ мужчынскага полу, вёска належала кн. І.Пузыну, у 1843 г. яго сыну К.Пузыну. У 1870 г. 33 сял. душы мужчынскага полу. У 1897 г. 22 двары, 140 жыхароў, смалакурня, хлебазапасны магазін, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 18 двароў, 134 жыхары. У 1917 г. 21 двор, 153 жыхары, на хутары 1 двор, 10 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. 21 двор, 105 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе, загубілі 5 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны адбудавана. У 1969 г. 20 двароў, 111 жыхароў. У 2003 г. 16 гаспадарак, 20 жыхароў. З 22.1.2008 г. ў Швабскім с/с.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 37 км на ПнЗ ад Лагойска, 76 км ад Мінска, 60 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 8 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

У 1782 г. вёска, 4 двары, у складзе маёнтка Косін, уласнасць казны ў ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1833 г. ў складзе маёнтка Акалова, уласнасць памешчыка І.Валовіча ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. 27 сял. душ мужчынскага полу. У 1897 г. 17 двароў, 107 жыхароў, у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1905 г. 7 гаспадарак, якім належала 155 дзес. зямлі, уваходзілі ў Акалоўскую сельскую грамаду. У 1909 г. 14 двароў, 95 жыхароў. У 1917 г. 16 двароў, 106 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 18 двароў, 90 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію 9 жыхароў. 4 вяскоўцы загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 22 двары, 70 жыхароў.

**НАРБУТАВА** — вёска ў Гайненскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Лагойска, 69 км ад Мінска, 50 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 18 ст. засценак, уласнасць Коранскай каталіцкай плябаніі. У 1800 г. засценак, 4 двары, 26 жыхароў. У 1811 г. 2 душы мужчынскага полу, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Пасля паўстання 1830—31 гг. Нарбутава далучана да дзярж. маёнтка Гайна. У 1870 г. ў засценку 15 душ мужчынскага полу, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага

павета, адносіўся да Гайненскай сельскай грамады. У 1905 г. ў яе ўваходзілі 3 гаспадаркі, якія валодалі 80,8 дзес. зямлі. У 1909 г. 6 двароў, 41 жыхар. У 1917 г. 8 двароў, 51 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.08.1924 г. ў Коранскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 8 двароў, 47 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1969 г. 11 двароў, 44 жыхары.

**НІЎКІ** — вёска ў Лагойскім с/с, за 7 км на ПнУ ад Лагойска, 46 км ад Мінска, 32 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 19 гаспадарак, 46 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах згадваюцца ў 16 ст. ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1551 г. маёнтак Ніўкі набыў ваявода смаленскі, староста мінскі і пінскі В.Тышкевіч, які ў 1570 г. завяшчаў яго свайму сыну Юрыю. У 1596 г. сяло і фальварак Ніўкі, 5 дымоў, 14 сял. душ мужчынскага полу, у складзе маёнтка Сялец, уласнасць К.Тамковіча ў Мінскім павеце і ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 6 двароў, 43 жыхары. У 1833 г. фальварак, які быў у складзе маёнтка Лагойск, — уладанне графа К.Тышкевіча. У 1866 г. вёска адносілася да Лагойскага праваслаўнага прыхода Мікалаеўскай царквы. У 1870 г. 33 рэвізскія сял. душы мужчынскага полу. У 1897 г. вёска (9 двароў, 68 жыхароў), фальварак (1 двор, 14 жыхароў) і сядзіба (2 двары, 20 жыхароў) у Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Хатынскай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 8 гаспадарак в. Ніўкі, што мелі 116,6 дзес. зямлі. У 1909 г. 14 двароў, 82 жыхары. У 1917 г. 13 двароў, 84 жыхары, у фальварку 2 двары, 22 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. 52 двары, 260 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 23.6.1943 г. спалілі яе, 4 жыхароў вывезлі ў Германію. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адноўлена. У 1969 г. тут было 35 двароў, 147 жыхароў. У 2003 г. 21 гаспадарка, 54 жыхары.

**НАВАГАНЦАВІЦКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Каменскім с/с, за 54 км на ПнУ ад Лагойска, 93 км ад Мінска, 52 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша, на р. Чарніца (прыток р. Цна). 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

У канцы 19 ст. хутар у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. хутар, 26 двароў, 167 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Ганцавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 22.9.1927 г. Плешчаніцкага р-на. У 1926 г. 33 двары, 193 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 26 двароў, 109 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 20 двароў, загубілі 11 жыхароў, 10 вывезлі ў Германію. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1969 г. 28 двароў, 101 жыхар.

**НАВАГАНЦАВІЦКАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Каменскім с/с, за 50 км на ПдУ ад Лагойска, 89 км ад Мінска, 47 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У пач. 20 ст. вёска ў Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ.

У 1908 г. 21 двор, 99 жыхароў. У 1917 г. 11 двароў, 78 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Ганцавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 22.9.1927 г. Плешчаніцкага р-на. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 20 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе, 1 жыхара вывезлі ў Германію. 1 вясковец загінуў на фронце і 2 у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 6 двароў, 26 жыхароў. У 2003 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар.

**НАВАГАНЦАВІЧЫ** — вёска ў Каменскім с/с, за 49 км на ПнУ ад Лагойска, 88 км ад Мінска, 43 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

У пач. 20 ст. хутар у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 14 двароў, 131 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Ганцавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 22.9.1927 г. Плешчаніцкага р-на. У 1926 г. 24 двары, 142 жыхары, на аднайменным хутары 7 двароў, 39 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 26 двароў, 45 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе, загубілі 27 жыхароў, 17 вывезлі ў Германію. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адбудавана. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 17 двароў, 59 жыхароў. У 2003 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў.

**НОВАЕ ГАРАДЗІШЧА** — вёска ў Лагазінскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Лагойска, 47 км ад Мінска, 34 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 15 гаспадарак, 30 жыхароў (2010).

У пач. 20 ст. хутар у Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. на хутары 1 двор, 9 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1930 г. створаны калгас «Памяць Леніна». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 9 жыхароў. У 2003 г. 24 гаспадаркі, 48 жыхароў.

**НОВАЕ ЖЫЦЦЁ** — вёска ў Лагазінскім с/с, за 6 км на ПнЗ ад Лагойска, 45 км ад Мінска, 31 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 12 гаспадарак, 22 жыхары (2010).

Узнікла у 1930-я г. ў час калектывізацыі. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 жыхары. У 2003 г. 16 гаспадарак, 35 жыхароў.

**НОВАЕ ЧЭРНЕВА** — вёска ў Гайненскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Лагойска, 56 км ад Мінска, 47 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

У 1870 г. фальварак, 1 двор, 5 жыхароў. У 1897 г. фальварак Чэрнева, 1 двор, 5 жыхароў, у Гайненскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. в. Новае Чэрнева (Алексяполь), 17 двароў, 113 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Коранскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У вёсцы створаны калгас «Чырвонае Чэрнева». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 24 двары, 117

жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 7 двароў. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 24.5.1960 г. ў Гайненскім с/с. У 1969 г. 17 двароў, 54 жыхары.

**ПАГРАБІШЧА** – вёска ў Швабскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Лагойска, 54 км ад Мінска, 53 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск–Орша. 11 гаспадарак, 12 жыхароў (2010).

Вёска вядома пад назвамі Моладзі, Монтыя, Моладзі Малыя. У канцы 18 ст. ў складзе маёнтка Ганявічы, які пазней увайшоў у склад Чырванаборскай эканоміі, уласнасць мінскага ген.-губернатара І.М.Няплюева. У 19 ст. ўласнасць памешчыкаў Чудоўскіх. У 1846 г. в. Моладзі Малыя (яна ж Паграбішча), 9 двароў, 70 жыхароў, у складзе маёнтка Ганявічы Чырванаборскай эканоміі, уладанне К.Чудоўскага. У 1870 г. 18 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. в. Паграбішча (яна ж Моладзі Малыя), 11 двароў, 75 жыхароў, у Юр'еўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 18 двароў, 141 жыхар. У 1917 г. 20 двароў, 106 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Моладскім, з 29.10.1924 г. ў Юркавіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 36 двароў, 122 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1969 г. 58 двароў, 110 жыхароў. У 2003 г. 16 двароў, 25 жыхароў. Размешчаны помнікі прыроды – крыніцы. З 22.1.2008 г. ў Швабскім с/с.

**ПАГРАНІЧЧА** – вёска ў Каменскім с/с, за 56 км на ПнУ ад Лагойска, 95 км ад Мінска, 47 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск–Орша. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

У 1833 г. засценак у складзе маёнтка Ганцавічы ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1846 г. 1 двор, 11 жыхароў, уласнасць губ. сакратара І.Лапіцкага. У 1858 г. вёска, 22 жыхары. У 1885 г. хутар у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. засценак, 5двароў, 36 жыхароў. У 1909 г. 5 двароў, 39 жыхароў. У 1917 г. ў засценку 6 двароў, 43 жыхары, на хутары 1 двор, 17 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Ганцавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 22.9.1927 г. Плешчаніцкага р-на. У 1926 г. 15 двароў, 78 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 19 двароў, 38 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1943 г. спалілі вёску, загубілі 13 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 18 двароў, 82 жыхары.

**ПАДВАРАНЕ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Лагойска, 64 км ад Мінска. Ніхто не пражывае.

У 1728 г. вёска, 13 двароў, 27 жыхароў мужчынскага полу, млын, уладанне М.Сяняўскай у ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У пач. 20 ст. ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёска і лясная вартоўня Падвараны (яна ж Жаркі). У 1905 г. 50 жыхароў, да вёскі адносілася 46 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 8 двароў, 50 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бясядскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мін-

скай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 6 двароў, 24 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Янушкавіцкім с/с. У 1969 г. 4 двары, 12 жыхароў.

**ПАДЛАП'Е** – вёска ў Каменскім с/с, за 44 км на ПнУ ад Лагойска, 83 км ад Мінска, 46 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск–Орша, на р. Чарніца (прыток р. Цна). 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

У пач. 20 ст. хутар у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 2 двары, 10 жыхароў. У 1917 г. засценак, 3 двары, 17 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Каменскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 22.9.1927 г. Плешчаніцкага р-на. У 1926 г. 8 двароў, 43 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1941 г. 11 двароў, 55 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 1 двор, загубілі 1 жыхара. З вяскоўцы загінулі на фронце, 1 – у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 12 двароў, 31 жыхар. У 2003 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары.

**ПАДЧАРНІЦА** – вёска ў Акалоўскім с/с, за 43 км на ПнУ ад Лагойска, 82 км ад Мінска, 72 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша, на р. Чарніца (прыток р. Цна). 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

У 1870 г. вёска, 2 рэвізскія душы мужчынскага полу, у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Адносілася да Прусавіцкага праваслаўнага прыхода Мікалаеўскай царквы. У 1897 г. 17 двароў, 108 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Прусавіцкай сельскай грамады. У 1909 г. 15 двароў, 129 жыхароў. У 1917 г. 18 двароў, 98 жыхароў, побач знаходзіўся млын, 1 двор, 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прусавіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 22 двары, 108 жыхароў, на хутары 2 двары, 12 жыхароў. У вёсцы створаны калгас «Іскра», працавала кузня. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 20 двароў, 93 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 1 двор, загубілі 2 жыхароў, 7 вывезлі ў Германію. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 – у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 16 двароў, 53 жыхары.

**ПАЛОСЫ** – вёска ў Зарэчанскім с/с, за 58 км на ПнЗ ад Лагойска, 97 км ад Мінска, 40 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк–Маладзечна. 14 гаспадарак, 28 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 2 двары, 13 жыхароў, уладанне М.Валовіча. У 19 ст. ў Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., побач размяшчаліся 2 аднайменныя маёнткі. У 1905 г. 67 жыхароў, 57 дзес. зямлі, адносілася да маёнтка Міцкевічаў. З жыхары валодалі 86 дзес. зямлі. У маёнтку Дубаневіча 10 жыхароў, якія валодалі 20 дзес. зямлі. У 1917 г. 7 двароў, 88 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Запольскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 18 двароў, 79 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 13 двароў, 65 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 13 двароў, загу-

білі 3 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 18 двароў, 67 жыхароў. У 2003 г. 16 гаспадарак, 42 жыхары.

**ПАНІЗОЎЕ** — вёска ў Лагойскім с/с, за 8 км на У ад Лагойска, 47 км ад Мінска, 34 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). 30 гаспадарак, 59 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска ў складзе фальварка Заазер'е, уласнасць віленскага капітула ў ВКЛ. У 1721 г. 9 двароў, шляхецкая ўласнасць. У 1736 г. ў складзе фальварка Заазер'е, уладанне Віленскай каталіцкай капітулы. У 2-й пал. 18 ст. уладанне Тызенгаўза і Тышкевічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 16 двароў, 126 жыхароў, вадзяны млын, уладанне Тышкевічаў. У 1811 г. 67 рэвізскіх душ мужчынскага полу, уласнасць графа П.Тышкевіча. У 1813 г. на могілках пабудавана драўляная Міхайлаўская царква. У 1833 г. вёска ў складзе маёнтка Лагойск. З 1866 г. адносілася да Лагойскага праваслаўнага прыхода Мікалаеўскай царквы. У 1870 г. 66 рэвізскіх душ мужчынскага полу, на р. Гайна, у Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1886 г. сяло, былое прыватнае ўладанне, 22 двары, 164 жыхары, мелася праваслаўная царква. У 1888 г. дзейнічала школа граматы. У 1897 г. вёска, 29 двароў, 304 жыхары, хлебазапасны магазін, царква на могілках. У пач. 20 ст. цэнтр Панізоўскай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 5 гаспадарак, што мелі 270,8 дзес. зямлі. У 1908 г. адкрыта земская школа. У 1909 г. 239 жыхароў. У 1912 г. працавала аднакласнае нар. вучылішча, для якога ў 1916 г. пабудавана ўласнае памяшканне. У 1917 г. 40 двароў, 273 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Лагойскім с/с. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Варашылава. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 60 двароў, 285 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію 12 жыхароў. 17 вяскоўцаў загінулі на фронце, 12 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 71 двор, 248 жыхароў. У 2003 г. 37 гаспадарак, 87 жыхароў.

**ПАНІШЭЎШЧЫНА** — вёска ў Астрошыцкім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Лагойска, 25 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

Вядома з 18 ст. як цэнтр аднайменнага маёнтка ў Мінскіх павеце і ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1795 г. 5 двароў, 35 жыхароў, належала памешчыку Стральбіцкаму. У 1800 г. 8 двароў, 35 жыхароў, уласнасць ротмістра В.Адынца ў Мінскіх павеце і губ. У 2-й пал. 19 ст. ўласнасць памешчыкаў братоў А. і М. Жабінскіх. У 1858 г. 25 сял. душ мужчынскага полу. У 1860 г. вёска ў складзе маёнтка Гарадок Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскіх павета і губ., належала графу М.Тышкевічу. У 1864 г. існавала праваслаўная Паўлаўская царква на могілках. У 1897 г. 12 двароў, 77 жыхароў. У 1905 г. 11 гаспадарак, якія валодалі 119,2 дзес. зямлі, уваходзілі ў Баярскую сельскую грамаду. У 1909 г. 12 двароў, 92 жыхары. 16.10.1912 г. ў вёсцы адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмным будынку (за наём плацілі 30 руб. у год), вучыліся дзеці з вёсак Тхарніца, Чапы, Зыкава, Ліцвінкава, Кавалеўшчына. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Астрошыцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. ў Лагойскім р-не. У 1926 г. 18 двароў, 124 жыхары. З

20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2003 г. 10 гаспадарак, 20 жыхароў.

**ПАНЫШШЫ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Лагойска, 53 км ад Мінска, 74 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Выпрата (прыток р. Ілія). 12 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

У пач. 20 ст. вёска ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1905 г. 143 жыхары, 106 дзес. зямлі. Побач размяшчалася сядзіба Чаховіча, 15 жыхароў, 20 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 33 двары, 170 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Калачоўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 30 двароў, 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце, 22 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 20 сав. воінаў і партызан. З 16.7. 1954 г. ў Янушкавіцкім с/с. У 1969 г. 35 двароў, 102 жыхары. У 2003 г. 14 гаспадарак, 19 жыхароў.

**ПАПОЎЦЫ** — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 62 км на ПнЗ ад Лагойска, 101 км ад Мінска, 27 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Полацк—Маладзечна, на р. Лотва (прыток р. Вілія). 16 гаспадарак, 25 жыхароў (2010).

У 2-й пал. 19 ст. сяло ў Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1870 г. 22 рэвізскія душы мужчынскага полу. У 1886 г. былое прыватнае уладанне, 5 двароў, 52 жыхары. У 1897 г. в. Папоўцы (яна ж Драгічы), 23 двары, 135 жыхароў. У пач. 20 ст. адносілася да Ізбішчанскай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 5 гаспадарак, што валодалі 420 дзес. зямлі. У 1909 г. 18 двароў, 60 жыхароў. У 1917 г. 13 двароў, 58 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Ізбішчанскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 26 двароў, 143 жыхары. З 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1941 г. 50 двароў, 254 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе (45 двароў). 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адбудавана. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 43 двары, 177 жыхароў. У 2003 г. 25 гаспадарак, 40 жыхароў.

**ПАРХАВА** — вёска ў Лагойскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Лагойска, 19 км ад Мінска. 32 гаспадаркі, 63 жыхары (2010).

У канцы 18 ст. вёска, уласнасць А.Тызенгаўза, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 7 двароў, 49 жыхароў, ва ўладанні Тышкевічаў. Паводле рэвізіі 1811 г. 26 сял. душ мужчынскага полу, у Мінскіх павеце і губ. З 1866 г. вёска адносілася да Лагойскага праваслаўнага прыхода Мікалаеўскай царквы. У 1870 г. 25 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1873 г. пабудавана капліца на могілках. У 1897 г. 17 двароў, 137 жыхароў, кузня, капліца, у Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. адносілася да Панізоўскай сельскай грамады, у 1905 г. ў яе ўваходзілі 6 гаспадарак, якім належалі 93 дзес. зямлі. У 1909 г. ў вёсцы адкрыта земская школа. У 1917 г. 20 двароў, 257 жыхароў. На базе дарэв. створана пач. школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. Навучанне вялося на бел. мове. З

лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Падонкаўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1930 г. арганізаваны калгас «Прамень сонца». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 70 двароў, 351 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску, загубілі 38 жыхароў, 10 вывезлі ў Германію. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны адбудавана. У 1969 г. 67 двароў, 262 жыхары.

**ПАСАДЗЕЦ** — вёска ў Зарэчанскім с/с, за 58 км на ПнЗ ад Лагойска, 97 км ад Мінска, 42 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 53 гаспадаркі, 162 жыхары (2010).

У канцы 19 ст. вёска ў Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Побач, на воз. Якубоўшчына, размяшчаўся фальварак памешчыка Ясінскага. У 1898 г. пачала дзейнічаць царк.-прыходская школа. У 1903 г. адкрыта аднакласнае нар. вучылішча. У 1905 г. 72 жыхары, да вёскі адносілася 85 дзес. зямлі, у фальварку 4 жыхары, 48 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Запольскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 35 двароў, 167 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 33 двары, 158 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 17 двароў, загубілі 29 жыхароў, 27 вывезлі ў Германію. 1 вясковец загінуў на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 37 двароў, 146 жыхароў. У 2003 г. 66 двароў, 193 жыхары. У вёсцы размешчаны Дом культуры, б-ка, базавая школа, аддз. сувязі, камбінат быт. абслугоўвання, магазін. Радзіма бел. пісьменніка Змітрака Бядулі (1886—1941), чыё імя прысвоена мясц. базавай школе.

**ПАЎЛЯНЯТЫ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 32 км на З ад Лагойска, 71 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 1795 г. в. Паўляняты, 3 двары, 25 жыхароў, уласнасць Стральбіцкага. У 1800 г. в. Паўліняты (яна ж Паўлюняты), 3 двары, 25 жыхароў, уладанне Страмбіцкага. У пач. 20 ст. ў Хаценчыцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1905 г. 42 жыхары, да вёскі адносіліся 38 дзес. зямлі. Побач размяшчалася сядзіба Паўляняты, 27 жыхароў, 65 дзес. зямлі, належала Чаховічу. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 15 двароў, 64 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Бясядскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы размяшчалася кузня. У 1941 г. 14 двароў, 85 жыхароў. У Вял. Айч. Вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 12 двароў. З 16.7.1954 г. ў Янушкавіцкім с/с. У 1969 г. 8 двароў, 35 жыхароў.



*З.Бядуля.*

**ПЕРШАМАЙСКАЯ** (да 1928 г. Жыдаўка) — вёска ў Акалоўскім с/с, за 43 км на ПнУ ад Лагойска, 82 км ад Мінска, 72 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Чарніца (прыток р. Цна). 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2010).

У канцы 19 ст. вёска і фальварак Жыдаўка ў Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. ў фальварку 1 двор, 7 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 18 двароў, 128 жыхароў. У 1917 г.

19 двароў, 115 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак у Прусавіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 21 двор, 117 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. З 30.1.1976 г. ў Акалоўскім с/с. У 2003 г. 6 гаспадарак, 10 жыхароў.

**ПЛЕШЧАНІЦЫ** — гарадскі пасёлак у Лагойскім р-не. Цэнтр Плешчаніцкага с/с. Размешчаны на р. Дзвінаса (прыток р. Вілія) і каля Плешчаніцкага вадасховішча. За 27 км ад г. Лагойск, 67 км ад Мінска, на скрыжыванні аўтамагістралей Барысаў—Вілейка і Мінск—Віцебск. Насельніцтва 5,9 тыс. жыхароў (2010).

У 15 ст. Плешчынцы ўпамінаюцца як сяло ў складзе маёнтка Лагойск у Мінскім павеце ВКЛ. У 1492 г. Плешчаніцы згодна прывілею вял. кн. ВКЛ Аляксандра пераходзілі ў пажыццёвае валоданне А.Чартарыйскай, удаве кн. А.Мажайскага. У 1525 г. ўпамінаюцца ў адмоўным запісе княгіні Мажайскай на трэцюю частку маёнтка Плешчаніцы на карысць Віленскага ваяводы А.Гаштольда. У 1530 г. ва ўладанні В.І.Саламярэцкага (Шаховіча-Саламярэцкага), у 1609 г. Плешчаніцы — уладанне Э. Кавячынскага. У 18 ст. ўласнасць Хатаевіцкай парафіі ў Мінскіх павеце і ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. мястэчка, 36 двароў, 341 жыхар, царква Св. Троіцы (уніяцкая), драўляны гаспадарскі двор, 2 разы ў год (у крас. і кастр.) праводзіліся кірмашы, уладанне Тышкевічаў. Паводле рэвізіі 1811 г. мястэчка Плешчаніцы (63 душы мужчынскага полу) і аднайменны маёнтак, у які ўваходзілі фальварак і 12 вёсак (373 душы мужчынскага полу, ва ўладанні Дамініка Тышкевіча). У час вайны 1812 г. каля Плешчаніц рас. атрад генерала Я.І.Чапліца 19 ліст. разбіў авангард 9-га французскага корпуса маршала Віктора. У 1817 г. на сродкі графіні С.Тышкевіч пабудавана праваслаўная Троіцкая царква. У 1825 г. Тышкевічамі створаны прыгонны тэатр (дзейнічаў да 1835 г.). У 1833 г. мястэчка (176 жыхароў) і маёнтак (905 прыгонных сялян), які складаўся з 3 фальваркаў і 9 вёсак, уласнасць графа І.Тышкевіча. У мястэчку размяшчаліся карчма і заезны дом. У маёнтку меліся сукнавальня, 5 корчмаў, хлебазапасны магазін, млын і пільніца на р. Дзвінаса. Асн. заняткам сялян было земляробства, якое яны спалучалі з вырабамі лясных матэрыялаў (калод, брусоў і г. д.). Вясной наймаліся на сплаў лесу. У 1867 г. пачало дзейнічаць нар. вучылішча (у 1892 г. вучыліся 46 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі). У 1882 г. засн. ф-ка па вырабе шавецкіх капылоў і шпілек (у 1905 г. ўстаноўлена паравая машына, працавала 106 рабочых). У 1886 г. мястэчка, 9 двароў, 102 жыхары, валаснное праўленне, царква, сінагога, нар. вучылішча, бровар, 5 крам, 2 піцейныя двары. Па аўторках адбыва-



*Петрапаўлаўская царква ў г.п. Плешчаніцы.*

ліся базары і 2 кірмашы (23 крас. і 1 кастр.) у год. У 1896 г. засн. ф-ка драўляных шавецкіх цвікоў (уладальнік — купец І.Б.Цяпліц). У 1897 г. ў мястэчку 126 двароў, 1063 жыхары, з-ды гарбарны і драўляных цвікоў, 5 кузняў, нар. вучылішча, царква, малітоўная школа, 2 заезныя і піцейны дамы, паштовае аддз. Побач быў маёнтак (29 жыхароў). У 1897 г. пабудавана новая драўляная Троіцкая царква. У 1909 г. мястэчка, 120 двароў, 881 жыхар. У 1917 г. 177 двароў, 997 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921 г. нар. вучылішча пераўтворана ў школу 1-й ступені, у 1922 г. ў сямігодку. У 1924 г. тут навучаліся 679 вучняў з 21 населенага пункта. У 1922 г. арганізаваны саўгас «Плешчаніцы». З 17.7.1924 г. цэнтр сельсавета і Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1929 г. працавалі электрастанцыя, млын, лесапільня, сукнавальня, з 1930 г. арцель па вырабе гонту, з 1933 г. Плешчаніцкая МТС. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 27.9. 1938 г. гар. пасёлак. Працавалі маслазавод, кравецкая і шавецкая майстэрні, крухмальны і смалакурны з-ды імя Сталіна. Выдавалася раённая газ. «Барацьбіт за калектывізацыю» (з 1938 г. «Ленінец»). У 1939 г. ў Плешчаніцах было 3,7 тыс. жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў горадзе і раёне 2063 чал. З 18.8.1941 г. да 25.11.1942 г. дзейнічала Плешчаніцкае камсамольска-маладзёжнае падполле (кіраўнік П.І.Адамовіч). 17.8.1943 г. партызаны брыгад «Народныя мсціўцы» і «Дзядзькі Колі» разграмілі плешчаніцкі гітлераўскі гарнізон. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1998 г. на месцы невял. Міхайлаўскага драўлянага храма



*Дом дзіцячай творчасці ў г.п. Плешчаніцы.*

(быў закрыты ў 1930-я г. і выкарыстоўваўся пад склад збожжа; у 1941 г. згарэў) пабудавана Петрапаўлаўская царква. Працуюць ПРУП «Кобальт», ААТ «Плешчаніцлес», філіял №3 «Прафітсістэм», 61 прадпрыемства рознічнага гандлю, 2 сярэднія школы, школа мастацтваў, Дом культуры, Дом дзіцячай творчасці, 2 б-кі, бальніца. Магілы ахвяр фашызму і брацкая сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Помнік археалогіі — курганны могільнік. Радзіма Героя Сав. Саюза М.К.Шута (1916—77).



*М.К.Шут.*

**ПРАГОН** — вёска ў Нястанавіцкім с/с, за 48 км на ПнЗ ад Лагойска, 87 км ад Мінска, 25 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 14 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска ў складзе леннага маёнтка Нястанавічы, уладанне памешчыкаў Асцімскіх. Паводле рэвізіі 1816 г. в. Прагой, 34 душы мужчынскага полу, уласнасць памешчыка В.Асцімскага. У 1833 г. 44 рэвізскія сял. душы. Паводле інвентару 1846 г. 9 двароў, 69 жыхароў. У 1870 г. 32 сял. душы мужчынскага полу У 1897 г. 29 двароў, 194 жыхары, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Вёска адносілася да Нястанавіцкай сельскай грамады. У 1909 г. 33 двары, 259 жыхароў. У 1917 г. 40 двароў, 192 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З

1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Завішынскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 35 двароў, 140 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 27 двароў, 74 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 1 двор, 2 жыхароў вывезлі ў Германію. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. У баях за вызваленне вёскі загінулі 2 партызаны. З 16.7.1954 г. ў Нястанавіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 33 двары, 97 жыхароў. У 2003 г. 16 гаспадарак, 23 жыхары.

**ПРАХОДЫ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Лагойска, 76 км ад Мінска. 20 гаспадарак, 35 жыхароў (2010).

У 1809 г. засценак, 4 гаспадаркі, у складзе фальварка Хатаевічы Хатаевіцкай вол. У 1870 г. з назвай Праходы былі 2 вёскі: Праходы 1-я, 3 сял. душы мужчынскага полу, Праходы 2-я, таксама 3 сял. душы мужчынскага полу, якія адносіліся да казённага маёнтка Хатаевічы. У 1897 г. вёска (4 двары, 31 жыхар) і засценак (2 двары, 23 жыхары) у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1905 г. 4 гаспадаркі, якія валодалі 46,4 дзес., уваходзілі ў Хатаевіцкую сельскую грамаду. У 1909 г. вёскі Праходы 1-я (5 двароў, 33 жыхары) і Праходы 2-я (2 двары, 26 жыхароў). У 1917 г. Праходы 1-я — 6 двароў, 21 жыхар, Праходы 2-я — 4 двары, 29 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Хатаевіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. Праходы 1-я (9 двароў, 29 жыхароў), Праходы 2-я (5 двароў, 23 жыхары). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 34 двары, 128 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 7 жыхароў, 9 вывезлі ў Германію. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 37 двароў, 132 жыхары.

**ПРУДЗІШЧА** — вёска ў Бяларуцкім с/с, за 23 км на З ад Лагойска, 42 км ад Мінска, на р. Вяча (прыток р. Свіслач). 19 гаспадарак, 32 жыхары (2010).

У 1751 г. пабудавана драўляная праваслаўная царква на могілках. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 18 ст. маёнтак Малое Прудзішча (ён жа Баршчэўнік), уласнасць памешчыка В.Жаброўскага, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1830 г. яго сын Антон адкупіў маёнтак Вялікае Прудзішча. Узбуйнены маёнтак атрымаў назву Прудзішча. У 1833 г. ў яго склад уваходзілі фальварак Прудзішча і 8 вёсак, у якіх было 195 рэвізскіх сял. душ. У 1844 г. 17 двароў, кожны сял. двор меў 16 дзес. (24 моргі) зямлі. У фальварку меліся вадзяны млын на 1 паставу, карчма. У 1870 г. маёнтак Жаброўскага ў Бяларуцкай вол. Мінскага павета і губ. У 1909 г. 1 двор, 6 жыхароў. У 1917 г. маёнтак (1 двор, 18 жыхароў) і фальварак (1 двор, 10 жыхароў) у Беларуцкай вол. Мінскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Прудзішчанскага с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1. 1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. ў пасёлку 12 двароў, 39 жыхароў, у фальварку Прудзішчы Малыя 3 двары, 13 жыхароў. У 1930 г. ў Прудзішчах створаны калгас «Чырвоны араты», працавалі рымарская майстэрня, вадзяны млын. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 34 двары, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г.

вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію 6 жыхароў. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 34 двары, 115 жыхароў. У 2003 г. 20 гаспадарак, 31 жыхар.

**ПРУДКІ** — вёска ў Гайненскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Лагойска, 59 км ад Мінска, 50 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 17 гаспадарак, 40 жыхароў (2010).

Вёска згадваецца ў 1536–66 гг. у дакументах размежавання земляў капітула і суседніх маёнткаў як сяло, уласнасць віленскага капітула ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1653 г. ў капітульным маёнтку 35 дымоў. У 1740 г. ўваходзіў у Коранскую плябанію. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1793 г. ў Докшыцкім, з 1796 г. ў Барысаўскім паветах Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 21 двор, 144 жыхары, была канфіскавана і далучана да маёнтка Чырвоны Бор, уласнасць мінскага ген.-губернатара І.М.Няплюева ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1847 г. 26 двароў, 167 жыхароў, уладанне К.Чудоўскага. У 1870 г. вёска, 89 сял. душ мужчынскага полу, уласнасць А.Чудоўскага . У 1897 г. 52 двары, 298 жыхароў, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. цэнтр сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 22 гаспадаркі, што мелі 542 дзес. зямлі. У 1909 г. 62 двары, 345 жыхароў. У 1917 г. 57 двароў, 313 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Кузевіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 71 двор, 339 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе, загубілі 182 жыхары, 33 вывезлі ў Германію. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1969 г. 61 двор, 220 жыхароў.

**ПРУСАВІЧЫ** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 50 км на ПнУ ад Лагойска, 89 км ад Мінска, на р. Цна (прыток р. Гайна). 21 гаспадарка, 40 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах — згадваецца ў 16 ст. ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1554 г. частку маёнтка Прусавічы купіў ваявода смаленскі, староста мінскі і пінскі В.Тышкевіч. У 1567 г. згадваецца як сяло ў попісе войска ВКЛ, уласнасць пана В.Тышкевіча, які ў 1570 г. завяшчаў Прусавічы свайму сыну Юрыю. У снеж. 1657 г. каля вёскі адбылася бітва паміж шляхецкім апалчэннем і казацка-сял. атрадам пад кіраўніцтвам Д.Мурашкі. Перамогу атрымалі апалчэнцы. У 1-й пал. 18 ст. сяло, уладанне хатаевіцкай парафіі. У 1791 г. існавала праваслаўная царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 10 двароў, 50 жыхароў, драўляная царква Пятра і Паўла, гаспадарскі дом, вадзяны млын. У 1816 г. ўладанне памешчыка А.Валовіча. Паводле рэвізіі 1833 г. 178 рэвізскіх сял. душ. У 1846 г. цэнтр аднайменнага маёнтка, 259 сял. душ, уладанне памешчыкаў Рагоўскіх. Маёнтак складаўся з 2 фальваркаў: Прусавічы і Забор'е. У фальварак уваходзілі вёскі Глебаўшчына і Чарніца. Меліся 2 карчмы: адна ў маёнтку, другая пры вадзяным млыне. Працавалі сукнавальня (выраблялася сукно з танкарунных авечак), піваварня, паравы бровар, прадукцыя якіх развозілася па корчмах. Дзейнічалі смалакурня і вапняковая печ. У 1865 г. пабудавана драўляная праваслаўная Мікалаеўская царква, якой належалі 62 дзес. зямлі. Яе прыход у 1879 г. ахопліваў 20 паселішчаў, 2029 прыхаджан. Пры царкве дзейнічала папячыцельства, пры якім у 1868 г. адкрыта нар. вучылішча.

Пісьменных прыхаджан у 1879 г. было 10%. У 1870 г. цэнтр Прусавіцкай вол., 67 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у складзе маёнтка, меліся хлебазапасны магазін, 2 карчмы і крама. У 1872 г. жыхары на свае сродкі пабудавалі для нар. вучылішча ўласны будынак. У 1872 г. пабудавана праваслаўная Мікалаеўская царква. У 1886 г. 14 двароў, 126 жыхароў, валаснoe праўленне, 2 праваслаўныя царквы. У 1897 г. 41 двор, 280 жыхароў, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, 2 крамы, піцейны дом і маёнтак (16 жыхароў), цэнтр воласці і сельскай грамады ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1905 г. ў Прусавіцкую грамаду ўваходзілі 14 гаспадарак, якім належалі 519 дзес. зямлі. Працавала нар. вучылішча, у якім у 1905 г. вучыліся 70 дзяцей (67 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі). У 1909 г. 42 двары, 325 жыхароў. У 1917 г. 44 двары, 267 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 6 жыхароў, дзейнічала аднакласнае нар. вучылішча, на базе якога пасля рэвалюцыі створана пач. 2-камплектная школа, у якой у 1924 г. вучыліся 338 дзяцей з сяла, навакольных вёсак і хутара. Навучанне вялося на бел. мове. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Прусавіцкага с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 49 двароў, 226 жыхароў. На хутары 5 двароў, 25 жыхароў. У 1930 г. працавалі вапнавы з-д «Камунар», вадзяны млын. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 48 двароў, 221 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе, загубілі 48 жыхароў, 13 вывезлі ў Германію. З вяскоўцы загінулі на фронце, 3 – у партыз. барацьбе. У ваколіцах размяшчаліся Плешчаніцкі падп. райкам КП(б)Б і штаб партыз. брыгады імя Калініна. У баях за вызваленне вёскі загінулі 25 сав. воінаў і партызан. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 54 двары, 172 жыхары.

**ПРЫЛЕПЦЫ** – вёска ў Плешчаніцкім с/с, за 27 км на Пн ад Лагойска, 66 км ад Мінска. 82 гаспадаркі, 208 жыхароў (2010).

У 16 ст. ўладанне праваслаўнай царквы ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1598 г. 63 жыхары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 7 двароў, 64 жыхары, уладанне Тышкевічаў. Паводле рэвізіі 1816 г. 20 душ мужчынскага полу, уласнасць графа Д.Тышкевіча. У 1833 г. 77 рэвізскіх душ, у складзе маёнтка Плешчаніцы, уладанне Тышкевіча ў Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У вёсцы размяшчаўся хлебазапасны магазін, з якога ў 1844 г. ў сувязі з неўраджаем сяляне на кожную душу мужчынскага полу атрымоўвалі па 1 чвэрці азімага і 0,5 чвэрці яравога збожжа. У 1863 г. пабудавана драўляная праваслаўная Георгіеўская царква. У 1870 г. 38 сял. душ мужчынскага полу. У 1897 г. 30 двароў, 179 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1905 г. 14 двароў, якія мелі 203,7 дзес. зямлі, уваходзілі ў Плешчаніцкую сельскую грамаду. У 1908 г. 34 двары, 125 жыхароў. У 1917 г. 40 двароў, 218 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Плешчаніцкіх с/с і р-не Барысаўскай акругі. У 1926 г. 58 двароў, 263 жыхары. У вёсцы створаны калгас «Іскра». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 42 двары, 197 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 4 двары, 2 жыхароў вывезлі ў Германію. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім

р-не. У 1969 г. 71 двор, 195 жыхароў. У 2003 г. 84 гаспадаркі, 224 жыхары.

**ПРЫСЕЛКІ** – вёска ў Бяларуцкім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Лагойска, 34 км ад Мінска, на р. Вяча (прыток р. Свіслач). 28 гаспадарак, 47 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 8 двароў, 51 жыхар. У 19 ст. ў складзе маёнтка Навасады ў Мінскіх павеце і губ. У сярэдзіне 19 ст. ва ўладанні памешчыкаў О.Барташэвіча і П.Рыдзеўскага. У 1870 г. вёска пры р. Голенка, 37 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. 11 двароў, 86 жыхароў, у Бяларуцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1908 г. 11 двароў, 88 жыхароў. У 1917 г. 12 двароў, 79 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Бяларуцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. 19 двароў, 103 жыхары. У вёсцы створаны калгас «Чырвоная Беларусь», працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 56 двароў, 280 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію 6 жыхароў. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 – у партыз. барацьбе. У 1969 г. 56 двароў, 178 жыхароў. У 2003 г. 32 гаспадаркі, 56 жыхароў.

**ПРЫСТАНЬ** – вёска ў Задор'еўскім с/с, за 62 км на ПнЗ ад Лагойска, 101 км ад Мінска, 38 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Полацк–Маладзечна, на р. Дзвінаса (прыток р. Вілія). 1 гаспадарка, 2 жыхары (2010).

У 1781 г. засценак, 2 двары, ва ўладанні П.Храптовіча ў ВКЛ. Пазней засценак Чарапавіцкая Прыстань перайшоў да М.Валовіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1885 г. засценак Чэрапаўская Прыстань, 2 двары, у Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 3 двары, 26 жыхароў. У 1917 г. 5 двароў, 35 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак у Горнаўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 6 двароў, 34 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Дзяржынскага. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 2003 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары.

**ПУНІШЧА** – вёска ў Акалоўскім с/с, за 44 км на ПнУ ад Лагойска, 83 км ад Мінска, 68 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 1800 г. засценак, 4 двары, 17 жыхароў уладанне. М.Валовіча. Паводле рэвізіі 1816 г. вёска, уласнасць прадвадзіцеля дваранства Барысаўскага павета І.Валовіча. У 1846 г. 4 двары, 26 жыхароў, у складзе маёнтка Пятроліна, уласнасць графіні Р.Тышкевіч. У 1858 г. 21 сял. душа, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1870 г. 22 рэвізскія душы мужчынскага полу. У 1897 г. 13 двароў, 89 жыхароў, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1905 г. 6 гаспадарак, якія валодалі 111,6 дзес. зямлі, уваходзілі ў Коргаўскую сельскую грамаду. У 1909 г. 10 двароў, 67 жыхароў. У 1917 г. 13 двароў, 27 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Акалоўскім с/с Плешчаніцкага р-на, з 9.6.1927 г. Мінскай (да 26.7.1930 г.) акругі. У 1926 г. 15 двароў, 59 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 14 двароў, 84 жыха-

ры. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію 24 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 18 двароў, 63 жыхары.

**ПУЦІЛАВА** — вёска ў Гайненскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Лагойска, 82 км ад Мінска, 63 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 33 гаспадаркі, 76 жыхароў (2010).

Вядома з 1440-х г. у ВКЛ. У 1567 г. згадваецца ў попісе войска ВКЛ як сяло, шляхецкая ўласнасць у Мінскіх павеце і ваяв. У 1-й пал. 18 ст. вёска, уладанне хатаевіцкага дамініканскага касцёла, у канцы 18 ст. прыватная ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1795 г. 10 двароў, 73 жыхары, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 12 двароў. У 1856 г. 32 сял. душы, уласнасць памешчыка П.Грабоўскага, які валодаў 221 дзес. зямлі. У 1870 г. 19 рэвізскіх душ мужчынскага полу, належала Жырблевіцкай сельскай грамадзе, маёнтак Пуцілава — уласнасць памешчыкаў Грабоўскіх, другі маёнтак Пуцілава — памешчыка А.Мяйштовіча. У 1897 г. вёска (25 двароў, 166 жыхароў, хлебазапасны магазін), сядзіба (18 жыхароў) і 2 маёнткі (33 жыхары), у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета. У 1909 г. ў вёсцы 28 двароў, 214 жыхароў, у маёнтку памешчыцы Плонскай 2 двары, 6 жыхароў, у маёнтку Грабоўскага 2 двары, 10 жыхароў. У 1912 г. ў вёсцы дзейнічала аднакласнае нар. вучылішча, на базе якога ў 1917 г. адкрыта школа ў сял. хаце. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1923 г. школа размяшчалася ў нацыяналізаваным панскім будынку. Яе наведвалі вучні з 7 навакольных вёсак, у 1924 г. тут вучыліся 55 пуцілаўскіх дзяцей. Навучанне вялося на бел. мове. З 20.8. 1924 г. ў Коранскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 67 двароў, 309 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 22 двары, загубілі 13 жыхароў, 15 вывезлі ў Германію. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 24.5.1960 г. ў Гайненскім с/с. У 1969 г. 61 двор, 220 жыхароў.

**ПУШЧА** — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 60 км на Пн ад Лагойска, 99 км ад Мінска, 44 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Полацк—Маладзечна. 21 гаспадарка, 29 жыхароў (2010).

У 1909 г. засценак, 7 двароў, 84 жыхары, у Восаўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 21 двор, 171 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Амнішаўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. хутар, 40 двароў, 201 жыхар. У вёсцы створаны калгас «Чырвоны прамень». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 52 двары, 268 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 20 двароў, загубілі 1 жыхара, 5 вывезлі ў Германію. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. вёска ў Задор'еўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 64 двары, 226 жыхароў. У 2003 г. 38 гаспадарак, 66 жыхароў.

**ПУШЧА** — вёска ў Зарэчанскім с/с, за 40 км на ПнЗ ад Лагойска, 80 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

У канцы 19 ст. ўрочышча ў Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. 5 двароў, 37 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн.

1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Зарэчанскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 43 двары, 179 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі 13 жыхароў у Германію. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 56 двароў, 212 жыхароў. У 2003 г. 13 гаспадарак, 20 жыхароў.

**ПУШЧАНКА** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 38 км на ПнЗ ад Лагойска, 78 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска, уласнасць хатаевіцкага дамініканскага касцёла ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. засценак Пушчанка, 2 двары, 26 жыхароў. У 1809 г. вёска, 4 гаспадаркі, у складзе фальварка Хатаевічы, мелася карчма. У 1870 г. 20 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у складзе маёнтка Хатаевічы. У 1897 г. 18 двароў, 109 жыхароў у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Хатаевіцкай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 10 гаспадарак, што мелі 150,2 дзес. зямлі. У 1909 г. 19 двароў, 125 жыхароў. У 1917 г. 25 двароў, 149 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Хатаевіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 28 двароў, 141 жыхар. У вёсцы створаны 2 калгасы: імя Яраслаўскага і імя Радзецкага. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 28 двароў, 167 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 12 двароў, загубілі 12 жыхароў. 6 вывезлі ў Германію. 4 загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 35 двароў, 164 жыхары.

**ПЯТРОЛІНА** — вёска ў Нястанавіцкім с/с, за 46 км на ПнЗ ад Лагойска, 85 км ад Мінска, 25 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 19 ст. маёнтак пры р. Дзвінаса, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1833 г. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка, які складаўся з фальварка Пятроліна і 8 вёсак, 554 рэвізскія сял. душы. У 1846 г. маёнтак Пятроліна належаў графіні Р.Тышкевіч, якая мела 3560 дзес. зямлі і вадзяны млын. Меўся хлебазапасны магазін. У 1897 г. маёнтак, 2 двары, 55 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 1 двор, 16 жыхароў. У 1914 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. 1 двор, 59 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Запольскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). На базе земскай створана пач. школа, якая размяшчалася ў былым маёнтку. У 1924 г. ў ёй вучыліся 100 дзяцей з 11 навакольных вёсак. Навучанне вялося ў 1-й і 2-й групах на бел., у 3-й групе на рус. мове. У 1926 г. 14 двароў, 74 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 8 двароў, 35 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі 4 жыхароў у Германію, 2 загінулі на фронце. З 16.7.1954 г. ў Нястанавіцкім с/с, з 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 10 двароў, 26 жыхароў. У 2003 г. 5 гаспадарак, 5 жыхароў.

**ПЯЧНОЕ** — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 41 км на Пн ад Лагойска, 80 км ад Мінска, 41 км ад чыг. ст. Будслаў на

лініі Полацк—Маладзечна. 19 гаспадарак, 32 жыхары (2010).

У 1-й пал. 18 ст. вёска ў складзе фальварка Жардзяжжа маёнтка Акалова, уласнасць памешчыка М.Валовіча. Паводле рэвізіі 1811 г. 44 душы мужчынскага полу. У 1833 г. 20 двароў, 102 жыхары. У 1870 г. 69 сял. душ, у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Меўся млын. У 1897 г. 39 двароў, 285 жыхароў, у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1905 г. 16 гаспадарак, якія валодалі 405,9 дзес. зямлі, уваходзілі ў Харашанскую сельскую грамаду. 22.6. 1906 г. адбылося сял. хваляванне, сяляне патрабавалі павялічыць ім плату за падзённую працу. У 1909 г. 57 двароў, 302 жыхары. У 1917 г. 58 двароў, 314 жыхароў. Побач размяшчаўся млын, 1 двор, 14 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Горнаўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 53 двары, 260 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 54 двары, 216 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 17 двароў, загубілі 18 жыхароў, 9 вывезлі ў Германію. 11 вяскоўцай загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 16.7. 1954 г. ў Задор'еўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. З 1969 г. 45 двароў, 164 жыхары. У 2003 г. 26 гаспадарак, 56 жыхароў.

**РАВЯЧЫНА** — вёска ў Гайненскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Лагойска, 52 км ад Мінска, 43 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 1520-х г. магнат А.Гаштольд, ствараючы зямельную латыфундыю, купіў маёнтак Равячына ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 19 ст. фальварак у складзе маёнтка Мураваны Двор, уласнасць Няплюевых, з 1838 г. памешчыка ген.-маёра С.Смаляка і яго жонкі Кацярыны. У 1870 г. фальварак памешчыцы К.Смаляк у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 1 двор, 4 жыхары. У 1917 г. 5 двароў, 23 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Слабодскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7. 1930 г.). У вёсцы створаны калгас «13-ы Кастрычнік». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Гайненскім с/с. У 2003 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары.

**РАГОЗІНА** — вёска ў Крайскім с/с, за 60 км на ПнЗ ад Лагойска, 99 км ад Мінска, на р. Крайшчанка (прыток р. Вілія). 47 гаспадарак, 94 жыхары (2010).

Паводле рэвізіі 1795 г. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка, 12 двароў, 59 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 19 ст. ўласнасць памешчыкаў Тышкевічаў у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1870 г. ў маёнтку пачаў працаваць бровар (у 1893 г. 8 рабочых, у 1900 г. дзейнічаў паравы рухавік). У пач. 20 ст. цэнтр сельскай грамады. У 1905 г. 413 жыхароў, 222 дзес. зямлі, у маёнтку 100 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Крайскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. назву Рагозіна мелі 2 населеныя пункты: вёска і хутар. У вёсцы 51 двор, 241 жыхар, на хутары 1 двор, 5 жыхароў. У 1930 г.

створаны калгас «Чырвоная Беларусь», працаваў вадзяны млын. У 1931 г. пачаў працаваць гантарэзны з-д арцелі «Камунар». З 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1941 г. 98 двароў, 449 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 27 двароў, загубілі 32 жыхароў, 37 вывезлі ў Германію. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце, 9 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 107 двароў, 334 жыхары. У 2003 г. 53 гаспадаркі, 121 жыхар. Ёсць магазін.

**РАЛАЎКА** — вёска ў Каменскім с/с, за 47 км на ПнУ ад Лагойска, 86 км ад Мінска, 56 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. У вёсцы ніхто не жыве.

У 1833 г. вёска ў складзе вотчыннага маёнтка Клін, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1846 г. 1 двор, 9 жыхароў, уласнасць калежскага асэсара памешчыка К.Мірскага і яго дачок Валенты і Міхаліны. У пач. 20 ст. хутар у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 2 двары, 11 жыхароў. У 1917 г. 2 двары, 16 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Каменскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 22.9.1927 г. Плешчаніцкага р-на. У 1926 г. 2 двары, 15 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас імя Куйбышава. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 6 двароў, 30 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе, 1 жыхар загінуў у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 3 двары, 37 жыхароў.

**РАСОХІ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 37 км на ПнЗ ад Лагойска, 77 км ад Мінска. 18 гаспадарак, 29 жыхароў (2010).

У 1579 г. вёска згадваецца як «Двор Хатаевіцкій празываемый Расохі», уласнасць паноў Яна і Балтазара Снаўскіх у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1685 г. маёнтак К.Пліскоўскага. У канцы 18 ст. сяло ў складзе маёнтка Хатаевічы, мелася цагельня, уласнасць хатаевіцкага дамініканскага касцёла. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1809 г. 5 гаспадарак, у складзе Хатаевіцкага фальварка ў Хатаевіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1811 г. вёска, 9 душ мужчынскага полу, належала хатаевіцкаму дамініканскаму кляштару. У 1870 г. 14 сял. душ мужчынскага полу. У 1897 г. вёскі Расохі-1 (5 двароў, 25 жыхароў) і Расохі-2 (9 двароў, 61 жыхар), у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1905 г. 7 былых казённых гаспадарак, якія валодалі 160,4 дзес. зямлі, адносіліся да Хатаевіцкай сельскай грамады. У 1909 г. 10 двароў, 74 жыхары. У 1917 г. 16 двароў, 69 жыхароў, на хутары 3 двары, 20 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Хатаевіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. з аднолькавай назвай былі 4 населеныя пункты: вёскі Расохі (9 двароў, 47 жыхароў), Расохі 2-я (7 двароў, 36 жыхароў), хутар Расохі (4 двары, 17 жыхароў) і хутар Расохі Янкоўскія (3 двары, 11 жыхароў). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 30 двароў, 152 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 28 жыхароў, 12 вывезлі ў Германію. 3 вяскоўцы загінулі на фронце. З 25.12. 1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 44 двары, 156 жыхароў. У 2003 г. 24 гаспадаркі, 41 жыхар.

**РАЦЬКАВІЧЫ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Лагойска, 63 км ад Мінска, 64 км ад чыг. ст. Смаля-

вічы на лініі Мінск—Орша. 36 гаспадарак, 56 жыхароў (2010).

У канцы 17 ст. дзярж. ўласнасць у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1681 г. вёска Рацькавічы, 6 двароў, уласнасць казны. У 1765 г. 14 двароў, 4 з іх былі пустыя. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 14 двароў, 111 жыхароў, уладанне Валодзькавічаў. У пач. 19 ст. ў складзе маёнтка Якубавічы. Паводле рэвізіі 1811 г. 10 душ мужчынскага полу. Адносілася да Янушкавіцкага праваслаўнага прыхода царквы Раства Багародзіцы. У 1897 г. 57 двароў, 343 жыхары, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. адносілася да Гайненскай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 27 гаспадарак, што валодалі 509,5 дзес. зямлі. У 1909 г. 59 двароў, 403 жыхары. У 1916 г. пачало дзейнічаць аднакласнае нар. вучылішча, на яго базе ў 1919 г. адкрыта школа, якую наведвалі дзеці з вёсак Мачулішча, Цяцеркі, Мышкавічы, Рудня. Навучанне вялося на бел. мове. У 1917 г. 66 двароў, 450 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Калачоўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7. 1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы створаны калгас «На варце». У 1941 г. 75 двароў, 320 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце і 8 — у партыз. барацьбе. З 16.7. 1954 г. ў Янушкавіцкім с/с. У 1969 г. 81 двор, 269 жыхароў. У 2003 г. 46 гаспадарак, 84 жыхары.

**РОДЗЕВІЧЫ** — вёска ў Гайненскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Лагойска, 53 км ад Мінска, 44 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 29 гаспадарак, 74 жыхары (2010).

У 18 ст. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка, уласнасць Прушынскіх. У 1799 г. ў вёсцы і маёнтку 43 сял. душы. Належалі Я.Прушынскаму. Паводле рэвізіі 1811 г. 26 душ мужчынскага полу, належала памешчыкам Валодзькавічам, якія здавалі яе ў арэнду І.Кудзяновічу. У 1833 г. маёнтак у складзе адной в. Родзевічы, 158 рэвізскіх сял. душ, належаў памешчыцы стацкай саветніцы Г.Малафеевай, якая валодала 180 моргамі раллі і 30 моргамі сенакосу. У 1846 г. паводле інвентару ў вёсцы 15 двароў, 142 жыхары, у маёнтку 17 дваровых, якія выконвалі разнастайную работу. Меўся хлебазапасны магазін. З 1862 г. згодна завяшчанню вёска і маёнтак — уласнасць жонкі калежскага сакратара М.Б.Тышкевіча, якая валодала 500 дзес. зямлі, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1905 г. 15 гаспадарак, якія валодалі 222,6 дзес. зямлі, уваходзілі ў Гайна-Слабодскую сельскую грамаду. У 1909 г. 43 двары, 260 жыхароў. У 1917 г. 50 двароў, 296 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 16 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Слабодскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У вёсцы створаны калгас «Чырвоны шлях». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 66 двароў, 263 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію 11 жыхароў. 21 вясковец загінуў на фронце, 4 — у партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. ў Гайненскім с/с. У 1969 г. 67 двароў, 264 жыхары. У 2003 г. 42 гаспадаркі, 95 жыхароў.

**РОЎНЯДЗЬ** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 48 км на ПнУ ад Лагойска, 77 км ад Мінска, 78 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2010).

У 1833 г. вёска ў складзе маёнтка Гаравец. У 1846 г. 31 сял. душа, уласнасць памешчыка І.Валовіча. У 1861 г. 18 рэвізскіх душ мужчынскага полу, уладанне памешчыка І.Гласко. У 1897 г. 17 двароў, 121 жыхар, у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Адносілася да Прусавіцкага праваслаўнага прыхода царквы Св. Мікалая. У пач. 20 ст. ўваходзіла ў Прусавіцкую сельскую грамаду, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 6 гаспадарак, што валодалі 135 дзес. зямлі. У 1909 г. 17 двароў, 119 жыхароў. У 1917 г. 20 двароў, 125 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прусавіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 21 двор, 108 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 19 двароў, 81 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары, загубілі 2 жыхароў, 4 вывезлі ў Германію. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. З 30.1.1976 г. ў Акалоўскім с/с.

**РУБЕЖ** (да 1946 г. П а л я н ы) — вёска ў Акалоўскім с/с, за 50 км на ПнУ ад Лагойска, 89 км ад Мінска, 71 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 1 гаспадарка, 4 жыхары (2010).

У 1800 г. в. Паляны, 15 двароў, 179 жыхароў, цагельня, уладанне Зембінскага дамініканскага кляштара. У 1858 г. 9 сял. душ, у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1861 г. 15 сял. душ мужчынскага полу, у складзе аднайменнага маёнтка, належала памешчыку П.І.Федаровічу, які валодаў 312 дзес. зямлі. Вёска адносілася да Прусавіцкага праваслаўнага прыхода царквы Св. Мікалая. У 1905 г. 4 гаспадаркі, якія валодалі 135,9 дзес. зямлі, уваходзілі ў Станавішчанскую сельскую грамаду. У 1909 г. ў вёсцы 11 двароў, 96 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 10 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 13 двароў, 75 жыхароў, ва ўрочышчы Рубеж 1 двор, 4 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прусавіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 18 двароў, 97 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 15 двароў, 63 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 5 жыхароў, 6 вывезлі ў Германію. З вяскоўцы загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 11 двароў, 26 жыхароў. З 30.1.1976 г. ў Акалоўскім с/с.

**РУДНЯ** — вёска ў Лагойскім с/с, за 5 км на У ад Лагойска, 44 км ад Мінска, 30 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). 18 гаспадарак, 37 жыхароў (2010).

У 1736 г. вёска, 5 дымоў, у складзе фальварка Заазер'е, уладанне Віленскага каталіцкага капітула. Меліся рудня, вадзяны млын. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1795 г. 15 двароў, 116 жыхароў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 15 двароў, 111 жыхароў, драўляная капліца, вадзяны млын, працаваў з-д металічных вырабаў (прыбытак 171 руб. 43 кап. серабром), які належаў памешчыкам Тышкевічам. На ім вырабляліся жалезныя рэчы для ўнутр. патрэб, якія прадаваліся на мясц. рынку. Паводле рэвізіі 1811 г. 76 душ мужчынскага полу, вёска ў складзе маёнтка Лагойск, уласнасць графа І.Тышкевіча. У 1846 г. 15 двароў, 156 жыхароў, карчма (прыбытак 400 тыс. серабром), уласнасць графа К.Тышкевіча. У 1870 г. вёска, 62 рэвізскія душы муж-

чынскага полу. Была прыпісана да Лагойскай Мікалаеўскай царквы. У 1886 г. сяло, 19 двароў, 156 жыхароў, праваслаўная царква на могілках. У 1897 г. вёска (28 двароў, 241 жыхар) і сядзіба (1 двор, 4 жыхары) у Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., меліся хлебазапасны магазін, царква на могілках. Вяскоўцы былі прыхаджанамі Лагойскага праваслаўнага прыхода Мікалаеўскай царквы. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Гасцілавіцкай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 13 гаспадарак, што мелі 201,9 дзес. зямлі. У 1909 г. 34 двары, 206 жыхароў. У 1917 г. 40 двароў, 243 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Лагойскіх с/с і раёне Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1930 г. арганізаваны калгас «8 Сакавіка», працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 32 двары, 160 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію 3 жыхароў. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце, 23 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 40 двароў, 126 жыхароў.

**РУДНЯ** — вёска ў Плешчаніцкім с/с, за 29 км на Пн ад Лагойска, 68 км ад Мінска, 67 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 119 гаспадарак, 294 жыхары (2010).

У 1797 г. вёска, 12 двароў, 81 жыхар, вадзяны млын, сукнавальня, з-д металічных вырабаў — уладанне Д. і Г.Тышкевічаў. У 1800 г. тут размяшчалася жалезаробчая рудня, дзе выраблялiся рэчы для хатняга ўжытку, на ёй працавалі майстры па дагаворы і мясц. сяляне Тышкевічаў. У 1833 г. 111 сял. душ, у складзе маёнтка Плешчаніцы ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., уласнасць графа І.Тышкевіча. У вёсцы пры дарозе з Барысава ў Вільню размяшчалася карчма. У 1870 г. ў вёсцы 52 сял. душы мужчынскага полу. Вяскоўцы былі прыхаджанамі плешчаніцкай праваслаўнай Троіцкай царквы. У 1886 г. 28 двароў, 191 жыхар, дзейнічала школа. У 1905 г. 13 гаспадарак, якія мелі 212,8 дзес. зямлі, уваходзілі ў Плешчаніцкую сельскую грамаду. У 1897 г. в. Рудня Плешчыніцкая, 30 двароў, 187 жыхароў, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1909 г. 33 двары, 223 жыхары. У 1917 г. 34 двары, 204 жыхары, на хутары — 1 двор, 10 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Плешчаніцкіх с/с і р-не Барысаўскай, з 9.6.1927 Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 45 двароў, 206 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас імя Кагановіча. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 49 двароў, 238 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 7 двароў, 15 жыхароў вывезлі ў Германію. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 90 двароў, 285 жыхароў. У 2003 г. 136 гаспадарак, 338 жыхароў.

**РУДНЯ** — вёска ў Швабскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Лагойска, 69 км ад Мінска, 42 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Гайна (прыток р. Бярэзіна).13 гаспадарак, 16 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска, уласнасць базыльянскага манастыра ў Мінскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. засценак, 3 двары, 27 жыхароў. У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Гаць, уладанне памешчыкаў Пузынаў. Паводле рэвізіі 1816 г. 23 душы мужчынскага полу, уласнасць кн. І.Пузыны. Паводле інвентару 1847 г. ў вёсцы 5 двароў, 43 жы-

хары, належала кн. Х.Пузыну. У 1897 г. 10 двароў, 86 жыхароў, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1909 г. ў в. Рудня Швабская 10 двароў, 86 жыхароў. У 1917 г. 14 двароў, 102 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Швабскім с/с Зембінскага, з 22.9.1927 г. Лагойскага р-наў Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1930 г. створаны калгас «Чырвоная Рудня», у які ўваходзілі 2 нас. пункты: Рудня 1 і Стары Млын. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. ў Чырванашвабскім с/с. У 1941 г. 57 двароў, 242 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1943 г. спалілі яе, загубілі 90 жыхароў, 4 вывезлі ў Германію. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адноўлена. У 1969 г. 39 двароў, 190 жыхароў. У 2003 г. 23 гаспадаркі, 31 жыхар. З 22.1.2008 г. ў Швабскім с/с.

**РУСАКІ** — вёска ў Плешчаніцкім с/с, за 29 км на ПнУ ад Лагойска, 68 км ад Мінска, 67 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 25 гаспадарак, 60 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах згадваюцца ў 15 ст. ў ВКЛ. У 1547 г. вёска, 67 жыхароў, у Мінскіх павеце і ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. засценак, 5 двароў, 34 жыхары, уладанне Тышкевічаў. Паводле рэвізіі 1816 г. 24 рэвізскія душы мужчынскага полу, у складзе маёнтка Плешчаніцы, уласнасць графа Д.Тышкевіча. У 1833 г. 56 рэвізскіх сял. душ, уладанне графа І.Тышкевіча ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. 28 сял. душ мужчынскага полу. Вёска адносілася да Плешчаніцкага праваслаўнага прыхода Троіцкай царквы. У 1898 г. вёска (20 двароў, 130 жыхароў) і фальварак (13 жыхароў), у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1905 г. 8 гаспадарак, якія мелі 191,2 дзес. зямлі, уваходзілі ў Плешчаніцкую сельскую грамаду. У 1909 г. 21 двор, 117 жыхароў. У 1917 г. 20 двароў, 127 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Плешчаніцкіх с/с і р-не Барысаўскай, з 9.6.1927 Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 26 двароў, 122 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 22 двары, 93 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 5 жыхароў, 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 42 двары, 118 жыхароў. У 2003 г. 28 гаспадарак, 72 жыхары.

**РЭБРЫШЧА** — вёска ў Астрошыцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Лагойска, 21 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

У 18 ст. засценак у складзе маёнтка Астрошыцы, уласнасць графа Тышкевіча ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1782 г. засценак Рэбрышча, 1 двор, у складзе маёнтка Гарадок. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1795 г. 4 двары, 28 жыхароў. У 1800 г. 4 двары, 28 жыхароў, уладанне графа І.Тышкевіча. У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Гарадок, уласнасць памешчыкаў Тышкевічаў у Мінскіх павеце і губ. У 1844 г. 14 двароў, 119 жыхароў, уладанне графа І.Тышкевіча. У 1870 г. 57 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. ў складзе маёнтка Гарадок у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1909 г. 25 двароў, 102 жыхары. У 1917 г. 47 двароў, 309 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Ас-

трошыцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7. 1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1930 г. створаны калгас «Рассвет». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. 62 двары, 203 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 3.7.1943 г. спалілі вёску і загубілі 23 жыхароў, 29 вывезлі ў Германію. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. У баях за вызваленне вёскі ў пач. ліп. 1944 г. загінулі 2 сав. воіны. Пасля вайны адноўлена. У 1969 г. 28 двароў, 85 жыхароў. У 2003 г. 9 гаспадарак, 12 жыхароў.

**РЭПШЧА** — вёска ў Зарэчанскім с/с, за 57 км на ПнЗ ад Лагойска, 96 км ад Мінска, 42 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 7 гаспадарак, 16 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1864 г. 24 рэвізскія душы. У 1886 г. 12 двароў,129 жыхароў. У 1905 г. 190 жыхароў. Да вёскі адносіліся 127 дзес. зямлі. Побач размяшчаўся пас. Тарашноўскага, 14 жыхароў, 41 дзес. зямлі. У 1917 г. 23 двары, 163 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Запольскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 23 двары, 109 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «На варце». У 1941 г. 20 двароў, 99 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 18 двароў, 6 жыхароў вывезлі ў Германію. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 17 двароў, 72 жыхары. У 2003 г. 13 гаспадарак, 26 жыхароў.

**САКАЛЫ** — вёска ў Плешчаніцкім с/с, за 33 км на ПнУ ад Лагойска, 75 км ад Мінска, 58 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 11 гаспадарак, 20 жыхароў (2010).

У 1799 г. засценак Сакалоўшчына, 2 двары, 18 жыхароў. У 1800 г. 7 двароў, 41 жыхар, уладанне графа Д.Тышкевіча. У 1833 г. 51 рэвізская сял. душа (22 мужчыны, 29 жанчын) у складзе маёнтка Плешчаніцы, уладанне графа І.Тышкевіча ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. 26 сял. душ мужчынскага полу. Вёска адносілася да Плешчаніцкага праваслаўнага прыхода Троіцкай царквы. У 1890 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. 20 двароў, 114 жыхароў. У 1905 г. 9 гаспадарак, якія мелі 201,2 дзес. зямлі, уваходзілі ў Плешчаніцкую сельскую грамаду. У 1909 г. 20 двароў, 118 жыхароў. У 1917 г. 19 двароў, 105 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Плешчаніцкіх с/с і р-не Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 22 двары, 112 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас імя К.Варашылава. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 17 двароў, 82 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію 5 вяскоўцаў. 2 вяскоўцы загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 24 двары, 82 жыхары. У 2003 г. 14 гаспадарак, 25 жыхароў.

**САКАВІЧЫ** — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 60 км на ПнЗ ад Лагойска, 99 км ад Мінска, 24 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Полацк—Маладзечна. 66 гаспадарак, 112 жыхароў (2010).

У 19 ст. ў Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1870 г. вёска, 109 рэвізскіх душ мужчынскага полу. Дзейнічала школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 35 хлопчыкаў. У

1897 г. 86 двароў, 494 жыхары, існавала царк.-прыходская школа. У 1905 г. 27 гаспадарак, якія валодалі 558,4 дзес. зямлі, уваходзілі ў Ізбішчанскую сельскую грамаду. У 1909 г. 84 двары, 522 жыхары. У 1917 г. 96 двароў, 639 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Ізбішчанскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 121 двор, 675 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Спартак». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 142 двары, 584 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 жыхароў, 17 вывезлі ў Германію. 29 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінуў 1 партызан. У 1969 г. 153 двары, 563 жыхары. У 2003 г. 85 гаспадарак, 144 жыхары. Ёсць магазін.

**САЛАЎЁЎКА** (да 1968 г. Т а р а к а н а ў к а) — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 63 км на ПнЗ ад Лагойска, 102 км ад Мінска, 42 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Полацк—Маладзечна, на р. Дзвінаса (прыток р. Вілія). 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2010).

У канцы 19 ст. засценак Тараканаўка ў Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 5 двароў, 29 жыхароў. У 1909 г. ў фальварку 5 двароў, 27 жыхароў. У 1917 г. ў засценку 6 двароў, 24 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Горнаўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 Мінскай акруг (да 26.7.1930). У 1926 г. на хутары 4 двары, 24 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 23 двары, 115 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 жыхароў, 3 вывезлі ў Германію. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 — у партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. ў Задор'еўскім с/с, з 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 24 двары, 102 жыхары. У 2003 г. 10 гаспадарак, 10 жыхароў.

**САЎДЗЕНЕВІЧЫ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Лагойска, 59 км ад Мінска, на р. Сліжанка (прыток р. Ілія). 25 гаспадарак, 54 жыхары (2010).

У 16 ст. маёнтак, шляхецкая ўласнасць у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1582 г. Двор Саўдзенеўскі (ён жа Шыраеўскі), уласнасць зямяніна І.Ляўковіча і яго жонкі Т.Шыраеўскай. У 1705 г. вёска, 25 двароў, уладанне Я.Аборскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 30 двароў, 252 жыхары, гаспадарскі драўляны дом, вадзяны млын, уладанне І.Валодзькавіча. Паводле рэвізіі 1816 г. вёска, 125 душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыкаў Валодзькавічаў, якія здавалі яе ў арэнду памешчыку І.Кудзіновічу. У 1844—47 гг. назву Саўдзеневічы мелі 4 маёнткі, якія належалі розным уладальнікам: Гіжыцкаму, Жаброўскаму, Забелу, Макавецкаму. У 1870 г. в. Саўдзеневічы, 40 душ мужчынскага полу, у складзе аднайменнага маёнтка памешчыка Ф.Федароўскага; в. Саўдзеневічы-2, маёнтак памешчыка Ю.Брэнерта; в. Саўдзеневічы-3, 4 душы мужчынскага полу, уладанне памешчыка К.Калясніцкага; в. Саўдзеневічы-4, 12 душ мужчынскага полу, належала К.Гіжыцкаму. Меліся вадзяны млын, хлебазапасны магазін, праваслаўная царква на могілках Янушкавіцкага прыхода. У 1897 г. вёска (36 двароў, 264 жыхары, хлебазапасны магазін, капліца), вадзяны млын (1 двор, 10 жыхароў), 2 маёнткі (19 жыхароў) і 2 фальваркі (3

двары, 12 жыхароў) у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 37 двароў, 266 жыхароў; у Саўдзеневічы-2 — 38 двароў, 251 жыхар. Побач размяшчаліся 4 аднайменныя фальваркі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Янушкавіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). Быў створаны калгас «Беларусь», працавала сталярная майстэрня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 70 двароў, 350 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 55 двароў, загубілі 140 жыхароў, 200 вывезлі ў Германію. 17 вяскоўцаў загінулі на фронце, 10 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 50 двароў, 153 жыхары. У 2003 г. 28 гаспадарак, 153 жыхары.

**СВІДНА** — вёска ў Лагойскім с/с, за 15 км на У ад Лагойска, 54 км ад Мінска, 30 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). 24 гаспадаркі, 55 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска, уласнасць Тышкевічаў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У канцы 18 ст. працаваў з-д металічных вырабаў, які ў 1800 г. належаў В.Тышкевічу. У 1800 г. 20 двароў, 155 жыхароў, вадзяны млын, з-д металічных вырабаў, уладанне Тышкевічаў. Паводле рэвізіі 1816 г. 50 душ мужчынскага полу, у складзе маёнтка Лагойск, уласнасць графа І.Тышкевіча. Паводле інвентару 1846 г. ў складзе маёнтка Лагойск, уласнасць графа К.Тышкевіча. Пры ўездзе размяшчалася карчма, прыбытак з якой складаў 150 руб. У 1858 г. 140 рэвізскіх сял. душ, цэнтр Свіднянскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1870 г. пабудавана драўляная капліца на могілках. У 1870 г. 51 душа мужчынскага полу. У 1884 г. пабудавана Казьма-Дзям'янаўская царква. У 1897 г. 26 двароў, 218 жыхароў, у Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. вёска — цэнтр Свіднянскай сельскай грамады, да якой адносіліся 2 вёскі (Загор'е і Свидна), у 1905 г. ў яе ўваходзілі 13 свіднянскіх гаспадарак, якія валодалі 212,7 дзес. зямлі. У 1909 г. 28 двароў, 184 жыхары. У 1914 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмным будынку. У 1917 г. 33 двары, 224 жыхары, на хутары 1 двор, 5 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Падонкаўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). На базе дарэв. створана пач. школа, у якой у 1924 г. вучыліся 18 дзяцей. Навучанне вялося на бел. мове. Працавалі сукнавальня, майстэрня, дзе шылі кажухі, вадзяны млын. У 1930 г. арганізаваны калгас «Прасвет», працавала кузня. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 64 двары, 301 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 11.10. 1943 г. сагналі ў адзін дом 45 жыхароў і расстралялі, а вёску падпалілі, 7 жыхароў вывезлі ў Германію. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце, 6 — у партыз. барацьбе. У 2003 г. 29 гаспадарак, 65 жыхароў.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Зарэчанскім с/с, за 49 км на ПнЗ ад Лагойска, 88 км ад Мінска, 66 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 15 гаспадарак, 21 жыхар (2010).

У 1858 г. вёска, 32 жыхары мужчынскага полу. У 1850 г. пачала дзейнічаць школа граматы,ператвораная ў 1890 г. ў 1-класнае нар. вучылішча. У канцы 19 ст. дзярж. ўласнасць. У 1897 г. вёска (24 двары, 161 жыхар) і засценак (3 два-

ры, 29 жыхароў) у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Адносілася да Зарэчанскай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 10 гаспадарак, што мелі 213,7 дзес. зямлі. У 1909 г. 22 двары, 138 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Зарэчанскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 39 двароў, 167 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоны баец». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 33 двары, 146 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 6 двароў, загубілі 53 жыхароў. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце, 11 — у партыз. барацьбе. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 26 двароў, 96 жыхароў. У 2003 г. 16 гаспадарак, 23 жыхары.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Каменскім с/с, за 23 км на ПнУ ад Лагойска, 62 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 19 ст. вёска ў складзе вотчыннага маёнтка Клін у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 6 двароў, 26 жыхароў. Паводле інвентару 1846 г. 7 двароў, 106 жыхароў, уласнасць памешчыка К.Мірскага і яго дачок Міхаліны і Валенты. У 1890 г. тут працавала школа граматы. У 1897 г. вёска (24 двары, 161 жыхар.) і ўрочышча (2 двары, 19 жыхароў), у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 29 двароў, 142 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Каменскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 23 двары, 120 жыхароў. З 22.9.1927 г. ў Плешчаніцкім р-не. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоная Зорка». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 26 двароў, 69 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 21 двор. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 28 двароў, 61 жыхар. У 2003 г. 4 гаспадаркі, 4 жыхары.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Лагазінскім с/с, за 18 км на З ад Лагойска, 57 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

Згадваецца ў попісе войска ВКЛ 1567 г. як сяло, уласнасць кн. С.Збаражскага ў Мінскіх павеце і ваяв. У 1596 г. сяло, 14 дымоў, у складзе маёнтка Сялец, уласнасць К.Тамковіча. У 18 ст. вёска вядома як маёнтак і засценак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1795 г. ў засценку 2 двары, 11 жыхароў. У 1800 г. вёска (6 двароў, 33 жыхары, драўляны гасподскі дом) і засценак (2 двары, 11 жыхароў), шляхецкая ўласнасць. У 1869 г. фальварак, уласнасць надворнага саветніка А.Панамарова, які ён атрымаў як узнагароду за службу, памешчыку належалі 140 дзес. зямлі. У канцы 19 ст. назву Селішча мелі 2 фальваркі, засценак і 2 хутары. У 1897 г. 3 хутары (6 двароў, 37 жыхароў) і 2 фальваркі (2 двары, 20 жыхароў) у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. ў фальварку 4 двары, 29 жыхароў, у другім фальварку 1 двор, 7 жыхароў, на хутары 5 двароў, 30 жыхароў, на другім хутары 2 двары, 25 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1919 г. створана сельгасарцель «Чырвоны баец». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 22 двары, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана



*Аграсядзіба «Ля гары вёскі Сілічы».*

ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 10 двароў, загубілі 4 жыхароў, 5 вывезлі ў Германію. 2 вяскоўцы загінулі ў партыз. барацьбе. У 1969 г. 29 двароў, 95 жыхароў. У 2003 г. 12 гаспадарак, 16 жыхароў. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы Н.І.Куніцкай (н. 1925).



*Н.І.Куніцкая.*

**СІЛІЧЫ** — вёска ў Лагойскім с/с, за 5 км на ПнУ ад Лагойска, 44 км ад Мінска, 30 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 30 гаспадарак, 56 жыхароў (2010).

У 19 ст. маёнтак, які складаўся з адной в. Сілічы ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 12 двароў, 80 жыхароў, ва ўладанні С.Тышкевіча. Паводле рэвізіі 1816 г. маёнтак, 37 душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыка Д.Паўлікоўскага. Паводле інвентару 1846 г. 2 двары, 29 жыхароў, уласнасць памешчыкаў І. і А. Жалязоўскіх. Вёска адносілася да Лагойскага праваслаўнага прыхода Праабражэнскай царквы. У 1870 г. 27 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у складзе аднайменнага маёнтка, уласнасць памешчыцы Узлоўскай, у Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У вёсцы размяшчаўся хлебазапасны магазін, карчма. У 1897 г. вёска (19 двароў, 126 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом) і фальварак (4 двары, 35 жыхароў, карчма) у Лагойскай вол. Барысаўскага павета. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Старынскай сельскай грамады, у якую ўваходзілі 6 сіліцкіх гаспадарак, што мелі 74,8 дзес. зямлі. У 1909 г. 10 двароў, 64 жыхары, у засценку 1 двор, 15 жыхароў. У 1915 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмным будынку. Пасля рэвалюцыі на базе земскай створана пач. школа, якую наведвалі вучні з 4 вёсак і хутара. У 1917 г. ў вёсцы 23 двары, 131 жыхар, у фальварку 1 двор, 10 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Падонкаўскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы створаны калгас імя Молатава, працавала кузня. У 1941 г. 45 двароў, 220 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе, загубілі 8 жыхароў, 8 вывезлі ў Германію. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны адбудавана. У 1969 г. 38 двароў, 136 жыхароў. У 2010 г. адкрыта аграсядзіба. Побач з вёскай размешчаны Рэспубліканскі горналыжны цэнтр «Сілічы».

*Рэспубліканскі горналыжны цэнтр «Сілічы». Канатная дарога.*



**СКАРАДЫ** — вёска ў Зарэчанскім с/с, за 45 км на ПнЗ ад Лагойска, 84 км ад Мінска, 56 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 34 гаспадаркі, 85 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 2 двары, 12 жыхароў. Паводле рэвізіі 1816 г. 3 душы мужчынскага полу, належала памешчыку Б.Асцімскаму, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. 42 душы мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць. У 1897 г. вёска (32 двары, 231 жыхар) і засценак (1 двор, 7 жыхароў) у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1900 г. адкрыта школа граматы. У пач. 20 ст. адносілася да Зарэчанскай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзіла 21 гаспадарка вёскі. Ім належалі 329,6 дзес. зямлі. У 1909 г. 35 двароў, 213 жыхароў. У 1917 г. 51 двор, 247 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Зарэчанскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны прамень», працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 43 двары, 149 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію 13 жыхароў. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 56 двароў, 217 жыхароў. У 2003 г. 47 гаспадарак, 103 жыхары. Ёсць магазін.

**СЛАБАДА** — вёска ў Гайненскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Лагойска, 53 км ад Мінска, 44 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 29 гаспадарак, 65 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 20 двароў, 145 жыхароў. У пач. 19 ст. ў складзе маёнтка Мураваны Двор, у Барысаўскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыкаў Няплюевых. Паводле рэвізіі 1811 г., 72 душы мужчынскага полу, належала стацкаму саветніку І.Няплюеву. З 1838 г. ўласнасць памешчыка С.Смаляка і яго жонкі Кацярыны. У 1846 г. 124 сял. душы, у Айнаравіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1866 г. ў вёсцы адкрыта школа. У 1870 г. 79 душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыцы К.Смаляк. У 1877 г. Міністэрствам асветы адкрыта штатная школа, для яе ўзведзены ўласны будынак. У 1886 г. 21 двор, 170 жыхароў, цэнтр Гайна-Слабодскай вол., царк.-прыходская школа, бровар, вадзяны млын, за 1 вярсту маёнтак Мураваны Двор. Меліся вадзяны млын, карчма, нар. вучылішча. У 1897 г. 44 двары, 309 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом, цэнтр воласці. У 1905 г. 19 гаспадарак, якія валодалі 396 дзес. зямлі, уваходзілі ў Гайна-Слабодскую сельскую грамаду. У 1909 г. пабудавана драўляная капліца. Была прыпісана да Успенскай царквы ў в. Гайна. У 1909 г. 52 двары, 327 жыхароў. У 1917 г. 75 двароў, 391 жыхар. На базе дарэвалюцыйнай створана пач. школа, якую наведвалі дзеці з 7 вёсак. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1924 г. ў школе вучыўся 61 слабодскі вучань. З 20.8.1924 г. цэнтр Слабодскага с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы створаны калгас «Іскра». У 1941 г. 60 двароў, 273 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 1 двор, загубілі 4 жыхароў, 2 вывезлі ў Германію. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце, 8 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 63 двары, 190 жыхароў. У 2003 г. 38 гаспадарак, 88 жыхароў. Архітэктурны помнік нар. драўлянага дойлідства — капліца. Радзіма нар. паэта Беларусі Н.С.Гілевіча.



*Н.С.Гілевіч.*

**СЛАБАДА** — вёска ў Плешчаніцкім с/с, за 30 км на Пн ад Лагойска, 69 км ад Мінска, 68 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 99 гаспадарак, 240 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 17 двароў, 112 жыхароў, уладанне Тышкевічаў. У 1-й пал. 19 ст. ў складзе маёнтка Плешчаніцы, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. 54 душы мужчынскага полу, уласнасць Д.Тышкевіча. У 1833 г. 40 рэвізскіх сял. душ (81 мужчына, 59 жанчын). У 1870 г. 74 сял. душы мужчынскага полу. Вёска адносілася да Плешчаніцкага праваслаўнага прыхода Троіцкай царквы. У 1897 г. 44 двары, 285 жыхароў, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1905 г. 22 гаспадаркі, якія валодалі 437 дзес. зямлі, уваходзілі ў Плешчаніцкую сельскую грамаду. У 1908 г. 41 двор, 270 жыхароў. У 1917 г. 39 двароў, 253 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Плешчаніцкім с/с Барысаўскай, з 9.6. 1927 Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 62 двары, 286 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 60 двароў, 290 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 3 двары, 10 жыхароў вывезлі ў Германію. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. У баях за вызваленне вёскі загінулі 3 партызаны і 1 сав. воін. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 92 двары, 265 жыхароў. У 2003 г. 91 гаспадарка, 240 жыхароў. Ёсць магазін.

**СЛАГАВІШЧА** – вёска ў Лагойскім с/с, за 12 км на Пн ад Лагойска, 51 км ад Мінска, 42 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 13 гаспадарак, 34 жыхары (2010).

У 1536—66 гг. згадваецца ў дакументах пры размежаванні земляў капігульных вёсак з суседнімі маёнткамі, у т. л. маёнткам Слагавішча. Уласнасць В.Тышкевіча ў Лагойскім павеце ВКЛ. У 1570 г. В.Тышкевіч завяшчаў маёнтак свайму сыну Юрыю. У 1709 г. 6 двароў, 36 жыхароў, уладанне П.Прушынскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. 15 душ мужчынскага полу. У 1870 г. фальварак у Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., меўся хлебазапасны магазін, дзейнічаў смалярнашкіпінарны з-д. У 1897 г. 47 жыхароў. У 1917 г. засценак, 2 двары, 39 жыхароў, у фальварку 2 двары, 8 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Кузевіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1930 г. створаны калгас «Чырвонае Слагавішча», працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 27 двароў, 145 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе, загубілі 61 жыхара, 5 вывезлі ў Германію. 4 вяскоўцы загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 27 двароў, 141 жыхар.

**СЛІЖЫНА** – вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Лагойска, 60 км ад Мінска, на р. Сліжанка (прыток р. Ілія). 43 гаспадаркі, 96 жыхароў (2010).

Згадваецца ў 1508 г. ў пацвярджальнай грамаце вял. кн. ВКЛ Жыгімонта І, якая была дадзена гараднічаму Мінскага ваяв. П.Аношку на зямлю «пустоту Сліжына на вечныя часы» ў Гайненскай вол. Мінскага ваяв. У 1559 г. 10 двароў. У 1582 г. Сліжына ў маёнтку Саўдзеневічы, уласнасць зямяніна Я.Ясінскага, мелася карчма. У 1738 г. 3 двары, млын і фальварак, шляхецкая ўласнасць. У 1765 г. вёска, 8 двароў, 20 душ мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць у Мінскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1816 г. частка вёскі, 9 душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыкаў Валодзькавічаў, якія здавалі яе ў арэнду І.Ку-

дзіновічу, 2-я частка вёскі (34 душы мужчынскага полу) — дзяржаўная уласнасць, адносілася да Гайненскага староства. У 1897 г. в. Сліжына (47 двароў, 296 жыхароў), маёнтак і 2 хутары (2 двары, 13 жыхароў) у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета. У 1909 г. ў вёсцы 50 двароў, 367 жыхароў, у маёнтку, які знаходзіўся паблізу вёскі, 2 двары, 5 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Янушкавіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7. 1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Быў створаны калгас імя Свярдлова, меліся кузня і кравецкая майстэрня. У 1941 г. 72 двары, 338 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію 10 жыхароў. 23 вяскоўцы загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. З 14.4.1954 г. ў Янушкавіцкім с/с. У 1969 г. 74 двары, 269 жыхароў. У 2003 г. 53 гаспадаркі, 108 жыхароў.

**СМОЛЬНІЦА** — былая вёска ў Каменскім с/с, за 40 км на ПнЗ ад Лагойска, 79 км ад Мінска.

У 1811 г. 6 рэвізскіх сял. душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыка Свянцінскага. У 19 ст. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1848 г. прысёлак Смольніца, 1 двор, 7 жыхароў, уладанне вольнага земляроба А.Дубовіка, які валодаў 20 дзес. зямлі. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 5 двароў, 40 жыхароў. У пач. 20 ст. адносілася да Закалюжскай сельскай грамады, у якую ўваходзілі 2 двары вёскі, што валодалі 43,2 дзес. зямлі. У 1909 г. засценак, 5 двароў, 26 жыхароў. У 1917 г. 4 двары, 27 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак у Каменскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай акр. (да 26.7.1930 г.), з 22.9.1927 г. Плешчаніцкага р-на. У 1926 г. ў засценку 7 двароў, 35 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 24 двары, 120 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 5 жыхароў, 1 вывезлі ў Германію. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 10 двароў, 24 жыхары.

**СТАЕЦКІЯ** — вёска ў Каменскім с/с, за 53 км на ПнУ ад Лагойска, 82 км ад Мінска, 50 км ад чыг. ст. Барысаў, на р. Цна (прыток р. Гайна). У вёсцы ніхто не жыве.

У 1885 засценак у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 9 двароў, 56 жыхароў. У 1917 г. 12 двароў, 60 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Ганцавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 22.9.1927 г. Плешчаніцкага р-на. У 1926 г. ў пасёлку 9 двароў, 53 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 15 двароў, 65 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1944 г. спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 2003 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары.

**СТАЙКІ** — вёска ў Каменскім с/с, за 41 км на ПнУ ад Лагойска, 80 км ад Мінска, 49 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша, на р. Каменка (прыток р. Чарніца). 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2010).

У 1800 г. 7 двароў, 39 жыхароў, ва ўладанні І.Тышкевіча. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Плешчаніцкай вол. Барысаўска-

га павета Мінскай губ. У 1897 г. 18 двароў, 141 жыхар. У 1909 г. 17 двароў, 145 жыхароў. У 1917 г. 6 двароў, 35 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Каменскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 22.9. 1927 г. Плешчаніцкага р-на. У 1926 г. 26 двароў, 133 жыхары, працаваў смалакурны з-д. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 26 двароў, 120 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе, 4 жыхароў вывезлі ў Германію. 2 вяскоўцы загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адбудавана. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 30 двароў, 109 жыхароў. У 2003 г. 18 гаспадарак, 37 жыхароў.

**СТАЙКІ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Лагойска, 61 км ад Мінска, 62 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 22 гаспадаркі, 32 жыхары (2010).

У 1577 г. сяло ў Гайненскім уладанні Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1765 г. вёска, 10 двароў, 33 душы мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць у Мінскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. частка вёскі (56 душ мужчынскага полу) належала Гайненскаму староству, другая частка (5 душ мужчынскага полу) памешчыкам Валодзькавічам, яна здавалася ў арэнду памешчыку Кудзіновічу. У 1870 г. 71 рэвізская душа мужчынскага полу. У 1897 г. 53 двары, 349 жыхароў, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Адносілася да Янушкавіцкага праваслаўнага прыхода царквы Раства Багародзіцы. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Гайненскай сельскай грамады. У 1905 г. ў яе ўваходзілі 26 гаспадарак, якім належалі 580 дзес. зямлі. У 1909 г. 64 двары, 365 жыхароў. У 1917 г. 63 двары, 390 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Янушкавіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Быў створаны калгас «1 Мая». У 1941 г. 75 двароў, 320 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 73 двары, загубілі 24 жыхароў, 59 вывезлі ў Германію. 4 вяскоўцы загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 64 двары, 198 жыхароў. У 2003 г. 30 гаспадарак, 50 жыхароў.

**СТАНАВІШЧА** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 46 км на ПнУ ад Лагойска, 85 км ад Мінска, 70 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Чарніца (прыток р. Цна). 19 гаспадарак, 47 жыхароў (2010).

У 1620 г. вёска (18 двароў, 64 сял. душы мужчынскага полу), цэнтр аднайменнага маёнтка, уласнасць шляхціца Гуркі ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1744 г. сяло, царк. ўласнасць Хатаевіцкай парафіі, належала хатаевіцкаму дамініканскаму касцёлу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 9 двароў, 68 жыхароў, вадзяны млын, гаспадарскі двор. У 1870 г. вёска, цэнтр маёнтка, 50 сял. душ мужчынскага полу, размяшчаўся хлебазапасны магазін. У 1879 г. адносілася да Прусавіцкага праваслаўнага прыхода Мікалаўскай царквы. У 1890 г. пачала працаваць школа граматы, у якой вучыліся 10 хлопчыкаў. У 1897 г. вёска (22 двары, 135 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца) і фальварак (28 жыхароў) у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1905 г.

цэнтр сельскай грамады, да якой адносіліся гаспадаркі 5 вёсак. У яе ўваходзілі 10 гаспадарак з в. Станавішча, якія мелі 209,4 дзес. зямлі. Сяляне мелі права карыстацца возерам і сажалкаю сумесна з уладальнікамі маёнтка Станавішча. У 1909 г. ў вёсцы 28 двароў, 170 жыхароў, у фальварку 2 двары, 21 жыхар. У 1917 г. ў вёсцы 32 двары, 175 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Прусавіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 38 двароў, 173 жыхары, на хутары 2 двары, 7 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Леніна, працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 31 двор, 139 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары, загубілі 3 жыхароў, 6 вывезлі ў Германію. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 31 двор, 118 жыхароў.

**СТАРАГАНЦАВІЦКАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Каменскім с/с, за 48 км на ПнУ ад Лагойска, 87 км ад Мінска, 45 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 15 гаспадарак, 36 жыхароў (2010).

У 1811 г. вёска, 13 сял. душ мужчынскага полу, уласнасць кн. І.Пузыны. У 1833 г. ў складзе маёнтка Ганцавічы ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1846 г. 6 двароў, 52 жыхары, уласнасць губернскага сакратара памешчыка І.Лапіцкага. Кожны сял. двор надзяляўся 18 дзес. зямлі. У 1897 г. 14 двароў, 109 жыхароў, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. 7 гаспадарак, якім належалі 130,9 дзес. зямлі, уваходзілі ў сельскую грамаду. У 1909 г. 21 двор, 99 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Ганцавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 22.9.1927 г. Плешчаніцкага р-на. У 1926 г. 37 двароў, 228 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 22 двары, 91 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 15 двароў, загубілі 6 жыхароў, 19 вывезлі ў Германію. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 22 двары, 85 жыхароў.

**СТАРОЕ ГАРАДЗІШЧА** — вёска ў Лагазінскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Лагойска, 47 км ад Мінска, 33 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 18 гаспадарак, 28 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска пры р. Заельніца, уласнасць памешчыкаў Іваноўскіх, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. 61 сял. душа мужчынскага полу. У 1865 г. ў склад маёнтка Гарадзішча ўваходзілі 3 фальваркі: Коўшыцы, Бакароўка і Пушча. Вёска адносілася да Гайненскага праваслаўнага прыхода Успенскай царквы. На могілках размяшчалася праваслаўная царква, прыпісаная да Гайненскага прыхода. У 1870 г. 48 рэвізскіх душ мужчынскага полу, меўся хлебазапасны магазін. У 1897 г. 25 двароў, 174 жыхары, у Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Адносілася да Акуліцкай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 13 гаспадарак, што мелі 164 дзес. зямлі. У 1909 г. ў вёсцы 32 двары, 158 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 10 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 29.10.1924 г. ў Кузевіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1930 г. арганіза-

ваны калгас імя Калініна, працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 52 двары, 219 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 23.2.1942 г. спалілі яе, загубілі 147 жыхароў, 5 вывезлі ў Германію. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1969 г. 74 двары, 296 жыхароў.

**СТАРОЕ ЧЭРНЕВА** — вёска ў Гайненскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Лагойска, 56 км ад Мінска, 47 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 12 гаспадарак, 20 жыхароў (2010).

У 1794 г. вёска ў складзе маёнтка Чырвоны Бор, уласнасць мінскага ген.-губернатара І.М.Няплюева. У 1800 г. 20 двароў, 76 жыхароў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1847 г. 17 двароў, 122 жыхары, належала памешчыку К.Чудоўскаму. У 1870 г. 42 сял. душы мужчынскага полу. У 1897 г. 25 двароў, 156 жыхароў, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета. У 1909 г. 28 двароў, 182 жыхары. У 1917 г. 34 двары, 190 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Коранскім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 37 двароў, 162 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 1 жыхара. 1 вясковец загінуў на фронце. З 24.5.1960 г. ў Гайненскім с/с. У 1969 г. 45 двароў, 153 жыхары.

**СТАРЫ МЛЫН** — вёска ў Швабскім с/с, за 32 км на ПнУ ад Лагойска, 71 км ад Мінска, 42 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. У вёсцы ніхто не жыве.

У канцы 18 ст. вёска ў складзе маёнтка Гаць, уладанне манахаў-францысканцаў у Мінскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 19 ст. засценак, уладанне кн. Пузынаў. У 1846 г. засценак, 5 двароў, 13 жыхароў, уласнасць Х.Пузыны. У 1885 г. хутар у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 6 двароў, 41 жыхар. У 1917 г. 7 двароў, 44 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Швабскім с/с Зембінскага, з 22.9.1927 г. Лагойскага р-наў Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1930 г. вяскоўцы стварылі калгас «Чырвоная Рудня». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 12 двароў, 55 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З вяскоўцы загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 12 двароў, 31 жыхар. У 2003 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары.

**СТАРЫНКІ** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 37 км на Пн ад Лагойска, 76 км ад Мінска, 60 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

У 16 ст. сяло, у якім жыла значная колькасць татарскага насельніцтва, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1589 г. сяло, шляхецкая ўласнасць, 179 сялян. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 9 двароў, 42 жыхары, уладанне М.Валовіча. У 1-й пал. 19 ст. ў складзе маёнтка Акалова ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1811 г. 27 душ мужчынскага полу. У 1833 г. 9 двароў, 55 жыхароў, уласнасць прадвадзіцеля дваранства Барысаўскага павета І.Валовіча. У 1897 г. 15 двароў, 114 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска ў Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1906 г. 10 гаспадарак, якія валодалі 217 дзес. зямлі, уваходзілі ў Акалоўскую

сельскую грамаду. У 1909 г. 14 двароў, 99 жыхароў. У 1917 г. 21 двор, 104 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Акалоўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 18 двароў, 87 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 27 двароў, 121 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 1 двор, загубілі 2 жыхароў, 15 вывезлі ў Германію. 4 вяскоўцы загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 25.12. 1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 42 двары, 139 жыхароў.

**СТРЫЙ** — вёска ў Нястанавіцкім с/с, за 52 км на ПнЗ ад Лагойска, 91 км ад Мінска, 26 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна, на р. Крайшчанка (прыток р. Вілія). 13 гаспадарак, 19 жыхароў (2010).

У 1897 г. 34 двары, 299 жыхароў, у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1905 г. 270 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 50 двароў, 270 жыхароў, у Барысаўскім павеце. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 51 двор, 213 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 6 двароў, загубілі 6 жыхароў, 27 вывезлі ў Германію. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 16.7.1954 г. ў Нястанавіцкім с/с Плешчаніцкага р-на, з 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 52 двары, 163 жыхары. У 2003 г. 19 гаспадарак, 31 жыхар.

**СУКНЕВІЧЫ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Лагойска, 73 км ад Мінска. 37 гаспадарак, 92 жыхары (2010).

У 1522 г. сяло, шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. У 1707 г. 4 двары, уладанне Б.Залесскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 18 ст. з назвай Сукневічы былі 3 вёскі. Адна з іх належала ксяндзам хатаевіцкага даміканскага кляштара. У 1800 г. 14 двароў, 110 жыхароў, уладанне хатаевіцкага касцёла і шляхціцаў П.Валіцкага і П.Казімірскага. Паводле рэвізіі 1811 г. адна вёска, 19 душ мужчынскага полу, у складзе маёнтка Хатаевічы, у Хатаевіцкай парафіі. Другая вёска — уласнасць памешчыкаў Валіцкіх, трэцяя за добрую службу перададзена ў 1872 г. калежскаму сакратару памешчыку У.Бабарыкіну. У 1870 г. першая вёска — казённая ўласнасць, другая вёска — уласнасць памешчыцы В.Рыклеўскай, трэцяя — памешчыка А.Валецкага. У 1897 г. в. Сукневічы-1 (16 двароў, 105 жыхароў), в. Сукневічы-2 (14 двароў, 112 жыхароў), засценак Сукневічы (1 двор, 10 жыхароў) і маёнтак Сукневічы (12 жыхароў) у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Хатаевіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. назву Сукневічы мелі 4 населеныя пункты: вёска, 8 двароў, 44 жыхары; хутар, 1 двор, 7 жыхароў; хутар, 6 двароў, 55 жыхароў; хутар, 1 двор, 9 жыхароў. У вёсцы створаны калгас «Чырвоны транспарт», працавалі сталярная майстэрня, ваўначоска. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 56 двароў, 217 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 5 жыхароў, 17 вывезлі ў Германію. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 64 двары, 225

жыхароў. У 2003 г. 45 гаспадарак, 111 жыхароў.

**СУХАЯ ГАРА** — вёска ў Бяларуцкім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Лагойска, 38 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2010).

У 1800 г. 6 двароў, 56 жыхароў, уладанне мінскага крайчага Ф.Аборскага. У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Навасады, уласнасць памешчыкаў Пашкевічаў у Бяларуцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1847 г. 9 сял. душ, уласнасць І.Пашкевіча. У 1885 г. назву Сухая Гара мелі вёска і засценак, быў хлебазапасны магазін. У 1897 г. 12 двароў, 77 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1909 г. 11 двароў, 88 жыхароў. У 1917 г. 12 двароў, 79 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прудзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. ў Лагойскім р-не. У 1926 г. 12 двароў, 80 жыхароў, на хутары — 2 двары, 16 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 30 двароў, 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 23 двары, 88 жыхароў. У 2003 г. 7 гаспадарак, 9 жыхароў.

**СУШКАВА** — вёска ў Крайскім с/с, за 63 км на ПнЗ ад Лагойска, 102 км ад Мінска, 43 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 17 гаспадарак, 31 жыхар (2010).

У 16 ст. згадваецца як сяло, шляхецкая ўласнасць у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1582 г. 10 сял. гаспадарак, уласнасць зямяніна С.Рудзінскага, які частку маёнтка падараваў сваёй сястры Д.Войчак «з людьми тяглыми и з землями... з данью медовую, грашовую...». У 1635 г. ў мястэчку існавала Мікалаеўская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У пач. 20 ст. цэнтр сельскай грамады Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1905 г. фальварак, 46 жыхароў, уласнасць графа Тышкевіча, які валодаў 1478 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. вёска (16 двароў, 100 жыхароў) і маёнтак (39 жыхароў) у Крайскай вол. Барысаўскага павета. З 20.8.1924 г. вёска ў Крайскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 25 двароў, 115 жыхароў, на хутары 8 двароў, 54 жыхары. У 1930 г. вяскоўцы стварылі калгас «Чырвонаармеец», працавала ваўначоска. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 45 двароў, 278 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 4 жыхароў вывезлі ў Германію. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце, 10 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінула 8 партызан. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 46 двароў, 137 жыхароў. У 2003 г. 23 гаспадаркі, 36 жыхароў.

**СЦЮДЗЯНЕЦ** — вёска ў Нястанавіцкім с/с, за 42 км на ПнЗ ад Лагойска, 81 км ад Мінска, 27 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1582 г. як сяло ў Мінскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 19 ст. вёска ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. Значную частку жыхароў складалі стараабраднікі. У 1816 г. 10 сял. душ. У 1917 г. 11 двароў, 78 жыхароў, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Поль-

шчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Завішынскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 10 двароў, 52 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 9 двароў, 36 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 16.7.1954 г. ў Нястанавіцкім с/с. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 10 двароў, 36 жыхароў. У 2003 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў.

**СЫРАЕЎШЧЫНА** — вёска ў Лагазінскім с/с, за 4 км на Пн ад Лагойска, 43 км ад Мінска, 29 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). 15 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

У канцы 19 ст. засценак пры р. Гайна ў Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 10 двароў, 61 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2003 г. 17 гаспадарак, 34 жыхары.

**СЯЛЕЦ** — вёска ў Лагазінскім с/с, за 10 км на З ад Лагойска, 49 км ад Мінска, 35 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 40 гаспадарак, 90 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў канцы 15 ст. ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1-й пал. 16 ст. маёнтак Сялец купіў ваявода смаленскі, стараста мінскі і пінскі В.Тышкевіч, які ў 1570 г. завяшчаў яго сваму сыну Юрыю. У 1596 г. цэнтр аднайменнага маёнтка, уласнасць К.Тамковіча ў Мінскіх павеце і ваяв. У вёсцы размяшчалася праваслаўная Пакроўская царква. У 1630 г. пры царкве быў засн. манастыр, да якога было прыпісана с. Сялец. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. фальварак, 13 двароў, 92 жыхары, уладанне лагойскага базылянскага касцёла. Паводле рэвізіі 1811 г. 48 душ мужчынскага полу. У 1865 г. вёска адносілася да Лагойскага праваслаўнага прыхода царквы Праабражэння, была царква на могілках. У 1872 г. маёнтак, уласнасць штабс-капітана памешчыка М.Аляксандрава, які валодаў 1667 дзес. зямлі. У вёсцы размяшчаліся карчма, хлебазапасны магазін. У 1897 г. 43 двары, 254 жыхары, капліца, хлебазапасны магазін, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Адносілася да Гайненскай сельскай грамады. У 1905 г. ў яе ўваходзіла 21 сялецкая гаспадарка, якая мела 326,5 дзес. зямлі. У 1909 г. 37 двароў, 238 жыхароў. У 1912 г. адкрыта земская школа (у 1917—23 гг. не працавала), якая размяшчалася ў сял. хаце. У 1917 г. 38 двароў, 283 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 29.10.1924 г. ў Кузевіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. працавала сельская кузня. У 1930 г. створаны калгас «Новы Сялец». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 40 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну

*Краявід каля в. Сялец.*



з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 4 двары, загубілі 22 жыхароў, 3 вывезлі ў Германію. 25 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 53 двары, 218 жыхароў.

**СЯМКОВА** — вёска ў Бяларуцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Лагойска, 40 км ад Мінска. 105 гаспадарак, 283 жыхары (2010).

У 1800 г. 10 двароў, 82 жыхары. У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Прудзішча ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыкаў Жаброўскіх. У 1844 г. ўладанне А.Жаброўскага. Кожны сял. двор быў надзелены 16 дзес. зямлі. У вёсцы размяшчалася карчма. У 1897 г. засценак, 10 двароў, 50 жыхароў. У 1917 г. 7 двароў, 42 жыхары. Побач размяшчаўся хутар, 2 двары, 16 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Прудзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. на хутары 17 двароў, 89 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 30 двароў, 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары, загубілі 9 жыхароў, 5 вывезлі ў Германію. 4 вяскоўцы загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 42 двары, 138 жыхароў. У 2003 г. 107 гаспадарак, 323 жыхары. У вёсцы размешчаны цэнтр аддз. «Сёмкава» ААТ Лагойскай МТС «Райаграсэрвіс», Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, лясніцтва, магазін.

**СЯРПІШЧЫНА** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Лагойска, 62 км ад Мінска, 64 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах 18 ст. Сярпішчына згадваецца як дзярж. ўласнасць у Гайненскіх вол. і старостве Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1764 г. 6 двароў, 16 душ мужчынскага полу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1793 г. вёска ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 4 двары, 36 жыхароў. Паводле рэвізіі 1816 г. 17 душ мужчынскага полу, адносілася да Гайненскага староства. У 1857 г. 17 рэвізскіх душ мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць. У 1879 г. адносілася да Янушкавіцкага праваслаўнага прыхода царквы Раства Багародзіцы. У 1897 г. вёска, (17 двароў, 107 жыхароў) і фальварак (2 двары, 12 жыхароў), у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. вёска ўваходзіла ў Гайненскую сельскую грамаду. У 1909 г. 21 двор, 123 жыхары. У 1917 г. 23 двары, 153 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў складзе Янушкавіцкага с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). Быў створаны калгас імя Чарвякова. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 38 двароў, 214 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 38 двароў, 114 жыхароў. У 2003 г. 13 гаспадарак, 17 жыхароў.

**СЯРЭДНЯЕ** — вёска ў Каменскім с/с, за 46 км на ПнУ ад Лагойска, 85 км ад Мінска, 56 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

У 1800 г. засценак, 1 двор, 5 жыхароў. У 1833 г. вёска ў складзе маёнтка Клін у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1846 г. 2 двары, 20 жыхароў, уласнасць калежскага асэсара К.Мірскага і яго дачок Валенты і Міхаліны. У 1897 г.

5 двароў, 55 жыхароў, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 3 двары, 24 жыхары. У 1917 г. 18 двароў, 35 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак у Каменскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 22.9.1927 г. Плешчаніцкага р-на. У 1926 г. 8 двароў, 39 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 40 двароў, 132 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 8 двароў, знішчылі 6 жыхароў, 15 вывезлі ў Германію. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце, 8 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 39 двароў, 128 жыхароў. У 2003 г. 9 гаспадарак, 16 жыхароў.

**ТАКАЎШЧЫНА** — вёска ў Швабскім с/с, за 23 км на ПнУ ад Лагойска, 62 км ад Мінска, 45 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша, на р. Цна (прыток р. Гайна). 14 гаспадарак, 24 жыхары (2010).

У 2-й пал. 19 ст. засценак на р. Цна ў Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 12 двароў, 79 жыхароў. У 1909 г. 8 двароў, 65 жыхароў. У 1917 г. ў вёсках Такаўшчына і Цна 14 двароў, 82 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Швабскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 22.9.1927 г. Лагойскага р-на. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 22 двары, 115 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 4 двары, загубілі 6 жыхароў. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 22 двары, 99 жыхароў. У 2003 г. 15 гаспадарак, 30 жыхароў. З 22.1.2008 г. ў Швабскім с/с.

**ТАРАСІНО** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 49 км на ПнУ ад Лагойска, 98 км ад Мінска, 85 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Цна (прыток р. Гайна). 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

У 19 ст. вёска на р. Цна Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., адносілася да Прусавіцкага праваслаўнага прыхода Мікалаеўскай царквы. У 1857 г. 9 сял. душ мужчынскага полу. У 1897 г. 3 двары, 24 жыхары. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Далькавіцкай сельскай грамады, у 1905 г. ў яе ўваходзілі 2 гаспадаркі, якія валодалі 29,4 дзес. зямлі. У 1909 г. засценак, 4 двары, 38 жыхароў. У 1917 г. 7 двароў, 48 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак у Прусавіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 7 двароў, 33 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 10 двароў, 43 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 10 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 11 двароў, 34 жыхары. З 30.1.1976 г. ў Акалоўскім с/с.

**ТРАЯНЕЦ** — вёска ў Нястанавіцкім с/с, за 47 км на ПнЗ ад Лагойска, 86 км ад Мінска, 46 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 13 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

У 17 ст. сяло, прыватная ўласнасць у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1635 г. ўваходзіла ў фальварак Укропава. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1885 г. 50 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 23 двары, 160

жыхароў, хлебазапасны магазін, у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1905 г. 180 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Запольскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 34 двары, 170 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 38 двароў, 171 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 12 двароў, загубілі 4 жыхароў, 17 вывезлі ў Германію. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 16.7. 1954 г. ў Нястанавіцкім с/с. З 15.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 38 двароў, 148 жыхароў. У 2003 г. 23 гаспадаркі, 35 жыхароў.

**ТРУСАВІЧЫ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 45 км на ПнЗ ад Лагойска, 84 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2010).

У 1500 г. Двор Трусавічы, уласнасць паноў Пацаў у ВКЛ, пазней Дварэц Трусавічы купіў ваявода смаленскі, староста мінскі і пінскі В.Тышкевіч. У 1567 г. згадваецца як сяло ў попісе войска ВКЛ. У 1570 г. В.Тышкевіч завяшчаў Трусавічы свайму сыну Юрыю. У 1722 г. маёнтак, уласнасць віленскага



*Лядоўня ў былой сядзібе Чаховічаў у в. Трусавічы.*

капітула. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 41 сял. душа была пажалавана мінскаму ген.-губернатару І.М.Няплюеву. У 1795 г. ў вёсцы 6 двароў, 35 душ мужчынскага полу. Побач размяшчалася ваколіца, 26 жыхароў, якая належала шляхціцам Кукелю і Буцку. У пач. 20 ст. вёска ў Хаценчыцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1905 г. фальварак, 23 жыхары, уласнасць Чаховіча, які валодаў 1198 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў складзе Бяседскага с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы створаны калгас «На варце». У 1941 г. 21 двор, 98 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 5 двароў, загубілі 1 жыхара, 3 вывезлі ў Германію. 1 вясковец загінуў на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 2 сав. воіны. 16.7.1954 г. ў складзе Янушкавіцкага с/с. У 1969 г. 15 двароў, 48 жыхароў. У 2003 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў.

**ТУКАЛАЎКА** — вёска ў Бяларуцкім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Лагойска, 42 км ад Мінска, на р. Вяча (прыток р. Свіслач). 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2010).

У 19 ст. вёска ў Мінскіх павеце і губ., у складзе маёнтка Прудзішча. У 1811 г. 8 сял. душ, уласнасць памешчыка А.Жаброўскага. У 1830 г. засценак, уласнасць А.Жаброўскага. У 1844 г. 2 двары, 11 жыхароў. У 1870 г. засценак, 16 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у маёнтку Прудзішча. У 1897 г. 15 двароў, 70 жыхароў, у Бяларуцкай вол. Мінскага павета і губ. У 1909 г. 18 двароў, 78 жыхароў. У 1917 г. 20 двароў, 98 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупірава-

на войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прудзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7. 1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. 19 двароў, 90 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 15 двароў, 75 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 1 жыхара. З вяскоўцы загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 11 двароў, 36 жыхароў. У 2003 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары.

**УБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Лагойска, 72 км ад Мінска. 58 гаспадарак, 107 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. сяло, уладанне хатаевіцкага дамініканскага касцёла. У 1800 г. 15 двароў, 146 жыхароў. У 1809 г. вёска Убалацце (яна ж Забалоцце), 9 гаспадарак, у складзе фальварка Хатаевічы. У вёсцы размяшчалася карчма. Паводле рэвізіі 1811 г. 17 душ мужчынскага полу належала хатаевіцкаму дамініканскаму касцёлу. У 1846 г. вёска, цэнтр маёнтка Убалацце, у якім было 20 сял. душ (10 мужчын, 10 жанчын). Пры дарозе з Плешчаніц на Хатаевічы размяшчалася карчма. У 1864 г. фальварак Убалацце належаў мяшчанам Усціну, Іларыёну і Андрэю Сімашкам, якія валодалі 84 дзес. зямлі. У 1870 г. 16 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у складзе казённага маёнтка Хатаевічы. У 1905 г. 100 гаспадарак былых казённых сялян, якія валодалі 206,2 дзес. зямлі, уваходзілі ў Нястанавіцкую сельскую грамаду. У 1897 г. вёска (22 двары, 141 жыхар), фальварак (Здвары, 39 жыхароў) і засценак (1 двор, 10 жыхароў), у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Хатаевіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 44 двары, 219 жыхароў, на хутары 8 двароў, 26 жыхароў. У вёсцы створаны калгас «Шлях камуны». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 73 двары, 348 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 10 жыхароў, 15 вывезлі ў Германію. 31 вясковец загінуў на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 89 двароў, 384 жыхары. У 2003 г. 64 гаспадаркі, 146 жыхароў. Ёсць магазін.

**ФІЛЬЯНОВА** — вёска ў Каменскім с/с, за 46 км на ПнУ ад Лагойска, 95 км ад Мінска, 47 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша, на р. Чарніца (прыток р. Цна). 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1870 г. 28 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. вёска (17 двароў, 94 жыхары) і хутар (3 двары, 31 жыхар). У 1908 г. 17 двароў, 116 жыхароў. У 1917 г. 20 двароў, 127 жыхароў, на хутары 1 двор, 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Каменскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Плешчаніцкага р-на. У 1926 г. 20 двароў, 100 жыхароў, на хутары 7 двароў, 38 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 26 двароў, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію 3 жыхароў. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 25.12. 1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 43 двары, 126 жыхароў.

**ФРАНУЛІНА** — вёска ў Зарэчанскім с/с, за 55 км на ПнЗ ад Лагойска,

94 км ад Мінска, 52 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 19 ст. маёнтак у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1905 г. фальварак, 1 двор, 11 жыхароў, уласнасць памешчыцы Каноплінай. У 1904 г. маёнтак, 10 жыхароў і фальварак, 3 жыхары, у Барысаўскім павеце. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Зарэчанскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. хутар, 5 двароў, 30 жыхароў. У 1929 г. на базе фальварка створаны калгас «Чырвоная ніва». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 17 двароў, 88 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 1 двор, загубілі 8 жыхароў, 4 вывезлі ў Германію. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 21 двор, 76 жыхароў. У 2003 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары.

**ХАДАКІ** — вёска ў Крайскім с/с, за 57 км на ПнУ ад Лагойска, 96 км ад Мінска, 45 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 31 гаспадарка, 96 жыхароў (2010).

Згадваецца ў 18 ст. ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1775 г. ў вёсцы 6 двароў, 29 жыхароў, належала Лабачэўскаму, мелася карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска і засценак ва ўладанні І.Бронца (9 двароў, 51 жыхар), М.Яноўскага (4 двары, 42 жыхары). У 19 ст. вёска і маёнтак у Вілейскім павеце Віленскай губ. У пач. 20 ст. ў Крайскай вол. У 1902 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім вучыліся 47 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі. У 1905 г. назву Хадакі мелі 5 маёнткаў, 2 вёскі і 1 хутар. Усе яны размяшчаліся побач. У в. Хадакі 157 жыхароў, да яе адносілася 125 дзес. зямлі, у другой аднайменнай вёсцы 68 жыхароў, 56 дзес. зямлі, 3 маёнткі памешчыка Янкоўскага: маёнтак, 8 жыхароў, 126 дзес. зямлі; маёнтак, 9 жыхароў, 121 дзес. зямлі; маёнтак, 10 жыхароў, 121 дзес. зямлі; маёнтак, 27 жыхароў, 80 дзес. зямлі, належаў Зяленку; маёнтак, 13 жыхароў, 40 дзес. зямлі, належаў Фалькоўскаму; хутар графа Тышкевіча, які валодаў тут 194 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Крайскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. назву Хадакі мелі 3 населеныя пункты: вёска, 35 двароў, 188 жыхароў; засценак, 3 двары, 9 жыхароў; хутар, 9 двароў, 45 жыхароў. У 1930 г. на былых памешчыцкіх землях арганізаваны калгас «Бальшавік». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 60 двароў, 240 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы базіраваўся штаб партыз. брыгады імя В.Т.Варанянскага (да 1.6.1943 г. брыгада «Дзядзькі Васі»). Гітлераўцы 7 разоў нападалі на вёску, спалілі 45 двароў, расстралялі 40 вяскоўцаў, 17 жыхароў вывезлі ў Германію. 7 жыхароў загінулі на фронце, 6 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 8 партызан. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 45 двароў, 216 жыхароў. У 2003 г. 39 гаспадарак, 120 жыхароў. Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, магазін.

**ХАРОШАЕ** — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 46 км на Пн ад Лагойска, 105 км ад Мінска, 39 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Полацк—Маладзечна. 105 гаспадарак, 269 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 23 двары, 159 жыхароў, уладанне М.Валовіча. У пач. 19 ст. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1811 г. 69 душ мужчынскага полу, у складзе маёнтка Акалова,

уласнасць памешчыка Валовіча. У 1833 г. ў складзе фальваркаў Жардзяжжа і Генрыхполле маёнтка Акалова. У 1846 г. 14 двароў, 86 рэвізскіх сял. душ у складзе фальваркаў Жардзяжжа, 9 двароў адносіліся да фальварка Генрыхполле маёнтка Акалова, уласнасць прадвадзіцеля дваранства Барысаўскага павета І.Валовіча. У 1897 г. 62 двары, 466 жыхароў, капліца, піцейны дом, у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У вёсцы меліся карчма, капліца. У 1909 г. 60 двароў, 853 жыхары. У 1912 г. пачало дзейнічыць аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. 77 двароў, 440 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Горнаўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 106 двароў, 574 жыхары. У вёсцы створаны калгас імя Фрунзе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 117 двароў, 420 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 25 двароў, загубілі 17 жыхароў, 18 вывезлі ў Германію. 32 вяскоўцы загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 3 сав. воіны і 1 партызан. З 16.7.1954 г. ў Задор'еўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 94 двары, 384 жыхары. У 2003 г. 115 гаспадарак, 299 жыхароў. У вёсцы размешчаны цэнтр СПК «Харошае», Дом культуры, б-ка, пач. школа—дзіцячы сад, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, магазін.

**ХАРУЖАНЦЫ** — вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Лагойска, 74 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 21 жыхар (2010).

У 1800 г. вёска, 14 двароў, 90 жыхароў, драўляны гаспадарскі дом. Паводле рэвізіі 1811 г. 12 душ мужчынскага полу. У 1858 г. 17 душ мужчынскага полу, у Айнаравіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1886 г. 3 двары, 20 жыхароў, былое прыватнае ўладанне пры р. Сліжанка, меўся малітоўны дом. У 1897 г. вёска (9 двароў, 55 жыхароў, капліца), засценак (3 двары, 21 жыхар) і хутар (4 двары, 31 жыхар), у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 7 двароў, 42 жыхары. У 1917 г. 19 двароў, 121 жыхар. Побач



*Філіял «Акопы» Літаратурнага музея Янкі Купалы. Фрагмент экспазіцыі музея ў в. Харужанцы.*



*Філіял «Акопы» Літаратурнага музея Янкі Купалы. Мемарыяльны знак у сядзібе «Акопы».*

размяшчаўся хутар, 6 двароў, 43 жыхары. У 1941 г. 33 двары, 197 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 9 двароў, загубілі 26 жыхароў, 4 вывезлі ў Германію. 4 вяскоўцы загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 26 двароў, 119 жыхароў. У 2003 г. 15 гаспадарак, 28 жыхароў. У вёсцы знаходзіцца філіял «Акопы» літаратурнага музея Янкі Купалы.

**ХАЦЕНЬ** — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 65 км на ПнЗ ад Лагойска, 104 км ад Мінска, 31 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Полацк—Маладзечна, на р. Вілія (прыток р. Нёман). 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2010).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1857 г. 22 рэвізскія душы мужчынскага полу. У 1897 г. 18 двароў, 116 жыхароў. У 1905 г. 6 гаспадарак, якія мелі 161 дзес. зямлі, уваходзілі ў Вардоміцкую сельскую грамаду. У 1909 г. 18 двароў, 96 жыхароў. У 1917 г. ў Горнаўскай вол., 14 двароў, 104 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Ізбішчанскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 20 двароў, 100 жыхароў. У 1930 г. ў вёсцы створаны 2 калгасы: імя Урыцкага і імя Чарвякова. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 38 двароў, 162 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. З 25.12. 1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 38 двароў, 138 жыхароў. У 2003 г. 12 гаспадарак, 19 жыхароў.

**ХВАРАСЦЯНІ** — вёска ў Каменскім с/с, за 43 км на ПнУ ад Лагойска, 92 км ад Мінска, 47 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

У 1800 г. засценак, 5 двароў, 35 жыхароў, уладанне І.Гашкевіча. У 19 ст. вёска ў Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1870 г. 46 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. вёска (26 двароў, 179 жыхароў) і аднайменны хутар (1 двор, 3 жыхары). У 1909 г. ў вёсцы 17 двароў, 115 жыхароў. У 1917 г. 19 двароў, 123 жыхары, на хутары 1 двор, 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Каменскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 22.9.1927 г. Плешчаніцкага р-на. У 1926 г. пад назвай Хварасцяні былі вёска, 13 двароў, 77 жыхароў, і 2 хутары (2 двары, 8 жыхароў і 1 двор, 4 жыхары). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 30 двароў, 79 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 22 двары, загубілі 42 жыхароў, 3 вывезлі ў Германію. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 27 двароў, 96 жыхароў.

**ЦЕРАХІ** — вёска ў Гайненскім с/с, за 16 км на Пн ад Лагойска, 55 км ад Мінска, 46 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 34 гаспадаркі, 84 жыхары (2010).

Згадваецца ў 1536—66 гг. у дакументах пры размежаванні зямель капітульных сёл з суседнімі маёнткамі ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ўласнасць Коранскага касцёла. У 1800 г. вёска, 20 двароў, 152 жыхары, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Пасля паўстання 1830—31 гг. ў складзе маёнтка Чырвоны Бор. У 1846 г. ў в. Чэрахі 25 двароў, 213 жыхароў, нале-

жала памешчыку У.Чудоўскаму, мелася карчма. У 1870 г. 102 сял. душы мужчынскага полу. У 1897 г. 56 двароў, 345 жыхароў, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. вёска ў Прудкоўскай сельскай грамадзе, у 1905 г. ў яе ўваходзілі 24 гаспадаркі, якія валодалі 584 дзес. зямлі. У 1909 г. 64 двары, 369 жыхароў. У 1912 г. ў вёсцы існавала нар. вучылішча. У 1917 г. 68 двароў, 406 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 29.10.1924 г. ў Кузевіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 64 двары, 344 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 6 жыхароў, 1 вывезлі ў Германію. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 24.5. 1960 г. ў Гайненскім с/с. У 1969 г. 66 двароў, 266 жыхароў. У 2003 г. 39 гаспадарак, 94 жыхары. Магазін.

**ЦЕРХАВІЧЫ** — вёска ў Лагойскім с/с, за 2 км на Пн ад Лагойска, 41 км ад Мінска, 28 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). 19 гаспадарак, 34 жыхары (2010).

У 1800 г. вёска, 8 двароў, 52 жыхары, уладанне С.Тышкевіча. У пач. 19 ст. ў складзе маёнтка Лагойск у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1811 г. 26 душ мужчынскага полу, уласнасць графа І.Тышкевіча. У 1844 г. 2 двары, уласнасць графа К.Тышкевіча. Адносілася да Лагойскага праваслаўнага прыхода царквы Праабражэння. У 1870 г. 20 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. 9 двароў, 93 жыхары, у Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. адносілася да Лагойскай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 5 гаспадарак, што мелі 102,2 дзес. зямлі. У 1909 г. 9 двароў, 90 жыхароў. У 1917 г. 15 двароў, 97 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Лагойскіх с/с і р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 15 двароў, 65 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 8 жыхароў загінулі на фронце. У 1969 г. 41 двор, 126 жыхароў.

**ЦІХОНАВІЧЫ** — вёска ў Нястанавіцкім с/с, за 48 км на ПнЗ ад Лагойска, 67 км ад Мінска, 23 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Полацк—Маладзечна. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1743 г. 9 двароў, 48 жыхароў, належала пану Бучынскаму. У вёсцы размяшчаўся млын. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 9 двароў, 74 жыхары, уласнасць памешчыкаў Стонскага і Крывінскага. У 19 ст. ў Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1897 г. 9 двароў, 101 жыхар, у маёнтку 1 двор, 10 жыхароў. У 1905 г. ў вёсцы 99 жыхароў, у маёнтку 10 жыхароў, належаў памешчыцы Палянскай. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Запольскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 29 двароў, 142 жыхары. У 1930 г. створаны калгас «Ленскі расстрэл». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 36 двароў, 164 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 26 двароў, загубілі 3 жыхароў, 15 вывезлі ў Германію. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 16.7.1954 г. вёска ў Нястанавіцкім с/с. З 15.12.1962 г. ў Лагой-

скім р-не. У 1969 г. 38 двароў, 148 жыхароў. У 2003 г. 15 гаспадарак, 26 жыхароў.

**ЦНА** — вёска ў Швабскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Лагойска, 69 км ад Мінска, 42 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша, на р. Цна (прыток р. Гайна). 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2010).

У 1781 г. засценак, 2 двары, уладанне І.Храптовіча ў ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска на левым беразе р. Цна (85 жыхароў, вадзяны млын, сукнавальня) і засценак на правым беразе р. Цна (3 двары, 22 жыхары) у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Ганявічы, уласнасць кн. Пузынаў. Паводле рэвізіі 1816 г. ў вёсцы 40 сял. душ мужчынскага полу, належала кн. І.Пузыну. У 1870 гг. вёскі Цна-1, Цна-2, Цна-3 і маёнтак Аляхновіча. У 1917 г. засценкі Цна Качана (4 двары, 19 жыхароў), Цна Міхалава (8 двароў, 61 жыхар), Цна Масцішча (6 двароў, 35 жыхароў), Цна Аляхновічаў (5 двароў, 37 жыхароў), Цна Рубецкай (4 двары, 35 жыхароў), Цна Ханкевіча (1 двор, 10 жыхароў), Цна Чабатары (2 двары, 8 жыхароў) і хутар Цна (1 двор, 6 жыхароў), у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Швабскім с/с Зембінскага, з 22.9.1927 г. Лагойскага р-наў Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце, 11 — у партыз. барацьбе. У 2003 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў.

**ЦЫННАЕ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Лагойска, 73 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

У 1800 г. засценак, 2 двары, 18 жыхароў, уладанне хатаевіцкага дамініканскага кляштара. У 1809 г. засценак, 2 гаспадаркі ў складзе маёнтка Хатаевічы Барысаўскага павета Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1811 г. ў вёсцы 9 мужчынскіх душ, уласнасць хатаевіцкага дамініканскага касцёла. У 1870 г. вёска, 6 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. 9 двароў, 51 жыхар, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1905 г. 5 гаспадарак былых казённых сялян, якім належалі 93,4 дзес. зямлі, уваходзілі ў Хатаевіцкую сельскую грамаду. У 1909 г. 10 двароў, 63 жыхары. У 1917 г. 9 двароў, 70 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Хатаевіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 17 двароў, 80 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 18 двароў, 73 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 3 жыхароў, 4 вывезлі ў Германію. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 21 двор, 81 жыхар. У 2003 г. 8 гаспадарак, 21 жыхар.

**ЧАБАТАРЫ** — вёска ў Швабскім с/с, за 33 км на ПнУ ад Лагойска, 72 км ад Мінска, 45 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 20 гаспадарак, 33 жыхары (2010).

У канцы 19 ст. хутар у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. хутар (5 двароў, 28 жыхароў), урочышча ( 6 двароў, 50 жыхароў) і засценак ( 25 жыхароў). У 1909 г. на хутары 2 двары, 17 жыхароў. У 1917 г. 7 двароў, 62 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Швабаўскім с/с

Зембінскага, з 22.9.1927 г. Лагойскага р-наў Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы створаны калгас «Новы шлях». З 1939 г. ў Чырванашвабаўскім с/с. У 1941 г. 48 двароў, 217 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 3 двары, загубілі 2 жыхароў. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У 1969 г. 48 двароў, 175 жыхароў. У 2003 г. 27 двароў, 40 жыхароў. З 22.1.2008 г. ў Швабскім с/с.

**ЧАРНІЦА** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 43 км на ПнУ ад Лагойска, 82 км ад Мінска, 85 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Чарніца (прыток р.Цна). У вёсцы ніхто не жыве.

У 1786 г. вёска, 9 двароў, з якіх 1 нежылы, 33 жыхары мужчынскага полу, уладанне Аборскага ў ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска і засценак, вадзяны млын. У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Далькавічы ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1811 г. 30 душ мужчынскага полу, належала памешчыку І.Каверскаму. У 1846 г. 39 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у маёнтку Прусавічы, уладанне памешчыкаў Рагоўскіх, у вёсцы размяшчаўся млын, пры ім была карчма. У 1857 г. назву Чарніцы мелі маёнтак і 2 вёскі (у адной 23 рэвізскія душы мужчынскага полу, у другой — 13), уласнасць памешчыка Яноўскага, меўся вадзяны млын. Адносіліся да Прусавіцкага праваслаўнага прыхода Мікалаеўскай царквы. У 1897 г. вёскі Чарніца-1 (8 двароў, 66 жыхароў) і Чарніца-2 (15 двароў, 105 жыхароў), у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. ў в. Чарніца-1 — 20 двароў, 107 жыхароў, у в. Чарніца-2 — 18 двароў, 98 жыхароў. Побач размяшчаўся млын і двор млынара, дзе жылі 3 чалавекі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прусавіцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 17 двароў, 79 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас імя М.Горкага. У 1931 г. працаваў вадзяны млын. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 12 двароў, 60 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары, загубілі 13 жыхароў, 6 вывезлі ў Германію. 1 вясковец загінуў у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 10 двароў, 19 жыхароў. З 30.1.1976 г. ў Акалоўскім с/с.

**ЧАРНЯХОЎСКІ** — пасёлак у Лагойскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Лагойска, 65 км ад Мінска. 43 гаспадаркі, 106 жыхароў (2010).

Узнік у 1969 г. як пасёлак спіртзавода «Косіна». У 2003 г. 50 гаспадарак, 113 жыхароў.

**ЧМЯЛЕВІЧЫ** — вёска ў Каменскім с/с, за 45 км на ПнУ ад Лагойска, 84 км ад Мінска, 53 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 15 гаспадарак, 25 жыхароў (2010).

У 1800 г. сяло, 9 двароў, 269 жыхароў, драўляная царква, гаспадарскі дом. У 19 ст. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1811 г. 24 душы мужчынскага полу, у склад маёнтка ўваходзілі фальварак Чмялевічы і 6 вёсак. У 1833 г. ў маёнтку 201 рэвізская сял. душа, мелася сажалка, на якой пабудаваны паравы бровар, за 3 вярсты ад р. Чарніца размяшчаўся млын (прыбытак — 40 руб. серабром). У 1834 г. набыта карчма (прыбытак — 45 руб. серабром). Мелася праваслаўная царква на могілках. Паводле інвентару 1846 г. 12 двароў, 90 жыхароў. Маёнтак, 165 прыгонных, 2006 дзес. зямлі, належаў памешчыцы Чмыхавай. У 1868 г. маёнтак, 1397 дзес. зямлі, купіў памешчык

А.Трыдзенскі. У 1886 г. сяло, былое прыватнае ўладанне, 18 двароў, 162 жыхары, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1890 г. адкрыта школа граматы, у якой вучыліся 16 хлопчыкаў. У 1897 г. вёска (39 двароў, 256 жыхароў) і маёнтак (32 жыхары, капліца), у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У пач. 20 ст. вёска, цэнтр сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 17 чмялевіцкіх гаспадарак, што мелі 389,4 дзес. зямлі. У 1909 г. 45 двароў, 304 жыхары. У 1912 г. дзейнічала аднакласнае нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Каменскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 52 двары, 301 жыхар. Побач былі 2 хутары: у адным 2 двары, 8 жыхароў, у другім 1 двор, 4 жыхары. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоны Кастрычнік». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 62 двары, 168 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску, загубілі 7 жыхароў, 30 вывезлі ў Германію. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце, 8 — у партыз. барацьбе. З 25.12. 1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 56 двароў, 195 жыхароў.

**ЧОРНЫ ЛЕС** — вёска ў Лагойскім с/с, за 2 км на ПдУ ад Лагойска, 41 км ад Мінска, 25 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 37 гаспадарак, 100 жыхароў (2010).

У 1885 г. ўрочышча пры возеры Круглае ў Лагойскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. ўрочышча, 4 двары, 68 жыхароў. У 1909 г. застава Чорны Лес, 5 двароў, 29 жыхароў. У 1917 г. хутар, 3 двары, 23 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 18 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1969 г. 32 двары, 120 жыхароў. У 2003 г. 34 гаспадаркі, 84 жыхары.

**ЧУДЗЕНІЧЫ** — вёска ў Астрошыцкім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Лагойска, 22 км ад Мінска, 35 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 160 гаспадарак, 440 жыхароў (2010).

У 1582 г. сяло ў складзе маёнтка Астрошыцы, уласнасць пана Ф.Скуміна ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. З 1590 г. ўласнасць К.Радзівіла. У 18 ст. вёска, цэнтр аднайменнага фальварка ў складзе маёнтка Гарадок. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 11 двароў, 76 жыхароў, уладанне графа Ю.Тышкевіча. У 1844 г. ў фальварак уваходзілі 3 вёскі. У 1846 г. ў вёсцы 6 двароў, 46 жыхароў, мелася карчма. У 1870 г. 18 рэвізскіх душ мужчынскага полу, належала графу М.Тышкевічу, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1886 г. былое прыватнае ўладанне пры р. Дубраўка, 5 двароў, 48 жыхароў, праваслаўная царква на могілках. У 1897 г. ў вёсцы 11 двароў, 76 жыхароў, у аднайменным маёнтку 10 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Баярскай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 5 гаспадарак, што мелі 100 дзес. зямлі. У 1909 г. 13 двароў, 87 жыхароў. У 1917 г. 20 двароў, 109 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Астрошыцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7. 1930 г.), з 18.1.1931 г. Лагойскага р-на. У 1926 г. ў вёсцы 27 двароў, 109 жыхароў, у аднайменным пасёлку 20 двароў, 115 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Полымя». З 20.2.1938 г. ў Мінскай

вобл. У 1940 г. 60 двароў, 225 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску, загубілі 51 жыхара, 4 вывезлі ў Германію. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны адбудавана. У 1969 г. 67 двароў, 227 жыхароў. У 2003 г. 154 гаспадаркі, 453 жыхары. У вёсцы размешчаны цэнтр СК «Трайпл-Агра», клуб, б-ка, пач. школа—дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, магазін.

**ЧЫРВОНАЯ ЗАРА** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Лагойска, 75 км ад Мінска. 20 гаспадарак, 41 жыхар (2010).

Пасёлак узнік у 1920 г. ў выніку перасялення жыхароў з суседніх вёсак на былыя памешчыцкія землі. З 20.8.1924 г. ў Акалоўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў пасёлку 14 двароў, 66 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 13 двароў, 78 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 4 двары, 8 жыхароў вывезлі ў Германію. 4 вяскоўцы загінулі на фронце, 7 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 31 двор, 95 жыхароў.

**ЧЫРВОНЫ БОР** — вёска ў Гайненскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Лагойска, 58 км ад Мінска, 49 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2010).

У 17 ст. вёска ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ, належала віленскаму капітулу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ўласнасць мінскага генерал-губернатара І.М.Няплюева ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. Маёнтак Чырвоны Бор разам з маёнткамі Ганявічы і Эйнаравічы ўваходзілі ў Чырванаборскую эканомію Няплюева, якая пазней была прададзена памешчыкам Чудоўскім. У 1833 г. маёнтак, уласнасць К.Чудоўскага, 4 фальваркі, 18 вёсак, 2214 сял. душ, 5 вадзяных млыноў, паравы бровар, 16 карчмаў. У 1870 г. маёнтак пры возеры Копны, уладанне А.Чудоўскага ў Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 2 двары, 12 жыхароў. У 1917 г. 1 двор, 28 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. ў вёсцы адкрыта пач. школа, якая размяшчалася ў нацыяналізаваным будынку, да 1923 г. належала святару. У школе вучыліся дзеці з 5 навакольных вёсак, навучанне вялося на бел. мове. З 20.8. 1924 г. ў Кузевіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1930 г. створаны калгас «Чырвоны камунар». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 31 двор, 159 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску, загубілі 60 жыхароў, 4 вывезлі ў Германію. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны адбудавана. У 1969 г. 28 двароў, 68 жыхароў. У 2003 г. 7 гаспадарак, 9 жыхароў.

**ЧЫСТЫ БОР** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 40 км на ПнЗ ад Лагойска, 79 км ад Мінска, 67 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на р. Вейна (прыток р. Дзвінаса). 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

У 1799 засценак,1 двор, 11 жыхароў. У 1-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Акалова, уласнасць памешчыка І.Валовіча. Паводле рэвізіі 1816 г. 12 душ мужчынскага полу, у 1833 г. 4 двары. У 1870 г. 28 рэвізскіх сял. душ мужчынскага полу, у Прусавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. вёска і фальварак. У 1905 г. вёска адносілася да Хацімскай сельскай гра-

мады, уладальнікам належалі 101,95 дзес. зямлі. У 1909 г. 14 двароў, 82 жыхары. У 1917 г. 16 двароў, 83 жыхары, у фальварку 1 двор, 5 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Акалоўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 20 двароў, 75 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоны Бор». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 23 двары, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 3 жыхароў, 2 вывезлі ў Германію. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 22 двары, 79 жыхароў.

**ЧЭМКІ** — вёска ў Швабскім с/с, за 35 км на У ад Лагойска, 74 км ад Мінска, км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша, на р. Цна (прыток р. Гайна). 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2010).

У 1799 г. засценак, 1 двор, 7 жыхароў, на р. Цна, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1909 г. 8 двароў, 65 жыхароў. У 1917 г. в. Чэмкі (яна ж Сутокі), 11 двароў, 62 жыхары, у Юр'еўскай вол. Барысаўскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Швабаўскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 22.9.1927 г. Лагойскага р-на. У 1931 г. ў вёсцы створаны калгас «Пралетарская перамога». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 19 двароў, 73 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. спалілі 5 двароў, загубілі 16 жыхароў, 8 вывезлі ў Германію. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1969 г. 19 двароў, 61 жыхар. У 2003 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў.

**ЧЭРАПОЎШЧЫНА** — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 53 км на ПнЗ ад Лагойска, 92 км ад Мінска. 29 гаспадарак, 49 жыхароў (2010).

Упершыню згадваецца ў 1605 г. ў ВКЛ. У 1646 г. 18 двароў, уладанне Я.Галецкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У пач. 19 ст. ўласнасць памешчыка Валовіча ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1830 г. ў складзе фальварка Генрыхполле маёнтка Акалова, уласнасць Валовічаў, у 1846 г. 2 двары. У 1870 г. 30 сял. душ. У 1897 г. 39 двароў, 259 жыхароў, у Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Ізбішчанскай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 16 гаспадарак, што валодалі 391,5 дзес. зямлі. У 1909 г. 11 двароў, 103 жыхары. У 1917 г. 15 двароў, 116 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Горнаўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 44 двары, 222 жыхары. У 1930 г. створаны калгас «Свабода». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 56 двароў, 280 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 жыхароў, 14 вывезлі ў Германію. 13 вяскоўцаў загінула на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. ў Задор'еўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 52 двары, 200 жыхароў. У 2003 г. 33 гаспадаркі, 64 жыхары.

**ШАМАЎКА** — вёска ў Задор'еўскім с/с, за 56 км на ПнЗ ад Лагойска, 95 км ад Мінска, 34 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Полацк—Маладзечна, на р. Лотва (прыток р. Вілія). 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

У 1800 г. засценак, 3 двары, 18 жыхароў, уладанне М.Валовіча. У 19 ст. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка, у які ўваходзілі вёскі Горна і Шамаўка, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1833 г. 41 душа мужчынскага полу, уласнасць памешчыка С.Післяка, яму належалі 436 дзес. зямлі, меўся хлебазапасны магазін. Паводле інвентару 1847 г. 5 двароў, 41 жыхар, належала памешчыцам Карчэўскай і Завадскай, у маёнтку меліся кузня, млын. У 1870 г. 26 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. 16 двароў, 111 жыхароў, у Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Горнаўскай сельскай грамады, у якую ўваходзілі 9 гаспадарак в. Шамаўка, што мелі 120,5 дзес. зямлі. У 1909 г. ў вёсцы 22 двары, 160 жыхароў, у фальварку 2 двары, 22 жыхары. У 1917 г. 25 двароў, 155 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Горнаўскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 28 двароў, 188 жыхароў, побач размяшчаўся аднайменны хутар, 1 двор, 6 жыхароў. У 1931 створаны калгас «Ударнік». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 37 двароў, 153 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 35 двароў, 135 жыхароў. У 2003 г. 13 гаспадарак, 17 жыхароў.

**ШВАБЫ** — вёска, цэнтр Швабскага с/с, за 28 км на ПнУ ад Лагойска, 77 км ад Мінска, 40 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 135 гаспадарак, 331 ж. (2010).

У 19 ст. маёнтак, уласнасць кн. Пузынаў у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. ў вёсцы 43 сял. душы мужчынскага полу, належала кн. І.Пузыну. У 1886 г. сяло на р. Цна, 16 двароў, 152 жыхары, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., размяшчаліся праваслаўная царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. У 1897 г. 35 двароў, 252 жыхары, цэнтр Швабаўскай сельскай грамады, якая ў 1905 г. ахоплівала 19 вёсак, 1825,9 га зямлі. У 1917 г. в. Швабаўка (яна ж Гаць), 27 двароў, 207 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Швабаўскага с/с Зембінскага, з 22.9.1927 г. Лагойскага р-наў Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1930-х г. створаны калгас «Чырвоная Швабаўка». У 1933 г. калгасу належалі 244 га зямлі, працавалі 3 паляводчыя брыгады, сезонныя дзіцячыя яслі на 75 месцаў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 68 двароў, 290 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. спалілі вёску. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінула 25 сав. воінаў. У 1968 г. на брацкай магіле сав. воінаў устаноўлены помнік. Пасля вайны в. Чырвоная Швабаўка адбудавана. У 1969 г. 68 двароў, 225 жыхароў. У 2003 г. 158 гаспадарак, 368 жыхароў. Размешчаны цэнтр філіяла «Імпульс-Агра» ЗАТ «Ахека», Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, амбулаторыя, лясніцтва, аддз. сувязі, магазін. З 22.1.2008 г. вёска перайменавана ў Швабы.

**ШТАНЮКІ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Лагойска, 76 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 2-й пал. 19 ст. вёска, казённая уласнасць. У1897 г. 11 двароў, 72 жыхары, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага

павета Мінскай губ. У 1905 г. 5 гаспадарак, якія валодалі 193 дзес. зямлі, уваходзілі ў Зарэчанскую сельскую грамаду. У 1909 г. 15 двароў, 93 жыхары. У 1917 г. 20 двароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Зарэчанскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 21 двор, 94 жыхары. У вёсцы створаны калгас «Чырвоны маяк». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 19 двароў, 81 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 жыхароў. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 25 двароў, 85 жыхароў.

**ЮЛЬЯНОВА** — вёска ў Плешчаніцкім с/с, за 33 км на Пн ад Лагойска, 72 км ад Мінска, 77 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 20 гаспадарак, 36 жыхароў (2010).

У 1-й пал. 19 ст. цэнтр фальварка, уласнасць памешчыка В.Завадскага ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1822 г. фальварку, які складаўся з вёсак Юльянова і Ліпск, належала 500 дзес. зямлі, мелася 2 карчмы. У 1833 г. 44 рэвізскія сял. душы (22 мужчыны, 22 жанчыны). Паводле інвентару 1844 г. ў вёсцы 5 двароў, 37 жыхароў, фальварак належаў нашчадкам В.Завадскага і яго жонцы Тэклі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Плешчаніцкіх с/с і р-не Барысаўскай, з 9.6.1927 Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 28 двароў, 133 жыхары. У 1930 г. створаны калгас імя Ільіча. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 40 двароў, 183 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 6 жыхароў, 16 вывезлі ў Германію. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 51 двор, 141 жыхар. У 2003 г. 26 гаспадарак, 61 жыхар.

**ЮРКАВІЧЫ** — вёска ў Швабскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Лагойска, 59 км ад Мінска, 48 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша. 27 гаспадарак, 59 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 20 двароў, 108 жыхароў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1816 г. 106 мужчынскіх душ, у складзе маёнтка Ганявічы, уласнасць стацкага саветніка І.Няплюева. У 1846 г. ў складзе маёнтка Ганявічы, 28 двароў, 237 жыхароў, уласнасць памешчыка К.Чудоўскага. У 1863 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1870 г. 117 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у Юр'еўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., уласнасць А.Чудоўскага. У1886 г. сяло, цэнтр воласці, 31 двор, 366 жыхароў, валасное праўленне, праваслаўная царква, царк.-прыходская школа, бальніца. У 1897 г. 64 двары, 426 жыхароў. У 1909 г. 87 двароў, 574 жыхары. У 1917 г. 89 двароў, 474 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў складзе Моладскага с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 29.10.1924 г. вёска, цэнтр Юркавіцкага с/с, з 11.6.1932 г. перайменаваны ў нацыянальны польскі, з 26.5.1935 г. зноў рэарганізаваны ў бел. сельсавет. У 1930 г. створаны калгас «Свабода». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 91 двор, 280 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 35 жыхароў, 6 вывезлі ў Германію. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце і 1 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 14 сав. во-

інаў. З 25.7.1959 г. ў Чырванашвабаўскім с/с. У 1969 г. 71 двор, 228 жыхароў. У 2003 г. 37 гаспадарак, 71 жыхар. З 22.1.2008 г. ў Швабскім с/с.

**ЮРЫЛАВА** – вёска ў Задор'еўскім с/с, за 63 км на ПнЗ ад Лагойска, 102 км ад Мінска, 28 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Полацк–Маладзечна, на р. Лотва (прыток р. Вілія). 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 10 двароў, 72 жыхары, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. 49 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. 32 двары, 194 жыхары, у Мільчанскай вол. Барысаўскага павета. У пач. 20 ст. вёска адносілася да Ізбішчанскай сельскай грамады, у якую ў 1905 г. ўваходзілі 11 гаспадарак, што валодалі 336,6 дзес. зямлі. У 1909 г. 28 двароў, 155 жыхароў. У 1917 г. 28 двароў, 179 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Ізбішчанскім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 30 двароў, 163 жыхары. У 1931 г. створаны калгас «Чырвоны пагранічнік». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 44 двары, 174 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 вяскоўцы. З 25.12. 1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 41 двор, 164 жыхары. У 2003 г. 17 гаспадарак, 23 жыхары.

**ЯКУБАВІЧЫ БАРАВЫЯ** – вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Лагойска, 60 км ад Мінска, 61 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 8 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах вядома з 1508 г., калі вял. кн. ВКЛ Жыгімонт I сваёй граматай зацвердзіў права на зямлю Якубаўшчызну гараднічаму Мінскага ваяв. П.Аношку на вечныя часы ў Гайненскай вол. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1811 г. маёнтак Якубавічы, 18 душ мужчынскага полу, падараваны стацкаму саветніку Ярцаву. У 1870 г. вёска, 38 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. 35 двароў, 215 жыхароў, у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 39 двароў, 233 жыхары. У 1917 г. 42 двары, 283 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Янушкавіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У вёсцы размяшчалася кравецкая майстэрня. У 1941 г. 21 двор, 126 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 25 жыхароў, 44 вывезлі ў Германію. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 – у партыз. барацьбе. У 1969 г. 23 двары, 61 жыхар. У 2003 г. 10 гаспадарак, 12 жыхароў.

**ЯКУБАВІЧЫ ГАРАВЫЯ** – вёска ў Янушкавіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Лагойска, 69 км ад Мінска, 61 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша. 9 гаспадарак, 20 жыхароў (2010).

У пачатку 20 ст. вёска ў Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 29 двароў, 218 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Янушкавіцкім с/с Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7. 1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 22 двары, 111 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі 4 жыхароў у Германію. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 – у партыз. барацьбе. У 1969 г. 29 двароў, 90 жыхароў. У 2003 г. 13 гаспадарак, 20 жыхароў.

**ЯНУШКАВІЧЫ** – вёска, цэнтр сельсавета, за 18 км на ПнЗ ад Лагойска, 58 км ад горада і чыг. ст. Мінск, на р. Сліжанка (прыток р. Ілія). 166 гаспадарак, 455 жыхароў (2010).

Згадваюцца ў пач. 16 ст. ў Мінскім ваяв ВКЛ. У 1508 г. згодна з пацвярджальнай граматай вял. кн. ВКЛ Жыгімонта І гараднічы Мінскага ваяв. П.Аношка атрымаў на вечныя часы пустую зямлю, якая мела назву Янушкавічы, у Гайненскай вол. У 1-й пал. 18 ст. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка, уласнасць ксяндзоў-езуітаў у Мінскім ваяв. У 1733 г. пабудавана драўляная праваслаўная царква. У 1742 г. 15 двароў, з якіх 4 пустыя, уладанне каталіцкай царквы. У канцы 18 ст. вёска і маёнтак, уласнасць памешчыкаў Есьманаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 13 двароў, 104 жыхары, уласнасць Есьмана. У 1-й пал. 19 ст. маёнтак складаўся з фальварка Янушкавічы і засценка Альховец. У 1816 г. 37 душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыка М.Есьмана. У 1833 г. 12 двароў, 129 жыхароў. У 1839 г. пабудавана праваслаўная царква Раства Багародзіцы. У 1846 г. паводле інвентару ў маёнтку 15 двароў, 162 сял. душы (80 мужчын, 82 жанчыны), 830 дзес. зямлі, вадзяны млын, 2 карчмы, паравы бровар. У 1870 г. сяло, 55 душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыцы А.Я.Есьман у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Памешчыцы належалі 505 дзес. зямлі, вадзяны млын, карчма. У 1870 г. ў Янушкавіцкі прыход уваходзілі 13 вёсак, 1560 прыхаджан. У маёнтку працаваў бровар, які здаваўся ў арэнду (у 1879 г. працавалі 4 рабочыя). Пры царкве было царк.-прыходскае папячыцельства, часам працавала царк.-прыходская школа. У 1886 г. сяло, 15 двароў, 166 жыхароў, вадзяны млын, бровар, праваслаўная царква, дробная крама, карчма, царк.-прыходская школа. У 1897 г. сяло (11 двароў, 62 жыхары, царква, царк.-прыходская школа, крама, піцейны дом), вёска (21 двор, 153 жыхары) і маёнтак (10 жыхароў) у Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. адкрыта нар. вучылішча, для якога ў 1900 г. пабудаваны ўласны будынак. У пач. 20 ст. сяло, цэнтр сельскай грамады, у якую ўваходзілі 12 вёсак. У 1909 г. ў сяле 28 двароў, 233 жыхары, у маёнтку 2 двары, 5 жыхароў. У 1917 г. 36 двароў, 199 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 43 жыхары. На базе нар. вучылішча створана пач. школа, якую наведвалі дзеці з вёсак Сліжына, Жылічы, Якубавічы Баравыя, Якубавічы Гаравыя. З 20.8.1924 г. вёска, цэнтр Янушкавіцкага сельсавета Лагойскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Быў створа-

*Краявід каля в. Янушкавічы.*



ны калгас «Будзёнавец», працаваў гонта-шпалерны з-д, меліся вадзяны млын, кузня. У 1941 г. 45 двароў, 225 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 3 двары, загубілі 4 жыхароў, 4 — вывезлі ў Германію. 22 вяскоўцы загінулі на фронце, 4 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінулі 4 сав. воіны і 8 партызан. У 1969 г. 138 двароў, 463 жыхары. У 2003 г. 190 гаспадарак, 528 жыхароў. Размешчаны ТАА «СНБ-АГРА», Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, бальніца, аддз. сувязі, камбінат бытавога абслугоўвання, магазін. Тут знаходзяцца: брацкія магілы сав. воінаў і партызан; помнік 459 землякам, якія загінулі на тэр. Янушковіцкага с/с у Вял. Айч. вайну; помнік у гонар Лагойскага падп. райкама КП(б)Б і Лагойскай партыз. брыгады «Бальшавік».

**ЯЧНАЕ** — вёска ў Акалоўскім с/с, за 43 км на ПнЗ ад Лагойска, 82 км ад Мінска, 67 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 1-й пал. 18 ст. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1750 г. 2 двары, уласнасць А.Янкоўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1816 г. 10 душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыка І.Валовіча. У 1846 г. 4 двары, у складзе маёнтка Пятроліна, уласнасць графіні Р.Тышкевіч. У 1870 г. 15 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. вёска (18 двароў, 113 жыхароў) і засценак (1 двор, 6 жыхароў) у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 10 двароў, 80 жыхароў. У 1917 г. 22 двары, 137 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Плешчаніцкім с/с Плешчаніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 24 двары, 125 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 20 двароў, 117 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары, 6 жыхароў вывезлі ў Германію. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім р-не. У 1969 г. 21 двор, 60 жыхароў.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 333, воп. 4, спр. 676; воп. 2, спр. 2139; ф. 694, воп. 4, спр. 5804; ф. 845, воп. 1, спр. 69; ф. 937, воп. 3, спр. 5; ф. 1029, воп. 1, спр. 13; ф. 1727, воп. 1, спр. 21, 7, 9, 10, 11, 13, 17, 23; ф. 1769, воп.1, спр. 13, 16, 17; ф. 1816, воп. 1, спр. 12.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 151, 484, 485, 536, 853, 855, 861, 864, 1037, 1444, 1446; ф. 1350, воп. 312, спр. 99. Городские поселения Российской империи. Т. 3. Санкт-Петербург, 1863.

Историко-статистическое описание девяти уездов Минской губернии. Минск, 1870.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Санкт-Петербург, 1886.

Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. М., 1893.

Документы Московского архива. Т. 1. М., 1897.

Список волостей, обществ и селений Минской губернии. Минск, 1909.

Список населенных мест БССР. Минск, 1924.

Список населенных мест Минской губернии. Минск, 1924.

Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Мінск, 1935.

Документы и материалы по истории Белоруссии (1795–1917). Т. 3. Минск, 1953.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. Минск, 1960.
Полное собрание русских летописей. Т. 2. М.; Ленинград, 1961.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861 гг). Минск, 1966.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941–1944. Минск, 1984.
Административно-территориальное устройство БССР. Минск, 1985.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, Мінская вобласць. Мінск, 1987.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV–XVI вв.). Минск, 1993 (карта).
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. Мінск, 1997.
Кулагін А.М. Праваслаўныя храмы на Беларусі. Мінск, 2001.
Памяць: Лагойскі раён. Кн. 1. Мінск, 2003.
Памяць: Лагойскі раён. Кн. 2. Мінск, 2004.
Республика Беларусь: энциклопедія. Т. 4. Минск, 2007.
Минская область: энциклопедия. Т. 2. Минск, 2007.



Рака Арэса ў Любанскім раёне.

# ЛЮБАНСКІ РАЁН

Размешчаны на ПдУ Мінскай вобл. (у сучасных межах з 1963 г.). Пл. 1,9 тыс. км². Насельніцтва 20,8 тыс. жыхароў (2011). Цэнтр — г. Любань. Паўн. частка раёна месціцца на Цэнтральнабярэзінскай раўніне, паўд. — у межах Прыпяцкага Палесся. Найбольшая рака — Арэса з прытокам Таліца; азёры Вячэра, Баяніцкае; Слаўкавіцка-Ямінскі, Чабускі, Цахмінскі і інш. меліярацыйныя каналы. У межах раёна часткова размешчана Любанскае вадасховішча. Пад лесам 33% тэр. (хваёвыя, бярозавыя, чорнаальховыя і інш. лясы), пад балотамі — 0,7%. У раёне размешчаны гідралагічныя заказнікі Астраўскі, Вежань, Загальскі масіў, Пасецкі Бор. Помнікі прыроды: камень-пескавік каля в. Ператок, група з 6 дубоў у Ямінскім лясніцтве, дубы каля в. Камуна і аграгарадка Сосны, 2 крыніцы ў г.п. Урэчча. Праходзяць чыг. і аўтадарога Асіповічы—Баранавічы.

Раён утвораны 17.7.1924 г. ў складзе Слуцкай акругі. 20.8.1924 г. быў падзелены на 9 сельсаветаў: Асавецкі, Любанскі, Нежынскі, Рачэнскі, Рэдкавіцкі, Тальскі, Турокскі, Юшкавіцкі, Ямінскі. 21.8.1925 г. да раёна далучаны Малагарадзяціцкі с/с Петрыкаўскага р-на. З 9.6.1927 г. раён у Бабруйскай акрузе (да 26.7.1930 г.), з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай. 5.4.1936 г. далучаны Загальскі с/с Глускага р-наў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Першапачаткова насельніцтва раёна складала 37,7 тыс., г. Любань — 2,6 тыс. чал. Дзейнічалі 35 прадпрыемстваў, у т.л. рэсп. і саюзнага значэння — 4, 2 цагляныя, 2 смалакурныя, крухмальны з-ды, прамкамбінат. Працавалі





Прыродны пейзаж Любаншчыны.

33 пач. школы, рабфак, 2 бальніцы, 6 амбулаторый, 5 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 5 клубаў, 11 хат-чытальняў. У 1939 г. выдавалася газ. «Калгаснік Любаншчыны». На 1.1.1941 г. раён уключаў г.п. Любань і 11 сельсаветаў.



Уборка збожжа ў Любанскім раёне.





*Прырода Любанскага раёна.*

*Паляўнiча-рыбалоўная база «Бабровая хатка» ў Любанскім раёне.*

У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. — пач. ліп. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў раёне каля 5,5 тыс. чал., у т.л. ў канцлагеры — 1,4 тыс. На прымусовыя работы ў Германію былі вывезены 3912 маладых людзей. Раён размяшчаўся спачатку ў Любанскай, потым у Любанска-Акцябрскай партыз. зоне. Барацьбу з ворагам вялі партыз. брыгады 25-я імя Панамарэнкі, 32-я імя Пархоменкі, 64-я імя Чкалава, 121-я імя Брагіна, 258-я імя Куйбышава. У раёне дзейнічалі Любанскія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, дыслацыраваліся Мінскія падп. абком КП(б)Б і ЛКСМБ, штаб Мінскага партыз. злучэння; дзейнічаў аэрадром. Выдаваліся газ. «Звязда», «Чырвоная Змена», «Кліч Радзімы». Раён вызвалены 30.6.1944 г. ў ходзе Мінскай аперацыі 1944 г.

З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. ў Мінскай абласцях. 25.12.1962 г. да раёна далучаны г.п. Урэчча і Дарасінскі с/с Слуцкага р-на. 14.1.1963 г. Хорастаўскі с/с перададзены Лунінецкаму р-ну Брэсцкай вобл.

На 1.1.2011 г. ў Любанскім р-не 125 сельскіх населеных пунктаў, у т.л. г.п. Урэчча. Падзяляецца на 10 сельсаветаў: Асавецкі, Камунараўскі, Ляхаўскі, Малагарадзяціцкі, Рачэнскі, Сароцкі, Соснаўскі, Тальскі, Урэцкі, Юшкавіцкі. Мяжуе на ПнЗ са Слуцкім, на ПнУ са Старадарожскім, на У з Глускім, на ПдУ з Акцябрскім і Петрыкаўскім, на Пд з Жыткавіцкім, на ПдЗ з Салігорскім р-намі.





*Ручнік з птушынымі матывамі.*

*М.Брагінец. Ручнік.*

Асн. галіны с.-г. вытв-сці: мясамалочная, жывёла- і свінагадоўля, ільна- і буракаводства, пасевы бульбы, збожжавых і кармавых культур. Прадпрыемствы будаўнічых матэрыялаў і па вырабе дробных сценавых блокаў, харчовай, крухмала-патачнай, пач. апрацоўкі лёну, швейнай і лясной прам-сці; рыбгас «Любань». У раёне 12 с.-г. вытв. кааператываў (СВК), 2 с.г. філіялы «Калінаўка» і «Гарадзяцічы» ААТ «Любанскі райаграсэрвіс», КСУП «Эксперыментальная база «Любанская», будаўнічае ўпраўленне «Загальскі» ААТ «МАПІД». У раёне гімназія, 14 сярэдніх, 1 базавая, 1 вячэрняя школы, 13 вучэбна-пед. комплексаў: дзіцячы сад—сярэдняя школа (10), дзіцячы сад—базавая школа (2), дзіцячы сад—пач. школа (1), 15 устаноў дашкольнага выхавання, муз., 3 спарт. школы, 3 спарт. секцыі, раённая бальніца, 20 дамоў культуры, 31 б-ка, у т.л. 6 бібліятэк-клубаў, 4 сельскія клубы, дзіцячы сац. прытулак. Выдаецца газ. «Голас Любаншчыны» і выходзіць у эфір прагама радыёвяшчання «На хвалях Арэсы». Ёсць 10 амбулаторый, 14 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 6 аптэк, 4 сталовыя, звыш 50 магазінаў. Санаторый «Рассвет», гасцініца «Арэса». У раёне брацкія магілы сав. воінаў; магілы ахвяр фашызму ў вёсках Азярное, Жывунь, Кузьмічы; помнікі партызанам у вёсках Азярное, Асавец, Пярэспа, Старасек. Мемарыяльны комплекс Зыслаў. Археал. помнікі ў вёсках Азярное і Старыя Юрковічы.

У раёне ёсць карысныя выкапні: торф, сапрапель, мел, калійныя і каменная солі, гаручыя сланцы, пясчанажвіровы матэрыял, будаўнічыя пяскі, гліны для цэглы; крыніца мінеральнай вады. Глебы тарфяна-балотныя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, дзярновыя забалочаныя.

У раёне нарадзіліся польскі і бел. паэт У.Сыракомля (в. Смольгава), бел. этнограф, пісьменнік, публіцыст П.М.



*Вуліца Першамайская ў цэнтры г. Любань.*

Шпілеўскі (в. Шыпілавічы), бел. вучоныя А.П.Дастанка (в. Вобчын), Л.В.Кукраш (в. Рачэнь), П.І.Нікончык (в. Слабада) і інш.

**ЛЮБАНЬ** — горад, цэнтр Любанскага р-на, на правым беразе р. Арэса. За 152 км на Пд ад Мінска, 35 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы. Аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Глускам, Жыткавічамі, Чырвонай Слабадой, Салігорскам, Слуцкам. 11,3 тыс. чал. (2011).



*Сучасны герб г. Любань.*

Упершыню згадваецца ў 16 ст. як прыватнаўласніцкае мястэчка кн. Алелькавічаў. Паводле інвентару Слуцкага княства за 1566 г., мястэчка ўваходзіла ў склад Ярэміцкай вол. (маёнтка); 35 дымоў, каля 230 жыхароў. У 1582 г. пасля

*Знак пры ўездзе ў г. Любань.*



Алея Славы ў г. Любань.

Помнік К.І.Шаплыку ў алеі Славы ў г. Любань.





падзелу Слуцкага княства паміж трыма братамі Алелькавічамі двор Ярэмічы з мястэчкам дасталіся малодшаму брату, кн. Аляксандру Юр'евічу. З 1589 г. ў часовым трыманні (заставе) слуцкіх купцоў Тышэвічаў за пазыку імі 4100 коп грошай літоўскіх (315 кг серабра). У 1621 г. кн. Крыштаф Радзівіл выкупіў мястэчка і разам з княствам яно перайшло ў спадчыну Радзівілаў. У 1647 г. ў мястэчку быў 161 дым. У 1651 г. тут налічваліся 33 чыншавыя валокі ворыва, 116 чыншавых палявых моргаў, 464 маргі сенажацяў. 28.11.1661 г. прывілеем кн. Багуслава Радзівіла мястэчку нададзена магдэбургскае права. Падчас вайны 1654—67 гг. мястэчка значна пацярпела. Да 1667 г. тут засталося 75 дымоў; дзейнічала праваслаўная царква. У 18 ст. Любань — невял. мястэчка ў Ярэміцкай вол. Слуцкага княства Радзівілаў, потым у Слуцкай парафіі Случарэцкага павета Навагрудскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Дамініка Радзівіла.

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, з 1795 г. ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ.; 286 душ, праваслаўная царква, карчма, 2 млыны. У час паўстання 1794 г. каля Любані 4 вер. адбыўся бой паміж атрадам паўстанцаў на чале з С.Грабоўскім і рус. войскамі пад камандаваннем ген. П.Дз.Цыцыянава. Атрад быў разгромлены, у палон трапілі 250 чал., было захоплена 5 гармат. У 1-й пал. 19 ст. Любань — прыватнаўласніцкае мястэчка Д.Радзівіла, потым яго зяця кн. Л.П.Вітгенштэйна ў складзе буйнога маёнтка (воласці) Ярэмічы. У 1808 г. быў пацверджаны статус мястэчка ў Рас. імперыі, 76 дымоў, 499 душ. У 1834 г. тут было 197 рэвізскіх душ. У

Кампазіцыя ў алеі Славы ў г. Любань.

Народны ансамбль народнай песні «Ярыца» раённага Цэнтра культуры і адпачынку ў час свята-кірмашу «Дажынкі» ў г. Любань.









*Будынак Любанскага раённага Дома культуры.*

*Будынак Любанскай дзіцячай школы мастацтваў.*

1839 г. адкрыта царк.-прыходская школа, у якой навучаліся 10 хлопчыкаў, 2 дзяўчынкі. У 1846 г. 90 двароў, карчма, вадзяны млын. У 19 ст. большую колькасць мяшчан складалі яўрэі. У 1867 г. 133 двары, 628 жыхароў, дзейнічалі царква, яўр. школа і 2 яўр. малітоўныя дамы, Спаса-Праабражэнская царква. У 1884 г. працавалі 2 млыны, крама, капліца, прыстань, адкрыта школа граматы для хлопчыкаў (у 1891 г. 18 вучняў). Паводле перапісу 1897 г., у мястэчку 128 двароў, 151 жылы дом, 941 жыхар, крупадзёрка, царк.-прыходскае вучылішча, заезны дом, 6 крам, царква, сінагога, 2 яўр. малітоўныя школы. У 1899 г. на адным з млыноў устаноўлена паравая машына. Побач з мястэчкам было аднайменнае сяло, 108 двароў, 815 жыхароў; хлебазапасны магазін, піцейны дом. У пач. 20 ст. Любань — цэнтр Забалоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1908 г. тут 339 двароў, 2048 жыхароў, паштова-тэлегр. аддз. Напярэдадні 1-й сусветнай вайны адкрыта 2-класнае нар. вучылішча з рамесным аддз. З 1917 г. мястэчка ў Забалоцкай вол. Слуцкага павета. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — польскімі войскамі. Вызвалена ў ліп. 1920 г. часцямі 2-й дывізіі Зах. фронту.

З 31.7.1920 г. цэнтр Забалоцкай вол. Бабруйскага павета БССР. З 26.5.1922 г. ў Слуцкім павеце. У 1923 г. ў мястэчку 863 беларусы, 817 яўрэяў. З 17.7.1924 г. Любань — цэнтр р-на Слуцкай акругі; з 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета, 351 двор, 1956 жыхароў. Працавалі с.-г. і спажывецкае т-вы, рыбарцель, шавецкая і кравецкая майстэрні, хлебапякарня, райпрамкамбінат. З 24.9.1926 г. цэнтр Слабадскога с/с (да 1939 г.). З 9.6.1927 г. да



*Узорны фальклорны ансамбль «Верабейкі» раённага Цэнтра культуры і адпачынку на раённым свяце традыцыйнай народнай харэаграфіі «Танцы пад гармонік» у г. Любань.*

Святкаванне Дня Незалежнасці ў г. Любань.





26.7.1930 г. цэнтр р-на Бабруйскай, з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г. Слуцкай акруг. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл.; з 27.9.1938 г. гар. пасёлак. У 1939 г. было 3048 жыхароў. Дзейнічалі калгас «Ударнік» (засн. ў 1931 г.), які аб'ядноўваў 594 гаспадаркі, МТС (засн. ў 1933 г.), пяньковы (у 1940 г. 91 рабочы) і крухмальны з-ды, 7-гадовая і школа 1-й ступені, Дом культуры з кінаўстаноўкай і аркестрам, раённыя амбулаторыя, бальніца і краязнаўчае т-ва, паштова-тэлегр. аддз., лазня, некалькі магазінаў. Выдавалася газ. «Калгаснік Любаншчыны». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. Любань акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія стварылі тут паліцэйскі гарнізон. Абарончыя баі супраць 43-га армейскага корпуса фашыстаў вялі часці 4-й арміі Зах. фронту і асобнай кавалерыйскай групы ген. А.І.Гарадавікова. У ноч на 7.11.1941 г. партызаны атрадаў А.І.Далідовіча, М.М.Розава, А.І.Патрына, А.Мілевіча, Г.Н.Сталярова разграмілі варожы гарнізон, знішчылі 37 фашыстаў і паліцаяў. За час акупацыі захопнікі загубілі 1610 мірных грамадзян, у ліст. 1941 г. — 785 яўрэяў. Любань вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 48-й гв. стралк. дывізіі 28-й арміі 1-га Бел. фронту пры ўзаемадзеянні з партызанамі 125-й Капаткевіцкай брыгады пад камандаваннем Н.Д.Куранава (камісар Ф.Д.Кудравец).

З 20.9.1944 г. цэнтр раёна Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Мінскай абласцей. У 1959 г. было 3,7 тыс. чал. З 7.3.1968 г. горад раённага падпарадкавання. У 1970 г. 6,7 тыс. чал. У 1980-я г. працавалі камбінат сілікатнай цэглы і вапны, крухмальны і маслазаводы, хлебазавод, швейная ф-ка, рыбакамбінат «Любань», іль-

Малыя архітэктурныя формы ў цэнтры г. Любань.





нозавод, камбінат быт. абслугоўвання, раённае аб'яднанне сельгастэхнікі, лясгас; прафес.-тэхн. вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, 3 сярэднія, муз. і дзіцяча-юнацкая спартшкола, 5 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 б-кі, музей нар. славы, бальніца і інш.

На 1.1.2011 г. ў Любані працуюць прадпрыемствы будаўнічых матэрыялаў, харчовай, дрэваапрацоўчай, лёгкай галін прам-сці, гандлёвыя, рамонтныя арг-цыі. Лясгас. Дзейнічаюць прафес.-тэхн. вучылішча с.-г. вытв-сці, гімназія, 2 сярэднія і дзіцяча-юнацкія школы, дзіцячыя школы мастацтваў і нар. дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (адкрыта 1.1.2011 г.), 12 вучэбна-пед. комплексаў: дзіцячы сад—пач. школа (1), дзіцячы сад—сярэдняя школа (9), дзіцячы сад—базавая школа (2), міжшкольны вучэбна-вытв. камбінат прац. навучання і прафес. арыентацыі, Цэнтр дзіцячай творчасці, 6 дзіцячых дамоў сямейнага тыпу, раённы дзіцячы сац. прытулак, Цэнтр культуры і адпачынку, пры якім працуюць 5 узорных і 5 нар. калектываў, 3 фальклорныя гурты; цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі. Ёсць 2 раённыя і 3 гарпасялковыя б-кі, дзіцяча-юнацкая спарт. школа, стадыён; тэр. цэнтр сац. абслугоўвання насельніцтва. Функцыяніруюць камбінат быт. абслугоўвання, раённае ўпраўленне электрасувязі, 26 АТС, 27 паштовых аддз. Цэнтр каталіцкага прыхода рымска-каталіцкага касцёла Маці Божай Фацімскай. Працуе музей нар. славы.



Помнік Ф.Г.Конанавай у г. Любань.

У Любані нарадзіліся бел. заолаг, засл. дзеяч навукі Беларусі І.М.Сяржанін (1898—1973), бел. пісьменніца, празаік Н.В.Маеўская (1938—2011), бел. дырыжор, засл. дзеяч мастацтва Бела-



І.М.Сяржанін.



М.С.Калядка.



Фрагмент мемарыяльнага комплексу савецкім актывістам, воінам, партызанам і падпольшчыкам.



Добраўпарадкаванне г. Любань.



*У.Ц.Астрэйка.*



*А.П.Лучыновіч.*

русі М.С.Калядка (1952—2010), Герой Сац. Працы У.Ц.Астрэйка (н. ў 1930 г.).

**АБОЗ** — вёска ў Камунараўскім с/с. За 35 км на Пд ад г. Любань, 61 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы—Асіповічы, 194 км ад Мінска, на аўтадарозе Жыткавічы—Пухавічы. 19 гаспадарак, 25 жыхароў (2011).

У 1909 г. ўрочышча ў Дзякавіцкай вол. Мазырскага павета Мінскай губ., 3 двары, 28 жыхароў. У 1921 г. хутар у Забалоцкай вол. Бабруйскага, з 26.5.1922 г. Слуцкага паветаў. З 20.8.1924 г. ў Нежынскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутар Чарга, 9 двароў, 57 жыхароў, лесанарыхтоўчая арцель. Адсюль конным абозам лес дастаўлялі да в. Пасталы (цэнтр леспрамгаса). З 1934 г. пас. Абоз. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. вёска, 8 двароў, 43 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску. Пасля вайны адноўлена. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. ў Камунараўскім с/с. У 1960 г. 485 жыхароў, у саўгасе «Дзесяцігоддзе БССР». У 1997 г. 71 гаспадарка, 118 жыхароў. У 2009 г. 27 гаспадарак, 45 жыхароў, у складзе СВК «Палессе-агра». Радзіма бел. мастака, жывапісца А.П.Лучыновіча (н. ў 1948 г.), бел. воіна-інтэрнацыяналіста, удзельніка баявых дзеянняў у Афганістане М.М.Прышчыца (1967—87).

**АЗЛОМЛЬ** — вёска ў Асавецкім с/с. За 24 км на ПдУ ад г. Любань, 41 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы—Асіповічы, 171 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 45 жыхароў (2011).

Вядома з 16 ст. як в. Азломля ў Ярэміцкай вол. (маёнтку), у Слуцкім княстве, уласнасць Алелькавічаў. З 1589 да 1621 г. ў трыманні купцоў Тышэвічаў (за пазыку грошай), потым — Радзівілаў. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце Навагрудскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць Д.Радзівіла. У 1834 г. ў вёсцы 43 рэвізскія душы. У 1847 г. ў маёнтку Пасекі кн. Л.П.Вітгенштэйна 13 двароў, 76 рэвізскіх душ. З 1870 г. ў Асавецкай вол. Бабруйскага павета. Паводле перапісу 1897 г., 25 двароў, 169 жыхароў. У 1908 г. 32 двары, 202 жыхары. З 20.8.1924 г. ў

*А.Лучыновіч (у суаўтарстве). Рэльефы па баках уваходнай зоны ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі. Граніт. 2005 г.*



Ямінскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, 42 двары, 311 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоны Усход», дзейнічалі кузня, урачэбна-амбулаторны пункт. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пач. ліп. 1941 г. каля вёскі група патрыётаў на чале са старшынёй Турокскага с/с А.Д.Прушаком правяла бой з атрадам фашыстаў. Паранены А.Д.Прушак быў захоплены гітлераўцамі і закатаваны. З канца ліст. 1941 г. вёска ў Любанскай партыз. зоне. У студз. 1942 г. ў баі каля вёскі па-геройску загінуў арганізатар партыз. руху на Любаншчыне Я.Д.Гарбачоў. У крас. 1944 г. тут цяжкія баі з фашыстамі вяла партыз. брыгада 64-я імя Чкалава. Вызвалена вёска 29.6.1944 г. войскамі 48-й гв. стралк. дывізіі 28-й арміі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1962 г. 106 двароў, 369 жыхароў, у складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка». З 2006 г. ў Асавецкім с/с. У 2009 г. 27 гаспадарак, 56 жыхароў, у складзе СВК «Асавец-агра». Працуе Дом сац. паслуг. Магілы партызан І.Ф. Каржэнкі, А.І.Сушчэні. Мемарыяльная дошка на ўшанаванне арганізатараў антыфаш. падполля і партыз. руху І.Ц.Клімовіча, М.І.Бондарава. Радзіма бел. мастака, жывапісца У.А.Лагуна (1922—2004).

**АЗЯРНОЕ** — вёска ў Сароцкім с/с, каля воз. Вячэра. За 15 км на ПдУ ад г. Любань, 32 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 170 км ад Мінска. 31 гаспадарка, 69 жыхароў (2011).

Непадалёку ад вёскі знаходзяцца археал. помнікі — стаянкі эпохі неаліту і бронзы, што сведчыць аб засяленні тэр. ў далёкім мінулым. Верагодна, узнікла ў 1920-я г. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут праходзіла граніца партыз. зоны. Каля вёскі базіраваўся штаб 258-й партыз. брыгады імя Куйбышава, створанай у снеж. 1943 г. Вызвалена вёска 30.6.1944 г. У 1962 г. ў саўгасе «Чырвоная змена». З 2009 г. ў складзе СВК «Чырвоная змена імя К.І.Шаплыкі». Працуюць клуб, магазін. Абеліскі на брацкай магіле, партызану А.М.Труцікаву (да вайны ўзначальваў калгас «Азярное»), стэла ў гонар партыз. брыгады.

**АЛЬХОЎКА** — вёска ў Юшкавіцкім с/с. За 14 км на Пн ад г. Любань, 20 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы—Асіповічы, 168 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. як фальварак у маёнтку Ярэмічы Бабруйскага павета, уласнасць Радзівілаў, потым Вітгенштэйнаў. У 1888 г. хутар, уласнасць Марыі Львоўны Вітгенштэйн (па шлюбу Гогенлоэ). Паводле перапісу 1897 г., у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, фальварак, 20 жыхароў. У 1909 г. хутар, 5 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Юшкавіцкім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, пасёлак, 66 жыхароў. У 1933 г. жыхары пасёлкаў Альхоўка і Прудзішча аб'ядналіся ў калгасе імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 93 жыхары, у калгасе імя Кірава. У 1996 г. 11 гаспадарак, 18 жыхароў. У 2009 г. 7 гаспадарак, 8 жыхароў, у складзе СВК «Забалоцкі».

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — вёска ў Ляхаўскім с/с. За 12 км на Пд ад г. Любань, 29 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Барана-

*У.Лагун. Жыццё працягваецца. 1967 г.*



вічы—Асіповічы, 166 км ад Мінска. 30 гаспадарак, 65 жыхароў (2011).

У 1909 г. ў Забалоцкай воласці Бабруйскага павета, 9 двароў, 49 жыхароў. У 1917 г. ў Слуцкім павеце, засценак. З 20.8.1924 г. ў Турокскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутар, 14 двароў, 92 жыхары. У 1931 г. адкрыта школа 1-й ступені. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 158 жыхароў, у калгасе імя Я.Д.Гарбачова. З 16.8.1973 г. ў Ляхаўскім с/с. У 1996 г. 48 гаспадарак, 107 жыхароў. У 2009 г. 34 гаспадаркі, 68 жыхароў, у складзе СВК «Вобчын». Працуе магазін.



*М.З.Галай.*



*П.І.Галай.*

**АРЛЁВА** – вёска ў Сароцкім с/с. За 3 км на ПдУ ад г. Любань, 20 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы—Асіповічы, 154 км ад Мінска. 158 гаспадарак, 376 жыхароў (2011).

Вядома з 1795 г. як вёска ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 68 жыхароў, карчма, у маёнтку Ярэмічы, уласнасць Радзівілаў. У 1811 г. сяло, 21 двор, 64 жыхары мужчынскага полу, Слуцкі Троіцкі манастыр меў тут 8 жыхароў таго ж полу. З 1860 г. вёска ў складзе казённага маёнтка Шыпілавічы, адносілася да Чабускай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г., 30 двароў, 262 жыхары, у аднайменным урочышчы была смалакурня — 1 двор, 10 жыхароў. У 1909 г. 42 двары, 333 жыхары. Да 1921 г. побач узнік хутар, 2 двары, 10 жыхароў. З 26.5.1922 г. ў Слуцкім павеце. З 20.8.1924 г. ў Любанскіх с/с і раёне Слуцкай акругі, вёска, 71 двор, 437 жыхароў, смалакурная ф-ка «Гэя». У 1933 г. створаны калгас «Перамога». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 657 жыхароў, у калгасе «Чырвоная змена». У 1996 г. 194 гаспадаркі, 459 жыхароў. У 2009 г. 168 гаспадарак, 400 жыхароў, у складзе СВК «Чырвоная змена імя К.І.Шаплыкі». Працуюць б-ка, 2 магазіны. Радзіма Героя Сац. Працы П.І.Галай (1915—2005), ген.-маёра М.З.Галая (1901—79).

**АСАВЕЦ** – вёска, цэнтр Асавецкага с/с. За 17 км на ПнУ ад г. Любань, 42 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы—Асіповічы, 168 км ад Мінска, каля аўтадарогі Чырвоная Слабада—Бабруйск. 350 гаспадарак, 950 жыхароў (2011).

Назва вёскі паходзіць ад старабел. назвы дрэва асіны. Вядома з 16 ст. ў Ярэміцкай вол. (маёнтку) Слуцкага княства кн. Алелькавічаў. У 1582 г. паводле дагавора аб падзеле маёнткаў княства паміж братамі Алелькавічамі перайшоў да кн. Аляксандра Юр'евіча. З 1621 г. ва ўласнасці Радзівілаў. У 1771 г. пабудавана царква Раства Багародзіцы. У 1795 г. сяло ў Бабруйскім павеце, 68 жыхароў, царква, карчма, млын. З 1832 г. ўласнасць кн. Л.П.Вітгенштэйна, 11 двароў, 71 жыхар, у фальварку Пасекі. У 1844 г. цэнтр воласці ў Бабруйскім павеце, 52 рэвізскія душы. У канцы 1860-х г. уладанне княгіні Марыі Львоўны Вітгенштэйн (па шлюбу Гогенлоэ), у маёнтку Пасекі. У 1866 г. сяло, 83 двары, нар. вучылішча (адкрыта ў 1864 г.; у 1878 г. 26 хлопчыкаў, 4 дзяўчынкі). У 1884 г. цэнтр воласці Бабруйскага павета, 17 двароў, 186 жыхароў, вал. праўленне, царква, нар. вучылішча, вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г., 51 двор, 349 жыхароў, прыёмны пакой, хлебазапасны магазін, пры нар. вучылішчы інтэрнат (29 вучняў). У 1909 г. 58 двароў, 342 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. вёска акупіравана герм., у жн. 1919 — ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У варожым тыле дзейнічаў партыз. атрад пад камандаваннем Д.Ф.Пархімовіча (старшыня вал. к-та, 21.5.1921 г. забіты ворагамі сав. улады). З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Любанскага р-на Слуцкай акругі, 88 двароў, 428 жыхароў, паштовая станцыя, школа 1-й ступені, у якой у 1924/25 навуч. г. займаліся 54 вучні, працавала хата-чытальня. У 1935 г. дзейнічалі калгас «Ка-

мінтэрн» (створаны ў 1931 г.), цагельны з-д, кузня, урачэбна-амбулаторны пункт, дзіцячыя яслі, тэлеф. сувязь. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З першых дзён акупацыі дзейнічала парт.-камсамольская падп. група, створаная старшынёй Асавецкага с/с І.Ц.Клімовічам і дырэктарам Чабускай МТС М.І.Бондаравым (загінулі ў жн. 1941 г.). З канца ліст. 1941 г. ў Любанскай партыз. зоне. На тэр. сельсавета базіравалася партыз. брыгада 100-я імя Кірава. Вёска вызвалена 29.6.1944 г. У барацьбе з ворагам загінулі 192 жыхары, ням.-фаш. захопнікі загубілі 47 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 625 жыхароў, цэнтр калгаса «Світанне». У 1980-я г. меў 3959 га сельгасугоддзяў, 12 трактароў, 14 аўтамашын, 8 камбайнаў. Працавалі лясніцтва, сярэдняя школа, б-ка, клуб, бальніца, камбінат быт. абслугоўвання, магазін. У 1996 г. 349 гаспадарак, 1183 жыхары. У 2009 г. 355 гаспадарак, 935 жыхароў, цэнтр СВК «Асавец-агра». З лютага 2011 г. аграгарадок. Лясніцтва. Працуюць дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аптэка, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. Мемарыяльная дошка ў гонар партызан, стэла памяці ў гонар загінуўшых землякоў.

У складзе сельсавета 15 вёсак.

**АСАВЕЦ** – вёска ў Ляхаўскім с/с. За 17 км на ПнУ ад г. Любань, 42 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы–Асіповічы, 168 км ад Мінска, каля шашы Чырвоная Слабада–Бабруйск. 18 гаспадарак, 34 жыхары (2011).

У 1909 г. ў Асавецкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., засценак, 20 двароў, 115 жыхароў. У 1917 г. ў Слуцкім павеце, вёска. З 20.8.1924 г. ў Турокскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, 48 двароў, 264 жыхары. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоны Асавец», які абслугоўваўся Любанскай МТС. З 20.8.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут дзейнічала камсамольска-маладзёжнае падполле на чале з Ф.Я.Змітровічам, якое мела сувязь з партыз. групай Я.Д.Гарбачова. У канцы чэрв. 1942 г. фашысты схапілі патрыётаў і закатавалі. 10.7.1942 г. камандзір атрада А.І.Далідовіч стварыў у вёсцы партыз. атрад (15 чал.). З канца ліст. 1941 г. ў Любанскай партыз. зоне. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 287 жыхароў, у калгасе «Перамога». З 16.8.1973 г. ў Ляхаўскім с/с. У 1987 г. працавалі клуб, б-ка, магазін. У 1996 г. 34 гаспадаркі, 65 жыхароў. У 2009 г. 21 гаспадарка, 41 жыхар, у складзе СВК «Вобчын».

**АСТРАВОК** – пасёлак у Рачэнскім с/с. За 18 км на ПдЗ ад г. Любань і чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы–Асіповічы, 170 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2011).

Вядомы з 1795 г. як в. Астравок у Слуцкім павеце, 233 душы, уласнасць Радзівілаў. У 1-й пал. 19 ст. згадваецца як в. Астраўкі ў Бабруйскім павеце ў складзе фальварка Пасека, у 2-й пал. 19 ст. – 46 двароў, 144 душы, уласнасць Грыневічаў. У 1909 г. ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, хутары Астравок-1 і Астравок-2. У 1929 г. было 10 двароў. Пазней склаўся пасёлак. З 20.8.1924 г. ў Рачэнскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутар, 12 двароў, 62 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. пасёлак, 109 жыхароў, у калгасе «Будаўнік». У 1996 г. 17 гаспадарак, 27 жыхароў. У 2009 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў, у складзе СВК «Рачэнь».

**АТРАДНАЕ** (да 1969 г. в. Б ы ч к і) – вёска ў Рачэнскім с/с. За 20 км на ПдЗ ад г. Любань, 45 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы–Асіповічы,

163 км ад Мінска. 185 гаспадарак, 530 жыхароў (2011).

У 1909 г. ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, засценак, 22 двары, 127 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Рачэнскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутар, 32 двары, 175 жыхароў. У 1931 г. створаны калгас «Чырвоная галінка», які абслугоўваўся Любанскай МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе з ворагам загінулі 143 жыхары сельсавета. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 246 жыхароў, цэнтр калгаса імя Д.Ц.Гуляева. У 1980-я гг. меў 3569 га сельгасугоддзяў, 27 трактароў, 29 аўтамашын, 18 камбайнаў. Працавалі 8-гадовая школа, дзіцячы сад-яслі, фельч.-акушэрскі і ветэрынарны пункты, аддз. сувязі, магазін. У 1996 г. 196 гаспадарак, 591 жыхар. У 2009 г. 196 гаспадарак, 524 жыхары, цэнтр СВК «Атраднае-агра». Працуюць дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі і комплексны прыёмны пункты, аддз. сувязі, 3 магазіны, прыватнае УП «Юрчык». Помнікі землякам, воінам і партызанам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну.

**БАРОК** — вёска ў Ляхаўскім с/с. За 15 км на Пд ад г. Любань, 33 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы—Асіповічы, 166 км ад Мінска. 28 гаспадарак, 49 жыхароў (2011).

Вядомы з канца 18 ст. як хутар Чырвоны Барок у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета. У 1909 г. 3 двары, 18 жыхароў. У 1917 г. існавалі хутар Барок, 5 двароў, 20 жыхароў; засценак Чырвоны Барок, 34 двары, 160 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Турокскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутар Барок, 40 двароў, 216 жыхароў. У 1931 г. хутары Барок, Дуброва, засценак Чырвоны Барок аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны Барок». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 298 жыхароў, у калгасе «Перамога». У 1996 г. 48 гаспадарак, 86 жыхароў. У 2009 г. 30 гаспадарак, 52 жыхары, у складзе СВК «Вобчын». Працуе магазін.

**БАРОК** — пасёлак у Рачэнскім с/с. За 19 км на Пд ад г. Любань, 25 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы—Асіповічы, 172 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2011).

Вядома з канца 18 ст. як ваколіца Востраў Барок у Слуцкім павеце, шляхецкая ўласнасць, 65 жыхароў, карчма. Паводле перапісу 1897 г., у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, хутар, 2 двары, 20 жыхароў. У 1909 г. хутар, 3 двары, 18 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Рачэнскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 67 жыхароў, у калгасе «Будаўнік». У 1996 г. 21 гаспадарка, 37 жыхароў. У 2009 г. 14 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе СВК «Рачэнь».

**БАРЫКОЎ** — пасёлак у Соснаўскім с/с. За 23 км на ПдУ ад г. Любань, 40 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы—Асіповічы, 178 км ад Мінска. 109 гаспадарак, 291 жыхар (2011).

Вядомы з канца 18 ст. як хутар у Ляскавіцкай вол. Мазырскага павета Мінскай губ. У 1880-я г., паводле спіска землеўладальнікаў губерні, у Ляскавіцкай вол. Бабруйскага павета згадваюцца аднайменныя вёска, 2 засценкі і ўрочышча (Барыкоў). Паводле перапісу 1897 г., хутар, 3 двары, 25 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Загальскім с/с Глускага р-на Бабруйскай акругі. З 5.4.1936 г. ў Любанскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З ліст. 1941 г. ў Любанскай партыз. зоне, у 1943 г. большасць баяздольных жыхароў улілася ў атрад І.В.Сыцько партыз.

брыгады 121-й імя Брагіна. Вызвалены 30.6.1944 г. У 1960 г. вёска, 91 жыхар, у складзе эксперыментальнай базы «Любанская». У 1996 г. 156 гаспадарак, 413 жыхароў. У 2009 г. 120 гаспадарак, 315 жыхароў, у складзе РУП «Эксперыментальная база «Любанская». Працуюць бібліятэка-клуб, аўтазаправачная і радыёрэлейная станцыі, магазін.

**БАЯНІЧЫ** — вёска ў Соснаўскім с/с. За 30 км на ПдУ ад г. Любань, 47 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы—Асіповічы, 110 гаспадарак, 255 жыхароў (2011).

Вядомы з канца 18 ст. як аднайменныя вёска і маёнтак у Ляскавіцкай вол. Мазырскага, у 19 — пач. 20 ст. Бабруйскага паветаў. Паводле інвентару 1844 г., маёнтак належаў Эдуарду Нолькену, 20 двароў, 130 жыхароў, 50 дзес. сядзібнай зямлі, 600 дзес. ворыва, 930 дзес. сенажацяў, 820 дзес. лесу. Сяляне на двор мелі 2,5 дзес. зямлі, 7 коней, 54 валы, 35 кароў, 30 калод пчол. У 1850 г. ў вёсцы 26 двароў, 127 жыхароў; у 1877 г. ў маёнтку 1949 дзес. угоддзяў, 53 жыхары. Паводле перапісу 1897 г., у Ляскавіцкай вол. Бабруйскага павета; вёска — 51 двор, 269 жыхароў, хлебазапасны магазін, нар. вучылішча, маёнтак — 2 двары, 20 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 41 двор, 320 жыхароў, у маёнтку 17 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Загальскім с/с Глускага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. створаны калгас «Бальшавік-пераможац». З 5.4.1936 г. ў Любанскім р-не. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічалі падп. група на чале са старшынёй Загальскага с/с С.Т.Карнеевым, з ліп. 1941 г. — камсамольска-маладзёжная арг-цыя. У чэрв. 1942 г. значная частка патрыётаў перайшла ў партыз. атрад імя А.Неўскага брыгады 25-й імя Панамарэнкі. За гады акупацыі фашысты загубілі 18 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. У 1960 г. вёска, 660 жыхароў, у саўгасе «Загальскі». У 1996 г. 165 гаспадарак, 382 жыхары. У 2009 г. цэнтр сумеснага бел.-амерыканскага прадпрыемства ААТ «Табак-Інвест». Працуюць клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін.

**БЕЛЫ СЛУП** — пасёлак у Рачэнскім с/с. За 4 км на ПдЗ ад г. Любань, 21 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы—Асіповічы, 166 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 19 жыхароў (2011).

Склаўся ў 1920-я г. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. тут 110 жыхароў, у калгасе імя Калініна. У 1996 г. 22 гаспадаркі, 46 жыхароў. У 2009 г. 16 гаспадарак, 29 жыхароў, у складзе СВК «Вобчын».

**БЕРАКАЛЬ** — пасёлак у Рачэнскім с/с. За 7 км на ПдЗ ад г. Любань, 24 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы—Асіповічы, 165 км ад Мінска. 17 гаспадарак, 35 жыхароў (2011).

У 1909 г. засценак у Ляскавіцкай вол. Бабруйскага павета, 22 двары, 219 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Рачэнскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутар, 12 двароў, 68 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 102 жыхары, у калгасе імя Калініна. У 1996 г. 22 гаспадаркі, 57 жыхароў. У 2009 г. 19 гаспадарак, 44 жыхары, у складзе СВК «Вобчын».

**ВЕЖАНКА** — вёска ў Тальскім с/с. За 6 км на ПнУ ад г. Любань, 23 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы—Асіповічы, 160 км ад Мінска, на шашы Любань—Глуск. 28 гаспадарак, 37 жыхароў (2011).

Вядома з 1909 г. як хутар Вежын у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 1 двор, 7 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Любанскіх с/с і раёне Слуцкай акругі, хутар, 3 двары, 13 жыхароў. У 1934 г. створаны калгас «2-я пяцігодка». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы дзейнічала патрыят. група (сям'я Маеўскіх). Камсамолец

І.Маеўскі збіраў зброю для партызан, вёў разведку, потым разам з іншымі патрыётамі перайшоў да партызан брыгады 100-й імя Кірава. Вызвалена 30.6.1944 г. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 243 жыхары, у калгасе «Беларусь». У 1996 г. 47 гаспадарак, 90 жыхароў. У 2009 г. 29 гаспадарак, 47 жыхароў, у складзе вытв. УП «Таль-агра». Філіял лесагасп. ўпраўлення «Любанскі лясгас». Працуюць клуб, Дом сац. паслуг, магазін. На могілках пахаваны партызан М.Н.Братчэня, які загінуў у Вял. Айч. вайну.

**ВЕРАЧАГОШЧ** — вёска ў Сароцкім с/с. За 20 км на ПдУ ад г. Любань, 39 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы—Асіповічы, 170 км ад Мінска, на аўтадарозе Рэдкавічы—в. Верачагошч. 20 гаспадарак, 56 жыхароў (2011).

У 1909 г. ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета хутары Верачагошч 1 (9 двароў, 47 жыхароў) і Верачагошч 2 (3 двары, 30 жыхароў). З 26.5.1922 г. ў Слуцкім павеце. З 20.8.1924 г. ў Рэдкавіцкім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, засценкі Верачагошч 1 (7 двароў, 38 жыхароў), Верачагошч 2 (11 двароў, 60 жыхароў). У 1931 г. жыхары засценкаў і хутара Чачэнск аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны Кастрычнік» (34 гаспадаркі), які спецыялізаваўся на вырошчванні буйной рагатай жывёлы. У 1941 г. 40 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З ліст.1941 г. ў Любанскай партыз. зоне. У чэрв. 1942 г. фашысты спалілі вёску (37 двароў, загінулі 5 жыхароў). Вызвалена 30.6.1944 г. Пасля вайны адноўлена. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1962 г. вёска, 43 двары, 148 жыхароў, у калгасе «Чырвоная змена». З 1987 г. ў Сароцкім с/с. У 1996 г. 34 гаспадаркі, 80 жыхароў. У 2009 г. 23 гаспадаркі, 65 жыхароў, у складзе СВК «Чырвоная змена імя К.І.Шаплыкі». Працуе магазін.

**ВІШАНЬКІ** — пасёлак у Рачэнскім с/с. За 19 км на ПдЗ ад г. Любань, 25 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы—Асіповічы, 174 км ад Мінска. 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2011).

У 1909 г. ўрочышча ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 2 двары, 14 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Рачэнскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутар, 4 двары, 22 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 60 жыхароў, у калгасе «Будаўнік». У 1996 г. 13 гаспадарак, 20 жыхароў. У 2009 г. 12 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе СВК «Рачэнь».

**ВОБЧЫН** — вёска ў Рачэнскім с/с. За 10 км на ПдЗ ад г. Любань, 35 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 162 км ад Мінска, на аўтадарозе Любань—Старобін. 238 гаспадарак, 562 жыхары (2011).

Непадалёку ад вёскі знаходзіцца археал. помнік — стаянка, што сведчыць аб засяленні тэр. ў далёкім мінулым. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1582 г. У канцы 18 ст. вёска ў Бабруйскім павеце, у складзе маёнтка Ярэмічы, уласнасць Д.Радзівіла. У 1795 г. 210 жыхароў, карчма. У 1816 г. вёска ў Забалоцкай вол. таго ж павета, 96 рэвізскіх душ. У 1834 г. 72 двары, 195 жыхароў, уласнасць кн. Л.П.Вітгенштэйна. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць казны, 60 двароў, 121 рэвізская душа. У канцы 19 ст. 118 двароў, 922 жыхары, хлебазапасны магазін, заезны дом, царква, школа граматы (у 1890 г. 8 хлопчыкаў, 2 дзяўчынкі). У 1909 г. ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, вёска, 165 двароў, 1014 жыхароў, адкрыта земскае нар. вучылішча. З 20.8.1924 г. ў Рачэнскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, 230 двароў, 1262 жыхары, працавала школа 1-й ступені (2 настаўнікі, 109 вучняў). У 1929 г. ў калгасе «Асвета». У 1932 г. ў сувязі з разбуйненнем калгас атрымаў назву «Прагрэс», былі кузня, дзіцячыя яслі,

пач. школа (засн. ў 1931 г.). У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала патрыят. падп. група на чале з М.Е.Дастанкам, якая летам 1942 г. ўлілася ў рады партызан. Вызвалена вёска 30.6.1944 г. У 1960 г. вёска, 463 жыхары, цэнтр калгаса імя Калініна. У 1980-я г. спецыялізаваўся на вытв-сці мяса і малака, меў 3812 га сельгасугоддзяў, 40 трактароў, 29 аўтамашын, 17 камбайнаў. Працавалі сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 1997 г. 296 гаспадарак, 717 жыхароў. У 2009 г. 244 гаспадаркі, 521 жыхар, цэнтр СВК «Вобчын». Працуюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—агульнаадукац. сярэдняя школа, Дом культуры (і пры ім фальклорны гурт «Павалякі»), б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, 3 магазіны. Радзіма бел. гісторыка М.Е.Дастанкі (1917—89), бел. вучонага ў галіне цвердацельнай мікраэлектронікі А.П.Дастанкі (н. ў 1937 г.). Помнікі: землякам, М.І.Калініну, воінам і партызанам.

**ВЫННЯ** – пасёлак у Рачэнскім с/с. За 20 км на ПдЗ ад г. Любань, 18 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы—Асіповічы, 173 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2011).

Вядомы з 1924 г. як хутар у Рачэнскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, 6 двароў, 44 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 92 жыхары, у калгасе «Будаўнік». У 1996 г. 15 гаспадарак, 31 жыхар. У 2009 г. 9 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе СВК «Рачэнь».

**ВЯЛІКІЯ ГАРАДЗЯЦІЧЫ** – вёска ў Малагарадзяціцкім с/с. За 47 км на ПдУ ад г. Любань, 72 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы—Асіповічы, 199 км ад Мінска. 108 гаспадарак, 187 жыхароў (2011).

Непадалёку ад вёскі знаходзіцца курганная група ранняга жал. веку (1-е тыс. да н.э. – 1-е тыс. н.э.), што ўказвае на з'яўленне тут чалавека ў далёкім мінулым. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 16 ст. У 1566 г. сяло ў Скавышынскай вол. Слуцкага княства, шляхецкая ўласнасць, у 1622 г. была вінакурня. У 1676 г. ў маёнтку Дарогі ў Навагародскім павеце ВКЛ, было 35 дымоў. У пач. 19 ст. сёлы Вялікія і Малыя Гарадзяцічы ў Мазырскім павеце Мінскай губ. У 1815 г. вёска, уласнасць кн. Д.Радзівіла, 196 душ мужчынскага полу. У 1820-я г. дзейнічалі царк. прыдзел, конны млын, кузня. Паводле інвентару за 1843 г., фальварак, уласнасць кн. Л.П.Вітгенштэйна, 31 двор, у т.л. 27 цяглых мяшчан, 229 жыхароў абодвух полаў; 15 коней, 50 валоў, 9 валок зямлі, 13 моргаў; меліся сад (яблыні, грушы), сажалка, 47 вуллёў; былі заезны і піцейны дамы. У 1866 г. ў Камаровіцкай вол. Мазырскага павета, 43 двары, 378 жыхароў, царк.-прыходская школа (адкрыта ў 1863 г.), царква. У 1883 г. створаны смалакурны завод (у 1885 г. 3 рабочыя). Паводле перапісу 1897 г., 32 двары, 714 жыхароў, піцейны дом. У 1909 г. 132 двары, 807 жыхароў. У 1917 г. 160 двароў, 949 жыхароў, 1-класнае нар. вучылішча (засн. ў 1914). У лютым—снеж. 1918 г. вёска акупіравана герм., у жн. 1919 – ліп. 1920 г. польскімі войскамі. З 20.8.1924 г. ў Малагарадзяціцкім с/с Петрыкаўскага р-на Мазырскай, з 21.8.1925 г. ў Любанскім р-не Слуцкай акруг. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Дружба». У 1941 г. 176 двароў, 680 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З ліст.1941 г. ў Любанскай партыз. зоне. У крас. 1942 г. – ліп. 1943 г. дзейнічалі атрады імя Сільніцкага брыгады 25-й імя Панамарэнкі і імя Давыдава брыгады 121-й імя Брагіна. У лютым 1943 г. фашысты спалілі вёску. Вызвалена 30.6.1944 г. Пасля вайны адноўлена. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 796 жыхароў, у саўгасе



*А.П.Дастанка.*



*М.Е.Дастанка.*

«Гарадзяцічы». Працавалі клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. У 1996 г. 187 гаспадарак, 401 жыхар, клуб, б-ка, магазін. У 2009 г. 122 гаспадаркі, 234 жыхары, у складзе с.-г. філіяла «Гарадзяцічы» ААТ «Любанскі райаграсэрвіс». Працуюць Дом сац. паслуг, магазін.

**ГОРБАЧ** – вёска ў Ляхаўскім с/с. За 12 км на Пд ад г. Любань, 25 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы–Асіповічы, 166 км ад Мінска, на аўтадарозе Любань–Сосны. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2011).

У 1909 г. хутар у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, 12 двароў, 62 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Туроксім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутар, 14 двароў, 76 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З ліст. 1941 г. ў Любанскай партыз. зоне. У 1943 г. каля вёскі атрад імя Громава правёў бой з фашыстамі, у якім загінулі партызаны І.Партнягін і Ф.Маслаў. Вызвалена 30.6.1944 г. У 1960 г. 47 жыхароў, у калгасе імя Гарбачова. У 1996 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары. У 2009 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе СВК «Юрковіцкі».

**ГОРКІ** – пасёлак у Рачэнскім с/с. За 8 км на ПдЗ ад г. Любань, 25 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 166 км ад Мінска. 26 гаспадарак, 44 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. як вёска ў Горкаўскай вол. Бабруйскага павета. У 1834 г. маёнтак, шляхецкая ўласнасць, 201 рэвізская душа. У 1844 г. ўласнасць А.Перасвет-Солтана, 84 рэвізскія душы. У 1850 г. пасля падзелу маёнтка часткай яго валодаў І.Солтан – 68 двароў, 158 жыхароў; другая належала Л.Солтану – 71 двор, 234 жыхары. У 1877 г. маёнтак А.Л.Перасвет-Солтана, 2056 дзес. угоддзяў, вадзяны млын, сукнавальня, 2 карчмы. У 1896 г. сяло, цэнтр вол. і сельскай грамады; вал. праўленне, прыёмны пакой (фельчар), нар. вучылішча з кватэрай настаўніка і інтэрнатам для вучняў, паштовае аддз. У 1903 г. маёнтак належаў ген.-маёру М.Перасвет-Солтану. У 1909 г. сяло, 112 двароў, 700 жыхароў; маёнтак – 50 жыхароў, паштовая станцыя – 17 двароў, 150 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Любанскім р-не Слуцкай акругі. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў Рачэнскім с/с, пасёлак, 65 жыхароў, у калгасе імя Калініна. У 1968 г. далучаны да пас. Селішча. У 1996 г. 36 гаспадарак, 87 жыхароў. У 2009 г. 25 гаспадарак, 47 жыхароў, у складзе СВК «Вобчын».

**ГУЛЯЕВА** (да 1946 г. Пагной) – пасёлак у Малагарадзяціцкім с/с. За 56 км на Пд ад г. Любань, 69 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 188 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2011).

У 1909 г. хутар Пагной у Камаровіцкай вол. Мазырскага павета Мінскай губ. З 20.8.1924 г. ў Малагарадзяціцкім с/с Петрыкаўскага р-на Мазырскай акругі, пасёлак, 58 жыхароў. З 21.8.1925 г. ў Любанскім р-не. У 1924 г. 58 жыхароў. У 1941 г. 22 двары, 79 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў лютым 1943 г. спалілі яго. Пасля вайны адноўлены. У 1960 г. пасёлак, 132 жыхары, у саўгасе «Калінаўка». У 1996 г. 47 жыхароў. У 2009 г. 12 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Калінаўка» ААТ «Любанскі райаграсэрвіс».

**ДАРАСІНО** – вёска ва Урэцкім с/с. За 25 км на ПнЗ ад г. Любань, 10 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 145 км ад Мінска. 212 гаспадарак, 444 жыхары (2011).

У пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1566 г. с. Дарасін у маёнтку Пагост у Слуцкім княстве, шляхецкая ўласнасць, 26 валок зямлі; у 1600 г. 35 валок. У 17–19 ст. уласнасць Радзівілаў, потым Вітгенштэйнаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. ім-

перыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 73 двары, 368 жыхароў, царква, уласнасць Д.Радзівіла. У 1840 г. на сродкі кн. Л.П.Вітгенштэйна пабудавана драўляная Праабражэнская царква. У 1844 г. ў складзе маёнтка Паніч, 28 моргаў зямлі, 35 цяглых двароў, 276 сялян. У 1870 г. 42 двары, 345 жыхароў, працавала нар. вучылішча (засн. ў 1863), у якім займаліся 61 хлопчык, 9 дзяўчынак (настаўнікі: святар Рыгор Шпілеўскі і Соф'я Шпілеўская). Паводле перапісу 1897 г., вёска ў Пагосцкай вол. Слуцкага павета, 91 двор, 767 жыхароў, нар. вучылішча, для якога сяляне пабудавалі 2 будынкі (у т.л. інтэрнат на 40 вучняў), хлебазапасны магазін, царква. Побач была сядзіба, 2 двары, 11 жыхароў. У 1909 г. 148 двароў, 911 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Дарасінскага с/с Слуцкіх р-на і акругі. У 1924 г. хутары, 216 двароў, 1172 жыхароў. Для школы быў адведзены 3-ці будынак (царк. дом), 2 настаўнікі, 86 вучняў, мела 2 комплексы, надзел зямлі; дзейнічала камсамольская ячэйка. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе з ворагам загінулі 148 землякоў калгаса «Рэвалюцыя». У 1947 г. тут створаны яшчэ калгас імя Варашылава. З 25.12.1962 г. ў Любанскім р-не. У 1962 г. вёска, 288 двароў, у калгасе «Дружба» (з 1985). Працавалі сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт. Вёска — цэнтр ганчарства. Мясц. майстры выраблялі паліваны кухонны і сталовы посуд, цацкі. У 1996 г. 287 гаспадарак, 681 жыхар. З 2006 г. ва Урэцкім с/с. У 2009 г. 221 гаспадарка, 466 жыхароў, у складзе СВК «Урэцкі». Працуюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—агульнаадукац. сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі і комплексны прыёмны пункты, аддз. сувязі, 5 магазінаў;



*Дарасінская кераміка.*

царква Праабражэння Гасподняга. Помнік землякам.

**ДВАРЭЦ** — пасёлак у Малагарадзяціцкім с/с. За 52 км на Пд ад г. Любань, 69 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 184 км ад Мінска. 41 гаспадарка, 81 жыхар (2011).

У 1909 г. ўрочышча ў Камаровіцкай вол. Мазырскага павета Мінскай губ., 2 двары, 9 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Малагарадзяціцкім с/с Петрыкаўскага р-на Мазырскай акругі. З 21.8.1925 г. ў Любанскім р-не Слуцкай акругі. У 1941 г. пасёлак, 36 двароў, 178 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З ліст.1941 г. ў Любанскай партыз. зоне. У 1943—44 гг.



*А.Кот. Посцілка з узорам хлеўніка. Вёска Дарасіна.*

тут базіраваўся штаб партыз. брыгады 121-й імя Брагіна, у студз. 1943 г. падпольна друкаваліся газ. «Звязда», «Чырвоная змена» (рэдактар М.П.Барашкаў). У лютым 1943 г. фашысты спалілі пасёлак. На фронце загінулі 7 жыхароў. Вызвалены 30.6.1944 г. Пасля вайны адбудаваны. У 1962 г. 61 двор, 251 жыхар, у саўгасе «Гарадзяцічы». У 1996 г. 57 гаспадарак, 150 жыхароў. У 2009 г. 45 гаспадарак, 96 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Гарадзяцічы» ААТ «Любанскі райаграсэрвіс». Працуюць Дом сац. паслуг, магазін. Мемарыяльныя дошкі: у гонар партыз. брыгады 121-й імя Брагіна; падп. друкарні газ. «Звязда» і «Чырвоная змена».

**ДВОРЫШЧА** — вёска ў Малагарадзяціцкім с/с, на р. Арэса. За 32 км на Пд ад г. Любань, 50 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 193 км ад Мінска. 57 гаспадарак, 141 жыхар (2011).

Паводле перапісу 1897 г., выселкі ў Камаровіцкай вол. Мазырскага павета, 6 жыхароў. Вядома з 1843 г. як засценак у складзе маёнтка Гарадзятычы кн. Л.П.Вітгенштэйна, 11 двароў, у т.л. 5 чыншавых, 39 жыхароў, 6 баяр, 3 валокі зямлі, 15 моргаў. Баяры на двор мелі па 10 дзес. зямлі. У 1909 г. ў Камаровіцкай вол. Мазырскага павета, невял. сяло, 4 двары, 25 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Малагарадзяціцкім с/с Петрыкаўскага р-на Мазырскай акругі, хутар, 46 жыхароў. З 21.8.1925 г. ў Любанскім р-не Слуцкай акругі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. пасёлак, 20 двароў, 125 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў лютым 1943 г. спалілі яго. На фронце загінулі 9 жыхароў. Пасля вайны адбудаваны. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. пасёлак, 57 жыхароў, у саўгасе «Калінаўка». У 1996 г. вёска, 66 гаспадарак, 199 жыхароў. У 2009 г. 58 гаспадарак, 139 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Калінаўка» ААТ «Любанскі райаграсэрвіс». Працуюць 2 магазіны.

**ДВОРЫШЧА** — пасёлак у Малагарадзяціцкім с/с, на р. Арэса. За 47 км на Пд ад г. Любань, 64 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 194 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2011).

Паводле перапісу 1897 г., невял. сяло ў Камаровіцкай вол. Мазырскага павета Мінскай губ., 5 двароў, 38 жыхароў. У 1909 г. 3 двары, 17 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Малагарадзяціцкім с/с Петрыкаўскага р-на Мазырскай акругі, засценак, 61 жыхар. З 21.8.1925 г. ў Любанскім раёне Слуцкай акругі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. пасёлак, 53 жыхары ў саўгасе «Гарадзяцічы». У 1996 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў. У 2009 г. 45 гаспадарак, 96 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Гарадзяцічы» ААТ «Любанскі райаграсэрвіс».

**ДУБІЛАЎКА** — вёска ў Ляхаўскім с/с. За 15 км на ПдЗ ад г. Любань, 35 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 175 км ад Мінска. 16 гаспадарак, 29 жыхароў (2011).

Вядома з 1846 г. як урочышча ў маёнтку Ярэмічы кн. Л.П.Вітгенштэйна. Паводле перапісу 1897 г., у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, урочышча, 5 жыхароў. У 1908 г. засценак, 10 двароў, 75 жыхароў. У 1917 г. ў Слуцкім павеце. З 20.8.1924 г. ў Турокскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, 32 двары, 221 жыхар. З 1930 г. ў калгасе «Чырвоная Слабодка». У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962 г. 65 двароў, 220 жыхароў, у калгасе «Перамога». З 16.8.1973 г. ў Ляхаўскім с/с. У 2009 г. 18 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе СВК «Вобчын».

**ДУБНІКІ** — вёска ў Тальскім с/с. За 8 км на Пн ад г. Любань, 18 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 150 км ад Мінска. 96 гаспадарак, 191 жыхар (2011).

Паводле перапісу 1897 г., засценак у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, 9 двароў, 66 жыхароў. У 1909 г. хутар, 14 двароў, 62 жыхары. У 1917 г. ў Слуцкім павеце. З 20.8.1924 г. ў Юшкавіцкім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, засценак, 20 двароў, 97 жыхароў. У 1931 г. створаны калгас «Серп і Молат». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 мірных жыхароў. У 1960 г. ў Любанскім с/с, 486 жыхароў; няпоўная сярэдняя школа, б-ка, клуб. З 1987 г. ў Тальскім с/с, у калгасе «Беларусь». Працавалі б-ка, клуб. У 1996 г. 136 гаспадарак, 298 жыхароў. У 2009 г. 103 гаспадаркі, 208 жыхароў, у складзе вытв. УП «Таль-агра». Працуюць б-ка-клуб, магазін.

**ДУНЦЫ** – вёска ў Рачэнскім с/с. За 21 км на ПдЗ ад г. Любань, 32 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 174 км ад Мінска. 20 гаспадарак, 27 жыхароў (2011).

Вядома з 1890 г. як засценак Дунцы ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета. Паводле перапісу 1897 г., засценак, 16 двароў, 129 жыхароў, працавала школа граматы (засн. ў 1890 г.), у якой навучаліся 7 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. Побач быў аднайменны фальварак (ён жа Дуброва), 38 жыхароў. У 1909 г. засценак, 27 двароў, 146 жыхароў. У 1917 г. ў Слуцкім павеце. З 20.8.1924 г. ў Рачэнскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, засценкі Старыя Дунцы – 38 двароў, 131 жыхар; Новыя Дунцы – 25 двароў, 78 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Авангард» (32 гаспадаркі), былі кузня, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1962 г. ў Рачэнскім с/с, вёскі Старыя Дунцы (213 жыхароў) і Новыя Дунцы (224 жыхары). 16.5.1968 г. аб'яднаны ў адну в. Новыя Дунцы. З 1987 г. в. Дунцы, у калгасе імя Гуляева. У 1997 г. 47 гаспадарак, 78 жыхароў. У 2009 г. 30 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе СВК «Атраднае-агра».

**ЖАЛЫ** – пасёлак у Соснаўскім с/с. За 28 км на ПдЗ ад г. Любань, 45 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 181 км ад Мінска. 106 гаспадарак, 253 жыхары (2011).

Вядомы з канца 17 ст. як хутар Залужэчча або Залужжа. У канцы 19 ст. ў Ляскавіцкай вол. Бабруйскага павета, хутары Жалы – 2 двары, 18 жыхароў і Жалы (ён жа Залужэчча), 1 двор, 8 жыхароў. У 1909 г. хутар, 3 двары, 31 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Загальскім с/с Глускага р-на Бабруйскай акругі. У 1931 г. створаны саўгас «Жалы» для забеспячэння сенам кавалерыйскіх часцей Чырвонай Арміі, што размяшчаліся на тэр. Беларусі; былі сталовая, магазін, клуб. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. 30 двароў, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Пасёлак уваходзіў у Любанскую партыз. зону. 26.7.1941 г. сюды прыбылі Мінскі падп. абком на чале з А.І.Казловым, група А.І.Далідовіча. Вясковую групу патрыётаў узначаліў старшыня саўгаса «Жалы» А.І.Калчанаў, якая аб'ядналася з партыз. атрадам імя Сыцько. У крас. 1944 г. ў раёне вёскі атрады Мінскага партыз. злучэння вялі жорсткія баі з фашыстамі. Пры прарыве варожай блакады загінулі камандзір брыгады 161-й імя Катоўскага А.С.Шашура, камандзір атрада імя 14 слуцкіх партызан брыгады 64-й імя Чкалава М.Д.Бялько. Вызвалены пасёлак 30.6.1944 г. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 1.4.1960 г. ў Соснаўскім с/с Любанскага р-на, 614 жыхароў, у складзе эксперыментальнай базы «Любанская». Працавалі няпоўная сярэдняя школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт. У 1997 г. 164 гаспадаркі, 451 жыхар. У 2009 г. 110 гаспадарак, 291 жыхар, у складзе РУП «Эксперыментальная база «Любанская». Працуюць клуб, магазін.



*Уборка кукурузы ў Любанскім раёне.*

**ЖОРАЎКА** – вёска ў Ляхавіцкім с/с. За 18 км на Пд ад г. Любань, 35 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 167 км ад Мінска. 70 гаспадарак, 195 жыхароў (2011).

У 1909 г. хутар у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, 15 двароў, 107 жыхароў. З 1917 г. ў Слуцкім павеце, засценак. З 20.8.1924 г. ў Турокскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, вёска, 22 двары, 127 жыхароў; працавала школа 1-й ступені. З 1931 г. ў калгасе «Перамога». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 163 жыхары. З 16.8.1973 г. ў Ляхавіцкім с/с; у калгасе «Перамога». У 1997 г. 77 гаспадарак, 226 жыхароў. У 2009 г. 72 гаспадаркі, 202 жыхары, у складзе СВК «Вобчын». Працуюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад–агульнаадукац. сярэдняя школа, б-ка, комплексны прыёмны пункт.

**ЖЫВУНЬ** – вёска ў Соснаўскім с/с. За 42 км на ПдУ ад г. Любань, 59 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 190 км ад Мінска. 19 гаспадарак, 21 жыхар (2011).

Вядома з 1780-х г. як вёска і маёнтак (фальварак) у Мазырскім павеце, вотчына С.Гарадзецкага. Сяляне мелі да 9 дзес. ворыва на рабочую душу; сенажаці былі балотныя. З 1844 г. ўласнасць яго жонкі Т.Гарадзецкай (з Барэйкаў), якая за пазыку грошай дала яго ў заставу шляхціцам Абрыцкім. У складзе фальварка была в. Застарасек, 3 двары, 22 жыхары, 1 двор, у Загаллі – 7 жыхароў. У фальварку 4 двары, 37 рэвізскіх душ, у т.л. 6 дваровых (пастух, кучар, пчаляр і інш.), 10 валоў, 1 конь, 5 кароў, 17 авечак, 10 свіней, 3 калоды пчол; 2050 дзес. зямлі, у т.л. 280 дзес. ворнай, 1500 дзес. сенакосу, 260 дзес. лесу. Сяляне адбывалі паншчыну на год 104 дні з вупражжу і 104 пешыя; давалі дзякла: курэй – 2, яек – 10, грыбоў – капу (60 шт.), аўса і жыта – па 2 бочкі; абавязаны былі рамантаваць дарогі і пабудовы двара і інш. У 1858 г. ў Ляскавіцкай вол. Бабруйскага павета, вёска, 30 рэвізскіх душ. З 1869 г. па купчай перайшла да Р.Солтана, 350 дзес. зямлі. У 1880-я г. быў вятрак, працавала царк.-прыходская школа (у 1885 г. 9 хлопчыкаў). Паводле перапісу 1897 г., у Ляскавіцкай вол. Бабруйскага павета, вёска – 23 двары, 158 жыхароў, хлебазапасны магазін; фальварак – 5 двароў, 35 жыхароў; сядзіба – 9 жыхароў. У 1909 г. вёска, 17 двароў, 171 жыхар; засценак – 3 двары, 63 жыхары. У 1917 г. аднайменныя вёска, хутар. З 20.8.1924 г. ў Загальскім с/с Глускага р-на Бабруйскай акругі. З 5.4.1936 г. ў Любанскім р-не Слуцкай акругі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На тэр. вёскі дзейнічала патрыят. група на чале са старшынёй калгаса «Світанне» Р.І.Плышэўскім. У ліст. 1941 г. яна аб'ядналася з партыз. атрадам А.І.Далідовіча. З канца 1941 г. вёска ў Любанскай партыз. зоне. У вёсцы была створана і дзейнічала падп. камсамольска-маладзёжная арг-цыя. Да сярэдзіны 1942 г. працаваў калгас «Світанне». З 18.8.1942 г. каля вёскі базіравалася дыверсійная група Соніна. У крас. 1944 г. ў раёне вёскі адбыліся жорсткія баі партызан Мінскага злучэння з фашыстамі, якія 19.5.1944 г. расстралялі мясц. жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. З 1.4.1960 г. ў Соснаўскім

с/с, вёска, 272 жыхары, у саўгасе «Загальскі». У 1997 г. 34 гаспадаркі, 58 жыхароў. У 2009 г. 21 гаспадарка, 30 жыхароў, у складзе будаўнічага ўпраўлення «Загальскі» ААТ «МАПІД». Працуе Дом сац. паслуг. Магілы партызан Р.С.Акуліча, В.Я.Бандарэнкі, Г.А.Будкевіча, С.В.Бусела, М.А.Гуткоўскага, Л.У.Лялькіна. Помнік на магілах ахвяр фашызму. Радзіма аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай і Палескай абласцях у Вял. Айч. вайну С.К.Ляшчэні (1903—90).

**ЗАБАЛАЦЬ** — вёска ў Юшкавіцкім с/с. За 10 км на З ад г. Любань, 18 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 145 км ад Мінска, каля шашы Любань—Салігорск. 204 гаспадаркі, 605 жыхароў (2011).

Вядома з 16 ст. як сяло ў Ярэміцкай вол. Слуцкага княства, уласнасць кн. Алелькавічаў; 18 валок зямлі (1556). З 1589 г. разам з дваром Ярэмічы ў трыманні слуцкіх купцоў Тышэвічаў. З 1621 г. уласнасць кн. К.Радзівіла. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, цэнтр вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць кн. Д.Радзівіла, потым Л.П.Вітгенштэйна. У 1795 г. было 93 жыхары. З 1832 г. ў складзе маёнтка Ярэмічы, 30 двароў, 178 жыхароў. У 1846 г. 11 валок, 22 маргі сядзібнай зямлі, 7 коней, 28 валоў. У 1884 г. цэнтр воласці ў Бабруйскім павеце, сяло, 25 двароў, 276 жыхароў, нар. вучылішча (засн. ў 1864 г.; у 1878 г. 30 хлопчыкаў). Паводле перапісу 1897 г., 61 двор, 417 жыхароў, 3 ветракі, школа, царква, прыёмны пакой, вінзавод, уласнасць Б.Валадзько. Побач існаваў аднайменны хутар, 8 жыхароў. У 1909 г. 83 двары, 566 жыхароў. У 1914 г. засн. паштова-тэлегр. кантора. З 20.8.1924 г. ў Юшкавіцкім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, сяло, 105 двароў, 653 жыхары. З 21.10.1924 г. да 2.1.1925 г. ў Смольгаўскім с/с; працавала школа 1-й ступені (у 1923 г. 2 настаўнікі, 58 вучняў). У 1921 г. створана крэдытнае таварыства «Снапок», мела каўбасны цэх, працаваў аграпункт; у 1927 г. налічвала 1127 чл., абслугоўвала 125 населеных пунктаў, 6088 сял. гаспадарак. У 1929 г. створаны калгас «Новы шлях», былі вятрак, кузня, дзіцячыя яслі. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 28.6.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 642 жыхары, цэнтр калгаса імя Кірава. У 1980-я г. меў 4948 га сельгасугоддзяў, 19 трактароў, 21 аўтамашыну, 16 камбайнаў. Спецыялізаваўся на вытв-сці мяса і малака. Дзейнічалі дзіцячы сад, пач. школа, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт. З 1971 г. — клуб, б-ка, магазін, камбінат быт. абслугоўвання. Працавалі 8-гадовая школа, б-ка, клуб, комплексны прыёмны пункт, магазін. У 1997 г. 235 гаспадарак, 644 жыхары. У 2009 г. 216 гаспадарак, 597 жыхароў, цэнтр СВК «Забалоцкі». Працуюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—агульнаадукац. сярэдняя школа, Дом культуры (і пры ім узорны фальклорны калектыў «На-



*Узорны фальклорны калектыў «Нашчадкі» Забалоцкага сельскага Дома культуры.*





*Мемарыяльны комплекс Зыслаў у аднайменным урочышчы каля в. Загалле: 1 — памятны знак на месцы былога партызанскага аэрадрома; 2 — адрэстаўрыраваныя партызанскія зямлянкі.*

шчадкі»), б-ка, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка», 2 магазіны. Стэла ў гонар землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ЗАБЯРЭЗІНЕЦ** – вёска ў Камунараўскім с/с. За 35 км на Пд ад г. Любань, 60 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 192 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2011).

У 1909 г. ўрочышча ў Дзякавіцкай вол. Мазырскага павета, 3 двары, 33 жыхары. У 1921 г. хутар, 4 двары, 56 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Даманавіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай акругі. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Камунараўскім с/с Любанскага р-на. У 1960 г. вёска, 162 жыхары, у калгасе «Кузьмічы». У 1997 г. 21 гаспадарка, 37 жыхароў. У 2009 г. 13 гаспадарак, 14 жыхароў.



*С.Ф.Карнееў.*



*Помнік савецкім воінам і партызанам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, устаноўлены ў мемарыяльным комплексе Зыслаў каля в. Загалле.*

**ЗАГАЛЛЕ** – вёска ў Соснаўскім с/с. За 30 км на ПдУ ад г. Любань, 55 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 182 км ад Мінска. 178 гаспадарак, 549 жыхароў (2011).

Вядома з 16 ст. У 1585 г. сяло ў Навагрудскім павеце, у складзе маёнтка Глуск Пагарэлы, шляхецкая ўласнасць. Да 1791 г. сяло, уласнасць Я. і Б. Красінскіх: двор Загалле (Людзвінова) з в. Загалле (яна ж Татарцы) — уласнасць К.Корвін-Ураблеўскага. У 1792 г. пабудавана драўляная Георгіеўская царква (святар Р.Р.Смоліч). Паводле рэвізіі 1795 г., сяло ў Мазырскім павеце Мінскай губ., уласнасць Я.Якубоўскага. У 1834 г. частка в. Загалле належала памешчыку А.Гардзяевічу: 31 жыхар; 969 дзес. угоддзяў, 8 валоў, 9 кароў, 36 авечак, 15 свіней, 23 калоды пчол. У гэтым жа фальварку 9 рэвізскіх душ меў Г.Хіленскі, памешчыкі А. і Э. Казлоўскія на вотчынным праве мелі 8 рэвізскіх душ, зямлі сядзібнай 16, ворнай 24, сенажацяў 36 дзес. У 1866 г. сяло, цэнтр Ляскавіцкай вол. Бабруйскага павета, 40 двароў, царква, нар. вучылішча (у 1865 г. 36 хлопчыкаў, 10 дзяўчынак). Паводле перапісу 1897 г., сяло (яно ж Вялікае Сяло), 54 двары, 351 жыхар, царк.-прыходская школа (засн. ў 1884 г.), крама, заезны дом, царква, малітоўная школа. У 1909 г. 20 двароў, 238 жыхароў. З 1922 г. працавала школа 1-й ступені (1 настаўнік, 30 вучняў у 1922/23 навуч. годзе). З 20.8.1924 г. вёска, цэнтр сельсавета Глускага р-на Бабруйскай

акругі, з 5.4.1936 г. Любанскага р-на. У 1930 г. створаны калгас «Загалле» (18 гаспадарак) для нарыхтоўкі корму для кавалерыйскіх часцей Чырвонай Арміі. У 1931 г. меў 40 488 га сельгасугоддзяў, з іх 2421 га ворыва. Меў 10 жыллёвых будынкаў, 2 стайні на 25 коней кожная, 20 кароў. Працавалі тэлеф. пункт, школа, медпункт, цагельны з-д, МТС (з 1937 г.). У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З ліп. 1941 г. дзейнічала група самаабароны на чале са старшынёй Загальскага с/с С.Ф.Карнеевым. З ліст. 1941 г. вёска ў Любанскай партыз. зоне, працаваў сельсавет, з кастр. 1942 да 1943 г. — школа. У крас. 1944 г. фашысты спалілі вёску. На фронце загінулі 45 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. З 1.4.1960 г. ў Любанскім раёне, у Соснаўскім с/с, 177 жыхароў, цэнтр саўгаса «Загальскі». У 1980-я г. меў 5926 га сельгасугоддзяў, 12 трактароў, 23 аўтамашыны, 9 камбайнаў. Працавалі сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, магазін. У 1997 г. 179 гаспадарак, 606 жыхароў. У 2009 г. 184 гаспадаркі, 562 жыхары, цэнтр будаўнічага ўпраўлення ААТ «МАПІД». Працуюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—агульнаадукац. сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка», 2 магазіны. Помнікі: землякам, воінам і партызанам; магіла Героя Сац. Працы Ф.М.Статкевіча. Радзіма бел. вучонага, этнографа А.І.Крукоўскага (1901—45).

**ЗАДОНШЧЫНА** — пасёлак у Рачэнскім с/с. За 22 км на ПдЗ ад г. Любань, 17 км ад чыг. ст. Урэчча, на лініі Асіповічы—Баранавічы, 175 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2011).

У 1960 г. ў Рачэнскім с/с, пасёлак, 51 жыхар, у калгасе «Будаўнік». У 1997 г. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў. У 2009 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары, у складзе СВК «Рачэнь».

**ЗАЕЛЬНАЕ** — вёска ў Асавецкім с/с. За 19 км на У ад г. Любань, 37 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 167 км ад Мінска. 25 гаспадарак, 49 жыхароў (2011).

Непадалёку ад вёскі знаходзіцца гарадзішча ранняга жал. веку (6 ст. да н.э. — 1 ст. н.э.), што сведчыць аб засяленні гэтай тэр. ў далёкім мінулым. Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 19 ст. як вёска ў Асавецкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 10 двароў, 63 жыхары. У 1909 г. засценак, дзейнічала царк.-прыходская школа (засн. ў 1908 г.). З 20.8.1924 г. ў Ямінскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, засценак, 20 двароў, 141 жыхар, была школа 1-й ступені (1 настаўнік, 44 вучні). У 1932 г. створаны калгас «15 гадоў Кастрычніцкай рэвалюцыі», меў кузню. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска, 179 жыхароў, у калгасе «Світанне». У 1997 г. 40 гаспадарак, 74 жыхары. З 2006 г. ў Асавецкім с/с. У 2009 г. 30 гаспадарак, 58 жыхароў, у складзе СВК «Асавец-агра». Працуе магазін.

**ЗАКАЛЬНОЕ** — вёска ў Рачэнскім с/с. За 19 км на ПдЗ ад г. Любань, 44 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 171 км ад Мінска. 189 гаспадарак, 396 жыхароў (2011).



*А.І.Крукоўскі.*



*Фальклорны калектыў «Глыбокія крыніцы» Закальнянскага сельскага Дома культуры.*



С.П.Кукраш.



А.Варабей. Посцілка. Вёска Закальное.

Назва вёскі паходзіць ад ад тэрміна «кельнік», што абазначае печ для абпальвання цэглы і глінянага посуду.

Курганны могільнік недалёка ад вёскі, ва ўрочышчы Шведскія магілы, сведчыць аб засяленні гэтай тэр. ў далёкія часы. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1566 г. сяло ў Ярэміцкай вол. (двары) Слуцкага княства кн. Алелькавічаў, 27 валок зямлі. З 1589 г. застава купцоў Тышкевічаў, з 1621 г. ўласнасць Радзівілаў у Навагрудскім павеце, у складзе маёнтка Ярэмічы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Бабруйскім павеце Мінскай губ. З 1795 г. фальварак, 267 жыхароў, карчма, піцейны дом (1800 г.). З 1832 г. ўласнасць Л.П.Вітгенштэйна. У 1844 г. было 254 жыхары, меліся вінакурня (з 1830 г. з цэглы), млын і валоўня (з 1824 г.), аўчарня (1827 г.). У 1847 г. налічвалася зямлі сядзібнай 7 валокі і 24 маргі. У 2-й пал. 19 ст. фальварак і вёска маёнтка Ярэмічы, уласнасць Л.П.Вітгенштэйна, 66 двароў, 348 жыхароў. У 1858 г. 2518 дзес. зямлі (766 дзес. ворыва), у т.л. ў сялян 645 дзес. ворыва. У 1886 г. вёска ў Забалоцкай вол., 69 двароў, 599 жыхароў, з 1880 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 16 хлопчыкаў, 5 дзяўчынак). Пачаў распаўсюджвацца бандарны промысел, выраблялі з дрэва посуд і землячробчыя прылады працы.

Паводле перапісу 1897 г., сяло, 158 двароў, 1062 жыхары, 2 ветракі, хлебазапасны магазін, 2 крамы, піцейны дом; маёнтак — 5 двароў, 33 жыхары. У 1909 г. 204 двары, 966 жыхароў, земскае нар. вучылішча (з 1913 г.), у маёнтку 16 двароў, 124 жыхары. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені (2 настаўнікі, 65 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Рачэнскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, вёска, 230 двароў, 1293 жыхары, фальварак — 22 двары, 196 жыхароў. У 1927 г. створаны малочная арцель, маслабойня, у 1931 г. — калгас «Будаўнік» (свінагадоўчы), які аб'ядноўваў 56 гаспадарак (207 чал.). Дзейнічалі вятрак, кузня, дзіцячыя яслі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 14 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 533 жыхары, цэнтр калгаса «Будаўнік». У 1980-я г. спецыялізаваўся на вытв-сці мяса і малака, меў 3959 га сельгасугоддзяў, 42 трактары, 27 аўтамашын, 18 камбайнаў. Працавалі дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, з 1971 г. — ветпункт, адз. сувязі, магазін. У 1997 г. 244 гаспадаркі, 601 жыхар. У 2009 г. 206 гаспадарак, 434 жыхары, у складзе СВК «Рачэнь». Працуюць Дом культуры (і пры ім фальклорны калектыў «Глыбокія крыніцы»), б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 4 магазіны. Помнікі землякам, воінам і партызанам. Радзіма бел. вучоных у галіне сельскай гаспадаркі М.П.Кукраша (н. ў 1928 г.) і ў галіне аграхіміі С.П.Кукраша (н. ў 1942 г.).

**ЗАЛУГ** — пасёлак у Рачэнскім с/с. За 10 км на ПдЗ ад г. Любань, 24 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 156 км ад Мінска. 6 двароў, 19 жыхароў (2011).

У 1909 г. хутар у Старобінскай вол. Слуцкага павета, 5 двароў, 33 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1960 г. ў Рачэнскім с/с, 49 жыхароў, у калгасе імя Суворава. У 1997 г. 14 гаспадарак, 27 жыхароў. У 2009 г. 6 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе СВК «Рачэнь».

**ЗАМОШША** – вёска ва Урэцкім с/с. За 25 км на ПнЗ ад г. Любань, 14 км ад чыг. ст. Урэчча, 147 км ад Мінска. 72 гаспадаркі, 118 жыхароў (2011).

Выядома з 16 ст. У 1566 г. сяло ў складзе маёнтка Пагост у Слуцкім княстве, шляхецкая ўласнасць, было 11 валок зямлі. У 17 – пач. 19 ст. ўласнасць Радзівілаў, потым Вітгенштэйна, фальварак у маёнтку Паніч. У 1800 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., 31 двор, 134 жыхары. У 1840-я г. ў валоданні памешчыкаў Шчакатоўскага, Катлубаяў, І.Ф.Шышкі. У 1847 г. фальварак з вёскамі Замошша, Лучыцы, Караны. Паводле перапісу 1834 г., фальварак, 45 двароў, 279 жыхароў, 8568 дзес. сельгасугоддзяў; пад лесам 5747 дзес.; в. Замошша, 14 двароў. У 1863 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 16 хлопчыкаў, 2 дзяўчынкі), царк.-прыходская школа, у якой займаўся 21 вучань. У 1888 г. фальварак у маёнтку Пагост, што належаў кн. Гогенлоэ (па шлюбе з княгіняй М.Л.Вітгенштэйн), быў вадзяны млын. У 1889 г. ў Пагосцкай вол. 94 двары, 770 жыхароў, другая школа граматы (у 1890 г. 10 хлопчыкаў, 1 дзяўчынка), 2 ветракі, капліца, прыёмны пакой (фельчар); мясц. майстры займаліся апрацоўкай каменю. У 1909 г. 136 двароў, 867 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Дарасінскім с/с Слуцкіх р-на і акругі. У 1930 г. створаны калгас «Ударнік». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 39 землякоў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 790 жыхароў, цэнтр калгаса «Ударнік». З 25.12.1962 г. ў Любанскім р-не. У 1971 г. працавалі 8-гадовая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін. З 1987 г. ў калгасе «Дружба». З 2006 г. ва Урэцкім с/с. У 2009 г. 78 гаспадарак, 171 жыхар, у складзе СВК «Урэцкі». Працуе магазін. Стэла воінам і партызанам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну. Радзіма бел. пісьменніка У.А.Паўлава (н. ў 1935 г.).

**ЗАПАЛЛЕ** – вёска ў Ляхаўскім с/с. За 10 км на Пд ад г. Любань, 27 км ад чыг. ст. Урэчча, 169 км ад Мінска. 19 гаспадарак, 27 жыхароў (2011).

Вядома з 1795 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 9 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1811 г. ў Бабруйскім павеце, сяло, 28 двароў, 89 душ мужчынскага полу, уладанне В.Крыштафоравай з Завішаў, у 1850 г. – Ф.Свіда. У 1856 г. па купчай за 7 тыс. руб. серабром перайшло да К.Абуховіч, 11 двароў, 60 жыхароў, 27 валок зямлі, вадзяны млын. У 1917 г. хутар у Забалоцкай вол. Слуцкага павета. З 20.8.1924 г. ў Рэдкавіцкім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутар, 11 двароў, 82 жыхары. У 1960 г. ў Турокскім с/с, вёска, 159 жыхароў. З 16.8.1973 г. ў Ляхаўскім с/с, у калгасе імя Я.Д.Гарбачова. У 1997 г. 29 гаспадарак, 52 жыхары. У 2009 г. 21 гаспадарка, 30 жыхароў, у складзе СВК «Юрковічы».

**ЗАРА** – пасёлак у Рачэнскім с/с. За 9 км на ПдЗ ад г. Любань, 24 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 166 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2011).

У 1960 г. ў Рачэнскім с/с, пасёлак, 96 жыхароў, у калгасе імя Суворава. У 1997 г. 14 гаспадарак, 23 жыхары. У 2009 г. 7 гаспадарак, 9 жыхароў, у складзе СВК «Рачэнь».

**ЗАРЭЧКІ** – вёска ў Рачэнскім с/с. За 21 км на ПдЗ ад г. Любань, 38 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Ба-

ранавічы, 168 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2011).

У 1909 засценак у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, 12 двароў, 68 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў Рачэнскім с/с, вёска, 142 жыхары, у калгасе імя Гуляева. У 1997 г. 19 гаспадарак, 31 жыхар. У 2009 г. 12 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе СВК «Атраднае-агра». Радзіма воіна-інтэрнацыяналіста, удзельніка баявых дзеянняў у Афганістане М.М.Санько (1965–85).



*М.М.Санько.*

**ЗАСМУЖЖА** – вёска ў Рачэнскім с/с. За 11 км на ПдЗ ад г. Любань, 28 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 168 км ад Мінска. 29 гаспадарак, 53 жыхары (2011).

Вядома з 16 ст. У 1566 г. сяло ў Слуцкім княстве ў складзе двара (вол.) Ярэмічы, уласнасць кн. Алелькавічаў, 25 валок зямлі. У 17 – пач. 19 ст. уласнасць Радзівілаў. У 1795 г. ў Бабруйскім павеце, 93 жыхары, карчма, уласнасць кн. Д.Радзівіла. З 1830-х г. уласнасць кн. Л.П.Вітгенштэйна; у 1834 г. 46 рэвізскіх душ. У 1846–50 гг. фальварак таго ж маёнтка, затым уладанне казны. У 1858 г. зноў у складзе маёнтка Ярэмічы, уласнасць Вітгенштэйна, фальварак, 104 двары, 739 жыхароў, 4100 дзес. зямлі, у т.л. 806 дзес. ворыва; у сялян 1091 дзес. зямлі (712 дзес. ворыва). У 1876 г. фальварак у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, у частковым валоданні Катлубаяў – 237 дзес., Галіневіча (па купчай), быў вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г., 21 двор, 165 жыхароў. У 1909 г. 26 двароў, 197 жыхароў; у 1917 г. засценак. З 20.8.1924 г. ў Рачэнскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, 39 двароў, 283 жыхары. У 1929 г. створаны калгас «Асвета». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 10 мірных жыхароў. У 1960 г. было 370 жыхароў, у калгасе імя Суворава. У 1997 г. 63 гаспадаркі, 122 жыхары. У 2009 г. 30 гаспадарак, 50 жыхароў, у складзе СВК «Рачэнь». Працуе магазін.



*Двухнітовае ткацтва. Тканіна для андарака. Вёска Зялёнкі.*

**ЗЯЛЁНКІ** – вёска ў Асавецкім с/с. За 18 км на ПнУ ад г. Любань, 35 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 171 км ад Мінска. 75 гаспадарак, 166 жыхароў (2011).

Вядома з канца 18 ст. як вёска ў маёнтку Ярэмічы Бабруйскага павета, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1834 г. ў маёнтку Пасекі кн. Л.П.Вітгенштэйна, 24 двары, 143 жыхары. У 1847 г. арэнда памешчыкаў Касабуцкіх, 25 двароў, 141 жыхар; быў пiцейны дом (з 1809 г.), 8 коней, 64 валы, 11,5 валокі зямлі. З 1860-х г. уласнасць Гогенлоэ. У 1870 г. вёска ў маёнтку Пасека ў Асавецкай вол. Бабруйскага павета, 75 сялян-уласнікаў, 4 аднадворцы. У 1889 г. пачало распаўсюджвацца бандарнае рамяство. Паводле перапісу 1897 г., у Асавецкай вол. Бабруйскага павета, вёска, 52 двары, 311 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 60 двароў, 375 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Асавецкім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, вёска, 79 двароў, 452 жыхары. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоны барацьбіт» (свінагадоўчы), працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 14

жыхароў. У 1962 г. 121 двор, 479 жыхароў, у калгасе «Світанне». Вёска славілася вырабамі двухнітовага ткацтва, аднаго з найбольш старажытных на тэр. Беларусі. У 1997 г. 117 гаспадарак, 289 жыхароў. У 2009 г. 85 гаспадарак, 190 жыхароў, у складзе СВК «Асавец-агра». Працуе магазін. Радзіма бел. матэматыка М.А.Шэшкі (н. ў 1937 г.).

**ІМХАВЫ** — пасёлак у Рачэнскім с/с. За 20 км на ПдЗ ад г. Любань, 20 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 175 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2011).

У 1987 г. пасёлак, 6 двароў, 4 жыхары, у калгасе «Будаўнік». У 1997 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары. У 2009 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе СВК «Рачэнь».

**КАЛІНАЎКА** (да 1939 г. Убібацькі ці Убібачкі) — вёска ў Малагарадзяцкім с/с, на р. Арэса. За 38 км на ПдУ ад г. Любань, 55 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 381 км ад Мінска. 165 гаспадарак, 325 жыхароў (2011).

Па нар. павер'і, назву вёска атрымала пасля трагедыі, калі тут сын забіў бацьку пры раздзеле зямлі. Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст., уласнасць Слуцкага Троіцкага манастыра. У сярэдзіне 17 ст. дзяржава застаўная (на 3 гады) войта Слуцка В.Цішкевіча. У 1677 г. ў Навагрудскім павеце, сяло маёнтка Дарогі кн. Д.Радзівіла, 30 дымоў. У пач. 19 ст. ў Мазырскім павеце; у 1811 г. 43 двары, 187 душ. У 1843 г. ў складзе маёнтка Гарадзяцічы кн. Л.П.Вітгенштэйна, вёска над р. Арэсай, 52 двары, 388 душ; 18 валок зямлі сядзібнай. Меліся заезны дом (1833), магазін. У сярэдзіне 19 ст. 37 двароў, 423 жыхары. У 1870 г. ў Камаровіцкай вол. Мазырскага павета, вёска, 171 рэвізская душа. У 1909 г. 136 двароў, 789 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Малагарадзяцкім с/с Петрыкаўскага р-на Мазырскай акругі, каля 630 жыхароў, працавала школа 1-й ступені (засн. ў 1921 г.). З 21.8.1925 г. ў Любанскім р-не Слуцкай акругі. У



*Т.Трубчык. Посцілка з узорам хлеўніка. Вёска Калінаўка.*

1929 г. створаны калгас «Чырвоная Арэса», у 1931 г. была ўрачэбная амбулаторыя. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З ліст.1941 г. ўваходзіла ў Любанскую партыз. зону. У студз. 1943 г. жыхары вёскі аб'ядналіся з партыз. атрадам імя Кутузава брыгады 25-й імя Панамарэнкі. 19.5.1943 г. ў лесе каля вёскі адбылася раённая камсамольская канферэнцыя (235 дэлегатаў). Фашысты загубілі 13 мірных жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. У 1962 г. 334 двары, 1262 жыхары, цэнтр саўгаса «Калінаўка». Спецыялізаваўся на вытв-сці мяса і малака, меў 4159 га сельгасугоддзяў, 18 трактароў, 17 аўтамашын, 11 камбайнаў. У вёсцы былі 8-гадовая школа, клуб, б-ка, комплексны прыёмны і фельч.-акушэрскі пункты, магазін. У 1997 г. 265 гаспадарак, 538 жыхароў. У 2009 г. 184 гаспадаркі, 370 жыхароў, цэнтр с.-г. філіяла «Калінаўка» ААТ «Любанскі райаграсэрвіс». Лясніцтва. Працуюць бібліятэка-клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Мемарыяльная

дошка ў гонар памяці аб падп. камсамольскай канферэнцыі. Магілы партызан М.Я.Кнышэвіча, С.Н.Трубчыка.

**КАМУНА** – вёска ў Камунараўскім с/с. За 25 км на Пд ад г. Любань, 50 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 177 км ад Мінска. 236 гаспадарак, 588 жыхароў (2011).

Узнікла на месцы пасёлка меліяратараў у Нежынскім с/с, на масіве Мар'інскіх балот. У 1929 г. сюды (раён Х.Опін) прыбыло каля 400 дэмабілізаваных чырвонаармейцаў і малодшых камандзіраў 7-й Самарскай, 2-й Беларускай і 6-й Чангарскай кавалерыйскіх дывізій Бел. ваеннай акругі (БВА) з мэтай асушэння балот і стварэння гаспадаркі для забеспячэння кармамі кавалерыйскіх часцей. Узначальваў групу Э.Н.Модзін, да якой далучыліся каля 130 камсамольцаў Любаншчыны. Яны засеялі больш за 350 га тарфянікаў. У 1930 г. камунары атрымалі ад ням. рабочых трактар «Картэпілер». У 1932 г. на базе камуны быў створаны калгас імя БВА, працавалі лесапільны і масласыраробны з-ды, кузня, паравы млын, дзіцячыя яслі, школа, хата-чытальня, медпункт, ветлячэбніца, хлебапякарня. З 26.7.1930 г. пасёлак у Нежынскім с/с Любанскага р-на Бабруйскай акругі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Да 1939 г. асвоена 1663 га тарфянікаў; у 1940 г. ў пасёлку 13 шматкватэрных і 50 аднакватэрных дамоў, дзіцячыя яслі, сярэдняя школа, клуб, радыёвузел, меліся электрычнае асвятленне, тэлеф. сувязь. У 1941 г. было 205 сем'яў, працавалі клуб, тэатр, харавы і муз. гурткі. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія двойчы (22.7.1941 г. і 2.6.1944 г.) спальвалі вёску. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 115 землякоў. З 16.7.1954 г. вёска, цэнтр сельсавета. У 1960 г. 911 жыхароў, у калгасе імя БВА. Спецыялізаваўся на вытв-сці мяса і малака, меў 5984 га сельгасугоддзяў, 33 трактары, 25 аўтамашын, 11 камбайнаў. У 1971 г. дзейнічалі дзіцячыя яслі-сад, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, камбінат быт. абслугоўвання, сталовая, магазін. У 1997 г. 280 гаспадарак, 757 жыхароў. У 2009 г. 255 гаспадарак, 645 жыхароў, цэнтр СВК «БВА». Працуюць дзіцячы сад, агульнаадукац. сярэдняя школа імя Я.Купалы, Дом культуры (і пры ім нар. майстэрня традыц. мастацтва «Матрушка»), фельч.-акушэрскі і комплексны прыёмны пункты, аддз. сувязі, 2 магазіны. Помнікі землякам, сав. воінам; мемарыяльная дошка ў гонар б. старшыні калгаса Героя Сац. Працы Ц.Я.Смірнова. Памятныя знакі: у сувязі са стварэннем калгаса імя БВА і ў гонар першага старшыні Э.Н.Модзіна; на месцы першага будынка школы; на месцы гібелі настаўніка школы С.І.Станкевіча; на месцы размяшчэння першай палаткі камунараў. Мемарыяльная дошка каля музея меліярацыі ў гонар знаходжання тут Я.Купалы; абеліск на кургане ў гонар 20-годдзя Перамогі (скрыжаванне дарог Сосны–Любань). Радзіма бел. спявачкі І.С.Шыкуновай (н. ў 1940 г.), бел. літаратуразнаўцы Л.С.Савік (н. ў 1936 г.). Прац. по-



*Э.Н.Модзін.*



*Л.С.Савік.*



*І.Шыкунова ў ролі Маргарыты (опера «Фауст» Ш.Гуно).*

дзвіг камунараў уславіў Я.Купала ў паэме «Над ракой Арэсай».

**КАНСТАНЦІНАЎКА** (да 1960 г. Серадзібар) — вёска ў Камунараўскім с/с. За 37 км на ПдУ ад г. Любань, 62 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 187 км ад Мінска. 116 гаспадарак, 244 жыхары (2011).

У 1909 г. хутары ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета. У 1924 г. ў Нежынскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутар Серадзібар — 3 двары, 15 жыхароў; хутар Малы Серадзібар — 9 жыхароў. У 1960 г. ў Камунараўскім с/с, вёска, 788 жыхароў, у калгасе «Кузьмічы». У 1997 г. 173 гаспадаркі, 430 жыхароў. У 2009 г. 125 гаспадарак, 272 жыхары, у складзе СВК «Кузьмічы». Працуюць бібліятэка-клуб, комплексны прыёмны пункт, магазін. Радзіма бел. гісторыка М.М.Крывальцэвіча (н. ў 1958 г.).

**КАСЦЮКІ** — вёска ў Тальскім с/с. За 5 км на З ад г. Любань, 20 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 155 км ад Мінска. 183 гаспадаркі, 448 жыхароў (2011).

Вядома з 16 ст. У 1566 г. сяло ў Слуцкім княстве, у складзе Ярэміцкай вол. (двара), уласнасць кн. Алелькавічаў, было 12 валок зямлі. З 1589 г. застаўная дзяржава ў слуцкіх купцоў Тышэвічаў; з 1621 г. ўласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1795 г. 157 жыхароў, карчма. З 1830-х г. уласнасць кн. Л.П.Вітгенштэйна; у 1834 г. 175 жыхароў. У сярэдзіне 19 ст. 50 двароў, дзейнічаў цагельны з-д. У 1888 г. ўласнасць Гогенлоэ, адкрыта школа граматы (у 1890 г. 22 хлопчыкі). Паводле перапісу 1897 г., 55 двароў, 417 жыхароў, хлебазапасны магазін, школа граматы. У 1909 г. вёска, 79 двароў, 506 жыхароў. У 1912 г. адкрыта земскае нар. вучылішча. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені (1 настаўнік, 49 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Любанскіх с/с і раёне Слуцкай акругі, 106 двароў, 525 жыхароў. Дзейнічалі некалькі доследных участкаў, дзе вялася работа па селекцыі ўраджайных гатункаў бульбы і збожжа, агародніны. У 1931 г. створаны калгас «Камсамолец» (свінагадоўчы), была кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 9 мірных жыхароў. У 1962 г. вёска, 136 двароў, 476 жыхароў, у калгасе «Беларусь». У 1980-я г. працавалі дзіцячы сад, няпоўная сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі і комплексны прыёмны пункты, магазін. У 1997 г. 215 гаспадарак, 570 жыхароў. У 2009 г. 189 гаспадарак, 464 жыхары, у складзе прыватнага УП «Таль-агра». Лясніцтва. Працуюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—агульнаадукац. базавая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін.

**КАСЦЯШЫ** — вёска ў Асавецкім с/с. За 21 км на У ад г. Любань, 38 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 169 км ад Мінска. 60 гаспадарак, 89 жыхароў (2011).

Вядома з 16 ст. У 1566 г. сяло Касцяшэвічы ў Ярэміцкай вол. Слуцкага княства Алелькавічаў, з 1589 г. дзяржава слуцкіх купцоў Тышэвічаў, у 17—18 ст. уласнасць Радзівілаў. У 1795 г. ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, 68 жыхароў. У пач. 19 ст. вёска ў маёнтку Пасека, уласнасць Радзівілаў, працаваў цагельны з-д. У 1834 г. 23 двары, 117 жыхароў, уласнасць кн. Л.П.Вітгентшэйна. У 1844 г. ў Асавецкай вол. Бабруйскага павета. У 1847 г. арэнда Касабуцкіх, 19 двароў, 105 жыхароў, 7 валок сядзібнай зямлі, 9 коней, 43 валы; піцейны дом, кузня. З 1860-х г. уласнасць Гогенлоэ. Паводле перапісу 1897 г. ў Асавецкай вол. Бабруйскага павета, вёска, 62 двары, 351 жыхар, школа граматы (з 1890 г.). У 1909 г. 69 двароў, 395 жыхароў, цагельны з-д. З 20.8.1924 г. ў Асавецкім с/с Любанскага р-на Слуцкай



*М.М.Крывальцэвіч.*

акругі, 100 двароў, 497 жыхароў. У 1931 г. створаны калгас «Водны шлях», дзейнічалі конная крупадзёрка, ваўначоска, кузня, школа. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 21 мірнага жыхара. У 1962 г. 116 двароў, 471 жыхар, у калгасе «Світанне». У 1997 г. 92 гаспадаркі, 191 жыхар. У 2009 г. 62 гаспадаркі, 106 жыхароў, у складзе СВК «Асавец-агра». Працуе магазін. Магілы партызан Д.І.Даўгучыца, І.В.Шумчэні, М.С.Шылы.

**КАТОЎСКАЕ** — пасёлак у Рачэнскім с/с. За 9 км на ПдЗ ад г. Любань, 23 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 162 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2011).

У 1960 г. ў Рачэнскім с/с, пасёлак, 64 жыхары, у калгасе імя Калініна. У 1997 г. 8 гаспадарак, 15 жыхароў. У 2009 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў, у складзе СВК «Вобчын».

**КАЦЕНІН** — хутар у Рачэнскім с/с. За 17 км на ПдЗ ад г. Любань, 34 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 162 км ад Мінска.

У 1987 г. ў Рачэнскім с/с, пасёлак, 1 двор, 4 жыхары, у калгасе імя Суворава. У 1997 г. 1 гаспадарка, 4 жыхары. У 2009 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе СВК «Рачэнь». Зараз на хутары ніхто не жыве.

**КРУКАВА** — пасёлак у Рачэнскім с/с. За 15 км на ПдЗ ад г. Любань, 32 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 169 км ад Мінска. 23 гаспадаркі, 37 жыхароў (2011).

Вядомы з канца 18 ст. У 1795 г. ў Слуцкім павеце, в. Крукі, жыла шляхта, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1909 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета, засценак, 12 двароў, 108 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 81 жыхар, у калгасе імя Суворава. У 1997 г. 29 гаспадарак, 45 жыхароў. У 2009 г. 57 гаспадарак, 108 жыхароў, у складзе СВК «Рачэнь».

**КРУПЕНІКІ** — вёска ва Урэцкім с/с. За 25 км на ПнЗ ад г. Любань, 5 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 181 км ад Мінска. 61 гаспадарка, 117 жыхароў (2011).

У 1909 г. вёска ў Горкаўскай вол. Бабруйскага павета. У 1924 г. вёска ва Урэцкім с/с Любанскага р-на, 35 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1987 г. 105 двароў, 247 жыхароў, у саўгасе «Урэцкі». У 1997 г. 97 гаспадарак, 206 жыхароў. У 2009 г. 57 гаспадарак, 108 жыхароў, у складзе СВК «Урэцкі». Працуе магазін.

**КРЫВАЛЬ** — вёска ў Асавецкім с/с. За 19 км на ПнУ ад г. Любань, 36 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 173 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2011).

Недалёка ад вёскі знаходзіцца археал. помнік — курганны могільнік, што сведчыць аб засяленні гэтай тэр. ў далёкім мінулым. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1909 г. як засценак у Асавецкай вол. Бабруйскага павета, 24 двары, 212 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Асавецкім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, 36 двароў, 212 жыхароў. У 1931 г. створаны калгас «Прафінтэрн» (насенняводчы), была кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 3 мірных жыхароў. У 1960 г. вёска, 115 жыхароў, у калгасе «Світанне». У 1997 г. 16 гаспадарак, 23 жыхары. У 2009 г. 5 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе СВК «Асавец-агра».

**КРЫВОРТАВА** — пасёлак у Рачэнскім с/с. За 21 км на ПдЗ ад г. Любань, 17 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 172 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2011).

У 1960 г. ў Рачэнскім с/с, пасёлак, 37 жыхароў, у калгасе «Будаўнік». У 1997 г.

2 гаспадаркі, 4 жыхары. У 2009 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе СВК «Рачэнь».

**КРЫНІЧНАЕ** (да 1969 г. Храсты) — пасёлак у Рачэнскім с/с. За 8 км на ПдЗ ад г. Любань, 23 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 164 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 25 жыхароў (2011).

У 1960 г. п. ў Рачэнскім с/с, г.п. Храсты, 70 жыхароў, у калгасе імя Калініна. У 1997 г. 13 гаспадарак, 40 жыхароў. У 2009 г. 12 гаспадарак, 29 жыхароў, у складзе СВК «Вобчын».

**КУЗЬМІЧЫ** — вёска ў Камунараўскім с/с. За 32 км на Пд ад г. Любань, 57 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 184 км ад Мінска. 338 гаспадарак, 849 жыхароў (2011).

Вядома з 16 ст. У 1566 г. сяло ў Скавышынскай вол. Слуцкага княства, шляхецкая ўласнасць, 15 служб. У 1795 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., арэнднае ўладанне аканома С.Хацяноўскага. У 1834 г. ўласнасць кн. Л.П.Вітгенштэйна, 108 рэвізскіх душ; фундуш тут мела Слуцкая Варварынская царква, часткай сяла валодаў шляхціц І.Некрашэвіч, затым — М.Чыж і А.Дабравольская. У сярэдзіне 19 ст. ў маёнтку Дзякавічы Мазырскага павета, вёска, 34 двары, 245 жыхароў. У 1858 г. аднайменныя казённы маёнтак і с. Кузьмічы. У 1866 г. ў сяле 25 двароў, 120 жыхароў, царква, вадзяны млын. З 1870 г. вёска ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, затым у Дзякавіцкай вол. Мазырскага павета, 111 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г., вёска ў Дзякавіцкай вол. Мазырскага павета, 105 двароў, 694 жыхары, царква, хлебазапасны магазін, піцейны дом; вёска ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, 37 двароў, 273 жыхары, хлебазапасны магазін; в. Кузьмічы (яна ж Замхом), 29 двароў, 191 жыхар. У 1908 г. вёскі: ў Бабруйскім павеце — 59 двароў, 311 жыхароў; у Мазырскім павеце — 107 двароў, 661 жыхар. Працавала земскае нар. вучылішча (у 1906 г.). На пач. 1920-х г. вёска — 1078 жыхароў, хутар — 463 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Нежынскім с/с Любанскіх р-на і акругі, вёскі Кузьмічы 1 — 37 двароў, 214 жыхароў, Кузьмічы 2 — 78 двароў, 407 жыхароў. Дзейнічала школа 1-й ступені, у якой у 1924/25 навуч. годзе займаліся 64 вучні (з іх 18 піянераў). У 1928—35 гг. вёска, цэнтр сельсавета таго ж раёна. У 1929 г. створаны калгас «Новае жыццё», была кузня, у 1936 г. — Палеская МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія размясцілі ў вёсцы гарнізон, а ў 1942 г. часткова спалілі яе. Значная частка моладзі вёскі ў 1943 г. ўступіла ў партыз. атрад імя Каліноўскага брыгады 25-й імя Панамарэнкі. У лютым 1942 г. партыз. атрады пад камандаваннем А.І.Далідовіча і А.І.Патрына разграмілі фаш. гарнізон. За час акупацыі ў вёсцы былі загублены 42 мірныя жыхары. Вызвалена 30.6.1944 г. пасля вайны адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Камунараўскім с/с. У 1960 г. вёска, 1612 жыхароў, цэнтр калгаса «Кузьмічы». У 1980-я г. меў 4948 га ўгоддзяў, 13 трактароў, 15 аўтамашын, 9 камбайнаў. Працавалі сярэдняя школа, клуб, б-ка, бальніца, аддз. сувязі, сталовая, магазін. У 1997 г. 440 гаспадарак, 1147 жыхароў. У 2009 г. 366 гаспадарак, 922 жыхары, цэнтр СВК «Кузьмічы». Працуюць дзіцячы сад, агульнаадукац. сярэдняя школа, Дом культуры, амбулаторыя, аддз. сувязі, 2 магазіны. Стэла ў гонар памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.



*А.І.Далідовіч.*

**КУПНІКІ** — вёска ў Юшкавіцкім с/с. За 14 км на ПнЗ ад г. Любань, 14 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 157 км ад Мінска. 29 гаспадарак, 54 жыхары (2011).

Паводле перапісу 1897 г., урочышча ў Пагосцкай вол. Слуцкага павета, 9 жыхароў. У 1909 г. засценак, 19 двароў, 113 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Юшкавіц-

кім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, вёска, 39 двароў, 171 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 121 жыхар, у калгасе «Ленінскі шлях». У 1976 г. да вёскі далучана в. Мардзвілавічы. У 1997 г. 37 гаспадарак, 91 жыхар. У 2009 г. 29 гаспадарак, 58 жыхароў, у складзе СВК «БВА». Працуе магазін.



*І.М.Раманава.*

**КУЦЕНКА** — вёска ў Камунараўскім с/с. За 34 км на ПдУ ад г. Любань, 59 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 172 км ад Мінска. 27 гаспадарак, 39 жыхароў (2011).

У канцы 19 ст. ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, хутар Куценка 1 (3 двары, 27 жыхароў) і ўрочышча Куценка 2 (яно ж Казіны Рог). У 1909 г. хутар, 3 двары, 23 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Рэдкавіцкім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутары Казіны Рог — 3 двары, 20 жыхароў; Куценка — 3 двары, 19 жыхароў; засценак Куценка — 11 двароў, 64 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950-я г. ў Камунараўскім с/с. У 1962 г. 72 двары, 314 жыхароў, у калгасе імя БВА. У 1997 г. 50 гаспадарак, 95 жыхароў.

**ЛІСЦЁНКА** (у 1909—20-я г. Каромка) — вёска ў Ляхаўскім с/с. За 22 км на Пд ад г. Любань, 37 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 177 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2011).

У канцы 19 ст. ўрочышча ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, 16 жыхароў. У 1909 г. 10 двароў, 53 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Рэдкавіцкім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, засценак, 16 двароў, 98 жыхароў. У 1931 г. створаны калгас «Перамога» (з в. Жораўка). У 1941 г. вёска, 17 двароў, 55 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1944 г. спалілі яе. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. ў Турокскім с/с, вёска, 134 жыхары, у калгасе імя Я.Д.Гарбачова. З 1990-х г. у Ляхаўскім с/с. У 1997 г. 53 гаспадаркі, 113 жыхароў. У 2009 г. 9 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе СВК «Юрковічы». Працуе Дом сац. паслуг. Радзіма бел. гісторыка І.М.Раманавай (н. ў 1973 г.).

**ЛЯСКІ** — вёска ва Урэцкім с/с. За 29 км на ПнЗ ад г. Любань, 13 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 146 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 21 жыхар (2011).

У канцы 19 ст. фальварак у Пагосцкай вол. Слуцкага павета, 4 жыхары. У 1909 г. 11 двароў, 62 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Дарасінскім с/с Слуцкіх р-на і акругі, засценак, 13 двароў, 37 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 25.12.1962 г. ў Любанскім р-не. У 1960 г. ў Дарасінскім с/с, вёска, 97 жыхароў, у калгасе «Дружба». У 1997 г. 14 гаспадарак, 28 жыхароў. З 2006 г. ва Урэцкім с/с. У 2009 г. 9 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе СВК «Урэцкі».

**ЛЯХАЎКА** — вёска, цэнтр Ляхаўскага с/с. За 20 км на Пд ад г. Любань, 37 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы. 33 гаспадаркі, 64 жыхары (2011).

Недалёка ад вёскі размешчаны археал. помнік — курганны могільнік, што сведчыць аб засяленні гэтай тэр. ў далёкім мінулым. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1834 г. ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, вёска, 136 дзес. зямлі, уласнасць кн. Л.П.Вітгенштэйна. У 1909 г. засценак Ляхаўка Новая, 16 двароў, 102 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Турокскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутар Новая Ляхаўка, 26 двароў, 173 жыхары. У 1931 г. створаны калгас «Перамога» (свінагадоўчы), былі кузня, паравы млын. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З ліст. 1941 г. ў Любанскай партыз. зоне. На тэрыторыі

сельсавета базіравалася партызанская брыгада 25-я імя Панамарэнкі. Вызвалена 30.6.1944 г. На франтах і ў барацьбе з ворагам загінулі 72 землякі. У 1962 г. вёска, 55 двароў, 234 жыхары, у калгасе «Перамога». Дзейнічалі дзіцячы сад, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт. У 1980-я г. меў 3959 га сельгасугоддзяў, 42 трактары, 27 аўтамашын, 18 камбайнаў. Працавалі сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі і комплексны прыёмны пункты, магазін. У 1997 г. 53 гаспадаркі, 113 жыхароў. У 2009 г. 35 гаспадарак, 72 жыхары, цэнтр СВК «Жораўка». Працуюць Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Помнік на брацкай магіле падпольшчыкаў; мемарыяльная дошка ў гонар партыз. брыгады 25-й імя Панамарэнкі.

У складзе сельсавета 17 вёсак.

**МАЛЫЯ ГАРАДЗЯЦІЧЫ** – вёска, цэнтр Малагарадзяціцкага с/с, на р. Арэса. За 42 км на ПдУ ад г. Любань, 67 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 194 км ад Мінска, на аўтадарозе Любань–Сялец–Прыклінец. 262 гаспадаркі, 631 жыхар (2011).

Вядома з пач. 19 ст. ў складзе фальварка Замосце маёнтка Гарадзятычы, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1811 г. 21 двор, 94 душы. У 1815 г. 95 душ мужчынскага полу. З 1832 г. ўласнасць кн. Л.П.Вітгенштэйна. З 1838 г. ў арэндзе (на 12 гадоў) у Р.Калянчынскага, заезны дом, 23 двары, 161 жыхар. Сяляне мелі 5 коней, 36 валоў (1843). У 1859 г. цераз р. Арэсу адчынена паромная пераправа. У 1866 г. ў Мазырскім павеце Мінскай губ., вёска, 23 двары, 244 жыхары, Мікалаеўская царква, касцёл. У 1870 г. ў Камаровіцкай вол. Мазырскага павета, сяло, 22 двары, 226 жыхароў, праваслаўная царква, нар. вучылішча (засн. ў 1871 г.). Паводле перапісу 1897 г., 56 двароў, 386 жыхароў, царк.-прыходская школа (з 1887 г.; настаўнік святар А.Сухадольскі), царква, хлебазапасны магазін, малітоўная школа; дзейнічаў дзягцярны з-д (засн. ў 1883 г.), дзе штогод выраблялася 800 вядзёр дзёгцю на суму 600 руб. Побач быў маёнтак Гарадзяцічы, 28 жыхароў, капліца. У 1909 г. 89 двароў, 487 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Петрыкаўскага р-на Мазырскай акругі, 596 жыхароў (1924), працавала школа 1-й ступені (у царк. доме). З 21.8.1925 г. ў Любанскім р-не Бабруйскай акругі. У ліст. 1929 г. створаны калгас «Чырвонае Палессе» (жывёлагадоўчы; 67 гаспадарак, 332 чал.); сельсавет меў тэлеф. сувязь. У 1932 г. арганізавана арцель па вырабе з чароту «Новы будаўнік», былі ваўначоска, кузня, дзіцячыя яслі, фельч. пункт (у калгасе). У 1941 г. 152 двары, 607 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З ліст. 1941 г. ў Любанскай партыз. зоне, працаваў сельсавет. Да ліп. 1943 г. значная частка моладзі аб'ядналася з партыз. атрадам імя Д.Давыдава брыгады 121-й імя Брагіна. У пач. лютага 1944 г. ў ходзе жорсткіх баёў загінулі 42 жыхары. Вызвалена 30.6.1944 г. У 1960 г. пасёлак, 1174 жыхары, цэнтр саўгаса «Гарадзяцічы»; у сельсавеце 3858 жыхароў. У 1980-я г. саўгас спецыялізаваўся на вытв-сці мяса і малака, меў 4948 га сельгасугоддзяў, 18 трактароў, 17 аўтамашын, 11 камбайнаў. У вёсцы працавалі дзіцячыя яслі-сад, сярэдняя школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, камбінат быт. абслугоўвання, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, магазін. У 1997 г. 324 гаспадаркі, 842 жыхары. У 2009 г. 275 гаспадарак, 650 жыхароў, цэнтр с.-г. філіяла «Гарадзяцічы» ААТ «Любанскі райаграсэрвіс». З 2011 г. аграгарадок. Лясніцтва. Працуюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад–агульна-адукац. сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт, аддзяленні сувязі і «Беларусбанка», 2 магазіны; аддзел Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Дзейнічае пра-

васлаўная царква. Помнік землякам; магіла партызана М.Д.Сліўца.

У складзе сельсавета 5 вёсак і 5 пасёлкаў.

**МАСТЫ** — пасёлак у Рачэнскім с/с. За 20 км на ПдЗ ад г. Любань, 16 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы. 22 гаспадаркі, 31 жыхар (2011).

У 1917 г. хутар у Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета, 8 двароў, 30 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў Рачэнскім с/с, пасёлак, 121 жыхар, у калгасе «Будаўнік». У 1997 г. 55 гаспадарак, 105 жыхароў. У 2009 г. 29 гаспадарак, 44 жыхары, у складзе СВК «Рачэнь».

**НАЎГАЛЬНАЕ** — вёска ў Асавецкім с/с. За 18 км на У ад г. Любань, 35 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 168 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2011).

У 1909 г. засценак у Асавецкай вол. Бабруйскага павета, 13 двароў, 61 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Ямінскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутар, 11 двароў, 77 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 3 жыхароў. У 1960 г. вёска, 82 жыхары, у калгасе «Світанне». У 1997 г. 8 гаспадарак, 13 жыхароў. З 2006 г. ў Асавецкім с/с. У 2009 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў, у складзе СВК «Асавец-агра».

**НАЛЕС** — пасёлак у Рачэнскім с/с. За 8 км на ПдЗ ад г. Любань, 20 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 161 км ад Мінска. 19 гаспадарак, 30 жыхароў (2011).

У 1960 г. ў Рачэнскім с/с, пасёлак, 97 жыхароў, у калгасе імя Калініна. У 1997 г. 25 гаспадарак, 52 жыхары. У 2009 г. 19 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе СВК «Вобчын».

**НЕВАЛОЖ** — вёска ў Юшкавіцкім с/с. За 17 км на ПнЗ ад г. Любань, 14 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 165 км ад Мінска. 62 гаспадаркі, 99 жыхароў (2011).

Недалёка ад вёскі размешчаны археал. помнік — курганны могільнік (Шведскія магілы), што сведчыць аб засяленні гэтай тэр. ў далёкім мінулым. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1600 г. сяло ў Слуцкім княстве, 35 валок зямлі, шляхецкая ўласнасць. У 1800 г. ў Слуцкім павеце, в. Неваложа, 42 двары, 186 жыхароў, карчма, уласнасць Радзівілаў. У 1845 г. вёска ў складзе маёнтка Смольгава, уласнасць кн. Л.П.Вітгенштэйна, арэнда (на 12 гадоў) Ф.Навіцкай, 41 двор, 265 жыхароў; 12 коней; кожны сял. двор павінен быў дастаўляць на Урэцкі шклозавод 1 асьміну (≈105 л) попелу на год. У 1870 г. ў Пагосцкай вол. Слуцкага павета, вёска, 130 рэвізскіх душ. Працавала царк.-прыходская школа (у 1863 г. 15 хлопчыкаў, 8 дзяўчынак). У 1889 г. адчынена школа граматы (у 1890 г. 12 хлопчыкаў). Вёска вызначалася рамяством па апрацоўцы каменю. Паводле перапісу 1897 г., 515 жыхароў, 72 двары, хлебазапасны магазін, капліца. У 1909 г. 89 двароў, 629 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Юшкавіцкім с/с Любанскага р-на, вёска, 124 двары, 645 жыхароў, адкрыта школа 1-й ступені (будынак арэндны, за 30 пудоў жыта на год; 1 настаўнік, 53 вучні). У 1931 г. створаны калгас «Бальшавік» (свінагадоўчы), была кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 23 жыхароў. У 1962 г. 130 двароў, 248 жыхароў, у калгасе «Ленінскі шлях». У 1997 г. 85 гаспадарак, 191 жыхар. У 2009 г. 68 гаспадарак, 112 жыхароў, у складзе СВК «Забалоцкі». Працуе магазін.

**НЕЖЫН** (да 1950-х гг. Ніжын) — вёска ў Камунараўскім с/с. За 26 км на Пд ад г. Любань, 61 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы. 124 гаспадаркі, 287 жыхароў (2011).

Вядома з канца 18 – пач. 19 ст. як фальварак і в. Ніжын у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, уласнасць К.Алендскай. Пасля яе смерці за даўгі ў 1807 г. судом маёнтак (40 валок зямлі, у т.л. ворыва 3 валокі) падзелены паміж яе крэдыторамі. Сяляне атрымалі па 45 моргаў зямлі на двор (30 дзес.), адбывалі паншчыну, давалі дзякла: 1 курыцу, 10 яек, па 2 асьміны (≈210 л) жыта і аўса, 8 злотых чыншу, 10 злотых арэнды, капу грыбоў (60 шт.). У 1834 г. 87 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1844 г. уласнасць К.Яленскага, 33 рэвізскія душы. Сяляне адбывалі паншчыну, давалі дзякла (мелі 17 валоў). У 1845 г. было 1324 дзес. зямлі, уласнасць І.Казакевіча. У 1886 г. ў Забалоцкай вол. Слуцкага павета, каля р. Арэса, сяло, 34 двары, 200 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г., 46 двароў, 401 жыхар, 4 ветракі, хлебазапасны магазін, царква, заезны дом. У 1911 г. адчынена земская школа. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Любанскага р-на (у 1928 – 35 гг. в. Кузьмічы). У 1924 г. было 74 двары, 386 жыхароў, дзейнічала школа 1-й ступені (будынак арэндны, за 30 пудоў жыта на год; 1 настаўнік, 48 вучняў). У 1929 г. створаны калгас «12 гадоў Кастрычніка», працавалі дзіцячыя яслі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У канцы ліп. 1941 г. была створана камсамольска-маладзёжная падп. група на чале з настаўніцай школы Ф.Г.Конанавай, якая ў 1942 г. была схоплена фашыстамі і закатавана. 13.12.1941 г. партыз. атрады пад камандаваннем А.І.Далідовіча і М.М.Розава разграмілі каля вёскі карны атрад фашыстаў, вораг страціў 28 салдат і афіцэраў. Вызвалена 30.6.1944 г. З 16.7.1954 г. ў Камунараўскім с/с. У 1960 г. вёска, 720 жыхароў, у калгасе імя БВА. Дзейнічалі сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. У 1997 г. 170 гаспадарак, 446 жыхароў. У 2009 г. 132 гаспадаркі, 331 жыхар, у складзе СВК «БВА». Працуюць агульнаадукац. базавая школа, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Помнік Ф.Г.Конанавай.

**НОВАЯ ДУБРОВА** – вёска ў Рачэнскім с/с. За 22 км на ПдЗ ад г. Любань, 18 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 170 км ад Мінска. 66 гаспадарак, 121 жыхар (2011).

Вядома з 16 ст. ў 1566 г. ў Скавышынскай вол. Слуцкага павета, с. Дубровы, шляхецкая ўласнасць. У канцы 18 ст. фальварак і вёска ў маёнтку Ярэмічы, уласнасць Радзівілаў, потым – Л.П.Вітгенштэйна. У 1844 г. вёскі Старая і Новая Дуброва ў маёнтку Рудабелка барона Урангеля, 111 рэвізскіх душ. У 1847 г. в. Дуброва купіў за 250 рублёў серабром Р.Абуховіч у Марыі Казлоўскай. У сярэдзіне 19 ст. фальварак і в. Дуброва, 43 двары, 82 рэвізскія душы. У 2-й пал. 19 ст. ў валоданні землеўласнікаў Ф.Кучынскага (110 дзес.), А.Абуховіча (344 дзес.); у 1887 г. быў вятрак. У 1909 г. засценак Дуброва Новая ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, 10 двароў, 61 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Тальскім с/с, хутар, 14 двароў, 100 жыхароў. У 1931 г. створаны калгас «Чырвоны Бор» (жывёлагадоўчы), была кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захоп-



*Ф.Г.Конанава.*



*Моладзь у час Русальнага тыдня ў в. Нежын.*

нікамі, якія загубілі 3 жыхароў. З 28.7.1954 г. ў Рачэнскім с/с. У 1960 г. в. Новая Дуброва, 430 жыхароў, у калгасе імя Гуляева. У 1997 г. 102 гаспадаркі, 225 жыхароў. У 2009 г. 68 гаспадарак, 126 жыхароў, у складзе СВК «Атраднае-агра». Працуюць 2 магазіны. Радзіма бел. канструктара сродкаў аўтаматызацыі мікраэлектронікі М.С.Калядкі (н. ў 1944 г.).



*М.С.Калядка.*

**НОВЫЯ ЮРКОВІЧЫ** — вёска ў Ляхаўскім с/с. За 11 км на Пд ад г. Любань, 27 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 167 км ад Мінска. 33 гаспадаркі, 50 жыхароў (2011).

Сучасная вёска склалася на землях б. фальварка Юрковічы. Паводле перапісу 1897 г., тут 5 двароў, 27 жыхароў. У 1924 г. в. Нова-Юрковічы ў Турокскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, 40 двароў, 238 жыхароў. У 1929 г. створаны калгас «Стальны конь» (свінагадоўчы), была кузня. У 1941 г. 50 двароў, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску. На фронце ў снежні 1943 г. часткова спалена, у маі загінулі 7 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. вёска, 264 жыхары, у калгасе імя Гарбачова. У 1997 г. 60 гаспадарак, 106 жыхароў. У 2009 г. 38 гаспадарак, 58 жыхароў, у складзе СВК «Юрковічы». Працуе магазін. Радзіма Героя Сац. Працы Н.Р.Герман (1920—95).



*М.К.Рагоўскі.*

**НЯЖАРАЎКА** — вёска ва Урэцкім с/с. За 25 км на ПнЗ ад г. Любань, 9 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 150 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 18 жыхароў (2011).

У 1908 г. засценак у Пагосцкай вол. Слуцкага павета, 14 двароў, 110 жыхароў. У 1917 г. існаваў хутар, 7 двароў, 46 жыхароў. З 20.8.1924 г. хутары ва Урэцкім (4 двары, 44 жыхары) і Дарасінскім (34 двары, 202 жыхары) сельсаветах. У 1929 г. ў калгасе «Чырвоная Зорка». У Вял. айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962 г. ў Дарасінскім с/с, вёска, 245 жыхароў, у саўгасе «Урэцкі». У 1980-я г. ва Урэцкім с/с. У 1997 г. 39 гаспадарак, 52 жыхары. У 2009 г. 20 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе СВК «Урэцкі». Працуе Дом сац. паслуг. Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы М.К.Рагоўскага (1925—81).

**ПАГАРЭЛКА** — пасёлак у Рачэнскім с/с. За 19 км на ПдЗ ад г. Любань, 22 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 172 км ад Мінска. 16 гаспадарак, 23 жыхары (2011).

У 1909 г. хутар Пагарэлы ў Лясковіцкай вол. Бабруйскага павета. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. Пагарэлкі ў Рачэнскім с/с, пасёлак, 129 жыхароў, у калгасе «Будаўнік». У 1997 г. 29 гаспадарак, 51 жыхар. У 2009 г. 18 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе СВК «Рачэнь».

**ПАДГАЙ** — пасёлак у Рачэнскім с/с. За 15 км на ПдЗ ад г. Любань, 26 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы. 173 км ад Мінска. 21 гаспадарка, 31 жыхар (2011).

У 1960 г. ў Рачэнскім с/с, пасёлак, 119 жыхароў, у калгасе імя Суворава. У 1997 г. 40 гаспадарак, 80 жыхароў. У 2009 г. 24 гаспадаркі, 40 жыхароў, у складзе СВК «Рачэнь».

**ПАДГАЛЛЕ** — пасёлак у Малагарадзяціцкім с/с. За 30 км на Пд ад г. Любань, 47 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы. 5 гаспадарак, 10 жыхароў (2011).

Назва паходзіць ад тэрміна «гала», што значыць адкрытае голае месца. У 1908 г. хутар у Камаровіцкай вол. Мазырскага павета, 4 двары, 22 жыхары. У 1921 г. 5 двароў, 34 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Малагарадзяціцкім с/с Петрыкаўскага р-на Мазырскай акругі, хутар, 91 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1962 г. ў Малагарадзяціц-

кім с/с Любанскага р-на, пасёлак, 199 двароў, 264 жыхары, у саўгасе «Калінаўка». У 1997 г. 10 гаспадарак, 25 жыхароў. У 2009 г. 5 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Калінаўка» ААТ «Любанскі райаграсэрвіс».

**ПАДЛЕСКІ** – пасёлак у Рачэнскім с/с. За 16 км на ПдЗ ад г. Любань, 21 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 165 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 24 жыхары (2011).

У 1960 г. ў Рачэнскім с/с, пасёлак, 56 жыхароў, у калгасе імя Суворава. У 1997 г. 28 гаспадарак, 51 жыхар. У 2009 г. 16 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе СВК «Рачэнь».

**ПАДЛУГ** – пасёлак у Соснаўскім с/с. За 42 км на Пд ад г. Любань, 59 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 189 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 22 жыхары (2011).

У 1-й пал. 19 ст. маёнтак і вёска Падлужжа ў Лясковіцкай вол. Бабруйскага павета. У 1844 г. ўласнасць Шпакоўскіх, Плышэўскіх (8 рэвізскіх душ); у 1880-я г. ўласнасць Бузаноўскіх (24 дзес.), Плышэўскіх (40 дзес.). Паводле перапісу 1897 г., 2 хутары, 6 двароў, 46 жыхароў. У 1917 г. вёска. З 20.8.1924 г. ў Загальскім с/с Глускага р-на Бабруйскай акругі. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1.4.1960 г. ў Соснаўскім с/с, пасёлак, 308 жыхароў, у саўгасе «Загальскі». У 1997 г. 36 гаспадарак, 56 жыхароў. У 2009 г. 17 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе будаўнічага ўпраўлення «Загальскі» ААТ «МАПІД».

**ПАЖАРЫШЧА** – пасёлак у Рачэнскім с/с. За 7 км на ПдУ ад г. Любань, 24 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 172 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2011).

У 1960 г. пасёлак у Рачэнскім с/с, 85 жыхароў, у калгасе «Будаўнік». У 1997 г. 8 гаспадарак, 18 жыхароў. У 2009 г. 4 гаспадаркі, 4 жыхары, у складзе СВК «Рачэнь».

**ПАЛІЧНАЕ** – вёска ў Сароцкім с/с. За 7 км на ПдУ ад г. Любань, 24 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 160 км ад Мінска. 23 двары, 34 жыхары (2011).

У 1909 г. маёнтак у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, 12 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Любанскіх с/с і раёне Слуцкай акругі, хутар, 13 двароў, 69 жыхароў. У 1933 г. створаны калгас «Новае Палічнае», была кузня. У 1940 г. вёска, 158 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962 г. 52 двары, 207 жыхароў, у калгасе «Чырвоная змена». У 1997 г. 34 двары, 66 жыхароў. У 2009 г. 24 гаспадаркі, 34 жыхары, у складзе СВК «Чырвоная змена імя К.І.Шаплыкі».

**ПАЛІЧЫН** – вёска ў Малагарадзяціцкім с/с. За 30 км на Пд ад г. Любань, 47 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 185 км ад Мінска. 179 гаспадарак, 474 жыхары (2011).

У 1908 г. хутар у Камаровіцкай вол. Мазырскага павета, 3 двары, 19 жыхароў. У 1924 г. ў Малагарадзяціцкім с/с, 78 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З ліст. 1941 г. ўваходзіла ў Любанскую партыз. зону. У чэрв. 1943 г. ў вёсцы адбылося пасяджэнне сесіі Любанскага раённага Савета дэпутатаў працоўных. Вызвалена 30.6.1944 г. У 1962 г. 73 двары, 293 жыхары, у саўгасе «Калінаўка». Працавалі дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка. У 1997 г. 206 гаспадарак, 635 жыхароў. У 2009 г. 190 гаспадарак, 505 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Калінаўка» ААТ «Любанскі райаграсэрвіс». Працуюць дзіцячы сад, агульнаадукац. сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, магазін. Помнік землякам. Мемарыяльная дошка ў гонар камсамольскай канферэнцыі Мінскага падп. абкама камсамола (235 дэлегатаў).

**ПАЎДНЁВАЕ ВОЛАЕ** – пасёлак у Рачэнскім с/с. За 14 км на ПдЗ ад г. Любань, 29 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы–Асіповічы, 161 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2011).

Склаўся да 1930-х г. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. ў Рачэнскім с/с, пасёлак, 20 двароў, 44 жыхары. У 1996 г. 8 гаспадарак, 13 жыхароў. У 2009 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў, у складзе СВК «Вобчын».

**ПАЎНОЧНАЕ ВОЛАЕ** – пасёлак у Рачэнскім с/с. За 4 км на ПдЗ ад г. Любань, 29 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы–Асіповічы, 160 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 17 жыхароў (2011).

У 1909 хутар Волае ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, 3 двары, 14 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Любанскіх с/с і раёне Слуцкай акругі, хутар, 3 двары, 18 жыхароў. У 1930-я г. склаўся пасёлак. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 11 двароў, 24 жыхары, у калгасе імя Калініна. У 1996 г. 16 гаспадарак, 31 жыхар. У 2009 г. 14 гаспадарак, 16 жыхароў. у складзе СВК «Вобчын».

**ПЕКЛІЧЫ** – вёска ў Асавецкім с/с. За 11 км на ПнУ ад г. Любань, 28 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 162 км ад Мінска. 68 гаспадарак, 130 жыхароў (2011).

Згадваецца ў 1687 г. як вёска, уласнасць царквы. У 1732 г. ў складзе маёнтка Чабусы ў Бабруйскім павеце, 29 дымоў, уласнасць царквы, пазней Радзівілаў. У сярэдзіне 19 ст. вёска, 21 двор, 145 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г., у Асавецкай вол. Бабруйскага павета, 68 двароў, 444 жыхары, хлебазапасны магазін, заезны дом. У 1909 г. 84 двары, 504 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Асавецкім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, вёска, 113 двароў, 678 жыхароў. У 1932 г. створаны калгас «Шлях сацыялізму» (свінагадоўчы), была кузня, працавала школа. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі яе. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. вёска, 521 жыхар, у калгасе «Світанне». У 1997 г. 108 гаспадарак, 263 жыхары. У 2009 г. 74 гаспадаркі, 151 жыхар, у складзе СВК «Асавец-агра». Працуюць Дом сац. паслуг, магазін.

**ПЕРАТОК** – вёска ў Тальскім с/с. За 8 км на ПнЗ ад г. Любань, 15 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 148 км ад Мінска. 46 гаспадарак, 65 жыхароў (2011).

У 1909 г. хутар у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, 2 двары, 8 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Нежынскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутар, 6 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 3 жыхароў. У 1962 г. 48 двароў, 179 жыхароў, у калгасе «Беларусь». У 2009 г. 53 гаспадаркі, 76 жыхароў, у складзе вытв. УП «Таль-агра». Працуюць Дом сац. паслуг, магазін.

**ПЕСЧАНЕЦ 1** – вёска ў Ляхаўскім с/с. За 17 км на Пд ад г. Любань, 35 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2011).

У 1909 г. в. Песчанец у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, 15 двароў, 38 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Турокскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутар Песчанец 1, 24 двары, 119 жыхароў. З 1931 г. да 16.7.1954 г. вёска – цэнтр Турокскага с/с, у калгасе «Пражэктар». У 1941 г. 22 двары, 104 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску. На фронце загінулі 4 мірныя жыхары. Пасля вайны адбудавана. У 1962 г. вёска, 35 двароў, 129 жыхароў, у калгасе «Перамога». У 1997 г. 21 гаспадарка, 37 жыхароў. У 2009 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе СВК «Вобчын».

**ПЕСЧАНЕЦ 2** — вёска ў Ляхаўскім с/с. За 20 км на Пд ад г. Любань, 37 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 170 км ад Мінска. 25 гаспадарак, 49 жыхароў (2011).

У 1909 г. засценак у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, 3 жыхары. З 20.8. 1924 г. ў Турокскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутар Песчанец 2, 16 двароў, 118 жыхароў. У 1938 г. вёска, 29 двароў, 76 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962 г. 54 двары, 110 жыхароў, у калгасе «Перамога». З 16.8.1973 г. ў Ляхаўскім с/с. У 1997 г. 52 гаспадаркі, 96 жыхароў. У 2009 г. 29 гаспадарак, 53 жыхары, у складзе СВК «Вобчын». Працуюць Дом сац. паслуг, магазін.

**ПЛАСТОК** — вёска ў Асавецкім с/с. За 15 км на У ад г. Любань, 32 км ад чыг. ст. Урэчча, на лініі Асіповічы—Баранавічы, 165 км ад Мінска. 136 гаспадарак, 318 жыхароў (2011).

Вядома з 16 ст. У 1566 г. сяло ў Слуцкім княстве, уласнасць праваслаўнай царквы, 4,5 службы. У пач. 19 ст. ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, у маёнтку Чабусы. З сярэдзіны 19 ст. ўласнасць казны; 22 двары, 139 жыхароў (1850). У 1870 г. ў Асавецкай вол. таго ж павета, вёска, 71 рэвізская душа дзярж. сялян, 2 аднадворцы. Паводле перапісу 1897 г., 56 двароў, 357 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. вёска, 60 двароў, 413 жыхароў. У 1916 г. 84 двары, 457 жыхароў, земскае нар. вучылішча (засн. ў 1910 г.). З 20.8.1924 г. ў Ямінскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, 122 двары, 624 жыхары, працавала школа 1-й ступені (будынак арэндны — за 45 пудоў жыта на год; 1 настаўнік, 50 вучняў). У 1927 г. створаны калгас «Іскра» (аб'ядноўваў 12 гаспадарак), былі кузня, ваўначоска, дзіцячыя яслі. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; уваходзіла ў Любанскую партыз. зону. Да вясны 1942 г. дзейнічала падп. патрыят. група на чале з камуністам Г.М.Гальчэняй. У маі 1943 г. частка насельніцтва вёскі ўлілася ў партыз. атрад імя Лазо брыгады 100-й імя Кірава. Вызвалена 30.6. 1944 г. На фронце загінулі 42 мірныя жыхары. У 1960 г. вёска, 548 жыхароў, у калгасе «Світанне». Працавалі сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. У 1997 г. 18 гаспадарак, 498 жыхароў. У 2009 г. 151 гаспадарка, 354 жыхары, у складзе СВК «Асавец-агра». Працуюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—агульнаадукац. базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Помнік землякам. Радзіма Героя Сав. Саюза З.Р.Лышчэні (1917—45).


*З.Р.Лышчэня.*

**ПЛЮСНА** — вёска ў Асавецкім с/с. За 15 км на У ад г. Любань, 37 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 172 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 33 жыхары (2011).

У пач. 19 ст. маёнтак кн. Д.Радзівіла ў Бабруйскім павеце, з 1832 г. — кн. Л.П.Вітгенштэйна. У 1844 г. тут 28 двароў, 149 рэвізскіх душ. У 1870 г. ў Асавецкай вол. Бабруйскага павета. Налічвалася 1790 дзес. ворыўнай зямлі, 786 дзес. сенажацей, 4950 дзес. лесу; 120 жыхароў мужчынскага і 106 — жаночага полаў. У склад маёнтка ўваходзіла в. Прусы. У 1888 г. ўласнасць Гогенлоэ, 6236 дзес. зямлі, вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г., засценак, 21 двор, 161 жыхар, вадзяны млын. З 20.8.1924 г. ў Асавецкім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, засценак, 56 двароў, 359 жыхароў. У 1921 г. адчынена школа 1-й ступені (у 1924 г. 1 настаўнік, 54 вучні). У 1931 г. створаны калгас «Вызваленне» (насенняводчы), былі конная крупадзёрка, ваўначоска, кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962 г. 90 двароў, 260 жыхароў; у калгасе «Світанне». У 1997 г. 35 гаспадарак, 57 жыхароў. У 2009 г. 28 гаспада-

рак, 38 жыхароў, у складзе СВК «Асавец-агра». Працуе Дом сац. паслуг.

**ПРУДЗІШЧЫ** – вёска ў Юшкавіцкім с/с. За 13 км на ПнЗ ад г. Любань, 20 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 163 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2011).

У сярэдзіне 19 ст. выселак у Забалоцкай вол. Слуцкага павета, у складзе казённага маёнтка Чабусы. У 1870 г. ў Асавецкай вол. Бабруйскага павета, хутар, 4 аднадворцы, 2 вольных людзей. У 1909 г. хутар, 12 двароў, 68 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Асавецкім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутар, 16 двароў, 79 жыхароў. З 1933 г. вёска ў калгасе імя Кірава. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1960 г. ў Юшкавіцкім с/с, вёска, 91 жыхар, у калгасе імя Кірава. У 1997 г. 10 гаспадарак, 14 жыхароў. У 2009 г. 5 гаспадарак, 5 жыхароў, у складзе СВК «Забалоцкі».

**ПРЫКЛІНЕЦ** – пасёлак у Малагарадзяціцкім с/с. За 51 км на Пд ад г. Любань, 68 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 200 км ад Мінска. 22 гаспадаркі, 29 жыхароў (2011).

Верагодна, назва вёскі паходзіць ад слова «праклён» – месцы вакол балоцістыя, не аднаго чалавека праглынула багна.

У 1909 г. ўрочышча ў Камаровіцкай вол. Мазырскага павета, 2 двары, 16 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962 г. 48 двароў, 171 жыхар. У 1997 г. 54 гаспадаркі, 107 жыхароў. У 2009 г. 26 гаспадарак, 48 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Гарадзяцічы» ААТ «Любанскі райаграсэрвіс».

Працуе магазін.

**ПЯРЭСПА** – вёска ў Асавецкім с/с. За 21 км на У ад г. Любань, 36 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 166 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2011).

У 1909 г. хутар у Асавецкай вол. Бабруйскага павета, 8 двароў, 67 жыхароў. У 1917 г. засценак. З 20.8.1924 г. ў Ямінскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутар, 29 двароў, 76 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На яго тэр. ў маі 1943 г. з ліку жыхароў быў створаны і дзейнічаў партыз. атрад імя Катоўскага. Вызвалены 30.6.1944 г. У 1960 г. вёска, 9 двароў, 22 жыхары, у калгасе «40 гадоў Кастрычніка». У 1997 г. 9 гаспадарак, 18 жыхароў. З 2006 г. ў Асавецкім с/с. Помнік у гонар партыз. брыгады 64-й імя Чкалава.

**РАДУГА** (да 24.1.1969 г. Хацінава) – пасёлак ва Урэцкім с/с. За 19 км на ПнЗ ад г. Любань, 10 км ад чыг. ст. Урэчча, на лініі Асіповічы–Баранавічы, 149 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2011).

У 1909 г. ўрочышча Хацінава ў Пагосцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. З 20.8.1924 г. ў Дарасінскім с/с Слуцкага р-на; в. Хацінава, 39 двароў, 217 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. в. Хацінава, 199 жыхароў, дзейнічаў цагляны з-д. З 25.12.1962 г. ў Любанскім р-не, працаваў вапнавы з-д (у 1962 г. 5 жыхароў). У 1997 г. 13 гаспадарак, 28 жыхароў. З 2006 г. ва Урэцкім с/с. У 2009 г. 7 гаспадарак, 8 жыхароў, у складзе СВК «Урэцкі».

**РАКАВІШЧЫ** – вёска ў Юшкавіцкім с/с. За 10 км на Пн ад г. Любань, 16 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 152 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 14 жыхароў (2011).

Недалёка ад вёскі знаходзіцца археал. помнік – курганны могільнік, што сведчыць аб засяленні гэтай тэр. ў далёкім мінулым. У канцы 18 ст. в. Раковічы ў Слуцкім павеце, уласнасць кн. Д.Радзівіла, 104 жыхары, карчма. З 1832 г. ва ўладанні кн. Л.П.Вітгенштэйна ў маёнтку пагост. У 2-й пал. 19 ст. ад-

чынена школа граматы (у 1890 г. 5 хлопчыкаў), быў вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г., у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, 7 двароў, 51 жыхар. У 1909 г. засценак, 13 двароў, 74 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Юшкавіцкім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, засценак, 22 двары, 96 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў Юшкавіцкім с/с, вёска, 89 жыхароў, у калгасе імя Кірава. У 1997 г. 19 гаспадарак, 35 жыхароў. У 2009 г. 13 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе СВК «Забалоцкі». Брацкая магіла партызан В.Н.Статкевіча і І.Я.Кошаля.

**РАЧЭНЬ** – вёска, цэнтр Рачэнскага с/с. За 15 км на ПдЗ ад г. Любань, 40 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 167 км ад Мінска, на аўтадарозе Любань–Старобін. 276 гаспадарак, 693 жыхары (2011).

Недалёка ад вёскі знаходзяцца археал. помнікі – стараж. Гарадзішча і курганны могільнік, што сведчыць аб засяленні гэтай тэр. ў далёкім мінулым. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1566 г. як сяло ў Слуцкім княстве Алелькавічаў у маёнтку Ярэмічы, 46 валок зямлі. З 1589 г. ўласнасць купцоў Тышэвічаў, з 1621 г. – Радзівілаў. У 1795 г. ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, в. Рэчын, 192 жыхары, карчма. У 1816 г. 96 душ. У 1834 г. вёска ў маёнтку Засмужжа, вёска, 49 рэвізскіх душ, уласнасць кн. Л.П.Вітгенштэйна. У 1844 г. 180 рэвізскіх душ; у 1846 г. 213 моргаў зямлі. У сярэдзіне 19 ст. дзярж. ўласнасць, 44 двары, 123 жыхары. У 1870 г. вёска ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета; у 1883 г. 52 двары. Паводле перапісу 1897 г., 114 двароў, 889 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом, школа (у 1890 г. 8 хлопчыкаў, 3 дзяўчынкі). У 1908 г. 176 двароў, 1141 жыхар, земскае нар. вучылішча (з 1911 г.). З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Любанскага р-на Слуцкай акругі, 213 двароў, 1145 жыхароў, працавала школа (2 арэндныя будынкі, 2 настаўнікі, 116 вучняў). У 1931 г. мелася тэлеф. сувязь, дзейнічалі хата-чытальня, гурток ваенных ведаў. У 1932 г. створаны калгас «Пралетарый», які ў 1935 г. меў паравы млын, ваўначоску, кузню. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З ліст. 1941 г. ўваходзіла ў Акцябрска-Любанскую партыз. зону, працаваў сельсавет. Вызвалена 30.6.1944 г. У 1960 г. вёска, 789 жыхароў, цэнтр калгаса Суворава. У 1980-я г. меў 3959 га сельгасугоддзяў, 43 трактары, 25 аўтамашын, 14 камбайнаў. Працавалі сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, бальніца, ветучастак, аптэка, комплексны прыёмны пункт, сталовая, 2 магазіны, аддз. сувязі. У 1997 г. 300 гаспадарак, 861 жыхар. З 2008 г. аграгарадок. У 2009 г. 276 гаспадарак, 738 жыхароў, цэнтр СВК «Рачэнь». Працуюць агульнаадукац. сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт, аддзяленні сувязі і «Беларусбанка», сталовая, 4 магазіны. Помнік воінам і партызанам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну. Радзіма бел. вучонага ў галіне раслінаводства і селекцыі Л.В.Кукраша (н. ў 1938 г.), бел. вучонага-эканаміста і дзярж. дзеяча, міністра



*Л.В.Кукраш.*



*В.Кукрыш. Посцілка з узорам Дзеда Мароза. Вёска Рачэнь.*



С.Б.Шапіра.



К.І.Шаплыка.

сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь (2008—10), старшыні Гродзенскага абл. выканаўчага к-та (з 2010 г.) С.Б.Шапіры (н. ў 1961 г.).

У складзе сельсавета 9 вёсак, 23 пасёлкі і 1 хутар.

**РЭДКАВІЧЫ** — вёска ў Сароцкім с/с, каля р. Арэса. За 9 км на ПдУ ад г. Любань, 26 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 164 км ад Мінска, каля аўтадарогі Любань—Камаровічы. 196 гаспадарка, 441 жыхар (2011).

Па сведчанні некаторых жыхароў, калісьці гэтыя месцы былі мала заселены, рэдка можна было ўбачыць чалавека. Таму, верагодна, калі заснавалася вёска, яе назвалі Рэдкавічы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1582 г. як паселішча ў Слуцкім княстве. У сярэдзіне 17 ст. ўласнасць Слуцкага Троіцкага манастыра, дзяржава войта В. Тышкевіча. У канцы 18 ст. ў Бабруйскім павеце, ва ўладанні кн. Д.Радзівіла, з 1832 г. — кн. Л.П.Вітгенштэйна, потым Гогенлоэ. У пач. 19 ст. вёска, 59 двароў, 469 жыхароў. У 1870 г. ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, у маёнтку Юшкавічы, 59 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г., 45 двароў, 332 жыхары. У 1908 г. 59 двароў, 469 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска, цэнтр сельсавета Любанскага р-на Слуцкай акругі, 23 двары, 130 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Зара камуны» (96 гаспадарак), была



Рака Арэса каля в. Рэдкавічы.

кузня; працавала рыбаводная арцель «Усход» (у 1930 г. 46 рабочых), арцель па пляценні кошыкаў. У 1931 г. сельсавет меў тэлеф. сувязь, быў радзільны дом. У 1941 г. вёска, 150 двароў, 650 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З ліст. 1941 г. ў Акцябрска-Любанскай партыз. зоне, дзейнічала патрыят. група, працаваў сельсавет. У канцы чэрв. 1943 г. большасць вяскоўцаў улілася ў партыз. атрад імя Труцікава брыгады 258-й імя Куйбышава. У жн. 1943 г. каля вёскі 4 сутак партызаны брыгады 25-й імя Панамарэнкі вялі жорсткія баі з карнікамі дзеля выратавання насельніцтва і ўраджаю збожжа. У жн. 1942 г. фашысты амаль поўнасцю спалілі вёску. Вызвалена 30.6.1944 г. На фронце загінулі 22 мірныя жыхары. У 1962 г. 754 жыхары. З 1967 г. пачалося эксперыментальнае будаўніцтва вёскі. Працавалі сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка. З 28.7.1974 г. ў Сароцкім с/с. У 1980-я гг. дзейнічалі дзіцячыя яслі, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, комплексны прыёмны і фельч.-акушэрскі пункты, сталовая, магазін, аддз. сувязі. У 1997 г. 245 гаспадарак, 669 жыхароў. У 2009 г. 201 гаспадарка, 463 жыхары, у складзе СВК «Чырвоная змена імя К.І.Шаплыкі». Працуюць агульнаадукац. школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аддз. сувязі, магазін. Помнік землякам. Непадалёку ад вёскі дзіцячы аздараўленчы лагер «Арэса» (на беразе р. Арэса). Радзіма Герояў Сац. працы К.І.Шаплыкі (1916—97) і Р.П.Сушчэні (1918—89).

**САРАЧЫ** — вёска, цэнтр Сароцкага с/с, каля р. Арэса (0,8 км). За 1 км на ПдУ ад г. Любань, 26 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 153 км ад Мінска, на аўтадарозе Любань—в. Камаровічы. 511 гаспадарак, 1271 жыхар (2011).

Паводле версіі, тут некалі існавала ўрочышча. У гэтых мясцінах у зарас-



ніках вербалозу і чароту збіралася мноства сарок (адсюль назва).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1566 г. сяло Сарачэвічы ў складзе маёнтка Ярэмічы Слуцкага княства Алелькавічаў, 2 службы. З 1589 г. за пазыку грошай залога ў слуцкіх купцоў Тышэвічаў, з 1621 г. ўласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, Забалоцкай вол. Бабруйскага павета. У 1808 г. вёска, 22 дымы, ва ўладанні кн. Д.Радзівіла. У 1846 г. вёска таго ж маёнтка, уласнасць кн. Л.П.Вітгенштэйна, 25 двароў, 110 душ, ворыва 11 валок 15 моргаў, коней 1, валоў 15. У сярэдзіне 19 ст. ў Забалоцкай вол., вёска, 20 двароў, 43 жыхары; засценак — 59 двароў, 53 жыхары. У 1888 г. ўласнасць Гогенлоэ, засценак, 330 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г., 50 двароў, 364 жыхары. У 1909 г. вёска, 73 двары, 488 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Любанскіх с/с і раёне Слуцкай акругі, 94 двары, 536 жыхароў, земскае нар. вучылішча (з 1917 г.), школа 1-й ступені (з 1921 г.). У 1924 г. 2 настаўнікі, 87 вучняў, заняткі вяліся ў 3 сял. хатах (арэнда), нанятых бацькамі вучняў. У 1931 г. створаны калгас «Чырвоная змена» (30 гаспадарак, 110 жыхароў), была кузня; у 1932 г. — рамесна-прам. арцель па карзінапляценні. З 1939 г. ў БССР, вёска, цэнтр Слабодскага с/с. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 жыхароў. У партыз. барацьбе і падполлі загінулі 84 жыхары сельсавета. У 1960 г. вёска, 960 жыхароў. Цэнтр калгаса «Чырвоная змена». У 1980-я г. ў калгасе 4948 га сельгасугоддзяў, 16 трактароў, 20 аўтамашын, 11 камбайнаў. Працавалі дзіцячыя яслі-сад, 8-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, магазін. У 1997 г. 533 гаспадаркі, 1489 жыхароў. З 2009 г. аграгарадок; 512 гаспадарак, 1330 жыхароў, цэнтр СВК «Чырвоная змена імя К.І.Шаплыкі». Працуюць дзіцячы сад, агульнаадукац. сярэдняя і вячэрняя школы, філіял дзіцяча-юнацкай спарт. школы, Дом культуры (і пры ім нар. хор нар. песні «Прасніца»), б-ка, амбулаторыя, басейн, комплексны прыёмны пункт, гасцініца, сталовая, кафэ, спарт.-аздараўленчы комплекс, аддз. сувязі і

*Гасцініца «Арэса» ў аграгарадку Сарачы.*



*У цэнтры аграгарадка Сарачы.*



*Агульнаадукацыйная сярэдняя школа ў в. Сарачы.*

«Беларусбанка», 3 магазіны. Мемарыяльны комплекс, стэла ў гонар 253-й і 259-й партыз. брыгад, помнік землякам. Радзіма воіна-інтэрнацыяналіста, удзельніка баявых дзеянняў у Афганістане А.М.Брагінца (1963—82).

У складзе сельсавета 8 вёсак.

**СЛАБОДКА** — вёска ў Ляхаўскім с/с. За 16 км ад г. Любань, 36 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 176 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 15 жыхароў (2011).



*Л.М.Лабанок.*

Вядома з 16 ст. як слабада ў Забалоцкай вол. Слуцкага павета. У 1909 г. 21 двор, 183 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Любанскім р-не Слуцкай акругі. У Вял. айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962 г. 50 двароў, 189 жыхароў, у калгасе імя Гарбачова. З 2009 г. ў складзе СВК «Юрковічы». Працуе Дом сац. паслуг. Радзіма бел. вучонага ў галіне радыябіялогіі Л.М.Лабанка (н. ў 1943 г.).

**СМОЛЬГАВА** — вёска, цэнтр Юшкавіцкага с/с. За 15 км на ПнЗ ад г. Любань, 13 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 169 км ад Мінска, каля аўтадарогі Любань—Салігорск (2 км). 149 гаспадарак, 431 жыхар (2011).

Непадалёку ад вёскі захаваліся археал. помнікі — курганныя могільнікі, што сведчыць аб засяленні гэтай тэр. ў далёкім мінулым.

*Фальварак Смольгаў, дзе нарадзіўся У.Сыракомля. Гравюра 19 ст.*



Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як фальварак у Пагосцкай вол. Слуцкага павета, уласнасць Радзівілаў, потым кн. Л.П.Вітгенштэйна. У 1828 г. частка сялян пераведзена ў в. Невалож (адносілася да фальварка). Угоддзяў было 1173 дзес. 96 сажняў, у т.л. ў памешчыка ворыва 204 дзес. 2370 сажняў. Паводле перапісу 1834 г., налічвалася 265 сялян, 39 цяглых двароў, 2 двары бабылёў, 734 1/3 дзес. сядзібнай і ворнай зямлі, сенакосаў 160 дзес. На двор сяляне мелі па 17 дзес. сядзібнай і ворнай зямлі; было 12 коней, 57 валоў, 51 карова, 153 авечкі, 59 свіней. Сяляне адбывалі паншчыну, давалі дзякла: 2 асьміны (≈210 л) жыта і аўса, 1 капу грыбоў (60 шт.), 2 курыцы, 20 яек. За зямлю з валокі плацілі $1^{20}$ коп серабром. У 1870 г. фальварак і засценак у маёнтку Пагост; у 1888 г. фальварак належаў Гогенлоэ, меў 149 дзес. зямлі. У 1889 г. адчынены 2 школы граматы. У 1909 г. ў Пагосцкай вол. Слуцкага павета, засценак, 25 двароў, 156 жыхароў. У 1917 г. існавалі вёскі Смольгаў Вялікі (30 двароў, 159 жыхароў) і Смальгавок (Смольгаў Малы; 32 двары, 170 жыхароў). З 20.8.1924 г. ў Любанскім раёне Слуцкай акругі, у Юшкавіцкім с/с. З 21.10. 1924 г. цэнтр сельсавета, з 2.1.1925 г. цэнтр Юшкавіцкага с/с. У 1924 г. засценкі Вялікае Смольгава (31 двор, 160 жыхароў), школа 1-й ступені і Малое Смольгава (36 двароў, 192 жыхары). У 1930 г. створана с.-г. арцель «Ленінскі шлях» (40 гаспадарак, 152 жыхары), былі яслі, кузня, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. в. Смольгаў, 238 жыхароў, цэнтр калгаса «Ленінскі шлях». У 1980-я г. меў 3726 га сельгасугоддзяў, 14 трактароў, 21 аўтамашыну, 9 камбайнаў. У вёсцы працавалі лесапільня, млын, швейная майстэрня, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. У 1997 г. 165 гаспадарак, 543 жыхары. З 2009 г. аграгарадок, цэнтр

сельсавета; 158 гаспадарак, 430 жыхароў, у складзе СВК «Забалоцкі». Прам. прадпрыемствы: ААТ «Любанскі завод сценавых блокаў» і «Любанскі камбінат будаўнічых матэрыялаў». Працуюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—агульнаадукац. сярэдняя школа імя У.Сыракомлі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Мемарыяльная дошка і памятны камень з надпісам «Радзіма Уладзіслава Сыракомлі». Помнік землякам. Радзіма польскага і бел. паэта У.Сыракомлі [(сапр. Л.Кандратовіч (1823—62)].

У складзе сельсавета 8 вёсак.

**СОСНЫ** — пасёлак, цэнтр Камунараўскага с/с. За 25 км на Пд ад г. Любань, 55 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 182 км ад Мінска, на аўтадарозе Любань—Жыткавічы. 452 гаспадаркі, 1074 жыхары (2011).

Вядомы з 19 ст. як урочышча ў Лясковіцкай вол. Бабруйскага павета. У 1886 г. 40 дзес. зямлі, уласнасць А.Плышэўскага. У канцы 19 ст. хутар, 2 двары, 13 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Нежынскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі. У 1927 г. ў ходзе меліярацыйных работ на Мар'інскім балотным масіве на асушаных землях быў створаны саўгас «Мар'іна», які ў 1929 г. перайменаваны ў саўгас «Дзесяцігоддзе БССР» (200 сем'яў, каля 1 тыс. чал.). Пазней тут склаўся пасёлак. У 1931 г. 8874 га угоддзяў, 100 двароў, 322 рабочыя, пабудаваны 6 двухпавярховых дамоў (па 8 кватэр), працавалі млын, крупадзёрка, маслабойка, майстэрня, ільнозавод, электрычная станцыя (лакамабіль на 120 кВт). У 1930 г. Наркамземам Беларусі створаны вячэрні рабфак — філіял Ін-та харч. культур у Горках, дзе рыхтавалі спецыялістаў для калгасных гаспадарак (у 1932/33 навуч. годзе 7 выкладчыкаў, 113 навучэнцаў). Сярод выкладчыкаў быў паэт А.Жаўрук (сапр. А.Д.Сінічкін; 1910—42). У канцы 1930-х г. запрацавалі сыраварна-маслабойны, цагляны з-ды, лесапільня, млын, хлебапякарня, машынна-трактарная майстэрня, а таксама дзіцячыя яслі, школа, клуб на 700 месцаў, аптэка, бальніца, лазня, пошта, сталовая, пральня, ветпункт і інш. У 1940 г. пасёлак, 62 двары, 1050 жыхароў, сярэдняя школа, тэлеграф. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі пасёлак. Тут існаваў варожы гарнізон. Вызвалены 30.6.1944 г. У партыз. барацьбе і падполлі загінулі 168 землякоў. З 16.7.1954 г. ў Камунараўскім с/с. У 1962 г. пасёлак, 497 двароў, 1830 жыхароў, цэнтр саўгаса «Дзесяцігоддзе БССР». У 1980-я г. меў 5926 га угоддзяў (3983 га ворыва), 16 трактароў, 23 аўтамашыны, 12 камбайнаў. Працавалі камбінат быт. абслугоўвання, лесапільня, млын, сепаратны пункт, дзіцячыя яслі-сад, сярэдняя школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны. У 1997 г. 547 гаспадарак, 1381 жыхар. З 2008 г. аграгарадок, цэнтр сельсавета. У 2009 г. 267 гаспадарак, 651 жыхар, цэнтр СВК «Палессе-агра». Лясніцтва. Працуюць дзіцячы сад, агульнаадукац. сярэдняя школа, Дом культуры (і пры ім нар. клуб нар. традыцый «Вытокі»), амбулаторыя, аптэка, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, 4 магазіны; Спаса-Ефрасіннеўская царква. Абеліск землякам, помнік Герою Сац. Працы П.Л.Калысцы (1896—1972). Радзіма Герояў Сац. Працы дырэктара саўгаса (1939—41) Ц.Я.Смірнова (1896—1970), Ф.А. Саўчыка (1915—75). Падзеі перыяду станаўлення саўгаса адлюстраваны ў паэме Я.Купалы «Над ракой Арэсай».

**СОСНЫ** — пасёлак, цэнтр Соснаўскага с/с. За 25 км на ПдУ ад г. Любань, 41 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 177 км ад Мінска, на аўтадарозе Любань — в. Камяровічы. 264 гаспадаркі, 677 жыхароў (2011).

Паводле перапісу 1897 г., хутар у Лясковіцкай вол. Бабруйскага павета, 2 двары, 13 жыхароў. У 1909 г. 2 двары, 17 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Загальскім с/с Глускага р-на Бабруйскай акругі. У



*У.Сыракомля.*



*Ц.Я.Смірноў.*



*Ф.А.Саўчык.*

1927 г. створаны саўгас «Сосны», пазней склаўся пасёлак. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Тут яны стварылі гарнізон. У пасёлку дзейнічала падп. камсамольска-маладзёжная арг-цыя на чале з камуністам А.П.Майстрэнкам. 8.1.1943 г. батальён злучэння А.С.Каўпака сумесна з партызанамі 37-й Ельскай партыз. брыгады разграміў у пасёлку ням. гарнізон, знішчыў 36 салдат і афіцэраў, нарабаваныя прадукты харчавання і жывёла былі вернуты насельніцтву. Вызвалены 30.6.1944 г. З 1.4.1960 г. цэнтр сельсавета Любанскага р-на. У 1962 г. 288 двароў, 1110 жыхароў. У 1968 г. створана эксперыментальная база «Любанская». У 1980-я гг. мела 5669 га угоддзяў, 43 трактары, 36 аўтамашын, 22 камбайны. Працавалі сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, урачэбная амбулаторыя, камбінат быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, 2 магазіны. У 2009 г. 267 гаспадарак, 651 жыхар, цэнтр РУП «Эксперыментальная база «Любанская». Філіялы рамонтна-будаўнічага ўпраўлення, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Працуюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—агульнаадукац. сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аптэка, бальніца па сястрынскім наглядзе, сталовая, комплексны прыёмны пункт, аддзяленні сувязі і «Беларусбанка», 2 філіялы электрасувязі, 2 магазіны. Помнікі землякам, воінам і партызанам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну.

У складзе сельсавета 5 вёсак і 5 пасёлкаў.

**СТАРАСЕК** — вёска ў Соснаўскім с/с. За 36 км на ПдУ ад г. Любань, 53 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 188 км ад Мінска. 20 гаспадарак, 38 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. як вёска ў Лясковіцкай вол. Бабруйскага павета. У 1844 г. вёска ў фальварку Жывунь маёнтка Загалле, 4 двары, 35 сялян цяглых і 6 душ дваровых людзей, мелі 1 каня, 10 валоў, 5 кароў, 3 калоды пчол. Да 1844 г. уласнасць С.Гарадзецкага, потым яго жонкі Тэафілы (у заставе ў Абрыцкіх). У сярэдзіне 19 ст. в. Старасеча, у маёнтку Дунінава, уласнасць Ляскоўскіх, 9 двароў, 60 жыхароў. У 1870 г. вёска ў Лясковіцкай вол. Бабруйскага павета, 28 сялян-уласнікаў; у 1876 г. 142 дзес. зямлі. У 1880-я г. ў пачастковым валоданні землеўласнікаў Айзенштата, Ладышэўскіх, Сулімаў, Савіцкіх і інш. Паводле перапісу 1897 г., 40 двароў, 260 жыхароў, хлебазапасны магазін. З 20.8.1924 г. ў Загальскім с/с Глускага р-на Бабруйскай акругі, з 5.4.1936 г. ў Любанскім р-не. У 1929 г. створаны калгас імя Маркса. У 1941 г. вёска, 90 двароў, 380 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1941 г. калгас са старшынёй М.Б. Сыцько ўліўся ў групу самаабароны на чале са старшынёй сельсавета С.Ф.Карнеевым. Дзейнічала патрыят. камсамольска-маладзёжная група на чале з Л.В.Сыцько. Вёска ўваходзіла ў Акцябрска-Любанскую партыз. зону, працаваў калгас імя Маркса. Са жн. 1941 г. за 2 км ад вёскі ва ўрочышчы Зыслаў размяшчаліся Мінскі падп. абкам КП(б)Б, Любанскі райкам КП(б)Б. Райкам ЛКСМБ, штабы партыз. злучэння Мінскай вобл., партыз. брыгады 25-й імя Панамарэнкі 18.4.1942 г. разграмілі атрад фашыстаў, знішчылі 18 гітлераўцаў. З 21.9.1942 г. на востраве Зыслаў пачала дзейнічаць паветр. база па забеспячэнні партыз. руху на Міншчыне. З 25.1.1943 г. тут выдаваліся падп. газ. «Звязда», «Чырвоная змена». У сак. 1944 г. фашысты спалілі амаль усю вёску, загубілі 30 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 28.2.1964 г. да 9.1.1964 г. ў Салігорскім раёне. У 1960 г. вёска, 248 жыхароў; у саўгасе «Загальскі». У 1997 г. 49 гаспадарак, 98 жыхароў, школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 2009 г. 22 гаспадаркі, 43 жыхары, у складзе будаўнічага ўпраўлення «Загальскі» ААТ

«МАПІД». Працуе Дом сац. паслуг. Мемарыяльны комплекс «Зыслаў». Брацкія магілы сав. воінаў і партызан. Радзіма Героя Сац. Працы Ф.М.Статкевіча (1907–81).

**СТАРАЯ ДУБРОВА** – вёска ў Рачэнскім с/с. За 21 км на ПдЗ ад г. Любань, 33 км ад чыг. ст. Урэчча, на лініі Асіповічы–Баранавічы, 164 км ад Мінска. 33 гаспадаркі, 63 жыхары (2011).

У 1-й чвэрці 19 ст. в. Дуброва ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, уласнасць Д. Казлоўскага; у 1847 г. яе частка прададзена Р.Абуховічу. У 1846 г. в. Старая Дуброва ў складзе маёнтка Рудабелка барона Урангеля. У 1890 г. працавала школа граматы (7 хлопчыкаў). Паводле перапісу 1897 г., 24 двары, 190 жыхароў. З пач. 19 ст. была Мікалаеўская царква, у 1903 г. 2840 прыхаджан. У 1909 г. засценак, 33 двары, 199 жыхароў. У 1917 г. 35 двароў, 186 жыхароў, земская школа (засн. ў 1913 г.). З 20.8.1924 г. ў Любанскім р-не Слуцкай акругі; працавала школа 1-й ступені (у 1923 г. 1 настаўнік, 28 вучняў). У 1962 г. вёска, 112 двароў, 451 жыхар, у калгасе імя Гуляева. У 1997 г. 49 гаспадарак, 92 жыхары. У 2009 г. 40 гаспадарак, 68 жыхароў, у складзе СВК «Атраднае-агра».

**СТАРЫЯ ЮРКОВІЧЫ** – вёска ў Ляхаўскім с/с. За 15 км на Пд ад г. Любань, 45 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 172 км ад Мінска, каля аўтадарогі Любань–Сосны (2 км). 196 гаспадарак, 517 жыхароў (2011).

Непадалёку ад вёскі знаходзіцца археал. помнік-паселішча, што сведчыць аб засяленні тэр. ў далёкім мінулым.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1566 г. с. Юрковічы ў Скавышынскай вол. Слуцкага княства. У канцы 18 – пач. 19 ст. фальварак у маёнтку Ярэмічы ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, уласнасць кн. Д.Радзівіла, потым Л.П.Вітгенштэйна. У 1844 г. 32 жыхары, капліца, кузня, магазін, вадзяны і конны млыны, вінакурня, саладоўня; зямлі сядзібнай 688 дзес., лесу 6725 дзес. У сярэдзіне 19 ст. в. Юрковічы, 10 двароў, 63 жыхары. У 1870 г. ў Забалоцкай вол. Паводле перапісу 1897 г., вёска, 31 двор, 211 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 46 двароў, 297 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Рэдкавіцкім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутар, 9 двароў, 42 жыхары, дзейнічаў смалакурны завод-арцель «Гэя» (у 1924 г. 13 рабочых). У 1929 г. жыхары вёскі і засценка Лісцёнка стварылі калгас «Звязда» (67 гаспадарак, 332 жыхары), працавалі сыраробны з-д, ваўначоска, кузня, дзіцячыя яслі. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў снеж. 1943 г. часткова спалілі яе. У пач. лютага 1944 г. каля вёскі адбываліся цяжкія баі партызан Мінскага партыз. злучэння з гітлераўцамі. У маі 1944 г. карнікі спалілі вёску. Вызвалена 30.6.1944 г. На фронце загінулі 6 жыхароў. З 28.7.1954 г. ў Турокскім с/с. У 1960 г. вёска, 350 жыхароў, цэнтр калгаса імя Гарбачова. З 16.8.1973 г. ў Ляхаўскім с/с, працавалі лесапільня. Млын. Сепаратарны пункт, швейная майстэрня, сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 1980-я г. калгас меў 3959 га сельгасугоддзяў (2736 ворыва), 41 трактар, 25 аўтамашын, 14 камбайнаў. У 1997 г. 200 гаспадарак, 586 жыхароў. У 2009 г. 189 гаспадарак, 497 жыхароў, цэнтр СВК «Юрковічы». Філіял СВК «Забалоцкі». Працуюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад–агульнаадукац. сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сац. прытулак, фельч.-акушэрскі пункт, аддзяленні сувязі і «Беларусбанка», 2 магазіны. Помнік землякам; магіла партызана А.Ц.Куляша.

**СЯЛЕЦ** – вёска ў Ляхаўскім с/с. За 18 км на Пд ад г. Любань, 35 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 169 км ад Мінска. 19 гаспадарак, 34 жыхары (2011).

У 1909 г. хутар у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, 4 двары, 30 жыха-



*Ф.М.Статкевіч.*

роў. З 20.8.1924 г. ў Рэдкавіцкім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, засценак, 10 двароў, 63 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў Туроксім с/с, 129 жыхароў, у калгасе імя Гарбачова. З 16.8.1973 г. ў Ляхаўскім с/с. У 1997 г. 33 гаспадаркі, 59 жыхароў. У 2009 г. 20 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе СВК «Юрковічы». Працуе магазін.



*Рака Таліца каля в. Таль.*

**ТАЛЬ** – вёска, цэнтр Тальскага с/с, каля Любанскага вадасховішча (1,5 км). За 8 км на ПнЗ ад г. Любань, 17 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 144 км ад Мінска, на аўтадарозе Любань–Урэчча. 526 гаспадарак, 1095 жыхароў (2011).



*І.А.Муравейка.*

Вядома з 16 ст. У 1566 г. сяло ў маёнтку (вол.) Ярэмічы, уласнасць кн. Алелькавічаў у Слуцкім павеце, 26 валок зямлі. З 1589 г. ў трыманні купцоў Тышэвічаў, з 1621 г. — кн. Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1815 г. засн. вінакурны з-д (264 чал.). У 1844 г. сяло, 272 жыхары, уласнасць Вітгенштэйна; у 1848 г. 75 двароў. У 1858 г. фальварак (3764 дзес. ворыва) і вёска, 105 рэвізскіх душ, 550 жыхароў. У 1866 г. ў сяле 73 двары, царква, царк.-прыходская школа (засн. ў 1864 г.), вадзяны млын на р. Арэса, уласнасць кн. Вітгенштэйна. Паводле перапісу 1897 г., 209 двароў, 1397 жыхароў, млын, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, заезны дом, крама, царква. У 1909 г. ў Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, сяло, 280 двароў, 1768 двароў, царква, вінзавод, вадзяны млын. У 1916 г. адчынена земскае нар. вучылішча. У 1917 г. ў Слуцкім павеце, сяло і фальварак. У лютым–снеж. 1918 г. сяло акупіравана герм., у жн. 1919 – ліп. 1920 г. польскімі войскамі. З 20.8.1924 г. ў БССР, цэнтр сельсавета ў Любанскім р-не Слуцкай акругі, 519 двароў, 1506 жыхароў, прац. школа 1-й ступені (3 настаўнікі, 153 вучні). У 1929 г. створаны калгас «Чырвоная зорка» (313 гаспадарак), былі дзіцячыя яслі. У 1935 г. дзейнічалі смалакурны завод-арцель «Гэя», цагельны з-д, вадзяны млын, кузня, ваўначоска, мелася тэлеф. сувязь. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. сяло акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З ліст.1941 г. ў Любанскай партыз. зоне, працаваў сельсавет. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 48-й гв. стралк. дывізіі 28-й арміі. За гады акупацыі фашысты загубілі 34 жыхары, у партыз. барацьбе і падполлі загінулі 76 жыхароў сельсавета. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 2680 жыхароў, цэнтр калгаса «Беларусь». У 1980-я г. працавалі цагельны з-д, лесапільня, млын, дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, клуб, б-ка, бальніца, аптэка, 4 магазіны, сталовая, аддз. сувязі. У 1997 г. 708 гаспадарак, 1551 жыхар. З 2009 г. аграгарадок; 537 гаспадарак, 1138 жыхароў, цэнтр вытв. УП «Тальагра». Працуюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—агульнаадукац. сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, філіял дзіцяча-юнацкай спарт. школы, амбулаторыя, аптэка, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка», 4 магазіны, прыватнае УП «Архідэя-Гор». Стэла з надпісамі і прысвячэннем землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Радзіма бел. паэта І.А.Муравейкі (н. ў 1921 г.), Героя Сав. Саюза П.Р.Алейнікава (1917–45).



*П.Р.Алейнікаў.*

У складзе сельсавета 5 вёсак.

**ТАТАРКА** — вёска ў Соснаўскім с/с. За 34 км на ПдЗ ад г. Любань, 51 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 186 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 21 жыхар (2011).

Вядома з 1845 г. як аднайменныя маёнтак і в. Татаркі ў Лясковіцкай вол. Бабруйскага павета, уласнасць І.Рака, 6 цяглых двароў, 31 селянін; 10 валоў, 11 кароў. У сярэдзіне 19 ст. в. Татаркавічы, 31 двор, 98 жыхароў, уласнасць В.Забелавай-Завішаў. У 1870 г. вёска, 13 жыхароў мужчынскага полу; у 1876 г. маёнтак Плышэўскіх, 132 дзес. зямлі. У 1888 г. вёска, былі 2 конныя млыны. Паводле перапісу 1897 г., вёска — 18 двароў, 64 жыхары; пасёлак (ён жа Рог), 6 двароў, 35 жыхароў; пас. Татарка (ён жа Слабада), 5 двароў, 34 жыхары. У 1917 г. ў вёсцы 22 двары, 150 жыхароў; на хутары Татарка (Рог) — 8 двароў, 47 жыхароў; у пас. Татарка — 10 двароў, 42 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Загальскім с/с Глускага р-на, з 5.4.1936 г. вёска ў Любанскім р-не. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска, 197 жыхароў, у саўгасе «Загальскі». У 1997 г. 35 гаспадарак, 69 жыхароў. У 2009 г. 17 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе будаўнічага ўпраўлення «Загальскі» ААТ «МАПІД». Працуе Дом сац. паслуг.

**ТРАЙЧАНЫ** — вёска ў Асавецкім с/с. За 25 км на ПдУ ад г. Любань, 142 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 174 км ад Мінска. 133 гаспадаркі, 249 жыхароў (2011).

Вядома з 1847 г. як вёска ў маёнтку Плюсны, у Асавецкай вол. Бабруйскага павета, уласнасць праваслаўнай царквы. У 1858 г. пасёлак, 15 двароў. Паводле перапісу 1897 г., в. Трайчаны (яна ж Ямінск 2), 86 двароў, 460 жыхароў, хлебазапасны магазін, крама. У 1914 г. адчынена земскае 1-класнае нар. вучылішча. З 20.8.1924 г. ў Ямінскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі. У 1929 г. створаны калгас «Чырвоны камунар», былі кузня, ваўначоска, гантарэзка, млын, дзіцячыя яслі, школа 1-й ступені. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы дзейнічала падп. камсамольска-маладзёжная група на чале з Ц.Сойкай. 9.1.1942 г. 5 чл. групы фашысты расстралялі. Восенню 1942 г. пры ўдзеле інструктара і сувязной ЦК ЛКСМБ Р.І.Шаршнёвай тут быў створаны партыз. атрад. Вызвалена 30.6.1944 г. За гады акупацыі карнікі загубілі 32 мірных жыхароў. У 1960 г. 1185 жыхароў, у калгасе «40 гадоў Кастрычніка». Працавалі клуб, б-ка, магазін. У 1997 г. 31 гаспадарка, 63 жыхары. З 2006 г. ў Асавецкім с/с. У 2009 г. 144 гаспадаркі, 279 жыхароў, у складзе СВК «Асавец-агра». Працуюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—агульнаадукац. пач. школа, бібліятэка-клуб, магазін. Помнік А.Д.Прушаку.



*Р.І.Шаршнёва.*

**ТРУБЯЦІНА** — вёска ў Асавецкім с/с. За 18 км на ПнУ ад г. Любань, 35 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 171 км ад Мінска. 23 гаспадаркі, 31 жыхар (2011).

Вядома з канца 19 ст. як засценак у Асавецкай вол. Бабруйскага павета, 22 двары, 153 жыхары. У 1909 г. 12 двароў, 104 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Асавецкім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, засценак, 26 двароў, 123 жыхары. У 1931 г. створаны калгас «Чырвоны Сцяг» (21 гаспадарка), меў кузню, працаваў смалакурны з-д (у 1930 г. 27 рабочых). У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 13 мірных жыхароў. У 1962 г. вёска, 181 жыхар, у калгасе «Світанне». У 1997 г. 31 гаспадарка, 63 жыхары. У 2009 г. 22 гаспадаркі, 34 жыхары, у складзе СВК «Асавец-агра». Працуюць Дом сац. паслуг. Каля вёскі — санаторый «Рассвет».

**ТУРОК** — вёска ў Ляхаўскім с/с. За 20 км на Пд ад г. Любань, 37 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Барана-

вічы, 173 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2011).

У аснове тапоніма назва прам. у мінулым жывёліны — тура, які сустракаўся на тэр. Беларусі яшчэ ў 17 ст.

Недалёка ад вёскі знаходзіцца археал. помнік — курганны могільнік, што сведчыць аб засяленні гэтай тэр. ў далёкім мінулым. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1834 г. як маёнтак у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, уласнасць штаб-капітана І.Г.Булгака. Складаўся з аднайменных фальваркa і с. Турок, меў 2408 дзес. зямлі, пад лесам 500 дзес. Быў 331 жыхар, якія мелі па 2 маргі сядзібнай і агароднай зямлі на двор, 99 коней, 95 валоў, 76 кароў, 200 авечак. У 1866 г. 35 двароў, царква; у 1876 г. часткамі належала Р.Булгаку — 1357 дзес., Ф. Буяноўскаму — 1897 дзес. (па купчай). У 1887 г. быў вятрак, у 1896 г. — нар. вучылішча з інтэрнатам на 71 вучня. У 1908 г. засценак, 10 двароў, 54 жыхары, адчынена земскае нар. вучылішча. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета (да 1931 г. і з 16.7.1954 г.), хутар, 18 двароў, 101 жыхар, працавала школа 1-й ступені (1 настаўнік, 74 вучні). У 1931 г. створаны калгас «Пражэктар» (з в. Фёдараўка), былі кузня, фельч.-акушэрскі пункт. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Барацьбу з ворагам узначаліў старшыня сельсавета А.Д.Прушак (загінуў у пач. ліп. 1941 г.). З ліст.1941 г. вёска ў Акцябрска-Любанскай партыз. зоне. У крас. 1943 г. быў арганізаваны і дзейнічаў партыз. атрад «Камсамолец» партыз. брыгады 25-й імя Панамарэнкі. Вызвалена 30.6.1944 г. За час акупацыі загінулі 12 мірных жыхароў. У 1962 г. вёска, 30 двароў, 92 жыхары, у калгасе «Перамога». З 16.8.1973 г. ў Ляхаўскім с/с. У 1997 г. 18 гаспадарак, 37 жыхароў. У 2009 г. 12 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе СВК «Вобчын». Працуе Дом сац. паслуг.



*Аграгарадок Урэчча.*

**УРЭЧЧА** — гарадскі пасёлак, цэнтр Урэцкага с/с; чыг. станцыя на лініі Баранавічы—Асіповічы, на р. Бярозаўка. За 24 км на ПнЗ ад г. Любань, 177 км ад Мінска, аўтадарогамі злучаны са Слуцкам, Любанню, Старымі Дарогамі. 3165 чал. (2011).

Непадалёку ад гар. пасёлка знаходзяцца археал. помнікі — група курганных могільнікаў, што сведчыць аб засяленні гэтай тэр. ў далёкім мінулым. Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 19 ст. як маёнтак і вёска ў Слуцкім княстве, уласнасць кн. Алелькавічаў, быў княжацкі двор. У 1612 г. перайшла ў спадчыну Радзівілаў, цэнтр аднайменнай вол. У 1642 г. засн. шклозавод. У 1647 г. згадваецца Урэцкая вол. і сяло, уласнасць Б.Радзівіла. Сяляне мелі 30 валок ворыва (641 га), пл. ворыва ў маёнтку складала каля 760 валок. У 1695 г. разам са Слуцкім княствам перайшло ў спадчыну пфальцграфіні рэйнскай Лізаветы, якая ў 1712 г. перадала яго ў часовае валоданне за 25 тыс. злотых Я.Крыгеру-Ваеўскаму з умовай пастаўкі часткі натуральных падаткаў у Слуцкі гарнізон. У 1730 г. маёнтак перайшоў у часовае трыманне да Радзівілаў, з 1744 г. ўласнасць Радзівілаў, якія выкупілі Слуцкае княства. У 18 ст. побач з вёскай склалася мястэчка, заселенае ў асноўным яўр.-гандлярамі. У 1737 г. ў в. Урэчча княгіня Г.Радзівіл заснавала шкляную мануфактуру (існавала да 1846 г.). Дзейнічалі 2 гуты, шліфавальня, паліровачная, рысавальная і ін-

шыя майстэрні, дзе выраблялі па-мастацку аздобленыя золатам і фарбамі сталовы посуд з каляровага, малочнага шкла і крышталю, жырандолі, кандэлябры, падсвечнікі, шкло для акуляраў, луп, гадзіннікаў. Да сярэдзіны 18 ст. тут працавалі 64 прыгонных селяніна з навакольных вёсак, у 1797 г. — 49 чал., у 1801 г. — 53 чал. У 1812 г. мануфактура пацярпела ад вял. пажару; з 1832 г. ўласнасць графа (з 1834 г. князя) Л.П.Вітгенштэйна. З 1791 г. Урэчча ў складзе Случарэцкага павета ВКЛ, мястэчка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1-й пал. 19 ст. мястэчка і вёска, уласнасць Радзівілаў. У 1814 г. ў фальварку і вёсцы 174 рэвізскія душы. З 1832 г. ўласнасць Л.П.Вітгенштэйна. У 1848 г. ў мястэчку 79 двароў, быў вінзавод (засн. ў 1830 г.). З 1866 г. ва ўладанні княгіні Гогенлоэ, жонкі герм. канцлера. У 1892 г. ў мястэчку каля 70 дамоў, у вёсцы 20 дамоў. У 1882 г. адчынена школа граматы. Паводле перапісу 1897 г., у мястэчку 78 двароў, 510 жыхароў, 2 з-ды ганчарнага посуду, 7 крам, Мікалаеўская царква, касцёл, сінагога, 2 яўр. малітоўныя дамы; у с. Урэчча — 129 двароў, 810 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом; у маёнтку — 4 двары, 32 жыхары, вінакурня. У 1904 г. за 1 км ад мястэчка пабудавана чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Слуцк (1896—1915). У 1916 г. адчынена 1-класнае нар. вучылішча (2 настаўнікі), было паштова-тэлегр. аддз. У лютым 1918 г. Урэчча занята польскімі легіянерамі корпуса Доўбар-Мусніцкага, у канцы лютага — герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, у жн. 1919 — ліп. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. 31.7.1920 г. ў складзе Бабруйскага павета. Да 1924 г. існавалі мястэчка — 183 двары, 1165 жыхароў (з іх 863 яўрэі); сяло — 48 двароў, 299 жыхароў; маёнтак — 49 жыхароў. З 17.7.1924 г. мястэчка ў Слуцкім р-не. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета, 150 двароў, 1064 жыхары; у сяле 240 двароў, 1140 жыхароў. Працавалі 7-гадовая школа, яўр. пач. школа (у мястэчку). У 1930 г. створаны калгас імя Сталіна. З 27.9.1938 г. гар. пасёлак. У 1939 г. 5591 жыхар, працаваў вінакурны з-д (у 1940 г. 146 рабочых). У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Абарончыя баі каля Урэчча вялі часці 55-й стралк. дывізіі (камандзір палкоўнік Д.І.Іванюк) 4-й арміі Зах. Фронту. Да жн. 1943 г. ў пасёлку дзейнічала падп. камсамольска-маладзёжная група на чале з М.Гурскім. Фашысты расстралялі 25 сем'яў падпольшчыкаў. Уцалелая частка падпольшчыкаў перайшла ў партыз. атрад імя Лазо (камандзір М.Ф.Сцеклянёў) брыгады 64-й імя Чкалава. 8.5.1942 г. карнікі расстралялі 830 яўрэяў; 1.8.1942 г. загубілі 616 чал. і 4.8.1943 г. яшчэ 93 мірных жыхароў (частка з іншых р-наў Беларусі). Усяго за гады акупацыі ва Урэччы было загублена каля 2 тыс. мірных жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 20-га стралк. корпуса 28-й арміі 1-га Бел. фронту. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 286 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім р-не, цэнтр



*Вырабы Урэцкай шкляной мануфактуры.*

саўгаса «Урэцкі». У 2002 г. было 3,6 тыс. жыхароў. Працавалі з-д с.-г. прылад, хлебазавод, 2 сярэднія школы, 3 дашкольныя ўстановы, 3 б-кі, Дом культуры, бальніца, аптэка, 2 аддз. сувязі. У 2009 г. 3887 жыхароў, цэнтр СВК «Урэцкі». 2 лясніцтвы лесагасп. ўпраўлення «Любанскі лясгас». Філіялы: РУП «Мінскдругамет», «Любанская ЖКГ», камунальнага УП «Мінскаблдарбуд» (2), ААТ «Любанскі райаграсэрвіс», РУП «Магілёўскае аддзяленне «Беларуская чыгунка», спіртавога з-да РУП «Мінск Крышталь». Прадпрыемствы: ТДА «Тэхмашкантакт», «БІА Энергія-цэнтр», унітарнае вытв. «Ніва» і прыватнае гандл. «Маціф». Працуюць дзіцячы сад-яслі, дзіцячы сад, 2 агульнаадукац. сярэднія школы, Дом культуры, дзіцячая і гарпасялковая б-кі, муз. школа, бальніца на 25 ложкаў, аптэка, фізкультурна-аздараўленчы комплекс, філіял дзіцяча-юнацкай спарт. школы, фельч.-акушэрскі і комплексны прыёмны пункты, адз. кругласутачнага знаходжання пенсіянераў і інвалідаў на 40 месц, цырульня, аддз. сувязі (2) і «Беларусбанка», сталовая, 7 магазінаў; цэрквы ў гонар Мікалая Цудатворцы і Кірыла-Мяфодзіеўская. 3 брацкія магілы; магілы ахвяр фашызму; брацкая магіла сав. воінаў і партызан (загінулі ў 1944 г.). Радзіма бел. гісторыка У.К.Коршука (н. ў 1935 г.), бел. дыктара радыё і тэлебачання У.М.Яркова (1941–91), бел. матэматыка А.У.Мяцельскага (н. ў 1950 г.), воінаў-інтэрнацыяналістаў, удзельнікаў баявых дзеянняў у Афганістане С.М.Іванковіча (1955–81) і У.М.Вяндрова (1961–81).

У складзе сельсавета 7 вёсак, 1 пасёлак і 1 гар. пасёлак.

**ФЁДАРАЎКА** – вёска ў Ляхаўскім с/с. За 20 км на Пд ад г. Любань, 176 км ад Мінска, 37 км ад чыг. ст. Урэчча. 13 гаспадарак, 19 жыхароў (2011).

У 1909 г. хутар у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета, 12 двароў, 73 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Турокскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутары Фёдараўка 1 (6 двароў, 38 жыхароў, Фёдараўка 2 (19 двароў, 109 жыхароў). З 1931 г. ў калгасе «Пражэктар». У 1940 г. вёска, 32 двары, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 да 30.6.1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў студз. 1944 г. спалілі вёску і загубілі 15 мірных жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. в. Вялікая Фёдараўка, 210 жыхароў у калгасе «Перамога». У 1997 г. 29 гаспадарак, 42 жыхары. У 2009 г. 13 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе СВК «Вобчын». Працуе Дом сац. паслуг.

**ХАЦІНАВА** – вёска ва Урэцкім с/с. За 29 км на ПнЗ ад г. Любань, 9 км ад чыг. ст. Урэчча, 153 км ад Мінска на лініі Асіповічы–Баранавічы. 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2011).

У 1909 г. ў Пагосцкай вол. Слуцкага павета, засценак – 29 двароў, 196 жыхароў; урочышча – 4 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Дарасінскім с/с Слуцкіх р-на і акругі, 230 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоны свет». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З ліст.1941 г. ў Акцябрска-Любанскай партыз. зоне. У 1943 г. з дапамогай жыхароў да партызан было перапраўлена з варожых складоў ва Урэччы 1200 кг солі, 600 кг крупы, 1400 кг мукі, медыкаменты. Вызвалена 30. 6.1944 г. З 1950 г. ў калгасе імя Варашылава, з 1962 г. ў калгасе «Рэвалюцыя». У 1997 г. 16 двароў, 20 жыхароў, у саўгасе «Урэцкі». У 2009 г. 9 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе СВК «Урэцкі».

**ЧАБУСЫ** – вёска ў Асавецкім с/с. За 11 км на ПнУ ад г. Любань, 28 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 164 км ад Мінска. 69 гаспадарак, 121 жыхар (2011).

Назва вёскі мае цюркскае паходжанне: чаус военачальнік ці дробнапамесны дваранін. Упершыню згадваецца ў 1566 г. як паселішча ў Слуцкім княстве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у

Бабруйскім павеце, уласнасць Слуцкай рымска-каталіцкай плябаніі. У 19 ст. фальварак і вёска ў Асавецкай вол. Бабруйскага павета, з 1834 г. ўласнасць казны. У 1858 г. казённы маёнтак, які складаўся з 3 вёсак, 12 выселкаў, меў 2073 дзес. прыдатнай, 3464 дзес. непрыдатнай зямлі, 3247 дзес. лесу; 22 дзес. належалі царкве. У сялян было 1408 дзес. прыдатнай зямлі. Налічвалася 279 жыхароў мужчынскага полу, меліся млын, карчма, магазін. У сярэдзіне 19 ст. вёска, 26 двароў, 140 жыхароў; у 1870 г. 86 дзярж. сялян, 2 аднадворцы. Паводле перапісу 1887 г. дзярж. ферма, быў вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г., вёска, 57 двароў, 356 жыхароў, хлебазапасны магазін; маёнтак, 2 двары, 13 жыхароў, вадзяны млын. У 1909 г. ў Асавецкай вол. Бабруйскага павета, вёска, 61 двор, 419 жыхароў; маёнтак, 31 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Асавецкім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, вёска — 93 двары, 453 жыхары, хутар — 6 двароў, 44 жыхары. У 1930 г. створаны калгас «Новы мір», была кузня. У 1937 г. працавала школа (засн. ў 1931 г.), адчынена паштовае аддз., працавала МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут размяшчаўся ням. паліцэйскі гарнізон. Фашысты спалілі вёску і загубілі 16 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. У 1962 г. 139 двароў, 533 жыхары, у калгасе «Світанне». У 1997 г. 112 гаспадарак, 248 жыхароў. У 2009 г. 81 гаспадарка, 144 жыхары, у складзе СВК «Асавец-агра». Працуе магазін. Радзіма бел. гісторыка Ф.І.Забэлы (1896—1935), бел. вучонага-эканаміста М.У.Пятровіча (н. ў 1951 г.)

**ЧАПАЕВА** (да 1952 г. Княжская магіла) — вёска ва Урэцкім с/с. За 27 км на ПнУ ад г. Любань, 11 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 152 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2011).

Недалёка ад вёскі знаходзіцца археал. помнік — курганны могільнік, што сведчыць аб засяленні гэтай тэр. ў далёкім мінулым. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1908 г. як вёска ў Пагосцкай вол. Слуцкага павета, 26 двароў, 164 жыхары. У 1921 г. ў Дарасінскім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, засценак, 37 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962 г. вёска, 43 двары, 72 жыхары, у калгасе «Дружба». У 1997 г. ва Урэцкім гарадскім пас. Савеце (з 2006 г. сельсавет), 25 двароў, 46 жыхароў. Радзіма бел. мастака дэкаратыўнага мастацтва Г.А.Юзеевай (н. ў 1941).

**ЧАЧЭНСК** — вёска ў Сароцкім с/с. За 13 км на ПдУ ад г. Любань, 30 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 166 км ад Мінска. 27 гаспадарак, 48 жыхароў (2011).

Вядома з 1582 г. як паселішча Сячэнск у Слуцкім княстве. У 1909 г. ў Старобінскай вол. Слуцкага павета, хутар Чачоў, 8 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Рэдкавіцкім с/с Любанскага р-на Слуцкай акругі, хутар Чачэнск, 11 двароў, 69 жыхароў. З 1931 г. вёска ў калгасе «Чырвоны Кастрычнік». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 10 мірных жыхароў. У 1962 г. вёска, 67 двароў, 261 жыхар, у калгасе «Чырвоная Змена». У 1997 г. 45 гаспа-



*Г.А.Юзеева.*



*Г.Юзеева. Квітнеючы луг (габелен).*

дарак, 92 жыхары. У 2009 г. 30 гаспадарак, 64 жыхары, у складзе СВК «Чырвоная змена імя. К.І.Шаплыкі». Працуе магазін.

**ЧЫРВОНАЕ** – пасёлак у Камунараўскім с/с. За 27 км на ПдУ ад г. Любань, 52 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 184 км ад Мінска. 39 гаспадарак, 83 жыхары (2011).

Вядомы з сярэдзіны 19 ст. як урочышча ў Бабруйскім павеце. У 1857 г. па купчай перайшло ва ўласнасць надворнага саветніка Р.Струмілы. У 1920-я г. Чырвоныя хутары. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў Камунараўскім с/с, пасёлак, 175 жыхароў, у саўгасе «Дзесяцігоддзе БССР». У 1997 г. 59 гаспадарак, 177 жыхароў. У 2009 г. 41 гаспадарка, 93 жыхары, у складзе СВК «Палес-агра». Працуе магазін.



*Ю.А.Сенажацкі.*

**ЧЫРВОНАЯ ПАЛЯНА** – пасёлак у Камунараўскім с/с. За 30 км на ПдУ ад г. Любань, 56 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 184 км ад Мінска. 47 гаспадарак, 101 жыхар (2011).

Склаўся ў 1920-я г. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў Камунараўскім с/с, пасёлак, 114 жыхароў, у саўгасе «Дзесяцігоддзе БССР». У 1997 г. 68 гаспадарак, 180 жыхароў. У 2009 г. 48 гаспадарак, 113 жыхароў, у складзе СВК «Палессе-агра». Працуе магазін.

**ШЫПІЛАВІЧЫ** – вёска ў Сароцкім с/с. За 9 км на Пд ад г. Любань, 44 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 161 км ад Мінска. 163 гаспадаркі, 381 жыхар (2011).

Упершыню ўпамінаецца пад 1566 г. ў завяшчанні аб падзеле Слуцкага княства, вёска была перададзена ва ўладанне архімандрыта Слуцкага Трайчанскага манастыра. У 1864 г. адкрыта царк.-прыходская школа, у якой навучаліся 18 хлопчыкаў і 6 дзяўчынак. У 1870 г. 85 двароў. У 1909 г. 65 двароў, 469 жыхароў, дзейнічала праваслаўная царква. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962 г. 238 двароў, 916 жыхароў, у саўгасе «Чырвоная змена». Працавалі няпоўная сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. У 2009 г. ў складзе СВК «Чырвоная змена імя К.І.Шаплыкі». Працуюць Дом культуры, б-ка, магазін. Радзіма бел. этнографа П.М.Шпілеўскага (1823–61), бел. майстра спорту міжнар. класа па самба Ю.А.Сенажацкага (н. ў 1970 г.).

**ЮШКАВІЧЫ** – вёска ў Юшкавіцкім с/с . За 18 км на З ад г. Любань, 15 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 169 км ад Мінска, каля аўтадарогі Пагост–Любань. 64 гаспадаркі, 136 жыхароў (2011).

Вядома з 16 ст. У 1566 г. сяло ў складзе Ярэміцкай вол. (маёнтка) Слуцкага княства Алелькавічаў, было 12 валок зямлі. З 1589 г. ўласнасць слуцкіх купцоў Тышэвічаў, з 1621 г. – Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Забалоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1807 г. фальварак Юшкавічы з в. Малыя Юшкавічы ў маёнтку Ярэмічы, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1834 г. ўласнасць Л.П.Вітгенштэйна, 188 душ абодвух полаў. У 1890 г. ў школе граматы вучыліся 6 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. Паводле перапісу 1897 г., 64 двары, 424 жыхары, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1905 г. адчынена царк.-прыходская школа (8 хлопчыкаў, 3 дзяўчынкі, сярод настаўнікаў П.Акаловіч (святар), Т.Лабоцкі). У 1909 г. 89 двароў, 546 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў БССР, цэнтр сельсавета (да 2009 г.) Любанскага р-на Слуцкай акругі, в. Юшкава, 122 двары, 672 жыхары. З 21.10.1924 г. ў Смольгаўскім с/с таго ж р-на, з 2.1.1925 г. цэнтр Юшкаўскага с/с, працавала школа 1-й ступені (будынак арэндны, за 30 пудоў жыта на год), у 1924/25 навуч. годзе 1 настаўнік, 60 вучняў. У сак. 1931 г. створана с.-г. арцель імя Фрунзе (44 двары, 198 жыхароў), былі вятрак, кузня,

ваўначоска. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 мірных жыхароў. У 1962 г. вёска, 161 двор, 501 жыхар, у калгасе імя Кірава. Дзейнічалі сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі і ветэрынарны пункты, магазін. У 1997 г. 94 гаспадаркі, 210 жыхароў. У 2009 г. 67 гаспадарак, 153 жыхары, у складзе СВК «Забалоцкі». Працуюць бібліятэка-клуб, магазін. На тэр. вёскі помнік прыроды «Ліпа — больш за 100 гадоў». Радзіма бел. трэнера па веласпорце Л.С.Корбута (н.ў 1936 г.)

**ЯМІНСК** — вёска ў Асавецкім с/с. За 20 км на У ад г. Любань, 37 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы—Баранавічы, 170 км ад Мінска. 233 гаспадаркі, 504 жыхары (2011).

Вядома з 16 ст. У 1582 г. згадваецца ў акце падзелу Слуцкага княства паміж братамі Алелькавічамі і ў фундушавым запісе Трайчанскаму манастыру с. Ямінск (6 двароў). У 17 ст. ўласнасць манастыра. У 1773 г. сяло, уласнасць Слуцкай езуіцкай калегіі, 64 дымы. У 1844 г. фальварак Дабравольскага, які пабудаваў тут праваслаўную царкву ў імя Раства Хрыстова. У сярэдзіне 19 ст. казённае ўладанне, 37 двароў, 227 душ абодвух полаў. Сяло належала Троіцкаму манастыру, 30 двароў, 124 жыхары мужчынскага полу. У 1858 г. ў казённым маёнтку 4185,24 дзес. зямлі, 30 двароў, 105 мужчын, сяляне мелі 613 дзес. прыдатнай зямлі, 73 галавы рабочай жывёлы, 45 галоў буйной рагатай жывёлы. У 1861 г. адчынена царк.-прыходская школа, дзе навучаліся 23 хлопчыкі і 12 дзяўчынак. З 1860-х г. сяло, вёска і засценак у Асавецкай вол. Бабруйскага павета. У 1870 г. сяло, уласнасць Катлубаяў, 138 сялян-уласнікаў, 33 аднадворцы; вёска, дзярж. ўласнасць, 98 сялян. З гэтага часу землі маёнтка па купчай часткамі пераходзілі да розных землеўладальнікаў (Валадковічаў, Корбутаў, Валаткоўскіх, Плышэўскіх, Міхневічаў). У 1886 г. ў сяле 72 двары, 661 жыхар, царква. Частка жыхароў займалася рыхтоўкай лесаматэрыялаў, калёсным промыслам. Паводле перапісу 1897 г., с. Ямінск 1 — 100 двароў, 583 жыхары, хлебазапасны магазін, царква; засценак — 32 двары, 188 жыхароў, 2 ветракі, заезны дом. У 1914 г. адчынена земскае 1-класнае нар. вучылішча. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Любанскага р-на Слуцкай акругі. У сяле 174 двары, 983 жыхары, у засценку 32 двары, 219 жыхароў, на Ямінскіх хутарах 130 жыхароў. Працавала школа 1-й ступені (у 1924/25 навуч. годзе 2 настаўнікі, 124 вучні). У 1929 г. створана с.-г. арцель «1 Жніўня»; 182 гаспадаркі, 597 жыхароў (1929). Працавалі ўрачэбна-амбулаторны пункт, паравы млын, кузня, дзіцячыя яслі. У 1937 г. дзейнічала паштовае аддз. У 1940 г. вёска, 342 двары, 1425 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1941 г. ўваходзіла ў Акцябрска-Любанскую партызанскую зону, працаваў сельсавет. У чэрв. 1942 г. вёска спалена. 9.7.1942 г. партыз. атрад А.І.Далідовіча з часткай атрада М.М.Розава правёў баявую аперацыю супраць ням. паліцэйскага гарнізона ў Ямінску (налічваў 120 чал.) і разграміў яго. Вясной 1944 г. ў раёне вёскі ішлі цяжкія баі партызан Мінскага злучэння з гітлераўскімі карнікамі, вёска зноў была спалена. Вызвалена 30.6.1944 г. На франтах загінулі 143 землякі. У 1962 г. вёска, 351 двор,



*Л.С.Корбут.*



*Фальклорны калектыў «Журавушка» Ямінскага сельскага Дома культуры.*

1168 жыхароў, цэнтр калгаса «40 гадоў Кастрычніка». У 1980-я г. меў 5984 га сельгасугоддзяў, 33 трактары, 25 аўтамашын, 18 камбайнаў. Працавалі лясніцтва, швейная майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, бальніца, аптэка, ветучастак, аддз. сувязі, магазін. У 1997 г. 327 гаспадарак, 776 жыхароў. З 2006 г. ў Асавецкім с/с. У 2009 г. 233 гаспадаркі, 545 жыхароў, у складзе СВК «Асавец-агра». Лясніцтва. Працуюць агульнаадукац. сярэдняя школа, Дом культуры (і пры ім фальклорны калектыў «Журавушка»), б-ка, амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. Помнік землякам. Радзіма бел. вучонага ў галіне машынабудавання В.Я.Прушака (н. ў 1956 г.), бел. хормайстра, педагога А.А.Шагава (н. ў 1953 г.).



*В.Я.Прушак.*

**ЯМНАЕ** – пасёлак у Соснаўскім с/с. За 19 км на ПдЗ ад г. Любань, 36 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Асіповічы–Баранавічы, 172 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 37 жыхароў (2011).

Склаўся ў 1-й пал. 20 ст. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў Загальскім с/с, пасёлак, 457 жыхароў, у складзе эксперыментальнай базы «Любанская». У 1997 г. 54 гаспадаркі, 85 жыхароў. У 2009 г. 28 гаспадарак, 40 жыхароў, у складзе РУП «Эксперыментальная база «Любанская».

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 6, воп. 1, спр. 1401, 2499, 2898, 3004; ф. 30, воп. 2, спр. 6018; воп. 5, спр. 6766; ф. 42, воп. 1, спр. 665; воп. 2, спр. 100, 1182, 1184, 1188, 1189, 1197, 1708, 4566, 4584, 5263, 5267, 5270, 5272–5277, 5279, 5280, 5294, 5316, 5319; ф. 48, воп. 1, спр. 372, 658, 4432, 4881, 4930, 4934, 6505, 9434.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, КМФ-5, воп. 1, спр. 1767, 1881, 2099, 3855; ф. 21, воп. 1, спр. 29, 46, 56; ф. 27, воп. 5, спр. 657, 659, 660–662; ф. 76, воп. 1, спр. 228; ф. 142, воп. 1, спр. 2, 29, 49, 51–54, 56, 112, 115, 151, 155, 178, 851, 1728; ф. 242, воп. 1, спр. 778; воп. 4, спр. 676; ф. 333, воп. 2, спр. 641, 2140, 2141, 2185; воп. 5, спр. 635; воп. 9, спр. 47, 200, 216, 516, 518а, 628, 642, 666; ф. 694, воп. 2, спр. 738; воп. 4, спр. 129, 1922; ф. 1322, воп. 1, спр. 1; ф. 2502, воп. 1, спр. 145.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 2, спр. 1294, 1336; воп. 4, спр. 1336; воп. 11, спр. 1318; ф. 1350, воп. 312, спр. 89.
Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. 445, воп. 1, спр. 4376.
Журнал Министерства внутренних дел. 1843. № 3;
Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 9, ч. 4. Минская губерния, СПб., 1848;
Минские губернские ведомости. 1861. № 20. Прибавление;
Зеленский И. Материалы по географии и статистике России. Минская губерния. Ч.1. Санкт-Петербург, 1864;
Историко-статистическое описание Минской епархии. СПб., 1864;
Список волостей, обществ и селений Минской губернии на 1.1.1870 г. Минск, 1870;
Труды Минского губернского статистического комитета. Историко-статистическое описание девяти уездов Минской губернии. Вып. 1. Минск, 1870;
Отчет о церковноприходских школах и школах грамоты Минской епархии за 1890/91 учебный год. Минск, 1891;
Города России в 1904 г. Санкт-Петербург, 1906;
Историко-стратегический очерк XVI-й армии. Могилев, 1921;
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861 гг.). Минск, 1966;
Майсейшын Ф. Незабыўнае. Мінск, 1972;
Польскі С.А. Нарысы геаграфіі гарадоў Беларускай ССР (1917–1941 гг.). Мінск, 1973;
Будаўнік камунізма. 1974. 29 чэрв.;
Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв. Минск, 1975;
Краснознаменный Белорусский военный округ. 2 изд. Минск, 1983;
Грицкевич А.П. Древний город на Случи. Минск, 1985;
Памяць: Любанскі р-н. Мінск, 1996.



# МАЛАДЗЕЧАНСКІ РАЁН



У Купалаўскім мемарыяльным запаведніку «Вязынка».



Гарадзішча Замчышча на ўскраіне г. Маладзечна.

Размешчаны на ПнЗ Мінскай вобл. Цэнтр — г. Маладзечна. Пл. 1,4 тыс. км$^2$, з іх с.-г. зямель каля 55%, пад лясамі 33%. Насельніцтва 44,2 тыс. чал. (2009, без г. Маладзечна). Жывуць беларусы (90%), рускія (6,8%), украінцы (1,1%), палякі (0,6%), інш. (1,5%). У складзе раёна г.п. Радашковічы, 269 сельскіх нас. пунктаў; падзяляецца на Радашковіцкі пас. Савет і 14 сельсаветаў: Аляхновіцкі, Гарадзілаўскі, Гарадоцкі, Граніцкі, Красненскі, Лебедзеўскі, Маркаўскі, Мясоцкі, Палачанскі, Радашковіцкі, Хажоўскі, Хоўхлаўскі, Цюрлёўскі, Чысцінскі. Мяжуе з Валожынскім, Вілейскім, Мінскім і Смаргонскім раёнамі. Па тэр. раёна праходзяць чыгункі Мінск—Вільнюс і Полацк—Ліда, аўтадарогі на Мінск, Вільнюс, Вілейку, Валожын.

Утвораны 15.1.1940 г. ў складзе Вілейскай вобл.; 12.10.1940 г. падзелены на 15 сельсаветаў. У Вял. Айч. вайну ў канцы чэрв. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў горадзе і раёне 34 718 чал. Дзейнічалі Маладзечанская дыверсійна-разведвальная група, Маладзечанскія падп. райкамы КП(б)Б (4.12.1943—28.6.1944) і ЛКСМБ (4.12.1943—5.7.1944), партыз. брыгады «За Радзіму», імя Будзённага (Вілейская вобл.), 2-я імя Суворава, асобны партыз. атрад імя Катоўскага, спецгрупа «Знішчальнік». Раён вызвалены ў пач. ліп. 1944 г. войскамі 3-га Бел. фронту ў ходзе Вільнюскай аперацыі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях, адначасова да раёна далучаны г.п. Радашковічы і частка сельсаветаў скасаванага Радашковіцкага р-на.

Большая частка раёна размешчана на Мінскім і Ашмянскім узвышшах, паўн. частка — у межах Нарачана-Ві-



Рака Бярэзіна (басейн Нёмана) каля в. Гарадок.



*Дарога паміж вёскамі Палачаны і Зоранька.*



*Краявіды каля в. Плябань. Рака Уша.*





*Брама і рэшткі былога касцёла Святога Роха ў в. Палачаны.*



*Я.Купала.*



*Вадаём каля в. Насілава.*

лейскай нізіны. Паверхня пераважна ўзгорыстая. Пераважаюць вышыні 170—210 м, макс. — 320 м (каля в. Дубрава). Карысныя выкапні: пясчана-гравійны матэрыял, будаўнічыя пяскі, гліны, торф; крыніцы мінеральных вод. Сярэдняя т-ра студз. -6,6 °С, ліп. 17,6 °С. Ападкаў 656 мм у год. Вегетацыйны перыяд 189 сут. Глебы сельгасугоддзяў дзярнова-падзолістыя, тарфяна-балотныя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя і інш. Найб. рэкі: Бярэзіна (бас. р. Нёман), Уша з прытокамі Цна, Гадзея, Тур'я, Рыбчанка; Васькаўскае вадасховішча. Праз раён праходзіць частка Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. Балоты (18,4 тыс. га) пераважна нізінныя; найб. значныя — Бярэзінскае і Масцішча. Помнікі прыроды мясц. значэння — заказнікі: ландшафтны «Бортнікі», біялагічны «Сасна веймутава», гідралагічны «Рака Вязынка»; помнік прыроды «Ліственіца» ў Лебедзеўскім лясгасе, хвойнік з возерам каля в. Раёўка ў Красненскім лясгасе, гідралагічныя помнікі прыроды: «Крыніца Лешна», «Крыніца Багдановіча».

Асн. галіны сельскай гаспадаркі — мяса-малочная жывёлагадоўля, бураводства і льнаводства. Вырошчваюць збожжавыя, кармавыя культуры, бульбу, агародніну. Працуюць 52 прадпрыемствы, у асн. харч. і будаўнічых матэрыялаў прам-сці. У сістэме адукацыі 17 сярэдніх, 14 базавых, 6 пач., 6 муз. і мастацкіх школ, 2 ПТВ, дом дзіцячай






*Калона з скульптурнай выявай Прасвятой Багародзіцы пры ўездзе ў г. Маладзечна.*

*Скульптурная кампазіцыя «Пасажырка» на чыгуначным вакзале г. Маладзечна. Аўтар В.Мацкевіч.*

творчасці, дзіцяча-юнацкі клуб фізічнай падрыхтоўкі. Працуюць 89 культ. устаноў, з іх 27 клубных. На тэр. раёна 268 помнікаў, з іх 202 гіст., 32 арх., 25 археал. Выходзяць «Маладзечанская газета» і «Рэгіянальная газета». Транслiруецца радыёпраграма «Радыё Маладзечна».

**МАЛАДЗЕЧНА** – горад, цэнтр раёна. За 72 км на ПнЗ ад Мінска, на р. Уша (прыток р. Вілія). Вузел чыг. ліній на Мінск (электрыфікаваная), Вільнюс, Полацк, Ліду. Аўтадарогамі злучана з Мінскам, Вільнюсам, Мядзелам, Валожынам. 94,2 тыс. жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца пад 1388 г. у прысяжным лісце ноўгарад-северскага кн. Дзмітрыя Альгердавіча Карыбута вял. кн. ВКЛ Ягайлу. З 1413 г. ў Віленскім ваяв. ВКЛ. У 15 ст. пабудаваны Маладзечанскі замак. Развіццю горада спрыяў гандлёвы шлях з Мінска праз Радашковічы–Маладзечна–Крэва на Вільню. У 1511 г. вял. кн. літ. Жыгімонт падараваў двор Маладзечанскі ў вотчыну «непарушно на вскн» кн. Міхаілу Іванавічу Мсціслаўскаму, які пасля смерці завяшчаў яго сваім 4 дочкам. Належаў таксама Заслаўскім, Сангушкам, Рагозам, Радзівілам, Агінскім, Тышкевічам. Горад неаднаразова быў спустошаны ў час войнаў. У 1519 г. замак двойчы асаджалі ноўгарадска-пскоўскія ратнікі на чале з кн. М.Кісліцам. У 1534 г. рус. ваяводы Міхаіл Гарбаты і Мікіта Абаленскі «с огнем и мечем дошли до Молодечно». У час Лівонскай вайны 1558–83 гг. мала-



*Станцыя пад'ёму вады Вілейска-Мінскай воднай сістэмы каля г.п. Радашковічы.*





*Фрагмент гістарычнай забудовы г. Маладзечна.*

*Музычнае вучылішча імя М.К.Агінскага ў г. Маладзечна.*

дзечанскі маёнтак быў падзелены (1567) на часткі, якія належалі розным уладальнікам. У 1567 г. тут вяліся папярэднія перагаворы прадстаўнікоў ВКЛ і Польшчы аб умовах Люблінскай уніі 1569 г. У 1568 г. пад Маладзечнам размяшчалася 40-тысячная армія Жыгімонта II Аўгуста, якая супрацьстаяла войскам Івана IV Грознага. У 1600 г. пабудавана драўляная праваслаўная царква. У 1617 г. частку маёнтка купіў Леў Сапега. У 1623 г. мястэчка (больш за 1 тыс. жыхароў), цэнтр маёнтка і воласці — прыватная ўласнасць у Віленскім ваяв. Тут налічвалася 8 вуліц (Вялікая Замкавая, Малая Замкавая, Агародніцкая, Рыначная, Лебедзеўская, Цюкомская), якія сыходзіліся да гандлёвай плошчы (цяпер пл. Старое Места). У 1628 г. маёнтак, у склад якога ўваходзіў шэраг фальваркаў (Ляўкова, Вязавец, Мясата, Дырманавічы, Пісараўшчына, Раёўшчына), купіў ваявода смаленскі Аляксандр Гасеўскі. У 17 ст. горад меў каля 3 тыс. жыхароў, уваходзіў у лік 20 буйнейшых гарадоў Беларусі. У Паўн. вайну 1700—21 гг. захоплены шведскімі войскамі (1708). У пач. 18 ст. Маладзечанскі замак стаў рэзідэнцыяй кн. Агінскіх. У 1740 г. кароль Аўгуст III даў прывілей на адкрыццё ў Маладзечне 2 штотыднёвых таргоў; у 1758 г. М.Агінскі атрымаў прывілей на 4-тыднёвы кірмаш, у гэтым жа годзе ён пабудаваў драўляны касцёл, які ў 1762 г. перадаў трынітарыям і пабудаваў для іх мураваны кляштар. У 1783 г. мястэчка ва ўласнасці сына Фадзея Агінскага Францішка Ксаверыя. У 1785 г. праваслаўная царква была пераўтворана ва ўніяцкую. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, мястэчка; цэнтр воласці Вілейскага павета Мінскай, з 1842 г. Віленскай губерняў. У вайну

*Чыгуначны вакзал у г. Маладзечна.*

*Пакроўская царква ў г. Маладзечна.*





1812 г. пры вызваленні Маладзечна 4—5 снеж. адбыўся бой паміж рус. і французскімі войскамі. З 1814 г. Маладзечна належала славутаму кампазітару сенатару Міхалу Клеафасу Агінскаму. Сюды ж па хадайніцтве дзядзькі сенатара графа Францішка Агінскага яшчэ ў 1811 г. было пераведзена 5-класнае павятовае вучылішча з Бабруйска. Спачатку яно размяшчалася ў палацы Агінскіх, пасля вайны 1812 г. пераведзена ў будынак былога кляштара, дзе ў 1832 г. размяшчалася і паштовая станцыя. Жыхары мястэчка ўдзельнічалі ў паўстаннях 1830—31 гг. і 1863 г. У 1832 г. маладзечанскія ўладанні М.К.Агінскага распаліся на часткі, якія адышлі да крэдытораў: графу Тышкевічу, А.Лапацінскаму, Юшынскаму, Мароўскаму, Б.Лапацінскаму, Рачкоўскаму, Буржымоўскаму і інш. У 1860 г. працавала прагімназія, у 1864 г. на яе базе адкрыта настаўніцкая семінарыя; у 1893 г. налічвалася 77, у падрыхтоўчым класе — 26, у пач. вучылішчы пры семінарыі — 85 навучэнцаў. У 1861 г. ў мястэчку 117 двароў, 796 жыхароў. Меліся праваслаўная царква, касцёл, паштовая станцыя. У 1871 г. была пабудавана Пакроўская царква. У 1873 г. праз Маладзечна пракладзена Лібава-Роменская чыгунка, што садзейнічала яго эканам. росту. У гэтым жа годзе пабудаваны



Помнік Міхалу Клеафасу Агінскаму ў г. Маладзечна.

драўляны чыг. вакзал. У 1886 г. 85 двароў, 648 жыхароў, 3 царквы, капліца, 3 сінагогі, паштовая станцыя, піваварня, 7 піцейных дамоў, 12 заезных дамоў, 18 крам, штотыднёвыя кірмашы. Гал. магістралямі з'яўляліся вуліцы Замкавая (ад замка да гандлёвай плошчы) і Віленская. У 1898 г. працавалі рэктыфікацыйны з-д (9 рабочых, паравы рухавік), некалькі дробных прадпрыемстваў па перапрацоўцы мясц. сыравіны. У 1897 г. ў мястэчку 240 двароў,



Касцёл Святога Юзафа ў г. Маладзечна.



Цэнтральная плошча ў г. Маладзечна.



*Будынак былой сінагогі ў г. Маладзечна.*

2178 жыхароў, дзейнічалі валаснoe і мяшчанскае праўленні, настаўніцкая семінарыя з падрыхтоўчым класам, пач. яўр. вучылішча з падрыхтоўчым класам і рамесным аддз., паштова-тэлеграфнае аддз., лячэбніца, аптэка, 28 крам, 8 карчмаў, вінная крама, піўны склад, 2 царквы, капліца, 2 яўр. малітоўныя школы, багадзельня, хлебазапасны магазін. У канцы 19 ст. мястэчка пачало разбудоўвацца ўздоўж вуліц Вілейская, Віленская, Гарадоцкая, Мінская, Шведская. У пач. 20 ст. мястэчка, цэнтр Маладзечанскай вол. ў Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1904 г. 2393 жыхары, 6 прадпрыемстваў. Дзейнічала мясц. арг-цыя РСДРП. Рабочыя чыг. ст. Маладзечна ўдзельнічалі ў рэвалюцыі 1905—07 гг. У 1907 г. на месцы старога драўлянага будынка чыг. вакзала ўзведзены мураваны. У 1-ю сусветную вайну Маладзечна з восені 1915 г. апынулася ў прыфрантавой паласе. Тут дыслацыраваліся часці 10-й арміі Зах. фронту, размяшчаўся яе штаб, пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. выдавалася армейская газ. «Бюллетень военно-революционного комитета 10-й армии». У сак. 1917 г. былі створаны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. 23.3—13.4.1917 г. тут праходзіў 1-ы з'езд 10-й арміі. У гарнізоннай пякарні, дзе працавала 60 салдат і 140 вольнанаёмных рабочых, у ліп. 1917 г. створана 1-я бальшавіцкая арг-цыя. Сав. ўлада ўстаноўлена 7(20).11.1917 г. З 18 лютага да 18 снеж. 1918 г. Маладзечна акупіравана герм., з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польск. войскамі. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр гміны Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 295 двароў, 1997 жыхароў. З 1927 г. цэнтр Маладзечанскага павета. У 1929 г. атрымала статус горада, былі створаны магістрат. Дзейнічалі падп. райкамы КПЗБ, КСМЗБ, арг-цыі Бел. сял.-работніцкай грамады і Т-ва бел. школы. У 1925, 1935 і 1936 гг. адбыліся забастоўкі рабочых. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. цэнтр Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У 1940 г. адкрыта пед. вучылішча, працавалі 3 б-кі, 2 клубы, бальніца, 2 аптэкі, гарпрамкамбінат. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў Маладзечне 11 200 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія стварылі тут лагер смерці (шталаг № 342) і загубілі ў ім 33 150 чал. Дзейнічала падп. дыверсій-

*Маладзечанская друкарня «Перамога».*



*Мемарыяльная дошка на будынку маладзечанскай друкарні «Перамога».*





1




2

*Будынак былой настаўніцкай семінарыі ў г. Маладзечна: 1) агульны выгляд; 2) мемарыяльныя дошкі і ахоўны знак.*

на-разведвальная група (кіраўнік Д.Я.Гарновіч). 5.7.1944 г. горад вызвалены войскамі 3-га Бел. фронту пры ўдзеле партыз. брыгады «Народныя мсціўцы» імя В.Т.Варанянскага ў ходзе Вільнюскай аперацыі. 13 вайсковым злучэнням і часцям нададзены ганаровыя найменні «Маладзечанскіх». З 20.9.1944 г. цэнтр Маладзечанскай вобл. У 1947—55 гг. працаваў настаўніцкі ін-т. У школах, на прадпрыемствах дзейнічалі самадзейныя драматычныя гурткі. З 20.1.1960 г. цэнтр раёна ў Мінскай вобл. У 1972 г. 56,1 тыс. жыхароў. У 1993—97 гг. на месцы касцёла трынітарыяў пабудаваны касцёл Св. Іосіфа (Юзафа). У горадзе дзейнічаюць прадпрыемствы машынабудаўнічай і металаапрацоўчай (станкабудаўнічы з-д, ААТ «Электрамодуль», радыёзавод «Спадарожнік», з-ды металаканструкцый, жалезабетонных канструкцый, металавырабаў, парашковай металургіі, ЗАТ «Струм»), лёгкай (ф-ка мастацкіх вырабаў, вытворча-гандлёвы камбінат «Аксаміт-М», ААТ «Швейная фірма «Юнона», «Швейная фабрыка «Дзіната», бел.-кіпрскае сумеснае прадпрыемства па вырабе абутку «Рэйліт»), харчовай (мясакамбінат, хлебапрадуктаў, харчовы, малочны камбінаты, хлебазавод — філіял РУП «Барысаўхлебпрам», ААТ «Маладзечнапіва», «Канфа»), будаўнічых матэрыялаў (з-д жалезабетонных вырабаў, ААТ «Маладзечнажалезабетон»), дрэваапрацоўчай (ЗАТ «Маладзечнамэбля») прам-сці; РУП «Друкарня «Перамога». Навучальныя ўстановы: політэхнічны, гандлёва-эканам., медыцынскі каледжы, муз. вучылішча, 3 ПТВ, 13 сярэдніх школ, 2 школы-інтэрнаты, школы агульнаадукацыйная мастац-

*Капліца Святога Піа ў г. Маладзечна.*

*Мемарыяльны комплекс «Шталаг-342» у памяць аб ахвярах фашызму на месцы былога лагера смерці ў г. Маладзечна.*







З.Аксельрод.

Фестываль-кірмаш «Дажынкі-2011» у г. Маладзечна.







тваў, мастацкая і муз., духавых інструментаў, 33 дашкольныя ўстановы. Установы культуры: Мінскі абл. драматычны тэатр, Мінскі абл. тэатр лялек «Батлейка», кінатэатр, відэасалон, 5 б-к, 2 дамы культуры, Мінскі абл. краязнаўчы музей. Медыцынскія ўстановы: 4 бальніцы, 9 амбулаторна-паліклінічных устаноў, цэнтры здароўя і дыягностыка-рэабілітацыйны для дзяцей-інвалідаў, станцыя пералівання крыві, санэпідэмстанцыя, музей медыцыны Маладзечаншчыны. Працуюць Маладзечанскі гар. сімфанічны аркестр, Мінскі абл. камерны хор «Санорус», калектывы муз. і мастацкай самадзейнасці. Праводзяцца традыц. фестываль бел. песні і паэзіі, рэсп. тэатральны фестываль «Маладзечанская сакавіца». Выдаюцца раённая «Маладзечанская газета» і «Рэгіянальная газета». Трансліруецца радыёпраграма «Радыё Маладзечна». Помнікі: у гонар перамогі рус. войск у вайну 1812 г., у гонар войск 3-га Бел. фронту, Героям Сав. Саюза А.І.Валынцу і Ф.Р.Маркаву, мемарыяльны комплекс «Шталаг-342» ахвярам фашызму на тэр. б. лагера смерці, мемарыяльны комплекс у гонар вызваліцеляў; брацкая магіла сав. воінаў, партызан, парт. і сав. работнікаў, магіла ахвяр фашызму (за 1,5 км ад горада каля аўтадарогі Маладзечна—Вілейка), помнік ахвярам фашызму — жыхарам Маладзечна «Сцяна памяці». Помнікі архітэктуры: Пакроўская царква (1867—71), чыг. вакзал (1907), будынак кляштара трынітарыяў (1762) — былая настаўніцкая семінарыя (зараз адзін з карпусоў станкабудаўнічага з-да). Помнік археалогіі — гарадзішча Замчышча. Маладзечна — радзіма бел. паліт. і грамадскага дзеяча, паэта А.Р.Капуцкага (1897—1934), бел. паэта З.Аксельрода (1904—41). Значны ўклад у развіццё горада зрабіў засл. дзеяч навукі Беларусі, чл.-кар. НАН Беларусі, д-р тэхніч. навук Г.Д.Карпенка (1949—99), які ў 1992—94 узначальваў выканкам г. Маладзечна.

**АБРЭМАЎШЧЫНА** — вёска ў Красненскім с/с, за 26 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 52 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У канцы 18 ст. вёска вядома як ваколіца ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 11 двароў, 54 шляхціцы. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Свечкі ў Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1861 г. 9 рэвізскіх сял. душ належалі памешчыку Куроўскаму. У 1870 г. вёска ва Уланаўшчынскай сельскай грамадзе. У пач. 20 ст. невял. вёска, 45 дзес. зямлі, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1909 г. 2 двары, 23 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупі-

равана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 4 двары, 20 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 10.7.1954 г. ў Красненскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл.

**АБУХАЎШЧЫНА** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 110 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 24 жыхары (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Ашмянскім павеце Віленскай губ. У 1801 г. 7 двароў, 65 жыхароў, уладанне К.Агінскага. У 2-й пал. 19 ст. ў Палачанскай вол., у складзе маёнтка Ленкаўшчызна, уласнасць памешчыкаў Струцінскіх. У 1866 г. ў вёсцы 14 рэвізскіх душ. У 1870 г. вёска ў Шыпуліцкай сельскай грамадзе. У 1897 г. 8 двароў, 50 жыхароў. У пач. 20 ст. 22 дзес. зямлі, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1909 г. 3 двары, 59 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 9 двароў, 70 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. ў вёсцы 54 жыхары.

**АБУХАЎШЧЫНА** — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 21 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 57 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2010).

У 1646 г. вядома як фальварак маёнтка Хоўхла, уладанне Радзівілаў у Мінскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Першамайскай вол. Мінскіх павета і губ. У 1870 г. вёска (10 рэвізскіх душ) ва ўладанні графа Тышкевіча. У 1897 г. 4 двары, 44 жыхары, меўся вадзяны млын. У 1909 г. 5 двароў, 42 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 6 двароў, 52 жыхары, у фальварку 1 двор, 5 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2002 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў.

**АГАРОДНІКІ** — вёска ў Гарадоцкім с/с, за 29 км на ПдУ ад Маладзечна, 48 км ад Мінска, 12 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

Вядомы з канца 16 ст. як уладанне Радзівілаў у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1646 г. ў вёсцы 5 дымоў, 4 валокі зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 4 двары, 19 жыхароў. Тут жыла ваколічная шляхта, быў і сял. двор (2 жыхары). Вёска належала памешчыку Галынскаму. У 2-й пал. 19 ст. ў складзе маёнтка Доўцавічы ў Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. 9 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка Галынскага. У 1870 г. ў Пятроўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. засценак, 1 двор, 16 жы-

хароў; у фальварку 1 двор, 13 жыхароў. У пач. 20 ст. засценак, 18 дзес. зямлі, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскай губ. У 1904 г. 16 жыхароў. Побач з вёскай размяшчаўся фальварак памешчыка Барсука, які меў тут 36 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, засценак у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 2 двары, 21 жыхар. Непадалёку ад засценка знаходзіўся фальварак (1 двор, 9 жыхароў). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Гарадоцкім с/с. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 7 двароў, 30 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, 1 жыхар загінуў на фронце і 2 у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 13 жыхароў.

**АДАМАВІЧЫ** — вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 2 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 87 км ад Мінска. 46 гаспадарак, 132 жыхары (2010).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 1719 г. як вёска, 4 двары, шляхецкая ўласнасць. У 1761 г. сяло ў Мінскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 6 двароў, 37 жыхароў, у Вілейскім павеце, уладанне К.Агінскага. У 1858 г. ў складзе Раеўскага маёнтка, 28 сялянскіх душ, уладанне памешчыка Аскеркі. У 1873 г. ў Раеўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. 11 двароў, 85 жыхароў, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1909 г. 7 двароў, 102 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 21 двор, 144 жыхары. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 54 гаспадаркі, 144 жыхары.

**АЛЕКСАНДРОВА** — вёска ў Гарадоцкім с/с, за 29 км на Пд ад Маладзечна, 48 км ад Мінска, 10 км да чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна. 7 гаспадарак, 16 жыхароў (2010).

У 19 ст. вядома як засценак у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. засценак, 2 двары, 17 жыхароў, якія мелі 3 дзес. зямлі, у 1904 г. ўласнасць Канаржэўскай. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., фальварак, 1 двор, 2 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Гарадоцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 2002 г. 8 гаспадарак, 16 жыхароў.

**АЛЯХНОВІЧЫ**, Алехнавічы, Алёхнавічы — вёска, цэнтр сельсавета і чыг. станцыя на лініі Мінск—Маладзечна, 19 км на ПдУ ад Маладзечна, 50 км ад Мінска. 587 гаспадарак, 1709 жыхар (2010).

У 1483 г. ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ваявода віленскі Алёхна, магчыма, назва вёскі мае дачыненне да яго прозвішча. У 18 ст. ўпамінаецца пад назвамі Алехнаўцы, Алехнаў-

ка. У 1781 г. 11 двароў, 65 жыхароў; фальварак, капліца, бровар, уласнасць З.Глушынскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Вілейскім павеце Мінскай, з 1843 г. Віленскай губерняў. У 1866 г. вёска (38 рэвізскіх душ), фальварак (1 двор, 7 жыхароў), на паштовай дарозе з Вільні ў Мінск, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета, уласнасць Свентаржэцкага. У 1872 г. тут была пракладзена чыгунка, у 1885 г. пабудаваны вакзал. У 1897 г. вёска (30 двароў, 178 жыхароў) і чыг. станцыя (61 жыхар) у Краснасельскай вол. Вілейскага павета. У пач. 20 ст. вёска, 235 дзес. зямлі, ва Ушанскай сельскай грамадзе. У 1909 г. вёска (11 двароў, 198 жыхароў) і фальварак (5 двароў, 57 жыхароў). У канцы вер. 1917 г. 5-ю батарэю, 6-ы і 7-ы пяхотныя палкі Сібірскай дывізіі як «палітычна ненадзейныя» камандаванне 10-й арміі зняло з перадавой і пакінула на ст. Аляхновічы і Заслаў'е. Вестку аб перамозе Кастрычніцкай рэвалюцыі воіны сустрэлі мітынгам, дзе салдаты 5-й батарэі аб'явілі сябе чырвонагвардзейцамі і вырашылі прасіць ВРК Зах. фронту ўключыць іх у атрады Чырвонай гвардыі. У першыя дні ліст. 1917 г. быў сфарміраваны зводны чырвонагвардзейскі атрад з салдат 5-й брыгады, батальёна пяхоты і кулямётнай роты 2-й Сібірскай дывізіі. Атрад увайшоў у склад 1-га Мінскага рэв. атрада, удзельнічаў у раззбраенні эшалонаў «дзікай» дывізіі на ст. Крывічы. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., вёска (3 двары, 243 жыхары) і фальварак (5 двароў, 57 жыхароў). З 1927 г. вёска ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Ушанскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 120 двароў, 610 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі тут 15 двароў. На ст. Аляхновічы ў 1942 г. фашысты стварылі канцлагер, у якім загінула шмат ваеннапалонных. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1948 г. быў створаны калгас «Новае жыццё». У 1955 г. на базе саўгаса створана птушкафабрыка. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. З 16.10.1964 г. ў Аляхновіцкім с/с. У 2001 г. 385 гаспадарак, 1743 жыхары. У 2011 г. ў вёсцы размешчаны цэнтр ТАА «Агракамбінат «Аляхновічы». Працуюць сярэдняя школа, клуб, б-ка, урачэбная амбулаторыя, аддз. су-

*Царква Раства Іаана Прадцечы ў в. Аляхновічы.*

*Чыгуначная станцыя Аляхновічы.*





вязі, камбінат быт. абслугоўвання, 4 магазіны. У 1958 г. насупраць будынка выканкама сельсавета пастаўлена стэла на ўшанаванне памяці 31 земляка, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1977 г. на будынку чыг. станцыі ўстаноўлена мемарыяльная дошка чырвонагвардзейцам.

**АПАЛЕІ** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 108 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

У 19 ст. засценак у Ашмянскім павеце Віленскай губ. У 1861 г. частка засценка (8 рэвізскіх душ) у складзе маёнтка Пекары, уладанне Лакуцоўскага, другая частка (6 рэвізскіх душ) — дзярж. маёмасць маёнтка Барздынен. У 1897 г. 9 двароў, 51 жыхар. У пач. 20 ст. засценак у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., у Шыпульскай сельскай грамадзе. У 1909 г. вёска, 2 двары, 49 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 10 двароў, 61 жыхар. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2002 г. 5 двароў, 6 жыхароў.

**АСАВЕЦ** — вёска ў Чысцінскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Маладзечна, 58 км ад Мінска, 4,5 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 81 гаспадарка, 222 жыхары (2012).

Згадваецца ў 18 ст. як прыватная ўласнасць у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1765 г. 8 двароў, уласнасць панаВаладзьковіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска і 2 маёнткі ў Красносельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1866 г. частка вёскі Асавец (28 рэвізскіх душ) уваходзіла ў маёнтак памешчыка Аколава, другая частка вёскі (41 рэвізская душа) — у маёнтак памешчыка Высоцкага. У 1897 г. ў вёсцы 31 двор, 230 жыхароў. Мелася праваслаўная царква. У пач. 20 ст. 405 дзес. зямлі, у Красносельскай сельскай грамадзе. У 1904 г. 238 жыхароў. У маёнтку памешчыка Высоцкага 240 дзес. зямлі, у маёнтку памешчыка Аколава 124 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красносельскай гміне Вілейскага павета, 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 32 двары, 135 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія 20.10.1943 г. спалілі 21 двор, загубілі 28 чалавек; 12 жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 12 вяскоўцаў загінула на фронце, 41 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавалася. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 69 двароў, 264 жыхары. З 24.12.1991 г. ў складзе Чысцінскага с/с. У 1965 г. на магіле ахвяр фашызму, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены абеліск.

**АСАНАВА**, Казубрэты — вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 5 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 85 км ад Мінска. 56 гаспадарак, 109 жыхароў (2010).

У 19 ст. фальварак і засценак у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Ві-

ленскай губ. У 1866 г. ў фальварку 1 двор, 12 жыхароў, уласнасць памешчыка Улана Малюшчынскага, які меў тут 75 валок зямлі. Побач з фальваркам знаходзіўся засценак, у якім налічвалася 5 рэвізскіх душ. У 1897 г. засценак (5 двароў, 46 жыхароў) і маёнтак (62 жыхары) у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета. У пач. 20 ст. засценак, 24 дзес. зямлі, у Лебедзеўскай сельскай грамадзе. У 1904 г. 46 жыхароў. У маёнтку 51 жыхар, уласнасць Пашавецкага, які меў тут 624 дзес. зямлі. З лютага да снежня 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да 10.7.1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 12 двароў, 80 жыхароў, у засценку 8 двароў, 53 жыхары. Пазней вёска і засценак зліліся. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лебедзеўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 58 двароў, 173 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 1 двор, 1 жыхара вывезлі ў Германію. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 62 двары, 205 жыхароў.

**БАБРЫ** — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 21 км на Пд ад Маладзечна, 57 км ад Мінска, 15,5 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

У канцы 18 ст. вёска вядома як прыватнае ўладанне Вілейскага павета Мінскай губ. У 1800 г. 4 двары, 30 жыхароў, уласнасць памешчыка І.Валадзьковіча, уваходзіла ў склад маёнтак Чэрнева. У 1857 г. 26 жыхароў. У 1873 г. маёнтак належаў памешчыцы Язвінскай. У 1897 г. вёска, 7 двароў, 58 жыхароў, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у Чэрнеўскай сельскай грамадзе. У 1904 г. 58 жыхароў. У 1909 г. 4 двары, 77 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Гарадоцкай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв., 16 двароў, 66 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары.

**БАЛЬЦАРЫ**, Банцары, Банцэры, Банцыры — вёска ў Аляхновіцкім с/с, за 18 км на ПдУ ад Маладзечна, 50 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна. 7 гаспадарак, 19 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска Бальцэры (яна ж Віткаўшчызна) у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 9 двароў, 70 жыхароў. У асноўным вёску засяляла валолічная шляхта і толькі ў трох дварах жылі прыгонныя сяляне (28 чал.), належала памешчыку К.Шаблоўскаму. У 2-й пал. 19 ст. вёска вядома як аднайменны маёнтак у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У склад маёнтка ўваходзілі вёскі Пажарышча, Кукелі і засценак Гердуцішкі. У 1873 г. маёнтак належаў памешчыкам Каліноўскаму (36 жыхароў) і Цеханоўскай (29 жыхароў). У 1897 г. маёнтак, 2 двары, 22 жыхары. У 1904 г. маёнтак, уласнасць памешчыкаў Міхайлоўскіх, якія мелі тут 140 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. фальварак, 1 двор, 15 жыхароў, у Гарадоцкай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У

Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 56 жыхароў. У 1987 г. ў складзе саўгаса «Дубрава» (цэнтр — в. Дубрава). У 2001 г. 12 гаспадарак, 31 жыхар.

**БАРБАРОВА** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 33 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 111 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

Вядома з 19 ст. як маёнтак Барбарова ў Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. маёнтак, уласнасць Янушэвіча, які меў тут 131 дзес. зямлі. Знаходзіўся за 16 вёрст ад чыг. ст. Залессе. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., у фальварку 1 двор, 6 жыхароў. У 1938 г. 3 двары, 25 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары.

**БАРКІ**, Барок — вёска ў Палачанскім с/с, за 16,5 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 94,5 км ад Мінска, на р. Бярэзіна (прыток р. Нёман). 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2010).

У 19 ст. фальварк у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1850 г. фальварак у складзе маёнтка Яхімаўшчына (ён жа Яхомаўшчына). У канцы 19 ст. невялікая вёска і фальварак. У 1897 г. ў вёсцы 2 двары, 12 жыхароў, у фальварку 14 двароў, 55 жыхароў. У 1904 г. вяскоўцам належала 10 дзес. зямлі. Вёска знаходзілася за 15 вёрст ад чыг. ст. Пруды. У суседнім аднайменным фальварку Любанскага 55 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. У 1938 г. вёска, у Маладзечанскім павеце, 2 двары, 13 жыхароў. Побач з вёскай размяшчаліся фальварак Баркі Малыя (2 двары, 25 жыхароў) і маёнтак Баркі Вялікія (2 двары, 37 жыхароў). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Палачанскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 45 жыхароў.

**БАРОЎШЧЫНА** (да 1964 г. — Пузыкі) — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 108 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 22 жыхары (2010).

Узнікла як засценак Пузыкі ў 19 ст. ў Ашмянскім павеце Віленскай губ. Засценак — дзярж. маёмасць у складзе маёнтка Бардзынь. У 1866 г. ў вёсцы 11 рэвізскіх душ, у Літвінскай сельскай грамадзе. Вёска сфарміравалася да канца 19 ст. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 21 двор, 105 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінула 9 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Ма-

ладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. Пасля вайны быў створаны калгас. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. У 1969 г. 75 жыхароў.

**БАЯРЫ** — вёска ў Красненскім с/с, за 26 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 52 км ад Мінска, на р. Уша (прыток р. Вілія). 85 гаспадарак, 228 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 17 ст. ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1646 г. ў вёсцы 26 дымоў, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска ў Вілейскім павеце Віленскай губ., уладанне каталіцкай плябаніі. У 1800 г. ў вёсцы 6 двароў, 22 жыхары, сярод якіх было 4 шляхціцы. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. 6 жыхароў, уласнасць памешчыка Райнольда. У 1873 г. ва Ушанскай сельскай грамадзе. У 1909 г. 5 двароў 23 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. вёска (5 двароў, 140 жыхароў) і дзярж. калонія (2 двары, 7 жыхароў). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1987 г. 113 двароў, 328 жыхароў, у калгасе «Прагрэс». У 2001 г. 99 гаспадарак, 240 жыхароў.

**БАЯРЫ** — вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 1,5 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 83 км ад Мінска. 52 гаспадаркі, 118 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска на р. Вярхоўка ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1799 г. вёска, 19 двароў, 76 жыхароў, здавалася ў арэнду розным уладальнікам, якія эканамічным націскам даводзілі да галечы многіх вяскоўцаў. У хуткім часе памеры вёскі паменшыліся да 12 двароў. У 2-й пал. 19 ст. ў Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета Віленскай губ., у Франапольскім маёнтку. У 1866 г. 36 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка Вышаміра. У 1873 г. ў Насілоўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска (17 двароў, 134 жыхары), 2 аднайменныя сядзібы (2 двары, 7 жыхароў), у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У пач. 20 ст. ў вёсцы 111 дзес. зямлі. У снежні 1905 г. паміж вяскоўцамі і адміністрацыяй маёнтка памешчыка Тукалы адбыліся сутычкі ў сувязі з высечкай лесу. У 1909 г. вёска, 9 двароў, 172 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. У 1938 г. ў вёсцы Баяры Насілоўскія 38 двароў, 185 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с. У 2001 г. 55 гаспадарак, 130 жыхароў.

**БЕЛЕВА**, Белеў — вёска ў Гарадоцкім с/с, за 19 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 69 км ад Мінска. 25 гаспадарак, 44 жыхары (2010).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 16 ст. Паводле дакументаў 1536 г. дварэц, адносіўся да двара Хоўхлава, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка Вілейскага павета Мін-

скай губ. У 1800 г. маёнтак, 1 двор, 7 жыхароў, уласнасць памешчыка К.Агінскага. У 2-й пал. 19 ст. ў Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. ў вёсцы 34 сял. душы, уласнасць памешчыка Адынца. У 1870 г. ў Семернікоўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. 2 засценкі (3 двары, 19 жыхароў), пасёлак (2 двары, 4 жыхары) і маёнтак (28 жыхароў). У 1892 г. працавалі смалакурны з-д, вадзяны млын, карчма. У пач. 20 ст. вёска, 109 дзес. зямлі, каля безыменнай ракі, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета, Віленскай губ. У 1904 г. ў вёсцы 122 жыхары. Непадалёку ад вёскі размяшчаўся маёнтак памешчыка Адынца, за 14 вёрст ад чыг. ст. Уша. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. У 1938 г. ў вёсцы 26 двароў, 155 жыхароў, у маёнтку 3 двары, 18 жыхароў. Працавалі смалакурня і вадзяны млын. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях з гітлераўцамі каля вёскі ў ліп. 1941 г. загінулі камандзір Чырвонай Арміі і 2 сав. лётчыкі. Акупанты загубілі 1 жыхара, 18 вывезлі ў Германію на прымусовыя работы, з якіх 2 загінулі. 5 вяскоўцаў загінула на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 16.7.1954 г. Белеўскі с/с скасаваны, яго тэр. далучана да Гарадоцкага с/с. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 201 жыхар. У 1973 г. злева ад дарогі Гарадок—Маладзечна, насупраць аўтобуснага прыпынку, на брацкай магіле сав. воінаў пастаўлены помнік — гранітны валун.

**БЕЛЫЯ** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 108 км ад Мінска. 49 гаспадарак, 119 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў Ашмянскім павеце Віленскай губ., у складзе маёнтка Гарадзілава. Уласнасць памешчыка Пузыны, пазней Ахматовіча. У 1857 г. 82 жыхары. У 1897 г. 39 двароў, 239 жыхароў. У 1899 г. ў вёсцы была адкрыта школа граматы. У пач. 20 ст. вёска, 187 дзес. зямлі, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., у Літвінскай сельскай грамадзе. Знаходзілася за 15 вёрст ад чыг. ст. Пруды. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 51 двор, 306 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінула 11 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 257 жыхароў.

**БЕНІЦА**, Б е й н і ц а — вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 22 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 100 км ад Мінска. 90 гаспадарак, 164 жыхары (2010).

Упершыню ўпамінаецца ў 15 ст. ў Маркаўскай вол. ВКЛ. У 1559 г. сяло, шляхецкая ўласнасць. У 1582 г. цэнтр маёнтка Беніца, уласнасць В.Г.Астравуха. У 1567 г. ўпамінаецца ў попісе войска Літ., уласнасць пана Рыгора Валовіча, слонімскага старосты, кашталяна наўгародскага. З 1634 г. родавы маёнтак паноў Коцелаў. У 2-й пал. 17 ст. Беніцай валодаў маршалак ашмянскі, пісар скарбавы ВКЛ Самуэль Геранім Коцел. У 1701—04 гг. быў пабудаваны з цэглы Троіцкі касцёл як храм кляш-

тара бернардзінцаў. У пач. 18 ст. Коцелы ўзбуйнілі маёнтак за кошт набытых фальваркаў. Тут размяшчаўся сядзібны палац, у якім былі мастацкая галерэя і вялізная б-ка. Побач знаходзілася шмат гасп. пабудоў, сад, парк з сажалкай і каналамі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1812 г. ў час адыходу французаў тут спыняўся Напалеон. У 1813 г. пасля смерці пана Міхаіла (апошняга з Коцелаў) вёска перайшла да яго пляменніцы Швыкоўскай і яе мужа Казіміра. У 1813 г. працавала школа. У 1829 г. быў засн. вінакурны з-д. У 1854 г. мястэчка, 96 жыхароў, уласнасць памешчыка Швыкоўскага. У 1862 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1864 г. на сродкі памешчыка Швыкоўскага была пабудавана з бутавага каменю праваслаўная Пакроўская царква. У 1886 г. мястэчка, 31 двор, 248 жыхароў, былое прыватнае ўладанне на ручаі Капаніцы — цэнтр воласці ў Ашмянскім павеце Віленскай губ. Тут размяшчаліся валаснное праўленне, 2 праваслаўныя царквы, багадзельня, піваварны і 2 вінакурныя з-ды, карчма. У храмавы дзень праходзіў таржок. У 1897 г. сяло, 24 двары, 198 жыхароў. Меліся валаснное праўленне, нар. вучылішча, 2 праваслаўныя царквы, штучная лаўка, заезны дом, карчма, багадзельня, 2 вінакурныя, піваварны з-ды. Непадалёку ад сяла на р. Верценка размяшчаліся маёнтак і вадзяны млын. У 1908 г. ў нар. вучылішчы вучылася 111 хлопчыкаў, 23 дзяўчынкі, настаўніца М.Ф.Бажко. У гады 1-й сусветнай вайны сяло было часткова разбурана. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, цэнтр гміны Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. мястэчка, 37 двароў, 252 жыхары; фальварак, 5 двароў, 94 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, у Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі тут 18 двароў; 14 жыхароў загінула ў баях. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. ў вёску перасялены жыхары в. Навасёлкі (17 двароў, 82 жыхары). У 1949 г. створаны калгас «Чырвоны прамень». У 1956 г. ў вёску перасялены жыхары в. Нялідкі (26 двароў, 82 жыхары). 11.9.1959 г. сельсавет скасаваны, тэр. ўключана ў Маркаўскі с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 108 гаспадарак, 218 жыхароў. У вёсцы





*Троіцкі касцёл у в. Беніца.*

*Пакроўская царква ў в. Беніца.*

размешчаны базавая школа, б-ка, аддз. сувязі.

**БЕРАЗІНСКАЕ** – пасёлак у Гарадзілаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 106 км ад Мінска. 717 гаспадарак, 1645 жыхароў (2010).

У канцы 1940-х г. у рэчышчы р. Бярэзіна (бас. Р. Нёман) пачалі здабываць торф. Запасы складалі 31,1 млн. т. Пачалося будаўніцтва торфараспрацоўчага прадпрыемства, на месцы якога ў 1951 г. ўзнік пасёлак. У 1970 г. 2 тыс. жыхароў. У 2001 г. 650 гаспадарак, 1677 жыхароў У 2011 г. ў пасёлку размешчаны рэсп. вытв. УП «Бярэзінскае», сярэдняя школа, клуб, б-ка, бальніца, дзіцячы сад, муз. школа, ПТВ № 42, 4 магазіны.

**БОРТНІКІ** – вёска ў Аляхновіцкім с/с, за 27 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 50 км ад Мінска, каля вытоку р. Бярэзіна (прыток р. Нёман). 14 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

У 17 ст. вядома як уласнасць Радзівілаў у Мінскім павеце і ваяв. ВКЛ. У 1646 г. 5 дымоў, 2 валокі зямлі. У 1754 г. сяло, 6 двароў, у складзе маёнтка Дубраў, шляхецкая ўласнасць. У 1791 г. 9 двароў, 60 жыхароў, вёска належала С.Марцінкевічу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 9 двароў, 49 жыхароў, уласнасць тайнага саветніка А.Хмары, у Мінскім павеце. У 19 ст. вёска ў складзе Мінскіх павета і губ. У 1816 г. частка вёскі (24 сял. душы мужчынскага полу) належала памешчыку Г.Хмару, 2-я частка вёскі (19 сял. душ мужчынскага полу) – памешчыку Ліхадзіеўскаму. У 1870 г. вёска маёнтка Эпімахі ў Ракаўскай вол. Мінскіх павета і губ., 35 жыхароў, уласнасць Адама Хмары. У 1897 г. 17 двароў, 99 жыхароў, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска 18 двароў, 111 жыхароў, у Ракаўскай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Дуброўскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1963 г. з вёскай аб'яднана в. Адамарына. З 27.10.1964 г. ў Аляхновіцкім с/с. У 1969 г. 172 жыхары. У 1987 г. ў складзе саўгаса «Дубрава» (цэнтр – в. Дубрава). У 2001 г. 27 гаспадарак, 45 жыхароў.

**БРОДЫ**, Брады, Брод – вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 13 км на Пд ад Маладзечна, 64 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2010).

У 19 ст. невялікая вёска ў складзе маёнтка Доўцавічы, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. 9 жыхароў. У 1870 г. ўласнасць памешчыка Барсука, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. вёска, 6 двароў, 27 жыхароў. У канцы 19 ст. ў вёсцы 59 дзес. зямлі, у Пятроўскай сельскай грамадзе. Непадалёку размяшчаўся засценак, 25 дзес. зямлі. У 1904 г. ў вёсцы 43 жыхары, у засценку 28 жыхароў, знаходзілася за 11 вёрст ад чыг. ст. Аляхновічы. З лютага да снеж. 1918 г. вёс-

*Клуб у пас. Беразінскае.*



ка акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1938 г. ў Гарадоцкай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв., 12 двароў, 67 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 7 гаспадарак, 12 жыхароў.

**БРОХАЎШЧЫНА** — вёска ў Хажоўскім с/с, за 11 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 89 км ад Мінска, на р. Цвецень (прыток р. Бярэзіна). 11 гаспадарак, 29 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў складзе маёнтка Ізабеліна ў Маладзечанскай вол. Вілейскага павета. У 1800 г. 4 двары, 21 жыхар і 2 двары, 11 жыхароў ваколічнай шляхты, уласнасць У.Гацэвіча. У 1857 г. 22 сял. душы мужчынскага полу, уласнасць Наргелевіча. У 1873 г. ў Мойсецкай сельскай грамадзе. У 1897 г. 15 двароў, 99 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 89 дзес. зямлі, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 107 жыхароў, у 1909 г. 8 двароў, 112 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. ў Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 16 двароў, 88 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Хажоўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. З 11.9.1959 г. ў Цюрлёўскім, з 10.6.1965 г. ў Хажоўскім сельсаветах. У 1969 г. 96 жыхароў, у складзе калгаса імя Ф.Дзяржынскага. У 2002 г. 13 гаспадарак, 38 жыхароў.

**БРУСКАЎШЧЫНА** — вёска ў Хажоўскім с/с, за 12 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 90 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 51 жыхар (2010).

У 1800 г. вёска, 7 двароў, 62 жыхары, маёнтак В.Гацэвіча ў Вілейскім павеце Віленскай губ. У 2-й пал. 19 ст. ў складзе маёнтка Ізабеліна ў Маладзечанскай вол. Вілейскага павета. У 1857 г. 43 сял. душы, уласнасць Наргелевіча. У 1870 г. ў Мойсіцкай сельскай грамадзе. У 1897 г. 23 двары, 138 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 173 дзес. зямлі, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 17 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 31 двор, 178 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хажоўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. З 11.9.1959 г. ў Цюрлёўскім, з 10.6.1965 г. ў Хажоўскім сельсаветах. У 1969 г. 140 жыхароў, у калгасе імя Ф.Дзяржынскага. У 2001 г. 24 гаспадаркі, 63 жыхары.

**БУШАВІЦА** — вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 4 км на Пн ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 87 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 6 жыхароў (2010).

Вядома з канца 18 ст. ў Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1800 г. вёска, 2 двары, 34 жыхары, уласнасць памешчыка К.Агінскага. У 2-й пал. 19 ст. засценак на р. Уша, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета, у складзе Геляноўскага маёнтка. У 1863 г. ў засценку 3 жыхары. У 1897 г. існавалі 2 засценкі Бушавіца (3 двары, 18 жыхароў і 2 два-

ры, 14 жыхароў). На р. Уша размяшчаўся вадзяны млын. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. 21 двор, 144 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл., 5 двароў, 17 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 2 гаспадаркі, 6 жыхароў.

**БЯРОЗАЎЦЫ** — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 13 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 64 км ад Мінска. 23 гаспадаркі, 40 жыхароў (2010).

У 1646 г. вёска, 10 двароў, 16,5 валокі зямлі, у складзе маёнтка Хоўхла, уласнасць Радзівіла. У 1769 г. 17 двароў, 46 жыхароў мужчынскага полу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., дзярж. ўласнасць. У 1800 г. 24 двары, 163 жыхары. У 1801 г. частка вёскі (105 жыхароў) у арэндзе ў памешчыкаў Багушэвіча і Арамовічавай. З 2-й пал. 19 ст. прыватная ўласнасць у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у складзе Пранчэйкаўскага маёнтка, належала розным уладальнікам. У 1866 г. 63 рэвізскія душы мужчынскага полу, з якіх 16 належалі Хялхоўскім, 44 — графу Тышкевічу і 3 — Багарэвічу У 1897 г. вёска (23 двары, 180 жыхароў), аднайменная сядзіба (10 двароў, 78 жыхароў), пасёлак Бярозаўцы (ён жа Брод, 1 двор, 5 жыхароў) і фальварак Бярозаўцы (1 двор, 8 жыхароў) у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. вёскі: Бярозаўцы-1 (9 двароў, 136 жыхароў), Бярозаўцы-2 (1 двор, 15 жыхароў), Бярозаўцы-3 (4 двары, 79 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 54 двары, 305 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 40 гаспадарак, 60 жыхароў.

**БЯРОЗКІ** (да 1948 г. — Троцкія) — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 28,5 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна. 51 гаспадарка, 100 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска Троцкія вядома як дзярж. ўласнасць у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., у складзе казённага маёнтка Барздынь. У 1866 г. 23 жыхары, частка вёскі — прыватная ўласнасць маёнтка Пекары памешчыка Лакуцоўскага, 2-я частка (6 рэвізскіх душ) — дзярж. ўласнасць маёнтка Барздынь. У пач. 19 ст. засценак у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., у Шыпуліцкай сельскай грамадзе. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. вёсцы 15 двароў, 91 жыхар. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельса-

ветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 89 жыхароў.

**БЯРТОШКІ** — вёска ў Хажоўскім с/с, за 12 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 90 км ад Мінска, на р. Цвецень (прыток р. Бярэзіна басейна р. Нёман). 31 гаспадарка, 78 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у складзе маёнтка Груздава, уласнасць Дзядзеркі. У 1870 г. 36 жыхароў, у Груздаўскай сельскай грамадзе. У 1905 г. 101 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 21 двор, 98 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 22 двары, 104 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хажоўскім с/с Маладзечанскага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 11.9.1959 г. ў Цюрлёўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 10.6.1965 г. ў Хажоўскім с/с. У 1969 г. 138 жыхароў. У 2002 г. 41 гаспадарка, 96 жыхароў.

**ВАЗГЕЛЫ** — вёска ў Радашковіцкім с/с, за 48 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 30 км ад Мінска. 60 гаспадарак, 128 жыхароў (2010).

З пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяло маёнтка Дзякшняны ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1595 г. 13 двароў, 37 жыхароў мужчынскага полу, 4 службы, з якіх адну меў Пётр Вазгелаў, 2 належалі розным асобам і яшчэ, адну мелі 8 баяр. У 1770 г. 12 двароў, 29 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Свентаржэцкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска ў складзе маёнтка Дзякшняны ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 18 двароў, 59 жыхароў, уласнасць Валадзьковіча. У 1861 г. 40 жыхароў мужчынскага полу. У 1870 г. вёска ў Путнікаўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. 20 двароў, 157 жыхароў, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У пач. 20 ст. вёска, 179 дзес. зямлі, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1909 г. 12 двароў, 196 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. 36 двароў, 215 жыхароў, у Радашковіцкай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Валодзькаўскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 284 жыхары. З 31.3.1976 г. ў Радашковіцкім с/с. У 2001 г. 76 гаспадарак, 164 жыхары. Магазін. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ВАЙТЭЛІ** — вёска ў Радашковіцкім с/с, за 43 км на ПдУ ад Маладзечна, 35 км ад Мінска, 2 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Маладзечна—Мінск. 21 гаспадарка, 48 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска вядома ў складзе аднайменнага маёнтка ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1771 г. маёнтак і вёска, 2 двары, бровар, карчма, фальварак, уласнасць І.Ліхадзіеўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 5 двароў, 28 сял. душ, уласнасць Ю.Бальзюкевіча. У 1846 г. вёска і фальварак уваходзілі ў маёнтак Залессе, уласнасць памешчыка К.Ляцкага. Кожны сял. двор меў 15 дзес. зямлі, якую апрацоўвалі парай валоў і сахой. Бытавалі розныя промыслы: збор ягад, грыбоў, ткацтва і інш. У 1861 г. вёска ў складзе аднайменнага маёнтка, у 1870 г. маёнтак — уласнасць памешчыцы Ляцкай, у Краснасельскай вол. Вілейскага

павета Віленскай губ. У 1897 г. вёска (8 двароў, 43 жыхары), фальварак (1 двор, 18 жыхароў) і ўрочышча (1 двор, 7 жыхароў). У пач. 20 ст. вёска ўяўляла сабой невял. паселішча. У 1909 г. 9 двароў, 46 жыхароў. Побач з вёскай знаходзіўся фальварак, 1 двор, 8 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска, 36 двароў, 215 жыхароў у Радашковіцкай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Валодзькаўскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 284 жыхары. З 31.3.1976 г. ў Радашковіцкім с/с. У 2001 г. 23 гаспадаркі, 55 жыхароў.

**ВАЙЦЯШЫ** — б. вёска ў Красненскім с/с, за 26 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 52 км ад Мінска.

У 1527 г. вёска ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1765 г. 3 двары, 8 сялян мужчынскага полу, уласнасць паноў Шахневічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 ст. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка ў Красненскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уласнасць памешчыка Канановіча. У 1866 г. 13 жыхароў. У 1873 г. ва Уланаўшчынскай сельскай грамадзе. У пач. 20 ст. невял. вёска ў Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1909 г. 5 двароў, 57 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 8 двароў, 36 жыхароў. Непадалёку ад вёскі знаходзіўся фальварак, 1 двор, 10 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 7 двароў, у калгасе «Краснае». 23.12.1985 г. вёска знята з уліку, жыхары перасялены.

**ВАЛОДЗЬКІ** — вёска ў Радашковіцкім с/с, за 40 км на ПдУ ад Маладзечна, 38 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, на р. Чарняўка (прыток р. Рыбчанка). 48 гаспадарак, 109 жыхароў (2010).

У 16 ст. вёска вядома пад назвай Валоткі ў маёнтку Дзякшняны ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1595 г. сяло Валоткі, 2 службы, 42 жыхары мужчынскага полу, уласнасць кн. Друцкага-Горскага. У 1770 г. вёска, 20 двароў, 53 жыхары мужчынскага полу, уласнасць Свентаржэцкага, затым М.Валадзьковіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 19 двароў, 103 жыхары. У пач. 19 ст. вёска на р. Чарняўка, у Віленскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. вёска Валодзькі (яна ж Валоткі, 28 двароў) і 2 сядзібы (2 двары, 11 жыхароў) у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. У пач. 20 ст. вёска, 314 дзес. зямлі, у Радашковіцкай вол. Віленскай губ., у Путнікаўскай сельскай грамадзе. У 1904 г. ў вёсцы 238 жыхароў. Побач знаходзіліся 2 сядзібы памешчыка Валадзьковіча (11 жыхароў), які меў тут 5 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска, 23 двары, 274 жыхары, у Радашковіцкай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З вер. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Радаш-

ковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. З 31.3.1976 г. ў Радашковіцкім с/с. У 2001 г. 78 гаспадарак, 183 жыхары.

**ВАЛОКІ** – б. вёска ў Радашковіцкім с/с, за 32 км на ПдУ ад Маладзечна, 41 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск–Маладзечна.

Вядомы з 18 ст. як маёнтак у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ, уласнасць каталіцкага духавенства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў вёсцы 13 двароў, 87 жыхароў. У 2-й пал. 19 ст. вёска, дзярж. ўласнасць у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1861 г. 29 жыхароў. У 1870 г. ў Путнікаўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. 16 двароў, 99 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 161 дзес. зямлі, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1909 г. 10 двароў, 123 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска, 23 двары, 118 жыхароў, у Радашковіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Валодзькаўскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. З 31.3.1976 г. ў Радашковіцкім с/с. У 1988 г. вёска далучана да г.п. Радашковічы.

**ВАСЬКАЎЦЫ** – вёска ў Гарадоцкім с/с, за 29 км на Пд ад Маладзечна, 49 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна–Ліда. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2010).

На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі знаходзіцца археал. помнік – гарадзішча, якія сведчыць аб засяленні гэтых месцаў у старажытнасці. У 18 ст. вёска ў ВКЛ. У 1759 г. 2 двары, 16 жыхароў, належала пану А.Мацкевічу. У 1770 г. 9 двароў, 34 жыхары, уласнасць пана Г.Мацкевіча. Меліся млын, карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1857 г. 56 жыхароў, уласнасць памешчыцы Хялхоўскай. У 1870 г. вёска ў Бярозаўскай сельскай грамадзе. Меліся вадзяны млын, хлебазапасны магазін. У 1897 г. вёска (22 двары, 143 жыхары, хлебазапасны магазін), сядзіба (2 двары, 12 жыхароў) і пасёлак (2 двары, 10 жыхароў, вадзяны млын). У пач. 20 ст. вёска ў Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 158 жыхароў, якія мелі тут 142 дзес. зямлі. Знаходзілася за 15 вёрст ад чыг. ст. Аляхновічы. У 1909 г. 11 двароў, 139 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 34 двары, 173 жыхары. Непадалёку ад вёскі знаходзіўся засценак (3 двары, 16 жыхароў), вадзяны млын. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Гарадоцкім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 42 двары, 158 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія забралі 11 жыхароў на прымусовыя работы ў Германію, дзе 3 з іх загінулі. 7 вяскоўцаў загінула на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 150 жыхароў.

**ВАСЮКОЎШЧЫНА**, Васікоўшчына – вёска ў Маркаўскім с/с, за 24 км на З ад г. Маладзечна, 102 км ад

Мінска, 10 км ад чыг. ст. Пруды на лініі Вільнюс—Маладзечна. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

У канцы 19 ст. назву Васюкоўшчына насілі 4 фальваркі ў Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., у 1897 г. ў іх 4 двары, 22 жыхары. Фальваркі належалі розным уладальнікам. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 50 двароў, 262 жыхары. У 1938 г. быў сфарміраваны засценак (8 двароў, 43 жыхары). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Маркаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары.

**ВАЎЧКІ** — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 22 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 55 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

У 17 ст. вёска вядома як прыватная ўласнасць у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1698 г. 20 двароў, шляхецкая ўласнасць. У 1763 г. 8 двароў, 65 жыхароў, маёнтак К.Вяжэвіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 7 двароў, 26 жыхароў, уласнасць Валадзьковіча. У 19 ст. ў Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уваходзіла ў маёнтак Чэрнева, які ў 1870 г. належаў памешчыцы Язвінскай. У 1897 г. 12 двароў, 93 жыхары. У пач. 20 ст. вёска на р. Чэрнеўка, у Чэрнеўскай сельскай грамадзе. У 1904 г. 93 жыхары, якія мелі 188 дзес. зямлі. Знаходзілася за 28 вёрст ад чыг. ст. Маладзечна. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Маладзечанскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 28 двароў, 150 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 27 двароў, 91 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1944 г. спалілі тут 27 двароў і загубілі 13 жыхароў. Пасля вайны вёска адбудавалася. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 86 жыхароў.

**ВЕРАДОВА** — вёска ў Мясоцкім с/с, за 6 км на У ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 72 км ад Мінска, на р. Вярэдаўка (прыток р. Уша). 12 гаспадарак, 14 жыхароў (2010).

Вядома ў 18 ст. як дзярж. ўласнасць у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 9 жыхароў, уласнасць казны. У 2-й пал. 19 ст. вёска на р. Уша Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у складзе маёнтка Мясата. Належала Тампінскаму. У 1897 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. вёска (21 двор, 142 жыхары), хутар (1 двор, 7 жыхароў) і лясная вартоўня (1 двор, 7 жыхароў). У 1904 г. ў вёсцы 146 жыхароў, якія мелі 136 дзес. зямлі. Непадалёку знаходзіліся ўрочышча Ляшчынскага, які меў 2 дзес. зямлі, і казённая лясная вартоўня. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 20 двароў, 142 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мясоцкім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач.

ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 12 гаспадарак, 18 жыхароў.

**ВІДАЎШЧЫНА** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 34 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 112 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка ў Ашмянскім павеце Віленскай губ. У склад маёнтка ўваходзіла адна в. Відаўшчына, уласнасць памешчыкаў Ясінскіх. У 1870 г. ў вёсцы 22 рэвізскія душы і 11 былых дваровых маёнткаў, у Літвінскай сельскай грамадзе. У 1897 г. 13 двароў, 76 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 67 дзес. зямлі, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. Знаходзілася за 11 вёрст ад чыг. ст. Пруды. Непадалёку размяшчаліся маёнтак памешчыкаў Ясінскіх, якія мелі тут 188 дзес. зямлі, і 2 фальваркі: Раца (13 дзес.) і Відаўскага (36 дзес.). У 1909 г. вёска, 7 двароў, 87 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. вёска ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў вёсцы 22 двары, 131 жыхар, у маёнтку 2 двары, 131 жыхар, у другім маёнтку 2 двары, 32 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 23 землякі. Пасля вайны на базе маёнтка быў створаны калгас. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 89 жыхароў. У 1980 г. ў вёсцы была размешчана цэнтральная сядзіба калгаса «Прагрэс». У цэнтры вёскі размешчаны мемарыяльны комплекс нар. славы, які ўзведзены ў 1980 г. на ўшанаванне памяці 23 землякоў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ВІДЗЕЎШЧЫНА** — вёска ў Красненскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Маладзечна, 60 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 161 гаспадарка, 476 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. вёска і фальварак у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1801 г. фальварак (1 двор), уласнасць Вансоўскага. У 1857 г. 31 жыхар, уласнасць Карэцкага. У пач. 20 ст. вёска (яна ж Недгежы), 155 дзес. зямлі, у Красасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 137 жыхароў. Побач размяшчаўся аднайменны маёнтак памешчыка Карэцкага, які меў тут 340 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў Польшчы, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., у вёсцы 28 двароў, 166 жыхароў, у фальварку 3 двары, 14 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 47 двароў, 245 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 4 двары і загубілі 1 жыхара, 2 вывезлі ў Германію на прымусовыя работы, 15 жыхароў загінулі ў баях з ням.-фаш. захопнікамі (усяго загінулі 23 землякі). З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 61 двор, 216 жыхароў. У 2002 г. 140 гаспадарак, 404 жыхары; аддз. сувязі, Дом культуры, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ВІТКОЎШЧЫНА**, Віткаўшчына — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 15 км на Пд ад Маладзечна, 63 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна–Ліда. 11 гаспадарак, 14 жыхароў (2010).

Упамінаецца ў 17 ст. як фальварак маёнтка Хоўхла ў Мінскім ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівіла. У 1646 г. ў фальварку 2 дымы. У 1866 г. 23 жыхары, уласнасць Дружбіцкай. У 1873 г. ў Холхаўскай сельскай грамадзе. У 1997 г. вёска (11 двароў, 97 жыхароў), пасёлак (1 двор, 4 жыхары) у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1909 г. ў вёсцы 6 двароў, 103 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 15 двароў, 108 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 жыхароў, 6 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 17 гаспадарак, 25 жыхароў.

**ВОЎКАЎШЧЫНА** — вёска ў Красненскім с/с, за 23 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 55 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 27 жыхароў (2010).

У 1567 г. ўпамінаецца ў перапісе літоўскага войска як маёнтак у Мінскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 ст. вёска — цэнтр аднайменнага маёнтка Воўкаўшчына (яна ж Навасёлкі) у Красносельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1861 г. маёнтак, 31 жыхар, уласнасць памешчыка Юркевіча. Пасля адмены прыгону (1861) вёска ўвайшла ў склад Уланаўшчынскай сельскай грамады. У 1897 г. 18 двароў, 100 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска ў Красненскай вол. У 1904 г. 95 жыхароў. Побач размяшчаўся маёнтак памешчыка Марголі, які меў тут 476 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красносельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 23 двары, 111 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 жыхароў, 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. створаны калгас «32-я гадаўшчына Кастрычніка». З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 41 двор, 169 жыхароў, вёска ў складзе калгаса «Прагрэс». У 2001 г. 25 гаспадарак, 52 жыхары. У 2011 г. вёска ў складзе ЧУП «Забудова-Агра» (цэнтр — в. Відзеўшчына).

**ВЫВЕРЫ** — вёска ў Мясоцкім с/с, за 15 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 63 км ад Мінска. 195 гаспадарак, 585 жыхароў (2010).

Згадваецца ў 16 ст. як в. Вевіры, у Мінскім павеце. У 1600 г. сяло і гаспадарскі двор, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. цэнтр аднайменнага маёнтка ў Вілейскім павеце Мінскай, з 1843 г. Віленскай губерняў. У 1857 г. вёска, 54 жыхары, уласнасць памешчыка Каспяровіча. Пасля адмены прыгону (1861) у Раеўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска (26 двароў, 176 жыхароў) і маёнтак (20 жыхароў) у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У пач. 20 ст. назву Выве-

ры насілі вёска і 4 засценкі. У 1904 г. ў вёсцы 238 жыхароў, якія мелі 297 дзес. зямлі. Непадалёку размяшчаліся 4 аднайменныя засценкі, у якіх жыў 31 жыхар. У 1918 г. ў вёсцы была засн. камуна. Камунары збіралі ўраджай у нацыяналізаваных маёнтках і здавалі яго Чырвонай Арміі. Камуна існавала да акупацыі тэр. польск. войскамі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 30 двароў, 174 жыхары. Побач з вёскай знаходзілася калонія (6 двароў, 60 жыхароў). З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, у Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 50 двароў, 180 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 4 двары і загубілі 12 жыхароў, 2 жыхароў вывезлі ў Германію. 11 вяскоўцаў загінула на фронце, 7 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 227 жыхароў. У 2011 г. ў вёсцы размешчаны сярэдняя школа, комплексны прыёмны пункт, магазін. У 1979 г. ў гонар выверскіх камунараў пастаўлены мемарыяльны знак — гранітны валун з надпісам-прысвячэннем. На паўд. ускраіне вёскі знаходзіцца археал. помнік — 7 каменных магіл з плітамі. На адной з іх нерасшыфраваныя надпісы, а таксама знакі (страла, падвойная дуга і інш.). Раскопкі не праводзіліся.

**ВЫДРЫЧЫ** — вёска ў Гарадоцкім с/с, за 29 км на ПдУ ад Маладзечна, 49 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна. 15 гаспадарак, 25 жыхароў (2010).

Вядомы па пісьмовых крыніцах з 16 ст. У 1646 г. вёска, 5 дымоў, 4 валокі зямлі, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1897 г. вёска, 14 двароў, 100 жыхароў, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У пач. 20 ст. 222 дзес. зямлі. У 1904 г. 130 жыхароў. Знаходзілася за 5 вёрст ад чыг. ст. Аляхновічы. У 1909 г. 13 двароў, 119 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 28 двароў, 153 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Гарадоцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 1 жыхара, 9 вывезлі ў Германію на прымусовыя работы, з якіх вярнулася толькі 5. З вяскоўцы загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 196 жыхароў.

**ВЫТРАПАЎШЧЫНА** — вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 1,5 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 78 км ад Мінска. 239 гаспадарак, 667 жыхароў (2010).

Вёска вядома з канца 17 ст. ў Вілейскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць памешчыка Качынскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 4 двары, 39 жыхароў. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у складзе Вярхоўскага і Геленаўскага маёнткаў. У 1857 г. 6 жыхароў, належалі памешчыку Хандзінскаму, 10 жыхароў — Васілеўскаму. У 1897 г. ў вёсцы 13 двароў, 64 жыхары, вадзяны млын, школа граматы. У пач. 20 ст. 70 дзес. зямлі, у Насілаўскай сельскай грамадзе. У 1909 г. 3 двары, 59 жыхароў.

З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 13 двароў, 74 жыхары. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 189 гаспадарак, 462 жыхары.

**ВЯЖУЦІ** — вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 101 км ад Мінска, 3 км ад чыг. ст. Пруды на лініі Вільнюс—Маладзечна, на р. Уша (прыток р. Вілія). 29 гаспадарак, 55 жыхароў (2010).

Вядомы па пісьмовых крыніцах з 16 ст. У 1514 г. сяльцо Вяжуны на р. Уша ў Маркаўскім стане ВКЛ. У 1514 г. сяльцо (84 дымы) з сёламі Конавічы і Шалавецкае падаравана Глебу Дамонту, што «разбіў пад Слуцкам татарскае войска». Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска ў Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у складзе Маркаўскага маёнтка. У 1858 г. 56 жыхароў, уласнасць памешчыка Плявакі. Мелася праваслаўная царква на могілках. У 1896 г. адкрыта школа граматы. У пач. 20 ст. вёска, 182 дзес. зямлі, у Скавародскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска (23 двары, 176 жыхароў, царква на могілках) і засценак (3 двары, 18 жыхароў) у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета. У 1904 г. 176 жыхароў; суседні засценак належаў Страшынскаму, які меў тут 9 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 40 двароў, 213 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лебедзеўскім с/с Маладзечанскага раёна. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 39 двароў, 139 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі тут 3 двары, 2 жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 46 двароў, 136 жыхароў.

**ВЯЗАВЕЦ** — вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 3 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 75 км ад Мінска. 73 гаспадаркі, 157 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах згадваецца з 16 ст. як цэнтр маёнтка ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 2-й пал. 16 ст. двор Вязавец належаў пану Я.Трэцінічу, які ў 1554 г. прадаў двор пану Я.Палікоўскаму. У 1723 г. вёска, 3 двары, 9 жыхароў і маёнтак К.Кабелы. Пазней перайшла ва ўласнасць К.Агінскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. ў вёсцы 83 жыхары, належала памешчыку Адынцу. Меўся ветраны млын. У 1896 г. дзейнічала школа граматы; капліца пры Хажоўскай царкве. У 1897 г. вёска (45 двароў, 246 жыхароў, школа граматы, вадзяны млын), сядзіба (1 двор, 6 жыхароў) і маёнтак (27 жыхароў). У пач. 20 ст. вёска, 266 дзес. зямлі, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. ў вёсцы 256 жыхароў. Побач размяшчаліся маёнтак і сядзіба памешчыка Адынца, які меў тут 265 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай

гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., вёска (46 двароў, 225 жыхароў), фальварак (4 двары, 32 жыхары). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Насілоўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 70 двароў, 260 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, загінула 14 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 81 гаспадарка, 216 жыхароў. Магазін.

**ВЯЗЫНКА** – вёска ў Радашковіцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 48 км ад Мінска, на р. Вязынка, каля гал. канала Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. 134 гаспадаркі, 330 жыхароў (2010).

За 0,25 км на ПдУ ад будынка філіяла літаратурнага музея Янкі Купалы размешчана гарадзішча-1 (мясц. назва Замачак). Датуецца 2–5 ст. За 0,5 км на ПнУ ад вёскі, на левым беразе канала Вілейска-Мінскай воднай сістэмы размешчана гарадзішча-2. Абодва археал. помнікі адносяцца да культуры штрыхаванай керамікі і сведчаць аб засяленні гэтай мясцовасці ў старажытнасці. Вёска вядома па пісьмовых крыніцах з 16 ст. як маёнтак, шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. У 1528 г. тут 80 служб. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска вядома як фальварак у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць графа Пшаздзецкага, з 1815 г. – памешчыкаў Замбржыцкіх. У 1880–83 гг. фальварак арандаваў Д.А.Луцэвіч, у якога ў 1882 г. нарадзіўся сын Іван, бел. паэт Янка Купала. У 1885 г. маёнтак у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1897 г. ў маёнтку 1 двор, 31 жыхар, уласнасць С. Замбражыцкага. Побач знаходзілася ўрочышча (1 двор, 4 жыхары), у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 3 двары, 23 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. маёнтак, у Радашковіцкай гміне Віленскага павета Віленскай губ., 3 двары, 44 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Радашковіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Валодзькаўскім с/с Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1972 г. сюды ссялены жыхары вё-

*Хата, у якой нарадзіўся Я.Купала. Філіял літаратурнага музея Я.Купалы «Вязынка».*

*На тэрыторыі Купалаўскага мемарыяльнага запаведніка «Вязынка».*







*Я.Купала.*

сак Верамейкі, Сяледчыкі, Гурнавічы. З 31.3.1976 г. ў Радашковіцкім с/с. У 1972 г. ў вёсцы адкрыўся купалаўскі мемарыяльны запаведнік «Вязынка»: хата, дзе жылі Луцэвічы і нарадзіўся паэт (у 1971—72 гг. рэстаўрыравана). Тут размешчаны філіял Літаратурнага музея Я.Купалы (1948). Побач з музеем размешчаны помнік Я.Купалу, перанесены сюды ў 1972 г. з Мінска. Запаведнік уключаны ў турысцкія маршруты, з 1972 г. тут праводзяцца святы паэзіі. У вёсцы размешчаны сярэдняя школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт.

**ВЯЛІКАЕ СЯЛО** — вёска ў Палачанскім с/с, за 7,5 км на ПдЗ ад Маладзечна, 85,5 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда. 35 гаспадарак, 50 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска, маёнтак у Вілейскім павеце. У 1800 г. 12 двароў, 57 жыхароў, уласнасць Ф.Галінскага. У 19 ст. згадваюцца 2 вёскі: Вялікае Сяло 1-е і Вялікае Сяло 2-е ў Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. Вёскі адносіліся да маёнтка Вялікае Сяло, але належалі розным уладальнікам. У 1861 г. в. Вялікае Сяло 1-е (24 рэвізскія душы) — уласнасць Цывінскага, в. Вялікае Сяло 2-е (9 рэвізскіх душ) і былы двор (9 рэвізскіх душ) — уласнасць памешчыка Рамуальда. У 1897 г. вёска, 25 двароў, 191 жыхар, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У пач. 20 ст. 92 дзес. зямлі, у Палачанскай сельскай грамадзе. У 1904 г. вёска, 141 жыхар, знаходзілася за 15 вёрст ад чыг. ст. Маладзечна. Маёнтак — уласнасць Цывінскага, які меў тут 301 дзес. зямлі. У 1909 г. 12 двароў, 165 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. ў Палачанскай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв., вёска (35 двароў, 189 жыхароў), маёнтак (5 двароў, 40 жыхароў). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Палачанскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. ў вёсцы 57 гаспадарак, 101 жыхар.

**ВЯЛІКАЯ БАРКОЎШЧЫНА** — вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 14,5 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 92,5 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. ў складзе маёнтка Малінаўшчына, уласнасць памешчкаў Свентаржыцкіх. Пасля адмены прыгону (1861) вёска — цэнтр сельскай грамады, у склад якой уваходзілі 3 вёскі. У 1861 г. ў вёсцы 33 рэвізскія душы і 5 былых дваровых маёнтка Малінаўшчына. У 1897 г. 36 двароў, 246 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і




*Сын Я.Коласа М.К.Міцкевіч у Купалаўскім мемарыяльным запаведніку «Вязынка».*

з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. вёска ў складзе Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 32 двары, 139 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Лебедзеўскім с/с Маладзечанскага р-на Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 32 двары, 98 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 4 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію (4 з іх вярнуліся). З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 49 двароў, 159 жыхароў.

**ВЯЛІКІ БОР** — вёска ў Граніцкім с/с, за 33 км на ПдУ ад Маладзечна, 45 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 10 гаспадарак, 11 жыхароў. (2010).

Першапачаткова назву Бор мелі 2 вёскі. Пазней яны сталі называцца Вялікі Бор і Малы Бор. У 19 ст. в. Бор у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у складзе Граніцкага маёнтка. У 1863 г. ў вёсцы 18 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка С.Свіды. У 1870 г. ў Граніцкай сельскай грамадзе. У 1897 г. ў в. Бор (яна ж Баравая) 18 двароў, 150 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, за 9 вёрст ад чыг. ст. Уша, у Красненскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 155 жыхароў, якія мелі 94 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. в. Бор Вялікі (23 двароў, 142 жыхары) у складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сычавіцкім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 32 двары, 107 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 42 двары, 151 жыхар.

**ВЯЛІКІЯ БАКШТЫ** — вёска ў Граніцкім с/с, за 35 км на ПдУ ад Маладзечна, 43 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2010).

Вёска ўпамінаецца ў 1567 г. як маёнтак Бакшты ў Мінскім ваяв. ВКЛ, уласнасць кн. Ст.Збарожскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Вілейскім павеце Мінскай, з 1843 г. Віленскай губерняў. У 1870 г. маёнтак належаў памешчыку Кавалеўскаму, тут працавалі вінакурны з-д (10 рабочых), у 1878 г. — паравы млын. У 1897 г. маёнтак Бакшты, 54 жыхары, вінакурны з-д, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Радашковіцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., у фальварку 5 двароў, 63 жыхары; з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сычавіцкім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 8 двароў, 42 жыхары. З 20.1.1973 г. ў Граніцкім с/с. У 2002 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары.

**ВЯЛІКІЯ КАШЭЎНІКІ** — вёска ў Мясоцкім с/с, за 10 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 63 км ад Мінска. 31 гаспадарка, 54 жыхары (2010).

У 2-й пал. 19 ст. в. Кашэўнікі ў Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1858 г. вёска (24 сял. душы мужчынскага полу) уваходзіла ў Раеўскі маёнтак, уласнасць Аскеркі. У

1870 г. ў Раеўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. ў вёсцы 15 двароў, 87 жыхароў. У пач. 20 ст. в. Вялікія Кашэўнікі (8 двароў, 123 жыхары, 129,4 дзес. зямлі) у Вілейскім павеце. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў вёсцы 16 двароў, 103 жыхары. З 1939 г. ў БССР. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 40 двароў, 200 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары, загубілі 2 жыхароў. 2 вяскоўцы загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 198 жыхароў.

**ВЯРХОЎКА** — вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 4 км на ПдЗ ад Маладзечна, 82 км ад Мінска, 3 км ад чыг. ст. Каледзіно на лініі Маладзечна—Ліда. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска (5 двароў, 44 жыхары, з якіх 10 жыхароў складала каволічная шляхта) і фальварак, уласнасць А.Вышамірскага. У 19 ст. цэнтр аднайменнага маёнтка Вілейскага павета Мінскай, пазней Віленскай губерняў. У 1858 г. вёска, 17 сял. душ, уласнасць памешчыка Міхневіча. У 1897 г. 8 двароў, 57 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 111 дзес. зямлі, на р. Вярхоўка, у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у Насілаўскай сельскай грамадзе. Побач размяшчаўся маёнтак памешчыка Вышамірскага і яшчэ 2 яго сядзібы каля ракі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 12 двароў, 76 жыхароў, у фальварку 3 двары, 29 жыхароў; з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. вёска ў БССР, 13 двароў, 72 жыхары. З 20.9.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 12 гаспадарак, 17 жыхароў.

**ГАЕЎЦЫ**, Гаёўцы, Гаяўцы — вёска ў Маркаўскім с/с, за 23 км ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 101 км ад Мінска, за 8 км ад чыг. ст. Пруды на лініі Вільнюс—Маладзечна. 22 гаспадаркі, 28 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1858 г. вёска (23 сял. душы), у складзе маёнтка Гедліва, уласнасць памешчыка Цяпчынскага. У 1870 г. ў Рэдзькаўскай сельскай грамадзе. У 1904 г. вёска (6 двароў, 86 жыхароў, 66 дзес. зямлі) у Ашмянскім павеце. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 25 двароў, 125 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Маркаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 30 двароў, 120 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 6 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 34 двары, 129 жыхароў.

**ГАЕЎЦЫ** — вёска ў Палачанскім с/с, за 7 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 85,5 км ад Мінска. 28 гаспадарак, 48 жыхароў (2010).

З канца 18 ст. вёска Вілейскага павета Мінскай губ., у складзе ма-

ёнтка Свечкі. У 1857 г. вёска, 16 сял. душ, уласнасць памешчыка Ходзькі. У 1873 г. ў Груздаўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. ў вёсцы 9 двароў, 53 жыхары. У пач. 20 ст. невял. вёска, 59 дзес. зямлі, у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета, Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 11 двароў, 71 жыхар. З 1939 г. ў БССР, у Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1966 г. ў вёску сселены жыхары в. Пузелі (60 двароў, 153 жыхары). У 1969 г. 198 жыхароў. У 2001 г. 43 гаспадаркі, 72 жыхары.

**ГАЙ** — вёска ў Хажоўскім с/с, за 18 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 96 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1800 г. 2 двары, 13 жыхароў, уласнасць В.Гацэвіча. У 2-й пал. 19 ст засценак у складзе маёнтка Ізабеліна, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета. У 1857 г. ў засценку 3 сял. душы мужчынскага полу, уласнасць памешчыка Наргелевіча. У 1897 г. 2 засценкі і пасёлак, 4 двары, 43 жыхары, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета. У 1904 г. ў засценку Гай 2-і 27 жыхароў, 14 дзес. зямлі, у пасёлку 10 жыхароў, 17 дзес. зямлі, лясная вартоўня (10 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., у калоніі 8 двароў, 64 жыхары. У 1938 г. хутар і 2 калоніі. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хажоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. З 11.9.1959 г. ў Цюрлёўскім, з 11.6.1965 г. ў Хажоўскім сельсаветах. У 1969 г. 34 жыхары, у калгасе імя Ф.Дзяржынскага.

**ГАРАВІНЫ** — вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 2 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 76 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 61 жыхар (2010).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у складзе Раеўскага маёнтка. У 1863 г. 12 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка Аскеркі. У 1897 г. 9 двароў, 55 жыхароў, 94 дзес. зямлі, у Раеўскай сельскай грамадзе. У 1908 г. 4 двары, 76 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 12 двароў, 76 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 17 двароў, 91 жыхар. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 27 гаспадарак, 74 жыхары.

**ГАРАДЗІЛАВА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 25 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 103 км ад Мінска. 157 гаспадарак, 486 жыхароў (2010).

За 0,5 км на ПнЗ ад цэнтра вёскі, на мысе прыроднага ўзвышша размешчана гарадзішча, якое адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Гэты археал. помнік сведчыць аб засяленні мясцовасці ў старажытнасці. У 1443 г. вёска згадваецца як маёнтак, уладанне





*У час уборкі ўраджаю ў ААТ «Гарадзілава».*

Я.Раловіча, які ў гэтым жа годзе заснаваў тут касцёл. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. касцёл быў разбураны, пазней адбудаваны (адносіўся да парафіі Вішнеўскага касцёла). У 1721 г. маёнтак — уласнасць падскарбія літоўскага К.Козела, ад якога маёнтак перайшоў да яго дзяцей — Казіміра і Барбары. У 1752 г. на месцы б. касцёла і капліцы быў пабудаваны новы драўляны касцёл Пасля 2-га раздзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Ашмянскім павеце Віленскай губ. У 1864 г. ў вёсцы адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1884 г. навучаліся 43 хлопчыкі. У 1866 г. 4 дамы, 53 жыхары (католікі). У 1866 г. з цэглы і бутавага каменю была пабудавана праваслаўная царква Св. Іосіфа Абручніка. У 1870 г. 22 рэвізскія душы мужчынскага полу і 11 б. дваровых маёнтка ў Літвінскай сельскай грамадзе. У 1880 г. ў склад маёнтка, які належаў памешчыкам Ясінскім, уваходзіла в. Відаўшчына. У 1897 г. 13 двароў, 76 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 67 дзес. зямлі, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. Знаходзілася за 11 вёрст ад чыг. ст. Пруды. Побач знаходзіўся маёнтак памешчыкаў Ясінскіх, якія мелі тут 188 дзес. зямлі і 2 фальваркі: Раца (13 дзес. зямлі) і Відаўскага (36 дзес. зямлі). У 1909 г. ў вёсцы 7 двароў, 87 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў вёсцы 22 двары, 131 жыхар, у адным маёнтку 2 двары, 131 жыхар, у другім — 2 двары, 32 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 23 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. Пасля вайны на базе маёнтка быў створаны калгас. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. У 1969 г. 89 жыхароў. У 1970 г. 51 двор, 225 жыхароў. У 1968 г. на ўшанаванне памяці 70 землякоў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, у вёсцы па-



*Царква Святога Іосіфа Абручніка ў в. Гарадзілава.*





Былы вадзяны млын у в. Гарадок.

Памятны знак на месцы бою камсамольскай роты Мінскага каравульнага батальёна ў ліпені 1919 г. ў в. Гарадок.

стаўлены помнік — скульптура воіна. У 1981 г. на будынку выканкама сельсавета ўстаноўлена мемарыяльная дошка Г.А.Сіняўскаму, якога закатавалі гітлераўцы 22.7.1941 г. У 1978 г. на будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка бел. педагогу А.Ф.Посаку, які ў 1903—14 гг. быў загадчыкам вучылішча. Арх. помнік — царква Св. Іосіфа Абручніка, размешчана ў цэнтры вёскі.

**ГАРАДОК** — вёска, цэнтр сельсавета, за 32 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 47 км ад Мінска, на р. Бярэзіна (прыток р. Нёман). 165 гаспадарак, 405 жыхароў (2010).

У паўн. частцы вёскі, на левым беразе р. Бярэзіна знаходзіцца гарадзішча (мясц. назва Замак), да якога з паўд.-зах. і зах. бакоў прымыкае селішча. Археал. помнікі сведчаць аб засяленні гэтых месцаў у старажытнасці. У 17 ст. мястэчка каля дарогі, што вяла да замка. Вуліца, што звязвала рынкавую плошчу з замкам, насіла назву Замкавая. У 1646 г. мястэчка, 18 валок зямлі, належала Радзівілам. У пач. 18 ст. мястэчка на левым беразе р. Бярэзіна, уласнасць стольніка смаленскага І.Галынскага, потым перайшло да яго зяця — Карпіцкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 ст. мястэчка — цэнтр воласці ў Вілейскім павеце, уласнасць графа Тышкевіча. У 1862 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1884 г. навучалася 56 хлопчыкаў. 21.5.1865 г. ў мястэчку адбыўся вялікі пажар, мястэчка і праваслаўная царква згарэлі. У 1874 г. на тым жа месцы была ўзведзена новая мураваная царква. У 1880 г. мястэчка, прыватнае ўладанне, 22 двары, 176 жыхароў. Валаснoе праўленне, 2 праваслаўныя царквы, 2 сінагогі, піваварны з-д, 22 лаўкі, 3 карчмы, заезны дом, нар. вучылішча, на левым беразе р. Бярэзіна размяшчаўся вадзяны млын. Кожны тыдзень у аўторак адбываўся таржок. У 1897 г. 190 двароў, 1544 жыхары. Быў распаўсюджаны гандаль мед. п'яўкамі, іх адпраўлялі за мяжу. У канцы 19 і пач. 20 ст. ў мястэчку знаходзіліся валаснoе і мяшчанскае праўленні, 2 праваслаўныя царквы, паштовае аддз., прыёмны пакой, багадзельня, 2 яўр. малітоўныя школы, аптэка, 25 лавак, 3 скураныя з-ды, 3 з-ды па вырабе глінянага посуду, вадзяны млын, вытвсць мінеральнай і газіраванай вады, 12

Філіял Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры ў в. Гарадок.



корчмаў, нар. вучылішча (у 1901 г. 84 хлопчыкі і 7 дзяўчынак), казённая вінная лаўка. Штотыдзень, у аўторак і сераду, праходзілі кірмашы. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У час польска-сав. вайны 2.7.1919 г. камсамольская рота ў складзе 1-га Мінскага каравульнага батальёна выехала на фронт. Каля Гарадка байцы роты прыкрывалі адыход батальёна, 4 дні вялі цяжкія баі з польск. войскамі, праявілі мужнасць і гераізм (у 1983 г. на месцы бою ўстаноўлены памятны знак). З 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр гміны ў Вілейскім павеце, з 1925 г. Віленскага ваяв., 201 двор, 1420 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 205 двароў, 1300 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1942 г. спалілі 170 двароў, загубілі 700 жыхароў. 33 землякі загінулі на фронце, 47 прапалі без вестак. Пасля вайны вёска аднавілася. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1974 г. ў вёску ссёлены жыхары в. Доўцавічы (21 двор, 81 жыхар), засценка Бецейкі (1 двор, 4 жыхары) і хутара Галейкі (2 двары, 6 жыхароў). У



Троіцкая царква ў в. Гарадок.

2002 г. 221 гаспадарка, 522 жыхары, 2 магазіны, Дом культуры, сярэдняя школа, б-ка, дзіцячы сад, сталовая, аддз. сувязі, участковая бальніца, лясніцтва. У 1965 г. ўстаноўлена скульптура воіна з аўтаматам на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1994 г. адкрыты філіял Дзярж. музея гісторыі бел. літаратуры. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рус. стылю — Троіцкая царква (1884), вадзяны млын — помнік прам. архітэктуры канца 19 — пач. 20 ст. з элементамі неаготыкі.

**ГАРНЯКІ** — вёска ў Граніцкім с/с, за 28 км на ПдУ ад Маладзечна, 50 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 35 гаспадарак, 65 жыхароў (2010 г.).

У канцы 19 ст. вёска вядома як прыватная ўласнасць у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 7 двароў, 36 жыхароў, уласнасць памешчыка Валадзьковіча. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Гранічы, у Красненскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уласнасць памешчыка Станіслава Свіды. У 1870 г. 70 рэвізскіх душ. У 1897 г. 30 двароў, 199 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 126 дзес. зямлі, у Граніцкай сельскай грамадзе. Знаходзілася за 5 вёрст ад чыг. ст. Уша. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 46 двароў, 250 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сычавіцкім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія 2 жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы; 13 вяскоўцаў загінула на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 79 двароў, 263 жы-

хары. З 20.1.1973 г. ў Граніцкім с/с. У вёсцы размяшчалася цэнтр. сядзіба калгаса «Бацькаўшчына». У 2001 г. 49 гаспадарак, 96 жыхароў.

**ГАСЦІЛЫ** — вёска ў Гарадоцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад Маладзечна, 48 км ад Мінска, 7,5 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна. 14 гаспадарак, 23 жыхары (2010).

У канцы 18 ст. вёска Вілейскага павета Віленскай губ. У 1800 г. 3 двары, 18 жыхароў, з якіх 3 — ваколічная шляхта. Вёска належала памешчыкам Галынскім. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Пятроўшчына. У 1857 г. 18 сял. душ, належала памешчыку Алендзінскаму, у Пятроўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска, 8 двароў, 57 жыхароў. У пач. 20 ст. 91 дзес. зямлі, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 66 жыхароў. Вёска знаходзілася за 12 вёрст ад чыг. ст. Аляхновічы. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 15 двароў, 103 жыхары. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Гарадоцкім с/с. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 26 двароў, 120 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія 6 жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы (з іх 3 вярнулася); 8 вяскоўцаў загінула на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 251 жыхар.

**ГЕРДУЦІШКІ** — вёска ў Гарадоцкім с/с, за 28 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 50 км ад Мінска, на р. Бярэзіна (прыток р. Нёман). 33 гаспадаркі, 62 жыхары (2010).

У 18 ст. вёска вядома як прыватная ўласнасць у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1781 г. двароў, 53 жыхары, вёска належала пану К.Дзядзерку. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 15 двароў, 114 жыхароў, уласнасць памешчыка К.Шабоўскага. У 2-й пал. 19 ст. ў складзе Сарочынскага маёнтка. У 1857 г. 27 сял. душ, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уласнасць памешчыка Багарэвіча. Непадалёку знаходзіўся засценак (6 сял. душ), уласнасць памешчыцы Цеханоўскай. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў вёсцы 27 двароў, 143 жыхары, у маёнтку 2 двары, 25 жыхароў. Побач з маёнткам размяшчаўся вадзяны млын. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Гарадоцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 251 жыхар.

**ГІРДЗІ** — вёска ў Красненскім с/с, за 26 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 52 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска ўпамінаецца як сяло, дзярж. ўласнасць у Красносельскіх вол. і старостве Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1765 г. вёска, 10 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. ў складзе казённага маёнтка Краснаселле ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1801 г. 37 сял. душ. У 1861 г. вёска ў Красненскай вол., казённая ўласнасць, 13 сялян, 3 вольныя яўрэі-земляробы. У 1873 г. вёска ва Уланаўшчынскай сельскай грамадзе.

У 1897 г. 12 двароў, 87 жыхароў. У пач. 20 ст. 143 дзес. зямлі ў Красносельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 77 жыхароў, у 1909 г. 5 двароў, 68 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красносельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 18 двароў, 89 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 2001 г. 8 гаспадарак, 14 жыхароў.

**ГОЙЖАВА** — вёска ў Аляхновіцкім с/с, за 36 км на ПдУ ад Маладзечна, 42 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1705 г. в. Гойзава, 9 двароў, уласнасць С.Белазора. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 3 двары, 43 жыхары, уласнасць тайнага саветніка А.Хмары, у Мінскім павеце. У 19 ст. маёнтак на правым беразе р. Ушанка, у Мінскіх павеце і губ. У склад маёнтка ўваходзілі 3 вёскі: Гойжава, Кайценкі і Еленка. У 1833 г. ў вёсцы 7 двароў, 59 жыхароў, належала прадвадзіцелю дваранства Мінскага павета Гілярыю Хмары, які меў тут 1060,5 дзес. зямлі. У маёнтку меліся 3 карчмы, 4 млыны. Асн. заняткам сялян было земляробства, сял. двор апрацоўваў зямлю парай валоў, сахой, калі мелася добрая вупраж, то займаліся возніцкім промыслам, наймаліся да гандляроў. У 1846 г. ў маёнтку 234 сял. душы. У 1870 г. вёска, 23 рэвізскія душы, уласнасць Адама Хмары, у Ракаўскай вол. Мінскіх павета і губ. У 1897 г. ў вёсцы 14 двароў, 106 жыхароў. Непадалёку размяшчаўся фальварак (1 двор, 13 жыхароў), які належаў Любанскім, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1909 г. ў вёсцы 18 двароў, 127 жыхароў, у маёнтку 2 двары, 25 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска (27 двароў, 158 жыхароў) і засценак (8 двароў, 44 жыхары) у Ракаўскай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Ушанскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл., з 16.10.1964 г. ў Аляхновіцкім с/с. У 1969 г. 110 жыхароў. У 1987 г. ў складзе саўгаса «Дубрава» (цэнтр — в. Дубрава). У 2010 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў.

**ГОРАЎШЧЫНА** — вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 16 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 94 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2010).

Вядома з 17 ст. як уладанне Радзівілаў, у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1646 г. 2 дымы, 2 валокі зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 і пач. 19 ст. шляхецкае паселішча ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. ваколіца, 5 двароў, 27 жыхароў. У 2-й пал. 19 ст. ваколіца і фальварак у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Ваколіца ўваходзіла ў казённы Красносельскі маёнтак, у 1861 г. 25 рэвізскіх душ. Фальварак адносіўся да маёнтка Лешня і належаў памешчыкам Саковічам. У 1897 г. ваколіца (14 двароў, 61 жыхар) і фальварак (2 двары, 7 жыхароў) у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета. У 1904 г. ваколіца (61 жыхар, 70 дзес. зямлі), у Лебедзеўскай сельскай грамадзе; фальварак

(7 жыхароў, 9 дзес. зямлі) належаў розным уладальнікам. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, ваколіца ў Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 10 двароў, 60 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лебедзеўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 13 двароў, 135 жыхароў.

**ГОРКІ** — вёска ў Маркаўскім с/с, за 23 км на З ад Маладзечна, 101 км ад Мінска, за 7 км ад чыг. ст. Пруды на лініі Вільнюс—Маладзечна, на р. Гадзея (прыток р. Уша). 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 19 ст. вядомы 2 вёскі: Горкі 1-я і Горкі 2-я ў Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1861 г. ў Горках 1-х 24 рэвізскія душы, адносілася да Казіміраўскага маёнтка і належала памешчыку Хамічэўскаму. У Горках 2-х 5 рэвізскіх душ, уваходзіла ў маёнтак Трэпелева, уласнасць памешчыка Руткоўскага. У 1904 г. ў Горках 1-х і Горках 2-х 107 жыхароў, 103 дзес. зямлі, у Рэдзькаўскай сельскай грамадзе. У 1909 г. 10 двароў, 119 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 24 двары, 125 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Беніцкім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 11.9.1959 г. ў Маркаўскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары.

**ГОТКАВІЧЫ** — вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 104 км ад Мінска, на р. Бенічанка (прыток р. Уша). 68 гаспадарак, 123 жыхары. (2010).

У 19 ст. вёска ў Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1873 г. частка вёскі (22 жыхары) уваходзіла ў Залескі маёнтак і належала княгіні Агінскай. Другая частка (61 жыхар) адносілася да казённага Маркаўскага маёнтка. На р. Верценка размяшчаўся вадзяны млын, мелася праваслаўная капліца. У 1897 г. вёска, 44 двары, 331 жыхар, у Беніцкай вол. Ашмянскага павета. У 1909 г. ў в. Готкавічы 1-я 22 двары, 252 жыхары, у Готкавічах 2-х 5 двароў, 104 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Заскавіцкім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл., 73 двары, 395 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 12 двароў, 4 жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. З 11.9.1959 г. ў Лебедзеўскім с/с. У 1969 г. ў вёсцы 114 двароў, 380 жыхароў.

**ГРАНІЧЫ**, Іграні чы — вёска, цэнтр сельсавета, за 27 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 51 км ад Мінска. 131 гаспадарка, 374 жыхары (2010).

У 16 ст. сяло, шляхецкае ўладанне ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1595 г. сяло (5 служб) і дварэц Граніцкі ўваходзілі ў Дзякшнянскі маёнтак. Меліся пякарня, 2 клеці, стаў з млынам. Пасля 2-га

падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Віленскім павеце Мінскай губ. У 19 ст. існавалі 2 маёнткі Гранічы; адзін — памешчыка Свіда, другі — памешчыка Умецкага. У 1885 г. ў вёсцы адкрыта школа граматы. У 1897 г. вёска (34 двары, 209 жыхароў), сядзіба і фальварак Гранічы (2 двары, 16 жыхароў), сядзіба Малыя Гранічы (12 двароў, 51 жыхар) і маёнтак Вялікія Гранічы (23 жыхары). У 1906 г. адбылося хваляванне сялян навакольных вёсак. У 1909 г. 23 двары, 234 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У польска-сав. вайну ў ліп. 1919 г. часці Чырвонай Арміі вялі тут жорсткія баі з польскімі войскамі. Невял. група чырвонаармейцаў геаічна ўтрымлівала абарончы рубеж. Загінулі 6 байцоў і камісар кулямётнай каманды 145-га палка 17-й стралковай дывізіі К.І.Ванчукевіч, якія змагаліся да апошняга патрона. На ўшанаванне памяці загінуўшых на брацкай магіле ў 1940 г. пастаўлены гранітны абеліск. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сычавіцкім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары і загубілі 23 жыхары, 6 мірных жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 18 вяскоўцаў загінула на фронце, 1 — у партыз. барацьбе; усяго ў вайну загінула 96 землякоў, на ўшанаванне іх памяці ў 1965 г. каля будынка выканкама сельсавета пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 103 двары, 390 жыхароў. З 20.1.1973 г. цэнтр Граніцкага с/с. У вёсцы размешчаны сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 4 магазіны.

**ГРОМАВІЧЫ** — вёска ў Маркаўскім с/с, за 15 км на З ад Маладзечна, 93 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Пруды на лініі Вільнюс—Маладзечна. 5 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

Вёска вядома з 18 ст. ў Маркаўскім старостве ВКЛ, у складзе дзярж. маёнтка Маркава. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска, казённая ўласнасць у Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1863 г. 15 жыхароў. У 1873 г. ў Баркоўшчынскай сельскай грамадзе. У 1897 г. 4 двары, 27 жыхароў. У 1904 г. ў вёсцы 34 жыхары, якія мелі 46 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета Віленскага ваяв. У 1938 г. вёска, 10 двароў, 63 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Маркаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 16 двароў, 44 жыхары.

**ГРУДКІ** — вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 14 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 92 км ад Мінска. 21 гаспадарка, 40 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска вядома як засценак на р. Уша, у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. ў засценку 1 двор, 5 жыхароў. У 1904 г. засценак, 5 жыхароў, уласнасць Пагуды, які меў тут 200 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленска-

га ваяв., 14 двароў, 76 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лебедзеўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 35 двароў, 112 жыхароў.

**ГРУЗДАВА** — вёска ў Палачанскім с/с, за 5,5 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 83,5 км ад Мінска. 81 гаспадарка, 189 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах Груздава ўпамінаецца з 16 ст. У 1567 г. сяло, шляхецкая ўласнасць. У 18 ст. маёнтак паноў Дзядзерак. У 1756 г. пабудавана праваслаўная царква Іаана Хрысціцеля. У 1761 г. ўладальнік Груздава на свае сродкі пабудаваў праваслаўную царкву Раства Багародзіцы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Ашмянскім павеце Віленскай губ. У 1800 г. сяло Груздава (17 двароў, 120 жыхароў), уласнасць памешчыка К.Дзядзеркі ў Вілейскім павеце. У 2-й пал. 19 ст. сяло ў складзе маёнтка Груздава, у 1866 г. 27 рэвізскіх душ і 6 аднадворцаў, якія адносіліся да дзярж. маёнтка Краснаселле. Непадалёку ад сяла знаходзілася в. Груздава, якая адносілася да маёнтка Свечкі, у 1866 г. 15 сял. душ. Вёска належала памешчыку Хацько. Меўся хлебазапасны магазін. У 1871 г. на месцы разбуранай мураванай царквы была пабудавана драўляная праваслаўная Петрапаўлаўская царква. У 1896 г. працавала царк.-прыходская школа. У 1897 г. сяло, 2 двары, 14 жыхароў. У пач. 20 ст. 2 вёскі — Груздава 1-е і Груздава 2-е, у іх у 1904 г. 155 жыхароў, якія мелі 100 дзес. зямлі. Сяло Груздава адносілася да Палачанскай вол., у 1904 г. 17 жыхароў, 2 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 43 двары, 174 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Палачанскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 42 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1966 г. ў склад вёскі ўвайшла в. Блудава (32 двары, 202 жыхары). У 1969 г. 235 жыхароў. У 2001 г. 80 гаспадарак, 169 жыхароў. У 1984 г. на магіле сав. воіна, што загінуў у баях за вёску, пастаўлены помнік. У 1965 г. ў гонар землякоў, што загінулі ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў, пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам. Арх. помнік нар. драўлянага дойлідства — царква ў гонар Палажэння Рызы Прасвятой Багародзіцы (1871), размешчана ў зах. частцы вёскі.



*Царква Палажэння Рызы Прасвятой Багародзіцы ў в. Груздава.*

**ГРУЗДАЎКА** — вёска ў Палачанскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Маладзечна, 87 км ад Мінска, 2 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна–Ліда. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

У канцы 19 ст. вёска ў Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1897 г. 9 двароў, 49 жыхароў. У пач. 20 ст. ў Груздаўскай сельскай грамадзе. У 1904 г. 49 сялян, якія мелі 27 дзес.

зямлі. Вёска знаходзілася за 12 вёрст ад чыг. ст. Маладзечна. Побач з вёскай размяшчаўся фальварак, якім валодаў Пятроўскі і меў тут 14 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне, з 1925 г. Віленскага ваяв. У 1938 г. 14 двароў, 59 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Палачанскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 20 двароў, 66 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 1 жыхар загінуў на фронце і 1 у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 74 жыхары. У 2001 г. 15 гаспадарак, 30 жыхароў.

**ГРУНЦІШКІ** — вёска ў Красненскім с/с, за 17 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 71 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

У 2-й пал. 19 ст. невялікая вёска ў Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у складзе маёнтка Леўтоўшчызна. У 1857 г. вёска, 7 рэвізскіх душ, належала памешчыку Сурынту, у 1870 г. ў складзе Уланаўшчынскай сельскай грамады. У 1897 г. 3 двары, 20 жыхароў. У пач. 20 ст. 21 жыхар, 25 дзес. зямлі. У 1909 г. 2 двары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 4 двары, 32 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1987 г. 7 гаспадарак, 9 жыхароў, у складзе калгаса «Прагрэс». У 2001 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары.

**ГУДОЎШЧЫНА** — вёска ў Гарадоцкім с/с, за 16 км на Пд ад Маладзечна, 52 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна. 7 гаспадарак, 14 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў складзе маёнтка Доўцавічы ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. ў вёсцы 5 двароў, 25 жыхароў, уласнасць памешчыка Галынскага. У 1858 г. 7 сял. душ, уласнасць памешчыка Барсука. У 1870 г. вёска ў Пятроўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. 9 двароў, 66 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 93 дзес. зямлі, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 65 жыхароў. Вёска знаходзілася за 12 вёрст ад чыг. ст. Аляхновічы. У 1909 г. 7 двароў, 66 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 18 двароў, 90 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Гарадоцкім с/с. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 25 двароў, 79 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 1 двор і загубілі 1 жыхара, 9 вяскоўцаў вывезлі ў Германію на прымусовую працу (4 з іх вярнулася). 4 вяскоўцы загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 72 жыхары.

**ДАМАНАВА** — вёска ў Мясоцкім с/с, за 20 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 98 км ад Мінска. 16 гаспадарак, 36 жыхароў (2010).

Вёска ўпамінаецца ў 18 ст. як маёнтак, прыватная ўласнасць у Мінскім

ваяв. ВКЛ. У 1723 г. засценак і маёнтак, уласнасць К.Козеля. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 2 двары, 22 жыхары, уласнасць К.Агінскага. У канцы 18 ст. вёска ў складзе маёнтка Мясата ў Вілейскім павеце Віленскай губ. У 2-й пал. 19 ст. засценак у Краснасельскай вол. У 1861 г. належаў памешчыку Тампінскаму. У 1897 г. 3 двары, 22 жыхары. У пач. 20 ст. засценак, 13 дзес. зямлі, у Кашэвіцкай сельскай грамадзе. У 1904 г. 15 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, засценак у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 3 двары, 22 жыхары. З 1939 г. ў БССР, у Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 10 гаспадарак, 26 жыхароў.

**ДАМАШЫ** — вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 3 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 81 км ад Мінска. 113 гаспадарак, 254 жыхары (2010).

За 0,2 км на ПнУ ад вёскі, уздоўж правага берага ручая, размешчана селішча (цягнецца больш як на 1 км), што сведчыць пра засяленне гэтай мясцовасці ў старажытнасці. У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1799 г. 22 двары, 109 жыхароў, уласнасць Ю.Сарокі. У пач. 18 ст. вёска здавалася ў арэнду розным уладальнікам, якія абкладалі сялян жорсткімі павіннасцямі. Вёска знаходзілася ў вялікім заняпадзе. У 2-й пал. 19 ст. ў Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1863 г. 97 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка Саковіча. У 1897 г. 70 двароў, 396 жыхароў. У пач. 20 ст. 39 дзес. зямлі, у Насілаўскай сельскай грамадзе. У 1908 г. 30 двароў, 360 жыхароў.



*Капліца ў в. Дамашы.*

З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 67 двароў, 373 жыхары. У 1938 г. 79 двароў, 385 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 111 гаспадарак, 275 жыхароў. Вёска — радзіма бел. гісторыка, археолага, краязнаўца Г.А.Каханоўскага (8.1.1936–15.1.1994).

**ДАРАХІ** — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 20 км на Пд ад Маладзечна, 58 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна–Ліда. 23 гаспадаркі, 43 жыхары (2010).

У 18 ст. вёска Дарогі, цэнтр аднайменнага маёнтка ў Мінскім ваяв. ВКЛ.

У 1776 г. вёска, 3 двары, 22 жыхары, карчма, маёнтак, уласнасць Вяжэвіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. в. Дарогі (яна ж Кажамякі), 15 двароў, 101 жыхар, уласнасць памешчыкаў Валадзьковіча і К.Златагурскага. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Уваходзіла ў 2 маёнткі: Дорахаўскі і Чарнеўскі. У 1857 г. ў вёсцы 65 рэвізскіх душ мужчынскага полу. Належала памешчыцы Язвінскай (24 жыхары) і памешчыку Ю.Куроўскаму (41 жыхар). У 1873 г. ў Чэрнеўскай сельскай грамадзе. У 1895 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. вёска (29 двароў, 213 жыхароў), маёнтак (6 жыхароў), сядзіба (8 жыхароў), у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 213 жыхароў, 313 дзес. зямлі, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Непадалёку ад вёскі размяшчаўся маёнтак памешчыка Куродскага, які меў тут 105 дзес. зямлі. У 1909 г. 2 вёскі: Дарахі 1-я (11 двароў, 98 жыхароў) і Дарахі 2-я (12 двароў, 111 жыхароў). Пазней вёскі аб'ядналіся ў адну. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 42 двары, 231 жыхар. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 36 гаспадарак, 70 жыхароў.

**ДЗЕМЯШЫ** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 105 км ад Мінска. 38 гаспадарак, 64 жыхары (2010).

У канцы 18 ст. вёска вядома як прыватная ўласнасць у Ашмянскім павеце Віленскай губ. У 1800 г. 18 двароў, 129 жыхароў, належала памешчыку Ваньковічу. У 2-й пал. 19 ст. ў Палачанскай вол., у Гарадзілаўскім маёнтку, які належаў памешчыцы Пузына, пазней Ахматовічу. У 1866 г. 36 жыхароў, у Літвінскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска, 13 двароў, 76 жыхароў. У пач. 20 ст. 67 дзес. зямлі, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. Знаходзілася за 11 вёрст ад чыг. ст. Пруды. У 1909 г. 7 двароў, 87 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. вёска ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 40 двароў, 222 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінула 8 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1939 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 202 жыхары.

**ДЗЮБЛЕЎШЧЫНА** — вёска ў Радашковіцкім с/с, за 37 км на ПдУ ад Маладзечна, 41 км ад Мінска, 1,5 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна. 13 гаспадарак, 30 жыхароў (2010).

У 1800 г. ў вёсцы налічвалася 7 двароў, 58 жыхароў, уласнасць Ю.Бельзюкевіча. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Уша ў Краснасельскай вол. Вілейскага павета. У 1857 г. 31 сял. душа мужчынскага полу, уласнасць памешчыка Клемантовіча, у 1873 г. ва Ушанскай сельскай грамадзе. У 1897 г. 19 двароў, 111 жыхароў, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 141 жыхар, у 1909 г. 8 двароў, 138 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёс-

ка акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 21 двор, 127 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Валодзькаўскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 115 жыхароў. З 31.3.1976 г. ў Радашковіцкім с/с. У 2001 г. 15 гаспадарак, 35 жыхароў.

**ДЗЯКШНЯНЫ**, Дзікшняны, Дзекшняны — вёска ў Радашковіцкім с/с, за 36 км на ПдУ ад Маладзечна, 42 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, на р. Чарняўка (прыток р. Рыбчанка). 48 гаспадарак, 138 жыхароў (2012).

Вядома з 16 ст. У 2-й пал. 16 ст. маёнтак, уласнасць кн. Вішнявецкіх, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1595 г. кн. Міхайла Вішнявецкі разам з братам Юрыем прадаў маёнтак кн. Фёдару Друцкаму-Горскаму. У склад маёнтка ўваходзілі 8 вёсак. Меліся пякарня, лазня, бровар з саладоўняй, стаў з млыном, 2 сажалкі. У 1-й пал. 17 ст. мястэчка. У 1646 г. 8 двароў, 4 валокі зямлі. Побач размяшчаўся фальварак (10 двароў). У 1784 г. ўласнасць Глушынскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. З канца 18 ст. ў Вілейскім павеце Мінскай, з 1842 г. Віленскай губерняў. У 1861 г. ў склад маёнтка ўваходзілі 5 вёсак. У 1873 г. маёнтак належаў Валадзьковічу. Меўся вадзяны млын. У пач. 20 ст. маёнтак у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. У 1904 г. ўласнасць Валадзьковіча, які меў тут 1616 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Радашковіцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, у Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. З 31.3.1976 г. ў Радашковіцкім с/с. У 2002 г. 75 гаспадарак, 222 жыхары.

**ДЗЯРАЗКІ** — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 19 км на Пд ад Маладзечна, 59 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда. 17 гаспадарак, 30 жыхароў (2010).

У 18 ст. вядомы як дзярж. ўласнасць у ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 4 двары, 27 жыхароў, уласнасць казны. У 2-й пал. 19 ст. вёска Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у складзе маёнтка Вазгілы, уласнасць памешчыцы Карпіцкай. У 1866 г. 13 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. 7 двароў, 27 жыхароў. У пач. 20 ст. 43 дзес. зямлі, у Чэрнеўскай сельскай грамадзе. У 1909 г. 10 двароў, 64 жыхары. Знаходзілася за 23 вярсты ад Маладзечна. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 10 двароў, 64 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 24 гаспадаркі, 58 жыхароў.

**ДОЎГІ ЛОГ** — вёска ў Маркаўскім с/с, за 25 км на З ад горада і чыг. ст. Ма-

ладзечна, 103 км ад Мінска. 21 гаспадарка, 34 жыхары (2010).

У 19 ст. вёска на р. Трэпалаўка, у Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Манюшчыцы. У 1858 г. 28 рэвізскіх душ, належала памешчыку Мачульскаму. У 1897 г. вёска, 17 двароў, 131 жыхар. У 1904 г. 137 жыхароў, 77 дзес. зямлі, у Рэдзькаўскай сельскай грамадзе. Побач размяшчалася сядзіба Асіповіча, які меў тут 31 дзес. зямлі. У 1909 г. ў вёсцы 9 двароў, 152 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. У 1938 г. 33 двары, 192 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Беніцкім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі тут 2 двары. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 11.9.1959 г. Маркаўскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 50 гаспадарак, 169 жыхароў.

**ДРАНІ** — вёска ў Хажоўскім с/с, за 5 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 90 км ад Мінска. 17 гаспадарак, 35 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1800 г. 6 двароў, 28 жыхароў, уласнасць памешчыка В.Гацэвіча. У 2-й пал. 18 ст. ў складзе маёнтка Ізабеліна, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета. У 1858 г. ў вёсцы 33 жыхары. уласнасць Наргелевіча. У 1870 г. ў Мойсіцкай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска (15 двароў, 87 жыхароў), сядзіба (1 двор, 8 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Хажоўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл., 21 двор, 106 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 11.9.1959 г. ў Цюрлёўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 10.6.1965 г. ў Хажоўскім с/с. У 1969 г. 74 жыхары, у калгасе імя Ф.Дзяржынскага. У 2002 г. 16 гаспадарак, 32 жыхары.

**ДРОВАШЫ** — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 19 км на Пд ад Маладзечна, 59 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах вядома як вёска, у 18 ст. прыватная ўласнасць у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1763 г. 10 двароў, 63 жыхары, уласнасць пана К.Вяжэвіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска Вілейскага павета Віленскай губ. У 1800 г. 10 двароў, уласнасць І.Валадзькевіча. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Чэрнеўскім маёнтку Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уласнасць памешчыцы Язвінскай. У 1866 г. 57 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1870 г. ў Чэрнеўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска, 16 двароў, 144 жыхары, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 144 жыхары, якія мелі 288 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 30 двароў, 180 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп.

1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 15 гаспадарак, 23 жыхары.

**ДУБКІ** (да 30.7.1964 г. — Бараны) — вёска ў Граніцкім с/с, за 37 км на ПдУ ад Маладзечна, 41 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2010).

З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Радашковіцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 17 двароў, 85 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сычавіцкім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію на прымусовыя работы 5 вяскоўцаў, 3 жыхары загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. ў вёсцы 24 двары, 113 жыхароў. З 20.1.1973 г. ў Граніцкім с/с, у складзе калгаса «Бацькаўшчына» (цэнтр — в. Гарнякі). У 2001 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў.

**ДУБРАВА** — вёска ў Аляхновіцкім с/с, за 36 км на ПдУ ад Маладзечна, 42 км ад Мінска, на р. Бярэзіна (прыток р. Нёман), 3 км ад чыг. ст. Дубравы на лініі Мінск—Маладзечна. 242 гаспадаркі, 632 жыхары (2010).

За 0,3 км на Пн ад вёскі размешчана гарадзішча — археал. помнік, які сведчыць аб тым, што гэта мясцовасць была заселена людзьмі яшчэ ў глыбокай старажытнасці. У 1453 г. тут быў пабудаваны касцёл (упамінаецца і ў 1576 г.). У 18 ст. мястэчка ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1787 г. пабудаваны мураваны касцёл. У 1791 г. 32 двары, 225 жыхароў, маёнтак — уласнасць пана С.Марцінкевіча. Меліся 2 карчмы, бровар. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1796 г. ўласнасць тайнага саветніка А. Хмары, які пабудаваў тут касцёл замест згарэлага. У 1800 г. сяло, 30 двароў, 175 жыхароў, гаспадарскі двор, касцёл, бернардзінскі кляштар, плябанія, драўляная ўніяцкая царква, 2 карчмы, частка ўладання належала Дуброўскай уніяцкай плябаніі. На р. Бярэзіна размяшчаўся вадзяны млын. У склад маёнтка ўваходзілі мяст. Дуброва і вёскі Навасёлкі, Татарскія. У 1833 г. ў маёнтку 552 сял. душы, уласнасць прадвадзіцеля дваранства Мінскага павета Г. Хмары, які меў тут 1483 дзес. зямлі. Працавалі вінакурнае прадпрыемства,



*Былы вінакурны завод у в. Дубрава.*



*Царква Раства Прасвятой Багародзіцы ў в. Дубрава.*




*Мемарыяльная дошка ў гонар Б.І.Дыбоўскага ў в. Дубрава.*



*Б.І.Дыбоўскі.*

3 млыны, 3 карчмы. У 1846 г. ў мяст. 30 двароў, 193 жыхары. У 1861 г. ў сяле 32 двары, 256 жыхароў, касцёл, капліца, вадзяны млын. У 1868 г. касцёл быў перабудаваны ў праваслаўную царкву Раства Багародзіцы. У 1880 г. мястэчка — цэнтр сельскай грамады ў Ракаўскай вол. Мінскіх павета і губ., праваслаўная царква, капліца, вінакурны з-д, вадзяны млын, хлебазапасны магазін. У 1886 г. працавала нар. вучылішча. У 1897 г. сяло (57 двароў, 329 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін), урочышча (1 двор, 16 жыхароў), маёнтак (44 жыхары, вінакурны з-д, млын, сукнавальня), у Ракаўскай вол. Мінскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска (88 двароў, 479 жыхароў) і засценак (44 двары, 266 жыхароў), у Ракаўскай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Дуброўскага с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях з якімі за вызваленне вёскі загінулі 14 сав. воінаў і 11 партызан. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл., з 27.10.1964 г. сельсавет скасаваны, тэр. далучана да Аляхновіцкага с/с. У вёсцы размяшчалася цэнтр. сядзіба саўгаса «Дубрава». Працуюць сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Каля развілкі дарог на Аляхновічы і Навасёлкі на брацкай магіле сав. воінаў і партызан, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск. У маёнтку Адамарын (за 4 км на У ад в. Дубрава) нарадзіліся браты Б.І.Дыбоўскі (1833—1930) — заолаг, прыродазнавец, урач, чл.-кар. АН СССР (1928), Польскай АН (1884), рэвалюцыянер, грамадскі дзеяч, і У.І.Дыбоўскі (1838—1910) — заолаг, палеантолаг, мінералог, батанік, фалькларыст. У 1978 г. на будынку сярэдняй школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка Б.І.Дыбоўскаму.

**ЕЛЕНКА** — вёска ў Аляхновіцкім с/с, за 22 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 55 км ад Мінска, на р. Бярэзіна (прыток р. Нёман). 35 гаспадарак, 68 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска вядома як цэнтр аднайменнага маёнтка ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1791 г. в. Ялонка (15 двароў, 99 жыхароў), млын, уласнасць С. Марцінкевіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У пач. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Гойжава ў Мінскіх павеце і губ., уласнасць тайнага саветніка А. Хмары. У 1800 г. ў вёсцы 16 двароў, 75 жыхароў. У 1833 г. 13 двароў, 100 жыхароў, уласнасць прадвадзіцеля дваранства Мінскага павета Г. Хмары. Ва ўрочышчы Еленка размяшчаліся 3 карчмы. У 1846 г. 95 жыхароў. Сяляне займаліся земляробствам, зямлю апрацоўвалі двума валамі і сахой. Лішкі хлеба прадавалі ў Ракаве, Радашковічах і Мінску. У вольны ад паляводчых работ час займаліся возніцкім промыслам. У 1870 г. вёска, 40 рэвізскіх душ, на р. Еленка, уласнасць памешчыка А. Хмары, у Ракаўскай вол. Мінскіх павета і губ. Меўся вадзяны млын. У 1897 г. вёска (22 двары, 138 жыхароў), засценак (2 двары, 20 жыхароў, вадзяны млын) і ўрочышча Еленка (уласнасць Любанскіх, 1 двор, 7 жыхароў, вадзяны млын), у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У

1909 г. ў вёсцы 18 двароў, 127 жыхароў. Непадалёку ад вёскі знаходзіўся фальварак. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска і засценак, 39 двароў, 236 жыхароў. З 1938 г. ў Ракаўскай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1987 г. ў складзе саўгаса «Дубрава» (цэнтр — в. Дубрава). У 2001 г. 51 гаспадарка, 111 жыхароў.

**ЕРМАКІ**, Я р м а к і — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 19 км на Пд ад Маладзечна, 59 км ад Мінска, 12 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда, на р. Дараўлянка (прыток р. Яршоўка). 13 гаспадарак, 17 жыхароў (2010).

Вёска вядома з 17 ст. ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1630 г. сяло, 21 двор, у складзе маёнтка Хоўхла, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. 7 двароў, 60 жыхароў, маёмасць І.Валадзьковіча, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 19 ст. вёска ў Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. 33 сяляніны і 1 аднадворац, уласнасць памешчыцы Ясінскай. У 1891 г. ў вёсцы адкрыта школа граматы. У 1897 г. вёска (16 двароў, 118 жыхароў), пасёлак Ярмакі (1 двор, 7 жыхароў) і сядзіба Ярмакі (4 двары, 21 жыхар), у Гарадокскай вол. Вілейскага павета. У пач. 20 ст. вёска, 112 дзес. зямлі, у Хоўхлаўскай сельскай грамадзе. У 1904 г. 101 жыхар. Знаходзілася за 20 вёрст ад чыг. ст. Аляхновічы. Побач з вёскай мясціліся аднайменныя засценак (уласнасць Багарэвічаў) і сядзіба (уласнасць Курыловіча). У 1909 г. ў вёсцы 9 двароў, 137 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 38 двароў, 147 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 11 двароў, загубілі 13 жыхароў; 2 жыхары загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. У баях за вызваленне вёскі загінула 10 сав. воінаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 150 жыхароў.

**ЖАРЛАКІ** — вёска ў Хажоўскім с/с, за 13 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 91 км ад Мінска. 27 гаспадарак, 75 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Ізабеліна ў Вілейскім павеце Маладзечанскай вол. У 1857 г. вёска, 51 селянін, уласнасць памешчыка Наргелевіча. У пач. 20 ст. вёска, 154 дзес. зямлі, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёска, 205 жыхароў, у 1908 г. 12 двароў, 194 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 35 двароў, 155 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хажоўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 35 двароў, 127 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары, 3 жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы; 8 жыхароў загінула на фронце, 1 — у

партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. З 11.9.1959 г. ў Цюрлёўскім, з 10.6.1965 г. ў Хажоўскім сельсаветах. У 1969 г. вёска, 116 жыхароў, у калгасе імя Ф.Дзяржынскага. У 2002 г. 33 гаспадаркі, 92 жыхары.

**ЖУРЭВІЧЫ** – вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 103 км ад Мінска. 47 гаспадарак, 90 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска вядома ў Ашмянскім павеце Віленскай губ. У 1861 г. частка яе (58 рэвізскіх душ) у складзе Рачкаўскага маёнтка, уласнасць Вагнера. Другая частка (23 рэвізскія душы) – дзярж. ўласнасць у маёнтку Бардзынь. Меўся ветраны млын. У 1897 г. 334 двары, 241 жыхар. У 1904 г. ў вёсцы 239 жыхароў, якія мелі 172 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 33 двары, 311 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 11 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. У 1969 г. 209 жыхароў.

**ЗАБАЛАЦЦЕ** – вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 1 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 79 км ад Мінска. 17 гаспадарак, 28 жыхароў (2010).

У пач. 19 ст. вядома як засценак у складзе маёнтка Агароднікі, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1857 г. засценак, 4 жыхары, уласнасць памешчыка Гайкевіча. У 1897 г. засценак (1 двор, 9 жыхароў) і фальварак (1 двор, 9 жыхароў), у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У пач. 20 ст. засценак на р. Уша. У 1904 г. ў засценку 9 жыхароў, якім належала 11 дзес. зямлі. Побач з засценкам размяшчаўся аднайменны фальварак Гайкевіча, які меў тут 60 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., у засценку 1 двор, 6 жыхароў, у фальварку 7 двароў, 44 жыхары. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 17 гаспадарак, 24 жыхары.

**ЗАГОРСКАЕ** (да 30.7.1964 г. – Воўкі) – вёска ў Мясоцкім с/с, за 9 км на У ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 69 км ад Мінска. 65 гаспадарак, 145 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. прыватная ўласнасць у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. ў вёсцы 6 двароў, 55 жыхароў, уласнасць памешчыка К.Агінскага. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Мясата. У 1861 г. вёска, 26 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка Тампінскага. У пач. 20 ст. ў Мясоцкай сельскай грамадзе, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў вёсцы 24 двары, 151 жыхар. Непадалёку знаходзілася калонія (2 двары, 11 жыхароў). З 1939 г. ў

БССР, з 12.10.1940 г. ў Мясоцкім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 45 двароў, 225 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 32 двары і загубілі 24 жыхары, 3 жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 5 вяскоўцаў загінула на фронце, 19 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.11.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 265 жыхароў.

**ЗАГОРЦЫ** — вёска ў Граніцкім с/с, за 35 км на ПдУ ад Маладзечна, 43 км ад Мінска, 12 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 29 гаспадарак, 50 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Бакшты-2, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1861 г. ў вёсцы 97 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка Кавалеўскага. У 1897 г. в. Загорцы (яна ж Забалоцце), 49 двароў, 283 жыхары, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. У пач. 20 ст. вёска, 387 дзес. зямлі, у Клімавіцкай сельскай грамадзе. У 1909 г. 25 двароў, 259 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска, 66 двароў, 321 жыхар, у Радашковіцкай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, у Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 жыхароў, 2 вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 82 двары, 281 жыхар. З 20.1.1973 г. ў Граніцкім с/с, у складзе калгаса «Бацькаўшчына» (цэнтр — в. Гарнякі). У 2001 г. 44 гаспадаркі, 76 жыхароў.

**ЗАДВАРЦЫ** — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 16 км на Пд ад Маладзечна, 62 км ад Мінска, 12 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда. 16 гаспадарак, 28 жыхароў (2010).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 18 ст. як вёска ў складзе маёнтка Хоўхла ў ВКЛ. У 1792 г. ўласнасць Радзівіла. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска Вілейскага павета Мінскай губ., дзярж. ўласнасць. У 1800 г. 3 двары, 28 жыхароў, 15 прыгонных сялян, уласнасць Ф.Галіноўскага, у Вілейскім павеце. У 2-й пал. 19 ст. ўваходзіла ў маёнтак Хоўхла і належала розным уладальнікам. У 1858 г. 27 сял. душ належалі памешчыцы Ясінскай і 38 — Дружбецкай, 5 сялян — памешчыку І.Карпіцкаму, адносіліся да маёнтка Парадоўшчына. У 1897 г. ў вёсцы 30 двароў, 188 жыхароў, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета. У пач. 20 ст. вёска, 288 дзес. зямлі, у Гарадоцкай сельскай грамадзе. У 1904 г. 192 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 169 жыхароў.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Радашковіцкім с/с, за 41 км на ПдУ ад Маладзечна, 37 км ад Мінска, 3 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, на р. Чарняўка (прыток р. Рыбчанка). 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2010).

У пач. 19 ст. вёска вядома як цэнтр маёнтка Залессе ў Мінскіх павеце і губ.

У склад маёнтка ўваходзілі 2 фальваркі: Залессе, Вайтэлі і 2 аднайменныя вёскі. У 1833 г. ў вёсцы 26 жыхароў. У 1846 г. ў маёнтку 10 двароў, 59 жыхароў, уласнасць памешчыка К. Лядскага, які меў тут 656 дзес. зямлі. Кожны сял. двор меў 15 дзес. зямлі. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Ракаўскай вол. Мінскага павета, уласнасць памешчыка Лядскага. У 1861 г. 17 рэвізскіх душ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, з 1938 г. ў гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. У 1938 г. ў вёсцы 13 двароў, 71 жыхар. Непадалёку размяшчаўся фальварак, 9 двароў, 50 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. вёска ў Валодзькаўскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі.

З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. З 31.3.1976 г. ў Радашковіцкім с/с. У 2001 г. 15 гаспадарак, 32 жыхары.

**ЗАМОСЦЕ** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 107 км ад Мінска, на р. Бярэзіна (прыток р. Нёман). 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў складзе Гарадзілаўскага маёнтка, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., уласнасць памешчыка Пузыны, пазней Ахматовіча. У 1866 г. 21 жыхар. У 1897 г. вёска, 7 двароў, 55 жыхароў, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета. У пач. 20 ст. вёска на р. Бярэзіна, 48 дзес. зямлі, у Літвінскай сельскай грамадзе. У 1909 г. 4 двары, 58 жыхароў. Знаходзілася за 16 вёрст ад чыг. ст. Пруды. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. вёска ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 13 двароў, 82 жыхары. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў.

**ЗАПАЛЯКІ** — вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Маладзечна, 97 км ад Мінска, 1 км ад чыг. ст. Пруды на лініі Вільнюс—Маладзечна. 37 гаспадарак, 78 жыхары (2010).

У 19 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 6 двароў, 66 жыхароў, уласнасць К.Агінскага. У 2-й пал. 19 ст. належала розным уладальнікам. У 1858 г. 36 жыхароў. У 1897 г. вёска (22 двары, 128 жыхароў), 2 засценкі (3 двары, 16 жыхароў) і фальварак (1 двор, 8 жыхароў) у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. ў вёсцы 145 жыхароў, у 2 засценках 16 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 33 двары, 211 жыхароў, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лебедзеўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 50 двароў, 159 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 4 двары, 9 жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 53 двары, 177 жыхароў.

**ЗАРАЧАНСКАЯ** (да 30.7.1964 г. — Бычыншчына) — вёска ў Мясоцкім с/с, за 12 км на У ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 66 км ад Мінска, на р. Пісараўка (прыток р. Уша). 33 гаспадаркі, 66 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. в. Бычыншчына, прыватная ўласнасць у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 3 двары, 18 жыхароў, уласнасць К.Агінскага. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Мясата, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. 23 жыхары, уласнасць памешчыка Тампінскага. Пасля адмены прыгону (1861) у Мясоцкай сельскай грамадзе. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 19 двароў, 94 жыхары. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, у Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 29 двароў, 145 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 1 двор і загубілі 10 мірных жыхароў. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 165 жыхароў.

**ЗАСКАВІЧЫ** — вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 101 км ад Мінска, на р. Бенічанка (прыток р. Уша). 272 гаспадаркі, 682 жыхары (2010).

Вядомы з 18 ст. як фальварак, потым вёска ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ, уласнасць паноў Коцелаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. мястэчка і в. Заскавічы ў Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1863 г. мястэчка (16 жыхароў) і частка вёскі (47 жыхароў) у складзе маёнтка Беніца, уласнасць памешчыка Шлыкоўскага. Другая частка вёскі (12 жыхароў) уваходзіла ў маёнтак Залессе і належала княгіні Агінскай. У 1880 г. ў мястэчку 134 жыхары. Меліся праваслаўная царква, яўр. малітоўная школа, вадзяны млын, заезны дом. У 1897 г. ў сяле (мястэчку) 13 двароў, 52 жыхары; 3 штучныя лаўкі, піцейны дом. Непадалёку на р. Верценка размяшчалася в. Заскавічы (42 двары, 259 жыхароў), тут быў хлебазапасны магазін. У 1900 г. адкрыта школа граматы. У пач. 20 ст. назву Заскавічы насілі 3 вёскі ў Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1909 г. вёскі Заскавічы 1-я (14 двароў, 228 жыхароў), Заскавічы 2-я (3 двары, 55 жыхароў) і Заскавічы 3-я (6 двароў, 59 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. мястэчка акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета Віленскага ваяв. У 1938 г. ў мястэчку 49 двароў, у вёсцы 57 двароў, 311 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Заскавіцкага с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 5 двароў, 7 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію, у баях за вызваленне вёскі загінулі 2 партызаны і 1 сав. воін. Усяго загінула 49 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. створаны калгас «Светлы шлях». З 11.9.1959 г. сельсавет скасаваны, вёска далучана да Лебедзеўскага с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 138 двароў, 528 жыхароў. У 2011 г. размешчаны сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. У цэнтры вёскі ў 1972 г. ўстаноўлены помнік землякам, што загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ЗАСЦЕНКІ** — вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 3,5 км на З ад горада і чыг. ст. Ма-

ладзечна, 71,5 км ад Мінска. 46 гаспадарак, 117 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 6 двароў, 28 жыхароў, уласнасць памешчыка У.Ляговіча. У 1897 г. 18 двароў, 105 жыхароў, у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 20 двароў, 119 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 29 гаспадарак, 58 жыхароў.

**ЗОРАНЬКА** (да 1966 г. — Кабылкі) — вёска ў Палачанскім с/с, за 10,5 км на ПдЗ ад Маладзечна, 88,5 км ад Мінска, 3,5 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда. 51 гаспадарка, 93 жыхары (2010).

У 19 ст. прыватная ўласнасць у Ашмянскім павеце Віленскай губ. У 1800 г. 1 двор, 10 жыхароў, уласнасць памешчыка Берхмана. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Палачаны, у Палачанскай вол. У 1866 г. 101 жыхар, уласнасць памешчыцы Сулістроўскай. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. вёска, 62 двары, 329 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Палачанскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 334 жыхары. У 2001 г. 67 гаспадарак, 135 жыхароў.

**ІВАНОЎШЧЫНА** — вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 94 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 18 ст. засценак на р. Ластой. У 1706 г. вёска, 4 двары, шляхецкая ўласнасць, у Ашмянскім павеце ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. в. Іванавічы, 14 двароў, 64 жыхары, уласнасць казны, у Вілейскім павеце. У 19 ст. засценак у складзе маёнтка Асанава, у Лебедзеўскай вол. У 1858 г. ў засценку 4 сял. душы, у 1861 г. ўласнасць памешчыка Стравінскага. У 1897 г. засценак, 2 двары, 16 жыхароў, у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета. У 1904 г. засценак, 16 жыхароў, 14 дзес. зямлі, у Лебедзеўскай сельскай грамадзе. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., засценак, 6 двароў, 34 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лебедзеўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 5 двароў, 17 жыхароў.

**ІВОНЦАВІЧЫ** — вёска ў Красненскім с/с, за 21 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 57 км ад Мінска. 45 гаспадарак, 117 жыхароў (2010).

У 18 ст. сяло, дзярж. ўласнасць у Краснасельскіх вол. і старостве ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1765 г. ў сяле 14 ды-

моў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. маёмасць у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1801 г. вёска, 113 жыхароў, уласнасць памешчыцы Буржынскай і яе сына. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе казённага маёнтка ў Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1866 г. 48 сялян і 4 яўрэі-земляробы. У 1873 г. вёска ва Уланаўшчынскай сельскай грамадзе. У 1897 г. 29 двароў, 187 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 319 дзес. зямлі, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета, Віленскай губ. У 1904 г. 223 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 36 двароў, 240 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 65 двароў, 245 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 35 двароў і загубілі 20 жыхароў, 12 вяскоўцаў вывезлі ў Германію, 30 вяскоўцаў загінула на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. створаны калгас. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 81 двор, 352 жыхары, у калгасе «Прагрэс». У 2001 г. 61 гаспадарка, 164 жыхары. У вёсцы працуюць магазін, б-ка.

**ІЗАБЕЛІНА**, З а б ы л і н а — вёска ў Хажоўскім с/с, за 12 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 90 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска вядома як маёнтак Вілейскага павета Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 2 двары, 21 жыхар, з іх 5 — ваколічная шляхта. Уласнасць памешчыка В.Гацкевіча. З 1840 г. ў Віленскай губ. У 1858 г. ў склад маёнтка ўваходзіла 9 вёсак, 428 сялян. У 1866 г. фальварак на р. Вілія, уласнасць графа Ё. Тышкевіча, які меў тут 5136 моргаў зямлі. Побач з фальваркам праходзіла паштовая дарога з Маладзечна ў Гродна. Тут размяшчалася карчма. На р. Вілія дзейнічаў вадзяны млын. Меліся хлебазапасны магазін, каталіцкая капліца, якая адносілася да Хажоўскай парафіі. У 1897 г. маёнтак (29 жыхароў, капліца), пасёлак (1 двор, 2 жыхары, вадзяны млын) у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 20 жыхароў. Маёнтак — уласнасць графа Тышкевіча, які меў 1162 дзес. зямлі. Побач размяшчаўся вадзяны млын, 4 жыхары, якім належала 10 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., фальварак, 3 двары, 73 жыхары. Працаваў вадзяны млын. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хажоўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 11.9.1959 г. ў Цюрлёўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 10.6.1965 г. ў Хажоўскім с/с. У 1969 г. 36 жыхароў.

**ІЎКІ** — вёска ў Красненскім с/с, за 21 км на ПдУ ад Маладзечна, 57 км ад Мінска, 2,5 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 17 гаспадарак, 39 жыхароў (2010).

З канца 18 ст. ўпамінаецца як вёска Вілейскага павета Мінскай губ. У 1800 г. 2 двары, 12 жыхароў, з іх 3 — ваколічная шляхта. Вёска належала памешчыку Чартовічу. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Ракуцёўшчына, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. 10 сялян, уласнасць памешчыка Агінскага. У 1866 г. 3 двары, 25 жыхароў, у Красней-

скай сельскай грамадзе. Побач з вёскай праходзіла паштовая дарога з Вільні ў Мінск. У 1897 г. 6 двароў, 56 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 58 дзес. зямлі, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 59 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 16 двароў, 88 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 22 двары, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары і загубілі 3 жыхароў, 6 вяскоўцаў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы, 4 вяскоўцы загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 24 двары, 88 жыхароў, у складзе калгаса «Краснае». У 2001 г. 17 гаспадарак, 39 жыхары.

**КАВАЛЬЦЫ** — вёска ў Маркаўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Маладзечна, 100 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Пруды на лініі Вільнюс—Маладзечна, на р. Гадзея (прыток р. Уша). 26 гаспадарак, 29 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска і засценак у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Вёска ўваходзіла ў дзярж. маёнтак Маркавічы. Засценак адносіўся да маёнтка Лешня і належаў памешчыкам Саковічам. У 1866 г. вёска, 55 жыхароў, уласнасць памешчыка Плявакі. У 1897 г. вёска (33 двары, 201 жыхар, 2 хлебазапасныя магазіны) і засценак (2 двары, 15 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 42 двары, 258 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Маркаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 36 гаспадарак, 47 жыхароў.

**КАЗЛЫ** — вёска ў Красненскім с/с, за 26 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 52 км ад Мінска. 27 гаспадарак, 52 жыхары (2010).

У 18 ст. баярскае сяло, дзярж. ўласнасць, у Краснасельскім старостве Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1738 г. сяло, 3 двары, уласнасць казны. У 1765 г. 7 двароў, 22 сял. душы мужчынскага полу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 7 двароў, у Вілейскім павеце. У 19 ст. вёска, казённая ўласнасць у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1801 г. 212 жыхароў. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе казённага маёнтка Краснаселле ў Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1861 г. 13 сялян і 3 яўрэі-земляробы. Пасля адмены прыгону (1861) вёска ва Уланаўшчынскай сельскай грамадзе. У 1897 г. 13 двароў, 85 жыхароў, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У пач. 20 ст. вёска, 147 дзес. зямлі. У 1904 г. ў вёсцы 108 жыхароў, у 1908 г. 123 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 21 двор, 123 жыхары. З 1939 г. ў БССР ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 1 жыхара, 2 вывезлі

ў Германію на прымусовыя работы. 4 вяскоўцы загінулі на фронце, 1 – у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. створаны першы калгас імя Тэльмана. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1987 г. 49 двароў, 93 жыхары, у калгасе «Прагрэс». У 2001 г. 37 гаспадарак, 66 жыхароў.

**КАЙЦЕНІ** – вёска ў Аляхновіцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад Маладзечна, 48 км ад Мінска, 2 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск–Маладзечна. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

У 18 ст. баярскае сяло ў складзе маёнтка Дуброва, у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1754 г. сяло, 11 дымоў. У 1791 г. вёска, 12 двароў, 82 жыхары, уласнасць С.Марцінкевіча, затым тайнага саветніка А.Хмары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У пач. 19 ст. вёска на правым беразе р. Бярэзіна ў Мінскім павеце Мінскай губ. Адносілася да маёнтка Гойжава і размяшчалася за 1,5 вярсты ад яго. У вёсцы была карчма, на р. Бярэзіна размяшчаўся вадзяны млын. У 1833 г. 4 двары, 73 жыхары. Асн. заняткам сялян было земляробства. Лішкі хлеба прадаваліся ў Мінску і Ракаве на кірмашах. У вольны ад палявых работ час вяскоўцы займаліся возніцкім промыслам, наймаліся да купцоў. У 1846 г. ў вёсцы 79 жыхароў, уласнасць прадвадзіцеля дваранства Мінскага павета Г. Хмары, у 1870 г. маёмасць А. Хмары. У 1897 г. ў вёсцы 16 двароў, 131 жыхар, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска, 33 двары, 164 жыхары, у Ракаўскай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Ушанскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл., з 16.10.1964 г. ў Аляхновіцкім с/с. У 1969 г. 138 жыхароў. У 1987 г. ў складзе саўгаса «Дубрава» (цэнтр – в. Дубрава). У 2002 г. 15 гаспадарак, 19 жыхароў.

**КАЛЕДЗІНО** – вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 1 км на Пд ад Маладзечна, 79 км ад Мінска, чыг. станцыя на лініі Маладзечна–Ліда. 35 гаспадарак, 89 жыхароў (2010).

З пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. У 1708 г. вёска, 22 двары, маёнтак – уласнасць пана Х.Торскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. 31 двор, 218 жыхароў, маёнтак С.Прушынскага. У 19 ст. маёнтак у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. ў маёнтку 22 жыхары, у 1904 г. маёмасць памешчыцы Сіцінскай, якая мела тут 606 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. Непадалёку размяшчалася калонія, 9 двароў, 52 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 32 гаспадаркі, 90 жыхароў.

**КАЛОШАЎШЧЫНА** – вёска ў Красненскім с/с, за 26 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 52 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2010).

У 19 ст. невял. вёска ў складзе маёнтка Левутоўшчына ў Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. ў вёсцы 6 жыхароў, уласнасць па-

мешчыка Сурынты. Пасля адмену прыгону (1861) ва Уланаўшчынскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска (2 двары, 25 жыхароў) і засценак (1 двор, 5 жыхароў). У пач. 20 ст. вёска, 2 дзес. зямлі, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1909 г. 2 двары, 19 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 5 двароў, 36 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1987 г. 7 двароў, 18 жыхароў, у складзе калгаса «Прагрэс». У 2001 г. 6 гаспадарак, 13 жыхароў.

**КАМАРНІКІ** — вёска ў Граніцкім с/с, за 28 км на ПдУ ад Маладзечна, 50 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

У 19 ст. невялікая вёска ў маёнтку Асавец, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1861 г. 9 жыхароў, уласнасць памешчыка Акалава. У 1897 г. вёска (4 двары, 30 жыхароў) і засценак (1 двор, 5 жыхароў). У пач. 20 ст. вёска, 28 дзес. зямлі, у Граніцкай сельскай грамадзе. Суседні засценак належаў памешчыку Акалаву, які меў тут 2 дзес. зямлі. Вёска знаходзілася за 8 вёрст ад чыг. ст. Уша. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сычавіцкім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 10 двароў, 41 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 1 двор і загубілі 1 жыхара, 5 вывезлі ў Германію на прымусовыя работы (1 жыхар вярнуўся). З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 15 двароў, 58 жыхароў. З 20.1.1973 г. ў Граніцкім с/с, у складзе калгаса «Бацькаўшчына» (цэнтр — в. Гарнякі). У 2001 г. 6 гаспадарак, 11 жыхароў.

**КАМЕНШЧЫНА** — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 21 км на Пд ад Маладзечна, 57 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. (2010).

У 16 ст. вёска ў складзе маёнтка Хоўхла, у Мінскім ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 4 двары, 25 жыхароў, уласнасць каталіцкага касцёла. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., дзярж. ўласнасць. У 1870 г. 13 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. 5 двароў, 41 жыхар, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У пач. 20 ст. 86 дзес. зямлі. У 1908 г. вёска, 4 двары, 59 жыхароў, знаходзілася за 21 вёрст ад чыг. ст. Аляхновічы. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. У 1938 г. ў вёсцы 11 двароў, 50 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп.

1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях, 6 двароў, 10 жыхароў. У 2002 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў.

**КАНЧАНЫ**, Канчане — вёска ў Красненскім с/с, за 26 км на ПдУ ад Маладзечна, 52 км ад Мінска, 1 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, на р. Уша (прыток р. Вілія). 100 гаспадарак, 216 жыхароў (2010).

Вядомы з пісьмовых крыніц у 18 ст. як сяло, казённая ўласнасць у Красносельскім старостве, у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1738 г. сяло, 11 двароў, уласнасць казны. У 1789 г. сяло, 16 дымоў, у 8 дымах жылі баяры, у 8 — зямяне, усяго 81 жыхар. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 16 двароў, 81 жыхар. У 19 ст. вёска, казённая ўласнасць, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1801 г. вёска, 106 жыхароў, уласнасць памешчыцы Буржынскай і яе сына. У вёсцы меліся заезная карчма, млын. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе казённага маёнтка Красноселле. У 1861 г. 67 жыхароў. Пасля адмены прыгону (1861) у Красносельскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска (41 двор, 260 жыхароў) і сядзіба (1 двор, 10 жыхароў). У пач. 20 ст. вёска, 469 дзес. зямлі, у Красносельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Побач размяшчалася сядзіба (10 жыхароў), 1 дзес. зямлі; на р. Уша размяшчаўся млын. У 1908 г. 270 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красносельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 76 двароў, 248 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 17 двароў, 3 жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 10 вяскоўцаў загінула на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1987 г. 141 гаспадарка, 370 жыхароў, у складзе саўгаса «Краснае». У 2001 г. 124 гаспадаркі, 289 жыхароў.

**КАНЮХІ** — вёска ў Палачанскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 93 км ад Мінска, на р. Цвецень (прыток р. Бярэзіна). 48 гаспадарак, 101 жыхар (2010).

У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Рачкова, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., уласнасць памешчыка Вагнера. У 1866 г. 70 рэвізскіх душ. У 1897 г. 33 двары, 206 жыхароў. Меўся млын. У 1904 г. ў вёсцы 206 жыхароў, якія мелі 170 дзес. зямлі, знаходзілася за 13 вёрст ад чыг. ст. Пруды, у Рачкаўскай сельскай грамадзе. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 45 двароў, 271 жыхар. З 1938 г. вёска ў Палачанскай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Палачанскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінула 10 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 63 гаспадаркі, 150 жыхароў.

**КАПАЧЫ** — вёска ў Хажоўскім с/с, за 13 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 90 км ад Мінска, на р. Цвецень (прыток р. Бярэзіна). 44 гаспадаркі, 113 жыхароў (2010).

За 3 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна размешчаны курганны могільнік. Гэты археал. помнік сведчыць аб засяленні мясцін са старажытнасці. Упершыню вёска ўпамінаецца як

сяло ў 1433 г. ў час ваенных дзеянняў паміж вял. кн. Свідрыгайлам і Сігізмундам. У 1592 г. згадваецца, як сяльцо Капачоўскага, маёнтак — уласнасць Я.В.Раеўскай, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1759 г. фальварак і вёска (9 двароў, 46 жыхароў), уласнасць Я.Мушынскага, які ў гэтым жа годзе прадаў фальварак з вёскай пану І.Галінскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 10 двароў, 96 жыхароў, уніяцкая царква, уласнасць Горыча, у Вілейскім павеце. У 19 ст. вёска на р. Бярэзіна, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1897 г. 37 двароў, 253 жыхары. Меліся хлебазапасны магазін, вадзяны млын на р. Бярэзіна, які належаў памешчыку Лягану. У 1904 г. ў вёсцы 253 жыхары, якія мелі 242 дзес. зямлі. У 1909 г. 23 двары, 249 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хажоўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 60 двароў, 205 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 5 двароў і загубілі 5 жыхароў. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 223 жыхары.

**КАРАЛІ** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 27,5 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 105,5 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска, дзярж. уласнасць у Ашмянскім павеце Віленскай губ. У 1801 г. ў вёсцы 15 жыхароў. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе казённага маёнтка, у Палачанскай вол. У 1897 г. 8 двароў, 15 жыхароў. У 1909 г. ў Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., 4 двары, 71 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 14 двароў, 82 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. ў вёсцы 51 жыхар. У 2001 г. 12 гаспадарак, 29 жыхароў.

**КАРСАКОВІЧЫ**, Корсакі, Корсакаўшчына, Карсакаўшчына, Карсакоўшчына — вёска ў Аляхновіцкім с/с, за 29 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 49 км ад Мінска. 16 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска вядома як цэнтр аднайменнага маёнтка ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1724 г. ўласнасць К.Белазара. У 1726 г. вёска, 38 двароў, уласнасць Канарскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска і аднайменны маёнтак у Красасельскай вол., у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1857 г. ў вёсцы 16 жыхароў, уласнасць памешчыка Галеўскага, у 1870 г. ва Ушанскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска (11 двароў, 85 жыхароў) і сядзіба (18 жыхароў) у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 90 жыхароў. Побач з вёскай размяшчаўся маёнтак, 18 жыхароў, уласнасць памешчыка Карніловіча, які меў тут 260 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г.

ў складзе Польшчы, у Красносельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., вёска (17 двароў, 96 жыхароў), засценак (3 двары, 24 жыхары), фальварак (1 двор, 8 жыхароў). З 1939 г. вёска ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Ушанскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл., з 16.10.1964 г. ў Аляхновіцкім с/с. У 1969 г. 117 жыхароў. У 1987 г. ў складзе саўгаса «Дубрава» (цэнтр — в. Дубрава). У 2001 г. 24 гаспадаркі, 37 жыхароў.

**КАСЦЮШКІ** — вёска ў Красненскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Маладзечна, 62 км ад Мінска, 2 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 74 гаспадаркі, 201 жыхар (2010).

У пісьмовых крыніцах згадваецца з 16 ст. У 1567 г. ўпамінаецца як маёнтак Касцюшкова ў перапісу войска ВКЛ. Маёнтак належаў зямянам Касцюшкам і быў значна спустошаны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. сяло, 5 двароў, 51 жыхар, маёнтак В.Чартовіча і К.Сацэвіча. У 19 ст. вёска ў складзе маёнткаў Асавец і Ракуцёўшчына ў Вілейскім павеце. У 1857 г. частка вёскі (6 жыхароў) у складзе маёнтка Асавец, які належаў памешчыку Акалову; другая частка (12 жыхароў) — у маёнтку Ракуцёўшчына, уласнасць памешчыкаў Шыманскага і Стацэвіча. У 1870 г. вёска ў Красносельскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска (25 двароў, 138 жыхароў) і сядзіба (1 двор, 10 жыхароў). У пач. 20 ст. вёска, 158 дзес. зямлі, у Красносельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. ў вёсцы 107 жыхароў. Побач размяшчаўся маёнтак памешчыка Шыманскага, які меў тут 144 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 47 двароў, 245 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1987 г. 89 гаспадарак, 242 жыхары, у складзе саўгаса «Краснае». У 2001 г. 80 гаспадарак, 203 жыхары.

**КІЗІЛАВА** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 110 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 19 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска — цэнтр аднайменнага маёнтка, які належаў памешчыкам Пуцятам, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1866 г. ў вёсцы 24 рэвізскія душы, апрача сялян у вёсцы жыло 16 былых дваровых з маёнтка памешчыка В. Пуцяты. У пач. 20 ст. вёска, 95 дзес. зямлі, у Шыпуліцкай сельскай грамадзе. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. вёска ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 20 двароў, 154 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 31 двор, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 1 двор і загубілі 2 жыхароў. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельса-

ветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 108 жыхароў.

**КІЛТАЎЦЫ**, Кільтаўцы — вёска ў Гарадоцкім с/с, за 18 км на Пд ад Маладзечна, 60 км ад Мінска, 12,5 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна. 16 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

З пісьмовых крыніц вёска вядома з канца 16 ст. як маёмасць Радзівілаў, у складзе фальварка Гарадок. У 1646 г. ў вёсцы 5 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 14 двароў, 125 жыхароў, уласнасць памешчыка Галынскага. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Доўцавічы, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1858 г. вёска, 38 жыхароў, уласнасць памешчыка Барсука. У 1870 г. вёска ў Пятроўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска (15 двароў, 127 жыхароў) і пасёлак (1 двор, 3 жыхары). У пач. 20 ст. вёска і засценак. У 1904 г. ў вёсцы 133 жыхары, якія мелі 280 дзес. зямлі, у суседнім засценку 3 жыхары, 3 дзес. зямлі, уласнасць памешчыка Барсука. Знаходзіліся за 12 вёрст ад чыг. ст. Аляхновічы. У 1909 г. 10 двароў, 162 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 33 двары, 178 жыхароў. У 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 160 жыхароў.

**КІЧЫНА** — вёска ў Гарадоцкім с/с, за 13 км на Пд ад Маладзечна, 65 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда. 21 гаспадарка, 35 жыхароў (2010).

У 17 ст. ўласнасць Радзівілаў, у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1646 г. ў вёсцы 2 дымы, 3 валокі зямлі. У 18 ст. вёска ў складзе аднайменнага фальварка. У 1759 г. вёска (8 двароў, 47 жыхароў) і фальварак, уласнасць Мацкевіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 ст. ў складзе Сарочынскага маёнтка Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1858 г. вёска, 39 жыхароў, уласнасць памешчыка Галынскага. У 1870 г. ў Бярозаўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. в. Кічына (яна ж Кічыха), 18 двароў, 109 жыхароў, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета. У пач. 20 ст. 119 дзес. зямлі. У 1909 г. 3 двары, 133 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 28 двароў, 148 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 40 двароў, 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію 5 жыхароў на прымусовыя работы, 10 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 148 жыхароў.

**КЛАПАЧЫ** — вёска ў Палачанскім с/с, за 5,3 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 83,5 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

У 19 ст. ў Ашмянскім павеце Віленскай губ., у 1861 г. існавалі 2 вёскі ў складзе маёнтка Палачаны: Клапачы 1-я (уладальнік — памешчык граф Кагель) і Клапачы 2-я (уладальнік — памешчык Улань). У 1873 г. ў Кабыльскай

сельскай грамадзе. У 1897 г. в. Клопача (яна ж Паляны), 13 двароў, 73 жыхары, капліца, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета. Знаходзіліся за 12 вёрст ад чыг. ст. Маладзечна. У 1909 г. ў Клапачах 1-х 4 двары, 41 жыхар, у Клапачах 2-х 5 двароў, 50 жыхароў. Пазней вёскі зліліся. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска, 19 двароў, 104 жыхары, у Палачанскай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, у Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 83 жыхары.

**КЛІМАНТЫ** — вёска ў Граніцкім с/с, за 35 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 43 км ад Мінска. 28 гаспадарак, 59 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска, дзярж. ўласнасць, належала Віленскай казне. У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 15 двароў, 141 жыхар. У 1801 г. падаравана генерал-маёру Няклюеву. У 2-й пал. 19 ст. ў складзе маёнтка Бакшты 1-я, прыватная ўласнасць у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1861 г. ў вёсцы 108 жыхароў, уласнасць памешчыка Багдановіча. Пасля адмены прыгону (1861) вёска, цэнтр сельскай грамады, у склад якой уваходзіла 6 вёсак, размяшчаўся хлебазапасны магазін. У 1897 г. 54 двары, 320 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. вёска ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска, 64 двары, 351 жыхар, у Радашковіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сычавіцкім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 3 двары і загубілі 20 жыхароў, 2 вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 75 двароў, 237 жыхароў. З 20.1.1973 г. ў Граніцкім с/с, у складзе калгаса «Бацькаўшчына» (цэнтр — в. Гарнякі). У 2001 г. 34 гаспадаркі, 68 жыхароў. У вёсцы размешчаны фельч.-акушэрскі пункт.

**КЛОЧКАВА** — вёска ў Маркаўскім с/с, за 27 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 105 км ад Мінска. 27 гаспадарак, 47 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Юзафполе, у Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1861 г. 3 рэвізскія душы, уласнасць памешчыкаў Пабоеўскіх. У 1873 г. ў Юраўшчынскай сельскай грамадзе. У 1897 г. ў вёсцы 15 двароў, 91 жыхар, хлебазапасны магазін. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. У 1938 г. вёска, 46 двароў, 258 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Беніцкім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 9 двароў, загубілі 2 жыхароў. У баях за вызваленне вёскі загінулі 2 сав. воіны, 28 вяскоўцаў загінула на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 11.9.1959 г. ў Маркаўскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 64 двары, 198 жыхароў. У 2011 г. ў вёсцы клуб, магазін.

У 1965 г. ў скверы каля будынка школы ўстаноўлены помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, — скульптура воіна з аўтаматам.

**КОДЗЕЎЦЫ** – вёска ў Граніцкім с/с, за 28 км на ПдУ ад Маладзечна, 50 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск–Маладзечна. 14 гаспадарак, 24 жыхары (2010)

У 19 ст. назву Кодзеўцы насілі 2 вёскі ў Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1870 г. адна вёска (9 жыхароў) – дзярж. ўласнасць, уваходзіла ў казённы Краснасельскі маёнтак; другая (19 жыхароў) — уласнасць памешчыка С. Свіды, у складзе маёнтка Гранічы. Вёскі адносіліся да Граніцкай сельскай грамады. У 1909 г. вёска Кодзеўцы 1-я (2 двары, 31 жыхар) і Кодзеўцы 2-я (4 двары, 57 жыхароў). Знаходзіліся за 5 вёрст ад чыг. ст. Уша. Пазней яны аб'ядналіся. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 15 двароў, 74 жыхары. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сычавіцкім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 36 двароў, 142 жыхары. З 20.1.1973 г. ў Граніцкім с/с, у складзе калгаса «Бацькаўшчына» (цэнтр — в. Гарнякі). У 2001 г. 19 гаспадарак, 42 жыхары.

**КОНАВІЧЫ** – вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 99 км ад Мінска, на р. Гадзея (прыток р. Уша). 41 гаспадарка, 95 жыхароў (2010).

Вядомы ў 16 ст. як сяло ў Маркаўскім стане ВКЛ. У 1514 г. сяльцо падаравана Г. Дамонту за перамогу над татарамі пад Слуцкам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска ў Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., уваходзіла ў склад маёнтка Пруды, пасля яго канфіскацыі ўвайшла ў Беніцкі маёнтак. У 1861 г. вёска, 50 жыхароў, уласнасць памешчыка Тукалы. У 1873 г. ў Заскавіцкай сельскай грамадзе. У 1897 г. 32 двары, 221 жыхар. У пач. 20 ст. назву Конавічы насілі 2 вёскі: Конавічы 1-я і Конавічы 2-я. У 1904 г. ў Конавічах 1-х 242 жыхары, якія мелі 212 дзес. зямлі, у Конавічах 2-х 3 двары, 34 жыхары, якія мелі 47 дзес. зямлі. У 1909 г. ў Конавічы 1-х 12 двароў, 219 жыхароў, у Конавічах 2-х 3 двары, 49 жыхароў. Пазней вёскі аб'ядналіся. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. У 1938 г. 39 двароў, 208 жыхароў. Непадалёку знаходзілася казённая калонія (1 двор, 3 жыхары). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Заскавіцкім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 10 двароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. З 11.9.1959 г. ў Лебедзеўскім с/с. У 1969 г. 57 двароў, 213 жыхароў.

**КРАСНААРМЕЙСКАЯ** (да 1963 г. — Кабаны) – вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 20 км на Пд ад Маладзечна, 58 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна–Ліда. 5 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

У 17 ст. в. Кабаны ў складзе маёнтка Хоўхлава ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1646 г. ўласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 18 ст. вёска — казённая маёмасць у Гарадоцкай вол. Вілей-

скага павета Віленскай губ. У 1857 г. 7 жыхароў. У пач. 20 ст. невял. вёска ў Хоўхлаўскай сельскай грамадзе. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. вёскі Кабаны 1-я (7 двароў, 41 жыхар) і Кабаны 2-я (9 двароў, 48 жыхароў). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2002 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў. Помнік на брацкай магіле сав. воінаў (пастаўлены ў 1997 г.).

**КРАСНАЕ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 16 км на ПдУ ад Маладзечна, 71 км ад Мінска, чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, на аўтадарозе Мінск—Маладзчна, на р. Уша (прыток р. Вілія). 1111 гаспадарак, 2971 жыхар (2010).

На паўд.-зах. ускраіне вёскі знаходзіцца гарадзішча (мясц. назва Замак), другое гарадзішча — за 0,5 км на Пд ад вёскі. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні мясцін са старажытнасці. Назва Краснае Сяло згадваецца ў 15 ст. як вялікакняжацкае ўладанне. Цэнтр Красносельскага староства ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1503 г. вял. кн. літ. Аляксандр заснаваў тут касцёл. Краснае ўпамінаецца ў 1519 г. ў час вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1512—22 гг. У 1567 г. ўласнасць казны. У 1600 г. сяло, у Мінскім павеце. У Паўн. вайну 1700—21 гг. у 1708 г. Краснае было разрабавана і спустошана. У 2-й палавіне 18 ст. ўласнасць смаленскага каштляна Станіслава Фадзея Бурынскага. У 1765 г. мястэчка Краснае Сяло, 78 двароў, млын, карчма, фальварак, уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. 50 двароў, 304 жыхары, з іх 107 яўрэяў, 8 татар, 71 чал. з ваколічнай шляхты. У 1806 г. пабудаваны новы касцёл (за ўдзел ксяндзоў у паўстанні 1830 г. касцёл быў закрыты). Непадалёку з 1800 г. будаваўся другі касцёл (адкрыты ў 1855 г.). Дзейнічалі праваслаўная драўляная Ільінская і 3 могілкавыя царквы. У 1860 г. адкрыты нар. вучылішча, у 1868 г. касцёл (пасля паўстання 1863 г. перададзены праваслаўнай царкве). У 1880 г. Краснае — мястэчка, цэнтр воласці Вілейскага павета, 64 двары, 455 жыхароў, дзейнічалі нар. вучылішча, царква, сінагога, паштовае аддз., хлебазапасны магазін, 2 цагельныя з-ды, 2 вапнавыя з-ды, піваварны з-д, 2 лаўкі, 2 заезныя дамы. У чацвер адбываліся базары, штогод 1 кастрычніка — кірмаш. У 1884—85 гг. у нар. вучылішчы навучаліся 48 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі. У 1889 г. пабудавана з бутавага каменю Пакроўская царква. У 1897 г. 152 двары, 1019 жыхароў, царква, 2 малітоўныя дамы, нар. вучылішча, паштовае аддз., фельчарскі пункт, хлебазапасны магазін, 21 лаўка, 7 корчмаў, казённая вінная лаўка. Мястэчка размяшчалася на р. Уша, адна вуліца цягнулася ўздоўж ракі на вярсту, другая — перасякала раку і злучала мястэчка з

*Рака Уша каля в. Краснае.*



чыг. станцыяй. У 1899 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1912 г. ў цэнтры вёскі пабудаваны з чырвонай цэглы касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Красненскай гміны Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 182 двары, 1012 жыхароў, фальварак, 1 двор, 4 жыхары. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР. У 1940—54 гг. гар. пасёлак. З 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 5.3.1943 г. расстралялі 2 тыс. жыхароў і загубілі 800 сав. ваеннапалонных. У баях за вызваленне вёскі загінулі больш за 80 сав. воінаў і партызан. У час вайны карнікі спалілі 165 двароў, загубілі 450 жыхароў, 25 жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. створаны першы калгас «Чырвоны Маяк». З 16.7.1954 г. вёска, цэнтр сельсавета Радашковіцкага раёна, з 20.1.1960 г. Маладзечанскага раёна Мінскай вобл. 12.1.1966 г. пасёлак Маладзечанскага лясгаса (5 двароў, 14 жыхароў) аб'яднаўся з в. Краснае. У 1969 г. 546 двароў, 2370 жыхароў. У вёсцы размяшчалася цэнтр. сядзіба калгаса «Краснае». У 2001 г. 1200 гаспадарак, 8043 жыхары. У 2011 г. працуюць клуб, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сярэдняя школа, 2 магазіны, кансервавы з-д, льнозавод, вытворчыя ўчасткі Мінскага з-да «Белпласт». Стэла на брацкай магіле сав. воінаў і партызан, што загінулі у Вял. Айч. вайну; абеліск на магіле 2 тыс. ахвяр фашызму. На магіле сав. ваеннапалонных помнік землякам (устаноўлены перад будынкам выканкама сельсавета ў 1965 г.). У 1978 г. ў гонар воінаў-вызваліцеляў пастаўлены помнік — танк на пастаменце. Касцёл Унебаўзяцця Дзевы Марыі (пабудаваны ў 1912 г. ў стылі неаготыкі), Пакроўская царква (пабудавана ў 1889 г., помнік рэтраспектыўна-рус. стылю).

**КРАСОЎШЧЫНА** — вёска ў Красненскім с/с, за 17 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 61 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 31 гаспадарка, 62 жыхары (2010).

Вядома з канца 18 ст. як казённы фальварак у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1801 г. здадзены ў арэнду памешчыцы Буржынскай. Пасля адмены прыгону (1861) пачала фарміравацца вёска з пасяленцаў, у 1873 г. ў Граніцкай





*Пакроўская царква ў в. Краснае.*

*Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Краснае.*

сельскай грамадзе. У 1897 г. ў вёсцы 15 двароў, 95 жыхароў. У пач. 20 ст. 261 дзес. зямлі, 148 жыхароў, у Красненскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1909 г. 7 двароў, 173 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў вёсцы 31 двор, 113 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. створаны калгас «Звязда». З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1987 г. 50 двароў, 126 жыхароў, у саўгасе «Краснае». У 2001 г. 31 гаспадарка, 62 жыхары.

**КРОМАЎШЧЫНА** — вёска ў Красненскім с/с, за 21 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 57 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

Вядома з канца 19 ст. як засценак у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. ў засценку 3 двары, 31 жыхар. У 1904 г. 38 жыхароў, якія мелі 23 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. У 1938 г. вёска, 8 двароў, 38 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1987 г. 7 гаспадарак, 8 жыхароў, у складзе калгаса «Прагрэс». У 2001 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары.

**КРЫВЕНКІ** — вёска ў Аляхновіцкім с/с, за 17 км на ПдУ ад Маладзечна, 60 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Аляхновічы. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 18 ст. вядомы як засценак у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1722 г. в. Крывенцы, 6 двароў, у Ашмянскім павеце. У 1784 г. 2 двары, 7 жыхароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 2 двары, 15 жыхароў, уласнасць памешчыка А.Галынскага. У 2-й пал. 19 ст. засценак у складзе маёнтка Пятроўшчына, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. ў засценку 11 жыхароў, уласнасць памешчыка Алендзіна. У 1870 г. ў Пятроўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. ў засценку 3 двары, 22 жыхары, побач знаходзіўся аднайменны пасёлак (1 двор, 5 жыхароў). У пач. 20 ст. вёска, 28 жыхароў, 53 дзес. зямлі, за 16 вёрст ад чыг. ст. Уша, у Гарадоцкай вол. Віленскай губ. У 1909 г. ў вёсцы 3 двары, 38 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 7 двароў, 39 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Гарадоцкім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл., з 16.10.1964 г. ў Аляхновіцкім с/с. У 1969 г. 22 жыхары. У 1987 г. ў складзе саўгаса «Дубрава» (цэнтр — в. Дубрава). У 2001 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары.

**КРЫЖЫ-ЛУГ** — б. вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 19 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 64 км ад Мінска.

У канцы 19 ст. засценак у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. 1 двор, 6 жыхароў. У 1904 г. засценак, 6 жыхароў, 9,5 дзес. зямлі, за 19 вёрст ад чыг. ст. Аляхновічы. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскай гміне Віленскага ваяв. У 1938 г. калонія, 7 двароў, 28 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях, у складзе калгаса «Герой працы». У 2004 г. вёска знята з уліку.

**КРЫНІЦА** — вёска ў Мясоцкім с/с, за 8 км на У ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 70 км ад Мінска. 75 гаспадарак, 223 жыхары (2010).

Упамінаецца ў пісьмовых крыніцах у 16 ст. як маёнтак у Мінскім ваяв. ВКЛ, уладанне К. Ваўка, які ў 1596 г. прадаў маёнтак за 400 коп. грошаў літ. пану Я.Камянецкаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Раеўшчына, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. ў вёсцы 23 жыхары, уласнасць памешчыка І.Аскеркі. Апрача прыгонных сялян у вёсцы жылі 8 аднадворцаў. У 1873 г. вёска ў Раеўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска (8 двароў, 67 жыхароў, вадзяны млын), пасёлак (2 двары, 17 жыхароў) і засценак (2 двары, 9 жыхароў), у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета. У пач. 20 ст. назву Крыніцы насілі 4 населеныя пункты, якія знаходзіліся побач: вёска, засценак і 2 пасёлкі. У 1904 г. ў вёсцы 67 жыхароў, якім належалі 124 дзес. зямлі, у засценку Сергіеўскага 9 жыхароў, 12,5 дзес. зямлі, у пасёлку Кісяля 3 жыхары, 0,5 дзес. зямлі, у пасёлку Гайдукевіча 15 жыхароў, 1,5 дзес. зямлі. У вёсцы меўся вадзяны млын. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., у вёсцы 21 двор, 117 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Раеўшчынскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 26 двароў, 108 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 4 двары і загубілі 7 жыхароў, 7 жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы, 2 вяскоўцы загінулі ў баях на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Вялікасельскім, з 27.3.1959 г. ў Мясоцкім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 183 жыхары. У 2011 г. размешчаны магазін, аддз. сувязі.

*Прыдарожнае кафэ ў в. Крыніца.*



**КУКАВА** — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 14 км на Пд ад Маладзечна, 63 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда, на ручаі Хахлоўка (прыток р. Бярэзіна). 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2010).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 17 ст. ў Мінскім ваяв. ВКЛ, у складзе маёнтка Хоўхла, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Хоўхла, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1866 г. 2 двары, 19 жыхароў. Вёска размяшчалася побач з паштовай дарогай з Маладзечна да Мінскага павета. У 1861 г. вёска, 7 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыцы Дружбіцкай. У 1897 г. засценак (4 двары, 22 жыхары) і вадзяны млын (1 двор, 4 жыхары), у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета. У пач. 20 ст. вёска, 9,5 дзес. зямлі, у Хоўхлаўскай сельскай грамадзе. У 1904 г. 6 жыхароў, знаходзілася вёска за 19 вёрст ад чыг. ст. Аляхновічы. Побач размяшчаліся засценак (22 жыхары) і млын Сомавай (4 жыхары). У 1908 г. 20 двароў, 30 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, засценак (9 двароў, 49 жыхароў), у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 11 двароў, 39 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску (11 двароў) і загубілі 2 жыхароў, 2 вяскоўцаў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы, з якіх у жывых застаўся 1. Пасля вайны вёска адбудавалася. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары.

**КУКЛАЎШЧЫНА** – вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 2 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 80 км ад Мінска. 27 гаспадарак, 50 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў складзе Вярхоўскага маёнтка, у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. 15 жыхароў, побач праходзіла паштовая дарога Вільня–Мінск. У 1866 г. 5 двароў, 71 жыхар, належала памешчыку Хандзінскаму. У 1897 г. 11 двароў, 65 жыхароў. У пач. 20 ст. ў Насілаўскай сельскай грамадзе, 89 дзес. зямлі, 65 жыхароў. У 1909 г. 5 двароў, 73 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 13 двароў, 80 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с. У 2001 г. 26 гаспадарак, 41 жыхар.

**КУЛЁЎШЧЫНА** – вёска ў Хажоўскім с/с, за 13 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 91 км ад Мінска, на р. Цвецень (прыток р. Бярэзіна). 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 1784 г вёска, 5 двароў, 31 жыхар, шляхецкая ўласнасць, у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 5 двароў, 24 жыхары. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Ізабеліна, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1858 г. вёска, 19 жыхароў, уласнасць памешчыка Нергалевіча. У пач. 20 ст. вёска, 57 дзес. зямлі, у Мойсецкай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска (80 жыхароў) і аднайменны пасёлак (1 двор, 2 жыхары). Да вёскі адносілася лясная вартоўня, якая належала графу Тышкевічу. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы,

у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., у вёсцы 9 двароў, 56 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хажоўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 11.9.1959 г. ў Цюрлёўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 10.6.1965 г. ў Хажоўскім с/с. У 1969 г. 40 жыхароў.

**КУЛЯШЫ** – вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 18 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 60 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2010).

Вядома з 16 ст. як вёска ў складзе маёнтка Хоўхлава ў ВКЛ. У 1646 г. вёска, 6 дымоў, $2^1/_3$ валокі зямлі, належала Радзівілу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска Вілейскага павета Мінскай губ. У 1800 г. 5 двароў, 37 жыхароў. У 2-й пал. 19 ст. ў складзе Копцавіцкага маёнтка, які ў 1870 г. належаў памешчыцы Каліноўскай, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Побач праходзіла паштовая дарога з Маладзечна да меж Мінскага павета. У 1897 г. засценак (3 двары, 28 жыхароў), пасёлак (1 двор, 2 жыхары) і фальварак (1 двор, 10 жыхароў), у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1905 г. назву Куляшы насілі 2 засценкі і фальварак, якія размяшчаліся непадалёку адзін ад аднаго. У 1904 г. ў засценку 31 жыхар, якім належала 50 дзес. зямлі, у другім засценку 2 жыхары, 2 дзес. зямлі, у фальварку 10 жыхароў, 90 дзес. зямлі, уласнасць памешчыка Каліноўскага. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. вёска (8 двароў, 47 жыхароў), фальварак (1 двор, 16 жыхароў). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў.

**КУРОМШЫЧЫ** – вёска ў Мясоцкім с/с, за 7 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 71 км ад Мінска. 17 гаспадарак, 27 жыхароў (2010).

Вядомы з канца 18 ст. як вёска пад назвай Харомшчыца ў складзе маёнтка Раеўшчына, у Віленскім павеце Мінскай губ. У 1866 г. 19 жыхароў, належала памешчыку Аскерку. У 1897 г. 127 жыхароў. У пач. 20 ст. в. Куромшчыцы (або Хуромшчыца) у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 127 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 20 двароў, 108 жыхароў, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Раеўшчынскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 18 двароў, 90 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 7 двароў і загубілі 15 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Вялікасельскім, з 12.6.1958 г. ў Раеўшчынскім, з 27.3.1959 г. ў Мясоцкім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 175 жыхароў.

**КУТЛЯНЫ** – вёска ў Мясоцкім с/с, за 10 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 74 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

**КУТЫ** – вёска ў Мясоцкім с/с, за 14 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 92 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

Назва вёскі ўтворана ад асновы «кут» (куты — убогія хаты, наспех збітыя). Вёска ўзнікла як засценак у канцы 19 ст. У 1897 г. засценак, 1 двор, 5 жыхароў, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 6 двароў, 37 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 6 двароў, 40 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, у Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў.

**КУХАРЫ** — вёска ў Аляхновіцкім с/с, за 17,5 км на ПдУ ад Маладзечна, 60 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

Вёска вядома ў канцы 18 ст. як цэнтр аднайменнага маёнтка ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 6 двароў, 31 жыхар, належала А.Галынскаму. У 2-й пал. 19 ст. маёнтак у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. ў маёнтку 18 жыхароў, уласнасць памешчыцы Канаржэўскай, якая мела 423 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. маёнтак (20 двароў, 115 жыхароў), у Гарадоцкай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 62 жыхары. У 1987 г. ў складзе саўгаса «Дубрава» (цэнтр — в. Дубрава). У 2001 г. 11 двароў, 15 жыхароў.

**КУЧКІ** — вёска ў Маркаўскім с/с, за 10 км на З ад Маладзечна, 89 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Пруды на лініі Вільнюс—Маладзечна. 33 гаспадаркі, 51 жыхар (2010).

У 18 ст. вёска ў Маркаўскім старостве ВКЛ, належала пану Коцелу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. ў складзе Маркаўскага маёнтка, дзярж. ўласнасць у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 3 двары, 24 жыхары. У 1801 г. здадзена ў арэнду ген.-маёру Берхману. У 2-й пал. 19 ст. ў Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Вёска размяшчалася на паштовай дарозе Вільня—Мінск. У 1866 г. 10 двароў, 116 жыхароў. У 1873 г. ўваходзіла ў Скавародкаўскую сельскую грамаду. У 1897 г. вёска, 24 двары, 195 жыхароў. У 1904 г. 177 дзес. зямлі, знаходзілася за 7 вёрст ад чыг. ст. Пруды. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 43 двары, 243 жыхары. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Маркаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінула 15 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 66 двароў, 204 жыхары.

**КУЧУКІ** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 31 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 109 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 19 ст. назву Кучукі мелі вёска і фальварак у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1897 г. ў вёсцы 9 двароў, 52 жыхары, у фальварку 1 двор, 40 жыхароў. У 1904 г. фаль-

варак належаў памешчыку Любанскаму, які меў тут 184 дзес. зямлі. У 1909 г. вёска, 6 двароў, 126 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў вёсцы 16 двароў, 94 жыхары, у фальварку 1 двор, 17 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінула 7 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. ў вёсцы 28 жыхароў. У 2001 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары.

**ЛАБАЧОЎКА** — вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 14 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 92 км ад Мінска. 37 гаспадарак, 54 жыхары (2010).

У канцы 19 і пач. 20 ст. вёска ў Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1800 г. в. Лабачоўка (яна ж Букачы), 6 двароў, 47 жыхароў, уласнасць Д.Радзівіла, з 1827 г. Свентаржэцкіх. У 2-й пал. 19 ст. ў складзе маёнтка Малінаўшчына, у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1858 г. 40 жыхароў, уласнасць Свентаржэцкага. У 1866 г. 10 двароў, 92 жыхары. Каля вёскі праходзіла паштовая дарога з Вільні ў Мінск. У 1897 г. 20 двароў, 166 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 109 дзес. зямлі, у Лебедзеўскай сельскай грамадзе. У 1904 г. 166 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска, 25 двароў, 150 жыхароў, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лебедзеўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 30 двароў, 93 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 15 двароў і загубілі 1 жыхара, 1 жыхара вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 49 двароў, 153 жыхары.

**ЛАЗАВЕЦ** — вёска ў Мясоцкім с/с, за 7 км на Пн ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 80 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2010).

Упамінаецца ў пісьмовых крыніцах у 18 ст. як прыватнае ўладанне ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 3 двары, 22 жыхары, уласнасць К.Агінскага. У 2-й пал. 19 ст. засценак у складзе Вялікасельскага маёнтка, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. 8 жыхароў. У 1866 г. вёска, уласнасць памешчыка Б. Лавацынскага. У 1897 г. 4 засценкі (8 двароў, 47 жыхароў), пасёлак (1 двор, 7 жыхароў) і фальварак (1 двор, 9 жыхароў), у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў вёсцы 11 двароў, 72 жыхары, у суседнім фальварку 1 двор, 14 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, у Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1943 г. расстралялі 2 ваеннапалонных — лейтэнанта Легастаева і невядомага воіна Чырвонай Арміі. У вёсцы адбываліся пасяджэнні Маладзечанскага падп. райкама ЛКСМБ. З 20.9.1944 г.

ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 183 жыхары. У 2011 г. ў вёсцы размешчаны магазін, аддз. сувязі. У 1965 г. за 0,15 км на ПнУ ад вёскі ў лесе на брацкай магіле сав. воінаў пастаўлены абеліск. У 1975 г. ў Лазавіцкім лесе, справа ад дарогі Маладзечна—Вілейка, на месцы, дзе адбываліся пасяджэнні Маладзечанскага падп. райкама ЛКСМБ, пастаўлены 2 стэлы.

**ЛАСІ** — вёска ў Красненскім с/с, за 22 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 56 км ад Мінска, на р. Уша (прыток р. Бярэзіна). 73 гаспадаркі, 171 жыхар (2010).

У 18 ст. вёска вядома як дзярж. ўласнасць у Красненскім старостве Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1789 г. 12 двароў, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1865 г. 16 двароў. Мелася карчма. У 19 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1801 г. 57 жыхароў, казённая уласнасць, у арэндзе памешчыцы Буржынскай. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе казённага маёнтка Краснаселле. У 1866 г. 35 жыхароў. У 1873 г. ва Ушанскай сельскай грамадзе. У 1897 г. 37 двароў, 178 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 287 дзес. зямлі, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 197 жыхароў, у 1909 г. 11 двароў, 205 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 42 двары, 224 жыхары. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 60 двароў, 207 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары, 8 жыхароў загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 81 двор, 313 жыхароў, у калгасе «Краснае». У 2001 г. 73 гаспадаркі, 171 жыхар. У 2011 г. працуе базавая школа.

**ЛЕБЕДЗЕВА**, Лебядзёва — вёска, цэнтр сельсавета, за 12 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 90 км ад Мінска, на р. Нявежа (прыток р. Уша). 446 гаспадарак, 1086 жыхароў (2010).

Лебедзева ўпамінаецца 25.4.1387 г. ў грамаце кн. Ягайлы. У 1397 г. сяло, гаспадарскі двор, уласнасць казны і касцёла. У 1476 г. ўладальнік кн. А. С. Гальшанскі пабудаваў драўляны касцёл (у 1726 г. быў капітальна адрамантаваны). У сярэдзіне 15 ст. цэнтр маёнтка. У 1544 г. кароль Жыгімонт Аўгуст і каралева Бона аддалі Лебедзева ва ўтрыманне біскупу віленскаму. У 1557 г. 17 дымоў. З 1567 г. мястэчка ў Ашмянскім павеце. У 1575 г. 149 пляцаў, 32 карчмы. У 1579 г. ў мястэчку 134 дымы, у маёнтку 29 дымоў. На беразе р. Нявежа раз-



*Капліца ў в. Лебедзева.*



*Троіцкая царква ў в. Лебедзева.*

мяшчаўся гаспадарскі двор, дзе меліся піваварня, саладоўня, стадола, хлявы, гумно і інш. гасп. пабудовы. У 1579 г. ў мястэчку былі вуліцы Вялікая, Віленская, Хажоўская. У 1588 г. А.Радзівіл прадаў Лебедзева і Хажова Я.Галаўне. Тут былі «...ловы звярыныя, пташыя і рыбныя, ловы бабровыя з усякімі грунтамі зямельнымі, на якіх жыла шляхта з людзьмі валаснымі, парабкамі, чэляддзю нявольнай». У 1623 г. цэнтр воласці. У 1762 г. 29 дымоў, 233 жыхары, уладанне кашталяна Т.Агінскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1798 г. пабудавана драўляная праваслаўная царква. У 1800 г. ў мястэчку 60 двароў, 527 жыхароў, у т.л. 172 яўрэі, належала Радзівілу, частка мястэчка ва ўласнасці касцёла і ўніяцкай царквы. У 1860 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1884 г. навучаліся 52 хлопчыкі і 4 дзяўчынкі. У 1869 г. пабудавана з цэглы Троіцкая царква. У 1897 г. 278 двароў, 2137 жыхароў, цэнтр воласці, царква, касцёл, 2 малітоўныя школы, нар. вучылішча, 2 хлебазапасныя магазіны, аптэка, 33 лаўкі, 5 ветракоў, тракцір, 5 корчмаў, таржкі па панядзелках , кірмаш 7 разоў у год; у маёнтку 31 жыхар. У 1908 г. ў маёнтку пачаў дзейнічаць вінакурны з-д (7 рабочых). У 1910 г. на могілках пабудавана з жоўтай цэглы капліца. З лютага да снеж. 1918 г. мястэчка акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр гміны Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., у мястэчку 305 двароў, 1828 жыхароў, у фальварку 40 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Лебедзеўскага с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 360 двароў, 1232 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў канцы чэрв. 1941 г. і пач. ліп. 1944 г. спалілі 154 двары і загубілі 450 жыхароў, падчас акупацыі тут было знішчана 970 мірных жыхароў з розных мясцін і 200 сав. ваеннапалонных. Пасля вайны вёска аднавілася. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў вёску былі сселены жыхары в. Старое Сяло (4 двары, 15 жыхароў). У 2002 г. 450 гаспадарак, 1050 жыхароў. У 2011 г. бальніца, амбулаторыя, аптэка, сярэдняя і муз. школы, 2 магазіны, аддз. ААТ «ААБ Беларусбанк», аддз. сувязі, б-ка. У 1968 г. на магіле ахвяр фашызму пастаўлена стэла. У 1966 г. ў цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці землякоў, што загінулі у Вял. Айч. вайну, устаноўлены помнік — скульптура воіна, абапал 2 стэлы з імёнамі загінуўшых. У 1958 г. на брацкай магіле сав. ваеннапалонных, якіх расстралялі гітлераўцы, пастаўлены абеліск. Троіцкая царква (1869) — помнік рэтраспектыўна-рус. стылю і капліца (1910) — помнік неаготыкі з рысамі мадэрну.

**ЛЕВУШОЎШЧЫНА**, Л я ў ш о ў ш ч ы н а — вёска ў Красненскім с/с, за 26 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 52 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 19 ст. вёска вядома як фальварак у Красасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1866 г. 1 двор, 2 жыхары. Фальварак размяшчаўся на паштовай дарозе з Маладзечна да мяжы з Мінскім паветам. У 1897 г. сядзіба Ляўшоўшчызна, 5 двароў, 43 жыхары.

У пач. 20 ст. ваколіца, 65 дзес. зямлі, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета, Віленскай губ. У 1904 г. ў ваколіцы, 43 жыхары, знаходзілася за 5 вёрст ад чыг. ст. Аляхновічы. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 10 двароў, 54 жыхары. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў вёсцы 12 двароў, 75 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Ушанскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. З 16.10.1964 г. ў Аляхновіцкім с/с Маладзечанскага раёна Мінскай вобл. У 2001 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары.

**ЛЕНКАЎШЧЫНА** — вёска ў Маркаўскім с/с, за 29 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 107 км ад Мінска. 28 гаспадарак, 47 жыхароў (2010).

У 18 ст. маёнтак і засценак у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1771 г. ў засценку 2 двары, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка ў Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., уласнасць памешчыкаў Струцінскіх. У 1866 г. вёска (4 двары, 37 жыхароў), ваколіца (9 двароў, 80 жыхароў), фальварак (1 двор, 3 жыхары). У 1873 г. ў вёсцы 13 рэвізскіх сял. душ і 4 жыхары — былыя дваровыя маёнтка Ленкаўшчына. У 1897 г. вёска, 16 двароў, 89 жыхароў, у Беніцкай вол. Ашмянскага павета. У пач. 20 ст. назву Ленкаўшчына апрача вёскі і маёнтка насілі 9 фальваркаў, якія належалі розным асобам. У 1909 г. ў вёсцы 6 двароў, 55 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. вёска (13 двароў, 86 жыхароў), маёнтак (3 двары, 40 жыхароў), фальварак (1 двор, 13 жыхароў), калонія (8 двароў, 58 жыхароў), асада (1 двор, 4 жыхары), засценак (3 двары, 15 жыхароў). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Маркаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З мая 1942 г. да ліп. 1944 г. тут знаходзілася база партыз. атрада імя Кутузава брыгады імя Варашылава. У баях за вызваленне вёскі загінула 8 партызан. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. ў вёсцы 54 двары, 225 жыхароў. У 1970 г. на брацкай магіле партызан, што загінулі ў баях з ням.-фаш. захопнікамі, пастаўлены помнік — гранітны валун. У 1970 г. ў гонар партыз. атрада імя Кутузава пастаўлены помнік — сцяна Памяці ў выглядзе сімвалічнай зямлянкі.

**ЛЕШНА**, Л е ш н я — вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 3 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 81 км ад Мінска. 30 гаспадарак, 91 жыхар (2010).

У 19 ст. вядома як маёнтак на р. Ластой у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., родавы маёнтак памешчыкаў Саковічаў, якім яны валодалі больш за 270 гадоў. Маёнтак размяшчаўся непадалёку ад паштовага тракта Вільна—Мінск. У склад маёнтка ўваходзілі фальваркі і вёскі: Агароднікі, Карасі, Кавальцы, Гараўшчына. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. засценак, 1 двор, 4 жыхары, маёнтак Ю.Сарокі, у Вілейскім павеце. Усяго ў 1866 г. ў маёнтку 40 жыхароў. У 1882 г. ўладальнікам быў Міхаіл Тамаш Саковіч, які меў 1560 дзес. зямлі. У 1902 г. пачаў дзейнічаць

вінакурны з-д. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў маёнтку 4 двары, 60 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 32 гаспадаркі, 91 жыхар.

**ЛІТВА** — вёска ў Палачанскім с/с, за 12,5 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 90,5 км ад Мінска. 121 гаспадарка, 279 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Палачаны, на р. Бярэзіна, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., уласнасць памешчыцы Сулістроўскай. У 1861 г. вёска ў складзе маёнтка Яхімоўшчына, уласнасць памешчыка Прашынскага. У 1866 г. ў вёсцы 146 жыхароў. Меліся 4 ветракі і хлебазапасны магазін. У 1897 г. 63 двары, 379 жыхароў. У пач. 20 ст. цэнтр гасп. грамады, у склад якой уваходзіла 20 вёсак. У 1904 г. 372 жыхары, якія мелі 609 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска, 103 двары, 545 жыхароў, у Палачанскай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Літвянскага с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 35 двароў і загубілі 2 жыхароў, 2 вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 22 вяскоўцы загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. Усяго ў баях з ням.-фаш. захопнікамі загінуў 61 зямляк. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Гарадзілаўскім, з 11.9.1959 г. ў Палачанскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 562 жыхары. У вёсцы размешчаны базавая школа, клуб, б-ка, магазін.

**ЛУЖОК** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 108 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2010).

У 19 ст. в. Лужок (яна ж Лажаны) цэнтр маёнтка ў Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., уласнасць памешчыка Вітунскага. У 1870 г. 33 рэвізскія душы, апрача іх 2 былыя дваровыя. У 1897 г. 16 двароў, 115 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска на р. Арлянка, 101 дзес. зямлі, у Шыпуліцкай сельскай грамадзе. Побач знаходзіўся маёнтак памешчыка Някрашэвіча, які меў тут 184 дзес. зямлі. У 1909 г. ў вёсцы 10 двароў, 135 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., вёска (25 двароў, 179 жыхароў), фальварак (2 двары, 20 жыхароў). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. У 1969 г. 171 жыхар. У 2001 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары.

**ЛУЧАНСКІЯ** — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 20 км на Пд ад Маладзечна, 58 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна–Ліда. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска, дзярж. ўласнасць у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. 13 жыхароў. У 1873 г. ў Хоўхлаўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. 8 двароў, 55 жыхароў, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 55 жыхароў, якія мелі 119 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 13 двароў, 74 жыхары. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 17 гаспадарак, 30 жыхароў.

**ЛЯЛЬКАЎШЧЫНА** — вёска ў Гарадоцкім с/с, за 8 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 70 км ад Мінска. 22 гаспадаркі, 31 жыхар (2010).

У 19 ст. вёска ў Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1860 г. 24 жыхары, уласнасць памешчыка Карніцкага. У 1870 г. ў Семірнікоўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. 12 двароў, 92 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 31 двор, 129 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 3 двары і загубілі 4 жыхароў, 12 — вывезлі ў Германію на прымусовыя работы (9 вярнулася). 2 вяскоўцы загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 133 жыхары.

**МАЗАЛІ** — вёска ў Красненскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Маладзечна, 55 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 59 гаспадарак, 126 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах вёска ўпамінаецца як дзярж. ўласнасць у Красносельскім старостве Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1765 г. вёска, карчма, уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. вёска, 12 двароў, 67 жыхароў. У 1800 г. вёска (13 двароў, 67 жыхароў) і маёнтак, уласнасць Валодкевіча, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1857 г. ў вёсцы 59 сял. душ, уласнасць памешчыка Ц. Свіды. Пасля адмены прыгону (1861) вёска ў Граніцкай сельскай грамадзе. У 1897 г. 27 двароў, 184 жыхары. У пач. 20 ст. вёска, 201 дзес. зямлі, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 213 жыхароў, у 1908 г. 196 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 40 двароў, 236 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 40 двароў, 127 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 35 двароў і загубілі 1 жыхара, 4 — вывезлі ў Германію на прымусовыя работы (2 вярнуліся), 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. створаны калгас імя Будзённага. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мін-

скай вобл. У 1969 г. 76 двароў, 295 жыхароў, у калгасе «Краснае». У 2001 г. 72 гаспадаркі, 145 жыхароў.

**МАКСІМАЎКА** — вёска ў Граніцкім с/с, за 34 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 44 км ад Мінска, на гал. канале Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска вядома як дзярж. ўласнасць у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1801 г. казённая вёска, 95 жыхароў, уласнасць памешчыка Няклюева. У 2-й пал. 19 ст. ў складзе маёнтка Бакшты 1-я, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. 80 жыхароў. У 1866 г. належала памешчыку Багдановічу. У вёсцы размяшчалася праваслаўная капліца. У 1897 г. 27 двароў, 187 жыхароў. У пач. 20 ст. ў Клімантовіцкай сельскай грамадзе. Знаходзілася за 5 вёрст ад чыг. ст. Уша. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. 38 двароў, 186 жыхароў, у Радашковіцкай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сычавіцкім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 15 двароў і загубілі 15 жыхароў, 6 жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце, 12 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 35 двароў, 102 жыхары. З 20.1.1973 г. ў Граніцкім с/с, у складзе калгаса «Бацькаўшчына» (цэнтр — в. Гарнякі). Вёска — радзіма дзеяча нац.-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі, публіцыста, педагога С. А. Рак-Міхайлоўскага (14.4.1885—27.11.1938). У 1982 г. на ўшанаванне яго памяці ўстаноўлены мемарыяльны знак.



*С.А.Рак-Міхайлоўскі.*

**МАЛАШКІ** — вёска ў Красненскім с/с, за 21 км на ПдУ ад Маладзечна, 57 км ад Мінска, 3,5 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 18 гаспадарак, 27 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска вядома як цэнтр аднайменнага маёнтка ў Красненскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уласнасць памешчыкаў Анцутаў. У 1837 г. вёска (19 двароў, 128 жыхароў) і аднайменная сядзіба (1 двор, 10 жыхароў) у Красносельскай вол. Вілейскага павета. У 1857 г. ў маёнтку 40 жыхароў. У 1873 г. вёска ў Красносельскай сельскай грамадзе. У пач. 20 ст. 191 дзес. зямлі, у Красносельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 21 селянін, побач размяшчаўся маёнтак памешчыка Анцуты, які меў тут 1137 дзес. зямлі. У 1909 г. 8 двароў, 130 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красносельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 27 двароў, 161 жыхар. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў вёсцы 26 двароў, 129 жыхароў, у суседнім фальварку 1 двор, 20 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. створаны калгас «19-ы партз'езд». З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1987 г. 29 гаспадарак, 54 жыхары, у саўгасе «Краснае». У 2001 г. 25 гаспадарак, 51 жыхар.

**МАЛАЯ БОРКАЎШЧЫНА** — вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 10 км на З ад Маладзечна, 89 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Пруды на лініі Вільнюс—Маладзечна. 19 гаспадарак, 32 жыхары (2010).

У 19 ст. вёска (Меншая Баркоўшчына) у Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Малінаўшчына, уласнасць памешчыкаў Свентаржыцкіх. У 1861 г. 23 жыхары. У 1870 г. ў Баркоўшчынскай сельскай грамадзе. У 1897 г. засценак (2 двары, 15 жыхароў) і пас. Баркоўшчына (1 двор, 8 жыхароў). У пач. 20 ст. вёска ў Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 93 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 23 двары, 110 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 27 двароў, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 34 двароў, 107 жыхароў.

**МАЛІНОЎШЧЫНА** — вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 15 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 93 км ад Мінска. 126 гаспадарак, 292 жыхары (2010).

У канцы 18 ст. цэнтр аднайменнага маёнтка, уласнасць Радзівілаў у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 15 двароў, 124 жыхары. У 1827 г. маёнтак набыў Я.Свентаржэцкі, яго ўнук Міхаіл у 1862 г. заснаваў у маёнтку віннадрожджавы і крухмальны з-ды. У 1866 г. 89 жыхароў. У 1880 г. засн. мукамольны з-д (у 1884 г. 4 рабочыя), паравы млын. На вінакурным з-дзе ў 1890 г. працавалі 12 рабочых. Гаспадарка маёнтка памешчыка М.Свентаржэцкага была ўзорнай сярод памешчыцкіх маёнткаў у павеце. У складзе (2200 дзес. зямлі) было 5 вёсак. Меліся ферма (200 жывёл) пад назвай Шмараўка, бровар, капліца, парк пейзажнага тыпу з пладовым садам. У 1891 г. М.Свентаржэцкі памёр, засталася ўдава з двума сынамі. У пач. 20 ст. вёска на р. Рудаўка і воз. Маліноўшчына ў Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. Свентаржэцкая мела тут 1200 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г.



*Капліца-пахавальня Свентаржэцкіх у в. Маліноўшчына.*



*Спіртагарэлачны завод у в. Маліноўшчына.*

Віленскага ваяв., 9 двароў, 111 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лебедзеўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 61 двор, 196 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 3 двары і загубілі 3 жыхароў, 4 вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 67 двароў, 358 жыхароў. У 2002 г. 133 гаспадаркі, 315 жыхароў. У вёсцы размешчаны сумеснае ААТ «Малінаўшчызненскі спіртагарэлачны завод «Аквадзіў», школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін.

**МАЛЫ БОР** – вёска ў Граніцкім с/с, за 21 км на ПдУ ад Маладзечна, 57 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск–Маладзечна. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Грані, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. 9 жыхароў, уласнасць памешчыка Ц. Свіды. Пасля адмены прыгону (1861) увайшла ў Граніцкую сельскую грамаду. У пач. 20 ст. ў Красненскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. в. Бор Малы (5 двароў, 36 жыхароў) у складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў вёсцы 6 двароў, 28 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сычавіцкім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1968 г. ў вёску сселены жыхары вёсак Бор 2 (4 двары, 12 жыхароў), Бор 3 (4 двары, 18 жыхароў), Бор 4 (2 двары, 8 жыхароў). У 1969 г. 29 двароў, 99 жыхароў.

**МАЛЫЯ БАКШТЫ** – вёска ў Граніцкім с/с, за 35 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 43 км ад Мінска, на Гал. канале Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2010).

У канцы 19 ст. вёска вядома як казённая ўласнасць у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1801 г. 11 сял. душ, падаравана ген.-маёру І. Няклюеву. Мелася ўязная карчма. У 1861 г. маёнтак Бакшты 1-я, у склад якога ўваходзіла 5 вёсак, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ.; належаў памешчыку Багдановічу, які ў 1904 г. меў тут 1185 дзес. зямлі. У 1897 г. маёнтак Бакшты, 33 жыхары, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Радашковіцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., у маёнтку 10 двароў, 68 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сычавіцкім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. ў вёсцы 5 двароў, 24 жыхары. З 20.1.1973 г. ў Граніцкім с/с, у складзе калгаса «Бацькаўшчына» (цэнтр – в. Гарнякі). У 2001 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары.

**МАЛЫЯ КАШЭЎНІКІ** – вёска ў Красненскім сельскім савеце, за 10 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 63 км ад Мінска, на р. Пісараўка (прыток р. Уша). 34 гаспадаркі, 58 жыхароў (2010).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Кашэўнікі, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. 28 двароў, 195 жыхароў (100 мужчын, 95 жанчын). У 1901 г. адкрыта школа граматы. У пач. 20 ст. 47 дзес.

зямлі, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета, Віленскай губ. У 1909 г. 8 двароў, 99 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў вёсцы 49 двароў, 272 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 55 двароў, 248 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 5 двароў, загубілі 7 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. створаны калгас імя Шчарбакова. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 72 двары, 251 жыхар, у калгасе «Прагрэс». У 2001 г. 53 гаспадаркі, 101 жыхар.

**МАМОНЫ** — вёска ў Палачанскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Маладзечна, 88 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (2010).

У пач. 19 ст. вёска маёнтка Палачаны, у Ашмянскім павеце Віленскай губ. У 1861 г. 40 рэвізскіх душ, у складзе маёнтка Яхімоўшчына, уласнасць памешчыка Прашынскага. У 1897 г. 15 двароў, 80 жыхароў, млын, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета. У 1904 г. ў вёсцы 90 жыхароў, якія мелі 129 дзес. зямлі, знаходзілася за 9 вёрст ад чыг. ст. Пруды, у Палачанскай сельскай грамадзе. Непадалёку размяшчалася сядзіба Мамоны памешчыка Любанскага, які меў тут 2,5 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у вёсцы 40 двароў, 304 жыхары, у суседнім фальварку 1 двор, 13 жыхароў. З 1938 г. ў Палачанскай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Палачанскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 92 жыхары. У 2001 г. ў вёсцы 12 гаспадарак, 22 жыхары.

**МАРКАВА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 19 км на З ад Маладзечна, 97 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Пруды на лініі Вільнюс—Маладзечна, на аўтадарозе Маладзечна—Крэва, на р. Гадзея (прыток р. Уша). 279 гаспадарак, 698 жыхароў (2010).

Упершыню ўпамінаецца ў 1415 г. як сяло і двор у ВКЛ. У 1514 г. Маркаўскі стан, цэнтр каралеўскай воласці, дзярж. ўласнасць. У 1518 г. двор Маркава згодна з граматай караля Сігізмунда I у дзяржанні пана Я. Я. Збаражскага за 700 коп. грошаў літ. У 1519 г. спустошана рус. войскамі ў час вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1512—22 гг. У 1529 г. кароль Сігізмунд I аддаў на дзяржанне двор Маркава падчашаму Я. М. Радзівілу. У 1530 г. гаспадарская ўласнасць, цэнтр каралеўскай воласці. У гэтым жа годзе людзі путныя Маркавіцкай вол. падалі жалабу каралю на павелічэнне павіннасцей. Апрача традыцыйнай путнай службы іх прымушалі хадзіць на паншчыну. У 1557 г. вялікакняжацкае ўладанне, дзяржава ў Ашмянскім павеце. У рукапісах 1655—56 гг. упамінаецца ў сувязі з адказам сялян падпарадкавацца шляхціцу, плаціць подаці і з тым, як са зброяй «напалі на двор, пабілі ўладальніка». У 1656 г. двор Маркавічы, шляхецкая ўласнасць пана Корсака. У 18 ст. — цэнтр староства. У 1740 г. кашталян Я.Шчыт пабудаваў касцёл, пры якім працавала школа. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г.



*Троіцкая царква ў в. Маркава.*

мястэчка, 365 жыхароў, уласнасць казны. Меліся карчма, уніяцкая царква, 2 млыны. У 19 ст. казённае мястэчка, маёнтак у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1831 г. пабудавана драўляная праваслаўная царква, у 1860 г. з бутавага каменю і цэглы ўзведзена праваслаўная Успенская царква. У 1861 г. мястэчка, 45 двароў, 369 жыхароў. У 1873 г. адкрыта нар. вучылішча, у 1884 г. тут вучылася 37 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі. У 1880 г. мястэчка, 566 жыхароў, 2 праваслаўныя царквы, багадзельня, заезны дом. У 1897 г. мястэчка (122 двары, 765 жыхароў), маёнтак (51 жыхар) і пасёлак (1 двор, 4 жыхары, вадзяны млын), у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У пач. 20 ст. двойчы ў год адбываліся кірмашы: 9 мая і 15 жніўня. Дзейнічала нар. вучылішча, у 1903 г. тут вучылася 87 хлопчыкаў і 20 дзяўчынак. Мелася казённая вінная лаўка. З лютага да снеж. 1918 г. мястэчка акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, мястэчка, 148 двароў, 847 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, мястэчка, 160 двароў, 908 жыхароў, маёнтак, 4 двары, 65 жыхароў. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 72 двары, 2 жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 48 жыхароў загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1949 г. створаны калгас «Чырвоны прамень». У 1969 г. 285 двароў, 865 жыхароў. У вёсцы размешчаны аддз. сувязі, сярэдняя і базавая школы, дзіцячы сад, б-ка, Дом культуры, магазіны. Помнік землякам, што загінулі ў Вял. Айч. вайну. Троіцкая царква (1860).

**МАРОСЬКІ** — вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 14 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 92 км ад Мінска, на р. Нявежа (прыток р. Уша). 220 гаспадарак, 434 жыхары (2010).

У 18 ст. вёска, уласнасць Радзівілаў у ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. ў вёсцы 35 двароў, 177 жыхароў, з іх 17 татар. Вёска належала Д. Радзівілу, з 1828 г. — Свентаржэцкаму. У 1858 г. частка вёскі (101 жыхар) уваходзіла ў Лебедзеўскі, а другая частка (16 жыхароў) — у Маліноўшчынскі маёнткі. У 1880 г. 53 двары, 542 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 115 двароў, 649 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 150 двароў, 763 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца

чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1944 г. спалілі 139 двароў і загубілі 7 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1948 г. ў вёску ссселены жыхары в. Куп'е (10 двароў, 42 жыхары). З 16.7.1954 г. ў Лебедзеўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 218 двароў. У 1976 г. ў вёску ссселены жыхары в. Хвашчоўка (1 двор, 1 жыхар), у 1977 г. — в. Паташня (4 двары, 17 жыхароў), у 1979 г. — в. Уша (3 двары, 5 жыхароў). У 2002 г. 277 гаспадарак, 547 жыхароў. Фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны. У 1971 г. ў вёсцы знойдзены манетны скарб — адзін з найбуйнейшых грашовых скарбаў 17 ст., знойдзеных у Беларусі. Ухаваны ў 1655—56 гг.; у гліняным гаршку знаходзіліся білонныя і сярэбраныя манеты, з якіх вядомы 5682 экзэмпляры. Зберагаецца ў Мінскім абл. краязнаўчым музеі.

**МАЦУКОЎШЧЫНА** — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 13 км на Пд ад Маладзечна, 65 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда, на р. Мацукоўшчына. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска вядома як засценак у складзе Вяларуцкага маёнтка, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1866 г. засценак, 3 рэвізскія душы мужчынскага полу, уласнасць памешчыцы Ясінскай. У 1870 г. ў Хоўхлаўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. засценак, 2 двары, 16 жыхароў, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў засценку 4 двары, 24 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 4 гаспадаркі, 11 жыхароў.

**МАЧЫНОЎШЧЫНА** — вёска ў Хажоўскім с/с, за 13 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 91 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 33 жыхары (2010).

У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Ізабеліна, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. 37 сял. душ, у 1866 г. ўласнасць графа Ё. Тышкевіча, у 1870 г. ў Майсецкай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска (18 двароў, 119 жыхароў) і лясная вартоўня (1 двор, 4 жыхары), у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёска, 119 жыхароў, лясная вартоўня графа Тышкевіча, 4 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы 13 двароў, 116 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 22 двары, 138 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хажоўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 31 двор, 102 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 11 двароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 11.9.1959 г. ў Цюрлёўскім с/с Маладзечанскага раёна. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 10.6.1965 г. ў Хажоўскім с/с. У 1969 г. 104 жыхары.

**МІГАЎКА** — вёска ў Радашковіцкім с/с, за 31 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 47 км ад Мінска, на р. Чарняўка (прыток р. Рыбчанка). 1 гаспадарка, 3 жыхары (2010).

У 18 ст. вёска, казённая ўласнасць у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 10 двароў, 61 жыхар. У 1801 г. вёска была пажалавана ў арэнду Рожарсану. У

1861 г. 25 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. вёска (12 двароў, 77 жыхароў), аднайменны маёнтак (13 жыхароў) і фальварак Мігаўка (ён жа Зарэчча, 1 двор, 8 жыхароў). У 1904 г. ў вёсцы 83 жыхары, 126 дзес. зямлі, у Путнікаўскай сельскай грамадзе. Побач на р. Ліпаўка размяшчаліся маёнтак Мігаўка нашчадкаў памешчыка Власава, якія мелі тут 80 дзес. зямлі, і фальварак Мігаўка (ён жа Зарэчча), маёмасць Ліплінскага, які меў тут 33,5 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска (16 двароў, 83 жыхары), фальварак (2 двары, 13 жыхароў), у Радашковіцкай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Валодзькаўскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 89 жыхароў. З 31.3.1976 г. ў Радашковіцкім с/с. У 2001 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў.

**МІХАЛОВА** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 31,5 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 109,5 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска вядома як засценак в. Шыпулічы, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. Засценак адносіўся да маёнтка Парэчча і належаў памешчыку І. Пуцяту. У 1897 г. вёска, 5 двароў, 44 жыхары. У пач. 20 ст. 30 дзес. зямлі, у Шыпуліцкай сельскай грамадзе. У 1909 г. 3 двары, 41 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 12 двароў, 75 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 44 жыхары. У 2001 г. 9 гаспадарак, 13 жыхароў.

**МОЙСІЧЫ** — вёска ў Хажоўскім с/с, за 8 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 86 км ад Мінска. 95 гаспадарак, 230 жыхароў (2010).

Паводле архіўных дакументаў, у 1575 г. сяло ў Хажоўскай вол., 24 валокі зямлі, шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 36 двароў, 229 жыхароў, уласнасць В.Гацэвіча. У 2-й пал. 19 ст. ў складзе маёнтка Ізабеліна, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Побач з вёскай праходзіла дарога з Маладзечна да граніц Мінскага павета. У 1858 г. 115 сялян, 8 казённых сялян і 9 аднадворцаў. Меліся карчма, хлебазапасны магазін. У 1866 г. ў вёсцы 29 двароў, 261 жыхар. У 1870 г. вёска — цэнтр сельскай грамады, у склад якой ўваходзіла 9 вёсак. У 1897 г. 64 двары, 403 жыхары. Меліся штучная лаўка, уязная карчма. У 1897 г. сяло (64 двары, 403 жыхары, хлебазапасны магазін) і сядзіба (1 двор, 10 жыхароў, лаўка, карчма), у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёска, 456 жыхароў, якім належала 551 дзес. зямлі. Побач размяшчалася сядзіба графа Тышкевіча, непадалёку ад яе 2 пасёлкі Давідовічаў і пасёлак Полаза. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы,

у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, у Хажоўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 115 двароў, 467 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары і загубілі 4 жыхароў, 8 жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 12 жыхароў загінулі на фронце, 3 – у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 11.9.1959 г. ў Цюрлёўскім, з 10.6.1965 г. ў Хажоўскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1965 г. 453 жыхары, у калгасе імя Ф.Дзяржынскага. У 2002 г. 105 гаспадарак, 274 жыхары. У 2011 г. дзейнічаюць клуб, магазін.

**МУРЗЫ** – вёска ў Гарадоцкім с/с, за 14 км на Пд ад Маладзечна, 63 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск–Маладзечна. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

Вёска была заселена татарамі яшчэ ў старажытнасці. Паводле падання, тут гаразмяшчалася мячэць. Па рукапісных крыніцах вядома з пач. 16 ст. У 1722 г. вёска Мурзуны, 5 двароў, у Ашмянскім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Сарочын у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. ў вёсцы 4 двары, 35 жыхароў, уласнасць памешчыка Багарэвіча. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. ў вёсцы 20 сял. душ. У 1870 г. ў Бярозаўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. 10 двароў, 59 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 96 дзес. зямлі. У 1904 г. 63 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 14 двароў, 66 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Гарадоцкім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 23 двары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 9 двароў і загубілі 1 жыхара, 2 жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны вёска аднавілася. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 59 жыхароў.

**МЫСЛЕВІЧЫ** – вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 0,5 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 77 км ад Мінска. 94 гаспадаркі, 266 жыхароў (2010).

Вядомы ў пач. 19 ст. ў Вілейскім павеце, уласнасць К.Агінскага. У 1800 г. вёска, 6 двароў, 33 жыхары. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., на паштовай дарозе з Вільні да межаў Мінскага павета. Адна частка вёскі (17 рэвізскіх душ) уваходзіла ў склад Раеўскага маёнтка – уласнасць памешчыка Аскеркі, другая частка (3 рэвізскія душы) у Галенаўскім маёнтку – памешчыка Васілеўскага. У 1897 г. вёска (7 двароў, 65 жыхароў), пасёлак (2 двары, 14 жыхароў) і фальварак (1 двор, 8 жыхароў). У 1904 г. ў вёсцы 80 жыхароў, якія мелі 86 дзес. зямлі. Непадалёку ад вёскі знаходзіўся фальварак, 8 жыхароў, уласнасць Левінсона, які меў тут 27 дзес. зямлі. У пасёлку 14 жыхароў, якім належала 20 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 21 двор, 138 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл., вёска, 28 двароў, 143 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш.

захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 94 гаспадаркі, 238 жыхароў.

**МЯНЮТКІ** – вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 0,5 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 77 км ад Мінска. 47 гаспадарак, 100 жыхароў (2010).

У 19 ст. вядома як вёска ў складзе Геленаўскага маёнтка, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета, 10 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка Васілеўскага. У 1897 г. ў вёсцы 9 двароў, 52 жыхары. У 1904 г. вёска, 69 дзес. зямлі, 52 жыхары, у Хажоўскай сельскай грамадзе. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 10 двароў, 65 жыхароў. У 1938 г. 18 двароў, 101 жыхар. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 51 гаспадарка, 125 жыхароў. У 2011 г. ў вёсцы магазін.

**МЯСАТА**, Мясота, Мясята – вёска, цэнтр сельсавета, за 12 км на У ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 64 км ад

*Помнік Віленскаму тракту ў в. Мясата.*











Мінска, на р. Пісараўка (прыток р. Уша). 146 гаспадарак, 323 жыхары (2010).

У 16 ст. вядома як маёнтак у Мінскім павеце і ваяв. ВКЛ. У 1575 г. уласнасць кашталяна троцкага Стэфана Збаражскага. У 18 ст. вёска — шляхецкая ўласнасць. У Паўн. вайну 1700—1721 гг. шведы спустошылі вёску. Праваслаўная царква была разбурана, але сяляне на свае сродкі («на сваіх плячах») адбудавалі царкву. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 25 двароў, 116 жыхароў. Уласнасць памешчыка К.Агінскага. Вёска размяшчалася паміж мястэчкамі Краснае і Маладзечна, на паштовай дарозе з Вільні ў Мінск. У 1857 г. цэнтр аднайменнага маёнтка, у якім 116 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка Тампінскага. У 1866 г. ў вёсцы 26 двароў, 228 жыхароў. Непадалёку ад вёскі знаходзіліся фальварак і засценак. У канцы вёскі размяшчалася праваслаўная царква, якая адносілася да Краснасельскага прыхода. Меўся вадзяны млын. У 1897 г. вёска (65 двароў, 505 жыхароў, царква), маёнтак (48 жыхароў) і 2 сядзібы (11 жыхароў, вадзяны млын), у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1899 г. была адкрыта школа граматы. У пач. 20 ст. вёска, 454 дзес. зямлі. Знаходзілася за 0,5 км ад Лібава-Роменскай чыгункі. У 1904 г. 493 жыхары. Побач размяшчаўся маёнтак Тампінскага, які меў тут 1251 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., у вёсцы 94 двары, 569 жыхароў, у фальварку 6 двароў, 41 жыхар. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета. Маладзечанскага р-на Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 150 двароў, 900 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1943 г. спалілі амаль усю вёску (144 двары) і загубілі 26 жыхароў. У гады вайны загінула 136 землякоў. Пасля вайны вёска адбудавалася, але колькасць жыхароў не дасягнула даваеннага ўзроўню. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 777 жыхароў. У 2011 г. ў вёсцы размешчаны базавая школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 1976 г. на будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар польскага паэта-рамантыка Тамаша Зана (21.12.1796—19.7.1855), які нарадзіўся ў былым маёнтку Мясата. Каля аўтадарогі Мінск—Вільнюс у 1979 г. пастаўлены помнік Віленскаму шляху, які складаецца з 4 валуноў, самы вялікі абрысамі нагадвае карту Беларусі, на двух другіх пералічаны імёны вядомых людзей, якія ў розныя часы праходзілі ці праязджалі па гэтай дарозе. Помнік землякам, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, устаноўлены ў 1967 г. — на насыпным кургане скульптурная кампазіцыя: воін трымае на руках забітага таварыша. Побач — сцяна памяці з імёнамі землякоў.

**НАВАСЁЛКІ 1** — вёска ў Аляхновіцкім с/с, за 33 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 45 км ад Мінска, на р. Бярэзіна (прыток р. Нёман). 46 гаспадарак, 106 жыхароў (2010).

Вядома з 18 ст. ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1754 г. сяло, 21 двор, у складзе маёнтка Дуброва, шляхецкая ўласнасць. У 1791 г. вёска, 35 двароў, 233 жыхары, уласнасць Марцінкевіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 34 двары, 185 жыхароў, уласнасць тайнага саветніка А.Хмары. У 19 ст. вёска ў Мінскіх павеце і губ. У 1833 г. ў вёсцы 29 двароў, 212 жыхароў, маёмасць прадвадзіцеля дваранства Мінскага павета Гілярыя Хмары. Меліся млын, заезная карчма. У вольны

ад палявых работ час сяляне займаліся возніцкім промыслам. У 1846 г. ў вёсцы 209 жыхароў. У 1870 г. вёска, 105 жыхароў, уласнасць памешчыка Адама Хмары ў Ракаўскай вол. Мінскіх павета і губ. У пач. 20 ст. вёска, 67 дзес. зямлі, у Татарскай сельскай грамадзе. У 1909 г. 5 двароў, 85 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1938 г. ў Ракаўскай гміне Маладзечанскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., у вёсцы і ў засценку 80 двароў, 425 жыхароў. З 1939 г. вёска ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Ушанскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1960 г. вёска аб'ядналася з в. П'яная (4 двары, 9 жыхароў). З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл., з 27.10.1964 г. ў Аляхновіцкім с/с. У 1969 г. 401 жыхар. У 1987 г. ў складзе саўгаса «Дубрава» (цэнтр — в. Дубрава). У 2001 г. 54 гаспадаркі, 119 жыхароў.

**НАВАСЁЛКІ 2** — вёска ў Аляхновіцкім с/с, за 29 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 49 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска і аднайменны маёнтак ў Мінскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска 5 двароў, 31 жыхар, уласнасць М.Казубоўскага, у Вілейскім павеце. У 1897 г. 11 двароў, 66 жыхароў, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1938 г. ў Ракаўскай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв., 14 двароў, 65 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Ушанскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1987 г. ў складзе саўгаса «Дубрава» (цэнтр — в. Дубрава). У 2001 г. 10 гаспадарак, 14 жыхароў.



*Праабражэнская царква ў в. Насілава.*

**НАСІЛАВА** — вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 4 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 82 км ад Мінска. 446 гаспадарак, 1279 жыхароў (2010).

Вядома з 16 ст. У 1544 г. ўласнасць віцебскага ваяводы Юрыя Насілоўскага. У 1567 г. сяло, у канцы 16 ст. побач з ім размяшчаўся маёнтак Насілаўскі. У Паўн. вайну 1700—21 гг. у 1708 г. шведскі кароль Карл XII выбраў гэтае месца для адпачынку. У 1765 г. збудавана на сродкі шляхціца Ляговіча царква ў імя Праабражэння Гасподня. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 31 двор, 170 жыхароў (з іх 10 — мясц. шляхта), належала У.Ляговічу. У 1861 г. сяло ў Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1861 г. маёнтак, 386 жыхароў, належаў Пазнанскаму, Янкоўскаму, Хандзінскаму. Меўся хлебазапасны магазін. У

1897 г. сяло (5 двароў, 35 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа), вёска (50 двароў, 274 жыхары), засценак (3 двары, 19 жыхароў), засценак (3 двары, 16 жыхароў, хлебазапасны магазін). У пач. 20 ст. вёска, цэнтр сельскай грамады, у якую ўваходзіла 12 вёсак. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., вёска (51 двор, 285 жыхароў) і засценак (9 двароў, 74 жыхары). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Насілаўскага с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 86 двароў, 294 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінуў 21 зямляк. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2002 г. 428 гаспадарак, 1248 жыхароў. У 2011 г. размешчаны базавая школа, б-ка, магазін. У 1971 г. каля будынка школы пастаўлены помнік савецкім воінам, партызанам і землякам, што загінулі ў Вял. Айч. вайну. Каля вёскі археал. помнік — гарадзішча 1—8 ст. н.э. культуры штрыхаванай керамікі і банцараўскай культуры.

**НОВАЯ** (да 30.7.1964 г. — Пяцюлі) — вёска ў Граніцкім с/с, за 29 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 49 км ад Мінска. 47 гаспадарак, 81 жыхар (2010).

У 19 ст. вёска Пяцюлі — цэнтр аднайменнага маёнтка ў Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1870 г. маёнтак належаў памешчыку Свентаржэцкаму. У вёсцы 77 рэвізскіх душ. У 1873 г. вёска ў Путнікаўскай сельскай грамадзе. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска, 71 двор, 380 жыхароў, у Радашковіцкай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сычавіцкім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 97 двароў, 362 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 3 двары і загубілі 4 жыхароў, 1 жыхара вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. ў вёсцы 123 двары, 460 жыхароў. З 20.1.1973 г. ў Граніцкім с/с, у складзе калгаса «Бацькаўшчына» (цэнтр — в. Гарнякі). У 2001 г. 65 гаспадарак, 127 жыхароў.

**ПАДЛЕСНАЯ** (да 1964 г. — Цяляткі) — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 33 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 111 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска Цяляткі — цэнтр маёнтка (складаўся з адной вёскі), у Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., належаў памешчыку Буйко. У 1866 г. ў вёсцы 14 рэвізскіх душ. У 1873 г. вёска ў Аборкаўскай сельскай

*Помнік у в. Насілава савецкім воінам, партызанам і землякам, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.*



грамадзе. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета, 10 двароў, 72 жыхары. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце Віленскага ваяв. У 1938 г. ў вёсцы 9 двароў, 58 жыхароў, у суседнім фальварку 2 двары, 24 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 14 гаспадарак, 30 жыхароў.

**ПАЖАРНІЦА** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 110 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 19 ст. цэнтр маёнтка Пажарышча ў складзе адной аднайменнай вёскі, у Палянскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., уласнасць памешчыкаў Пуцятаў. У 1860 г. ў вёсцы 15 рэвізскіх душ. У 1873 г. ў Шыпуліцкай сельскай грамадзе. Маёнтак належаў памешчыку Міхаілу Пуцяту. У 1897 г. 5 двароў, 37 жыхароў. У пач. 20 ст. вёсцы належала 22 дзес. зямлі. У 1909 г. вёска, 2 двары, 26 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 10 двароў, 72 жыхары. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў вёсцы 12 двароў, 63 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў.

**ПАЖАРЫШЧА**, Пажарышчы — вёска ў Гарадоцкім с/с, за 23 км на ПдУ ад Маладзечна, 54 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна. 27 гаспадарак, 50 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 1567 г. ў перапісе войска ВКЛ як маёнтак пана Жыгімонтавіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. ў вёсцы 9 двароў, 51 жыхар, належала памешчыкам Галынскім. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Пятроўшчына. У 1870 г. 16 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка Алендзіна. У 1873 г. ў Пятроўшчынскай сельскай грамадзе. Меліся хлебазапасны магазін, заезная карчма. У 1897 г. вёска (25 двароў, 178 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква на могілках) і аднайменны пасёлак (1 двор, 7 жыхароў). У 1904 г. ў вёсцы 185 жыхароў, якім належала 178 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 30 двароў, 169 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 15.1940 г. ў Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі 5 жыхароў у Германію на прымусовыя работы, засталося ў жывых толькі 2. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. У 1944 г. ў баі за вызваленне вёскі загінуў начальнік штаба асобнага партызанскага атрада імя П.А.Альбіна

П.Д.Максімаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 244 жыхары, у складзе калгаса «Кастрычнік».

**ПАЗНЯКІ** — вёска ў Аляхновіцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 48 км ад Мінска, на р. Уша (прыток р. Вілія). 21 гаспадарка, 61 жыхар (2010).

У 19 ст. вядома як невялікая вёска ў Мінскіх павеце і губерні. У 1800 г. 2 двары, 12 жыхароў, уласнасць чашніка Дышлевіча. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Уша ў Ракаўскай вол. У 1857 г. ў вёсцы 19 рэвізскіх душ. У 1870 г. ўласнасць памешчыка Ачакаўскага. У 1897 г. 5 двароў, 51 жыхар. У пач. 20 ст. ў Заслаўскай вол. Мінскіх павета і губерні. У 1909 г. 5 двароў, 27 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 11 двароў, 61 жыхар. У 1938 г. вёска, 13 двароў, 67 жыхароў, у Ракаўскай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Ушанскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёску сселены жыхары в. Калінаўка, з 16.10.1964 г. ў Аляхновіцкім с/с. У 1969 г. 74 жыхары. У 1987 г. ў складзе саўгаса «Дубрава» (цэнтр — в. Дубрава). У 2002 г. 20 гаспадарак, 59 жыхароў.

**ПАЛАЧАНЫ** — вёска, цэнтр сельсавета і чыгуначная станцыя на лініі Маладзечна—Ліда, за 10,5 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 93 км ад Мінска, на р. Зах. Бярэзіна (прыток р. Нёман). 375 гаспадарак, 977 жыхароў (2010).

Упершыню ўпамінаецца ў 15 ст. У 1434 г. вял. кн. літ. Жыгімонт «дае і даруе вечнымі часы» сяло Палачаны пану Судзімонтавічу. У 1575 г. сяло — шляхецкая ўласнасць у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ. У 1669 г. дзейнічаў касцёл. У 1738 г. ўласнасць А.Сулістроўскага, які ў гэтым жа годзе разам са сваёй жонкай адрэстаўрыраваў касцёл і адрадзіў парафію. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, вёска ў Ашмянскім павеце Віленскай губ. У 1866 г. цэнтр маёнтка, у вёсцы 66 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка Сулістроўскага. У 1-й пал. 1880-х гг. вёска, 10 двароў, 155 жыхароў, цэнтр Палачанскай вол. У вёсцы размяшчаліся валаснoе праўленне, нар. вучылішча, праваслаўная капліца, піцейны дом, за 5 вёрст ад вёскі — вінакурны з-д. У 1897 г. 25 двароў, 180 жыхароў. У пач. 20 ст. сяло, 206 дзес. зямлі, цэнтр воласці і сельскай грамады. У 1904 г. 180 жыхароў, маёнтак памешчыка Любанскага, які меў 274 дзес. зямлі. У рэвалюцыю 1905—07 гг. Смаргонская акруговая арганізацыя РСДРП у 1906 г. мела ў 4 вёсках Палачанскай вол. 25 прыхільнікаў. Яны вялі сярод сялян палітычную пра-



*Старажытны каменны крыж каля в. Палачаны.*



Царква Раства Багародзіцы ў в. Палачаны.

паганду, арганізоўвалі мітынгі. У вол. баставала 70 парабкаў, 8 з іх былі арыштаваны. З лютага да снеж. 1918 г. сяло акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Палачанскай гміны Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., у вёсцы 40 двароў, 304 жыхары, у фальварку 4 двары, 77 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1941 г. расстралялі 12 сав. актывістаў і 3 камсамольцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1965 г. ў вёску сселена в. Баршчы (29 двароў, 82 жыхары), у 1966 г. — в. Чарапы (39 двароў, 116 жыхароў). У вёсцы размяшчалася цэнтр. сядзіба калгаса «50-годдзе Кастрычніка». У 2001 г. 418 гаспадарак, 1026 жыхароў. У 2011 г. працуюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, 3 магазіны. У 1961 г. на магіле камсамольцаў-падпольшчыкаў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены помнік: скульптура жанчыны ў жалобе. У 1969 г. на будынку сельсавета ўстаноўлена мемарыяльная дошка сав. актывістам, якіх расстралялі гітлераўцы ў 1941 г. У 1976 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар групы прыхільнікаў РСДРП. Арх. помнік — царква ў гонар Раства Багародзіцы ( 2-я пал. 19 ст.).

Касцёл Святога Роха ў в. Палачаны.



**ПАЛУЙКІ** — былая вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 16 км на Пд ад Маладзечна, 61 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда.

Вядомы з канца 19 ст. як засценак у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Побач размяшчаўся фальварак. У 1897 г. засценак (3 двары, 21 жыхар) і фальварак (1 двор, 11 жыхароў). У пач. 20 ст. назву Палуйкі насілі 2 засценкі і фальварак. У 1904 г. ў адным засценку 10 жыхароў, якія мелі 27,5 дзес. зямлі. Побач размяшчаўся другі засценак, 11 жыхароў, 8 дзес. зямлі і фальварак — уласнасць Багарэвіча, які меў тут 38 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., засценак, 7 двароў, 37 жыхароў, фальварак, 1 двор, 7 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2004 г. вёска знята з уліку.

**ПАЛЯНЫ** – вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 4 км на ПдЗ ад Маладзечна, 85 км ад Мінска, за 4 км ад чыг. ст. Каледзіно на лініі Маладзечна–Ліда. 19 гаспадарак, 29 жыхароў (2010).

У 16 ст. вёска вядома як сяло ў Ашмянскім павеце. У 1556 г. сяло, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска 10 двароў, 53 жыхары, уласнасць Е.Уланавай. У пач. 19 ст. назву Паляны мелі вёска і фальварак, якія адносіліся да маёнтка Асонава ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 2-й пал. 19 ст. ў Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1861 г. вёска, 10 рэвізскіх душ, належала памешчыку Мураўскаму. У 1897 г. 10 двароў, 65 жыхароў. У 1904 г. фальварак, 11 жыхароў, 78 дзес. зямлі, належаў Малюшчынскаму, другі фальварак, 30 жыхароў, 50 дзес. зямлі належаў Мурашчынскаму. Побач з фальваркам было 2 вёскі: Паляны 1-я і 2-я, у іх 65 жыхароў, якія мелі 50 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 16 двароў, 78 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лебедзеўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 44 двары, 155 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 1 двор і загубілі 1 жыхара. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 49 двароў, 175 жыхароў.

**ПАПОЎШЧЫНА** – вёска ў Аляхновіцкім с/с, за 17 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 61 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 22 жыхары (2010).

У 19 ст. ў Вілейскім павеце Мінскай, пазней Віленскай губерняў. Уваходзіла ў склад маёнтка Клінок. У 1857 г. ў вёсцы 13 сял. душ, належала памешчыку Сцефанеўскаму. У 1873 г. ва Ушанскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска, 6 двароў, 35 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 57 дзес. зямлі, за 7 вёрст ад чыг. ст. Уша, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1909 г. 3 двары, 47 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 9 двароў, 49 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Ушанскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 10 двароў, 35 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 1 двор і загубілі 2 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. З 16.10.1964 г. ў Аляхновіцкім с/с. У 1969 г. 28 жыхароў. У 1992 г. ў складзе саўгаса «Дубрава» (цэнтр – в. Дубрава). У 2001 г. 17 гаспадарак, 34 жыхары.

**ПАРАДОЎШЧЫНА** – вёска ў Гарадоцкім с/с, за 11 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 67 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 29 жыхароў (2010).

За 1 км на ПнУ ад вёскі размешчаны археал. помнік – гарадзішча, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у старажытнасці. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі (7 ст. да н.э. – 4 ст. н.э.). Асобныя знаходкі даюць падставу меркаваць, што жыццё тут працягвалася і ў 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н.э. У пісьмовых крыніцах вёска згадваецца як засценак у Красненскіх вол. і старастве ВКЛ. У 1765 г. дзярж. ўласнасць у арэндзе М.Лапарэвіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска і фальварак, казённая ўласнасць у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1801 г. здадзена ў арэнду тайнаму саветніку

Рожарсану. У вёсцы апрача прыгонных сялян жыла ваколічная шляхта. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнткаў Парадоўшчына і Краснаселле. У 1857 г. ў вёсцы 28 сял. душ. Маёнтак Парадоўшчына — уласнасць памешчыка Ігнація Карпіцкага, якому належала 24 душы прыгонных сялян, 4 прыгонныя селяніны вёскі адносіліся да казённага Краснасельскага маёнтка. У 1897 г. вёска (9 двароў, 56 жыхароў), 2 засценкі (2 двары, 17 жыхароў), пасёлак (1 двор, 2 жыхары), фальварак (3 двары, 22 жыхары), у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1909 г. ў вёсцы 6 двароў, 65 жыхароў. Знаходзілася за 11 вёрст ад чыг. ст. Уша. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 20 двароў, 104 жыхары. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 43 двары, 169 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 24.12.1943 г. спалілі 7 двароў і загубілі 35 жыхароў, 6 жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 9 вяскоўцаў загінула на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 130 жыхароў. У 1982 г. за 0,8 км на Пн ад вёскі, у полі, на магіле ахвяр фашызму пастаўлена стэла.

**ПАРЭЧЧА** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 107 км ад Мінска. 45 гаспадарак, 100 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка ў Палачанскай вол., Ашмянскага павета Віленскай губ., уласнасць памешчыка Пуцяты. У склад маёнтка ўваходзіла 2 вёскі і засценак. У 1866 г. ў вёсцы 28 рэвізскіх душ. Меліся хлебазапасны магазін, млын. У 1897 г. 20 двароў, 126 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 51 дзес. зямлі, у Шыпуліцкай сельскай грамадзе. Непадалёку ад вёскі размяшчаўся маёнтак памешчыка Пуцяты, які меў тут 496 дзес. зямлі. У 1909 г. 12 двароў, 159 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 33 двары, 188 жыхароў, у фальварку 1 двор, 9 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. На базе фальварка быў створаны калгас. У 2001 г. 60 гаспадарак, 128 жыхароў.

**ПЕКАРЫ** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 31 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 109 км ад Мінска. 58 гаспадарак, 183 жыхары (2010).

У 19 ст. вёска — цэнтр аднайменнага маёнтка, уласнасць памешчыцы Лакуцоўскай. У 1866 г. ў вёсцы 27 рэвізскіх душ, у Шыпуліцкай сельскай грамадзе. У 1897 г. ў вёсцы 11 двароў, 79 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 68 дзес. зямлі, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. Побач з вёскай знаходзіўся фальварак памешчыка Лакуцоўскага, які меў тут 53 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 17 двароў, 117 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце.

З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінула 15 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. цэнтр Пекароўскага с/с, 11.9.1959 г. скасаваны, тэрыторыя далучана да Гарадзілаўскага с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 100 жыхароў. У вёсцы размяшчалася цэнтр. сядзіба калгаса «Кастрычнік». У 2001 г. 65 гаспадарак, 199 жыхароў. У 2011 г. 2 магазіны, базавая школа, дзіцячы сад, камбінат быт. абслугоўвання, клуб. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ПЕКАРЫ** – вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 16 км на Пд ад Маладзечна, 62 км ад Мінска, 6,5 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна–Ліда. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2010).

За 0,5 км на З ад вёскі, каля дарогі ў в. Лужаны, ва ўрочышчы Капцы размешчаны курганны могільнік: 90 насыпаў дыяметрам 3–5 м, вышынёй 0,5–1,2 м (3–4 курганы дыяметрам 7–8 м, вышынёй 1,5–1,7 м). Найбольшыя насыпы знаходзяцца ў паўн. і зах. частках могільніка. Курганы раней былі абкладзены камянямі, якія дзе-нідзе захаваліся. Гэты археал. помнік сведчыць аб тым, што тут жылі людзі яшчэ ў старажытнасці. Вёска вядома з 17 ст. ў складзе маёнтка Хоўхла, у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1646 г. ўласнасць Радзівілаў. У 1792 г. ўласнасць паноў Карніцкіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. засценак у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Засценак уваходзіў у маёнтак Парадоўшчына, які належаў памешчыкам Карніцкім. У 1866 г. ў засценку 5 рэвізскіх душ. У 1897 г. вёска (1 двор, 13 жыхароў), сядзіба (1 двор, 4 жыхары) і фальварак Пекары (ён жа Боркі, 1 двор, 7 жыхароў). У пач. 20 ст. вёска, 23 дзес. зямлі, у Семернікоўскай сельскай грамадзе. У 1904 г. 29 жыхароў. Знаходзілася за 23 вярсты ад чыг. ст. Аляхновічы. Непадалёку ад вёскі размяшчаліся сядзіба і фальварак Пекары (ён жа Боркі) Аляксеевай, якая мела тут 67 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., фальварак, 4 двары, 30 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў фальварку 2 двары, 14 жыхароў, у засценку 3 двары, 10 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінула 52 землякі. 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 65 жыхароў. У 1965 г. каля будынка праўлення калгаса на ўшанаванне памяці загінуўшых землякоў устаноўлены помнік – скульптура воіна.

**ПІСАРАЎШЧЫНА** – вёска ў Мясоцкім с/с, за 14 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 74 км ад Мінска, на р. Пісараўка (прыток р. Уша). 22 гаспадаркі, 40 жыхароў (2010).

Вёска вядома як засценак у канцы 18 ст. ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. засценак, 4 двары, 28 жыхароў, уласнасць памешчыка К.Агінскага. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Мясата, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1861 г. ў вёсцы 32 рэвізскія сял. душы, уласнасць памешчыка Тампінскага, у 1870 г. ў Мясоцкай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска, 14 двароў, 97 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 98 дзес. зямлі. У 1909 г. 7 двароў, 93 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 19

двароў, 122 жыхары. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мясоцкім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2002 г. 28 гаспадарак, 59 жыхароў.

**ПЛЁСЫ** – вёска ў Мясоцкім с/с, за 18 км на У ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 60 км ад Мінска, на р. Вілія (прыток р. Нёман). 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 19 ст. вёска вядома як засценак у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1858 г. засценак, 10 рэвізскіх душ, у складзе маёнтка Асанава, уласнасць памешчыка Стравінскага. У 1870 г. ў Лебедзеўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. ў вёсцы 6 двароў, 34 жыхары. У 1904 г. 15 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў вёсцы 7 двароў, 33 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мясоцкім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях.

*Успенская царква ў в. Плябань.*



**ПЛЯБАНЬ**, Клябань, Клябаня, Клябанія – вёска ў Красненскім с/с, за 15 км на ПдУ ад Маладзечна, 63 км ад Мінска, 3 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск–Маладзечна, на р. Уша (прыток р. Вілія). 47 гаспадарак, 77 жыхароў (2010).

Вёска вядома з канца 18 ст. як плябанская маёмасць у Віленскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. Меўся драўляны касцёл. У 1858 г. на яго месцы пабудаваны з цэглы новы. У час паўстання 1863–64 гг. тут дзейнічаў атрад Ю.Бакшанскага, 25 чал., сваю зброю яны хавалі ў касцёле. 4.4.1863 г. атрад у сутычцы з урадавымі войскамі быў разбіты. У 1864 г. касцёл зачынены, у 1872 г. перабудаваны пад праваслаўную царкву. У пач. 20 ст. ў Красносельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, 35 двароў, 215 жыхароў, у Красносельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. Касцёл вернуты католікам. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 25 двароў, 78 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 3 двары. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 63 двары, 220 жыхароў, у калгасе «Краснае». У 2001 г. 31 гаспадарка, 62 жыхары. У вёсцы размешчана карцінная галерэя. На зах. ускраіне вёскі, каля дарогі на Мінск,



Надмагільны помнік удзельнікам паўстання 1863—64 на могілках каля в. Плябань.

знаходзіцца Успенская царква (былы касцёл). У 1923 г. на магіле паўстанцаў 1863 г. ўстаноўлены помнік.

**ПОВЯЗЫНЬ** – вёска ў Радашковіцкім с/с, за 34 км на ПдУ ад Маладзечна, 44 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, на гал. канале Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. 34 гаспадаркі, 63 жыхары (2010).

У 16 ст. сяло ў складзе маёнтка Дзякшняны ў Мінскім павеце і ваяв. ВКЛ, уласнасць князёў Вішнявецкіх, якія ў 1595 г. прадалі Павязынь кн. Друцкаму-Горскаму. У 1595 г. ў сяле 4 службы, 31 жыхар мужчынскага полу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Дзякшняны, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., належала памешчыкам Валадзьковічам. У 1857 г. ў вёсцы 72 жыхары. У 1873 г. ў Путнікаўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска (31 двор, 224 жыхары) і сядзіба (3 двары, 24 жыхары). У 1904 г. ў вёсцы 232 жыхары, 282 дзес. зямлі. Побач з вёскай на р. Вязынка размяшчалася сядзіба Валадзьковіча, які меў тут 28 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы. У 1938 г. 51 двор, 304 жыхары, у Радашковіцкай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Валодзькаўскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл., з 31.3.1976 г. ў Радашковіцкім с/с. У 1969 г. ў вёсцы 238 жыхароў. Помнік на брацкай магіле сав. воінаў.

**ПОРАВІЧЫ**, Паровічы – вёска ў Радашковіцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 48 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Клінок, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1858 г. ў вёсцы 22 сял. душы, уласнасць памешчыка Сцефаноўскага, у 1873 г. ва Ушанскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска (3 двары, 21 жыхар) і фальварак (5 жыхароў). У пач. 20 ст. вёска, 179 дзес. зямлі, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., на сплаўной р. Удра, на шашэйнай дарозе ад Радашковіч да мяжы губерні, на паштовым тракце Мінск—Вільня, на ваенна-камунікацыйнай дарозе з Гродна ў Радашковічы. У 1904 г. 146 жыхароў, у 1909 г. 12 двароў, 196 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. У 1938 г. ў вёсцы 9 двароў, 48 жыхароў, у суседнім фальварку 1 двор, 8 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Валодзькаўскім

с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл., з 31.3.1976 г. ў Радашковіцкім с/с. У 1969 г. 82 жыхары.

**ПРАЛЕСКІ** – вёска ў Радашковіцкім с/с, за 36 км на ПдУ ад Маладзечна, 42 км ад Мінска, 1,5 км ад чыг. ст. Дубравы на лініі Мінск—Маладзечна. 25 гаспадарак, 58 жыхароў (2012). У 2002 г. 28 двароў, 64 жыхары.

**ПРАНЧЭЙКАВА** – вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 16 км на Пд ад Маладзечна, 62 км ад Мінска, 12 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда. 42 гаспадаркі, 112 жыхароў (2010).

У 17 ст. ў складзе маёнтка Хоўхла, у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1646 г. фальварак, вёска, 34 дымы, 30 валок зямлі, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска – цэнтр аднайменнага маёнтка ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У склад маёнтка ўваходзіла 10 населеных пунктаў, у тым ліку і мястэчка Гарадок. У 1857 г. ў вёсцы 77 жыхароў, у маёнтку 361 жыхар, уласнасць графа Тышкевіча. Мелася заезная карчма. У 1890 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. вёска (27 двароў, 168 жыхароў), пасёлак (1 двор, 2 жыхары), у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У пач. 20 ст. 222 дзес. зямлі. У 1904 г. 243 жыхары. За 15 вёрст ад чыг. ст. Аляхновічы. Непадалёку ад вёскі размяшчаўся маёнтак графа Тышкевіча, які меў тут 1185 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. вёска (67 двароў, 336 жыхароў), побач знаходзіліся фальварак (2 двары, 21 жыхар) і калонія (18 двароў, 106 жыхароў). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінула 52 землякі. 9.12.1941 г. палітрук 229-га стралк. палка 8-й стралк. дывізіі Грыбанаў і работнік Радашковіцкага лясгаса стварылі ў вёсцы падп. групу з воінаў Чырвонай Арміі, якія трапілі ў акружэнне, і мясц. жыхароў. 12.12.1941 г. адбыўся сход групы (15 чал.). 13.4.1942 г. арганізаваны партыз. атрад Кузняцова, які аб'яднаўся з атрадам № 620. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 72 гаспадаркі, 177 жыхароў. У 1966 г. каля будынка школы на ўшанаванне памяці землякоў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены абеліск. У 1978 г. ў гонар падпольшчыкаў, якія стварылі партыз. атрад, і партызан гэтага атрада пастаўлены помнік – 2 гранітныя валуны.

**ПРОНЦАВІЧЫ**, Пранцавічы, Пранцэвічы – вёска ў Красненскім с/с, за 26 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 52 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 18 ст. вёска вядома як засценак, прыватная ўласнасць у Красненскіх вол. і старастве ВКЛ. У 1782 г. ў засценку 2 двары, 13 жыхароў, уласнасць Я.Вяжэвіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. ў вёсцы 8 двароў, 43 жыхары. У 2-й пал. 19 ст. вёска Пранцэвічы (яна ж Францавічы) у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1866 г. ў вёсцы 11 аднадворцаў. У 1897 г. вёска Пранцэвічы (яна ж Францэвічы), 3 двары, 10 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, $25^1/_4$ дзес. зямлі, ва Уланаўшчынскай сельскай грамадзе. У 1904 г. 39 жыхароў. Вёска знаходзілася за 5 вёрст ад чыг. ст. Уша. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войска-

мі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 7 двароў, 42 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Ушанскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. З 16.10.1964 г. ў Аляхновіцкім с/с. У 2001 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары.

**ПРУДЫ** — вёска ў Лебедзеўскім с/с і чыгуначная станцыя на лініі Вільнюс—Маладзечна, за 10 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 90 км ад Мінска. 21 гаспадарка, 37 жыхароў (2010).

У 18 ст. засценак і маёнтак у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1775 г. засценак Пруднікі, 2 двары, 7 жыхароў, карчма, уласнасць П.Лабачэўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У пач. 20 ст. засценак і маёнтак у Вілейскім павеце Мінскай губ. У засценку 2 двары, 20 жыхароў, уласнасць памешчыка Брэнца. У 1897 г. маёнтак (1 двор, 19 жыхароў, на р. Гарадзея, вадзяны млын), сядзіба (1 двор, 6 жыхароў), пасёлак (1 двор, 5 жыхароў) і чыгуначная паўстанцыя Пруды на Лібава-Роменскай чыгунцы. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, фальварак, 2 двары, 15 жыхароў, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце, у 1938 г. маёнтак (6 двароў, 27 жыхароў) і калонія (5 двароў, 33 жыхары). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лебедзеўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 6 двароў, 51 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 6 двароў, 64 жыхары.

**ПУТНІКІ** — вёска ў Радашковіцкім с/с, за 36 км на ПдУ ад Маладзечна, 42 км ад Мінска, 4,5 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, на р. Чарняўка (прыток р. Рыбчанка). 34 гаспадаркі, 74 жыхары (2010).

Паводле архіўных дакументаў, у 1595 г. сяло ў складзе маёнтка Дзякшняны ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ, 45 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць кн. Фёдара Друцкага-Горскага. У 1770 г. 43 двары, 131 жыхар мужчынскага полу, царква, млын, карчма, уласнасць Свентаржэцкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыкаўВаладзьковічаў. У 1857 г. 94 сял. душы. У 1870 г. вёска — цэнтр Путнікаўскай сельскай грамады, у склад якой уваходзіла 10 вёсак. У вёсцы меліся капліца, хлебазапасны магазін. У 1897 г. 53 двары, 344 жыхары, капліца, хлебазапасны магазін, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёска, 371 жыхар, якія мелі 478 дзес. зямлі, у 1909 г. 29 двароў, 404 жыхары.




*Чыгуначная станцыя Пруды.*

З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Радашковіцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 66 двароў, 375 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Валодзькаўскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Загінула 14 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл., з 31.3.1976 г. ў Радашковіцкім с/с. У 1969 г. 411 жыхароў.

**ПЯТРОЎШЧЫНА** — вёска ў Гарадоцкім с/с, за 25 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 53 км ад Мінска. 99 гаспадарак, 262 жыхары (2010).

За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі размешчана гарадзішча, якое адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Гэты археал. помнік сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін людзьмі яшчэ ў старажытнасці. У канцы 18 ст. вёска Вілейскага павета Мінскай губ. У 1800 г. 11 двароў, 56 жыхароў, сярод іх 6 — ваколічная шляхта. Вёска належала памешчыку Галынскаму. У 1866 г. 59 рэвізскіх душ, маёнтак памешчыка Алендзіна. У вёсцы размяшчалася праваслаўная царква. У 1870 г. вёска — цэнтр сельскай грамады, у якую ўваходзіла 20 навакольных вёсак. У 1880 г. 10 двароў, 97 жыхароў. У 1897 г. вёска (22 двары, 119 жыхароў) і аднайменны маёнтак (2 двары, 19 жыхароў), у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. ў вёсцы 154 жыхары. Знаходзілася за 10 вёрст ад чыг. ст. Аляхновічы. Непадалёку ад вёскі размяшчаўся маёнтак (19 жыхароў), уласнасць памешчыцы Карпінскай. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы,



*Былы вадзяны млын каля в. Пятроўшчына.*

вёска ў Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 28 двароў, 149 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. да 8.6.1963 г. цэнтр сельсавета Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 31 двор, 212 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў крас. 1942 г. спалілі 30 двароў і загубілі 27 жыхароў. 13 землякоў загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. Быў створаны калгас «За ўладу Саветаў». У 1969 г. 111 жыхароў. У 2011 г. ў вёсцы размешчаны магазін, школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. У 1964 г. ў цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці землякоў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**РАБІНАВАЯ** (да 1966 г. — Быкі) — вёска ў Палачанскім с/с, за 13 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 91 км ад Мінска. 19 гаспадарак, 44 жыхары (2010).

У 19 ст. вёска Быкі ў складзе казённага маёнтка Бараздынь, дзярж. уласнасць у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1866 г. ў вёсцы 19 рэвізскіх душ. У 1873 г. вёска ў Лоскай сельскай грамадзе. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войска-

мі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска, 28 двароў, 148 жыхароў, у Палачанскай вол. Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Палачанскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 26 гаспадарак, 60 жыхароў.

**РАВЯКІ** – вёска ў Красненскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Маладзечна, 56 км ад Мінска, 4,5 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 7 гаспадарак, 15 жыхароў (2012).

У 18 ст. вядомы з пісьмовых крыніц як сяло ў Краснасельскіх воласці і старастве ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1738 г. 7 двароў, уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска — дзярж. ўласнасць у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Мінскай, з 1843 г. Віленскай губерняў. У 1857 г. ў вёсцы 8 сялян і 4 яўрэі-землеўладальнікі. Пасля адмены прыгону (1861) вёска ў Граніцкай сельскай грамадзе. У 1897 г. 4 двары, 28 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 92 дзес. зямлі. У 1904 г. 37 жыхароў. У 1909 г. 4 двары, 35 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 9 двароў, 42 жыхары. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 9 двароў, 37 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 6 двароў і загубілі 3 жыхароў. Пасля вайны вёска адбудавалася. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 16 двароў, 57 жыхароў, у калгасе «Краснае». У 2001 г. 12 гаспадарак, 20 жыхароў.

**РАГАЗЫ** – вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 1 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 77 км ад Мінска. 120 гаспадарак, 288 жыхароў (2010).

Вядомы з канца 18 ст. ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 14 двароў, 126 жыхароў, уласнасць К.Агінскага. Уваходзіла ў Галенскі маёнтак. У 1857 г. вёска, 29 сял. душ, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1870 г. заснаваны вінакурны з-д, на якім у 1893 г. працавала 8 рабочых, у 1893 г. дзейнічала паравая машына. У 1897 г. вёска і сядзіба (5 двароў, 34 жыхары). У пач. 20 ст. вёска, 266 дзес. зямлі, у Хажоўскай сельскай грамадзе. У 1904 г. ў вёсцы 146 жыхароў. Побач з вёскай размяшчалася сядзіба (34 жыхары). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., у вёсцы 41 двор, 225 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 45 двароў, 261 жыхар. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 67 гаспадарак, 139 жыхароў.

**РАДАШКОВІЧЫ** – гарадскі пасёлак, цэнтр сельсавета. Размешчаны на ўскраіне Мінскага ўзвышша пры зліцці рэк Вязынка і Гуйка (утвараюць р. Рыбчанка), на гал. канале Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. На аўтадарозе Мінск—Маладзечна. За 32 км на ПдУ ад Маладзечна, 41 км ад Мінска, 10 км



*Троіцкі касцёл у г.п. Радашковічы.*

ад чыг. ст. Радашковічы на лініі Мінск—Маладзечна. Вузел аўтадарог на Аляхновічы, Пралескі, Рагаву. Насельніцтва 5,5 тыс. жыхароў (2010).

На ўскраіне гар. пасёлка знаходзіцца гарадзішча (мясц. назва Шведская Гара, датуецца 5—8 стст.), што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у старажытнасці. У 1447 г. ўпамінаюцца ў пісьмовых крыніцах, калі віленскі кашталян заснаваў тут касцёл. У 1582 г. ў рукапісных крыніцах упамінаецца як горад.



*Капліца Святога Яна Непамука ў г.п. Радашковічы.*

З 1499 г. ўласнасць князёў Дз.М.Вярэйскага, Гаштольдаў, каралевы Боны Сфорца, Глябовічаў, Агінскіх, Радзівілаў. З 1539 г. да сярэдзіны 19 ст. штогод у дзень Святой Тройцы праводзіліся кірмашы. У 1549 г. горад, 255 двароў, 374 жыхары, 93 службы, драўляны замак, які размяшчаўся паміж 2 ставамі, утворанымі на рэках Гуйка і Вязынка, на «капцы сыпаным» і формай нагадваў няправільны чатырохвугольнік. З усіх бакоў замак абкружала вада. У 1569 г. Радашковічы атрымалі магдэбургскае права, у 1792 г. — герб: на сярэбраным полі паясная выява Святога Стэфана, пабітага камянямі. У Баркулабаўскім летапісе ў 1603 г. адзначаецца, што у «Радашковічах ...было паветрые вялікае ў пост Філіпаў». У 1764 г. мястэчка, якое складалася з Новых і Старых Радашковічаў, 134 двары, у т.л. 45 яўр., 2 млыны, уласнаць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, заштатны горад Вілейскага павета Мінскай губ., з 1842 г. цэнтр воласці Віленскай губ. У 1835 г. пабудавана праваслаўная мураваная капліца. У 1848 г. святаром Станкевічам пабудавана праваслаўная Ільінская царква. У 1851 г. пабудавана праваслаўная Пакроўская царква. У 1861 г. 222 двары, 1223 жыхары. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1884 г. вучылася 38 хлопчыкаў). У 1866 г. было 2 пастаялыя двары, піваварны з-д, 2 гасцініцы, сінагога, 3 яўр. малітоўныя школы, касцёл, царква. У 1897 г. 346 двароў, 2294 жыхары, цэнтр воласці, гарадское і рэальнае вучылішчы, царква, касцёл, капліца, малітоўны дом, сінагога, бровар, 13 піцейных і 6 пастаялых двароў, працаваў гарбарны з-д, раз у тыдзень праводзіліся таржкі, 1 раз у год кірмаш. Побач з горадам знаходзілася ферма (1 двор, 13 жыхароў). У 1913 г. тэатральны гурток паставіў «Паўлінку» Я.Купалы (жыў у Радашковічах у 1903 г.). У 1908 г. ў горадзе 30 мураваных і 463 драўляныя пабудовы, мураваны касцёл і сі-

нагога, драўляная царква, 2 казённыя і 83 прыватныя лаўкі, вадзяны млын, 6 пякарняў, гарбарная, каменячосная, 6 абутковых і 2 ганчарна-кафляныя майстэрні, мылаварны з-д; 65 рамеснікаў. Горад складаўся з 8 вуліц: Мінская, Віленская, Дубраўская, Заслаўская, Татарская і інш. Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917 г. Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў створаны 1(14).12.1917 г. З 20 лютага да 14.12.1918 г. акупіраваны германскімі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1921 г. ў складзе Польшчы, горад, цэнтр Радашковіцкай гміны ў Вілейскім павеце, 391 двор, 2459 жыхароў, з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце Віленскага ваяв. У 1920-я гг. тут жылі дзеячы нац.-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі: Б.А.Тарашкевіч, С.А.Рак-Міхайлоўскі, Ф.І.Стацкевіч і інш. У 1921 г. створана адна з першых у Зах. Беларусі арганізацыя Т-ва бел. школы. Працавалі паштовае агенцтва, гімназія, мастацкая студыя Я.Драздовіча. У 1922—28 гг. працавала бел. гімназія імя Ф.Скарыны. У 1928 г. адкрыта прыватная бел. школа. Меліся электрастанцыя, праваслаўная царква, касцёл. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. гар. пасёлак, цэнтр Радашковіцкага раёна. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 511 двароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. войскамі, якія ў Радашковічах спалілі 233 двары, загубілі 1393 жыхары, 50 чалавек загінулі на фронце, 32 — у партыз. барацьбе і падполлі, 11 чалавек прапалі без вестак, загублены 25 бежанцаў і 27 ваеннапалонных. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падп. райкамы КП(б)Б (6.1—1.7.1944) і ЛКСМБ (23.8.1943—1.7.1944). Гар. пасёлак вызвалены часцямі 8-га гв. стралк. корпуса (ген.-лейт. М.М.Завадоўскі). З 20.9.1944 г. цэнтр раёна Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл., цэнтр калгаса імя Я.Купалы. У 1969 г. 3200 жыхароў. У 2011 г. працуюць ААТ








*Помнік экіпажу М.Ф.Гастэлы ў г.п. Радашковічы.*



*М.Ф.Гастэла.*



*Ядвігін Ш.*



*Б.А.Тарашкевіч.*

*Помнік экіпажу І.З.Прэсайзена каля г.п. Радашковічы.*

«Белмастацкераміка», ААТ «Радашковіцкі цагляны завод», хлебазавод, міжгаспадарчае раённае ўпраўленне, жыллёва-камунальная гаспадарка, лясніцтва, сярэдняя школа, школа мастацтваў, школа-інтэрнат, 3 дашкольныя ўстановы, Дом культуры, Дом дзіцячай творчасці, 2 б-кі, кінатэатр, камбінат быт. паслуг, бальніца на 100 месцаў, паліклініка, аптэка, санаторыі «Сасновы бор» і «Зорны», 4 базы адпачынку, аддз. сувязі, філіял ААТ«ААБ Беларусбанк», 15 магазінаў, кафэ. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму. Помнікі: сав. лётчыкам, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, Герою Сав. Саюза М.Ф.Гастэлу і яго экіпажу, І.З.Прэсайзену і яго экіпажу; Янку Купалу. Троіцкі касцёл (1855—59), Ільінская царква пач. 20 ст. Памятны знак у гонар бел. пісьменніка Ядвігіна Ш. (сапр. імя Антон Іванавіч Лявіцкі, 1869—1922), які жыў і працаваў у Радашковічах у 1891—97 гг. Мемарыяльная дошка на доме, дзе ў 1923—31 гг. жыў і працаваў бел. грамадскі і палітычны дзеяч, мовазнавец, акад. НАН Беларусі Б.А.Тарашкевіч (1892—1938); яго імем названа вуліца ў Радашковічах.

**РАДЗЕЎЦЫ** — вёска ў Граніцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад Маладзечна, 48 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 19 гаспадарак, 35 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. прыватная ўласнасць у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1801 г. 21 двор, 128 сялян і 1 двор ваколічнай шляхты, у якім жыло 2 жыхары. Вёска належала памешчыку І.Валадзьковічу. У 2-й пал. 19 ст. ў складзе маёнтка Гранічы ў Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. ў вёсцы 58 жыхароў, уласнасць памешчыка Станіслава Свіды. У 1897 г. ў вёсцы 24 двары, 165 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 202 дзес. зямлі, у Граніцкай сельскай грамадзе. Знаходзілася за 8 вёрст ад чыг. ст. Уша. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 36 двароў, 206 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, у Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 40 двароў, 143 жыхары, У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. спалілі 38 двароў і загубілі 5 жыхароў, 4 вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля





вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 53 двары, 188 жыхароў, у складзе калгаса «Бацькаўшчына» (цэнтр — в. Гарнякі). У 2001 г. 30 гаспадарак, 58 жыхароў. Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза Д.В.Казакевіча (16.12.1902—17.1.1989); Героя Беларусі, засл. работніка сельскай гаспадаркі Беларусі М.А.Карчміта (1.2.1949—22.5.2004).

**РАЁЎКА**, Р а е ў к а — вёска ў Красненскім с/с, за 28 км на У ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 50 км ад Мінска, на р. Рыбчанка (прыток р. Ілія). 246 гаспадарак, 624 жыхары (2010).

У канцы 18 ст. вядома як прыватнае ўладанне ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 17 двароў, 99 жыхароў, уласнасць памешчыка К.Агінскага. У 2-й пал. 19 ст. засценак у Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Непадалёку знаходзіўся маёнтак памешчыкаў Грыгаровічаў. У 1889 г. ў маёнтку памешчык У.Грыгаровіч заснаваў крухмальнае прадпрыемства з паравой машынай, на якім працавала ў 1895 г. 16 рабочых. У 1889 г. — маслабойнае прадпрыемства, дзе ў 1890 г. працавала 10 рабочых; у 1894 г. — дрэваапрацоўчае прадпрыемства з паравой машынай, у 1900 г. 17 рабочых. У 1898 г. пачала працаваць кардонная ф-ка. У пач. 20 ст. засценак на сплаўной р. Радашкоўка, 24 дзес. зямлі ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Непадалёку знаходзіўся маёнтак на р. Удранка, уласнасць памешчыка Грыгаровіча, які меў тут 902 дзес. зямлі. У 1904 г. ў вёсцы 31 жыхар, у маёнтку 49 жыхароў. Рабочыя кардоннай ф-кі і жыхары вёсак Шыпкі, Куляшы, Чоркі прымалі ўдзел у рэвалюцыі 1905—07 гг. 26.11.1905 г. яны разграмілі фабрыку Грыгаровіча і яго дом. Для падаўлення бунта з Мінска была выклікана сотня казакоў, толькі з дапамогай якіх улады спынілі рабочае паўстанне. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у вёсцы 6 двароў, 28 жыхароў, у фальварку 8 двароў, 76 жыхароў. У 1935 г. пабудавана з дрэва капліца. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 45 двароў, 157 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 41 двор і загубілі 47 жыхароў, 13 вывезлі ў Германію на прымусовыя работы, з якіх вярнуліся толькі 4 жыхары. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце, 7 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1996 г. згарэла каталіцкая капліца, у 2001 г. на ацалелым бетонным падмурку яна аднаўлена паводле старых чарцяжоў. У 2001 г. 289 гаспадарак, 712 жыхароў. У 2011 г. ў вёсцы размешчаны ТАА «Маладзечанская кардонная фабрыка «Ра-



*Д.В.Казакевіч.*



*М.А.Карчміт.*



*Капліца Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі ў в. Раёўка.*

ёўка», фельч.-акушэрскі пункт, школа, аддз. сувязі, ашчадная каса, дзіцячы сад, сталовая, магазін. Помнік у гонар партыз. брыгады імя М.В.Фрунзэ; абеліск на брацкай магіле партызан.

**РАЕЎШЧЫНА**, Раеўка, Ярэўшчына — вёска ў Мясоцкім с/с, за 8 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 71 км ад Мінска. 74 гаспадаркі, 164 жыхары (2010).



1



2



3

*Філіял «Фальварак Ракуцёўшчына» Літаратурнага музея М.Багдановіча: 1 — гаспадарская хата; 2 — домік арандатара, у якім у 1911 жыў М.Багдановіч; 3 — гумно.*

Вёска вядома з канца 18 ст. як цэнтр аднайменнага маёнтка, у склад якога ўваходзіла 9 вёсак, прыватная ўласнасць у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1857 г. ў вёсцы 60 сял. душ, уласнасць памешчыка Аскеркі. Пасля адмены прыгону (1861) цэнтр сельскай грамады, у склад якой уваходзіла 11 навакольных вёсак. У вёсцы размяшчаліся праваслаўная царква, хлебазапасны магазін, царк.-прыходская школа. У 1897 г. ў вёсцы 36 двароў, 243 жыхары. У пач. 20 ст. вёска ў Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Непадалёку знаходзіўся маёнтак памешчыка Сергіеўскага, які меў тут 758 дзес. зямлі. У 1909 г. ў вёсцы 21 двор, 325 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., у вёсцы 52 двары, 341 жыхар, у фальварку 2 двары, 11 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 55 двароў, 330 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 44 двары і загубілі 18 жыхароў. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавалася. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Вялікасельскім, з 12.6.1958 г. ў Раеўшчынскім сельсаветах, 27.3.1959 г. сельсавет скасаваны, тэр. далучана да Мясоцкага с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 329 жыхароў. У 2011 г. ў вёсцы размешчаны магазін, клуб, б-ка, аддз. сувязі.

**РАКУЦЁЎШЧЫНА** — вёска ў Красненскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Маладзечна, 60 км ад Мінска, 2 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 52 гаспадаркі, 142 жыхары (2010).

Паводле пісьмовых крыніц прыватная ўласнасць у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1765 г. вёска, 4 двары, уласнасць пана Валадзьковіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка ў Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У склад маёнтка ўваходзілі вёскі: Іўкі, Ракуцёўшчына і частка вёскі Касцюшкі. У 1870 г. маёнтак належаў памешчыку Шыманскаму. У 1897 г. ў вёсцы 11 двароў, 81 жыхар. Непадалёку ад вёскі знаходзіўся фальварак, 1 двор, 17 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 117 дзес. зямлі, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. ў вёсцы 122 жыхары. Побач размяшчаўся маёнтак памешчыцы Шыманскай, якая мела тут 150 дзес. зямлі. У 1909 г. 7 двароў, 110 жыхароў. У 1911 г. ў фальварку жыў і працаваў амаль 2 летнія месяцы бел. паэт, перакладчык, крытык і гісторык л-ры Максім Багдановіч. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., у вёсцы 20 двароў, 130 жыхароў, у фальварку 3 двары, 5 жыхароў. У 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 35 двароў, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 5 двароў і загубілі 3 жыхароў, 7 жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы, з якой вярнулася 5 жыхароў. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце, 10 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 43 двары, 214 жыхароў, у калгасе «Краснае». У 2001 г. 59 гаспадарак, 148 жыхароў. У вёсцы размешчаны філіял «Фальварак Ракуцёўшчына» Літаратурнага музея М.Багдановіча (Мінск). У гонар паэта пастаўлены мемарыяльны знак.



*Інтэр'ер доміка арандатара ў філіяле «Фальварак Ракуцёўшчына».*

**РАМАНЫ** — вёска ў Радашковіцкім с/с, за 41 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 37 км ад Мінска, на р. Уша (прыток р. Вілія). 34 гаспадаркі, 74 жыхары (2010).

У канцы 18 ст. вядомы як цэнтр маёнтка, уласнасць тайнага саветніка Адама Хмары. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 53 жыхары, гаспадарскі двор, у Мінскім павеце. У 1870 г. вёска ў Ракаўскай вол. Мінскіх павета і губ. Адна частка вёскі (12 рэвізскіх душ) адносілася да маёнтка Уша і належала памешчыку Ачапаўскаму, другая частка — у складзе маёнтка Раманава, уласнасць памешчыцы Янушкевічавай. У 1897 г. вёска (17 двароў, 104 жыхары) і адна-



*М.Багдановіч. 1911.*



*Мемарыяльны знак у гонар М.Багдановіча ў в. Ракуцёўшчына.*

йменны засценак (1 двор, 19 жыхароў), у Заслаўскай вол. Мінскіх павета і губ. У 1909 г. ў вёсцы 12 двароў, 117 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 5 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у вёсцы 25 двароў, 133 жыхары, у фальварку 3 двары, 23 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Валодзькаўскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 202 жыхары. З 31.3.1976 г. ў Радашковіцкім с/с. У 2002 г. 38 гаспадарак, 92 жыхары.

**РАЧКАВА** – вёска ў Палачанскім с/с, за 13 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 91 км ад Мінска. 28 гаспадарак, 62 жыхары (2010).

Вёска вядома паводле пісьмовых крыніц з 16 ст. як маёнтак. У 1539 г. двароц Рачкаўскі, шляхецкая ўласнасць. У 1789 г. ў вёсцы 18 двароў, 141 жыхар, у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка ў Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1846 г. ў склад маёнтка ўваходзілі 5 вёсак, 152 сял. душы, уласнасць Вагнераў. У 1866 г. ў вёсцы 24 рэвізскія душы. У 1897 г. вёска (13 двароў, 70 жыхароў) і маёнтак (4 двары, 25 жыхароў). У пач. 20 ст. вёска, 42 дзес. зямлі, у Літвінскай сельскай грамадзе. Побач з вёскай знаходзіўся маёнтак Вагнера, які меў тут 40 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска, 23 двары, 113 жыхароў, фальварак, 5 двароў, 62 жыхары, у Палачанскай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Палачанскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінула 12 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 40 гаспадарак, 93 жыхары.

**РАШАТКІ** – вёска ў Мясоцкім с/с, за 7 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 71 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2010).

У пач. 20 ст. ў Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў вёсцы 17 двароў, 98 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мясоцкім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1987 г. 25 гаспадарак, 38 жыхароў, у складзе калгаса «Усход». У 2001 г. 13 гаспадарак, 20 жыхароў.

**РОЖАВІЧЫ** – вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 110 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Юзафполле ў Ашмянскім павеце Віленскай губ., уласнасць памешчыка Пабольскага. У 1866 г. 9 рэвізскіх душ, у Шыпуліцкай сельскай грамадзе. У 1897 г. ў вёсцы 7 двароў, 36 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 21 дзес. зямлі, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. Вёска знаходзілася за 19 вёрст ад чыг. ст. Пруды. З лютага да

снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 8 двароў, 44 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 28 жыхароў.

**РУМЯНЦАВА** — вёска ў Маркаўскім с/с, за 25 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 103 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

Вёска вядома з 19 ст. як засценак Румянцава (ён жа Барздынь), дзярж. ўласнасць у Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. Уваходзіў у склад казённага маёнтка Лоск. У 1873 г. ў засценку 2 сял. душы. У 1897 г. вёска, 4 двары, 29 жыхароў. У пач. 20 ст. засценак на р. Трапалоўка, 31 жыхар, якія мелі 67 дзес. зямлі, у Юраўшчызненскай сельскай грамадзе. У 1909 г. 3 двары, 37 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. У 1938 г. 6 двароў, 40 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Маркаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1966 г. ў вёску сселены жыхары в. Машніна (12 двароў, 22 жыхары). У 1969 г. 32 двары, 89 жыхароў.

**РУСАЛІШКІ** — вёска ў Аляхновіцкім с/с, за 18 км на ПдУ ад Маладзечна, 60 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска вядома як засценак у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1784 г. засценак, 2 двары, 10 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 2 двары, 11 жыхароў, уласнасць памешчыка А.Галынскага. У 1857 г. ў вёсцы 9 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка Алендзіна. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Пятроўшчызна, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. 3 двары, 15 жыхароў. У пач. 20 ст. 36 дзес. зямлі, у Пятроўшчынскай сельскай грамадзе. У 1904 г. ў вёсцы 17 жыхароў, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета, Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 5 двароў, 33 жыхары. З 1939 г. ў БССР. 15.1.1940 г. ў Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 30 жыхароў. У 2001 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары.

**РУХЛІ** — вёска ў Мясоцкім с/с, за 7 км на У ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 71 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2010).

Вядомы ў 19 ст. як засценак у складзе маёнтка Выверы, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. ў засценку 14 сял. душ, уласнасць памешчыка Каспяровіча. У 1897 г. засценак (3 двары, 21 жыхар), пасёлак (1 двор, 6 жыхароў), выселак (1 двор, 2 жыхары), у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета. У 1904 г. ў за-

сценку 37 жыхароў, якія мелі 51 дзес. зямлі, у пасёлку 6 жыхароў, 3 дзес. зямлі, у выселку 2 жыхары, дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 8 двароў, 57 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Раеўшчынскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Вялікасельскім, з 27.3.1959 г. ў Мясоцкім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 7 гаспадарак, 9 жыхароў.

**РЭДЗЬКІ** — вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 17 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 95 км ад Мінска. 65 гаспадарак, 100 жыхароў (2010).

Вёска вядома ў 17 ст. як фальварак, які ў 1-й пал. 18 ст. далучаны да Беніцкага маёнтка, уласнасць падскарбія ВКЛ кашталяна троцкага і віцебскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Казімірава, у Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., уласнасць памешчыка Багдановіча. У 1870 г. ў вёсцы 69 рэвізскіх душ. Цэнтр сельскай грамады, у якую ўваходзіла 8 населеных пунктаў. У 1897 г. ў вёсцы 38 двароў, 243 жыхары, меўся хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. вёска, 264 дзес. зямлі. У 1909 г. 17 двароў, 289 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лебедзеўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 119 двароў, 367 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 12 двароў. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1956 г. ў вёску перасёлены жыхары в. Угляны (18 двароў, 83 жыхары). З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 131 двор, 425 жыхароў.

**САКІ** — вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 4 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 82 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2012).

У 1-й пал. 19 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 6 двароў, 29 жыхароў, уласнасць К.Дзядзеркі. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе Высокаўскага маёнтка. У 1870 г. вёска, 17 жыхароў, уласнасць Міхневіча, у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. 10 двароў, 75 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 54 дзес. зямлі, у Насілаўскай сельскай грамадзе. У 1904 г. 75 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 13 двароў, 78 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2002 г. 7 двароў, 10 жыхароў.

**САКОЛЬНІКІ** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 31 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 109 км ад Мінска. 34 гаспадаркі, 74 жыхары (2010).

У 19 ст. вядома як дзярж. ўласнасць у Ашмянскім павеце Віленскай губ. Вёска ўваходзіла ў маёнтак Лоск. У 1866 г.

ў вёсцы 32 рэвізскія душы, у Шыпуліцкай сельскай грамадзе. У 1897 г. 15 двароў, 129 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 104 дзес. зямлі, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1909 г. 136 жыхароў. Вёска знаходзілася за 16 вёрст ад чыг. ст. Пруды. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 29 двароў, 181 жыхар. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 193 жыхары. У 2001 г. 36 гаспадарак, 60 жыхароў.

**САЛТАНЫ** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна. 24 гаспадаркі, 49 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска — цэнтр аднайменнага маёнтка, у Ашмянскім павеце Віленскай губ. У 1857 г. ў вёсцы 11 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1873 г. маёнтак належаў памешчыку Скіндзеру. У 1897 г. ў вёсцы 9 двароў, 46 жыхароў, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У пач. 20 ст. вёска, 37 дзес. зямлі, у Літвінскай сельскай грамадзе. У 1904 г. 34 жыхары, непадалёку ад вёскі знаходзіўся фальварак памешчыка Жукоўскага, які меў тут 78 дзес. зямлі. Вёска знаходзілася за 18 вёрст ад чыг. ст. Пруды. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 15 двароў, 100 жыхароў. З 1939 г. вёска ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. У 1969 г. 161 жыхар. У 2001 г. 31 гаспадарка, 76 жыхароў. У 2011 г. працуе магазін.

**САМАЛІ** — вёска ў Мясоцкім с/с, за 15 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 63 км ад Мінска. 17 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

Упамінаецца ў 18 ст. як невял. вёска, прыватная ўласнасць у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 2 двары, 35 жыхароў, належала памешчыку К.Агінскаму. З 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе 3 маёнткаў: Бухаўскі, Раеўскі і Галенаўскі, якія належалі памешчыкам, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Пасля адмены прыгону (1861) у Вялікасельскай грамадзе. У канцы 19 ст. назву Самалі насілі вёска і 2 засценкі. У 1897 г. засценак Самалі 1-я (9 двароў, 63 жыхары), вёска Самалі 2-я (4 двары, 50 жыхароў) і засценак Самалі 3-я (1 двор, 2 жыхары). Пазней яны аб'ядналіся. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 12 двароў, 76 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, у Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 24 гаспадаркі, 37 жыхароў. У 2011 г. размешчаны фельч.-акушэрскі пункт.

**САСНОВЫ БОР** — пасёлак у Мясоцкім с/с, за 2 км на Пн ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 74 км ад Мінска. 219 гаспадарак, 615 жыхароў (2012).

У 2002 г. 175 двароў, 616 жыхароў. Маладзечанская зверагаспадарка, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, дзіцячы сад, магазін.

**СВЕЧКІ** — вёска ў Красненскім с/с, за 27 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 51 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска — цэнтр аднайменнага маёнтка ў Вілейскім павеце Віленскай губ., уласнасць памешчыкаў Куроўскіх. У 1800 г. ў вёсцы 10 двароў, 52 жыхары. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Красносельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. ў маёнтку 22 сял. душы. Пасля адмены прыгону (1861) вёска ва Уланаўшчынскай сельскай грамадзе. У 1897 г. ў вёсцы 12 двароў, 79 жыхароў. У пач. 20 ст. 130 дзес. зямлі. У 1904 г. 71 жыхар. Побач размяшчаўся аднайменны маёнтак памешчыка Куроўскага. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Віленскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., вёска, 15 двароў, 93 жыхары, Непадалёку размяшчаўся фальварак, 1 двор, 16 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 жыхароў, 8 вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 41 двор, 115 жыхароў. У 2001 г. 16 гаспадарак, 24 жыхары. У 1965 г. на магіле ахвяр фашызму, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены абеліск.

**СЕЛЕЎЦЫ** — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 18 км на Пд ад Маладзечна, 60 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда. 102 гаспадаркі, 280 жыхароў (2010).

Вёска вядома з 17 ст. у Мінскім ваяв. ВКЛ, уваходзіла ў склад маёнтка Хоўхла. У 1646 г. вёска, 30 двароў, уласнасць Радзівілаў, пазней Галінскіх; з 1780 г. — паноў Карніцкіх, у складзе маёнтка Пранчэйкава. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1866 г. ў вёсцы 69 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. вёска (29 двароў, 208 жыхароў) і сядзіба (1 двор, 9 жыхароў), у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1909 г. вёска, 23 двары, 233 жыхары, у Гарадоцкай сельскай грамадзе. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 61 двор, 337 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 238 жыхароў. У 2011 г. ў вёсцы размешчаны школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін.

**СЕЛІВОНАЎКА** — вёска ў Мясоцкім с/с, за 5 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 73 км ад Мінска. 47 гаспадарак, 108 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Раёўшчына, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. вёска, 32 сял. душы, уласнасць Аскеркі, у 1870 г. Раеўшчынскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска, 16 двароў, 110

жыхароў. У 1904 г. вёска, 137 жыхароў, 216 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 19 двароў, 143 жыхары. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Раеўшчынскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 38 двароў, 171 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 жыхароў, 3 вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. вёска ў Вялікасельскім, з 12.6.1958 г. ў Раеўшчынскім, з 27.3.1959 г. ў Мясоцкім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёску сселены жыхары в. Кляноўшчына (5 двароў, 11 жыхароў). У 1969 г. 204 жыхары. Вёска — радзіма доктара хімічных навук, прафесара, засл. работніка вышэйшай школы Беларусі, акадэміка НАН Беларусі (н. 10.1.1930) Ф.М.Капуцкага.

**СЕМЕРНІКІ** — вёска ў Гарадоцкім с/с, за 15 км на ПдУ ад Маладзечна, 63 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна. 19 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска, прыватная уласнасць у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1801 г. 11 двароў, 74 жыхары, з якіх 15 — ваколічная шляхта. Вёска належала памешчыку Свентаржэцкаму. У 1873 г. вёска, 53 жыхары, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., цэнтр Семернікоўскай сельскай грамады, у склад якой уваходзіла 9 вёсак. У вёсцы размяшчаўся хлебазапасны магазін. У 1897 г. 32 двары, 217 жыхароў. У 1904 г. ў вёсцы 232 жыхары, якія мелі 281 дзес. зямлі. У 1909 г. 20 двароў, 189 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., вёска, 46 двароў, 244 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 64 двары, 297 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 3 двары і загубілі 8 жыхароў, 33 жыхары вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 298 жыхароў.

**СЕНЬКАЎШЧЫНА** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 31 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 109 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2010).

У 19 ст. вёска ў складзе аднайменнага маёнтка, у Ашмянскім павеце Віленскай губ., уласнасць памешчыка Кушчкова. У 1866 г. ў вёсцы 8 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. 4 двары, 23 жыхары, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета. У 1904 г. 23 жыхары, якія мелі 27 дзес. зямлі. Вёска знаходзілася за 11 вёрст ад чыг. ст. Пруды. Непадалёку ад вёскі знаходзіліся 2 фальваркі: Ванькавецкага і Міхайлоўскага. У 1909 г. ў вёсцы 6 двароў, 32 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. У 1927 г. вёска Сенькаўшчызна (3 двары, 23 жыхары), фальварак Сенькаўшчызна 1-я (1 двор, 8 жыхароў), фальварак Сенькаўшчызна 2-я (1 двор, 12 жыхароў). З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў вёсцы 4



*Ф.М.Капуцкі.*

двары, 30 жыхароў, у фальварку 3 двары, 42 жыхары. З 1939 г. вёска ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл.

**СЕЧКІ** – вёска ў Палачанскім с/с, за 5 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 83 км ад Мінска. 22 гаспадаркі, 33 жыхары (2010).

У 18 ст. сяло, у 1785 г. шляхецкая ўласнасць. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 61 жыхар, уласнасць К.Дзядзеркі. У 2-й пал. 19 ст. ў Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1858 г. ў вёсцы 23 жыхары, уласнасць памешчыка Бялевіча. У 1897 г. вёска, 13 двароў, 91 жыхар, фальварак, 1 двор, 1 жыхар. У 1909 г. 5 двароў, 101 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 16 двароў, 76 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, у Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 32 двары, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 8 жыхароў загінулі на фронце, 1 – у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 28 гаспадарак, 50 жыхароў.

**СКАВАРОДКІ** – вёска ў Маркаўскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Маладзечна, 94 км ад Мінска, за 4 км ад чыг. ст. Пруды на лініі Вільнюс–Маладзечна, на р. Дудкавіца (прыток р. Гадзея). 36 гаспадарак, 75 жыхароў (2010).

У 1600 г. сяло ў складзе маёнтка Маркава, уласнасць казны, у Ашмянскім павеце. У 17 ст. вёска ў Маркаўскім старастве ВКЛ. Частка вёскі належала казённаму Маркаўскаму маёнтку, другая частка – уніяцкай царкве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 11 двароў, 81 жыхар, уласнасць Берхмана і ўніяцкай царквы. У гэтым жа годзе падаравана генералу Горычу. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у Маркаўскім маёнтку, дзярж. ўласнасць. У 1861 г. 29 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка Плявака. У 1897 г. 40 двароў, 250 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 252 жыхары, 160 дзес. зямлі, цэнтр сельскай грамады, у склад якой уваходзіла 8 вёсак. У 1909 г. ў вёсцы 10 двароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 50 двароў, 262 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Маркаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 10 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 85 двароў, 256 жыхароў.

**СКАВАРОШЧЫНА**, Скаварошына, Скавародшчызна – вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 10 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 92 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2010).

У 19 ст. засценак і вёска на р. Рудаўка, у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уваходзілі ў маёнтак Малінаўшчына. У 1860 г. вёска, 30 сял. душ, уласнасць памешчыкаў Свентаржыцкіх. У 1873 г. ў Боркаўшчынскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска, 7 двароў, 43 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1904 г. ў вёсцы 46 жыхароў, якія мелі 24 дзес. зямлі. Побач з

вёскай знаходзіўся засценак, 76 двароў, 27 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 23 двары, 119 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лебедзеўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 24 двары, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1941 г. спалілі 23 двары і загубілі 3 жыхароў. Пасля вайны вёска адбудавалася. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 23 двары, 69 жыхароў.

**СКАРЫНАВІЧЫ** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 31 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 109 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 11 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. 14 сял. душ. У 1870 г. ў Скавародскай сельскай грамадзе. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 13 двароў, 81 жыхар. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1950 г. арганізаваны калгас «Маладая гвардыя». У 2001 г. 5 гаспадарак, 13 жыхароў.

**СЛАБОДКА** — вёска ў Мясоцкім с/с, за 18 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 96 км ад Мінска, на р. Вілія (прыток р. Нёман). 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, 6 двароў, 28 жыхароў, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 9 двароў, 44 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Раеўшчынскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Вялікасельскім, з 27.3.1959 г. ў Мясоцкім сельсаветах, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл.

**СЛАБОДКА** — вёска ў Хажоўскім с/с, за 8 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 86 км ад Мінска. 68 гаспадарак, 183 жыхары (2010).

У 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1800 г. 21 двор, 103 жыхары, уласнасць В.Гацэвіча. У 1861 г. вёска ў складзе маёнтка Ізабеліна, 83 рэвізскія сял. душы, уласнасць памешчыка Наргелевіча. У 1897 г. 43 двары, 103 жыхары, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 282 жыхары, 551 дзес. зямлі, у Мойсецкай сельскай грамадзе. Непадалёку размяшчаліся 3 аднайменныя пасёлкі розных уладальнікаў. У 1909 г. ў вёсцы 20 двароў, 244 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 56 двароў, 283 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хажоўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 71 двор, 311 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да

пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 6 жыхароў, 1 вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. З 11.9.1959 г. ў Цюрлёўскім, з 10.6.1965 г. ў Хажоўскім сельсаветах. У 1969 г. 229 жыхароў, у калгасе імя Ф.Дзяржынскага. У 2002 г. 74 гаспадаркі, 164 жыхары. У 2011 г. ў вёсцы працаваў магазін.

**СОЎЛАВА** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 110 км ад Мінска. 28 гаспадарак, 50 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска вядома як цэнтр аднайменнага маёнтка ў Ашмянскім павеце Віленскай губ. У 1870 г. маёнтак належаў памешчыку Лакуцкаму. У 1872 г. ў вёсцы 45 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у Шыпуліцкай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска, 22 двары, 171 жыхар. У пач. 20 ст. вёска, 125 дзес. зямлі, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1909 г. ў вёсцы 13 двароў, 143 жыхары. Знаходзілася за 17 вёрст ад чыг. ст. Залессе. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, вёска, 26 двароў, 171 жыхар, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. ў вёсцы 135 жыхароў. У 2001 г. 33 гаспадаркі, 71 жыхар.

**СТАРЫНКІ** — вёска ў Аляхновіцкім с/с, за 20 км на ПдУ ад Маладзечна, 58 км ад Мінска, 2,5 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна. 26 гаспадарак, 68 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 9 двароў, 69 жыхароў, уласнасць памешчыка З.Глушынскага. У 2-й пал. 19 ст. цэнтр аднайменнага маёнтка ў Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1873 г. 5 рэвізскіх душ памешчыка Радзевіча і 14 рэвізскіх душ памешчыка Каралысовіча. У 1897 г. вёска (15 двароў, 74 жыхары) і аднайменны фальварак (1 двор, 8 жыхароў), у Краснасельскай вол. Вілейскага павета. У пач. 20 ст. вёска, 49 дзес. зямлі, ва Ушанскай сельскай грамадзе. У 1904 г. 88 жыхароў. Знаходзілася за 3 вярсты ад чыг. ст. Уша. Непадалёку ад вёскі размяшчаўся фальварак памешчыка Радзевіча, які меў тут 20 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 17 двароў, 110 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Ушанскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. З 16.10.1964 г. ў Аляхновіцкім с/с. У 2001 г. 34 гаспадаркі, 89 жыхароў.

**СУРЫНТЫ**, С у р ы м т ы — вёска ў Красненскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Маладзечна, 59 км ад Мінска, 2,5 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 17 гаспадарак, 25 жыхароў (2010).

У 18 ст. сяло, дзярж. уласнасць у Краснасельскіх вол. і старастве Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1789 г. 2 двары і карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска — казённая ўласнасць Вілейскага павета Мінскай, з 1843 г. Віленскай губерняў. У 1861 г. 11 рэвізскіх душ.

Вёска была дадзена ва ўладанне на 50 гадоў памешчыцы Буржынскай і яе сыну. Мелася заезная карчма. У 2-й пал. 19 ст. вёска і ваколіца ў Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. ў вёсцы 16 двароў, 89 жыхароў. Непадалёку ад вёскі знаходзілася ваколіца, 5 двароў, 35 жыхароў. У 1904 г. ў вёсцы 71 жыхар, 77 дзес. зямлі, у ваколіцы 35 жыхароў, 56 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 28 двароў, 147 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 2001 г. 21 гаспадарка, 41 жыхар.

**СУХАДОЛЬШЧЫНА** — вёска ў Красненскім с/с, за 15 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 63 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 7 жыхароў. (2010).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Свечкі, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Пасля адмены прыгону (1861) вёска, 22 рэвізскія душы, у складзе Уланаўшчынскай сельскай грамады. У 1897 г. ў вёсцы 8 двароў, 59 жыхароў. У 1904 г. 135 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 15 двароў, 100 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 49 двароў, 272 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 18 двароў, 99 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 25 двароў, 99 жыхароў. У 2001 г. 13 гаспадарак, 21 жыхар.

**СУХАПАРАЎШЧЫНА** — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 14 км на Пд ад Маладзечна, 63 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда, на ручаі Хахлоўка (прыток р. Бярэзіна, бас. р. Нёман). 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2010).

Вёска згадваецца ў 17 ст. як уласнасць Радзівілаў у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1792 г. вёска маёнтка Хоўхла. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. вёска ў Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1866 г. ў вёсцы 20 рэвізскіх душ мужчынскага полу, з якіх 19 належала памешчыцы Дружбіцкай. У 1897 г. вёска (8 двароў, 68 жыхароў, хлебазапасны магазін) і сядзіба (2 двары, 15 жыхароў). У 20 ст. вёска Сухапары (яна ж Сухапараўшчына) на рацэ без назвы, 111 дзес. зямлі, у Хоўхлаўскай сельскай грамадзе. У 1904 г. ў вёсцы 74 жыхары. Непадалёку ад вёскі знаходзілася сядзіба Дараховіча, які меў тут 24 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 20 двароў, 116 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопні-

камі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 20 гаспадарак, 30 жыхароў.

**СХОЛІНА**, Схоліны — вёска ў Палачанскім с/с, за 10,5 км на ПдЗ ад Маладзечна, 88,5 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда. 26 гаспадарак, 51 жыхар (2010).

За 1 км на ПнЗ ад вёскі, 0,3 км злева ад дарогі Мамоны—Літва, ва ўрочышчы Цагельня размешчаны курганны могільнік, захавалася 12 насыпаў дыяметрам 4—6 м, вышынёй 0,6—1 м (могільнік вядомы з канца 19 ст., раскопкі не праводзіліся). Археал. помнік сведчыць, што гэту мясцовасць людзі засялялі яшчэ ў старажытнасці. У канцы 18 ст. вёска ў Ашмянскім павеце, уваходзіла ў маёнтак Палачаны, пазней у маёнтак Яхімоўшчына. У 1861 г. ў вёсцы 24 рэвізскія душы, уласнасць Прашынскага. Меўся ветраны млын. У 1897 г. вёска Схолін, 30 двароў, 158 жыхароў, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёска, 150 дзес. зямлі, у Палачанскай сельскай грамадзе, знаходзілася за 12 вёрст ад чыг. ст. Пруды. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска, 34 двары, 164 жыхары, у Палачанскай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Палачанскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У 1939 г. ў вёску ссялены жыхары хутара Пропасць, 6 двароў, 15 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 47 гаспадарак, 83 жыхары. У 2011 г. ў вёсцы працаваў магазін.

**СЫСУНЫ** — вёска ў Аляхновіцкім с/с, за 17 км на ПдУ ад Маладзечна, 60 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 3 двары, 9 жыхароў, уласнасць памешчыка А.Галынскага. У 2-й пал. 19 ст. вёска маёнтка Пятроўшчызна ў Гарадоцкай вол. У 1857 г. ў вёсцы 12 сял. душ, уласнасць памешчыка Алендзіна. У 1897 г. вёска, 7 двароў, 43 жыхары. У пач. 20 ст. 68 дзес. зямлі, у Пятроўшчынскай сельскай грамадзе. У 1909 г. 4 двары, 80 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска, 13 двароў, 65 жыхароў, у Гарадоцкай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 75 жыхароў. У 2002 г. 7 гаспадарак, 7 жыхароў.

**СЫЧАВІЧЫ** — вёска ў Граніцкім с/с, за 31 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 47 км ад Мінска, на р. Рыбчанка (прыток р. Ілія). 53 гаспадаркі, 92 жыхары (2010).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяло ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1503 г. вял. кн. літ. Аляксандр падараваў некалькі сялян гэтага сяла Радашковіцкаму касцёлу. У 1755 г. ўласнасць мінскага ваяводы А.Тызенгаўза, затым — Тышкевічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1799 г 23 двары, 157 жыхароў. З 1843 г. ў Віленскай губ., дзярж. ўласнасць. У 1861 г. ў вёсцы 108 рэвізскіх душ. У 1873 г. вёска ў Путнікаўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска Сыцэвічы (яна ж Сычэвічы), 59 двароў, 386 жыхароў, хлебазапасны магазін,

млын, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1909 г. 26 двароў, 395 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. ў складзе Польшчы, у Радашковіцкай гміне Вілейскага, з 1927 г. Маладзечанскага паветаў Віленскага ваяв., 75 двароў, 443 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 93 двары, 509 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. акупанты сагналі ў хату П.М.Забаронка 86 жыхароў і спалілі іх, а таксама вёску, 16 вяскоўцаў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска аднавілася. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. 16.5.1968 г. да вёскі далучана в. Бор 1-ы (5 двароў, 15 жыхароў). У 1969 г. ў вёсцы 125 двароў, 417 жыхароў. 20.1.1973 г. сельсавет перайменаваны ў Граніцкі. У 2011 г. ў вёсцы размешчаны 4 магазіны, сярэдняя школа, аддз. сувязі, б-ка. У 1968 г. на магіле ахвяр фашызму, якіх загубілі ням.-фаш. карнікі, пастаўлены абеліск.

**СЯРЭБРАНКА** — былая вёска ў Радашковіцкім с/с, за 31 км на ПдУ ад Маладзечна, 42 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна.

У канцы 19 ст. ў Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. 1 двор, 4 жыхары. У 1904 г. пасёлак на р. Дакшнянка, 0,1 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. пасёлак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. засценак, 3 двары, 18 жыхароў, у Радашковіцкай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Валодзькаўскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. З 31.3.1976 г. ў Радашковіцкім с/с. У 2001 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў. У 2004 г. далучана да г.п. Радашковічы.

**ТАКАРЭЎШЧЫНА** — вёска ў Аляхновіцкім с/с, за 20 км на ПдУ ад Маладзечна, 58 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна. 21 гаспадарка, 42 жыхары (2010).

У 2-й пал. 18 ст. вядома як маёнтак у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1775 г. вёска, 6 двароў, 30 жыхароў, належала Шчагельскаму, затым Багдановічу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 5 двароў, 28 жыхароў, уласнасць памешчыка Агінскага. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Янава ў Красносельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1857 г. ў вёсцы 18 сял. душ, якія належалі памешчыцы Міхайлоўскай. У 1897 г. вёска (11 двароў, 69 жыхароў) і сядзіба (2 двары, 12 жыхароў) у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета. У пач. 20 ст. вёска, 125 дзес. зямлі, у Пятроўшчынскай сельскай грамадзе. У 1904 г. ў вёсцы 79 жыхароў. Знаходзілася за 7 вёрст ад чыг. ст. Аляхновічы. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска, 16 двароў, 111 жыхароў, у Гарадоцкай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш.

захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1974 г. вёска аб'ядналася з в. Кукелі (21 двор, 81 жыхар). У 2001 г. 43 гаспадаркі, 82 жыхары.

**ТАЛУІ** — вёска ў Маркаўскім с/с, за 18 км на З ад Маладзечна, 96 км ад Мінска, за 7,5 км ад чыг. ст. Пруды на лініі Вільнюс—Маладзечна. 21 гаспадарка, 32 жыхары (2010).

У 18 ст. вёска ў казённым маёнтку Маркава. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У пач. 19 ст. вёска і фальварак, казённая ўласнасць. У 1801 г. вёска (45 сял. душ) і фальварак аддадзены ў арэнду генерал-маёру Слізаву. У 2-й пал. 19 ст. ў Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., у складзе дзярж. маёнтка Маркава. У 1861 г. ў вёсцы 21 рэвізская душа. У 1873 г. ў Баркоўшчынскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска, 17 двароў, 124 жыхары. У пач. 20 ст. вёска, 104 жыхары, 108 дзес. зямлі, знаходзілася за 13 вёрст ад чыг. ст. Залессе. У 1909 г. 6 двароў, 134 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска, 24 двары, 149 жыхароў, у Беніцкай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Маркаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 43 двары, 133 жыхары.

**ТАТАРШЧЫНА** — вёска ў Красненскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Маладзечна, 62 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2010).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе казённага аднайменнага маёнтка, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Пасля адмены прыгону (1861) вёска ў складзе Краснасельскай сельскай грамады. У 1897 г. ў вёсцы 14 двароў, 85 жыхароў. Непадалёку размяшчалася сядзіба, 1 двор, 16 жыхароў. У пач. 20 ст. вяскоўцам належала 129 дзес. зямлі. Побач з вёскай размяшчаўся маёнтак памешчыка Месняра, які ў 1904 г. меў тут 499 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., вёска (31 двор, 187 жыхароў), фальварак (2 двары, 11 жыхароў), з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў вёсцы 19 двароў, 291 жыхар, у засценку 1 двор, 5 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 13 двароў, 62 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 жыхароў, 2 вывезлі ў Германію на прымусовыя работы (1 вярнуўся). 2 вяскоўцы загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 2001 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў.

**ТАТАРШЧЫНА**, Т а т а р ш ч ы з н а — вёска ў Мясоцкім с/с, за 7 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 71 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 40 жыхароў (2010).

У канцы 19 ст. вёска ў Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Красненскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г.

ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. вёска (19 двароў, 91 жыхар), фальварак (2 двары, 2 жыхары) і засценак (1 двор, 5 жыхароў). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мясоцкім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 15 гаспадарак, 47 жыхароў.

**ТРАПАЛАВА** – вёска ў Маркаўскім с/с, за 26 км на З ад Маладзечна, 103 км ад Мінска, 8,5 км ад чыг. ст. Пруды на лініі Вільнюс–Маладзечна, на р. Гадзея (прыток р. Уша). 45 гаспадарак, 95 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска – цэнтр аднайменнага маёнтка ў Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., уласнасць 2 памешчыкаў – Рдултоўскага і Яновіча. У 1873 г. 19 рэвізскіх душ належалі Рдултоўскаму і 7 – Яновічу. У 1897 г. ў вёсцы 10 двароў, 73 жыхары. Меўся хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 2 вёскі на р. Трапалаўка, у Рэдзькаўскай сельскай грамадзе. У 1904 г. ў 2 вёсках 88 жыхароў, 46 дзес. зямлі. Непадалёку размяшчаўся маёнтак памешчыка Асіповіча, які меў тут 267 дзес. зямлі. Побач размяшчаліся 2 фальваркі і сядзіба Акулічаў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. У 1938 г. ў вёсцы 19 двароў, 95 жыхароў, у калоніі 4 двары, 29 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Беніцкім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 11.9.1959 г. ў Маркаўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 50 двароў, 197 жыхароў.

**ТРЭСКІ** – вёска ў Маркаўскім с/с, за 29 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 107 км ад Мінска. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў маёнтку Юзафполле, у Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1863 г. ў вёсцы 11 рэвізскіх сял. душ і 16 былых дваровых сялян маёнтка Юзафполле, уласнасць памешчыка Пабоеўскага. У 1873 г. вёска ў Юзафпольскай сельскай грамадзе. У 1897 г. засценак, 2 двары, 18 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 20 жыхароў, якія мелі 10 дзес. зямлі. У 1909 г. 1 двор, 22 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 8 двароў, 54 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Маркаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 22 двары, 77 жыхароў.

**ТУРЭЦ-БАЯРЫ** – вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 10,5 км на ПнЗ ад Маладзечна, 90 км ад Мінска, 0,7 км ад чыг. ст. Пруды на лініі Вільнюс–Маладзечна, на р. Тур'я (прыток р. Уша). 596 гаспадарак, 1582 жыхары (2010).

У 19 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 14 двароў, 127 жыхароў, уласнасць Агінскага і Коцела. У 1897 г. 16 двароў, 102 жыхары. У 1905 г. вёска, 4 двары, 113 жыхароў, 56,24 дзес. зямлі ў Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. вёска Баяры Турэц-

кія (18 двароў, 100 жыхароў) у складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. У 1938 г. 22 двары, 111 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лебедзеўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 95 двароў, 405 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 25 двароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. ў вёску перасялены жыхары в. Васюкоўшчына (5 двароў, 15 жыхароў); у складзе калгаса «Светлы шлях». У 2002 г. 613 гаспадарак, 1740 жыхароў.

**ТУЧЫНА** – вёска ў Гарадоцкім с/с, за 29 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 49 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 16 жыхароў (2010).

У 1499 г. фальварак у складзе маёнтка Хоўхлава, у Мінскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1536 г. дварэц Тучынскі адносіўся да двара Хоўхлава, уладанне Радзівілаў. У 1646 г. 18 дымоў, 15 валок зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 25 двароў, 125 жыхароў, уласнасць І.Галімскага. У 19 ст. вёска ў Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у складзе маёнтка Пранчэйкава. У 1873 г. вёска, 30 жыхароў, належала Тышкевічу. Адносілася да Гарадоцкай сельскай грамады. У 1897 г. вёска (16 двароў, 129 жыхароў), пасёлак (1 двор, 6 жыхароў) і сядзіба (1 двор, 6 жыхароў). У пач. 20 ст. вёска, 159 дзес. зямлі. У 1909 г. 10 двароў, 110 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска (21 двор, 104 жыхары), у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. Непадалёку знаходзіўся фальварак (1 двор, 9 жыхароў). З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Гарадоцкім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 30 двароў, 123 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 12 двароў і загубілі 2 жыхароў, 4 вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 102 жыхары. У 2002 г. 18 гаспадарак, 28 жыхароў, магазін.

**УДРАНКА** – вёска ў Радашковіцкім с/с, за 34 км на ПдУ ад Маладзечна, 43 км ад Мінска, 12 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск–Маладзечна, на р. Удра (прыток р. Рыбчанка). 49 гаспадарак, 93 жыхары (2012).

За 0,1 км на ПдЗ ад вёскі, абапал дарогі ў г.п. Радашковічы, размешчаны курганны могільнік (96 насыпаў дыяметрам 3–16 м, вышынёй 0,5–2,3 м) – археал. помнік, які сведчыць аб засяленні гэтай мясцовасці людзьмі яшчэ



*Царква Святога Аляксандра Неўскага ў в. Турэц-Баяры.*

ў старажытнасці. З пісьмовых крыніц вёска вядома з канца 18 ст. У 1797 г. 5 душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыка Валадзьковіча. У 1873 г. засценак Удра, 2 жыхары, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1890 г. ваколіца на сплаўной р. Удранка, дзе размяшчалася аднайменная прыстань. У 1904 г. засценак і лясная старожка (9 жыхароў, якія мелі $1^1/_4$ дзес. зямлі). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1938 г. ў Радашковіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., лясная старожка, 1 двор, 5 жыхароў, смалярня, 1 двор, 4 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Валодзькаўскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 2001 г. 43 гаспадаркі, 119 жыхароў.

**УКРОПАВА** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 31 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 109 км ад Мінска. 26 гаспадарак, 59 жыхароў (2010).

У 1688 г. фальварак, вёска, 6 двароў, уласнасць панаВаліцкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска ў казённым маёнту Барздынь, у Ашмянскім павеце Віленскай губ. У 1897 г. ў вёсцы 7 двароў, 50 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 24 дзес. зямлі, у Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., у Літвянскай сельскай грамадзе. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 12 двароў, 62 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 133 жыхары.

**УЛАНАЎШЧЫНА** — вёска ў Красненскім с/с, за 12 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 66 км ад Мінска. 29 гаспадарак, 52 жыхары (2010).

З канца 18 ст. вёска вядома як прыватнае ўладанне ў Віленскім павеце Мінскай губ. Належала памешчыкам Базарэвічу і Яблонскаму. У 1800 г. ў вёсцы 8 двароў, 54 жыхары. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Воўкаўшчына, у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1861 г. 34 рэвізскія сял. душы, уласнасць памешчыка Юркевіча. У 1870 г. цэнтр Уланаўшчынскай сельскай грамады, у склад якой уваходзіла 20 населеных пунктаў. У 1897 г. ў вёсцы 23 двары, 142 жыхары. У пач. 20 ст. вёска, 241 дзес. зямлі. У 1904 г. 186 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 31 двор, 187 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Уланаўшчынскага с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. створаны калгас «Новы шлях». З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 57 двароў, 219 жыхароў, у складзе калгаса «Прагрэс».

У 2001 г. 47 гаспадарак, 95 жыхароў. У вёсцы размешчана школа.

**УША**, В у ш а — вёска ў Красненскім с/с, за 25 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 53 км ад Мінска, на р. Уша (прыток р. Вілія). 83 гаспадаркі, 174 жыхары (2010).

У 18 ст. вёска, шляхецкая ўласнасць у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1782 г. вёска, 11 двароў, 65 жыхароў, цэнтр аднайменнага маёнтка, уладанне З.Гужынскага. Меліся капліца, бровар. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 20 двароў, 208 жыхароў і 3 жыхары ваколічнай шляхты, уласнасць А.Свентаржыцкага, у Вілейскім павеце Мінскай губ. Дзейнічала драўляная Ільінская праваслаўная царква. У 1897 г. вёска (40 двароў, 248 жыхароў, царква), чыгуначная станцыя (3 двары, 54 жыхары, буфет), 3 маёнткі (126 жыхароў), фальварак (1 двор, 11 жыхароў), у Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. пачала дзейнічаць школа граматы. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., вёска (52 двары, 303 жыхары), чыгуначная станцыя (24 двары, 164 жыхары), фальваркі Уша 1-ы (1 двор, 13 жыхароў), Уша 2-і (1 двор, 9 жыхароў), Уша 3-і (2 двары, 19 жыхароў), Уша 4-ы (2 двары, 21 жыхар). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 2001 г. 122 гаспадаркі, 237 жыхароў.

**УША 2**, В у ш а 2, В у ш а — вёска ў Аляхновіцкім с/с, за 36 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 42 км ад Мінска, 1 км ад чыг. ст. Дубравы на лініі Мінск—Маладзечна, на р. Уша (прыток р. Вілія). 62 гаспадаркі, 105 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска вядома ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1754 г. сяло, 15 двароў, у складзе маёнтка Дубраў, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска (20 двароў, 84 жыхары), у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць тайнага саветніка Адама Хмары. У 1856 г. вёска, 53 душы мужчынскага полу, уласнасць прадвадзіцеля дваранства Мінскага павета Гілярыя Хмары. У 1897 г. вёска, 31 двор, 227 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскіх павета і губ. У 1909 г. 43 двары, 272 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска (55 двароў, 316 жыхароў), фальварак (4 двары, 33 жыхары) і казённая калонія (31 жыхар), у Радашковіцкай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Дубраўскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. З 27.10.1964 г. ў складзе Аляхновіцкага с/с. У 1987 г. 99 гаспадарак, 258 жыхароў, у саўгасе «Дубрава». У 2001 г. 77 гаспадарак, 151 жыхар.

**ХАЖОВА**, Х о ж а в а — вёска, цэнтр сельсавета, за 10 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 88 км ад Мінска, на аўтадарозе Маладзечна—Ракаў. 236 гаспадарак, 577 жыхароў (2010).

Вёска ўпамінаецца ў 15 ст. як сяло, вялікакняжацкае ўладанне ў ВКЛ. У 1434 г. вял. кн. літ. Жыгімонт «дае і дарue на вечныя часы сяло Хожава Су-

дзімонтавічу». У 1489 г. уладальнік Хожава канцлер літ. Алёхна Судзімонтавіч пабудаваў касцёл Святога Антонія Падуанскага. У 1543 г. віленскі епіскап Павел Гальшанскі пабудаваў на месцы былога новы касцёл. У 2-й пал. 16 ст. уладанне караля Жыгімонта Аўгуста, які ў 1544 г. сумесна са сваёй жонкай каралевай Бонай свае «дзедзізнае Хотава» аддаў у дзяржанне Віленскаму біскупу, пасля яго смерці перайшло да караля. У 1575 г. сяло (25 валок зямлі), цэнтр вол. Ашмянскага павета, шляхецкая ўласнасць, у склад якой уваходзілі двор і пушча. У 1593 г. уласнасць Мікалая Крыштафа Радзівіла, ваяводы троцкага. З 1600 г. дзейнічала царква Святога Юрыя. У 1622 г. настаяцель Лебедзеўскага касцёла пабудаваў новы касцёл, які быў разбураны ў час Паўночнай вайны 1700—21 гг. у 1709—10 гг. У 1676 г. уласнасць пана Мікалая Астроўскага. У 1733 г. ксёндз Вайноўскі пабудаваў драўляны касцёл (закрыты ў 1868 г.). У 1741 г. маёмасць паноў Кораневых. У 1773 г. мястэчка ў Ашмянскім павеце Мінскага ваяв., уласнасць пана Фадзея Агінскага, які пабудаваў на свае сродкі Георгіеўскую царкву. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Ашмянскім павеце. У 1800 г. мястэчка, 52 двары, 293 жыхары, ва ўладанні Храптовічаў, у Вілейскім павеце. У 1861 г. мястэчка, 4 двары, 74 жыхары, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Меўся касцёл, які ў 1868 г. асвяцілі ў праваслаўную Георгіеўскую царкву. У 1897 г. сяло, 6 двароў, 44 жыхары, царква, царк.-прыходскае вучылішча, штучная лаўка, кузня, карчма). За $^1/_4$ вярсты ад сяла размяшчалася аднайменная вёска, 78 двароў, 422 жыхары, хлебазапасны магазін, маёнтак Хелхоўскага, 936 жыхароў. У 1904 г. сяло, 44 жыхары, 90 дзес. зямлі, цэнтр сял. таварыства, у склад якога ўваходзіла некалькі вёсак. У вёсцы 493 жыхары, якім належала 773 дзес. зямлі. Маёнтак належаў памешчыку Хелхоўскаму, які меў тут 435 дзес. зямлі. У сяле размяшчалася казённая вінная лаўка. Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917 г., з лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана германскімі войскамі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. 5.2.1919 г. ў вёсцы адбыўся мітынг, на якім сяляне пастанавілі: «усімі сіламі падтрымліваць сав. ўладу і са зброяй у руках стаць на абарону Кастрычніка». З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., у вёсцы 96 двароў, 511 жыхароў, у фальварку 6 двароў, 58 жыхароў, з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 102 двары, 456 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія расстралялі 18 жыхароў, спалілі 4 двары. Загінула 74 землякі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., 11.9.1959 г. сельсавет скасаваны, тэрыторыя далучана да Цюрлёўскага с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 10.6.1965 г. цэнтр Хажоўскага с/с. У 2011 г. ў вёсцы размешчаны аддз. сувязі, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны ўчастак, 3 магазіны. У цэнтры вёскі ў 1977 г. ў памяць аб мітынгу сялян, што адбыўся 5.2.1919 г., устаноўлены гранітны валун, на якім змешчаны тэкст пастановы. У 1965 г. ў скверы на ўшанаванне памяці землякоў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены абеліск.

**ХАТУЦІЧЫ** — вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 100 км ад Мінска. 39 гаспадарак, 67 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў складзе казённага Моркавіцкага маёнтка, на р. Верценка, у Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1858 г. ў вёсцы 124 сял. душы. Меліся хлебазапасны магазін,

праваслаўная капліца. У 1897 г. вёска, 68 двароў, 447 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 450 дзес. зямлі, у Беніцкай сельскай грамадзе. У 1908 г. ў вёсцы 38 двароў, 484 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. ў вёсцы 58 двароў, 325 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Заскавіцкім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 5 двароў, 4 жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1954 г. ў вёску пераселены жыхары в. Купрыяніца (22 двары, 25 жыхароў). З 11.9.1959 г. ў Лебедзеўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1969 г. 88 двароў, 265 жыхароў.

**ХОЎХЛАВА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 14 км на Пд ад Маладзечна, 63 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна–Ліда. 172 гаспадаркі, 415 жыхароў (2010).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 15 ст. У 1437 г. тут быў засн. касцёл. У 1495 г. дадзены прывілей кн. Аляксандра князю Мікалаю Радзівілу на Хоўхлу. Радзівілы ўзбуйнілі маёнтак, скуплялі землі ў наваколлі, да двара Хоўхла кн. М.Радзівіл у 1526 г. купіў у кн. Васіля Іванавіча Саламарэцкага маёнтак Чэрнева. У 1536 г. двор Хоўхла. У 1581 г. мястэчка, цэнтр маёнтка Мінскага павета. У 1607 г. віцебскі ваявода Станіслаў Кішка пабудаваў тут праваслаўную драўляную царкву. (невял. храм, крыты саломай). У 1646 г. ўладанне Радзівілаў, значнае і шматлюднае мястэчка з некалькімі вуліцамі, якія сцякаліся да гандлёвай плошчы, цэнтр гандлёвай дзейнасці, тут размяшчаліся крамы і складскія пабудовы. У 18 ст. ўласнасць паноў Галынскіх, у 1780 г. дачка пана Галынскага выйшла замуж за Карніцкага, якому прынесла Хоўхлу ў пасаг. У Хоўхлаўскім засценку Востраў пабудаваны касцёл (да 1788 г.). У 1792 г. да Хоўхлы адносіліся сёлы: Вялікае Сяло, Задворцы, Пекары, Бярозавічы, Шарої, Чэхі, Сухапараўшчына. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. мястэчка, 19 двароў, 170 жыхароў, уладанне Ф.Галынскага. У 1842 г. на сродкі прыхаджан была па-

*Касцёл Дзевы Марыі ў в. Хоўхлава.*



*Інтэр'ер касцёла Дзевы Марыі ў в. Хоўхлава.*



будавана праваслаўная царква Раства Багародзіцы. У 1862 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1884 г навучаліся 43 хлопчыкі і 2 дзяўчынкі. У 1880 г. 6 двароў, 68 жыхароў, праваслаўная царква, капліца, заезная карчма, нар. вучылішча. У 1897 г. сяло, сядзіба (16 двароў, 101 жыхар, царква), маёнтак (2 двары, 34 жыхары, школа), сядзіба (11 двароў, 53 жыхары), карчма (1 двор, 1 жыхар), у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета. Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. сяло акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., вёска, 25 двароў, 118 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1941 г. расстралялі 5 сав. актывістаў. У баях за вызваленне вёскі ад гітлераўцаў у 1941 г. і ў ліп. 1944 г. загінула 11 воінаў і 4 партызаны. Усяго загінула 46 вяскоўцаў. 8 парт. і сав. работнікаў загінулі ў 1944—49 гг. у барацьбе супраць ворагаў сав. улады. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 155 гаспадарак, 405 жыхароў. У 2011 г. ў вёсцы размешчаны сярэдняя школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазіны. Касцёл Дзевы Марыі (2-я пал. 18 ст.). У 1976 г. на будынку школы ўсталявана мемарыяльная дошка на ўшанаванне памяці гуманіста, асветніка, філосафа, гісторыка, філолага і рэліг. рэфарматара С.Буднага, які ў сярэдзіне 1560-х гг. жыў у маёнтку магнатаў Кішкаў у Хоўхлаве. У цэнтры вёскі ў 1965 г. на ўшанаванне памяці землякоў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены помнік — скульптура воіна. У 1975 г. па вул. Цэнтральная на брацкай магіле сав. воінаў і партызан, што загінулі за вызваленне вёскі ад ням.-фаш. захопнікаў, пастаўлена стэла.

**ЦЕМЕНІЦА** — вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 95 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Пруды на лініі Вільнюс—Маладзечна. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

У 19 ст. засценак у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. 1 двор, 8 жыхароў. У 1904 г. засценак належаў Ваўчацкай. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе

*Капліца-пахавальня ў в. Хоўхлава.*



*Краявід у в. Хоўхлава.*



Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., у засценку 1 двор, 7 жыхароў. Непадалёку размяшчалася лясная старожка, 1 двор, 6 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Заскавіцкім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 18 двароў, 65 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 3 двары. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. ў вёсцы 7 двароў, 32 жыхары.

**ЦІВІДАЎКА** – вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 2 км на ПнЗ ад чыг. ст. Маладзечна, 74 км ад Мінска. 21 гаспадарка, 56 жыхароў (2012).

У 19 ст. засценак у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у складзе Маладзечанскага маёнтка. У 1868 г. засценак (4 жыхары) належаў графу Тышкевічу. У 1897 г. 3 двары, 26 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. засценак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, засценак (6 двароў, 29 жыхароў) у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. У 1937 г. вёска (7 двароў, 42 жыхары) у Маладзечанскай гміне Маладзечанскага павета. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2002 г. 18 гаспадарак, 40 жыхароў.

**ЦЮРЛІ** – вёска, цэнтр сельсавета, за 3 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 81 км ад Мінска, на аўтадарозе Маладзечна–Валожын. 332 гаспадаркі, 957 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце. У 1800 г. 9 двароў, 41 жыхар, уласнасць І.Ляговіча. Уваходзіла ў склад Галенаўскага маёнтка. У 1857 г. ў вёсцы 27 сял. душ. У 1860 г. уласнасць памешчыка Васілеўскага. Пасля адмены прыгону (1861) вёска ў Хажоўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска, 21 двор, 140 жыхароў, сядзіба, 1 двор, 3 жыхары. У пач. 20 ст. вёска, 187 дзес. зямлі, у Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 24 двары, 166 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 45 двароў, 218 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 27 двароў. 42 вяскоўцы загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. цэнтр сельсавета, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 2001 г. 266 гаспадарак, 793 жыхары. У 2011 г. ў вёсцы размешчаны школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Каля будынка канторы саўгаса на ўшанаванне памяці землякоў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены абеліск з барэльефнымі выявамі юнака і дзяўчыны.

**ЦЮРЛІ САКАЎСКІЯ** – вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 4 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 82 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 21 жыхар (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка І.Ляговіча. У 1800 г. 9 двароў, 41 жыхар. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Высокаўскім маёнтку, у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ.

У 1870 г. 25 рэвізскіх душ, якія належалі памешчыку Міхневічу. У 1897 г. 16 двароў, 99 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 96 дзес. зямлі, у Насілаўскай сельскай грамадзе. У 1909 г. 7 двароў, 102 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. У 1938 г. 22 двары, 146 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл.

**ЧАРТЫ** — вёска ў Чысцінскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Маладзечна, 56 км ад Мінска, 5,5 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 17 гаспадарак, 22 жыхары (2012).

Згадваецца ў 18 ст. як шляхецкая ўласнасць у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1784 г. ў вёсцы 9 двароў, 48 жыхароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 6 двароў, 39 жыхароў, уласнасць памешчыка І.Валадзьковіча. У 2-й пал. 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка ў Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Вёска належала памешчыкам Высоцкім. У 1861 г. 34 рэвізскія душы. У 1873 г. вёска ў Краснасельскай сельскай грамадзе. У 1897 г. 15 двароў, 109 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 113 дзес. зямлі, у Краснасельскай вол. У 1904 г. 129 жыхароў. Непадалёку ад вёскі знаходзіўся маёнтак памешчыка Высоцкага, які меў тут 240 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 27 двароў, 161 жыхар. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ва Уланаўшчынскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 18 двароў, 59 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары і загубілі 1 жыхара. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. быў арганізаваны калгас «Шлях Леніна». З 16.7.1954 г. ў Красненскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 39 двароў, 132 жыхары. З 24.12.1991 г. ў Чысцінскім с/с.

**ЧАРЧОНАВА** — вёска ў Мясоцкім с/с, за 18 км на Пн ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 96 км ад Мінска, на р. Цна (прыток р. Уша). 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2010).

Вядома з канца 19 ст. на р. Уша ў Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. лясная старожка, 1 двор, 5 жыхароў, належала Цывінскаму. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў складзе БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., фальварак, 3 двары, 25 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, у Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 305 жыхароў. У 2001 г. 3 гаспадаркі, 8 жыхароў.

**ЧАХІ**, Ч э х і — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 14 км на Пд ад Маладзечна, 63 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 18 ст. вёска ў складзе маёнтка Хоўхлы, у Мінскім ваяв. ВКЛ, уласнасць Галынскіх, з 1780 г. — Карніцкіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 3 двары, 18 жыхароў, уласнасць А.Галынскага. У 2-й пал. 19 ст. ў Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., вёска ў Сарочынскім маёнтку. У 1858 г. ў вёсцы 10 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка Багарэвіча. У 1897 г. вёска, 30 жыхароў, у 1909 г. 2 двары, 41 жыхар, сядзіба. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 8 двароў, 47 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, у Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары.

**ЧЫСЦЬ** — пасёлак, цэнтр сельсавета, за 19 км на ПдУ ад Маладзечна, 59 км ад Мінска, 4,5 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 2121 гаспадарка, 6029 жыхароў (2012).

Пасёлак узнік у сярэдзіне 1950-х гг. на месцы распрацоўкі радовішча торфу. У 1955 г. пабудавана торфапрадпрыемства «Чысць». У 1984 г. пачалося будаўніцтва буйнога домабудаўнічага камбіната. У 1987 г. першая яго чарга ўвайшла ў строй. З 24.12.1991 г. цэнтр Чысцінскага с/с, у склад якога таксама ўвайшлі 2 вёскі: Асавец і Чарты. У 1990-я гг. тут пабудаваны шэраг дамоў для перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны. У 1996 г. ўзведзена Мікалаеўская царква. У пасёлку размешчаны ААТ «Забудова», школы сярэдняя і мастацтваў, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, 2 дзіцячыя сады, бальніца, аптэка, 2 кафэ, рэстаран, банк, комлексна-прыёмны пункт, швейнае прадпрыемства «Ачоса», прадпрыемствы будаўнічай прам-сці.

**ЧЭРНЕВА**, Чэрнеў — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 20 км на Пд ад Маладзечна, 58 км ад Мінска,16 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда, на р. Яршоўка (прыток р. Іслач). 1 гаспадарка (2010).

У 16 ст. вядома як маёнтак кн. Васіля Іванавіча Саламарэцкага, які прадаў яго ў 1526 г. кн. Міхалу Радзівілу. У 1536 г. дварэц Чэрнеўскі адносіўся да

*У цэнтры пас. Чысць.*



двара Хоўхла. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. маёнтак, у склад якога ўваходзіла 8 вёсак, 286 прыгонных сялян, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1870 г. маёнтак належаў памешчыцы Язвінскай. У 1897 г. маёнтак (20 жыхароў) княгіні Гедройц, капліца. У 1904 г. маёнтак памешчыка Гедройца, які меў тут 224 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскай гміне. У 1938 г. ў маёнтку 5 двароў, 45 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, у Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары.

**ЧЭРНЕЎШЧЫНА**, Чарнеўшчына, Чарнёўшчына — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 22 км на Пд ад Маладзечна, 64 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у складзе маёнтка Пранчэйкава, уласнасць графа Тышкевіча. У 1866 г. 20 жыхароў. У 1873 г. ў Гарадоцкай сельскай грамадзе. У 1904 г. ў вёсцы Чэрнішкі (або Чарнеўшчына) 100 жыхароў, якія мелі 111 дзес. зямлі. У 1909 г. 6 двароў, 92 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 24 двары, 117 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Хоўхлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2002 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў.

**ШАЛУХІ** — вёска ў Радашковіцкім с/с, за 23 км на ПдУ ад Маладзечна, 45 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Радашковічы на лініі Мінск—Маладзечна. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Карсакавічы ў Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1858 г. ў вёсцы 19 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка Галеўскага, у 1873 г. ва Ушанскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска Шалуха, 7 двароў, 73 жыхары. У пач. 20 ст. 82 дзес. зямлі, у Краснасельскай вол. У 1904 г. ў вёсцы 64 жыхары, у 1909 г. 5 двароў, 64 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска, 13 двароў, 76 жыхароў, у Краснасельскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. З вер. 1939 г. ў БССР, у Валодзькаўскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 66 жыхароў. З 31.3.1976 г. ў Радашковіцкім с/с. У 2001 г. 8 гаспадарак, 14 жыхароў.

**ШАЛЫГІ** — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 16 км на Пд ад Маладзечна, 62 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда. 22 гаспадаркі, 31 жыхар (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 3 двары, 63 жыхары. У 1861 г. вёска ў складзе маёнтка Пранчэйкава ў Гарадоцкай вол.

Вілейскага павета Віленскай губ., 46 рэвізскіх душ, уласнасць графа Тышкевіча. У вёсцы размяшчаўся хлебазапасны магазін. У 1897 г. вёска, 16 двароў, 133 жыхары. У 1904 г. 147 жыхароў, якія мелі 132 дзес. зямлі, у Гарадоцкай сельскай грамадзе. Знаходзілася за 13 км ад чыг. ст. Аляхновічы. У 1909 г. ў вёсцы 12 двароў, 133 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 25 двароў, 154 жыхары. З 1939 г. ў БССР, у Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 28 гаспадарак, 49 жыхароў.

**ШАРАІ**, Ш ы р а і — вёска ў Хоўхлаўскім с/с, за 21 км на Пд ад Маладзечна, 57 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна–Ліда. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2010).

У пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1792 г. як вёска маёнтка Хоўхла ў Мінскім ваяв. ВКЛ, уласнасць паноў Карніцкіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1801 г. вёска, 28 прыгонных сялян, аддадзена ў арэнду лейб-медыку, тайнаму саветніку Рожарсану. У 2-й пал. 19 ст. засценак Шараі (ён жа Пекары) у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Уваходзіў у маёнтак Парадоўшчына, які належаў памешчыку Ігнацію Карніцкаму. У 1861 г. 5 рэвізскіх душ. У 1897 г. ў засценку 10 двароў, 63 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадоцкай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., у засценку 10 двароў, 44 жыхары. З 1939 г. ў БССР, у Маладзечанскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 9 гаспадарак, 13 жыхароў.

**ШНУРЫ** — вёска ў Цюрлёўскім с/с, за 2 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 87 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 27 жыхароў (2010).

Вёска вядома з 19 ст. як казённая ўласнасць у Вілейскім павеце. Уваходзіла ў склад Маладзечанскага маёнтка. У 1857 г. ў вёсцы 14 жыхароў. У 1897 г. 12 двароў, 81 жыхар. У пач. 20 ст. вёска ў Маладзечанскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 5 двароў, 87 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Маладзечанскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., вёска, 17 двароў, 101 жыхар. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Насілаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл., 22 двары, 114 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 12.6.1958 г. ў Цюрлёўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл.

**ШЫКАВА**, Ш ы к а ў — вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 98 км ад Мінска, на р. Уша (прыток р. Вілія). 9 гаспадарак, 19 жыхароў (2010).

У 19 ст. засценак у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. 7 двароў, 44 жыхары. У пач. 20 ст. 30 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі

кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 13 двароў, 24 жыхары, у 1938 г. 18 двароў, 89 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лебедзеўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 19 двароў, 76 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску (19 двароў) і загубілі 5 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 22 двары, 70 жыхароў.

**ШЫПУЛІЧЫ** — вёска ў Гарадзілаўскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 110 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда. 39 гаспадарак, 73 жыхары (2010).

За 0,3 км на З ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Ганькавічы, размешчаны курганны могільнік — 3 насыпы вышынёй 0,5—0,7 м, дыяметрам 3—5 м. Археал. помнік сведчыць аб засяленні гэтай мясцовасці людзьмі яшчэ ў старажытнасці. У 19 ст. вёска ў Палачанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., уласнасць памешчыка Іосіфа Пуцяты. У 1870 г. ў вёсцы 61 рэвізская душа. Цэнтр сельскай грамады, у якую ўваходзіла 16 вёсак. У 1897 г. вёска, 26 двароў, 191 жыхар. У пач. 20 ст. вёска, 179 дзес. зямлі. У 1909 г. 19 двароў, 235 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. ў складзе Польшчы, у Палачанскай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 41 двор, 293 жыхары. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Соўлаўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. ў вёсцы 44 двары, 180 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі амаль усю вёску (40 двароў), 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пекароўскім, з 11.9.1959 г. ў Гарадзілаўскім сельсаветах. У 1969 г. 238 жыхароў. У 2002 г. 48 гаспадарак, 110 жыхароў. У вёсцы размешчаны магазін, клуб.

**ШЭМЕТАЎШЧЫНА**, Шамятоўшчына — вёска ў Радашковіцкім с/с, за 38 км на ПдУ ад Маладзечна, 40 км ад Мінска, 3 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна. 12 гаспадарак, 20 жыхароў (2010).

У 1770 г. вёска, 7 двароў, 16 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Свентаржэцкага, у 1777 г. вёска, 8 двароў, уласнасць пана М.Валадзьковіча ў Мінскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 16 двароў, 41 жыхар, уласнасць В.Валадзьковіча. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1858 г. 28 сял. душ. У 1897 г. 11 двароў, 74 жыхары. У пач. 20 ст. вёска, 115 дзес. зямлі, у Путнікаўскай сельскай грамадзе. У 1904 г. 52 жыхары, у 1909 г. 5 двароў, 104 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Радашковіцкай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв., 16 двароў, 104 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Валодзькаўскім с/с Радашковіцкага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г.

ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. З 31.3.1976 г. ў Радашковіцкім с/с. У 2001 г. 19 гаспадарак, 30 жыхароў.

**ЮХАВІЧЫ**, Юховічы, Кузюткі, — вёска ў Маркаўскім с/с, за 16 км на З ад Маладзечна, 94 км ад Мінска, 6,5 км ад чыг. ст. Пруды на лініі Вільнюс—Маладзечна. 19 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

Вёска вядома з 16 ст. як сяло ў ВКЛ. У 1536 г. дзярж. ўласнасць у каралеўскай Маркавіцкай вол., адносілася да двара Маркавічы. У 1558 г. сяло, уласнасць казны, у складзе Маркаўскага двара. У 1656 г. уласнасць пана Корсака. У 18 ст. дзярж. ўласнасць у Маркаўскім старастве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 20 двароў, 130 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1801 г. падаравана ген.-маёру Берхману. У 1897 г. 10 двароў, 10 жыхароў, у Лебедзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У пач. 20 ст. вёска, 64 дзес. зямлі, 54 жыхары, у Скавародкаўскай сельскай грамадзе. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лебедзеўскай гміне Вілейскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., 19 двароў, 109 жыхароў. З 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Маркаўскім с/с Маладзечанскага р-на Вілейскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў 1941 г. 28 двароў, 140 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 3 двары. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 29 гаспадарак, 43 жыхары.

Краявід каля в. Яхімоўшчына.



**ЯКАВІЧЫ** — вёска ў Лебедзеўскім с/с, за 17 км на З ад горада і чыг. ст. Маладзечна, 99 км ад Мінска. 42 гаспадаркі, 74 жыхары (2012).

У 19 ст. вёска ў складзе Беніцкага маёнтка, у Беніцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., уласнасць памешчыка Швыкоўскага. У 1870 г. вёска, 109 рэвізскіх душ, у Беніцкай сельскай грамадзе. У вёсцы размяшчаўся хлебазапасны магазін. У 1897 г. 63 двары, 400 жыхароў. Знаходзілася за 9 вёрст ад чыг. ст. Залессе. У 1904 г. 439 жыхароў, якім належала 463 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1920 г. ў Сярэдняй Літве. З 1922 г. вёска ў складзе Польшчы, у Беніцкай гміне Ашмянскага павета, з 1925 г. Віленскага ваяв., з 1927 г. ў Маладзечанскім павеце. У 1938 г. 89 двароў, 492 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лебедзеўскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 2001 г. 66 гаспадарак, 121 жыхар.

**ЯХІМОЎШЧЫНА** — вёска ў Палачанскім с/с, за 11 км на ПдЗ ад Маладзечна, 89 км ад Мінска, 2 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда. 158 гаспадарак, 437 жыхароў (2010).

За 0,7 км на Пн ад вёскі размешчаны курганны могільнік, захавалася 7



*Сядзібны дом у в. Яхімоўшчына.*

насыпаў. Археал. помнік сведчыць, што гэта мясцовасць была заселена людзьмі яшчэ ў старажытнасці. Вёска вядома ў 19 ст. як маёнтак, у склад якога ўваходзіла 4 вёскі і засценак, у Ашмянскім павеце Віленскай губ. У 1898 г. ў маёнтку пабудаваны бровар. У 1904 г. уласнасць памешчыка Любанскага, які меў тут 833 дзес. зямлі. У 1906—07 гг. у маёнтку працаваў на бровары памочнікам вінакура Я.Купала. Паэт адзначаў, што ў час працы на бровары «зазнаў там такога пекла, якога яшчэ не меў». З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у фальварку 5 двароў, 131 жыхар. У 1938 г. маёнтак у Палачанскай гміне Маладзечанскага павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Палачанскім с/с Маладзечанскага раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1949 г. на базе маёнтка быў створаны саўгас «Яхімоўшчына». У 2001 г. 160 гаспадарак, 467 жыхароў. У 2011 г. ў вёсцы размешчаны школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, магазін, музей. У 1959 г. на будынку канторы саўгаса «Яхімоўшчына» ўстаноўлена мемарыяльная дошка Янку Купалу, які ў 1906—07 гг. працаваў на бровары. У 1982 г. на хаце, у якой ён тады жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка. У цэнтры вёскі размешчаны арх. комплекс — сядзіба, сфарміраваная ў 1925 г., помнік эклектычнай архітэктуры і садова-паркавага мастацтва.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 5, спр. 6753, арк. 43.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. КМФ-5, воп. 1 спр. 2024; ф. 30, воп. 9, спр. 2378, арк. 40; ф. 96, воп. 1, спр. 29, 215; ф. 333, воп. 2, спр. 2139, воп. 4, спр. 689; ф. 694, воп. 4, спр. 5696, воп. 7, спр. 934, 1016; ф. 1727, воп. 1, спр. 14; ф. 1731, воп. 1, спр. 3; ф. 1776, воп. 1, спр. 13; ф. 1816, воп. 1, спр. 9.
Дзяржаўны гістарычны архіў Расійскай Федарацыі, ф. 1350, воп. 312, спр. 89; ф. 1290, воп. 11, спр. 151, 186, 228, 484, 485, 536, 853, 855, 861, 864, 1037.
Городские поселения Российской империи. Т. 3. Санкт-Петербург, 1863.
АВАК. Вильна, 1870; т. 2.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Санкт-Петербург, 1886.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. М., 1893.
Документы Московского архива. Т. 1. М., 1897.
Гашкевич И.И. Виленская губерния. Полный список населенных мест со статистическими данными о каждом поселении. Вильна, 1905.
Документы и материалы по истории Белоруссии (1795–1917). Т. 3. Минск, 1953.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. Минск, 1960.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861 гг.). Минск, 1966.
Віталёва В.В. З гісторыі населеных пунктаў // Памяць: Маладзечанскі раён. Мінск, 2002.
Кулагін А.М. Праваслаўныя храмы Беларусі. Мінск, 2007.



# МІНСКІ РАЁН

Утвораны 29.6.1934 г. як Прыгарадны раён. 26.6.1935 г. перайменаваны ў Мінскі раён. З 26.6.1938 г. ў Мінскай вобл. Размешчаны ў цэнтры Мінскай вобл., у сучасных межах з 2003 г. Пл. раёна 1,94 тыс. км$^2$. Насельніцтва 164 тыс. чал. (2010). Цэнтр — г. Мінск. У раён уваходзяць 362 населеныя пукты, у т.л. г. Заслаўе. Адміністрацыйна падзяляецца на г. Заслаўе, Мачулішчанскі пас. савет і 18 сельсаветаў: Астрашыцкагарадоцкі, Бараўлянскі, Гаранскі, Ждановіцкі, Калодзішчанскі, Крупіцкі, Лашанскі, Лугаваслабодскі, Міханавіцкі, Навадворскі, Папярнянскі, Пятрышкаўскі, Рагаўскі, Самахвалавіцкі, Сеніцкі, Хацежынскі, Шчомысліцкі, Юзуфоўскі.

Праз тэр. раёна праходзяць чыгункі: Мінск—Віцебск, Мінск—Брэст, Мінск—Магілёў, Мінск—Гродна. Аўтамабільныя дарогі: Мінск—Брэст, Мінск—Гродна, Мінск—Нарач, Мінск—Віцебск, Мінск—Гомель, Мінск—Мікашэвічы. Іх злучае Мінская кальцавая дарога працягласцю 56 км. Большая частка тэр. раёна размешчана ў межах Мінскага ўзвышша, паўд.-ўсх. — на Цэнтральнабярэзінскай раўніне. Пераважаюць вышыні 180—250 м, найвышэйшы пункт — 342 м (Лысая гора) у Юзуфоўскім с/с, мінімальная вышыня 175 м (урэз р. Пціч). Па тэр. раёна працякаюць рэкі: Свіслач (з прытокамі Вяча, Чарняўка, Волма і інш.), Пціч, Усяжа. Вадасховішчы: Заслаўскае (Мінскае мора), Воўчкавічы, Вяча, Дразды, Крылова, Крыніца, Цнянскае.

Сярэдняя тэмпературы студз. -6,9 °С, ліп. 18 °С. Ападкаў 698 мм у год. Вегетацыйны перыяд 186 сут.



*Рака Свіслач у час паводкі.*

З карысных выкапняў ёсць: радовішчы цаглянай і аглапарытнай сыравіны, пясчана-гравійных матэрыялаў і



*Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі.*



Будынак Мінскага раённага ліцэя.



У бібліятэцы Мінскага раённага цэнтра культуры.

будаўнічага пяску. Дзейнічаюць свідравіны мінеральнай вады на тэр. санаторыя «Крыніца». Глебы с.-г. угоддзяў дзярнова-падзолістыя (69,3%), дзярнова-падзолістыя забалочаныя (19,3%), тарфяна-балотныя (7,8%), дзярнова-забалочаныя (1,8%) алювіяльныя забалочаныя (1,8%). Лясы (31%) пераважна яловыя, сасновыя, бярозавыя. Пад балотамі 2,4% тэр. раёна; велізарны масіў — Валмянскае балота. Заказнікі рэсп. значэння: ландшафтныя — Купалаўскі, Прылепскі, Прылуцкі, Траскоўшчынскі; біялагічныя — Глебкаўка, Кайкоўскі, Лебядзіны, Падсады, Юхнаўскі. Помнікі прыроды рэсп. значэння: батанічныя — Шчомысліцкая дуброва, ельнік Раднікі (Старасельскае лесніцтва); геалагічныя — агаленне азёрна-балотных адкладаў Заслаўе; гідралагічны — Святыя крыніцы (Красасельскае лясніцтва).

Пл. сельгасугоддзяў складае 106 тыс. га. Сельская гаспадарка спецыялізуецца на малочна-мясной жывёлагадоўлі і птушкагадоўлі. Вырошчваюцца збожжавыя і кармавыя культуры, бульба. У аграпрамысловы комплекс уваходзяць 23 с.-г. арганізацыі, з якіх 3 с.-г. кааператывы, 5 акцыянерных т-ваў, Рэсп. цэнтр алімпійскай падрыхтоўкі коннага спорту і конегадоўлі, 8 унітарных прадпрыемстваў, у т.л. 2 птушкафабрыкі яечнага кірунку і племптушкарэпрадуктар, РУП «Племптушказавод «Беларускі», Рэсп. ўнітарнае эксперыментальна-доследнае с.-г. прадпрыемства «Усход», 4 філіялы і адно т-ва з абмежаванай адказнасцю. На тэр. раёна працуюць 18 прам. прадпрыемстваў, у т.л. ААТ «Мінскае вытворчае гарбарнае аб'яднанне», з-ды другаснай апрацоўкі чорных і каляровых металаў у в. Гатава і інш. Раён з'яўляецца буйным навук.



На тэрыторыі гісторыка-мемарыяльнага комплексу «Лінія Сталіна».



Аздараўленчы цэнтр «Світанак» на беразе вадасховішча Драздвы.



і навуч. цэнтрам: працуюць БелНДІ бульбаводства, БелНДІ аховы раслін, НДІ агароднінаводства, НДІ пладаводства, БелНДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі, БелНДІ пералівання крыві, БелНДІ эксперыментальнай ветэрынарыі імя Вышалескага і інш.

Дзейнічаюць агульнаадукац. ўстановы: 29 сярэдніх школ, ліцэй, 2 гімназіі, 3 базавыя, 2 пач. школы, 9 устаноў школа—сад, вячэрняя школа. 42 дашкольныя ўстановы, 2 спец. ўстановы, цэнтры дзіцячай творчасці, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, «Дзіцячая вёска», 2 дзіцячыя дамы сямейнага тыпу і інш. Дзейнічаюць раённы цэнтр культуры,12 цэнтраў культуры і вольнага часу, 20 дамоў культуры, 4 клубы-бібліятэкі, гісторыка-культ. музей-запаведнік «Заслаўе».

Медыцынскую дапамогу насельніцтву аказваюць цэнтр. раённая бальніца на 235 ложкаў і 2-я раённая бальніца ў в. Атоліна на 255 коек, 5 участковых бальніц, 3 паліклінікі, 25 сельскіх урачэбных амбулаторый, 9 фельч.-акушэрскіх пунктаў. На тэр. раёна размешчаны Мінская абл. бальніца, рэсп. шпіталь інвалідаў вайны, абл. процітуберкулёзны дыспансер, рэсп. псіхіятрычная бальніца, рэсп. інтэрнат ветэранаў вайны і працы, санаторыі «Крыніца», «Беларусь» і інш.

На тэр. раёна размешчаны зоны адпачынку мясц. значэння: Мінскае мора, Зялёны Гай, Пціч, Стайкі, Раўбічы, Чараўніца, Вяча, Вясёлка, Удра-Рыбчанка, Вязынка, Мядовыя Росы і інш.

Налічваецца 169 помнікаў гісторыі і культуры. Выдаецца раённая газ. «Прысталіца». Захаваліся помнікі археалогіі: селішча (Дворыцкая Слабада), гарадзішчы (Банцараўшчына, Гарадзішча, Збаровічы, Лабеншчына), курганныя могільнікі (Анусіна, Бузы, Нялідавічы, Скорнічы). Помнікі архітэктуры і садова-паркавага мастацтва: Спаса-Праабражэнская царква (16—17 ст.) і фарны касцёл (1774) у г Заслаўе, царква Раства Багародзіцы (1863—65), палацава-паркавы ансамбль (2-я пал. 18 ст.) у в. Прылукі, сядзіба (2-я пал. 18 ст.) у в. Сёмкава, сядзіба (2-я пал. 18 — 1-я пал. 19 ст.) у в. Анопаль, касцёл Св. Матвея (1858—62) у в. Раўбічы, Свята-Петра-Паўлаўская царква (1865) у в. Сеніца, царква і капліца (19 ст.) у в. Астрашыцкі Гарадок, Троіцкі касцёл (2-я пал. 19 ст.) у в. Сёмкаў Гарадок. Помнікі ахвярам фашызму ў в. Вял. Трасцянец, мемарыяльны комплекс 17 Героям Сав. Саюза — ваеннаслужачым авіячасці ў г.п. Мачулішчы і інш.

Фрагмент экспазіцыі баявой тэхнікі гісторыка-мемарыяльнага комплексу «Лінія Сталіна».



Герб Мінскага раёна.

У раёне нарадзіліся Героі Сав. Саюза: І.А.Бельскі, В.М.Гінтаўт, С.Дз.Карыцкі, В.П.Карповіч, І.В.Матрунчык, А.С.Хмялеўскі, К.А.Шабан, поўны кавалер ордэна Славы М.Г.Ціхановіч. Міншчына — радзіма філосафа, пісьменніка і перакладчыка І.Я.Быкоўскага



На Мінскім моры.

(1750–1819), бел. пісьменнікаў Я.Пушчы (1902–64), Х.Шынклера (1903–42), І.Грамовіча (1918–86), мастака З.Паўлоўскага (1917–77).

**АБРЫЦКАЯ СЛАБАДА** – вёска ў Юзуфоўскім с/с, за 19 км на Пн ад Мінска. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 1858 г. вёска, 4 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. ў засценку 8 двароў, 55 жыхары, у Беларуцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1917 г. 7 двароў, 40 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак у Шапялёўскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.10.1924 г. ў Лысагорскім, з 21.8.1925 г. зноў у Шапялёўскім с/с. У 1926 г. ў засценку 13 двароў, 58 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Заслаўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. ў Гатовінскім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 2 жыхары. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Юзуфоўскім с/с. У 1997 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе саўгаса «Буцэвічы» (цэнтр – в. Юзуфова).

**АБЧАК**, А п ч а к – вёска у Лугаваслабодскім с/с, за 10,5 км на ПдУ ад Мінска. 123 гаспадаркі, 320 жыхароў (2010).

У 1677 г. вёска маёнтка Лошыца, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. сяло, 34 двары, 263 жыхары, драўляная ўніяцкая царква Мікалая Чудатворца, уласнасць падкаморыя Р.Прушынскага. У 1858 г. ўласнасць К.Пелікшы. У 1884 г. адкрыта царк.-прыходская школа, у 1890 г. вучыўся 21 хлопчык. У 1892 г. пачаў працаваць крухмальны з-д (уладальнік А.Іскрыцкі). У 1897 г. вёска (77 двароў, 428 жыхароў, хлебазапасны магазін) і маёнтак (68 двароў, крухмальны з-д, млын, смалярня) у Сеніцкай вол. Мінскага павета. У 1909 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. ў вёсцы 90 двароў, 591 жыхар, у маёнтку 62 жыхары, на млыне 1 двор, 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. створаны саўгас «Серп і молат». З 20.8.1924 г. вёска – цэнтр сельсавета Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1924 г. адкрыта пач. школа, 100 вучняў. З 1926 г. ў Лугаваслабодскім с/с, з 8.7.1931 г. ў Пухавіцкім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 12 двароў, 64 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты спалілі 31 двор, знішчылі 10 жыхароў і вывезлі 16 на прымусовую працу ў Германію. У баях за вызваленне вёскі загінулі 307 сав. воінаў. 23.7.1984 г. з вёскай з'яднаўся пас. Абчак. З 8.6.1981 г. вёска ў Лугаваслабодскім с/с, у складзе саўгаса Мінскага цяплічнага камбіната (цэнтр – в. Замасточча). У 1957 г. пастаўлены абеліск на магіле сав. воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**АГАРКІ** – вёска ў Рагаўскім с/с, за 20,2 км на ПнЗ ад Мінска. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

У 1677 г. вёска маёнтка Гуя, 7 дымоў, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 18 двароў, 135 жыхароў, уласнасць І.Валадковіча. У 1-й пал. 19 ст. вёска маёнтка Іоганзберг, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 73 жыхары мужчынскага полу, уласнасць Сніткі. У 1870 г. цэнтр Агаркаўскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска (32 двары, 211 жыхароў) і пусташ (3 двары, 16 жыхароў), у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. У 1898 адкрыта школа граматы. У 1907 г. 20 двароў, 272 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кай-

зераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 50 двароў, 337 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім, з 13.6.1929 г. ў Рагаўскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 55 двароў, 299 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 42 двары, 56 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты спалілі 30 двароў, знішчылі 25 жыхароў і вывезлі 2 на прымусовую працу у Германію, у баях загінулі 14 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1987 г. ў саўгасе «Рагаўскі» (цэнтр — в. Новы Двор). У 1997 г. 15 гаспадарак, 29 жыхароў. Каля вёскі брацкая магіла ахвяр фашызму.

**АЖЫКІ** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 30,7 км на ПнЗ ад Мінска. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2010 г.).

У 1858 г. вёска маёнтка Доўбарава, 10 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Гербераўскага, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. У 1897 г. 6 двароў, 47 жыхароў. У 1907 г. 3 двары, 30 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 6 двароў, 34 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 7 двароў, 33 жыхары, на хутары двор, 4 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 15 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с, у 1987 г. ў саўгасе «Савецкі» (цэнтр — в. Шаршуны). У 1997 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў.

**АЗЯРЦО** — вёска ў Шчомысліцкім с/с, за 4 км на ПдЗ ад Мінска. 389 двароў, 1320 жыхароў (2010).

У 1710 г. вёска маёнтка Новы Двор, уласнасць С.Багушэвіча, у Мінскім павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 9 двароў, 79 жыхароў, уласнасць Ф.Валадковіча. У 1815 г. вёска, 43 душы мужчынскага полу, уласнасць А.Акуліча. У 1885 г. вёска і карчма ў Старасельскай вол. Мінскіх павета і губ. У 1897 г. 22 двары, 143 жыхары. У 1917 г. 18 двароў, 129 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Падгайскім, з 1927 г. ў Прылуцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 1931 г. ў Падгайскім с/с. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. ў Прылуцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пры вызваленні вёскі ў ліп. 1944 г. загінулі 64 сав. воіны, сярод іх воіны 26-й гв. танкавай дывізіі. З 16.7.1954 г. ў Шчомысліцкім с/с. У 1987 г. цэнтр калгаса імя Калініна. У 1997 г. 353 гаспадаркі, 1074 жыхары. Зараз вёска — цэнтр унітарнага с.-г. прадпрыемства «Агракамбінат Ждановічы» Размешчаны магазіны, урачэбная амбулаторыя, аддз. сувязі, сярэдняя школа. Абеліскі на магіле сав. воінаў 26-й гв. танкавай дывізіі (1948), партызана І.І.Пупко (1984).

**АКСАКАЎШЧЫНА** — вёска ў Гаранскім с/с, за 21 км на З ад Мінска. 327 гаспадарак, 870 жыхароў (2010).

У 1779 г. сяло, 23 двары, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1794 г. 24 двары, 99 жыхароў, фальварак, карчма, уласнасць М.Агінскага. У 1800 г. вёска на левым беразе р. Іслач, 20 двароў, 133 жыхары, уласнасць падпаручніка Т.Свентаржыцкага, у Мінскіх павеце і губ. У 1880 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 11 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі. У 1897 г. 42 двары, 311 жыхары, хлебазапасны мага-

зін, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1912 г. школа граматы ператворана ў 1-класнае нар. вучылішча. У 1917 г. 60 двароў, 449 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Траскоўшчынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1991 г. ў саўгасе імя Энгельса (цэнтр — в. Траскоўшчына). У 1997 г. 288 гаспадарак, 750 жыхароў. У 2010 г. бальніца, дзіцячы сад, магазін.

**АЛЯКСАНДРАВА**, А л е к с а н д р о в а — вёска ў Мачулішчанскім пас. Савеце, за 7 км на Пд ад Мінска. 31 гаспадарка, 82 жыхары (2010 ).

У 1897 г. ў вёсцы 12 двароў, 49 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1909 г. ў засценку 5 двароў, 59 жыхароў, у 1917 г. ў фальварку Аляксандрава 1 двор, 40 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. ў фальварку была адкрыта 4-гадовая школа, у 1924 г. 51 вучань. З 20.8.1924 г. ў Навадворскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). Працавала шорная майстэрня. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 25.4.1938 г. ў Сеніцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1997 г. 13 гаспадарак, 40 жыхароў.

**АЛЯКСЕЕЎКА** — вёска ў Міханавіцкім с/с, за 11 км на Пд ад Мінска, 2 км ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Грэбенка (прыток р. Пціч). 27 гаспадарак, 79 жыхароў (2010).

У 1858 г. вёска маёнтка Лемніца, 61 жыхар, уласнасць ген.-маёра І.Малышкіна, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. 19 двароў, 143 жыхары, у Пярэжарскай вол. Ігуменскага павета. У 1917 г. 47 двароў, 310 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Кайкаўскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 18 двароў, 92 жыхары, стальмашня. З 18.1.1931 г. ў Смілавіцкім, з 26.5.1935 г. Мінскім р-нах. У 1932 г. адкрыты фельч.-акушэрскі пункт. У 1941 г. 40 двароў, 184 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 23 жыхары. Акупанты спалілі 6 двароў, знішчылі 16 жыхароў. У 1997 г. 33 гаспадаркі, 69 жыхароў, у калгасе Войкава (цэнтр — в. Чурылавічы).

**АНОПАЛЬ** — вёска ў Крупіцкім с/с, за 16,5 км на Пд ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 179 гаспадарак, 523 жыхары (2010).

У 18 ст вёска, цэнтр маёнтка Крупіца, уласнасць Халецкіх, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Ганна Халецкая прынесла маёнтак (7 вёсак) у пасаг А.Радзівілу. У 1766 г. пабудаваны драўляны касцёл. У 1791 г. ў маёнтку 115 дымоў, панскі двор, 4 карчмы, уласнасць Радзівілаў, у Каралішчавіцкай парафіі Мінскага павета. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. панскі двор з «рэгулярным» садам, драўляная ўніяцкая царква і вадзяны млын, фальварак, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1897 г. маёнтак, 11 двароў, 159 жыхароў, вадзяны млын, 2 карчмы, касцёл, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. Штогод праводзіліся кірмашы на свята Цела Гасподняга. У

пач. 20 ст. маёнтак ва ўладанні Чапскіх. У 1905 г. засн. крухмальны з-д (уладальнік Красінскі), на якім у 1913 г. працавалі 26 рабочых, меўся паравы рухавік. У 1912 г. пабудаваны новы мураваны касцёл на месцы старога. У 1917 г. двор, 407 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. ў вёсцы працавалі крухмальны з-д, вадзяны млын. З 20.08.1924 г. вёска ў Крупіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1930-я г. створаны саўгас «Анопаль, працавала стальмашня. З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім р-не. З 23.3.1932 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 58 двароў, 197 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты спалілі 5 двароў, знішчылі 5 жыхароў і 8 вывезлі на прымусовую працу ў Германію. У ліп. 1944 г. ў баях за вызваленне вёскі загінулі 74 сав. воіны. У 1997 г. 165 гаспадарак, 485 жыхароў, цэнтр саўгаса «Анопаль». У 2010 г. вёска — цэнтр СВК «Эксперыментальная база Анопаль». Клуб, магазін, дзіцячы сад, б-ка. На брацкай магіле сав. воінаў архітэктурна-скульптурная кампазіцыя (1979). На паўн. ускраіне вёскі арх. помнік — сядзібны дом.

**АНОПАЛЬ** — пасёлак у Крупіцкім с/с, за 17 км на Пд ад Мінска. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2010).

20.8.1924 г. пасёлак у Крупіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў пасёлку 28 двароў, 152 жыхары, млын, кузня, шавецкая майстэрня, у саўгасе «Анопаль». З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1997 г. 10 гаспадарак, 9 жыхароў, у саўгасе «Анопаль».

**АНТАНІШКІ** — вёска ў Шчомысліцкім с/с, за 1,5 км на ПдЗ ад Мінска. 10 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

У 1897 г. ваколіца (4 двары, 32 жыхары) і фальварак (1 двор, 12 жыхароў), у Старасельскай вол. Мінскіх павета і губ. У 1917 г. ў вёсцы 10 двароў, 65 жыхароў, у фальварку двор, 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Строчыцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 17 двароў, 91 жыхар. З 26.7.1930 г. ў Заслаўскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 8 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Шчомысліцкім с/с, З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 13 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Азярцо).

**АНУСІНА** — вёска ў Пятрышкаўскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Мінска, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 26 гаспадарак, 76 жыхароў (2010).

У 1831 г. вёска Ганусі, 6 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Прушынскага, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1897 г. маёнтак, 8 двароў, 56 жыхароў. У 1917 г. 67 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1924 г. ў былым маёнтку засн. пач. школа, 97 вучняў. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Анусінскага с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 16 двароў, 84 жыхары, вадзяны млын. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 14 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У

1997 г. 26 гаспадарак, 61 жыхар, у саўгасе імя Жданава (цэнтр — в. Пятрышкі).

**АРОНАВА СЛАБАДА** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 8,5 км на Пн ад Мінска. 137 гаспадарак, 338 жыхароў (2010).

У 1858 г. вёска, 67 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць І.Валадковіча, у Мінскіх павеце і губ. У 1897 г. вёска (42 двары, 257 жыхароў, хлебазапасны магазін) і хутар (1 двор, 8 жыхароў), у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1910 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1917 г. 51 двор, 304 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1924 г. працавала пач. школа, 53 вучні. У З 20.8.1924 г. вёска ў Сёмкава-Гарадоцкім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 27 двароў, 122 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.1.1960 г. ў Папярнянскім с/с, у саўгасе «Азёрны» (цэнтр — в. Сёмкава). У 1997 г. 125 гаспадарак, 357 жыхароў. У 2010 г. магазін.

**АРЭХАЎСКАЯ** — вёска (да 30.7. 1964 г. Неўмывакі) у Хацежынскім с/с, за 12 км на З ад Мінска. 10 гаспадарак, 6 жыхароў (2010).

У 1778 г. вёска Неўмывакі, 3 двары, шляхецкая ўласнасць, у Караліпгчавіцкай парафіі Мінскіх павета і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 8 двароў, 49 жыхароў, уласнасць падкаморыяў Ігната і Тадэвуша Пішчалаў. У 1858 г. вёска, 29 душ мужчынскага полу, уласнасць Р.Пішчалы. У 1897 г. 17 двароў, 100 жыхароў, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 21 двор, 117 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Строчыцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 21 двор, 132 жыхары. З 26.7.1930 г. ў Заслаўскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 18 двароў, 88 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 3 жыхары. У ліп. 1941 г. ў баях пры абароне вёскі загінулі 20 сав. воінаў. Ням.-фаш. акупанты спалілі 5 двароў і знішчылі 8 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 20.1.1960 г. ў Шчомысліцкім, з 28.2.1974 г. ў Хацежынскім с/с. У 1997 г. 12 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе саўгаса «Пціч». У 1963 г. на магіле загінуўшых сав. воінаў пастаўлены абеліск.

**АСЕЕЎКА** — вёска ў Навадворскім с/с, за 7 км на Пд ад Мінска. 18 гаспадарак, 35 жыхароў (2010).

У 1897 г. фальварак, 2 двары, у Самахвалавіцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1909 г. засценак, 8 двароў. У 1917 г. вёска, 22 двары, 106 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Гатаўскім, з 1927 г. ў Дзяргайскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 16 двароў, 80 жыхароў. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 4 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Гатаўскім, з 5.3.1959 г. ў Навадворскім с/с. У 1991 г. ў саўгасе «Рассвет» (цэнтр — в. Новы Двор). У 1997 г. 22 гаспадаркі, 106 жыхароў. Радзіма Героя Сав. Саюза А.С.Хмялеўскага (3.2.1921—17.2.1987).



*А.С.Хмялеўскі.*

**АСТРАШЫЦКІ ГАРАДОК** — вёска, цэнтр сельсавета, за 12,5 км на ПнУ ад

Мінска, на р. Усяжа (прыток р. Гайна). 819 гаспадарак, 2383 жыхароў (2010).

У 1567 г. згадваецца ў перапісе войска ВКЛ як маёнтак, шляхецкая ўласнасць Г.І.Гарнастая, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1590 г. яго ўдава Барбара разам з сынам прадала маёнтак за 5 тыс. залатых кн. К.М.Радзівілу на Біржах і Дубінках. Згодна інвентару 1650 г. мястэчка з замкам, які знаходзіўся на ўзвышшы каля р. Усяжа і быў абкружаны вадзянымі равамі і сажалкамі. Уезд у цытадэль з боку мястэчка, ад якога быў зроблены мост цераз роў. Замак з'яўляўся адм. цэнтрам воласці і сядзібай уладара. Каля замка фарміравалася мястэчка. У 1650 г. мястэчка (51 двор) складалася з рынка і трох вуліц. Гандлёвая пл. была забудавана сядзібамі рамеснікаў і гандляроў. Тут размяшчаліся царква і карчма. Ад рынку разыходзіліся тры вуліцы: Кавальская, Глебкавіцкая, Мінская. У 1721 г. ў мястэчку 21 двор, 24 пуставалі. У 1773 г. пабудавана Свята-Духаўская драўляная царква. У 1782 г. мястэчка Гарадок, 38 двароў, карчма, фальварак. У 1791 г. мястэчка — цэнтр маёнтка, уласнасць Ю.Тышкевіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 37 двароў, 432 жыхары, драўляная царква і капліца, малітоўная школа, вадзяны млын, сукнавальня, цагельны з-д, медналіцейная вытв-сць (у 1895 г. працавала 5 рабочых), з 1856 г. мукамольная і крупарушная вытв-сць, уласнасць графа Тышкевіча. На р. Усяжа мост, грэбля. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча, у 1892 г. вучыліся 32 хлопчыкі і 16 дзяўчынак. Мястэчка было цэнтрам воласці. У 1897 г. 155 двароў, 1109 жыхароў, меднаплавільны з-д, 3 вадзяныя млыны, нар. вучылішча, парк.-прыходская школа, 24 лаўкі, 3 карчмы, царква, 3 малітоўныя школы, паштова-тэлеграфная станцыя. Побач быў маёнтак, 8 двароў, 63 жыхары, прыватная бальніца. У 1903 г. адкрыта жаночая царк.-прыходская школа. У 1917 г. ў мястэчку



Спаса-Праабражэнская царква ў в. Астрашыцкі Гарадок.

324 двары, 1564 жыхары, у маёнтку 161 жыхар, на лесазаводзе (Пчэльня) 23 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Астрашыцка-Гарадоцкага с/с і Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ў Лагойскім р-не. У 1932 г. дзейнічала сельская бальніца. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не.

Вадасховішча Астрашыцкі Гарадок.



Фальварак у в. Атоліна. 19 ст.



З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 320 двароў, 1440 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 88 жыхароў. У час абароны Мінска 26—28.6.1941 г. каля вёскі па-геройску змагаліся воіны 100-й стралк. дывізіі (камандзір ген.-маёр І.М.Русіянаў), якія адбілі ўсе атакі ворага, нанеслі яму вял. страты ў жывой сіле і тэхніцы. Акупанты спалілі 96 двароў, знішчылі 468 жыхароў і 173 вывезлі на прымусовую працу ў Германію. У 1997 г. 841 гаспадарка, 2236 жыхароў, цэнтр саўгаса «Новы шлях» У 2010 г. сярэдняя школа, яслі-сад, Дом культуры, аддз. сувязі, бальніца, магазіны, КУП «Астрашыцкагарадоцкі камунальны сэрвіс», мэблевая ф-ка. Арх. помнікі — царква і капліца. Археал. помнік — гарадзішча і замчышча на р. Усяжа. У 1956 г. на скрыжаванні дарог Мінск—Вільнюс, Мінск—Лагойск на брацкай магіле 104 сав. воінаў 100-й і 161-й стралк. дывізій пастаўлены помнік — танк Т-34. Стэла (1974) на брацкай магіле сав. воінаў 2-й мотастралк. і 19-й танкавай брыгад, якія вызвалілі вёску летам 1944 г. У 1964 г. каля будынка школы пастаўлены помнік на ўшанаванне памяці 242 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1957 г. пастаўлены абеліск на магілах юных партызан Мішы Кручонка і Васі Пашыка. У 1975 г. каля вёскі пастаўлена стэла на магіле сав. воіна 100-й стралк. дывізіі Абдушукура Бегаліева, які загінуў пры абароне Мінска ў канцы чэрв. 1941 г.

Катэдж у в. Атоліна.



**АТОЛІНА** — вёска ў Сеніцкім с/с, за 7,5 км на ПдЗ ад Мінска. 569 гаспадарак,1418 жыхароў (2010).

У 1897 г. засценак, 7 двароў, 52 жыхары і ўрочышча — двор, 5 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1917 г. ў фальварку двор, 269 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 7 жыхароў. У 1997 г. 269 гаспадарак, 783 жыхары. Зараз вёска — цэнтр эксперыментальна-доследнага с.-г. РУП «Усход» Упраўлення справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У 2010 г. сярэдняя школа, Дом культуры, 2-я раённая бальніца, паліклініка № 2, аптэкі, магазіны, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка.

**АШМЯНЦЫ** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 6,5 км на Пн ад Мінска, на р. Вяча. 17 гаспадарак, 32 жыхары (2010).

У 1557 г. сяло, уласнасць Ю.Валіцкага, у Мінскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ. У 1605 г. сяло маёнтка Зацень, 2 дымы баярскія. У 1773 г. сяло, 8 дымоў, шляхецкая ўласнасць, у Зацeньскай вол. Мінскага павета. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе

Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 58 жыхароў, уласнасць А.Хмары. У 1858 г. вёска, 44 жыхары мужчынскага полу, у Сёмкава-Гарадоцкай вол. У 1870 г. адносілася да Грынькаўскага сельскага таварыства. У 1887 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. 20 двароў, 130 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1917 г. 18 двароў, 118 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Сёмкава-Гарадоцкім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 22 двары, 142 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.1.1960 г. ў Папярнянскім с/с. У 1997 г. 16 гаспадарак, 30 жыхароў, у саўгасе «Бальшавік» (цэнтр — в. Бальшавік).

**АШНАРАВА** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Мінска. 14 гаспадарак, 24 жыхары (2010).

У 1776 г. вёска, 7 двароў, уласнасць І.Бутрымовіча. У 1791 г. вёска маёнтка Саламарэчча, шляхецкая ўласнасць, у Заслаўскай парафіі Мінскіх павета і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска і фальварак, 15 двароў, 74 жыхары, ва ўладанні Ігнацся і Вінцэнта Валадковічаў, у Мінскіх павеце і губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 27 двароў, 158 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 15 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1987 г. ў саўгасе «Савецкі» (цэнтр — в. Шаршуны). У 1997 г. 24 гаспадаркі, 38 жыхароў, у саўгасе «Рагаўскі» (цэнтр — в. Новы Двор). У 2010 г. магазін.

**БАГАТЫРОВА** — вёска ў Шчомысліцкім с/с, за 4 км на ПдЗ ад Мінска. 69 гаспадарак, 260 жыхароў (2010).

У 1885 г. фальварак у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1897 г. фальварак Багатырова (ён жа Азярцо), 1 двор, 19 жыхароў. У 1917 г. хутар, 2 двары, 16 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Строчыцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 20 двароў, 93 жыхары, кузня. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 25 двароў, 125 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты спалілі 7 двароў, вывезлі 1 жыхара на прымусовую працу ў Германію, загінулі 3 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Шчомысліцкім с/с. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 56 гаспадарак, 160 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Азярцо). У 2010 г. клуб, магазін.

**БАГУШОВА** — вёска ў Хацежынскім с/с, за 12 км на З ад Мінска. 33 двары, 90 жыхароў (2010).

У 1791 г. вёска маёнтка Гарадзішча, шляхецкая ўласнасць, у Каралішчавіцкай парафіі Мінскага павета. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 24 жыхары, уласнасць мінскага стражніка С.Пішчалы. У 1897 г. 20 двароў, 123 жыхары, хлебазапасны магазін, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 27 двароў, 150 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г.

ў Строчыцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 21 двор, 132 жыхары. З 26.7.1930 г. ў Заслаўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 9 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 20.1.1960 г. ў Шчомысліцкім, з 28.2.1974 г. у Хацежынскім с/с. У 1997 г. 34 гаспадаркі, 85 жыхароў, у складзе саўгаса «Пціч» (цэнтр — в. Старое Сяло). У 2010 г. магазін.

**БАЙДАКІ** — вёска ў Гаранскім с/с, за 11 км на З ад Мінска. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

У 1858 г. вёска, 12 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць С.Дубоўскага, у Мінскіх павеце і губ. У 1897 г. 9 двароў, 50 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 9 двароў, 56 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 10 двароў, 43 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 12 двароў, 48 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 7 жыхароў. Пры вызваленні вёскі і наваколля ў ліп. 1944 г. ў баях загінулі 118 сав. воінаў. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с. У 1997 г. 14 гаспадарак, 23 жыхары, у саўгасе імя Ульянава (цэнтр — в. Навасел-ле). У 1985 г. на брацкай магіле сав. воінаў пастаўлены абеліск.

*Музей лётнай тэхнікі каля в. Баравая.*




**БАЛЬШАВІК** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 4 км на Пн ад Мінска. 1437 гаспадарак, 3636 жыхароў (2010).

З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. У 1919 г. ў баях за вызваленне вёскі загінулі 8 чырвонаармейцаў. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Сёмкава-Гарадоцкім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 12 жыхароў. У ліп. 1944 г. ў баях за вызваленне вёскі загінулі 38 сав. воінаў. З 20.1.1960 г. ў Папярнянскім с/с. У 1997 г. 907 гаспадарак, 3106 жыхароў, у саўгасе «Азёрны» (цэнтр — в. Сёмкава). У 2010 г. сярэдняя школа, урачэбная амбулаторыя, дзіцячы сад, б-ка, клуб, аддз. сувязі, магазін. У 1956 г. пастаўлены абеліск на магіле 8 чырвонаармейцаў і 38 сав. воінаў 212-га стралк. палка 49-й стралк. дывізіі. Сярод пахаваных — Герой Сав. Саюза Р.М.Зубаў.

**БАРАВАЯ** — вёска ў Бараўлянскім с/с, за 2,5 км на ПнУ ад Мінска. 320 жыхароў (2010).

У 1885 г. засценак і ўрочышча Астрошыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У1897 г. вёска, 9 двароў, 54 жыхары і ўрочышча Баравая (Кляпуха), 10 двароў, 79 жыхароў. У 1917 г. 10 двароў, 74 жыхары, на хутары 11 двароў, 69 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Калодзі-

шчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары 20 двароў, 76 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключаны ў гар. мяжу г. Мінск. З 26.5.1935 г. вёска ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 3 двары, 18 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 4 жыхары. У 1941—43 гг. акупанты знішчылі больш за 30 тыс. сав. ваеннапалонных, партызан, падпольшчыкаў і мірных жыхароў навакольных вёсак і г. Мінск. З 9.8.1979 г. ў Бараўлянскім с/с. У 1997 г. 15 гаспадарак, 37 жыхароў. У 1991 г. ў саўгасе імя Фрунзэ (цэнтр — в. Бараўляны). Магазін, аддз. сувязі. У 1975 г. на магіле сав. воінаў, партызан і мірных жыхароў установлены абеліск.

**БАРАЎЛЯНЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 6 км на ПнУ ад Мінска. 2414 гаспадарак, 8219 жыхароў (2010).

У 16 ст. ўласнасць князёў Саламарэцкіх-Глябовічаў, якія ў 1558 г. ахвяравалі вёску Свята-Пакроўскаму мужчынскаму манастыру ў сяле Саламарэчча. У 1582 г. сяло, уласнасць Б.Саламарэцкага, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1600 г. ўласнасць Л.Ратамскай—Г.Друцкай-Горскай. У 1605 г. згадваецца пры абмежаванні маёнтка Відагошча, у Мінскім павеце Мінскага ваяв. У 1791 г. вёска, панскі двор, 11 дымоў, уласнасць Высоцкага, Ратамскага, у Мінскай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 9 двароў, 58 жыхароў, уласнасць калежскага асэсара А.Ратамскага, падпалкоўніка Ф.І.Гарадзецкага, Валадковічаў. У 1815 г. ва ўладанні І.Буцэвіча. У 1870 г. вёска, 11 душ мужчынскага полу, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. У 1897 г. вёска (6 двароў, 51 жыхар), маёнтак (2 двары, 19 жыхароў), фальварак (двор, 10 жыхароў), урочышча (3 двары, 16 жыхароў), 2 хутары (2 двары, 4 жыхары) і карчма (2 двары, 13 жыхароў, кузня), у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 8 двароў, 55 жыхароў, у засценку 6 двароў, 29 жыхароў, ва ўрочышчы 3 двары, 7 жыхароў, у фальварку двор, 9 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Астрашыцка-Гарадоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 11 двароў, 56 жыхароў, у аколіцы 8 двароў, 43 жыхары, на хутары 23 двары, 154 жыхары. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 60 двароў, 303 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. ў паветраным баі загінулі сав. 2 лётчыкі. З 9.8.1979 г. вёска — цэнтр Бараўлянскага с/с і саўгаса імя Фрунзэ. У вёсцы размяшчалася цэнтр. сядзіба навуч. гаспадаркі імя Фрунзэ Бел. ін-та механізацыі і сельскай гаспадаркі. У 1997 г. 512 гаспадарак, 1969 жыхароў. У 2010 г. сярэдняя школа, гімназія, «дзіцячая вёска», б-ка, сталовая, магазіны, аддз. сувязі, раённая бальніца. У 1964 г. на брацкай магіле сав. лётчыкаў пастаўлены абеліск.

**БАРАЎЦЫ** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 7 км на Пн ад Мінска. 31 гаспадарка, 44 жыхары (2010).

У 1784 г. вёска, 11 двароў, 61 жыхар, уласнасць Я.Свентаржыцкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 11 двароў, 99 жыхароў, уласнасць падчашага Т.Ваньковіча, у 1858 г. ўласнасць Э.Кудзіновіч. У 1897 г. 22 двары, 144 жыхары, у Бяларуцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 24 двары, 129 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Папярнянскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага раёна Мін-

скай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. вёска Бароўцы Вялікія (24 двары, 126 жыхароў), хутар Бароўцы (10 двароў, 47 жыхароў). З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 8 жыхароў. У 1997 г. 28 гаспадарак, 48 жыхароў.

**БАРДЗІЛАЎКА** — вёска ў Міханавіцкім с/с, за 13 км на Пд ад Мінска, за 4 км ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 87 гаспадарак, 236 жыхароў (2010).

У 1858 г. ў вёсцы 44 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. вёскі Бардзілаўка-1 (42 двары, 288 жыхароў) і Бардзілаўка-2 (32 двары, 260 жыхароў), у Пярэжырскай вол. Ігуменскага павета. У 1916 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. ў вёсках Бардзілаўка Забалоцкая 64 двары, 376 жыхароў, Бардзілаўка Лешніцкая — 66 двароў, 421 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Кайкаўскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы Бардзілаўка-1 67 двароў, 369 жыхароў. У 1930-я г. створаны калгас імя Сталіна, працавала кузня. З 18.1.1931 г. ў Смілавіцкім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 115 двароў, 655 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты спалілі 8 двароў, знішчылі 8 жыхароў і 19 вывезлі на прымусовую працу ў Германію. Да 1970 г. ў вёсцы размяшчалася цэнтр. сядзіба калгаса «Расія», з 1970 г. ў калгасе Войкава (цэнтр — в. Чурылавічы). У 1997 г. 119 гаспадарак, 260 жыхароў. У 2010 г. базавая школа, клуб, магазін, малочнатаварная ферма.

**БАРСУКІ** — вёска ў Гаранскім с/с, за 18 км на З ад Мінска. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2010).

У 1588 г. абруб, 2 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 18 ст. гаспадарскі двор і вёска. У 1800 г. вёска, панскі двор, 7 двароў, 40 жыхароў, млын на адну паставу, уласнасць Д.Радзівіла і Б.Галачэўскага, у Мінскіх павеце і губ. У 1897 г. вёска (13 двароў, 91 жыхар, цагельны з-д) і фальварак (двор, 18 жыхароў), у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 14 двароў, 101 жыхар, у 2 фальварках 5 двароў, 35 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Траскоўшчынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 13 двароў, 70 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 7 гаспадарак, 31 жыхар, у саўгасе імя Ульянава (цэнтр — в. Наваселле).

**БАХМЕТАЎКА** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Мінска. 36 гаспадарак, 110 жыхароў (2010).

У 1549 г. сяло маёнтка Камянец, 1 дым, 1 служба, шляхецкая ўласнасць, у Радашковіцкай вол. Мінскага павета Віленскага ваяв. ВКЛ. У1779 г. вёска, 9 двароў, 25 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць біскупа Масальскага, пазней Т.Свентаржэцкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 20 двароў, 76 жыхароў, ва уладанні М.Валадковіча. У 1858 г. вёскі Бахметаўка-1 (19 жыхароў мужчынскага полу), Бахметаўка-2 (9 жыхароў мужчынскага полу). У 1870 г. адносіліся да Бахметаўскай сельскай грамады, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У

1897 г. вёскі Бахметаўка-1 (3 двары, 22 жыхары) і Бахметаўка-2 (9 двароў, 71 жыхар), маёнтак (19 жыхароў), фальварак Стэфан Поле (3 двары, 2 жыхары) і фальварак Бахметаўка (двор, 6 жыхароў). У 1907 г. вёскі Бахметаўка-1 (3 двары, 56 жыхароў), Бахметаўка-2 (2 двары, 15 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. ў вёсцы 17 двароў, 117 жыхароў, у маёнтку 2 двары, 9 жыхароў, на хутары 1 двор, 6 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 17 двароў, 115 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 30 двароў, 141 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 27 двароў, знішчылі 115 жыхароў. Пасля вайны вёска аднавілася. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с, з 1987 г. у саўгасе «Савецкі» (цэнтр — в. Шаршуны). У 1997 г. 36 гаспадарак, 84 жыхары. У 2010 г. магазін.

**БЕЛІЦА** — вёска ў Самахвалавіцкім с/с, за 12 км на Пд ад Мінска. 48 гаспадарак, 99 жыхароў (2010).

Згадваецца ў 1545 г. У 1567 г. сяло, уласнасць П.Халмоўскага, у Мінскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ. У 1594 г. ўласнасць Г.Войшнара. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1794 г. ўласнасць Быкоўскага-Пузыны. У 1800 г. вёска, 10 двароў, 81 жыхар, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскіх павеце і губ. У 1858 г. вёска — цэнтр маёнтка, уласнасць кн. І.Грынеўскай. У 1897 г. вёска, 30 двароў, 202 жыхары, хлебазапасны магазін, у маёнтку — 2 двары, 17 жыхароў, ва ўрочышчы — двор, 7 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 34 двары, 198 жыхароў, у фальварку 52 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Самахвалавіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 37 двароў, 185 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключаны ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1997 г. 56 гаспадарак, 124 жыхары, у складзе эксперыментальнай базы «Русінавічы» (цэнтр — в. Самахвалавічы). У 2010 г. магазін.

**БЕЛЫЯ ЛУЖЫ** — вёска ў Астрашыцкагарадоцкім с/с, за 17 км на ПнУ ад Мінска. 4 гаспадаркі, 16 жыхароў (2010).

У 1858 г. вёска Белалужа, 58 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 4 двары, 38 жыхароў, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскіх павета і губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Астрашыцка-Гарадоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары 5 двароў, 25 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім раёне. З 26.5.1935 г. вёска ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1997 г. 5 гаспадарак, 21 жыхар, у саўгасе «Новы шлях» (цэнтр — в. Астрашыцкі Гарадок).

**БЕРАЗІНА** — вёска ў Міханавіцкім с/с, за 10 км на Пд ад Мінска, 2 км ад чыг. ст. Міханавічы, на лініі Мінск—Асіповічы. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

У 1908 г. — засценак, 18 двароў, 81 жыхар, у Пярэжырскай вол. Ігуменскага павета. У 1917 г. 16 двароў, 95 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай

Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска, у Кайкаўскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. у вёсцы 18 двароў, 92 жыхары, распаўсюджаны шавецкі промысел. З 18.1.1931 г. ў Сміла-віцкім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 18 двароў, 58 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 4 жыхары. Акупанты спалілі 2 двары, знішчылі 7 жыхароў. У 1997 г. 19 гаспадарак, 33 жыхары, у калгасе Войкава (цэнтр — в. Чурылавічы).

**БІНЬКАЎЦЫ** — вёска ў Лашанскім с/с, на ПнЗ ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 1815 г. вёска, 25 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць К.Валадковіча. У 1897 г. засценак, 4 двары, 15 жыхароў, у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1917 г. ў вёсках Бінькаўцы-1 13 двароў, 80 жыхароў, Бінькаўцы-2 — двор, 7 жыхароў, Бінькаўцы-3 — двор, 7 жыхароў, на хутары — двор, 14 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Гатовінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. вёска, 9 двароў, 52 жыхары і хутар — 3 двары, 26 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 4 жыхары. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 19.3.1974 г. ў Юзуфоўскім, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. З 1987 г. вёска ў саўгасе «Браўкі» (цэнтр — в. Браўкі). У 1997 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары.

**БОЎБЛІ** — вёска ў Лашанскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Мінска. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У канцы 18 ст. вёска. У 1800 г. вёска, 6 двароў, 36 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага, каля «вялікай Віленскай дарогі», у Мінскіх павеце і губ. У 1897 г. вёска, 11 двароў, 62 жыхары, карчма, у Заслаўскай вол. У 1917 г. 9 двароў, 50 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. 8 двароў, 44 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 9 двароў, 65 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 3 двары, знішчылі 12 жыхароў і 3 вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 1980 г. ў Лашанскім с/с. З 1987 г. вёска ў саўгасе «Браўкі» (цэнтр — в. Браўкі). У 1997 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў.

**БРАДОК** — вёска ў Астрашыцкагарадоцкім с/с, за 15 км на ПнУ ад Мінска, на р. Вяснянка (упадае ў вадасховішча Астрашыцкі Гарадок). 98 гаспадарак, 262 жыхары (2010).

У 2-й пал. 16 ст. вёска маёнтка Гарадок, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1782 г. вёска, 22 двары, з якіх 3 пустыя, сярод жыхароў 2 баярыны і каваль. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 — 24 двары, 143 жыхары, уласнасць графа І.Тышкевіча, у Мінскіх павеце і губ. У 1846 г. вёска, 18 двароў, 136 жыхароў маёнтка Гарадок, уласнасць Тышкевічаў. У 1888 г. адкрыта школа граматы, у 1890 г. вучыліся 7 хлопчыкаў. У 1897 г. 51 двор, 303 жыхары, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. Вяскоўцы займаліся вытворчасцю гонты і пілаваннем дошак. У 1917 г. ў вёсцы 57 двароў, 293 жыхары, нар. вучылішча, якое ў 1923 г. было ператворана ў пач. школу. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Астрашыцка-Га-

радоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 69 двароў, 349 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 54 двары, 203 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 6 двароў, знішчылі 18 жыхароў. У 1997 г. 112 гаспадарак, 290 жыхароў, у саўгасе «Новы шлях» (цэнтр — в. Астрашыцкі Гарадок).

**БРАЎКІ** — вёска ў Лашанскім с/с, за 10,2 км на ПнЗ ад Мінска. 156 гаспадарак, 484 жыхары (2010).

У 1815 г. вёска, 20 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць М.Пшаздзецкага. У 1897 г. вёска (14 двароў, 81 жыхар), урочышча (1 двор, 9 жыхароў) і фальварак (1 двор, 12 жыхароў), у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 16 двароў, 82 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. адкрыта школа, у 1924 г. 63 вучні. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 13 двароў, 65 жыхароў, на хутары 2 двары, 24 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 9 жыхароў. У ліп 1941 г. пры абароне вёскі загінулі 28 сав. воінаў. З 1980 г. ў Лашанскім с/с. У 1987 г. вёска — цэнтр саўгаса «Браўкі». У 1997 г. 118 гаспадарак, 406 жыхароў. Школа-сад, аддз. сувязі, клуб, б-ка, магазін. У 1960 г. на брацкай магіле сав. воінаў пастаўлены абеліск.

**БУДЗЁННАГА** — вёска ў Астрашыцкагарадоцкім с/с, за 16 км на ПнУ ад Мінска. 22 гаспадаркі, 60 жыхароў (2010).

Вёска ўзнікла ў 1912 г., першапачатковая назва Пчэльня. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Астрашыцка-Гарадоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ў Лагойскім раёне, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 29 жыхароў. У 1987 г. ў саўгасе «Новы шлях» (цэнтр — в. Астрашыцкі Гарадок). У 1997 г. 27 гаспадарак, 63 жыхары. У 1968 г. пастаўлена стэла на ўшанаванне памяці 14 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**БУДЫ** — вёска ў Юзуфоўскім с/с, за 24 км на Пн ад Мінска. З гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 1815 г. вёска, 8 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Г. і А. Якубоўскіх, у Мінскіх павеце і губ. У 1870 г. маёнтак, уласнасць Якубоўскай, у Бяларуцкай вол. Мінскага павета. У 1897 г. засценак, 6 двароў, 38 жыхароў. У 1917 г. ў маёнтку двор, 11 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Шапялёўскім, з 20.10.1924 г. ў Лысагорскім с/с, з 21.8.1925 г. зноў у Шапялёўскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары 9 двароў, 57 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Заслаўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. ў Гатовінскім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Юзуфоўскім с/с. У 1997 г. 7 гаспадарак, 14 жыхароў, у саўгасе «Буцэвічы» (цэнтр — в. Буцэвічы). За 0,1 км на Пн ад вёскі археал. помнік — курганны могільнік (130 насыпаў) эпохі Кіеўскай Русі.

**БУЦЭВІЧЫ** — вёска ў Юзуфоўскім с/с, за 18 км на Пн ад Мінска, на р. Чар-

няўка (прыток р. Вяча). 23 гаспадаркі, 42 жыхары (2010).

У 1503 г. сяло пажалавана вял. кн. літ. Аляксандрам радашковіцкаму касцёлу, у Мінскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ. У 1567, 1597 гг. згадваецца як сяло, шляхецкая ўласнасць. У 1615 г. ўпамінаецца пры абмяжаванні маёнтка Відагошча. У 1725 г. фальварак, маёнтак, уласнасць Залескага. У 1791 г. — цэнтр маёнтка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. сяло, 22 двары, 137 жыхароў (сялян) і 2 двары, 5 жыхароў чыншавай шляхты, фальварак, уласнасць Валадковіча. У 1800 г. сяло, панскі двор, драўляная ўніяцкая царква Пятра і Паўла, уласнасць І. і Т. Валадковічаў. У 1858 г. вёска — цэнтр маёнтка, уласнасць Ю.Лапіцкага. У 1897 г. засценак Буцэвічы (Віктаранава; 2 двары, 14 жыхароў), ваколіца (20 двароў, 146 жыхароў, царква, карчма) і маёнтак (7 двароў, 54 жыхары, вадзяны млын), у Сёмкава-Гарадоцкай вол. У 1917 г. ў засценку 10 двароў, 54 жыхары, у вёсцы 20 двароў, 154 жыхары, у маёнтку 2 двары, 11 жыхароў, на хутары 14 двароў, 96 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1924 г. адкрыта працоўная школа, 45 вучняў. З 20.8.1924 г. вёска ў Гатовінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 22 двары, 120 жыхароў, вадзяны млын, кузня, кравецкая майстэрня. У 1930-я г. створаны саўгас «Буцэвічы». У 1937 г. працавалі бальніца і дзіцячая кансультацыя. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Юзуфоўскім с/с. У 1997 г. 21 гаспадарка, 42 жыхары, у саўгасе «Буцэвічы» (цэнтр — в. Юзуфова).

**ВАЛІЦКАЎШЧЫНА** — вёска ў Самахвалавіцкім с/с, за 12 км на Пд ад Мінска. 18 гаспадарак, 42 жыхары (2010).

У 1791 г. вёска маёнтка Русінавічы, шляхецкая ўласнасць, у Каралішчавіцкай парафіі Мінскіх павета і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815, 1858 гг. вёска, 17 двароў, 119 жыхароў, уласнасць Уніхоўскіх, у Мінскім павеце. У 1897 г. 28 двароў, 170 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 43 двары, 234 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска Самахвалавіцкага с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 47 двароў, 257 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 39 жыхароў. У 1997 г. 35 гаспадарак, 60 жыхароў, у складзе эксперыментальнай базы «Русінавічы» (цэнтр — в. Самахвалавічы). У 2010 г. магазін.

**ВАЛОЎШЧЫНА** — вёска ў Гаранскім с/с, за 15 км на З ад Мінска. 15 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

У 1885 г. фальварак і ваколіца ў Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1897 г. ў фальварку 3 двары, 20 жыхароў, вапнавы з-д, у ваколіцы 14 двароў, 87 жыхароў. У 1917 г. 39 двароў, 209 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Траскоўшчынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 18 двароў, 76 жыха-

роў, у пасёлку 13 двароў, 80 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 19 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 22 гаспадаркі, 50 жыхароў.

**ВАЛОЎШЧЫНА** – вёска ў Ждановіцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Мінска. 21 гаспадарка, 44 жыхары (2010).

У 1800 г. ваколіца, 3 двары, 43 жыхары, у Ігуменскім павеце. У 1897 г. ваколіца, 14 двароў, 87 жыхароў, у фальварку – 3 двары, 20 жыхароў, у Заслаўскай вол. У 1917 г. 39 двароў, 229 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Ратамскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары 53 двароў, 229 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 20 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Ждановіцкім с/с. У 1997 г. 35 гаспадарак, 44 жыхары, у складзе конезавода імя Даватара (цэнтр – в. Ратамка). У 2010 г. магазін.

**ВАЛЯР'ЯНАВА** – вёска ў Бараўлянскім с/с, за 4 км на ПнУ ад Мінска. 284 гаспадаркі, 1283 жыхары (2010).

У 1800 г. вёска, 14 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Буцэвіча, у Мінскім павеце. У 1897 г. 7 двароў, 38 жыхароў, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 8 двароў, 56 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Калодзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 11 двароў, 62 жыхары. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 9.8.1979 г. ў Бараўлянскім с/с. У 1997 г. 36 гаспадарак, 388 жыхароў, у 1991 г. ў саўгасе імя Фрунзэ (цэнтр – в. Бараўляны). У 2010 г. магазін.

**ВАРАШЫЛЫ** – вёска ў Пятрышкаўскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Мінска, на р. Поплаў (прыток р. Свіслач). 5 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 8 двароў, 50 жыхароў, уласнасць М.Пшадзецкага, у Мінскім павеце. У 1897 г. засценак, 8 двароў, 77 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 13 двароў, 98 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім, з 1927 г. ў Барздынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 14 двароў, 83 жыхары, на хутары – двор, 4 жыхары. З 9.3.1932 г. ў Гуцянскім, з 14.5.1936 г. ў Навадворскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 6 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У 1987 г. ў саўгасе імя Жданава (цэнтр – в. Пятрышкі). У 1997 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў.

**ВАСІЛЕЎШЧЫНА** – вёска ў Самахвалавіцкім с/с, за 10 км на Пд ад Мінска. 36 гаспадарак, 86 жыхароў (2010).

У 1791 г. вёска маёнтка Русінавічы, шляхецкая ўласнасць, у Каралішчавіцкай парафіі Мінскіх павета і губ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815, 1858 гг. вёска, 6 двароў, 38 жыхароў, уласнасць Уніхоўскіх. У 1897 г. 10 двароў, 60 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 13

двароў, 101 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска, у Самахвалавіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 19 двароў, 99 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 17 жыхароў. У 1997 г. 33 гаспадаркі, 83 жыхары, у складзе эксперыментальнай базы «Русінавічы» (цэнтр — в. Самахвалавічы). У 2010 г. фельч.-акушэрскі пункт, магазін.

**ВАСЬКАЎШЧЫНА** — вёска ў Хацежынскім с/с, за 10 км на З ад Мінска, на р. Пціч. 16 гаспадарак, 57 жыхароў (2010).

У 1791 г. вёска, 7 двароў, з якіх 2 пустыя, 22 жыхары, млын, карчма, уласнасць М.Валадковічаў, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска Васюкі, 8 двароў, 53 жыхары, уласнасць ротмістра С.Свіды, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска вядома пад назвай Васкоўшчызна, уласнасць ротмістра С.Свіды. У 1897 г. 9 двароў, 52 жыхары, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1909 г. 8 двароў, 56 жыхароў, у Заслаўскай вол. У 1917 г. 8 двароў, 56 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 14 двароў, 75 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 31 двор, 115 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 14 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 28.2.1974 г. ў Хацежынскім с/с, у складзе саўгаса «Пціч» (цэнтр — в. Старое Сяло). У 1997 г. 27 гаспадарак, 76 жыхароў. У 2010 г. магазін.

**ВЕКШЫЦЫ** — вёска ў Пятрышкаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Мінска, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 24 гаспадаркі, 42 жыхары (2010).

У 1800 г. вёска, 14 двароў, 75 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска ў закладзе ў А.Прушынскага, у 1858 г. ўласнасць Ф.Прушынскай. У 1897 г. 23 двары, 129 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 32 двары, 232 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Анусінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 40 двароў, 205 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 34 двары, 128 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 8 жыхароў. Акупанты спалілі 3 двары, знішчылі 4 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У 1987 г. ў саўгасе імя Жданава (цэнтр — в. Пятрышкі). У 1997 г. 34 гаспадаркі, 66 жыхароў. У 2010 г. магазін.

**ВЕНДЗЕЛЕВА** — вёска ў Пятрышкаўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Мінска. 16 гаспадарак, 32 жыхары (2010).

У 1800 г. вёска, 13 двароў, 78 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1897 г. 29 двароў, 188 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 41 двор, 213 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Анусінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 44 двары, 239 жыхароў. З

20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 10 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У 1997 г. 33 гаспадаркі, 62 жыхары, у саўгасе імя Жданава (цэнтр — в. Пятрышкі). У 2010 г. магазін.

**ВЕРБНІКІ** — вёска ў Крупіцкім с/с, за 14,9 км на Пд ад Мінска. 23 двары, 35 жыхароў (2010).

У 1774 г. засценак, уласнасць царквы, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1815 г. вёска, 10 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць А.Вінчы, у Мінскім павеце. У 1858 г. фальварак, уласнасць К.Паўлюца. У 1885 г. засценак і фальварак, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 20 двароў, 125 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Крупіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 5 жыхароў. У 1997 г. 40 гаспадарак, 63 жыхары, у складзе калгаса «Новы быт» (цэнтр — в. Крупіца). У 2010 г. магазін.

**ВІЛЬГЕЛЬМОВА** — вёска ў Крупіцкім с/с, за 19 км на Пд ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

У 1897 г. засценак Смольня (Вільгельмінава), 5 двароў, 47 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Калодзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 15 двароў, 72 жыхары. З 18.1.1931 г. ўключаны ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1997 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе калгаса «Новы быт» (цэнтр — в. Крупіца).

**ВІШНЁЎКА** — вёска ў Крупіцкім с/с, за 17 км на Пд ад Мінска. 67 гаспадарак, 151 жыхар (2010).

У 1800 г. вёска, 4 двары, 22 жыхары, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1897 г. засценак, 6 двароў, 35 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў фальварку 2 двары, 17 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак у Калодзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў засценку 5 двароў, 25 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключаны ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 20 жыхароў. У 1997 г. 78 гаспадарак, 198 жыхароў, у складзе калгаса «Новы быт» (цэнтр — в. Крупіца). У 2010 г. базавая школа, яслі-сад, аддз. сувязі, магазін.

**ВІШНЁЎКА** — вёска ў Гаранскім с/с, за 16 км на З ад Мінска. 30 гаспадарак, 68 жыхароў (2010).

З 20.8.1924 г. вёска ў Траскоўшчынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 11 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 34 гаспадаркі, 70 жыхароў, у

саўгасе імя Ульянава (цэнтр — в. Навaселле). У 2010 г. магазін.

**ВІШНЁЎКА** – вёска ў Папярнянскім с/с, за 10,5 км на Пн ад Мінска. 406 гаспадарак, 1034 жыхары (2010).

У 1791 г. вёска — цэнтр маёнтка, двор, 12 дымоў, карчма, шляхецкая ўласнасць К.Шэмбеля, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 2 двары, 5 жыхароў, шляхецкая ўласнасць, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць К.Шэмбеля, у 1858 г. маёнтак, уласнасць П.Лянтоўскага. У 1897 г. маёнтак, 2 двары, 70 жыхароў, у Бяларуцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. двор, 62 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. створаны саўгас «Вішнёўка», адкрыта школа, у 1923 г. было 20 вучняў. У 1923 г. адкрыты клуб. З 20.8.1924 г. ў Папярнянскім с/с ў Астрашыцка-Гарадоцкім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. на хутары Вішнёўка 3 двары, 21 жыхар, у саўгасе «Вішнёўка» — 90 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не, цэнтр саўгаса «Вішнёўка». У 1941 г. ў вёсцы 135 двароў, 524 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты спалілі 124 двары, знішчылі 7 жыхароў і 20 вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 20.1.1960 г. ў Папярнянскім с/с. У 1997 г. 262 гаспадаркі, 786 жыхароў, цэнтр саўгаса «Вішнёўка». У 2010 г. вёска – цэнтр СВК «Вішнёўка-2002». У 2010 г. базавая школа, яслі-сад, амбулаторыя, аддз. сувязі, магазін. На скрыжаванні дарог Мінск—Радашковічы і Мінск—Вяча — брацкая магіла сав. воінаў, помнік землякам і на ўшанаванне памяці 150 воінаў 100-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1965 г. пастаўлены абеліск.

**ВОПЫТНЫ** — пасёлак у Бараўлянскім с/с, за 7 км на ПнУ ад Мінска. 101 гаспадарка, 368 жыхароў (2010).

У 1969 г. пабудаваны пасёлак для работнікаў доследнай гаспадаркі Мін-ва сельскай гаспадаркі БССР, у Астрашыцкагарадоцкім с/с. З 9.8.1979 г. ў Бараўлянскім с/с, у складзе саўгаса «Бараўляны» (цэнтр — в. Лескаўка). У 1997 г. 66 гаспадарак, 186 жыхароў. У 2010 г. магазін.

**ВОСАВА** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 3,5 км на Пн ад Мінска, на р. Вяча. 29 гаспадарак, 70 жыхароў (2010).

У 1766 г. вёска, 41 жыхар, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска — цэнтр маёнтка, 7 двароў, 63 жыхары, панскі двор, вадзяны млын на р. Вяча, уласнасць І. і Т.Валадковічаў. У 1858 г. ўласнасць Ф.Буйвіда і Грабоўскай. У 1897 г. вёска (24 двары, 150 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца) і маёнтак (3 двары, 29 жыхароў) у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 26 двароў, 191 жыхар, у маёнтку двор, 41 жыхар, на хутары двор, 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Сёмкава-Гарадоцкім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 35 двароў, 192 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.1.1960 г. ў Папярнянскім с/с. У 1997 г. 36 гаспадарак, 78 жыхароў, у саўгасе «Вішнёўка» (цэнтр — в. Вішнёўка). У 2010 г. магазін. На могілках брацкая магіла сав. воінаў.

**ВОЎКАЎШЧЫНА** – вёска ў Рагаўскім с/с, за 29 км на ПнЗ ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 1800 г. вёска, 6 двароў, 39 жыхароў, уласнасць мінскага Петрапаўлаўскага праваслаўнага манастыра, у Мінскім павеце. У 1885 г. вёска і фальварак у Заслаўскай вол. У 1908 г. 6 двароў, 55 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 27 двароў, 137 жыхароў. З 13.6.1929 г. ў Рагаўскім с/с. У 1930-я г. ў фальварку створана с.-г. арцель «Трудалюбіе». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пры абароне вёскі ў чэрв. 1941 г. загінулі 124 воіны, сярод якіх байцы 64-й стралк. дывізіі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1987 г. ў саўгасе «Рагаўскі» (цэнтр — в. Новы Двор). У 1997 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**ВОЎЧКАВІЧЫ** — вёска ў Шчомысліцкім с/с, за 5 км на ПдЗ ад Мінска, каля Воўчкавіцкага вадасховішча (на р. Пціч). 101 гаспадарка, 351 жыхар (2010).

У 1557 г. згадваецца як сяло, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1600 г. сяло, уласнасць Ф.В.Воўка-Пчыцкага. У 1667 г. сяло маёнтка Гарадзішча, 8 дымоў. У 1710 г. вёска, 9 двароў, з якіх 1 пусты, млын, уласнасць С.Багушэвіча. У 1791 г. вёска — цэнтр маёнтка, двор, 52 дымы, карчма, шляхецкая ўласнасць Іваноўскіх, у Каралішчавіцкай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска на левым беразе р. Пціч, панскі двор, 15 двароў, 129 жыхароў, драўляная капліца, вятрак і вадзяны млын, уласнасць М.Іваноўскай, у Мінскім павеце. У 1897 г. вёска (42 двары, 272 жыхары) і маёнтак (7 двароў, 51 жыхар, кузня, млын, піцейны дом, касцёл), у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 60 двароў, 77 жыхароў, у фальварку 77 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Падгайскім с/с, Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 56 двароў, 313 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 8 двароў, 11 жыхароў вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 8.4.1957 г. ў Шчомысліцкім с/с. У 1997 г. 108 гаспадарак, 311 жыхароў. У 2010 г. гандлёвы цэнтр, клуб.

**ВУГЛЫ** — вёска ў Самахвалавіцкім с/с, за 13 км на Пд ад Мінска. 26 гаспадарак, 41 жыхар (2010).

У 1710 г. вёска, 3 двары, уласнасць Пацея, пазней — А.Агінскага, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 29 жыхароў, уласнасць М.Пузыны, у Мінскім павеце. У 1815, 1858 гг. уласнасць Уніхоўскіх. У 1897 г. ў вёсках Вуглы Русінавіцкія 14 двароў, 79 жыхароў, Вуглы Міхайлаўскія — 6 двароў, 50 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсках Вуглы Русінавіцкія 16 двароў, 96 жыхароў, Вуглы Міхайлаўскія — 13 двароў, 86 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Самахвалавіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы Русінавіцкія Вуглы 17 двароў, 83 жыхары. З 18.1.1931 г. ўклю-

чана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. У 1935 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1997 г. 30 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе эксперыментальнай базы «Русінавічы» (цэнтр — в. Самахвалавічы). У 2010 г. магазін.

**ВУГЛЯНЫ** — вёска ў Юзуфоўскім с/с, за 15,5 км на Пн ад Мінска. 20 гаспадарак, 50 жыхароў (2010).

У1600 г. сяло, у 1667 г. маёнтак, 5 дымоў, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1791 г. вёска, панскі двор, 10 дымоў, карчма, уласнасць Барсукоў, у Мінскай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. засценак, 16 двароў, 106 жыхароў, уласнасць Валадковічаў, у Мінскім павеце. У 1815 г. ўласнасць І.Ваньковіча, у 1858 г. — І.Нянецкага і Н.Дабравольскага. У 1897 г. вёска (26 двароў, 176 жыхароў, хлебазапасны магазін) і маёнтак (2 двары, 14 жыхароў), у Бяларуцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 35 двароў, 289 жыхароў, у маёнтку 6 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Гатовінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 52 двары, 279 жыхароў, на хутары 4 двары, 26 жыхароў, школа, 52 вучні. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Юзуфоўскім с/с. У 1997 г. 31 гаспадарка, 72 жыхары, у саўгасе «Буцэвічы» (цэнтр — в. Юзуфова).

**ВЫШКАВА** — вёска ў Лашанскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Мінска. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 1582 г. сяло Вялікае Вышкава маёнтка Старыя Саламарэчы, уласнасць І.Саламярэцкай — Г.Я.Глябовічаўны, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1761 г. сяло, 10 дымоў, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815, 1858 гг. вёска, 16 двароў, 105 жыхароў, уласнасць Валадковічаў, у Мінскім павеце. У 1886 г. адкрыта школа граматы, у 1890 г. вучыліся 10 хлопчыкаў і дзяўчынка. У 1897 г. вёска, 29 двароў, 192 жыхары, хлебазапасны магазін, у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 36 двароў, 213 жыхароў, нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Гатавінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 12 двароў, 69 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 57 двароў, 192 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты спалілі 57 двароў, загубілі 145 жыхароў, 55 вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. У 1997 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў, у саўгасе «Браўкі» (цэнтр — в. Браўкі). У цэнтры вёскі магіла ахвяр фашызму, пахаваны 190 жыхароў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**ВЯЗЫНКА** — вёска ў Пятрышкаўскім с/с, за 20,5 км на ПнЗ ад Мінска. 12 гаспадарак, 37 жыхароў (2010).

У 1858 г. вёска, уласнасць Р.Пішчалы, у Мінскіх павеце і губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. арганізаваны саўгас «Вязынь». У кастр. 1923 г. адкрыта чатырохгадовая школа, у якой у 1924 г. быў 71 вучань. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім, з 1927 г. ў Бардзынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 8 два-

роў, 51 жыхар. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Новы будаўнік». З 9.3.1932 г. ў Гуянскім, з 14.5.1936 г. ў Навадворскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 6 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У 1997 г. 15 гаспадарак, 39 жыхароў, у саўгасе імя Жданава (цэнтр — в. Пятрышкі).

**ВЯЛІКАЕ СЦІКЛЕВА** — вёска ў Навадворскім с/с, за 1,1 км на Пд ад Мінска. 503 гаспадаркі, 1431 жыхар (2010).

У 1791 г. засценак маёнтка Трасцянец, шляхецкая ўласнасць, у Мінскай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1815 г. вёскі Стары Сціклеў (29 жыхароў мужчынскага полу) і Новы Сціклеў (37 жыхароў мужчынскага полу), уласнасць С.Прушынскага, у Мінскіх павеце і губ. У 1858 г. вёска Сціклева (11 жыхароў мужчынскага полу) ва ўладанні Д.Спасовіча, вёска Новы Сціклеў (15 жыхароў мужчынскага полу) і маёнтак Сціклева (37 жыхароў мужчынскага полу) уласнасць Э.Ваньковіча. У 1897 г. вёска Вялікае (яна ж Старое) Сціклева (23 двары, 149 жыхароў) і ўрочышча Сціклева (двор, 6 жыхароў), у Сенніцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 32 двары, 217 жыхароў, у 2 урочышчах 7 двароў, 48 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Трасцянецкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 33 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Гатаўскім, з 20.1.1960 г. ў Навадворскім с/с. У 1997 г. 288 гаспадарак, 1231 жыхар, цэнтр саўгаса «Мінскай агародніннай фабрыкі». У 2010 г. Дом культуры, яслі-сад, аддз. сувязі, магазін.

**ВЯЛІКАЕ СЯЛО** — вёска ў Гаранскім с/с, за 23 км на З ад Мінска. 34 гаспадаркі, 59 жыхароў (2010).

У 1600 г. згадваецца як сяло, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1779 г. 36 двароў, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 33 двары, 178 жыхароў, на левым беразе р. Іслач, у Мінскім павеце. У 1815, 1858 гг. уласнасць Здзяхоўскіх. У 1883 г. адкрыта школа граматы, у 1890 г. вучыліся 6 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. У 1897 г. вёска, 57 двароў, 378 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 84 двары, 490 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Траскоўшчынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1924 г. працавала школа, 67 вучняў. У 1926 г. ў вёсцы 81 двор, 457 жыхароў, у пасёлку 13 двароў, 80 жыхароў, пры школе хата-

*Царква Раства Хрыстова ў в. Вялікае Сціклева.*



чытальня, б-ка. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 43 гаспадаркі, 81 жыхар, у саўгасе імя «Энгельса». У 2010 г. магазін.

**ВЯЛІКАЯ БАРЗДЫНЬ** – вёска ў Гаранскім с/с, за 25 км на З ад Мінска. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

У 1567 г. сяло Барздынь, шляхецкая ўласнасць некалькіх гаспадароў, згадваецца ў попісе войска ВКЛ. У 1667 г. маёнтак, 7 дымоў, уласнасць В.Б.Лаўдбора. У 1791 г. вёска – цэнтр маёнтка, 27 дымоў, 2 карчмы, уласнасць Валодзькаў, у Заслаўскай парафіі Мінскіх павета і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1815 г. вёска, 52 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыкаў Валодзькаў, у Мінскіх павеце і губ. У 2-й пал. 19 ст. вёска была падзелена на дзве: Вялікая і Малая Барздынь. У 1858 г. вёска – цэнтр маёнтка, 30 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць А.Вішнявецкага. У 1897 г. вёска, 19 двароў, 103 жыхары і маёнтак – 39 двароў, вятрак, 2 капліцы, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 22 двары, 140 жыхароў, у маёнтку 40 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска – цэнтр сельсавета Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 9 двароў, 44 жыхары. З 9.3.1932 г. ў Навадворшчынскім нац. польскім с/с. З 14.5.1936 г. ў Навадворскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 16 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 5 двароў, знішчылі 6 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8. 1959 г. ў Мінскім р-не. У 1989 г. ў вёсцы размяшчалася падсобная гаспадарка «Строймеханізацыі» Аграпрама БССР. У 1997 г. 15 гаспадарак, 22 жыхары.

**ВЯЛІКІ ТРАСЦЯНЕЦ** – вёска ў Навадворскім с/с, за 1,5 км на ПдУ ад Мінска. 846 гаспадарак, 2523 жыхары (2010).

У 1503 г. сяло Трасцянцы, 6 служб «бліз места Мінскага» нададзена Мінскаму Вазнясенскаму манастыру, у Мінскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 6 двароў, 44 жыхары, на левым беразе р. Ельніца, на правым – фальварак і млын, уласнасць Р.Прушынскага, у Мінскіх павеце і губ. У 2-й пал. 19 ст. вёска падзялілася на дзве: Вялікі (ён жа Стары) Трасцянец і Малы (ён жа Новы) Трасцянец. У 1897 г. вёскі Вялікі Трасцянец (32 двары, 210 жыхароў, хлебазапасны магазін), Трасцянец (14 двароў, 107 жыхароў), маёнтак Трасцянец (двор, 23 жыхары), фальварак (15 жыхароў, вадзяны млын), у Сеніцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. вёска (45 двароў, 270 жыхароў) і 2 маёнткі (58 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска – цэнтр Трасцянецкага с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1930-я г. арганізаваны калгас імя Гамарніка, працавала кузня. З 18.1.1931 г. ўключаны ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У Трасцянецкім лагеры смерці фашысты знішчылі 206500 чалавек. З 16.7.1954 г. ў Гатаўскім, з 20.1.1960 г. ў Навадворскім с/с. У 1997 г. 634 гаспадаркі, 1514 жыхароў. У 2010 г. КУП «Мінская гароднінная фабрыка», урачэбная амбулаторыя, сярэдняя школа, яслі-сад, магазіны, аптэкі. Каля вёскі

помнік ахвярам фашызму на ўшанаванне памяці больш за 206 тыс. чалавек — ахвяр Трасцянецкага лагера смерці, у 1963 г. пастаўлены абеліск.

**ВЯРБІЦКІЯ** — вёска ў Бараўлянскім с/с, за 7 км на ПнУ ад Мінска. 16 гаспадарак, 37 жыхароў (2010).

У 1815, 1858 гг. вёска, 18 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць І. і М. Тышкевічаў, у Мінскіх павеце і губ. У 1897 г. вёска, 12 двароў, 80 жыхароў, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 12 двароў, 87 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Астрашыцка-Гарадоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 16 двароў, 103 жыхары. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 2 жыхары. З 9.8.1979 г. вёска ў Бараўлянскім с/с. У 1997 г. 14 гаспадарак, 31 жыхар, у саўгасе імя Фрунзэ (цэнтр — в. Бараўляны).

**ВЯСЁЛКІ** — вёска (да 14.12.1931 г. Язвы) у Лугаваслабодскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Мінска. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2010).

У пач. 20 ст. хутар Язвы ў Сеніцкай вол. Мінскіх павета і губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Каралішчавіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ўключаны ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. вёска ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 5.3.1959 г. ў Абчакаўскім, з 8.6.1981 г. ў Лугаваслабодскім с/с. У 1997 г. 8 гаспадарак, 10 жыхароў, у складзе саўгаса «Волма» (цэнтр — в. Лугавая Слабада).

**ГАШЧА** — вёска ў Хацежынскім с/с, за 13,5 км на З ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 41 гаспадарка, 65 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 10 двароў, 50 жыхароў, уласнасць віленскага ваяводы кн. К.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1897 г. вёска, 28 двароў, 179 жыхароў, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 44 двароў, 250 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 45 двароў, 214 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 15 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 28.2.1974 г. ў Хацежынскім с/с. У 1997 г. 35 гаспадарак, 72 жыхары, у складзе саўгаса «Пціч» (цэнтр — в. Старое Сяло). У 2010 г. магазін.

**ГАЙДУКОЎКА** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 27 км на Пн ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 1800 г. засценак, двор, 2 жыхары, дзярж. ўласнасць, у Вілейскім павеце. У 1858 г. засценак маёнтка Радашковічы, 7 жыхароў мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць. У 1870 г. засценак у Бахметаўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. засценак (4 двары, 21 жыхар) і сядзіба (двор, 5 жыхароў), у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 6 двароў, 37 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 7 двароў, 33 жыхары, млын. З

20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары, у саўгасе «Савецкі» (цэнтр — в. Шаршуны).

**ГАЛАВАЧЫ** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Мінска. 16 гаспадарак, 40 жыхароў (2010).

У 1797 г. вёска, уласнасць М.Валадковіча, у Мінскім павеце. У 1800 г. вёска, 15 двароў, 98 жыхароў. У 1858 г. вёска маёнтка Новы Двор, 32 жыхары мужчынскага полу. У 1870 г. цэнтр сельскай грамады. У 1897 г. вёска (25 двароў, 155 жыхароў) і сядзіба (двор, 9 жыхароў), у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. У 1907 г. ў вёсцы 14 двароў, 182 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 45 двароў, 240 жыхароў, школа. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 41 двор, 242 жыхары. З 13.6.1929 г. ў Рагаўскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 36 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 22 гаспадаркі, 37 жыхароў, у саўгасе «Савецкі» (цэнтр — в. Шаршуны). У 2010 г. магазін.

**ГАЛІЦА** — вёска ў Астрашыцкагарадоцкім с/с, за 14 км на ПнУ ад Мінска. 22 гаспадаркі, 53 жыхары (2010).

У 1782 г. вёска маёнтка Гарадок, 19 двароў, з іх 8 баярскіх, 6 пустых, карчма, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1815 г. вёска, 72 жыхары мужчынскага полу, уласнасць І.Тышкевіча. У 1846, 1858 гг. 19 двароў, 115 жыхароў, уласнасцьТышкевічаў. У 1882 г. адкрыта школа граматы, у 1890 г. вучыліся 20 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. У 1897 г. 40 двароў, 265 жыхароў, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 45 двароў, 279 жыхароў, нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Астрашыцка-Гарадоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 54 двароў, 301 жыхар, школа. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім р-не. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 41 двор, 132 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 10 двароў, знішчылі 6 жыхароў. У 1997 г. 36 гаспадарак, 132 жыхары, у саўгасе «Новы шлях» (цэнтр— Астрашыцкі Гарадок).

**ГАЛОЎКІ** — вёска ў Хацежынскім с/с, за 7 км на З ад Мінска. 37 гаспадарак, 101 жыхар (2010).

У 1800 г. вёска, 7 двароў, 37 жыхароў, уласнасць К.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 26 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у закладзе графа І.Тышкевіча. У 1858 г. 24 жыхары мужчынскага полу, уласнасць І.Валадковіча. У 1897 г. вёска (21 двор, 111 жыхароў), фальварак (двор, 7 жыхароў), выселак (5 двароў, 23 жыхары) і аднаселле (двор, 7 жыхароў), у Старасельскай вол. Мінскага павета і губ. У 1917 г. ў вёсцы 20 двароў, 121 жыхар, у фальварку — двор, 4 жыхары, на хутары — 20 двароў, 128 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г.

акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 28.2.1974 г. ў Хацежынскім с/с. У 1997 г. 40 гаспадарак, 106 жыхароў, у складзе саўгаса «Пціч» (цэнтр — в. Старое Сяло).

**ГАНАЛЕС** — вёска ў Ждановіцкім с/с, за 9 км на З ад Мінска, каля Заслаўскага вадасховішча. 38 гаспадарак, 79 жыхароў (2010).

У 1858 г. фальварак, 2 жыхары мужчынскага полу, уласнасць М. і А. Лукашэвічаў, у Мінскім павеце. У 1897 г. фальварак (2 двары, 10 жыхароў), 2 аднаселлі (5 двароў, 31 жыхар), 2 урочышчы (2 двары, 19 жыхароў), 2 вадзяныя млыны і лясная вартоўня (двор, 9 жыхароў), у Заслаўскай вол. Мінскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Заслаўскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары 3 двары, 26 жыхароў, вадзяны млын. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 5 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Ждановіцкім с/с. У 1997 г. 30 гаспадарак, 82 жыхары. Побач з вёскай санаторый «Юнацтва».

**ГАРАДЗІШЧА** — пасёлак і чыг. ст. на лініі Мінск—Орша, у Калодзішчанскім с/с, за 8 км на ПнУ ад Мінска, на р. Волма (прыток р. Свіслач). 250 гаспадарак, 696 жыхароў (2010).

У 1557 г. сяло, шляхецкая ўласнасць, у Мінскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ. У 1582 г. сяло — цэнтр воласці, уласнасць Ю.М.Радзівіла. У 1586 г. сяло маёнтка Смалявічы, 25 валок зямлі, 21 сял. гаспадарка, панскі двор, карчма, вадзяны млын, у Смалявіцкай вол. У 1597—1600 гг. цэнтр маёнтка, двор, цівун, уласнасць К.Радзівіла. У 1640 г. 38 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 7 двароў, 54 жыхары, млын, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1815 г. ў арэндзе ў А.Ваньковіча. У 1858 г. ўласнасць кн. П.Вітгенштэйна, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. У 1897 г. ў маёнтку 41 жыхар, вадзяны млын. У 1917 г. ў засценку 20 двароў, 142 жыхары, у фальварку — 5 двароў, 38 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Калодзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары 34 двары, 169 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключаны ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў пасёлку 82 двары, 360 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1997 г. 261 гаспадарка, 717 жыхароў. У 2010 г. пач. школа—сад, аддз. сувязі, магазін.

**ГАРАДЗІШЧА** — вёска ў Шчомысліцкім с/с, за 8 км на ПдЗ ад Мінска. 115 гаспадарак, 318 жыхароў (2010).

Каля вёскі, на ручаі Менка археал. помнікі — гарадзішча і селішча стараж.-рус. часу. Паводле меркаванняў некаторых вучоных, тут першапачаткова (да сярэдзіны 11 ст.) размяшчаўся стараж. Мінск. У 1567, 1582, 1589, 1600 гг. сяло, маёнтак, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1567 г. з маёнтка выстаўляліся 2 кані ў войска ВКЛ. У 1582 г. мястэчка, панскі двор, стадола, ва ўладанні Г.Шалушэнкі, праходзілі таргі. У 1667 г. маёнтак, 23 дымы, уласнасць Е.Статкевіча. У 1710 г. мястэчка, 10 двароў, карчма, млын, царква, фальварак, уласнасць С.Багушэвіча. У 1756 г. пабудавана драўляная Мікалаеўская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815, 1858 гг. сяло, 15 двароў, 100 жыхароў, на правым беразе р. Пціч, вадзяны млын, панскі

двор, уласнасць Пішчалаў, у Мінскім павеце. У 1887 г. адкрыта школа граматы, у 1890 г. ператворана ў царк.-прыходскую. У 1897 г. сяло, 5 двароў, 30 жыхароў, царква, карчма, царк.-прыходскае вучылішча і маёнтак — двор, 50 жыхароў. У 1917 г. ў сяле 22 двары, 101 жыхар, у маёнтку — двор, 44 жыхары, у Старасельскай вол. Мінскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. створаны саўгас «Звязда», працавала кузня. З 20.8.1924 г. ў Строчыцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1924 г. пачала працаваць трохгадовая школа, 40 вучняў. У 1926 г. ў засценку 9 двароў, 51 жыхар. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Шчомысліцкім с/с. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 94 гаспадаркі, 256 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Азярцо). У 2010 г. сярэдняя школа, клуб, гандлёвы цэнтр, аддз. сувязі.

**ГАРАНІ** — вёска ў Гаранскім с/с (цэнтр у в. Наваселле), за 15,5 км на З ад Мінска, каля шашы Мінск—Гродна. 64 гаспадаркі, 128 жыхароў (2010).

У 1685 г. маёнтак, засценак, царк. ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815 гг. вёска, 8 двароў, 43 жыхары, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у закладзе ў графа І.Тышкевіча, у Мінскім павеце. У 1858 г. вёска, 15 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць І.Валадковіча. У 1897 г. вёска (12 двароў, 80 жыхароў) і смола-шкіпінарны з-д (двор, 14 жыхароў), у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 19 двароў, 109 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Траскоўшчынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 21 двор, 96 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 17 двароў, 79 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 15 двароў і знішчылі 2 жыхары. З 16.7.1954 г. вёска — цэнтр сельсавета, які ўтвораны з Навадворскага і Траскоўшчынскага с/с. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 64 гаспадаркі, 79 жыхароў, у саўгасе імя Ульянава (цэнтр — в. Наваселле). У 2010 г. магазін.

**ГАРОШКІ** — вёска ў Лашанскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Мінска. 16 гаспадарак, 28 двароў (2010).

У 1800, 1815 гг. вёска, 14 двароў, 71 жыхар, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскіх павеце і губ. У 1840 г. вёска маёнтка Заслаўе, 10 двароў, 65 жыхароў, карчма. У 1858 вёска, 33 жыхары мужчынскага полу, уласнасць Л.Прушынскага. У 1870 г. адносілася да Заслаўскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска (19 двароў, 121 жыхар) і аколіца (10 двароў, 67 жыхароў), у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 34 двары, 204 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 39 двароў, 205 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. З 1987 г. ў саўгасе імя Тэльмана (цэнтр —

в. Лашаны). У 1997 г. 20 гаспадарак, 38 жыхароў.

**ГАТАВА** — вёска ў Навадворскім с/с, за 5 км на Пд ад Мінска. 2489 гаспадарак, 7262 жыхары (2010).

У 1567 г. сяло, шляхецкая ўласнасць М.Служкі, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1582 г. сяло, уласнасць Б.Ложчанкі — І.Служчынай; цэнтр маёнтка, уласнасць П.І.Крушынскага, І.Т.Корсака. У 1590 г. ў сяле 14 гаспадарак, у маёнтку 3 дамы, агарод, уласнасць М.Служкі. У 1598 г. вёска, уласнасць А.Крашынскага, у 1599 г. сяло, уласнасць кн. Д.Скуміна. У 1600 г. сяло — цэнтр маёнтка, бабровыя гоны на р. Свіслач, уласнасць Служкаў; двор — уласнасць Корсакаў; потым асабістая ўласнасць Д.Скуміна, Тышкевіча. У 1642 г. 28 двароў, 69 жыхароў мужчынскага полу, царк. ўласнасць бернардзінцаў, у 1667 г. — францысканцаў. У 1742, 1791, 1800, 1815 гг. уласнасць Мінскага жаночага бернардзінскага кляштара. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. сяло і маёнтак, 130 душ мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць. У 1861 г. сяло, 50 двароў, 315 жыхароў, царква. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1870 г. дзярж. маёнтак, 129 душ мужчынскага полу, у Самахвалавіцкай вол. У 1880 г. 37 двароў, 400 жыхароў. У 1887 г. пабудавана драўляная Свята-Духаўская царква. У 1897 г. сяло (77 двароў, 450 жыхароў, нар. вучылішча, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, царква, карчма, кузня) і фальварак (двор, 9 жыхароў), у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. сяле 122 двары, 757 жыхароў, у фальварку двор, 12 жыхароў, нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. створана с.-г. т-ва «Выгада». З 20.8.1924 г. сяло — цэнтр сельсавета Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 1927 г. ў Дзяргайскім с/с. У 1924 г. адкрыта 3-гадовая школа, 85 вучняў. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. вёска — цэнтр Гатаўскага с/с, з 5.3.1959 г. ў Навадворскім с/с. У 1991 г. ў саўгасе «Рассвет» (цэнтр — в. Новы Двор). У 1997 г. 2530 гаспадарак, 7791 жыхар. У 2010 г. сярэдняя школа, яслі-сад, аддз. ашчаднага банка і сувязі, магазіны, праваслаўная царква. Брацкія магілы сав. воінаў 110-й і 153-й стралк. дывізій, партызан, помнік землякам. У 1975 г. пастаўлены помнік — стэла і мемарыяльная пліты.

**ГАТОВІНА** — вёска ў Юзуфоўскім с/с, за 30 км на Пн ад Мінска. 17 гаспадарак, 40 жыхароў (2010).

У 1858 г. вёска, 18 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць І.Валадковіча, у Мінскім павеце. У 1870 г. адносілася да Саламарэцкай сельскай грамады. У 1897 г. фальварак, двор, 18 жыхароў, у Бяларуцкай вол. Мінскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Гатовінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 6 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19. 3.1974 г. ў Юзуфоўскім с/с. У 1997 г. 26 гаспадарак, 53 жыхары, у саўгасе «Буцэвічы» (цэнтр — в. Юзуфова). У 1973 г. на брацкай магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск.

**ГЛЕБКАВІЧЫ** — вёска ў Калодзішчанскім с/с, за 12 км на У ад Мінска. 63 гаспадаркі, 173 жыхары (2010).

У 1586 г. сяло, уласнасць Г.Гарнастая. У 1640 г. 26 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 21 двор, 137 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла.

У 1858 г. ўласнасць кн. П.Вітгенштэйна, у Мінскім павеце. У 1897 г. вёска, 35 двароў, 213 жыхароў, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 52 двары, 318 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У вер. 1918 г. адкрыта 4-гадовая школа, у 1926 г. 54 вучні, працавалі 2 настаўнікі. З 20.8.1924 г. вёска ў Калодзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 55 двароў, 287 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Камсамолец». З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. вёска ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1997 г. 48 гаспадарак, 131 жыхар. У 2010 г. магазін. У 1950, 1965 гг. на брацкіх магілах сав. воінаў, партызан і мірных жыхароў пастаўлены абеліскі.

**ГОРЫ** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 25,5 км на ПнЗ ад Мінска. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў (2010).

У 1785 г. вёска, 5 двароў, уласнасць Т.Свентаржыцкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. засценак, 5 двароў, 14 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць біскупа Масальскага. У 1858 г. вёска маёнтка Бахметаўка, 15 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Любінцава, у Вілейскім павеце. У 1897 г. 8 двароў, 48 жыхароў, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. адкрыта школа, у 1924 г. 31 вучынь. У 1921 г. 10 двароў, 54 жыхар. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 12 двароў, 65 жыхароў. З 13.6.1929 г. ў Рагаўскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 4 жыхары. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 6 гаспадарак, 11 жыхароў, у саўгасе «Савецкі» (цэнтр — в. Шаршуны).

**ГРЫНІ** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Мінска. 22 гаспадаркі, 62 жыхары (2010).

У 1858 г. вёска маёнтка Новы Двор, 37 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Валадковіча, у Вілейскім павеце. У 1870 г. ў Галавачоўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска (20 двароў, 152 жыхары) і сядзіба (двор, 6 жыхароў), у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. У 1917 г. 38 двароў, 209 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 38 двароў, 209 жыхароў. У 1923 г. пачала дзейнічаць школа. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 41 двор, 234 жыхары. З 13.6.1929 г. ў Рагаўскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 29 двароў, 156 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 9 жыхароў. Акупанты спалілі 16 двароў, знішчылі 13 жыхароў і 1 вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 30 гаспадарак, 77 жыхароў, у саўгасе «Рагаўскі» (цэнтр — в. Рагава).

**ГРЭБЕНКА** — вёска ў Міханавіцкім с/с, за 15 км на Пд ад Мінска, за 3,5 км ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 13 гаспадарак, 22 жыхары (2010).

У 1800 г. вёска, двор, 6 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1897 г. фальварак, 2 двары, 10 жыхароў. У 1917 г. ўрочышча, 3 двары, 16 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп.

1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Гатаўскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў пасёлку Грэбенка-1 9 двароў, 43 жыхары, на хутары Грэбенка-2 — 2 двары, 7 жыхароў. З 1927 г. ў Дзяргайскім с/с. З 18.1.1931 г. ўключаны ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 21 двор, 68 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 7 двароў, знішчылі 6 жыхароў. З 1976 г. ў Самахвалавіцкім, з 1987 г. ў Міханавіцкім с/с. У 1997 г. 17 гаспадарак, 29 жыхароў, у калгасе Войкава (цэнтр — в. Чурылавічы).

**ГУБІЧЫ** — вёска ў Астрашыцкагарадоцкім с/с, за 16 км на ПнУ ад Мінска. 26 гаспадарак, 46 жыхароў (2010).

У 1597 г. сяло маёнтка Гарадзішча, шляхецкая ўласнасць, у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1736 г. вёска, 12 двароў, фальварак, уласнасць А.Багушэвіча. У 1782 г. вёска маёнтка Гарадок, 24 сял. гаспадаркі, з якіх адна ў арэндзе ў зямяніна, карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1858 гг. вёска, 25 двароў, 170 жыхароў, уласнасць Тышкевічаў, у Мінскім павеце. У 1897 г. вёска, 37 двароў, 292 жыхары, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета, бандарны промысел. У 1917 г. 53 двары, 350 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. адкрыта школа. З 20.8.1924 г. вёска ў Астрашыцка-Гарадоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1925 г. ў вёсцы створана с.-г. арцель, працавала кузня. У 1926 г. 72 двары, 391 жыхар. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім р-не. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 59 двароў, 203 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары, знішчылі 8 жыхароў. У 1997 г. 16 гаспадарак, 37 жыхароў.

**ГУЗГАЛАЎКА** — вёска ў Лугаваслабодскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Мінска, каля шашы Мінск—Гомель. 64 гаспадаркі,161 жыхар (2010).

У 1908 г. фальварак, двор, 12 жыхароў, у Смілавіцкай вол. Ігуменскага павета. У 1917 г. двор, 9 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З З 20.8.1924 г. вёска ў Каралішчавіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 5.3.1959 г. ў Абчакаўскім, з 8.6.1981 г. ў Лугаваслабодскім с/с. У 1997 г. 74 гаспадаркі, 175 жыхароў, у складзе саўгаса «Волма» (цэнтр — в. Лугавая Слабада).

**ГУЯ** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Мінска. 24 гаспадаркі, 59 жыхароў (2010).

У 1451 згадваецца як сяло маёнтка Радашковічы, шляхецкая ўласнасць, у Віленскім княстве. У 1567 г. вёска, уласнасць І.К.Стратовіча-Беразавецкага, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1677 г. цэнтр маёнтка, 14 дымоў, шляхецкая ўласнасць. У 1738 г. сяло, дзярж. ўласнасць, зямля пуставала. У 1791 г. вёска — цэнтр маёнтка, двор, 114 дымоў, у Радашковіцкай парафіі, уласнасць Валадковіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 20 двароў, 159 жыхароў, уласнасць Валадковіча, у Вілейскім павеце. У 1833 г. 21 двор, 143 жыхары, карчма, дзярж. ўласнасць. У 1858 г. вёска маёнтка Карлсберг, 76 жыхароў мужчынскага полу, карчма, уласнасць Сніткі. У 1870 г. ў Агаркаўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. вёска (45 двароў, 232 жыхары) і сядзіба (двор, 2

жыхары), у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. У 1900 г. адкрыта царк.-прыходская школа. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 38 двароў, 240 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 46 двароў, 229 жыхароў. З 13.6.1929 г. ў Рагаўскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 27 гаспадарак, 55 жыхароў, у саўгасе «Рагаўскі» (цэнтр — в. Рагава).

**ДАНІЛАЎКА** — вёска ў Лугаваслабодскім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Мінска. 11 двароў, 28 жыхароў (2010).

У 1897 г. ваколіца, 1 двор, 25 жыхароў, у Смілавіцкай вол. Ігуменскага павета. У 1917 г. засценак, 6 двароў, 31 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Замастоцкім нац. польскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 8.7.1931 г. ў Пухавіцкім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 3 вяскоўцы. З 5.3.1959 г. ў Абчакаўскім, з 8.6.1981 г. ў Лугаваслабодскім с/с. У 1997 г. 19 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе Мінскага цяплічнага камбіната (цэнтр — в. Замасточча).

**ДАЎБАРОВА** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Мінска. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 1549 г. сяло маёнтка Камянец, дым, 1 служба, шляхецкая ўласнасць, у Радашковіцкай вол. У 1791 г. вёска — цэнтр маёнтка, 39 дымоў, панскі двор, 2 карчмы, уласнасць Валадковіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. вёска, 27 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Гербераўскага. У 1870 г. адносілася да Бахметаўскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска (14 двароў, 86 жыхароў) і маёнтак (двор, 27 жыхароў), у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. ў вёсцы 21 двор, 101 жыхар, у маёнтку 40 жыхароў, на хутары Доўбарава-Краўцова — двор, 8 жыхароў. У 1923 г. вёска была пераведзена ў нацыяналізаваны маёнтак Доўбарава. З 20.8.1924 г. вёска ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г 21 двор, 102 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў, у саўгасе «Рагаўскі» (цэнтр — в. Рагава).

**ДАЎБАРОВА** — пасёлак у Рагаўскім с/с, за 29 км на ПнЗ ад Мінска. 12 гаспадарак, 27 жыхароў (2010).

З 20.8.1924 г. пасёлак у Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 13 двароў, 66 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 20 гаспадарак, 42 жыхары, у 1987 г. ў саўгасе «Рагаўскі» (цэнтр — в. Рагава). У 2010 г. магазін.

**ДАЎЖАНЫ** — вёска ў Пятрышкаўскім с/с, за 18,5 км на ПнЗ ад Мінска. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

У 1584 г. маёнтак Даўжанскае, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 20 двароў, 95 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць

Л.Прушынскага. У 1897 г. вёска, 19 двароў, 122 жыхары, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 22 двары, 148 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. арганізаваны калгас «Чырвоная мяжа», працавалі кузня, шорная майстэрня. Абслугоўвала Заслаўская МТС. З 20.8.1924 г. вёска ў Анусінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 26 двароў, 151 жыхар. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У 1987 г. ў саўгасе імя Жданава (цэнтр — в. Пятрышкі). У 1997 г. 18 гаспадарак, 26 жыхароў.

**ДАФАРЭНЦЫЯ** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 9,5 км на Пн ад Мінска. 25 гаспадарак, 35 жыхароў (2010).

У 1917 г. хутар, 11 двароў, 87 жыхароў, уласнасць урача Фарэнца, у Беларуцкай вол. Мінскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Папярнянскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 35 двароў, 192 жыхары. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 4 жыхары. У 1997 г. 25 гаспадарак, 43 жыхары.

**ДАШКІ** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Мінска. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

У 1815 г. пасёлак, 6 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Л.Клюкаўскага, у Вілейскім павеце. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. засценак, 2 двары, 17 жыхароў, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З 20.8.1924 г. вёска ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 19 двароў, 88 жыхароў, на хутары двор, 7 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 8 вяскоўцаў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 7 гаспадарак, 15 жыхароў, у саўгасе «Савецкі» (цэнтр — в. Шаршуны).

**ДВАРЭЦ** — вёска ў Лугаваслабодскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Мінска. 14 гаспадарак, 33 жыхары (2010).

У 1600 г. сяло маёнтка Вотчычы, шляхецкая ўласнасць Шалухі, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. вёска, 88 жыхароў, уласнасць памешчыка Р.Кучынскага, у Ігуменскім павеце. У 1897 г. вёска (19 двароў, 123 жыхары, хлебазапасны магазін) і маёнтак (двор, 11 жыхароў), у Смілавіцкай вол. Ігуменскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 22 двары, 155 жыхароў, у маёнтку двор, 5 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Замастоцкім нац. польскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 8.7.1931 г. ў Пухавіцкім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 5.3.1959 г. ў Абчакаўскім, з 8.6.1981 г. ў Лугаваслабодскім с/с. У 1997 г. 20 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе саўгаса «Волма» (цэнтр — в. Лугавая Слабада).

**ДВОРЫЦКАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Шчомысліцкім с/с, за 0,2 км на ПдЗ

ад Мінска. 23 гаспадаркі, 90 жыхароў (2010).

У 1858 г. вёска, 50 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Ф.Немаршанскага, у Мінскім павеце. У 1897 г. вёска, 33 двары, 199 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Сеніцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 38 двароў, 227 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Строчыцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1924 г. працавала 4-гадовая школа, 36 вучняў. У 1926 г. ў вёсцы 46 двароў, 245 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Шчомысліцкім с/с. У 1988 г. ў складзе калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Азярцо). У 1997 г. 22 гаспадаркі, 65 жыхароў. На зах. ускраіне вёскі размешчаны археал. помнік — селішча стараж.-рус. часу.

**ДВОРЫШЧА** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 28,5 км на Пн ад Мінска. 7 гаспадарак, 21 жыхар (2010).

У 1764 г. вёска, 5 двароў баярскіх, дзярж. ўласнасць, у Радашковіцкім старостве Віленскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 46 жыхароў, у Вілейскім павеце. У 1858 г. вёска маёнтка Радашковічы, 16 жыхароў мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1870 г. адносілася да Бахметаўскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска, 8 двароў, 81 жыхар, у фальварку — двор, 13 жыхароў, вадзяны млын. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. ў вёсцы 16 двароў, 95 жыхароў, у фальварку 2 двары, 4 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсках Дворышча-1 — 17 двароў, 93 жыхары, Дворышча-2 — 24 двары, 119 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 16 вяскоўцаў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 12 гаспадарак, 29 жыхароў, у саўгасе «Рагаўскі» (цэнтр — в. Рагава). За 0,2 км на З ад вёскі размешчаны археал. помнік — гарадзішча жал. веку і стараж.-рус. часу.

**ДЗЕГЦЯРОЎКА** — вёска ў Ждановіцкім с/с, за 4 км на З ад Мінска. 131 гаспадарка, 342 жыхары (2010).

У 1778 г. вёска, 17 двароў, 79 жыхароў, уласнасць В.Валадковіча, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1791 г. вёска маёнтка Ляхаўшчызна, шляхецкая ўласнасць, у Каралішчавіцкай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1815 г. вёска, 36 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць С.Ратынскага, у 1858 г. — К.Гайдукевіч. У 1887 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. вёска, 27 двароў, 155 жыхароў, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 22 двары, 138 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Ратамскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары 30 двароў, 147 жыхароў. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 6 вяскоўцаў. З 20.1.1960 г. ў Ждановіцкім с/с. У 1997 г. 121 гаспадарка, 326 жыхароў, у саўгасе «Ждановіцкі цяплічны камбінат». У 2010 г. магазін.

**ДЗЕДАЎКА** — вёска ў Крупіцкім с/с, за 13 км на Пд ад Мінска. 16 гаспадарак, 28 жыхароў (2010).

У 1791 г. вёска Слабада Дзядаўка, 5 дымоў, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 4 двары, 30 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1858 г. ўласнасць Ельскіх, у Мінскім павеце. У 1897 г. 19 двароў, 102 жыхары, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 27 двароў, 150 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Крупіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 29 двароў, 140 жыхароў, у пасёлку 7 двароў, 35 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 19 вяскоўцаў. У 1997 г. 37 гаспадарак, 61 жыхар, у складзе калгаса «Новы быт» (цэнтр — в. Крупіца). За 1 км на Пн ад вёскі размешчаны археал. помнік — курганны могільнік стараж.-рус. часу.

**ДЗЕРГАІ** — вёска ў Навадворскім с/с, за 8,5 км на Пд ад Мінска. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

У 1667 г. вёска, 5 дымоў, уласнасць Я.Матушэвіча, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1791 г. ўласнасць Прушынскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 12 двароў, 65 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1858 г. вёска, 33 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыц С. і Я. Ельскіх. У 1897 г. 24 двары, 158 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 30 двароў, 105 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Гатаўскім, з 1927 г. цэнтр Дзяргайскага с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 36 двароў, 188 жыхароў, працавалі кузня і шавецкая майстэрня. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Гатаўскім, з 5.3.1959 г. ў Навадворскім с/с. У 1997 г. 31 гаспадарка, 53 жыхары, у саўгасе «Рассвет» (цэнтр — в. Новы Двор).

**ДЗІЧКІ** — вёска ў Пятрышкаўскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Мінска. 14 гаспадарак, 31 жыхар (2010).

У 1800 г. вёска, 7 двароў, 65 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага, пры злучэнні рэк Чарніца і Даўжанка, у Мінскім павеце. У 1815 г. царк. ўласнасць. У 1858 г. дзярж. ўласнасць. У 1897 г. 23 двары, 116 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 21 двор, 138 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Анусінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 27 двароў, 151 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 15 вяскоўцаў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У 1997 г. 24 гаспадаркі, 32 жыхары, у саўгасе імя Жданава (цэнтр — в. Пятрышкі).

**ДРОЗДАВА** — вёска ў Бараўлянскім с/с, за 1,5 км на Пн ад Мінска. 146 гаспадарак, 368 жыхароў (2010).

У 1908 г. ўрочышча, 3 двары, 21 жыхар, у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. вёска, 5 двароў, 37 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. —

войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Папярнянскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 6 двароў, 38 жыхароў, на хутары — 8 двароў, 46 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 3 вяскоўцы. З 9.8.1979 г. вёска ў Бараўлянскім с/с. У 1991 г. ў саўгасе імя Фрунзэ (цэнтр — в. Бараўляны). У 1997 г. 18 гаспадарак, 35 жыхароў.

**ДУБАЎЛЯНЫ** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 3,7 км на Пн ад Мінска. 121 гаспадарка, 277 жыхароў (2010).

У 1582 г. сяло Дубаўляны (яно ж Дураўляны), уласнасць кн. П.Крошынскага, у Заценскай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1605 г. сяло маёнтка Заценъ, 34 дымы, 50 валок зямлі. У 1773 г. вёска, 6 сял. дамоў. У 1790 г. вёска і фальварак маёнтка Сёмкаў, шляхецкая ўласнасць, у Заслаўскай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска — цэнтр маёнтка, 6 двароў, 45 жыхароў, уласнасць А.Хмары, у Мінскім павеце. У 1897 г. вёска (19 двароў, 123 жыхары) і маёнтак (2 двары, 15 жыхароў), у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 18 двароў, 119 жыхароў, у маёнтку 10 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1924 г працавала пач. школа, 32 вучні. З 20.8.1924 г. ў Папярнянскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 26 двароў, 121 жыхар. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.1.1960 г. ў Папярнянскім с/с. З 1971 г. працавала птушкафабрыка «Дубаўляны». У 1997 г. 85 гаспадарак, 256 жыхароў. У 2010 г. сярэдняя школа, магазін. Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы М.Г.Ціхановіча (17.9.1920–7.9.2003).

**ДУБІНКІ** — вёска ў Крупіцкім с/с, за 19 км на Пд ад Мінска. 24 гаспадаркі, 49 жыхароў (2010).

У 1858 г. вёска, 45 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць кн. А.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1897 г. вёска, 20 двароў, 129 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 30 двароў, 181 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Крупіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 34 двары, 173 жыхары, працавалі кузня і кравецкая майстэрня. З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім, з 29.6.1932 г. ў Дзяржынскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 39 двароў, 148 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 18 вяскоўцаў. У 1997 г. 38 двароў, 73 жыхары, у складзе калгаса «Новы быт» (цэнтр — в. Крупіца). У 2010 г. магазін.

**ДУБІЦКАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Крупіцкім с/с, за 18 км на Пд ад Мінска. 27 гаспадарак, 62 жыхары (2010).

У 1791 г. вёска Слабодка Дубская маёнтка Анопаль, шляхецкая ўласнасць, у Каралішчавіцкай парафіі Мінскіх павета і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 72 жыхары, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у 1858 г. ўласнасць кн. А.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1897 г. 29 двароў, 182 жыхары, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета, царква на могілках. У 1903 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. 48 двароў, 277 жыхароў. З лю-

тага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Крупіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 48 двароў, 246 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 45 двароў, 273 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 13 двароў, знішчылі 9 жыхароў і 27 вывезлі на прымусовую працу ў Германію. У 1997 г. 64 гаспадаркі, 96 жыхароў, у складзе калгаса «Новы быт» (цэнтр — в. Крупіца). У 2010 г. клуб-б-ка, магазін.

**ДУБКІ** — вёска ў Навадворскім с/с, за 7 км на Пд ад Мінска. 8 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

У 1941 г. ў вёсцы 4 двары, 12 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 4 двары, знішчылі 4 жыхароў. У 1997 г. 23 гаспадаркі, 41 жыхар.

**ДУБОВЫ ЛЕС** — вёска ў Міханавіцкім с/с, за 16,5 км на Пд ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 21 гаспадарка, 44 жыхары (2010).

У 1858 г. вёска, 43 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыц С. і А. Іскржэцкіх, у Ігуменскім павеце. У 1897 г. 26 двароў, 145 жыхароў, у Пяражырскай вол. Ігуменскага павета. У 1917 г. 40 двароў, 246 жыхароў, у чыг. будцы — двор, 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска, у Кайкаўскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 40 двароў, 203 жыхары. З 18.1.1931 г. ў Смілавіцкім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1997 г. 26 гаспадарак, 52 жыхары.

**ДУБРАЎКА** — вёска ў Калодзішчанскім с/с, за 14 км на У ад Мінска. 26 гаспадарак, 58 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 3 двары, 34 жыхары, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1815 г. ў арэндзе ў А.Ваньковіча, у 1858 г. ўласнасць кн. П.Вітгенштэйна. У канцы 19 ст. 2 вёскі: Дубраўка і Малая Дубраўка, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1897 г. ў вёсцы Малая Дубраўка 11 двароў, 73 жыхары. У 1917 г. ў вёсцы Дубраўка 48 двароў, 394 жыхары, у вёсцы Малая Дубраўка 11 двароў, 74 жыхары, на 2 хутарах — 3 двары, 21 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Калодзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1924 г. працавала 4-гадовая школа, 70 вучняў. У 1926 г. ў вёсцы Дубраўка Малая 22 двары, 126 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. вёска ў Мінскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1997 г. 25 гаспадарак, 62 жыхары.

**ДУБРОВА** — вёска ў Гаранскім с/с, за 18 км на З ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 9 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 5 двароў, 26 жыхароў, уласнасць віленскага ваяводы К.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1858 г. вёска, 13 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць І.Валадковіча. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі

(да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары 2 двары, 8 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 14 двароў, 61 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 6 двароў, знішчылі 11 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 13 гаспадарак, 27 жыхароў, у саўгасе «Праўда» (цэнтр — в. Гарані).

**ДУБРОВА** — вёска ў Лугаваслабодскім с/с, за 15 км на ПдУ ад ад Мінска, на р. Слоўст (прыток р. Волма). 18 гаспадарак, 41 жыхар (2010).

У 1885 г. фальварак, вінакурны з-д, у Смілавіцкай вол. Ігуменскага павета. У 1897 г. ваколіца Дубрава (яна жа Дуброўка), 5 двароў, 48 жыхароў. У 1917 г. засценак, 13 двароў, 52 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Замастоцкім нац. польскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 8.7.1931 г. ў Пухавіцкім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 5.3.1959 г. ў Абчакаўскім, з 8.6.1981 г. ў Лугаваслабодскім с/с. У 1997 г. 17 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе саўгаса «Волма» (цэнтр — в. Лугавая Слабада). За 0,3 км на ПдУ ад вёскі размешчаны археал. помнік — курганны могільнік старaж.-рус. часу.

**ДУБЯНЦЫ** — вёска ў Хацежынскім с/с, за 14,5 км на З ад Мінска. 21 гаспадарка, 49 жыхароў (2010).

У 1600 г. сяло маёнтка Старое Сяло, уласнасць княгіні З.Ю.Алелькавічаўны-Слуцкай, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска 11 двароў, 58 жыхароў, уласнасць кн. К.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 38 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у закладзе ў графа І.Тышкевіча. У 1897 г. вёска, 26 двароў, 155 жыхароў і фальварак, 2 двары, 21 жыхар, уласнасць Валадковіча, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 32 двары, 161 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 35 двароў, 156 жыхароў, на хутары 8 двароў, 26 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 30 двароў, 92 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 28.2.1974 г. ў Хацежынскім с/с. У 1997 г. 19 гаспадарак, 47 жыхароў, у складзе саўгаса « Пціч» (цэнтр — в. Старое Сяло).

**ДУЛІЧЫ** — вёска ў Гаранскім с/с, за 17 км на З ад Мінска. 66 гаспадарак, 194 жыхары (2010).

У 1589 г. сяло, шляхецкая ўласнасць, у Старасельскай вол. Мінскіх павета і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 20 двароў, 99 жыхароў, уласнасць віленскага ваяводы К.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1815 г. ўласнасць Д.Радзівіла, у закладзе ў графа. І.Тышкевіча, у 1858 г. ўласнасць І.Валадковіча. У 1897 г. вёска (45 двароў, 227 жыхароў) і фальварак (5 двароў, 44 жыхары), у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 48 двароў, 226 жыхароў, на хутары — двор, 8 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Траскоўшчынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай

вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 74 гаспадаркі, 206 жыхароў. У 2010 г. магазін.

**ДЫНАРАВІЧЫ** – вёска ў Лашансім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Мінска. 11 гаспадарак, 28 жыхароў (2010).

У 1800, 1815 гг. вёска на «вялікай віленскай дарозе», 25 двароў, 127 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага, у 1858 г. ўласнасць Крэйчманаў, у Мінскім павеце. У 1897 г. вёска, 16 двароў, 105 жыхароў, хлебазапасны магазін, у маёнтку двор, 13 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 14 двароў, 99 жыхароў, у маёнтку двор, 9 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1924 г. працавала 4-гадовая школа, 26 вучняў. У 1926 г. 17 двароў, 114 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. У 1997 г. 14 гаспадарак, 29 жыхароў, у саўгасе імя Тэльмана (цэнтр – в. Лашаны).

**ЕЛЬНІЦА** – вёска ў Навадворскім с/с, за 6 км на Пд ад Мінска, на р. Трасцянка (прыток р. Свіслач). 209 гаспадарак, 587 жыхароў (2010).

У 1778 г. засценак, 3 двары, 8 жыхароў, вадзяны млын, уласнасць І.Прушынскага, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1791 г. засценак маёнтка Каралішчавічы, шляхецкая ўласнасць, у Мінскай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска на правым беразе ракі Ельніца, 7 двароў, 44 жыхары, уласнасць каралішчавіцкай каталіцкай плябаніі і С.Прушынскага. У 1858 г. вёска маёнтка Каралішчавічы, 58 жыхароў, уласнасць М.Прушынскага, у Ігуменскім павеце. У 1897 г. вёска, 15 двароў, 95 жыхароў, у Пярэжырскай вол. Ігуменскага павета. У 1917 г. 21 двор, 134 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Каралішчавіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 32 двары, 160 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 5.3.1959 г. ў Трасцянецкім, з 20.1.1960 г. у Навадворскім с/с. У 1997 г. 233 гаспадаркі, 507 жыхароў, у саўгасе «Світанне» (цэнтр – в. Новы Двор). У 2010 г. магазін.

**ЕРМАКІ** – вёска ў Рагаўскім с/с, за 19,5 км на ПнЗ ад Мінска. 7 гаспадарак, 17 жыхароў (2010).

У 1677 г. вёска маёнтка Гуя, 3 дымы, карчма, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 7 двароў, 80 жыхароў, уласнасць І.Валадковіча, у Вілейскім павеце. У 1833 г. 7 двароў, 29 жыхароў, дзярж. ўласнасць. У 1858 г. вёска маёнтка Карлсберг, 23 жыхары мужчынскага полу, уласнасць Сніткі. У лютым 1867 г. вяскоўцы адмовіліся ад уплаты нядоімак па выкупных і аброчных выплатах, аказалі супраціўленне пры вопісе маёмасці. У 1870 г. адносілася да Агаркаўскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска (13 двароў, 79 жыхароў, школа пісьменнасці) і пусташ (двор, 9 жыхароў), у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр.

1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 15 двароў, 97 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 15 двароў, 25 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 9 двароў, знішчылі 4 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 9 гаспадарак, 15 жыхароў, у саўгасе «Савецкі» (цэнтр — в. Шаршуны).

**ЕСЬКАВІЧЫ** — вёска ў Крупіцкім с/с, за 20 км на Пд ад Мінска. 14 гаспадарак, 29 жыхароў (2010).

У 1667 г. вёска Еськавічы ў маёнтку Самахвалавічы, шляхецкая ўласнасць у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 47 жыхароў, драўляны гаспадарскі двор са службамі, уласнасць палкоўніка С.Ельскага, у Ігуменскім павеце. У 1858 г. ўласнасць В.Катовіча. У 1897 г. вёска, 30 двароў, 216 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін і фальварак, 16 жыхароў, у Дудзіцкай вол. Ігуменскага павета. У 1917 г. 44 двары, 295 жыхароў, у маёнтку 14 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Крупіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім р-не. З 23.3.1932 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 43 двары, 111 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1997 г. 31 гаспадарка, 38 жыхароў.

**ЖАБАЎШЧЫНА** — вёска ў Юзуфоўскім с/с, за 21,2 км на Пн ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

У 1640 г. вёска, цэнтр маёнтка, уласнасць царквы ў Мінскім павеце. У 1791 г. 33 дымы, гаспадарскі двор, карчма, уласнасць праваслаўнай царквы ў Мінскай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. 13 жыхароў мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць, у Мінскім павеце. У 1885 г. маёнтак у Бяларуцкай вол. У 1897 г. 2 двары, 6 жыхароў. У 1917 г. ў фальварку 2 двары, 43 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Гатовінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 19.3.1974 г. ў Юзуфоўскім с/с. У 1997 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары.

**ЖДАНОВІЧЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 1 км на З ад Мінска, каля вадасховішча Крыніца на р. Свіслач. 2469 гаспадарак, 7815 жыхароў (2010).

Вёска заснавана ўрачом Здановічам, які купіў надзел зямлі на беразе р. Свіслач каля в. Патрэба. У 1921 г. — дачы, 5 двароў у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. З 20.8.1924 г. ў Бароўскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1922 г. пабудаваны дом адпачынку «Ждановічы», у 1935 г. — дзіцячы Дом адпачынку на 80 месцаў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1945 г. чыг. ст. Ждановічы. З 16.7.1954 г. вёска — цэнтр сельсавета. У 1966 г. адкрыўся санаторый «Крыніца» (у 1970 г. аб'яднаўся з домам адпачынку «Ждановічы»), у 1981 г. — санаторый «Беларусь». Адначасова з развіццём курорта рэсп. значэння развівалася



На курорце Ждановічы.

і вёска Ждановічы. У 1995 г. ў яе межы ўвайшлі вёскі Патрэба і Зарэчча. На 1997 г. 2011 гаспадарак, 5669 жыхароў. У 2010 г. лясніцтва, 3 дзіцячыя сады, сярэдняя школа, дзіцячы дом, школа-інтэрнат для дзяцей з парушэннем слыху, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, 2 аптэкі, дзіцячы аздараўленчы цэнтр, 7 санаторыяў, аддз. сувязі і ААТ «ААБ Беларусбанк», гандлёвы цэнтр, рынак.

**ЖУКАЎ ЛУГ** – вёска ў Бараўлянскім с/с, за 7,5 км на ПнУ ад Мінска. 33 гаспадаркі, 89 жыхароў (2010).

У 1917 г. хутар, двор, 12 жыхароў у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. 2 аднайменныя хутары ў Калодзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. хутар Жукаў Луг-1 (16 двароў, 98 жыхароў) і хутар Жукаў Луг-2 (4 двары, 22 жыхары). З 18.1.1931 г. ўключаны ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 9.8.1979 г. ў Бараўлянскім с/с. У 1997 г. 40 гаспадарак, 105 жыхароў.

**ЖУКАЎКА** – вёска ў Юзуфоўскім с/с, за 24 км на Пн ад Мінска, на р. Лукавая (прыток р. Удра). 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 12 двароў, 98 жыхароў, уласнасць мінскага крайчага Ф.Аборскага, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць М.Каstraвіцкага і Якубоўскіх. У 1897 г. 28 двароў, 160 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква на могілках, карчма, у Бялаpуцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 36 двароў, 234 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Шапялёўскім, з 20.10.1924 г. ў Лысагорскім, з 21.8.1925 г. зноў у Шапялёўскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 42 двары, 214 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Заслаўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8. 8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Юзуфоўскім с/с. У 1997 г. 13 гаспадарак, 21 жыхар, у саўгасе «Буцэвічы» (цэнтр – в. Юзуфова), у складзе СВК «Вішнёўка-2002» (цэнтр – в. Вішнёўка). У 1990 г. пабудавана праваслаўная царква.

**ЖУКІ** – вёска ў Гаранскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Мінска. 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

Петрапаўлаўская царква ў в. Жукаўка.



У 1779 г. сяло, 10 двароў, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 56 жыхароў, уласнасць стольніка Е.Сялявы ў Мінскім павеце. У 1897 г. 19 двароў, 127 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 25 двароў, 157 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Барздынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 26 двароў, 152 жыхары. З 9.3.1932 г. ў Навадворшчынскім нац. польскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 23 двары, 85 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 7 двароў, знішчылі 9 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 12 гаспадарак, 23 жыхары.

**ЖУКІ** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Мінска, на р. Гуйка. 13 гаспадарак, 32 жыхары (2010).

У 1800 г. вёска, 7 двароў, 42 жыхары, уласнасць М.Валадковіча, у Мінскім павеце. У 1858 г. вёска (27 жыхароў мужчынскага полу) у маёнтку Новы Двор, уласнасць Валадковіча. У лютым 1868 г. вяскоўцы адмовіліся ад выплаты нядоімак, выкупных і аброчных плацяжоў, аказалі супраціўленне пры вопісе маёмасці. У 1870 г. адносілася да Галавіцкай сельскай грамады. У 1897 г. 17 двароў, 107 жыхароў, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 26 двароў, 153 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім, з 13.6.1929 г. ў Рагаўскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 26 двароў, 148 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 19 гаспадарак, 39 жыхароў.

**ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Лугаваслабодскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Мінска. 98 гаспадарак, 253 жыхары (2010).

У 1600 г. сяло маёнтка Ботчыцы, уласнасць Ст.Млажэўскага, Ф.Шалухі і інш., у Мінскім павеце. У 1667 г. фальварак маёнтка Новы Двор, шляхецкая ўласнасць. У 1772 г. вёска, 7 двароў, 41 жыхары, уласнасць І.Прушынскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 10 двароў, 58 жыхароў, уласнасць старасціны М.Іваноўскай, у Мінскім павеце. У 1897 г. вёска, 61 двор, 420 жыхароў, хлебазапасны магазін і аднаселле, двор, 2 жыхары, ветраны млын, у Смілавіцкай вол. Ігуменскага павета. У 1917 г. 98 двароў, 628 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Замастоцкім нац. польскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 8.7.1931 г. ў Пухавіцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 34 жыхары. З 5.3.1959 г. ў Абчакаўскім, з 8.6.1981 г. ў Лугаваслабодскім с/с. 23.7.1984 г. ў склад вёскі ўвайшлі вёскі Гарэлае і Пухава. У 1997 г. 120 гаспадарак, 254 жыхары, у складзе саўгаса Мінскага цяплічнага камбіната (цэнтр — в. Замасточча).

**ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Шчомыслiцкім с/с, за 9,5 км на ПдЗ ад Мінска.78 гаспадарак, 235 жыхароў (2010).

У 1710 г. вёска, 8 двароў, 22 жыхары мужчынскага полу, уласнасць С.Багушэвіча ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ.

У 1791 г. вёска маёнтка Воўчкавічы ў Каралішчавіцкай парафіі, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815 гг. — вёска, 10 двароў, 58 жыхароў, уласнасць М.Іваноўскай, у Мінскім павеце. У 1897 г. засценак, 12 двароў, 102 жыхары, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 14 двароў, 104 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. ў вёсцы 15 двароў, 78 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Падгайскім, 1927 г. ў Прылуцкім, з 1931 г. ў Падгайскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. ў Прылуцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Шчомыслiцкім с/с. У 1997 г. 84 гаспадаркі, 226 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях камунізма» (цэнтр — в. Шчомысліца).

**ЗАБАЛОЦЦЕ** – вёска ў Бараўлянскім с/с, за 3,5 км на Пн ад Мінска. 30 гаспадарак, 78 жыхароў (2010).

У 1720 г. — вёска, 7 двароў, уласнасць І.Храптовіча ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 20 двароў, 54 жыхары, уласнасць князя Д.Радзівіла. У 1858 г. ўласнасць В.Гіндэнбурга, у Мінскім павеце. У 1897 г. вёска, 33 двары, 220 жыхароў, у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1900 г. на сродкі жыхароў і памешчыка Гіндэнбурга пабудавана праваслаўная Свята-Іванаўская царква. У 1912 г. пачало дзейнічаць 1-класнае вучылішча. У 1917 г. 29 двароў, 179 жыхароў, нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Папярнянскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 27 двароў, 145 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 24 жыхары. З 9.8.1979 г. вёска ў Бараўлянскім с/с. У 1997 г. 50 гаспадарак, 81 жыхар.

**ЗАГАЦЦЕ** – вёска ў Крупіцкім с/с, за 18 км на Пд ад Мінска. 12 гаспадарак, 24 жыхары (2010).

У 1795 г. вёска, двор, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Калодзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў пасёлку 9 двароў, 50 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключаны ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 8 жыхароў. У 1997 г. 26 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе калгаса «Новы быт» (цэнтр — в. Крупіца).

**ЗАКАБЛУКІ** – вёска ў Гаранскім с/с, за 20 км на З ад Мінска. 51 гаспадарка, 86 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 5 двароў, 30 жыхароў, ва ўладанні віленскага ваяводы К.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1815 г. ўласнасць Д.Радзівіла, у 1858 — І.Валадковіча. У 1897 г. 16 двароў, 98 жыхароў, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 18 двароў, 97 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР.

З 20.8.1924 г. вёска ў Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акр. (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 27 двароў, 112 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не.

**ЗАКРУЖКА** — вёска ў Крупіцкім с/с, за 19 км на Пд ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 44 гаспадаркі, 102 жыхары (2010).

У 1791 г. вёска маёнтка Анопаль, шляхецкая ўласнасць, у Караліпічавіцкай парафіі. У 1800 г. 14 двароў, 137 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1859 г. ва ўладанні кн. А.Радзівіла. У 1897 г. 43 двары, 241 жыхар, кузня, капліца, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1912 г. адкрыта 1-класнае нар. вучылішча. У 1917 г. 46 двароў, 282 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Крупіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 51 двор, 264 жыхары. З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 56 двароў, 213 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 37 двароў, знішчылі 10 жыхароў. У 1997 г. 68 гаспадарак, 118 жыхароў, у складзе калгаса «Новы быт» (цэнтр — в. Крупіца).

**ЗАМАСТОЧЧА** — вёска ў Лугаваслабодскім с/с, за 14 км на ПдУ ад Мінска, на р. Слоўст (прыток р. Волма). 750 гаспадарак, 2425 жыхароў (2010).

У 1667 г. вёска, 96 дымоў, млын, уласнасць Г.Камара ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1717 г. па фундацыі князя Друцкага-Горскага пабудавана праваслаўная царква. У 1720 г. вёска, 21 двор, 70 жыхароў мужчынскага полу, царква, уласнасць І.Храптовіча, І.М.Філіповіча. У 1791 г. вёска маёнтка Новы Двор, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. сяло, 40 двароў, 271 жыхар, праваслаўная царква Мікалая Цудатворца, вадзяны млын, уласнасць падкаморыя Р.Прушынскага, у Мінскім павеце. У 1864 г. пабудавана драўляная Свята-Мікалаеўская царква. У 1894 г. адчынена царк.-прыходская школа. У 1897 г. 30 двароў,182 жыхары, царква, капліца, карчма, у Сеніцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. сяло і ваколіца, 39 двароў, 211 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Замастоцкага нац. польскага с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 8.7.1931 г. ў Пухавіцкім р-не Мінскай акругі, з 1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 8 жыхароў. З 5.3.1959 г. вёска ў Абчакаўскім, з 8.6.1981 г. ў Лугаваслабодскім с/с. У 1997 г. 634 гаспадаркі, 1953 жыхары. У вёсцы размяшчалася цэнтр. сядзіба саўгаса Мінскага цяплічнага камбіната, у 2010 г. — цэнтр адасобленага структурнага падраздзялення «Саўгас «Мінскі» Беларускай чыгункі, сярэдняя школа, яслі-сад, дзіцячая ўстанова «Замастоцкі цэнтр адпачынку», клуб, магазін.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Лугаваслабодскім с/с, за 14 км на ПдУ ад Мінска, на р. Слоўст (прыток р. Волма). 30 гаспадарак, 69 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 3 двары, 18 жыхароў, у Мінскіх павеце і губ. У 1858 г. вёска — цэнтр маёнтка, уласнасць Савіцкай і Матусевіч. У 1897 г. 3 фальваркі, 4 двары, 29 жыхароў, у Сеніцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 3 фальваркі,

7 двароў, 46 жыхароў; ваколіца — двор, 3 жыхары і ўрочышча — 2 двары, 13 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.81924 г. вёска ў Замастоцкім нац. польскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 8.7.1931 г. ў Пухавіцкім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 8 жыхароў. З 5.3.1959 г. ў Абчакаўскім, з 8.6.1981 г. ў Лугаваслабодскім с/с. У 1997 г. 27 гаспадарак, 64 жыхары.

**ЗАРЭЧЧА 1** — вёска ў Ждановіцкім с/с, за 3,5 км на З ад Мінска, на вадасховішчы Крыніца (на р. Свіслач). З гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 1557 г. сяло, дзярж. ўласнасць у Мінскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска на левым беразе ракі Свіслач, 3 двары, 18 жыхароў, уласнасць канюшага І.Ратынскга, у Мінскім павеце. У 1897 г. вёска, 14 двароў, 109 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 18 двароў, 109 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Бароўскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 27 двароў, 140 жыхароў. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 35 двароў, 171 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 16 жыхароў. Акупанты спалілі двор, знішчылі 5 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Ждановіцкім с/с. У 1997 г. 10 двароў, 31 жыхар. У 2010 г. санаторый «Пралеска», магазін.

**ЗАСЛАЎЕ** — горад, за 27 км на ПнЗ ад Мінска, на р. Свіслач і гал. канале Вілейска-Мінскай воднай сістэмы пры іх упадзенні ў Заслаўскае вадасховішча, чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, на шашы Мінск—Маладзечна. 14 294 жыхары (2010).

Паводле археал. даследаванняў, у 10 ст. на правым беразе р. Свіслач існавала неўмацаванае паселішча крывічоў. У сярэдзіне 10 ст. на процілеглым беразе Свіслачы засн. пасад — неўмацаваны велікакняжацкі адм.-гасп. пункт. Каля 985 г. на правым беразе Свіслачы, за 1 км на ПдЗ ад гэтых паселішчаў, узнікла гарадзішча «Замэчак». На мяжы 11—12 ст. на тэр. правабярэжнага паселішча ўзведзены дзяцінец, пасля чаго гарадзішча «Замэчак» было пакінута насельніцтвам. Летапіснае паданне прыпісвае заснаванне горада ў 10 ст. кіеўскаму кн. Уладзіміру Святаславічу, які пабудаваў яго для сваёй жонкі Рагнеды і сына Ізяслава Уладзіміравіча, у гонар якога ён быў названы. З пач. 12 ст. горад быў цэнтрам удзельнага Ізяслаўскага княства ў Полацкай зямлі. У летапісах За-



*Герб г. Заслаўе.*



*Памятны знак у гонар 1000-годдзя хрысціянства ў Беларусі на гарадзішчы Замэчак у г. Заслаўе.*



*Помнік Рагнедзе і Ізяславу ў г. Заслаўе.*

слаўе ўпамінаецца пад 1127 г. ў сувязі з паходам на Полацкую зямлю вял. кн. кіеўскага Мсціслава Уладзіміравіча. У сярэдзіне 12 ст. горад і княства сталі аб'ектам барацьбы паміж полацкім і мінскім князямі. У канцы 13 ст. горад увайшоў у склад ВКЛ. З 1345 г. прыватнаўласніцкі горад, належаў кн. Яўнуту, нашчадкі якога зваліся князямі Заслаўскімі. У 1433 г. спалены войскам кн. Свідрыгайлы. У 1593 г. горад належаў адной з галін роду Глябовічаў. З 1569 г. ў складзе Мінскага павета дзяцінец у 16 ст. быў ператвораны ў замак. У канцы 16 ст. тут пабудаваны кальвінскі збор, замак умацаваны бастыёнамі, мураванымі брамамі, абвадняўся штучным возерам. Асновай планіровачнай структуры горада з 16 ст. становіцца рыначная плошча. У 17 ст. рэзідэнцыя ўладальнікаў горада пераносіцца ў загарадную сядзібу. З 1678 г. горадам валодалі Сапегі, з 1753 г. — Пшаздзецкія. У канцы 17 — 18 ст. цэнтр Заслаўскага графства, якое аб'ядноўвала 4 старасты. Паводле прывілея 1772 г. горад атрымаў права на 4 кірмашы штогод. У 2-й пал. 18 — пач. 19 ст. ў горадзе былі цагельня і суконная ф-ка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, мястэчка Мінскага павета, цэнтр валасці. У 1850-я г. Заслаўе было маёнткам Прушынскіх, канфіскавана за ўдзел іх у паўстанні 1863—64 гг. У 1873 г. праз мястэчка пракладзена Лібава-Роменская чыгунка, адкрыта ст. Ізяслаў. У 1904 г. 3 тыс. жыхароў, 2 школы, бальніца, аптэка, пошта, 2 царквы, касцёл. У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. З лютага да снеж. 1918 г. мястэчка акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 17.7.1924 г. — цэнтр Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 27.9.1938 г. гар. пасёлак. У 1941 г. 620 двароў, каля 3 тыс. жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў канцы чэрв. 1941 г. праз Заслаўе праходзіў рубеж Мінскай абароны. 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічалі падп. райкамы КП(б) і ЛКСМБ. За час акупацыі было разбурана 80% жылых пабудоў, спалены 4 магазіны, бальніца і інш., загінулі 200 жыхароў. Вызвалены 4.7.1944 г. ў ходзе Мінскай аперацыі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. Пасля вайны пабудаваны 2 з-ды жалезабетонных вырабаў, асфальтавы і малочны з-ды, хлебазавод, прамкамбінат, карданажна-паліграфічная ф-ка, камбінат быт. абслугоўвання. З 14.8.1985 г. горад абл. падпарадкавання. У 1999 г. 13,1 тыс.

*Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Заслаўе.*



жыхароў. Працуюць 5 дзіцячых устаноў, 2 сярэднія і муз. школы, гімназія, школа мастацтваў, 2 цэнтры дзіцячай творчасці, школа-інтэрнат, 2 б-кі, бальніца, паліклініка, аптэка, 2 аддз. сувязі і ашчаднага банка, Дом культуры, гісторыка-культурны музей-запаведнік «Заслаўе» (з 1986 г.), 3 стадыёны. Дзейнічаюць 7 прам. прадпрыемстваў, 49 прадпрыемстваў гандлю і інш. У 1956 г. каля горада створана Заслаўскае вадасховішча, якое ўваходзіць у Вілейска-Мінскую водную сістэму і з'яўляецца зонай адпачынку. Археал. помнікі — гарадзішча «Замэчак», селішча і курганны могільнік старaж.-рус. часу. Арх. помнікі Спаса-Праабражэнская царква, касцёл Раства Дзевы Марыі. У горадзе брацкія магілы сав. воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, магіла ахвяр фашызму. Радзіма бел. пісьменніка Х.Шынклера (1903–42).

**ЗАСТАРЫННЕ** — вёска ў Лугаваслабодскім с/с, за 14 км на Пд ад Мінска, на р. Слоўст (прыток р. Волма). 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2010).

У 1815 г. вёска, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1897 г. ваколіца, 13 двароў, 107 жыхароў, у Смілавіцкай вол. Мінскіх павета і губ. У 1917 г. засценак, 9 дварoў, 71 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Замастоцкім нац. польскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 8.7.1931 г. ў Пухавіцкім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 5.3.1959 г. ў Абчакаўскім, з 8.6.1981 г. ў Лугаваслабодскім с/с. У 1997 г. 7 гаспадарак, 12 жыхароў, у саўгасе Мінскага цяплічнага камбіната (цэнтр — в. Замасточча).

**ЗАХАРЫЧЫ** — вёска ў Пятрышкаўскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Мінска. 30 гаспадарак, 62 жыхары (2010).



*Спаса-Праабражэнская царква ў г. Заслаўе.*

У 1800, 1815 гг. — вёска, 12 двароў, 78 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1840 г. вёска маёнтка Заслаўе, 41 жыхар мужчынскага полу, карчма. У 1858 г. ўласнасць Л.Прушынскага. У 1897 г. вёска, 24 двары,156 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1912 г. адкрыта школа граматы. У 1917 г. 34 двары, 215 жыхароў, нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Заслаўскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1924 г. пач. школа, 33 вучні. У 1926 г. ў вёсцы 45 двароў, 246 жыхароў. З 24.9.1926 г. ў Заслаўскім мястэчковым с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У 1997 г. 24 гаспадаркі, 41 жыхар, у саўгасе імя Жданава (цэнтр — в. Пятрышкі).

**ЗАЦЕНЬ** – вёска ў Папярнянскім с/с, за 3 км на Пн ад Мінска, на р. Цна (прыток р. Свіслач). 91 гаспадарка, 162 жыхары (2010).

У 1557 г. згадваецца як сяло ва ўладанні князёў Крашынскіх у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1567 г. згадваецца ў попісе войска Літоўскага як маёнтак, шляхецкая ўласнасць. У 1620 г. ва ўладанні Валодкавічаў, якім маёнтак перадаў князь Галоўчынскі. У 1731 г. вёска, 7 дымоў, цэнтр воласці. У гэты час яна займала тэр. абапал прамой дарогі. Дарогу перасякала р. Цнянка. На Пд на рацэ мелася сажалка. У цэнтры на ўсх. баку дарогі знаходзіліся будынкі фальварка, якія ўтваралі невял. плошчу. Сял. двары далучаліся да плошчы з Пд, У і З. На З знаходзіліся могілкі з капліцай. У 1757 г. Адам Хмара купіў у Міхаіла і Аляксандра Сапегаў маёнтак Заценъ з 10 400 валокамі зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска (9 двароў, 57 жыхароў, карчма) і фальварак (панскі дом, капліца, вадзяны млын), уласнасць А.Хмары, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць Г.Хмары. У 1897 г. вёска (7 двароў, 47 жыхароў), маёнтак (10 двароў, 51 жыхар, 2 вадзяныя млыны, карчма), фальварак (3 двары, 26 жыхароў) і хутар (3 двары, 12 жыхароў), у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 9 двароў, 45 жыхароў, у маёнтку 30 жыхароў, на хутары 4 двары, 28 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Бароўскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 20 двароў, 83 жыхары. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Ждановіцкім, з 20.1.1960 г. ў Папярнянскім с/с. У 1997 г. 109 гаспадарак, 286 жыхароў, у саўгасе «Азёрны» (цэнтр – в. Сёмкава).

**ЗАЯМАЧНАЕ** – вёска ў Лугаваслабодскім с/с, за 11 км на ПдЗ ад Мінска, на р. Слоўст (прыток р. Волма). 61 гаспадарка, 120 жыхароў (2010).

У 1858 г. вёска, 3 жыхары мужчынскага полу і фальварак, 4 жыхары мужчынскага полу, уласнасць В.Аляхновіча; фальварак, 6 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць В.Бірулі; фальварак, 4 жыхары мужчынскага полу, уласнасць Беляновіча, у Мінскім павеце. У 1897 г. ваколіца, 28 двароў, 150 жыхароў, капліца, школа (з 1907 г.), у Сенніцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 4 двары, 29 жыхароў, у фальварку двор, 10 жыхароў, у ваколіцы 49 двароў, 255 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Замастоцкім нац. польскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 8.7.1931 г. ў Пухавіцкім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 71 двор, 243 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 4 жыхары. Акупанты спалілі 6 двароў, знішчылі 5 жыхароў. З 5.3.1959 г. ў Абчакаўскім, з 8.6.1981 г. ў Лугаваслабодскім с/с. У 1997 г. 76 гаспадарак, 194 жыхары, у складзе саўгаса Мінскага цяплічнага камбіната (цэнтр – в. Замасточча).

**ЗБАРАВІЧЫ** – вёска ў Рагаўскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Мінска, на р. Гуйка. 13 гаспадарак, 22 жыхары (2010).

У 1800 г. вёска, 16 двароў, 97 жыхароў, уласнасць М.Пшаздецкага, у Мінскім павеце. У 1885 г. вёска, вадзяны млын, цэнтр маёнтка ў Заслаўскай вол. Мінскіх павета і губ. У 1897 г. ў вёсцы 13 двароў, 82 жыхары, у маёнтку Віткоўскага – двор, 13 жыхароў. У 1908 г. 13 двароў, 10 жыхароў, у маёнтку – двор, 10 жыхароў. З лютага да

снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім, з 13.6.1929 г. ў Рагаўскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 22 двары, 124 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 6 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 19 гаспадарак, 32 жыхары, у саўгасе «Рагаўскі» (цэнтр — в. Новы Двор).

**ЗВІНЯЧЫ** — вёска ў Гаранскім с/с, за 21 км на З ад Мінска, на р. Ісгач (прыток р. Бярэзіна). 12 гаспадарак, 46 жыхароў (2010).

У 1791 г. вёска, 13 дымоў, панскі двор, карчма, уласнасць Клюдчынскага, у Ракаўскай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 13 двароў, 47 жыхароў, панскі двор, уласнасць Свентаржэцкага ў Мінскім павеце. У 1897 г. вёска, 20 двароў, 88 жыхароў; маёнтак, 32 жыхары, вадзяны млын; лясная вартоўня, двор, 5 жыхароў, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 29 двароў, 148 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. ў вёсцы 17 двароў, 86 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Барздынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 9.3.1932 г. ў Навадворшчынскім нац. польскім, з 14.5.1938 г. ў Навадворскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 17 двароў, 86 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 10 жыхароў. Акупанты спалілі 17 двароў, знішчылі 7 жыхароў і 9 вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 17 гаспадарак, 41 жыхар.

**ЗЯЛЁНАЯ** — вёска ў Ждановіцкім с/с, за 10,5 км на ПнЗ ад Мінска. 54 гаспадаркі, 121 жыхар (2010).

У канцы 19 ст. ўрочышча. У 1897 г. ўрочышча, 2 двары, 10 жыхароў і фальварак, 2 двары, 14 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскіх павета і губ. У 1917 г. 6 двароў, 46 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Ратамскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары 8 двароў, 43 жыхары, ва ўрочышчы 5 двароў, 35 жыхароў. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 13 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Ждановіцкім с/с. У 1997 г. 39 гаспадарак, 154 жыхары. У 2010 г. санаторый-прафілакторый, дзіцячыя лагеры, магазін.

**ІСЛАЧ** — вёска ў Гаранскім с/с, за 20 км на З ад Мінска, на р. Іслач (прыток р. Бярэзіна). 17 гаспадарак, 34 жыхары (2010).

У 1543 г. згадваецца як уласнасць Гаштольдаў у Мінскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ. У 1588 г. мястэчка, уласнасць Радзівілаў, у Мінскіх павеце і ваяв. У 1600 г. сяло, 13 дымоў; фальварак, панскі двор, вадзяны млын, шляхецкая ўласнасць. У 1751 г. вёска, 7 двароў, 13 душ мужчынскага полу, млын і маёнтак, ва ўладанні Радзівілаў. У 1791 г. вёска — цэнтр маёнтка, 40 дымоў, панскі двор, карчма ў Ракаўскім графстве, уласнасць Агінскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска на правым беразе р. Іслач, 7 двароў, 48 жыхароў: фальварак, панскі двор, уніяцкая царква, млын на адзін пастаў, уласнасць Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1897 г. фальварак, двор, 12 жыхароў, у Ракаў-

скай вол. Мінскага павета. У 1917 г. двор, 53 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Траскоўшчынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 2 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 24 гаспадаркі, 43 жыхары.

**КАЗАКІ** — вёска ў Гаранскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Мінска, на р. Чарнаруч (прыток р. Ісдач). 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

У 1794 г. засценак, 4 двары, 25 жыхароў, уласнасць М.Агінскага ў Мінскіх павеце і ваяв. У 1800 г. вёска, 6 двароў, 27 жыхароў, уласнасць Е.Сялявы. У 1897 г. 6 двароў, 50 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 12 двароў, 61 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. у БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 4 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 16 гаспадарак, 22 жыхары.

**КАЗЕКАВА** — вёска ў Юзуфоўскім с/с, за 17 км на Пн ад Мінска. 38 гаспадарак, 98 жыхароў (2010).

У 1791 г. вёска — цэнтр маёнтка, 32 дымы, карчма, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 35 двароў, 243 жыхары, панскі двор, уласнасць Т. і І. Валадковічаў, у Мінскім павеце. У 1858 г. вёска, 90 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Ю.Лапіцкага. У 1870 г. вёска адносілася да Буцэвіцкай сельскай грамады. У 1887 г. адкрыта школа граматы, у 1900 г. было 16 хлопчыкаў; у 1912 г.ператворана ў нар. вучылішча. У 1897 г. 58 двароў, 382 жыхары, хлебазапасны магазін, у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 70 двароў, 462 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Гатавінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 86 двароў. У 1930-я г. створаны калгас «Серп і молат», працавала кузня. У 1941 г. ў вёсцы 50 двароў, 104 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 20 двароў, знішчылі 9 жыхароў і 4 жыхары вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Юзуфоўскім с/с. У 1997 г. 54 гаспадаркі, 119 жыхароў, у саўгасе «Буцэвічы» (цэнтр — в. Юзуфова).

**КАЗЕЛЬШЧЫНА** — вёска ў Гаранскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Мінска. 18 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

У 1791 г. вёска, уласнасць Плявакі, у Заслаўскай парафіі Мінскіх павета і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815 гг. вёска, 35 двароў, 243 жыхары, панскі двор, уласнасць Валадковічаў, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць А.Вішнеўскага. У 1897 г. 15 двароў, 91 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 20 двароў, 128 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.81924 г. вёска ў Барздынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 29 двароў, 126 жыхароў. З 9.3.1932 г. ў Навадвор-

шчынскім нац. польскім, з 20.2.1938 г. ў Навадворскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 15 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 24 гаспадаркі, 56 жыхароў.

**КАЗЛОЎКА** — вёска ў Хацежынскім с/с, за 10,5 км на З ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 32 гаспадаркі, 74 жыхары (2010).

У 1800 г. вёска на правым беразе р. Пціч, 5 двароў, 23 жыхароў, уласнасць кн. К.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1815 г. 18 душ мужчынскага полу, уласнасць Д.Радзівіла ў закладзе ў графа І.Тышкевіча. У 1858 г. ўласнасць І.Валодкавіча. У 1897 г. вёска, 12 двароў, 61 жыхар, у фальварку двор, 23 жыхары, у сядзібе двор, 12 жыхароў, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. вёска, 15 двароў, 90 жыхароў і хутар, 2 двары, 19 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 17 двароў, 79 жыхароў. З 26.7.1930 г. ў Заслаўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 28 двароў, 105 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 6 жыхароў. Акупанты спалілі 10 двароў і знішчылі 20 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 28.2.1974 г. ў Хацежынскім с/с. У 1997 г. 26 гаспадарак, 57 жыхароў, у складзе саўгаса «Пціч» (цэнтр — в. Старое Сяло).

**КАЙКАВА** — вёска ў Міханавіцкім с/с, за 12,5 км на Пд ад Мінска, за 2,5 км ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 109 гаспадарак, 278 жыхароў (2010).

У 1588 г. згадваецца як сяло, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1791 г. 27 дымоў, панскі двор, уласнасць Радзівілаў у Каралішчавіцкай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 23 двары, 174 жыхары, панскі двор, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць кн. А.Радзівіла. У 1897 г. вёска, 62 двары, 375 жыхароў, кузня, карчма, царква на могілках і маёнтак, 2 двары, 52 жыхары, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1909 г. адкрыта нар. вучылішча, у 1915 г. вучыліся 52 хлопчыкі і 24 дзяўчынкі. У 1917 г. 108 двароў, 609 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. Жыхары вёскі прымалі актыўны ўдзел у барацьбе з польскімі легіянерамі. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Кайкаўскага с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 84 двары, 406 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Смілавіцкім р-не. З 25.7.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. У 1941 г. ў вёсцы 85 двароў, 365 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 32 двары, знішчылі 22 жыхары і 18 вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З верасня 1942 г. да ліп. 1944 г. тут дзейнічала радыёстанцыя партыз. брыгады імя М.І.Калініна. З 1987 г. ў Міханавіцкім с/с, у калгасе Войкава (цэнтр — в. Чурылавічы). У 1997 г. 136 гаспадарак, 306 жыхароў. У 2010 г. магазін. Абеліск у гонар партыз. брыгады імя Калініна. Радзіма Героя Сав. Саюза І.В.Матрунчыка (2.2.1903—9.5.1945).



*І.В.Матрунчык.*

**КАЛІНІНА** (Ігнацічы) — вёска ў Міханавіцкім с/с, за 11 км на Пд ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 30 гаспадарак, 73 жыхары (2010).

У 1557, 1582, 1600 гг. сяло — цэнтр маёнтка, панскі двор, уласнасць Мнеўскіх, А.Станкевіча і інш., у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1667 г. маёнтак, 5 дымоў, млын, шляхецкая ўласнасць. У 1791 г. вёска, панскія двары, фальваркі, 4 дымы, уласнасць Радзівілаў, Жывіцы, у Каралішчавіцкай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

У 1800 г. вёска, 2 двары, 16 жыхароў; фальварак, панскі двор, вадзяны млын на 2 паставы, карчма, уласнасць Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1897 г. ўрочышча, 4 двары, 31 жыхар, і маёнтак, 7 двароў, 84 жыхары, кузня, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў маёнтку 197 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. створаны саўгас імя Калініна. З 20.8.1924 г. вёска ў Гатаўскім, з 1927 г. ў Дзяргайскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 78 двароў, 287 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 78 двароў, знішчылі 165 жыхароў, 10 жыхароў вывезлі на прымусовую працу ў Германію. Пасля вайны вёска аднавілася. З 1987 г. ў Міханавіцкім с/с, у калгасе Войкава (цэнтр — в. Чурылавічы). У 1997 г. 46 гаспадарак, 102 жыхары. У 2010 г. сярэдняя школа, яслі-сад, магазін.



Царква ў гонар Узнясення Гасподняга ў пас. Калодзішчы.

**КАЛОДЗІШЧЫ** — пасёлак, цэнтр сельсавета, чыгуначная станцыя на лініі Мінск—Орша, за 6 км на У ад Мінска. 4669 гаспадарак, 13 313 жыхароў (2010).

У 1858 г. вёска, 34 жыхары мужчынскага полу, уласнасць кн. П.Вітгенштэйна. У 1885 г. чыгуначная станцыя, школа граматы, карчма, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1897 г. на чыгуначнай станцыі 4 двары, 42 жыхары, карчма, ва ўрочышчы 4 двары, 98 жыхароў, лесапільны з-д, млын. У 1917 г. на чыгуначнай станцыі 20 двароў, 89 жыхароў, на лесапільным з-дзе 20 жыхароў, на хутары 8 двароў, 67 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1923 г. створана с.-г. т-ва «Культура». У 1924 г. працавала пач. школа, 65 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Калодзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. чыг. ст. Калодзішчы, 5 двароў, 18 жыхароў, хата-чытальня (з 1926 г.), у засценку Калодзішчы-1 — 18 двароў, 84 жыхары, у засценку Калодзішчы-2 — 21 двор, 97 жыхароў, на хутары 12 двароў, 41 жы-



Чыгуначная станцыя Калодзішчы.

хар. У 1930-я г. створаны калгас «Бальшавік». З 18.1.1931 г. ўключаны ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. вёска ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, дзейнічала антыфаш. падполле. У 1997 г. 2672 гаспадаркі, 8823 жыхары. У 2010 г. сярэдняя школа, яслі-сад (2), Дом культуры, паліклініка, аддз. сувязі, ашчадны банк, магазіны, КУП «Экскамунпаслуг». Брацкая магіла танкістаў. Радзіма Героя Сав. Саюза В.П.Карповіча (20.1.1914—12.4.1996).

**КАЛЬЗБЕРГ** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Мінска. 15 гаспадарак, 43 жыхары (2010).

У 1858 г. маёнтак, 73 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка Сніткі, у Радашковіцкай вол. ў Вілейскіх павеце і губ. У 1897 г. ў маёнтку двор, 45 жыхароў, з 1901 г. царк.-прыходская школа. У 1904 г. 42 жыхары, уласнасць Сніткі. У 1917 г. 10 двароў, 45 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Навадворскім с/с. У 1926 г. 15 двароў, 54 жыхары. З 13.6.1929 г. ў Рагаўскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 11 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 21 гаспадарка, 45 жыхароў, у саўгасе «Рагаўскі» (цэнтр — в. Новы Двор).

**КАЛЯДЗІЧЫ** — вёска ў Сеніцкім с/с, за 4,7 км на Пд ад Мінска, на р. Сеніца (прыток р. Свіслач). 212 гаспадарак, 503 жыхары (2010).

У 1590 г. сяло маёнтка Новы Двор, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1708 г. 22 двары, уласнасць К.Друцкага-Горскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815 гг. вёска — цэнтр маёнтка, 31 двор, 218 жыхароў, уласнасць С.Прушынскага, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць Я.Прушынскага. У 1897 г. 62 двары, 407 жыхароў, у Сеніцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 67 двароў, 442 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Сеніцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1925 г. працавала кузня. У 1926 г. 110 двароў 548 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 58 двароў, 201 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі зімой 1942 г. акупанты знішчылі 700 сав. ваеннапалонных. У 1988 г. ў складзе калгаса імя Гастэлы (цэнтр — в. Сеніца). У 1997 г. 144 гаспадаркі, 408 жыхароў. У 1955 г. на магіле сав. ваеннапалонных пастаўлены абеліск. У 2010 г. пач. школа, магазін, аддз. сувязі.

**КАМЕНЕЦ** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 24 км на Пн ад Мінска. 37 гаспадарак, 68 жыхароў (2010).



*В.П.Карповіч.*



*Будаўніцтва мікрараёна ў пас. Калодзішчы.*

У 1525 г. маёнтак, трэцюю частку якога княгіня А.Мажайская адпісала віленскаму ваяводу О.М.Гаштольду, у Віленскім ваяв. ВКЛ. У 1549 г. сяло, 8 дымоў, 4 службы, путныя слугі, панскі двор, млын, у Радашковіцкай вол. У 1600 г. сяло, дзярж. ўласнасць. У 1738 г. вёска, 11 дымоў і фальварак. У 1765 г. вёска, 27 дамоў, з якіх 12 баярскіх і 15 сял., дзярж. ўласнасць, у Радашковіцкіх старостве і вол. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 30 двароў, 173 жыхар, дзярж. ўласнасць, у Вілейскім павеце. У 1858 г. 80 жыхароў мужчынскага полу дзярж. маёнтка Радашковічы. У 1870 г. адносілася да Бахметаўскай сельскай грамады. У 1897 г. 43 двары, 314 жыхароў, капліца, у Радашковіцкай вол. ў Вілейскіх павеце і губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 62 двары, 348 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 70 двароў, 400 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 36 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 63 гаспадаркі, 128 жыхароў, у саўгасе «Савецкі» (цэнтр — в. Шаршуны). У 1970 г. на брацкай магіле сав. лётчыкаў пастаўлены абеліск. У 2010 г. фельч.-акушэрскі пункт, магазін.

**КАМЕННАЯ ГОРКА** — вёска ў Ждановіцкім с/с, за 1 км на З ад Мінска. 39 гаспадарак, 83 жыхары (2010).

У 1815 г. вёска, 5 душ мужчынскага полу, уласнасць І.Ліхадзіеўскага, у Мінскіх павеце і губ. У 1858 г. 11 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Л.Паўлоўскай. У 1897 г. двор, 21 жыхар, у Старасельскай вол. Мінскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Ратамскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 3 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Ждановіцкім с/с. У 1990 г. 30 гаспадарак, 74 жыхары. У 2010 г. магазін, кафэ.

**КАМКІ** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 28 км на Пн ад Мінска. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2010).

У 1779 г. вёска, 17 двароў, 44 душы мужчынскага полу, уласнасць біскупа Масальскага, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1797 г. вёска, 36 жыхароў, уласнасць Валадковічаў. У 1858 г. вёска маёнтка Новы Двор, 39 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Валадковіча, другая вёска ў маёнтку Радашковічы, 9 жыхароў мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць. У лютым 1867 г. сяляне адмовіліся ад выплаты выкупных і аброчных плацяжоў, аказалі супраціўленне прадстаўнікам улады пры вопісе маёмасці. У 1897 г. 2 вёскі: адна на р. Пральня, 6 двароў, 37 жыхароў, другая — 23 двары, 135 жыхароў, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1921 г. ў вёсцы 42 двары, 246 жыхароў, у фальварку — двор, 4 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Навадворскім, з 13.6.1929 г. ў Рагаўскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 37 двароў, 150 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 5 жыхароў. Акупанты спалілі 35 двароў, знішчылі 86 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 10 гаспадарак. 15 жыхароў.

**КАМСАМОЛЕЦ** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 12 км на Пн ад Мінска, на р. Чарніца. 141 гаспадарка, 368 жыхароў (2010).

У 1563 г. сяло Відагошч, цэнтр маёнтка, панскі двор, 16 дымоў, уласнасць А.Івашэнцавіча ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1567 г. ўласнасць М.Служкі. У 1667 г. сяло, 14 дымоў, уласнасць К.Завішы. У 1791 г. цэнтр маёнтка, 126 дымоў, 5 корчмаў, уласнасць Валодкавічаў, у Мінскай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 2 двары, 7 жыхароў, і маёнтак на правым беразе р. Чарніца, вадзяны млын, уласнасць падчашага Т.Ваньковіча, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць С.Кудзіновіча. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Бароўскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў пасёлку 6 двароў, 27 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Камсамолец», пасля чаго вёска атрымала сучасную назву, працавалі кузня, шорная і сталярная майстэрні. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. вёска, 54 двары, 324 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 4 жыхары. Акупанты спалілі 47 двароў, 70 жыхароў вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 16.7.1954 г. ў Ждановіцкім, з 20.1.1960 г. ў Папярнянскім с/с. У 1997 г. 112 гаспадарак, 344 жыхары, у саўгасе «Азёрны» (цэнтр — в. Сёмкава). У 2010 г. магазін.

**КАНЮЦІЧЫ** — вёска ў Сеніцкім с/с, за 4 км на Пд ад Мінска, каля шашы Мінск—Слуцк. 67 гаспадарак, 164 жыхары (2010).

У 1600 г. сяло, уласнасць кн. І.Горскага-Друцкага, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1791 г. сяло маёнтка Сеніца, шляхецкая ўласнасць, у Каралішчавіцкай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 11 двароў, 67 жыхароў, уласнасць І.Паўлюкоўскага, у Мінскім павеце. У 1815 г. ўласнасць П.Тарчынскага. У 1858 г. вёска, 65 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць А.Тарчынскага. У 1897 г. вёска, 31 двор, 188 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Сеніцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 37 двароў, 234 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Сеніцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 42 двары, 222 жыхары, працавала шавецкая майстэрня. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 17 жыхароў. У 1997 г. 65 гаспадарак, 170 жыхароў, у складзе калгаса імя Гастэлы (цэнтр — в. Сеніца). У 2010 г. магазін.

**КАПІЕВІЧЫ** — вёска ў Сеніцкім с/с, за 3,5 км на Пд ад Мінска. 67 гаспадарак, 121 жыхар (2010).

У 1582 г. сяло маёнтка Лошыца Адзінцоўская, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1791 г. вёска маёнтка Лошыца, шляхецкая ўласнасць, у Каралішчавіцкай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. вёска, 3 жыхары мужчынскага полу, у Мінскім павеце. У 1870 г. вёска, 3 жыхары мужчынскага полу, у Сеніцкай вол. У 1897 г. вёска, 11 двароў, 81 жыхар, у Сеніцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 14 двароў, 76 жыхароў, у фальварку — двор, 31 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Сеніцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 20 двароў,

99 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 4 жыхары. У 1997 г. 57 гаспадарак, 133 жыхары, у складзе калгаса імя Гастэлы (цэнтр — в. Сеніца). У 2010 г. магазін.

**КАПЛІЧЫ** — вёска ў Гаранскім с/с, за 11 км на З ад Мінска, каля шашы Мінск—Вільнюс. 16 гаспадарак, 32 жыхары (2010).

У 1800 г. вёска, 10 двароў, 44 жыхары, уласнасць віленскага ваяводы К.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 24 жыхары мужчынскага полу, уласнасць І.Тышкевіча. У 1858 г. ўласнасць І.Валадковіча. У 1897 г. 11 двароў, 69 жыхароў, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 15 двароў, 83 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 17 двароў, 90 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 17 гаспадарак, 28 жыхароў.



*Крыжаўзвіжанская царква ў в. Каралёў Стан.*

**КАРАЛЁЎ СТАН** — вёска ў Бараўлянскім с/с, за 10 км на ПнУ ад Мінска, каля вытоку р. Волма (прыток р. Свіслач). 304 гаспадаркі, 1181 жыхар (2010).

У 1800, 1815 гг. вёска, 12 двароў, 72 жыхары, і засценак — 17 двароў, 93 жыхары, цагельны з-д, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1858 г. ўласнасць кн. П.Вітгенштэйна. У 1876 г. ў вёсцы 20 двароў. У 1887 г. пабудавана Свята-Георгіеўская царква. У 1897 г. вёска, 52 двары, 373 жыхары, кузня, капліца, хлебазапасны магазін, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1898 г. адкрыта нар. вучылішча, у 1905 г. навучаліся 42 хлопчыкі і 17 дзяўчынак. У 1917 г. 80 двароў, 561 жыхар, нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. ў вёсцы былі 2 лаўкі — галантарэйная і бакалейная, працавала пач. школа, у 1923 г. 99 вучняў. З 20.8.1924 г. вёска ў Калодзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў сяле Каралёў Стан 22 двары, 130 жыхароў, у вёсцы Каралёў Стан (Хацяноўшчына) 33 двары, 166 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключаны ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 98 двароў, 415 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 9.8.1979 г. вёска ў Бараўлянскім с/с. У 1997 г. 282 гаспадаркі, 867 жыхароў, у саўгасе імя Фрунзэ (цэнтр — в. Бараўляны). У 2010 г. базавая школа, дзіцячы сад, магазін, клуб, б-ка, аддз. сувязі. У 1962 г. на брацкай магіле 90 сав. воінаў

у цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. Магіла Героя Сав. Саюза В.М.Гінтаўта.

**КАРАЛІНА** — вёска ў Крупіцкім с/с, за 17 км на Пд ад Мінска. 47 гаспадарак, 112 жыхароў (2010).

У 1815 г. вёска, 35 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1897 г. 44 двары, 232 жыхары, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 59 двароў, 234 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Калодзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1925 г. пачала працаваць 4-гадовая школа. У 1926 г. вёска, 65 двароў, 292 жыхары, кузня і шавецкая майстэрня. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 37 вяскоўцаў. У 1997 г. 77 гаспадарак, 122 жыхары, у складзе калгаса «Новы быт» (цэнтр — в. Крупіца). У 2010 г. магазін.

**КАРАЛІШЧАВІЧЫ** — вёска ў Навадворскім с/с, за 5,4 км на Пд ад Мінска, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 196 гаспадарак, 545 жыхароў (2010).

У 1582 г. сяло маёнтка Гатава, панскі двор, уласнасць князёў П.Крышынскага і Ю.Масальскага, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1597—98 гг. сяло, двор, уласнасць Д.С.Тышкевіча і Г.М.Масальскай, А.Крушынскага. У 1667 г. маёнтак, уласнасць Ф.К.Друцкага-Горскага. У 1725 г. 17 двароў, уласнасць М.Друцкага-Горскага. У 1778 г. 29 двароў, 171 жыхар, царква, фальварак, 2 «сырабойні», уласнасць І.Прушынскага. У 1791 г. сяло — цэнтр маёнтка, 108 дымоў, 2 карчмы, уласнасць Мінскай парафіі і Прушынскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. сяло каля р. Свіслач, 35 двароў, 300 жыхароў, драўляны касцёл Святой Тройцы, капліца, карчма, панскі двор з пабудовамі, драўляны мост цераз р. Свіслач, уласнасць С.Прушынскага і каталіцкай царквы, у Ігуменскім павеце. У 1858 г. 49 сял. душ, уласнасць К.Прушынскага і 344 сял. душы ва ўладанні М.Прушынскага. У 1880 г. сяло, 51 двор, 584 жыхары, касцёл, у Ігуменскім павеце. У 1897 г. сяло (100 двароў, 708 жыхароў, хлебазапасны магазін, касцёл, капліца, піцейны дом) і маёнтак (9 двароў, 83 жыхары), у Пярэжырскай вол. Ігуменскага павета. З 1907 г. працавала нар. вучылішча. У 1917 г. ў сяле 177 двароў, 1045 жыхароў, у вёсцы 11 двароў, 54 жыхары, у маёнтку 303 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр сельсавета Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. працавалі кузня і шавецкая майстэрня. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 169 двароў, 708 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты спалілі 56 двароў, знішчылі 6 жыхароў і 3 вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 5.3.1959 г. ў Трасцянецкім, з 20.1.1960 г. ў Навадворскім с/с. У 1997 г. 250 гаспадарак, 641 жыхар, у саўгасе «Світанне» (цэнтр — в. Новы Двор). У 2010 г. клуб-б-ка, магазін. Радзіма бел. паэта Я.Пушчы (сапр. І.П.Плашчынскі; 20.5.1902—14.9.1964), пахаваны на вясковых могілках.

**КАРАСЕЎШЧЫНА** — вёска ў Гаранскім с/с, за 16 км на З ад Мінска. 14 гаспадарак, 24 жыхары (2010).

У 1897 г. ў засценку 3 двары, 80 жыхароў, у фальварку — двор, 27 жыхароў, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 7 двароў, 52 жыхары, на хутары 3 двары, 20 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана

войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Навадворскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 11 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 22 гаспадаркі, 40 жыхароў. У 2010 г. магазін.

**КАСАЧЫ** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Мінска. 14 гаспадарак, 27 жыхароў (2010).

У 17 ст. шляхецкая ўласнасць у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1797 г. вёска, 33 жыхары мужчынскага полу, уласнасцьВаладковіча. У 1800 г. 10 двароў, 65 жыхароў, уласнасць А.Хмары, у 1858 г. ўласнасць Г.Хмары, у Вілейскім павеце. У лютым 1867 г. сяляне адказаліся ад уплаты выкупных і аброчных плацяжоў, аказалі супраціўленне прадстаўнікам улады пры вопісе маёмасці. У 1897 г. вёска, 27 двароў, 159 жыхароў, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 35 двароў, 218 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім, з 13.6.1929 г. ў Рагаўскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 38 двароў, 210 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 18 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 29 гаспадарак, 44 жыхары, у саўгасе «Рагаўскі» (цэнтр — в. Новы Двор). У 2010 г. магазін.

**КАСЫНЬ** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 11,5 км на Пн ад Мінска. 49 гаспадарак, 100 жыхароў (2010).



*Ільінская царква ў в. Касынь.*

У 1557 г. сяло, уласнасць А.М.Мацкевіча, у Мінскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ. У 1590 г. сяло — цэнтр маёнтка, панскі двор, праваслаўная царква, частка маёнтка — уласнасць кн. Б.І.Саламарэцкага. У 1600 г. ўласнасць А.Мацвеевіча. У 1615 г. ўпамінаецца пры апісанні абмежавання маёнтка Відагошч. У 1709 г. фальварак маёнтка Восава, панскі двор, млын, уласнасць Валадковіча. У гасп. двары амаль усе пабудовы былі разбураны ў час нашэсця шведаў, якія больш за 14 тыдняў стаялі тут і выкарыстоўвалі пабудовы на паліва для ацяплення свайго жылля. У 1784 г. засценак, 2 двары, 14 жыхароў, уласнасць Я.Свентаржыцкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 7 двароў, 74 жыхары, млын, у Мінскім павеце. У 1815 г. 21 жыхар мужчынскага полу, уласнасць Г.Хмары. У 1897 г. вёска, 16 двароў, 96 жыхароў, школа граматы, у Бяларуцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 21 двор, 134 жыхары, нар. вучылішча (з 1912 г.). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войска-

мі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Бароўскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 28 двароў, 126 жыхароў, пач. школа, 47 вучняў. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 7 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Ждановіцкім, з 20.1.1960 г. ў Папярнянскім с/с. У 1997 г. 49 гаспадарак, 120 жыхароў, у саўгасе «Азёрны». У 2010 г. магазін. Помнік архітэктуры — Ільінская царква (пач. 19 ст.).

**КАХАНОЎШЧЫНА** — вёска ў Сеніцкім с/с, за 7 км на Пд ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 61 гаспадарка, 136 жыхароў (2010).

У 1791 г. вёска маёнтка Прылукі, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 72 жыхары, уласнасць Ф.Каспера. У 1815 г. 35 душ мужчынскага полу, уласнасць Л.Іваноўскай, потым — памешчыка Горвата. У 1897 г. вёска, 24 двары, 150 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 31 двор, 184 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. арганізавана с.-г. т-ва «Падгайскае». З 20.8.1924 г. ў Падгайскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 40 двароў, 202 жыхары. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 30 двароў, 101 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 37 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Шчомысліцкім, з 1976 г. ў Сеніцкім с/с. У 1997 г. 43 гаспадаркі, 141 жыхар, у складзе калгаса імя Гастэлы (цэнтр — в. Сеніца). У 2010 г. магазін.

**КАЦЯГІ** — вёска ў Міханавіцкім с/с, за 9 км на Пд ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 101 гаспадарка, 307 жыхароў (2010).

У 1582 г. сяло маёнтка Пяцеўшчына, уласнасць І.Быкоўскага, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1710 г. вёска, 15 двароў, карчма, уласнасць Пацея. У 1791 г. 28 дымоў, карчма, уласнасць Прушынскага і Язвінскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815 гг. вёска, 26 двароў, 230 жыхароў, драўляная уніяцкая капліца, карчма, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1858 г. ўласнасць Ельскіх. У 1897 г. 65 двароў, 390 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца на могілках, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1909 г. адкрыта царк.-прыходская школа, з 1912 г. нар. вучылішча. У 1917 г. 85 двароў, 555 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. ў вёсцы 107 двароў, 348 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Гатаўскім, з 1927 г. ў Дзяргайскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 104 двары, 567 жыхароў, кузня, быў распаўсюджаны сталярны промысел. У 1927 г. працавала пач. школа. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 9 двароў, знішчылі 64 жыхары. З 1976 г. ў Самахвалавіцкім, з 1987 г. ў Міханавіцкім с/с. У 1997 г. 113 гаспадарак, 274 жыхары, у калгасе Войкава (цэнтр — в. Чурылавічы). У 2010 г. магазін.

**КАЧЫНА** — вёска ў Ждановіцкім с/с, за 4 км на ПнЗ ад Мінска. 77 гаспадарак, 207 жыхароў (2010).

У 1490 г. маёнтак Качынскі, панскі двор «дварэц», у Мінскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ. У 1548 г. сяло, шляхецкая ўласнасць. У 1681 г. вёска, 3 двары. У 1791 г. вёска маёнтка Тарасаў, 18 дымоў, карчма, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска (23 двары, 195 жыхароў) і фальварак на левым беразе «малой ракі Дунай», уласнасць В.Корсака з братамі, у Мінскім павеце. У 1858 г. вёска У.Грыгаровіча, Ф.Еўдакімавай, Л.Паўлоўскай. У 1887 г. адкрыта школа граматы, з 1912 г. нар. вучылішча. У 1897 г. вёска, 39 двароў, 227 жыхароў, капліца і выселак — 6 двароў, 34 жыхары, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 49 двароў, 268 жыхароў, у фальварку 2 двары, 11 жыхароў, на хутары — двор, 8 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Ратамскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1924 г. працавала пач. школа, 49 вучняў. У 1926 г. ў вёсцы 47 двароў, 231 жыхар. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 22 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Ждановіцкім с/с. У 1997 г. 71 гаспадарка, 161 жыхар, у калгасе імя Даватара (цэнтр — в. Ратамка). У 2010 г. магазін. У 1954 г. на 2 брацкіх магілах падпольшчыкаў пастаўлены мемарыяльныя знакі.

**КІРШЫ** — вёска ў Пятрышкаўскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Мінска. 74 гаспадаркі, 241 жыхар (2010).

У 1800 г. вёска, 20 двароў, 90 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1840 г. вёска маёнтка Заслаўе, 18 двароў, 121 жыхар. У 1897 г. вёска, 36 двароў, 227 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1909 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. 44 двары, 278 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. У баях за вызваленне вёскі ад польскіх акупантаў загінулі 5 чырвонаармейцаў. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Заслаўскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1924 г. працавала пач. школа, 42 вучні. У 1926 г. ў вёсцы 60 двароў, 294 жыхары. З 24.9.1926 г. ў Заслаўскім местачковым с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 20 жыхароў. У чэрв. 1941 г. пры абароне вёскі загінулі 7 сав. воінаў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У 1997 г. 66 гаспадарак, 190 жыхароў, у саўгасе імя Жданава (цэнтр — в. Пятрышкі). У 1946 г. на брацкай магіле сав. воінаў пастаўлены абеліск.

**КІСЯЛІ** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Мінска. 12 гаспадарак, 27 жыхароў (2010).

У 1677 г. вёска маёнтка Гуя, 7 дымоў, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1779 г. 12 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Карніцкіх. У 1833 г. вёска маёнтка Карлсберг, 7 двароў, 54 жыхары, уласнасць казны, у Вілейскім павеце. У 1858 г. вёска, 50 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Сніткі. У 1870 г. адносілася да Агаркаўскай сельскай грамады. У лютым 1867 г. сяляне адказаліся ад уплаты нядоімак па выкупных і аброчных плацяжах, аказалі супраціўленне прадстаўнікам улады пры вопісе маёмасці. У 1897 г. вёска, 16 двароў, 123 жыхары, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 24 двары, 149 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім, з 13.6.1929 г. ў Рагаўскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.).

У 1926 г. 25 двароў, 135 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 19 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 24 гаспадаркі, 46 жыхароў, у саўгасе «Рагаўскі» (цэнтр — в. Новы Двор). У 2010 г. магазін.

**КЛІМАВІЧЫ** — вёска ў Навадворскім с/с, за 3 км на Пд ад Мінска на р. Сеніца (прыток р. Свіслач). 73 гаспадаркі, 193 жыхары (2010).

У 1708 г. вёска, 11 двароў, уласнасць К.Друцкага-Горскага, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1772 г. вёска, 47 двароў, 189 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць І.Прушынскага. У 1791 г. вёска маёнтка Новы Двор, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 17 двароў, 105 жыхароў, уласнасць С.Прушынскага, у Мінскім павеце. У 1815 г. 53 душы мужчынскага полу, уласнасць Р.Алендскага, у 1858 г. — К.Яленскага. У 1886 г. дзейнічала праваслаўная царква. У 1897 г. вёска, 31 двор, 178 жыхароў, у Сеніцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 42 двары, 253 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 53 двары, 265 жыхароў, кузня. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-я г. арганізаваны калгас «3-ці рашаючы». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Гатаўскім, з 20.1.1960 г. ў Навадворскім с/с. У 1997 г. 101 гаспадарка, 246 жыхароў, у саўгасе «Світанне» (цэнтр — в. Новы Двор). У 2010 г. магазін.

**КЛЮІ** — вёска ў Хацежынскім с/с, за 10,5 км на З ад Мінска. 18 гаспадарак, 41 жыхар (2010).

У 1710 г. вёска, 4 двары, уласнасць С.Багушэвіча, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1791 г. вёска, 7 дымоў, шляхецкая ўласнасць, у Караліщчавіцкай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 7 двароў, 30 жыхароў, уласнасць падкаморыяў І. і Т. Пішчалаў, у Мінскім павеце. У 1897 г. вёска, 26 двароў, 170 жыхароў, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 37 двароў, 157 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 31 двор, 158 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 15 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 28.2.1974 г. ў Хацежынскім с/с. У 1997 г. 17 гаспадарак, 40 жыхароў, у складзе саўгаса «Пціч» (цэнтр — в. Старое Сяло).

**КЛЮЧНІКІ** — вёска ў Астрашыцка-Гарадоцкім с/с, за 15,5 км на ПнУ ад Мінска. 16 гаспадарак, 24 жыхары (2010).

У 1815 г. вёска, 15 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць графа І.Тышкевіча, у Мінскім павеце. У 1846, 1858 гг. вёска маёнтка Гарадок, 4 двары, 35 жыхароў, уласнасць Тышкевічаў. У 1897 г. вёска, 9 двароў, 62 жыхароў, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 10 двароў, 65 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Астрашыцка-Гарадоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 13 двароў, 87 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв.

1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1997 г. 14 гаспадарак, 24 жыхары, у саўгасе «Новы шлях» (цэнтр — в. Астрашыцкі Гарадок).

**КОПІШЧА** (да 1978 г. — Копішча-1 і Копішча-2) — вёска ў Бараўлянскім с/с, за 2,9 км на ПнУ ад Мінска. 165 гаспадарак, 486 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 5 двароў, 26 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла ў закладзе ў А.Ваньковіча, у Мінскім павеце. У 1815 г. ў вёсцы 31 жыхар мужчынскага полу. У 1858 г. ўласнасць кн. П.Вітгенштэйна. У 1887 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. ў вёсках Копішча-1 — 8 двароў, 72 жыхары, Копішча-2 — 7 двароў, 57 жыхароў, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсках Копішчы-1 13 двароў, 86 жыхароў, Копішчы-2 — 14 двароў, 106 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Калодзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы Копішча-1 — 16 двароў, 89 жыхароў, Копішча-2 — 19 двароў, 133 жыхары. З 18.1.1931 г. ўключаны ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 22 жыхары. З 9.8.1979 г. вёска ў Бараўлянскім с/с. У 1997 г. 88 гаспадарак, 252 жыхары, у саўгасе імя Фрунзэ (цэнтр – в. Бараўляны). У 2010 г. магазін. Каля вёскі брацкая магіла, дзе пахавана больш за 30 тыс. сав. ваеннапалонных, партызан, падпольшчыкаў, мірных жыхароў, у 1975 г. ўстаноўлена надмагілле.

**КРАСНАЕ** – вёска ў Гаранскім с/с, за 17 км на З ад Мінска. 11 гаспадарак, 21 жыхар (2010).

У 1567 г. згадваецца як вёска Краснае Сяло, шляхецкая ўласнасць у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 25 двароў, 122 жыхары, панскі двор, карчма, уласнасць Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць І.Валодкавіча. У 1897 г. вёска (28 двароў, 124 жыхары), гута-шклозавод (двор, 112 жыхароў) памешчыка Валадковіча, 2 фальваркі, 8 сядзіб, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 16 двароў, 119 жыхароў, у маёнтку двор, 34 жыхары, ва ўрочышчы 2 двары, 9 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Траскоўшчынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 4 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 15 гаспадарак, 30 жыхароў.

**КРУГЛЯК** – вёска ў Крупіцкім с/с, за 16 км на Пд ад Мінска, за 8 км ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск–Асіповічы. 23 гаспадаркі, 40 жыхароў (2010).

У 1815 г. вёска, 37 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1897 г. вёска, 18 двароў, 98 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 15 двароў, 96 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Крупіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 20 двароў, 98 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 7 жыхароў. У 1997 г. 31

гаспадарка, 48 жыхароў, у складзе калгаса «Новы быт» (цэнтр — в. Крупіца).

**КРУПІЦА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 17 км на Пд ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 363 гаспадаркі, 1011 жыхароў (2010).

У 1791 г. вёска маёнтка Анаполь, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815 гг. вёска, 21 двор, 187 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1858 г. вёска, 158 душ мужчынскага полу, уласнасць кн. А.Радзівіла. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча, у 1892 г. вучыліся 83 хлопчыкі і 2 дзяўчынкі. У 1897 г. вёска, 66 двароў, 343 жыхары, кузня, хлебазапасны магазін, царква на могілках, нар. вучылішча, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 66 двароў, 388 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Крупіцкага с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1924 г. працавала пач. школа, 80 вучняў. З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 90 двароў, 337 жыхароў, працавалі кузня і кравецкая майстэрня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 28 жыхароў. У 1997 г. 337 гаспадарак, 934 жыхары, у складзе калгаса «Новы быт» (цэнтр — в. Крупіца), сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, музей, аддз. сувязі, цэнтр культуры, амбулаторыя, аптэка, гандлёвы цэнтр, лазнева-пральны камбінат. У 1969 г. пастаўлены помнік на ўшанаванне памяці 428 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**КРЫВОЕ СЯЛО** — вёска ў Пятрышкаўскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Мінска. 27 гаспадарак, 57 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 13 двароў, 63 жыхары, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 36 душ мужчынскага полу, уласнасць А.Мастоўскай. У 1840 г. вёска маёнтка Заслаўе, 7 дамоў, 56 жыхароў, карчма. У 1858 г. ўласнасць Л.Прушынскага. У 1887 г. адкрыта школа граматы, у 1890 г. вучыліся 9 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. У 1897 г. вёска, 22 двары, 142 жыхары, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 33 двары, 219 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Анусінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 22 двары, 134 жыхары, пач. школа. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 25 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У 1997 г. 46 гаспадарак, 87 жыхароў, у саўгасе імя Жданава (цэнтр — в. Пятрышкі). У 2010 г. магазін.

**КРЫЖОЎКА** — вёска ў Ждановіцкім с/с, за 8 км на З ад Мінска, каля чыг. лініі Мінск—Маладзечна. 67 гаспадарак, 168 жыхароў (2010).

У 1885 г. ўрочышча ў Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1897 г. ваколіца (4 двары, 28 жыхароў) каля Лібава-Роменскай чыгункі і 2 аднасел-

*Спартыўна-аздараўленчая база ў в. Крыжоўка.*



лі (2 двары, 17 жыхароў). У 1917 г. 22 двары, 108 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Ратамскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары 13 двароў, 55 жыхароў. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 7 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Ждановіцкім с/с. У 1997 г. 55 гаспадарак, 151 жыхар. У 2010 г. муз. школа, б-ка, Дом культуры, амбулаторыя, прафілакторыі, лагеры адпачынку, Дом рыбака, гандлёвы цэнтр, сталовая, аддз. сувязі, аптэка. У наваколлі вёскі размешчаны дзіцячыя аздараўленчыя лагеры.

**КРЫЛАВА** — вёска ў Гаранскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Мінска, на р. Поплаў (прыток р. Свіслач), каля вадасховішча Крылава. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 4 двары, 28 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1815 г. ўласнасць М.Кастравіцкага. У 1897 г. вёска (10 двароў, 74 жыхары), ваколіца (4 двары, 16 жыхароў) і 3 фальваркі (2 двары, 30 жыхароў) у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 14 двароў, 75 жыхароў, у фальварку — двор, 8 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Барздынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 13 двароў, 64 жыхары. З 9.3.1932 г. ў Навадворшчынскім нац. польскім, з 20.2.1938 г. ў Навадворскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 10 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1991 г. ў саўгасе імя Ульянава (цэнтр — в. Навасёлле). У 1997 г. 50 гаспадарак, 132 жыхары.

**КРЫНІЦА** — вёска ў Лашанскім с/с, на ПнЗ ад Мінска. 3 двары, 6 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 2 двары, 10 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1897 г. 17 жыхароў, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. на хутары 4 двары, 19 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў пасёлку 11 двароў, 52 жыхары, на хутары 4 двары, 21 жыхар. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 11 двароў, 50 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, ў баях загінулі 3 жыхары. Акупанты спалілі 5 двароў, знішчылі 9 жыхароў і 3 вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. З 1987 г. ў саўгасе «Броўкі» (цэнтр — в. Броўкі). У 1997 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў.

**КРЫСТЫНОВА** — вёска ў Астрашыцкагарадоцкім с/с, за 17 км на ПнУ ад Мінска, каля Дубраўскага вадасховішча (на р. Усяжа).

У 1858 г. вёска, уласнасць С.Гіндэнбурга, у Мінскіх павеце і губ. У 1897 г. вёска, 6 двароў, 39 жыхароў, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 9 двароў, 53 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Астрашыцка-Гарадоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 10 двароў, 67 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім р-не. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не.

З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 9 жыхароў. У 1989 г. 4 гаспадаркі, 4 жыхары, у саўгасе «Новы шлях» (цэнтр — в. Астрашыцкі Гарадок). У 2010 г. дачны пасёлак.

**КРЫЧКІ** — вёска ў Пятрышкавіцкім с/с, за 29 км на ПнЗ ад Мінска, за 1 км ад чыг. ст. Радашковічы на лініі Мінск—Маладзечна, каля гал. канала Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. 38 гаспадарак, 118 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 16 двароў, 87 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска (11 душ мужчынскага полу), уласнасць памешчыкаў М.Пшаздзецкага і А.Маставой; у 1858 г. вёска (7 душ мужчынскага полу), уласнасць А.Вішнеўскага. У 1897 г. вёска, 16 двароў, 127 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 19 двароў, 108 жыхароў, у фальварку — 2 двары, 12 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. арганізаваны калгас «Герой працы», працавалі кузня, сталярная майстэрня. З 20.8.1924 г. вёска ў Анусінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 23 двары, 131 жыхар. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 11 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У 1997 г. 41 гаспадарка, 100 жыхароў, у саўгасе імя Жданава (цэнтр — в. Пятрышкі). У 2010 г. магазін.

**КСАВЯРОВА** — вёска ў Лугаваслабодскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Мінска. 11 гаспадарак, 20 жыхароў (2010).

У 1858 г. маёнтак, 9 дваравых, уласнасць С.Азямблоўскага, у Ігуменскім павеце. У 1897 г. маёнтак, двор, 18 жыхароў, у Смілавіцкай вол. Ігуменскага павета. У 1917 г. маёнтак, двор, 5 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Замастоцкім нац. польскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 8.7.1931 г. ў Пухавіцкім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 33 двары, 121 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 5 жыхароў. Акупанты спалілі 8 двароў, знішчылі 24 жыхароў і 1 вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 5.3.1959 г. ў Абчакаўскім, з 8.6.1981 г. ў Лугаваслабодскім с/с. У 1997 г. 12 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе саўгаса «Волма» (цэнтр — в. Лугавая Слабада). Магіла ахвяр фашызму, пахаваны 23 жыхары, у 1958 г. пастаўлены абеліск.

**КУКЕЛЕЎШЧЫНА** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 30 км на Пн ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

У 1800 г. вёска, 4 двары, 26 жыхароў, уласнасць В.Багдановіча, у Вілейскім павеце. У 1858 г. вёска маёнтка Мануйлы, 15 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Тукалы. У 1870 г. вёска адносілася да Сярэднянскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска, 9 двароў, 64 жыхары, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 13 двароў, 73 жыхароў, пач. школа. З 20.8.1924 г. ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары 15 двароў, 86 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 5 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў, у саўгасе «Савецкі» (цэнтр — в. Шаршуны).

**КУРГАНЫ** – вёска ў Бараўлянскім с/с, за 10 км на ПнУ ад Мінска. 74 гаспадаркі, 246 жыхароў (2010).

У 1800 г. засценак, 3 двары, 25 жыхароў, уласнасць падпалкоўніка Ф.І.Гарадзенскага, у Мінскім павеце. У 1897 г. 26 двароў, 181 жыхар, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 46 двароў, 335 жыхароў, пач. школа. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Астрашыцка-Гарадоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары 45 двароў, 232 жыхары. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. У 1930-я г. арганізаваны саўгас «Курганы». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 15 жыхароў. З 9.8.1979 г. вёска ў Бараўлянскім с/с. У 1997 г. 71 гаспадарка, 166 жыхароў, у саўгасе Бараўляны (цэнтр – в. Ляскаўка). У 2010 г. магазін.

**КУРГАНЫ** – вёска ў Рагаўскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Мінска, на р. Узра (прыток р. Рыбчанка). 6 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

У 1800 г. фальварак, дзярж. ўласнасць, у Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1858 г. фальварак, 9 дваровых, уласнасць Ю.Есьман. У 1897 г. засценак, 2 двары, 20 жыхароў, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. У 1917 г. 5 двароў, 31 жыхар, царк.-прыходская школа. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 5 двароў, 28 жыхароў, пач. школа (з 1923 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 9 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 5 гаспадарак, 20 жыхароў, у саўгасе «Савецкі» (цэнтр – в. Шаршуны).

**КУРКАВІЧЫ** – вёска ў Самахвалавіцкім с/с, за 13 км на Пд ад Мінска. 34 гаспадаркі, 81 жыхар (2010).

У 1791 г. вёска маёнтка Пяцеўшчына, шляхецкая ўласнасць, у Каралішчавіцкай парафіі Мінскіх павета і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 25 двароў, 134 жыхары, уласнасць Быкоўскага, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 27 душ мужчынскага полу, уласнасць А.Бяньkoўскага. У 1897 г. вёска, 33 двары, 185 жыхароў, кузня, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 33 двары, 203 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Самахвалавіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 40 двароў, 187 жыхароў, пач. школа (з 1924 г.), на хутары 4 двары, 18 жыхароў. У вёсцы працавалі кузня і шавецкая майстэрня. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 22 жыхары. У 1997 г. 38 гаспадарак, 84 жыхары, у складзе эксперыментальнай базы «Русінавічы» (цэнтр – в. Самахвалавічы). У 2010 г. магазін.

**КУРНЕВІЧЫ** – вёска ў Рагаўскім с/с, за 26 км на Пн ад Мінска. 10 гаспадарак, 21 жыхар (2010).

У 1600 г. сяло, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1765 г. вёска дзярж. маёнтка Радашковічы, 6 баярскіх дамоў, у Радашковіцкай вол. Мінскіх павета і ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. вёска, 5 двароў,

37 жыхароў, дзярж. ўласнасць, у Вілейскім павеце. У 1858 г. вёска, 25 душ мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць У 1870 г. вёска адносілася да Бахметаўскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска, 14 двары, 100 жыхароў, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. У 1900 г. адкрыта школа граматы. У 1917 г. 20 двароў, 118 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 20 двароў, 118 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 25 двароў, 132 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 15 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 22 гаспадаркі, 46 жыхароў, у саўгасе «Савецкі» (цэнтр — в. Шаршуны).

**КУТЫ** — вёска ў Лашанскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Мінска. 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2010).

У 1897 г. вёска, 6 двароў, 37 жыхароў. У 1917 г. 5 двароў, 29 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскіх павета і губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 4 жыхары. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. У 1997 г. 10 гаспадарак, 28 жыхароў, у саўгасе імя Тэльмана (цэнтр — в. Лашаны).

**ЛАБЭНШЧЫНА** — вёска ў Лашанскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Мінска. 10 гаспадарак, 20 жыхароў (2010).

У 1728 г. вёска Лабкі, 10 двароў, 27 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць М.Сяняўскай, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 7 двароў, 46 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага. У 1815 г. вёска, 7 душ мужчынскага полу, ва ўладанні памешчыка М.Гілевіча, у 1858 г. ўласнасць К.Тамашэўскага. У 1890 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. вёска, 18 двароў, 106 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 21 двор, 109 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 21 двор, 122 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 6 жыхароў. Акупанты спалілі 13 двароў, 4 жыхароў вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. У 1997 г. 15 гаспадарак, 22 жыхары, у саўгасе імя Тэльмана (цэнтр — в. Лашаны). За 0,4 км на З ад вёскі археал. помнік — гарадзішча жал. веку.

**ЛАПАРАВІЧЫ** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 7 км на Пн ад Мінска, на паўн. беразе Заслаўскага вадасховішча. 115 гаспадарак, 220 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 30 двароў, 216 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 103 душы мужчынскага полу, шляхецкая ўласнасць у арэндзе. У 1889 г. адкрыта школа граматы, з 1912 г. — нар. вучылішча. У 1897 г. ў вёсцы 42 двары, 277 жыхароў, хлебазапасны магазін, у маёнтку двор, 20 жыхароў, у аднаселлі — двор, 3 жыхары, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 47 двароў, 270 жыхароў, у маёнтку двор, 45 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У

1923 г. дзейнічала пач. школа, у 1924 г. было 47 вучняў. З 20.8.1924 г. вёска ў Сёмкава-Гарадоцкім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.1.1960 г. ў Папярнянскім с/с. У 1997 г. 93 гаспадаркі, 264 жыхары, у саўгасе «Азёрны» (цэнтр — в. Сёмкава). У 2010 г. санаторый-прафілакторый «Азёрны», магазін.

**ЛАТЫГАЎКА** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Мінска. 8 гаспадарак, 16 жыхароў (2010).

У 1897 г. вёска, 7 двароў, 58 жыхароў у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 13 двароў, 75 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 15 двароў, 79 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 9 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 16 гаспадарак, 36 жыхароў, у саўгасе «Савецкі» (цэнтр — в. Шаршуны).

**ЛАШАНЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 14 км на ПнЗ ад Мінска. 185 гаспадарак, 654 жыхары (2010).

У 1815 г. вёска, 56 жыхароў мужчынскага полу, царк. ўласнасць Заслаўскага дамініканскага кляштара, у Мінскім павеце. У 1858 г. вёска, 61 душа мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць. У 1897 г. вёска, 28 двароў, 213 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 36 двароў, 254 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 46 двароў, 248 жыхароў. У 1937 г. працаваў цагельны з-д. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 43 двары, 217 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 19 жыхароў. Акупанты спалілі 12 двароў, знішчылі 2 жыхароў і 3 вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. вёска — цэнтр сельсавета. У 1997 г. 185 гаспадарак, 511 жыхароў, цэнтр саўгаса імя Тэльмана. У 2010 г. б-ка, Дом культуры, сярэдняя школа, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, аптэка, магазін.

**ЛЕБЯДЗІНЕЦ** — вёска ў Лугаваслабодскім с/с, за 13 км на ПдУ ад Мінска. 16 гаспадарак, 24 жыхары (2010).

У 1858 г. вёска — цэнтр маёнтка, 46 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Клімантовічаў, у Ігуменскім павеце. У 1897 г. вёска (10 двароў, 60 жыхароў) і маёнтак (2 двары, 20 жыхароў), у Пярэжырскай вол. Ігуменскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Замастоцкім нац. польскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 8.7.1931 г. ў Пухавіцкім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 2 жыхары. З 5.3.1959 г. ў Абчакаўскім, з 8.6.1981 г. ў Лугаваслабодскім с/с. У 1997 г. 23 гаспадаркі, 43 жыхары, у складзе саўгаса «Волма» (цэнтр — в. Лугавая Слабада).

**ЛЕКАРАЎКА** — вёска ў Юзуфоўскім с/с, за 21 км на Пн ад Мінска. 13 гаспадарак, 25 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 9 двароў, 130 жыхароў, уласнасць Валадковічаў, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 62 душы мужчынскага полу, уласнасць Т.Аборскага. У 1858 г. частка вёскі (25 душ мужчын-

скага полу) ва ўладанні Якубоўскіх, другая частка (18 душ мужскога полу) – уласнасць В.Ардынцавай, трэцяя (5 душ мужчынскага полу) – дзярж. ўласнасць. У 1870 г. адносілася да Будскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска, 25 двароў, 160 жыхароў, у Бяларуцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 33 двары, 221 жыхар, нар. вучылішча, у маёнтку 16 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Шапялёўскім, з 20.10.1924 г. ў Лысагорскім, з 21.8.1925 г. зноў у Шапялёўскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 36 двароў, 185 жыхароў, на хутары – двор, 6 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Заслаўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 15 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Юзуфоўскім с/с. У 1997 г. 18 гаспадарак, 30 жыхароў, у саўгасе «Буцэвічы» (цэнтр – в. Юзуфова).

**ЛЯСІНЫ** – вёска ў Папярнянскім с/с, за 16 км на Пн ад Мінска. 60 гаспадарак, 73 жыхары (2010).

У 1615 г. сяло маёнтка Бяларуча, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 14 двароў, 90 жыхароў, уласнасць Ф.Аборскага, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 50 душ мужчынскага полу, уласнасць Т.Аборскага, у 1858 г. ўласнасць І.Бабіча. У 1897 г. вёска (23 двары, 121 жыхар, хлебазапасны магазін), маёнтак (двор, 14 жыхароў), 3 фальваркі (3 двары, 24 жыхары) у Бяларуцкай вол. Мінскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. ў вёсцы 25 двароў, 152 жыхар, у маёнтку 2 двары, 15 жыхароў, у фальварку двор, 4 жыхары, на хутары 5 двароў, 33 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Бяларуцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 30 двароў, 161 жыхар, на хутары Лясіны-1 – 5 двароў, 16 жыхароў, на хутары Лясіны-2 – 3 двары, 15 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 29 двароў, 143 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 20 двароў, знішчылі 183 жыхары, у т.л. 57 бежанцаў. З 20.1.1960 г. ў Папярнянскім с/с. У 1997 г. 25 гаспадарак, 38 жыхары, у складзе саўгаса «Вішнёўка» (цэнтр – в. Вішнёўка). У 2010 г. магазін. Каля вёскі магіла ахвяр фашызму, пахаваны 183 мірныя жыхары, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**ЛЕСКАЎКА** – вёска ў Бараўлянскім с/с, за 8 км на ПнУ ад Мінска. 423 гаспадаркі, 1643 жыхары (2010).

У 1800 г. засценак, 3 двары, 21 жыхар, уласнасць падпалкоўніка Ф.І.Гарадзенскага, у Мінскім павеце. У 1897 г. ваколіца, 10 двароў, 57 жыхароў, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 147 жыхароў, пач. школа. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Астрашыцка-Гарадоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 34 двары, 179 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 9.8.1979 г. ў Бараўлянскім с/с. У 1997 г. 314 гаспадарак, 1356 жыхароў, цэнтр. сядзіба саўгаса «Бараўляны». У 2010 г. сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры,

б-ка, аддз. сувязі, магазіны, абласны туберкулёзны дыспансер.

**ЛЕЦКАЎШЧЫНА** – вёска ў Шчомысліцкім с/с, за 5 км на ПдЗ ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Свіслач). 23 гаспадаркі, 50 жыхароў (2010).

У 1791 г. вёска і фальварак у складзе маёнтка Прылукі, у Каралішчавіцкай парафіі Мінскіх павета і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска (10 двароў, 95 жыхароў) і фальварак на левым беразе р. Пціч, уласнасць М.Іваноўскай, у Мінскім павеце. У 1858 г. вёска, 39 душ мужчынскага полу, уласнасць пані Горватавай. У 1870 г. адносілася да Прылуцкай сельскай грамады. У 1897 г. 22 двары, 149 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 32 двары, 168 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Падгайскім, з 1927 г. ў Прылуцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 32 двары, 154 жыхары. З 1931 г. ў Падгайскім с/с. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. ў Прылуцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 3 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Шчомысліцкім с/с. У 1997 г. 27 гаспадарак, 69 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях камунізма» (цэнтр – в. Шчомысліца).

**ЛЕНІНА** – вёска ў Лашанскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Мінска. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

Пасёлак заснаваны ў 1924 г. З 20.8.1924 г. ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 9 двароў, 56 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 4 жыхары. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. У 1997 г. 7 гаспадарак, 13 жыхароў, у саўгасе імя Тэльмана (цэнтр – в. Лашаны).

**ЛІПАВАЯ КАЛОДА** – вёска ў Калодзішчанскім с/с, за 13 км на У ад Мінска, на р. Глебкаўка (прыток р. Волма). 19 гаспадарак, 33 жыхары (2010).

У 1897 г. аднаселле, 2 двары, 14 жыхароў. У 1917 г. ўрочышча, 9 двароў, 57 жыхароў, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Калодзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 4 жыхары. У 1997 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў.

**ЛІПЯНІ** – вёска ў Пятрышкаўскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Мінска, каля гал. канала Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. 15 гаспадарак, 25 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 24 двары, 122 жыхары, драўляная ўніяцкая капліца, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Анусінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 50 двароў, 253 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 5 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У 1997 г. 29 гаспадарак, 40 жыхароў, у саўгасе імя Жданава (цэнтр – в. Пятрышкі).

**ЛІСАЎШЧЫНА** – вёска ў Гаранскім с/с, за 21 км на З ад Мінска, на р. Ісалч (прыток р. Бярэзіна). 16 гаспадарак, 25 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, двор, 6 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1897 г. вёска, 4 двары, 28 жыхароў, фальварак – двор, 11 жыхароў, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 5 двароў, 27 жыхароў, у фальварку двор, 5 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Траскоўшчынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 15 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 27 гаспадарак, 44 жыхары, у саўгасе «Праўда» (цэнтр – в. Чачкава).

**ЛІСІЦЫ** – вёска ў Рагаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Мінска. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

У 1588 г. сяло, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1677 г. вёска маёнтка Гуя, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 86 жыхароў, уласнасць І.Валодкавіча, у Вілейскім павеце. У 1833 г. вёска маёнтка Калсберг, 6 двароў, 47 жыхароў, карчма, дзярж. ўласнасць. У 1870 г. адносілася да Агаркаўскай сельскай грамады. У 1897 г. фальварак, двор, 11 жыхароў, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 3 двары, 6 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім, з 13.6.1929 г. ў Рагаўскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 9 двароў, 24 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 12 двароў, 20 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 6 жыхароў. Акупанты спалілі 4 двары, знішчылі 8 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 9 гаспадарак, 14 жыхароў, у саўгасе «Рагаўскі» (цэнтр – в. Новы Двор).

**ЛІХАЧЫ** – вёска ў Гаранскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Мінска, на р. Чарнаруч (прыток р. Ісалч). 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2010).

У 1794 г. засценак, 4 двары, 26 жыхароў і маёнтак, уласнасць М.К.Агінскага. У 1779 г. засценак, 2 двары, шляхецкая ўласнасць. У 1800 г. вёска, 4 двары, 36 жыхароў, уласнасць стольніка Е.Сялявы, у Вілейскім павеце. У 1897 г. вёска (2 двары, 18 жыхароў), засценак (2 двары, 22 жыхары, вадзяны млын) і ўрочышча (двор, 6 жыхароў, вадзяны млын), у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 8 двароў, 54 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім, з 1927 г. ў Барздынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1925 г. працаваў млын. У 1926 г. ў вёсках Ліхачы-1 – 93 двары, 22 жыхары, у Ліхачы-2 – 7 двароў, 38 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 3 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 9 гаспадарак, 16 жыхароў.

**ЛОЗКІ** – вёска ў Крупіцкім с/с, за 18,5 км на Пд ад Мінска. 4 двары, 10 жыхароў (2010).

У 1815 г. вёска, 9 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1897 г. засценак, 3 двары, 25 жыхароў, у Самахвалавіц-



*У стаматалагічным кабінеце амбулаторыі ў в. Лугавая Слабада.*

кай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 5 двароў, 33 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак у Крупіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў засценку 7 двароў, 37 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінуў 1 жыхар. У 1997 г. 10 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе калгаса «Новы быт» (цэнтр — в. Крупіца).

**ЛОМШЫНА** — вёска ў Лашанскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Мінска. 16 гаспадарак, 30 жыхароў (2010).

У 1570 г. маёнтак, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1667 г. маёнтак 47 дымоў, уласнасць Я.Н.Храпавіцкага. У 1739 г. вёска Ламшын, 7 двароў, маёнтак ва ўладанні Г.Мацкевіча. У 1791 г. вёска — цэнтр маёнтка, панскі двор, 120 дымоў, карчма, уласнасць Пшаздзецкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 22 двары, 169 жыхароў, млын, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1815 г. ўласнасць М.Пшаздзецкага, у арэндзе Аляшкевіча, у 1858 г. ўласнасць Г.Кулакоўскага. У 1897 г. вёска, 24 двары, 153 жыхары, маёнтак Новы Ламшын, 29 жыхароў і маёнтак Стары Ламшын, 37 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 27 двароў, 171 жыхар, у маёнтку Стары Ламшын, двор, 37 жыхароў, у маёнтку Новы Ламшын двор, 26 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 32 двары, 179 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 32 двары, 142 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 12 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. У 1997 г. 25 гаспадарак, 45 жыхароў, у саўгасе імя Тэльмана (цэнтр — в. Лашаны).

**ЛУГАВАЯ СЛАБАДА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 15 км на ПдУ ад Мінска, на р. Слоўст (прыток р. Волма). 439 гаспадарак, 1436 жыхароў (2010).

З 20.8.1924 г. вёска ў Замастоцкім нац. польскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 8.7.1931 г. ў Пухавіцкім р-не. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 5 жыхароў. З 5.3.1959 г. ў Абчакаўскім с/с. З 8.6.1981 г. вёска — цэнтр Лугаваслабодскага с/с. У 1997 г. 473 гаспадаркі, 1223 жыхары, цэнтр. сядзіба саўгаса «Волма». У 2010 г. вёска — цэнтр Мінскага РУП «Саўгас Волма». Сярэдняя школа, яслі-сад, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, магазіны, аптэка.

**ЛУКАШЫ** — вёска ў Гаранскім с/с, за 23 км на З ад Мінска. 18 гаспадарак, 37 жыхароў (2010).

У 1791 г. вёска, уласнасць Стжэцкага, у Заслаўскай парафіі Мінскага павета і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас.

імперыі. У 1815, 1858 гг. вёска, 133 душы мужчынскага полу, уласнасць Халхоўскіх, у Мінскіх павеце і губ. У 1897 г. вёска, 58 двароў, 359 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 66 двароў, 409 жыхароў, нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. адкрылася пач. школа, у 1924 г. было 49 вучняў. З 20.8.1924 г. вёска ў Траскаўшчынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 70 двароў, 361 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 11 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 34 гаспадаркі, 68 жыхароў. У 2010 г. магазін.

**ЛУСКАВА** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 12,5 км на Пн ад Мінска, на р. Чарніца (упадае ў вадасховішча Вяча). 57 гаспадарак, 118 жыхароў (2010).

У 1582 г. сяло маёнтка Відагошча, уласнасць Г.А.Макарэвіча, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1784 г. вёска, 21 двор, 137 жыхароў, уласнасць Я.Свентаржэцкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска каля вусця р. Чарніца, 17 двароў, 153 жыхары, уласнасць Т.Ваньковіча. У 1815 г. 97 душ мужчынскага полу, уласнасць А.Ваньковіча, у 1858 г. ўласнасць Э.Кудзіновіча, у Мінскім павеце. У 1897 г. вёска, 45 двароў, 302 жыхары, хлебазапасны магазін, у Бяларуцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 61 двор, 372 жыхары, нар. вучылішча (з 1912 г.). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Бяларуцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1924 г. працавала пач. школа, 54 вучні. У 1926 г. 70 двароў, 338 жыхар. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.1.1960 г. ў Папярнянскім с/с. У 1997 г. 54 гаспадаркі, 124 жыхары, у складзе саўгаса «Вішнёўка» (цэнтр — в. Вішнёўка). У 2010 г. базавая школа, магазін. У 1984 г. на брацкай магіле 11 сав. воінаў 25-й гвардзейскай танкавай брыгады пастаўлены абеліск. Магіла сувязной атрада асобага прызначэння С.В.Хачэўскай.

**ЛЫСАВІЧЫ** — вёска ў Юзуфоўскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Мінска. 22 гаспадаркі, 49 жыхароў (2010).

У 1800 г. засценак, 21 двор, 108 жыхароў, уласнасць Валадковічаў, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска — цэнтр маёнтка, 41 душа мужчынскага полу, уласнасць І.Ваньковіча. У 1858 г. вёска і маёнтак, уласнасць М.Букатавай, Г.Загорскай. У 1870 г. адносілася да Шапялёўскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска, 31 двор, 197 жыхароў, хлебазапасны магазін і маёнтак — 2 двары, 4 жыхары, у Бяларуцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 32 двары, 200 жыхароў, нар. вучылішча (з 1912 г.). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Шапялёўскім, з 20.10.1924 г. ў Лысагорскім, з 21.8.1925 г. зноў у Шапялёўскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ў Заслаўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. ў Гатавінскім с/с. У 1941 г. ў вёсцы 33 двары, 180 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 7 жыхароў. Акупанты спалілі 19 двароў, 10 жыхароў вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г.

ў Юзуфоўскім с/с. У 1997 г. 26 гаспадарак, 51 жыхар, у саўгасе «Буцэвічы» (цэнтр — в. Юзуфова).

**ЛЫСАЯ ГАРА** — вёска ў Юзуфоўскім с/с, за 23 км на Пн ад Мінска, на р. Жукаўка. 7 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 12 двароў, 59 жыхароў, уласнасць Ф.Аборскага, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 18 душ мужчынскага полу, уласнасць Т.Аборскага, у 1858 г. ўласнасць Г.Пятроўскага. У 1897 г. 11 двароў, 62 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін, у Бяларуцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 13 двароў, 67 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. адкрыта пач. школа, у 1926 г. было 37 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Шапялёўскім с/с, з 20.10.1924 г. вёска — цэнтр Лысагорскага с/с, з 21.8.1925 г. вёска зноў у Шапялёўскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 14 двароў, 65 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Заслаўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. ў Гатавінскім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 5 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Юзуфоўскім с/с. У 1997 г. 14 гаспадарак, 24 жыхары, у саўгасе «Буцэвічы» (цэнтр — в. Юзуфова).



*Троіцкая царква ў пас. Лясны.*

**ЛЯВОНЦАВІЧЫ** — вёска ў Сеніцкім с/с, за 7 км на Пд ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 58 гаспадарак, 126 жыхароў (2010).

У 1600 г. сяло маёнтка Лошыца Адзінцоўская, уласнасць кн. С.П.Друцкага-Горскага ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1753 г. вёска, 29 дымоў (асн. частка жыхароў — баяры) у маёнтку Лошыца, уласнасць Мінскага дамініканскага кляштара. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815, 1858 гг. 24 двары, 172 жыхары, уласнасць Немаршанскіх, у Мінскім павеце. У 1870 г. адносілася да Лошыцкай сельскай грамады. У 1897 г. 46 двароў, 311 жыхароў, хлебазапасны магазін у Сеніцкай вол. Мінскага павета. У 1913 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. 56 двароў, 333 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Падгайскім, з 1927 г. ў Прылуцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 71 двор, 316 жыхароў. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 33 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Шчомысліцкім, з 1976 г. ў Сеніцкім с/с. У 1997 г. 47 гаспадарак, 104 жыхары, у складзе калгаса імя Гастэлы (цэнтр — в. Сеніца). У 2010 г. магазін.

**ЛЯСНЫ** — пасёлак, цэнтр Бараўлянскага с/с, за 2,2 км на ПнУ ад Мін-

ска, на шашы Мінск—Віцебск. 8350 жыхароў (2010).

Засн. ў 1966 г. З 1979 г. пасёлак – цэнтр сельсавета. У 1997 г. 3809 гаспадарак, 8120 жыхароў. У 2010 г. гімназія, сярэдняя школа, дзіцячыя сады, Дом культуры, б-ка, клуб, рэстаран, Дом быту, гандлёвы цэнтр, 3 магазіны, аддз. сувязі і ашчаднага банка, Свята-Троіцкая царква. Працуюць: Мінская абл. клінічная бальніца, Мінская абл. дзіцячая клінічная бальніца, н.-д. ін-т анкалогіі і медыцынскай радыялогіі імя М.М.Аляксандрава, Мінскі абл. туберкулёзны дыспансер, рэсп. клінічны шпіталь інвалідаў Вял. Айч. вайны імя П.М.Машэрава, рэсп. навук.-практычны цэнтр дзіцячай анкалогіі і гематалогіі. Брацкая магіла сав. лётчыкаў і воінаў 100-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ЛЯХАЎШЧЫНА** – вёска ў Ждановіцкім с/с, за 10 км на З ад Мінска. 53 гаспадаркі, 100 жыхароў (2010).

У 1590—91 гг. сяло, 19 валок зямлі, уласнасць Е.Вінка, яго жонкі А.А.Станкевічоўны і Б.Савіча, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1600 сяло маёнтка Ратамка, уласнасць А.Пратасовіча. У 1791 г. вёска – цэнтр маёнтка, 38 дымоў, панскі двор, карчма, уласнасць Ратынскага, у Каралінскай парафіі. У 1667 г. маёнтак, 6 дымоў, уласнасць Я.Ганецкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 16 двароў, 83 жыхары, уласнасць ротмістра І.Набароўскага, у Мінскім павеце. У 1858 г. вёска належала розным памешчыкам: адна частка (45 душ мужчынскага полу) ва ўладанні памешчыкаў Набароўскіх, другая (8 душ мужчынскага полу) – уласнасць К.Гайдукевіча. У 1897 г. вёска (33 двары, 180 жыхароў), аднайменныя выселак (3 двары, 13 жыхароў, піцейны дом), 4 фальваркі (4 двары, 70 жыхароў) у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1912 г. працавала нар. вучылішча. У 1917 г. 2 вёскі: Ляхаўшчына-1 (30 двароў, 181 жыхар) і Ляхаўшчына-2 (4 двары, 32 жыхары). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1924 г. створана с.-г. т-ва імя Леніна З 20.8.1924 г. вёска ў Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1924 г дзейнічала працоўная 3-гадовая школа, у якой было 42 вучні. У 1926 г. ў вёсцы 29 двароў, 150 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 41 двор, 32 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, пры абароне і вызваленні вёскі загінулі 70 сав. воінаў, 31 мірны жыхар. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1974 г. ў Хацежынскім, з 1980 г. ў Ждановіцкім с/с. У 1997 г. 61 гаспадарка, 164 жыхары, у складзе конезавода імя Даватара (цэнтр – в. Ратамка). У 2010 г. магазін.

**ЛЯХІ** – вёска ў Гаранскім с/с, за 20 км на З ад Мінска, на р. Ісплач (прыток р. Бярэзіна). 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 4 двары, 25 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1815, 1858 гг. уласнасць Свентаржыцкіх. Да 1890 г. ў вёсцы існавала школа пісьменнасці. У 1897 г. вёска, 11 двароў, 80 жыхароў, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 14 двароў, 92 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Траскоўшчынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 24 двары, 139 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 12 гаспадарак, 18 жыхароў.

**МАЛАШКІ** — вёска ў Хацежынскім с/с, за 15,5 км на З ад Мінска. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 3 двары, 14 жыхароў, уласнасць віленскага ваяводы К.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1815 г. уласнасць Д.Радзівіла. У 1858 г. уласнасць І.Валадковіча. У 1897 г. вёска, 9 двароў, 48 жыхароў, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 10 двароў, 66 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 17 двароў, 70 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 11 двароў, 38 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 28.2.1974 г. ў Хацежынскім с/с. У 1997 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у саўгасе «Пціч» (цэнтр — в. Старое Сяло).

**МАЛАЯ БАРЗДЫНЬ** — вёска ў Гаранскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

У 1791 г. вёска, 3 дымы, шляхецкая ўласнасць, у Заслаўскай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1815 г. вёска, 16 душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыкаў І. і В. Валодзькаў. У 1858 г. 15 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць А.Вішнеўскага, у Мінскім павеце. У 1870 г. вёска — цэнтр Барздынскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска, 7 двароў, 44 жыхары, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 14 двароў, 85 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Барздынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 10 двароў, 48 жыхароў. З 9.3.1932 г. ў Навадворшчынскім нац. польскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Навадворскім с/с Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 8 гаспадарак,12 жыхароў.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Бараўлянскім с/с, за 6,5 км на ПнУ ад Мінска. 88 гаспадарак, 313 жыхароў (2010).

У 1815, 1858 гг. вёска, 21 жыхар мужчынскага полу, уласнасць Буцэвічаў, у Мінскім павеце. У 1870 г. вёска — цэнтр Малінаўскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска, 22 двары, 187 жыхароў, кузня, капліца, бандарны промысел, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1912 г. пачала дзейнічаць школа (аднакласнае нар. вучылішча). У 1917 г. 31 двор, 233 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. адкрыта пачатковая школа, у 1923 г. было 90 вучняў. З 20.8.1924 г. вёска ў Астрашыцка-Гарадоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 49 двароў, 245 жыхароў, кузня. У 1930-я г. створаны калгас «Прагрэс». З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. вёска ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 24 жыхары. З 9.8.1979 г. вёска ў Бараўлянскім с/с. У 1997 г. 77 гаспадарак, 228 жыхароў. У 2010 г. царква, магазін.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Шчомысліцкім с/с, за 0,6 км на ПдЗ ад Мінска. 105 гаспадарак, 365 жыхароў (2010).

У 1897 г. вёска, 11 двароў, 65 жыхароў, у Сеніцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 12 двароў, 67 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр.

1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Строчыцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 18 двароў, 96 жыхароў. У 1930-я г. створаны калгас. З 26.7.1930 г. ў Заслаўскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 6 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Шчомысліцкім с/с. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 102 гаспадаркі, 334 жыхары. У 2010 г. магазін.

**МАЛЯЎКІ** — вёска ў Гаранскім с/с, за 23,5 км на З ад Мінска. 16 гаспадарак, 23 жыхары (2010).

У 1592 г. згадваецца як сяло Моляўкі ў Мінскім войтаўстве Мінскіх павета і ваяв. ВКЛ. У 1779 г. 13 дамоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1794 г. вёска, 16 двароў, 101 жыхар, уласнасць М.К.Агінскага. У 1800, 1815, 1858 гг. 14 двароў, 75 жыхароў, уласнасць Свентаржэцкіх, у Мінскім павеце. У 1897 г. вёска, 28 двароў, 199 жыхароў, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 35 двароў, 264 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). Працавала пач. школа, у 1924 г. было 32 вучні. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 22 гаспадаркі, 34 жыхары.

**МАРЫПАЛЬ** — вёска ў Самахвалавіцкім с/с, за 13 км на Пд ад Мінска. 28 гаспадарак, 73 жыхары (2010).

У 1885 г. фальварак у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1897 г. 2 двары, 21 жыхар. У 1917 г. маёнтак, двор, 91 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. адкрыта школа, у 1922 г. было 22 вучні. У 1922 г. створаны саўгас «Марыпаль», у якім працавалі 16 чал. З 20.8.1924 г. ў Самахвалавіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў саўгасе 81 чалавек. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 5 жыхароў. У 1997 г. 35 гаспадарак, 94 жыхары, у эксперыментальнай базы «Русінавічы» (цэнтр — в. Самахвалавічы).

**МАР'ЯЛІВА** — вёска ў Астрашыцкагарадоцкім с/с, за 8 км на ПнУ ад Мінска. 128 гаспадарак, 372 жыхары (2010).

У 1846 г. фальварак маёнтка Гарадок, двор, 18 жыхароў, уласнасць Тышкевічаў, у Мінскім павеце. У 1858 г. фальварак, 10 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Шэмбеля. У 1870 г. адносілася да Дражненскай сельскай грамады. У 1897 г. фальварак, 18 жыхароў, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 51 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. 20.8.1924 г. 2 пасёлкі ў Астрашыцка-Гарадоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў адным пасёлку 9 двароў, 38 жыхароў, у другім — 18 двароў, 102 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 35 двароў, 141 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана

ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 19 жыхароў. Акупанты спалілі 2 двары, знішчылі 2 жыхароў. У 1997 г. 42 гаспадаркі, 93 жыхары. У 2010 г. магазін.

**МАСЛАВІЧЫ** – вёска ў Юзуфоўскім с/с, за 14 км на Пн ад Мінска. 30 гаспадарак, 99 жыхароў (2010).

У 1667 г. маёнтак, шляхецкая ўласнасць, у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1791 г. вёска маёнтка Вуглы, у Мінскай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 60 жыхароў, панскі двор, уласнасць Э.Барсуковай, у Мінскім павеце. У 1858 г. вёска – цэнтр маёнтка, 32 душы мужчынскага полу, уласнасць М.Валіцкай. У 1870 г. вёска – цэнтр сельскай грамады. У 1897 г. 18 двароў, 121 жыхар, хлебазапасны магазін і маёнтак – 3 двары, 9 жыхароў, у Бяларуцкай вол. Мінскага павета. У 1912 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. ў вёсцы 17 двароў, 125 жыхароў, у маёнтку – двор, 25 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. 20.8.1924 г. ў Гатовінскім с/с Залаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 30 двароў, 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 11 двароў, загубілі 6 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 19.3.1974 г. ў Юзуфоўскім с/с. У 1997 г. 31 гаспадарка, 72 жыхары. У 2010 г. магазін.

**МАЦАВІЧЫ** – вёска ў Навадворскім с/с, за 8 км на ПдУ ад Мінска, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 31 гаспадарка, 80 жыхароў (2010).

У 1582 г. сяло маёнтка Каралішчавічы, ва ўладанні Г.М.Масальскага, у 1598 г. – уласнасць Д.Тышкевіча, у 1599–1600 гг. – уласнасць Д.Скуміна-Тышкевіча, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1772 г. 7 двароў, 34 жыхары, уласнасць І.Прушынскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 8 двароў, 115 жыхароў, уласнасць Каралішчавіцкай каталіцкай плябаніі і Марцінеўскага, у Ігуменскім павеце. У 1884 г. адкрыта школа граматы, якая ў 1912 г. ператворана ў нар. вучылішча. У 1897 г. вёска, 21 двор, 133 жыхары, карчма, у Пярэжырскай вол. Ігуменскага павета. У 1917 г. 27 двароў,139 жыхароў, нар. вучылішча, у маёнтку двор, 10 жыхароў, у фальварку двор, 12 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Каралішчавіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 36 двароў, 156 жыхароў. З18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 14 жыхароў. З 5.3.1959 г. ў Трасцянецкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Навадворскім с/с. У 1997 г. 63 гаспадаркі, 129 жыхароў, у саўгасе «Світанне» (цэнтр – в. Новы Двор).

**МАЦКІ** – вёска ў Лашанскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Мінска. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2010).

У 1800, 1815 гг. вёска, 20 двароў, 106 жыхароў, драўляная ўніяцкая капліца Святога Ільі, уласнасць Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1858 г. 19 душ мужчынскага полу, уласнасць Рэвутаў. У 1870 г. адносілася да Стараламшынскай сельскай грамады. У 1888 г. адкрыта школа граматы, у 1890 г. было 10 хлопчыкаў, ператворана ў 1912 г. ў нар. вучылішча. У 1897 г. 14 двароў, 92 жыхары, царква, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 14 двароў, 99 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабод-

скім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы і на хутары 18 двароў, 114 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 70 двароў, 342 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 8 жыхароў. Акупанты спалілі 12 двароў, 11 жыхароў вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. У 1997 г. 15 гаспадарак, 25 жыхароў, у саўгасе імя Тэльмана (цэнтр — в. Лашаны).

**МАЦКІ** — вёска ў Юзуфоўскім с/с, за 16 км на Пн ад Мінска. 9 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

У 1791 г. вёска — цэнтр маёнтка, 24 дымы, карчма, панскі двор, уласнасць Ваньковіча, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 18 двароў, 171 жыхар і фальварак, драўляная капліца, млын, уласнасць Т.Ваньковіча, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 74 душы мужчынскага полу, уласнасць А.Ваньковіча, у 1858 г. — А.Міладоўскай. У 1897 г. вёска, ,49 двароў, 275 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква на могілках, у маёнтку 5 двароў, 35 жыхароў, у Бяларуцкай вол. Мінскага павета. 23.9.1906 г. сяляне падпалілі маёнтак, адбыліся сутычкі зураднікам. У 1900 г. адкрыта школа граматы. У 1917 г. 56 двароў, 347 жыхароў, у маёнтку двор, 14 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922—24 гг. дзейнічала пач. школа, хата-чытальня і б-ка (239 кніг). У 1926 г. было 69 вучняў, 2 настаўнікі. З 20.8.1924 г. вёска ў Шапялёўскім, з 20.10.1924 г. ў Лысагорскім, з 21.8.1925 г. зноў у Шапялёўскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 70 двароў, 325 жыхароў, на хутары 12 двароў, 58 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Заслаўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. ў Гатавінскім с/с. У У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 7 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Юзуфоўскім с/с. У 1997 г. 18 гаспадарак, 21 жыхар, у саўгасе «Буцэвічы» (цэнтр — в. Юзуфова). У 2010 г. магазін.

**МАЧУЛІШЧА** — вёска ў Астрашыцкагарадоцкім с/с, за 14 км на ПнУ ад Мінска. 1гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 1615 г. згадваецца ў дакументах пры абмежаванні маёнтка Відагошч, царкоўная ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1885 г. засценак у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1897 г. 8 двароў, 50 жыхароў. У 1908 г. 5 двароў, 44 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Астрашыцка-Гарадоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 17 двароў, 109 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не, у саўгасе «Новы шлях» (цэнтр — в. Астрашыцкі Гарадок). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 13 двароў, 46 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 8 жыхароў. У 1997 г. 5 гаспадарак, 8 жыхароў.

**МАЧУЛІШЧЫ** — гарадскі пасёлак, цэнтр пас. Савета, за 4 км на Пд ад Мінска, каля чыг. лініі Мінск—Асіповічы (ёсць прыпыначны пункт). 8280 жыхароў (2010).

У 1590 г. сяло маёнтка Гатава, 6 дымоў, шляхецкая ўласнасць, у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1600 г. уласнасць І.С.Корсака. У 1642 г. 23 дымы, 69 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Мінскага бернардзінскага жаночага кляштара. У 1742 г . ў вёсцы 27 дымоў. Пасля

2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1791, 1800, 1815 гг. вёска, 24 двары, 188 жыхароў, уласнасць Мінскага бернардзінскага жаночага кляштара. У 1858 г. дзярж. ўласнасць. У 1884 г. адкрыта школа граматы, з 1907 г. — нар. вучылішча, у якім вучыліся 14 хлопчыкаў. У 1886 г. дзейнічала драўляная праваслаўная царква. У 1897 г. вёска, 55 двароў, 359 жыхароў, хлебазапасны магазін, прыпісная царква, у Сеніцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 61 двор, 387 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. адкрыта школа, у 1924 г. быў 71 вучань. З 20.8.1924 г. вёска ў Сеніцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 86 двароў, 474 жыхары. У 1930-я г. створаны калгас «10 з'езд Саветаў», працавалі кузня, шавецкая майстэрня. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 22 жыхары. У баях за вызваленне вёскі ў чэрв. 1944 г. загінулі 20 сав. воінаў. З 1997 г. гар. пасёлак. У 1997 г. 208 гаспадарак, 8207 жыхароў. У 2010 г. сярэдняя школа, яслі-сад, урачэбная амбулаторыя, аддз. сувязі, ашчадны банк, Дом культуры, б-ка, камбінат быт. абслугоўвання, сталовая, магазіны. Мемарыяльны комплекс у гонар 17 Герояў Сав. Саюза — ваеннаслужачых вайск. авіячасці.

**МЕТКАВА** — вёска ў Пятрышкаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Мінска. 9 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

У 1744 г. вёска, 4 двары, 9 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць А.Ваціяновіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 6 двароў, 25 жыхароў, на правым берагу р. Далжанка, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1858 г. вёска, 31 душа мужчынскага полу, уласнасць К.Вярбіцкага, у пажыццёвым валоданні М.Закржэўскага. У 1897 г. 11 двароў, 66 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 13 двароў, 73 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім, 1927 г. ў Барздынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 17 двароў, 131 жыхар. З 9.3. 1932 г. ў Гуянскім, з 14.5.1936 г. ў Навадворскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У 1997 г. 9 гаспадарак, 18 жыхароў, у саўгасе імя Жданава (цэнтр — в. Пятрышкі).

**МІДРАЎШЧЫНА** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 1738 г. вёска, шляхецкая ўласнасць у Радашковіцкай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1779 г. 11 двароў, 35 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць біскупа Масальскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. вёска маёнтка Новы Двор, 7 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Валадковічаў. У 1897 г. засценак, 5 двароў, 26 жыхароў, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1917 г. 11 двароў, 50 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Новадворскім, з 13.6.1929 г. ў Рагаўскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў пасёлку 7 двароў, 32 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 11 гаспадарак, 50 жыхароў, у

саўгасе «Рагаўскі» (цэнтр — в. Новы Двор).

**МІКУЛІНА** — вёска ў Гаранскім с/с, за 23 км на З ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 1800 г. вёска, 11 двароў, 49 жыхароў, фальварак, уласнасць Я. і Ф.Іваноўскіх, у Мінскім павеце. У 1858 г. вёска, 28 душ мужчынскага полу, уласнасць С.Семірадскага. У 1870 г. цэнтр Мікулінскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска, 15 двароў, 119 жыхароў, і маёнтак, 52 жыхары, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 14 двароў, 65 жыхароў, у маёнтку двор, 30 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Траскоўшчынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1991 г. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў, у саўгасе «Праўда» (цэнтр — в. Чачкава). У 1997 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар.

**МІХАНАВІЧЫ** — вёска ў Міханавіцкім с/с, за 11 км на Пд ад Мінска, за 3 км ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 80 гаспадарак, 331 жыхар (2010).

У 1582 г. сяло, уласнасць кн. Ф. Масальскага, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1590 г. сяло маёнтка Гатава. У 1642 г. 22 двары, 65 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць каталіцкай царквы. У 1742, 1800 гг. вёска на правым беразе р. Свіслач, 34 двары, 293 жыхары, уласнасць Мінскага жаночага бернардзінскага кляштара. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1815 г. 150 душ мужчынскага полу, уласнасць Мінскага жаночага бернардзінскага кляштара. У 1858 г. дзярж. ўласнасць, у Мінскім павеце. У 1884 г. адкрыта школа граматы, у 1890 г. было 15 вучняў. У 1886 г. дзейнічала праваслаўная Свята-Узвіжанская царква. У 1897 г. вёска, 90 двароў, 529 жыхароў, кузня, хлебазапасны магазін, царква на могілках і чыгуначная станцыя — 7 двароў, 43 жыхары, карчма, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 125 двароў, 722 жыхары, нар. вучылішча, на чыгуначнай станцыі — 12 двароў, 66 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Кайкаўскага с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ў Смілавіцкім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 248 двароў, 493 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 48 двароў, знішчылі 3 жыхароў. У 1997 г. 86 гаспадарак, 179 жыхароў, у калгасе Войкава (цэнтр — в. Чурылавічы). У 2010 г. магазін, аддз. сувязі.

**МІХАНАВІЧЫ** — пасёлак, цэнтр сельсавета, чыгуначная станцыя на лініі Мінск—Асіповічы, за 10 км на ПдУ ад Мінска. 1669 гаспадарак, 5351 жыхар (2010).



*Чыгуначная станцыя Міханавічы.*

З 20.8.1924 г. пасёлак у Кайкаўскім с/с (цэнтр – в. Міханавічы) Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 18 двароў, 66 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Смілавіцкім, з 26.5.1935 г. Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 276 жыхароў. У баях за вызваленне вёскі загінулі 109 сав. воінаў, сярод іх воіны 49-й стралк. дывізіі, Герой Сав. Саюза І.В.Матрунчык. З 1987 г. пасёлак – цэнтр Міханавіцкага с/с і саўгаса «Лошыца». У 1997 г. 1408 гаспадарак, 4352 жыхары. Цяпер цэнтр РУП «Саўгас «Лошыца», КУП «Трансміс». У 2010 г. сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, 2 дзіцячыя сады, аддз. сувязі, магазіны, ашчадны банк. Помнікі пастаўлены на брацкай магіле сав. воінаў (1964 г.) і на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну (1969).

**НАВАДВОРШЧЫНА** – вёска ў Гаранскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Мінска. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2010).

У 1800, г. вёска, 7 двароў, 25 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1897 г. аколіца, 6 двароў, 38 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 6 двароў, 33 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак у Барздынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. засценак, 6 двароў, 26 жыхароў. З 9.3.1932 г. ў Навадворшчынскім нац. польскім, з 20.2.1938 г. ў Навадворскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары.



*Царква Раства Хрыстова ў в. Наваселле.*

**НАВАСЕЛЛЕ** – вёска, цэнтр Гаранскага с/с, за 9 км на З ад Мінска, на шашы Мінск–Гродна. 435 гаспадарак, 1231 жыхар (2010).

У 1997 г. 436 гаспадарак, 1240 жыхароў. У 2010 г. сярэдняя школа, яслі-сад, Цэнтр культуры, б-ка, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, бальніца, аптэка, магазін, праваслаўная царква Раства Хрыстова.

**НАВАСЁЛКІ** – вёска ў Астрашыцкагарадоцкім с/с, за 14 км на ПнУ ад Мінска. 64 гаспадаркі, 172 жыхары (2010).

У 1582 г. сяло маёнтка Астрожчыцы, уласнасць Г.Гаранскага, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1782 г. вёска маёнтка Гарадок. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 30 двароў, 210 жыхароў, вадзяны млын, уласнасць графа І.Тышкевіча, у Мінскім павеце. У 1815 г. 75 душ мужчынскага полу, уласнасць графа В.Тышкевіча. У 1846 г. – вёска маён-



*Царква хрысціян веры евангельскай у пас. Міханавічы.*

тка Гарадок, 20 двароў, 183 жыхары, уласнасць Тышкевічаў. У 1897 г. вёска, 57 двароў, 314 жыхароў, хлебазапасны магазін і ўрочышча — 10 жыхароў, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 73 двары, 293 жыхары, нар. вучылішча (з 1912 г.), на хутары двор, 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Астрашыцка-Гарадоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 72 двары, 371 жыхар. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 43 двары, 137 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 57 жыхароў. Акупанты спалілі 6 двароў, знішчылі 2 жыхароў. У 1997 г. 76 гаспадарак, 180 жыхароў, у саўгасе «Новы шлях» (цэнтр — в. Астрашыцкі Гарадок). У 2010 г. магазін.

**НАВАШЫНО** — вёска ў Пятрышкаўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Мінска. 48 гаспадарак, 140 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 15 двароў, 101 жыхар, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1815 г. 45 жыхароў мужчынскага полу, ва ўладанні М.Пшаздзецкага і Заслаўскай уніяцкай плябаніі, у 1858 г. ўласнасць Ф.Прушынскай. У 1897 г. 24 двары, 176 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 41 двор, 253 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Анусінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У 1997 г. 47 гаспадарак, 115 жыхароў, у саўгасе імя Жданава (цэнтр — в. Пятрышкі).

**НАВІНКА** — пасёлак у Лашанскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Мінска. 46 гаспадарак, 136 жыхароў (2010).

У 1885 г. лясная старожка і ўрочышча ў Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1897 г. ўрочышча, двор, 10 жыхароў, у Заслаўскай вол. У 1898 г. ва ўрочышчы т-ва дапамогі бедным яўрэям адкрыла санаторый для хворых на сухоты, 13 ложкаў, лячэнне было бясплатнае. У 1917 г. 2 хутары 8 двароў, 37 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. фальварак, двор, 7 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1930-я гг. створаны калгас. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 5 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. У 1997 г. 43 гаспадаркі, 117 жыхароў, у саўгасе імя Тэльмана (цэнтр — в. Лашаны).

**НЕДРАСКА** — вёска ў Пятрышкаўскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Мінска. 23 гаспадаркі, 59 жыхароў (2010).

У 1567 г. сяло — цэнтр воласці, уласнасць М.К.Радзівіла, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1582 г. маёнтак і двор М.К.Радзівіл перадаў Я. Глебавічу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. фальварак і вёска, 22 двары, 142 жыхары, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскіх павеце і губ. У 1815 г. 77 душ мужчынскага полу, уласнасць Заслаўскага дамініканскага кляштара. У 1858 г. дзярж. ўласнасць. У 1897 г. вёска, 29 двароў, 220 жыхароў і фальварак — двор, 14 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. адкрыта школа граматы, з 1912 г. нар. вучылішча. У 1917 г.



*Сядзіба Друцкіх-Любецкіх (19 ст.) у в. Новае Поле.*

ў вёсцы 43 двары, 271 жыхар; у маёнтку двор, 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 31 двор, 137 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 16 жыхароў. Акупанты спалілі 26 двароў, знішчылі 18 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У 1997 г. 30 гаспадарак, 54 жыхары, у саўгасе імя Жданава (цэнтр —в. Пятрышкі).

**НОВАЕ ПОЛЕ** — пасёлак у Гаранскім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Мінска. 541 гаспадарка, 1016 жыхароў (2010).

У 1815 г. сядзіба, 4 жыхары мужчынскага полу, уласнасць І.Сялявы, у Мінскіх павеце і губ. У 1858 г. засценак, уласнасць Б.Аскеркі. У 1897 г. маёнтак, двор, 57 жыхароў, уласнасць кн. Друцкага-Любецкага, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. маёнтак, двор, 128 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Барздынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 13 двароў, 154 жыхары. З 9.3.1932 г. ў Навадворшчынскім нац. польскім, з 20.2.1938 г. ў Навадворскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 5 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 212 гаспадарак, 992 жыхары.

**НОВАЯ ВЁСКА** — вёска ў Хацежынскім с/с, за 6 км на З ад Мінска, каля шашы Мінск—Вільнюс. 13 гаспадарак, 44 жыхары (2010).

У 1897 г. смалакурня, 7 жыхароў, уласнасць Паржэцкага, у Старасельскай вол. Мінскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў пасёлку 10 двароў, 45 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 28.2.1974 г. ў Хацежынскім с/с. У 1997 г. 12 гаспадарак, 25 жыхароў, у саўгасе «Пціч» (цэнтр — в. Старое Сяло).

**НОВАЯ ВЁСКА** — вёска ў Шчомысліцкім с/с, за 6,5 км на ПдЗ ад Мінска, 7 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

З 26.7.1930 г. вёска ў Заслаўскім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 16.7.1954 г. ў Шчомысліцкім с/с. У 1997 г. 9 гаспадарак, 22 жыхары, у калгасе імя Калініна (цэнтр — в. Азярцо).

**НОВЫ ДВОР** — вёска, цэнтр сельсавета, за 3 км на Пд ад Мінска, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 385 гаспадарак, 1128 жыхароў (2010).

У 1567 г. сяло, шляхецкая ўласнасць М.Служкі, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1590—1600 гг. сяло — цэнтр маёнтка, пушча, панскі двор, 2 дымы,

вадзяны млын, 10 сямей баярскіх. У 1667 г. 41 дым, уласнасць А.Белазораўны – Р.Служчынай. У 1720 г. 13 двароў, 42 жыхары, млын, уласнасць І.Храптовіча. У 1772 г. мястэчка і вёска, 27 двароў, 131 жыхар, уласнасць І.Прушынскага. У 1791 г. вёска – цэнтр маёнтка Мінскай парафіі, уласнасць Прушынскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. сяло, 42 двары, 243 жыхары, на р. Свіслач і «вялікай ігуменскай дарогі», касцёл Міхаіла Архангела, вадзяны млын, суканавальня, уласнасць С.Прушынскага, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 24 душы мужчынскага полу, уласнасць Ф.Грушвіцкай, і маёнтак ва ўладанні А.Пратасевіч. У 1890 г. адкрыта школа граматы, у якой вучыліся 8 хлопчыкаў. У 1897 г. вёска, 47 двароў, 330 жыхароў, карчма і маёнтак – 2 двары, 59 жыхароў, у Сеніцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 46 двароў, 292 жыхары, у маёнтку – двор, 50 жыхароў, нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска – цэнтр Навадворскага с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1930-я г. створаны калгас «Чырвоны кааператар», працавала кузня, сталярная майстэрня. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 39 двароў, 150 жыхароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, акупанты спалілі 3 двары, у баях загінуў 51 жыхар. З 16.7.1954 г. ў Гатаўскім, з 20.1.1960 г. цэнтр Навадворскага с/с. У 1997 г. 317 гаспадарак, 1164 жыхары, цэнтр саўгаса «Світанне». У 2010 г. сярэдняя школа, аддз. сувязі, гандлёвы цэнтр, цэнтр культуры, царква, паліклініка, сталовая. Помнік на брацкай магіле чырвонаармейцаў, якія загінулі ў 1920 г.



*Сядзіба Бунгенаў (19 ст.) у в. Новы Двор.*

**НОВЫ ДВОР** – вёска ў Рагаўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Мінска. 245 гаспадарак, 717 жыхароў (2010).

У 1791 г. вёска – цэнтр маёнтка, панскі двор, 65 дымоў, карчма, уласнасць Валадковіча, у Радашковіцкай парафіі Мінскіх павета і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. маёнтак, 321 жыхар мужчынскага полу, уласнасць Валадковіча, у Вілейскім павеце. У 1875 г. пабудавана Свята-Успенская царква. У 1884 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. маёнтак, 117 жыхароў, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. У 1912 г. ў маёнтку вінакурны з-д. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 13 двароў, 74 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска – цэнтр Навадворскага с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1922 г. створаны саўгас «Чырвоны кааператар», працавалі кузня, сталярная майстэрня. У 1926 г. 128 жыхароў. З 13.6.1929 г. перайменаваны ў Рагаўскі с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 11 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 219 гаспадарак, 629 жыхароў, цэнтр саўгаса «Рагаўскі». У 2010 г. сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін.

**НОВЫ ДВОР** – вёска ў Шчомысліцкім с/с, за 7 км на ПдЗ ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 39 гаспадарак, 73 жыхары (2010).

У 1567 г. сяло, панцырныя баяры, панскі двор, пушча, уласнасць М.Дарагастайскага, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1791 г. маёнтак, 2 фальваркі, 50 дымоў, 2 карчмы, уласнасць Валадковіча, у Каралішчавіцкай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 22 двары, 169 жыхароў, уніяцкая царква, вадзяны млын, карчма, фальварак з панскім домам, уласнасць Ф.Валадковіча, у Мінскім павеце. У 1815 г. 63 душы мужчынскага полу, уласнасць А.Акуліча, у 1858 г. – В.Акуліча. У 1884 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. вёска (34 двары, 210 жыхароў, царква на могілках), маёнтак (39 жыхароў, вадзяны млын), сядзіба (двор, 11 жыхароў) і 2 фальваркі (62 жыхары), у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 37 двароў, 230 жыхароў, у фальварках Новы Двор-1 – 45 жыхароў, Новы Двор-2 – 63 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. створана с.-г. камуна «Прамень сацыялізма», працавалі вадзяны млын, аўчынная і партняжная майстэрні, кузня. З 20.8.1924 г. ў Строчыцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1925 г. створаны саўгас «Камунар», у які ўваходзлі 128 сялян. У 1926 г. ў вёсцы 48 двароў, 235 жыхароў. З 26.7.1930 г. ў Заслаўскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 11 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Шчомысліцкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 45 гаспадарак, 102 жыхары, у калгасе імя Калініна (цэнтр – в. Азярцо).

**НЯЛІДАВІЧЫ** – вёска ў Папярнянскім с/с, за 7 км на Пн ад Мінска. 60 гаспадарак, 129 жыхароў (2010).

У 1766, 1791 гг. сяло маёнтка Восаў, 149 жыхароў, уласнасць Валадковічаў, у Мінскай парафіі Мінскіх павета і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 12 двароў, 122 жыхары, уласнасць І. і Т.Валадковічаў, у Мінскім павеце. У 1815 г. 56 душ мужчынскага полу, уласнасць І.Ваньковіча, у 1858 г. – С.Грабоўскай. У 1897 г. вёска, 44 двары, 280 жыхароў, у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1912 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. 58 двароў, 317 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Папярнянскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 18 жыхароў. У 1997 г. 61 гаспадарка, 144 жыхары. У 2010 г. базавая школа, магазін.

**ПАДГАЙ** – вёска ў Сеніцкім с/с, за 6 км на Пд ад Мінска. 44 гаспадаркі, 107 жыхароў (2010).

У 1714 г. вёска, 17 двароў, млын, фальварак, уласнасць Х.Завішы, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1791 г. вёска маёнтка Прылукі, шляхецкая ўласнасць, у Каралішчавіцкай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска на правым беразе р. Грабенка, 36 двароў, 106 жыхароў, уласнасць М.Іваноўскай, у Мінскім павеце. У 1815 г. 37 душ мужчынскага полу, уласнасць Л.Іваноўскай. У 1858 г. вёска ўздоўж «вялікай пінскай дарогі», уласнасць Горватавай. У 1897 г. вёска, 31 двор, 216 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 44 двары, 270 жыхароў. З

лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Падгайскім, з 1927 г. ў Прылуцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 48 двароў, 203 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 11 двароў, знішчылі 2 жыхароў і 7 жыхароў вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 16.7.1954 г. ў Шчомыслiцкім, з 1976 г. ў Сеніцкім с/с. У 1997 г. 41 гаспадарка, 94 жыхары, у калгасе імя Гастэлы (цэнтр — в. Сеніца). У 2010 г. магазін. Каля скрыжавання дарог Прылукі—Атоліна—Падгай брацкая магіла 79 сав. воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, сярод іх 51 воін 64-й стралк. дывізіі.

**ПАДГОР'Е** — вёска ў Ждановіцкім с/с, за 7 км на З ад Мінска, на р. Ратамка (упадае ў Заслаўскае вадасховішча). 20 гаспадарак, 27 жыхароў (2010).

У 1858 г. вёска, 5 душ мужчынскага полу, уласнасць К.Раскудзеўскага, у Мінскім павеце. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 20 двароў, 128 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 4 жыхары. Акупанты спалілі 2 двары. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1974 г. ў Хацежынскім, з 1980 г. ў Ждановіцкім с/с. У 1997 г. 16 гаспадарак, 29 жыхароў.

**ПАДСАДЫ** — вёска ў Гаранскім с/с, за 17 км на З ад Мінска, каля шашы Мінск—Вільнюс. 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2010).

У 1897 г. засценак, 3 двары, 16 жыхароў. У 1917 г. 4 двары, 26 жыхароў, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 4 двары, 26 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак у Навадворскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў засценку 10 двароў, 43 жыхары. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Гатаўскім, з 20.1.1960 г. ў Навадворскім с/с, у саўгасе «Світанне» (цэнтр — в. Новы Двор). У 1997 г. 16 гаспадарак, 30 жыхароў.

**ПАЗДЗЕРКІ** — вёска ў Крупіцкім с/с, за 15 км на Пд ад Мінска, на р. Грэбенка (прыток р. Пціч). 22 гаспадаркі, 53 жыхары (2010).

У 1791 г. вёска маёнтка Анопаль, шляхецкая ўласнасць, у Каралішчавіцкай парафіі, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1815 г. вёска на правым беразе р. Грэбенка, 92 жыхары мужчынскага полу, уніяцкая капліца, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць А.Радзівіла. У 1897 г. вёска, 50 двароў, 268 жыхароў, кузня, царква на могілках, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 44 двары, 298 жыхароў, нар. вучылішча (з 1912 г.). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Крупіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 42 двары, 226 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў

Койданаўскім р-не. З 23.3.1932 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 19 жыхароў. У 1997 г. 43 гаспадаркі, 80 жыхароў, у калгасе «Новы быт» (цэнтр — в. Крупіца).

**ПАПЕРНЯ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 8 км на Пн ад Мінска, на р. Вяча (упадае ў Заслаўскае вадасховішча). 206 гаспадарак, 486 жыхароў (2010).

У 1615 г. згадваецца пры абмежаванні маёнтка Відагошча як сяло, дзейнічала царква, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1794 г. мястэчка, 13 двароў, 63 жыхары, царква, плябанія, карчма, уласнасць Свентаржыцкіх. У 1800 г. сяло маёнтка Відагошча, на правым беразе р. Вяча, уласнасць падчашага Т.Ваньковіча, у Мінскім павеце. У 1815 г. 11 двароў, 70 жыхароў, уніяцкая Крыжаўзвіжанская царква, уласнасць А.Ваньковіча. У 1858 г. ўласнасць Э.Кудзіновіча. У 1865 г. пабудавана праваслаўная Свята-Міхайлаўская царква, у 1885 г. адкрыта царк.-прыходская школа, у якой было 12 хлопчыкаў. У 1897 г. сяло, 28 двароў, 194 жыхары, царква, карчма, у Бяларуцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 9 двароў, 57 жыхароў, на хутары 2 двары, 25 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 30 двароў, 188 жыхароў. З 20.8.1924 г. сяло — цэнтр Папярнянскага с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў сяле 25 двароў, 94 жыхары, на хутары 20 двароў, 109 жыхароў, бакалейная крама, фельч.-акушэрскі пункт (з 1932 г.). З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 44 двары, 230 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 44 двары, знішчылі 55 жыхароў і 12 жыхароў вывезлі на прымусовую працу ў Германію. У 1997 г. 169 гаспадарак, 470 жыхароў, у саўгасе «Вішнёўка». У 2010 г. сярэдняя школа, клуб, магазін. У 1975 г. на брацкай магіле сав. воінаў і партызан пастаўлены абеліск.

**ПАПОВІЧЫ** — вёска ў Шчомысліцкім с/с, за 8 км на ПдЗ ад Мінска. 25 гаспадарак, 70 жыхароў (2010).

У 1791 г. вёска маёнтка Воўчкавічы, шляхецкая ўласнасць, у Каралішчавіцкай парафіі Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 4 двары, 28 жыхароў, уласнасць М.Іваноўскай, у Мінскім павеце. У 1858 г. засценак, уласнасць Ю. і К.Држневічаў. У 1897 г. вёска, 6 двароў, 34 жыхары, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 9 двароў, 57 жыхароў, на хутары — 2 двары, 25 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Строчыцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 12 двароў, 77 жыхароў. З 26.7.1930 г. ў Заслаўскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Шчомысліцкім с/с. У 1997 г. 34 двары, 89 жыхароў, у калгасе «Шлях камунізма» (цэнтр — в. Шчомысліца).

**ПАШКАВІЧЫ** — вёска ў Навадворскім с/с, за 3 км на Пд ад Мінска, на р. Сеніца (прыток р. Свіслач). 62 гаспадаркі, 158 жыхароў (2010).

У 1567 г. згадваецца ў попісе войска ВКЛ як сяло, шляхецкая ўласнасць П.Тарасовіча, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1600 г. сяло, панскі двор, уласнасць К.М.Служкі. У 1734 г. вёска, 7 двароў і фальварак, уласнасць Л.Рымшэвіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Пас-

палітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 10 двароў, 50 жыхароў, панскі двор, уніяцкая капліца, на правым беразе р. Сеніца, уласнасць чашніка М.Дамброўскага, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 57 душ мужчынскага полу, уласнасць Р.Алендоўскага, у 1858 г. ўласнасць К.Яленскага. У 1882 г. засн. вінакурны з-д, у 1895 г. 6 рабочых. У 1897 г. вёска, 32 двары, 177 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін і маёнтак, 58 жыхароў, вінакурны завод, у Сеніцкай вол. Мінскага павета. У 1916 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. ў вёсцы 37 двароў, 262 жыхары, у маёнтку 33 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 46 двароў, 242 жыхары. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 34 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Гатаўскім, з 20.1.1960 г. ў Навадворскім с/с. У 1997 г. 86 гаспадарак, 239 жыхароў, у саўгасе «Світанне» (цэнтр — в. Новы Двор). У 2010 г. магазін.

**ПЕЦЬКАВІЧЫ** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Мінска. 14 гаспадарак, 22 жыхары (2010).

У 1779 г. вёска, 8 двароў, 27 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць біскупа Масальскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. вёска маёнтка Новы Двор, 21 жыхар мужчынскага полу, уласнасць Валадковічаў. У лютым 1867 г. жыхары адмовіліся ад уплаты нядоімак па выкупных і абарочных плацяжах, аказалі супраціўленне пры вопісе маёмасці. У 1870 г. вёска адносілася да Галавачоўскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска, 12 двароў, 91 жыхар і фальварак, двор, 12 жыхароў, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. у БССР. У 1921 г. 17 двароў, 91 жыхар, у фальварку 1 двор, 7 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 20 двароў, 113 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 10 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 22 гаспадаркі, 39 жыхароў, у саўгасе «Савецкі» (цэнтр — в. Шаршуны).

**ПІГАСАВА** — вёска ў Хацежынскім с/с, за 13 км на З ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 11 гаспадарак, 24 жыхары (2010).

У 1800 г. вёска, 3 двары, 18 жыхароў, на правым беразе р. Пціч, уласнасць кн. К.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 9 душ мужчынскага полу, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у закладзе А.Прушынскай. У 1858 г. ўласнасць памешчыка І.Валадковіча. У 1897 г. вёска, 10 двароў, 61 жыхар, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 13 двароў, 84 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 15 двароў, 69 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 4 жыхары. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 28.2.1974 г. ў Хацежынскім с/с. У 1997 г. 9 двароў, 20 жыхароў, у складзе саўгаса «Пціч» (цэнтр — в. Старое Сяло).

**ПІЛЬНІЦА** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 10 км на Пн ад Мінска, на р. Вяча (упадае ў Заслаўскае вадасхові-

шча), каля вадасховішча Вяча. 52 гаспадаркі, 83 жыхары (2010).

У 1784 г. вёска, 21 двор, 113 жыхароў, млын, карчма, вінакурня, уласнасць Я.Свентаржыцкага, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1791 г. вёска маёнтка Відагошча Мінскай парафіі, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 18 двароў, 158 жыхароў, уласнасць падчашага Т.Ваньковіча, у Мінскім павеце. У 1815 г. 75 душ мужчынскага полу, уласнасць А.Валадковіча. У 1858 г. ўласнасць Э.Кудзіновіча. У 1897 г. 41 двор, 266 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Бяларуцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 40 двароў, 280 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Папярнянскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 51 двор, 277 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 11 жыхароў. У 1997 г. 37 гаспадарак, 66 жыхароў, у саўгасе «Вішнёўка» (цэнтр — в. Вішнёўка).

**ПЛЯБАНЦЫ** — вёска ў Міханавіцкім с/с, за 10 км на Пд ад Мінска, за 3 км ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 68 гаспадарак, 230 жыхароў (2010).

У 17 ст. сяло, шляхецкая ўласнасць. У 1791 г. вёска — цэнтр маёнтка, 2 панскія двары, 41 дым, 2 карчмы, уласнасць каталіцкай царквы ў Мінскай парафіі, у Мінскім павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 18 двароў, 139 жыхароў, панскі двор, капліца, вінакурня, уласнасць каноніка Мінскай каталіцкай плябаніі Ваньковіча, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 71 сял. душа мужчынскага полу, уласнасць ксяндза Харэвіча, з 1858 г. дзярж. ўласнасць. У 1890 г. адкрыта школа граматы, у якой вучыліся 13 хлопчыкаў. У 1897 г. 64 двары, 379 жыхароў, кузня, хлебазапасны магазін, царква, карчма, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 82 двары, 525 жыхароў, нар. вучылішча (з 1907 г.). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Гатаўскім, з 1927 г. ў Дзяргайскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1924 г. працавала пач. школа, у якой было 66 вучняў. У 1926 г. 83 двары, 425 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 70 двароў, 260 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 53 двары, знішчылі 38 жыхароў і 5 жыхароў вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 1976 г. ў Самахвалавіцкім, з 1987 г. ў Міханавіцкім с/с, у калгасе Войкава (цэнтр — в. Чурылавічы). У 1997 г. 64 гаспадаркі, 379 жыхароў. У 2010 г. магазін. У 1974 г. пастаўлены помнік 52 жыхарам вёскі, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**ПРАЛЬНЯ** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Мінска на р. Удра (прыток р. Рыбчанка). 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 1800 г. фальварак, двор, 12 сялян і 6 чалавек аколічнай шляхты, уласнасць М.Валадковіча, у Вілейскім павеце. У 1897 г. маёнтак Пральня (ён жа Даўбарова), 2 двары, 13 жыхароў, вадзяны млын, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. хутар, 3 двары, 22 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да

26.7.1930 г.). У 1926 г. хутар, 3 двары, 21 жыхар. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 2 двары, 5 жыхароў, у саўгасе «Савецкі» (цэнтр — в. Шаршуны).

**ПРУДЗІШЧА** – вёска ў Лашанскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Мінска. 15 гаспадарак, 34 жыхары (2010).

У 1800, 1815 гг. вёска, 14 двароў, 76 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць К.Тамашоўскага. У 1897 г. ваколіца, 13 двароў, 93 жыхары, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 16 двароў, 99 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 18 двароў, 87 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 17 двароў, 86 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 4 жыхары. Акупанты спалілі 7 двароў, знішчылі 6 жыхароў, 4 вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. З 1987 г. ў саўгасе імя Тэльмана (цэнтр — в. Лашаны). У 1997 г. 15 гаспадарак, 24 жыхары.

**ПРЫВОЛЬНЫ** – пасёлак у Лугаваслабодскім с/с, за 11 км на ПдУ ад Мінска. 731 гаспадарка, 2111 жыхароў (2010).

Пасёлак створаны 21.1.1969 г. ў Абчацкім с/с пры Занальнай доследнай машыннай станцыі племянной рэпрадукцыйнай гаспадаркі птушкаводства, у Мінскім р-не. З 8.6.1981 г. ў Лугаваслабодскім с/с. У 1997 г. 1372 гаспадаркі, 4021 жыхароў. У 2010 г. Дом культуры, сярэдняя школа, яслі-сад, магазін, аддз. сувязі, б-ка, магазін.

**ПРЫЛЕССЕ** — вёска ў Лугаваслабодскім с/с, за 8 км на ПдУ ад Мінска. 89 гаспадарак, 215 жыхароў (2010).

Вёска створана 21.9.1969 г. на месцы падсобнай гаспадаркі Бел. ваен. акругі. З 8.6.1981 г. ў Лугаваслабодскім с/с, у складзе Занальнай доследнай машыннай станцыі (цэнтр — в. Прывольны). У 1997 г. 29 гаспадарак, 63 жыхары. У 2010 г. магазін.

**ПРЫЛУКІ** — вёска ў Сеніцкім с/с, за 6 км на Пд ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 691 гаспадарка, 1828 жыхароў (2010).

У 1473 г. згадваецца як маёнтак на р. Пціч, шляхецкая ўласнасць. У 1567 г. сяло, шляхецкая ўласнасць П.Есманавай – Б.Г.Горскай. У 1600 г. сяло, панскі двор, уласнасць Б.Стэцкавіча. У маёнтку Прылукі існавала царква Святой Тройцы, пры якой у 1635 г. кн. Ганна Агінская заснавала праваслаўны манастыр (існаваў да 1740 г.). У 1667 г. ў маёнтку, 19 дымоў. У 1791 г. вёска (3 двары), маёнтак (83 дымы), 5 корчмаў, уласнасць Іваноўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. сяло і панскі двор на левым беразе р. Пціч, драўляная царква, мураваны панскі дом, рэгулярны сад, вадзяны млын, сукнавальня, 2 кар-

*Царква Раства Багародзіцы ў в. Прылукі.*





*Палацава-паркавы ансамбль 18—19 ст. ў в. Прылукі.*

чмы па абодва бакі мінскай дарогі. На правым беразе р. Пціч размяшчалася вёска, 19 двароў, 129 жыхароў. У 1815 г. вёска (7 душ мужчынскага полу), уласнасць Л.Іваноўскай, у 1858 г. — Горватавай. У 1865 г. пабудавана мураваная царква Раства Багародзіцы. У 1869 г. адкрыта царк.-прыходская школа, з 1892 г. нар. вучылішча, у якім вучыліся 45 хлопчыкаў і 8 дзяўчынак. У 1897 г. вёска (8 двароў, 50 жыхароў, 2 кузні, нар. вучылішча, царква, хлебазапасны магазін, карчма) і маёнтак (7 двароў), у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў сяле 4 двары, 23 жыхары, у маёнтку — двор, 335 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. арганізаваны саўгас «Прылукі». З 20.8.1924 г. вёска ў Падгайскім с/с, з 1927 г. вёска — цэнтр сельсавета Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 1931 г. ў Падгайскім с/с. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. ў Прылукскім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 18 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Шчомысліцкім, з 1976 г. ў Сеніцкім с/с. У 1997 г. 508 гаспадарак, 1473 жыхары, у складзе калгаса імя Гастэлы (цэнтр — в. Сеніца). У 2010 г. сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, цэнтр нар. творчасці, н.-д. ін-т аховы раслін, аддз. сувязі, аптэка, магазіны.

**ПРЫЛУЦКАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Шчомысліцкім с/с, за 3 км на ПдЗ ад Мінска. 68 гаспадарак, 189 жыхароў (2010).

У 1791 г. згадваецца як вёска Слабодка маёнтка Воўкавічы, шляхецкая ўласнасць, у Каралішчавіцкай парафіі Мінскіх павета і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1897 г. 28 двароў, 195 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 34 двары, 176 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. вёска ўваходзіла ў саўгас «Прылукі», працавала кузня. З 20.8.1924 г. ў Падгайскім, з 1927 г. ў Прылуцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 46 двароў, 198 жыхароў. З 1931 г. ў Падгайскім с/с. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. ў Прылуцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Шчомысліцкім с/с, у калгасе «Шлях камунізма» (цэнтр — в. Шчомысліца). У 1997 г. 41 двор, 110 жыхароў. У 2010 г. магазін.

**ПРЫЛУЧКІ** — вёска ў Шчомысліцкім с/с, за 7 км на ПдУ ад Мінска, на р. Пціч. 40 гаспадарак, 85 жыхароў (2010).

У 1791 г. вёска, 16 дымоў, карчма, уласнасць Іваноўскіх, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1815 г. ўласнасць Л.Іваноўскай, у 1858 г. — Горватавай, у Мінскім павеце. У 1897 г. 30 двароў, 199 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. У 1917 г. 44 двары, 268 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Падгайскім, з 1927 г.

ў Прылуцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 44 двары, 239 жыхароў. З 1931 г. ў Падгайскім с/с. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. ў Прылуцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 2 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Шчомысліцкім с/с, у калгасе «Шлях камунізма» (цэнтр — в. Шчомысліца). У 1997 г. 42 гаспадаркі, 101 жыхар. У 2010 г. магазін. Ландшафтны заказнік «Прылуцкі».

**ПРЫМОР'Е** (да 1964 г. — Скулаўка) — вёска ў Папярнянскім с/с, за 3 км на Пн ад Мінска, 1 км на У ад Заслаўскага вадасховішча. 37 гаспадарак, 88 жыхароў (2010).

У 1897 г. хутар Скулаўка, двор, 5 жыхароў, у Сёмкава-Гарадоцкай воласці Мінскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. ў вёсцы 8 двароў, 70 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Папярнянскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1997 г. 31 гаспадарка, 105 жыхароў.

**ПУНІШЧА** — вёска ў Юзуфоўскім с/с, за 14 км на Пн ад Мінска. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

У 1800 г. — вёска на правым беразе р. Жукаўка, 5 двароў, 37 жыхароў, уласнасць мінскага крайчага Ф.Аборскага, у Мінскім павеце. У 1858 г. вёска ва ўладанні В.Гіндэнбурга. У 1897 г. 12 двароў, 67 жыхароў, у Бяларуцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 17 двароў, 111 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Шапялёўскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.10.1924 г. ў Лысагорскім, з 21.8.1925 г. ў Шапялёўскім с/с. У 1926 г. ў вёсцы 18 двароў, 89 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Заслаўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Юзуфоўскім с/с. У 1997 г. 11 гаспадарак, 24 жыхары, у саўгасе «Буцэвічы» (цэнтр — в. Юзуфова).

**ПУТНІКІ** — вёска ў Лашанскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Мінска. 23 гаспадаркі, 90 жыхароў (2010).

У 1858 г. — вёска маёнтка Дзякшняны, 94 жыхары мужчынскага полу, уласнасць Валадковічаў, у Мінскім павеце. У 1870 г. вёска адносілася да Галавачоўскай сельскай грамады. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 13 двароў, 39 жыхароў. У 1941 г. 7 двароў, 41 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 7 двароў, знішчылі 6 жыхароў. Пасля вайны вёска адбудавана. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. У 1997 г. 23 гаспадаркі, 83 жыхары, у саўгасе імя Тэльмана (цэнтр — в. Лашаны).

**ПУХЛЯКІ** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Мінска. 23 гаспадаркі, 37 жыхароў (2010).

У 17 ст. сяло, шляхецкая ўласнасць у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1779 г. 6 двароў, 44 жыхары мужчынскага полу, уласнасць біскупа Масальскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 14 двароў, 71 жыхар. У 1858 г. вёска маёнтка

Новы Двор, 36 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Валодковічаў. У лютым 1867 г. жыхары адмовіліся ад уплаты нядоімак па выкупных і абарочных плацяжах, аказалі супраціўленне пры вопісе маёмасці. У 1870 г. вёска — цэнтр Путнікаўскай сельскай грамады. У 1897 г. — вёска, 20 двароў, 140 жыхароў, у Радашковіцкай вол. Мінскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 32 двары, 182 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім, з 13.6.1929 г. ў Рагаўскім с/с Заслаўскага раёна Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 39 двароў, 226 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 22 жыхары. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 27 гаспадарак, 60 жыхароў, у саўгасе «Рагаўскі» (цэнтр — в. Новы Двор).

**ПЦІЧ** — вёска ў Хацежынскім с/с, за 9 км на З ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 100 гаспадарак, 259 жыхароў (2010).

У 1572 г. сяло, цэнтр маёнтка, уласнасць Ф.В.Волка, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1600 г. сяло, уласнасць Д.В.Волка. У 1667 г. маёнтак, 5 дымоў, шляхецкая ўласнасць. У 1764 г. 6 двароў, 18 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Ф.Вярцінскага. У 1781 г. 10 двароў, 3 пуставалі, уласнасць В.Валадковіча. У 1791 г. вёска — цэнтр маёнтка, 2 двары, 33 дымы, карчма, уласнасць Свіды, у Заслаўскай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815 гг. вёска, 11 двароў, 113 жыхароў, на левым беразе р. Пціч, вадзяны млын, пільня, уласнасць ротмістра С.Свіды. У 1858 г. ўласнасць Г.Лапіцкага, у Мінскім павеце. У 1897 г. вёска (11 двароў, 62 жыхары, карчма), фальварак Пціч (двор, 8 жыхароў), фальварак Пціч (ён жа Бяршчына, двор, 12 жыхароў), 4 сядзібы (4 двары, 33 жыхары) і маёнтак (49 жыхароў, вадзяны млын), у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 7 двароў, 58 жыхароў, у аколіцы Пціч-Пасека 12 двароў, 75 жыхароў, у маёнтку 2 двары, 6 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. Дзейнічала нар. вучылішча, у кастр. 1922 г. пераўтворана ў 7-гадовую школу. Пры школе быў інтэрнат, у якім жылі 32 вучні. З 20.8.1924 г. вёска ў Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1925 г. працавалі кузня і вадзяны млын. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 41 двор, 161 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 28 жыхароў. Акупанты спалілі 5 двароў, знішчылі 13 жыхароў і 3 вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 28.2.1974 г. ў Хацежынскім с/с. У 1997 г. 89 двароў, 224 жыхары у складзе саўгаса «Пціч» (цэнтр — в. Старое Сяло). У 2010 г. магазін.

**ПЯРЭСЕКА** — вёска ў Міханавіцкім с/с, за 11 км на Пд ад Мінска, за 4 км на З ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

У 1897 г. фальварак, 3 двары, 9 жыхароў, урочышча, двор, 10 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1908 г. ўрочышча, 1 двор, 9 жыхароў і фальварак, двор, 9 жыхароў. У 1917 г. ў маёнтку Перасека двор, 10 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Гатаўскім, з 1927 г. ў Дзяргайскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў пасёлку 23

двары,102 жыхары. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26. 5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 10 жыхароў. З 1976 г. ў Самахвалавіцкім, з 1987 г. ў Міханавіцкім с/с. У 1997 г. 11 гаспадарак, 19 жыхароў, у калгасе Войкава (цэнтр – в. Чурылавічы).

**ПЯТРЫШКІ** – вёска, цэнтр сельсавета, за 24 км на ПнЗ ад Мінска, каля гал. канала Вілейска-Мінскай воднай сістэмы; чыг. ст. Радашковічы на лініі Мінск – Маладзечна. 617 гаспадарак, 2005 жыхароў (2010).

У 1800, 1815 г. – вёска, 16 двароў, 88 жыхароў, уласнасць Пшаздзецкага, у Мінскіх павеце і губ. У 1858 г. дзярж. ўласнасць. У 1897 г. 18 двароў, 133 жыхары, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 26 двароў, 196 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Анусінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 9 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. цэнтр Пятрышкаўскага с/с. У 1997 г. 598 гаспадарак, 1174 жыхары, у філіяле СВК «Заслаўскі» ААТ «Мінскі завод ацыпляльнага абсталявання» (цэнтр – в. Пятрышкі). У 2010 г. сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазіны, аддз. сувязі.

**ПЯЦЕЎШЧЫНА** – вёска ў Крупіцкім с/с, за 15 км на Пд ад Мінска. 176 гаспадарак, 437 жыхароў (2010).

У 1545, 1562 гг. – сяло, уласнасць П.С.Пяцевіча ў Мінскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ. У 1567 г. сяло, гаспадарскі двор, уласнасць І.Грыдзіча; згадваецца ў перапісе войска ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1791, 1800 гг. вёска, 22 двары, 176 жыхароў, драўляная царква з капліцай, 2 вадзяныя млыны, цагельня, уласнасць А.Быкоўскага і А.Вінчы. У 1815–58 гг. вёска ў розныя часы была ўласнасцю А.Быкоўскага, Календаў і Госаў. У 1879 г. пабудавана драўляная Спаса-Праабражэнская царква, у 1884 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. вёска, 51 двор, 311 жыхароў, царква, 2 хлебазапасныя магазіны, карчма і маёнтак, 2 двары, 9 жыхароў, у Самахвалавацкай вол. Мінскага павета. У 1912 г. дзейнічала нар. вучылішча. У 1917 г. ў вёсцы 58 двароў, 328 жыхароў, у маёнтку двор, 13 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1924 г. адкрыта пачатковая школа, у якой было 95 вучняў. З 20.8.1924 г. вёска ў Крупіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім р-не. З 23.3.1932 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 37 жыхароў. У 1997 г. 206 гаспадарак, 474 жыхары, у ААТ «Рапс» (цэнтр – в. Крупіца). У 2010 г. клуб-б-ка, бальніца, паліклініка, аптэка, магазін. Каля аўтамабільнай дарогі Мінск–Слуцк помнік на брацкай магіле сав. воінаў 385-й і 110-й стралк. дывізій. Радзіма пісьменніка І.Я.Быкоўскага (1750–1819), прафесара-медыка Ф.І.Пастарнацкага (1845–1902).

**РАБУШКІ** – вёска ў Лашанскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Мінска. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2010).

У 1858 г. – вёска, уласнасць Ю.Гацынскага і М.Заліўскага, у Мінскіх павеце і губ. У 1880-я г. – 1890 г. дзейнічала школа граматы. У 1897 г. вёска (3 двары, 21 жыхар) і 2 фальваркі (2 двары, 16 жыхароў), у Заслаўскай

вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 6 двароў, 47 жыхароў, у фальварку 2 двары 19 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.08.1924 г. хутар у Слабодскім с/с Заслаўскага раёна Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары 9 двароў, 37 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. У 1997 г. 6 гаспадарак, 21 жыхар, у саўгасе «Броўкі» (цэнтр — в. Броўкі).

**РАГАВА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 23 км на ПнЗ ад Мінска, на р. Гуйка. 20 гаспадарак, 59 жыхароў (2010).

У 16 ст. — сяло, шляхецкая ўласнасць у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1797 г. вёска, уласнасць Валадковічаў. У 1800 г. 2 двары, 18 жыхароў. У 1814 г. пабудавана драўляная царква Святога Георгія і драўляная капліца Святога Іаана Хрысціцеля на могілках. У 1858 г. сяло маёнтка Новы Двор, 9 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Валадковічаў. У пач. 1860-х г. пабудаваны гарбарня і цагельня (дзейнічалі да 1890 г.). У 1870 г. сяло адносілася да Галавачоўскай сельскай грамады. У 1897 г. сяло, 10 двароў, 49 жыхароў, царква, капліца на могілках, карчма і сядзіба — двор, 5 жыхароў, вадзяны млын, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. У 1898 г. адкрыта школа граматы. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 12 двароў, 48 жыхароў. З 20.8.1924 г. сяло ў Навадворскім, з 13.6.1929 г. ў Рагаўскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў сяле 12 двароў, 58 жыхароў, вадзяны млын, кузня, крама. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 25 двароў, 58 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 10 жыхароў. Акупанты спалілі 17 двароў, знішчылі 25 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 30 гаспадарак, 56 жыхароў, у саўгасе «Рагаўскі» (цэнтр — в. Новы Двор). У 2010 г. магазін, лясніцтва. На могілках брацкая магіла 2002 сав. ваеннапалонных і мірных жыхароў.

**РАТАМКА** — вёска ў Ждановіцкім с/с, за 5 км на З ад Мінска, на р. Ратамка (упадае ў Заслаўскае вадасховішча). 38 гаспадарак, 167 жыхароў (2010).

У 1567 г. Ратом — сяло, цэнтр маёнтка, уласнасць А.Каніпічы, Б.Епімахавай, Д.Ратамскага і П.Цішы, у Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1582 г. ўласнасць А.Станкевіча і інш. У 1597 г. ўласнасць В. і К.Ратамскіх. У 1667 г. маёнтак, 7 дымоў, карчма, панскі двор, уласнасць Ванько-вічаў, у Каралішчавіцкай парафіі; пад тым жа годам пазначана як вёска Заслаўскай парафіі, двор, 15 дымоў, карчма, уласнасць М.Нарабоўскага, а таксама як вёска маёнтка Пціч. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815 гг. 10 двароў, 69 жыхароў, вадзяны млын, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1858 г. вёска, 20 жыхароў мужчынскага полу і фальварак, уласнасць Галавіной. У 1870 г. вёска — цэнтр сельскай грамады. У 1878 г. ў маёнтку смола-шкіпінарны з-д. У 1897 г. вёска, 13 двароў, 78 жыхароў; маёнтак — 17 жыхароў, вадзяны млын; пасёлак — 21 двор, 79 жыхароў, карчма, побач з пасёлкам чыгуначная станцыя (з 1880 г.) — 34 жыхары і 6 урочышчаў — 8 двароў, 46 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 19 двароў, 123 жыхары, у засценку 10 двароў, 61 жыхар, у пасёлку 112 двароў, 2195 жыхароў, на чыгуначнай станцыі 25 жыхароў, на хутары 10 двароў, 58 жыхароў, у маёнтку 23 жыхары, на хутары Ратамка (ён жа

Сапрыдаўшчына) 5 двароў, 32 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1923 г. створаны калгас, працавалі кузня, сталярная і шорная майстэрні. З 20.8.1924 г. ў Ратамскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 91 двор, 420 жыхароў, у маёнтку 5 двароў, 33 жыхары, млын, кузня, кравецкая майстэрня. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 38 двароў, 178 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 1 двор. З 20.1.1960 г. ў Ждановіцкім с/с. У 1997 г. 26 гаспадарак, 77 жыхароў, у Ждановіцкім цяплічным камбінаце (цэнтр — в. Кунцаўшчына).

**РАТАМКА** — пасёлак і чыгуначная станцыя на лініі Мінск—Маладзечна, у Ждановіцкім с/с, за 5 км на З ад Мінска. 1546 гаспадарак, 4830 жыхароў (2010).

У 1897 г. ў пасёлку 21 двор, 79 жыхароў, карчма, чыг. станцыя, 34 жыхары,



Гасцініца «Ратамка» ў пас. Ратамка.

у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 112 двароў, 2195 жыхароў, на чыгуначнай станцыі 25 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. пасёлак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. адкрыта 3-гадовая школа, у гэтым жа годзе пераўтворана ў 7-гадовую, у 1924 г. вучыліся 146 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Ратамскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў пасёлку 112 двароў, 420 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключаны ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1944 г. пры вызваленні пасёлка загінулі 79 сав. воінаў 238-й стралковай дывізіі. З 20.1.1960 г. ў Ждановіцкім с/с. У 1997 г. 1493 гаспадаркі, 3983 жыхары, у Ждановіцкім цяплічным камбінаце (цэнтр — в. Кунцаўшчына). У 2010 г. сярэдняя, дапаможная і музычная школы, Дом культуры, дзіцячы сад, царква (з 1997 г.), гандлёвы цэнтр, рэсп. цэнтр алімпійскай падрыхтоўкі коннага спорту і конегадоўлі. У 1957 г. на брацкай магіле сав. воінаў пастаўлены абеліск. У парку магіла Героя Сав. Саюза М.Ф.Ішуціна.



Конна-спартыўныя спаборніцтвы ў пас. Ратамка.

**РАЎБІЧЫ** — вёска ў Астрашыцкагарадоцкім с/с, за 17 км на ПнУ ад Мінска, на Дубраўскім вадасховішчы. 114 гаспадарак, 266 жыхароў (2010).

У 1597 г. сяло маёнтка Прылепы, уласнасць праваслаўнай царквы ў Мін-


Касцёл Святога Мацвея ў в. Раўбічы.

скім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. — вёска, 13 двароў, 94 жыхары, уласнасць падпалкоўніка Ф.Гарадзецкага. У 1858 г. ўласнасць памешчыкаў І.Кучынскага і К.Равенскай, у Мінскім павеце. У 1858 г. пабудаваны касцёл, у 1866 г. пераўтвораны ў праваслаўную Свята-Успенскую царкву. У 1897 г. вёска, 32 двары, 235 жыхароў, бандарны промысел, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. 4.6.1906 г. адбыліся сутыкненні вяскоўцаў з паліцыяй пры спробе сагнаць жывёлу са спрэчных пашаў. У 1917 г. ў вёсцы 34 двары, 244 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1918 г. працавала пач. школа, у якой у 1924 г. было 68 вучняў. З 20.8.1924 г. вёска ў Астрашыцка-Гарадоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ў Лагойскім р-не. У 1926 г. ў вёсцы 42 двары, 237 жыхароў, у фальварку 4 двары, 17 жыхароў. У 1930-я гады створаны калгас «Першае Мая». З 26.5.1935 г. вёска ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 40 двароў, 165 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі двор, знішчылі 4 жыхароў. У 1997 г. 73 гаспадаркі, 131 жыхар. У 2010 г. базавая школа, магазін. Помнік архітэктуры — касцёл Святога Мацвея (пабудаваны ў 1858—62 гг.), цяпер у ім размешчаны музей бел. нар. мастацтва. Побач з вёскай рэсп. цэнтр алімпійскай падрыхтоўкі па зімовых відах спорту «Раўбічы».


Рэспубліканскі цэнтр алімпійскай падрыхтоўкі па зімовых відах спорту «Раўбічы».

**РАЎКУЦЕВІЧЫ** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Мінска. 22 гаспадаркі, 51 жыхар (2010).

У 1549 г. сяло, 29 дымоў, 10 служб маёнтка Радашковічы, дзярж. ўласнасць у Віленскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 27 двароў, 172 жыхары, дзярж. ўласнасць. У 1858 г. вёска дзярж. маёнтка Радашковічы, 66 жыхароў мужчынскага полу. У 1870 г. адносілася да Бахметаўскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска (36 двароў, 254 жыхары, хлебазапасны магазін) і сядзіба (двор, 5 жыхароў), у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. У 1890 г. адкрыта школа граматы. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кай-

зераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 50 двароў, 304 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім, з 13.6.1929 г. ў Рагаўскім с/с Заслаўскага р-на. Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 69 двароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты спалілі 20 двароў, загінулі 12 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 33 гаспадаркі, 57 жыхароў, у саўгасе «Рагаўскі» (цэнтр — в. Новы Двор). У 2010 г. магазін. Радзіма ўдзельніка Вял. Айч. вайны ген.-маёра М.К.Пуцейкі.

**РАХМАНЬКІ** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 6 км на Пн ад Мінска, на р. Вяча (упадае ў Заслаўскае вадасховішча). 81 гаспадарка, 159 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 2 двары, 13 жыхароў, уласнасць А.Хмары, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 4 душы мужчынскага полу, уласнасць Г. Хмары. У 1897 г. 13 двароў, 88 жыхароў, у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 17 двароў, 114 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Папярнянскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 25 двароў, 105 жыхароў. У 1930-я г. былі створаны 2 калгасы: «Беларуская дывізія» і «Чырвоны сцяг», працавалі кузня, сталярная майстэрня. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 15 жыхароў. У 1997 г. 59 гаспадарак, 173 жыхары, уваходзіла ў саўгас «Бальшавік» (цэнтр — в. Бальшавік). У 2010 г. магазін.

**РУДАКІ** — вёска ў Гаранскім с/с, за 20 км на З ад Мінска. 12 гаспадарак, 25 жыхароў (2010).

У 1785 г. вёска, 10 двароў, 30 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Хлюдзінскага, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 13 двароў, 54 жыхары, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць І.Равы. У 1897 г. 13 двароў, 92 жыхары, хлебазапасны магазін, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 16 двароў, 94 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Траскоўшчынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 18 двароў, 98 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 8 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 16 гаспадарак, 29 жыхароў.

**РУСІНАВІЧЫ** — вёска ў Самахвалавіцкім с/с, за 10 км на Пд ад Мінска. на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 53 гаспадаркі, 97 жыхароў (2010).

У 1791 г. вёска — цэнтр маёнтка, 3 панскія двары, 57 дымоў, 2 карчмы, уласнасць Уніхоўскага, у Каралішчавіцкай парафіі Мінскіх павета і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспа-



*Сядзіба Уніхоўскіх у в. Русінавічы.*

літай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 45 двароў, 303 жыхары, уніяцкая капліца Раства Багародзіцы, вадзяны млын, сукнавальня, панскі двор, уласнасць Уніхоўскага, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска — цэнтр маёнтка, 141 душа мужчынскага полу, уласнасць І.Уніхоўскага. У 1858 г. ўласнасць В.Уніхоўскага. У 1897 г. вёска, 69 двароў, 376 жыхароў, вадзяны млын, кузня, хлебазапасны магазін, карчма і маёнтак — 6 двароў, 69 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 76 двароў, 473 жыхары, у маёнтку 248 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. створаны саўгас «Русінавічы». З 20.8.1924 г. вёска ў Самахвалавіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 100 двароў, 983 жыхары. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 57 жыхароў. У 1997 г. 57 гаспадарак, 93 жыхары. У 2010 г. Дом культуры, магазін. У 1959 г. на брацкай магіле сав. воінаў пастаўлены абеліск.

**РЫЖЫКІ** — вёска ў Хацежынскім с/с, за 14 км на З ад Мінска. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 5 двароў, 25 жыхароў, уласнасць віленскага ваяводы К.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 13 душ мужчынскага полу, уласнасць Д.Радзівіла, у 1858 г. — І.Валадковіча. У 1897 г. вёска, 11 двароў, 58 жыхароў, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 13 двароў, 86 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 14 двароў, 72 жыхары. З 26.7.1930 г. ў Заслаўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 3 жыхары. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 28.2.1974 г. ў Хацежынскім с/с. У 1997 г. 13 гаспадарак, 86 жыхароў, у саўгасе «Пціч» (цэнтр — в. Старое Сяло).

**САДЫ** — вёска (да 14.12.1981 г. — Скнаравічы) у Юзуфоўскім с/с, за 24 км на Пн ад Мінска. 11 двароў, 24 жыхары (2010).

У 16 ст. сяло, шляхецкая ўласнасць у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1567 г. сяло, уласнасць К.В.Тышкевіча, згадваецца ў попісе войска ВКЛ, у Мінскім ваяв. У 1667 г. маёнтак, 4 дымы, уласнасць К.Уніхоўскага. У 1791 г. вёска маёнтка Жабаўшчына, уласнасць каталіцкай царквы, у Мінскай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. ўласнасць Мінскага Петрапаўлаўскага праваслаўнага кляштара. У 1815 г. 28 двароў, 178 жыхароў, уласнасць Мінскага Богаяўленскага манастыра, з 1858 г. — дзярж. ўласнасць. У 1886 г. сяло, 7 двароў, 75 жыхароў, царква, у Бяларуцкай вол. Мінскага павета і губ. У 1897 г. вёска, 36 двароў, 218 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1917 г. 53 двары, 278 жыхароў, нар. вучылішча (з 1909 г.). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1924 г. адкрыта працоўная школа, было 149 вучняў. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 58 двароў, 280 жыхароў. З 13.6.1929 г. ў Рагаўскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Юзуфоўскім с/с. У 1997 г. 19 гаспадарак, 35 жы-

хароў, у саўгасе «Буцэвічы» (цэнтр — в. Юзуфова). У 2010 г. магазін.

**САЕЎШЧЫНА** — вёска ў Лашанскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Мінска. 10 гаспадарак, 20 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 2 двары, 10 жыхароў, уласнасцьВаладковічаў, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 21 душа мужчынскага полу, уласнасць М.Пшаздзецкага, у валоданні Т.А.Тудзінскага. У 1858 г. ўласнасць Ю.Мазуркевіч. У 1897 г. вёска, 13 двароў, 81 жыхар і фальварак Новая Саеўшчына — двор, 13 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 20 двароў, 133 жыхары, у фальварку 3 двары, 15 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 20 двароў, 121 жыхар, на хутары — 5 двароў, 17 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 6 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. У 1997 г. 11 гаспадарак, 35 жыхароў, у саўгасе «Броўкі» (цэнтр — в. Броўкі).

**САЛАМАРЭЧЧА** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 13 км на Пн ад Мінска, на р. Чарняўка. 43 гаспадаркі, 116 жыхароў (2010).

У 1582 г. Старыя Саламарэчы — мястэчка, замак, маёнтак, стадола, праваслаўная царква, уласнасць княгінь І.Б.Саламярэцкай, Г.Я.Глябовічаўны, кн. Б.І,Саламярэцкага, у Віленскім ваяв. ВКЛ. У 1558 г. князі Глябовічы заснавалі Свята-Пакроўскі мужчынскі манастыр. У 1667 г. маёнтак, 15 дымоў, уласнасць К. Каманякі, у тым жа годзе маёнтак, 13 дымоў, уласнасць В.Заслаўскага. У 1761 г. двор з пабудовамі, карчма, пякарня, бровар, вадзяны млын, уласнасць Валадковіча. У 1791 г. вёска — цэнтр маёнтка, 187 дымоў, 5 корчмаў, уласнасць Валадковічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1858, 1870 гг. маёнтак Валадковіча ў Сёмкава-Гарадзецкай вол. Мінскага павета. У 1863 г. пабудавана драўляная Свята-Параскеўская царква. У 1886 г. вінакурны з-д, ветраны млын. У 1896 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1897 г. маёнтак, 5 двароў, 68 жыхароў і пагост — 3 двары, 18 жыхароў, царква, харчэўня. У 1917 г. ў маёнтку 98 жыхароў, на хутары 5 двароў, 22 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. створаны саўгас «Саламарэчча». З 20.8.1924 г. пасёлак у Гатавіцкім с/с Заслаўскага раёна Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў пасёлку 18 двароў, 87 жыхароў, працоўная школа, 56 вучняў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 35 двароў, 30 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.2.1959 г. ў Мінскім р-не. З 20.1.1960 г. ў Папярнянскім с/с. У 1997 г. 37 гаспадарак, 96 жыхароў. У 2010 г. магазін.

**САМАХВАЛАВІЧЫ** — пасёлак, цэнтр сельсавета, за 10 км на Пд ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 946 гаспадарак, 2549 жыхароў (2010).



*Мемарыяльны комплекс на брацкіх магілах супрацоўнікаў рэўкама, савецкіх воінаў і ахвяр фашызму ў пас. Самахвалавічы.*

У 1582 г. сяло, цэнтр маёнтка, карчма, стадола, уласнасць М.Валадковіча, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1667 г. маёнтак, 21 дым, карчма, млын, уласнасць Валадковіча. У 1710 г. мястэчка, 11 двароў, 2 млыны, уласнасць Г.Пацея. У 1748 г. кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст III дараваў Самахвалавічам права на 2 кірмашы ў год і штотыднёвыя таргі. У 1799 г. ў мястэчку 22 двары, 193 жыхары, царква, 2 млыны, 8 сукнавален, малітоўная школа, сад з фальваркам, уласнасць М.Пузыны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1815 г. мястэчка, 64 душы мужчынскага полу, уласнасць М.Пузыны. У 1848 г. ў мястэчку 283 двары. У 1861 г. мястэчка — цэнтр воласці, 46 двароў, 406 жыхароў, 2 царквы, 2 яўр. малітоўныя дамы, вадзяны млын. У 1863 г. пабудавана новая драўляная Святадухаўская царква, нар. вучылішча. У 1897 г. 79 двароў, 527 жыхароў, 4 кузні, нар. вучылішча, прыёмны пакой, царква, капліца, 2 малітоўныя дамы, 5 крамаў, карчма; у маёнтку 5 двароў, 52 жыхары. У 1917 г. ў мястэчку 132 двары, 807 жыхароў, у маёнтку двор, 89 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. мястэчка акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. адкрыта яўр. працоўная школа, у 1924 г. пераўтворана ў пачатковую, у 1923 г. адкрыта 7-гадовая школа, у 1924 г. было 135 вучняў. У 1924 г. арганізавана камуна «Прамень сацыялізма». З 20.8.1924 г. пасёлак у Самахвалавіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў пасёлку 16 двароў, 68 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключаны ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў пасёлку 99 двароў, 433 жыхары, у вёсцы 45 двароў, 148 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 15 двароў і знішчылі 28 жыхароў. У 1997 г. 958 гаспадарак, 2576 жыхароў. У 2010 г. сярэдняя школа, Дом культуры, аддз. сувязі, урачэбная амбулаторыя, магазіны, ашчадны банк. У цэнтры вёскі мемарыяльны комплекс на брацкіх магілах супрацоўнікоў рэўкама, сав. воінаў і жыхароў. На тэр. школы помнік Герою Сав Саюза У.С.Амельянюку (1917—42).



*Святадухаўская царква ў пас. Самахвалавічы.*

**САМАХВАЛАВІЧЫ** — вёска ў Самахвалавіцкім с/с, за 11 км на Пд ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 53 гаспадаркі, 127 жыхароў (2010).

У 1710 г. сяло, «усё пустое ... хат у тым сяле 22», уласнасць Г.Пацея. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1815 г. вёска, 100 душ мужчынскага полу, уласнасць М.Пузыны. У 1858 г. 22 двары. У 1863 г. пабудавана драўляная Святадухаўская царква. У 1897 г. 33 двары, 184 жыхары, хлебазапасны магазін, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 38 двароў, 197 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Самахвалавіцкага с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 43 двары, 208 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мін-

скім р-не. У 1941 г. ў вёсцы 98 двароў, 498 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты спалілі 28 двароў, знішчылі 45 жыхароў і 2 жыхары вывезлі на прымусовую працу ў Германію. У 1997 г. 66 гаспадарак, 158 жыхароў, у складзе эксперыментальнай базы «Русінавічы» (цэнтр — в. Самахвалавічы). У 2010 г. магазін.

**САМУЭЛЕВА** — вёска ў Крупіцкім с/с, за 21 км на Пд ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 58 гаспадарак, 159 жыхароў (2010).

У 1588 г. сяло Самолева — уласнасць В.Невельскага, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1667 г. Самуэлева, маёнтак, 10 дымоў, уласнасць Т.Кастравіцкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. ўласнасць кн. П.Вітгенштэйна, у Ігуменскім павеце. На землях маёнтка сяліліся «вольныя хлебапашцы». У 1870 г. ў Дудзіцкай вол. Ігуменскага павета. У 1917 г. ў маёнтку двор, 226 жыхароў. У 1918 г. адкрыта 3-гадовая школа. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. ў маёнтку створаны племгас «Самуэлева», з 1922 г. — саўгас, працавалі стальмашня, шорная майстэрня. З 20.8.1924 г. вёска ў Крупіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1924 г. адкрыта пач. школа, 33 вучні. З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 65 двароў, 231 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1997 г. 60 гаспадарак, 163 жыхары, у калгасе «Новы быт» (цэнтр — в. Крупіца). У 2010 г. магазін.

**СВЕТЛЫ ШЛЯХ** — вёска (да 14.12. 1981 г. — Швалі) у Пятрышкаўскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Мінска. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2010).

У 1800, 1815 гг. вёска Швалі, 13 двароў, 69 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1858 г. дзярж. ўласнасць. У 1884 г. адкрыта школа граматы, 10 хлопчыкаў. У 1897 г. вёска, 15 двароў, 114 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 17 двароў, 120 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. у БССР. У 1921 г. працавала школа, 24 вучні. З 20.8.1924 г. вёска ў Анусінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 20 двароў, 130 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 5 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У 1987 г. ў саўгасе імя Жданава (цэнтр — в. Пятрышкі). У 1997 г. 11 гаспадарак, 31 жыхар.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Астрашыцкагарадоцкім с/с, за 13 км на ПнУ ад Мінска. 93 гаспадаркі, 307 жыхароў (2010).

У 1909 г. хутар, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета і губ. З лютага да снеж. 1918 г. хутар акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак, у Астрашыцка-Гарадоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў пасёлку 3 двары, 19 жыхароў, стальмашня, шорная майстэрня. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім р-не. У 1930-я гады створаны калгас імя Сталіна. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 34 двары, 148 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 4 двары, знішчылі 13 жыхароў. У

1997 г. 101 гаспадарка, 303 жыхары, у саўгасе «Новы шлях» (цэнтр — в. Астрашыцкі Гарадок). У 2010 г. магазін.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Гаранскім с/с, за 17 км на З ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 14 гаспадарак, 21 жыхар (2010).

У 1800 г. вёска, 4 двары, 23 жыхары, уласнасць ротмістра К.Пятроўскага, у Мінскім павеце. У 1858 г. вёска, 16 душ мужчынскага полу, уласнасць А.Дабравольскай. У 1870 г. адносілася да Чачкавіцкай сельскай грамады. У 1897 г. вёска, 12 двароў, 74 жыхары, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 18 двароў, 110 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Навадворскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 65 двароў, 231 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 10 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с. У 1997 г. 22 гаспадаркі, 45 жыхароў.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Лашанскім с/с, за 18 км на Пн ад Мінска, на р. Вяча. 5 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

У 1800 г. засценак на правым беразе р. Вяча, 3 двары, 24 жыхары, уласнасць І. і В.Валадковічаў, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 19 душ мужчынскага полу, уласнасць К.Валадковіча, у 1858 г. — І.Валадковіча У 1897 г. вёска, 8 двароў, 48 жыхароў, у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 11 двароў, 63 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Гатовінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 10 двароў, 52 жыхары, на хутары 2 двары, 14 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 5 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. У 1997 г. 6 гаспадарак, 14 жыхароў, у саўгасе «Броўкі» (цэнтр — в. Броўкі).

**СЁМКАВА** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 6 км на Пн ад Мінска, на р. Вяча (упадае ў Заслаўскае вадасховішча). 630 гаспадарак, 1625 жыхароў (2010).

У 1567 г. Сёмкава — сяло, уласнасць Станіслававічаў у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1582 г. сяло — цэнтр маёнтка, двор, уласнасць княгінь І.Б.Саламярэцкай, Г.Я.Глябовічаўны, кн. Б.І.Саламярэцкага і Я.Я.Рэкуця. У 1600 г. сяло, панскі двор, уласнасць Рэкуцяў. У 1640 г. як пасаг маёнтак перайшоў да Б.Стэцкевіча, пазней уласнасць Сапегаў. У 1667 г. маёнтак, 5 дымоў. У 1755 г. М.Сапега падараваў маёнтак А.Хмару. У 1791 г. Сёмкаў — маёнтак, у склад якога ўваходзілі 14 вёсак, 128 дымоў, 7 корчмаў, у Заслаўскай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, каля малага ручая побач з «вялікай віленскай дарогай», 30 двароў, 216 жыхароў, вадзяны млын, мураваны панскі дом, цагельня, драўляная каталіцкая капліца, уласнасць А.Хмары, у Мінскім павеце. У 1815 г. 141 душа мужчынскага полу, уласнасць Г.Хмары. У 1897 г. вёска (67 двароў, 419 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма) і маёнтак (8 двароў, 92 жыхары) у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 86 двароў, 489 жыхароў, нар. вучылішча; у маёнтку двор, 115 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. створаны саўгас «Сёмкава», працаваў млын. З 20.8.1924 г. вёска ў Сёмкава-Гарадоцкім с/с Заслаўскага раёна Мінскай акругі

(да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.2.1959 г. ў Мінскім р-не. З 20.1.1960 г. ў Папярнянскім с/с. У 1997 г. 452 гаспадаркі, 1201 жыхар. У 2010 г. сярэдняя школа, школа-інтэрнат, яслі-сад, б-ка, Дом культуры, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, магазін.

**СЁМКАЎ ГАРАДОК** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 13 км на Пн ад Мінска, на р. Вяча (упадае ў Заслаўскае вадасховішча). 43 гаспадаркі, 116 жыхароў (2010).

У 1582 г. згадваецца як мястэчка, шляхецкая ўласнасць у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1750 г. фальварак Сёмкаў Стэцкавіцкі маёнтка Саламярэч, уласнасць Валадковіча. У 1758 г. пабудавана царква Раства Багародзіцы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815 гг. мястэчка Гарадок, 12 двароў, 141 жыхар, мураваная ўніяцкая царква Раства Багародзіцы (у ёй вянчаліся бацькі М.Багдановіча — А.Я.Багдановіч і М.А.Мякота), млын, корчмы, уласнасць А.Хмары, у Мінскім павеце. У 1861 г. мястэчка Гарадок, 117 двароў, 368 жыхароў, вінакурны, медаварны, цагельны і піваварны з-ды, млын, царква, сінагога. У 1865 г. адкрыта нар. вучылішча, у 1892 г. было 52 вучні-хлопчыкі. У 1897 г. мястэчка (53 двары, 305 жыхароў, царква, капліца, нар. вучылішча, царк.-прыходская школа, карчма і фальварак (2 двары, 12 жыхароў, вадзяны млын), у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1903 г. адкрыта жаночая царк.-прыходская школа. У 1917 г. 55 двароў, 312 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. створана 7-гадовая школа. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.2.1959 г. ў Мінскім р-не. З 20.1.1960 г. ў Папярнянскім с/с, у саўгасе «Азёрны» (цэнтр — в. Сёмкава). У 1997 г. 75 гаспадарак, 169 жыхароў. У 2010 г. клуб-б-ка, магазін. Арх. помнік — касцёл Найсвяцейшай Тройцы. Помнік на брацкай магіле 25 сав. воінаў.

**СЕНІЦА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 0,4 км на Пд ад Мінска, на р. Сеніца (прыток р. Свіслач). 2065 гаспадарак, 3336 жыхароў (2010).

У 1567 г. сяло, уласнасць Ж.С.Драгачовіча, згадваецца ў попісе войска ВКЛ. У 1582 г. ўласнасць С.І.Дастаеўскага (продка рус. пісьменніка Ф.М.Дастаеўскага), які прадаў сяло кн. П.Р.Горскаму. У 1600 г. ўласнасць кн. К.Друцкага-Горскага. У 1789 г. пабудавана драўляная праваслаўная Петрапаўлаўская царква. У 1791 г. маёнтак (3 вёскі), 20 дымоў, панскі двор, карчма, праваслаўная царква, уласнасць І.Паўлікоўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска на левым беразе р. Сеніца, каля «вялікай пінскай дарогі», 8 двароў, 40 жыхароў, вадзяны млын, панскі двор, уласнасць І.Паўлікоўскага. У 1815, 1858 гг. 24 душы мужчынскага полу, уласнасць Тарчынскіх. У 1861 вёска — цэнтр во-



*Петрапаўлаўская царква ў в. Сеніца.*

ласці. У 1861—65 гг. пабудавана новая мураваная Петрапаўлаўская царква. У 1866 г. адкрыта нар. вучылішча, у якой у 1889—90 гг. вучыўся Я.Купала, у 1892 г. было 48 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі. У 1897 г. сяло (35 двароў, 253 жыхары, нар. вучылішча, царква, карчма) і маёнтак (84 жыхары); цэнтр воласці Мінскага павета. У 1899 г. валаснае праўленне, бальніца, рамеснае вучылішча, нар. вучылішча. У 1917 г. ў сяле 50 двароў, 328 жыхароў, у маёнтку 34 жыхары, у кузні двор, 4 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. адкрыта 7-гадовая школа. З 20.8.1924 г. сяло — цэнтр сельсавета Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў сяле 213 двароў, 461 жыхар. У 1925 г. створаны саўгас імя Урыцкага. Працавалі школа, клуб, кузня, стальмашня. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 98 двароў, 438 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1997 г. 497 гаспадарак, 2078 жыхароў. У 2010 г. ў вёсцы цэнтр ААТ «Гастэлаўскае», КУП «Экапаслуга», сярэдняя школа, 2 дзіцячыя сады, б-ка, Дом культуры, сталовая, магазін, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, магазін. Арх. помнік — Петрапаўлаўская царква (1861—65 гг.). Абеліск на брацкай магіле сав. воінаў 1206-га стралк. і 936-га артылерыйскага палкоў 362 стралк. дывізіі. У 1975 г. пастаўлены абеліск на магіле Г.У.Штромава, які загінуў у баі пры вызваленні вёскі ў 1944 г.

**СЕРАФІМАВА** — вёска ў Міханавіцкім с/с, за 8 км на Пд ад Мінска, за 3 км ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 65 гаспадарак, 222 жыхары (2010).

У 18 ст. маёнтак у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1792 г. ўладальнік маёнтка Казімір Янушэўскі фундаваў драўляны касцёл. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1885 г. фальварак у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1897 г. вёска, 12 двароў, 61 жыхар і фальварак, 2 двары, 20 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 52 двары, 114 жыхароў, у фальварку 2 двары, 8 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Кайкаўскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 17 двароў, 81 жыхар. З 18.1.1931 г. ў Смілавіцкім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1997 г. 164 гаспадаркі, 225 жыхароў, у калгасе Войкава (цэнтр — в. Чурылавічы).

**СІНЯЛО** — вёска ў Лугаваслабодскім с/с, за 9 км на ПдУ ад Мінска на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 79 гаспадарак, 211 жыхароў (2010).

У 1590 г. — сяло маёнтка Лошыца, уласнасць кн. Ф. Горскага ў Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1598, 1599 гг. уласнасць кн. К.Ф.Друцкага-Горскага. У 1772 г. вёска, 51 двор, 215 жыхароў, уласнасць І.Прушынскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска (57 двароў, 359 жыхароў, карчма) каля гасцінца Мінск—Ігумен, уздоўж р. Свіслач, уласнасць С.Прушынскага і Караліпчавіцкай каталіцкай плябаніі, у Мінскім павеце. У 1858 г. — маёнтак і вёска, уласнасць К.Пялікіны і Прушынскіх. У 1897 г. вёска, 86 двароў, 541 жыхар, хлебазапасны магазін, нар. вучылішча (з 1866), у Пярэжырскай вол. Ігуменскага павета. У 1917 г. 107 двароў, 613 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З

20.8.1924 г. вёска ў Каралішчавіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 5.3.1959 г. ў Абчакаўскім, з 8.6.1981 г. ў Лугаваслабодскім с/с. У 1997 г. 95 гаспадарак, 220 жыхароў. У 2010 г. магазін.

**СКАРЫНІЧЫ** — пасёлак у Сеніцкім с/с, за 3 км на Пд ад Мінска. 78 гаспадарак, 291 жыхар (2010).

Пасёлак узнік у 1923 г. ў выніку землеўпарадкавання зямель в. Скарынавічы і былога маёнтка Скарынічы графа Чапскага. З 20.8.1924 г. ў Падгайскім, з 1927 г. ў Прылуцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў пасёлку 28 двароў, 156 жыхароў. З 1931 г. ў Падгайскім с/с. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. ў Прылукскім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Шчомысліцкім, з 1976 г. ў Сеніцкім с/с. У 1997 г. 54 гаспадаркі, 143 жыхары, у калгасе імя Гастэлы (цэнтр — в. Сеніца).

**СКАРЫНІЧЫ** — вёска ў Сеніцкім с/с, за 5 км на Пд ад Мінска. 171 гаспадарка, 416 жыхароў (2010).

У 1582 г. сяло маёнтка Лошыца Адзінцоўская, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1791 г. вёска, 29 дымоў, карчма, уласнасць Кастравіцкіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815 гг. вёска, 24 двары, 146 жыхароў, панскі двор, драўляная ўніяцкая царква Раства Багародзіцы, уласнасць ротмістра В.Кастравіцкага. У 1897 г. вёска (32 двары, 197 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма) і маёнтак (44 жыхары), у Сеніцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 42 двары, 257 жыхароў, у маёнтку 80 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. адкрыта школа, у 1924 г. было 49 вучняў. З 20.8.1924 г. вёска ў Падгайскім, з 1927 г. ў Прылуцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 53 двары, 242 жыхары. З 1931 г. ў Падгайскім с/с. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. ў Прылуцкім с/с. У 1941 г. 61 двор, 192 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 29 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Шчомысліцкім, з 1976 г. ў Сеніцкім с/с. У 1997 г. 102 гаспадаркі, 229 жыхароў, у калгасе імя Гастэлы (цэнтр — в. Сеніца). У 2010 г. магазін. Абеліскі на брацкіх магілах сав. воінаў і магіле І.І.Фокіна, які загінуў пры абароне вёскі ў 1941 г.

**СКУРАТЫ** — вёска ў Бараўлянскім с/с, за 9 км на ПнУ ад Мінска. 16 гаспадарак, 27 жыхароў (2010).

У 1897 г. ваколіца, 19 двароў, 144 жыхары, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1908 г. ўрочышча, 6 двароў, 42 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак у Астрашыцка-Гарадоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў засценку 18 двароў, 92 жыхары. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 13 жыхароў. З 9.8.1979 г. вёска ў Бараўлянскім с/с. У 1997 г. 24 гаспадаркі, 44 жыхары.

**СЛАБАДА** — вёска ў Лашанскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Мінска. 23 гаспадаркі, 51 жыхар (2010).

У 1710 г. вёска, 11 двароў, 21 жыхар, млын, уласнасць С.Багушэвіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815 гг. вёска, 23 двары, 130 жыхароў, уласнасць Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць К.Адамовіча, М.Плаўскага. У 1897 г. вёска (37 двароў, 227 жыхароў, хлебазапасны магазін) і маёнтак ген. Кулікоўскага (двор, 12 жыхароў), у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 48 двароў, 286 жыхароў, нар. вучылішча; у фальварку 9 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Слабодскага с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1922 г. адкрыта пач. школа, у 1924 г. было 60 вучняў. У 1926 г. ў вёсцы 57 двароў, 287 жыхароў. У 1937 г. адкрыты Дом культуры. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінуў 21 вясковец. У 1943 г. акупанты знішчылі 18 жыхароў. У баях за вызваленне вёскі загінулі 144 сав. воіны і партызаны. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 1980 г. ў Лашанскім с/с, у саўгасе імя Тэльмана (цэнтр — в. Лашаны). У 1997 г. 29 гаспадарак, 61 жыхар. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, сярод іх 2 чэхі.

**СЛАБАДА** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 5 км на Пн ад Мінска. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2010).

У 1785 г. вёска, 9 двароў, 19 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць кн. Свентаржэцкай-Завішы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1815 г. 65 душ мужчынскага полу, уласнасць Пшаздзецкага. У 1858 г. вёска — цэнтр маёнтка, 26 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Заусцінскай, у Вілейскім павеце. У 1870 г. вёска адносілася да Бахметаўскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска (18 двароў, 76 жыхароў) і маёнтак (двор, 18 жыхароў), у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. У 1909 г. маёнтак, 3 двары, 28 жыхароў, 62 дзес. зямлі, уласнасць Расінскага. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 18 двароў, 75 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа, якая ў 1923 г. была пераведзена ў былы маёнтак Даўбарова. З 20.8.1924 г. ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 16 двароў, 71 жыхар, у пасёлку 93 двары, 14 жыхароў, на хутары 2 двары, 47 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 13 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 16 гаспадарак, 26 жыхароў, у саўгасе «Савецкі» (цэнтр — в. Шаршуны).

**СЛАБАДА** — вёска ў Самахвалавіцкім с/с, за 9 км на Пд ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 103 гаспадаркі, 228 жыхароў (2010).

У 1710 г. вёска, 9 двароў, уласнасць Пацея. У 1791 г. вёска маёнтка Самахвалавічы, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815 гг. 12 двароў, 52 жыхары, уласнасць М.Пузыны, у 1858 г. ўласнасць Я.Пузыны, у Мінскім павеце. У 1897 г. вёска, 25 двароў, 173 жыхары, у Самахвалавіцкай вол. У 1905 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. 27 двароў, 189 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Самахвалавіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 45 двароў, 224 жыха-

ры. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1997 г. г. 94 гаспадаркі, 193 жыхары. У 2010 г. магазін.

**СЛАБАДШЧЫНА** – вёска ў Бараўлянскім с/с, за 11 км на ПнУ ад Мінска. 47 гаспадарак, 154 жыхары (2010).

У пач. 20 ст. згадваецца як хутар у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскіх павета і губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Калодзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары 31 двор, 193 жыхары. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 9.8.1979 г. вёска ў Бараўлянскім с/с. У 1997 г. 51 гаспадарка, 155 жыхароў. Радзіма Героя Сав. Саюза В.М.Гінтаўта (7.3.1922–25.101987).

**СТАРОЕ СЯЛО** – вёска ў Хацежынскім с/с, за 10 км на З ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 129 гаспадарак, 658 жыхароў (2010).

У 1567 г. сяло, шляхецкая ўласнасць М.Служкі, у Мінскім павеце і ваяв. ВКЛ. У 1582 г. сяло – цэнтр маёнтка, шляхецкая ўласнасць у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1589 г. ўласнасць князёў Слуцкіх. У 1600 г. мястэчка – цэнтр валасці Слуцкага княства, 50 валок зямлі, двор, кірмаш, уласнасць княгіні З.Ю.Слуцкай Алелькаўны. У 1667 г. маёнтак, 46 двароў, шляхецкая ўласнасць. У 1783 г. пабудавана новая драўляная праваслаўная царква Раства Багародзіцы. У 1791 г. вёска – цэнтр маёнтка, двор, 163 дымы, 3 карчмы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 30 двароў, 148 жыхароў, царква Раства Багародзіцы, плябанія, вадзяны млын, панскі двор, шкляны з-д, уласнасць віленскага ваяводы К.Радзівіла. Размяшчалася паабапал р. Пціч і ўздоўж ракаўскай дарогі. У 1815 г. вёска, 67 душ мужчынскага полу, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у 1858 г. ўласнасць І.Валадковіча. У 1897 г. сяло – цэнтр воласці, 17 двароў, 102 жыхары, нар. вучылішча (з 1867 г.), валаснoe праўленне, хлебазапасны магазін, царква, капліца, 2 крамы, карчма, смола-шкіпінарны з-д (з 1879 г.) і маёнтак – двор, 112 жыхароў, вадзяны млын, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 15 двароў, 72 жыхары, нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. адкрыты дзіцячы інтэрнат «Серп і молат», 87 вучняў. З 20.8.1924 г. вёска – цэнтр Старасельскага с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1922 г. створана камуна «Прамень сацыялізма». У 1926 г. ў вёсцы 33 двары, 190 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 69 двароў, 276 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 66 двароў, знішчылі 14 жыхароў і 8 жыхароў вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 20.1.1960 г. ў Шчомысліцкім, з 28.2.1974 г. ў Хацежынскім с/с, цэнтр саўгаса «Пціч». У 1997 г. 178 гаспадарак, 573 жыхары. У 2010 г. сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аптэка, аддз. сувязі, сталовая, лазня, магазін. У 1948 г. на брацкай магіле барацьбітоў за сав. ўладу ва ўрочышчы Багінаўка пастаўлена стэла. У 1960 г. на брацкай магіле сав. воінаў 4-й гвардзейскай танкавай брыгады 2-га гвардзейскага танкавага корпуса і 352-й стралк. дывізіі пастаўлены абеліск. Абеліскі пастаўлены таксама на 2 магілах ахвяр фашызму.



*В.М.Гінтаўт.*

**СТАРЫНА** – вёска ў Калодзішчанскім с/с, за 11 км на У ад Мінска. 139 гаспадарак, 401 жыхар. (2010).

У 1800, 1815 гг. вёска, 28 двароў, 177 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У1858 г. ўласнасць кн. П.Вітгенштэйна. У 1897 г. вёска, 27 двароў, 224 жыхары, кузня, і аднаселле – 2 двары, 25 жыхароў, смола-шкіпінарны з-д (з 1880 г.), у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 44 двары, 323 жыхары, ва ўрочышчы 9 двароў, 68 жыхароў, на смолашкіпінарным з-дзе 10 жыхароў, на хутары двор, 8 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Калодзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. вёска, 44 двары, 258 жыхароў і хутар Старынская Пасека – 32 двары, 156 жыхароў. У 1926 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 63 двары, 346 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 19 жыхароў. У 1997 г. 99 гаспадарак, 304 жыхары. У 2010 г. базавая школа-сад, клуб, б-ка, магазін.



*Пакроўская царква 18 ст. ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту каля в. Строчыца.*

**СТАЎБУНОВІЧЫ** – вёска ў Крупіцкім с/с, за 16 км на Пд ад Мінска. 44 гаспадаркі, 119 жыхароў (2010).

У 1567 г. вёска, уласнасць Б.Рамanавай, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1582 г. сяло – цэнтр маёнтка ва ўласнасці М.Валадковіча. У 1600 г. маёнтак, 20 дымоў, уласнасць Я.Валадковіча. У 1791 г. вёска маёнтка Анопаль Каралішчавіцкай парафіі, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815 гг. вёска, 30 двароў, 185 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць кн. А.Радзівіла. У 1897 г. вёска, 38 двароў, 242 жыхары, 2 кузні, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 41 двор, 223 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. створана с.-г. арцель Стаўбуновічы. З 20.8.1924 г. вёска ў Крупіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 50 двароў, 237 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім р-не. З 23.3.1932 г. ўключаны ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 44 двары, 217 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1997 г. 66 гаспадарак, 142 жыхары, у калгасе «Новы быт» (цэнтр – в. Крупіца). У 2010 г. магазін.

**СТРОЧЫЦА** – вёска ў Шчомысліцкім с/с, за 6 км на З ад Мінска на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 33 гаспадаркі, 84 жыхары (2010).

У 1587 г. сяло – цэнтр маёнтка, уласнасць К.Шалушынай – Ф.Мялешаўны, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1710 г. вёска, 9 двароў, 17 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць С.Багушэвіча. У 1791 г. сяло маёнтка Воўчкавічы Карлішчавіцкай парафіі, шляхецкая ўласнасць. У 1800 г. вёска, 10 двароў,



*У Беларускім музеі народнай архітэктуры і побыту каля в. Строчыца.*

74 жыхары, уласнасць М.Іваноўскай, у Мінскім павеце. У 1840 г. вёска куплена памешчыкамі Држневічамі. У 1897 г. вёска, 38 двароў, 265 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца і маёнтак — 52 жыхары, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 52 двары, 306 жыхароў, у маёнтку 126 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. створаны саўгас «Строчыцы». З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Строчыцкага с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 49 двароў, 282 жыхары. З 26.7.1930 г. ў Заслаўскім р-не, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 20.1.1960 г. ў Шчомысліцкім с/с. У 1997 г. 39 гаспадарак, 115 жыхароў, у калгасе «Шлях камунізма» (цэнтр — в. Шчомысліца). Побач з вёскай размешчаны Бел. дзярж. музей нар. архітэктуры і побыту.

**СТУКАЦІЧЫ** – вёска ў Самахвалавіцкім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Мінска. 37 двароў, 82 жыхары (2010).

У 1800 г. вёска, 9 двароў, 59 жыхароў, уласнасць мінскага Петрапаўлаўскага манастыра, у Мінскім павеце. У 1815 г. ўласнасць мінскага Багаяўленскага манастыра. У 1858 г. казённая ўласнасць. У 1897 г. вёска, 15 двароў, 78 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 21 двор, 180 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Самахвалавіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на. У 1926 г. ў вёсцы 21 двор, 90 жыхароў, на хутары 6 двароў, 28 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 6 жыхароў. У 1997 г. 36 гаспадарак, 84 жыхары, у складзе эксперыментальнай базы «Русінавічы» (цэнтр — в. Самахвалавічы).

**СУКАВІЧЫ** — вёска ў Лашанскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Мінска. 13 гаспадарак, 24 жыхары (2010).

У 1800, 1815 гг. вёска, 27 двароў, 157 жыхароў, паштовы дом, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць К.Адамовіч. У 1890 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. вёска, 10 двароў, 81 жыхар; маёнтак Старыя Сукавічы — двор, 17 жыхароў і фальварак Новыя Сукавічы — двор, 12 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 15 двароў, 102 жыхары, у фальварку Старыя Сукавічы 3 двары, 12 жыхароў, у фальварку Новыя Сукавічы 3 двары, 18 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 129 двароў, 1117 жыхароў, на хутары 4 двары, 16 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 5 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с, у 1987 г. ў саўгасе «Броўкі» (цэнтр — в. Броўкі). У 1997 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў.

**СУХАРУКІЯ** — вёска ў Калодзішчанскім с/с, за 5 км на У ад Мінска. 286 гаспадарак, 829 жыхароў (2010).

У 1885 г. засценак, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1897 г. ўрочышча Сухарукія (Калодзішча), 8 двароў, 56 жыхароў, карчма. У 1917 г. ў вёсцы 5 двароў, 32 жыхары, у фальварку двор, 4 жыхары, на хутары — 2 двары, 10 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Калодзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 9 двароў, 46 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 9 жыхароў. У 1997 г. 212 гаспадарак, 697 жыхароў. У 2010 г. магазін, дзіцячы сад, аддз. сувязі.

**СЯЛЕЦ** — вёска ў Лашанскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад Мінска. 17 гаспадарак, 33 жыхары (2010).

У 1567 г. сяло, панскі двор, уласнасць Глябовічаў, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1569 г. згадваецца пры абмежаванні Заслаўя, уласнасць М.Х.Радзівіла, у 1579 г. ўласнасць Х.Радзівіла. У 1800, 1815 гг. вёска, 13 двароў, 54 жыхары, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць К.Тамашэўскага. У 1888 г. адкрыта школа граматы, у 1890 г. вучыліся 8 хлопчыкаў. У 1897 г. вёска, 18 двароў, 110 жыхароў, хлебазапасны магазін; фальварак Стары Сялец — 40 жыхароў; маёнтак Стары Сялец — 24 жыхары; З урочышчы Стары Сялец — 3 двары, 25 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 19 двароў, 105 жыхароў, у маёнтку Стары Сялец 39 жыхароў, у маёнтку Новы Сялец 53 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў саўгасе было 93 члены. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 16 жыхароў. З 8.8.1959 г. у Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. У 1997 г. 15 гаспадарак, 31 жыхар, у саўгасе імя Тэльмана (цэнтр — в. Лашаны).

**СЯЛЮТЫ** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 8 км на Пн ад Мінска, каля става на р. Чарняўка (упадае ў Заслаўскае вадасховішча). 15 гаспадарак, 36 жыхароў (2010).

У 1582 г. сяло маёнтка Гарадок, уласнасць Саламарэцкіх, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1750 г. сяло маёнтка Саломярэч. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 7 двароў, 47 жыхароў, уласнасць А.Хмары, у Мінскім павеце. У 1815, 1858 гг. вёска, 32 душы мужчынскага полу, уласнасць Г.Хмары. У 1897 г. вёска, 14 двароў, 65 жыхароў, у фальварку 2 двары, 10 жыхароў, у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета і губ. У 1917 г. ў вёсцы 15 двароў, 75 жыхароў, на хутары двор, 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Сёмкава-Гарадоцкім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 17 двароў, 106 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.2.1959 г. ў Мінскім р-не. З 20.1.1960 г. ў Папярнянскім с/с, у саўгасе «Азёрны» (цэнтр — в. Сёмкава). У 1997 г. 12 гаспадарак, 35 жыхароў.

**СЯЛЯЎШЧЫНА** — вёска ў Лашанскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Мінска. 1 гаспадарка, 6 жыхароў (2010).

У 1800, 1815 гг. вёска і аколіца, 6 двароў, 40 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць К.Тамашэўскага. У 1897 г.

вёска, 10 двароў, 67 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 11 двароў, 66 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 20 двароў, 121 жыхар, на хутары 5 двароў, 17 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 4 жыхары. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. У 1997 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары, у саўгасе «Броўкі» (цэнтр — в. Броўкі).

**СЯРЭДНЯЯ** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Мінска. 10 гаспадарак, 23 жыхары (2010).

У 1858 г. вёска маёнтка Мануйлы, 37 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Тукалы, у Радашковіцкай вол. Мінскага павета. У 1870 г. вёска — цэнтр сельскай грамады, у склад якой уваходзілі 6 вёсак. У 1897 г. 17 двароў, 112 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 21 двор, 130 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1924 г. працавала пач. школа. У 1926 г. ў вёсцы 27 двароў, 152 жыхары. З 26.7.1930 г. ў Заслаўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 9 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 16 гаспадарак, 32 жыхары, у саўгасе «Савецкі» (цэнтр — в. Шаршуны). У 1963 г. на брацкіх могілках 101 партызана брыгады «Штурмавая» пастаўлены помнік. Каля вёскі помнік у гонар партызанскай брыгады «Штурмавая», дзе ў Вял. Айч. вайну базіраваўся яе штаб.

**ТАБАРЫ** — вёска ў Хацежынскім с/с, за 6 км на З ад Мінска. 34 гаспадаркі, 83 жыхары (2010).

У 1897 г. 2 фальваркі, 2 двары, 47 жыхароў, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 2 хутары, 14 двароў, 117 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары 31 двор, 171 жыхар. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 10 двароў, 75 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 3 жыхары. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 28.2.1974 г. ў Хацежынскім с/с. У 1997 г. 29 гаспадарак, 74 жыхары, у саўгасе імя Ульянава. У 2010 г. клуб, магазін.

**ТАНЕЛЕВА** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Мінска. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2010).

У 1783 г. вёска маёнтка Радашковічы, царква Мікалая Цудатворца, дзярж. уласнасць. У 1858 г. ў вёсцы 9 жыхароў мужчынскага полу. У 1870 г. вёска адносілася да Бахметаўскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска, 8 двароў, 72 жыхары, капліца і фальварак Танелева (Мацоўшчына), двор, 7 жыхароў, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. ў вёсцы 13 двароў, 76 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 15 двароў, 82 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 4 жыхары. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 8 гаспадарак, 10 жыхароў,

у саўгасе «Савецкі» (цэнтр – в. Шаршуны). На могілках царква Міколы Цудатворца.

**ТАРАСАВА** – вёска ў Ждановіцкім с/с, за 2 км на З ад Мінска. 400 гаспадарак, 1345 жыхароў (2010).

У 1477 г. згадваецца як маёнтак Тарасаўскі, у Мінскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ. У 1516 г. сяло, уласнасць М.Федкавіча і кн К.І.Астрожскага. У 1521 г. сяло – цэнтр маёнтка кн. К.І.Астрожскага. У 1582 г. мястэчка, цэнтр Тарасаўскай вол., у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1667 г. маёнтак, 12 дымоў, уласнасць Ф.К.Друцкага – Горскага. У 1681 г. 3 двары, у 1766 г. 5 двароў. У 1791 г. 14 двароў, 106 жыхароў, уласнасць І.Грыгаровіча і Е.Францэвіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. фальварак і вёска, 16 двароў, 126 жыхароў, уласнасць Карсакоў. У 1861 г. сяло, 11 двароў, 119 жыхароў, царква, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1879 г. ў маёнтку вінакурны з-д (8 рабочых) Грыгаровіча. У 1897 г. вёска, 36 двароў, 218 жыхароў, капліца на могілках; фальварак – 22 жыхары і маёнтак – 55 жыхароў, ветраны млын, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў сяле 72 двары, 242 жыхары, у маёнтку 107 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. сяло акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. створаны саўгас «Тарасава». З 20.8.1924 г. вёска ў Ратамскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1941–42 гг. дзейнічала Тарасава-Ратамскае антыфаш. падполле. З 20.1.1960 г. ў Ждановіцкім с/с, у Ждановіцкім цяплічным камбінаце (цэнтр – в. Кунцаўшчына). У 1997 г. 256 гаспадарак, 511 жыхароў. У 2010 г. базавая школа, яслі-сад, аддз. сувязі, магазін, царква. У 1946 г. на брацкай магіле сав. воінаў пастаўлены абеліск; у 1964 г. на брацкай магіле падпольшчыкаў пастаўлены абеліск. Каля вёскі помнік у гонар Тараса-Ратамскага падполля, у 1970 г. пастаўлена стэла.

*Царква Раства Багародзіцы ў в. Тарасава.*



**ТРАСКОЎШЧЫНА** – вёска ў Гаранскім с/с, за 20 км на З ад Мінска, на р. Ісляч (прыток р. Бярэзіна). 12 гаспадарак, 24 жыхары (2010).

У 1791 г. вёска – цэнтр маёнтка, 48 дымоў, 2 карчмы, шляхецкая ўласнасць, у Ракаўскай парафіі Мінскага павета і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1794 г. вёска, 7 двароў, 46 жыхароў, уласнасць М.К.Агінскага. У 1800 г. вёска, 6 двароў, 46 жыхароў, панскі двор, на левым беразе р. Ісляч, вадзяны млын, уласнасць Т.Свентаржыцкага. Побач засценак, двор, 6 жыхароў, уласнасць каталіцкай царквы. У 1858 г. вёска, 18 душ мужчынскага полу і маёнтак, уласнасць Ч.Свентаржыцкага. У 1897 г. вёска, 10 двароў, 65 жыхароў і маёнтак, 2 двары, 61 жыхар, вадзяны млын, царква на могілках, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 15 двароў, 100 жыхароў, у маёнтку двор, 33 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіра-

вана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. адкрыта школа, у 1924 г. было 42 вучні. Пры школе хата-чытальня і б-ка. У 1922 г. створана с.-г. т-ва «Муравей». З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Траскоўшчынскага с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 18 двароў, 76 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы базіраваўся штаб партызанскай брыгады імя Шчорса. За вызваленне вёскі ў ліп. 1944 г. загінулі 31 партызан і 63 сав. воіны, сярод іх — воіны 598-га артылерыйскага палка 175-й стралк. дывізіі. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У вёсцы размяшчалася цэнтр. сядзіба калгаса імя Энгельса. У 1997 г. 15 гаспадарак, 29 жыхароў. У 2010 г. школа-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, ветэрынарны ўчастак. Дзіцячы санаторый «Траскоўшчына». На брацкіх могілках сав. воінаў і партызан у 1955 г. пастаўлены абеліскі, у 1966 г. ў гонар партызанскай брыгады імя М.А.Шчорса пастаўлены абеліск.

**ТРАСКОЎШЧЫНА** — пасёлак у Гаранскім с/с, за 21 км на З ад Мінска, на р. Ісладж (прыток Бярэзіна). 122 гаспадаркі, 365 жыхароў (2010).

У 2010 г. сярэдняя школа, Дом культуры, магазін, пансіянат «Світанак».

**ТЭЙКІ** — вёска ў Гаранскім с/с, за 18 км на З ад Мінска, на р. Копраўка (прыток р. Ісладж). 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска на левым беразе р. Копраўка, 5 двароў, 22 жыхары уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1858 г. вёска, 10 душ мужчынскага полу, уласнасць А.Вішнеўскага. У 1897 г. вёска, 5 двароў, 36 жыхароў, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 9 двароў, 490 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Барздынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 9 двароў, 44 жыхары. З 9.3.1932 г. ў Навадворшчынскім нац. польскім, з 20.2.1938 г. ў Навадворскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 4 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 10 гаспадарак, 20 жыхароў, у саўгасе імя Энгельса (цэнтр — пас. Траскоўшчына).

**УЗБОР'Е** — вёска ў Астрашыцкагарадоцкім с/с, за 10 км на ПнУ ад Мінска. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 4 двары, 15 жыхароў, уласнасць І.Тышкевіча, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць графа М.Тышкевіча. У 1897 г. ў вёсках Узбор'е-1 — 4 двары, 46 жыхароў, Узбор'е-2 — 8 двароў, 158 жыхароў, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 12 двароў, 93 жыхары, ва ўрочышчы 7 двароў, 32 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак, у Астрашыцка-Гарадоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў пасёлку 9 двароў, 59 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім р-не. З 26.5.1935 г. вёска, у Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У абарончых баях загінулі 4 сав. воіны. У 1977 г. 6 гаспадарак,10 жыхароў, у саўгасе «Новы шлях» (цэнтр — в. Астрашыцкі Гарадок).

**УРАДЖАЙНАЯ** (да 1964 г. — Бабавозаўшчына), вёска ў Сеніцкім с/с, за 4 км на Пд ад Мінска, каля шашы

Мінск—Слуцк. 116 гаспадарак, 345 жыхароў (2010).

У 1791 г. вёска маёнтка Сеніца, шляхецкая ўласнасць, у Каралішчавіцкай парафіі Мінскіх павета і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 11 двароў, 61 жыхар, уласнасць І.Паўлюкоўскага, у Мінскім павеце. У 1815, 1858 гг. вёска, 21 душа мужчынскага полу, уласнасць Тарчынскіх. У 1897 г. вёска, 9 двароў, 57 жыхароў і выселак — 3 двары, 21 жыхар, у Сеніцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 27 двароў, 143 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска, у Сеніцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 15 двароў, 72 жыхары, на хутары 6 двароў, 35 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 21 двор, 86 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 15 жыхароў. У 1997 г. 53 гаспадаркі, 285 жыхароў, у калгасе імя Гастэлы (цэнтр — в. Сеніца). У 2010 г. магазін.

**ХАДАКАВА** — вёска ў Шчомысліцкім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Мінска. 33 гаспадаркі, 60 жыхароў (2010).

У пач. 20 ст. пасёлак, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак, у Падгайскім, з 1927 г. ў Прылуцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў пасёлку 5 двароў, 23 жыхары. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 1931 г. ў Падгайскім с/с. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. ў Прылуцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Шчомысліцкім с/с, у калгасе «Шлях камунізма» (цэнтр — в. Шчомysліца). У 1997 г. 14 гаспадарак, 35 жыхароў.

**ХАЦЕЖЫНА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 6 км на З ад Мінска. 172 гаспадаркі, 1485 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 10 двароў, 61 жыхар, уласнасць І.Набароўскага, у Мінскім павеце. У 1815, 1858 гг. вёска, 25 душ мужчынскага полу, уласнасць Набароўскіх. У 1897 г. 30 двароў, 177 жыхароў, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 31 двор, 195 жыхароў, нар. вучылішча (з 1916 г.). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска, у Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 28 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 28.2.1974 г. ў Хацежынскім с/с. У 1997 г. 311 гаспадарак, 921 жыхар. У 2010 г. Дом культуры, аддз. сувязі, магазін, б-ка, дзіцячы сад, КУП «Хацежына». Каля будынка сельсавета абеліск на брацкай магіле сав. воінаў і мірных жыхароў.

**ХАЦЯНАЎШЧЫНА** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Мінска. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2010).

У 1797 г. вёска, 9 двароў, уласнасць М.Валадковіча, у Віленскай губ. У 1800 г. вёска, 4 двары, 19 жыхароў, у Вілейскім павеце. У 1858 г. вёска маёнтка Доўбарава, 17 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Герберскага. У 1870 г. адносілася да Бахметаўскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска, 6 двароў, 49 жыхароў, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета.

З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 17 двароў, 52 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 5 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 9 гаспадарак, 15 жыхароў, у саўгасе «Савецкі» (цэнтр — в. Шаршуны).

**ХМЕЛЕЎКА** — вёска ў Пятрышкаўскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Мінска, каля гал. канала Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. 42 гаспадаркі, 102 жыхары (2010).

У 1800 г. вёска, 19 двароў, 87 жыхароў, у вярхоўі р. Хмелеўка, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 58 душ мужчынскага полу, у валоданні А.Мастоўскай, у 1858 г. ўласнасць А.Галавіной. У 1897 г. вёска, 23 двары, 175 жыхароў, хлебазапасны магазін; маёнтак Хмелеўка (Канстанцінава), 26 жыхароў, вадзяны млын і 2 урочышчы — 2 двары, 9 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 34 двары, 230 жыхароў, у маёнтку двор, 19 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Анусінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 41 двор, 262 жыхары, кузня, вадзяны млын. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 19 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У 1997 г. 48 гаспадарак, 105 жыхароў, у саўгасе імя Жданава (цэнтр — в. Пятрышкі).

**ЦІМОШКІ** — вёска ў Самахвалавіцкім с/с, за 11 км на Пд ад Мінска. 37 гаспадарак, 58 жыхароў (2010).

У 1600 г. сяло маёнтка Прылукі, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1791 г. сяло маёнтка Прылукі, шляхецкая ўласнасць, у Караліщчавіцкай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 19 двароў, 79 жыхароў, каля «вялікай пінскай дарогі», уласнасць М.Іваноўскай, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 19 душ мужчынскага полу, уласнасць Л.Іваноўскай, у 1858 г. — Гарватавай. У 1897 г. вёска, 32 двары, 204 жыхары і фальварак — двор, 12 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 36 двароў, 186 жыхароў, у фальварку двор, 18 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска, у Самахвалавіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсках Цімошкі Вялікія, 29 двароў, 153 жыхары, Цімошкі Малыя, 7 двароў, 29 жыхароў, у пасёлку Цімошкі, 5 двароў, 20 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 15 жыхароў. У канцы чэрв. 1941 г. пры абароне вёскі загінулі 10 сав. воінаў. У 1997 г. 52 гаспадаркі, 93 жыхары, у складзе эксперыментальнай базы «Русінавічы» (цэнтр — в. Самахвалавічы). У 2010 г. магазін. У 1965 г. на брацкай магіле 10 сав. воінаў пастаўлены абеліск.

**ЦНА** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 2 км на Пн ад Мінска, на р. Цна (прыток р. Свіслач). 24 гаспадаркі, 55 жыхароў (2010).

У 16 ст. сяло. У 1557 г. сяло — цэнтр маёнтка, шляхецкая ўласнасць, у Мін-

скім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ. У 1570, 1582 гг. уласнасць праваслаўнай царквы. У 1773 г. вёска, 7 двароў, у Заценскай вол. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 78 жыхароў, уласнасць А.Хмары, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 48 душ мужчынскага полу, у 1858 г. ўласнасць Г.Хмары. У 1909 г. 32 двары, 249 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Папярнянскім с/с Астрашыцка- Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы Цна Хмарынская 29 двароў, 154 жыхары, у вёсцы Цна Іодкаўская 70 двароў, 323 жыхары, на хутары 2 двары, 6 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1997 г. 13 гаспадарак, 42 жыхары.

**ЦНЯНКА** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 0,5 км на Пн ад Мінска, на р. Цна (прыток р. Свіслач). 393 гаспадаркі, 884 жыхары (2010 г.).

У 1858 г. 11 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Г.Хмары. У 1897 г. вёска, 19 двароў, 113 жыхароў, вадзяны млын і фальварак — 2 двары, 13 жыхароў, у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 17 двароў, 111 жыхароў, нар. вучылішча (з 1912 г.), на хутары Цнянка-1 — двор, 5 жыхароў, на хутары Цнянка-2 — 3 двары, 13 жыхароў, на хутары Цнянка-3 — двор, 4 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20. 8.1924 г. ў Папярнянскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 12 жыхароў. У 1945 г. створана птушкафабрыка імя Н.К.Крупскай. З 25.7.1959 г. вёска ў Зялёналугскім, з 1980 г. ў Папярнянскім с/с. У 1997 г. 253 гаспадаркі, 1007 жыхароў. У 2010 г. магазін.

**ЦЭСІНА** — вёска ў Навадворскім с/с, за 8 км на Пд ад Мінска, каля магістральнай шашы Брэст—Масква. 28 гаспадарак, 73 жыхары (2010).

У 1917 г. маёнтак, 113 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Гатаўскім, з 1927 г. ў Дзяргайскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 22 двары, 107 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 10 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Гатаўскім, з 5.3.1959 г. ў Навадворскім с/с. У 1997 г. 44 гаспадаркі, 96 жыхароў, у саўгасе «Світанне» (цэнтр — в. Новы Двор). У 2010 г. магазін.

**ЧАРНАЛЕСКІ** — вёска ў Крупіцкім с/с, за 18 км на Пд ад Мінска. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

У 1815 г. вёска, 15 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1897 г. 8 двароў, 72 жыхары, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 12 двароў, 87 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак у Крупіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў засценку 18

двароў, 93 жыхары. З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім р-не. З 23.3.1932 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 13 двароў, 63 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 8 жыхароў. У 1997 г. 12 гаспадарак, 11 жыхароў, у калгасе «Новы быт» (цэнтр — в. Крупіца).

**ЧАРНЯЎШЧЫНА** — вёска ў Пятрышкаўскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Мінска. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 14 душ мужчынскага полу, у арэндзе Б.Галіеўскага, у 1858 г. ўласнасць Вярбіцкага. У 1897 г. вёска, 5 двароў, 42 жыхары і маёнтак — двор, 7 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 7 двароў, 53 жыхары, у фальварку двор, 8 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім, з 1927 г. ў Барздынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 12 двароў, 55 жыхароў. З 9.3.1932 г. ў Гуянскім, з 14.5.1936 г. ў Навадворскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У 1997 г. 8 гаспадарак, 14 жыхароў, у саўгасе імя Жданава (цэнтр — в. Пятрышкі).

**ЧАРОМУХА** (да 1964 г. Затычына) — вёска ў Гаранскім с/с, за 18 км на З ад Мінска, на р. Копраўка (прыток р. Іслач). 21 гаспадарка, 35 жыхароў (2010).

У 1582 г. — сяло маёнтка Старое Сяло, шляхецкая ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1600 г. ўласнасць Е.Хадкевіча. У 1667 г. маёнтак, 5 дымоў, уласнасць С.Іваноўскага. У 1791 г. вёска, 2 двары, 10 дымоў, уласнасць Паўловіча і інш., у Заслаўскай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 22 двары, 103 жыхары, шляхецкая ўласнасць, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 43 душы мужчынскага полу, уласнасць В.Валодзькі, у 1858 г. — А.Вішнеўскага. У 1908 г. 38 двароў, 210 жыхароў, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 44 двары, 258 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Барздынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1925 г. ў вёсцы працавалі вадзяны млын, кузня, быў распаўсюджаны каменацёсны промысел. У 1926 г. ў вёсцы 35 двароў, 161 жыхар. З 9.3.1932 г. ў Навадворшчынскім нац. польскім с/с, з 14.5.1936 г. ў Навадворскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1944 г. пры вызваленні вёскі загінулі 43 сав. воіны, сярод іх — воіны 352-й стралк. дывізіі. З 16.7.1954 г. вёска ў Гаранскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. У 1997 г. 29 гаспадарак, 58 жыхароў, у саўгасе «Праўда» (цэнтр — в. Чачкава). У 2010 г. клуб, магазін. У 1962 г. на брацкай магіле сав. воінаў пастаўлены абеліск.

**ЧАРЦЯЖ** — вёска ў Бараўлянскім с/с, за 7 км на Пн ад Мінска. 18 гаспадарак, 35 жыхароў (2010).

У 1885 г. выселак, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1897 г. вёска, 6 двароў, 42 жыхары У 1917 г. 3 двары, 34 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Астрашыцка-Гарадоцкім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да

26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 11 двароў, 83 жыхары. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 4 жыхары. З 9.8.1979 г. вёска ў Бараўлянскім с/с. У 1997 г. 11 гаспадарак, 15 жыхароў.

**ЧАЧКАВА** — вёска ў Гаранскім с/с, за 14 км на З ад Мінска, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 353 гаспадаркі, 1047 жыхароў (2010).

У 1600 г. сяло, шляхецкая ўласнасць, у Старасельскай вол. Слуцкага княства. У 1667 г. маёнтак, 9 дымоў, млын, уласнасць П.Ашыклінскага. У 1791 г. вёска, панскі двор, 5 дымоў, карчма, уласнасць Варанца, у Ракаўскай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815 гг. вёска на левым беразе р. Пціч, 14 двароў, 70 жыхароў, вадзяны млын, карчма, уласнасць віленскага ваяводы К.Радзівіла, у Мінскім павеце. На правым беразе р. Пціч фальварак, 3 двары, 11 жыхароў, млын, уласнасць ротмістра К.Пятроўскага, у 1815 г. вёска, 30 душ мужчынскага полу, уласнасць графа І.Тышкевіча, у 1858 г. ўласнасць І.Валадковіча. У 1897 г. вёска, 21 двор, 100 жыхароў, капліца і маёнтак — 41 жыхар, вадзяны млын, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 36 двароў, 219 жыхароў, у маёнтку двор, 23 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Старасельскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 42 двары, 217 жыхароў, у фальварку 3 двары, 22 жыхары, пач. школа, вадзяны млын, кузня, шавецкая майстэрня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 18 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 28.2.1974 г. ў Хацежынскім с/с. У 1997 г. 337 гаспадарак, 983 жыхары. У 2010 г. сярэдняя школа, яслі-сад, Дом культуры, аддз. сувязі, гандлёвы цэнтр. У 1966 г. на магіле 4 партызан брыгады імя М.А.Шчорса пастаўлены абеліск.

**ЧУРЫЛАВІЧЫ** — вёска ў Міханавіцкім с/с, за 9 км на Пд ад Мінска, за 5 км на З ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 244 гаспадаркі, 873 жыхары (2010).

У 1567 г. сяло, уласнасць В.Пляваччыча, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1597, 1559, 1667 гг. сяло, фальварак, 19 дымоў, уласнасць каталіцкай царквы. У 1791 г. вёска маёнтка Плябанцы, 14 дымоў, уласнасць Язвінскай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815 гг. 12 двароў, 100 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць Ельскіх. У 1897 г. вёска, 27 двароў, 214 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 42 двары, 257 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Гатаўскім, з 1927 г. ў Дзяргайскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы кузня, шавецкая майстэрня. У 1929 г. створаны калгас. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 46 двароў, 195 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 120 жыхароў. Акупанты спалілі 40 двароў, знішчылі 23 жыхары і 1 жыхара вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 1976 г. ў Самахвалавіцкім, з 1987 г. ў Міханавіцкім с/с, у калгасе «Войкава» (цэнтр — в. Чурылавічы). У 1997 г. 206 гаспадарак, 679 жыхароў. У 2010 г.

цэнтр СВК «Войкава». Сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, гандлёвы цэнтр, Дом быту. У 1968 г. на ўшанаванне памяці 120 землякоў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлена стэла.

**ЧУЧАНЫ** – вёска ў Папярнянскім с/с, за 5 км на Пн ад Мінска, на р. Вяча (упадае ў Заслаўскае вадасховішча). 28 гаспадарак, 44 жыхары (2010).

У 1600 г. сяло маёнтка Гарадок, уласнасць Б.Саламярэцкага, у Мінскім павеце і ваяв. ВКЛ. У 1730 г. вёска, 7 двароў, 19 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць І.Язерскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 12 двароў, 81 жыхар, уласнасць А.Хмары, у Мінскім павеце. У 1815, 1858 гг. вёска, 41 душа мужчынскага полу, уласнасць Г.Хмары. У 1897 г. вёска, 23 двары, 106 жыхароў, царква, у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 33 двары, 240 жыхароў; на хутары двор, 9 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Сёмкава-Гарадоцкім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 17 двароў, 106 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 20 жыхароў. З 8.2.1959 г. ў Мінскім р-не. З 20.1.1960 г. ў Папярнянскім с/с. У 1997 г. 25 гаспадарак, 62 жыхары, у саўгасе «Азёрны» (цэнтр – в. Сёмкава).

**ЧЫЖОЎКА** – вёска ў Папярнянскім с/с, за 0,2 км на Пн ад Мінска, на р. Цна (прыток р. Свіслач). 14 гаспадарак, 25 жыхароў (2010).

У 1773 г. засценак, двор, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, на левым беразе р. Цнянка, уласнасць А.Хмары, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць Г.Хмары. У 1897 г. вёска, 4 двары, 27 жыхароў, у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 6 двароў, 29 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Папярнянскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 6 двароў, 38 жыхароў. З 18.1.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 2 жыхары. У 1997 г. 11 гаспадарак, 26 жыхароў, у саўгасе «Бальшавік» (цэнтр – в. Бальшавік).

**ЧЫРАВІЧЫ** – вёска ў Рагаўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Мінска. 21 гаспадарка, 29 жыхароў (2010).

У 1738 г. вёска, двор, пустыя землі апрацоўвалі сяляне з вёскі Мідраўшчына, дзярж. ўласнасць, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. вёска маёнтка Радашковічы, 51 жыхар мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць, у Вілейскім павеце. У 1870 г. адносілася да Бахметаўскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска, 31 двор, 178 жыхароў; сядзіба, двор, 10 жыхароў, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. ў вёсцы 36 двароў, 227 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 42 двары, 268 жыхароў, на хутары двор, 4 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 27 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 27

гаспадарак, 44 жыхары, у саўгасе «Савецкі» (цэнтр – в. Шаршуны).

**ЧЭРНІКІ** – вёска ў Крупіцкім с/с, за 18 км на Пд ад Мінска. 11 гаспадарак, 22 жыхары (2010).

У 1795 г. вёска, 5 жыхароў, царк. ўласнасць. У 1858 г. вёска маёнтка Самуэлева, уласнасць кн. П.Вітгенштэйна. У 1908 г. 12 двароў, 86 жыхароў, у Дудзіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. ў вёсцы 10 двароў, 73 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак, у Крупіцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў засценку 13 двароў, 73 жыхары. З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім р-не. З 23.3.1932 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 7 жыхароў. У 1997 г. 19 гаспадарак, 27 жыхароў, у калгасе «Новы быт» (цэнтр – в. Крупіца).

**ЧЭРНІКІ** – вёска ў Юзуфоўскім с/с, за 21 км на Пн ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 1885 г. аднаселле, у Бяларуцкай вол. Мінскага павета. У 1897 г. 4 двары, 36 жыхароў. У 1917 г. засценак, 3 двары, 29 жыхароў, у Бяларуцкай вол. Мінскіх павета і губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 4 двары, 22 жыхары. З 13.6.1929 г. ў Рагаўскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Юзуфоўскім с/с. У 1997 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары, у саўгасе «Буцэвічы» (цэнтр – в. Юзуфава).

**ШАПЯЛІ** – вёска ў Юзуфоўскім с/с, за 28 км на Пн ад Мінска. 30 гаспадарак, 82 жыхары (2010).

У 1800 г. вёска, 7 двароў, 33 жыхары, уласнасць Валадковічаў, у Мінскім павеце. У 1858 г. вёска і маёнтак, уласнасць Я.Загорскай. У 1897 г. вёска, 13 двароў, 78 жыхароў і маёнтак, двор, 3 жыхары, у Бяларуцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 12 двароў, 89 жыхароў, у маёнтку двор, 11 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1941 г. 27 двароў, 116 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска – цэнтр Шапялёўскага с/с, з 20.10.1924 г. ў Лысагорскім с/с, з 21.8.1925 г. зноў у Шапялёўскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 22 двары, 82 жыхары, бакалейная лаўка. У 1930-я г. створаны калгас «Новы быт». З 18.1.1931 г. ў Заслаўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. ў Гатавінскім с/с. У 1941 г. 27 двароў, 116 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, акупанты спалілі 11 двароў, 22 жыхары вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Юзуфоўскім с/с. У 1997 г. 48 гаспадарак, 102 жыхары, у саўгасе «Буцэвічы» (цэнтр – в. Юзуфова). У 2010 г. клуб-б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. У 1964 г. на брацкай магіле сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены абеліск.

**ШАРШУНЫ** – вёска ў Рагаўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Мінска. 8 гаспадарак, 25 жыхароў (2010).

У 1791 г. вёска, 2 панскія двары, 12 дымоў, карчма, уласнасць А.Валіцкага, у Радашковіцкай парафіі Мінскіх павета і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас.

імперыі. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 42 жыхары, у Вілейскім павеце. У 1858 г. вёска — цэнтр маёнтка, 16 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Валіцкага. У 1870 г. адносілася да Бахметаўскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска, 10 двароў, 72 жыхары; фальварак, двор, 9 жыхароў; маёнтак, двор, 26 жыхароў, у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. ў вёсцы 16 двароў, 90 жыхароў, у маёнтку 4 двары, 19 жыхароў, на хутарах 1, 2, 3 — 3 двары, 6 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Шаршунскага с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары 5 двароў, 24 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінуў 21 жыхар. Пры вызваленні вёскі ў ліп. 1944 г. загінулі 4 танкісты. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 12 гаспадарак, 32 жыхары, у саўгасе «Савецкі» (цэнтр — в. Шаршуны). Абеліск на магіле 4 танкістаў (з 1949 г.) і помнік на ўшанаванне памяці 200 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну (з 1967 г.).

**ШАРШУНЫ** — пасёлак у Рагаўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Мінска, за 2 км на Пн ад в. Шаршуны. 162 гаспадаркі, 525 жыхароў (2010).

У 1997 г. 159 гаспадарак, 502 жыхары. У 2010 г. школа-сад, амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, магазін.

**ШУБНІКІ** — вёска ў Пятрышкаўскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Мінска. 48 гаспадарак, 130 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 11 двароў, 43 жыхары, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 34 душы мужчынскага полу, ва ўладанні М.Пшаздзецкага і А.Маставой, у 1858 г. — К.Вярбіцкага. У 1888 г. адкрыта школа граматы, у 1890 г. вучыліся 5 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. У 1897 г. 15 двароў, 91 жыхар, хлебазапасны магазін, карчма, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 20 двароў, 136 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Навадворскім, з 1927 г. ў Бардзынскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 23 двары, 141 жыхар. З 9.3.1932 г. ў Гуянскім, з 14.5.1936 г. ў Навадворскім с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У 1997 г. 34 гаспадаркі, 84 жыхары, у саўгасе імя Жданава (цэнтр — в. Пятрышкі). У 2010 г. фельч.-акушэрскі пункт, магазін.

**ШЧАДРОЎШЧЫНА** — вёска ў Рагаўскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Мінска. 6 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

У 1779 г. вёска, уласнасць біскупа Масальскага і шляхціча Валадковіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. вёска маёнтка Новы Двор, 28 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Валадковіча, у Вілейскім павеце. У 1870 г. адносілася да Галавачаўскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска, 24 двары, 132 жыхары і сядзіба — двор, 5 жыхароў у Радашковіцкай вол. Вілейскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. ў вёсцы 22 двары, 101 жыхар. У час Вял. Айч. вайны акупанты спалілі 9 двароў і знішчылі 12 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Шаршунскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 25 двароў, 128 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 27 двароў, 63 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г.

акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 12 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Рагаўскім с/с. У 1997 г. 10 гаспадарак, 23 жыхары, у саўгасе «Савецкі» (цэнтр — в. Шаршуны).

**ШЧАРБІНЫ** — вёска ў Лашанскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Мінска, на шашы Мінск—Маладзечна. 31 гаспадарка, 62 жыхары (2010).

У 1737 г. вёска, 19 двароў, уласнасць Г.Мацкевіча, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 34 двары, 196 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1815 г. вёска, 75 душ мужчынскага полу, у арэндзе І.Аляшкевіча, у 1858 г. ўласнасць Рэутаў і Л.Прушынскага. У 1897 г. 26 двароў, 189 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 34 двары, 213 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 47 двароў, 259 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 43 двары, 187 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 13 жыхароў. Акупанты спалілі 22 двары, знішчылі 15 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. У 1997 г. 57 гаспадарак, 89 жыхароў, у саўгасе імя Тэльмана (цэнтр — в. Лашаны). У 2010 г. магазін.

**ШЧОКІ** — вёска ў Пятрышкаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Мінска. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 1800, 1815 гг. вёска, 9 двароў, 57 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць Г.Кулакоўскага і П.Пятроўскага. У 1897 г. вёска, 9 двароў, 72 жыхары, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 15 двароў, 94 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Анусінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 17 двароў, 90 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 5 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 19.3.1974 г. ў Пятрышкаўскім с/с. У 1997 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў, у саўгасе імя Жданава (цэнтр — в. Пятрышкі).

**ШЧОМЫСЛІЦА** — вёска, цэнтр сельсавета, чыг. ст. Памыслішча, за 3 км на ПдЗ ад Мінска. 645 гаспадарак, 2011 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска, 2 двары, 11 жыхароў, уласнасць М.Пшаздзецкага, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць Г.Кулакоўскага. У 1897 г. вёска, 3 двары, 16 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета. У 1909 г. аднаселле, 3 двары, 24 жыхары. У 1917 г. ў фальварку двор, 78 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Падгайскім, з 1927 г. ў Прылуцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 1931 г. ў Падгайскім с/с. У 1926 г. на хутары 48 двароў, 213 жыхароў. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. ў Прылуцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 5 жыхароў. У ліп. 1944 г. ў баях за вызваленне вёскі загінулі 138 сав. воінаў, сярод іх воіны 95-й стралковай дывізіі. З 16.7.1954 г. вёска — цэнтр сельсавета. У 1997 г. 490 гаспадарак, 1491 жыхар, цэнтр. сядзіба калгаса «Шлях камунізма». У 2010 г. вёска — цэнтр

СВК «Шчомысліца», сярэдняя школа, дзіцячы сад, аддз. сувязі, ашчадны банк, амбулаторыя, магазін, занальная лесанасенная станцыя. У 1975 г. на брацкай магіле сав. воінаў пастаўлены абеліск і стэла.

**ШЧЫТОМІРЫЧЫ** – вёска ў Сеніцкім с/с, за 3 км на Пд ад Мінска, каля шашы Мінск – Слуцк. 159 гаспадарак, 371 жыхар (2010).

У 16 ст. сяло, шляхецкая ўласнасць у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1588 г. сяло, панскі двор, ва ўладанні А.Цібароўскага, П.Г.Горскага, П.М.Валадковічаўны. У 1600 г. сяло, уласнасць М.Валадковіча. У 1787 г. вёска, 12 двароў, 82 жыхары, фальварак, уласнасць кн. Радзівіла. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 19 двароў, 106 жыхароў, уласнасць М.Кастравіцкага, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць А.Тарчынскага. У 1897 г. вёска, 40 двароў, 262 жыхары і маёнтак – двор, 6 жыхароў, у Сеніцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 41 двор, 298 жыхароў, у маёнтку двор, 40 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Сеніцкім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 52 двары, 267 жыхароў, кузня. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінска. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 71 двор, 292 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях загінулі 26 жыхароў. Акупанты спалілі 11 двароў, знішчылі 10 жыхароў і 5 жыхароў вывезлі на прымусовую працу ў Германію. З 1988 г. ў калгасе імя Гастэлы (цэнтр – в. Сеніца). У 1997 г. 135 гаспадарак, 354 жыхары. У 2010 г. магазін.

**ШЫМКАВА** – вёска ў Лашанскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Мінска. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

У 1800 г. засценак, 5 двароў, 28 жыхароў, уласнасць І. і В. Валадковічаў, у Мінскім павеце. У 1815 г. ўласнасць К.Валадковіча. У 1858 г. вёска, 19 душ мужчынскага полу, уласнасць І.Валадковіча. У 1897 г. вёска, 13 двароў, 80 жыхароў, у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 17 двароў, 68 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабодскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 12 двароў, 68 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 6 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не, з 1980 г. ў Лашанскім с/с. У 1997 г. 7 гаспадарак, 19 жыхароў, у саўгасе «Броўкі» (цэнтр – в. Броўкі).

**ЮБІЛЕЙНЫ** – пасёлак у Сеніцкім с/с, за 2 км на Пд ад Мінска. 1225 гаспадарак, 3181 жыхар (2010).

Пасёлак засн. 21.1.1969 г. пры райсельгастэхніцы. У пасёлку размяшчаліся райаграпрамтэхніка Мінскага ПМК, рэсп. вучэбны цэнтр Дзяржаграпрама БССР (з 1990 г.). У 1997 г. 733 гаспадаркі, 2336 жыхароў. У 2010 г. Мінскі аграрна-камерцыйны каледж, сярэдняя школа, яслі-сад, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, паліклініка, магазіны, рэсп. хімлабараторыя.

**ЮЗУФОВА** – вёска, цэнтр сельсавета, за 16 км на ПнУ ад Мінска, на р. Чарняўка (упадае ў Заслаўскае вадасховішча). 214 гаспадарак, 686 жыхароў (2010).

У 1870 г. маёнтак, уласнасць Ніцецкай і Пятровіча, у Бяларуцкай вол. Мінскага павета. У 1897 г. маёнтак, 3 двары, 19 жыхароў і фальварак – 24 жыхары. У 1917 г. ў маёнтку двор, 10 жыхароў, у

фальварку двор, 4 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Гатавінскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары 5 двароў, 25 жыхароў, вадзяны млын, кравецкая майстэрня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінуў 1 жыхар. З 8.8.1959 г. ў Мінскім р-не. З 19.3.1974 г. вёска — цэнтр Юзуфоўскага с/с, цэнтр саўгаса «Буцэвічы». У 1997 г. 229 гаспадарак, 676 жыхароў У 2010 г. сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, магазін. У 1953 г. на брацкай магіле 74 сав. воінаў (сярод іх — воіны 352-й стралк. дывізіі) і партызан пастаўлены абеліск.

**ЮХНАЎКА** — вёска ў Калодзішчанскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Мінска, на р. Волма (прыток р. Свіслач). 309 гаспадарак, 750 жыхароў (2010).

У 1795 г. сяло, карчма, уласнасць Радзівілаў, у Мінскіх павеце і ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815 гг. вёска на правым беразе р. Волма, двор, 8 жыхароў, вадзяны млын, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. Размяшчалася каля «вялікай барысаўскай дарогі». У 1858 г. ўласнасць кн. П.Вітгенштэйна. У 1870 г. вёска, 7 душ мужчынскага полу, у Астрошыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1897 г. фальварак, двор, 14 жыхароў. У 1917 г. ў маёнтку двор, 14 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Калодзішчанскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары 6 двароў, 39 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. У 1941 г. ў вёсцы 84 двары, 336 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 27 жыхароў. У 1997 г. 249 гаспадарак, 713 жыхароў. У 2010 г. клуб, магазін, аддз. сувязі, лагеры адпачынку, санаторый. У 1984 г. на магіле сав. воіна пастаўлены абеліск.

**ЯКУБОВІЧЫ** — вёска ў Папярнянскім с/с, за 0,8 км на Пн ад Мінска, на р. Цна (прыток р. Свіслач). 29 гаспадарак, 60 жыхароў (2010).

У 1773 г. вёска, 5 двароў, шляхецкая ўласнасць, у Зацэньскай вол. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 7 двароў, 42 жыхары, уласнасць А.Хмары, у Мінскім павеце. У 1858 г. ўласнасць Г.Хмары. У 1897 г. 21 двор, 122 жыхары, хлебазапасны магазін, у Сёмкава-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1917 г. 22 двары, 149 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Папярнянскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага раёна Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. ў вёсцы 27 двароў, 142 жыхары. З 18.01.1931 г. ў Лагойскім, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 8 жыхароў. У 1997 г. 18 гаспадарак, 35 жыхароў, у саўгасе «Бальшавік» (цэнтр — в. Бальшавік). У 2010 г. магазін.

**ЯРКАВА** — вёска ў Ждановіцкім с/с, за 1,4 км на З ад Мінска. 16 двароў, 32 жыхары (2010).

У 1791 г. вёска, 18 дымоў, панскі двор, карчма, шляхецкая ўласнасць, у Каралішчавіцкай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800, 1815 гг. вёска, 18 двароў, 118 жыхароў, уласнасць К.Пётуха, у Мінскім павеце. У 1858 г. вёска — цэнтр маёнтка, уласнасць Н.Бранца-

вай. У 1887 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. вёска, 22 двары, 127 жыхароў, у Старасельскай вол. Мінскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 18 двароў, 120 жыхароў, у маёнтку 6 двароў, 62 жыхары, на хутары — 5 двароў, 39 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і ў сярэдзіне кастр. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Ратамскім с/с Заслаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. на хутары, 22 двары, 111 жыхароў. З 18.1.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. У 1941 г. 18 двароў, 48 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 5 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Ждановіцкім с/с, у складзе Ждановіцкага цяплічнага камбіната (цэнтр — в. Кунцаўшчына). У 1997 г. 12 гаспадарак, 32 жыхары.

**ЯЎХІМОВА** — вёска ў Лугаваслабодскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Мінска, каля шашы Мінск—Гомель. 26 гаспадарак, 68 жыхароў (2010).

У 1897 г. маёнтак, двор, 21 жыхар, фальварак — двор, 31 жыхар, у Смілавіцкай вол. Ігуменскага павета. У 1917 г. вёска, 15 двароў, 43 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. створана с.-г. камуна «Зара», адкрыта школа. З 20.8.1924 г. ў Замастоцкім нац. польскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 8.7.1931 г. ў Пухавіцкім р-не. З 25.7.1931 г. ўключана ў межы г. Мінск. З 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 7 жыхароў. З 5.3.1959 г. ў Абчакаўскім, з 8.6.1981 г. вёска ў Лугаваслабодскім с/с. У 1997 г. 18 гаспадарак, 33 жыхары, у саўгасе «Волма» (цэнтр — в. Лугавая Слабада).

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, КМФ-5, воп. 1, спр. 33; ф. 333, ф.142, воп. 1 спр. 723; 733, 753; воп. 1, спр. 2139; воп. 2, спр. 2139; воп. 4, спр. 676, ф. 694, воп. 7, спр. 1016; ф.1727, воп.1, спр. 8, 9,10, 33.

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 2, спр. 765, 4471, 4699, 4890, 6105, 6110, 6113; ф. 42, воп. 2, спр. 764, 812, 813, 815, 816, 817, 840, 843, 863.

Дзяржаўны гістарычны архіў Расійскай Федарацыі, ф. 1290, воп. 11, спр. 1336; ф. 1350, воп. 312, спр. 89.

Городские поселения в Российской империи. Т. 3. Санкт-Петербург, 1863.

Памятные книжки Минской губернии на 1864—1865 гг. Минск, 1863—1864; на 1870 г. Минск,1869; на 1873—1875 гг. Минск,1872—1874; на 1878 г. Минск,1877; на 1880—1881 гг. Минск,1879—1880; на 1883—1885 гг. Минск, 1882—1884; на 1887—1914. Минск, 1886—1913.

Обзоры Минской губернии за 1875—1913 гг. Минск, 1876—1914.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Санкт-Петербург, 1886.

Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Т. 14, 16, 18. Вильна, 1887, 1889, 1891.

Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. М., 1893.

Документы Московского архива. Т. 1. М., 1897.

Гошкевич И.И. Виленская губерния: полный список насел. мест со стат. данными о каждом поселении, составленный по официальным сведениям. Вильна, 1905.

Виленский временник. Кн. 3. Вильна, 1909.

Документы и материалы по истории Белоруссии (1795–1917). Т. 3. Минск, 1953.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. Минск, 1960.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861 гг). Минск,1966.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941–1944. Минск, 1984.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV–XVI вв.). Минск, 1993 (карта).
Памяць: Мінскі р-н. Мінск, 1998.
Кулагін А.М. Праваслаўныя храмы Беларусі. Мінск, 2007.



## МЯДЗЕЛЬСКІ РАЁН

Размешчаны на ПнЗ Мінскай вобл. Мяжуе з Пастаўскім і Докшыцкім р-намі Віцебскай, Астравецкім і Смаргонскім р-намі Гродзенскай, Вілейскім р-нам Мінскай абласцей. Пл. 2 тыс. км². Насельніцтва 28 745 чал. (з Мядзелем, 2011), у тым ліку 16 728 чал. у сельскіх населеных пунктах. У складзе раёна 310 населеных пунктаў, 10 сельсаветаў: Будслаўскі, Занарацкі, Княгінінскі, Крывіцкі, Мядзельскі, Нарацкі, Сваткаўскі, Слабодскі, Старагабскі, Сырмежскі, а таксама Свірскі пасялковы Савет. Цэнтр раёна — г. Мядзел. Па тэр. раёна праходзіць чыгунка Маладзечна—Полацк, аўтадарогі Вільнюс—Полацк, Мінск—Нарач.

Утвораны 15.1.1940 г. ў складзе Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічалі падп. антыфаш. групы, Мядзельскія падп. райкамы КП(б)Б (17.10.1943—4.7.1944) і ЛКСМБ (24.12.1942—4.7.1944), партыз. брыгады імя Варашылава, імя Даватара, імя Ракасоўскага, імя Будзённага, якія ўваходзілі ў Вілейскае партыз. злучэнне, асобныя партыз. атрады «Баявы», «Трэція» і інш. На тэр. раёна каля в. Чарэмшыцы базіраваліся Вілейскія падп. абкамы КП(б)Б (28.5.1943—пач. ліп. 1944) і ЛКСМБ (14.4.1943—5.7.1944). Вызвалены ў 1944 г. ў ходзе Полацкай (19.6—4.7.1944), Мінскай (29.6.—4.7.1944) і Вільнюскай (5—20.7.1944) наступальных аперацый войск 1-га Прыбалтыйскага і 3-га Бел. франтоў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 31.8.1959 г. да раёна далучаны г.п. Свір і частка сельсаветаў скасаванага Свірскага р-на. 20.1.1960 г. ўвайшоў у Мінскую вобл. 25.12.1962 г. да раёна далучаны г.п. Крывічы і частка сельсаветаў Крывіцкага р-на. У сучасных межах існуе з 1962 г.

Паверхня раёна раўнінна-ўзгорыстая. Большая яго частка ляжыць на Нарачана-Вілейскай нізіне, паўночная частка больш узгорыстая, у межах Свянцянскіх град. Пераважаюць вышыні 160—200 м. На З ад в. Ляшчынск знаходзіцца вышэйшы пункт раёна 233,9 м. З карысных выкапняў на Мядзельшчыне ёсць торф, пясчана-жвіровы матэрыял, будаўнічыя пяскі, сапрапелі, гліна, а таксама мінеральныя воды. Лясамі занята 82 тыс. га, балотамі — 11,2 тыс. га. Найбольшыя лясныя масівы размешчаны на Пд і ПдЗ раёна. Па тэр. раёна працякае шмат рэк, найбольшыя — Страча, Нарачанка, Вузлянка, Сэрвач, Мядзелка. На Мядзельшчыне налічваецца звыш 50 азёр, якія займаюць пл. 16,6 тыс. га. Выдзяляюцца групы азёр: Нарачанская, Мядзельская, Свірская, Балдукская. Найбольшыя азёры Нарач, Мястра, Свір, Мядзел, Баторына.



*Надвячорак на воз. Мястра.*



*Народны ансамбль «Натхненне».*



*Скульптура рыбака на набярэжнай воз. Мястра ў г. Мядзел.*



*Герб Мядзельскага раёна.*

Самае вялікае возера — Нарач, якое часта называюць «жамчужынай Беларусі» (пл. 79,6 км², даўжыня берагавой лініі каля 41 км). Вакол возера створана курортная зона, якая складае 29 % тэр. раёна (пл. 58,5 тыс. га). Воз. Нарач уключана ў Міжнародную праграму вывучэння і экалагічнага кантролю «Чалавек і біясфера» пад эгідай ЮНЕСКА. У 1999 г. на Мядзельшчыне створана Дзяржаўная прыродаахоўная ўстанова «Нацыянальны парк «Нарачанскі» (пл. 117,8 тыс. га, у тым ліку 52 тыс. га эксперыментальнай леса-паляўнічай гаспадаркі «Мядзел»). У раёне таксама знаходзяцца заказнікі: ландшафтны — «Блакітныя азёры», гідралагічныя — «Чарэмшыцы» і «Швакшты», біялагічныя — «Рудакова», «Мікасецкі», «Пасынкі»; ахоўваюцца тарфянікі: Баравікі, Баркаўшчызна, Буразнякі, Пронькі, Радняк і інш.

Аграпрамысловы комплекс раёна прадстаўлены 19 с.-г. прадпрыемствамі (з іх 11 камунальнай уласнасці, 5 рэфармаваных прадпрыемстваў, 3 падсобныя с.-г. арганізацыі; 2011). У раёне працуюць комплекс па вырошчванні буйной рагатай жывёлы ў ААТ «Будслаўскае» і свінакомплекс «Брусы», філіял ААТ «Вілейскі камбікормавы завод. Мядзельшчына спецыялізуецца на вытворчасці мяса, малака, збожжа, бульбы. Працуюць с.-г. прадпрыемствы «Птушкафабрыка «Новая зара», Нарачанскі філіял ААТ «Маладзечанскі малочны камбінат», унітарныя прадпрыемствы «Ілаўскае», «Нарачанскі завод напіткаў», доследная рыбная гаспадарка «Нарач» і інш.

Згодна з Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30.5.2005 г. Мядзельскі р-н разам з Вілейскім, Валожынскім і Маладзечанскім утварылі Нарачанскую турысцкую зону. У Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь увайшлі больш за 50 помнікаў гісторыі, археалогіі і архітэктуры, якія захаваліся на тэр. Мядзельшчыны. Сярод найбольш



*Раённыя дажынкі.*




*Лёгкаатлетычны прабег.*



Святочны канцэрт на злёце перадавікоў Мядзельскага р-на.



Выстаўка караваяў.

вядомых помнікаў архітэктуры — касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Будславе (1767—83), у галоўным алтары якога захоўваецца адна з асноўных каталіцкіх святыняў Беларусі: абраз Маці Божай Будслаўскай. З 2.7.1992 г. да цудатворнага абраза аднавіліся штогадовыя пілігрымкі.

У раёне дзейнічаюць (2011) Мядзельскі музей нар. славы, 26 устаноў клубнага тыпу, Цэнтр рамёстваў, Дом фальклору, 32 б-кі; Свірскі с.-г. прафесійны ліцэй, гімназія, 11 сярэдніх і 1 базавая школы, 5 комплексаў дзіцячы сад—сярэдняя школа, 11 дашкольных устаноў, Цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі; 4 бальніцы (у тым ліку цэнтральная раённая бальніца), 5 урачэбных амбулаторый, 16 фельчарска-акушэрскіх пунктаў; інш. ўстановы культуры, адукацыі, аховы здароўя. Ва ўстановах культуры раёна працуюць 7 калектываў са званнем «народны» і 1 са званнем «узорны». На беразе воз. Нарач размешчаны і працуюць санаторыі «Нарач», «Белая Русь», «Сосны», Нац. дзіцячы адукацыйна-аздараўленчы цэнтр «Зубраня» і інш. Створаны і дзейнічаюць аграсядзібы ў вёсках Абрамы, Балашы, Малая Сырмеж, Стахоўцы і г.д.). На тэр. раёна 169 помнікаў гісторыі і культуры, у т.л. 81 гісторыі, 26 архітэктуры, 62 археалогіі.

**МЯДЗЕЛ** — горад, цэнтр раёна і сельсавета. За 143 км на ПнЗ ад Мінска, 31 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, на шашы Маладзечна—Паставы. Рэльеф раўнінны, на паўн.-ўсх. беразе воз. Мястра. 6974 жыхары (2011).

У гіст. дакументах вядомы пад назвамі Мядзел, Мядзела, Мядзкол, Мядзюль. Назва, верагодна, паходзіць ад літ. medinis — лясны, драўляны. Стараж. Мядзел — пагранічны горад Полацкай зямлі, узнік на востраве воз. Мядзел у 11 ст. Да нашага часу захавалася гарадзішча авальнай формы, якое з 3-х бакоў амывалася вадой, а з 4-га (зах.) —




Каля ўезда ў г. Мядзел.



Набярэжная воз. Мястра ў г. Мядзел.



*Амфітэатр у г. Мядзел.*

мела роў (20 м). Драўляныя ўмацаванні горада тройчы гарэлі, у канцы 14 — пач. 15 ст. населены пункт спыніў сваё існаванне. Прычынай знікнення горада даследчыкі лічаць мор, які прымусіў жыхароў перасяліцца на бераг воз. Мястра, дзе было заснавана паселішча з такой жа назвай. На паўвостраве воз. Мястра знаходзяцца рэшткі гарадзішча, а ў 50—150 м на У і ПдУ ад яго — селішча, якое датуецца 10—17 ст. Па пісьмовых крыніцах Мядзел вядомы з сярэдзіны 15 ст. (да 20 ст. падзяляўся на Стары Мядзел і Новы Мядзел). З 1518 г. ўпамінаецца і маёнтак Мядзел. Стары Мядзел упамінаецца з 1454 г. ў сувязі з будаўніцтвам тут касцёла кашталянам трокскім А.Саковічам, якому вялікі князь літоўскі і кароль польскі Казімір IV (1440—92) аддаў Мядзел і Мядзельскую воласць у пажыццёвае ўладанне, а потым і яго сыну Багдану, ваяводу трокскаму, на вечнасць разам з воз. Нарач. З пасагам адзінай наследніцы, унучкі пана Багдана, Эльжбеты (Галжбеты) Саковіч Стары Мядзел з 1510 г. трапіў ва ўладанне яе мужа М.М.Радзівіла (1470—1521), ваяводы віленскага, які з 1518 г. карыстаўся тытулам князя свяшчэннай Рымскай імперыі на Ганязі (Гонёндзе) і Мядзелі. У 1500 г. падчас вайны паміж ВКЛ і маскоўскай дзяржавай Стары Мядзел быў разбураны і разрабаваны, касцёл, які некалі заснавалі Саковічы, згарэў. На яго месцы ў 1543 г. былі пабудаваны капліца і двор. Пасля 1584 г. Стары Мядзел належаў Францкевічам-Радзімінскім (Фронцкавічам з Радзіміна), з 1621 г. — Райскім, з 1680 г. — Грабоўскім, з 1687 г. — Кошчыцам, пазней — Дваржэцкім, Козел-Паклеўскім. З 1565—66 гг. у складзе Ашмянскага павета Віленскага ваяв. Паводле прывілеяў вялікага князя літоўскага і караля польскага Аўгуста III ад 2 студз. і 29 лют. 1736 г., Стары Мядзел — мястэчка, жыхарам якога дазвалялася праводзіць кірмашы і гандлёвыя дні. 6.10.1762 г. намаганнямі пана А.Кошчыца мястэчка атрымала каралеўскі прывілей на магдэбургскае права і дазвол на 4 кірмашы штогод. У 1754 г. былі пабудаваны мураваны касцёл (сучасны Маці Божай Шкаплернай) і кляштар кармелітаў (зачынены ў 1840 г., у 1846—60 гг. існаваў як жаночы праваслаўны манастыр, у 1866 г. былы касцёл перададзены праваслаўным, у 1920 г. вернуты католікам, але ў 1945 закрыты, з 1989 г. вернуты вернікам, рэстаўрыраваны. У 1791—93 гг. Стары Мядзел — мястэчка Завілейскага павета Віленскага ваяв. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі, у Вілейскім павеце Мінскай, з 1843 г. Віленскай губ. У 1800 г. ў мястэчку Стары Мядзел 40 двароў, 111 жыхароў. У 1843 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), дзе ў 1884 г. вучылася 25 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі. У 1844 г. — маёнтак (цэнтр — Стары Мядзел), у які ўваходзілі 3 фальваркі, пра-

*Троіцкая царква ў г. Мядзел.*



цавала вінакурня. У 1858 г. пабудаваны драўляны касцёл. У 1860 г. 227 жыхароў, у 1885 г. — 254 жыхары, дзейнічалі царква, малітоўны дом, мячэць, вінакурнае і піваварнае прадпрыемствы, заезны дом, царк.-прыходская школа (з 1886 г.), дзе ў 1896 г. вучылася 29 хлопчыкаў і 5 дзяўчынак. У 1897 г. 169 жыхароў, малітоўная школа, мячэць, паштовае аддз., 2 лаўкі, піцейны дом. У маёнтку Стары Мядзел — 33 жыхары. У 1904 г. мястэчка налічвала 229 жыхароў (у тым ліку 23 жыхары на тэр. Старамядзельскай царквы), у маёнтку 40 жыхароў.

Новы Мядзел вядомы з 1463 г., калі кн. Свірскі надзяліў касцёл, які дзейнічаў тут, зямлёй; каралеўскае ўладанне ў Віленскім ваяводстве, жыхары якога ўжо ў 2-й пал. 16 ст. карысталіся правамі мяшчан, выбіралі войта, а староста прызначаўся каралём. Новы Мядзел быў разбураны ў 1519 г. ў час вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1512—22 гг. У вер. 1550 г. «дзяржаўца» Мядзельскі і Маркаўскі Л.І.Роскі ў адпаведнасці з просьбай «войта і мяшчан гаспадарскіх» адвёў выган за «мястам». Драўляным мостам горад злучаўся з каралеўскім мураваным замкам, пабудаваным на востраве воз. Мястра ў 2-й пал. 16 — пач. 17 ст. Замак стаяў на пагорку, насып якога часткова штучна падвысілі, а схілы ўмацавалі глінай. Вакол замка з 3-х бакоў быў узведзены дадатковы абарончы вал з невялікімі землянымі бастыёнамі. Перад валам меўся шырокі і глыбокі роў, які злучаўся з воз. Мястра. Асаблівасцю Мядзельскага замка з'яўлялася тое, што яго ўмацаванні спалучалі як элементы зах.-еўрап. фартыфікацыі, так і мясц. абарончыя элементы. Пляцоўка замчышча ў форме выцягнутага прамавугольніка, была абнесена традыцыйным для Беларусі мурам. У паўд.-ўсх. куце замка размяшчалася вежа, з зах. боку да яе далучаўся плац шырынёй 10 м. Замак быў разбураны ў час Паўн. вайны 1700—21 гг.



*Касцёл Маці Божай Шкаплернай у г. Мядзел.*

У 1557 і 1569 г. Новы Мядзел упамінаецца ў ліку каралеўскіх уладанняў. У 1559 г. вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст надзяліў Мядзельскую Свята-Троіцкую царкву 2 валокамі зямлі. Гэты «заручны ліст» у 1683 г. пацвердзіў Ян III. З сак. 1588 г. Новы Мядзел у пажыццёвым уладанні Л.Сапегі, а з чэрв. 1593 г. — яго сына Яна. 20.2.1612 г. Жыгімонт III выдаў Мядзельскім мяшчанам прывілей, дзе былі вызначаны «розныя іх павіннасці, якія адносяцца да казны». Гэта грамата была пацверджана ў 1633 і 1661 гг. Уладзіславам III і Янам-Казімірам. З пач. 17 ст. да 1775 г. ў Новым Мядзелі адбываліся земскія суды, з 1661 г. — сеймікі. З 1742 г. староства Мядзельскае ў пажыццёвым валоданні Брастоўскага, з 1766 г. — М.Аскеркі, з 1777 г. — Ф.Праўскага. Згодна інвентару 1770 г. меўся рынак, 7 вуліц: Базарная, Замкавая, Віленская, Дунілавіцкая, Даўгінаўская, Царкоўная, Варас (Waras). З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі, уласнасць казны. У 1800 г. 77 двароў, 241 жыхар. У крас. 1831 г. ў час паўстання

1830—31 гг. атрад паўстанцаў (3 тыс. чалавек пяхоты і 300 чалавек кавалерыі) пад кіраўніцтвам С.Радзішэўскага пакінуў г. Вілейку і адышоў да Мядзела, дзе знаходзіўся некаторы час. У 1860 г. Новы Мядзел налічваў 86 двароў, 613 жыхароў, у 1885 г. — 95 двароў, 713 жыхароў, быў цэнтрам воласці, але валасное праўленне размяшчалася ў засценку Мікасецк, меліся мураваная і драўляная цэрквы, касцёл, сінагога, капліца, багадзельня, 4 лаўкі, 4 заезныя дамы, нар. вучылішча (адкрыта ў 1848 г., размяшчалася ў наёмным будынку), дзе ў 1866 г. вучыліся 52 хлопчыкі, у 1896 г. — 83 хлопчыкі, 14 дзяўчынак. У 1897 г. — 1164 жыхары. Праводзілася 8 кірмашоў у год, таржкі па нядзелях, працавалі паштовае аддз. і станцыя на дарозе Паставы—Мядзел, фельч. пункт, майстэрні па пашыве жаночага адзення і шапак, 7 лавак, 6 піцейных дамоў. Побач знаходзіліся 2 сядзібы (5 двароў, 30 жыхароў).



*М.Г.Захарэвіч.*

У 1-ю сусветную вайну недалёка ад Мядзела рас. войскі правялі ў 1916 г. Нарачанскую аперацыю. У сак.—снеж. 1918 г. акупіраваны германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, мястэчка, цэнтр гміны Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. — Стары Мядзел і Новы Мядзел налічвалі 170 двароў, 825 жыхароў, дзейнічалі 2 касцёлы, царква, сінагога, гарбарня, аптэка, млын. У падполлі вёў работу камітэт КПЗБ. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 120 дамоў, 1290 жыхароў, 2 лесапільні, 2 цагельні, 4 паравыя і 2 вадзяныя млыны, клуб, бальніца, пошта. З 15.1.1940 г. цэнтр раёна, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 17.11.1959 г. гар. пас., цэнтр пас. Савета да 25.1.1996 г. З 30.12.1998 г. горад. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1941 г. гітлераўцы расстралялі 80 жыхароў. У вер. 1942 г. партызаны брыгады імя К.Я.Варашылава разграмілі ў Мядзелі варожы гарнізон. Летам 1943 г. літ. партызаны разам з байцамі брыгады імя К.Я.Варашылава зноў зрабілі налёт на Мядзельскі гарнізон. Да канца 1943 г. брыгада К.Я.Варашылава надзейна блакіравала гарнізон. Некалькі месяцаў харчанне і боепрыпасы для яго дастаўляліся толькі самалётамі. Мядзельскія падпольшчыкі вынеслі са складоў ворага ўзрыўчатку і перадалі яе партызанам, правялі шэраг дыверсій. Неаднаразовыя спробы гітлераўцаў прарвацца ў сак. 1944 г. з Пастаў у Мядзел заканчваліся праваламі. Вызвалены 4.7.1944 г. сумеснымі дзеяннямі партызан і воінаў Чырвонай Арміі. За час акупацыі гітлераўцы знішчылі 117 жыхароў, 15 землякоў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. На вул. 1 Мая пахавана 169 воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні Мядзела і раёна. Пасля вызвалення ў 1944 г. адноўлена Мядзельская МТС, арганізаваная ў 1939 г. У 1946 г. ў Мядзелі 121 дом, 26,8 тыс. жыхароў, у 1950 г. 165 дамоў. У 1949 г. арганізаваны калгас «17 Верасня». Створаны ў 1950 г. палітаддзел МТС выдаваў газету «Калгасная праўда». Дзейнічалі Дом культуры, аддз. сувязі і ашчаднага банка, раённая з фондам звыш 50 тыс. кніг і дзіцячая з фондам звыш 23 тыс. кніг б-кі, Дом быту, комплексна-прыёмны пункт бытавога абслугоўвання насельніцтва, спарт., муз. і агульнаадукацыйная сярэдняя школы, вучэбна-вытворчы камбінат, Дом піянераў і школьнікаў, 4 дзіцячыя сады, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, бальніца, пункт хуткай медыцынскай дапамогі, паліклініка, аптэка, універмаг, 10 магазінаў, гасцініца, Музей нар. славы, рэдакцыя раённай газ. «Нарачанская Зара». 13.3.1985 г. ў склад Мядзела ўключана в. Навасёлкі (вядома па пісьмовых крыніцах з 1800 г., налічвала 29 двароў, 170 жыхароў, з'ўлялася ўласнасцю казны).

У 2011 г. працавалі ААТ «Мядзельаграсэрвіс» і «Мядзельскае аграпрамэнерга», раённае вытворчае УП «Мядзельская ЖКГ», КУП «Мядзельскі раённы камбінат бытавога абслугоўвання» і інш.; цэнтр. раённая бальніца, паліклініка, 4 аптэкі; гімназія-інтэрнат, 2 сярэднія школы, 3 дзіцячыя садкі, Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, Цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, Цэнтр турызму, музей нар. славы, дзіцячая школа мастацтваў і інш. Помнік архітэктуры: касцёл Маці Божай Шкаплернай (18 ст.). Радзіма бел. археолага Я.Г.Звяругі (4.9.1928–4.8.2011), доктара філалагічных навук, мовазнаўцы І.С.Роўды (н. 13.6.1953 г.), нар. артысткі Беларусі М.Г.Захарэвіч (н. 28.11.1936 г. ў в. Навасёлкі; цяпер у межах горада). У складзе сельсавета 46 населеных пунктаў.

**АБРАМЫ** – вёска ў Нарацкім с/с. За 25 км на З ад Мядзела, 61 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна–Полацк, 150 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску працякае ручай Першы (прыток р. Малінаўка). 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1847 г. вёска, 3 двары, 30 жыхароў, уладанне памешчыцы Івановай. У 1897 г. 7 двароў, 55 жыхароў, у Занарацкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У вер. 1915–1918 гг. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Шэметаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 5.8.1954 г. ў Сырмежскім, з 31.1.2004 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. ўтвораны калгас «Светлы шлях» (цэнтр – в. Малая Сырмеж). У 1960 г. 40 жыхароў. У 1961 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 32 жыхары, з 1973 г. ў складзе калгаса імя М.І.Калініна. У 1997 г. 10 гаспадарак, 15 жыхароў.

**АЗАРКІ-ДВОРЫШЧА** – вёска ў Мядзельскім с/с. За 13 км на ПдУ ад Мядзела, 22 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 153 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З – воз. Баторына. 11 гаспадарак, 25 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. Згодна інвентару Мядзельскага староства 1770 г. – вёска, 9 сем'яў, у Ашмянскім павеце Віленскага ваяводства Рэчы Паспалітай. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1800 г. в. Азаркі Дваровыя, 8 двароў, 44 жыхары, уласнасць казны. У 1897 г. 16 двароў, 119 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 136 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяводства. У 1921 г. 22 двары, 138 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Лук'янавіцкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. арганізаваны калгас «4-я Пяцігодка», адкрыты магазін. У 1950 г. цэнтр узбуйненага калгаса «Чырвоны Сцяг». З 1954 г. ў складзе калгаса «Пераможца» (цэнтр – в. Лук'янавічы), які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Лук'янавічы» (зараз ААТ «Лук'янавічы»). У 1970 г. 69 жыхароў. У 1997 г. 19 гаспадарак, 31 жыхар.

**АЗАРКІ-ПУДАВІНКА** – вёска ў Мядзельскім с/с. За 11 км на ПдУ ад Мядзела, 22 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 152 км ад



*Я.Г.Звяруга.*

Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ – воз. Баторына. 22 гаспадаркі, 33 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. Упамінаецца ў інвентары Мядзельскага старасства 1770 г. як вёска (8 сем'яў) Ашмянскага павета Віленскага ваяводства Рэчы Паспалітай. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1868 г. 13 двароў, 107 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. 35 двароў, 221 жыхар. У 1904 г. 228 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 46 двароў, 219 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Лук'янавіцкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё». З 1954 г. ў складзе калгаса «Пераможца» (цэнтр – в. Лук'янавічы), які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Лу'янавічы» (цяпер ААТ «Лук'янавічы»). У 1970 г. 155 жыхароў. У 1997 г. 30 гаспадарак, 58 жыхароў.

**АЗАРКІ СТАРЫЯ** – вёска ў Мядзельскім с/с. За 10 км на ПдУ ад Мядзела, 23 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 151 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З – воз. Баторына. З гаспадаркі, 10 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца з 1770 г. як вёска (6 сем'яў) Мядзельскага старааства Ашмянскага павета Віленскага ваяв. Рэчы Паспалітай. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1800 г. в. Старыя Азеркі, 5 двароў, 44 жыхары, уласнасць казны. У 1868 г. 7 двароў, 68 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. вёска, 15 двароў, 97 жыхароў. У 1900 г. адкрыта школа граматы. З лют. да снеж. 1918 г. вёска акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 22 двары, 108 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Лук'янавіцкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. 25 двароў, 109 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 гітлераўцы спалілі 11 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1948 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг». З 1954 г. ў складзе калгаса «Пераможца» (цэнтр – в. Лук'янавічы), які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Лук'янаічы» (зараз ААТ «Лук'янавічы»). У 1970 г. 75 жыхароў. У 1997 г. 16 гаспадарак, 26 жыхароў.

**АЛЕШКІ** – вёска ў Будслаўскім с/с. За 69 км на ПдУ ад Мядзела, 3 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна – Полацк, 134 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд працякае р. Сэрвач (упадае ў Вілейскае вадасховішча). 11 гаспадарак, 19 жыхароў (2011).

Вядома з 17 ст. Упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах як вёска ў 1674 г., затым у 1724 г. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 5 двароў, 35 жыхароў. У 1848 г. 7 двароў, 79 жыхароў, у складзе маёнтка Будслаў Вілейскага павета, уладанне І.І.Аскеркі. У 1868 г. – 151 жыхар. У 1908 г. 22 двары, 154 жыхары, у Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Будслаўскай гміне Дунілавіцкага, з 1925 г. Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 24 двары, 138 жыхароў. З

1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Будслаўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. Мядзельскага р-на. У 1939 г. вёска (25 двароў, 120 жыхароў), хутар (3 жыхары) і чыг. старожка (3 жыхары). У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. ўтвораны калгас «Чырвоны Маяк». У 1960 г. 101 жыхар. З 1965 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Будслаўскі» (цэнтр — в. Будслаў), які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Будслаўскі» (цяпер ААТ «Будслаўскае»). У 1970 г. 99 жыхароў. У 1997 г. 23 гаспадаркі, 40 жыхароў.

**АЛЕШКІ** — вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 52 км на З ад Мядзела, 28 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 182 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску працякае р. Страча (прыток р. Вілія), у якую на Пд населенага пункта ўпадае р. Тушанка. 18 гаспадарак, 39 жыхароў (2011).

За 0,5 км на ПдЗ ад вёскі, на правым беразе р. Страча знаходзіцца курганны могільнік (12 насыпаў), які датуецца 2-й пал. 1-га тыс. н.э. Вядома з 18 ст. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 2 двары, 15 жыхароў, уладанне М.Халхоўскага. У 1868 г. 16 двароў, 131 жыхар, у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1897 г. 17 двароў, 174 жыхары. У 1904 г. вёска Свірскай вол. (170 жыхароў), маёнтак Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета (16 жыхароў). У 1915—1918 гг. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Свірскім с/с (з 25.4.1968 г. пас. Савет) Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. вёска (38 двароў, 156 жыхароў), былы маёнтак (7 двароў, 15 жыхароў). У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 3 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1950 г. 10 гаспадарак з вёсак Яцынкі, Шылакі і Алешкі аб'ядналіся ў калгас імя А.Я.Вышынскага. З 1960 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Свір» (цэнтр — г.п. Свір), які 3.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (цяпер ААТ «Свір-агра»). 12.11.1966 г. да в. Алешкі далучаны вёскі Яцынкі і Шылакі. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1970 г. 127 жыхароў. У 1997 г. 24 гаспадаркі, 49 жыхароў.

**АЛЬЖУТКІ** — вёска ў Будслаўскім с/с. За 73 км на ПдУ Мядзела, 7 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 139 км ад Мінска, на шашы Крывічы—Будслаў. Рэльеф раўнінны, на У працякае р. Сэрвач (упадае ў Вілейскае вадасховішча). 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2011).

За 0,7 км на ПдЗ ад вёскі, за 150 м злева ад дарогі ў в. Няверы, знаходзіцца курганны могільнік (5 насыпаў, мясц. назва Французы або Васьковы Горкі). Вядома з 19 ст. У 1897 г. в. Ельжуткі, 2 двары, 11 жыхароў, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 2 вёскі (6 і 11 жыхароў), а таксама сядзіба (6 жыхароў), у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета. У 1921 г. 13 двароў, 76 жыхароў. У 1939 г. хутары, 24 гаспадаркі, 83 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, а 12.10.1940 г. ў Пузырскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 23.5.1952 г. ў Будслаўскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. ўтвораны калгас імя

Г.Дзімітрава. У 1960 г. 102 жыхары. З 1965 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Будслаўскі» (цэнтр — в. Будслаў), які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Будслаўскі» (зараз ААТ «Будслаўскае»). У 1970 г. 273 жыхары. У 1997 г. 14 гаспадарак, 25 жыхароў.

**АЛЬСЕВІЧЫ** — вёска ў Сваткаўскім с/с. За 10 км на ПдУ ад Мядзела, 20 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1779 г. в. Ольшавічы, 8 двароў, 76 жыхароў, аднайменны фальварак, карчма, млын, уласнасць казны. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 10 двароў, 121 жыхар. У 1897 г. 47 двароў, 290 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета. З 1899 г. працавала школа граматы. У 1904 г. ў вёсцы 314 жыхароў, у 1908 г. — 46 двароў, 262 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 45 двароў, 255 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, 12.10.1940 ў Брусаўскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.10.1973 г. ў Вузлянскім, з 23.3.1967 г. Сваткаўскім с/с. У 1940 г. 55 двароў, 223 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 3 двары, знішчылі 2 жыхароў. У 1947 г. пачала працаваць хата-чытальня. У 1949 г. ўтвораны калгас «Іскра». З 15.4.1954 г. ў складзе калгаса імя І.В.Сталіна (цэнтр — в. Вузла; з 9.11.1961 г. імя У.І.Леніна, з 1988 г. цэнтр — в. Сваткі), з 1994 г. ў аграфірме «Зара», з сак. 1997 г. ў с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка (цэнтр — в. Сваткі); з 5.9.1997 г. ў межах свінаводчага комплексу «Брусы» філіял ААТ «Вілейскі камбікормавы завод» (цэнтр — в. Брусы). У 1960 г. 184 жыхары. У 1970 г. 152 жыхары. У 1997 г. 23 гаспадаркі, 33 жыхары.

**АЛЬХОЎКА** — вёска ў Будслаўскім с/с. За 71 км на ПдУ ад Мядзела, 5 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна — Полацк, 136 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На Пд працякае р. Сэрвач (упадае ў Вілейскае вадасховішча). 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 4 двары, 13 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. 5 двароў, 37 жыхароў, у Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 10 двароў, 44 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Будслаўскай гміне Дунілавіцкага, з 1925 г. Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 10 двароў, 42 жыхары. Дзейнічала картонная фабрыка «Альхоўка». З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Будслаўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. Мядзельскага р-на. У 1939 г. калонія (10 двароў, 48 жыхароў), хутар (4 гаспадаркі, 14 жыхароў). У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пасля вызвалення аднавіла працу картонная фабрыка, электраўстаноўка якой у 1947 г. дала электрасвятло в. Альхоўка. Пры фабрыцы ў 1949 г. быў адкрыты магазін. У 1946—49 гг. пабудаваны новая школа, клуб, грамадская лазня, радыёвузел, бібліятэчка-перасоўка. У 1949 г. ўтвораны калгас імя С.Лазо. У 1960 г. 74 жыхары. З 1965 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Будслаўскі» (цэнтр — в. Будслаў), які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Будслаўскі» (цяпер ААТ «Будслаўскае»). У 1970 г. 83 жыхары. У 1997 г. 22 гаспадаркі, 43 жыхары.

**АЛЬШЭВА** — вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 53 км на ПнЗ ад Мядзела,

14 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 192 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн працякае р. Страча (прыток р. Вілія). 16 гаспадарак, 25 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1801 г. вёска, 20 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць казны. У 1847 г. цэнтр маёнтка (уладанне Хамінскага), у які ўваходзілі таксама фальварак Бакшты, 4 засценкі (Янаў, Харэўшчызна, Таўканец, Кавалеўшчызна) і 8 вёсак. У маёнтку, што знаходзіўся побач з вёскай, былі гаспадарскі дом, 2 флігелі, амбар, кузня, 2 гумны з малатарняй, двор для жывёлы, вадзяны млын, вінакурня (заснавана ў 1800 г., у 1890 г. пастаўлена паравая машына, 12 рабочых), хлебазапасны магазін. У 1880 г. пачалі дзейнічаць сукнавальня і лесапільня. Руіны сядзібы, узведзенай на беразе р. Страча ў 1887–93 гг., зараз з'яўляюцца помнікам архітэктуры, а парк (збярогся часткова) — помнікам прыроды. У 1897 г. 135 жыхароў, у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Куцкоўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Свірскім, а з 5.8.1954 г. ў Канстанцінаўскім с/с, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З вяскоўцы загінулі на франтах. У вер. 1942 г. ў лесе каля былога маёнтка базіраваліся партызаны на чале з Ф.Г.Маркавым. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1960 г. 177 жыхароў. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Канстанцінава» (цэнтр — в. Камарова), з 28.8.2002 г. ў калгасе «Свір» (цэнтр — г.п. Свір), які 3.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (зараз ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 135 жыхароў. У 1997 г. 29 гаспадарак, 51 жыхар.

**АНДРЭЙКІ** — вёска ў Сваткаўскім с/с. За 20 км на Пд ад Мядзела, 18 км ад чыг. ст. Княгінін, на лініі Маладзечна-Полацк, 132 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 20 гаспадарак, 30 жыхароў (2011).

За 1 км на З ад вёскі, справа ад старой дарогі ў в. Вузла, у лесе знаходзяцца каменныя магілы (20), перакрытыя зверху каменнымі вымасткамі ці выкладзеныя камянямі па перыметры. На большасці магіл стаяць вертыкальныя каменныя пліты або плоскія камяні. Вёска вядома з 17 ст. У 1652 г. сяло Андрэйкавічы Вузлянскай вол., шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. сяло (30 двароў, 154 жыхары) і маёнтак М.Данілевіча, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1846 г. 30 двароў, 249 жыхароў, у складзе маёнтка Вузла Вілейскага павета, уладанне графа К.І.Тызенгаўза. У 1897 г. 73 двары, 395 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета. Працавала школа граматы, у якой у 1896 г. вучылася 20 хлопчыкаў і 8 дзяўчынак. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе

*Рэшткі сядзібнага дома ў в. Альшэва.*



Польшчы. У 1921 г. 81 двор, 4338 жыхароў, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (потым Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10. 1940 ў Брусаўскім, з 1.10.1973 г. ў Вузлянскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 23.3.1987 г. ў Сваткаўскім с/с. У 1940 г. 964 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і знішчылі 12 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінула на франтах і ў партыз. барацьбе. У 1949 г. арганізаваны калгас «Зорка». З 15.4.1954 г. ў складзе калгаса імя І.В.Сталіна, з 9.11.1961 — імя У.І.Леніна (з 1988 цэнтр — в. Сваткі), з 1994 г. ў аграфірме «Зара», з сак. 1997 г. ў с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка (цэнтр — в. Сваткі), з 5.9.1997 г. ў межах свінаводчага комплексу «Брусы» філіял ААТ «Вілейскі камбікормавы завод» (цэнтр — в. Брусы). У 1960 г. 281 жыхар. У 1966 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 237 жыхароў. У 1997 г. 42 гаспадаркі, 78 жыхароў.

**АНТАНІЗБЕРГ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 15 км на ПнЗ ад Мядзела, 36 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 191 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Нарач. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы, на Пд — воз. Нарач. 22 гаспадаркі, 56 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. Першыя ўпамінанні ў архіўных дакументах сведчаць аб тым, што тут першапачаткова размяшчаўся маёнтак, у якім у 1847 г. было 79 рэвізскіх душ, дзейнічала карчма, ва ўладанні братоў Галкаў, уваходзіў у Свянцянскі павет Віленскай губ. У 1869 г. 16 жыхароў, у Кабыльніцкай вол. У 1897 г. 2 двары, 26 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. сяляне вёсак Сіманы і Антанізберг арганізавалі калгас імя У.І.Леніна. У 1960 г. 42 жыхары. У 1970 г. 43 жыхары. З 1979 г. ў складзе калгаса «Нарач» (цэнтр — в.Чараўкі), з 30.6.1998 г. да 20.12.2006 г. — вопытнага рыбгаса «Нарач», які 28.7.1999 г. ўвайшоў у падпарадкаванне Нац. парка Нарачанскі (з 1.3.2000 РУП «Вопытная рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1997 г. 10 гаспадарак, 23 жыхары.

**АНТОНАВА** — вёска ў Будслаўскім с/с. За 74 км на ПдУ ад Мядзела, 3 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 134 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 8 гаспадарак, 23 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. пасёлак, 8 двароў, 43 жыхары, у Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. 11 двароў, 60 жыхароў, у Будслаўскай гміне Дунілавіцкага, з 1925 г. Вілейскага паветаў Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Вераб'ёўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 27.3.1959 г. ў Будслаўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. Мядзельскага р-на. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 80 жыхароў. З 1969 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Будслаўскі» (цэнтр — в. Будслаў), які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Будслаўскі» (зараз ААТ «Будслаўскае»). У 1970 г. 35 жыхароў. У 1997 г. 10 гаспадарак, 23 жыхары.

**АСТРАЎЛЯНЫ** — вёска ў Сырмежскім с/с. За 49 км на ПдЗ ад Мядзела,

40 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна – Полацк, 201 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і ПдЗ праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з воз. Вішнеўскае. 14 гаспадарак, 24 жыхары (2011).

За 0,5 км на ПдУ ад вёскі, каля балота, знаходзіцца гарадзішча, якое датуецца 1-й пал. 1-га тыс. Займае мыс марэннага ўзвышша, выцягнутага з ПдУ на ПнЗ. Да гарадзішча прымыкае селішча. Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска налічвала 29 двароў, 200 жыхароў, уваходзіла ў Шэметаўскую вол. Свянцянскага павета. У 1897 г. 25 двароў, 259 жыхароў. Побач знаходзіўся аднайменны фальварак памешчыка Скірмунта, 7 жыхароў. У 1901 г. адкрыта школа граматы. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. У 1935 адкрыта пачатковая школа. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сырмежскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. Мядзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. вёска (39 двароў, 168 жыхароў), хутар (9 двароў, 40 жыхароў). У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 жыхары загінулі на франтах. У ліст. 1949 г. створаны калгас імя Г.М.Маленкова. З 1954 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр – в. Буйкі), які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Вішнеўскае», з 31.7.2004 да 2008 г. с.-г. ўчастак «Вішнеўскае» вытворчага прыватнага УП «Цепласеці». У 1960 г. 137 жыхароў. У 1966 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 2 хутары (17 і 9 жыхароў). У 1997 г. 26 двароў, 47 жыхароў.

**БАГАЦЬКІ** – вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 43 км на З ад Мядзела, 31 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 193 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1788 г. в. Багаці, 31 двор, 164 жыхары, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1897 г. 34 двары, 235 жыхароў, у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёска, 202 жыхары. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Канстанцінаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 15.11.1957 г. ў Шэметаўскім с/с, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У 1940 г. вёска, 46 двароў, 211 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1949 г. арганізаваны калгас імя С.М.Кірава. У 1960 г. 146 жыхароў.

**БАДЗЕНІ** – вёска ў Старагабскім с/с. За 16 км на У ад Мядзела, 35 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 192 км ад Мінска, на шашы Старыя Габы—Мядзел. Рэльеф раўнінны. 15 гаспадарак, 22 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. У 1770 г. вёска (12 сем'яў), у Мядзельскім старастве. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1868 г. 10 двароў, 96 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 178 жыхароў. У 1904 г. 172 жыхары, у 1908 г. – 205. З лют. да ліст. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 38 двароў, 202 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Дзягільскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 21.5.1951 г. ў Старагабскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г.

вёска, 426 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 10 вяскоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. У 1948 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава. У 1951 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. 158 жыхароў. З 19.4.1954 г. ў складзе калгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Зані), які 30.6.2006 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Зані» (зараз ААТ «Зані»). У 1970 г. 117 жыхароў. У 1997 г. 22 гаспадаркі, 39 жыхароў.

**БАКАЧЫ** — вёска ў Слабодскім с/с. За 15 км на ПнУ ад Мядзела, 47 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 171 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Ваўкалата. Рэльеф раўнінны. 11 гаспадарак, 21 жыхар (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 24 двары, 144 жыхары, побач размяшчаліся 2 двары, 13 жыхароў аколічнай шляхты. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 190 жыхароў, у Жаснянскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З 1901 г. працавала школа граматы. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. 45 двароў, 215 жыхароў, у Жаснянскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Дзягільскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2007 г. ў Слабодскім с/с. У 1940 г. вёска, 326 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1947 г. адкрыта пач. школа. У 1949 г. ўтвораны калгас «Маладая Гвардыя» У 1960 г. 130 жыхароў. З 1961 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Дзягілі), які 30.6.1992 г. быў рэарганізаваны ў дапаможную гаспадарку «Дзягілі» Мінскага маторнага завода (з лют. 2009 г. — с.-г. філіял «Дзягілі» ААТ «Мінскі маторны завод»). У 1963 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 131 жыхар. У 1997 г. 31 гаспадарка, 58 жыхароў.

**БАКЛАІ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 2 км на ПдУ ад Мядзела, 23 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 145 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і З — воз. Баторына. 20 гаспадарак, 33 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. У 1770 г. вёска (10 сем'яў), у Мядзельскім старастве Ашмянскага павета Віленскага ваяв. Рэчы Паспалітай. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1801 г. в. Букле, уласнасць казны. У 1868 г. 8 двароў, 74 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 115 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета. У 1904 г. 124 жыхары, у 1907 — 142. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 20 двароў, 100 жыхароў. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет) Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. створаны калгас «Улада Саветаў». З 1960 г. ў складзе калгаса «Сталінскі шлях», з 20.11.1961 г. — «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Баяры), які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Баярскі маяк», а 16.9.2005 г. ўвайшоў у межы с.-г. філіяла ААТ «Мядзельаграсэрвіс». У 1970 г. 80 жыхароў. У 1997 г. 23 гаспадаркі, 49 жыхароў.

**БАКШТЫ** — вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 51 км на З ад Мядзела, 16 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 194 км ад Мінска, на шашы Занарач—Ольшава. Рэльеф раўнінны. 11 гаспадарак, 30 жыхароў (2011).

Вядома з 16 ст. У 1567 г. сяло ў Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1639 г. сяло і маёнтак, у 1771 г. мястэчка. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1847 г. фальварак маёнтка Альшэва Свянцянскага павета Віленскай губ., уладанне С.Хамінскага. У канцы 19 ст. ў фальварку працавала школа граматы, у якой у 1896 г. вучылася 4 хлопчыкі і 1 дзяўчынка. У 1904 г. 7 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Куцькоўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Свірскім, з 5.8.1954 г. ў Канстанцінаўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 41 жыхар. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 — калгаса «Канстанцінава» (цэнтр — в. Камарова), які 3.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (цяпер ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 35 жыхароў. У 1997 г. 11 гаспадарак, 31 жыхар.

**БАЛАШЫ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 35 км на ПдЗ ад Мядзела, 60 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна—Полацк, 203 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Малінаўка, якая ўпадае ў воз. Шаметава. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. 13 двароў, 35 жыхароў, у Занарацкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Побач размяшчаўся аднайменны засценак, 5 двароў, 39 жыхароў. Дзейнічала царк.-прыходская школа, у якой у 1896 г. вучыліся 13 хлопчыкаў. У 1908 г. вёскі Балашы-1 (6 двароў, 97 жыхароў) і Балашы-2 (2 двары, 33 жыхары). З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. У 1927 г. арганізавана ячэйка КПЗБ. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Шэметаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. Мядзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 5.8.1954 г. ў Сырмежскім, з 31.1.2004 г. ў Нарацкім с/с. У 1940 г. вёска, 19 двароў, 110 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З жыхары загінулі на франтах. У 1949 г. ўтвораны калгас. У 1960 г. 66 жыхароў. У 1961 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 58 жыхароў. У 1997 г. 11 гаспадарак, 18 жыхароў.

**БАЛДУК** — хутар у Свірскім пас. Савеце. За 56 км на З ад Мядзела, 36 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Крыляўшчызна. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы, на Пн — воз. Балдук. На хутары ніхто не жыве.

Вядома з пач. 20 ст. У 1904 г. засценкі Балдук (9 жыхароў) і Балдукі (9 жыхароў), у Лынтупскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіраваны германскімі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. — у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Куцькоўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Свірскім, з 5.8.1954 г. Канстанцінаўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 29 жыхароў. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Канстанцінава» (цэнтр — в. Камарова), з 28.8.2002 г. ў калгасе «Свір» (цэнтр — г.п. Свір), які 3.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (цяпер ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 14 жыхароў. У 1997 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары.

**БАЛТУЗЫ** — вёска ў Сырмежскім с/с. За 49 км на ПдЗ ад Мядзела, 37 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна—Полацк. Рэльеф раўнінны. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 26 двароў, 200 жыхароў, у Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета. У 1897 г. 49 двароў, 261 жыхар, у 1908 г. 330 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сырмежскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. Мядзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. вёска, 63 двары, 257 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 жыхары загінулі на франтах. У студз. 1950 г. арганізаваны калгас імя А.С.Пушкіна. У 1960 г. 171 жыхар. З 1954 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Буйкі), які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Вішнеўскае» (у 2004—08 гг. с.-г. ўчастак вытворчага прыватнага УП «Цепласеці»). У 1966 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 124 жыхары. У 1997 г. 22 гаспадаркі, 37 жыхароў.

**БАЛЬКАЎШЧЫНА** — вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 54 км на З ад Мядзела, 27 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 187 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 32 гаспадаркі, 51 жыхар (2011).

Вядома з 17 ст. У 1690 г. маёнтак Болькаўшчызна. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1868 г. в. Балькаўшчызна, 28 двароў, 199 жыхароў, у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 52 двары, 331 жыхар, у 1907 г. 56 двароў, 352 жыхары. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Канстанцінаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 5.8.1954 г. ў Шэметаўскім с/с, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З вяскоўцы загінулі на франтах. У 1949 г. арганізаваны калгас імя В.Васілеўскай. У 1960 г. 266 жыхароў. З 1960 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Свір» (цэнтр — г.п. Свір), які 3.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (зараз ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. в. Балькаўшчызна, 240 жыхароў. У 1997 г. 22 гаспадаркі, 37 жыхароў.

**БАРАВІКІ** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 46 км на ПдУ ад Мядзела, 9 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 145 км ад Мінска, на шашы Крывічы—Будслаў. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ працякае р. Сэрвеч (упадае ў Вілейскае вадасховішча). 21 гаспадарка, 34 жыхары (2011).

Вядома з 17 ст. У 1606 г. сяло, у складзе маёнтка Крывічы. У 1639 г. 19 двароў, 17 валок зямлі, уласнасць Радзівілаў. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1799 г. вёска, 16 двароў, 94 жыхары, аколіца, 2 двары, 23 жыхары. Дзейнічала школа граматы, у якой у 1896 г. вучылася 9 хлопчыкаў. У 1897 г. 32 двары, 171 жыхар, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 211, у 1908 г. 237 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1939 г. вёска, 58 двароў, 236 жыхароў; хутар, 2 двары, 4 жыхары. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Сіўцаўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай

абласцей, з 25.12.1962 г. Мядзельскага р-на, з 8.6.1963 г. ў Крывіцкім пас. Савеце. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. ўтвораны калгас «Сцяг Перамогі». У 1956 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1960 г. 213 жыхароў. З 1974 г. ў складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Прундікі), які 23.03.1998 г. быў рэарганізаваны ў с.-г. калектыўнае прадпрыемства «Беларусь» (зараз ААТ «Прундікі-агра»). У 1970 г. 166 жыхароў. У 1997 г. 31 гаспадарка, 66 жыхароў.

**БАРАВЫЯ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 30 км на З ад Мядзела, 50 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 150 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У — воз. Нарач. 88 гаспадарак, 214 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 6 двароў, 76 жыхароў, у Занарацкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. У 1935—36 гг. вяскоўцы ўдзельнічалі ў Нарачанскім выступленні рыбакоў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Шэметаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 5.8.1954 г. ў Сырмежскім с/с, з 31.8.1959 г. Мядзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.2.1971 г. ў Нарацкім курортна-пасялковым Савеце (да 29.9.1999). У 1940 г. засценак, 9 двароў, 44 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 26 жыхароў, у 1970 г. — 29. У 1967 г. электрыфікавана, у 1968 г. радыёфікавана. На паўн. ускраіне вёскі, на беразе воз. размешчаны Рэсп. дзіцячы пульманалагічны цэнтр медыцынскай рэабілітацыі. На З, на беразе возера знаходзіцца Нац. дзіцячы адукацыйна-аздараўленчы цэнтр «Зубраня». Каля вёскі так-



*Возера Нарач каля в. Баравыя.*

сама размяшчаецца санаторый «Жураўлік».

**БАРКОЎШЧЫНА** — вёска ў Будслаўскім с/с. За 81 км на ПдУ ад Мядзела, 11 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк. Рэльеф раўнінны, на захадзе працякае р. Сэрвач, на паўн. ускраіне вёскі праходзіць чыгунка. 2 гаспадаркі, 7 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1800 г. сяло Беркаўшчызна, 3 двары, 19 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1846 г. 7 двароў, 68 жыхароў, у складзе аднайменнага маёнтка Вілейскага павета, уладанне памешчыка Шчапановіча. З 1886 г. працавала школа граматы. У 1897 г. вёска, 14 двароў, 108 жыхароў, хлебазапасны магазін, маёнтак (19 жыхароў) у Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1918 г. ў маёнтку была адчынена працоўная школа 1-й ступені. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Будслаўскай гміне Дунілавіцкага, з 1925 г. Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. вёска (19 двароў, 112 жыхароў), фальварак (13 жыхароў). У 1939 г. вёска (22 двары, 99 жыхароў), хутар (7 жыхароў). З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Будслаўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 23.5.1952 г. да 27.3.1959 г. ў Вераб'ёўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да

2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. ўтвораны калгас імя С.М.Кірава, з 1952 г. ў складзе калгаса «Зара», з 1959 г. — калгаса імя Ф.Энгельса. У 1960 г. 63 жыхары. З 1965 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Будслаўскі» (цэнтр — в. Будслаў), які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Будслаўскі» (цяпер ААТ «Будслаўскае»). У 1970 г. 63 жыхары. У 1997 г. 8 гаспадарак, 11 жыхароў.

**БАРЫСЫ** — вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 56 км на З ад Мядзела, 16 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 199 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 7 гаспадарак, 14 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1847 г. вёска (7 двароў, 55 жыхароў), у складзе маёнтка Алешкі, уладанне памешчыка Ст.Хамінскага. У 1868 г. 68 жыхароў, у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў. У 1907 г. 22 двары, 113 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Куцькоўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Свірскім, з 5.8.1954 г. ў Канстанцінаўскім с/с, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З вяскоўцы загінулі на франтах. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1950 г. ўтвораны калгас імя М.І.Калініна, у 1960 г. 112 жыхароў. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Канстанцінава» (цэнтр — в. Камарова), з 28.8.2002 г. ў калгасе «Свір» (цэнтр — г.п. Свір), які 3.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (зараз ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 67 жыхароў. У 1997 г. 13 гаспадарак, 20 жыхароў.

**БАЯРНАВІЧЫ** — вёска ў Сырмежскім с/с. За 48 км на ПдЗ ад Мядзела, 39 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна—Полацк, 200 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 9 двароў, 76 жыхароў, у Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. в. Баярынавічы, 16 двароў, 111 жыхароў. У 1904 г. 136 жыхароў, у 1908 г. — 139. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сырмежскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. Мядзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. вёска, 21 двор, 102 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на франтах. У вер. 1949 г. арганізаваны калгас імя В.П.Чкалава. У 1960 г. 87 жыхароў. З 1954 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Буйкі), які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Вішнеўскае» (у 2004—08 с.-г. участак «Вішнеўскае» вытворчага прыватнага УП «Цепласеці»). У 1966 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 45 жыхароў. У 1997 г. 7 гаспадарак, 14 жыхароў.

**БАЯРЫ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 3 км на Пн ад Мядзела, 24 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 163 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 122 гаспадаркі, 367 жыхароў (2011).

За 0,2 км на Пд ад зах. ускраіны вёскі знаходзіцца гарадзішча (мясц. назва Гарадок) культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 1-й пал. 1-га тыс. н.э. Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 27 двароў, 147



Ферма ў в. Баяры.

жыхароў, уладанне памешчыка М.Алопеўса. У 1897 г. ў вёсцы 34 двары, 205 жыхароў, у засценку Баяры (ён жа Верачата) 1 двор, 6 жыхароў. У другім засценку з той жа назвай 6 двароў, 39 жыхароў. У 1904 г. вёска (241 жыхар) і 2 засценкі Баяры (яны ж Верачата, 39 і 6 жыхароў), у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 55 двароў, 255 жыхароў. У 1936 г. ў вёсцы дзейнічала ячэйка КПЗБ (5 чалавек, сакратар Д.Ф.Багавец). З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Баярскага с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена сумеснымі дзеяннямі 277-й стралковай дывізіі 7-й гвардзейскай механізаванай брыгады і партыз. брыгад імя К.К.Ракасоўскага і С.М.Будзённага. У 1948 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, у 1949 г. пабудавана хата-чытальня, у 1952 г. — радыёвузел. З 11.2.1960 г. — цэнтр калгаса «Ленінскі шлях» (да 20.11.1961 г. «Сталінскі шлях»), які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Баярскі маяк» (з 16.9.2005 г. ў складзе с.-г. філіяла ААТ «Мядзельаграсервіс»). У 1970 г. 254 жыхары. У 1997 г. 137 гаспадарак, 339 жыхароў. Працуюць (2011) комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, магазін, б-ка-дом вольнага часу.

**БАЯРЫ** — вёска ў Старагабскім с/с. За 25 км на ПнУ ад Мядзела, 26 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 185 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Параф'янава. Рэльеф раўнінны. 26 гаспадарак, 38 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 28 двароў, 169 жыхароў, у Габскай вол. Вілейскага павета. З 1901 г. працавала школа граматы. У 1904 г. 296 жыхароў, у Жаснянскай вол. Вілейскага павета. У 1908 г. 44 двары, 344 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жаснянскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 56 двароў, 295 жыхароў. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1040 г. ў Старагабскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. вёска, 392 жыхары, створаны калгас імя І.В.Сталіна. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі на франтах. З 1954 г. ў складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Старыя Габы), які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Сінявокі край» (з 2004 г. УП «Джэнці кантракт лізінг», з 23.10.2008 г. — камунальнае с.-г. УП «Габы-агра». У 1950 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1952 г. пачаў працаваць радыёвузел. З 1954 г. ў складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Старыя Габы), які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Сінявокі край» (з 2004 г. УП «Джэнцікантракт лізінг», з 23.10.2008 г. — камунальнае с/г УП «Габы-агра». У 1960 г. 226 жыхароў. У

1970 г. 231 жыхар. У 1997 г. 43 гаспадаркі, 66 жыхароў.

**БЕЙМІШКІ** — хутар у Нарацкім с/с. За 22 км на ПнЗ ад Мядзела, 125 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 178 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На хутары ніхто не жыве.

Вядомы з 19 ст. У 1897 г. фальварак, 9 жыхароў, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіраваны германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Кабыльнікскім (з 28.8.1964 г. Нарацкім) с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 8 жыхароў, у 1970 г. — 2.

**БЕЛАЎШЧЫНА** — вёска ў Нарацкім с/с. За 36 км на ПнЗ ад Мядзела, 30 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 190 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. У вёсцы ніхто не жыве.

За 0,3—0,4 км на ПдЗ ад вёскі, на правым беразе безназоўнага ручая, знаходзіцца гарадзішча. Вядома з 19 ст. У 1868 г. 1 двор, 5 жыхароў. У 1897 г. 6 двароў, 44 жыхары, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 52 жыхары, у 1908 г. 60 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 29 жыхароў. З 1964 г. ў складзе калгаса імя Чапаева, з 1979 г. — калгаса «Нарач» (цэнтр — в. Чараўкі), з 30.6.1998 г. да 20.12.2006 г. ў доследным рыбгасе «Нарач» (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1970 г. 15 жыхароў. У 1997 г. 1 двор, 1 жыхар.

**БЕРАЖНЫЯ** — вёска ў Сырмежскім с/с. За 52 км на ПдЗ ад Мядзела, 42 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна—Полацк, 204 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы, на Пд — воз. Вішнеўскае. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 3 двары, 14 жыхароў, у Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета. У 1897 г. 5 двароў, 34 жыхары, у 1904 г. 30 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сырмежскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. Мядзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. ўтвораны калгас імя М.Горкага (цэнтр — в. Іванкі). У 1960 г. 23 жыхары. З 1954 ў складзе калгаса імя М.Горкага з цэнтрам у в. Буйкі, які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Вішнеўскае» (у 2004—08 гг. с.-г. ўчастак «Вішнеўскае» вытворчага прыватнага УП «Цепласеці»). У 1970 г. 20 жыхароў. У 1997 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў.

**БЕРАЗНЯКІ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 16 км на ПдУ ад Мядзела, 25 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 176 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. засценак, 2 двары, 15 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 24 жыхары. З лют.

да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 6 двароў, 41 жыхар. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лук'янавіцкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 у складзе калгаса «Пераможца» (цэнтр – в. Лук'янавічы), які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Лук'янавічы» (цяпер ААТ «Лук'янавічы»). У 1970 г. 22 жыхары. У 1997 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў.

**БОЛЬКАВА** – вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 52 км на З ад Мядзела, 25 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 185 км ад Мінска, на шашы Ольшава–Занарач. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы, на Пд – воз. Свір. 25 гаспадарак, 64 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1840 г. маёнтак у Свянцянскім павеце Віленскай губ., дзейнічала вінакурнае прадпрыемства (пазней вядома як Болькаўскі спіртзавод), дзе меўся паравы рухавік. У 1897 г. 4 двары, 63 жыхары, у Свірскай вол. Свянцянскага павета. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Канстанцінаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 5.8.1954 г. ў Шэметаўскім с/с, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У 1940 г. Болькаўшчызна, 65 двароў, 269 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 да 3.7.1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З вяскоўцы загінулі на франтах. У 1945 г. адноўлены спіртзавод. У 1960 г. 110 жыхароў. З 1960 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. – калгаса «Свір» (цэнтр – г.п. Свір), які 3.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (цяпер ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 139 жыхароў. У 1997 г. 38 гаспадарак, 100 жыхароў.

**БОНДА** – вёска ў Сваткаўскім с/с. За 22 км на Пд ад Мядзела, 17 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 136 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн працякае р. Вузлянка (прыток р. Нарач). 1 гаспадарка, 1 жыхар (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1800 г. в. Бонды, 4 двары, 26 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1846 г. 5 двароў, 43 жыхары, у складзе маёнтка Вузла Вілейскага павета, уладанне графа К.І.Тызенгаўза. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 71 жыхар. У 1904 г. ў складзе Мядзельскай вол. Вілейскага павета, 59 жыхароў, у 1908 г. 5 двароў, 67 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (потым Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 13 двароў, 85 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Брусаўскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 21.5.1951 г. ў Сваткаўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 1.10.1973 г. ў Вузлянскім, з 23.3.1987 г. зноў у Сваткаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. ўтвораны калгас «Запавет Леніна». З 1954 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (да 9.11.1961 г. імя І.В.Сталіна; з 1988 г. цэнтр – в. Сваткі), з 1994 г. ў аграфірме «Зара», з 1997 г. ў с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка, з 5.9.1997 г. ў межах свінаводчага комплексу «Брусы» філіял

ААТ «Вілейскі камбікормавы завод» (цэнтр – в. Брусы). У 1970 г. 52 жыхары. У 1997 г. 9 гаспадарак, 12 жыхароў. У 1960 г. 69 жыхароў. У 1966 г. электрыфікавана і радыёфікавана.

**БРУСЫ** – вёска ў Сваткаўскім с/с. За 12 км на Пд ад Мядзела, 18 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 120 км ад Мінска, на шашы Маладзечна–Мядзел. Рэльеф раўнінны. 85 гаспадарак, 193 жыхары (2011).

Вядома з 17 ст. У 1652 г. сяло, у Вузлянскай вол., шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 24 двары, 187 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1846 г. 27 двароў, 249 жыхароў, у складзе маёнтка Вузла Вілейскага павета, уладанне графа К.І.Тызенгаўза. З 1875 г. ў вёсцы працавала школа граматы, у якой у 1896 г. вучылася 23 хлопчыкі і 4 дзяўчынкі. Паводле перапісу 1897 г. вёска (66 двароў, 460 жыхароў, хлебазапасны магазін) і выселак (1 двор, 10 жыхароў), у Мядзельскай вол. Вілейскага павета. У 1904 г. вёска, 469 жыхароў, выселкі (уладанне памешчыкаў Пшаздзецкіх), 10 жыхароў. У 1-ю сусветную вайну ў наваколлі вёскі праходзіла лінія фронту, у вёсцы размяшчаліся салдаты рус. арміі, склады з боепрыпасамі і прадуктамі харчавання. 18–28.3.1916 г. каля вёскі адбываліся баі Нарачанскай аперацыі рус. войск, у час якіх немцы прымянілі атрутныя газы. За 0,3 км на ПнУ ад вёскі пахаваны 400 воінаў 2-й рус. арміі, якія загінулі ў час Нарачанскай аперацыі 1916 г. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. З 1921 г. вёска (90 двароў, 486 жыхароў) і леснічоўка (7 жыхароў) у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (потым Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. да 23.12.1965 г. цэнтр Брусаўскага с/с Мядзельскага р-на Віленскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 1.10.1973 г. ў Вузлянскім, з 23.3.1987 г. ў Сваткаўскім с/с. У 1940 г. 109 двароў, 328 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску, знішчылі 22 вяскоўцаў. У цэнтры населенага пункта пахаваны 41 жыхар вёсак Брусы, Лужы, Заазер'е і хутара Гаць, якіх 27.9.1943 г. знішчылі ням.-фаш. захопнікі. За 2,5 км на ПнЗ ад вёскі, каля аўтамабільнай дарогі Мядзел–Вілейка пахаваны 10 жыхароў з хутара Бароўка, якіх 13.7.1943 г. расстралялі, а потым спалілі гітлераўцы. 9 вяскоўцаў загінула на франтах і ў партыз. барацьбе. У 1949 г. ўтвораны калгас «Сцяг Перамогі». У 1960 г. 400 жыхароў. З 1954 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (да 9.11.1961 г. імя І.В.Сталіна, з 1988 г. цэнтр – в. Сваткі), з 1994 г. – у аграфірме «Зара», з 1997 г. – у с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка. З 5.9.1997 г. – цэнтр свінаводчага комплексу «Брусы» філіял ААТ «Вілейскі камбікормавы завод». У 1970 г. 407 жыхароў. У 1997 г. 114 гаспадарак, 257 жыхароў. Працуюць (2011) дом сацыяльных паслуг, магазін.



*Брацкая магіла рускіх салдат каля в. Брусы.*

**БРЫЛІ** – вёска ў Нарацкім с/с. За 12 км на ПнЗ ад Мядзела, 38 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Маладзечна–Полацк, 187 км ад Мінска. Рэльеф

раўнінна-ўзгоркавы. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 6 двароў, 56 жыхароў, уваходзіла ў Кабыльніцкую вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1897 г. вёска, 15 двароў, 104 жыхары, фальварак, 1 двор, 14 жыхароў. У 1908 г. 103 жыхары. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Віленскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. ўтвораны калгас «Маладая Гвардыя», пачала дзейнічаць пачатковая школа. У 1960 г. 62 жыхары. З 1979 г. ў складзе калгаса «Нарач» (цэнтр — в. Чараўкі), які 30.6.1998 г. быў рэарганізаваны ў доследны райгас «Нарач» (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка «Нарач»), з 20.12.2006 г. — у межах с.-г. вытворчасці нац. парка «Нарачанскі». У 1970 г. 51 жыхар. У 1997 г. 12 гаспадарак, 20 жыхароў.

**БРЭСКІЯ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 29 км на ПнЗ ад Мядзела, 36 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 183 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска (4 двары, 49 жыхароў) у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1897 г. вёскі Брэскія-1 (5 двароў, 37 жыхароў) і Брэскія-2 (4 двары, 33 жыхары). З 1901 г. працавала школа граматы. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Віленскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.07.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў в. Брэскія 42 жыхары, у в. Сярэды 80 жыхароў. У 1966 г. да в. Брэскія далучана в. Сярэды. З 1979 г. ў складзе калгаса «Нарач» (цэнтр — в. Чараўкі), які 30.6.1998 г. быў рэарганізаваны ў доследны рыбгас (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1970 г. 131 жыхар. У 1997 г. 20 гаспадарак, 35 жыхароў.

**БУДСЛАЎ** — вёска, цэнтр Будслаўскага с/с. За 56 км на У ад Мядзела, 2 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 130 км ад Мінска, на шашы Будслаў—Маладзечна. Рэльеф раўнінны, на З працякае р. Сэрвач, якая ўпадае ў Вілейскае вадасховішча. 239 гаспадарак, 596 жыхароў (2011).

Вядома з 1504 г., калі кароль польскі і вялікі князь літоўскі Аляксандр Ягелончык падараваў тут зямлю віленскім манахам-бернардзінцам. Яны заснавалі калонію і пабудавалі капліцу, а ў 1589 г. на сродкі С.Карэвы — драўляны, у 1633—43 гг. мураваны касцёл (перабудаваны ў 1767 г.). У 1643 г. быў адкрыты бернардзінскі кляштар. У 1589 г. Папа Рымскі Клімент VIII падараваў мінскаму ваяводу І.Пацу абраз Божай Маці, які ў 1613 г. быў перададзены Будслаўскаму касцёлу, дзе знаходзіцца і цяпер. У 1767—83 гг. узведзены новы касцёл. У кляштары была адкрыта ў 1756 г. музычная школа. Вёска вядома пад назвамі Буда, Буцлаў, Будцлаў. 6.10.1732 г. згодна з прывілеем Аўгуста III Будслаў пераведзены ў разрад мястэчак, належаў Аскерку. У 1783 г. быў асвечаны новы мураваны касцёл. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі, у Вілейскім павеце Мінскай, з 1843 г. Віленскай губ. У 1800 г. 58 двароў, 241 жыхар. У 1838 г. на могілках пабудавана капліца. У 1848 г. дзейнічалі сукнавальня, карчма, а ў маён-



Дом культуры ў в. Будслаў.



Сядзібны дом у в. Будслаў.

тку — вадзяны млын, гаспадарскі дом, магазін, стайня, вінакурня, кузня, апрацоўваўся лён, выраблялася для ўласных патрэб цэгла. У 1864 г. кляштар быў закрыты, а будынкі перададзены ваеннаму ведамству, затым — памешчыку. У 1860 г. 68 двароў, 485 жыхароў. У 1885 г. цэнтр вол. Вілейскага павета, дзейнічалі касцёл, малітоўны дом, прыхадское вучылішча (адкрыта 23.06.1864 г.), у якім у 1892 г. вучылася 65 хлопчыкаў, 5 дзяўчынак. Паводле перапісу 1897 г. 132 двары, 578 жыхароў, касцёл, сінагога, школа, 7 лавак, вадзяны млын, 2 піцейныя дамы, булачная. На сядзібе 7 двароў, 54 жыхары, вінакурны завод. 24.11.1905 г. натоўп сялян няўдала спрабаваў разрабаваць памешчыцкую сядзібу. У маёнтку ў гэты час працавалі вінакурня (заснавана ў 1848 г., у 1862 г. пастаўлена паравая машына, у 1900 г. — 9 рабочых), сукнавальня, вадзяны



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Будслаў.

млын, лаўка, пастаялы двор, 2 карчмы. У 1-ю сусветную вайну ў сак. 1916 г. тут размяшчаўся штаб 2-й рус. арміі, якая выконвала асноўныя задачы па ажыццяўленні Нарачанскай аперацыі рус. войск да 1916 г. Пасля Лют. рэвалюцыі 1917 г. створаны валасны Савет рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. У 1917—20 гг. працавала бел. гімназія. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. 10.12.1918 г. агульны сход рабочай моладзі мястэчка абвясціў аб стварэнні камуністычнай ячэйкі і аднаўленні савецкай улады ў павеце. З 1919 г. ў складзе БССР. З 18.3.1921 г. мястэчка (116 двароў, 626 жыхароў) у складзе Польшчы, цэнтр гміны Вілейскага (да 1925 г. Дунілавіцкага) павета Віленскага ваяв. Працавалі млын, лесапільня, аптэка, банк, чайная, пошта, касцёл, кожны панядзелак праводзіліся таржкі. Фальварак (былы маёнтак) налічваў 5 двароў, 55 жыхароў. У 1938 г. пачало працаваць аддз. прафсаюза працоўных будаўнічай, дрэваапрацоўчай і керамічнай прамысловасці. У 1939 г. маёнтак (70 жыхароў); мястэчка (194 гаспадаркі, 1320 жыхароў; лесапільны завод, вадзяны млын, 23 лаўкі, паштовае аддз.). З вер. 1939 ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1940 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не.

У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Летам 1942 г. ў Будслаўскай камендатуры

быў закатаваны старшыня Вераб'ёўскага с/с Грыгаровіч. У вер. 1942 г. гітлераўцы расстралялі 270 жыхароў. 2.7.1944 г. воіны 277-й стралковай дывізіі і 7-й гвардзейскай механізаванай брыгады разам з партызанамі брыгад імя К.К.Ракасоўскага і С.М.Будзённага вызвалілі вёску. У 1975 г. ў скверы на ўшанаванне памяці 15 вяскоўцаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены абеліск. Пасля вызвалення была адноўлена МТС (арганізавана ў 1940 г.); у 1950—53 гг. палітаддзел пры МТС выдаваў газету «Калгасны шлях. У 1948 г. аднавіў работу спіртзавод, у 1949 г. адкрыта бальніца, працавала аптэка, Дом культуры, радыёвузел, млын на р. Сэрвеч з электраўстаноўкай, якая забяспечвала электраасвятленне вёскі. У 1949 г. створаны калгас імя Ф.Энгельса. У 1960-х гг. вёскі Будслаў-1 і Будслаў-2.

З 1965 г. вёска — цэнтр саўгаса, з 4.9.1991 — калгаса «Будслаўскі», які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Будслаўскі» (зараз ААТ «Будслаўскае»). У 1970 г. 937 жыхароў. У 1997 г. 302 двары, 718 жыхароў. З 2006 г. аграгарадок. Працуюць (2011) сярэдняя і музычная школы, дзіцячы садок, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, 3 магазіны, лясніцтва, комплексны прыёмны пункт.

Часткова захаваўся парк (закладзены ў 1907 г.). Помнікі архітэктуры: касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі (18 ст.), плябанія (19 ст.). Радзіма парт. і дзярж. дзеяча Беларусі І.А.Васілевіча (1894—29.12.1938); бел. спявака, арганіста і кампазітара І.Глінскага (1853—16.3.1898), засл. дзеяча культуры Беларусі П.В.Мядзёлкі (31.8.1893—13.2.1974).

У склад сельсавета ўваходзіць 19 населеных пунктаў.

**БУДСЛАЎ** — пасёлак у Будслаўскім с/с. За 69 км на ПдУ ад Мядзела, чыгуначная станцыя на лініі Маладзечна—Полацк, 133 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 43 гаспадаркі, 86 жыхароў (2011).

Узнік у пач. 20 ст. ў сувязі з будаўніцтвам чыгункі Балагое—Сядлец, як пасёлак пры чыг. ст. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Будслаўскай гміне Дунілавіцкага, з 1925 г. Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 24 двары, 152 жыхары. У 1939 г. пасёлак пры чыгуначнай станцыі, 30 двароў, 302 жыхары. З вер. 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У канцы чэрв. 1944 г. станцыю занялі і ўтрымлівалі да падыходу Чырвонай Арміі партызаны брыгады імя С.М.Будзённага. У 1960 г. 373 жыхары. З 21.01.1969 г. пасёлак (самастойны населены пункт). З 1969 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Будслаўскі» (цэнтр — в. Будслаў), які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Будслаўскі» (зараз ААТ «Будслаўскае»). У 1970 г. 367 жыхароў. У 1997 г. 81 гаспадарка, 159 жыхароў. Працуе (2011) магазін, размешчана чыгуначная станцыя.

**БУЙКІ** — вёска ў Сырмежскім с/с. За 46 км на ПдЗ ад Мядзела, 46 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна—Полацк, 198 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 66 гаспадарак, 195 жыхароў (2011).



*П.В.Мядзёлка.*




*Будынак вакзала на чыгуначнай станцыі Будслаў.*

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 14 двароў, 181 жыхар, у Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета. Па перапісу 1897 г. 37 двароў, 208 жыхароў, у 1907 г. 233 жыхары. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сырмежскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. вёска, 34 двары, 151 жыхар.У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1967 г. каля Дома культуры на ўшанаванне памяці 19 жыхароў вёсак калгаса імя М.Горкага, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены абеліск. У вер. 1949 г. створаны калгас імя А.М.Васілеўскага. З 1952 г. вёска ў складзе калгаса імя М.Горкага, з 6.3.1954 г. — цэнтр калгаса, які 16.7.2003 быў рэарганізаваны ў СВК «Вішнеўскае»; 31.1.2004 г. ад гаспадаркі аддзялілася прыватнае вытворчае УП «Свінакомплекс «Буйкі». У 1960 г. 133 жыхары. У ліп. 1960 ў вёсцы здадзена ў эксплуатацыю электрастанцыя. У 1970 г. 158 жыхароў. З 22.9.1980 г. цэнтр Сырмежскага с/с. У 1997 г. 82 двары, 240 жыхароў. Працуюць (2011) прыватнае вытворчае УП «Свінакомплекс «Буйкі», малочна-таварная ферма «Сырмеж», Дом культуры, б-ка.

**ВАЙЦЯХОВА** — вёска ў Слабодскім с/с. За 14 км на ПнУ ад Мядзела, 44 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 170 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. У 1716 г. вёска Вайцехоўшчына, 3 двары з фальваркам, уласнасць С.Сяргіеўскага. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 7 двароў, 27 жыхароў, уласнасць Д.Радзівіла. Паводле перапісу 1897 г. 2 двары, 21 жыхар, у Жаснянскай вол. Вілейскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у гміне Жосна Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета. У 1921 г. 6 двароў, 28 жыхароў. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Дзягільскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 1.1.2007 г. ў Слабодскім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1949 г. ў складзе калгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Пугачы). У 1960 г. 21 жыхар. З 1961 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Дзягілі), які 30.6.1992 г. быў рэарганізаваны ў дапаможную гаспадарку «Дзягілі» Мінскага маторнага завода (з лют. 2009 г. — ААТ «Мінскі маторны завод» с.-г. філіял «Дзягілі»). У 1963 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. хутар, 16 жыхароў. У 1997 г. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў.

**ВАЛОДЗЬКІ** — вёска ў Свірскім Савеце. За 53 км на З ад Мядзела, 29 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы, на З працякае р. Страча (прыток р. Вілія), на Пд — яе прыток р. Свірыца. 16 гаспадарак, 32 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. 2 вёскі Валодзкі (9 двароў, 93 жыхары і 16 двароў, 190 жыхароў), у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 102 жыхары, у 1908 г. 128 жыхароў. З вер. 1915 да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Свірскім с/с (з 25.4.1958 г. пас. Савет) Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял.

Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 3 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1950 г. арганізаваны калгас «Сталінскі шлях». З 1960 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Свір» (цэнтр — г.п. Свір), які 3.7.2003 быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (цяпер ААТ «Свір-агра». У 1970 г. 80 жыхароў. У 1997 г. 18 гаспадарак, 45 жыхароў.

**ВАРАНЦЫ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 19 км на ПнЗ ад Мядзела, 35 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 179 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 39 гаспадарак, 80 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 5 двароў, 33 жыхары, у Вілейскім павеце Мінскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Антанінзберг. У 1897 г. 10 двароў, 76 жыхароў, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1907 г. 13 двароў, 83 жыхары. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.01.1960 г. Мінскай вобл., з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У 1940 вёска, 3 двары, 12 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. ўтвораны калгас «Чырвоны Сцяг». У 1960 г. 115 жыхароў. З 1964 г. ў складзе калгаса імя В.І.Чапаева, з 1979 г. — у калгасе «Нарач» (цэнтр в. Чараўкі»), у 1998—2006 гг. у доследным рыбгасе «Нарач» (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1970 г. 62 жыхары. У 1997 г. 42 гаспадаркі, 102 жыхары.

**ВАРАШЫЛКІ** — вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 45 км на З ад Мядзела, 21 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 188 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 35 гаспадарак, 73 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. 2 вёскі Варашылкі, (102 жыхары і 36 жыхароў), у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1897 г. 44 двары, 282 жыхары. У 1904 г. вёска, 282 жыхары, у 1907 г. — 45 двароў, 248 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Куцькоўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Свірскім с/с (з 25.4.1958 г. пас. Савеце), з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1949 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Канстанцінава» (цэнтр — в. Камарова), з 28.8.2002 г. — у калгасе «Свір» (цэнтр — г.п. Свір), які 3.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (цяпер ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 252 жыхары. У 1997 г. 48 гаспадарак, 105 жыхароў.

**ВАСІЛЕЎШЧЫНА** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 27 км на ПдУ ад Мядзела, 7 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 155 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1848 г. вёска, 6 двароў, 68 жыхароў, у складзе маёнтка Будслаў Вілейскага павета, уладанне І.І.Аскеркі. У 1897 г. 16 двароў, 135 жыхароў. У 1908 г. 27 двароў, 185 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. в. Васілеўшчына (167

жыхароў), у Будслаўскай гміне Дунілавіцкага павета. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Вераб'ёўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Пузыроўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не, з 30.10.2009 г. ў Крывіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас імя К.Заслонава. У 1955 г. радыёфікавана, у 1967 г. электрыфікавана. У 1960 г. 140 жыхароў, у 1970 г. 108 жыхароў. З 1975 г. ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пузыры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Вузлянка» (з 2004 г. асобнае структурнае падраздзяленне «Вузлянка» гандлёвага УП «Мінскі Камароўскі рынак»). У 1997 г. 22 гаспадаркі, 36 жыхароў.

**ВЕНЦАВІЧЫ** — вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 45 км на З ад Мядзела, 31 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 195 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы, на У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя ручаём з воз. Шэметава. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1779 г. вёска, 12 двароў, карчма, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1868 г. 98 жыхароў, у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1897 г. 22 двары, 160 жыхароў. У 1904 г. вёска, 187 жыхароў, у 1907 г. — 167. У 1915—18 гг. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Канстанцінаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 5.8.1954 г. ў Шэметаўскім с/с, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У 1940 г. вёска, 45 двароў, 223 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана гітлераўцамі, 6 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1949 г. ўтвораны калгас імя М.І.Калініна, з 1964 г. у складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Канстанцінава» (цэнтр — в. Камарова), з 28.8.2002 г. — у калгасе «Свір» (цэнтр — г.п. Свір), які 3.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (зараз ААТ «Свір-агра»). У 1960 г. 121 жыхар. У 1970 г. 111 жыхароў. У 1997 г. 21 гаспадарка, 43 жыхары.

**ВЕРАБ'І** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 27 км на ПдУ ад Мядзела, 6 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 155 км ад Мінска, на шашы Будслаў—Восава. Рэльеф раўнінны. 43 гаспадаркі, 89 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1737 г. вёска, 22 двары, 42 жыхары мужчынскага полу. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1848 г. вёска аднайменнага фальварка маёнтка Будслаў Вілейскага павета Віленскай губ., уладанне І.І.Аскеркі, 6 двароў, 58 жыхароў. У 1897 г. вёска, 28 двароў, 176 жыхароў, фальварак, 16 жыхароў, у Будслаўскай вол. Вілейскага павета. У 1908 г. вёскі Вараб'і -1 (133 жыхары) і Вераб'і-2 (115 жыхароў). З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 55 двароў, 257 жыхароў, у фальварку 3 двары, 33 жыхары. У 1939 г. вёска, 71 двор, 299 жыхароў, хутар, 2 двары, 20 жыхароў. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. да 27.3.1959 г. цэнтр сельсавета Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., потым у Пузыроўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не, з 30.10.2009 г. ў Крывіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінула 14 жыхароў з вёсак калгаса «Маладая гвардыя» (Вераб'і, Грыбкі, Васілеўшчына, Кулікова,

Навасёлкі, Залессе). На ўшанаванне іх памяці ў цэнтры вёскі ў 1965 г. пастаўлены абеліск. У снеж. 1949 г. арганізаваны калгас «Маладая гвардыя»; да 1975 г. вёска — цэнтр узбуйненага калгаса з той жа назвай, пазней у складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пузыры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Вузлянка» (з 2004 г. асобнае структурнае падраздзяленне «Вузлянка» гандлёвага УП «Мінскі Камароўскі рынак»). У 1960 г. 259 жыхароў. У 1970 г. 279 жыхароў. У 1997 г. 72 двары, 135 жыхароў. Працуе (2011) фельч.-акушэрскі пункт.

**ВОЛАЧКА** – вёска ў Мядзельскім с/с. За 7 км на Пн ад Мядзела, 28 км ад чыг. ст. Княгінін, на лініі Маладзечна–Полацк, 167 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З і Пн – воз. Мядзел. 5 гаспадарак, 13 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1846 г. фальварак у складзе маёнтка Мікольцы, уладанне І.Галкі, у Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1868 г. — засценак (22 жыхары). Паводле перапісу 1897 г. засценак Волчак, 1 двор, 8 жыхароў і засценак Волчак (ён жа Мінчакі), 1 двор, 6 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921– 39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. фальварак (7 двароў, 27 жыхароў) і засценак (1 двор, 8 жыхароў). З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Баярскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас імя А.С.Пушкіна. З 1960 г. ў складзе калгаса «Ленінскі шлях» ( да 20.11.1961 г. «Сталінскі шлях», цэнтр — в. Баяры), які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Баярскі маяк» (у 2005 г. ўвайшоў у межы с.-г. філіяла ААТ «Мядзельаграсервіс»). У 1970 г. 36 жыхароў. У 1997 г. 8 гаспадарак, 21 жыхар.

**ВОРГІ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 16 км на Пн ад Мядзела, 27 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны праз ручай з р. Мядзелка. У вёсцы ніхто не жыве.

Вядома з 19 ст. Упершыню ўпамінаецца пад 1868 г. як засценак (4 двары, 65 жыхароў) у Манькавіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 7 двароў, 80 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Манькавіцкай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 7 двароў, 28 жыхароў. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Лацвянскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2007 г. ў Мядзельскім с/с. У 1940 г. 9 двароў, 35 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 1957 г. ў складзе калгаса «40 год Кастрычніка» (цэнтр — в. Лотва), які 20.8.1999 г. быў далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга». У 1960 г. 27 жыхароў. У 1970 г. 19 жыхароў. У 1997 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары.

**ВОСАВА** – вёска ў Княгінінскім с/с. За 27 км на ПдУ ад Мядзела, 9 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна – Полацк, 158 км ад Мінска, на шашы Восава–Будслаў. Рэльеф раўнінны. 122 гаспадаркі, 277 жыхароў (2011).

Вядома з 17 ст. У 1606 г. сяло, 20 двароў, 20 валок зямля, уласнасць Радзівілаў. У 1651 г. сяло ў складзе маён-

тка Крывічы, чынш збіраўся з 28 сямей, уладанне Я.Кішкі. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. З 1885 г. працавала школа граматы, у якой у 1896 г. вучылася 10 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. Паводле перапісу 1897 г. 56 двароў, 378 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 419 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у 1921 г. 86 двароў, 424 жыхары, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1939 г. хутары, 97 двароў, 506 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Княгінінскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 9 вяскоўцаў загінула на франтах вайны; партызаны І.І.Верабей і У.Дз. Грышкевіч брыгады імя С.М.Будзённага загінулі ў баі ў роднай вёсцы. У 1970 г. каля будынка школы на ўшанаванне памяці 49 жыхароў вёсак Вытраскі, Гарадзішча, Кіржына, Восава, Палавікі, Холма, Халмоўка і Якушова, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены абеліск. У 1948 г. адкрыты магазін, у 1949 г. арганізаваны калгас «Гвардзеец». У 1960 г. 472 жыхары. З 1964 г. вёска — цэнтр саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Восаўскі», з 1997 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (цяпер камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1970 г. 460 жыхароў. У 1997 г. 169 двароў, 414 жыхароў. Працуюць (2011) Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, комплексны прыёмны пункт.

**ВОТКУП** — вёска ў Княгінінскім с/с. За 33 км на ПдУ ад Мядзела, 6 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 156 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1800 г .вёска, 4 двары, 22 жыхары, і маёнтак У.Нарушэвіча. У 1868 г. 2 вёскі: Водкуп-1 (3 двары, 30 жыхароў) і Водкуп-2 (4 двары, 21 жыхар). Паводле перапісу 1897 г. ў в. Водкуп-1 16 двароў, 99 жыхароў, хлеба-запасны магазін, у в. Водкуп-2 4 двары, 62 жыхары, у фальварку 9 жыхароў, уваходзілі ў Княгінінскую вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска (18 двароў, 78 жыхароў) і засценак (6 двароў, 28 жыхароў) у Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета. У 1939 г. фальварак, 14 жыхароў, засценак, 19 жыхароў. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. у Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, з 1957 г. ў складзе саўгаса «Крывічы» (цэнтр — в. Княгінін), з 21.8.2000 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (зараз камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1970 г. 74 жыхары. У 1997 г. 14 двароў, 24 жыхары.

**ВОЎЧЫНА** — вёска ў Сырмежскім с/с. За 39 км на ПдЗ ад Мядзела, 43 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна—Полацк, 205 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. фальварак, 2 двары, 26 жыхароў, у Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Шэметаўскім с/с

Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 5.8.1954 г. ў Сырмежскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1949 ў калгасе імя К.К.Ракасоўскага. У 1960 г. 45 жыхароў. У 1970 г. 44 жыхары. З 1973 г. ў складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Старлыгі), які 16.7.2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Міжазёрны край» (цяпер ААТ «Міжазёрны край»). У 1997 г. 13 гаспадарак, 23 жыхары.

**ВОХАБНІ** — вёска ў Слабодскім с/с. За 17 км на ПнУ ад Мядзела, 49 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 178 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Вохабні. Рэльеф раўнінны. 17 гаспадарак, 22 жыхары (2011).

Вядома з 16 ст. У 1854 г. сяло, 27 двароў, 30 валок зямлі, у складзе фальварка Мядзел. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 48 двароў, 281 жыхар, хлебазапасны магазін, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета губ. З 1898 г. працавала школа граматы. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. в. Вохамна (54 двары, 279 жыхароў), у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Нагаўскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 21.5.1951 г. ў Дзягільскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 1.1.2007 г. ў Слабодскім с/с. У 1940 г. 90 двароў, 430 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 87 двароў, знішчылі 13 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. ўтвораны калгас «Сцяг працы». З 1951 г. ў складзе калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Нагаўкі), з 1961 г. — калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Дзягілі), які 30.6.2002 г. быў рэарганізаваны ў дапаможную гаспадарку «Дзягілі» Мінскага маторнага завода (з 2009 г. ААТ «Мінскі маторны завод» с.-г. філіял «Дзягілі»). У 1960 г. 142 жыхары. У 1963 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 123 жыхары. У 1997 г. 30 гаспадарак, 52 жыхары.

**ВУЗЛА** — вёска ў Сваткаўскім с/с. За 15 км на Пд ад Мядзела, 35 км ад чыг. ст. Княгінін лініі Маладзечна—Полацк, 128 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Маладзечна. Рэльеф раўнінны, на У і Пн вёскі працякае р. Вузлянка (прыток р. Нарач). 70 гаспадарак, 172 жыхары (2011).

Вядома з 16 ст. У 1544 г. маёнтак Вузла перайшоў у спадчыну да Ф.Сапегі пасля смерці Е.Б.Радзівіл. У 1562 г. цэнтр маёнтка і вол., шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1846 г. маёнтак і аднайменны фальварак Вілейскага павета, уладанне К.І.Тызенгаўза. У 1820-х гг. пабудавана царква з дрэва. У 1880 г. на тэр. сядзібы дзейнічалі царква, вінакурны і соладавы заводы (заснаваны ў 1878 г.), сукнавальня, вадзяны млын, карчма, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1894 г. пачало дзейнічаць крухмальнае прадпрыемства, на якім у 1895 г. працавала 7 рабочых, у 1899 г. ўстаноўлена паравая машына. У 1897 г. сяло (3 двары, 18 жыхароў, млын, лаўка, піцейны дом), прычта (3 двары, 5 жыхароў, царква), сядзіба (6 двароў, 73 жыхары), старожка (1 двор, 11 жыхароў) і фальварак. У 1899 г. пачала дзейнічаць царк.-прыходская школа і казённая вінная лаўка. У 1904 г. фальварак (67 жыхароў), сяло (18 жыхароў), старожка (9 жыхароў), сяло (належала Вузлянскай праваслаўнай царкве, 11 жыхароў). У 1-ю сусветную вайну (1914—18) недалёка ад вёскі праходзіла лінія фронту. 18—28.3.1916 г. тут адбываліся цяжкія баі ў ходзе правядзення Нарачанскай

аперацыі рускіх войск. На вясковых могілках пахаваны 45 рус. воінаў, якія загінулі ў час гэтых баёў. У лют.—снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. 11.7.1920 г. войскі Чырвонай Арміі выйшлі на лінію вёсак Брусы, Вузла. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 24 двары, 177 жыхароў, у фальварку 3 жыхары. З вер. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Брусаўскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 23.12.1965 г. цэнтр Брусаўскага с/с (з 1.10.1973 г. Вузлянскага), з 23.3.1987 г. ў Сваткаўскім с/с. У 1940 г. 36 двароў, 169 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 4 двары, знішчылі 1 жыхара. 9 вяскоўцаў загінула на франтах. Каля Дома культуры на ўшанаванне памяці 59 землякоў з населеных пунктаў калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Вузла) у 1966 г. пастаўлены абеліск з імёнамі загінуўшых. У 1948 г. на р. Вузлянка ўступіла ў строй гідраэлектрастанцыя. У 1949 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна, з 15.4.1954 г. да 1.2.1988 г. — цэнтр узбуйненага калгаса імя У.І.Леніна. У 1959 г. 60 двароў, 186 жыхароў, школа, радыёвузел, паштовае аддз., б-ка, клуб, магазін. У 1970 г. 295 жыхароў. З 1994 г. ў складзе аграфірмы «Зара», з 1997 г. — с.-г. прадпрыемства імя М.Танка (цэнтр — в. Сваткі); з 5.9.1997 г. ў межах свінаводчага комплексу «Брусы», філіял ААТ «Вілейскі камбікормавы завод» (цэнтр — в. Брусы). У 1997 г. 111 гаспадарак, 262 жыхары. Працуюць (2011) б-ка, Дом фальклору, магазін, лясніцтва.

**ВУСАЎШЧЫНА** — вёска ў Старагабскім с/с. За 10 км на У ад Мядзела, 46 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 198 км ад Мінска, на шашы Старыя Габы—Мядзел. Рэльеф раўнінны. 11 гаспадарак, 20 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1770 г. вёска, 3 двары, у Мядзельскім старастве Віленскага ваяв. Рэчы Паспалітай. З 1793 г. ў складзе БССР. У 1868 г. засценак, 3 двары, 30 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 54 жыхары, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 9 двароў, 58 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Мікасецкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 1954 г. ў Старагабскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 16 двароў, 79 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 1948 г. ў калгасе імя М.В.Фрунзе, з 1951 г. ў калгасе імя У.І.Леніна, з 1954 г. — «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Зані), які ў 2006 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Зані» (зараз ААТ «Зані»). У 1950 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. 29 жыхароў. У 1970 г. 38 жыхароў. У 1997 г. 14 гаспадарак, 29 жыхароў.

**ВЫГАЛАВІЧЫ** — вёска ў Княгінінскім с/с. За 30 км на ПдУ ад Мядзела, 3 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 153 км ад Мінскаю Рэльеф раўнінны. 141 гаспадарка, 304 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 36 двароў, 249 жыхароў, уладанне А.Сапегі і М.Ромера. У 1868 г. вёска (28 двароў, 223 жыхары) і засценак (1 двор, 29 жыхароў). У 1886 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1896—97 г. вучылася 20 хлопчыкаў. У 1897 г. вёскі Выгалавічы-1 (77 двароў, 464 жыхары, хлебаза-

пасны магазін, часоўня) і Выгалавічы-2 (6 двароў, 54 жыхары), у Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. ў Выгалавічах-1 498 жыхароў, у Выгалавічах-2 — 59 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. в. Выгалавічы, 121 двор, 648 жыхароў. У 1939 г. калонія і вёска, 148 двароў, 774 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 25 землякоў, загінуўшых у баях супраць гітлераўцаў, у 1975 г. пастаўлена стэла. У 1949 г. 43 гаспадаркі вёскі аб'ядналіся ў калгас імя І.В.Сталіна. У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Крывічы» (цэнтр — в. Княгінін), з 17.2.1971 г. — цэнтр птушкафабрыкі «Зара камунізму» (цяпер камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1960 г. 676 жыхароў. У 1970 г. 629 жыхароў. У 1997 г. 199 гаспадарак, 445 жыхароў. Працуюць (2011) базавая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны.

**ВЫТРАСКІ** — вёска ў Княгінінскім с/с. За 26 км на ПдУ ад Мядзела, 12 км ад чыг. ст. Княгінін, на лініі Маладзечна—Полацк, 161 км ад Мінска, на шашы Восава—Будслаў. Рэльеф раўнінны. 22 гаспадаркі, 47 жыхароў (2011).

Вядома з 17 ст. У 1906 г. сяло, 188 валок зямлі, палову з якіх апрацоўвалі сяляне з в. Восава, уласнасць Радзівілаў. У 1651 г. 18 двароў, у складзе маёнтка Крывічы, уладанне Я.Кішкі. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 19 двароў, 123 жыхары. У 1847 г. вёска маёнтка Янушова Вілейскага павета Віленскай губ., уладанне В.Корсака, 2 двары, 21 жыхар. З 1889 г. працавала школа граматы, у якой у 1896 г. вучылася 10 хлопчыкаў. У 1897 г. З вёскі: Вытраскі-1 (14 двароў, 68 жыхароў), Вытраскі-2 (13 двароў, 70 жыхароў) і Вытраскі-3 (8 двароў, 63 жыхары, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. ў в. Вытраскі Янушэўскія (6 двароў, 117 жыхароў, у в. Вытраскі Дзеткаўскія 5 двароў, 112 жыхароў, у в. Вытраскі Асінаўскія 4 двары, 83 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета. У 1921 г. вёска, 57 двароў, 332 жыхары. У 1939 г. хутары, 78 двароў, 380 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Восаўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Княгінінскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У 1940 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. У 1960 г. 274 жыхары. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Восаўскі» (цэнтр — в. Восава), з 1997 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (цяпер камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1970 г. 215 жыхароў. У 1997 г. 51 гаспадарка, 106 жыхароў.

**ГАЛУБЕНЬКІ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 27 км на ПнЗ ад Мядзела, 32 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 181 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2011).

За 0,5 км на З ад вёскі знаходзіцца гарадзішча. Вядома з 19 ст. У 1847 г. вёска (4 двары, 21 жыхар) у складзе маёнтка Антанінзберг, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 167

жыхароў, у 1904 г. в. Галубенькі (39 жыхароў), в. Галубенькі-1 (18 жыхароў) і в. Галубенькі-2 (32 жыхары). З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас імя Я.Коласа. У 1960 г. 49 жыхароў. З 1964 г. ў складзе калгаса імя В.І.Чапаева. У 1970 г. 36 жыхароў. З 1979 г. ў калгасе «Нарач» (цэнтр — в.Чараўкі), у 1998—2006 гг. у доследным рыбгасе «Нарач» (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1997 г. 10 двароў, 12 жыхароў.

**ГАРАДЗІШЧА** — вёска ў Княгінінскім с/с. За 23 км на ПдУ ад Мядзела, 7 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 154 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Княгінін. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Каханка (прыток р. Добрая). 21 гаспадарка, 27 жыхароў (2011).

На стрэлцы мыса, які бярэ пачатак каля паўн. ускраіны вёскі і цягнецца на адлегласці 0,25 км у паўн.-зах. напрамку, размешчана гарадзішча 6 ст. да н.э. — 3—4 ст. н.э. На пакатых схілах паўн. і зах. бакоў гарадзішча знаходзіцца селішча 6—8 ст. н.э. Вядома з пач. 17 ст. У 1606 г. сяло, 2 валокі зямлі, уласнасць Радзівілаў. У 1718 г. 4 двары, у складзе маёнтка Янушова. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1799 г. вёска (3 двары, 14 жыхароў) і аколіца (10 двароў, 73 жыхары). У 1897 г. вёскі Гарадзішча-1 (9 двароў, 56 жыхароў) і Гарадзішча-2 (14 двароў, 97 жыхароў), у Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета. У 1921 г. вёска, 32 двары, 172 жыхары. У 1939 г. хутары, 34 гаспадаркі, 195 жыхароў, побач працавала смалакурня (3 жыхары). З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна. У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. У 1960 г. 175 жыхароў. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Восаўскі» (цэнтр — в. Восава), з 1997 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (цяпер камунальнае с.-г. УП «Новая зара»). У 1970 г. 149 жыхароў. У 1997 г. 38 гаспадарак, 66 жыхароў.

**ГАРАНІ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 24 км на ПнЗ ад Мядзела, 26 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 175 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2011).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Гаранцы, 12 двароў, 34 жыхары мужчынскага полу і фальварак, шляхецкая ўласнасць. У 1799 г. 55 жыхароў, уладанне М.Валадковіча. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 53 жыхары, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёска (33 жыхары), засценак (13 жыхароў) і аднаселле (17 жыхароў). З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лацвянскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2007 г. ў Мядзельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1957 г. ў складзе калга-

са «40 год Кастрычніка» (цэнтр — в. Лотва), які ў 1999 г. быў далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга». У 1960 г. 51 жыхар. У 1970 г. 19 жыхароў. У 1997 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў.

**ГАТАВІЧЫ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 10 км на ПдЗ ад Мядзела, 34 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 170 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З — воз. Нарач, на У — воз. Мястра. 63 гаспадаркі, 134 жыхары (2011).

За 1,5 км на Пн ад вёскі, на левым беразе р. Скема, якая злучае азёры Нарач і Мястра, знаходзіцца селішча 7—5 ст. да н.э. і 6 — 8 ст. н.э). Вядома з 17 ст. У 1652 г. сяло, у Вузлянскай вол., шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас імперыі. У 1800 г. 27 двароў, 127 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1846 г. вёска фальварка Вузла Віленскай губ., уладанне К.І.Тызенгаўза. У 1868 г. вёска ў Мядзельскай вол. Вілейскага павета, 15 двароў, 70 жыхароў. З 1894 г. працавала школа граматы, у якой у 1896 г. вучылася 12 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. вёска (49 двароў, 339 жыхароў) і сядзіба (1 двор, 11 жыхароў), у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 55 двароў, 317 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет) Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 68 двароў, 311 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы спалілі 17 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1948 г. створаны калгас «Сталінскі шлях», з 1960 г. ў складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Баяры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Баярскі маяк» (у 2005 г. ўвайшоў у межы с.-г. філіяла ААТ «Мядзельаграсервіс»). У 1970 г. 301 жыхар. У 1976 г. каля вёскі на беразе воз. Нарач пабудаваны санаторый «Сосны». У 1997 г. 161 двор, 397 жыхароў. Працуюць (2011) аддз. сувязі, магазін.

**ГІРЫНЫ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 6 км на З ад Мядзела, 31 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 166 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд — воз. Мястра. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. У 1717 г. вёска, 4 двары, у складзе маёнтка Астровы, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 6 двароў, 29 жыхароў, у тым ліку 3 двары, 22 жыхары татарскага насельніцтва. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 9 двароў, 46 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Баярскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 14 двароў, 69 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. арганізаваны калгас імя А.С.Пушкіна, з 1960 г. вёска ў складзе калгаса «Ленінскі шлях» ( да 20.11.1961 г. «Сталінскі шлях», цэнтр — в. Баяры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Баярскі маяк» (з 2005 г. ў межах с.-г. філіяла ААТ «Мядзельаграсервіс»). У 1970 г. 52 жыхары. У 1997 г. 9 гаспадарак, 17 жыхароў.

**ГНЯЗДЗІШЧА** — вёска ў Старагабскім с/с. За 16 км на У ад Мядзела,

39 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна-Полацк, 196 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. засценак, 1 двор, 13 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 25 жыхароў. У 1904 г. 36 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 7 двароў, 42 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мікасецкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 1954 г. ў Старагабскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 10 двароў, 47 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. ўтвораны калгас імя У.І.Леніна, з 1954 г. ў складзе калгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр – в. Зані), які ў 2006 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Зані» (цяпер ААТ «Зані»). У 1950 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. 30 жыхароў. У 1970 г. 17 жыхароў. У 1997 г. 1 двор, 5 жыхароў.

**ГРУМБІНЕНТЫ** – вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 53 км на З ад Мядзела, 14 км ад чыг. ст. Лынтупы, на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 192 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1847 г. вёска (10 двароў, 81 жыхар) у складзе маёнтка Альшэва, уладанне С.Хамінскага, у Свянцянскім павеце Віленскай губ. У 1868 г. 120 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. в. Грумбяненты, 25 двароў, 146 жыхароў, у Свірскай вол. У 1904 г. ў вёсцы 182 жыхары, у 1907 г. – 138. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Куцькоўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Свірскім, з 5.8.1954 г. ў Канстанцінаўскім с/с, з 31.8.1959 г. Мядзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана гітлераўцамі. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1949 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У 1960 г. 160 жыхароў. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. – калгаса «Канстанцінава» (цэнтр – в. Камарова), з 2002 г. – у калгасе «Свір», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (зараз ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 118 жыхароў. У 1997 г. 19 гаспадарак, 34 жыхары.

**ГРЫБКІ** – вёска ў Крывіцкім с/с. За 31 км на ПдУ ад Мядзела, 10 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна–Полацк, 159 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2011).

За 0,3 км на У ад цэнтра вёскі, ва ўрочышчы Малатоўкі, знаходзіцца курганны могільнік (захаваліся 2 курганы). Вядома з 19 ст. У 1897 г. 17 двароў, 110 жыхароў, у Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 145 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Будслаўскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 25 двароў, 134 жыхары. У 1939 г. вёска, 30 двароў, 153 жыхары, і былы фальварак, 5 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Вераб'ёўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Пузыроўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не, з 30.10.2009 г. ў Крывіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. ўтвораны калгас імя К.Я.Варашылава. У 1955 г. радыёфікавана, у 1967 г. элек-

трыфікавана. У 1960 г. 154 жыхары. З 1975 г. ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пузыры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Вузлянка» (з 2004 г. асобнае структурнае падраздзяленне «Вузлянка» гандлёвага УП «Мінскі Камароўскі рынак»). У 1970 г. 157 жыхароў. У 1997 г. 21 гаспадарка, 33 жыхары.

**ГУЛІ** — вёска ў Слабодскім с/с. За 20 км на ПнУ ад Мядзела, 24 км ад чыг. ст. Варапаева на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 172 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 23 гаспадаркі, 53 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 28 двароў, 217 жыхароў, у Габскай вол. Вілейскага павета. Паводле перапісу 1897 г. 62 двары, 373 жыхары, у Жаснянскай вол. Вілейскага павета. У 1901 г. адкрыта школа граматы. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жаснянскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 64 двары, 355 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Слабодскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 92 двары, 359 жыхароў, быў арганізаваны калгас «17 Верасня». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. 1944 г. каля вёскі ў баі супраць гітлераўцаў загінула кіраўнік падпольнай камсамольскай арганізацыі в. Ліпнікі Пастаўскага р-на, разведчыца партыз. брыгады імя К.Я.Варашылава Н.М.Асіненка. На месцы яе гібелі ў 1969 г. пастаўлена стэла. Ням.-фаш. захопнікі знішчылі 5 жыхароў, 13 вяскоўцаў загінула на франтах і ў партыз. барацьбе. З 1954 г. ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр — в. Слабада), з 2003 г. — СВК «Слабодская зара» (зараз ААТ «Слабодская зара»). У 1956 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. 255 жыхароў. У 1970 г. 201 жыхар. У 1997 г. 38 гаспадарак, 80 жыхароў.

**ДАЎЖАНІ** — вёска ў Сваткаўскім с/с. За 18 км на ПдУ ад Мядзела, 10 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 110 км ад Мінска на шашы Мядзел—Крывічы. Рэльеф раўнінны, на Пд працякае р. Вузлянка (прыток р. Нарач). 20 гаспадарак, 35 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Доўжа, 3 двары, 10 жыхароў мужчынскага полу, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1868 г. 9 двароў, 81 жыхар, у Княгінінскай вол. Вілейскага павета. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 157 жыхароў. У 1904 г. 186 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 35 двароў, 177 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Сваткаўскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 31 двор, 92 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. арганізаваны калгас імя М.І.Кутузава, з 1954 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Сваткі), з 1994 г. — у аграфірме «Зара», з 1997 г. — у с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка, якое ў 2011 г. было рэарганізавана ў СВК «Сваткі» (цяпер ААТ «Сваткі»). У 1960 г. 185 жыхароў. У 1966 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 154 жыхары. У 1997 г. 35 гаспадарак, 65 жыхароў.

**ДВОР КРАПІЎНА** — вёска ў Слабодскім с/с. За 15 км на ПнУ ад Мядзела, 47 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 176 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2011).

Вядома з пач. 20 ст. У 1904 г. тут былі 3 засценкі (5, 2 і 10 жыхароў), а таксама маёнтак (12 жыхароў), у Мядзельскай вобл. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета. У 1921 г. 3 двары, 22 жыхары. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Мікасецкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 21.5.1951 г. ў Дзягільскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 1.1.2007 г. ў Слабодскім с/с. У 1940 г. 15 двароў, 51 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 10 двароў, знішчылі 10 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1960 г. хутары Крапіўна-1 (28 жыхароў) і Крапіўна-2 (14 жыхароў). З 1961 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Дзягілі), які ў 1992 г. быў рэарганізаваны ў дапаможную гаспадарку «Дзягілі» Мінскага маторнага завода (з 2009 г. ААТ «Мінскі маторны завод» с.-г. філіял «Дзягілі»). У 1963 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. пасёлак, 21 жыхар. У 1997 г. 6 гаспадарак, 15 жыхароў.

**ДЗЯГІЛІ** — вёска ў Слабодскім с/с. За 12 км на ПнУ ад Мядзела, 32 км ад чыг. ст. Варапаева на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 168 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Ваўкалата. Рэльеф раўнінны, на Пд — воз. Дзягілеўскае. 79 гаспадарак, 179 жыхароў (2011).

У вёсцы знаходзіцца гарадзішча. Пры шурфоўцы знойдзены абломкі ляпной штрыхаванай керамікі і косці жывёл. Вядома з 18 ст. У 1739 г. 14 двароў, 45 жыхароў мужчынскага полу, шляхецкая ўласнасць. У 1752 г. маёнтак у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. вёска (18 двароў, 116 жыхароў) і аколіца (2 двары, 7 жыхароў), у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1868 г. вёска ў Вілейскім павеце Віленскай губ., 19 двароў, 117 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска (35 двароў, 224 жыхары), маёнтак (23 жыхары) і сядзіба (3 жыхары), у Жаснянскай вол. З 1900 г. дзейнічала школа граматы. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 41 двор, 212 жыхароў, у засценку 1 двор, 12 жыхароў, у фальварку 2 двары, 31 жыхар. Побач знаходзіліся калоніі Дзягілі-1 і Дзягілі-2, уваходзілі ў Жаснянскую гміну Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. — цэнтр сельсавета Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.09.1944 г. Маладзечанскай, з 20.01.1960 г. Мінскай вобл., з 1.1.2007 г. ў Слабодскім с/с. У 1940 г. 292 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 59 жыхароў. На ўшанаванне іх памяці ў 1965 г. ў вёсцы пастаўлены абеліск. З 1946 г. дзейнічала хата-чытальня. У 1949 г. арганізаваны калгас імя І.У.Мічурына. У 1960 г. 218 жыхароў. З 1961 г. цэнтр імя А.В.Суворава, які ў 1992 г. быў рэарагнізаваны ў дапаможную гаспадарку «Дзягілі» Мінскага маторнага завода (з 2009 г. с.-г. філіял «Дзягілі» ААТ «Мінскі маторны завод»). У 1970 г. хутары, 129 жыхароў. У 1997 г. 103 гаспадаркі, 282 жыхары. Працуюць (2011) Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі (перасовачнае), магазін.

**ДЗЯНІСАВА** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 53 км на ПдУ ад Мядзела, 9 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 146 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2011).

За 0,8 км на ПдЗ ад вёскі знаходзіцца гарадзішча (мясц. назва Раманава Гара), якое займае мыс марэннага ўзвышша. З

паўн.-зах. боку да гарадзішча прымыкае селішча (пл. 0,5 га). Тут знойдзена ляпная гладкасценная і штрыхаваная кераміка, перапаленыя камяні. Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 1 двор, 9 жыхароў. У 1868 г. маёнтак у Вілейскім павеце Віленскай губ., уладанне Пржасвіцкага. Паводле перапісу 1897 г. вёска і сядзіба, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У лют.—снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяводства. У 1921 г. 15 двароў, 95 жыхароў. У 1939 г. хутар, 21 гаспадарка, 96 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Пузыроўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. Мядзельскага р-на, з 9.8.1979 г. ў Крывіцкім пас. Савеце (да 30.10.2009 г.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан». У 1956 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1960 г. 95 жыхароў. У 1970 г. 87 жыхароў. З 1979 г. ў складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Пруднікі), які ў 1998 г. быў рэарганізаваны ў с.-г. калектыўнае прадпрыемства «Беларусь» (цяпер ААТ «Пруднікі-агра»). У 1997 г. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў.

**ДЗЯТЛАЎШЧЫНА** — былая вёска ў Княгінінскім с/с. За 32 км на ПдУ ад Мядзела, 3 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 155 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны.

Вядома з 18 ст. У 1799 г. засценак, 3 двары, 29 жыхароў, уласнасць памешчыка В.Козела. У 1868 г. 2 двары, 17 жыхароў, у Княгінінскай вол. Вілейскага павета. У 1904 г. 47 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР. У 1921—39 гг. у Польшчы. У 1939 г. вёска, 16 двароў, 86 жыхароў. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1950 г. арганізаваны калгас «Герой Працы». У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. У 1960 г. 96 жыхароў. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Крывічы» (цэнтр — в. Княгінін). У 1970 г. 20 жыхароў. У 1997 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар.

**ДУБАНОСЫ** — вёска ў Крывіцкім с/с За 20 км на ПдУ ад Мядзела, 10 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 152 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Крывічы. Рэльеф раўнінны. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Дубаносава, 6 двароў, 26 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1847 г. 4 двары, 34 жыхары, ва ўладанні В.Корсака. У 1897 г. 8 двароў, 87 жыхароў, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 11 двароў, 116 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета. У 1921 г. 21 двор, 124 жыхары. У 1939 г. вёска, 24 двары, 124 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Пузыроўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не, з 30.10.2009 г. ў Крывіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1948 г. арганізаваны калгас імя Ф.Э.Дзяржынскага. У 1955 г. радыёфікавана, у 1967 г. электрыфікавана. У 1960 г. 96 жыхароў. З 1975 г. вёска ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пузыры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Вузлянка» (з

2004 г. асобнае структурнае падраздзяленне «Вузлянка» гандлёвага УП «Мінскі Камароўскі рынак»). У 1970 г. 76 жыхароў. У 1997 г. 14 гаспадарак, 23 жыхары.

**ДУБНІКІ** — вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 56 км на З ад Мядзела, 27 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 188 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. Побач з вёскай знаходзіцца воз. Свір. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1779 г. вёска, 3 двары, шляхецкая ўласнасць. У 1788 г. 7 жыхароў мужчынскага полу. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1847 г. маёнтак у Свянцянскім павеце Віленскай губ., уладанне Ясюковіча. У 1868 г. 2 вёскі Дубнікі, 12 двароў, 107 жыхароў (2 двары, 26 жыхароў). Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 153 жыхары, у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёска (183 жыхары), маёнтак (22 жыхары). З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922 —39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Канстанцінаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 5.8.1954 г. ў Шэметаўскім с/с, з 31.8.1959 г. Мядзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У 1940 г. вёска, 36 двароў, 169 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1948 г. арганізаваны калгас «Зара Усходу». У 1960 г. 85 жыхароў. З 1960 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Свір» (цэнтр — г.п. Свір), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (цяпер ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 89 жыхароў. У 1997 г. 12 гаспадарак, 25 жыхароў.

**ЕЛЬНІЦА** — вёска ў Княгінінскім с/с. За 27 км на ПдУ ад Мядзела, 12 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 161 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 14 гаспадарак, 22 жыхары (2011).

Вядома з 17 ст. У 1651 г. сяло, 4 дымы, у складзе маёнтка Крывічы, уладанне Я.Кішкі. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 6 двароў, 44 жыхары. У 1847 г. вёска ў складзе маёнтка Янушова, уладанне В.Корсака, 5 двароў, 52 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 92 жыхары, хлебазапасны магазін, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З 1900 г. працавала школа граматы. У 1904 г. 100 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. 20 двароў, 125 жыхароў, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Восаўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 16.7.1954 г. ў Княгінінскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. Мядзельскага р-на. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У 1950 г. электрыфікавана, а у 1960 г. радыёфікавана. У 1960 г. 177 жыхароў. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Восаўскі» (цэнтр — в. Восава), з 1997 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (зараз камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1970 г. 177 жыхароў. У 1997 г. 26 гаспадарак, 50 жыхароў.

**ЖАЛЕЗНІКІ** — вёска ў Занарацкім с/с. За 29 км на ПдЗ ад Мядзела, 34 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 174 км ад Мінска, на шашы Ольшава—Занарач. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Нарач (прыток р. Уша). 43 гаспадаркі, 95 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1786 г. вёска, 8 двароў, 65 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. в. Жалезоўшчына, 10 двароў, 56 жыхароў. У сярэдзіне 19 ст. вёска падзялілася на 2. У 1897 г. ў в. Жалезнікі-1 19 двароў, 139 жыхароў, у в. Жалезнікі-2 17 двароў, 126 жыхароў, уваходзілі ў Занарацкую вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1898 г. адкрыта школа граматы. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі, якія спалілі яе ў сак. 1916 г., калі тут праводзілася Нарачанская аперацыя войск рус. армій Паўн. і Зах. франтоў. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 11.10.1940 г. ў Занарацкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 57 двароў, 232 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і знішчылі 3 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1950 г. створаны калгас «Перамога». У 1955 г. радыёфікавана, у 1966 г. электрыфікавана. У 1960 г. 193 жыхары. З 1973 г. вёска ў складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Занарач), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Занарачанскі» (цяпер ААТ «Занарачанскі»). У 1970 г. 188 жыхароў. У 1997 г. 48 гаспадарак, 107 жыхароў.

**ЖУЦІНА** — вёска ў Слабодскім с/с. За 29 км на ПнУ ад Мядзела, 25 км ад чыг. ст. Варапаева на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 179 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ — воз. Жуцінскае. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1846 г. засценак, 1 двор, 8 жыхароў, у складзе маёнтка Смыч, уладанне графа К.І.Тызенгаўза. У 1897 г. 2 двары, 14 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскай губ. У 1904 г. фальварак, 16 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 14 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Нагаўскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 2.8.1950 г. ў Слабодскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. вёска, 22 двары, 152 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 3 жыхары загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе. У 1949 г. створаны калгас імя У.І.Леніна. З 1954 г. вёска ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр в. Канстанцінава), з 2001 г. ў калгасе «17 верасня» (цэнтр — в. Слабада), з 2003 г. — СВК «Слабодская зара» (цяпер ААТ «Слабодская зара»). У 1956 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. 48 жыхароў. У 1970 г. 80 жыхароў. У 1997 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў.

**ЗАБЕГІ** — вёска ў Будслаўскім с/с. За 49 км на У ад Мядзела, 9 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 137 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З працякае р. Сэрвач, якая ўпадае ў Вілейскае вадасховішча. 17 гаспадарак, 25 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 6 двароў, 48 жыхароў, у Будслаўскай вол. Вілейскага павета. У 1897 г. 13 двароў, 86 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Будслаўскай гміне Дунілавіцкага, з 1925 г. Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 20 двароў, 114 жыхароў. У 1939 г. вёска, 23 двары, 122 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Вераб'ёўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 27.3.1959 г. ў Будслаўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганіза-

ваны калгас імя С.М.Кірава. У 1960 г. 118 жыхароў. З 1965 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Будслаўскі» (цэнтр — в. Будслаў), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Будслаўскі» (цяпер ААТ «Будслаўскае»). У 1970 г. 114 жыхароў. У 1997 г. 29 двароў, 51 жыхар.

**ЗАВУГОЛЛЕ** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 18 км на ПдУ ад Мядзела, 14 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 154 км ад Мінска, на шашы Крывічы—Мядзел. Рэльеф раўнінны. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 1 двор, 11 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. старожка, 1 двор, 8 жыхароў, у Жаснянскай вол. Вілейскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жаснянскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 9 двароў, 65 жыхароў. У 1939 г. хутары, 14 двароў, 98 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Пузыроўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не, з 30.10.2009 г. ў Крывіцкім с/с. У 1940 г. 23 двары, 100 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. спалена гітлераўцамі. У 1950 г. арганізаваны калгас імя А.В.Суворава. У 1955 г. радыёфікавана, у 1967 г. электрыфікавана. У 1960 г. 81 жыхар. З 1952 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пузыры), з 1975 г. — рэарганізаванага калгаса з той жа назвай, з 2003 г. — СВК «Вузлянка» (з 2004 г. асобнае структурнае падраздзяленне «Вузлянка» гандлёвага УП «Мінскі Камароўскі рынак»). У 1970 г. 110 жыхароў. У 1997 г. 23 двары, 33 жыхары.

**ЗАДУБЕННЕ** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 49 км на ПдУ ад Мядзела, 3 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 144 км ад Мінска, на шашы Крывічы—Мядзел. Рэльеф раўнінны, на Пн і З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Сэрвач (упадае ў Вілейскае вадасховішча). 44 гаспадаркі, 77 жыхароў (2011).

Вядома з 17 ст. У 1606 г. сяло Задубляны, 5 двароў, 5 валок зямлі, уласнасць Радзівілаў. У 1651 г. 9 двароў, у складзе маёнтка Крывічы, уладанне Я.Кішкі. З 1793 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 205 жыхароў, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 243 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 46 двароў, 247 жыхароў. У 1939 г. хутары, 70 гаспадарак, 331 жыхар, і засценак, 2 двары, 12 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Пузыроўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. Мядзельскага р-на, з 9.8.1979 г. ў Крывіцкім пас. (да 30.10.2009) Савеце. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі, на ўшанаванне памяці 15 жыхароў вёсак калгаса імя А.С.Пушкіна, што загінулі на франтах, у 1965 г. пастаўлены абеліск. У 1949 г. арганізаваны калгас імя А.С.Пушкіна. У 1956 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1960 г. 294 жыхары. З 1979 г. ў складзе калгаса імя А.А.Жданава, з 1990 г. — калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Пруднікі), які ў 1998 г. быў рэарганізаваны ў с.-г. калектыўнае прадпрыемства «Беларусь» (зараз ААТ «Прудннікі—агра»). У 1970 г. 266 жыхароў. У 1997 г. 75 гаспадарак, 153 жыхары.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 25 км на ПдУ ад Мядзела, 9 км

ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна-Полацк, 153 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 10 гаспадарак, 11 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 14 двароў, 82 жыхары, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 110 жыхароў, у 1908 г. — 18 двароў, 119 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 21 двор, 126 жыхароў. У 1939 г. вёска, 24 двары, 123 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Вераб'ёўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Пузыроўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не, з 30.10.2009 г. ў Крывіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас «Герой Працы». У 1955 г. радыёфікавана, у 1967 г. электрыфікавана. У 1960 г. 110 жыхароў. З 1975 вёска ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пузыры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Вузлянка» (з 2004 г. асобнае структурнае падраздзяленне «Вузлянка» гандлёвага УП «Мінскі Камароўскі рынак»). У 1970 г. 104 жыхары. У 1997 г. 17 гаспадарак, 31 жыхар.

**ЗАМАШША** — вёска, у Сваткаўскім с/с. За 20 км на ПдУ ад Мядзела, 12 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 112 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 29 гаспадарак, 15 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1786 г. фальварак, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі.У 1799 г. 2 двары, 6 жыхароў. У 1868 г. 6 двароў, 67 жыхароў, у Княгінінскай вол. Вілейскага павета. З 1884 г. працавала школа граматы, у якой у 1896 г. вучылася 10 хлопчыкаў і 7 дзяўчынак. У 1904 г. вёска (172 жыхары), фальварак (12 жыхароў). У 1908 г. 19 двароў, 160 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 31 двор, 173 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сваткаўскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 1952 г. ў Брусаўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 1.10.1973 г. ў Вузлянскім, з 23.3.1987 г. ў Сваткаўскім с/с. У 1940 г. 42 двары, 187 жыхароў, арганізаваны калгас імя У.І.Леніна (адноўлены ў 1949 г.). У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (да 9.11.1961 г. калгас імя І.В.Сталіна, з 1988 г. цэнтр — в. Сваткі). У 1960 г. 144 жыхары. У 1966 г. электрыфікавана і радыёфікавана, з 1994 г. — у аграфірме «Зара», з 1997 г. — у с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка, якое ў 2001 г. было рэарганізавана ў СВК «Сваткі» (цяпер ААТ «Сваткі»).

**ЗАНАРАЧ** — вёска, цэнтр Занарацкага с/с. За 25 км на ПдЗ ад Мядзела, 170 км ад Мінска, 47 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 170 км ад Мінска, на шашы Нарач—Ма-



*Спаса-Праабражэнская царква ў в. Занарач.*



Амбулаторыя ў в. Занарач.

ладзечна. Рэльеф раўнінны, на Пн і У — воз. Нарач. 231 гаспадарка, 653 жыхары (2011).

У цэнтры вёскі, на паўд. ускраіне сучасных могілак знаходзіцца курганны могільнік (мясц. назва Калатоўкі, захавалася 15 насыпаў). Датуецца 3-й чвэрцю 1-га тыс. н.э. і больш познім часам, належаў славянам. У 1895 г. Ф.В.Пакроўскім раскапаны 3 курганы. Вядома з 18 ст., у 1729 г. маёнтак Ашмянскага павета Віленскага ваяв. У 1770 г. ён знаходзіўся ва ўладанні Сташкевічаў, з 1781 г. — Даброўскіх. У 1784 г. пабудавана царква. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1864 г. адкрыта школа (народнае вучылішча), у якой у 1884 г. навучалася 56 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. У 1868 г. сяло, 26 двароў, 208 жыхароў, у Свянцянскім павеце. У 1880 г. ў сяле 295 жыхароў, царква, школа, 2 лаўкі. З 1885 г. — цэнтр вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1893 г. адкрыта 1-класная царк.-прыходская школа. У 1897 г. 48 двароў, 354 жыхары, дзейнічалі малітоўны дом, 2 хлебазапасныя магазіны, лячэбны прыёмны пакой, 3 лаўкі, піцейны дом. У 1908 г. 323 жыхары. У вер. 1915 г. акупіравана германскімі войскамі і спалена, 21.3.1916 г. ў час Нарачанскай аперацыі войск рус. армій Паўн. і Зах. франтоў (18—28 сак. 1916 г.) салдаты 27-га і 28-га палкоў 7-й пяхотнай дывізіі 2-й рус. арміі авалодалі Занараччу. У лют. 1918 г. зноў занята кайзераўцамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 105 двароў, 425 жыхароў. У 1940 г. арганізаваны калгас «23-я гадавіна Чырвонай Арміі». У Вял. Айч. вайну 29.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Адразу ж пасля акупацыі былі расстраляны першы старшыня сельсавета І.В.Шчамель, сакратар сельсавета А.В.Жыла. У вер. 1943 г. вёска спалена гітлераўцамі, знішчаны 41 жыхар. Вызвалена 4.7.1944 г. Пасля вайны адбудавана. У 1965 г. на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі на франтах і ад рук карнікаў, пастаўлены 2 абеліскі. У 1949 г. арганізаваны калгас імя А.Я.Пархоменкі. З 1952 г. цэнтр калгаса «Шлях да камунізму», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Занарачанскі» (зараз ААТ «Занарачанскі»). У 1953 г. пабудаваны радыёвузел. У 1953 г. радыёфікавана, у 1966 г. электрыфікавана. У 1960 г. 282 жыхары. 12.11.1966 г. да в. Занарач далучана в. Блізнікі. У 1970 г.



Ветраны электрагенератар каля в. Занарач.

403 жыхары. У 1997 г. 246 гаспадарак, 692 жыхары. З 2006 г. аграгарадок. Працуюць (2011) сярэдняя школа, дзіцячы садок, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, 5 магазінаў.

У склад Занарацкага с/с уваходзяць 9 населеных пунктаў.

**ЗАНІ** – вёска ў Старагабскім с/с. За 12 км на У ад Мядзела, 41 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна–Полацк, 196 км ад Мінска, на шашы Старыя Габы–Мядзел. Рэльеф раўнінны. 47 гаспадарак, 94 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. У 1770 г. вёска (12 сем'яў), у Мядзельскім старастве Віленскага ваяв. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Занякі, 12 двароў, 86 жыхароў, уласнасць казны, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1868 г. 2 вёскі: Зані-1 (5 двароў, 31 жыхар) і Зані-2 (10 двароў, 110 жыхароў), у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У в. Зані-2 працавала школа граматы, дзе ў 1896 г. вучылася 10 хлопчыкаў. У 1904 г. ў в. Зані-1 67 жыхароў, у в. Зані-2 198 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. ў в. Зані-1 10 двароў, 49 жыхароў, у в. Зані-2 38 двароў, 179 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мікасецкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 1954 г. ў Старагабскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 51 двор, 246 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінула 11 жыхароў вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў у 1965 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. У 1948 г. створаны калгас «Перамога», у 1951– 54 гг. цэнтр узбуйненага калгаса імя У.І.Леніна, з 19.4.1954 г. – калгаса «Шлях Ільіча», які ў 2006 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Зані» (зараз ААТ «Зані»). У 1950 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. 154 жыхары. У 1970 г. 97 жыхароў. У 1997 г. 64 двары, 169 жыхароў. Працуюць (2011) Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін.

**ЗАРЭЧНАЕ** – вёска ў Княгінінскім с/с. За 30 км на ПдУ ад Мядзела, 1 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 153 км ад Мінска, на шашы Крывічы–Мядзел. Рэльеф раўнінны, на паўд. ускраіне працякае р. Наква (прыток р. Сэрвач). 21 гаспадарка, 27 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Зарэчча, 11 двароў, 52 жыхары, шляхецкая ўласнасць. З 1892 г. працавала школа граматы. У 1897 г. 30 двароў, 157 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 190 жыхароў, у 1908 г. — 236 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 41 двор, 234 жыхары. У 1939 г. хутары, 65 двароў, 273 жыхары, чыг. старожка, 5 жыхароў. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У 1940 г. 50 двароў, 140 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 6 двароў, знішчылі 5 жыхароў. У 1949 г. арганізаваны калгас імя А.Я.Вышынскага. У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Крывічы» (цэнтр – в. Княгінін), з 2000 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (зараз камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1960 г. 256 жыхароў. У 1970 г.

202 жыхары. У 1997 г. 42 гаспадаркі, 67 жыхароў.

**ЗАСВІР** – вёска ў Свірскім пасялковым савеце. За 56 км на З ад Мядзела, 27 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 188 км ад Мінска, на шашы Ольшава–Занарач. 40 гаспадарак, 80 жыхароў (2011).

За 1,5 км на З ад цэнтра вёскі знаходзіцца селішча 2-й пал. 1-га – пач. 2-га тыс. н.э.; за 1 км на Пд ад вёскі – курганны могільнік 6–12 ст. (69 насыпаў). Вядома з 18 ст. У 1713–14 гг. у маёнтку Засвір на сродкі Зяновічаў пабудаваны мужчынскі кляштар ордэна кармелітаў і мураваны касцёл (захаваўся, рэстаўрыраваны). З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1860 г. Засвір казённае мястэчка, 14 двароў, 96 жыхароў. Кляштар у 1862 г. разбураны, касцёл пераўтвораны ў царкву, а ў 1919 г. зноў перададзены каталікам. У 1865 г. сяло, 53 жыхары мужчынскага полу, школа граматы, царква. У 1884 г. адкрыта школа (народнае вучылішча), у якой на той момант вучылася 44 хлопчыкі і 1 дзяўчынка. У 1893 г. пачала працаваць 2-класная царк.-прыходская школа. У 1897 г. 21 двор, 149 жыхароў, у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Шэметаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. Мядзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 20.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У 1940 г. вёска, 35 двароў, 169 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1950 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Сцяг». У 1960 г. 105 жыхароў. З 1960 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. – калгаса «Свір» (цэнтр – г.п. Свір), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (зараз ААТ «Свір-агра»). 12.11.1966 г. да вёскі далучаны хутары Алешкі, Унукі, Собінава. У 1970 г. 222 жыхары. У 1997 г. 53 гаспадаркі, 94 жыхары. Помнік архітэктуры: касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар кармелітаў (18 ст.).



*Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар кармелітаў у в. Засвір.*

**ЗАСЦЕНАК БРЫЛІ** – вёска ў Нарацкім с/с. За 10 км на ПнЗ ад Мядзела, 39 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 186 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 8 гаспадарак, 25 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. маёнтак (120 дзес., 1 двор, 8 жыхароў), уваходзіў у Кабыльніцкую вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. фальварак, 10 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 45 жыхароў. З 1979 г. ў складзе калгаса «Нарач» (цэнтр – в. Чараўкі), у 1998–2006 гг. – доследнага рыбгаса «Нарач» (з 2000 г. РУП «Доследная

рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1970 г. 52 жыхары. У 1997 г. 12 двароў, 20 жыхароў.

**ЗАЎРУТКІ** – вёска ў Слабодскім с/с. За 28 км на ПнУ ад Мядзела, 20 км ад чыг. ст. Варапаева на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 178 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 13 гаспадарак, 15 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Заўруткі (яна ж Заўрушкі), 12 двароў, 86 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1868 г. вёска Дунілавіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 12 двароў, 136 жыхароў. З 1893 г. працавала школа граматы, у якой у 1896 г. вучылася 10 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. вёска (24 двары, 147 жыхароў) і засценак (13 двароў, 97 жыхароў), у Жаснянскай вол. Вілейскага павета. У 1904 г. ў вёсцы 199 жыхароў, у засценку – 87. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Жаснянскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 28 двароў, 140 жыхароў, у засценку 17 двароў, 95 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Слабодскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. створаны калгас імя В.І.Чапаева. у 1940 г. 58 двароў, 276 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінула 13 жыхароў. У 1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Зорка». З 1954 г. ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр – в. Слабада), з 2003 г. – СВК «Слабодская зара» (цяпер ААТ «Слабодская зара»). У 1956 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. вёскі Заўруткі-1 (125 жыхароў) і Заўруткі-2 (98 жыхароў). З 1966 г. вёска Заўруткі, да якой быў далучаны і хутар Заўруткі. У 1970 г. 171 жыхар. У 1997 г. 35 гаспадарак, 56 жыхароў.

**ЗЫКАВА** – вёска ў Слабодскім с/с. За 29 км на ПнУ ад Мядзела, 25 км ад чыг. ст. Варапаева на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 179 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 3 двары, 28 сялян і 1 двор, 12 чалавек аколічнай шляхты, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1846 г. 5 двароў, 40 жыхароў, у складзе маёнтка Смыч Вілейскага павета, уладанне графа К.І.Тызенгаўза. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 110 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Слабодскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 14 двароў, 64 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1949 г. арганізаваны калгас імя В.П.Чкалава. З 1954 г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр – в. Канстанцінава), з 2001 г. ў калгасе «17 верасня» (цэнтр – в. Слабада), з 2003 г. – СВК «Слабодская зара» (цяпер ААТ «Слабодская зара»). У 1956 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. 45 жыхароў. У 1970 г. 55 жыхароў. У 1997 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў.

**ЗЯЛЁНКІ** – вёска ў Нарацкім с/с. За 26 км на ПнЗ ад Мядзела, 35 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 180 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 13 гаспадарак, 25 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. вёска, 16 двароў, 116 жыхароў, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Вілен-

скай губ. У 1908 г. 138 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У 1940 г. 24 двары, 135 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 21 двор, знішчылі 5 жыхароў. Пасля вайны аднаўлена. У 1950 г. ўтвораны калгас «1 Мая». У 1960 г. 113 жыхароў. З 1979 г. ў складзе калгаса «Нарач» (цэнтр — в. Чараўкі), у 1998—2006 гг. у доследным рыбгасе «Нарач» (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1970 г. 116 жыхароў. У 1997 г. 26 гаспадарак, 40 жыхароў.

**ІВАНАЎКА** — вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 48 км на З ад Мядзела, 26 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 186 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы, на Пд і З — воз. Свір. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. выселак, 3 двары, 36 жыхароў, у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 5 двароў, 49 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Шэметаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. Мядзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У 1940 г. вёска, 11 двароў, 44 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1960 г. 47 жыхароў. З 1960 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Свір» (цэнтр — г.п. Свір), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (зараз ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 34 жыхары. У 1997 г. 7 гаспадарак, 17 жыхароў.

**ІВАНКІ** — вёска ў Сырмежскім с/с. За 51 км на ПдЗ ад Мядзела, 40 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна—Полацк, 203 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З — воз. Вішнеўскае. 12 гаспадарак, 21 жыхар (2011).

Вядома з 19 ст. У 19 ст. маёнткі Іванкі і Дваржэц у Свянцянскім павеце Віленскай губ., уладанне памешчыка Урбановіча, 10 двароў, 28 душ прыгонных сялян мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 22 двары, 107 жыхароў, у Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 149 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сырмежскім с/с Свірскага р-на Вілейскай вобл., з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. вёска, 30 двароў, 125 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас імя М.Горкага, у 1952 — 54 гг. цэнтр узбуйненага калгаса імя М.Горкага. З 1954 г. ў складзе рэарганізаванага калгаса з той жа назвай (цэнтр — в. Буйкі). У 1960 г. 113 жыхароў, з 2003 г. — СВК «Вішнеўскае» (у 2004—08 гг. с.-г. ўчастак «Вішнеўскае» вытворчага прыватнага УП «Цепласеці». У 1966 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 91 жыхар. У 1997 г. 19 гаспадарак, 42 жыхары.

**ІЛАВА** — вёска ў Будслаўскім с/с. За 49 км на ПдУ ад Мядзела, 9 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 137 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У працякае р. Сэрвач (упадае

ў Вілейскае вадасховішча). 60 гаспадарак, 155 жыхароў (2011).

Вядома з 17 ст. У 1668 г. фальварак, у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1885 г. маёнтак, дзейнічаў вінакурны завод. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 41 жыхар, у Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1899 г. вінакурны завод быў пераабсталяваны, устаноўлены паравы рухавік (у 1913 г. 5 рабочых). У 1904 г. ў маёнтку 41 жыхар, уладанне памешчыка Акушкі. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Будслаўскай гміне Дунілавіцкага, з 1925 г. Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 7 двароў, 38 жыхароў. У 1939 г. 64 жыхары, працаваў вінакурны завод. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Вераб'ёўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 27.3.1959 г. ў Будслаўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. аднавіў работу спіртзавод. У 1960 г. 231 жыхар. З 1965 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Будслаўскі» (цэнтр — в. Будслаў), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Будслаўскі» (цяпер ААТ «Будслаўскае»). У 1970 г. 117 жыхароў. У 1997 г. 63 гаспадаркі, 375 жыхароў. Працуюць (2011) Мінскае абласное вытворчае УП «Ілаўскае», Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны.

**КАБАЙЛЫ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 15 км на Пн ад Мядзела, 23 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 168 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы, на ПнУ — воз. Ваўчаны. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 68 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ.



*Возера Воўчын каля в. Кабайлы.*

Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 158 жыхароў, у Манькавіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 167 жыхароў, у 1908 г. —197. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Манькавіцкай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 47 двароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лацвянскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2007 г. ў Мядзельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас імя А.С.Пушкіна. З 1954 г. ў складзе калгаса «40 год Кастрычніку» (цэнтр — в. Лотва), які ў 1999 г. быў далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга». У 1970 г. 57 жыхароў. У 1997 г. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў. У 1960 г. 74 жыхары.

**КАВАЛІ** — вёска ў Княгінінскім с/с. За 28 км на ПдУ ад Мядзела, 13 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 162 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 3 гаспадаркі, 25 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1847 г. ў Вілейскім павеце Віленскай губ., 4 двары, 32 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 55 жыхароў, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета. У 1908 г. 67 жыхароў. З лют.

да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. 7 двароў, 56 жыхароў. У 1939 г. вёска, 19 двароў, 96 жыхароў, калонія Кавалі 1 — 6 двароў, 53 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Восаўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Княгінінскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас «Камунар». У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. У 1960 г. 108 жыхароў. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Восаўскі» (цэнтр — в. Восава), з 1997 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (зараз камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1970 г. 88 жыхароў. У 1997 г. 14 гаспадарак, 15 жыхароў.

**КАВАЛІ** — вёска ў Слабодскім с/с. За 23 км на ПнУ ад Мядзела, 24 км ад чыг. ст. Варапаева на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 173 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. фальварак, 1 двор, 4 жыхары. У 1868 г. вёска, 9 двароў, 49 жыхароў, у Габскай вол. Вілейскага павета. З 1894 г. ў вёсцы працавала школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. вёска (16 двароў, 129 жыхароў, хлебазапасны магазін), засценак (5 двароў, 20 жыхароў) і маёнтак (9 жыхароў) у Жаснянскай вол. Вілейскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жаснянскай вол. Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 15 двароў, 86 жыхароў, у фальварку 5 двароў, 36 жыхароў. У 1927 г. арганізавана ячэйка КПЗБ. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Слабодскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 30 двароў, 128 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З вяскоўцы загінулі на франтах. У 1949 г. арганізаваны калгас імя А.Неўскага. З 1954 г. ў складзе «17 верасня» (цэнтр — в. Слабада), з 2003 г. — СВК «Слабодская зара» (зараз ААТ «Слабодская зара»). У 1970 г. 64 жыхары. У 1997 г. 16 гаспадарак, 29 жыхароў. У 1956 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. Маецца тэлефонная сувязь. У 1960 г. 79 жыхароў. Радзіма бел. паэта-дэмакрата, фалькларыста, перакладчыка, рэвалюцыянера Адама Гілярыя Калікставіча Гурыновіча [25.1.1869—4.2. (па іншых звестках 26 ці 29.1.1894 г.)].

**КАЛІНАЎКА** — вёска ў Сваткаўскім с/с. За 13 км на ПдУ ад Мядзела, 18 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1770 г. вёска (3 сям'і) у Мядзельскім старастве Віленскага ваяв. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 6 двароў, 40 жыхароў, уласнасць казны. У 1868 г. вёска (7 двароў, 66 жыхароў) і засценак (3 двары, 26 жыхароў) у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Працавала школа граматы, у якой у 1896 г. вучылася 12 хлопчыкаў. У 1904 г. вёска, 201 жыхар; засценак, 67 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 28 двароў, 141 жыхар, у засценку 14 двароў, 58 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сваткаўскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 21.5.1951 г. ў Лук'янаўскім с/с, з 1952 г. зноў у Сваткаўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай

вобл. У 1940 г. 28 двароў, 147 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 вяскоўцаў загінула на франтах і ў партыз. барацьбе. У 1948 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, у 1951 – 52 гг. – цэнтр узбуйненага калгаса з той жа назвай. З 1952 г. ў складзе калгаса імя В.М.Молатава (з 1957 г. «Зара», з 1988 г. ў калгасе імя У.І.Леніна (цэнтр – в. Сваткі), з 1994 г. ў аграфірме «Зара», з 1999 г. ў с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка, якое ў 2011 г. было рэарганізавана ў СВК «Сваткі» (зараз ААТ «Сваткі»). У 1960 г. 104 жыхары. У 1966 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 99 жыхароў. У 1997 г. 19 гаспадарак, 33 жыхары.

**КАЛОДЗІНА** – вёска ў Занарацкім с/с. За 27 км на ПдЗ ад Мядзела, 27 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 173 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 13 гаспадарак, 22 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 12 двароў, 113 жыхароў, у Свянцянскім павеце. У 1897 г. 30 двароў, 185 жыхароў, у Занарачанскай вол. Свянцянскага павета. Дзейнічала царк.-прыходская школа, у якой у 1896 г. вучылася 11 хлопчыкаў. У 1908 г. 149 жыхароў. У вер. 1915 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, 23.3.1916 г. вызвалена ў час Нарачанскай аперацыі войск рус. армій Паўн. і Зах. франтоў. У лют. 1918 г. зноў акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Занарацкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 44 двары, 175 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і знішчылі 13 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. У 1949 г. створаны калгас імя А.В.Суворава. У 1960 г. 103 жыхары. З 1973 г. ў складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр – в. Занарач), з 2003 г. – СВК «Занарачанскі» (цяпер ААТ «Занарачанскі»). У 1955 г. радыёфікавана, у 1966 г. электрыфікавана. У 1970 г. 89 жыхароў. У 1997 г. 23 гаспадаркі, 43 жыхары.

**КАЛОДНА** – вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 48 км на З ад Мядзела, 30 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 197 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 14 гаспадарак, 37 жыхароў (2011).

Вядома з 16 ст. У 1544 г. маёнтак, уладанне Я.Гальшанскага з жонкай. У 1847 г. маёнтак, ва ўладанні Мажэйкі, 50 душ мужчынскага полу, 170 дзес. пахаты. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 21 двор, 139 жыхароў, і маёнтак, 31 жыхар, у Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Шэметаўскім, з 5.8.1954 г. ў Канстанцінаўскім, з 15.11.1957 г. зноў у Шэметаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. Мядзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У 1940 г. былы маёнтак, 8 двароў, 42 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З вяскоўцы загінулі на франтах. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1950 г. арганізаваны калгас «Дружба». У 1960 г. 93 жыхары. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. – калгаса «Канстанцінава» (цэнтр – в. Камарова), з 2002 г. – у калгасе «Свір», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (цяпер ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 116 жыхароў. У 1997 г. 21 гаспадарка, 46 жыхароў.

**КАМАРОВА** – вёска ў Будслаўскім с/с. За 70 км на ПдУ ад Мядзела, 4 км

ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 135 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд працякае р. Сэрвач (упадае ў Вілейскае вадасховішча). 13 гаспадарак, 24 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1846 г. вёска (16 двароў, 134 жыхары), у складзе маёнтка Княгінін Вілейскага павета, уладанне К.Козела. У 1868 г. 195 жыхароў, у Будслаўскай вол. Вілейскага павета. У 1908 г. 43 двары, 264 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Будслаўскай гміне Дунілавіцкага, з 1925 г. Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 48 двароў, 245 жыхароў. У 1939 г. вёска, 53 двары, 257 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Будслаўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. Мядзельскага р-на. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоны колас». У 1960 г. 195 жыхароў. З 1965 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Будслаўскі» (цэнтр — в. Будслаў), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Будслаўскі» (зараз ААТ «Будслаўскае»). У 1970 г. 134 жыхары. У 1997 г. 29 гаспадарак, 46 жыхароў.

*Сядзібны дом у в. Камарова.*



*Пякарня ў в. Камарова.*



**КАМАРОВА** — вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 43 км на З ад Мядзела, 19 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 187 км ад Мінска, на шашы Вільнюс—Полацк. 201 гаспадарка, 616 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 10 двароў, 118 жыхароў, уладанне В.Козела. У сярэдзіне 19 ст. вёска і аднайменны маёнтак, ва ўладанні Барткевіча (60 дзес. ворыва), затым перайшоў да Старажынскай. У 1880 г. ў маёнтку дзейнічалі вінакурны завод і вадзяны млын. У 1904 г. маёнтак Камароўшчызна Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920 г. быў арганізаваны камбед (старшыня М.І.Позныш). У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы была створана ячэйка «Партыі незалежнай», у маі 1922 г. арыштаваны У.Позныш, адзін з яе членаў. Вяскоўцы выступілі ў абарону таварыша. 4 вяскоўцы за арганізацыю «бунта» былі адпраўлены ў Свянцянскую дэфензіву. З вер. 1939 г. вёска ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Куцькоўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Свірскім с/с (з 25.4.1958 г. пас. савет), з 31.8.1959 г. Мя-

дзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. ў былым маёнтку арганізаваны калгас «17 верасня» (старшыня І.А.Мялешка), Свірская МТС, адчынена хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана гітлераўцамі. 14 вяскоўцаў загінула на франтах. На ўшанаванне памяці 29 землякоў у цэнтры вёскі ў 1965 г. пастаўлены абеліск. У 1945 г. ў в. Камарова адноўлены калгас і МТС. У 1951 г. электрыфікавана і радыёфікавана. З 1964 г. Камарова — цэнтр саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Канстанцінава», які ў 2002 г. ўвайшоў у склад калгаса «Свір» (цяпер ААТ «Свір-агра»). 12.11.1966 г. вёскі Камарова і Куцькі аб'ядналіся ў адну. Працуюць (2011) сярэдняя школа, Свірскі с.-г. прафесійны ліцэй, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 4 магазіны. Помнік архітэктуры: сядзіба Старжынскіх (канец 19 — пач. 20 ст.).

**КАНСТАНЦІНАВА** — вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 40 км на З ад Мядзела, 26 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 190 км ад Мінска, на шашы Вільнюс—Полацк. Рэльеф раўнінны. 84 гаспадаркі, 196 жыхароў (2011).

У 18 ст. маёнтак і вёска, у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв., уладанне Ф.Услоўскага, потым А.Гутаровіча. У 1756 г. ў вёсцы 2 двары, 8 жыхароў мужчынскага полу, млын. У 1785 г. мястэчка, прыватнае ўладанне. У 1792 г. па фундацыі К.Хамінскага ў мястэчку пабудаваны драўляны касцёл (згарэў у 1812 г.). З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1829 г. маёнтак Канстанцінава купіў Д.Адамовіч. У 1847 г. складаўся з фальварка, 4 дваровых сялян; у Свянцянскім павеце Віленскай губ. У 1868 г. мястэчка Канстанцінава Свірскай вол. Свянцянскага павета, 136 жыхароў. У 1885 г. 7 двароў, 81 жыхар, 30 мяшчан, заезны дом, мураваны касцёл Маці Боскай (пабудаваны ў 1820—26 гг. на месцы храма, які згарэў, па фундацыі У.Пашкевіча, у 1896 г. на сродкі Хамінскіх касцёл пашыраны, зроблена агароджа з брамай; захаваўся помнік архітэктуры позняга класіцызму). Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 10 двароў, 64 жыхары, касцёл, нар. вучылішча (у 1896/97 навуч. годзе вучылася 53 хлопчыкі і 2 дзяўчынкі), крама, карчма. У аднайменным фальварку 20 двароў, 90 жыхароў. У 1904 г. мястэчка (167 жыхароў) і фальварак (4 жыхары), уладанне памешчыкаў Старжынскіх. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. Дзейнічала пошта. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У 1940 г. вёска, 60 двароў, 327 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1949 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», працавалі Дом культуры, б-ка, магазін, паштовае аддз., медпункт, школа-сямігодка. У 1960 г. 317 жыхароў. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Канстанцінава» (цэнтр — в. Камарова), з 2002 г. — у кал-

*Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Канстанцінава.*



гасе «Свір», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (цяпер ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 398 жыхароў. У 1997 г. 112 гаспадарак, 317 жыхароў. Працуюць (2011) б-ка, 2 магазіны.

**КАНСТАНЦІНАВА** – вёска ў Слабодскім с/с. За 28 км на ПнУ ад Мядзела, 27 км ад чыг. ст. Варапаева на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 178 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 55 гаспадарак, 101 жыхар (2011).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. засценак, 6 двароў, 79 жыхароў, у Жаснянскай вол. Вілейскага павета, дзейнічала школа граматы, у якой у 1896 г. вучылася 7 хлопчыкаў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жаснянскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 19 двароў, 104 жыхары. З вер. 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Слабодскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.09.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 32 двары, 155 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У студз.—ліп. 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся штаб партыз. брыгады імя К.К.Ракасоўскага. На франтах і ў партыз. барацьбе загінула 6 жыхароў. У 1965 г. на ўшанаванне памяці землякоў пастаўлены абеліск. У 1949 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава. З 9.4.1954 г. цэнтр калгаса «1 Мая», які ў 2001 г. ўвайшоў у склад калгаса «17 верасня» (цэнтр — в. Слабада), з 2003 г. — СВК «Слабодская зара» (зараз ААТ «Слабодская зара»). У 1956 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. 125 жыхароў. У 1970 г. 220 жыхароў. У 1997 г. 80 гаспадарак, 198 жыхароў. Працуе (2011) магазін.

**КАНЦІНЕНТЫ** – вёска ў Сырмежскім с/с. За 47 км на ПдЗ ад Мядзела, 59 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна—Полацк, 208 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З — воз. Свір. 13 гаспадарак, 33 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. У 1799 г. вёска, 18 двароў, 51 жыхар мужчынскага полу, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1868 г. вёска, 16 двароў, 172 жыхары, у Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета. У 1908 г. 18 двароў, 263 жыхары. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Шэметаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Сырмежскім с/с. У 1940 г. вёска, 46 двароў, 256 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на франтах. У кастр. 1948 г. створаны калгас «31-я гадавіна Кастрычніка». У 1960 г. 123 жыхары. У 1961 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 114 жыхароў. З 1973 г. ў складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Старлыгі), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Міжазёрны край» (цяпер ААТ «Міжазёрны край»). У 1997 г. 29 гаспадарак, 64 жыхары.

**КАНЧАНІ** – вёска ў Старагабскім с/с. За 23 км на У ад Мядзела, 28 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 185 км ад Мінска, на шашы Старыя Габы—Мядзел. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вузлянка (прыток р. Нарач). 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. У 1770 г. вёска (15 сем'яў) у Мядзельскім старастве Віленскага ваяв. Рэчы Паспалітай. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1868 г. 13 двароў, 157 жыхароў, у Мядзельскай вол. Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 29 двароў, 203 жыхары. З 1901 г. працавала школа граматы. У 1908 г. 33 двары, 198 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупі-

равана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 39 двароў, 181 жыхар. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Старагабскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 39 двароў, 187 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінула на франтах і ў партыз. барацьбе. У 1950 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1948 г. створаны калгас «Шлях Ільіча». З 1954 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Зані). У 1960 г. 122 жыхары. У 1970 г. 44 жыхары. У 1997 г. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў.

**КАПУСЦІЧЫ** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 21 км на ПдУ ад Мядзела, 10 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 152 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 18 гаспадарак, 27 жыхароў (2011).

Вядома з 17 ст. У 1606 г. сяло, 2 двары, 2,5 валокі зямлі, уласнасць Радзівілаў. У 1651 г. 4 двары, у складзе маёнтка Крывічы, уладанне Я.Кішкі. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 6 двароў, 50 жыхароў. У 1847 г. вёска маёнтка Янушова, уладанне В.Корсака. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 78 жыхароў, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 135 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета. У 1921 г. 24 двары, 152 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Пузыроўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не, з 30.10.2009 г. ў Крывіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас «1 Мая». З 1952 г. ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пузыры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Вузлянка» (з 2004 г. асобнае структурнае падраздзяленне «Вузлянка» гандлёвага УП «Мінскі Камароўскі рынак»). У 1955 г. радыёфікавана, у 1967 г. электрыфікавана. У 1960 г. 144 жыхары. У 1970 г. 150 жыхароў. У 1997 г. 33 гаспадаркі, 56 жыхароў.

**КАРАБАНЫ** — вёска ў Занарацкім с/с. За 33 км на ПдЗ ад Мядзела, 38 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 179 км ад Мінска, на шашы Ольшава—Занарач. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Нарач (прыток р. Вілія). 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 15 двароў, 129 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 197 жыхароў, у Занарачанскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. З 1901 г. дзейнічала школа граматы. У 1907 г. 32 двары, 231 жыхар. З вер. 1915 г. да снежня 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. 18—28 сак. 1916 г. ў раёне вёскі адбываліся цяжкія баі падчас Нарачанскай аперацыі войск рус. армій Паўн. і Зах. франтоў. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Занарацкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 30 двароў, 125 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і знішчылі 3 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. арганізавалі калгас імя К.Я.Варашывала. У 1955 г. радыёфікавана, у 1966 г. электрыфікавана. У 1960 г. 117 жыхароў. З 1973 г. ў складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Занарач), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Занарачанскі» (цяпер ААТ «Занарачан-

скі»). У 1970 г. 103 жыхары. У 1997 г. 18 гаспадарак, 30 жыхароў.

**КАРАКУЛІЧЫ** – вёска ў Сырмежскім с/с. За 48 км на ПдЗ ад Мядзела, 42 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна–Полацк, 200 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 19 двароў, 116 жыхароў, у Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета. Паводле перапісу 1897 г. 24 двары, 265 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сырмежскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. Мядзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. вёска, 39 двароў, 200 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на франтах. У вер. 1949 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна. У 1960 г. 146 жыхароў. З 1954 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр – в. Буйкі), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Вішнеўскае» (у 2004–08 гг. с.-г. ўчастак «Вішнеўскае» вытворчага прыватнага УП «Цепласеці»). У 1970 г. 123 жыхары. У 1997 г. 21 гаспадарка, 36 жыхароў.

**КАРАНІШАЦЫ** – вёска ў Крывіцкім с/с. За 48 км на ПдУ ад Мядзела, 4 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна–Полацк, 143 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2011).

Вядома з 17 ст. У 1606 г. сяло, 3 двары, 4 валокі зямлі, уласнасць Радзівілаў. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 5 двароў, 42 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 178 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскай губ. У 1921 г. 29 двароў, 181 жыхар. У 1939 г. вёска, 38 двароў, 206 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Пузырскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не, з 9.8.1979 г. ў Крывіцкім пас. (да 30.10.2009) Савеце. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. арганізаваны калгас імя С.М.Кірава. У 1956 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1960 г. 160 жыхароў. У 1970 г. 173 жыхары. З 1979 г. ў складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр – в. Пруднікі), які ў 1998 г. быў рэарганізаваны ў с.-г. калектыўнае прадпрыемства «Беларусь» (цяпер ААТ «Пруднікі–агра»). У 1997 г. 31 гаспадарка, 55 жыхароў.

**КАЧАНЫ** – вёска ў Старагабскім с/с. За 14 км на У ад Мядзела, 37 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна–Полацк, 194 км ад Мінска, на шашы Старыя Габы–Мядзел. Рэльеф раўнінны. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1765 г. вёска, 15 двароў, уласнасць казны. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 12 двароў, 57 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1868 г. 98 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 171 жыхар. Дзейнічала школа граматы, у якой у 1896 г. вучылася 8 хлопчыкаў. У 1904 г. 184 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 32 двары, 170 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мікасецкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай

абласцей, з 1954 г. ў Старагабскім с/с, 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 41 двор, 160 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 вяскоўцаў загінула на франтах і ў партыз. барацьбе. З 1948 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна, з 1954 г. — «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Зані), з 2006 г. — СВК «Зані» (зараз ААТ «Зані»). У 1950 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. 98 жыхароў. У 1970 г. 56 жыхароў. У 1997 г. 14 гаспадарак, 26 жыхароў. Радзіма дзярж. і парт. дзеяча Беларусі В.Ф.Шаранговіча (4.3.1897—15.3.1938), бел. графіка, заслужанага дзеяча мастацтва Беларусі В.П.Шаранговіча (н. 14.1.1939).

**КАЧАРГІ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 3 км на Пд ад Мядзела, 29 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 163 км ад Мінска, на шашы Маладзечна—Мядзел. Рэльеф раўнінны, на З — воз. Мястра. 27 гаспадарак, 52 жыхары (2011).

За 0,4 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Бацяніха, каля невялікага воз. Скрыбава, знаходзіцца паселішча. За 0,5 км на Пд ад вёскі, на паўд. беразе невялікага воз. — стаянка. Датуюцца сярэдзінай — 2-й пал. 3-га тыс. да н.э. Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 9 двароў, 50 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1847 г. вёска маёнтка Стары Мядзел, уладанне памешчыка М.Дваржэцкага, 8 двароў, 51 жыхар. У 1868 г. ў Мядзельскай вол. Вілейскага павета, 8 двароў, 69 жыхароў. У 1897 г. 18 двароў, 147 жыхароў. У 1904 г. 149 двароў, у 1908 г. — 185. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 30 двароў, 168 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет) Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 34 двары, 161 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1948 г. арганізавана кааператыўна-прамысловая арцель для сумеснага лову рыбы, у 1949 г. — калгас «Запаветы Леніна». З 1960 г. ў складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Баяры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Баярскі маяк» (у 2005 г. ўвайшоў у межы с.-г. філіяла ААТ «Мядзельаграсервіс»). У 1970 г. 147 жыхароў. У 1997 г. 38 гаспадарак, 87 жыхароў.

**КАШОНАЎКА** — вёска ў Сваткаўскім с/с. За 17 км на ПдУ ад Мядзела, 19 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Красноўка (прыток р. Вузлянка). 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1868 г. засценак, 1 двор, 8 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 4 двары, 19 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 23 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лук'янавіцкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 1951 г. ў Сваткаўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. вёска, 12 двароў, 62 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. арганізаваны калгас імя С.М.Кірава. З 1959 г. ў складзе калгаса «Зара», з 1988 г. — калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Сваткі), з 1997 г.



*В.П.Шаранговіч.*

ў с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка, якое ў 2001 г. было рэарганізавана ў СВК «Сваткі» (зараз ААТ «Сваткі»). У 1960 г. 21 жыхар. У 1966 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 16 жыхароў. У 1997 г. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў.

**КІРЖЫНА** – вёска ў Княгінінскім с/с. За 30 км на ПдУ ад Мядзела, 4 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 153 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 14 гаспадарак, 24 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. в. Кіржына (яна ж Кірушна), 21 двор, 142 жыхары, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 160 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Будслаўскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета. У 1921 г. 29 двароў, 182 жыхары. У 1939 г. вёска, 47 двароў, 207 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Восаўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Княгінінскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім раёне. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас «Стаханавец». У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. У 1960 г. 143 жыхары. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. – калгаса «Восаўскі» (цэнтр – в. Восава), з 1997 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (зараз камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1970 г. 104 жыхары. У 1997 г. 25 гаспадарак, 52 жыхары.

**КЛЮЧАТКІ** – вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 57 км на З ад Мядзела, 26 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 190 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. 2 размешчаныя побач вёскі: в. Ключаткі, 5 двароў, 43 жыхары, у Свірскай вол., і в. Ключаткі, 2 двары, 19 жыхароў, у Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. ў вёсцы Свірскай вол., 8 двароў, 54 жыхары, у вёсцы Шэметаўскай вол., 8 двароў, 59 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Шэметаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У 1940 г. вёска, 25 двароў, 105 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1949 г. арганізаваны калгас «Перамога». У 1960 г. 88 жыхароў. З 1960 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. – калгаса «Свір» (цэнтр – г.п. Свір), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 58 жыхароў. У 1997 г. 13 двароў, 25 жыхароў.

**КНЯГІНІН** – вёска, цэнтр Княгінінскага с/с, чыгуначная станцыя на лініі Маладзечна–Полацк. За 30 км на ПдУ ад Мядзела, 150 км ад Мінска, на шашы Княгінін–Мядзел. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 351 гаспадарка, 834 жыхары (2011).

Вядома з 15 ст. Упамінаецца пад 1493 г. у Актах Літоўскай метрыкі, шляхецкае ўладанне. У 16 ст. сяло Княгінь падаравана вялікім князем літоўскім і каралём польскім Жыгімонтам І Я.Слізню. Потым сяло і маёнтак належалі Козел-Паклеўскім (ці Паклеўскія-Козел), уваходзілі ў склад Ашмянскага павета Віленскага ваяв. З 1713 г. ў Княгініне згадваецца царква (паводле падання была заснавана Радзевічам, пэўны час з'яўлялася ўніяцкай). З 1793 г.

ў складзе Расійскай імперыі, цэнтр воласці Вілейскага павета). У 1800 г. Княгінін – сяло (уладанне М.Слізня), вёска (уладанне В.Козела) і фальварак. У 1846 г. маёнтак Княгінін, уладанне К.І.Козела, складаўся з 5 вёсак і засценка. У маёнтку былі 3 карчмы, 2 млыны, вінакурня (у 1890 г. 11 рабочых, паравая машына), 26 дваровых сялян. З 1866 г. працавала мужчынскае нар. вучылішча, у якім у 1892/93 навуч. годзе вучыўся 71 хлопчык. У 1879 г. адчынілася жаночае нар. вучылішча, дзе ў 1892/93 навуч. годзе атрымоўвалі веды 15 дзяўчынак. Паводле перапісу 1897 г. на месцы сучаснай вёскі знаходзілася сяло. Цэнтр вол. (12 двароў, 51 жыхар, валаснае праўленне, нар. вучылішча, крама, карчма), сядзіба Стары Княгінін (4 двары, 45 жыхароў) і сядзіба Княгінін (5 двароў, 46 жыхароў). У 1904 г. існавалі сяло (17 жыхароў), 2 праваслаўныя сядзібы (4 і 5 жыхароў), маёнтак Княгінін Стары (46 жыхароў), уладанне Козелаў; дзейнічалі царква, сельскі ўрачэбны ўчастак, казённая вінная крама. У 1906 г. ў сяле адбыліся сялянскія хваляванні. У 1-ю сусветную вайну 1914–18 гг. Княгінін знаходзіўся ў зоне дыслакацыі рус. войск, працаваў шпіталь. На вясковых могілках пахавана каля 2,5 тыс. салдат рус. арміі, якія загінулі ў час Нарачанскай аперацыі ў сак. 1916 г. У ліст. 1917 г. створаны валасны Савет рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. У 1918 г. ў маёнтку адкрыта школа. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета. У 1925 г. тут быў арганізаваны драматычны гурток (кіраўнік А.П.Антановіч), а з чэрв. 1926 г. актывісты гуртка сталі членамі Бел. рабоча-сялянскай грамады. У 1939 г. вёска, 19 двароў, 100 жыхароў, царква, паштовае аддз.; былы маёнтак Княгінін налічваў 31 жыхара. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. партызаны брыгад імя С.М.Будзённага і імя Л.М.Даватара авалодалі чыг. станцыяй Княгінін і ўтрымлівалі яе да падыходу Чырвонай Арміі. У цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 36 землякоў у 1965 г. пастаўлены абеліск. У 1949 г. арганізаваны кал-




*Брацкая магіла рускіх салдат у в. Княгінін.*

*Будынак вакзала на чыгуначнай станцыі Княгінін.*



гас «Шлях да камунізму». 12.11.1966 г. пасёлак чыг. ст. вёскі Княгінін, Стара-Княгінін, Міцькавічы, Васюлькі былі аб'яднаны ў адзін населены пункт — в. Княгінін. З 1957 г. вёска з'яўляецца цэнтрам саўгаса «Крывічы», які ў 2000 г. ўвайшоў у склад птушкафабрыкі «Зара камунізму» (цяпер камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1970 г. 1252 жыхары. У 1997 г. 464 двары, 1097 жыхароў. З 2008 г. аграгарадок. Працуюць (2011) сярэдняя і муз. школы, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аптэка, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, 7 магазінаў, газанапаўняльная станцыя, Княгінінскі вытворчы ўчастак ААТ «Вілейскі камбікормавы завод», асфальтны завод, чыг. вакзал і інш.

Помнік архітэктуры : Царква ў гонар святой Троіцы (18 ст.). Радзіма Героя Сацыяліст. Працы М.А.Сухага (нар. 30.4.1922 г.).

У склад сельсавета уваходзяць 27 населеных пунктаў.

**КОМСІНА** — вёска ў Княгінінскім с/с. За 34 км на ПдУ ад Мядзела, 7 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 157 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 9 двароў, 198 жыхароў, у Рабуньскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Рэчскай гміне Вілейскага павета. У 1921 г. 14 двароў, 74 жыхары. У 1939 г. вёска, 17 двароў, 90 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. арганізаваны калгас «Камсамолец». У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. З 1957 г. у складзе саўгаса «Крывічы» (цэнтр — в. Княгінін), які ў 2000 г. ўвайшоў у склад птушкафабрыкі «Зара камунізму» (цяпер камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1960 г. 78 жыхароў. У 1970 г. 70 жыхароў. У 1997 г. 9 гаспадарак, 15 жыхароў.

*Троіцкая царква ў в. Княгінін.*



**КОНІКІ** — вёска ў Княгінінскім с/с. За 25 км на ПдУ ад Мядзела, 4 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 153 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1800 г. вёска, 6 двароў, 61 жыхар, уладанне А.Сапегі. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 110 жыхароў, у Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета. У 1921 г. 21 двор. 89 жыхароў. У 1939 г. вёска, 26 двароў, 130 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У 1940 г. 24 двары, 96 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску, знішчылі 2 жыхароў. Пасля вай-

ны адбудавана. У 1950 г. арганізаваны калгас «1 Мая». У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. У 1960 г. 85 жыхароў. З 1971 г. ў складзе птушкафабрыкі «Зара камунізму» (зараз камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1970 г. 71 жыхар. У 1997 г. 15 гаспадарак, 30 жыхароў.

**КОРКІ** – вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 45 км на З ад Мядзела, 34 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 191 км ад Мінска, на шашы Ольшава–Занарач. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 15 гаспадарак, 20 жыхароў (2011).

За 1 км на ПдЗ ад вёскі, на ўсх. беразе воз. Свір, знаходзіцца селішча. За 0,5 км на ПдЗ ад вёскі – курганны могільнік (мясц. назва «Горкі»). Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 25 двароў, 222 жыхары, у Свірскай вол. Свянцянскага павета. Паводле перапісу 1897 г. 46 двароў, 390 жыхароў. У 1904 г. 406 жыхароў, у 1908 г. – 408. У 1915–18 гг. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Шэметаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У 1940 г. вёска, 55 двароў, 277 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1950 г. арганізаваны калгас імя К.С.Заслонава. У 1960 г. 182 жыхары. З 1960 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. – калгаса «Свір» (цэнтр – г.п. Свір), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (зараз ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 137 жыхароў. У 1997 г. 29 двароў, 60 жыхароў.

**КРАПІЎНА** – вёска ў Слабодскім с/с. За 14 км на ПнУ ад Мядзела, 46 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 175 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 11 гаспадарак, 22 жыхары (2011).

Вядома з 16 ст. У 1584 г. сяло, 22 двары, 31 валока зямлі, у складзе фальварка Мядзел, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 92 жыхары, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1868 г. 8 двароў, 114 жыхароў, у Вілейскім павеце Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска (28 двароў, 177 жыхароў), 2 засценкі (3 двары, 17 жыхароў), сядзіба (1 двор, 5 жыхароў) і маёнтак (21 жыхар), у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. ў в. Крапіўна-1 146 жыхароў, у в. Крапіўна-2 – 46. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета. У 1921 г. вёска (33 двары, 129 жыхароў), засценак (3 двары, 22 жыхары) і калонія (10 двароў, 64 жыхары). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мікасецкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай. З 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 21.5.1951 г. ў Дзягільскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл, з 1.1.2007 г. ў Слабодскім с/с. У 1940 г. 36 дароў, 215 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 30 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. арганізаваны калгас імя М.А.Шчорса. У 1960 г. 69 жыхароў. З 1961 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр – в. Дзягілі), які ў 1992 г. быў рэарганізаваны ў дапаможную гаспадарку «Дзягілі» Мінскага маторнага завода (з 2009 г. ААТ «Мінскі маторны завод» с.-г. філіял «Дзягілі»). У 1963 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 2 хутары (60 і 5 жыхароў). У 1997 г. 17 гаспадарак, 42 жыхары.

**КРАСНЯНЫ** – вёска ў Слабодскім с/с. За 26 км на ПнУ ад Мядзела, 16 км ад чыг. ст. Варапаева на лініі Лынту-

пы—Круляўшчызна, 175 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2011).

За 0,7—1 км на Пн ад вёскі знаходзіцца стаянка каменнага веку, а за 2 км на ПнЗ ад вёскі — стаянка-2 таго ж часу. Вёска вядома з 19 ст. У 1-й пал. 19 ст. маёнтак Вілейскага павета Віленскай губ., уладанне Янішэўскага, 38 двароў, 223 прыгонных селяніна мужчынскага полу. У 1844 г. маёнтак ва ўладанні В.Гутаровічавай. Складаўся з 4 вёсак і аднайменнага фальварка (уваходзілі 5 вёсак). У 1862 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1868 г. в. Красняны, 14 двароў, 171 жыхар, у Дунілавіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска (32 двары, 182 жыхары), выселак (1 двор) і маёнтак (48 жыхароў), у Жаснянскай вол. Вілейскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—1939 гг. у складзе Польшчы, у Жаснянскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 43 двары, 201 жыхар, у фальварку 4 двары, 78 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Слабадскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 48 двароў, 250 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінула на франтах. У 1949 г. створаны калгас «Чырвоны баец». З 1954 г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Канстанцінава), з 2001 г. ў калгасе «17 верасня», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Слабодская зара» (цяпер ААТ «Слабодская зара»). У 1956 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. хутары Красняны-1 (17 жыхароў) і Красняны-2 (12 жыхароў), якія ў 1970-х гг. утварылі адзін населены пункт — в. Красняны. У 1970 г. 72 жыхары. У 1997 г. 17 гаспадарак, 25 жыхароў.

**КРУГЛАВА** — вёска ў Княгінінскім с/с. За 33 км на ПдУ ад Мядзела, 6 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 156 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2011).

З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета. У 1921 г. 10 двароў, 59 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё». У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Крывічы» (цэнтр — в. Княгінін), з 2000 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (зараз камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1960 г. 108 жыхароў. У 1970 г. 77 жыхароў. У 1997 г. 13 двароў, 23 жыхары.

**КРУЦІ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 9 км на ПдУ ад Мядзела, 28 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 169 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і З — воз. Баторын. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1770 г. вёска (23 сям'і), у Мядзельскім старастве Ашмянскага павета Віленскага ваяв. Рэчы Паспалітай. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Круцы, 22 двары, 150 жыхароў, уласнасць казны. З 1890 г. працавала школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 47 двароў, 320 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 395 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага

ваяв. У 1921 г. 55 двароў, 313 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Мядзельскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 21.5.1951 г. ў Лук'янавіцкім с/с, з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 55 двароў, 231 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. створаны калгас імя Л.Даватара. З 1954 г. ў складзе калгаса «Пераможац» (цэнтр — в. Лук'янавічы), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Лук'янавічы» (зараз ААТ «Лук'янавічы»). У 1970 г. 96 жыхароў. У 1997 г. 14 двароў, 23 жыхары. Радзіма бел. археолага М.М.Чарняўскага (н. 7.3.1938).

**КРЫВІЧЫ** — гар. пасёлак, цэнтр Крывіцкага с/с. За 39 км на ПдУ ад Мядзела, 3 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 139 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы, на ўсх. ускраіне цячэ р. Сэрвач (упадае ў Вілейскае вадасховішча). На паўд. ускраіне ў р. Сэрвач упадае р. Наква. 1266 жыхароў (2011).

Вядомы з 15 ст. Пад 1493 г. ўпамінаецца ў Актах Літоўскай метрыкі як шляхецкая ўласнасць. Паводле «Рэвізіі Полацкага ваяводства» ў 1552 г. Крывічы — сяло пана Д.Б.Корсака, 8 дымоў. Пазней — «гняздо» роду Кішкаў, апошні з якіх Я.Кішка, ваявода полацкі, гетман ВКЛ (жанаты з Хрысцінай Друцкай-Сакалінскай), памёр у Крывічах у 1654 г. бяздзетным. У 1567 г. Крывічы — сяло, у 1606 г. мястэчка (16 пляцаў), якое пазней зноў называлі сялом. Каля 1640 г. на сродкі Кішкаў у Крывічах была пабудавана свята-троіцкая царква (у 1659 г. разрабавана маскоўскімі войскамі). У 1684 г. са згоды караля польскага і вялікага князя літоўскага Яна III маёнтак Крывічы быў перададзены нашчадкам згаслага роду Кішкаў



Андрэеўскі касцёл у г.п. Крывічы.

на задавальненне крэдытораў і ў далейшым часткі яго належалі Укольскім, Ходзькам, Любанскім і Швыкоўскім. Гэта быў першы выпадак эксдывізіі ў ВКЛ. А.Укольскі, цівун і падкаморы трокскі, завалодаў большай часткай маёнтка і ў 1770 г. дазволіў пасяліцца тут трынітарыям, даў фундуш кляштару на крывіцкія землі. У 1777 г. адбудаваны мураваны касцёл (асвячоны ў 1796 г., захаваліся касцёл Святога апостала Андрэя і жылы будынак, помнікі архітэктуры 18 ст.). 23 снеж. 1776 г. ў адпаведнасці з прывілеем караля польскага і вялікага князя літоўскага Станіслава Аўгуста Крывічы названы мястэчкам Ашмянскага павета Віленскага ваяв. З 1793 г. ў Рас. імперыі, мястэчка Вілейскага павета, цэнтр аднайменнай вол. У 1800 г. 228 жыхароў, уладанне І.Ходзькі і каталіцкай царквы. Пазней маёнтак Крывічы належаў швыкоўскім (642 дзес. прыдатнай для земляробства зямлі). У 1884 г. заснавана вінакурня. У 1860 г. ў мястэчку 55 двароў, у 1897 г. — 106 двароў, 719 жыхароў. У канцы 19 ст. тут знаходзіліся валаснoе праўленне, царква (пабудавана на месцы старога храма ў 1886 г.), касцёл, капліца, сінагога, 3 крамы, 3 заезныя дамы, хлебазапасны магазін, царк.-прыходская школа (з 1899 г.), нар. вучылішча (у 1896/97 навуч. годзе вучылася 46 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі). Два разы на год: на Сёмуху і 6 жніўня ў мястэчку праводзіліся кірмашы. У 1904 г. ў мястэчку 711 жыха-



М.М.Чарняўскі.

роў, у маёнтку (уладанне Горскай) — 30. У пачатку 20 ст. ў Крывічах працавала лячэбніца.

У час 1-й сусветнай вайны ў мястэчку размяшчаліся склады рус. войск пад камандаваннем ген. П.С.Балуева, якія ўдзельнічалі ў Нарачанскай аперацыі 1916 г. Пасля Лют. рэвалюцыі 1917 г. пачаў працаваць Савет рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, які прадстаўляў 3 воласці — Крывіцкую, Княгінінскую і Будслаўскую. Адначасова ў мястэчку дзейнічаў валасны Савет рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. У лют. 1918 г. мястэчка акупіравана германскімі войскамі, а 8.12.1918 г. вызвалена чырвонаармейцамі 2-й акругі пагранічнай аховы. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, цэнтр гміны Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. мястэчка (92 двары, 623 жыхары), фальварак (2 двары, 13 жыхароў), асада (2 двары, 19 жыхароў) і станцыя (151 жыхар). Дзейнічалі касцёл, 4 млыны, бальніца, пошта, аптэка. Кожную сераду праводзіліся таржкі. У чэрв. 1923 г. група партызан (29 чалавек) зрабіла ўзброены налёт на Крывіцкі паліцэйскі гарнізон. 18.5.1924 г. атрад пад кіраўніцтвам С.Ваўпшасава (каля 40 чалавек) разграміў паліцэйскі пастарунак, у чэрв. 1924 г. яны абяззброілі местачковую паліцыю. У 1939 г. мястэчка (198 двароў, 901 жыхар), фальварак (3 двары, 7 жыхароў), хутар (8 гаспадарак, 34 жыхары), чыг. станцыя (7 жыхароў). З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр раёна і сельсавета Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 28.6.1958 г. гар. пасёлак, цэнтр пас. Савета, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не, з 30.10.2009 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вызваленні райцэнтра разам з воінамі Чырвонай арміі ўдзельнічалі партызаны брыгад імя С.М.Будзённага і імя М.І.Кутузава. У скверы па вул. 17 верасня пахаваны 127 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях з ворагам у 1943—44 гг. На магіле ў 1948 г. пастаўлены абеліск. На франтах загінула 6 пасялкоўцаў. Па вул. Новая пахаваны 440 мірных жыхароў, якіх 28.4.1942 г. жывымі спалілі гітлераўцы. На магілках пахаваны 130 мірных жыхароў, якіх 13.9.1942 г. расстралялі ням.-фаш. захопнікі. У снеж. 1948 г. створаны калгас імя А.А.Жданава. У кастр. 1949 г. пабудавана электрастанцыя. З 1990 г. ў складзе калгаса «Беларусь», які ў 1998 г. быў рэарганізаваны ў с.-г. калектыўнае прадпрыемства «Беларусь» (зараз ААТ «Пруднікі-агра»). У 1997 г. 612 гаспадарак, 1932 жыхары. З 2008 г. аграгарадок. Працуюць (2011) комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа, спецыяльнае прафес.-тэхн. вучылішча закрытага тыпу, Дом культуры, дарослая і дзіцячая б-кі, муз. школа, Цэнтр народных рамёстваў, участковая бальніца, Дом быту, аддз. сувязі, 6 магазінаў, лясніцтва, ветлячэбніца і інш. Помнікі архітэктуры: касцёл святога апостала



*Троіцкая царква ў г.п. Крывічы.*

Андрэя (18 ст.), царква ў гонар Святой Троіцы (19 ст.).

Радзіма пісьменніка Я.Ходзькі-Барэйкі (псеўд. Ян са Свіслачы; 24.6. 1777–10.11.1851).

У склад сельсавета ўваходзяць 26 населеных пунктаў.

**КУЗЬМІЧЫ** – вёска ў Нарацкім с/с. За 30 км на ПнЗ ад Мядзела, 35 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 184 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З – воз. Кузьмічы. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1846 г. маёнтак (уладанне І.Цывінскага). Акрамя сельскай гаспадаркі сяляне займаліся рыбнай лоўляй, уваходзіў у Кабыльніцкую вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 25 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай. З 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. З 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5 вяскоўцаў загінула на франтах, 2 знішчылі акупанты і 7 вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. У 1960 19 жыхароў. У 1970 г. ў складзе калгаса «Прыазёрны» (цэнтр – в. Нарач), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Нарачанская ніва» (з 204 г. ТАА «Нарачанская ніва-2004»). У 1997 г. 10 гаспадарак, 20 жыхароў.

**КУЗЬМІЧЫ** – вёска ў Слабодскім с/с. За 22 км на ПнУ ад Мядзела, 24 км ад чыг. ст. Варапаева на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 172 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 38 гаспадарак, 68 жыхароў (2011).

Вядома з 16 ст. У 1584 г. сяло, 37 валок зямлі, у Мядзельскай вол., шляхецкая ўласнасць. У 1739 г. 15 двароў, 48 жыхароў мужчынскага полу. У 1752 г. сяло маёнтка Дзягілі Ашмянскага павета Віленскага ваяв. З 1793 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 55 двароў, 347 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Жаснянскай вол. Вілейскага павета. Працавала школа граматы, у якой у 1896 г. вучылася 12 хлопчыкаў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Жаснянскай гміне Дунілавіцкага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 295 жыхароў. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Слабодскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 87 двароў, 326 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінула 6 жыхароў. У 1949 г. створаны калгас «Камсамолец». З 1954 г. ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр – в. Слабада), з 2003 г. – СВК «Слабодская зара» (зараз ААТ «Слабодская зара»). У 1956 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. 295 жыхароў. У 1970 г. 288 жыхароў. У 1997 г. 49 гаспадарак, 105 жыхароў.

**КУЛІКІ** – вёска ў Мядзельскім с/с. За 5 км на ПнУ ад Мядзела, 26 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 165 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 23 гаспадаркі, 39 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Кулічы, 12 двароў, 80 жыхароў, уладанне Е.Гурыновіча. У 1848 г. ўваходзіла ў склад маёнтка Стары Мядзел, уладанне М.Ф.Дваржэцкага, 9 двароў. У 1868 г. 147 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска (31 двор, 235 жыхароў) і старожка (2 двары, 16 жыхароў), у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. ў вёсцы 226 жыхароў, у старожцы – 12. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дуні-

лавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 36 двароў, 195 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Баярскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях». У 1957 г. электрыфікавана і радыёфікавана. З 1960 г. ў складзе калгаса «Сталінскі шлях», з 20.11.1961 г. — «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Баяры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Баярскі маяк» (з 2005 г. ў межах с.-г. філіяла ААТ «Мядзельаграсервіс»). У 1970 г. 130 жыхароў. У 1997 г. 38 гаспадарак, 85 жыхароў.

**КУЛІКОВА** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 29 км на У ад Мядзела, 8 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 157 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 3 двары, 32 жыхары, уладанне В.Гацевіча. Паводле перапісу 1897 г. вёска (10 двароў, 63 жыхары) і маёнтак (4 двары, 36 жыхароў), у Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 13 двароў, 69 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Будслаўскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 66 жыхароў, у фальварку — 33. У 1939 г. вёска (11 двароў, 69 жыхароў), хутар (6 двароў, 24 жыхары). З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Вераб'ёўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 27.3.1959 г. ў Пузыроўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не, з 30.10.2009 г. ў Крывіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас «Ударнік». У 1955 г. радыёфікавана, у 1967 г. электрыфікавана. У 1960 г. 92 жыхары. У 1970 г. 78 жыхароў. З 1975 г. ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пузыры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Вузлянка» (з 2004 г. асобнае структурнае падраздзяленне «Вузлянка» гандлёвага УП «Мінскі Камароўскі рынак»). У 1997 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў.

**КУРКУЛІ** — вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 46 км на З ад Мядзела, 22 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 184 км ад Мінска, на шашы Ольшава—Занарач. Рэльеф раўнінны, на Пд — воз. Свірнішча. 32 гаспадаркі, 119 жыхароў.

Вядома з 18 ст. У 1779 г. 9 двароў, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1868 г. 15 двароў, 108 жыхароў, у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 28 двароў, 201 жыхар. У 1915—18 гг. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Куцькоўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Свірскім с/с (з 25.4.1958 г. пас. Савет), з 31.8.1959 г. Мядзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1946 г. электрыфікавана, у 1948 г. радыёфікавана. У 1948 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава. З 1960 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Свір» (цэнтр — г.п. Свір), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (цяпер ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 136 жыхароў. У 1997 г. 46 гаспадарак, 118 жыхароў.

**КУРЧЫНА** — вёска ў Будслаўскім с/с. За 62 км на ПдУ ад Мядзела, 7 км

ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 133 км ад Мінска, на шашы Крывічы—Будслаў. Рэльеф раўнінны, на Пн працякае р. Сэрвач (упадае ў Вілейскае вадасховішча). 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2011).

За 0,6 км ПнУ ад вёскі знаходзіцца селішча, за 0,2 км на ПдЗ ад яго — другое селішча, за 150 м на ад селішча-2 — селішча-3. Вядома з 18 ст. У 1763 г. 11 двароў, 19 жыхароў мужчынскага полу, карчма, бровар, млын, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. вёска (14 двароў, 67 жыхароў) і аколіца (3 двары, 11 жыхароў). Паводле перапісу 1897 г. 74 жыхары, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 93 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Будслаўскай гміне Дунілавіцкага, з 1925 г. Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 26 двароў, 158 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Будслаўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Перамога». У 1960 г. 119 жыхароў. З 1965 г. ў складзе саўгаса, з 4.9.1991 г. — калгаса «Будслаўскі» (цэнтр — в. Будслаў), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Будслаўскі» (цяпер ААТ «Будслаўскае»). У 1970 г. 93 жыхары. У 1997 г. 16 гаспадарак, 21 жыхар.

**КУСЕЎШЧЫНА** — вёска ў Нарацкім с/с. За 25 км на ПнЗ ад Мядзела, 29 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 179 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Полацк. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2011).

За 0,3 км на Пн ад вёскі знаходзіцца стаянка эпохі мезаліту (датуецца 7–6 тыс. да н.э.). Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска (5 двароў 32 жыхары), у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 71 жыхар. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Кабыльніцкім (з 28.8.1964 г. Нарацкі) с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас «Маладая гвардыя». У 1960 г. 56 жыхароў. З 1965 г. ў складзе саўгаса «Нарач» (цэнтр — в. Нарач), з 1991 г. — калгаса «Прыазёрны», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Нарачанская ніва» (з 2004 г. ТАА «Нарачанская ніва-2004»). У 1970 г. 48 жыхароў. У 1999 г. 11 гаспадарак, 25 жыхароў.

**КУХАЛЬСКІЯ** — вёска ў Слабодскім с/с. За 10 км на Пн ад Мядзела, 42 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 173 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 5 двароў, 46 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска (7 двароў, 56 жыхароў) і засценак (1 двор, 13 жыхароў). З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета. У 1921 г. 9 двароў, 52 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мікасецкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім, з 15.11.1957 г. ў Дзягільскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 1.1.2007 г. ў Слабодскім с/с. У 1940 г. 15 двароў, 57 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г.

спалена акупантамі. У 1960 г. 122 жыхары. З 1961 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Дзягілі), які ў 1992 г. быў рэарганізаваны ў дапаможную гаспадарку «Дзягілі» Мінскага маторнага завода (з 2009 г. ААТ «Мінскі маторны завод» с.-г. філіял «Дзягілі»). У 1963 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. хутар, 14 жыхароў. У 1997 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў.

**КЯМСЫ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 24 км на ПнЗ ад Мядзела, 26 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 175 км ад Мінска, на шашы Вільнюс—Полацк. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 5 двароў, 32 жыхары, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 65 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лацвянскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1957 г. ў складзе калгаса «40 год Кастрычніку» (цэнтр — в. Лотва), які ў 1999 г. быў далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга». У 1960 г. 42 жыхары. У 1970 г. 27 жыхароў. У 1997 г. 7 гаспадарак, 14 жыхароў.

**ЛАПОСІ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 17 км на ПнЗ ад Мядзела, 38 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 170 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, пры ўпадзенні р. Мядзелка ў воз. Мядзел. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2011).

За 0,3 км на Пд ад вёскі знаходзіцца паселішча каменнага веку і эпохі феадалізму. Вядома з 19 ст. У 1897 г. засценак, 1 двор, 16 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 19 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 5 двароў, 34 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лотвінскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2007 г. ў Мядзельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Перадавік». З 1954 г. ў складзе калгаса «40 год Кастрычніка» (да 1957 г. калгас імя М.А.Булганіна; цэнтр — в. Лотва), які ў 1999 г. быў далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга». У 1960 г. 41 жыхар. У 1970 г. 18 жыхароў. У 1997 г. 2 гаспадаркі, 8 жыхароў.

**ЛЕАНАРДАВА** — вёска ў Слабодскім с/с. За 14 км на ПнУ ад Мядзела, 46 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 170 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Ваўкалата. Рэльеф раўнінны. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. фальварак (2 двары, 13 жыхароў), у Жаснянскай вол. Вілейскага павета. У 1904 г. засценак, уладанне Пракаповіча, 15 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета. У 1921 г. 2 двары, 24 жыхары. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Дзягільскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2009 г. ў Слабодскім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 34 жыхары. З 1961 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Дзягілі), які ў 1992 г. быў рэарганізаваны ў дапаможную гас-

падарку «Дзягілі» Мінскага маторнага завода (з 2009 г. ААТ «Мінскі маторны завод» с.-г. філіял «Дзягілі»). У 1963 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. хутары, 32 жыхары. У 1997 г. вёска, 7 двароў, 16 жыхароў.

**ЛЕЙЦЫ** – вёска ў Слабодскім с/с. За 24 км на ПнУ ад Мядзела, 27 км ад чыг. ст. Варапаева на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 174 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 15 гаспадарак, 30 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 140 жыхароў, уладанне Т.Арамовіча. У 1868 г. 16 двароў, 175 жыхароў, у Дунілавіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 38 двароў, 227 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Жаснянскай вол. Вілейскага павета. У 1901 г. адкрыта школа граматы. У 1908 г. 293 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–1939 гг. у складзе Польшчы, у Жаснянскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 39 двароў, 207 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Слабодскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 53 двары, 220 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінула 6 жыхароў. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Я.Коласа. З 1954 г. ў складзе калгаса «17 верасня» (цэнтр – в. Слабада), з 2003 г. – СВК «Слабадская зара» (зараз ААТ «Слабодская зара»). У 1956 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. 159 жыхароў. У 1970 г. 159 жыхароў. У 1997 г. 33 гаспадаркі, 59 жыхароў.

**ЛЁТКІ** – вёска ў Княгінінскім с/с. За 32 км на ПдУ ад Мядзела, 5 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 155 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. вёска, 9 двароў, 50 жыхароў, у Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 73 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы. У 1939 г. 25 двароў, 110 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Крывічы» (цэнтр – в. Княгінін), з 2000 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (зараз камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. У 1960 г. 121 жыхар. У 1970 г. 88 жыхароў. У 1997 г. 15 гаспадарак, 23 жыхары.

**ЛІПАВА** – вёска ў Мядзельскім с/с. За 9 км на Пд ад Мядзела, 20 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 169 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2011).

Вядома з 1868 г. як засценак Ліпава-2 (2 двары, 20 жыхароў), у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1907 г. 47 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 12 двароў, 61 жыхар. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лук'янавіцкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 11 двароў, 43 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і знішчылі 3 жыха-

роў. Пасля вайны адбудавана. У 1948 г. адкрыты магазін. У 1949 г. створаны калгас імя К.Я.Варашылава. З 1954 г. ў складзе калгаса «Пераможца» (цэнтр — в. Лук'янавічы), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Лук'янавічы» (цяпер ААТ «Лук'янавічы»). У 1970 г. в. Ліпава-2, 32 жыхары. У 1997 г. 5 двароў, 9 жыхароў.

**ЛІПАВА** — вёска ў Сваткаўскім с/с. За 12 км на ПдУ ад Мядзела, 17 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 117 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. засценак Ліпава-1, 6 двароў, 40 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 48 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 9 двароў, 52 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лук'янавіцкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 21.5.1951 г. ў Сваткаўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 10 двароў, 56 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На зах. ускраіне вёскі ў 1964 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза А.С.Бычка, які загінуў 7.5.1944 г., установлены мемарыяльны знак. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Н.Н.Крупскай. З 1959 г. ў складзе калгаса «Зара», з 1988 г. — імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Сваткі), з 1994 г. — аграфірмы «Зара», з 1997 г. ў с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка, якое ў 2001 г. было рэарганізавана ў СВК «Сваткі» (цяпер ААТ «Сваткі»). У 1960 г. 40 жыхароў. У 1966 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 36 жыхароў. У 1997 г. 8 гаспадарак, 13 жыхароў.

**ЛІПКІ** — вёска ў Княгінінскім с/с. За 32 км на ПдУ ад Мядзела, 5 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 155 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Ліпнікі, 9 двароў, 50 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета. У 1921 г. 13 двароў, 71 жыхар. У 1939 г. 22 двары, 85 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. створаны калгас імя У.Д.Чарняхоўскага. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Крывічы» (цэнтр — в. Княгінін), з 2000 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (цяпер камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. г. радыёфікавана. У 1960 г. 75 жыхароў. У 1970 г. 65 жыхароў. У 1997 г. 9 гаспадарак, 17 жыхароў.

**ЛОГАВІНЫ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 15 км на ПнЗ ад Мядзела, 37 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 183 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы, на Пд — воз. Нарач. 7 гаспадарак, 16 жыхароў (2011).

Вядома з сярэдзіны 19 ст. У 1847 г. вёска маёнтка Антанінзберг Свянцянскага павета Віленскай губ., уладанне братоў Галкаў, 6 двароў, 24 жыхары. У 1868 г. 6 двароў, 70 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 74 жыхары, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета. У 1908 г. — 84 жыхары. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіраваны германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г.

ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 70 жыхароў. У 1970 г. 51 жыхар. З 1979 г. ў складзе калгаса «Нарач» (цэнтр — в. Чараўкі), цяпер у межах ТАА «Нарачанская ніва-2004». У 1997 г. 10 гаспадарак, 15 жыхароў.

**ЛОТВА** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 13 км на Пн ад Мядзела, 20 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 166 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Паставы. Рэльеф раўнінны, на Пд — воз. Лотвіны. 79 гаспадарак, 219 жыхароў (2011).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. У 1567 г. сяло, у Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Латвы, 7 двароў, 75 жыхароў, уладанне К.Камінскага. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 107 жыхароў, у Манькавіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 111 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Манькавіцкай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 12 двароў, 58 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Лацвянскага с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2007 г. ў Мядзельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 18 землякоў загінула на франтах. На ўшанаванне іх памяці ў 1965 г. ў вёсцы пастаўлены абеліск. У 1948—49 гг. дзейнічала школа для дарослых. У 1949 г. арганізаваны калгас імя М.А.Булганіна, з 1954 г. вёска стала цэнтрам узбуйненага калгаса з той жа назвай, з 1957 г. калгас «40 год Кастрычніка» (у 1999 г. далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга»). У 1957 г. адчынены магазін і мед. пункт. У 1960 г. 93 жыхары.

У 1961 г. электрыфікавана і радыёфікавана. Маецца тэлефонная сувязь. У 1970 г. 174 жыхары. У 1997 г. 95 двароў, 292 жыхары. Працуюць (2011) Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, магазін.

**ЛУЖЫ** — вёска ў Сваткаўскім с/с. За 14 км на Пд ад Мядзела, 20 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 122 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Лужа, 9 двароў, 51 жыхар, уладанне М.Данілевіча. У 1846 г. 74 жыхары, у складзе маёнтка Вузла, уладанне графа К.І.Тызенгаўза. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 109 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета. У 1908 г. 119 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 19 двароў, 111 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Брусаўскім (з 1.10.1973 г. Вузлянскі) с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай



*Возера Лотвіны каля в. Лотва.*

абласцей. З 23.3.1987 г. ў Сваткаўскім с/с. У 1940 г. 24 двары, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску, знішчылі 6 жыхароў. У канцы 1943 г. партызаны з удзелам мясц. насельніцтва пабудавалі недалёка ад вёскі аэрадром для прыёма з-за лініі фронту самалётаў са зброяй і боепрыпасамі, эвакуацыі параненых у сав. тыл. У 1965 г. на месцы былога партыз. аэрадрома пастаўлена стэла. У 1948 г. арганізаваны калгас імя М.В.Фрунзе. У 1960 г. 103 жыхары. У 1966 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 80 жыхароў. З 1988 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Сваткі), з 1994 г. — аграфірмы «Зара», з 1997 г. ў межах свінаводчага комплексу «Брусы» ААТ «Вілейскі камбікормавы завод». У 1997 г. 17 двароў, 31 жыхар.

**ЛУКАШЭВІЧЫ** — вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 47 км на З ад Мядзела, 29 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Крылеўшчызна, 196 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 90 жыхароў, уладанне Т.Ванковіча. У 1868 г. 13 двароў, 92 жыхары, у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 231 жыхар. У 1904 г. ў вёсцы 201 жыхар, ва ўрочышчы 3 жыхары. У 1915—18 гг. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Канстанцінаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 15.11.1957 г. ў Шэметаўскім с/с, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У 1940 г. вёска, 58 двароў, 249 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінула на франтах. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1950 г. арганізаваны калгас імя Н.К.Крупскай. У 1960 г. 159 жыхароў. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 1991 г. — калгаса «Канстанцінава» (цэнтр — в. Камарова), з 2002 г. ў калгасе «Свір», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (цяпер ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 139 жыхароў. У 1997 г. 30 гаспадарак, 55 жыхароў.

**ЛУК'ЯНАВІЧЫ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 15 км на ПдУ ад Мядзела, 26 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 175 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з воз. Баторына. 108 гаспадарак, 319 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1717 г. абруб, 4 двары, 7 жыхароў мужчынскага полу, шляхецкая ўласнасць. У 1770 г. 25 двароў, 257 жыхароў, уласнасць казны, у Вілейскім павеце Мінскай губ. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1868 г. вёска ў Вілейскім павеце Віленскай губ., 26 двароў, 230 жыхароў. 19.5.1892 г. ў выніку пажару згарэла 22 дамы разам з гаспадарчымі пабудовамі і ўсёй маёмасцю. У 1892 г. адчынена школа граматы, у якой у 1896 г. вучылася 12 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1887 г. 66 двароў, 413 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 74 двары, 388 жыхароў. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Лук'янавіцкага с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. 79 двароў, 330 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захоп-

нікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. На франтах і ў партыз. барацьбе загінула 48 вяскоўцаў. На ўшанаванне іх памяці ў 1984 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. У 1948 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, з 1951 г. вёска стала цэнтрам узбуйненага калгаса «Пераможца», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Лук'янавічы» (цяпер ААТ «Лук'янавічы»). У 1970 г. 203 жыхары. У 1997 г. 99 гаспадарак, 267 жыхароў. Працуюць (2011) Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, магазін.

**ЛУШЧЫКІ** – вёска ў Свірскім пас. савеце. За 48 км на З ад Мядзела, 24 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 182 км ад Мінска, на шашы Ольшава–Занарач. Рэльеф раўнінны, на Пд – воз. Глухое, на З – воз. Свірнішча. 22 гаспадаркі, 195 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1848 г. вёска (3 двары, 31 жыхар) у складзе маёнтка Свір-Ляскоўскі. У 1868 г. 10 двароў, 57 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 104 жыхары, у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 113 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Куцькоўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Свірскім с/с (з 25.4.1958 г. гарпассавет), з 31.8.1959 г. Мядзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінула на франтах. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1948 г. арганізаваны калгас «30 год БССР», з 1960 г. вёска ў складзе саўгаса, з 1991 г. – калгаса «Свір» (цэнтр – г.п. Свір), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (цяпер ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 112 жыхароў. У 1997 г. 31 гаспадарка, 200 жыхароў. Працуе (2011) дом-інтэрнат для псіханеўралагічных хворых.

**ЛЫЖЫЧЫ** – вёска ў Нарацкім с/с. За 25 км на ПнЗ ад Мядзела, 35 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 179 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 11 гаспадарак, 11 жыхароў (2011).

За 1 км на Пн ад вёскі ва ўрочышчы Сялілаўка знаходзіцца курган (мясц. назва Французскі могільнік). Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 92 жыхары, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 103 жыхары. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 5.07.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Рассвет». У 1960 г. 73 жыхары. З 1979 г. ў складзе калгаса «Нарач» (цэнтр – в. Чараўкі), з 1991 г. – калгаса «Прыазёрны» (цэнтр – в. Нарач), які ў 2003 г. быў



*Краявід каля в. Лушчыкі.*

рэарганізаваны ў СВК «Нарачанская ніва» (з 2004 г. ТАА «Нарачанская ніва-2004»). У 1970 г. 71 жыхар. У 1997 г. 20 гаспадарак, 34 жыхары.

**ЛЯХАВІЧЫ** – вёска ў Старагабскім с/с. За 11 км на У ад Мядзела, 44 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна–Полацк, 197 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1801 г. в. Ляхаўшчызна, 4 двары, 23 жыхары, у Вілейскім павеце, уласнасць казны і шляхціца І.Садоўскага. У 1897 г. аколіца (5 двароў, 34 жыхары) і маёнтак (19 жыхароў), у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 2 фальваркі (38 і 8 жыхароў). З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. ў засценку 8 двароў, 46 жыхароў, у фальварку Ляхавічы–Каза 4 двары, 29 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мікасецкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 1954 г. ў Старагабскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 19 двароў, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 7 двароў. З 1948 г. ў калгасе імя М.В.Фрунзэ. З 1954 г. ў складзе калгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр – в. Зані), з 2006 г. – СВК «Зані» (цяпер ААТ «Зані»). У 1960 г. 40 жыхароў. У 1970 г. 50 жыхароў. У 1997 г. 6 гаспадарак, 7 жыхароў.

**ЛЯШЧЫНСК** – вёска ў Нарацкім с/с. За 27 км на ПнЗ ад Мядзела, 36 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 182 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 35 гаспадарак, 76 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1846 г. вёска маёнтка Кузьмічы Свянцянскага павета Віленскай губ., уладанне І.Цывінскага, 3 двары, 22 жыхары. У 1868 г. 2 двары, 21 жыхар. У 1904 г. 47 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Ляшчынскага с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 36 землякоў загінула на франтах. У 1945 г. адкрыта хата-чытальня. З 1949 г. ў калгасе імя В.І.Чапаева, з 26.2.1964 г. да 10.2.1979 г. цэнтр узбуйненага калгаса з той жа назвай, з 1979 г. ў калгасе «Нарач» (цэнтр – в. Чараўкі). У 1960 г. 47 жыхароў. 12.11.1966 г. вёскі Пішчы (па пісьмовых крыніцах вядома з 1768 г.) і Ляшчынск аб'ядналіся ў адну – в. Ляшчынск. Працуюць (2011) Дом культуры, б-ка, магазін.

**МАГДУЛІНА** – вёска ў Сваткаўскім с/с. За 11 км на ПдУ ад Мядзела, 16 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 116 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Красноўка (прыток р. Вузлянка). 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. засценак Магдулін, 1 двор, 7 жыхароў. У 1868 г. 2 двары, 11 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 21 жыхар. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 5 двароў, 22 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лук'янавіцкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 25.9.1950 г. ў Сваткаўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 7

двароў, 19 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 25 жыхароў. У 1970 г. 16 жыхароў. З 1988 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Сваткі), з 1994 г. — аграфірмы «Зара», з 1997 г. ў с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка, якое ў 2001 г. было рэарганізавана ў СВК «Сваткі» (цяпер ААТ «Сваткі»). У 1997 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў.

**МАЗАЛЕЎШЧЫНА** — вёска ў Старагабскім с/с. За 21 км на У ад Мядзела. 30 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 187 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вузлянка (прыток р. Нарач), якая пачынаецца за 1 км на Пд ад вёскі. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1770 г. вёска (8 сем'яў). З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 34 жыхары, уласнасць казны. У 1868 г. 6 двароў, 55 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 103 жыхары. У лют.—снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 18 двароў, 96 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Слабодскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 21.5.1951 г. ў Старагабскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 33 двары, 117 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 4 вяскоўцы загінула на франтах. У 1948 г. арганізаваны калгас імя А.М.Горкага. У 1950 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. З 1954 г. ў складзе калгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Зані), зараз у межах с.-г. прадпрыемства «ГабыАгра». У 1960 г. 81 жыхар. У 1970 г. 77 жыхароў. У 1997 г. 12 гаспадарак, 24 жыхары.

**МАЛАЯ СЫРМЕЖ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 40 км на З ад Мядзела, 57 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна—Полацк. Рэльеф раўнінны, праз вёску працякае р. Малінаўка (прыток р. Вялікі Перакоп). 80 гаспадарак, 163 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1847 г. в. Сырмеж маёнтка Кабыльнікі, уладанне Свентаржыцкага, у Свянцянскім павеце Віленскай губ., 8 двароў, 72 жыхары. У 1868 г. 75 жыхароў, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета. У 1904 г. ў вёсцы 130 жыхароў. У вер. 1915—18 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Шэметаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 5.8.1954 г. ў Сырмежскім, з 31.1.2004 г. ў Нарацкім с/с. У 1940 г. вёска, 31 двор, 139 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1949 г. арганізаваны калгас «Светлы шлях». У 1960 г. 134 жыхары. У 1961 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 162 жыхары. З 1973 г. ў складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Старлыгі). У 1997 г. 84 гаспадаркі, 193 жыхары.

**МАРГІ** — вёска ў Княгінінскім с/с. За 33 км на ПдУ ад Мядзела, 6 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 156 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2011).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 11 двароў, 75 жыхароў, у Рабуньскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 73 жыхары, у 1908 г. — 82. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у гміне Рэчкі Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 17 двароў, 116 жыхароў. У 1939 г. вёска, 28 двароў, 121 жыхар. З вер. 1939 г. ў БССР, з

12.10.1940 г. ў Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У 1940 г. 25 двароў, 107 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і знішчылі 2 жыхароў. У 1949 г. арганізаваны калгас імя М.І.Кутузава. У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Крывічы» (цэнтр — в. Княгінін), з 2000 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (зараз камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1960 г. 113 жыхароў. У 1970 г. 83 жыхары. У 1997 г. 10 гаспадарак, 12 жыхароў.

**МАСТАВІКІ** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 19 км на ПдУ ад Мядзела, 13 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 153 км ад Мінска, на шашы Крывічы—Мядзел. Рэльеф раўнінны, на З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вузлянка (прыток р. Нарач). 16 гаспадарак, 16 жыхароў (2011).

Вядома з пач. 20 ст. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. засценак, 11 двароў, 68 жыхароў, у Будслаўскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1939 г. вёска, 14 двароў, 94 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Пузыроўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не, з 30.10.2009 г. ў Крывіцкім с/с. У 1940 г. 33 двары, 153 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 вёска спалена гітлераўцамі. Пасля вайны адбудавана. У 1950 г. арганізаваны калгас «Баявы». У 1955 г. радыёфікавана, у 1967 г. электрыфікавана. У 1960 г. 130 жыхароў. У 1970 г. 164 жыхары. З 1975 г. ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пузыры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Вузлянка» гандлёвага УП «Мінскі Камароўскі рынак». У 1997 г. 38 гаспадарак, 57 жыхароў.

**МАТЫКІ** — вёска ў Будслаўскім с/с. За 60 км на ПдУ ад Мядзела, 9 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 135 км ад Мінска, на шашы Крывічы—Будслаў. Рэльеф раўнінны. 19 гаспадарак, 26 жыхароў (2011).

Вядома з 16 ст. У 1586 г. сяло ў Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1763 г. 8 двароў, 21 жыхар мужчынскага полу. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 16 двароў, 79 жыхароў і фальварак, уладанне К.Слізеня. З 1880 г. працаваў вінакурны завод. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 27 двароў, 152 жыхары; сядзіба, 3 двары, 28 жыхароў, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. у вёсцы 41 двор, 219 жыхароў, у фальварку 3 двары, 43 жыхары. У 1939 г. вёска, 54 двары, 264 жыхары і былы маёнтак, 26 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сіўцаўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не, з 8.6.1963 г. ў Крывіцкім пас. Савеце, з 9.8.1978 г. ў Будслаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На паўн.-зах. ускраіне вёскі на ўшанаванне памяці 16 землякоў, якія загінулі на франтах, у 1965 г. пастаўлены абеліск. У 1949 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна. У 1960 г. 240 жыхароў. З 1965 г. ў складзе саўгаса, з 1991 г. — калгаса «Будслаўскі» (цэнтр — в. Будслаў), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Будслаўскі» (цяпер ААТ «Будслаўскае»). У 1970 г. 144 жыхары. У 1997 г. 40 гаспадарак, 73 жыхары.

**МАЎЧАНКІ** – вёска ў Мядзельскім с/с. За 19 км на ПнЗ ад Мядзела, 29 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 172 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на паўд.-зах. ускраіне працякае р. Мядзелка (упадае ў воз. Мядзел). 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска (2 двары, 36 жыхароў) і маёнткі Маўчанава (1 двор, 18 жыхароў) і Маўчаны (1 двор, 4 жыхары), у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. в. Маўчаны (37 жыхароў), засценак Маўчаны (6 жыхароў), маёнтак Маўчанава (9 жыхароў). З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета. У 1921 г. ў вёсцы 19 двароў, 88 жыхароў, у засценку 2 двары, 14 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 21.5.1951 г. ў Лацвянскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 1.1.2007 г. ў Мядзельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў складзе калгаса «40 год Кастрычніка» (цэнтр – в. Лотва), які ў 1999 г. быў далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга». У 1970 г. 26 жыхароў. У 1997 г. 6 гаспадарак, 11 жыхароў.

**МАЎЧАНЫ** – вёска ў Мядзельскім с/с. За 18 км на ПнЗ ад Мядзела, 30 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 171 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы, праз вёску працякае р. Мядзелка (упадае у воз. Мядзел). 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 9 двароў, 85 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле 1897 г. вёска (20 двароў, 157 жыхароў) і засценак Маўчаны (ён жа Ралаўцы, 2 двары, 8 жыхароў). З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 19 двароў, 88 жыхароў, у засценку 2 двары, 14 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лацвянскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2007 г. ў Мядзельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас імя А.Матросава. З 1954 г. ў складзе калгаса «40 год Кастрычніка» (да 1957 г. калгас імя М.А.Булганіна; цэнтр – в. Лотва), які ў 1999 г. быў далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга». У 1960 г. 124 жыхары. У 1970 г. 109 жыхароў. У 1997 г. 20 гаспадарак, 36 жыхароў.

**МАЦКІ** – вёска ў Сваткаўскім с/с. За 18 км на ПдУ ад Мядзела, 11 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 111 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 16 гаспадарак, 19 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1770 г. вёска, 9 сем'яў. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 12 двароў, 89 жыхароў, уласнасць казны. У 1868 г. 105 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска (27 двароў, 198 жыхароў) і старожка (1 двор, 3 жыхары), у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 27 двароў, 166 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сваткаўскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 34 двары, 119 жыхароў, працаваў медпункт. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі.

У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1948 г. створаны калгас «Бальшавік». З 1952 г. ў складзе калгаса імя В.М.Молатава (з 1957 г. «Зара»), з 1988 г. ў калгасе імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Сваткі), з 1994 г. ў аграфірме «Зара», з 1997 г. ў с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка, якое ў 2001 г. было рэарганізавана ў СВК «Сваткі» (цяпер ААТ «Сваткі»). У 1960 г. 162 жыхары. У 1970 г. 115 жыхароў. У 1997 г. 33 гаспадаркі, 51 жыхар.

**МАЦЯСЫ** — вёска ў Княгінінскім с/с. За 34 км на ПдУ ад Мядзела, 7 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 157 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёскі Мацясы-1 (7 двароў, 64 жыхары) і Мацясы-2 (4 двары, 35 жыхароў), у Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. у в. Мацясы-1 14 двароў, 86 жыхароў, у в. Мацясы-2 10 двароў, 112 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Вілейскага ваяв. У 1921 г. 22 двары, 136 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1949 г. створаны калгас імя К.Я.Варашылава. У 1950 г. электрыфікаваны, у 1960 г. радыёфікавана. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Крывічы» (цэнтр — в. Княгінін), з 2000 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (цяпер камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1960 г. 128 жыхароў. У 1970 г. 100 жыхароў. У 1997 г. 20 гаспадарак, 31 жыхар.

**МАЦЯСЫ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 29 км на ПнЗ ад Мядзела, 28 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 183 км ад Мінска, на шашы Вільнюс—Полацк. Рэльеф раўнінны. У вёсцы ніхто не жыве.

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 5 двароў, 79 жыхароў, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 73 жыхары. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Кабыльніцкім с/с (з 28.8.1964 г. Нарацкім) Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас імя В.І.Чапаева. У 1960 г. 37 жыхароў. З 1965 г. ў складзе саўгаса «Нарач» (цэнтр — в. Нарач), з 1991 г. ў калгасе «Прыазёрны», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Нарачанская ніва» (з 2007 г. ТАА «Нарачанская ніва-2004»). У 1970 г. 34 жыхары. У 1997 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар.

**МЕЛЬНІКІ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 27 км на ПнЗ ад Мядзела, 31 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 181 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску працякае р. Малінаўка (прыток р. Вялікі Перакоп). 14 гаспадарак, 21 жыхар (2011).

Вядома з 19 ст. У 1848 г. вёска (7 двароў, 65 жыхароў) у складзе маёнтка Кабыльнікі, уладанне Свентаржыцкіх. У 1904 г. 136 жыхароў, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Кабыльніцкім с/с (з 28.8.1964 г. Нарацкім) Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай аблас-

цей. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас «Новы шлях». У 1960 г. 37 жыхароў. З 1965 г. ў складзе саўгаса «Нарач» (цэнтр — в. Нарач), з 1991 г. ў калгасе «Прыазёрны», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Нарачанская ніва» (з 2004 г. ТАА «Нарачанская ніва-2004»). У 1970 г. 128 жыхароў. У 1997 г. 23 гаспадаркі, 39 жыхароў.

**МІКАСЕЦК** — вёска ў Слабодскім с/с. За 6 км на У ад Мядзела, 38 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 174 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Ваўкалата. Рэльеф раўнінны. 13 гаспадарак, 21 жыхар (2011).

За 1,5 км на З ад вёскі, на мысе са стромкімі схіламі (мясц. назва Чорная Гара) знаходзіцца гарадзішча жал. веку і эпохі сярэдневякоўя. Побач размешчана селішча, якое датуецца 6—8 і 9—11 ст. н.э. Вядома з 19 ст. У 1868 г. засценак (2 двары, 14 жыхароў), у якім размяшчалася валаснoе праўленне Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 93 жыхары. З 1898 г. працавала школа граматы. У 1918 г. ў вёсцы размяшчаўся Мядзельскі валасны рэўкам. У лют.—снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 18 двароў, 95 жыхароў. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Мікасецкага с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім, з 15.11.1957 г. ў Дзягільскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 1.1.2007 г. ў Слабодскім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. створаны калгас імя С.М.Будзённага. У 1960 г. 61 жыхар. З 1961 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Дзягілі), які ў 1992 г. быў рэарганізаваны ў дапаможную гаспадарку «Дзягілі» Мінскага маторнага з-да (з 2009 г. ААТ «Мінскі маторны завод» с.-г. філіял «Дзягілі»). У 1970 г. 66 жыхароў. У 1997 г. 18 гаспадарак, 29 жыхароў.

**МІКІТКІ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 20 км на Пн ад Мядзела, 28 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 173 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ўсх. ускраіне працякае р. Мядзелка (прыток р. Бірвета). 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска, 4 двары, 20 жыхароў мужчынскага полу, шляхецкая ўласнасць. У 1799 г. 9 двароў, 48 жыхароў, уладанне К.Дмухоўскага, К.Корсака і В.Юрэвіча. Павдоле перапісу 1897 г. вёска (16 двароў, 99 жыхароў) і сядзіба (1 двор, 11 жыхароў), у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы, у Манькавіцкай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лацвянскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2007 г. ў Мядзельскім с/с. У 1940 г. 21 двор, 91 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і знішчылі 3 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. арганізаваны калгас «Зара Свабоды». З 1954 г. ў складзе калгаса «40 год Кастрычніка» (цэнтр — в. Лотва), які ў 1999 г. быў далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга». У 1960 г. 93 жыхары. У 1970 г. 59 жыхароў. У 1997 г. 15 гаспадарак, 31 жыхар.

**МІКОЛЬЦЫ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 8 км на З ад Мядзела, 32 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 168 км ад Мінска, на ша-

шы Мядзел—Нарач. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы, паміж азёрамі Мястра і Нарач. 51 гаспадарка, 95 жыхароў (2011).

За 1—2 км на Пд ад вёскі размешчаны стаянкі эпохі неаліту і бронзавага веку. За 1,5 км на ПнУ ад вёскі знаходзіцца гарадзішча, да якога з З, Пд і У далучаецца селішча 6—9 ст. Вядома з 19 ст. У 1846 г. вёска (18 двароў, 81 жыхар) у складзе аднайменнага маёнтка; карчма на тракце Мядзел—Паставы. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 22 двары, 157 жыхароў, хлебазапасны магазін, у двух маёнтках 48 жыхароў. У 1904 г. вёска (191 жыхар) і засценак (15 жыхароў), у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 32 двары, 191 жыхар. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Баярскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1969 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 14.3.1944 г. каля вёскі адбыўся бой паміж партызанамі брыгад імя Г.К.Жукава і імя К.Я.Варашылава і гітлераўцамі, якія спрабавалі прабіцца да блакіраванага партызанамі ў Мядзела фаш. гарнізона. У 1968 г. на месцы бою пастаўлены помнік. У 1948 г. арганізаваны калгас «30 год БССР». У 1959 г. электрыфікавана і радыёфікавана. З 1960 г. ў складзе калгаса «Ленінскі шлях» (да 1961 г. «Сталінскі шлях»; цэнтр — в. Баяры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Баярскі маяк» (з 2005 г. ў межах с.-г. філіяла ААТ «Мядзельаграсервіс»). У 1970 г. 283 жыхары. У 1997 г. 79 гаспадарак, 148 жыхароў.

**МІКОЛЬЦЫ** — хутар у Мядзельскім с/с. За 6 км на З ад Мядзела, 30 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 166 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Нарач. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы, на Пд — воз. Мястра. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2011).

Вядомы з 19 ст. У 1846 г. тут быў маёнтак, уладанне І.Галкі, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 2 маёнткі, 48 жыхароў. У 1904 г. маёнтак (39 жыхароў) і фальварак (18 жыхароў). З лют. да снеж. 1918 г. акупіраваны германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 1 двор, 14 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Баярскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1960 г. ў складзе калгаса «Ленінскі шлях» (да 1961 г. «Сталінскі шлях»; цэнтр — в. Баяры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Баярскі маяк» (з 2005 г. ў межах с.-г. філіяла ААТ «Мядзельаграсервіс». У 1970 г. 9 жыхароў. У 1999 г. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў.

**МІКРАШЫ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 33 км на ПнЗ ад Мядзела, 39 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 187 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1846 г. вёска (2 двары, 13 жыхароў) у складзе маёнтка Кузьмічы Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1868 г. 3 двары, 65 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 87 жыхароў. У 1908 г. 96 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР,

з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас «Сталінскі шлях», пазней вёска ўвайшла ў склад калгаса імя В.І.Чапаева. У 1960 г. 63 жыхары. У 1970 г. 53 жыхары. З 1979 г. ў складзе калгаса «Нарач» (цэнтр — в. Чараўкі), у 1998—2006 гг. у доследным рыбгасе «Нарач» (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1997 г. 15 гаспадарак, 22 жыхары.

**МІЛТЫ** — вёска ў Слабодскім с/с. За 19 км на ПнУ ад Мядзела, 51 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 175 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 9 гаспадарак, 19 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 4 двары, 21 жыхар, уладанне Е.Келышынай. У 1904 г. вёска (79 жыхароў) і засценак (18 жыхароў), у Манькаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Манькавіцкай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 18 двароў. 80 жыхароў, у фальварку 2 двары, 27 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Нагаўскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Дзягільскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 1.1.2007 г. ў Слабодскім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас «Барацьбіт». У 1960 г. 58 жыхароў. З 1961 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Дзягілі), які ў 1992 г. быў рэарганізаваны ў дапаможную гаспадарку «Дзягілі» Мінскага маторнага з-да (з 2009 г. ААТ «Мінскі маторны завод» с.-г. філіял «Дзягілі»). У 1963 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. хутары, 47 жыхароў. У 1997 г. вёска, 12 гаспадарак, 32 жыхары.

**МІНЧАКІ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 5 км на ПнЗ ад Мядзела, 26 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 165 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Нарач. Рэльеф раўнінны, на Пд — воз. Мястра. 5 гаспадарак, 10 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1715 г. вёска, 6 двароў, у складзе маёнтка Астровы, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. 7 двароў, 50 жыхароў, уладанне Т.Галкі. Паводле перапісу 1897 г. вёска (6 двароў, 36 жыхароў) і засценак Мінчакі (ён жа Воўчак, 1 двор, 6 жыхароў), у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Баярскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 11 двароў, 43 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 1949 г. ў калгасе імя А.С.Пушкіна. З 1960 г. ў складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Баяры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Баярскі маяк» (у 2005 г. ўвайшоў у межы с.-г. філіяла ААТ «Мядзельаграсервіс»). У 1970 г. 42 жыхары. У 1997 г. 8 гаспадарак, 17 жыхароў.

**МІСУНЫ** — вёска ў Старагабскім с/с. За 14 км на У ад Мядзела, 43 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 198 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць меліярацыйны

канал, злучаны з воз. Дзягелі. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. У 1770 г. вёска (4 сям'і) у Мядзельскім старастве Віленскага ваяв. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 7 двароў, 45 жыхароў, уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. 32 двары, 183 жыхары, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З 1900 г. працавала школа граматы. У 1908 г. 226 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 44 двары, 177 жыхароў. 15.10.1924 г. ў вёсцы была створана падп. група, у якую ўвайшлі Мікалай Герасімавіч, Іван Герасімавіч, Аляксей Герасімавіч і Мікалай Лявонавіч Місуны, Лявон Адамавіч Верабей і сяляне з суседніх вёсак. Яны вялі работу супраць польскіх улад. У пач. 1926 г. па даносе былі арыштаваны і асуджаны польскім судом на розныя тэрміны зняволення М.Г.Місуна, І.Г.Місуна, М.Л.Місуна, Л.А.Верабей і інш. У 1935—36 гг. яны вярнуліся ў вёску і зноў разгарнулі агітацыйную і арганізатарскую работу сярод вяскоўцаў. Жыхары вёскі актыўна падтрымалі нарачанскіх рыбакоў у час іх выступленняў 1935 г. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лук'янавіцкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 21.5.1951 г. ў Мікасецкім, з 1954 г. ў Старагабскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 48 двароў, 189 жыхароў, быў арганізаваны калгас «Парыжская камуна». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У канцы 1941 г. пад кіраўніцтвам М.Г.Місуны была арганізавана падп. група, члены якой прымалі зводкі Саўінфармбюро і распаўсюджвалі іх сярод насельніцтва, знішчалі масты і рабілі завалы на дарогах. Да снеж. 1943 г. група вырасла ў партыз. атрад імя Пугачова брыгады імя С.М.Будзённага. 10 вяскоўцаў загінула на франтах і ў партыз. барацьбе. У сак. 1945 г. адноўлены калгас. У 1950 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. З 1954 г. ў складзе калгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Зані), з 2006 г. СВК «Зані» (цяпер ААТ «Зані»). У 1960 г. 63 жыхары. У 1970 г. 50 жыхароў. У 1997 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў.

**МІХАЛІ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 23 км на ПнЗ ад Мядзела, 25 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 174 км ад Мінска, на шашы Полацк—Вільнюс. Рэльеф раўнінны. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска (4 двары, 29 жыхароў) і маёнтак (5 жыхароў). У 1897 г. 12 двароў, 61 жыхар, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лацвянскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2007 г. ў Мядзельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. створаны калгас імя А.В.Суворава. З 1954 г. ў складзе калгаса «40 год Кастрычніка» (да 1957 г. калгас імя М.А.Булганіна; цэнтр — в. Лотва), які ў 1999 г. быў далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга». У 1960 г. 35 жыхароў. У 1970 г. 38 жыхароў. У 1997 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў.

**МІЦІНЕНТЫ** — вёска ў Сырмежскім с/с. За 45 км на ПдЗ ад Мядзела, 59 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна—Полацк, 206 км ад Мінска, на шашы Свір—Занарач. Рэльеф раўнінны. 15 гаспадарак, 31 жыхар (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 14 двароў, 133 жыхары. У 1904 г. вёска, 165 жыхароў, у Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 14 двароў, 168 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі

войскамі. З 1919 г. БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Шэметаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Сырмежскім с/с. У 1940 г. вёска, 29 двароў, 145 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 вяскоўцаў загінула на франтах. У 1949 г. створаны калгас «Барацьбіт». У 1960 г. 116 жыхароў. У 1961 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. хутары, 86 жыхароў. З 1973 г. ў складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Старлыгі), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Міжазёрны край» (цяпер ААТ «Міжазёрны край»). У 1997 г. 27 гаспадарак, 47 жыхароў.

**МОКРЫЦА** – вёска ў Занарацкім с/с. За 27 км на ПдЗ ад Мядзела, 32 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 173 км ад Мінска, на шашы Свір—Занарач. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Нарач. 26 гаспадарак, 66 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1766 г. сяло ў складзе аднайменнага маёнтка. У 1786 г. 20 двароў, 128 жыхароў. З 1795 г. ў Рас. імперыі. З 1880 г. дзейнічаў вінакурны завод. Паводле перапісу 1897 г. вёска (49 двароў, 279 жыхароў) і маёнтак (29 жыхароў, вінакуны і цагельны заводы) у Занарачанскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У царк.-прыходскай школе ў 1896 г. навучалася 11 хлопчыкаў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. 18—28.3.1916 г. ў раёне вёскі праходзілі баі Нарачанскай аперацыі войск рус. армій Паўн. і Зах. франтоў. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Занарацкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 52 двары, 217 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску, знішчылі 3 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1948 г. створаны калгас «Герой». У 1955 г. радыёфікавана, у 1966 г. электрыфікавана. У 1960 г. 200 жыхароў. У 1970 г. 144 жыхары. З 1973 г. ў складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Занарач), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Занарачанскі» (цяпер ААТ «Занарачанскі»). У 1997 г. 45 гаспадарак, 94 жыхары.

**МОХАВІЧЫ** — вёска ў Старагабскім с/с. За 14 км на У ад Мядзела, 44 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 199 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1770 г. вёска, 12 двароў, 35 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. 48 жыхароў, уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. 35 двароў, 231 жыхар, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 240 жыхароў, у 1908 г. — 243. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 37 двароў, 188 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мікасецкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 1954 г. ў Старагабскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 46 двароў, 215 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 8 жыхароў загінула на франтах. У 1948 г. арганізаваны калгас імя А.А.Жданава. У 1950 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. З 1954 г. ў складзе калгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Зані), з 2006 г. — СВК «Зані» (цяпер ААТ «Зані»). У 1960 г. 161 жыхар. У 1970 г. 146 жыхароў. У 1997 г. 28 гаспадарак, 40 жыхароў.

**МУЦЕЎШЧЫНА** – вёска ў Слабодскім с/с. За 20 км на ПнУ ад Мядзела, 52 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 176 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны.10 гаспадарак, 16 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1846 г. вёска, 6 двароў, 58 жыхароў, у складзе маёнтка Смыч, уладанне графа К.І.Тызенгаўза. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 96 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 103 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 15 двароў, 84 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Нагаўскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Дзягільскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 1.1.2007 г. ў Слабодскім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас «Маладая гвардыя». У 1960 г. 44 жыхары. З 1961 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Дзягілі), які ў 1992 г. быў рэарганізаваны ў дапаможную гаспадарку «Дзягілі» Мінскага маторнага з-да (з 2009 г. ААТ «Мінскі маторны завод» с.-г. філіял «Дзягілі»). У 1963 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 72 жыхары. У 1997 г. 15 гаспадарак, 30 жыхароў.

**НАВАСЁЛКІ** – вёска ў Крывіцкім с/с. За 24 км на ПдУ ад Мядзела, 8 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна–Полацк, 152 км ад Мінска, на шашы Будслаў–Восава. Рэльеф раўнінны. 19 гаспадарак, 35 жыхароў (2011).

Вядома з пач. 17 ст. У 1606 г. сяло, 6 двароў, 8 валок зямлі, уладанне Радзівілаў. У 1868 г. засценак, 3 двары, 25 жыхароў, у Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 12 двароў, 93 жыхары, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёскі Навасёлкі-1 (186 жыхароў) і Навасёлкі-2 (131 жыхар) у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Вераб'ёўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 27.3.1959 г. ў Пузыроўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не, з 30.10.2009 г. ў Крывіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1949 г. створаны калгас «Чырвоны партызан». У 1955 г. радыёфікавана, у 1967 г. электрыфікавана. У 1960 г. 143 жыхары. У 1970 г. 111 жыхароў. З 1975 г. ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пузыры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Вузлянка» (з 2004 г. асобнае структурнае падраздзяленне гандлёвага УП «Мінскі Камароўскі рынак»). У 1997 г. 34 гаспадаркі, 81 жыхар.

**НАВАСЁЛКІ** – вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 52 км на З ад Мядзела, 28 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 182 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн — воз. Свірнішча, на Пд працякае р. Свірыца (упадае ў воз. Свір). 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска (12 двароў, 80 жыхароў) у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1907 г. 21 двор, 144 жыхары. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Свірскім с/с (з 25.4.1958 г. пас. Савет) Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. вёска, 21 двор, 127 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з

29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1948 г. створаны калгас імя А.А.Жданава. З 1960 г. ў складзе саўгаса, з 1991 г. — калгаса «Свір» (цэнтр — г.п. Свір), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (цяпер ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 97 жыхароў. У 2007 г. 16 гаспадарак, 30 жыхароў.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Старагабскім с/с. За 23 км на ПнУ ад Мядзела, 28 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 187 км ад Мінска, на шашы Ваўкалата—Мядзел. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1718 г. вёска, 9 двароў, у складзе маёнтка Шоры, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 16 двароў, 148 жыхароў, уладанне Т.Ванковіча. У 1868 г. 19 двароў, 152 жыхары, у Габскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 36 двароў, 242 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жаснянскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 46 двароў, 223 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Слабодскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 21.5.1951 г. ў Старагабскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 51 двор, 272 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5 вяскоўцаў загінула на франтах. У 1949 г. створаны калгас імя С.М.Будзённага. З 1954 г. ў складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Старыя Габы), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Сінявокі край», з 2004 г. — УП «Джэнці кантракт лізінг», з 2008 г. — камунальнае с.-г. УП «ГабыАгра». У 1960 г. 191 жыхар. У 1970 г. 176 жыхароў. У 1997 г. 24 гаспадаркі, 76 жыхароў.

**НАГАЎКІ** — вёска ў Слабодскім с/с. За 22 км на ПнУ ад Мядзела, 54 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 178 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн — воз. Жуцінскае. 24 гаспадаркі, 31 жыхар (2011).

За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Валатоўкі, знаходзіцца курганны могільнік (156 насыпаў). Вядома з 19 ст. У 1846 г. вёска, 21 двор, 182 жыхары, у складзе маёнтка Смыч, уладанне графа К.І.Тызенгаўза. У 1896 г. адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 63 двары, 404 жыхары, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Побач знаходзіўся аднайменны засценак, 2 двары, 13 жыхароў. У 1908 г. 418 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета. У 1921 г. ў вёсцы 72 двары, 420 жыхароў, у засценку 1 двор, 4 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Нагаўскага с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Дзягільскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 1.1.2007 г. ў Слабодскім с/с. У 1940 г. 94 двары, 517 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і знішчылі 14 чалавек. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. створаны калгас «Новае жыццё», у 1951-60 гг. вёска з'яўлялася цэнтрам узбуйненага калгаса з той жа назвай. У 1960 г. 341 жыхар. З 1961 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Дзягілі), які ў 1992 г. быў рэарганізаваны ў дапаможную гаспадарку «Дзягілі» Мінскага маторнага з-да (з 2009 г. ААТ «Мінскі маторны завод» с.-г. філіял «Дзягілі»). У 1963 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 285 жыхароў. У 1997 г. 58 гаспадарак, 100 жыхароў.

**НАГАЎШЧЫНА** — вёска ў Слабодскім с/с. За 26 км на ПнУ ад Мядзела, 58 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 182 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З — воз. Нагаў-

скае, на Пн — воз. Верацеўскае. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1846 г. засценак Нагаўшчызна, 2 двары, 25 жыхароў, у складзе маёнтка Смыч, уладанне графа К.І.Тызенгаўза. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 43 жыхары, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета. У 1921 г. вёска, 8 двароў, 33 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Нагаўскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Дзягільскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 1.1.2007 г. ў Слабодскім с/с. У 1940 г. 10 двароў, 42 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і знішчылі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. З 1961 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Дзягілі), які ў 1992 г. быў рэарганізаваны ў дапаможную гаспадарку «Дзягілі» Мінскага маторнага з-да (з 2009 г. ААТ «Мінскі маторны завод» с.-г. філіял «Дзягілі»). У 1963 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 39 жыхароў. У 1997 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў.

**НАНОСЫ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 32 км на З ад Мядзела, 52 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 153 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, размешчана на невял. паўвостраве, які ўкліньваецца ў воз. Нарач. 11 гаспадарак, 20 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1786 г. вёска, 6 двароў, 51 жыхар, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1868 г. 60 жыхароў, у 1904 г. — 124, у Занарачанскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. У 1935—36 гг. вяскоўцы актыўна ўдзельнічалі ў выступленні нарачанскіх рыбакоў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Шэметаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 5.8.1954 г. ў Сырмежскім с/с, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.2.1971 г. да 29.9.1999 г. ў Нарацкім курортна-пас. Савеце. У 1940 г. вёска, 19 двароў, 91 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 85 жыхароў. У 1967 г. электрыфікавана, у 1968 г. радыёфікавана. У 1970 г. хутары, 74 жыхары. У 1997 г. 15 гаспадарак, 29 жыхароў.

**НАРАЧ** (да 30.7.1964 г. Кабыльнік) — вёска, цэнтр Нарацкага с/с. За 20 км на ПнЗ ад Мядзела, 29 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 176 км ад Мінска, на шашы Нарач—Вільнюс. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы, на Пн працякае р. Сырмеж (прыток р. Малінаўка). 1008 гаспадарак, 2531 жыхар (2011).

У 1463 г. ў маёнтку Кабыльнік быў заснаваны драўляны касцёл (перабудаваны ў 1736 г.). У 1527 г. князь Аляксандр Свірскі прадаў «дзедзізку» сваю Кабыльнік ваяводу віленскаму А.Гаштольду. У 16 ст. ва ўладанні князёў Збаражскіх, потым Абрамовічаў, М.Аскеркі, кашталяна Ашмянскага, ад якога перайшло да А.Свентаржыцкага. У 1641 г. 19 двароў, 122 жыхары. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. мястэчка, 32 двары, 214 жыхароў, уладанне Берхмана. У час вайны 1812 г. ў Кабыльнік 20.6.1812 г. ўступіў 6-ты пяхотны корпус пад камандаваннем ген. Д.С.Дохтурава. Паспяховае прыбыццё ў мястэчка корпуса завяршыла сканцэнтраванне 1-й рус. арміі Барклая дэ Толі. У 1847 г. мястэчка (25 двароў) уваходзіла ў 2 маёнткі: адна частка — 8 двароў, 43 жыхары, вадзяны млын, вінакурня (заснавана ў 1845), ва ўладанні памешчыка Свентаржыцкага; другая частка — 17 двароў, 105 жыхароў, вінакурня — ва ўладанні





*Помнік нямецкім салдатам каля в. Нарач.*

*Ільінская царква ў в. Нарач.*

братоў Шышкаў. У 1866 г. ў мястэчку і 2-х фальварках 370 жыхароў, касцёл, капліца. У 1873 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1884 г. вучылася 30 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку, якое з'яўлялася цэнтрам вол. Свянцянскага павета, 56 двароў, 607 жыхароў, царква, касцёл, малітоўны дом, багадзельня, нар. вучылішча, царк.-прыходская школа, паштовае аддз., 9 лавак, карчма, па нядзелях праводзіліся таржкі, 9 разоў на год адбываліся кірмашы, у аднайменнай вёсцы 85 двароў, 380 жыхароў, у маёнтку Кабыльнік-2 2 двары, 46 жыхароў. У 1901 г. ў цэнтры вёскі з цэглы пабудаваны касцёл і побач плябанія. Тут жа знаходзілася ўзведзеная ў 18 ст. з дрэва званіца. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. У сак. 1916 г. ў мястэчку размяшчаўся штаб ням. 21-га ўзмоцненага корпуса (42-я, 115-я, 31-я пяхотныя, 75-я рэзервовая, 9-я кавалерыйская дывізіі і 9-я ландверная брыгада). З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы, цэнтр гміны Пастаўскага павета Віленскага ваяв., тут размяшчаліся гмінная ўправа, паліцэйскі ўчастак, мураваны касцёл, сінагога, цагельня, гарбарня, млыны, аптэка. Арганізаваная ў 1923 г. Кабыльніцкая ячэйка КПЗБ была ў 1926 г.ператворана ў падраённы камітэт, які абслугоўваў 4 гміны (Кабыльніцкую, Занарацкую Пастаўскага павета, Канстанцінаўскую і Шэметаўскую Свянцянскага павета). Ячэйка падтрымлівала сувязь з Пастаўскім райкамам КПЗБ. У 1931 г. 900 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Кабыльніцкага с/с (28.8.1964 г. перайменаваны ў Нарацкі) Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1942 г. партызаны атрада імя А.В.Суворава разграмілі ў вёсцы варожы гарнізон. За 0,3 км на Пн ад вёскі пахаваны 80 жыхароў, якіх расстралялі гітлераўцы ў 1942 г. На франтах загінула 20 вяскоўцаў. На ўшанаванне іх памяці ў 1969 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены помнік — скульптура воіна. У 1947 г. ў вёсцы быў абсталяваны радыёвузел, уступіў у строй спіртза-

вод, працавалі бальніца, лясгас, млын, рыбакамбінат. У 1949 г. арганізаваны калгас «Перамога», дзейнічалі млын і сукнавалка, 3 магазіны, сталовая, хлебапякарня, урачэбны ўчастак, аптэка, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, бібліятэка, пошта, хата-чытальня. У 1960 г. 1116 жыхароў. З 1965 г. цэнтр саўгаса «Нарач», з 1991 г. — калгаса «Прыазёрны», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Нарачанская ніва» (з 2004 г. ТАА «Нарачанская ніва-2004»). У 1970 г. 1622 жыхары. У 1997 г. 1009 гаспадарак, 2584 жыхары. З 2007 г. аграгарадок. Працуюць (2011) камунальнае вытворчае УП «Нарачанскі завод напіткаў», Нарачанскі філіял ААТ «Маладзечанскі малочны камбінат», сярэдняя і муз. школы, яслі-сад, Дом культуры, б-ка, участковая бальніца, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, 11 магазінаў. Помнікі архітэктуры: касцёл Святога апостала Андрэя (пач. 20 ст.), Ільінская царква (19 ст.).

У склад сельсавета ўваходзяць 48 населеных пунктаў.

**НАРАЧ** — курортны пасёлак у Нарацкім с/с. За 18 км на З ад Мядзела, 31 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 173 км ад Мінска, на шашы Нарач—Маладзечна. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы, на Пд — воз. Нарач. 1415 гаспадарак, 3416 жыхароў.

*Касцёл Святога апостала Андрэя ў в. Нарач.*



У 1846 г. на тэрыторыі сучаснага курортнага пасёлка знаходзілася в. Урлікі (2 двары, 28 жыхароў), якая ўваходзіла ў склад маёнтка Кабыльнік, ва ўладанні А.Мазуркевіча. У 1868 г. тут былі в. Урлікі і маёнтак, а побач — в. Купа (4 двары, 44 жыхары). У 1904 г. на месцы сучаснага пасёлка — вёскі Купа, Урлікі, Сцепянёва і засценак Урлікі. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. У 1935—36 гг. жыхары вёсак Купа, Урлікі, Сцепянёва актыўна ўдзельнічалі ў Нарачанскім выступленні рыбакоў. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, вёскі Купа і Урлікі ўваходзілі з 12.10.1940 г. ў Кабыльніцкі (з 28.8.1964 г. Нарацкі) с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, в. Сцепянёва — з 12.10.1940 г. ў Шэметаўскі с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 5.8.1954 г. ў Сырмежскім с/с, з 31.8.1959 г. Мядзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 2 землякі загінула ў партыз. барацьбе. У 1949 г. ў в. Купа быў створаны калгас «Нарач». У 1960 г. ў в. Купа 193 жыхары, у в. Урлікі — 46, у в. Сцепянёва – 33. Утвораны 27.10.1964 г. паводле рашэння Мінскага аблвыканкама. У межы курортнага пасёлка акрамя вёсак Купа, Урлікі і Сцепянёва, увайшлі дамы адпачынку «Нарач», «Звязда», санаторый «Нарач», рыбгаспадарка «Нарач», станцыя ДТСААФ, біялагічная станцыя БДУ, турысцкая база «Возера Нарач», піянерскія лагеры «Зорачка», «Артэк». З 25.2.1971 г. да 29.9.1999 г. пасёлак — цэнтр Нарацкага курортна-пас. Савета. У 1997 г. 1337 гаспадарак, 3213 жыхароў. З 1999 г. цэнтр Дзярж. прыродаахоўнай установы «Нацыянальны парк «Нарачанскі». Працуюць (2011) сярэдняя школа, дашкольны цэнтр развіцця

дзіцяці, б-ка, паліклініка, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, 6 магазінаў.

**НАРЭЙШЫ** — вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 48 км на З ад Мядзела, 18 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 187 км ад Мінска, на шашы Ольшава—Занарач. Рэльеф раўнінны. 48 гаспадарак, 77 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1847 г. вёска (22 двары, 194 жыхары) маёнтка Альшэва, у Свянцянскім павеце Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 36 двароў, 310 жыхароў. У 1904 г. 318 жыхароў, у 1908 г. — 324. З 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Куцькоўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Свірскім, з 5.8.1954 г. ў Канстанцінаўскім с/с, з 31.8.1959 г. у Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінула на франтах. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1950 г. арганізаваны калгас «Рассвет». У 1960 г. 280 жыхароў. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 1991 г. — калгаса «Канстанцінава» (цэнтр — в. Камарова), з 2002 г. ў калгасе «Свір», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (цяпер ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 296 жыхароў. У 1997 г. 69 гаспадарак, 137 жыхароў.

**НАЎРЫ** — вёска ў Сваткаўскім с/с. За 19 км на ПдУ ад Мядзела, 10 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 110 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на паўн.-зах. ускраіне працякае р. Вузлянка (прыток р. Нарач). 24 гаспадаркі, 30 жыхароў (2011).

За 1 км на Пд ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік 11—12 ст. Вядома з 17 ст. У 1606 г. сяло Наўра, 10 двароў, 10 валок зямлі, уладанне Радзівілаў. У 1651 г. сяло ў складзе маёнтка Крывічы, уладанне Я.Кішкі. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1868 г. 16 двароў, 133 жыхары. У школе граматы, якая працавала ў вёсцы, у 1896 г. вучылася 10 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 208 жыхароў, у Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 266 жыхароў, у 1908 г. — 270. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 43 двары, 231 жыхар. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сваткаўскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 51 двор, 175 жыхароў, быў арганізаваны калгас «Бальшавік». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 6 двароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінула 4 вяскоўцы. У 1949 г. створаны калгас «Чырвоны пагранічнік». З 1959 г. ў складзе калгаса «Зара», з 1988 г. ў калгасе імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Сваткі), з 1994 г. ў аграфірме «Зара», з 1997 г. ў с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка, якое ў 2001 г. было рэарганізавана ў СВК «Сваткі» (цяпер

*Культурна-забаўляльны цэнтр «Азёрны» ў курортным пас. Нарач.*



ААТ «Сваткі»). У 1960 г. 221 жыхар. У 1966 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 173 жыхары. У 1997 г. 39 гаспадарак, 82 жыхары.

**НЕЦЬКІ** – вёска ў Свірскім пас. савеце. За 48 км на З ад Мядзела, 22 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 184 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 17 гаспадарак, 23 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. Нецькі – 2 вёскі: 10 двароў, 98 жыхароў, у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. і 3 двары, 36 жыхароў, у Шэметаўскай вол. таго ж павета. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсках 30 двароў, 141 жыхар. У 1904 г. 2 вёскі ў Свірскай вол., 76 і 8 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Канстанцінаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 20.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1948 г. створаны калгас «Новае жыццё». З 1960 г. ў складзе саўгаса, з 1991 г. калгаса «Свір» (цэнтр – г.п. Свір), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (цяпер ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 117 жыхароў. У 1997 г. 24 гаспадаркі, 43 жыхары.

**НІЎКІ** – вёска ў Княгінінскім с/с. За 34 км на Пд ад Мядзела, 7 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 157 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 25 гаспадарак, 34 жыхары (2011).

Вядома з 16 ст. У 1567 г. сяло, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 27 двароў, 184 жыхары, уладанне А.Сапегі. У 1868 г. вёска (21 двор, 202 жыхары) і калонія (7 двароў, 69 жыхароў). У школе граматы, якая дзейнічала ў вёсцы, вучылася ў 1896 г. 22 хлопчыкі. Паводле перапісу 1897 г. вёска (43 двары, 290 жыхароў), калонія (16 двароў, 138 жыхароў) і фальварак (1 двор, 18 жыхароў) у Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска (72 двары, 378 жыхароў), засценак (4 двары, 24 жыхары) і калонія (14 двароў, 76 жыхароў), у Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с Вілейскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.8. 1954 г. ў Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас імя І.В.Сталіна. У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Крывічы» (цэнтр – в. Княгінін), з 2000 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (цяпер камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1960 г. 464 жыхары. У 1970 г. 376 жыхароў. У 1997 г. 62 гаспадаркі, 101 жыхар.

**НОВІКІ** – вёска ў Сваткаўскім с/с. За 21 км на ПдУ ад Мядзела, 13 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 113 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 34 гаспадаркі, 79 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1801 г. вёска, 9 жыхароў, уласнасць казны, у Вілейскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 35 двароў, 232 жыхары, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 38 двароў, 292 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 38 двароў, 235 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў

Сваткаўскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 52 двары, 198 жыхароў, пачаў працаваць магазін, быў створаны калгас імя В.М.Молатава. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У верасні 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску, знішчылі 42 жыхары. У 1969 г. на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск. Пасля вайны адбудавана. У 1948 г. адноўлены калгас імя В.М.Молатава. З 1959 г. ў складзе калгаса «Зара», з 1988 г. ў калгасе імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Сваткі), з 1994 г. ў аграфірме «Зара», з 1997 г. ў с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка, якое ў 2001 г. было рэарганізавана ў СВК «Сваткі» (цяпер ААТ «Сваткі»). У 1960 г. 200 жыхароў. У 1970 г. 175 жыхароў. У 1997 г. 49 гаспадарак, 109 жыхароў.

**НОВЫЯ ГАБЫ** — вёска ў Старагабскім с/с. За 30 км на У ад Мядзела, 21 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 182 км ад Мінска, на шашы Новыя Габы—Мядзел. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вузлянка (прыток р. Нарач). 44 гаспадаркі, 70 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 31 двор, 182 жыхары, уладанне Г.Аскеркі. У 1884 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1896 г. вучылася 20 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 75 двароў, 581 жыхар, у Жаснянскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёска, 552 жыхары, у 1908 г. — 586. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, гміна Жосна Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 120 двароў, 707 жыхароў, дзейнічалі гарбарня, кузня, ветраны млын. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Старагабскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 138 двароў, 739 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і знішчылі 10 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1948 г. створаны калгас імя С.М.Кірава, з 1954 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса з той жа назвай (цэнтр — в. Старыя Габы), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Сінявокі край», з 2004 г. УП «Джэнці кантракт лізінг», з 2008 г. — камунальнае с.-г. УП «ГабыАгра». У 1950 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. 423 жыхары. У 1970 г. 408 жыхароў. У 1997 г. 83 гаспадаркі, 168 жыхароў.

**НОСАВІЧЫ** — вёска ў Сырмежскім с/с. За 38 км на ПдЗ ад Мядзела, 57 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна—Полацк, 204 км ад Мінска, на шашы Ольшава—Занарач. Рэльеф раўнінны. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. вёска, 17 двароў, 129 жыхароў, у Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 134 жыхары. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сырмежскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 жыхары загінула на франтах. З 1949 г. ў калгасе імя К.К.Ракасоўскага. У 1960 г. 113 жыхароў. У 1961 г. электрыфікавана і радыёфікавана. З 1973 г. ў складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Старлыгі), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Міжазёрны край» (цяпер ААТ «Міжазёрны край»). У 1970 г. хутары, 69 жыхароў. У 1997 г. 10 гаспадарак, 14 жыхароў.

**НЯВЕРАВІЧЫ** — вёска ў Сырмежскім с/с. За 46 км на ПдЗ ад Мядзела,

49 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна—Полацк, 205 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Нявepaвa, 10 двароў, 52 жыхары, уладанне Е.Тургіновіча. Паводле перапісу 1897 г. 28 двароў, 203 жыхары, у Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 222 жыхары. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сырмежскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінула на франтах. У 1949 г. створаны калгас імя Аляксандра Неўскага. З 1954 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Буйкі), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Вішнеўскае», у 2004—08 гг. с.-г. ўчастак «Вішнеўскае» вытворчага прыватнага УП «Цепласеці». У 1960 г. 111 жыхароў. У 1966 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. хутары, 93 жыхары. У 1997 г. 23 гаспадаркі, 50 жыхароў.

**НЯВЕРЫ** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 41 км на ПдУ ад Мядзела, 4 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 143 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд працякае р. Сэрвач (упадае ў Вілейскае вадасховішча). Побач з вёскай на Пн праходзіць чыгунка. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Нявepaвa, 14 двароў, 61 жыхар, шляхецкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Няверы-1 і Няверы-2 у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. ў в. Няверы-1 8 жыхароў, у в. Няверы-2 — 33. Побач было 5 дробных маёнткаў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 24 двары, 122 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Пузыроўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не, з 9.8.1979 г. ў Будслаўскім с/с, з 1984 г. да 30.10.2009 г. ў Крывіцкім пас. Савеце. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. У 1956 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1960 г. 102 жыхары. У 1970 г. 108 жыхароў. З 1974 г. ў складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Пруднікі), які ў 1998 г. быў рэарганізаваны ў СКП «Беларусь» (цяпер ААТ «Пруднікі-агра»). У 1997 г. 19 гаспадарак, 35 жыхароў.

**НЯВЕРЫ** — вёска ў Сваткаўскім с/с. За 15 км на ПдУ ад Мядзела, 18 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 118 км ад Мінска, на шашы Крывічы—Мядзел. Рэльеф раўнінны, на У працякае р. Вузлянка (прыток р. Нарач). 16 гаспадарак, 22 жыхары (2011).

За 0,5 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Сэрвач знаходзіцца курганны могільнік. Вядома з 19 ст. У 1844 г. вёска (8 двароў, 70 жыхароў) у складзе аднайменнага фальварка маёнтка Стары Мядзел, уладанне Дваржэцкіх. Паводле перапісу 1897 г. вёска (22 двары, 145 жыхароў), засценак (2 двары, 13 жыхароў) і маёнтак (19 жыхароў), у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. ў вёсцы 129 жыхароў, у засценку — 12, у фальварку — 9. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 33 двары, 151 жыхар. З вер. 1929 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лук'янавіцкім с/с Мядзельскага р-на Вілей-

скай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 21.5.1951 г. ў Сваткаўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 23 двары, 79 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. створаны калгас «Чырвоная зара». Пазней у складзе калгаса «Зара», з 1988 г. — калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Сваткі), з 1994 г. ў аграфірме «Зара», з 1997 г. ў с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка, якое ў 2001 г. было рэарганізавана ў СВК «Сваткі» (цяпер ААТ «Сваткі»). У 1960 г. 159 жыхароў. У 1966 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 177 жыхароў. У 1997 г. 35 гаспадарак, 54 жыхары.

**ПАДБЯРЭЗЗЕ** — вёска ў Княгінінскім с/с. За 35 км на ПдУ ад Мядзела, 12 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 158 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 8 двароў, 51 жыхар, у Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Падбярэззе-1 (6 двароў, 74 жыхары) і Падбярэззе-2 (15 двароў, 111 жыхароў, хлебазапасны магазін). З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. ў в. Падбярэззе-1 138 жыхароў, у в. Падбярэззе-2 — 112. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с Куранецкага (з 5.7.1946 г. Вілейскага) р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.8.1954 г. ў Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрвеня 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1949 г. створаны калгас «Маладая гвардыя». У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Крывічы» (цэнтр — в. Княгінін), з 2000 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (цяпер камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1960 г. 116 жыхароў. У 1970 г. 109 жыхароў. У 1997 г. 20 гаспадарак, 31 жыхар.

**ПАЛАВІКІ** — вёска ў Княгінінскім с/с. За 34 км на ПдУ ад Мядзела, 5 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 154 км ад Мінска, на шашы Крывічы—Мядзел. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 23 гаспадаркі, 34 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 12 двароў, 65 жыхароў, уладанне В.Козела. У 1846 г. 13 двароў, 100 жыхароў, у складзе маёнтка Княгінін, уладанне К.Козела. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 170 жыхароў, у Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 206 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 43 двары, 217 жыхароў. У 1939 г. хутары, 53 двары, 236 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Восаўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Княгінінскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас імя А.А.Жданава. У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. У 1960 г. 213 жыхароў. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 1991 г. — калгаса «Восаўскі» (цэнтр — в. Восава), з 1997 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (цяпер камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1970 г. 179 жыхароў. У 1997 г. 46 гаспадарак, 77 жыхароў.

**ПАЛЕССЕ** — вёска ў Будслаўскім с/с. За 66 км на ПдУ ад Мядзела, 3 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 131 км ад Мінска, на шашы Крывічы—Будслаў. Рэльеф раўнін-

ны, на ўсх. ускраіне працякае р. Сэрвач (упадае ў Вілейскае вадасховішча). 88 гаспадарак, 198 жыхароў (2011).

На паўн.-ўсх. ускраіне і за 0,2 км ад усх. ускраіны вёскі знаходзяцца два курганныя могільнікі. Вядома з 16 ст. У 1567 г. сяло, у Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 27 двароў, 145 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1847 г. вёска ў складзе маёнтка Будслаў, уладанне І.Аскеркі, 20 двароў, 188 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 40 двароў, 243 жыхары, хлебазапасны магазін, у Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 302 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Будслаўскай гміне Дунілавіцкага, з 1925 г. Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1939 г. вёска, 79 двароў, 374 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Будслаўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У 1940 г. 30 двароў, 110 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 25 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. створаны калгас імя Я.Коласа. З 1952 г. ў складзе калгаса імя Ф.Энгельса, з 1965 г. — саўгаса, з 1991 г. — калгаса «Будслаўскі» (цэнтр — в. Будслаў), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Будслаўскі» (цяпер ААТ «Будслаўскае»). У 1960 г. 416 жыхароў. У 1970 г. 484 жыхары. У 1997 г. 118 гаспадарак, 249 жыхароў.

**ПАЛУЯНЫ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 9 км на Пн ад Мядзела, 30 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 168 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2011).

У 1846 г. вёска (4 двары, 24 жыхары) у складзе маёнтка Смыч, уладанне графа К.І.Тызенгаўза. У 1907 г. 10 двароў, 65 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 12 двароў, 55 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мікасецкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 21.5.1951 г. ў Баярскім, з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 24 двары, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1942 г. гітлераўцы спалілі вёску, знішчылі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. арганізаваны калгас «Новы свет», з 1960 г. ў складзе калгаса «Ленінскі шлях» (да 1961 г. «Сталінскі шлях»; цэнтр — в. Баяры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Баярскі маяк», з 2005 г. ў межах с.-г. філіяла ААТ «Мядзельаграсервіс». У 1970 г. 64 жыхары. У 1997 г. 13 гаспадарак, 22 жыхары.

**ПАМАРАЎШЧЫНА** — вёска ў Сваткаўскім с/с. За 15 км на ПдУ ад Мядзела, 13 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 113 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 6 двароў, 54 жыхары, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 133 жыхары. З 1901 г. дзейнічала школа граматы. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1921 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 22 двары, 139 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сваткаўскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 32 двары, 131 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г.

акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінула на франтах. У 1948 г. створаны калгас імя Ф.Э.Дзяржынскага. З 1959 г. ў складзе калгаса «Зара», з 1988 г. ў калгасе імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Сваткі), з 1994 г. ў аграфірме «Зара», з 1997 г. ў с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка, якое ў 2001 г. было рэарганізавана ў СВК «Сваткі» (цяпер ААТ «Сваткі»). У 1960 г. 109 жыхароў. У 1970 г. 66 жыхароў. У 1997 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў.

**ПАМОШША** (да 12.11.1966 г. вёскі Памошша-1 і Памошша-2) — вёска ў Сырмежскім с/с. За 41 км на ПдЗ ад Мядзела, 39 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна—Полацк, 207 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з воз. Нарач. 33 гаспадаркі, 101 жыхар (2011).

Вядома з 19 ст. У 1864 г. вёска, 153 жыхары. У 1867 г. ўзведзена капліца. У 1868 г. в. Памошша-1 (14 двароў, 155 жыхароў) і в. Памошша-2 (24 двары, 189 жыхароў) у Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 62 двары, 407 жыхароў, у 1908 г. 467 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сырмежскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. вёскі Памошша-1 (35 двароў, 179 жыхароў) і Памошша-2 (44 двары, 186 жыхароў). У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінула на франтах. У 1949 г. створаны калгас імя Ф.І.Талбухіна. У 1960 г. ў в. Памошша-1 76 жыхароў, у в. Памошша-2 — 111. У 1961 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. хутары, 178 жыхароў. З 1973 г. ў складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Старлыгі), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Міжазёрны край» (цяпер ААТ «Міжазёрны край»). У 1997 г. 42 гаспадаркі, 109 жыхароў. Працуе (2011) магазін.

**ПАПОЎКА** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 23 км на ПдУ ад Мядзела, 8 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 152 км ад Мінска, на шашы Крывічы—Мядзел. Рэльеф раўнінны. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2011).

Вядома з пач. 20 ст. У 1904 г. вёска, 83 жыхары, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 15 двароў, 82 жыхары. У 1939 г. вёска, 22 двары, 95 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Пузыроўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не, з 30.10.2009 г. ў Крывіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. створаны калгас імя В.І.Чапаева. У 1955 г. радыёфікавана, у 1967 г. электрыфікавана. У 1960 г. 83 жыхары. У 1970 г. 86 жыхароў. З 1975 г. ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пузыры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Вузлянка», з 2004 г. асобнае структурнае падраздзяленне «Вузлянка» гандлёвага УП «Мінскі Камароўскі рынак». У 1997 г. 18 гаспадарак, 32 жыхары.

**ПАРУБКІ** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 43 км на ПдУ ад Мядзела, 0,5 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 142 км ад Мінска, на шашы Крывічы—Мядзел. Рэльеф раўнінны, на паўд.-ўсх. ускраіне працякае р. Сэрвач (упадае ў Вілейскае вадасховішча). 92 гаспадаркі, 206 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Парабкі, 3 двары, 28 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе аднайменна-

га маёнтка, уладанне І.Пржасмыцкага. Паводле перапісу 1897 г. вёска (2 двары, 24 жыхары) і фальварак (2 двары, 20 жыхароў) у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 4 двары, 25 жыхароў. У 1939 г. фальварак (5 двароў, 13 жыхароў), калонія (4 гаспадаркі, 18 жыхароў) і чыг. старожка (12 жыхароў). З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Крывіцкім с/с Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей з 28.6.1958 г. да 30.10.2009 г. ў Крывіцкім пас. Савеце, з 20.1.1966 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У пач. 1941 г. ў вёсцы размяшчалася Крывіцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.07.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1956 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 205 жыхароў. У 1997 г. 111 гаспадарак, 306 жыхароў. Працуюць (2011) вытворчая база ААТ «Мядзельаграсервіс», магазін.

**ПАСАШКІ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 16 км на ПнЗ ад Мядзела, 39 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 188 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн — воз. Мядзел. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. вёска, 9 двароў, 59 жыхароў, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 61 жыхар, у 1908 г. — 79. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 г. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас «17 Верасня». У 1960 г. 65 жыхароў. У 1970 г. 42 жыхары. З 1979 г. ў складзе калгаса «Нарач» (цэнтр — в. Чараўкі), у 1998–2006 гг. у доследным рыбгасе «Нарач» (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1997 г. 9 гаспадарак, 12 жыхароў.

**ПАСЫНКІ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 9 км на З ад Мядзела, 40 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 189 км ад Мінска, на шашы Нарач–Мядзел. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы, на Пд — воз. Нарач. 37 гаспадарак, 60 жыхароў (2011).

За 0,7 км на Пд ад вёскі, на зах. краі вострава воз. Нарач, знаходзіцца замчышча; за 0,7 км на Пд ад вёскі, на ўсх. краі вострава воз. Нарач — селішча. Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 94 жыхары, уладанне І.Галкі. У 1868 г. 12 двароў, 100 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска (22 двары, 177 жыхароў, хлебазапасны магазін) і аднайменны пасёлак (1 двор, 10 жыхароў), у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1898 г. адкрыта школа граматы. У 1904 г. вёска і пасёлак, 191 жыхар, у 1908 г. — 230. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 25 двароў. Вяскоўцы ў 1935 г. актыўна ўдзельнічалі ў паўстанні нарачанскіх рыбакоў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У 1940 г. 49 двароў, 293 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 24 двары, знішчылі 9 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоны рыбак». У 1960 г. 234 жыхары. У 1970 г. 180 жыхароў. З 1979 г. ў складзе калгаса «Нарач» (цэнтр — в. Чараўкі), у 1998–2006 гг. у

доследным рыбгасе «Нарач» (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1997 г. 41 гаспадарка, 74 жыхары.

**ПАШКОЎШЧЫНА** – вёска ў Княгінінскім с/с. За 30 км на ПдУ ад Мядзела, 1 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 153 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З і Пн працякае р. Наква (прыток р. Сэрвач). 68 гаспадарак, 131 жыхар (2011).

Вядома з 17 ст. У 1680 г. фальварак, у Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1770 г. засценак Пашкава, 3 двары. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У канцы 18 ст. ва ўладанні В.Казея. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба Пашкаўшчызна, 2 двары, 27 жыхароў, у Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1939 г. былы маёнтак налічваў 26 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Крывічы» (цэнтр – в. Княгінін), з 2000 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (зараз камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1960 г. ў в. Пашкоўшчына 116 жыхароў. 12.11.1966 г. да в. Пашкоўшчына былі далучаны вёскі Кусі і Субачы. У 1970 г. 446 жыхароў. У 1997 г. 127 гаспадарак, 273 жыхары.

**ПЕТРАЧКІ** – вёска ў Будслаўскім с/с. За 78 км на У ад Мядзела, 9 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна–Полацк, 138 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 25 гаспадарак, 42 жыхары (2011).

У 1868 г. вёска, 9 двароў, 80 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска (13 двароў, 98 жыхароў) і пасёлак (3 двары, 15 жыхароў) у Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. ў в. Петрачкі-1 89 жыхароў, у в. Петрачкі-2 – 26. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Будслаўскай гміне Дунілавіцкага, з 1925 г. Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 27 двароў, 132 жыхары. У 1939 г. вёска, 34 двары, 169 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Вераб'ёўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 27.3.1959 г. ў Будслаўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. Мядзельскага р-на. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас «Чырвоны пагранічнік». З 1959 г. ў складзе калгаса імя Ф.Энгельса, з 1965 г. – у саўгасе, з 1991 г. – калгасе «Будслаўскі» (цэнтр – в. Будслаў), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Будслаўскі» (цяпер ААТ «Будслаўскае»). У 1960 г. 146 жыхароў. У 1970 г. 165 жыхароў. У 1997 г. 43 гаспадаркі, 82 жыхары.

**ПЕХУРЫ** – вёска ў Мядзельскім с/с. За 10 км на ПнУ ад Мядзела, 31 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 170 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2011).

Вядома з 16 ст. У 1545 г. в. Пехураўшчызна, ва ўладанні казны. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1846 г. засценак фальварка Посапава ў складзе маёнтка Смыч, уладанне графа К.І.Тызенгаўза, 2 двары, 13 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 42 жыхары, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёскі Пехуры-1 (29 жыхароў) і Пехуры-2 (15 жыхароў). З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з

1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 10 двароў, 65 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лацвянскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 13.2.1952 г. ў Баярскім, з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. арганізаваны калгас імя Я.Купалы. У 1957 г. электрыфікавана і радыёфікавана. З 1960 г. ў складзе калгаса «Ленінскі шлях» (да 1961 г. «Сталінскі шлях»; цэнтр — в. Баяры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Баярскі маяк», з 2005 г. ў межах с.-г. філіяла ААТ «Мядзельаграсервіс». У 1970 г. 69 жыхароў. У 1997 г. 13 гаспадарак, 24 жыхары.



*М.Танк.*

**ПІЛІПКІ** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 40 км на ПдУ ад Мядзела, 4 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 143 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і У працякае р. Наква (прыток р. Сэрвач). 22 гаспадаркі, 43 жыхары (2011).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1770 г. вёска ў складзе фальварка Кавалі. З 1793 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 51 двор, 344 жыхары, хлебазапасны магазін, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 352 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 51 двор, 295 жыхароў. У 1939 г. хутары, 68 двароў, 356 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Крывіцкім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 28.6.1958 г. да 30.10.2009 г. ў Крывіцкім пас. Савеце, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас імя «70-годдзя І.В.Сталіна». У 1956 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 197 жыхароў. З 1979 г. ў складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Пруднікі), які ў 1998 г. быў рэарганізаваны ў СКП «Беларусь» (цяпер ААТ «Пруднікі-агра»). У 1997 г. 53 гаспадаркі, 104 жыхары.

**ПІЛЬКАЎШЧЫНА** — вёска ў Сваткаўскім с/с. За 12 км на ПдУ ад Мядзела, 15 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 115 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Красноўка (прыток р. Вузлянка). 32 гаспадаркі, 67 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1868 г. вёска, 6 двароў, 49 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 113 жыхароў. У 1908 г. 19 двароў, 119 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 22 двары, 104 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сваткаўскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 26 двароў, 134 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. створаны калгас «Новы шлях». У 1950—59 гг. цэнтр узбуйненага калгаса «Зара» (да 1957 г. калгас імя В.М.Молатава), з 1988 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Сваткі), з 1994 г. ў аграфірме «Зара», з 1997 г. ў с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка, якое ў 2001 г. было рэарганізавана ў СВК «Сваткі» (цяпер ААТ «Сваткі»). У 1960 г. 132 жыхары. У 1966 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 95 жыхароў. У 1997 г. 40 гаспадарак, 92 жыхары. Радзіма нар. паэта Беларусі, акадэміка НАН Беларусі, Героя Сацыяліст. Працы Максіма Танка (Я.І.Скурко, 17.9.1912—7.8.1995).

**ПЛАШЫНА** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 43 км на ПдУ ад Мядзела, 5 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 143 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 18 гаспадарак, 35 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Плешчына, 2 двары, 14 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. вёска (5 двароў, 45 жыхароў) і сядзіба (2 двары, 7 жыхароў), у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёска (59 жыхароў) і 2 фальваркі (17 і 7 жыхароў). У 1908 г. 64 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—1939 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. вёска (66 жыхароў) і фальварак (39 жыхароў). З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Крывіцкім с/с Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 28.6.1958 г. да 30.10.2009 г. ў Крывіцкім пас. Савеце, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас імя А.С.Пушкіна. У 1956 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 130 жыхароў. З 1979 г. ў складзе калгаса імя А.А.Жданава, з 1990 г. — калгас «Беларусь» (цэнтр — в. Пруднікі), які ў 1998 г. быў рэарганізаваны ў СКП «Беларусь» (цяпер ААТ «Пруднікі-агра»). У 1997 г. 30 гаспадарак, 71 жыхар.

**ПЛЕЦЯШЫ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 30 км на ПнЗ ад Мядзела, 61 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 184 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. У 1768 г. в. Плецішча, 7 двароў, 25 жыхароў мужчынскага полу, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1844 г. вёска ў складзе маёнтка Кузьмічы, ва ўладанні У.Цывінскага, 5 двароў, 47 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 81 жыхар, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 94 жыхары. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У 1940 г. 14 двароў, 92 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і знішчылі 3 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. створаны калгас «Пуцяводная зорка». У 1960 г. 48 жыхароў. У 1970 г. 44 жыхары. З 1979 г. ў складзе калгаса «Нарач» (цэнтр — в. Чараўкі), у 1998—2006 гг. у доследным рыбгасе «Нарач» (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1997 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў.

**ПОСАПАВА** — вёска ў Слабодскім с/с. За 18 км на ПнУ ад Мядзела, 50 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 178 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1846 г. фальварак у складзе маёнтка Смыч Вілейскага павета, уладанне графа К.І.Тызенгаўза. Паводле перапісу 1897 г. 49 жыхароў. У 1904 г. фальварак, 20 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 5 двароў, 75 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Нагаўскім с/с Пастаўскага з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Дзягільскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 1.1.2007 г. ў Слабодскім с/с. У Вял. Айч.

вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас «Бальшавік». З 1951 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Дзягілі), які ў 1992 г. быў рэарганізаваны ў дапаможную гаспадарку «Дзягілі» Мінскага маторнага з-да (з 2009 г. ААТ «Мінскі маторны завод» с.-г. філіял «Дзягілі»). У 1960 г. 74 жыхары. У 1963 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 48 жыхароў. У 1997 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў. Кароткая плаўна выгнутая вуліца арыентавана шыротна і забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРОНЬКІ** — вёска ў Занарацкім с/с. За 30 км на ПдЗ ад Мядзела, 35 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 175 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з воз. Нарач. 46 гаспадарак, 76 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1740 г. вёска, 17 двароў, 38 жыхароў мужчынскага полу, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1868 г. вёскі Пронькі-1 (9 двароў, 114 жыхароў) і Пронькі-2 (8 двароў, 93 жыхары) у Свянцянскім павеце Віленскай губ. Працавала царкоўнапрыходская школа, у якой у 1896 г. вучылася 14 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 47 двароў, 312 жыхароў, у Занарацкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. ў в. Пронькі-1 176 жыхароў, у в. Пронькі-2 — 131. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. 18—28.3.1916 г. ў раёне вёскі праходзілі баі Нарачанскай аперацыі рус. армій Паўн. і Зах. франтоў супраць германскіх войск. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. У 1927 г. тут была створана ячэйка КПЗБ. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Занарацкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.8.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 61 двор, 252 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску, знішчылі 9 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. створаны калгас «За Радзіму». У 1955 г. радыёфікавана, у 1966 г. электрыфікавана. У 1960 г. 233 жыхары. У 1970 г. 271 жыхар. З 1973 г. ў складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Занарач), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Занарачанскі» (цяпер ААТ «Занарачанскі»). У 1997 г. 61 гаспадарка, 124 жыхары. Працуе (2011) магазін.




*Помнік нямецкім салдатам Першай сусветнай вайны каля в. Пронькі.*

**ПРУДНІКІ** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 42 км на ПдУ ад Мядзела, 6 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 142 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на паўн. ускраіне працякае р. Наква (прыток р. Сэрвач). 49 гаспадарак, 133 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. У 1770 г. вёска ў складзе фальварка Кавалі. У 1789 г. 5 двароў, 48 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 37 жыхароў, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 60 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 11 двароў, 75 жыхароў. У 1939 г. вёска (18 двароў, 70 жыхароў, паравы млын)

і пасёлак (2 двары, 11 жыхароў). З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Крывіцкім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 28.6.1958 г. да 30.10.2009 г. ў Крывіцкім пас. Савеце, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1947 г. радыёфікавана, у 1956 г. электрыфікавана. З 1961 г. цэнтр узбуйненага калгаса імя А.А.Жданава, з 1979 г. — рэарганізаванага калгаса з той жа назвай, з 1990 г. — калгас «Беларусь», які ў 1998 г. быў рэарганізаваны ў СКП «Беларусь» (цяпер ААТ «Пруднікі-агра»). У 1970 г. 104 жыхары. У 1997 г. 53 гаспадаркі, 147 жыхароў. Працуе (2011) магазін. У цэнтры вёскі помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну (пастаўлены ў 1965 г.).

**ПРУДНІКІ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 6 км на ПнУ ад Мядзела, 27 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 166 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Зелянуха (упадае ў воз. Мядзел). 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2011).

Вядома з 16 ст. У 1545 г. 1 дым, уласнасць казны. У 1778 г. ва ўладанні шляхціца Л.Пазняка. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1846 г. маёнтак, 2 жыхары, уладанне Ф.Зданоўскага, у Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1868 г. вёска, 7 двароў, 58 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска і засценак Пруднікі (ён жа Верачата), у Мядзельскай вол. Вілейскага павета. У 1904 г. ў вёсцы 114 жыхароў, засценку — 8. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 25 двароў, 133 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Баярскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. створаны калгас «Сталінскі шлях». З 1960 г. ў складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Баяры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Баярскі маяк», з 2005 г. ў межах с.-г. філіяла ААТ «Мядзельаграсервіс». У 1970 г. 52 жыхары. У 1997 г. 13 гаспадарак, 24 жыхары.

**ПУГАЧЫ** — вёска ў Слабодскім с/с. За 18 км на ПнУ ад Мядзела, 49 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 174 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Ваўкалата. Рэльеф раўнінны. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 11 двароў, 66 жыхароў, уладанне А.Хрушчова. У 1846 г. вёска ў складзе аднайменнага маёнтка (уключаў толькі в. Пугачы), уладанне Ф.Кандыбы (з 12.3.1828 г.). Паводле перапісу 1897 г. вёска (15 двароў, 67 жыхароў) і аколіца (10 двароў, 79 жыхароў), у Жаснянскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З 1898 г. працавала школа граматы. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жаснянскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 28 двароў, 169 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Дзягільскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2007 г. ў Слабодскім с/с. У 1940 г. 36 двароў, 144 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 30 двароў, знішчылі 12 жыхароў. У 1948 г. створаны калгас імя В.І.Чапаева. У 1960 г. 74 жыхары. З 1961 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Дзягілі), які ў 1992 г. быў рэарганізаваны ў дапаможную гаспадарку «Дзягілі» Мінскага маторнага з-да (з 2009 г. ААТ «Мінскі маторны завод» с.-г. філіял

«Дзягілі»). У 1963 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 58 жыхароў. У 1997 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў.

**ПУЗЫРЫ** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 45 км на ПдУ ад Мядзела, 7 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 150 км ад Мінска, на шашы Пузыры—Мядзел. Рэльеф раўнінны. 70 гаспадарак, 174 жыхары (2011).

Вядома з 17 ст. У 1606 г. сяло Пузыровічы, 8 двароў, 9 валок зямлі, уладанне Радзівілаў. У 1651 г. ў складзе маёнтка Крывічы, уладанне Я.Кішкі. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. 14 двароў, 90 жыхароў. У 1846 г. фальварак Вілейскага павета Віленскай губ. У 1891 г. адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Пузыры-1 (14 двароў, 124 жыхары) і Пузыры-2 (7 двароў, 55 жыхароў), 2 сядзібы (2 двары, 8 жыхароў), у Крывіцкай вол. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 50 двароў, 260 жыхароў. У 1939 г. вёска, 76 двароў, 277 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Пузыроўскага с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не, з 30.10.2009 г. ў Крывіцкім с/с. У 1940 г. створаны калгас «Бальшавік». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1965 г. на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. У 1945 г. адноўлены калгас, з 1952 г. цэнтр узбуйненага калгаса «Бальшавік», з 1975 г. — рэарганізаванага калгаса з той жа назвай, з 2003 г. — СВК «Вузлянка» (з 2004 г. асобнае структурнае падраздзяленне «Вузлянка» гандлёвага УП «Мінскі Камароўскі рынак»). У 1955 г. радыёфікавана, у 1967 г. электрыфікавана. У 1960 г. 277 жыхароў. У 1970 г. 255 жыхароў. У 1997 г. 94 гаспадаркі, 218 жыхароў. Працуюць (2011) вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, магазін.

**ПЯРЭГРАДЗЬ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 10 км на Пн ад Мядзела, 28 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 169 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Паставы. Рэльеф раўнінны. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2011).

На астравах воз. Мядзел Замак, Гарадок і Уклейна размешчаны 2 гарадзішчы і 2 селішчы. Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 15 двароў, 126 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 38 двароў, 257 жыхароў. У 1904 г. вёска (273 жыхары) і фальварак (2 жыхары). У 1908 г. 314 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. вёска і засценак, 28 двароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Баярскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 13.2.1953 г. ў Лацвянскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 1.1.2007 г. ў Мядзельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас «Праўда». З 1954 г. ў складзе калгаса «40 год Кастрычніка» (да 1957 г. калгас імя М.А.Булганіна; цэнтр — в. Лотва), які ў 1999 г. быў далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга». У 1960 г. 125 жыхароў. У 1961 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 117 жыхароў. У 1997 г. 18 гаспадарак, 17 жыхароў.

**ПЯСЕЧНАЕ** — вёска ў Княгінінскім с/с. За 31 км на ПдУ ад Мядзела, 4 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 154 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Песачызна, 6 двароў, 29 жыхароў, уладанне А.Сапегі. У 1868 г.

4 двары, 33 жыхары, у Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 94 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 14 двароў, 88 жыхароў. У 1939 г. вёска, 24 двары, 99 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. створаны калгас «30 год БССР». У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Крывічы» (цэнтр — в. Княгінін), з 1995 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (цяпер камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1960 г. 112 жыхароў. У 1970 г. 68 жыхароў. У 1997 г. 19 гаспадарак, 30 жыхароў.

**ПЯТРОВА** — вёска ў Старагабскім с/с. За 20 км на У ад Мядзела, 31 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна–Полацк, 188 км ад Мінска, на шашы Старыя Габы–Мядзел. Рэльеф раўнінны, на У і З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з воз. Дзягілі. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. засценак, 2 двары, 22 жыхары, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 40 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 7 двароў, 49 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Слабодскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 21.5.1951 г. ў Старагабскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 9 двароў, 41 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. ў калгасе імя К.Я.Варашылава. З 1954 г. ў складзе калгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Зані). У 1960 г. 32 жыхары. У 1970 г. 17 жыхароў. У 1997 г. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў.

**ПЯТРЭЛЕЎЦЫ** — вёска ў Слабодскім с/с. За 26 км на ПнУ ад Мядзела, 18 км ад чыг. ст. Варапаева на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 176 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2011).

Вядома з пач. 20 ст. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у 1921 г. вёскі Пятрэлева-1 (113 жыхароў) і Пятрэлева-2 (96 жыхароў) у Ваўкалацкай гміне Дунілавіцкага павета Віленскага ваяв. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Слабодскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 46 двароў, 193 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінула 6 жыхароў. З 1949 г. в. Пятрэлеўцы-2 у калгасе імя А.В.Суворава, в. Пятрэлеўцы-1 з 1950 г. — «Новае жыццё». З 1954 г. вёскі ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр — в. Слабада), з 2003 г. — СВК «Слабодская зара» (цяпер ААТ «Слабодская зара»). У 1956 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. ў в. Пятрэлеўцы-1 93 жыхары, у в. Пятрэлеўцы-2 — 69. 12.11.1966 г. вёскі Пятрэлеўцы-1 і Пятрэлеўцы-2 аб'ядналіся ў адзін населены пункт Пятрэлеўцы. У 1970 г. 109 жыхароў. У 1997 г. 17 гаспадарак, 31 жыхар.

**ПЯЧОНКІ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 19 км на ПнЗ ад Мядзела, 50 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 192 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1768 г. вёска, 4 двары, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г.

ў Рас. імперыі. У 1799 г. 8 двароў, 63 жыхары. У 1844 г. вёска ў складзе маёнтка Кузьмічы, у Свянцянскім павеце Віленскай губ., уладанне І.Цывінскага. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Пячонкі-1 (5 двароў, 33 жыхары) і Пячонкі-2 (6 двароў, 37 жыхароў) у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1901 г. адкрыта школа граматы. У 1908 г. ў в. Пячонкі-1 35 жыхароў, у в. Пячонкі-2 39 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 61 жыхар. У 1970 г. 57 жыхароў. З 1979 г. ў складзе калгаса «Нарач» (цэнтр — в. Чараўкі), у 1998—2006 гг. у доследным рыбгасе «Нарач» (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1997 г. 10 гаспадарак, 19 жыхароў.

**РАВЯЧКА** — вёска ў Будслаўскім с/с. За 68 км на ПдУ ад Мядзела, 2 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 133 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд працякае р. Сэрвач (упадае ў Вілейскае вадасховішча). 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2011).

За 0,5 км на ПдУ ад вёскі, на ўзвышшы сярод поймы р. Сэрвач, знаходзіцца гарадзішча 1—4 ст., за 0,4 км на Пд ад зах. ускраіны вёскі — селішча 6—7 ст., за 1 км на ПдЗ ад вёскі — селішча 5—6 ст. Вядома з 19 ст. У 1846 г. вёска, 10 двароў, 99 жыхароў, у складзе маёнтка Будслаў, уладанне Аскеркаў. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 160 жыхароў, у Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 166 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Будслаўскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 28 двароў, 134 жыхары. У 1939 г. 29 двароў, 140 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Будслаўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас «17 Верасня». З 1952 г. ў складзе калгаса імя Ф.Энгельса, з 1965 г. ў саўгасе, з 1991 г. — калгасе «Будслаўскі» (цэнтр — в. Будслаў), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Будслаўскі» (цяпер ААТ «Будслаўскае»). У 1960 г. 111 жыхароў. У 1970 г. 66 жыхароў. У 1997 г. 21 гаспадарка, 46 жыхароў.

**РАДЗЬКІ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 15 км на Пн ад Мядзела, 26 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 168 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 5 двароў, 64 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 94 жыхары, у Манькавіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 104 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Манькавіцкай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 9 двароў, 39 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лацвянскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-наў Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2007 г. ў Мядзельскім с/с. У 1940 г. 11 двароў, 40 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 1954 г. ў складзе калгаса «40 год Кастрычніка» (да 1957 г. калгас імя М.А.Булганіна; цэнтр — в.

Лотва), які ў 1999 г. быў далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга». У 1960 г. 27 жыхароў. У 1970 г. 42 жыхары. У 1997 г. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў.

**РАДКІ** – вёска ў Нарацкім с/с, За 30 км на ПнЗ ад Мядзела, 34 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 184 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн – воз. Кузьмічы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1844 г. засценак, у складзе маёнтка Кузьмічы, 1 двор, 9 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. в. Рыдкі, 3 двары, 27 жыхароў, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 28 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 36 жыхароў. У 1970 г. 20 жыхароў. З 1979 г. ў складзе саўгаса «Нарач» (цэнтр – в. Нарач), з 1991 г. ў калгасе «Прыазёрны», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Нарачанская ніва», з 2004 г. – ТАА «Нарачанская ніва – 2004». У 1997 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў.

**РАЖКІ** – вёска ў Мядзельскім с/с. За 16 км на Пн ад Мядзела, 22 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 170 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 2 гаспадаркі, 7 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Рошкі, 16 двароў, 113 жыхароў, уладанне Е.Турчыновіча. У 1844 г. ў складзе фальварка Мураўшчызна маёнтка Стары Мядзел, уладанне Дваржэцкіх. Паводле перапісу 1897 г. вёска (31 двор, 218 жыхароў), 2 фальваркі, засценак і старожка, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёскі Ражкі-1 (85 жыхароў), Ражкі-2 (149 жыхароў), 2 фальваркі (18 жыхароў). З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі, З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. вёска і засценак, 31 двор, 161 жыхар. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лацвянскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-наў Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2007 г. ў Мядзельскім с/с. У 1940 г. 44 двары, 136 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1946 г. пабудавана пачатковая школа, у 1949 г. арганізаваны калгас «Верны шлях». З 1954 г. ў складзе калгаса «40 год Кастрычніка» (да 1957 г. калгас імя М.А.Булганіна; цэнтр – в. Лотва), які ў 1999 г. быў далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга». У 1960 г. 78 жыхароў. У 1970 г. 58 жыхароў. У 1997 г. 8 гаспадарак, 15 жыхароў.

**РАКУЦІ** – вёска ў Крывіцкім с/с. За 45 км на ПдУ ад Мядзела, 2 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна–Полацк, 145 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 11 гаспадарак, 20 жыхароў (2011).

Вядома з 17 ст. У 1646 г. фальварак Ракуцеўшчызна (2 сядзібы) у складзе маёнтка Крывічы, уладанне Я.Кішкі. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. в. Ракуцеўшчызна, 6 двароў, 37 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 10 двароў, 51 жыхар. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Пузыроўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім

р-не, з 9.8.1979 г. да 30.10.2009 г. ў Крывіцкім пас. Савеце. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас імя М.І.Кутузава. У 1956 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 82 жыхары. З 1979 г. ў складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Пруднікі), які ў 1998 г. быў рэарганізаваны ў СКП «Беларусь» (цяпер ААТ «Прудніки-агра»). У 1997 г. 19 гаспадарак, 34 жыхары.

**РАМАНАЎШЧЫНА** — вёска ў Старагабскім с/с. За 11 км на У ад Мядзела, 44 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 197 км ад Мінска, шашы Старыя Габы—Мядзел. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з воз. Дзягілі. 77 гаспадарак, 200 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1770 г. вёска (2 сям'і). З 1793 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. засценкі Раманаўшчына-1 (4 двары, 35 жыхароў) і Раманаўшчына-2 (2 двары, 20 жыхароў), у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. ў засценку Раманаўшчына-1 3 двары, 25 жыхароў, у засценку Раманаўшчына-2 5 двароў, 28 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мікасецкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 1954 г. ў Старагабскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. створаны калгас «1 Мая». З 1954 г. ў складзе калгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Зані), з 2006 г. — СВК «Зані» (цяпер ААТ «Зані»). У 1960 г. ў в. Раманаўшчына-1 — 28 жыхароў, в. Раманаўшчына-2 — 6. 12.11.1966 г. вёскі аб'ядналіся ў адзін населены пункт — в. Раманаўшчына. У 1970 г. 55 жыхароў. У 1997 г. 55 гаспадарак, 171 жыхар.

**РАМАШКІ** (да 21.1.1969 г. Гарбы) — вёска ў Слабодскім с/с. За 15 км на ПнУ ад Мядзела, 47 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 171 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 20 гаспадарак, 25 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ва ўладанні А.Хрушчова. У 1868 г. вёска, 8 двароў, 70 жыхароў, у Габскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёска (90 жыхароў) і аколіца (27 жыхароў), у Жаснянскай вол. Вілейскага павета. З 1901 г. працавала школа граматы. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жаснянскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 22 двары, 158 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Дзягільскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2007 г. ў Слабодскім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас імя А.В.Суворава, з 1961 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса з той жа назвай, які ў 1992 г. быў рэарганізаваны ў дапаможную гаспадарку «Дзягілі» Мінскага маторнага з-да (з 2009 г. ААТ «Мінскі маторны завод» с.-г. філіял «Дзягілі»). У 1960 г. 116 жыхароў. У 1963 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. хутары, 130 жыхароў. У 1997 г. 32 гаспадаркі, 53 жыхары.

**РАПЯХІ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 33 км на ПнЗ ад Мядзела, 38 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 187 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 16 гаспадарак, 24 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. вёска, 10 двароў. 86 жыхароў, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1907 г. 14 двароў, 78 жыхароў.

З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1949 г. ў калгасе імя Г.Дзімітрава. У 1960 г. 64 жыхары. З 1979 г. ў складзе калгаса «Нарач» (цэнтр — в. Чараўкі), у 1998—2006 гг. у доследным рыбгасе «Нарач» (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1970 г. 70 жыхароў. У 1997 г. 18 гаспадарак, 43 жыхары.

**РАСОХІ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 13 км на Пн ад Мядзела, 27 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 168 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З — воз. Расохі, на Пн — воз. Лотвіны. 15 гаспадарак, 21 жыхар (2011).

За 2,5—3 км на ПдЗ ад вёскі, каля перашыйку, што вядзе на паўвостраў Дубовы, на краі 1-й надпоймавай тэрасы воз. Мядзел размешчана паселішча бронзавага і жал. вякоў. Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 6 двароў, 32 жыхары, уладанне каталіцкай царквы. У 1868 г. 7 двароў, 65 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 110 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 104 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 11 двароў, 63 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лацвянскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-наў Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2007 г. ў Мядзельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Герой працы». З 1954 г. ў складзе калгаса «40 год Кастрычніка» (да 1957 г. калгас імя М.А.Булганіна; цэнтр — в. Лотва), які ў 1999 г. быў далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга». У 1960 г. 66 жыхароў. У 1961 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 84 жыхары. У 1997 г. 15 гаспадарак, 28 жыхароў.

**РУБАНІКІ** — вёска ў Слабодскім с/с. За 24 км на Пн ад Мядзела, 56 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 180 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У — воз. Верацейскае. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1846 г. вёска, 5 двароў, 49 жыхароў, у складзе маёнтка Смыч, уладанне графа К.І.Тызенгаўза. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 88 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 101 жыхар. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 15 двароў, 106 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Нагаўскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-наў Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Дзягіль-

*Краявіды каля в. Расохі.*



скім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 1.1.2007 г. ў Слабодскім с/с. У 1940 г. 16 двароў, 64 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і знішчылі 2 жыхароў. У 1949 г. арганізаваны калгас імя А.С.Пушкіна. У 1960 г. 88 жыхароў. З 1961 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Дзягілі), які ў 1992 г. быў рэарганізаваны ў дапаможную гаспадарку «Дзягілі» Мінскага маторнага з-да (з 2009 г. ААТ «Мінскі маторны завод» с.-г. філіял «Дзягілі»). У 1963 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 70 жыхароў. У 1997 г. 12 гаспадарак, 20 жыхароў.

**РУДАШАНЫ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 27 км на ПнЗ ад Мядзела, 38 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 181 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Браслаў. Рэльеф раўнінны. 18 гаспадарак, 32 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1821 г. маёнтак (50 дзес. зямлі), ва ўладанні памешчыка М.Галаўні. У 1897 г. вёска і маёнтак, 15 двароў, 85 жыхароў, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. ў вёсцы 105 жыхароў, у маёнтку — 10. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Кабыльніцкім (з 9.8.1964 г. Нарацкі) с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Ф.Э.Дзяржынскага. У 1960 г. 73 жыхары. З 1965 г. ў складзе саўгаса «Нарач» (цэнтр — в. Нарач), з 1991 г. ў калгасе «Прыазёрны», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Нарачанская ніва», з 2004 г. — ТАА «Нарачанская ніва—2004». У 1970 г. 104 жыхары. У 1997 г. 22 гаспадаркі, 52 жыхары.

**РУДЗЕВІЧЫ** — вёска ў Сваткаўскім с/с. За 18 км на ПдУ ад Мядзела, 13 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 110 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на паўд. ускраіне працякае р. Вузлянка (прыток р. Нарач). 17 гаспадарак, 25 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 6 двароў, 28 жыхароў. У 1868 г. 7 двароў, 74 жыхары, у Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 29 двароў, 195 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 31 двор, 190 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сваткаўскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 37 двароў, 135 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5 вяскоўцаў загінула на франтах і ў партыз. барацьбе. У 1948 г. створаны калгас «Чырвоная зорка». З 1959 г. ў складзе калгаса «Зара», з 1988 г. ў калгасе імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Сваткі), з 1994 г. ў аграфірме «Зара», з 1997 г. ў с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка, якое ў 2001 г. было рэарганізавана ў СВК «Сваткі» (цяпер ААТ «Сваткі»). У 1960 г. 181 жыхар. У 1970 г. 136 жыхароў. У 1997 г. 33 гаспадаркі, 67 жыхароў.

**РУСАКІ** — вёска ў Сваткаўскім с/с. За 21 км на ПдУ ад Мядзела, 16 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 135 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2011).

Вядома з 17 ст. У 1606 г. сяло, 5 двароў, 6 валок зямлі (з іх 2 валокі не апрацоўваліся), млын, уладанне Радзівілаў, у Ашмянскім павеце. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 6 двароў, 52 жыхары, уладанне М.Данілевіча. У 1846 г. вёска маёнтка Вузла Вілейскага павета Віленскай губ., 6 двароў, 53 жыха-

ры. У 1868 г. вёска, 4 двары, 55 жыхароў. З 1880 г. працавала школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 96 жыхароў. У 1904 г. 103 жыхары, у 1908 г. — 109. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 19 двароў, 113 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сваткаўскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 1952 г. ў Брусаўскім (з 1.10.1973 г. Вузлянскім) с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 23.3.1987 г. ў Сваткаўскім с/с. У 1940 г. 22 двары, 118 жыхароў, быў арганізаваны калгас імя С.М.Кірава. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы знішчылі 2 жыхароў. У 1949 г. адноўлены калгас. З 1954 г. ў складзе калгаса імя І.В.Сталіна (з 1961 г. калгас імя У.І.Леніна; цэнтр — в. Вузла), з 1988 г. ў калгасе імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Сваткі), з 1994 г. ў аграфірме «Зара», з 1997 г. ў с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка, якое ў 2001 г. было рэарганізавана ў СВК «Сваткі» (цяпер ААТ «Сваткі»). У 1960 г. 101 жыхар. У 1970 г. 64 жыхары. У 1997 г. 15 гаспадарак, 28 жыхароў.

**РУСАЧКІ** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 41 км на ПдУ ад Мядзела, 5 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 143 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на зах. ускраіне працякае р. Наква (прыток р. Сэрвач). 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2011).

Вядома з 17 ст. У 1651 г. сяло, 5 дымоў, у складзе маёнтка Крывічы, уладанне Я.Кішкі, у Ашмянскім павеце. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 29 жыхароў, уладанне І.Ходзькі. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 101 жыхар, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 15 двароў, 98 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 12 двароў, 78 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Крывіцкім с/с (з 28.6.1958 г. да 30.10.2009 г. гар. пас. Савет) Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1956 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 64 жыхары. З 1979 г. ў складзе калгаса «Беларусь» (да 1990 г. калгас імя А.А.Жданава; цэнтр — в. Пруднікі), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СКП «Беларусь» (цяпер ААТ «Прудніі-агра»). У 1997 г. 10 гаспадарак, 22 жыхары.

**РЫБКІ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 34 км на ПнЗ ад Мядзела, 39 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 188 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У — воз. Мядзел. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2011).

За 0,3—0,5 км на Пд ад вёскі знаходзіцца паселішча канца 2-га — пач. 1-га тыс. да н.э. Вядома з 18 ст. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 4 двары, 17 жыхароў, уладанне К.Камінскага. У 1868 г. вёска, 2 двары, 15 жыхароў, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 21 жыхар. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. — у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 22 жыхары. У 1970 г. 20 жыхароў. З 1979 г. ў складзе калгаса «Нарач» (цэнтр — в. Чараўкі), у 1998—2006 гг. у доследным рыбгасе «Нарач» (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка

«Нарач»). У 1997 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў.

**РЫДУПЛЯ** — хутар у Нарацкім с/с. За 28 км на З ад Мядзела, 34 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 202 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2011).

Вядомы з 19 ст. У 1897 г. вёска, 7 двароў, 43 жыхары, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 61 жыхар. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіраваны германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Канстанцінаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце, з 31.1.2004 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1960 г. 49 жыхароў. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 1991 г. — калгаса «Канстанцінава» (цэнтр — в. Камарова). У 1970 г. 47 жыхароў. У 1997 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў.

**РЭПШЧА** — вёска ў Будслаўскім с/с. За 79 км на У ад Мядзела, 10 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 140 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1904 г. вёска (99 жыхароў), у Ваўкалацкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Будслаўскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 17 двароў, 63 жыхары. У 1939 г. вёска, 17 двароў, 83 жыхары; засценак, 4 двары, 16 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Вераб'ёўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 27.3.1959 г. ў Будслаўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 55 жыхароў. З 1965 г. ў складзе саўгаса, з 1991 г. — калгаса «Будслаўскі» (цэнтр — в. Будслаў), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Будслаўскі» (цяпер ААТ «Будслаўскае»). У 1970 г. 48 жыхароў. У 1997 г. 11 гаспадарак, 19 жыхароў.

**САДОЎШЧЫНА** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 25 км на Пн ад Мядзела, 27 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 176 км ад Мінска, на шашы Полацк—Вільнюс. Рэльеф раўнінны. У вёсцы ніхто не жыве.

Вядома з 19 ст. У 1897 г. засценак Садоўшчына (ён жа Гейбаўшчына), 5 двароў, 22 жыхары, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 19 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лацвянскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-наў Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2007 г. ў Мядзельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў складзе калгаса «40 год Кастрычніка» (да 1957 г. калгас імя М.А.Булганіна; цэнтр — в. Лотва), які ў 1999 г. быў далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга». У 1960 г. 19 жыхароў. У 1970 г. 18 жыхароў. У 1997 г. 4 гаспадаркі, 2 жыхары.

**СВАТКІ** — вёска, цэнтр Сваткаўскага с/с. За 18 км на ПдУ ад Мядзела, 10 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 110 км ад Мінска на шашы Крывічы—Мядзел. Рэльеф раўнінны, праз вёску працякае р. Вузлянка (прыток р. Нарач). 183 гаспадаркі, 516 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 46 жы-

хароў, шляхецкая ўласнасць. У 1868 г. вёска, 10 двароў, 108 жыхароў. У 1880 г. 10 двароў, 144 жыхары, царква. Паводле перапісу 1897 г. 25 двароў, 179 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, карчма, у Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1899 г. адкрыта школа граматы. У 1908 г. 36 двароў, 259 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. вёска (44 двары, 227 жыхароў) і асада (2 двары, 17 жыхароў), размяшчаўся паліцэйскі пастарунак, дзейнічалі 2 лаўкі, царква, польская пач. школа. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Сваткаўскага с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 54 двары, 181 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.5.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 50 двароў. Пасля вайны адбудавана. 11 вяскоўцаў загінула на франтах. На ўшанаванне памяці 72 землякоў, што загінулі ў 1941—45 гг., у вёсцы ў 1965 г. пастаўлены абеліск. У 1948 г. арганізаваны калгас «1 Мая». У 1949 г. адкрыта ашчадная каса, працавалі школа-сямігодка, паштовае аддз., магазін, піларама, урачэбны ўчастак, ветэрынарны пункт, аптэка, хата-чытальня. З 1959 г. цэнтр калгаса «Зара», з 1988 г. — калгаса імя У.І.Леніна, з 1994 г. — аграфірмы «Зара», з 1997 г. — с-г. прадпрыемства імя М.Танка, якое ў 2001 г. было рэарганізавана ў СВК «Сваткі» (цяпер ААТ «Сваткі»). У 1960 г. 355 жыхароў. У 1970 г. 353 жыхары. У 1997 г. 193 гаспадаркі, 566 жыхароў. З 2006 г. аграгарадок. Працуюць (2011) сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, урачэбная амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, 3 магазіны.

У склад сельсавета ўваходзяць 26 населеных пунктаў.

**СВІР** — гарадскі пасёлак, цэнтр Свірскага пасялковага Савета. За 45 км на З ад Мядзела, 26 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, на шашы Ольшава—Занарач. Рэльеф раўнінны, на У — воз. Свір. 1018 жыхароў (2011).

Заснаваны, верагодна, у 13 ст. князем нальшанскім і пскоўскім Даўмонтам, які пабудаваў тут замак. Драўляны сярэдневяковы замак быў абнесены кольцападобным валам вышынёй 3 м (гарадзішча стараж. замка знаходзіцца ў цэнтры пасёлка. У пісьмовых крыніцах Свір упамінаецца пад 1452 г. з нагоды будаўніцтва тут драўлянага касцёла князем Янам Свірскім. У 1527 г. Свір згадваецца як «двор» (маёнтак) і горад, якія кашталян віленскі Ю.М.Радзівіл набыў у Ю.С.Свірскага за 600 коп грошаў літоўскіх. Пазней Свір называлі мястэчкам (у 1559 г. 72 дымы). Належаў князям Свірскім, Радзівілам (да 17 ст.), потым зноў Свірскім (да 1820 г.). Паводле падання Свірскія паходзілі ад князя Даўмонта, а сваё прозвішча атрымалі ад замка і маёнтка Свір, мелі



*Успенская царква ў г.п. Свір.*



*Возера Свір.*

шматлікія маёнткі ў раёне азёр Свір і Нарач. Раздрабненне і збядненне роду Свірскіх прывяло іх да эканам. і саслоўнага заняпаду ў 19 ст. У 1570 г. Свірскія прынялі кальвінізм, касцёл быў зачынены і толькі ў 1598 г. вернуты католікам. У 1653—71 гг. намаганнямі ксяндза Г.Ясінскага і харунжага ашмянскага Ф.Казелы ўзведзены новы мураваны касцёл Святога Міхаіла (у 1909 г. перабудаваны).

З 1565—66 гг. Свір у складзе Ашмянскага павета Віленскага ваяв. У 1579 г. (у час Лівонскай вайны 1558—83 гг.) тут адбыўся першы агляд войск і ваенны савет з удзелам вялікага князя літоўскага і караля польскага Стафана Баторыя перад паходам на Полацк. З 1795 г. Свір у складзе Рас. імперыі як мястэчка Завілейскага, з 1842 г. Свянцянскага паветаў, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Віленскай губерняў, з 1861 г. — цэнтр вол. У перыяд вайны 1812 г. частка рус. арміі пад камандаваннем ген. Д.С.Дохтурава, якая накіроўвалася на злучэнне з арміяй Барклая дэ Толі, пазбегла сутыкнення з напалеонаўскімі войскамі, спецыяльна накіраванымі з Вільні, і 19.6.1812 г. паспяхова дасягнула Свіра.



*Мікалаеўскі касцёл у г.п. Свір.*

У 1845 г. побач з мястэчкам размяшчаліся маёнткі Свір-Ляскоўскі (241 дзес. зямлі, уваходзілі фальварак і в. Нецькі), уладанне Чаховіча, і Свір-Стацкоўскі (108 дзес. зямлі, 3 вёскі), уладанне Рынтаўтаў. У 1860 г. мястэчка Свір (належала казне і часткова памешчыку Бышэўскаму) з'яўлялася даволі значным гандлёвым цэнтрам, налічвала 589 жыхароў. У 1866 г. — 133 двары, 640 жыхароў, меліся валаснoe праўленне, касцёл, багадзельня, нар. вучылішча (з 1864 г.), 2 яўрэйскія малітоўныя дамы, бровар, вадзяны млын, суконая вытворчасць, пошта-тэлеграф; 7 разоў на год адбываліся кірмашы, па святах — гандаль. У 1868 г. — 140 двароў, 716 жыхароў. У 1885 г. ў Свіры праводзілася 10 кірмашоў на год, штотыднёвыя базары, працавалі 5 корчмаў, 21 крама; у 1897 г. заснаваны бровар, у 1896 г. — спіртаачышчальная вытворчасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Свіры і маёнтках — 1686 жыхароў, дзейнічалі аптэка, лячэбніца, 34 крамы, 14 корчмаў, інш. ўстановы, 5 разоў на год адбываліся кірмашы, штотыднёвыя базары. У Свірскім нар. вучылішчы ў 1896/97 навуч. годзе вучы-

лася 63 хлопчыкі, 3 дзяўчынкі. У 1904 г. ў мястэчку 2485 жыхароў; у фальварку Свір (уласнасць Пупулеўскага) і маёнтках: Свір-Стацкоўскі (належаў Чаховічам) і Свір-Ляскоўскі (уладанне Хржаноўскага) – 71 жыхар. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіраваны германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1919 г. 1369 жыхароў. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы, цэнтр гміны ў Свянцянскім павеце Віленскага ваяв. Меліся касцёл, пошта, царква, аптэка, лячэбніца, па святах праводзіліся кірмашы. У 1931 г. ў мястэчку 1900 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. цэнтр Свірскага р-на Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. цэнтр Свірскага с/с, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 25.4.1958 г. гар. пасёлак, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 1665 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У Свіры пахаваны 42 воіны Чырвонай Арміі і 51 партызан атрада С.Р.Суслава, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні гар. пасёлка. У 1954 г. на брацкай магіле пастаўлена стэла. За час акупацыі гітлераўцы знішчылі ў Свіры і раёне 1920 чалавек. У 1965 г. на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлена стэла на вул. Савецкай. У 1946–47 гг. у Свірскай сярэдняй школе дзейнічала вячэрняя школа для дарослых. У 1948 г. завершана тэлефанізацыя населенага пункта. У 1949 г. пачала працаваць школа механізатараў. У 1949 г. створаны калгас імя У.І.Леніна. З 1960 г. гар. пасёлак стаў цэнтрам саўгаса, з 1991 г. – калгаса «Свір», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (цяпер ААТ «Свір-агра»). У 1997 г. 592 гаспадаркі, 1420 жыхароў. Працуюць (2011) сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, участковая бальніца, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, 8 магазінаў і інш. Помнікі архітэктуры: касцёл Святога біскупа Мікалая (17 – пач. 20 ст.), царква ў гонар Успення Прасвятой Багародзіцы (пач. 20 ст.).

У склад пас. Савета ўваходзяць 34 населеныя пункты.

**СЕЛЬКАВА** – вёска ў Мядзельскім с/с. За 12 км на Пн ад Мядзела, 27 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 169 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 1 гаспадарка, 4 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. засценак, 1 двор, 3 жыхары, уладанне І.Галкі. У 1868 г. засценак, 2 двары, 27 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 39 жыхароў, у Манькавіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Манькавіцкай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. вёска, 7 двароў, 29 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лацвянскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-наў Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2007 г. ў Мядзельскім с/с. У 1940 г. 11 двароў, 35 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 1954 г. ў складзе калгаса «40 год Кастрычніка» (да 1957 г. калгас імя М.А.Булганіна; цэнтр – в. Лотва), які ў 1999 г. быў далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга». У 1960 г. 23 жыхары. У 1970 г. 15 жыхароў. У 2007 г. 1 гаспадарка, 4 жыхары.

**СЁМКІ** – вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 52 км на З ад Мядзела, 24 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1779 г. вёска, 14 двароў, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1868 г. 18 двароў, 119 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 23 двары, 219 жыхароў, хлебазапасны ма-

газін, у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1907 г. 24 двары, 292 жыхары. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Канстанцінаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 5.8.1954 г. ў Шэметаўскім с/с, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім гарпасавеце. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінула на франтах. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1949 г. створаны калгас імя В.І.Чапаева. У 1960 г. 138 жыхароў. З 1960 г. ў складзе саўгаса, з 1991 г. — калгаса «Свір» (цэнтр — г.п. Свір), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (цяпер ААТ «Свіргра»). У 1970 г. 114 жыхароў. У 1997 г. 24 гаспадаркі, 37 жыхароў.

**СІВЫЯ** — вёска ў Сваткаўскім с/с. За 15 км на ПдУ ад Мядзела, 17 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 117 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2011).

Вядома з пач. 20 ст. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сваткаўскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 12 двароў, 62 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліпеня 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1948 г. ў калгасе імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Калінаўка). З 1952 г. ў складзе калгаса імя В.М.Молатава, з 1959 г. — у калгасе «Зара», з 1988 г. ў калгасе імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Сваткі), з 1994 г. ў аграфірме «Зара», з 1997 г. ў с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка, якое ў 2001 г. было рэарганізавана ў СВК «Сваткі» (цяпер ААТ «Сваткі»). У 1970 г. 51 жыхар. У 1997 г. 13 гаспадарак, 17 жыхароў.

**СІДАРАВІЧЫ** — вёска ў Занарацкім с/с. За 30 км на ПдЗ ад Мядзела, 35 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 175 км ад Мінска, на шашы Ольшава—Занарач. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з каналам Станавы Роў і затым — з р. Нарач (прыток р. Вілія). 18 гаспадарак, 28 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска (16 двароў, 146 жыхароў) і засценак Сідараўшчызна (11 жыхароў). Паводле перапісу 1897 г. 25 двароў, 164 жыхары, у Занарацкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Тут размяшчалася Сідаравіцка-Жалезніцкая царкоўнапрыходская школа, у якой у 1896 г. навучалася 19 хлопчыкаў. У 1907 г. 170 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. У сак. 1916 г., напярэдадні Нарачанскай аперацыі войск рус. армій Паўн. і Зах. франтоў на ўчастку ад вёскі і да зах. берага воз. Нарач размяшчалася 75-я ням. рэзервовая дывізія. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Занарацкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 41 двор, 169 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і знішчылі 4 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. На зах. ускраіне на ўшанаванне памяці 26 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск. У 1948 г. арганізаваны калгас «Барэц», у 1950—73 гг. вёска — цэнтр узбуйненага калгаса з той жа назвай. У 1955 г. радыёфікавана, у 1966 г. электрыфікавана. У 1960 г. 131 жыхар. З 1973 г. ў складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Занарач), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «За-

нарачанскі» (цяпер ААТ «Занарачанскі»). У 1970 г. 133 жыхары. У 1997 г. 33 гаспадаркі, 116 жыхароў. Працуе (2011) магазін.

**СІМАНЫ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 17 км на ПнЗ ад Мядзела, 38 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 181 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Нарач. Рэльеф раўнінны, на Пд — воз. Нарач. 14 гаспадарак, 26 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1786 г. вёска, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. 8 двароў, 62 жыхары, уладанне Т.Ваньковіча. Паводле перапісу 1897 г. в. Сіманы (яна ж Лапцікі), 7 двароў, 45 жыхароў, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Побач знаходзілася в. Лапцікі-2. У 1904 г. вёска (48 жыхароў), засценак (8 жыхароў). З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1949 г. ў калгасе імя У.І.Леніна. У 1960 г. 53 жыхары. У 1970 г. 48 жыхароў. З 1979 г. ў складзе калгаса «Нарач» (цэнтр — в. Чараўкі), у 1998—2006 гг. у доследным рыбгасе «Нарач» (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1997 г. 13 гаспадарак, 23 жыхары.

**СІЎЦЫ** — вёска ў Будслаўскім с/с. За 55 км на ПдУ ад Мядзела, 9 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 141 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 17 гаспадарак, 19 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 50 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. З 1890 г. працавала школа граматы, у якой у 1896 г. вучылася 15 хлопчыкаў і 9 дзяўчынак. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 196 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 260 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 43 двары, 255 жыхароў. У 1939 г. 65 двароў, 282 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Сіўцаўскага с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. Мядзельскага р-на, з 8.6.1963 г. ў Крывіцкім пас. Савеце, з 9.8.1979 г. ў Будслаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Герой працы». З 1965 г. ў складзе саўгаса, з 1991 г. — калгаса «Будслаўскі» (цэнтр — в. Будслаў), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Будслаўскі» (цяпер ААТ «Будслаўскае»). У 1970 г. 184 жыхары. У 1997 г. 41 гаспадарка, 68 жыхароў.

**СКАРАДЫ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 17 км на ПдУ ад Мядзела, 28 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 177 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1770 г. вёска, 5 сем'яў, у Мядзельскім старостве Ашмянскага павета Віленскага ваяв. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 6 двароў, 47 жыхароў, уласнасць казны. У 1868 г. вёска ў Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 7 двароў, 78 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 127 жыхароў; дзейнічала школа граматы, у якой у 1896/97 навуч. годзе вучылася 17 хлопчыкаў. У 1908 г. 21 двор, 131 жыхар. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. — у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 24 два-

ры, 137 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лук'янавіцкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 31 двор, 140 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску, знішчылі 3 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1948 г. арганізаваны калгас «Пераможца», з 1954 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса з той жа назвай (цэнтр — в. Лук'янавічы), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Лук'янавічы» (цяпер ААТ «Лук'янавічы»). У 1970 г. 73 жыхары. У 1997 г. 18 гаспадарак, 23 жыхары.

**СКАРЫ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 10 км на ПнЗ ад Мядзела, 40 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 189 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн — воз. Мядзел. 15 гаспадарак, 32 жыхары (2011).

На паўн.-зах. ускраіне вёскі, на ўзвышанай тэрыторыі, прылеглай да берага затокі воз. Мядзел, знаходзіцца селішча. Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак Скорава, 1 двор, 5 жыхароў, уладанне Л.Камінскага. У 1868 г. вёска (6 двароў, 57 жыхароў), у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёска (94 жыхары), засценак (18 жыхароў). З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 10 двароў, 69 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Баярскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 11.6.1951 г. ў Ляшчынскім, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Барацьбіт». У 1960 г. 128 жыхароў. У 1970 г. 112 жыхароў. З 1979 г. ў складзе калгаса «Нарач» (цэнтр — в. Чараўкі), у 1998—2006 гг. у доследным рыбгасе «Нарач» (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1997 г. 26 гаспадарак, 58 жыхароў. Радзіма бел. гісторыка і археографа М.В.Мялешкі (9.5.1892 — крас. 1941).

**СЛАБАДА** — вёска ў Будслаўскім с/с. За 59 км на ПдУ ад Мядзела, 11 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 137 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 21 гаспадарка, 32 жыхары (2011).

У 1809 г. вёска, 11 двароў, 45 жыхароў, ва ўладанні К.Слізеня. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 21 двор, 148 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 29 двароў, 207 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 29 двароў, 147 жыхароў. У 1939 г. 44 двары, 191 жыхар. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сіўцаўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. Мядзельскага р-на, з 8.6.1963 г. ў Крывіцкім пас. Савеце, з 9.8.1979 г. ў Будслаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас імя І.У.Мічурына. У 1960 г. 148 жыхароў. З 1965 г. ў складзе саўгаса, з 1991 г. — калгаса «Будслаўскі» (цэнтр — в. Будслаў), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Будслаўскі» (цяпер ААТ «Будслаўскае»). У 1970 г. 157 жыхароў. У 1997 г. 39 гаспадарак, 75 жыхароў.

**СЛАБАДА** — вёска, цэнтр Слабодскага с/с. За 21 км на ПнУ ад Мядзела, 23 км ад чыг. ст. Варапаева на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 171 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Ваўкалата. Рэльеф раўнінны. 88 гаспадарак, 218 жыхароў (2011).

За 1 км на ПдЗ ад вёскі знаходзіцца гарадзішча. З паўн.-ўсх. і ўсх. бакоў да гарадзішча далучаецца селішча. За 1,7 км на Пн ад вёскі размешчаны курганны могільнік. Вядома з 18 ст. У 1739 г. 2 двары, 10 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. вёска, 9 двароў, 66 жыхароў, аколіца, 3 двары, 22 жыхары, уласнасць казны. У 1846 г. вёска фальварка Посапава маёнтка Смыч Вілейскага павета Віленскай губ., уладанне К.І.Тызенгаўза, 9 двароў, 89 жыхароў. У 1885 г. цэнтр Жаснянскай вол. Вілейскага павета. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 212 жыхароў. Побач знаходзіўся аднайменны засценак, 6 двароў, 59 жыхароў. У сак. 1916 г. у час 1-й сусветнай вайны ў вёсцы дыслацыраваўся штаб 5-га армейскага корпуса 2-й рус. арміі. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жаснянскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. Тут размяшчаліся паліцэйскі пастарунак, магазін, школа. У 1921 г. 30 двароў, 175 жыхароў. У 1927 г. была арганізавана ячэйка КПЗБ. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Слабодскага с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1939—41 гг. у вёсцы былі адкрыты школа-сямігодка, фельч.-акушэрскі пункт, хата-чытальня. У 1940 г. 317 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1965 г. ў вёсцы пастаўлены абеліск. З 1949 ў калгасе імя Чарняхоўскага, з 1954 г. цэнтр калгаса «17 Верасня», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Слабодская зара» (цяпер ААТ «Слабодская зара»). У 1956 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. 205 жыхароў. У 1970 г. 255 жыхароў. У 1997 г. 100 гаспадарак, 256 жыхароў. З 2009 г. аграгарадок. Працуюць (2011) сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, урачэбная амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, магазін. Помнік архітэктуры — царква ў імя Святога князя Аляксандра Неўскага (19 ст.).

У склад сельсавета ўваходзяць 35 населеных пунктаў.

**СЛАБОДКА** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 44 км на ПдУ ад Мядзела, 2 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 142 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ўсх. ускраіне працякае р. Сэрвач (упадае ў Вілейскае вадасховішча). На Пн праходзіць чыгунка. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2011).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. маёнтак, 33 жыхары, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 2 двары, 14 жыхароў. У 1939 г. фальварак (3 двары, 41 жыхар), і чыг. старожка (5 жыхароў). З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Крывіцкім с/с (з 28.6.1958 г. да 30.10.2009 г. пас. Савет) Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1956 г. электрыфікавана і

*Аляксандра-Неўская царква ў в. Слабада.*



радыёфікавана. У 1970 г. 17 жыхароў. З 1979 г. ў складзе калгаса імя А.А.Жданава, з 1990 г. — калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Пруднікі), які ў 1998 г. быў рэарганізаваны ў СКП «Беларусь» (цяпер ААТ «Пруднікі-агра»). У 1997 г. 3 гаспадаркі, 8 жыхароў.

**СЛАБОДКА** — вёска ў Слабодскім с/с. За 29 км на ПнУ ад Мядзела, 25 км ад чыг. ст. Варапаева на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 179 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 9 гаспадарак, 20 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1904 г. вёска, 151 жыхар, у Жаснянскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 23 двары, 139 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Слабодскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 38 двароў, 154 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінула на франтах. У 1949 г. арганізаваны калгас «1 Мая», з 1954 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса з той жа назвай (цэнтр — в. Канстанцінава), з 2001 г. — у калгасе «17 Верасня» (цэнтр — в. Слабада), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Слабодская зара» (цяпер ААТ «Слабодская зара»). У 1956 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. 110 жыхароў. У 1970 г. 87 жыхароў. У 1997 г. 21 гаспадарка, 39 жыхароў.

**СЛАВІЧЫ** — вёска ў Слабодскім с/с. За 24 км на ПнУ ад Мядзела, 17 км ад чыг. ст. Варапаева на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 174 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску працякае р. Заражанка. 15 гаспадарак, 30 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1784 г. в. Словічы, 11 двароў, 85 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. в. Словічава, 13 двароў, 75 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1848 г. 15 двароў, 112 жыхароў, у складзе фальварка Красняны, у Вілейскім павеце Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 223 жыхары, у Жаснянскай вол. Вілейскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жаснянскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 38 двароў, 215 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Слабодскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 47 двароў, 264 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінула на франтах. З 1949 г. ў калгасе «Чырвоны баец», з 1954 г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Канстанцінава), з 2001 г. — у калгасе «17 Верасня» (цэнтр — в. Слабада), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Слабодская зара» (цяпер ААТ «Слабодская зара»). У 1956 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. 174 жыхары. У 1970 г. 149 жыхароў. У 1997 г. 28 гаспадарак, 60 жыхароў.

**СЛУКІ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 30 км на ПнЗ ад Мядзела, 38 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 184 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У — воз. Мядзел. 16 гаспадарак, 28 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1848 г. вёска (1 двор, 7 жыхароў) у складзе маёнтка Кузьмічы (уладанне памешчыка І.Цывінскага), у Свянцянскім павеце Віленскай губ. У 1868 г. 4 двары, 43 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 72 жыхары. У 1904 г. 91 жыхар. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на

Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Шлях да камунізму». У 1960 г. 64 жыхары. З 1964 г. ў складзе калгаса імя В.І.Чапаева, з 1979 г. – у калгасе «Нарач» (цэнтр – в. Чараўкі), у 1998–2006 гг. у доследным рыбгасе «Нарач» (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1970 г. 81 жыхар. У 1997 г. 22 гаспадаркі, 34 жыхары.

**СТАРАЯ** – вёска ў Свірскім гар. пас. Савеце. За 48 км на ПнЗ ад Мядзела, 19 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 188 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 26 гаспадарак, 30 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1847 г. вёска (12 двароў, 72 жыхары) у складзе маёнтка Ольшава Свянцянскага павета Віленскай губ., уладанне С.Хамінскага. У 1868 г. 155 жыхароў. У 1908 г. 36 двароў, 233 жыхары, у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Куцькоўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Свірскім, з 5.8.1954 г. Канстанцінаўскім с/с, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінула на франтах. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1949 г. арганізаваны калгас «17 Верасня». У 1960 г. 206 жыхароў. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 1991 г. – калгаса «Канстанцінава» (цэнтр – в. Камарова), з 2002 г. – у калгасе «Свір», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (цяпер ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 211 жыхароў. У 1997 г. 44 гаспадаркі, 85 жыхароў.

**СТАРЛЫГІ** – вёска ў Сырмежскім с/с. За 45 км на ПдЗ ад Мядзела, 53 км ад чыг. ст. Вілейка, на лініі Маладзечна–Полацк, 207 км ад Мінска, на шашы Ольшава–Занарач. Рэльеф раўнінны. 92 гаспадаркі, 302 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 26 двароў, 195 жыхароў, у Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 51 двор, 254 жыхары. У 1908 г. 292 жыхары. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Шэметаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Сырмежскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 жыхароў загінула на франтах. У 1965 г. ў цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 17 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены абеліск. У 1949 г. арганізаваны калгас «Радзіма», пазней – цэнтр узбуйненага калгаса з той жа назвай, з 1973 г. – калгаса імя М.І.Калініна, які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Міжазёрны край» (цяпер ААТ «Міжазёрны край»). У 1960 г. 230 жыхароў. У 1961 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 188 жыхароў. У 1997 г. 87 гаспадарак. З 2009 г. аграгарадок. Працуюць (2011) вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад–сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, 2 магазіны.

**СТАРЫНА** – вёска ў Слабодскім с/с. За 23 км на ПнУ ад Мядзела, 54 км ад чыг. ст. Варапаева на лініі Лынтупы-Круляўшчызна, 173 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 9 гаспадарак, 28 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. засценак, 1 двор, 5 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. маёнтак, 20 жыхароў, у Жаснянскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у гміне Жосна Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. калоніі Старына-1, Старына-2, Старына-3, у якіх жылі 32 чалавекі. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Слабодскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 15 двароў, 64 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. жыхары в. Старына-3 увайшлі ў калгас «Камсамолец» (цэнтр — в. Кузьмічы), у 1950 г. жыхары вёсак Старына-1 і Старына-2 — у калгас імя І.Д.Чарняхоўскага (цэнтр — в. Слабада). У 1956 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. ў в. Старына-1 — 14 жыхароў, у в. Старына-2 — 17, у в. Старына-3 — 14. У сярэдзіне 1960-х гг. вёскі Старына-1, Старына-2 і Старына-3 аб'ядналіся ў адзін населены пункт. У 1970 г. 25 жыхароў. У 2007 г. 8 гаспадарак, 29 жыхароў.

**СТАРЫНКІ-1** — вёска ў Сваткаўскім с/с. За 14 км на ПдУ ад Мядзела, 18 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. засценак, 2 двары, 26 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 48 жыхароў. У 1904 г. засценак, 44 жыхары, у 1908 г. — 60. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 8 двароў, 59 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лук'янавіцкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 1951 г. ў Сваткаўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 10 двароў, 34 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 1948 г. ў калгасе імя С.М.Кірава. З 1959 г. ў складзе калгаса «Зара», з 1988 г. ў калгасе імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Сваткі), з 1994 г. ў аграфірме «Зара», з 1997 г. ў с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка, якое ў 2001 г. было рэарганізавана ў СВК «Сваткі» (цяпер ААТ «Сваткі»). У 1960 г. 38 жыхароў. У 1970 г. 41 жыхар. У 1997 г. 11 гаспадарак, 19 жыхароў.

**СТАРЫНКІ-2** — вёска ў Сваткаўскім с/с. За 21 км на ПдУ ад Мядзела, 16 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 135 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 11 гаспадарак, 13 жыхароў (2011).

За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Вузла знаходзіцца курганны могільнік (мясц. назва Валатоўка), за 0,5 км на З ад яго. Справа ад дарогі ў в. Вузла размешчаны другі курганны могільнік.

Вядома з 17 ст. У 1652 г. сяло. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1846 г. 18 двароў, 179 жыхароў, у складзе маёнтка Вузла Вілейскага павета, уладанне графа К.І.Тызенгаўза. У 1875 г. ў вёсцы адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 247 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета. У 1904 г. вёска, 279 жыхароў і засценак, 44 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 54 двары, 301 жыхар, у засценку 8 двароў, 59 жыхароў. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Сваткаўскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 25.9.1950 г. ў Брусаўскім (з 1.10.1973 г.

Вузлянскім) с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 23.3.1987 г. ў Сваткаўскім с/с. У 1940 г. 59 двароў, 309 жыхароў, арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 3 дамы, знішчылі 4 вяскоўцаў. 4 жыхары загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. У 1949 г. адноўлены калгас. З 1954 г. ў складзе калгаса імя І.В.Сталіна (з 1961 г. калгас імя У.І.Леніна), з 1988 г. — у аб'яднаным калгасе імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Сваткі), з 1994 г. ў аграфірме «Зара», з 1997 г. ў с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка, якое ў 2001 г. было рэарганізавана ў СВК «Сваткі». У 1960 г. 276 жыхароў. У 1970 г. 191 жыхар. У 1997 г. 35 гаспадарак, 54 жыхары.

**СТАРЫЯ ГАБЫ** — вёска, цэнтр Старагабскага с/с. За 30 км на У ад Мядзела, 18 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 180 км ад Мінска, на шашы Старыя Габы—Мядзел. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вузлянка (прыток р. Нарач). 147 гаспадарак, 316 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. сяло, 33 двары, 228 жыхароў, уладанне І.Аскеркі. У 1868 г. вёска ў Габскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 40 двароў, 380 жыхароў. З 1884 г. працавала школа граматы, у якой у 1896 г. навучалася 12 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 95 двароў, 653 жыхары, хлебазапасны магазін, піцейны дом, капліца на могілках, у Жаснянскай вол. Вілейскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жаснянскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 126 двароў, 622 жыхары, касцёл, кузня, ветраны млын. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Старагабскага с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г.



*Мікалаеўская царква ў в. Старыя Габы.*

171 двор, 801 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліпеня 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вёска стала своеасаблівым партыз. цэнтрам усх. часткі Мядзельскага р-на, дзе дыслацыраваліся атрады брыгад «Народныя мсціўцы», імя К.Е.Варашылава, імя К.К.Ракасоўскага, імя С.М.Будзённага і інш. Восенню 1943 г. ў партызанскіх атрадах змагаўся 51 вясковец. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 15 двароў, знішчылі 12 жыхароў. У вёсцы на ўшанаванне памяці 66 землякоў (36 з іх ураджэнцы в. Старыя Габы), якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск. У 1948 г. арганізаваны калгас. У 1950 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. З 1954 г. цэнтр калгаса імя С.М. Кірава, які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Сінявокі край», з 2004 г. — УП «Джэнці кантракт лізінг», з 2008 г. — камунальнае с.-г. УП «ГабыАгра». У 1960 г. 483 жыхары. У 1970 г. 481 жыхар. У 1997 г. 182 гаспадаркі, 432 жыхары. З 2009 г. аграгарадок. Працуюць (2011) вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы сад—сярэдняя

школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, магазін. Помнік архітэктуры: царква ў імя свяціцеля Мікалая Цудатворца (пач. 20 ст.).

У склад сельсавета ўваходзяць 16 населеных пунктаў.

**СТАХОЎЦЫ** – вёска ў Занарацкім с/с. За 28 км на ПдЗ ад Мядзела, 33 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 173 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 61 гаспадарка, 211 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. маёнтак (1040 дзес. зямлі, 6 жыхароў) і вёска (19 двароў, 209 жыхароў). З 1897 г. дзейнічала школа граматы. У 1904 г. вёска (385 жыхароў) і маёнтак (65 жыхароў). У 1908 г. ў вёсцы 44 двары, 195 жыхароў, у Занарацкай вол. Свянцянскага павета. 18–28.3.1916 г. каля вёскі адбываліся баі Нарачанскай аперацыі рус. армій супраць германскіх войск. В. Стахоўцы знаходзіліся ў раёне размяшчэння рус. войск. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Занарацкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 68 двароў, 281 жыхар, пачаў дзейнічаць калгас «Шлях У.І.Леніна». У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і знішчылі 15 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1947 г. былі вёска і хутар Стахоўцы. У 1949 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна. У 1955 г. радыёфікавана, у 1966 г. электрыфікавана. У 1960 г. 165 жыхароў. У 1970 г. вёска, 179 жыхароў; хутар, 6 жыхароў. З 1973 г. вёска ў складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр – в. Занарач), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Занарачанскі» (зараз ААТ «Занарачанскі»). У 1997 г. 55 гаспадарак, 131 жыхар.

**СТОМЫ** – вёска ў Мядзельскім с/с. За 4 км на З ад Мядзела, 25 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 164 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн – воз. Рудакова. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Стомыча (яна ж Стомы), 2 двары, 14 жыхароў, уладанне К.Кемышынай. У 1897 г. засценак, 15 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай вол. Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 3 двары, 19 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Баярскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1957 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1960 г. ў складзе калгаса «Ленінскі шлях» (да 1961 г. «Сталінскі шлях»; цэнтр – в. Баяры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Баярскі маяк», з 2005 г. ў межах ААТ «Мядзельаграсервіс». У 1970 г. 19 жыхароў. У 1997 г. 9 гаспадарак, 13 жыхароў.

**СТРУГАЛАПЫ** – вёска ў Нарацкім с/с. За 31 км на ПнЗ ад Мядзела, 40 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 185 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У – воз. Мядзел. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2011).

За 0,3 км на ПдУ ад вёскі знаходзіцца паселішча эпохі мезаліту і 3-й чвэрці 1 тыс. н.э. З 1793 г. ў Рас. імперыі. Вядома з 19 ст. У 1844 г. вёска (2 двары, 20 жыхароў) у складзе маёнтка Кузьмічы, уладанне У.Цывінскага, у Свянцянскім павеце Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 70 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літ-

ве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 36 жыхароў. З 1964 г. ў складзе калгаса імя В.І.Чапаева, з 1979 г. — у калгасе «Нарач» (цэнтр — в. Чараўкі), у 1998—2006 гг. у доследным рыбгасе «Нарач» (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1970 г. 15 жыхароў. У 1997 г. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў.

**СТУДЗЯНІЦА** — вёска ў Слабодскім с/с. За 8 км на ПнУ ад Мядзела, 40 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 172 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Ваўкалата. Рэльеф раўнінны. 23 гаспадаркі, 47 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1770 г. ў вёсцы жыло 29 сем'яў. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 26 двароў, 142 жыхары, уласнасць казны. У 1868 г. 314 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 57 двароў, 361 жыхар. У лют.—снеж. 1918 г. акупіраваны германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета. У 1921 г. 49 двароў, 259 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мікасецкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім, з 15.11.1957 г. ў Дзягільскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 1.1.2007 г. ў Слабодскім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. адкрыты магазін і арганізаваны калгас імя В.І.Чапаева. У 1960 г. 153 жыхары. З 1961 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Дзягілі), які ў 1992 г. быў рэарганізаваны ў дапаможную гаспадарку «Дягілі» Мінскага маторнага завода (з 2009 г. ААТ «Мінскі маторны завод» с.-г. філіял «Дзягілі»). У 1963 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 165 жыхароў. У 1997 г. 34 гаспадаркі, 70 жыхароў.

**СУДНІКІ** — вёска ў Слабодскім с/с. За 13 км на ПнУ ад Мядзела, 45 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 174 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Зелянуха (упадае ў воз. Мядзел). 6 гаспадарак, 15 жыхароў (2011).

За 0,7—1 км на Пд ад вёскі знаходзіцца паселішча каменнага веку, за 2 км на ПдЗ ад вёскі — другое паселішча таго ж часу. Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 8 двароў, 97 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У школе граматы, якая дзейнічала ў вёсцы, у 1896 г. вучылася 12 хлопчыкаў і 10 дзяўчынак. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 167 жыхароў. У лют.—снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета. У 1921 г. 31 двор, 150 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мікасецкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 21.5.1951 г. ў Дзягільскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 1.1.2007 г. ў Слабодскім с/с. У 1940 г. 27 двароў, 75 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1948 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг». У 1960 г. 76 жыхароў. З 1961 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Дзягілі), які ў 1992 г. быў рэарганізаваны ў дапаможную гаспадарку «Дзягілі» Мінскага маторнага завода (з 2009 г. ААТ «Мінскі маторны завод» с.-г. філіял «Дзягілі»). У 1963 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 72 жыхары. У 1997 г. 15 гаспадарак, 28 жыхароў.

**СУРВІЛЫ** (да 12.11.1966 г. вёскі Сурвілы-1 і Сурвілы-2) — вёска ў Сырмежскім с/с. За 45 км на ПдЗ ад Мядзела, 56 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна—Полацк, 207 км ад Мінска, на шашы Ольшава—Занарач. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з вадасховішчам на р. Вялікі Перакоп (упадае ў воз. Свір). 9 гаспадарак, 18 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска (16 двароў, 134 жыхары), у Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 37 двароў, 184 жыхары. У 1904 г. 198 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Шэметаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Сырмежскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 вяскоўцаў загінула на франтах. У 1950 г. створаны калгас «Чырвоная Зорка». У 1960 г. 83 жыхары. У 1961 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 88 жыхароў. З 1973 г. ў складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Старлыгі), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Міжазёрны край» (зараз ААТ «Міжазёрны край»). У 1997 г. 22 гаспадаркі, 40 жыхароў.

**СЫРМЕЖ** — вёска, цэнтр Сырмежскага с/с. За 37 км на ПдЗ ад Мядзела, 45 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна—Полацк, 197 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з гал. каналам Станавы Роў (упадае ў р. Нарач). 37 гаспадарак, 116 жыхароў (2011).

Вядома з 16 ст. У 1527 г. маёнтак Сырмеж Ашмянскага павета быў куплены князем М.І.Мсціслаўскім у князёў Свірскіх. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1846 г. маёнтак у Свянцянскім павеце Віленскай губ., уладанне Янушэўскага. У 1868 г. вёска ў Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета, 24 двары, 227 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 50 двароў, 274 жыхары. У 1904 г. — 376 жыхароў, у 1908 г. — 286. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіраваны германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Сырмежскага с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 жыхароў загінула на франтах. У 1949 г. створаны калгас «Новае жыццё». З 1954 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Буйкі), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Вішнеўскае», у 2004—08 гг. с.-г. ўчастак «Вішнеўскае» вытворчага прыватнага УП «Цепласеці». У 1960 г. 184 жыхары. У 1966 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 202 жыхары. У 1997 г. 52 двары, 120 жыхароў. З 2009 г. аграгарадок. Працуюць (2011) вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, 2 магазіны.

У склад сельсавета ўваходзяць 22 населеныя пункты.

**СЯЛЯТКІ** — вёска ў Сырмежскім с/с. За 47 км на ПдЗ ад Мядзела, 46 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна—Полацк, 199 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на зах. ускраіне працякае р. Вялікі Перакоп (упадае ў воз. Свір), на ўсх. ускраіне праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з гал. каналам Станавы Роў (упадае ў р. Нарач). 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 5 двароў, 25 жыхароў, уладанне Горыча. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 122 жыхары, у Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 130 жыхароў.

З вер. 1915 г. да снеж. 1920 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Сырмежскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай вобл., з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1949 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё» з цэнтрам у в. Сырмеж. З 1954 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Буйкі), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Вішнеўскае», у 2004—08 гг. с.-г. ўчастак «Вішнеўскае» вытворчага прыватнага УП «Цепласеці». У 1960 г. 82 жыхары. У 1966 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 8 двароў. У 1997 г. 8 гаспадарак, 17 жыхароў.

**ТРЫДАНЫ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 7 км на Пд ад Мядзела, 28 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 167 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 18 гаспадарак, 36 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. У 1770 г. вёска (28 сем'яў), у Мядзельскім старастве Ашмянскага павета Віленскага ваяв. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1868 г. 18 двароў, 187 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У школе граматы, якая дзейнічала ў вёсцы, у 1896 г. вучылася 24 хлопчыкі і 1 дзяўчынка. У 1897 г. 39 двароў, 247 жыхароў. У 1904 г. 218 жыхароў, у 1908 г. — 232. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 42 двары, 250 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мікасецкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас імя К.Я.Варашылава, з 1954 г. ў складзе калгаса «Пераможца» (цэнтр — в. Лук'янавічы), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны СВК «Лук'янавічы» (ААТ «Лук'янавічы»). У 1970 г. 134 жыхары. У 1997 г. 31 гаспадарка, 57 жыхароў.

**УЗДРЫГАЛАВІЧЫ** — вёска ў Крывіцкім с/с. За 45 км на ПдУ ад Мядзела, 7 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 143 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і З працякае р. Сэрвач (упадае ў Вілейскае вадасховішча). 18 гаспадарак, 22 жыхары (2011).

Вядома з 17 ст. У 1651 г. сяло, у складзе маёнтка Крывічы. Уладальнік сяла Я.Кішка збіраў чынш з 6 сямей. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 15 двароў, 99 жыхароў, у Вілейскім павеце, Мінскай губ. У 1868 г. вёскі Здрыгалавічы-1 (9 двароў, 59 жыхароў) і Здрыгалавічы-2 (7 двароў, 50 жыхароў), у Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. ў в. Здрыгалавічы-1 17 двароў, 154 жыхары, у в. Здрыгалавічы-2 16 двароў, 108 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 44 двары, 276 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Крывіцкім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей з 28.6.1958 г. да 30.10.2009 г. ў Крывіцкім пас. Савеце, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас імя А.Я.Вышынскага. У 1970 г. 141 жыхар. З 1979 г. ў складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Крывічы), які ў 1998 г. быў рэарганізаваны ў СКП «Беларусь» (зараз ААТ «Пруднікі-агра»). У 1997 г. 32 гаспадаркі, 68 жыхароў.

**УНУКІ** – вёска ў Нарацкім с/с. За 31 км на ПнЗ ад Мядзела, 37 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 185 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска (2 двары, 7 жыхароў) і маёнтак (6 жыхароў). У 1897 г. ў вёсцы 4 двары, 32 жыхары, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 38 жыхароў. У 1970 г. 45 жыхароў. З 1979 г. ў складзе калгаса «Нарач» (цэнтр – в. Чараўкі), у 1998–2006 гг. у доследным рыбгасе «Нарачанскі» (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1997 г. 9 гаспадарак, 12 жыхароў.

**ФАЛЕВІЧЫ** – вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 51 км на ПнЗ ад Мядзела, 16 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 194 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска (6 двароў, 64 жыхары) і маёнтак. У 1897 г. 45 жыхароў, у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1907 г. 7 двароў, 43 жыхары. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Канстанцінаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У 1940 г. вёска, 9 двароў, 44 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. У 1960 г. 25 жыхароў. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 1991 г. – калгаса «Канстанцінава» (цэнтр – в Камарова), з 2002 г. – у калгасе «Свір» (цэнтр – г.п. Свір), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (зараз ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 16 жыхароў. У 1997 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў.

**ХАЛМОЎКА** – вёска ў Княгінінскім с/с. За 27 км на ПдУ ад Мядзела, 9 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 158 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 3 двары, 24 жыхары, у Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета. У 1921 г. 21 двор, 111 жыхароў. У 1939 г. 24 двары, 125 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 15.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Перамога». У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. У 1960 г. 133 жыхары. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 1991 г. – калгаса «Восаўскі» (цэнтр – в. Восава), з 1997 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (зараз камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1970 г. 94 жыхары. У 1997 г. 12 гаспадарак, 19 жыхароў.

**ХМЫЛКІ** – вёска ў Сырмежскім с/с. За 45 км на ПдЗ ад Мядзела, 38 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна–Круляўшчызна, 204 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 10 двароў, 97 жыхароў, у Шэметаўскай

вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 23 двары, 199 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сырмежскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 26 двароў, 136 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1949 г. створаны калгас імя А.Матросава. З 1954 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Буйкі), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Вішнеўскае», у 2004—08 гг. с.-г. ўчастак «Вішнеўскае» вытворчага прыватнага УП «Цепласеці». У 1960 г. 82 жыхары. У 1966 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 95 жыхароў. У 1997 г. 7 гаспадарак, 12 жыхароў.

**ХОЛМА** — вёска ў Княгінінскім с/с. За 28 км на ПдУ ад Мядзела, 10 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 159 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 4 двары, 51 жыхар, у Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. в. Холма-1 (8 двароў, 84 жыхары), в. Холма-2 (11 двароў, 82 жыхары) і фальварак Холма (3 двары, 16 жыхароў). У 1904 г. ў в. Холма-1 — 114 жыхароў, у в. Холма-2 — 84. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета. У 1921 г. вёска (7 двароў, 41 жыхар), фальварак (6 двароў, 33 жыхары). У 1939 г. вёска (16 двароў, 70 жыхароў), былы фальварак (18 жыхароў). З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас «Чырвоная Зорка». У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. У 1960 г. 133 жыхары. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 1991 г. — пасёлка «Восаўскі» (цэнтр — в. Восава), з 1997 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (зараз камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1970 г. 57 жыхароў. У 1997 г. 7 гаспадарак, 12 жыхароў.

**ХОНЕВІЧЫ** — вёска ў Сырмежскім с/с. За 43 км на ПдЗ ад Мядзела, 30 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 207 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 15 гаспадарак, 48 жыхароў.

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 6 двароў, 77 жыхароў, у Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 101 жыхар. У 1904 г. 110 жыхароў, у 1908 г. — 127. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Шэметаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Сырмежскім с/с. У 1940 г. 20 двароў, 102 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас «Радзіма». У 1960 г. 76 жыхароў. У 1961 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 60 жыхароў. З 1973 г. ў складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Старлыгі), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Міжазёрны край» (зараз ААТ «Міжазёрны край»). У 1997 г. 16 гаспадарак, 53 жыхары.

**ЦЕЛЯКІ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 12 км на З ад Мядзела, 38 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляў-

шчызна, 186 км ад Мінска, на шашы Нарач—Мядзел. Рэльеф раўнінны. 26 гаспадарак, 58 жыхароў (2011).

За 1,7 км на ПнЗ ад вёскі знаходзіцца гарадзішча. Вядома з 18 ст. У 1768 г. вёска, 2 двары. У 1800 г. 12 двароў, 74 жыхары, уладанне Т.Галкі. У 1897 г. в. Целякі-1 (13 двароў, 111 жыхароў) і засценак Целякі-2 (5 двароў, 34 жыхары), у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёскі Целянікі-1 (83 жыхары) і Целянікі-2 (78 жыхароў). З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 10 двароў, 59 жыхароў. У 1927 г. арганізавана ячэйка КПЗБ. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зара». У 1960 г. 96 жыхароў. У 1970 г. 86 жыхароў. З 1979 г. ў складзе калгаса «Нарач» (цэнтр — в. Чараўкі), у 1998—2006 гг. у доследным рыбгасе «Нарач» (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1997 г. 32 гаспадаркі, 83 жыхары.

**ЦЕРЛЮКІ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 29 км на ПнЗ ад Мядзела, 35 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 183 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 8 гаспадарак, 12 жыхароў.

Вядома з 19 ст. У 1897 г. вёска, 14 двароў, 74 жыхары, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 87 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Кабыльніцкім с/с (з 28.8.1964 г. Нарацкім) Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё». У 1960 г. 61 жыхар. З 1965 г. ў складзе саўгаса «Нарач» (цэнтр — в. Нарач), з 1991 г. — у калгасе «Прыазёрны», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Нарачанская ніва» (з 2004 г. ў ТАА «Нарачанская ніва-2004»). У 1970 г. 56 жыхароў. У 1997 г. 13 гаспадарак, 27 жыхароў.

**ЦІМОШКАЎШЧЫНА** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 10 км на Пн ад Мядзела, 29 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 170 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З — воз. Мядзел. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2011).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. фальварак Паклеўскага-Казелы, 1 двор, 5 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Баярскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 13.2.1953 г. ў Лацвянскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл, з 1.1.2007 г. ў Мядзельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў складзе калгаса «40 год Кастрычніка» (да 1957 г. калгас імя М.А.Булганіна; цэнтр — в. Лотва), які ў 1999 г. быў далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга». У 1960 г. 18 жыхароў. У 1970 г. хутар, 10 жыхароў. У 1997 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары.

**ЦЮКШЫ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 29 км на ПнЗ ад Мядзела, 33 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 183 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд — воз. Вялікія Швакшты. 12 гаспадарак, 25 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. вёска, 14 двароў, 99 жыхароў, у Кабыльніцкай

вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1907 г. 20 двароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Кабыльніцкім с/с (з 28.8.1964 г. Нарацкім) Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1944 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас імя А.С.Пушкіна. У 1960 г. 79 жыхароў. З 1965 г. ў складзе саўгаса «Нарач» (цэнтр — в. Нарач), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Нарачанская ніва», з 2004 г. — ТАА «Нарачанская ніва-2004». У 1970 г. 81 жыхар. У 1997 г. 19 гаспадарак, 32 жыхары.

**ЧАЛЕІ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 15 км на Пн ад Мядзела, 26 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 168 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 4 двары, 38 жыхароў, уладанне К.Корава і Е.Кялышынай. У 1868 г. 56 жыхароў. У 1897 г. 10 двароў, 71 жыхар, у Маньковіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Манькавіцкай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 5 двароў, 22 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лацвянскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2007 г. ў Мядзельскім с/с. У 1940 г. 6 двароў, 18 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 1954 г. ў складзе калгаса «40 год Кастрычніка» (да 1957 г. калгас імя М.А.Булганіна; цэнтр — в. Лотва), які ў 1999 г. быў далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга». У 1960 г. 27 жыхароў. У 1970 г. 16 жыхароў. У 1997 г. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў.

**ЧАРАЎКІ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 12 км на З ад Мядзела, 38 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 186 км ад Мінска, на шашы Нарач—Мядзел. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы, на Пд — воз. Нарач. 70 гаспадарак, 182 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1801 г. вёска і аколіца, 13 двароў, 111 жыхароў, карчма, уласнасць казны, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. 17 двароў, 136 жыхароў, царк.-прыходская школа, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 157 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. У 1927 г. арганізавана ячэйка КПЗБ. У чэрв. 1935 г. вяскоўцы ўдзельнічалі ў паўстанні нарачанскіх рыбакоў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 28.8.1964 г. ў Нарацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск. У 1948 г. арганізаваны калгас «Стаханавец». З 1954 г. — цэнтр узбуйненага калгаса «Нарач», з 1979 г. — цэнтр рэарганізаванага калгаса з той жа назвай, які ў 1998 г. быў пераўтвораны ў доследны рыбгас «Нарач» (з 2000 г. РУП «Доследная рыбная гаспадарка «Нарач»). У 1960 г. 155 жыхароў. 12.11.1966 г. да вёскі далучана в. Падрэзы. У 1970 г. 211 жыхароў. У 1997 г. 72 гаспадаркі, 205 жыхароў. Працуюць (2011) Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін.

**ЧАРВЯЧОВА** — вёска ў Старагабскім с/с. За 20 км на У ад Мядзела, 33 км

ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 190 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. У вёсцы ніхто не жыве.

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. засценак Чэрвічаў (ён жа Чарвячоў), 1 двор, 11 жыхароў. У 1868 г. 2 двары, 15 жыхароў, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 45 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 10 двароў, 56 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Слабодскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 21.5.1951 г. ў Старагабскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 12 двароў, 44 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1948 г. ў калгасе імя К.Я.Варашылава. З 1954 г. ў складзе калгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Зані), пазней у калгасе імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Старыя Габы). У 1960 г. 33 жыхары. У 1970 г. 27 жыхароў. У 1997 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар.

**ЧАРНЯТЫ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 15 км на Пн ад Мядзела, 23 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 168 км ад Мінска, на шашы Паставы—Мядзел. Рэльеф раўнінны, на З — воз. Воўчын. 15 гаспадарак, 26 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 11 двароў, уладанне І.Хамінскага. У 1868 г. 15 двароў, 178 жыхароў, у Манькавіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1897 г. вёска (28 двароў, 290 жыхароў, хлебазапасны магазін) і маёнтак (2 двары, 26 жыхароў). З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Манькавіцкай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. вёска, 20 двароў, 106 жыхароў; фальварак, 2 двары, 13 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лацвянскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2007 г. ў Мядзельскім с/с. У 1940 г. 33 двары, 160 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску (33 двары). Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. створаны калгас імя І.В.Сталіна. З 1954 г. ў складзе калгаса «40 год Кастрычніка» (да 1957 г. калгас імя М.А.Булганіна; цэнтр — в. Лотва), які ў 1999 г. быў далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга». У 1960 г. 96 жыхароў. У 1970 г. 16 жыхароў. У 1970 г. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў.

**ЧАРЭМШЫЦЫ** — вёска ў Занарацкім с/с. За 20 км на ПдЗ ад Мядзела, 25 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 177 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Занарач. Рэльеф раўнінны, на У працякае р. Нарач (прыток р. Вілія). 42 гаспадаркі, 56 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1846 г вёска, 29 двароў, 264 жыхары, у складзе маёнтка Вузла, у Свянцянскім павеце Віленскай губ., уладанне графа К.І.Тызенгаўза. У 1868 г. 32 двары, 263 жыхары. У 1892 г. адкрыта школа граматы.




*Помнік у гонар вілейскіх падпольных абкамаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штаба партызанскай брыгады імя К.Я.Варашылава каля в. Чарэмшыцы.*

У 1908 г. 60 двароў, 431 жыхар. У 1-ю сусветную вайну напярэдадні Нарачанскай аперацыі 1916 г. войск рус. армій Паўн. і Зах. франтоў у вёсцы размяшчаўся штаб 7-й пяхотная дывізіі 2-й рус. арміі, а ў час аперацыі — карпусны рэзерв 5-га армейскага корпуса. За 5 км на ПдУ ад вёскі на месцы былога хутара Гушчар пахаваны 700 салдат рус. арміі, якія загінулі ў сак. 1916 г. З лют. да снеж. 1918 г. вёска акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Занарацкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 79 двароў, 385 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За 1 км ад вёскі, у лесе знаходзіўся штаб партыз. брыгады імя К.Я.Варашылава (створана ў ліст. 1942 г.). Пры штабе дыслацыраваліся Вілейскія падп. абкамы КП(б)Б і ЛКСМБ. Тут жа размяшчалася рэдакцыя падп. «Сялянскай газеты». У 1963 г. на месцы дыслакацыі адноўлены 3 зямлянкі, у 1980 г. ўстаноўлены 2 мемарыяльныя знакі; у 1963 г. ў вёсцы ў гонар Вілейскага падп. абкама КП(б)Б пастаўлена стэла. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску, знішчылі 21 жыхара. За 4 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Гаць пахаваны 9 партызан асобнага атрада «Баявы», якія загінулі ў баі ў пач. ліп. 1944 г. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1949 г. арганізаваны калгас імя У.У.Мічурына, у 1950 г. пачала працаваць абутковая арцель «Спартак». З 1950 г. вёска ў складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Занарач), з 1973 г. ў рэарганізаваным калгасе з той жа назвай, з 2003 г. — СВК «Занарачанскі» (ААТ «Занарачанскі»). У 1955 г. радыёфікавана, у 1966 г. электрыфікавана.

У 1960 г. 318 жыхароў. У 1970 г. 292 жыхары. У 1997 г. 68 гаспадарак, 128 жыхароў.



*Брацкая магіла рускіх салдат каля в. Чарэмшыцы.*

**ЧОРНАЯ ЛУЖА** — хутар у Свірскім пас. Савеце. За 49 км на З ад Мядзела, 24 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 183 км ад Мінска, на шашы Вільнюс—Полацк. Рэльеф раўнінны, на ПдУ — воз. Свірнішча. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2011).

Вядомы з 19 ст. У 1868 г. засценак, 2 двары, 9 жыхароў, у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 13 жыхароў. У 1904 г. 16 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Свірскім с/с (з 25.4.1958 г. пас. Савет) Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1946 г. электрыфікаваны, у 1951 г. радыёфікаваны. З 1960 г. ў складзе саўгаса, з 1991 г. — калгаса «Свір» (цэнтр — г.п. Свір), які ў 2003 г. быў рэ-

арганізаваны ў СВК «Свірскі край» (зараз ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 18 жыхароў. У 1997 г. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў.

**ЧУЧАЛІЦЫ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 37 км на ПнЗ ад Мядзела, 38 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 191 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд — воз. Мядзел. 5 гаспадарак, 12 жыхароў (2011).

Вядома з 16 ст. У 1544 г. маёнтак Чучэлічы атрымаў у спадчыну Я.Гальшанскі. У 1567 г. сяло. У 1846 г. маёнтак і вёска (13 двароў, 95 жыхароў) ва ўладанні Г.Галкавай. У 1897 г. ў вёсцы 21 двор, 112 жыхароў, у маёнтку 33 жыхары, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У 1940 г. 17 двароў, 99 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і знішчылі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. арганізаваны калгас імя У.У.Маякоўскага. У 1960 г. 61 жыхар. З 1965 г. ў складзе саўгаса «Нарач» (цэнтр — в. Нарач), з 1991 г. — у калгасе «Прыазёрны», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Нарачанская ніва», з 2004 г. — ТАА «Нарачанская ніва-2004». У 1970 г. 60 жыхароў. У 1997 г. 9 гаспадарак, 12 жыхароў.

**ЧЭХІ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 28 км на ПнЗ ад Мядзела, 27 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 182 км ад Мінска, на шашы Вільнюс—Полацк. Рэльеф раўнінны. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска (4 двары, 35 жыхароў) у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 91 жыхар. У 1904 г. 107 жыхароў. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Кабыльніцкім с/с (з 28.8.1964 г. Нарацкім) Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 20 двароў, 77 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і знішчылі 2 жыхароў. У 1960 г. 29 жыхароў. З 1965 г. ў складзе саўгаса «Нарач» (цэнтр — в. Нарач), з 1991 г. — у калгасе «Прыазёрны», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Нарачанская ніва», з 2004 г. — ТАА «Нарачанская ніва-2004». У 1970 г. 39 жыхароў. У 1997 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў.

**ШАЛКОЎШЧЫНА** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 10 км на Пн ад Мядзела, 28 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 169 км ад Мінска, на шашы Паставы—Мядзел. Рэльеф раўнінны. 6 гаспадарак, 14 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1801 Шалкаўшчызна, 30 жыхароў, уласнасць казны. У 1868 г. 5 двароў, 44 жыхары, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 60 жыхароў, у Манькавіцкай вол. Вілейскага павета. У 1908 г. 66 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 15 двароў, 85 жыхароў. З вер. 1939 г. з БССР, з 12.10.1940 г. ў Лацвянскім с/с Пастаўскага, з 25.11.1940 г. Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.1.2007 г. ў Мядзельскім с/с. У 1940 г. 30 двароў, 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. за-

хопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 25 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. створаны калгас імя Я.М.Свярдлова. З 1954 г. ў складзе калгаса «40 год Кастрычніка» (да 1957 г. імя М.А.Булганіна; цэнтр — в. Лотва), які ў 1999 г. быў далучаны да ААТ «Мядзельскае аграпрамэнерга». У 1960 г. 70 жыхароў. У 1970 г. хутары, 57 жыхароў. У 1997 г. 11 гаспадарак, 20 жыхароў.

**ШВАКШТЫ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 26 км на ПнЗ ад Мядзела, 31 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 180 км ад Мінска, на шашы Вільнюс—Полацк. Рэльеф раўнінны. 49 гаспадарак, 138 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1847 г. вёска (9 двароў, 86 жыхароў) у складзе маёнтка Кабыльнікі Свянцянскага павета Віленскай губ., ва ўладанні Свентаржыцкага. У 1868 г. вёска (113 жыхароў) і засценак (12 двароў). Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 155 жыхароў. У 1908 г. 163 жыхары. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Кабыльніцкім (з 28.8.1964 г. Нарацкім) с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна. У 1960 г. 142 жыхары. З 1965 г. ў складзе саўгаса «Нарач» (цэнтр — в. Нарач), з 1991 г. — у калгасе «Прыазёрны», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Нарачанская ніва», з 2004 г. — ТАА «Нарачанская ніва-2004». У 1970 г. 124 жыхары. У 1997 г. 51 гаспадарка, 132 жыхары. Працуе (2011) магазін.

**ШКЛЕНІКОВА** — вёска ў Сваткаўскім с/с. За 15 км на ПдУ ад Мядзела, 13 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 113 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2011).

За 1,5 км на Пн ад вёскі, справа ад дарогі Мацкі—Калінаўка, ва ўрочышчы Малатоўкі знаходзіцца курганны могільнік; за 1,5 км на Пн ад воз. Шклeнікаўскае, злева ад дарогі Сваткі—Мядзел — каменныя магілы. Вядома з 16 ст. У 1545 г. сяло, у складзе маёнтка Мядзел, уласнасць казны. У 1770 г. 5 сямей. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1868 г. 13 двароў, 144 жыхары, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 40 двароў, 234 жыхары. Дзейнічала школа граматы, у якой у 1896 г. вучылася 22 хлопчыкі. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 44 двары, 232 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сваткаўскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 45 двароў, 147 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і знішчылі 16 жыхароў. 13 вяскоўцаў загінула на франтах і ў партыз. барацьбе. Пасля вайны адбудавана. У 1948 г. арганізаваны калгас «30 год БССР». З 1952 г. ў складзе калгаса імя В.Молатава (з 1959 г. калгас «Зара»), з 1988 г. ў калгасе імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Сваткі), з 1994 г. ў аграфірме «Зара», з 1997 г. — с.-г. прадпрыемства імя М.Танка, якое ў 2001 г. было рэарганізавана ў СВК «Сваткі» (зараз ААТ «Сваткі»). У 1960 г. 140 жыхароў. У 1970 г. 121 жыхар. У 1997 г. 25 гаспадарак, 43 жыхары.

**ШЫКАВІЧЫ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 5 км на Пд ад Мядзела, 26 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 165 км ад Мінска, на шашы Мядзел—Маладзечна. Размешчана на мысе, утвораным на беразе

воз. Баторына. 32 гаспадаркі, 55 жыхароў (2011).

За 1,2 км на З ад вёскі, справа ад дарогі Мядзел—Вілейка, ва ўрочышчы Гарадзец знаходзіцца гарадзішча. Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска (7 двароў, 74 жыхары) у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 28 двароў, 184 жыхары. У 1904 г. 179 жыхароў, у 1907 г. — 187. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 35 двароў, 206 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет) Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 26 двароў, 214 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У Вял. Айч. вайну спалена гітлераўцамі. Пасля вайны адбудавана. У 1948 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. З 1960 г. ў складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Баяры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Баярскі маяк», з 2005 г. ў межах с.-г. філіяла ААТ «Мядзельаграсервіс». У 1970 г. 214 жыхароў. У 1997 г. 57 гаспадарак, 110 жыхароў.

**ШЫМАНЫ** — вёска ў Княгінінскім с/с. За 34 км на ПдУ ад Мядзела, 7 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 157 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн працякае р. Наква (прыток р. Сэрвач). 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 72 жыхары, уласнасць казны і Н.Салтыкова, у Вілейскім павеце Мінскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета. У 1921 г. 20 двароў, 107 жыхароў. У 1939 г. 18 двароў, 103 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У 1940 г. 15 двароў, 60 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 4 двары, знішчылі 1 жыхара. У 1950 г. арганізаваны калгас імя Г.М.Маленкова. У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Крывічы» (цэнтр — в. Княгініна), з 2000 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (зараз камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1960 г. 93 жыхары. У 1970 г. 43 жыхары. У 1997 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў.

**ШЫМКІ** — вёска ў Мядзельскім с/с. За 4 км на ПнУ ад Мядзела, 25 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 164 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Зелянуха (упадае ў воз. Мядзел). 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 52 жыхары, уладанне Е.Турчыновіча. У 1844 г. 7 двароў, 49 жыхароў, у складзе маёнтка Стары Мядзел, уладанне Дваржэцкіх. У 1897 г. 18 двароў, 132 жыхары, хлебазапасны магазін, у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 33 двары, 146 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мікасецкім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 21.5.1959 г. ў Баярскім, з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 23 двары, 84 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-

фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску, знішчылі 1 жыхара. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. арганізаваны калгас «Ленінскі прызыў». У 1957 г. электрыфікавана і радыёфікавана. З 1960 г. ў складзе калгаса «Ленінскі шлях» (да 1961 г. «Сталінскі шлях»; цэнтр — в. Баяры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Баярскі маяк», з 2005 г. ў межах с.-г. філіяла ААТ «Мядзельаграсервіс». У 1970 г. 70 жыхароў. У 1997 г. 16 гаспадарак, 21 жыхар.

**ШЫШКІ** — вёска ў Нарацкім с/с. За 31 км на ПнЗ ад Мядзела, 31 км ад чыг. ст. Паставы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 185 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ — воз. Кузьмічы. 17 гаспадарак, 10 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Шышакі, 5 двароў, 30 жыхароў, уладанне Стралкоўскіх. У 1847 г. вёска (6 двароў, 41 жыхар) у складзе маёнтка Кузьмічы, ва ўладанні І.Цывінскага. У 1868 г. вёска, 7 двароў, 83 жыхары. У 1896 г. адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 107 жыхароў, у Кабыльніцкай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ляшчынскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 9.8.1979 г. ў Нарацкім с/с. У 1940 г. 22 двары, 138 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і знішчылі 1 жыхара. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. арганізаваны калгас «Новы свет». У 1960 г. 92 жыхары. З 1965 г. ў складзе саўгаса «Нарач», з 1991 г. — у калгасе «Прыазёрны» (цэнтр — в. Нарач), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Нарачанская ніва», з 2004 г. — ТАА «Нарачанская ніва-2004». У 1970 г. 85 жыхароў. У 1997 г. 14 гаспадарак, 27 жыхароў.

**ШЭМЕТАВА** — вёска ў Сырмежскім с/с. За 43 км на ПдЗ ад Мядзела, 55 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна—Полацк, 205 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 15 гаспадарак, 24 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. У 1861 г. мястэчка, вінакурны і гарбарны заводы, млын. У 1864 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1884 г. навучалася 60 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. У 1868 г. ў мястэчку 222 жыхары, цэнтр воласці Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1897 г. 163 жыхары, школа, хлебазапасны магазін, лаўка, карчма. У 1904 г. 202 жыхары, у 1908 г. — 211; дзейнічала казённая вінная лаўка. З вер. 1915 да снеж. 1918 гг. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы, цэнтр гміны Свянцянскага павета Віленскага ваяв., працавалі пачатковая школа і пошта. У 1926 г. адбылася забастоўка сялян-арандатараў, якія патрабавалі ад памешчыка Новельскага зніжэння платы за арандуемыя землі. Газета «Незалежны хлоп» змясціла карэспандэнцыю аб гэтай забастоўцы і падтрымала патрабаванні сялян. У 1927 г. арганізаваны Шэметаўскі падраённы камітэт КПЗБ. Была створана вясковая б-ка, якая размяшчалася ў доме І.Бакулы. У 1931 г. 115 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 10.5.1960 г. цэнтр Шэметаўскага с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.6.1959 г. Мядзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Сырмежскім с/с. У 1940 г. 39 двароў, 146 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас «Змагар». У 1960 г. 117 жыхароў. У 1961 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 99 жыхароў. З 1973 г. ў складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Старлыгі), які ў 2003 г.

быў рэарганізаваны ў СВК «Міжазёрны край» (цяпер ААТ «Міжазёрны край»). У 1997 г. 24 гаспадаркі, 65 жыхароў. Помнік архітэктуры: касцёл Маці Божай (кан. 18 – пач. 19 ст.).

**ШЭМЕТАВА** – хутар у Сырмежскім с/с. За 42 км на ПдЗ ад Мядзела, 53 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна–Полацк, 204 км ад Мінска., на шашы Ольшава–Занарач. Рэльеф раўнінны. Праз населены пункт працякае р. Вялікі Перакоп. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2011).

Вядомы з 18 ст. У 1-й пал. 19 ст. маёнтак у Свянцянскім павеце Віленскай губ., уладанне Скірмунта, 64 двары, 282 душы прыгонных сялян (мужчын). У 1885 г. 99 жыхароў, дзейнічалі млын, вінакурны завод, цагельня. У 1904 г. 103 жыхары. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы, у Шэметаўскай гміне Свянцянскага павета Віленскага ваяв. У 1932 г. адкрыты спажывецкі кааператыў «Будучыня». З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Шэметаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.8.1959 г. Мядзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Сырмежскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1949 г. ў калгасе «Змагар» (цэнтр – в. Шэметава). У 1960 г. 46 жыхароў. У 1961 г. электрыфікаваны і радыёфікаваны. У 1970 г. 21 жыхар. З 1973 г. ў складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр – в. Старлыгі), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Міжазёрны край» (цяпер ААТ «Міжазёрны край»). У 1997 г. 6 гаспадарак, 13 жыхароў.

**ЮШКАВІЧЫ** – вёска ў Мядзельскім с/с. За 11 км на Пн ад Мядзела, 32 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 171 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 21 гаспадарка, 27 жыхароў (2011).



*Касцёл Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў в. Шэметава.*

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. сяло, 17 двароў, 135 жыхароў, уладанне Турчыновіча. Паводле перапісу 1897 г. вёска (26 двароў, 244 жыхары, хлебазапасны магазін) і засценак (2 двары, 13 жыхароў), у Мядзельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. ў вёсцы 191 жыхар. Побач былі аднайменныя засценак, пасёлак, сядзіба і фальварак. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 45 двароў, 240 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Баярскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Мядзельскім с/с (з 17.11.1959 г. да 25.1.1996 г. пас. Савет), з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У 1940 г. 50 двароў, 156 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё». У 1957 г. электрыфікавана і радыёфікавана. З 1960 г. ў складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр – в. Баяры), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Баярскі маяк», з 2005 г. ў межах с.-г. філіяла ААТ «Мядзельаграсервіс». У 1970 г. 147 жыхароў. У 1997 г. 36 гаспадарак, 56 жыхароў.

**ЯЖДЖЭНЦЫ** – вёска ў Сваткаўскім с/с. За 16 км на Пд ад Мядзела, 26 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Ма-

ладзечна—Полацк, 131 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1846 г. вёска, 5 двароў, 57 жыхароў, у складзе маёнтка Вузла Вілейскага павета, уладанне графа К.І.Тызенгаўза. У 1868 г. 4 двары, 49 жыхароў. У 1897 г. 15 двароў, 114 жыхароў, дзейнічала школа граматы, у якой у 1896 г. вучылася 5 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Мядзельскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 15 двароў, 101 жыхар. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Брусаўскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 1.10.1973 г. ў Вузлянскім, з 23.3.1987 г. ў Сваткаўскім с/с. У 1940 г. 26 двароў, 136 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1948 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік». З 1954 г. ў складзе калгаса імя І.В.Сталіна, з 1961 г. — калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Сваткі), з 1988 г. ў рэарганізаваным калгасе з той жа назвай, з 1994 г. ў аграфірме «Зара», з 1997 г. ў с.-г. прадпрыемстве імя М.Танка, з вер. 1997 г. ў межах свінаводчага комплексу «Брусы» ААТ «Вілейскі камбікормавы завод». У 1960 г. 107 жыхароў. У 1970 г. 90 жыхароў. У 1997 г. 19 гаспадарак, 25 жыхароў.

**ЯНЕВІЧЫ** — вёска ў Сырмежскім с/с. За 39 км на ПдЗ ад Мядзела, 42 км ад чыг. ст. Вілейка на лініі Маладзечна—Полацк, 205 км ад Мінска, на шашы Ольшава—Занарач. Рэльеф раўнінны. 15 гаспадарак, 30 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1868 г. вёска, 14 двароў, 155 жыхароў, у Шэметаўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1897 г. вёскі Яневічы-1 (25 двароў, 186 жыхароў, лаўка), Яневічы-2 (5 двароў, 32 жыхары) і Яневічы-3 (3 двары, 9 жыхароў). У 1908 г. ў в. Яневічы-1 188 жыхароў, у в. Яневічы-2 — 24, у в. Яневічы-3 — 7. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве. У 1922—39 гг. у складзе Польшчы, у Шэметаўскай гміне Свянцянскага павета Віленскага ваяв. У 1927 г. арганізавана ячэйка КПЗБ. У 1935 г. адкрыта пачатковая школа. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сырмежскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 31.8.1959 г. Мядзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 17 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск. З 1949 г. ў калгасе імя К.К.Ракасоўскага. З 1954 г. — цэнтр узбуйненага калгаса імя Г.М.Малянкова, з 1957 г. ў складзе калгаса імя М.І.Калініна, з 1973 г. ў рэарганізаваным калгасе з той жа назвай (цэнтр — в. Старлыгі), з 2003 г. — СВК «Міжазёрны край» (зараз ААТ «Міжазёрны край»). У 1960 г. 159 жыхароў. У 1961 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 111 жыхароў У 1997 г. 24 гаспадаркі, 53 жыхары.

**ЯНУКОВІЧЫ** — вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 53 км на ПнЗ ад Мядзела, 14 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 196 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска, 3 двары, 5 жыхароў мужчынскага полу, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. 15 двароў, 92 жыхары, уладанне Б.Корсака. У 1848 г. вёска маёнтка Альшэва Свянцянскага павета Віленскай губ., уладанне С.Хамінскага, 61 жыхар. У 1868 г. 57 жыхароў. У 1904 г. вёска, 128 жыхароў, у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920—22 гг. у Сярэдняй Літве.

У 1922—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Куцькоўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Свірскім, з 5.8.1954 г. ў Канстанцінаўскім с/с, з 31.8.1959 г. Мядзельскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. З 1950 г. ў калгасе імя М.І.Калініна. У 1960 г. 73 жыхары. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 1991 г. — калгаса «Канстанцінава» (цэнтр — в. Камарова), з 2002 г. ў калгасе «Свір», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (цяпер ААТ «Свір-агра»). У 1970 г. 45 жыхароў. У 1997 г. 6 гаспадарак, 7 жыхароў.

**ЯНУШАЎКА** — вёска ў Слабодскім с/с. За 30 км на ПнУ ад Мядзела, 61 км ад чыг. ст. Варапаева на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 180 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2011).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. засценак, 2 двары, 42 жыхары, у Жаснянскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жаснянскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 5 двароў, 32 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Слабодскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 5 двароў, 34 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1949 г. ў калгасе імя В.П.Чкалава. З 1954 г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Канстанцінава), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Слабодская зара» (цяпер ААТ «Слабодская зара»). У 1956 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. 26 жыхароў. У 1970 г. 34 жыхары. У 1997 г. 9 гаспадарак, 15 жыхароў.

**ЯНУШОВА** — вёска ў Княгінінскім с/с. За 30 км на ПдУ ад Мядзела, 17 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 167 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы. 12 гаспадарак, 15 жыхароў (2011).

Вядома з 18 ст. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. фальварак Янушчава, 28 жыхароў, уладанне Ю.Корсака. У 1847 г. маёнтак Вілейскага павета Віленскай губ., уладанне В.Корсака. Уключаў 5 вёсак. У 1880 г. ў маёнтку пачаў дзейнічаць піваварны завод. У 1897 г. 2 двары, 10 жыхароў, у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета. У 1921 г. калонія, 174 жыхары. У 1939 г. 230 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Восаўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Княгінінскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Ударнік». У 1950 г. электрыфікавана, у 1960 г. радыёфікавана. У 1960 г. 179 жыхароў. З 1964 г. ў складзе саўгаса, з 1991 г. — калгаса «Восаўскі» (цэнтр — в. Восава), з 1997 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (цяпер камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1970 г. 150 жыхароў. У 1997 г. 31 гаспадарка, 50 жыхароў.

**ЯЦКАВІЧЫ** — вёска ў Будслаўскім с/с. За 75 км на ПдУ ад Мядзела, 6 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 105 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У працякае р. Сэрвач (упадае ў Вілейскае вадасховішча). 45 гаспадарак, 93 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. У 1789 г. вёска, 5 двароў, 14 жыхароў мужчынскага полу. У 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. 7

дvароў, 56 жыхароў. У 1868 г. вёска, 13 двароў, 104 жыхары, у Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска (15 двароў, 133 жыхары, хлебазапасны магазін) і маёнтак (1 двор, 8 жыхароў). У 1908 г. вёскі Яцкевічы-1 (14 двароў, 132 жыхары) і Яцкевічы-2 (5 двароў, 54 жыхары). З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Будслаўскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Вілейскага) павета Віленскага ваяв. У 1921 г. 47 двароў, 236 жыхароў. У 1939 г. вёска (47 двароў, 229 жыхароў) і чыг. станцыя (8 жыхароў). З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Вераб'ёўскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 27.3.1959 г. ў Будслаўскім с/с, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. Мядзельскага р-на. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас. У 1960 г. 180 жыхароў. З 1965 г. ў складзе саўгаса, з 1991 г. — калгаса «Будслаўскі» (цэнтр — в. Будслаў), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Будслаўскі» (цяпер ААТ «Будслаўскае»). У 1970 г. 224 жыхары. У 1997 г. 71 гаспадарка, 131 жыхар.

**ЯЦКАВІЧЫ** — вёска ў Княгінінскім с/с. За 35 км на ПдУ ад Мядзела, 4 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 154 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У працякае р. Наква (прыток р. Сэрвач). 1 гаспадарка, 2 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. У 1737 г. вёска, 3 двары, 11 жыхароў мужчынскага полу, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Яцкевічы, 14 двароў, 87 жыхароў, уладанне І.Шамкоўскага і У.Вярыгі. У 1846 г. вёска маёнтка Княгінін Вілейскага павета Віленскай губ., уладанне К.І.Казелы, 3 двары, 23 жыхары. У 1868 г. 11 двароў, 92 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. вёска (20 двароў, 137 жыхароў) і фальварак (1 двор, 5 жыхароў), у Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З 1900 г. пачала дзейнічаць школа граматы. У 1904 г. вёска, 145 жыхароў; фальварак, 5 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1921 г. у вёсцы 30 двароў, 215 жыхароў, у фальварку 1 двор, 16 жыхароў. У 1939 г. калонія, 40 двароў, 225 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Княгінінскім с/с Крывіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Авангард». З 1957 г. ў складзе саўгаса «Крывічы» (цэнтр — в. Княгінін), з 2000 г. ў межах птушкафабрыкі «Зара камунізму» (зараз камунальнае с.-г. УП «Птушкафабрыка «Новая зара»). У 1960 г. 187 жыхароў. У 1970 г. 50 жыхароў. У 1997 г. 1 гаспадарка, 3 жыхары.

**ЯЦЫНЫ** — вёска ў Слабодскім с/с. За 29 км на ПнУ ад Мядзела, 60 км ад чыг. ст. Варапаева на лініі Лынтупы—Круляўшчызна, 179 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 10 гаспадарак, 26 жыхароў (2011).

Вядома з 19 ст. У 1844 г. вёска, 9 двароў, 114 жыхароў, у складзе маёнтка Красняны. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 117 жыхароў, у Жаснянскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 153 жыхары, у 1908 г. — 219. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жаснянскай гміне Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскага) павета Віленскай губ. У 1921 г. 31 двор, 149 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Слабодскім с/с Мядзельскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1940 г. 38 двароў, 183 жыхары. У

Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінула 6 жыхароў вёскі. З 1951 г. ў калгасе «Чырвоны баец» (цэнтр – в. Красняны). З 1954 г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр – в. Канстанцінава), з 2001 г. ў калгасе «17 Верасня» (цэнтр – в. Слабада), які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Слабодская зара» (цяпер ААТ «Слабодская зара»). У 1956 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1960 г. 134 жыхары. У 1970 г. 115 жыхароў. У 1997 г. 19 гаспадарак, 40 жыхароў.

**ЯЦЫНЫ** – вёска ў Свірскім пас. Савеце. За 43 км на З ад Мядзела, 32 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Лынтупы–Круляўшчызна, 194 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2011).

Вядома з 18 ст. У 1784 г. вёска, 7 двароў, 46 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. 4 двары, 30 жыхароў, у Свірскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. З вер. 1915 г. да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. У 1920–22 гг. у Сярэднім Літве. У 1922–39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Канстанцінаўскім с/с Свірскага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 21.8.1959 г. ў Мядзельскім р-не, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 10.5.1960 г. ў Свірскім пас. Савеце. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1946 г. электрыфікавана, у 1951 г. радыёфікавана. З 1954 г. ў складзе калгаса «1 Мая», з 1964 г. – саўгаса, з 1991 г. – калгаса «Канстанцінава» (цэнтр – в. Камарова), з 2002 г. ў калгасе «Свір», які ў 2003 г. быў рэарганізаваны ў СВК «Свірскі край» (зараз ААТ «Свіргагра»). У 1960 г. 37 жыхароў. У 1970 г. 26 жыхароў. У 1997 г. 19 гаспадарак, 40 жыхароў.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. 382, воп. 1, спр. 726; ф. 394, воп. 2, спр. 3, 8, 14, 15, 16, 50, 61, 74, 79, 83, 85, 88, 111, 128, 129, 130, 268, 285; воп. 6, спр. 2, 6, 7, 15, 151, 185, 193, 200, 305, 350, 413; воп. 8, спр. 775, 776, 817, 859, 949, 952, 2218, 2219, 2248, 2374; ф. 568, воп. 1, спр. 54, 55; ф. 604, воп. 1, спр. 6148.

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4-п, воп. 5, спр. 2125, 2325; ф. 30, воп. 9, спр. 2391.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 76, воп. 1, спр. 61; ф. 694, воп. 1, спр. 1016; воп. 2, спр. 4960; воп. 4, спр. 5700, 5790; ф. 1727, воп. 1, спр. 8, 14; ф. 1732, воп. 1, спр. 6, 11, 12, 13а; ф. 1769, воп. 1, спр. 9.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна, ф. 584, воп. 1, спр. 2342.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 152, 196; ф. 1350, воп. 312, спр. 89.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. Санкт-Петербург, 1886.

Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. III. Санкт-Петербург, 1867.

Довнар-Запольский М.В. Акты Литовско-Русского государства. Т. 2. М., 1897.

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мінская вобласць. Кн. 2. Мінск, 1987.

Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: Виленская губерния. Санкт-Петербург, 1861.

Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мядзельскага раёна. Мінск: «Беларус. Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1998.

Baliński M., Lipiński M. Starożytna Polska. T. 3. Warsawa, 1846.

Malszewski E. Przewodnik po Gubernii Wileńskiej. Warsawa, 1919.

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ




абл. — абласны
агр. — аграрны
агульнаадукац. — агульнаадукацыйны
аддз. — аддзяленне
адм. — адміністрацыйны
адм.-гасп. — адміністрацыйна-гаспадарчы
адм.-тэр. — адміністрацыйна-тэрытарыяльны
акупац. — акупацыйны
акц. т-ва — акцыянернае таварыства
арг-цыя — арганізацыя
артыл. — артылерыйскі
арх. — архітэктурны
археал. — археалагічны
асн. — асноўны
афіц. — афіцыйны
аўтадарога — аўтамабільная дарога
б. — былы (пры назве)
БДУ — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт
бел. — беларускі
біягр. — біяграфічны
б-ка — бібліятэка
быт. — бытавы
в. — вёска (пры назве ў адз. ліку)
вайск. — вайсковы
вал. — валасны
ваяв. — ваяводства
вер. — верасень
ВНУ — вышэйшая навучальная ўстанова
вобл. — вобласць (пры назве)
воз. — возера (пры назве)
вол. — воласць (пры назве)
выд. — выданне
выд-ва — выдавецтва
вытв. — вытворчы
вытв-сць — вытворчасць
выяўл. — выяўленчы
вял. — вялікі
Вял. Айч. вайна — Вялікая Айчынная вайна
ВКЛ — Вялікае княства Літоўскае
вярх. — вярхоўны
Вярх. Савет — Вярхоўны Савет
г. — горад/гара (пры назве ў адз. ліку)
г. — год (1921 г.), гады (1950-я г.)
гг. — гады (1830—31 гг., 1935 і 1937 гг.)
газ. — газета
гал. — галоўны
гандл. — гандлёвы
гар. — гарадскі
гарсавет — гарадскі Савет
гасп. — гаспадарчы
гв. — гвардзейскі

геагр. — геаграфічны
ген. — генеральны
ген. — генерал (пры імені)
ген.-лейт. — генерал-лейтэнант
ген.-маёр — генерал-маёр
ген.-палкоўнік — генерал-палкоўнік
герм. — германскі
гіст. — гістарычны
г.п. — гарадскі пасёлак (пры назве)
грамадз. — грамадзянскі
губ. — губернскі
губ. — губерня (пры назве ў адз. ліку)
дакум. — дакументальны
дзярж. — дзяржаўны
дзес. — дзесяціна
дэп. — дэпутат
еўрап. — еўрапейскі
жал. — жалезны
жн. — жнівень
З — захад (напрамак)
засл. — заслужаны
засн. — заснаваны
зах. — заходні
з-д — завод
індустр. — індустрыяльны
ін-т — інстытут
каап. — кааператыўны
каап. — кааперацыйны
калект. — калектыўны
кастр. — кастрычнік
кн. — кніга (пры назве)
кн. — князь (пры імені)
крас. — красавік
к-т — камітэт
культ. — культурны
культ.-асв. — культурна-асветны
ліп. — ліпень
літ. — літоўскі
ліст. — лістапад
л-ра — літаратура
манум. — манументальны
маш.-буд. — машынабудаўнічы
МТС — машынна-трактарная станцыя
муз. — музычны
мяст. — мястэчка (пры назве)
мясц. — мясцовы
н. — нарадзіўся
найб. — найбольш(ы)
навук. — навуковы
навуч. — навучальны
надрук. — надрукавана
наз. — называецца
нам. — намеснік
нар. — народны
нар.-гасп. — народна-гаспадарчы
нац. — нацыянальны
нац.-вызв. — нацыянальна-вызваленчы
нач. — начальнік
н.-д. — навукова-даследчы
н.с. — новы стыль
н.э. — наша эра
ням. — нямецкі
ням.-фаш. — нямецка-фашысцкі
пав. — павятовы
паветр. — паветраны
падп. — падпольны
пал. — палавіна
пам. — памочнік
парт. — партыйны
партыз. — партызанскі
патрыят. — патрыятычны
пас. — пасёлак (пры назве)
пас. — пасялковы
паўд. — паўднёвы
паўн. — паўночны
пач. — пачатак
пач. — пачатковы
Пд — поўдзень (напрамак)
ПдЗ — паўднёвы захад
ПдУ — паўднёвы ўсход
пед. — педагагічны
перыяд. — перыядычны
пл. — плошча
Пн — поўнач (напрамак)
ПнЗ — паўночны захад
ПнУ — паўночны ўсход
правадз. — правадзейны
прам. — прамысловы
прам-сць — прамысловасць
праф. — прафесар
прафес. — прафесійны
прафс. — прафсаюзны
прац. — працоўны
пях. — пяхотны
р. — рака (пры назве)
р-н — раён
р.п. — рабочы пасёлак (пры назве)
рас. — расійскі
рус. — рускі
рэв. — рэвалюцыйны
рэліг. — рэлігійны
рэсп. — рэспубліканскі
с. — старонка
с. — сяло (пры назве ў адз. ліку)
сав. — савецкі
Сав. Армія — Савецкая Армія
сак. — сакавік
сапр. — сапраўдны
сац. — сацыяльны
сацыяліст. — сацыялістычны
с.-г. — сельскагаспадарчы
СВК — сельскагаспадарчы вытворчы каапе-ратыў

СВП — сельскагаспадарчае вытворчае прадпрыемства
с.-д. — сацыял-дэмакратычны
слав. — славянскі
снеж. — снежань
спец. — спецыяльны
спарт. — спартыўны
с/с — сельсавет (пры назве ў адз. ліку)
с. ст. — стары стыль
ст. — стагоддзе (пры лічбе)
ст. — станцыя (пры назве)
стараж. — старажытны
стралк. — стралковы
студз. — студзень
сухап. — сухапутны
сял. — сялянскі
т-ва — таварыства
традыц. — традыцыйны
тэлегр. — тэлеграфны
тэлеф. — тэлефонны
тэр. — тэрыторыя
тэхн. — тэхнічны
У — усход (напрамак)
узбр. — узброены
укл. — уключна
укр. — украінскі
ун-т — універсітэт
унутр. — унутраны
усх. — усходні
фаш. — фашысцкі
феад. — феадальны
ф-ка — фабрыка
ф-т — факультэт
фельч.-акушэрскі — фельчарска-акушэрскі
харч. — харчовы
царк. — царкоўны
цэнтр. — цэнтральны
чал. — чалавек (пры колькасных паказчыках)
чл. — член
чл.-кар. — член-карэспандэнт
чыг. — чыгуначны
чыг. пст. — чыгуначны паўстанак (пры назве)
чыг. ст. — чыгуначная станцыя (пры назве)
чэрв. — чэрвень
шматнац. — шматнацыянальны
эканам. — эканамічны
юрыд. — юрыдычны
яўр. — яўрэйскі

## ЗМЕСТ

ЛАГОЙСКІ РАЁН (*В.В. Віталёва, М.М. Казлоўская*) . . . . . . . . . . . . . 7

ЛЮБАНСКІ РАЁН (*В.М. Удальцоў*) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 153

МАЛАДЗЕЧАНСКІ РАЁН (*В.В. Віталёва, В.А. Бадакоў*). . . . . . . . . . . . 211

МІНСКІ РАЁН (*В.В. Віталёва*) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 349

МЯДЗЕЛЬСКІ РАЁН (*В.М. Князева, С.В. Марцэлей, А.М. Філатава, Т.І. Чарняўская*) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 481

Даведачнае выданне

**ГАРАДЫ І ВЁСКІ БЕЛАРУСІ**

Энцыклапедыя

Том 8

МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

Кніга 3

Рэдактары: *Ю.У. Каласоўскі, Дз.В. Кашавар, В.М. Лапцева, С.У. Несцярэнка, М.Г. Нікіцін, В.В. Федзьковіч*

Мастацкае афармленне

*Н.У. Кузьмянковай* пры ўдзеле *Р.У. Кондрада, І.А. Грынь*

Мастацкі рэдактар *І.А. Грынь*

Картограф *А.А. Лукашоў*

Карэктары: *В.А. Кульбіцкая, А.І. Саламевіч, В.М. Чудакова*

Камп'ютарны набор *Т.М. Саленік*

Камп'ютарная вёрстка *А.Л. Архіповіч*

У выданні выкарыстаны гістарычныя звесткі аб населеных пунктах, якія прадставілі: *Я.К. Анішчанка, А.Р. Бухавец, В.В. Гарбачова, В.Ф. Голубей, Л.С. Іванова, А.Г. Каралёва, У.П. Крук, С.А. Кузняева, П.А. Лойка, У.І. Пашкевіч, М.Ф. Спірыдонаў, А.М. Філатава, З.В. Шыбека*



Падпісана да друку 04.06.2012. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Гарнітура Пецярбург.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 65,52.
Ул.-выд. арк. 56,2. Тыраж 2000 экз. Заказ 295.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494061 ад 03.02.2009. Зав. Калініна, 16, 220012, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».
ЛП 02330/0150496 ад 11.03.2009
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

ISBN 978-985-11-0636-9